БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

# ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ

## ТОМ 5 М–ПУД




МІНСК
«БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ»
ІМЯ ПЕТРУСЯ БРОЎКІ
1999

**М** — чатырнаццатая літара бел. алфавіта. Паходзіць з кірыліцкай М («мыслеце»), што ўзнікла на аснове грэка-візантыйскай устаўнай М («мі»). У старабел. графіку перайшла са стараж.-рус. пісьменства. Абазначала зычныя гукі «м», «м'» («масло», «мінута»). Мела таксама лічбавае значэнне «сорак». У рукапісах 14—17 ст. у сувязі з функцыянаваннем розных пісьмовых школ і выкарыстаннем розных тыпаў пісьма (устаў, паўустаў, скарапіс) ужывалася ў некалькіх варыянтах, якія дапамагаюць вызначыць час і месца напісання помнікаў. У 16 ст. акрамя рукапіснай набыла друкаваную форму. Пачынаючы з Ф.Скарыны, стала адрозніваццa як малая і вялікая, хоць ужыванне вял. літары ва ўласных імёнах, геагр. назвах і ў пачатку сказаў не было яшчэ паслядоўным. У сучаснай бел. мове абазначае санорныя змычна-праходныя губна-губныя зычныя гукі «м», «м'» («мара», «мядунка—м'адунка»). Бывае вялікая і малая, мае рукапісную і друкаваную формы. Ужываецца ў афіцыйных абрэвіятурах («МБА», «МАЗ»), як умоўнае скарачэнне слоў «метр» (30 м), «мора» (Балтыйскае м.). Пры класіфікацыйным падзеле мае значэнне «трынаццаты» (група «М»), пры лічбавай нумарацыі — дадатковае значэнне для размежавання прадметаў пад адным нумарам (шыфр № 9 м). *Алесь Булыка.*

**МАГДЭБУ́РГСКАЕ ПРА́ВА** (майдэборскае, саксонскае, нямецкае, тэўтонскае), феадальнае гарадское права, якое ўзнікла ў 13 ст. ў г. Магдэбург і дзейнічала ў гарадах Усх. Германіі, Цэнтр. і Усх. Еўропы. Вызначала становішча мяшчан і пашыралася толькі на паўнапраўных жыхароў горада, членаў гар. абшчыны. Давала гарадам самакіраванне, судовы імунітэт, падатковыя льготы, права валодання зямлёй, льготы ў рамеснай і гандлёвай дзейнасці гараджан, вызваляла ад воінскай павіннасці. У гарадах з М.п. утвараліся выбарныя органы самакіравання і гар. суда (*магістрат*), устанаўліваўся парадак выбару гар. улады і яе функцыі, асн. нормы цывільнага і крымінальнага права для гараджан, нормы судаводства, падаткаабкладання, гандлёвай дзейнасці, дзейнасці рамесных цэхаў і купецкіх аб'яднанняў. М.п. сфарміравалася на падставе рамана-германскага права. У ім выкарыстаны некат. нормы «Саксонскага люстра» з больш дэталёвай распрацоўкай нормаў, якія рэгулявалі таварна-грашовыя адносіны. У розных краінах М.п. змянялася ў залежнасці ад мясц. умоў.

У Беларусь М.п. прыйшло з Польшчы. У ВКЛ прывілеі або *граматы на магдэбургскае права* дзярж. гарадам давалі вял. князі, а прыватнаўласніцкім — уладальнікі гарадоў або па іх хадайніцтве — вял. князі. М.п. гарадам часта пацвярджалася наступнымі вял. князямі (каралямі). Першую грамату на М.п. атрымала 22.3.1387 Вільня, пасля Брэст (1390), Гродна (у 1391 няпоўнае М.п., у 1496 поўнае), Слуцк (1441), Полацк (1498), Менск (1499) і інш. У 16—18 ст. М.п. атрымалі амаль усе буйныя і сярэднія гарады Беларусі, а таксама некат. мястэчкі. М.п. вылучала асн. масу гараджан Беларусі, мяшчан, у асобную саслоўную групу насельніцтва, у гаспадарскіх (дзяржаўных) гарадах вызваляла іх ад асабістай залежнасці. Такое становішча мяшчан замацоўвалася ў агульнадзярж. актах, у 16 ст. — у Статутах ВКЛ. У прывілеях вызначаліся даходы гар. абшчыны, падаткі і павіннасці на карысць дзярж. скарбу, межы гар. ворнай зямлі. Грамата на М.п. давала гораду і ўласны герб. Паводле М.п. перасяленне ў горад рабіла чалавека вольным ад прыгнёту. У 15—16 ст., асабліва пасля войнаў і эпідэмій, калі трэба было ўзнавіць насельніцтва горада, усе перасяленцы з вёскі станавіліся паўнапраўнымі членамі гар. абшчыны, што замацоўвалася прынясеннем прысягі на гар. грамадзянства. Пры ўвядзенні М.п. ў прыватнаўласніцкіх гарадах магнат і гараджане бралі за ўзор буйны горад ВКЛ. У прывілеі караля Стафана Баторыя Нясвіжу (23.4.1586) за ўзор было ўзята М.п. Вільні, Трокаў і Гродна. Некат. нормы М.п. магнаты ўводзілі ва ўласных гарадах, якія не мелі самакіравання (Копысь, Быхаў, Давыд-Гарадок, Клецк, Тураў). У іх вял. ролю адыгрываў *войт*, які кіраваў унутр. справамі горада, збіраў падаткі, размяркоўваў павіннасці, судзіў мяшчан. Дзярж. гарады, якія не мелі М.п. (Бабруйск), кіраваліся прызначанымі вял. князем (каралём) войтамі і падпарадкоўваліся старостам або інш. адміністратарам. У 2-й пал. 18




Літара «М»· 1) устаў 11 ст.; 2) паўустаў 15 ст.; 3) паўустаў 16 ст., 4) паўустаў 17 ст.; 5) скорапіс 15 ст., 6) скорапіс 16 ст.; 7) скорапіс 17 ст., 8) Ф.Скарыны 16 ст.; 9) Статута ВКЛ 1588; 10) друкаваная 17 ст., 11) грамадзянская 18 ст

ст роля гар самакiравання зменшылася ў сувязi з агульным палiт крызiсам Рэчы Паспалiтай Усе большае значэнне адыгрывалi групоўкi магнатаў, якiя змагалiся за ўладу з дапамогай суседнiх дзяржаў Часткова гэта ўплывала i на эканам стновiшча гарадоў У 1776 сейм Рэчы Паспалiтай у сувязi з гэтым пазбавiў М п дзярж гарады i мястэчкi ВКЛ, за выключэннем гал ваяводскiх i павятовых цэнтраў Вiльнi, Лiды, Тро каў, Коўна, Навагрудка, Ваўкавыска, Пiнска, Мiнска, Мазыра, Брэста, Гродна У прыватнаўласнiцкiх гарадах М п захоўвалася У Беларусi М п было паслядоўна лiквiдавана пасля яе далучэння да Рас iмперыi У Магiлеўскай i Пскоўскай губ М п скасавана Кацярынай II у лiст 1775, у Мiнскай губ — у маi 1795, у Слонiмскай i Вiленскай губ — у снеж 1795 У Беларусi ўводзiлiся ў дзеянне агульнарас нормы *Даравальнай граматы гарадам 1785*

*Лiт* Владимирский-Буданов М Ф Немецкое право в Польше и Литве СПб, 1868, Тарановский Ф В Обзор памятников магдебургского права западнорусских городов литовской эпохи Варшава, 1897, Копысский З Ю Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в Мн, 1975, Грыцкевiч А П Кiраванне прыватнаўладальнiцкiх гарадоў Беларусi без магдэбургскага права (XVI—XVIII стст) // Весцi АН БССР Сер грамад навук 1974 № 4, Яго ж Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв (соц-экон исслед истории городов) Мн, 1975, Яго ж Социальная борьба горожан Белоруссии (XVI—XVIII вв) Мн 1979 *Анатоль Грыцкевiч*

Да арт **Магдэбургскае права** Будынак Нясвiжскай ратушы 16 ст

**МАГЕ́РКА** (ад венг madyar), старадаўнi мужчынскi галаўны ўбор На Беларусi вядома з часоў праўлення Стафана Баторыя, шляхта называла яе «батараўкай» Традыц бел М лямцавыя (з воўны) i шытыя (з 4 кавалкаў лямцавага сукна) Лямцавыя М мелi выгляд каўпака або ўсечанага конуса выш 15—20 см, былi белага, шэрага, карычневага або чорнага колеру, з аколышам, якi шчыльна прылягаў да паловы яго вышынi або даходзiў да донца (двайная М) У святочных шытых М верхнi край аколыша аздаблялi вышыўкай нiткамi з воўны, шнурам, тоўстымi суконнымi нiткамi блакiтнага, чырвонага, фiялетавага, вохрыстага колераў Напачатку М насiлi кароль i яго наблiжаныя У 17 ст, паводле бел этнографа I Д Гарбачэўскага, была франтаватым уборам з аксамiту або сукна, святочныя аздаблялi залатымi або сярэбранымi запiнкамi, птушыным пер'ем («М з ухвалой») Прыкметай рыцарскага спрыту лiчылася ўменне седзячы на канi падняць з зямлi кап'ем М Ад шляхты перайшла да гар мяшчанства, сялянства i ў 19 ст стала пашыраным галаўным уборам

*Лiт* Раманюк М Беларускае народнае адзенне [Альбом] Мн, 1981 *Мiхась Раманюк*

Селянiн у **магерцы**, в Заходы Шклоўскага раена Пач 20 ст

**МАГІ́ЛА** Пётр [31 12 1596 (10 1 1597), Малдавiя — 1(11) 1 1647], праваслаўны царкоўны i культурны дзеяч Рэчы Паспалiтай Сын гаспадара (князя) Валахii [1601—07] i Малдавii [1607—09] Сiмяона З 1627 кiева-пячэрскi архiмандрыт Дамогся ад каралеўскай улады дазволу на аднаўленне *Кiеўскай мiтраполii* з цэнтрам у Кiеве У 1632—47 мiтрапалiт кiеўскi i галiцкi Заснаваў *Кiева-Магiлянскi калегiум* (1632), якi названы ў яго гонар Выражаў iнтарэсы вярхоў пра васл духавенства i шляхты Украiны i Беларусi, выступаў супраць *Брэсцкай унii 1596*, заснаваў *Магiлеўскую праваслаўную епархiю* (1632) Садзейнiчаў пашырэнню асветы i друкарства на Украiне, Беларусi, Малдавii Непасрэдна кiраваў Вiленскiм, Слуцкiм, Магiлеўскiм i Аршанскiм брацтвамi з манастырамi У 1635 наведаў Вiльню, Мiнск i iнш бел гарады Аўтар кнiг, якiя выкарыстоўвалiся як падручнiкi ў духоўных навуч установах да пач 20 ст «Евангелле вучыцельнае» (1616), «Анфалагiен» (1636), «Еўхалагiен» (1646), шматлiкiх палемiчных пропаведзей i iнш

П Магiла

**МАГІЛЕ́ЎСКІ** Саламон Рыгоравiч (1885, Екацярынаслаўская губ, Украiна — 22 3 1925), удзельнiк рэв руху i Кастр рэвалюцыi 1917 у Беларусi У 1903 удзельнiк рэв рабочых гурткоў, чл Паўлаградскай арг-цыi Екацярынаслаўскага к-та РСДРП З 1904 у Жэневе З 1906 вёў рэв работу сярод чыгуначнiкаў Екацярынаслава, Пецярбурга i iнш З 1916 на Зах фронце Пасля Лют рэвалюцыi 1917 чл Мiнскага Савета i яго выканкома, чл Мiнскага к-та i Паўн-Зах абл бюро РСДРП(б), бальшавiцкай фракцыi франтавога к-та Зах фронту Дэлегат VII Красавiцкай Усерас канферэнцыi РСДРП(б) ад бальшавiкоў Мiнска i Зах фронту Пасля Кастр рэвалюцыi 1917 у органах ВЧК i рэўтрыбунала З 1922 старшыня Закаўказскай ЧК

**МАГІЛЁВА АБАРО́НА 1655** Вялася войскамi Маскоўскай дзяржавы ў лютым—маi ў час *вайны Расii з Рэччу Паспалiтай 1654—67* У час контрнаступлення ў студз 1655 войскi ВКЛ на чале з Я Радзiвiлам i В Гасеўскiм асадзiлi Новы Быхаў Частка войска пачала аблогу Магiлёва У пач 1655 у Магiлёве налiчвалася 4000 казакоў i 1105 маскоўскiх ратных людзей Былi значна палепшаны гар ўмацаваннi Па загадзе цара Аляксея Мiхайлавiча ў горад накiраваны 3 пяхотныя палкi i 400 казакоў на чале з кн Ю I Рамаданаўскiм 3(13) лют са Шклова ў Магiлёў было перакiнута 1500 наемнiкаў палкоўнiка Г Фонштадэна 2(12) лют Радзiвiл прывёў пад Магiлёў свае асн сiлы 3(13) лют Радзiвiл i Гасеўскi патрабавалi ад абаронцаў капiтуляцыi Камандаванне гарнiзона адхiлiла прапанову i, як паведамляў цару ваявода М П Ваейкаў, «все сопча до обороны и бою ударили Выходя из города, на вылазке бились по 3 дня, и отбили у него, Родивила, из обозу с 50 возов с запасы» У ноч на 5(15) лют становiшча абаронцаў рэзка пагоршылася палкоўнiк Беларускага казацкага палка К Паклонскi выехаў з горада нiбыта на бой супраць войск Радзiвiла i «изменил с могилевскою и иных горо-

вілей на 2 кірмашы ў год Па гасп значэнні ў ВКЛ М ў 16 ст займаў адно з першых месцаў пасля Вільні Дакументы 2 й пал 16 ст называюць у М каля 70 рамесных спецыяльнасцей Рамеснікі аб'ядноўваліся ў цэхавыя арг-цыі па прафесійным прынцыпе, асобныя цэхі ахоплівалі некалькі родналасных рамесных спецыяльнасцей (у канцы 16 ст было 12, у 1-й пал 17 ст — 17 цэхаў) Магілеўскія купцы гандлявалі з усімі гарадамі Беларусі, з краінамі Прыбалтыкі, Польшчай, Расіяй, Чэхіяй У 16 ст М часта станавіўся арэнай баявых дзеянняў у войнах Маскоўскай дзяржавы з ВКЛ, у час якіх шмат цярпеў У час *Лівонскай вайны 1558—83* у чэрв 1580 быў цалкам знішчаны Задубравенскі пасад, спалена 100 дамоў у Пакроўскім пасадзе, але штурм Старога горада і замка скончыўся безвынікова У 1595 у час *Налівайкі паўстання 1594—96* спалена 40% гарадской забудовы, у т.л некалькі цэркваў Нягледзячы на значныя разбурэнні ў 2-й пал 16 — 1-й пал 17 ст, горад інтэнсіўна рос у 1577 у М 1261 жылы дом, у 1588 — 1500, у 1604 — 2211 Найбольш значнай групай насельніцтва былі мяшчане (купцы, дробныя гандляры, рамеснікі), што знаходзіліся пад юрысдыкцыяй магістрата Другую сац катэгорыю складалі тыя, хто не меў гар правоў (чэлядзь, *каморнікі, людзі лёзныя* і інш ) У прывілеяваную групу ўваходзілі шляхта, духавенства, замкавая адміністрацыя Супярэчнасці паміж гар вярхамі і масай простых гараджан прыводзілі да сац канфліктаў, што найб яскрава выявілася ў *Магілеўскіх паўстаннях 1606—10*

З канца 16 ст ў сувязі з *Рэфармацыяй, Контррэфармацыяй* і ўвядзеннем *Брэсцкай уніі 1596* у М абвастрылася рэліг барацьба У канцы 16—18 ст М быў буйнейшым цэнтрам бел праваслаўя Пераважная большасць магілеўскіх мяшчан вызнавала праваслаўе, для яго абароны стварала свае арг-цыі — *брацтвы* У 1597 створана брацтва пры Спаскай царкве, пазней пры цэрквах Праабражэнскай (1605), Богаяўленскай (1633) і інш Яны значна ўплывалі на развіццё адукацыі, у 1590—92 у М адкрыта агульнаадукацыйная брацкая школа (гл *Брацкія школы*) У 1616—1773 з перапынкамі дзейнічала *Магілеўская брацкая друкарня* У кастр 1618 жыхары М не пусцілі ў горад уніяцкага архіепіскапа І *Кунцэвіча* (гл *Магілеўскае паўстанне 1618*), яны таксама прынялі ўдзел у падрыхтоўцы *Віцебскага паўстання 1623* У 1632 засн *Магілеўская праваслаўная епархія*, адзіная ў той час правасл епархія ў Беларусі У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* магілеўцы ў жн 1654 здаліся рус войску М і *Магілёўскі павет* былі перададзены ў часовае кіраванне К Ю *Паклонскаму*, камандзіру *Беларускага палка* У ходзе *Магілева абароны 1655*, нягледзячы на здраду Паклонскага, які ўпусціў войскі ВКЛ за вонкавы земляны вал, горад вытрымаў аблогу У 1658 горад беспаспяхова спрабаваў узяць казацкі палкоўнік І *Нячай* Аднак з цягам ваен дзеянняў настроі магілеўцаў змяніліся, што прывяло да *Магілеўскага паўстання 1661* У 1661 кароль Ян Казімір даў гораду новы герб на блакітным полі 3 гар вежы, у сярэдняй — у адчыненай браме рыцар з узнятым мячом, наверсе — коннік (герб «Пагоня») Пасля вайны М, нягледзячы на зруйнаванне $^{2}/_{3}$ забудовы, зноў пачаў хутка развівацца У *Паўночную вайну 1700—21* у 1708 М пацярпеў ад шведскіх і рас войск У 1745 у горадзе быў 1301 дом, каля 10 408 жыхароў

З 1772 М паводле 1-га падзелу Рэчы Паспалітай у складзе Рас імперыі, цэнтр новаўтворанай *Магілеўскай губерні* У 1772—75 ён таксама цэнтр *Магілеўскай правінцыі*, у 1778—96 — *Магілеўскага намесніцтва*, у 1796—1802 павятовы горад *Беларускай губерні* Павялічылася значэнне і як рэліг цэнтра Беларусі У 1772 у горад вярнуўся вядомы правасл царк. дзеяч і пісьменнік епіскап Г *Каніскі* (з 1768 ён быў у выгнанні) З прызначэннем у 1773 С І *Богуша-Сестранцэвіча* біскупам *Магілёўскай рымска-каталіцкай архіепархіі* М стаў цэнтрам усіх каталіцкіх прыходаў Рас імперыі У 1774 Богуш-Сестранцэвіч заснаваў тут *Магілёўскую друкарню* У 1781 зацверджаны новы герб горада «Пагоня» на чырв полі, дадаткова змяшчалася верхняя палавіна двухгаловага арла — дзярж. герба Рас імперыі У 1784 у М 9,4 тыс ж, 22 вуліцы, 32 завулкі, 2 тыс дамоў, 33 прамысл прадпрыемствы, у т.л 22 гарбарныя, 7 півaварных, 2 цагельныя з-ды, 2 вадзяныя млыны У 1809 адкрыта мужчынская гімназія (гл *Магілёўскія гімназіі*), існавалі *Магілеўская духоўная семінарыя*, павятовае і прыходскае вучылішчы, 2 прыватныя жаночыя пансіёны, 3 прыватныя жаночыя школы У *Айчынную вайну 1812* М акупіраваны франц войскамі, *Часоваму ўраду Вялікага княства Літоўскага* Магілеўская губ не падпарадкоўвалася, на чале яе быў прызначаны франц губернатар У 1820-я г ў М дзейнічала Магілеўская ўправа дзекабрыстаў У 1833 у М адкрыты першая публічная б-ка і *Магілёўская губернская друкарня* З 1838 выдаваліся *«Могилевские губернские ведомости»*, да сярэдзіны 19 ст працягвала складацца *«Магілёўская хроніка»* — апошні бел летапісны збор У 1841 пабудаваны адзін з першых у Беларусі мукамольных заводаў У 1854 у М 27 цагельных з-даў, 4 мукамольна-крупадзерныя прадпрыемствы, тартак, 34 маслабойні, развіваліся ганчарная, піваварная, свечачная, тыту-

Герб **Магілёва** 1661

**Магілеў** Гарадзішча Здымак 1951

**Магілёў** З гравюры 18 ст

нёвая і інш. галіны прам-сці. У 1859 у М. 25 тыс. ж., 2833 дамы, 923 крамы, 29 цэркваў, 2 манастыры, 4 касцёлы, кірха, 34 сінагогі і яўр. школы. Напярэдадні *паўстання 1863—64* восенню 1862 тут створана паўстанцкая арг-цыя з мясц. інтэлігенцыі, а ў 1863 — ваен.-рэв арг-цыя ў часцях 3-й зводнай рэзервовай артыл. брыгады, члены якіх пазней уступілі ў *Магілёўскія паўстанцкія атрады*. У 1867 адкрыты музей пры статыстычным к-це, у 1865 — жаночая 7-класная гімназія, у 1885 — *Магілёўскае рэальнае вучылішча*, у 1888 — тэатр. У 1870—80-я г. ў М. існавалі *Магілёўскія народніцкія гурткі*. У 2-й пал. 19 ст ўзрасла колькасць прамысл. прадпрыемстваў. Найб. значныя з іх у 1880—90-я г : 3 пенькатрапальныя мануфактуры, 3 тытунёвыя мануфактуры (мануфактура фірмы «Сімкін і К°» у 1863—96 адна з буйнейшых у Паўн.-Зах. краі) і 1 ф-ка, цагельная мануфактура, 2 піваварныя з-ды, спіртаачышчальны склад-завод. У 1897 у М. 43 119 ж., з іх 47,7% былі пісьменныя, 41 чал. меў вышэйшую адукацыю. Паводле веравызнання праваслаўных было 18 922 чал., іудзеяў — 21 547, католікаў — 2279; роднымі мовамі лічылі: беларускую — 12 847 чал, велікарускую — 6844, яўрэйскую — 21 453, польскую — 1325 чал У гандлі дамінаваў яўр. капітал: яўр. купцоў (з сем'ямі) было 652 чал., беларусаў-купцоў — 6. У канцы 19 ст. ў М. працавалі 7 аддзяленняў банкаў і банкаўскіх кантор, у т.л. Азова-Данскога і Мінскага камерцыйнага банкаў. У пач. 20 ст. ў горадзе пушчана лінія конкі. У 1902 праз М. пракладзена Пецярбургска-Адэская чыгунка. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў М. жыў выдатны бел. гісторык Е.Р.Раманаў, які склаў 3-томны зборнік «*Магілёўская даўніна*» і заснаваў *Магілёўскі царкоўна-археалагічны музей*. У пач 20 ст. адбылося некалькі эканам. забастовак, узніклі *Магілёўская арганізацыя РСДРП(б), Магілёўская арганізацыя эсэраў, Магілёўскі сацыял-дэмакратычны камітэт Бунда* і інш. паліт. арг-цыі. На працягу 1905 рабочыя М. актыўна ўдзельнічалі ў забастоўках, у т.л. ў Кастрычніцкай Усерасійскай стачцы, адбылося выступленне салдат. З 1906 у горадзе выдавалася штотыднёвая газ. «Могилевский вестник» (у 1910 пераўтворана ў штотыднёвік «Могилевская земская неделя»). У 1912 тут адбыліся мітынг пратэсту супраць Ленскага расстрэлу і першамайская стачка рабочых 40 прадпрыемстваў (1000 чал., скончылася перамогай працоўных) У 1912 у М. было 170 прадпрыемстваў (у т.л. электрастанцыя, засн. ў 1909), дзе працавала 712 рабочых. У 1913 у горадзе 69,7 тыс. чал., 5 гімназій, прагімназія, духоўная семінарыя, епархіяльнае і мужчынскае духоўнае вучылішчы, 5 падрыхтоўчых, 2 гарадскія, рэальнае і 2 нар яўр. вучылішчы, 5 царк.-прыходскіх і 2 узорныя школы, жаночая двухкласная школа і інш., камерцыйнае вучылішча, *Магілёўская цэнтральная фельчарская школа* і *Магілёўская цэнтральная школа павітух*, курсы бухгалтараў, засн.

Герб **Магілёва** 1781

*Магілеўскі настаўніцкі інстытут*. З пач 1-й сусв. вайны Магілёўская губ. была 20.7(2.8).1914 абвешчана на ваен. становішчы. З 8(21).8.1915 да 26.2.1918 у М. знаходзілася Стаўка Вярхоўнага галоўнакамандуючага войскамі Расіі.

Пасля Лют. рэвалюцыі 1917 у сак. 1917 абраны *Магілёўскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў*, дзе пераважалі спачатку меншавікі і эсэры. У 1917—18 дзейнічаў *Магілёўскі беларускі камітэт*. У жн 1917 контррэв. сілы Расіі сканцэнтраваліся ў М. вакол Стаўкі і арганізавалі выступленне на чале з ген Л.Г.Карнілавым (гл. *Карнілаўшчына*). У ходзе барацьбы супраць мяцяжу павялічыўся ўплыў бальшавікоў. Аднак Стаўка на чале з Вярх. галоўнакамандуючым ген М М.Духоніным не прызнала сав ўладу і пачала падрыхтоўку да ўзбр. барацьбы супраць яе У ліст 1917 контррэв сілы спрабавалі стварыць у М. т.зв агульнарасійскі ўрад на чале з эсэрам В.М.Чарновым. 9(22).11.1917 сав ўрад адхіліў Духоніна ад пасады і прызначыў Вярх галоўнакамандуючым бальшавіка прапаршчыка М.В.Крыленку, аднак Духонін працягваў займаць Стаўку У ноч на 19.11(2.12).1917 Магілеўскі Савет быў вымушаны прызнаць сав ўладу, стварыць Ваен.-рэв к-т (ВРК), які ўстанавіў кантроль над Стаўкай. 20 ліст. (3 снеж.) Стаўка занята атрадам рэв. войск на чале з Крыленкам. 28 11(11 12).1917 ВРК выдаў дэкрэт аб нацыяналізацыі маенткаў у губерні і перадачы іх зямельным камітэтам. З 12 3 1918 М. акупіраваны польскімі легіянерамі (гл. *Доўбар-Мусніцкага мяцеж 1918*), з 26.5 да 31.10.1918 — герм. войскамі Барацьбу з акупантамі ўзначальваў *Магілёўскі падпольны раённы камітэт РКП(б) 1918*. Пасля адыходу герм. войск пачалося аднаўленне прамысл прадпрыемстваў. У пач. 1919 дзейнічалі чыгуналіцейна-механічны, маслабойны, півазарны, 2 мылаварныя з-ды, гарбар-

**Магілёў**. Саборная плошча З акварэлі 18 ст

**Магілёў**. Панарама забудовы Губернатарскай плошчы з боку старажытнага замка. З акварэлі канца 18 ст.

ныя і інш. прадпрыемствы. З 26.4.1919 да 3.3.1924 М. — павятовы цэнтр Гомельскай губерні РСФСР. У 1920 у горадзе было 49 школ 1-й і 22 школы 2-й ступеней, саўпартшкола, 5 рабочых клубаў, Народны дом, Дом селяніна, 7 б-к, музей. У 1919 засн. дзярж. муз. школа імя М.А.Рымскага-Корсакава, у 1921 адкрыты педтэхнікум. Створаны сімфанічны аркестр, студыя выяўленчага мастацтва, працаваў драм. тэатр. З сак. 1924 у выніку 1-га ўзбуйнення БССР М. у складзе БССР, з 17.7.1924 да 26.7.1930 цэнтр *Магілёўскай акругі* і *Магілёўскага раёна* (з 17.7.1924), з 15.1.1938 — цэнтр *Магілёўскай вобласці*. У 1938—39 распрацоўваўся праект пераносу сталіцы Беларусі ў М. у сувязі з тым, што Мінск знаходзіўся толькі за 30 км ад зах. граніцы. 19.4.1939 прынята пастанова СНК СССР і ЦК ВКП(б) «Аб гарадскім будаўніцтве ў Магілёве ў сувязі з пераводам сталіцы Беларускай ССР». Аднак у вер. 1939 з далучэннем зах. бел. зямель да БССР неабходнасць у пераносе сталіцы адпала. За гады першых пяцігодак М. стаў адным з буйных прамысл. і культ. цэнтраў рэспублікі. У

**Магілёў**. Мікалаеўская царква.

1926—27 рэканструяваны металаапрацоўчы з-д «Чырвонае адраджэнне», пачалі дзейнічаць кандытарская ф-ка «10-ы Кастрычнік», гарбарна-абутковая ф-ка; у 1929 — швейная ф-ка, у 1930 — гарбарны з-д, у 1932 — трубаліцейны з-д. У 1929—30 пабудавана першае ў рэспубліцы прадпрыемства хім. прам-сці — ф-ка штучнага шоўку. У гады 2-й пяцігодкі (1933—37) пабудаваны аўтарамонтны з-д — першае прадпрыемства бел. аўтапрамысловасці, новыя цэхі і ўчасткі на ф-цы штучнага шоўку, мэблевая ф-ка. У 1924 прафесійнымі і самадзейнымі артыстамі ў горадзе пастаўлена першая бел. савецкая опера «Вызваленне працы» М.Чуркіна. У 1920-я г. дзейнічаў філіял аб'яднання бел. пісьменнікаў «Маладняк», які выдаў у 1927 альманах «Дняпроўскія ўсплёскі». Пасля рэарганізацыі (1928) «Маладняка» ў Бел. асацыяцыю пралетарскіх пісьменнікаў выходзіў альманах «Ранне» (1929). У 1938—40 у М. паводле праекта І.Лангбарда пабудаваны Дом Саветаў. У 1939 у М. 99,4 тыс. ж. На 1.1.1940 — 210 прадпрыемстваў (13 тыс. рабочых), 22 агульнаадукацыйныя школы, пед. і настаўніцкі (з 1937) ін-ты, 5 тэхнікумаў, 12 клубаў, 2 кінатэатры, драм. тэатр, 13 б-к, краязнаўчы музей з філіяламі. З пач. Вял. Айч. вайны значная частка прамысл. абсталявання заводаў і фабрык была эвакуіравана, створана *Магілёўскае народнае апалчэнне 1941*, якое з 3 да 26.7.1941 разам з рэгулярнымі часцямі Чырв. Арміі ўдзельнічала ў гераічнай *Магілёва абароне 1941*. Найб. упартыя баі разгарнуліся на *Буйніцкім полі*. 26.7.1941 М. акупіраваны ням.-фаш. войскамі і ўключаны ў зону 286-й ахоўнай дывізіі тылавога раёна групы армій «Цэнтр». Захопнікі праводзілі палітыку масавага знішчэння мясц. насельніцтва і ваеннапалонных: былі створаны *Лупалаўскі лагер смерці*, Грабянёўскі лагер смерці, гета ў раёне Дубровенкі, 341-ы перасыльны лагер для сав. ваеннапалонных. Каля 30 тыс. магілёўчан было вывезена на прымусовыя работы ў Германію. Акупанты загубілі ў М. 70 тыс. чал., знішчылі ўсе прамысл. прадпрыемствы і культ.-асв. ўстановы, спалілі абласную і гар. б-кі, фонды Цэнтр. гіст. архіва БССР. З 6653 будынкаў былі разбураны ці спалены 3220. Барацьбу з ворагам вялі *Магілёўскае патрыятычнае падполле, Магілёўскі падпольны абком КП(б)Б, Магілёўскі падпольны абком ЛКСМБ*, на тэр. вобласці дзейнічала *Магілёўскае партызанскае злучэнне*. 28.6.1944 горад вызвалены войскамі 2-га Бел. фронту ў ходзе *Магілёўскай аперацыі 1944*. 21 злучэнню і часці нададзены ганаровыя найменні «Магілёўскіх». Пасля вайны адбудоўвалася прам-сць, павялічвалася колькасць насельніцтва. У 1959 — 121,7 тыс. ж., у 1970 — 202,3 тыс. ж. У 1997 у М. 77 прамысл. прадпрыемстваў: Магілёўскі аўтамаб. з-д у складзе ВА «Белаўтамаз», ліфтабудаўнічы з-д, *Магілёўскі завод «Строммашына»*, арэндныя прадпрыемствы «Чырвоны металіст» і «Мегатэкс», ВА «Тэхнапрыбор», з-д транспартнага машынабудавання «Магілёўтрансмаш», ВА «Хімвалакно», з-д «Зеніт» і інш. 6 ВНУ: Магілёўскі дзярж. ун-т, машынабудаўнічы, тэхналагічны, 3 недзярж. ін-ты, 10 сярэдніх спец. навуч. устаноў, 13 ПТВ, 42 агульнаадукацыйныя школы (у т.л. 4 гімназіі), 3 ліцэі, 2 прафес. тэатры (драматычны і лялек), філармонія, 7 гар. дзіцячых школ мастацтваў, 23 дзіцяча-юнацкія спарт. школы, *Магілёўскі абласны краязнаўчы музей, Музей гісторыі Магілёва, Музей этнаграфіі*, філіял Нац. мастацкага музея — музей імя



# Магілёў

паводле плана 1918г.



В К Бялыніцкага-Бірулі, Магілёўскі абласны мастацкі музей імя П Масленікава, 19 масавых б-к, палацы і дамы культуры, 10 клубаў, яўр нядзельная дзіцячая школа, польскі культурна-гандлёвы цэнтр Выдаюцца абласныя газ *«Магілёўская праўда»*, «Магілёўскія ведамасці», гар газ «Веснік Магілева» і інш Рэзідэнцыя епіскапа Магілёўскай правасл епархіі, 6 правасл цэркваў, 1 касцел, 1 грэка-каталіцкая (уніяцкая) царква, 9 пратэстанцкіх суполак З пач 1990 х г у М праводзяцца муз фестывалі «Магутны Божа» і «Залаты шлягер», бальнага танца «Зімовая фантазія», пленэр па жывапісе імя Бялыніцкага-Бірулі Брацкая магіла апалчэнцаў, расстраляных гітлераўцамі, брацкія магілы сав воінаў, якія загінулі ў Вял Айч вайну, магіла ахвяр фашызму Помнікі А С Пушкіну, У І Леніну, С М Кіраву, Герою Сав Саюза І С Лазарэнку, бюст двойчы Героя Сав Саюза І І Гусакоўскага, воінам-вызваліцелям, савецкім воінам на вайсковых могілках Мемарыяльныя комплексы «Змагарам за Савецкую ўладу», «Буйніцкае поле», на месцы Лупалаўскага лагера смерці Помнікі архітэктуры Мікалаеўская царква (17 ст ), Фарны касцел (пач 17—19 ст ), касцел *Магілёўскага кляштара кармелітаў*, архірэйскі палац (18 ст ), Барысаглебская царква (19 ст ), горадабудаўнічы ансамбль 18—19 ст Губернатарскай (сучаснай Савецкай) плошчы, Дом Саветаў (1938—40) і інш

*Літ* Опыт описания Могилевской губернии Кн 1—2 Могилев, 1882—84, Трубницкий А Трубницкий М Хроника белорусского города Могилева Пер с пол М 1887 Могилев и окрестности Справочник-путеводитель Мн , 1982, Мелешко В И Могилев в XVI — середине XVII в Мн , 1988, Могилев (Ист -эконом очерк) Мн , 1971, Могилев Энцикл справ Мн , 1990, Філіповіч І І Міфы і праўда аб Магілеве Магілёў, 1993, Марзалюк І А Магілёў у XII—XVIII стст Мн , 1998, Кандрацьева Л Праект пераносу сталіцы БССР у Магілёў // Бел гіст часоп 1994 № 3, Памяць Гіст -дакум хроніка Магілёва Мн , 1998

*Ігар Марзалюк, Алена Марзалюк* (да 1917)

**Магілёў** Ратуша Пач 20 ст

**Магілёў** Набярэжная Дняпра Пач 20 ст

**МАГІЛЁЎСКАЕ НАМЕ́СНІЦТВА**, адм -тэр адзінка ў Рас імперыі ў 1778—96 Утворана паводле ўказа Кацярыны II ад 22 3 1777 Падзялялася на 12 паветаў Аршанскі, Бабінавіцкі, Беліцкі, Быхаўскі, Копыскі, Клімавіцкі, Магілёўскі, Мсціслаўскі, Рагачоўскі, Сенненскі, Чавускі, Чэрыкаўскі Цэнтр — г *Магілёў* Пл намесніцтва 3 751 480 дзес У 1784 у М н 10 гарадоў, 83 мястэчкі, 416 сёл, 4532 вескі, 79 фальваркаў З 647 019 душ падатковага насельніцтва ў гарадах жыло 3392 купцы, 44 427 мяшчан З 598 869 сялян дзяржаве належала 64 175, памешчыкам — 506 626, мяшчанам — 1392, духавенству — 26 336 Найб землеўладальніку Р А.Пацёмкіну належала 10 826 двароў, 77 895 душ, 464 923 дзес зямлі Самае вял дзярж землеўладанне — рэшткі (пасля раздач) Магілёўскай эканоміі (2430 двароў, 16 740 душ, 78 760 дзес зямлі) Непадатковага насельніцтва каля 41 000 чал , з іх 1094 памешчыкі, 6641 чал ваколічнай шляхты, 5233 свяшчэннаслужыцелі, 11 840 ваенных У М н было 10 манастыроў, 224 цэрквы, 268 уніяцкіх устаноў, 64 каталіцкія манастыры (кляштары) і 124 касцёлы У 1780 у 23 школах і адной семінарыі займалася 858 навучэнцаў Існавала 36 яўр школ Намеснікі П Б Пасэк (1778—82), М.Б Энгельгарт (1782—90), С К Вязьміцінаў (1790—94), Г І Чарамісінаў (1794—96) М н скасавана 12 12 1796, яго тэр ўвайшла ў склад *Беларускай губерні*

*Літ* Записки Л Н Энгельгардта, 1766—1836 М , 1867, Фурсов М В Исторический очерк Могилевской губернии Могилев, 1882, Первые годы из истории Могилевского наместничества по известиям современников // Виленский календарь на 1887 г Вильна, 1888, Анішчанка Я Магілёўскія махляры // Бел мінуўшчына. 1996 № 5

*Яўген Анішчанка*

**МАГІЛЁЎСКАЕ НАРО́ДНАЕ АПАЛЧЭ́ННЕ 1941** 26 6 1941 створаны знішчальны батальён (камандзір М І Калугін), які даў пачатак фарміраванню нар апалчэння ў Магілеве Да 10 ліп ў ім было больш за 12 тыс чал Атрады дзейнічалі на гарбарным, аўтарамон-

тным, косцеперапрацоўчым з-дах, чыг вузле, у пед ін-це і інш , сфарміраваны батальен (камандзір К Р Уладзіміраў) і атрад (Дз С Вольскі) з супрацоўнікаў абл ўпраўлення НКУС і міліцыі Дзейнічалі абл і гар штабы нар апалчэння, камандаваў апалчэннем У П Ваяводзін Апалчэнцы вялі барацьбу з ням дыверсантамі, ахоўвалі прамысл аб'екты і лініі сувязі, удзельнічалі ў эвакуацыі насельніцтва, прамысл і трансп абсталявання, стварэнні абарончых рубяжоў 3—26 ліп разам з воінамі Чырв Арміі (гл *Магілева абарона 1941*) горад абаранялі з 3 атрады ф-кі штучнага шоўку (страціў палову свайго складу), гарбарнага і косцеперапрацоўчага з-даў, з ПнЗ батальены супрацоўнікаў міліцыі (з 250 байцоў у жывых засталося 19) і знішчальны, атрады чыг вузла і з-даў трубалцейнага і «Адраджэнне», на левым беразе Дняпра (прыкрывалі тыл) атрады Вольскага (загінулі ўсе), аўтарамонтнага з-да, мясакамбіната і інш прадпрыемстваў, пед ін-та У ноч на 26 ліп частка апалчэнцаў вырвалася з акружэння і працягвала барацьбу з захопнікамі ў радах Чырв Арміі, партыз атрадах і падполлі У Магілеве і пас Гаі на брацкіх магілах апалчэнцаў пастаўлены помнікі, у Магілеве мемар дошкі, ёсць вуліца Народнага апалчэння *Барыс Гардзееў*

**МАГІЛЁЎСКАЕ ПАРТЫЗА́НСКАЕ ЗЛУЧЭ́ННЕ** ў Вялікую Айчынную вайну Аформілася 6 4.1943 як ваенна-аператыўная група (ВАГ) пры Магілёўскім падп абкоме КП(б)Б Кіраўнікі Дз С Маўчанскі (да крас 1944), М В Шпак (крас —чэрв 1944), камандзіры П В Яхантаў (да жн 1943) С Г Сідарэнка-Салдаценка (жн 1943 — чэрв 1944), нач штаба Сідарэнка-Салдаценка (да жн 1943), Г І Георгіеўскі (жн 1943 — чэрв 1944) Злучэнне яднала брыгады 1, 2, 4, 5-ю Клічаўскія, 3-ю Бярэзінскую, 1-ю Асіповіцкую, 6-ю Магілеўскую, 8-ю Рагачоўскую (да крас 1943), 8-ю Круглянскую, 9-ю Кіраўскую, 10-ю Жураўіцкую (да крас 1943), усяго каля 6,5 тыс партызан Пазней уключаны або сфарміраваны брыгады 11-я Быхаўская, 12-я кав імя Сталіна (да вер 1943), 13-я Касцюковіцкая, 14-я Цемналеская, 17 я, «Чэкіст», імя Шчорса Пры падп райкомах партыі былі створаны *ваенна-аператыўныя групы* Большасць брыгад на працягу 1943 расфарміравана на самастойныя атрады, якія дзейнічалі ў складзе ваенна-аператыўных груп Па меры росту атрады разгортваліся ў партыз палкі На час злучэння з Чырв Арміяй у М п з было 33,4 тыс партызан 11 партызанам злучэння (Б.М *Дзмітрыеву*, С Г *Жуніну*, П І *Кавалёву*, П М *Каралёву*, А М *Касаеву*, А.Ф *Колесавай*, В І.*Лівенцаву*, Л.Дз.*Лорчанку*, А С.*Лукашэвічу*, У.А.*Парахневічу*, М *Тапівалдыеву*) прысвоена званне Героя Сав Саюза

**МАГІЛЁЎСКАЕ ПАТРЫЯТЫ́ЧНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ** ў Вялікую Айчынную вайну Дзейнічала з канца ліп 1941 да чэрв 1944 у Магілеве, акупіраваным ням -фаш захопнікамі Першыя групы створаны ў ваен шпіталі Р.Дз Казловым, на чыг вузле [кіраўнікі П І Бялько, А.В Гарошка, П В Дракаў, В М Жывапісцава, І С Малашкевіч, В І Пудзін (Папоў), Г С Трактатава], аўтарамонтным з-дзе (В І Бату



**Магілеў** Дом Саветаў 1938—40

**Магілеў** Прадмесце Пелагееўка Пач 20 ст

Стары **Магілеў** З карціны Р Я Таболіча 1994

ра, М І Харкевіч), ф-цы штучнага шоўку, у «Рыбзбыце» (В П Станкевіч), абл бальніцы (М П Куўшынаў), на хлебазаводзе (М М Яўціхіеў), камсам -ма ладзежная (І М Лысіковіч), б ваеннаслужачых (І Г Гурыеў, П А Пяхоцін, В Дз Швагрынаў), актыўна дзейнічалі групы А І Шубадзерава, М К Гвоздыравай, П І Крысевіча, В І Лусто, М Я Новікава, У П Шалюты і інш Медработнікі шпіталя (У П Кузняцоў, А І Паршын, Ф І Пашанін), дзе знаходзілася каля 1000 параненых воінаў, напярэдадні захопу горада ворагам знішчылі гісторыі хвароб камандзіраў, камуністаў, яўрэяў Да студз 1942 у горадзе існавалі 42 падп групы, больш за 250 чал Падпольшчыкі распаўсюджвалі сярод на-



Аўтар карты Я Н Анішчанка

сельніцтва лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро, збіралі зброю, боепрыпасы, медыкаменты, здабывалі разведданыя для партызан, учынялі дыверсіі на чыгунцы і прадпрыемствах, выратоўвалі моладзь ад вывазу ў Германію У крас 1942 для кіраўніцтва падполлем па ініцыятыве Казлова актыў патрыят груп стварыў «Камітэт садзеяння Чырв Арміі» (кіраўнікі І М Крысевіч, Гарошка, Куўшынаў, К Ю Мэтэ, С М Шакура, Шалюта, Лысіковіч), які арганізаваў выданне газ «За Родину» (з восені 1942 — «За Советскую Родину») Але не ўсе кіраўнікі падп груп зважалі на парады і рэкамендацыі «Камітэта» З пашырэннем партыз руху і прыбыццем на Магілёўшчыну разведвальна-дыверсійных груп Зах фронту дзейнасць падполля актывізавалася у партыз атрады было выведзена каля 1 тыс ваеннапалонных з лагера смерці, сабрана і перададзена партызанам вял колькасць зброі, на чыгунцы зроблена больш як 10 крушэнняў цягнікоў з жывой сілай і тэхнікай ворага, 5 эшалонаў з гаручым, узрывы ўчынены ў унтэр-афіцэрскай школе, на ГЭЦ, ф-цы штучнага шоўку, узарваны аўтамашына акупантаў, склад гаручага, гараж Гітлераўцы пачалі масавыя аблавы жорсткі тэрор супраць насельніцтва У выніку быў знішчаны кіруючы склад «Камітэта», загублена 188 падпольшчыкаў У сак 1943 створаны Магілёўскі райком КП(б)Б, пад кіраўніцтвам якога ўзніклі новыя падп групы ў паравозным дэпо, на трубаліцейным з-дзе у ням сталоўках, харч і зброевых складах, у дапаможных гаспадарках Кожная група мела сувязь з пэўнымі партыз атрадамі і злучэннямі, у асн 121-га палка і 600-й брыгады Падпольшчыкі правялі шэраг буйных дыверсій, збіралі для партызан прадукты, тытунь, соль, зброю У Магілёве ў гонар падпольшчыкаў устаноўлены мемар дошкі

*Барыс Гардзееў*

**МАГІЛЁЎСКАЕ ПАЎСТА́ННЕ 1618**, выступленне гараджан Магілева супраць прымусовага ўвядзення *Брэсцкай уніі 1596* Яго прычынамі сталі дзеянні полацкага грэка-каталіцкага архіепіскапа І *Кунцэвіча*, які ў кастр 1618 накіраваўся ў Магілёў з намерам закрыць там праваслаўныя цэрквы і гвалтоўна навязаць жыхарам унію Магістрат Магілева заявіў, што горад не будзе падпарадкоўвацца уніяцкай мітраполіі Даведаўшыся пра набліжэнне Кунцэвіча, жыхары зачынілі перад ім вароты, устанавілі на гар вале гарматы, пагражаючы ўжыць зброю, калі архіепіскап паспрабуе пранікнуць у Магілёў Тады Кунцэвіч паехаў у Варшаву, каб паведаміць пра гэтае здарэнне каралю Рэчы Паспалітай Жыгімонту III, і дамогся выдання каралеўскага універсала, паводле якога 20 удзельнікаў выступлення (Л Ісаеў, М Пуцята, К Шаўнін, Шульха і інш ) былі прыгавораны да пакарання смерцю, на жыхароў горада накладзены штраф

**МАГІЛЁЎСКАЕ ПАЎСТА́ННЕ 1661** Адбылося ў лютым 1661 у час *вайны Ра-*

сп з Рэччу Паспалітай 1654—67 24 8(3 9) 1654 Магілёў перайшоў без бою на бок маскоўскага войска Гараджане прысягнулі на вернасць цару Аляксею Міхайлавічу Хутка паміж магістратам і рас вайсковай адміністрацыяй узніклі супярэчнасці Значны канфлікт адбыўся 1(11) 9 1655 Ваявода дакладваў цару, што магілёўцы «хотят выбрать без государева указа войта и бурмистров и райцев и лавников» Магілёўцы паслалі дэпутацыі да цара і дамагліся зацвярджэння пажаданых кандыдатур Аднак канфлікт паглыбляўся, магістрат адмаўляўся выконваць загады ваяводы Цар, нягледзячы на свае папярэднія абяцанні, санкцыянаваў дзеянні апошняга Хутка выбухнуў канфлікт паміж бел праваслаўным духавенствам і маскоўскай іерархіяй Прызначэнні на магілёўскую кафедру з 1655 рабіліся маскоўскім патрыярхам Частка апазіцыйнага магілёўскага праваслаўнага духавенства разам з ігуменам Куцеінскага манастыра Іалем Труцэвічам была выслана ў глыб Расіі Кнігі, начынне, друкарню і настаўнікаў магілёўскай брацкай школы таксама вывезлі ў Расію Казакі і маскоўскія служылыя людзі ўчынялі рабункі Мяшчане распрацавалі план паўстання, паводле якога ўсе гаспадары, у чыіх хатах стаялі маскоўскія ратнікі, павінны былі выкруціць крэмені з іх стрэльбаў і 10(20) лютага на заклік бурмістра Язэпа Левановіча пачаць паўстанне Аднак масавае агульнагарадское паўстанне пачалося 1(11) лютага з-за рабаўніцтва і зняваг на рынку маскоўскімі ратнікамі магілёўскіх гандлярак Пад умоўны выклік «Пара! Пара!» Левановіч, узброены катаўскім мячом, кінуўся секчы крыўдзіцеляў Зазваніў ратушны звон, які таксама быў сігналам да пачатку паўстання На дапамогу мяшчанам прыйшлі выпушчаныя імі ваеннапалонныя Маскоўскі гарнізон амаль цалкам быў знішчаны Паводле розных крыніц, яго колькасць была ад 2 тыс да 7 тыс чал, выратаваліся толькі некалькі чалавек. Магілёўцы ўзялі ў палон ваявод С С Гарчакова, М А Палуэктава, стралецкага галаву С І Чэкіна і інш афіцэраў Найбольш актыўныя ўдзельнікі паўстання атрымалі шляхецтва, Магілёў зноў атрымаў магдэбургскае права і быў ураўнаваны ў правах з Вільняй, яму нададзены новы гарадскі герб

*Кр* Акты Московского государства Т 3 СПб, 1901, Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо Западной Руси Т 2 Вильна, 1867, Акты относящиеся к истории Южной и Западной России Т 14 СПб, 1889, Беларускі архіў Т 1 Мн, 1927, ПСРЛ Т 35 М, 1980

*Літ* Марзалюк І А. Магілёў у вайне Расіі з Рэччу Паспалітай (1654—1667) // 36 матэрыялаў магілёўскіх чытанняў «Трафім Сурта і яго час» Магілёў 1993 Саганові ч Г Невядомая вайна, 1654—1667 Мн 1995 С 103—104 *Ігар Марзалюк*

**МАГІЛЁЎСКАЕ РЭАЛЬНАЕ ВУЧЫЛІШЧА**, агульнаадукацыйная сярэдняя навуч ўстанова ў 1885—1918 Засн 1 7 1885 у Магілеве Уваходзіла ў Віленскую навуч акругу Утрымлівалася за кошт казны, збораў за навучанне (у 1907 па 45 руб з вучня) і сродкаў мясц т-ва ўзаемнага крэдыту Размяшчалася ва ўласным будынку, пабудаваным у 1885 паводле праекта інж У Міляноўскага на ахвяраванні жыхароў губерні Мела 7 класаў і падрыхтоўчае аддзяленне У 1907 навучалася 236 юнакоў, у 1915 — 321 Узначальваў вучылішча дырэктар, якому дапамагалі інспектар, 3 законанастаўнікі і 10 выкладчыкаў з ун-таў Парыжа, Масквы, Пецярбурга, Варшаўскага політэхн ін-та, Нежынскага ін-та кн Безбародкі і Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі Вучэбныя прадметы рус, ням і франц мовы, геаграфія, прыродазнаўства, гісторыя, хімія, законазнаўства, матэматыка, фізіка, касмаграфія, маляванне, чарчэнне, пачаткі ваен навукі, музыка і гімнастыка Выпускнікі вучылішча мелі льготы пры паступленні ў вышэйшыя тэхн і с-г навуч ўстановы, на фізікаматэм ф-ты ун-таў Зараз у будынку вучылішча размяшчаецца пед вучылішча імя К Ушынскага *Андрэй Самусік*

**МАГІЛЁЎСКАЕ ТАВАРЫСТВА ЎРАЧОЎ**, Таварыства урачоў Магілеўскай губерні, першае мед навуковае т-ва Беларусі Існавала ў 1862—1917 Засн па ініцыятыве ст ўрача К А Пабо Ставіла за мэту садзейнічаць развіццю мед навукі і практыкі, грамадскай гігіены і інш Ажыццяўляла сан кантроль за гар тэрыторыяй, арганізавала курсы санітараў і дэзінфектараў, бясплатны прыем хворых, праводзіла нар чытанні Па рэкамендацыі т-ва ў 1892 у час эпідэміі халеры быў адкрыты халерны барак, 7 бясплатных чайных, праводзілася бясплатная выдача лекаў У 1911 правяло дзень «белай кветкі» (збор сродкаў на барацьбу з сухотамі) і стварыла мясц аддзел Усерас лігі барацьбы з сухотамі Імкнулася ахапіць урачэбнай дапамогай і сельскае насельніцтва Члены т-ва правялі медыкатапаграфічнае і статыстычнае даследаванне Магілева (гэтыя работы выкананы як манаграфіі і абаронены як доктарскія дысертацыі) Т-ва выдавала свае «Пратаколы» і «Працы», абменьвалася імі з інш мед т-вамі Рас імперыі, а таксама дасылала іх у Швейцарыю для рэферыравання ў замежных часопісах

*Літ* Молчанов А П К истории научных медицинских обществ в Белоруссии // Научные медицинские общества БССР Сб справ сведений Мн, 1981 *Акім Малчанаў*

**МАГІЛЁЎСКАЯ АБЛАСНАЯ АБ'ЯДНАНАЯ БІБЛІЯТЭКА** імя У І Леніна Засн ў 1934 у Магілеве як філіял Дзярж б-кі БССР на базе фондаў пед ін-та і педтэхнікума Магілева У 1938 пераўтворана ў абл б-ку У Вял Айч вайну бібліятэчны фонд (больш за 70 тыс экз) амаль увесь знішчаны Адноўлена ў 1944 Пасля аб'яднання ў 1989 з абл дзіцячай б-кай — сучасная назва Бібліятэчны фонд каля 786 тыс экз (1998) Мае 10 аддзелаў, у т л краязнаўчай і замежнай л-ры, мастацтва, навукова-метадычны, дзіцячы і інш Мае стараж выданні «Хроніка беларускага горада Магілева» А і М Трубніцкіх (1887), «Вопыт апісання Магілёўскай губерні » (кн 1—3, 1882—84) «Магілёўская даўніна» (вып 1—3, 1900—03), «Памятная кніжка Магілёўскай губерні за 1909 год», «Агляд Магілёўскай губерні за 1909 год», «Баркалабаўскі летапіс» (пад рэд Е Р Раманава, 1910) і інш Выдае метадычныя і бібліягр матэрыялы, паказальнікі краязнаўчага характару «Скарбы мінуўшчыны» (1993), «Выдатныя дзеячы мастацтва Магілёўшчыны» (1993—95), «Пісьменнікі Магілёўшчыны» (1994), «Веска ў творчасці беларускіх пісьменнікаў», «Тут памяць сэрца гаворыць», «Праз смугу гадоў дайшло да нас слова» (усе 1995), «Чарнобыль у беларускай паэзіі» (1996) і інш Штоквартальна выдае інфармацыйны бюлетэнь «Новая літаратура аб Магілёўскай вобласці» *Ала Васіленка*

**МАГІЛЁЎСКАЯ АКРУГА**, адм-тэр адзінка ў БССР Існавала ў 1924—30 Утворана 17 7 1924 Цэнтр — г *Магілёў* Пл акругі 11 602 км$^2$, нас 512,7 тыс чал (1924) Уключала 10 раенаў Быхаўскі, Бялыніцкі, Журавіцкі, Кармянскі, Лупалаўскі, Магілёўскі, Прапойскі, Чавускі, Чачэвіцкі, Шклоўскі, раены падзяляліся на 161 сельсавет У склад акругі ўваходзілі 4 гарады (Стары Быхаў, Магілёў, Чавусы, Шклоў), 3 мястэчкі (Бялынічы, Карма, Прапойск) У сувязі са скасаваннем Калінінскай акр 9 6 1927 у М а перададзены Бялынкавіцкі, Касцюковіцкі, Клімавіцкі, Краснапольскі, Крычаўскі, Мілаславіцкі, Хоцімскі, Чэрыкаўскі р-ны 4 8 1927 скасаваны Бялынкавіцкі р-н (яго тэр далучана да Касцюковіцкага р-на) і Мілаславіцкі р-н (яго тэр далучана да Клімавіцкага р-на) Акруговая газ «Магілёўскі селянін» На 1 1 1930 у М а 16 раенаў, 6 гарадоў, 7 мястэчак, 259 сельсаветаў, у т л 3 польскія і 2 латышскія нацыянальныя 26 7 1930 М а скасавана

*Літ* Рыдзеўскі ГУ Магілёўшчына губерня акруга, вобласць (аналіз адміністрацыйнага падзелу) // Магілёўская даўніна Магілёў 1993 *Ігар Пушкін*

**МАГІЛЁЎСКАЯ АПЕРАЦЫЯ 1944**, наступальная аперацыя войск 2-га Бел фронту (камандуючы ген-палк Г Ф Захараў) 23—28 чэрв, састаўная частка *Беларускай аперацыі 1944* у Вял Айч вайну Удзельнічалі арміі 33-я (ген-лейт В Дз Кручонкін), 49-я (ген-лейт І Ц Грышын), 50-я (ген-лейт І В Болдзін), 4-я паветр (ген-палк К А Вяршынін) Ім процістаялі 8 пях і 2 матарызаваныя дывізіі 4 й арміі ням групы армій «Цэнтр», якія займалі глыбока эшаланіраваную даўж 60 км лінію абароны ў тры абарончыя рубяжы Задача аперацыі войскам 2-га Бел фронту ва ўзаемадзеянні з войскамі левага крыла 3-га і правага крыла 1-га Бел франтоў разграміць магілёўскую групу праціўні

Максіма), Федар Англейка, Афанасіи П (Пігарэвіч?), М.Антушкевіч У кан цы 17—18 ст у друкарні выдаваліся царк навуч, палемічныя кнігі «Псалтыр» (1693) «Акафісты і каноны» (1693), «Малітваслоў» (1695), «Дыоптра» (1698), «Перла мнагацэннае» (1699) «Неба новае» (1699), «Трыфалагіен» (1754), «Часаслоў» (1762) і інш У апош нія гады дзейнасці друкарня перавыдавала раней надрукаваныя кнігі

*Літ* Жудро Ф История Могилевского Богоявленского братства Могилев, 1890

Пічэта УІ Друк на Беларусі ў XVI і XVII стст // Чатырохсотлецце беларускага друку Мн 1926 *Ігар Пушкін*

**МАГІЛЁЎСКАЯ ВАЕ́ННА-СУДО́ВАЯ КАМІСІЯ ПА СПРА́ВАХ ДЗЕКАБРЫСТАЎ** Створана ў Магілеве загадам ад 18(30) 1 1826 галоўнакамандуючага 10-й арміі генерала ад інфантэрыі Ф Сакена Старшыня камісіі — начальнік 3-й пях дывізіі ген -маер І А Набокаў Працавала з 1(13) 2 да 30 3(11 4) 1826, разгледзела справы 16 афіцэраў — удзельнікаў паўстання Чарнігаўскага палка, «падазроных ва ўдзеле ў мяцяжы» а таксама справы тых, што загінулі ў час паўстання Пасля допытаў і судовага працэсу ў ліп 1826 справа разгледжана ў аўдытарскім дэпартаменце ваен мін-ва 13(25) ліп аб'яўлены прыгавор, паводле якога А Я Мазалеўскі, В М Салаўеў і І І Сухінаў былі засуджаны да пакарання смерцю, замененай потым бестэрміновай катаржнай працай у Сібіры Частка была засуджана да пазбаўлення чыноў і дваранства і службы радавымі ў далекіх сібірскіх гарнізонах 5 чал прыгавораны да 6-месячнага зняволення ў крэпасці Дакументы следчага справаводства камісіі не захаваліся, пра яе дзейнасць вядома з даклада аўдытарскага дэпартамента ваен мін-ва Расіі ад 10(23) 7 1826

*Літ* Букчин С В К мечам рванулись наши руки 2 изд Мн, 1985, Горбачевский И И Записки Письма М, 1963, Декабристы Биогр справ М, 1988, Муравьев-Апостол М И Воспоминания и письма Пг, 1922, Швед В В Беларускія старонкі гісторыі дзекабрыстаў Мн, 1998

*Вячаслаў Швед*

**МАГІЛЁЎСКАЯ ВО́БЛАСЦЬ** Размешчана на У Беларусі Мяжуе з Расіяй Пл 29 тыс км$^2$ Нас 1246,9 тыс чал (1997, без Магілева) Цэнтр — г *Магілеў* Утворана 15 1 1938 20 2 1938 уключала 21 раен (Асіповіцкі, Бабруйскі Быхаўскі, Бялыніцкі, Бярэзінскі, Горацкі, Дрыбінскі, Касцюковіцкі, Кіраўскі, Клімавіцкі, Клічаўскі, Краснапольскі, Круглянскі, Крычаўскі, Магілеўскі, Мсціслаўскі, Прапойскі, Хоцімскі, Чавускі, Чэрыкаўскі, Шклоўскі), 362 сельсаветы, 11 гарадоў, 8 мястэчак, 5 рабочых пасёлкаў 3 27 9 1938 у складзе вобласці 12 гарадоў, 6 гар і 5 рабочых паселкаў На 1 1 1941 у М в 21 раен, 359 сельсаветаў 20 9 1944 Бярэзінскі р-н перададзены Мінскай вобл 23 5 1945 Прапойскі р-н перайменаваны ў Слаўгарадскі, г Прапойск — у г Слаўгарад 16 9 1956 ліквідаваны Дрыбінскі, Круглянскі і Чэрыкаўскі р-ны, 23 1 1960 далучаны Глускі р-н Мінскай вобл, 17 4 1962 ліквідаваны Хоцімскі р н 25 12 1962 ліквідаваны Асіповіцкі, Глускі, Клічаўскі, Крычаўскі і Слаўгарадскі р ны 6 1 1965 зноў утвораны Асіповіцкі, Клічаўскі, Крычаўскі, Слаўгарадскі, 30 7 1966 — Глускі, Круглянскі, Хоцімскі, Чэрыкаўскі р-ны 29 12 1989 — Дрыбінскі р-н На 1 1 1997 у М в 21 раен (Асіповіцкі, Бабруйскі, Быхаўскі, Бялыніцкі, Глускі, Горацкі, Дрыбінскі, Касцюковіцкі, Кіраўскі, Клімавіцкі, Клічаўскі, Краснапольскі, Круглянскі, Крычаўскі Магілеўскі, Мсціслаўскі, Слаўгарадскі, Хоцімскі, Чавускі, Чэрыкаўскі, Шклоўскі), 13 гарадоў, у т.л 5 абл, 8 раеннага падпарадкавання, 11 гар і 4 рабочыя паселкі, 196 сельсаветаў, 3242 населеныя пункты Пра кожны раен вобласці гл адпаведны артыкул

**МАГІЛЁЎСКАЯ ВО́ЛАСЦЬ**, Магілеўскае староства, Магілеўская эканомія, буйное дзярж уладанне у 14—18 ст У 1387—99 належала каралеве Ядвізе, жонцы Ягайлы У 15 ст, верагодна, адасобіўся маентак *Буйнічы* У 1501—31 М в у па жыццевым уладанні вял княгіні Алены Іванаўны, пазней — дзярж. уласнасць У сярэдзіне — 2-й пал 16 ст звычайна наз *староствам* Тэр М в фарміравалася да 1-й пал 16 ст, калі да яе далучаны часткі воласці *Басея* і *Мсціслаўскага княства* У 1560 М в уключала г Магілеў і больш за 60 сел, з іх буйнейшыя Вейна (112 дымоў), Коханавічы (100), Сідаравічы (67) Аніскавічы (57), Чавусавічы, або Чавусы (53) Пасля адм рэформы 1565—66 у складзе *Аршанскага павета* Намеснікі (старосты) М в — Ю Зяноўевіч (1514—16), Я Шчыт (1516—18), кн В І Сала мярэцкі (1520—40), Ф Бака (1540—47) кн Я Гальшанскі (1547—49), С Кезгайла (1552—54), *А Валовіч* (1554—64), Р Хадкевіч (1564—72), А Хадкевіч (1572—78), Дз Халецкі (да 1598) З 1588 перайшла ў разрад *эканоміі* У канцы 16 ст імкліва павялічылася колькасць пасялішчаў і жыхароў Паводле



**Магілёўская брацкая друкарня** З карціны М Я Таболіча 1990

інвентара 1604, М в складалася (апрача Магілева) з 194 сел (з іх 28 пустых), падзеленых на 12 войтаўстваў Асавецкае (23 сялы), Бардзілаўскае (22), Благавіцкае (24 сялы і новазаснаванае мястэчка Чавусы), Брылеўскае (14), Вейнаўскае (18), Горбавіцкае (13), Даманавіцкае (13), Іструбіцкае (4), Плешчыцкае (14), Пуцькаўскае (23), Ульянавіцкае (13) і новастворанае ў 1600 Чамаданаўскае (12) Першы адміністратар Магілеўскай эканоміі — Л І Сапега, у 1736—72 М Пацей У 1772 М в далучана да Рас імперыі (5261 дым, 25 063 душы мужчынскага полу) Значная яе частка раздадзена ў прыватную ўласнасць наблізжаным да Кацярыны II — А М Рымскаму-Корсакаву (5829 душ з мяст Чавусы), А П Ярмолаву (4445 душ), В Я Чычагову (3997), А.А.Празароўскаму (448 душ з мяст Сухары) і інш Рэшта захавалася ў якасці дзяржаўных маенткаў *Вячаслаў Насевіч*

**МАГІЛЁЎСКАЯ ГУБЕ́РНСКАЯ ДРУКА́РНЯ** Дзейнічала ў 1833—1917 у Магілеве пры губернскім праўленні У 1846

**МАГІЛЁУСКАЯ ВОБЛАСЦЬ**

ей перададзена абсталяванне кансісторскай друкарні (дзейнічала ў Магілеве ў 1774—1844) Друкавала газ *«Могилевские губернские ведомости»*, штогадовыя даведнікі «Агляд Магілеўскай губерні» (1879—1915) і «Памятныя кніжкі Магілеўскай губерні» (1861—1916), афіц матэрыялы губернскага праўлення, матэрыялы мясц дзярж устаноў і грамадскіх арг-цый і інш У 1853—55 выдадзена першая кніга «Магілеўская флора» Р Пабо і К.А.Чалоўскага Сістэматычнае кнігадрукаванне пачалося з 1861 Усяго выйшла каля 217 назваў кніг, у асноўным свецкай тэматыкі (мастацкія, навуковыя, даведачныя і інш ) на рус мове, рэліг л-ра складала 4,6% ад агульнай колькасці Найб цікавымі з'яўляюцца краязнаўчыя працы па гісторыі, археалогіі і этнаграфіі «Гістарычны нарыс Магілеўскай губерні» М В Фурсава (1882), «Дзеннік курганных раскопак, зробленых на працягу лета 1892 г ў паветах Рагачоўскім, Быхаўскім, Клімавіцкім, Чэрыкаўскім і Мсціслаўскім» Фурсава і С Ю Чалоўскага (1892), «З хронікі г Магілева за час з 1706—09 гг » (1904), «Бялыніцкі Раства-Багародзіцкі манастыр» Ф.А Жудро (ч 1—2, 1911), «Гістарычная даведка Магілеўскай мужчынскай гімназіі 1809—1909» М П Сазонава (1909), збор гіст матэрыялаў *«Магілёўская даўніна»*, «Вопыт апісання Магілеўскай губерні » пад рэд А Дамбавецкага (кн 1—3, 1882—84), «Вясельныя песні беларускія» Дамбавецкага (1884), «Беларускі зборнік» Е Раманава (вып 6, 1901), «Кароткая даведка аб пяцідзесяцігадовым існаванні Магілеўскай жаночай гімназіі (1865—1915 гг )» (1915) і інш На бел мове надрукавана кн «Тарас на Парнасе і іншыя беларускія вершы» (1900—02). *Ігар Пушкін*

**МАГІЛЁЎСКАЯ ГУБЕ́РНЯ** Існавала ў 1772—1919 Цэнтр — г Магілеў Утворана 28 5(8 6) 1772 Уключала Аршанскую, Магілеўскую, Мсціслаўскую і Рагачоўскую правінцыі 22 3 1777 падзелена на 12 паветаў Аршанскі, Бабінавіцкі (скасаваны ў 1840), Беліцкі (у 1852 перайменаваны ў Гомельскі), Клімавіцкі, Копыскі (у 1861 перайменаваны ў Горацкі), Магілеўскі, Мсціслаўскі, Рагачоўскі, Сенненскі, Старабыхаўскі (у 1852 перайменаваны ў Быхаўскі), Чавускі і Чэрыкаўскі У 1778 перайменавана ў *Магілеўскае намесніцтва*, якое 12(23) 12 1796 скасавана, а паветы ўвайшлі ў склад *Беларускай губерні* М г адноўлена 27 2(11 3) 1802 у складзе ранейшых 12 паветаў Паветы падзелены на 39 станаў і 147 валасцей Уваходзіла ў склад Віцебскага, Магілеўскага і Смаленскага ген -губернатарства (гл *Беларускае генерал-губернатарства*), у 1863—69 — *Віленскага генерал-губернатарства* Тэр М г (паводле перапісу 1897) 42 134 кв вярсты, нас 1686,7 тыс чал Паводле саслоўнага падзелу дваран 27,7 тыс , духавенства 6,4 тыс , купцоў 3,5 тыс, мяшчан 291,8 тыс, сялян 1351,5 тысячы Паводле веравызнання праваслаўных 1402,2 тыс , старавераў 23,3 тыс , католікаў 50,1 тыс , пратэстантаў 6,9 тыс , іудзеяў 203,9 тыс , мусульман 184 чал Пісьменнага насельніцтва ў М г 16,9%, у гарадах 45% Па тэр М г ў 19 ст праходзілі чыгункі Маскоўска-Брэсцкая, Лібава-Роменская, Арлоўска-Віцебская, Гомельска-Бранская, пераважалі вінакурныя заводы, сяляне займаліся саматужнымі промысламі У 1884 у М г 2 гімназіі, 2 прагімназіі, 4 гарадскія, 5 павятовых, 13 прыходскіх, 207 пач вучылішчаў, жаночае, 4 мужчынскія духоўныя вучылішчы, духоўная правасл семінарыя, 310 царк -прыходскіх школ, 1138 школ пісьменнасці, 6 яўр пачатковых вучылішчаў, 3 вышэйшыя і 149 пач яўр рэлігійных школ, 10 прыватных вучылішчаў, земляробчае і рамеснае вучылішчы ў Горках, чыгуначнае ў Гомелі, фельчарская школа і школа павітух у Магілеве, 59 бальніц і 47 прыемных пакояў, 20 бібліятэк, 17 кніжных крам, 11 друкарняў, губ музей у Магілеве М г ўваходзіла ў Магілеўскую правасл і Магілеўскую каталіцкую епархіі У канцы 19 ст ў М г 804 правасл царквы, 6 мужчынскіх і 5 жаночых манастыроў, 30 касцелаў, 2 лютэранскія кірхі, 29 адзінаверскіх цэркваў і стараверскіх малітоўных дамоў, 340 яўр сінагог і малітоўных дамоў 3 вер 1917 губерня ў складзе Зах вобл , са студз 1919 у БССР, з лют ў РСФСР 11 7 1919 М г скасавана, 9 яе паветаў увайшлі ў Го-

мельскую губ, Мсціслаўскі пав перададзены Смаленскай, Сенненскі — Віцебскай губ

*Літ* Военно-статистическое обозрение Российской империи. Т 8, ч 3 Могилевская губерния СПб, 1848, Дембовецкий А. Опыт описания Могилевской губернии Кн 1—3 Могилев, 1882—84, Первая всеобщая перепись населения Российской империи, 1897 г Т 23 Могилевская губерния СПб, 1903, Обзор Могилевской губернии за 1913 г Могилев, 1915 *Алена Філатава*

**«МАГІЛЁЎСКАЯ ДАЎНІНА́»**, «Могилевская старина», зборнік матэрыялаў з *«Могилевских губернских ведомостей»* за 1898—1903 Выйшлі 3 выпускі (1900—03) пад рэд Е Р Раманава Уключае артыкулы і нататкі па гісторыі, археалогіі, этнаграфіі Магілёўскай губ, гіст дакументы У 1-м выпуску змешчаны *Баркулабаўскі летапіс* (паводле выдання М В Доўнар-Запольскага ў кіеўскіх «Университетских известиях», 1898, № 12, з прывядзеннем розначытанняў па выданні П А.Куліша ў «Матэрыялах для гісторыі ўз'яднання Русі», т 1 М, 1877), грамата караля Рэчы Паспалітай Стафана Баторыя ад 1 3 1581, карта магілёўскага намесніцтва 1786 успаміны аб падзеях 1812 на Магілёўшчыне У 2-м вып — арыгінальнае апісанне Крычаўскага графства А Меерам у 1786, фрагмент запісак агента брыт біблейскага т-ва Р Пінкертона, які ў 1816 і 1822 праязджаў па бел губернях, бібліяграфічны паказчык асн прац Раманава У 3-м выпуску — дакументы 16—20 ст, у т.л апісанне рэестра жыхароў Магілева за 1636, у 2-м і 3-м вып звесткі пра «апошняга летапісца» Беларусі ігумена Арэста Публікацыі гіст крыніц адметныя дастатковa высокім навук ўзроўнем Усе яны мелі прадмовы гіст-археагр характару, тэкстуальныя заўвагі і заўвагі па змесце, кантрольна-даведачныя звесткі «М д» — каштоўная гіст крыніца для вывучэння гісторыі Магілёўшчыны *Міхась Шумейка*

**«МАГІЛЁЎСКАЯ ДАЎНІНА́»**, зборнік гіст і краязнаўчых матэрыялаў Выдаецца ў Магілеве штогод з 1993 як аднаўленне *«Магілеўскай даўніны»* (1900—03) Рэдактар А Агееў Спец выпуск 1995 прысвечаны 6-м Магілёўскім краязнаўчым чытанням «Ігумен Арэст і Магілёўскі край часоў яго жыцця» Матэрыялы ахопліваюць гіст перыяд развіцця Магілёўшчыны ад старажытнасці да сучаснасці Мае рубрыкі «Даследаванні Меркаванні», «Асоба ў гісторыі», «Малавядомае», «Школьнае краязнаўства» і інш *Ігар Пушкін*

**МАГІЛЁЎСКАЯ ДРУКА́РНЯ**, Магілёўская кансісторская друкарня, Магілёўская прыдворная друкарня Існавала ў 1774—1844 у Магілеве. Засн біскупам С І *Богушам-Сестранцэвічам* пры рымска-каталіцкай кансісторыі Напачатку размяшчалася ў *Магілёўскім кляштары кармелітаў*, потым у прыгарадным палацы Богуша-Сестранцэвіча ў Пячэрску У 1776 М д атрымала дазвол на выданне кніг на рус мове, што паклала пачатак кнігадрукаванню грамадзянскім шрыфтам на Беларусі Паводле ўказа Кацярыны II 1780 друкарня была абавязана публікаваць афіц матэрыялы, т ч яна выконвала функцыі губ друкарні да адкрыцця ў 1833 *Магілёўскай губернскай друкарні* Вядома больш за 60 назваў выданняў М д, у т.л 43 на польскай, 12 на лацінскай, 8 на рускай, па 1 на ням і франц мовах Сярод іх «Кароткая французская граматыка» (1784, 1796), даведачная л-ра — «Каляндар беларускіх намесніцтваў на 1783» (1782), «Беларускія календары» (1784—95), «Дырэкторыумы» (царк календары, якія змяшчалі спісы парафій і духавенства *Магілёўскай рымска-каталіцкай архіепархіі* за 1807—1844), афіц выданні — «Трактат Вечнага міру і сяброўства» (1792), «Устаноўы для кіравання губерняй» (1774, 1777, 1795), навук працы — «Аб Заходняй Расіі» (1793) і «Аб паходжанні сарматаў і славян» (1810) Богуша-Сестранцэвіча, трактат «Тры кнігі аб паэтычным мастацтве» Ф Пракаповіча (1786), мастацкія творы — трагедыя «Гіцыя ў Таўрыдзе» (1783) Богуша Сестранцэвіча, яго вершы і прамовы, «Вандроўны турак» (1789) — пераказ А Голанда на польскую мову «Гісторыі Сіндбада-Марахода» *Ігар Пушкін*

Комплекс **Магілёўскай духоўнай семінарыі** і архірэйскага двара Рэканструкцыя 1853

**МАГІЛЁЎСКАЯ ДУХО́ЎНАЯ СЕМІНА́РЫЯ**, сярэдняя правасл навуч рэліг ўстанова ў Магілеве ў сярэдзіне 18 ст — пасля 1917 У 1756 магілёўскі епіскап Георгій *Каніскі* арганізаваў пач класы духоўнай семінарыі, дзе навучалі лац. мове і катэхізісу на рус мове У 1758 рас ўрад выдзеліў на іх утрыманне 400 руб У 1768 з дазволу караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага Каніскі перавеў класы ў прадмесце Магілева да царквы св Мікалая, стварыў кафедры багаслоўскіх і філас навук, старaж-грэч і старaж-яўр моў У пач 1780-х г для семінарыі пабудаваны асобны 2-павярховы вучэбны корпус у стылі рус класіцызму (не захаваўся) У 1785 адбылося афіц адкрыццё М д с У 1793 пры царкве св Мікалая засн падрыхтоўчая школа для семінарыі У 1795 пабудаваны 2-павярховы дом для настаўнікаў і вучняў Пры епіскапе Анастасіі Братаноўскім (1797—1805) семінарскі комплекс папоўніўся новымі збудаваннямі на вул Ветранай (цяпер Ленінская) Анастасій арганізаваў семінарскае праўленне, пакінуў пасаду прэфекта і прызначыў рэктара і супер-інтэнданта (пазней інспектара), увёў замест польскіх падручнікаў расійскія, арганізаваў аркестр, стварыў семінарскую бальніцу на 25 ложкаў, лазню і інш У канцы 18 ст. па розных звестках у семінарыі навучалася ад 100 да 400 чал Сярод нетэалагічных прадметаў былі філасофія, рыторыка, піітыка (паэтыка), сінтаксіка, гісторыя, геаграфія, медыцына, мовы лац, ням, франц, старaж-яўрэйская Навуч праграма дапаўнялася правядзеннем дыспутаў, харавымі спевамі, паказам трагедый Праўленню семінарыі падпарадкоўваліся Гомельскае, Невельскае, з 1807 Бабалуцкае духоўныя вучылішчы У 1820 М д с прылічана да 2-га разраду, уключана ў акругу С-Пецярбургскай духоўнай акадэміі, тады ж прыняты статут, паводле якога семінарыяй кіравалі рэктар і інспектар (напачатку прэфект) Сярод рэктараў былі архімандрыты Іаасаф (1798—1803), Феафан Раманоўскі (1804—07), іераманах Нікадзім (1808—09), архімандрыты Юстын (1810—12), Іосіф (1813), протаіерэй Міхаіл Багуслаўскі (1814), архімандрыты Венядзікт Грыгаровіч (1814—21), Мялецій Леантовіч (1821—23), Аркадзь (1823—24), Мітрафан Краснапольскі (1902—07), протаіерэй М Зефіраў (1911) Семінарыя атрымлівала з казны з 1780 штогод 2,5 тыс руб, з 1788 — 3,5 тыс, потым 7 тыс, з 1820 — 26 650 руб У 1912/13 навуч г ў семінарыі было 205 вучняў і 9 вольных слухачоў, у т.л 147 дзяцей святароў Пры семінарыі дзейнічала ўзорная царк.-прыходская школа, у якой навучаліся 36 хлопчыкаў На 1 9 1916 адм-пед персанал семінарыі складаўся з рэктара, інспектара, 2 памочнікаў інспектара і 12 выкладчыкаў (з іх 2 святары)

*Літ* Грыгаровіч І І Беларуская іерархія Мн, 1992 С 31—35 *Ігар Пушкін*

**МАГІЛЁЎСКАЯ ПА́РТЫЯ РУ́СКІХ ЛЮДЗЕ́Й**, руская нацыяналіст арг-цыя ў 1905—06 Створана ў кастр 1905 пры Магілёўскім брацтве Сац база партыі — сялянства і правасл духавенства Мела на мэце аб'яднаць «рускіх людзей» напярэдадні выбараў у Дзярж думу Выступала за прадастаўленне вышэйшых дзярж пасад толькі рускім, супраць рэв вырашэння паліт-эканам пытанняў У лют 1906 налічвала каля 10 тыс членаў пераважна з Магілева і Магілёўскай губ Друкавала і распаўсюджвала адозвы, лістоўкі *Таццяна Процька*

**МАГІЛЁЎСКАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЕПАРХІЯ** Утворана 1 11 1632 па ініцыятыве мітрапаліта Пятра *Магілы* як адзіная правасл епархія на Беларусі (усе астатнія былі пераведзены ва унію), падпарадкоўвалася *Кіеўскай мітраполіі*, кафедра — у г Магілёў У 1633 зацверджана прывілеем караля Рэчы Паспалітай Уладзіслава IV Першы епіскап *Іосіф* (Бабрыковіч-Капет-Аняхожскі) жыў у Вільні У 1647—50 магілёўскай кафедрай валодалі уніяты, потым зноў праваслаўныя У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 тэр епархіі падпарадкоўвалася полацкім епіскапам, якія прызначаліся Маскоўскай патрыярхіяй З 1675 наз таксама Беларускай, потым назвы неаднаразова мяняліся Епіскапы павінны былі зацвярджацца каралем Рэчы Паспалітай (без такога зацвярджэння наз нарачонымі епіскапамі — намінатамі) Пасля пераходу Кіеўскай мітраполіі пад юрысдыкцыю Маскоўскай патрыярхіі (1685) магілёўскіх епіскапаў прызначала Масква, але паранейшаму зацвярджала каралеўская ўлада У 1718 у М п е былі манастыры Ахорскі, Буйніцкі, Горацкі, Віцебскі, Грывецкі, Дзісенскі, Друйскі, Крыжборскі, Куцеінскі, Магілёўскі, Мсціслаўскі, Невельскі, Полацкі, Саламярэцкі, Шклоўскі мужчынскія, Баркалабаўскі, Касцюкоўскі, Куцеінскі, Мазалаўскі жаночыя У 1740—50-я г ў выніку ганенняў на праваслаўе колькасць прыходаў значна скарацілася, у 1755 зроблена спроба зачыніць кафедру Вял намаганні для захавання дзейнасці епархіі зроблены епіскапам Георгіем *Каніскім* Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай 1772 і ўваходжання Магілёва ў склад Рас імперыі М п е ў 1774 Указам Свяцейшага Сінода залічана да 2-га класа З заснаваннем у 1793 *Мінскай праваслаўнай епархіі* і аднаўленнем у 1833 стараж *Полацкай праваслаўнай епархіі* М п е ахоплівала толькі тэр Магілёўскай губ У 1830—40-я г ўсе уніяты ў епархіі былі пераведзены ў праваслаўе, у т л і прымусовымі мерамі, закрываліся таксама стараверскія цэрквы З 1883 М п е стала выдаваць *«Могилевские епархиальные ведомости»* У 1892 у епархіі было 1360 царк -прыходскіх школ, 6 двухкласных царк -настаўніцкіх школ з агульнай колькасцю навучэнцаў больш за 30 500 чал У 1911 было 40 благачынных акруг па 4—20 цэркваў у кожнай, 828 храмаў, у т л 7 сабораў, 11 цэркваў пры мужчынскіх і 15 пры жаночых манастырах, 549 прыходскіх цэркваў, 15 цэркваў пры казенных і богаўгодных установах, 94 — пры могілках, 46 малітоўных дамоў, манастыроў 12 (6 мужчынскіх і 6 жаночых) Духавенства і царк -служыцеляў налічвалася 38 протаіерэяў, 540 святароў, 93 дыяканы, 533 псаломшчыкі, манахаў 91, паслушнікаў 134, манашак 113, белиц 421, паствы 1 624 000 чал Працавалі 533 царк б-кі, 2 бальніцы пры манастырах, 5 — пры цэрквах, 3 багадзельні пры манастырах У падпарадкаванні епархіі быў адзін храм аднаверцаў

**Магілеўская праваслаўная епархія**
Архірэйскі палац

(прыхільнікі стараверства, якія захавалі сваю абраднасць, але былі падначалены іерархіі правасл царквы) У 1897 па ініцыятыве краязнаўца Е Р Раманава адкрыта епархіяльнае сховішча старажытнасцей, пераўтворанае ў 1904 у царк -археал музей, у 1909 у ім было 1650 экспанатаў, 504 наведвальнікі ў год У 1920—30-я г епархіяй кіравалі абнаўленцы, якія стварылі ў 1924 *Беларускую аўтаномную праваслаўную царкву* У сярэдзіне 1930-х г яе прыходы перайшлі пад юрысдыкцыю кананічнай Мінскай епархіі, М п е з-за жорсткай антырэліг палітыкі ўлад фактычна спыніла дзейнасць У сак 1942 епархія аднаўлена ў складзе *Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы* Пасля Вял Айч вайны епіскапы ў епархію не прызначаліся У 1989 дзейнасць епархіі адноўлена ў межах Магілёўскай вобл , у 1997 былі 52 царквы

Тытул кіруючых архірэяў — епіскапаў М п е у 1632—75 Магілёўскі, аршанскі і мсціслаўскі, у 1675—1772 магілёўскі і беларускі, у 1772—95 магілёўскі, аршанскі і мсціслаўскі, епархія наз Беларускай, у 1795—97 магілёўскі і полацкі, у 1797—1803 — беларускі і магілёўскі, у 1803—33 магілёўскі і віцебскі, у 1833—1919, 1942—44, з 1989 магілёўскі і мсціслаўскі М п е кіравалі Іосіф (Бабрыковіч-Капет-Аняхожскі, 1632—34), Сільвестр *Косаў* (1634—47), *Ігнацій* (Аксяновіч-Старушыч, 1650), *Іосіф* (Кананові-Гарбацкі, 1650—53), Іосіф (Нелюбовіч-Тукальскі, 1661—64), Феадосій (Васілевіч, 1664—78), Клімент (Трызна, намінат, 1680—88), Сільвестр (Ваўчанскі, намінат, 1688—91), Серафім [(Серапіен) Палхоўскі, 1691—1704, з 1697 епіскап], Сільвестр (Чацвярцінскі, 1704—28), Арсеній (Бярло, не зацверджаны каралем, 1728—32), *Іосіф* (Ваўчанскі, 1732—42), *Іеранім* (Ваўчанскі, 1742—54), Георгій (Р Каніскі, 1755—95), Афанасій (Вальхоўскі, 1795—97), Іларыен (Кандраткоўскі, 1797), Анастасій (А.С Раманенка-Братаноўскі, 1797—1805), *Варлаам* (Р Шышацкі, 1805—12), Ірыней (епіскап смаленскі, часова в а 1812—13), Даніл Мірдамскі (Натон-Міхайлоўскі, 1813—21), Іаасаф (Срэценскі, 1821—27, архіепіскап), Павел (Мораў, 1827—31), Гаўрыіл (Гарадкоў, 1831—37, з 1833 архіепіскап), Смарагд (Крыжаноўскі, 1837—40), Ісідор (Нікольскі, 1840—44, з 1841 архіепіскап), Анатоль (Мартыноўскі, 1844—60, з 1853 архіепіскап), Яўсевій (Армінскі, 1860—82), Віталій (Грачулевіч, 1882—85), Сергій (Спаскі, 1885—92, з 1892 архіепіскап), Ірыней (Орда, 1892—93), Яўген (Шарашылаў, 1893—96), Місаіл (Крылоў, 1896—1904), Стафан (Архангельскі, 1904—11), Канстанцін (Булычоў, 1911—19), Феадосій (да 1932), Філафей (Нарко, 1942—44), Максім (Кроха, з 1989 архіепіскап)

*Літ* Мартос А. Беларусь в историчес кой государственной и церковной жизни [репр изд.] Мн , 1990, Грыгаровіч І І Беларуская іерархія Мн , 1992 *Ігар Пушкін*

**МАГІЛЁЎСКАЯ ПРАВІНЦЫЯ**, адм -тэр адзінка ў Магілеўскай губ ў 1772—76 Цэнтр — г Магілёў Паводле ўказа ад 22 7 1773 падзялялася на тры паветы Быхаўскі (Старабыхаўскі), Магілёўскі, Шклоўскі (створаны на аснове Астраўлянскай, Любавіцкай, Макрэдскаи, Мікулінскай, Обальскай, Руднянскай, Сенненскай парафій Пл каля 700 тыс дзес Уваходзіла 19 мястэчак (больш за 10 тыс чал мужчынскага полу, у т л 2,9 тыс яўрэяў), 61 сяло, 627 весак (каля 164 тыс чал падатковага насельніцтва, у т.л 13,2 тыс яўрэяў) З 66,7 тыс сялян мужчынскага полу 26,1 тыс належала памешчыкам, 1,9 тыс — духавенству, астатнія — дзяржаве На тэр правінцыі знаходзілася *Магілеўская эканомія* Бунейшыя прыватныя ўладанні — Быхаўскае графства (належала кн А Сапегу), Шклоўскае графства (належала кн А Чартарыжскаму)

*Яўген Аншчанка*

**«МАГІЛЁЎСКАЯ ПРАЎДА»**, грамадска-паліт газета Выдаецца з 10(23) 1 1918 у Магілеве Гал тэматыка — грамадска-паліт , сац -эканам і духоўныя працэсы ў Беларусі і Магілеўскай вобл Выходзіць 2 разы на тыдзень на бел і рус мовах У 1918 спачатку (№ 1—10) выходзіла пад назваи «Известия Могилевского Совета рабочих и солдатских депутатов», з № 11 — *«Известия Могилевскаго губернского исполнительного комитета Советов крестьянских, солдатских и рабочих депутатов»* У час акупацыі Магілева ням войскамі (сак —кастр 1918) не выходзіла Пасля вяртання ў горад у кастр 1918 часцей Чырв Арміі выданне адноўлена У ліст —снеж 1918 выдавалася як «Известия Могилевского губернского революционного комитета» Са студз 1919 наз «Соха и молот», з 10 10 1924 — «Магілёўскі селянін», з ліст 1929 да 1941 — «Камунар Магілеўшчыны» У Вял Айч вайну — орган *Магілеўскага падпольнага абкома*

*КП(б)Б*, выходзіла ў падполлі пад назвай «За Радзіму» (№ 1 выйшаў 24 3 1943), да дня вызвалення Магілева (чэрв 1944) выйшаў 41 нумар Назву «За Радзіму» захавала да 1956 З 12 8 1956 «Магілеўская праўда» З 1991 выдаецца як незалежная абл газета, заснавальнікам якой з'яўляецца калектыў рэдакцыі *Аляксандр Тарпачоў*

**МАГІЛЁЎСКАЯ РЫ́МСКА-КАТАЛІ́ЦКАЯ АРХІЕПА́РХІЯ**, Магілеўская арцыдыяцэзія, царкоўна адм адзінка каталіцкай царквы ў 18—20 ст Створана як Беларуская рымска каталіцкая епархія (дыяцэзія, біскупства) з цэнтрам у Магілеве паводле ўказа рас імператрыцы Кацярыны II ад 22 11 1773 пасля 1 га падзелу Рэчы Паспалітай, і ўключала тэрыторыі, далучаныя да Рас імперыі З 1778 у Магілеве дзейнічала духоўная семінарыя, разлічаная на 20 навучэнцаў, акрамя яе ў складзе епархіі пазней дзейнічалі семінарыі ў Беластоку, Звінагродку, Краслаўцы Указам ад 17 1 1782 епархія пераўтворана ў Магілеўскую архіепархію, што пацверджана высачэйшай граматай ад 11 11 1783 Вышэйшым кіруючым органам быў *капітул* з 12 *прэлатаў* і *канонікаў*, для вырашэння бягучых адм спраў была створана кансісторыя Архіепіскап з канца 1797 пераехаў у Пецярбург Ён узначальваў сталічную рымска-каталіцкую духоўную калегію (засн ў 1801, падпарадкоўвалася міністру ўнутр спраў) і з'яўляўся мітрапалітам усіх рымска-каталіцкіх цэркваў Рас імперыі Паводле ўказа ад 28 4 1798 у склад архіепархіі ўвайшлі не толькі Бел і Кіеўская губ, але і ўсе касцёлы, якія былі на тэр Рас імперыі да 1793 (2-га падзелу Рэчы Паспалітай) Магілеўская архіепархія ўключала 27 дэканатаў на тэр Беларусі і Украіны Аршанскі, Бабінавіцкі, Быхаўскі, Бялыніцкі, Віцебска-Веліжска-Суражскі, Дрысенскі (Дзярновіцкі), Дынабургскі, Звінагродскі, Кіеўскі, Копыскі, Ланцкаронны, Лепельскі, Ліпавецкі, Люцынскі, Магілеўскі, Мсціслаўскі, Новарасійскі, Невельскі, Полацкі, Рагачоўскі, Радамысленскі, Рэжыцкі, Себежскі, Сенненскі, Сквірскі, Смаленскі, Чавуска-Чэрыкаўскі Пры наступных рэарганізацыях былі далучаны дэканаты Беластоцкай вобл, Пецярбурга і Масквы У 1804 у склад архіепархіі ўваходзіла 159 парафій з 204 касцёламі, 78 ксяндзамі, 524 манахамі і 44 манашкамі, 223 936 вернікамі У 1858 было 165 парафій і 14 філіялаў з 266 ксяндзамі і 369 753 вернікамі У 1842 архіепархіі нададзены 1-ы клас У 1846 на яе тэрыторыі заставаліся мужчынскія (3 дамініканцаў, 1 бернардзінцаў, 2 капуцынаў) і жаночыя (3 марыявітак і 1 бенедыкцінак) кляштары У 1882 у М р-ка ўваходзілі 121 прыходскі і 23 філіяльныя касцёлы, 217 капліц, быў 281 ксендз, 439 229 прыхаджан, заставаўся адзіны кляштар — Англонскі дамініканцаў у Віцебскай губ з 6 манахамі У 1883 Магілеўскай архіепархіі падпарадкаваны касцёлы і Слонімскі кляштар бернардзінак б *Мінскай рымска-каталіцкай епархіі* У 1914 у архіепархіі 31 дэканат, 309 парафій, 455 ксяндзоў, 1 155 526 прыхаджан У духоўных семінарыях вучылася 145 чал У розны час архіепархію ўзначальвалі С *Богуш-Сестранцэвіч* (1772—12 4 1783 — епіскап, 13 4 1783—1 12 1826 — архіепіскап), епіскап В Ясенчык-Каменка (14 12 1826—27 11 1828 і 1 1 1833—28 4 1839), архіепіскап К Калумна-Цецішоўскі (23 6 1828—16 4 1831), прэлат Я Шчыт (28 1 1829—1 1 1833), архіепіскап І Корвін-Паўлоўскі [28 4 1839 (1 3 1840)—20 6 1842], прэлат М.Ласкі (30 6 1842—28 11 1848), архіепіскап К Дмахоўскі (28 11 1848—11 1 1851), архіепіскап І Галавінскі (11 1 1851—7 10 1855), А Фіялкоўскі (23 10 1855—9 12 1856 — інфулат, 4 6 1872—30 1 1883 архіепіскап), архіепіскап В Жылінскі (9 12 1856—23 4 1863), епіскап Ю Станеўскі (7 5 1863—29 11 1871), епіскап Е Івашкевіч (9 12 1871—4 6 1872), прэлат А Даўгяла (10 2 1883—1 5 1883 і 22 8 1889—15 3 1892), архіепіскап А *Гінтаўт-Дзевалтоўскі* (1 5 1883—14 8 1889), архіепіскап Ш Казлоўскі (15 3 1892—14 11 1899), епіскап К Недзялкоўскі (20 11 1899—10 6 1901), архіепіскап Б Клапатоўскі (10 6 1901—11 2 1903), С.*Данісевіч* (17 2 1903—9 5 1904 і 30 7 1905—23 11 1908 прэлат, 29 5 1909—10 5 1910 епіскап), архіепіскап граф Е Шэмбек (9 5 1904—26 7 1905), архіепіскап А Унукоўскі (23 11 1908—21 5 1909), архіепіскап В Ключынскі (10 5 1910—6 8 1914), епіскап Я Цэпляк (6 8 1914—2 12 1917, 29 4 1919—сак 1923), архіепіскап барон Э *Роп* (2 12 1917—1919) У 1920-я г ў сувязі з тэр зменамі і антырэліг палітыкай сав улад дзейнасць архіепархіі фактычна спынілася На тэр Зах Беларусі былі створаны новыя епархіі Функцыі кіраўніка Магілеўскай архіепархіі ў СССР у 1926—36 выконваў П Э Неве У 1991 утворана Мінска-Магілеўская архіепархія з кафедрамі ў Мінску і Магілеве, архіепіскап — кардынал К Свентак

*Літ* Бакулов А Пи-Эжен Невё — свидетель трагедии // Наука и религия 1990 № 2—3, Wasilewski J Arcybiskupi i administratorowie archidiecezji Mohylowskiej Pinsk, 1930, Kumor B Początki i organizacja kapituły metropolitalnej w Mohylowie nad Dnieprem // Roczniki Teologiczno-kanoniczne 1975 T XXII, z 4, Kumor B Ustrój i organizacja kościoła polskiego w okresie niewoli narodowej (1772—1918) Kraków, 1980

*Валянціна Грыгор'ева, Алена Філатава*

**МАГІЛЁЎСКАЯ ХРО́НІКА**, помнік гарадскога летапісання 17—19 ст, апошні бел летапісны звод Складзена ў Магілеве купецкім старастам Трафімам Суртам (у 1693 склаў 1-ы летапіс, які дапаўняў да 1701, звесткі за 1526—1701) і рэгентам гар канцылярыі Юрыем Трубніцкім (звесткі за 1701—46), прадоўжана сынам апошняга Аляксандрам і ўнукам Міхаілам (да 1856) Напісана па-польску, запісы за 1841—56 па-руску Найб навук і гіст-літ каштоўнасць мае частка, напісаная першымі двума храністамі (звесткі за 1526—1746), якая зберaглася ў рукапісе, датаваным 1747 (лісты запісаў за 1705 і 1710—44 згублены) Крыніцамі хронікі паслужылі розныя летапісныя запісы і ўспаміны сучаснікаў, матэрыялы магілеўскага архіва, хронікі А Гваньіні і М Стрыйкоўскага, Кіеўскі сінопсіс, асабістыя назіранні аўтараў У хроніцы адлюстравана сац-паліт, гасп-эканам і культ жыццё Магілева эпохі позняга феадалізму Сведчыць аб высокім узроўні развіцця бел горада ва ўмовах гар самакіравання Змяшчае матэрыял па гісторыі Беларусі, Літвы, Украіны, Польшчы, Расіі 16—19 ст Запісы пра падзеі перыяду Паўн вайны 1700—21 паказваюць цяжкае становішча горада і яго жыхароў Створаны вобразы Пятра I, Карла XII, Меншыкава, Мазепы, бел шляхціца Сініцкага і інш Многія старонкі М х напоўнены сац палітэкстам, прасякнуты крытычным стаўленнем да феадалаў і гар буржуазіі, спачуваннем простаму чалавеку, нянавісцю да іншаземных захопнікаў (асабліва хроніка Ю Трубніцкага) Аўтары, у значнай ступені паланізаваныя бел мяшчане, не страцілі сувязі з нар традыцыямі і апіраліся на бел культ спадчыну У хроніцы змешчаны таксама шэраг літ твораў 1-й пал 18 ст (вершаваны пасквіль на польск кардынала М Радзяеўскага, алегарычная сатыра «Карнавал іншаземны ў Польшчы» і інш ) Паводле жанравай формы М х — летапіс, які месцамі пераходзіць у дзеннік горада Складаецца з кароткіх пагадовых запісаў і разгорнутых апавяданняў пра значныя гіст падзеі і асобныя моманты з жыцця герояў М х — каштоўны збор арыгінальных, нярэдка унікальных звестак па гісторыі бел зямель, багатая крыніца пазнання жыцця бел горада эпохі барока, асабліва Магілева Як літ помнік — гіст аповесць дакументальна-мемуарнага характару, вылучаецца жывасцю і дэталевасцю апавядання, рэдкай для летапісаў набліжанасцю аўтараў да аб'екта апісання Часткова апублікавана ў 19 ст ў перакладзе на рус мову, частка (да 1746) змешчана ў *Поўным зборы рускіх летапісаў* (т 35, 1980) Рукапіс зберагаецца ў Расійскай нац б-цы ў С-Пецярбургу Грунтоўна не даследавана

*Літ* Чамярыцкі В А. Мясцовае летапісанне Беларусі XVII—XVIII стст (Магілёўская хроніка) // Весці АН БССР Сер грамад навук 1979 № 4, Филипович И И Из истории Могилевской хроники XVII—XVIII стст // Книга в Белоруссии Книговедение, источники, библиогр Мн, 1983 Вып 2, Улащик Н Н Введение в изучение белорусско-литовского летописания М, 1985 С 173—203

*Вячаслаў Чамярыцкі*

**МАГІЛЁЎСКАЯ ХРО́НІКА СПА́СКАГА МАНАСТЫРА́**, гістарычна-літаратурны твор Складзена ў *Магілёўскім Спаскім манастыры* невядомым аўтарам каля 1755 У хроніцы апавядаецца гал ч пра рэлігійную гісторыю Магілева 1526—

Антонія, у 1705 — жылы корпус У 1720-я г узведзены мураваны касцел, у якім было 7 алтароў, у т л гал алтар св Антонія з цудадзейным абразом У 1760-я г касцел рэстаўрыраваны у 1813 пастаўлены новы арган У 1864 кляштар зачынены, манахаў перавялі ў Крэтынгу (Літва) і ў Мінск Будынкі пацярпелі ў час Вял Айч вайны, пазней знесены

*Аляксандр Ярашэвіч*

**МАГІЛЁЎСКІ КЛЯШТАР КАРМЕЛІТАЎ** Існаваў у 1633 — каля 1831 Узнік як філіял *Бялыніцкага кляштара кармелітаў*, калі кароль Рэчы Паспалітай Уладзіслаў IV 10 9 1633 даў дазвол бялыніцкім кармелітам купляць дамы і пляцы ў Магілеве для пабудовы касцела і кляштара (адна са сцэн размалёвак касцела ілюструе гэту падзею) У 1687 было 6 манахаў Паводле інвентара 1692 у кляштары быў абраз Маці Божай, які лічыўся цудатворным У 1738—52 пабудаваны мураваны касцел Успення Дзевы Марыі, размаляваны ў 1765—67 У 1783 касцел стаў кафедральным саборам *Магілёўскай рымска-каталіцкай архіепархіі*, біскуп С І *Богуш-Сестранцэвіч* асвяціў яго ў гонар св Станіслава У 1818 жылы корпус быў драўляны Каля 1831 кармеліты, верагодна, пакінулі Магілеў Пасля 1860 касцел стаў парафіяльным і атрымаў б назву У 20 ст ў ім размяшчаўся гістарычны (з 1935), потым Дзярж архіў Магілеўскай вобл (1964—86) У 1990 касцел зноў стаў дзеючым, з 1991 кафедральны сабор Мінска-Магілеўскай архіепархіі Помнік архітэктуры рэсп значэння

*Аляксандр Ярашэвіч*

**МАГІЛЁЎСКІ МУЗЕЙ** Існаваў у Магілеве з 15 11 1867 пры Магілеўскім губ стат к-це Развіццю музея спрыяў магілеўскі губернатар А С *Дамбавецкі* Збіраліся экспанаты на тэр Магілеўскай губ па сельскай гаспадарцы і прамысловасці, вырабы фабрык і з-даў, а з 1868 таксама па заалогіі, гісторыі, узоры карысных выкапняў У 1878 губернскі музей меў гістарычны, этнаграфічны і геаграфічны (геалагічны) аддзелы якія ўключалі раней сабраныя прадметы і незапатрабаваную частку калекцый с -г і этнагр вырабаў, падрыхтаваных для антрапалагічнай выстаўкі 1879 з Магілеўшчыны ў Маскве Да 1896 меў каля 700 экспанатаў У гіст аддзеле зберагаліся калекцыя манет 10—19 ст (больш за 500 экз ), кальчуга і ўпрыгожанні з раскопак Анэлінскага кургана Быхаўскага пав , рукапіснае Евангелле 15 ст , акты Магілеўскага магістрата 1577—1756, грамата 1606 караля Рэчы Паспалітай Жыгімонта III Вазы Чарэйскаму касцелу, «Лексікон славянарос кі», надрукаваны ў 1654 у *Куцеінскай друкарні*, прыходна-расходныя кнігі Магілева за 1683—1706, сімвалічныя ключы Магілева работы мясц майстроў 18 ст , грамата 1767 караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага аб пацвярджэнні Мсціславу магдэбургскага права, троннае крэсла Кацярыны II з Магілеўскага дарожнага палаца, сані Напалеона, кінутыя ім у час уцекаў з Расіі, атлас 1823 з планамі гарадоў Магілеўшчыны і інш Сярод экспанатаў этнагр аддзела мадэлі сялянскага двара Рагачоўскага пав і ветрака, батлейка з Быхаўскага пав , прылады працы і побыту сялян, прадметы саматужнай і заводскай вытворчасці, нар адзенне, дзіцячыя цацкі У геагр аддзеле экспанаваліся ўзоры глеб, драўняных парод, гербарыі і інш Музейныя калекцыі вывучалі і сістэматызавалі гісторыкі-краязнаўцы М В *Фурсаў*, Е Р *Раманаў*, С Ю *Чалоўскі* Фурсаў падрыхтаваў і выдаў «Вопіс Магілеўскага музея» (2-е выд , 1898) Калекцыі музея сталі асновай гіст музея (гл ў арт *Магілёўскі абласны краязнаўчы музей*)

*Людміла Кандрацьева*

**Магілёўскі кляштар кармелітаў** Размалёўка галоўнага нефа касцёла

**МАГІЛЁЎСКІ НАСТАЎНІЦКІ ІНСТЫТУТ**, спецыяльная навуч ўстанова ў Магілеве ў 1913—18 для падрыхтоўкі настаўнікаў вышэйшых пач вучылішчаў Утвораны 1 7 1913 Тэрмін навучання — 3 гады Яго адкрыццю спрыялі мясц гар і земскія ўстановы У пед раду ін-та ўваішлі У М Тычынін (дырэктар), В П Сакалоў, Я С Аляхновіч, М Р Рудкеў, Я І Тэадаровіч і інш Выкладаліся агульнаадук і пед дысцыпліны, факультатыўна — замежныя мовы Паводле статута лічыўся сярэдняй навуч установай, аднак выкладчыкі арыентавалі слухачоў на праграмы і падручнікі вышэйшай школы (асабліва ў пед і гуманітарных дысцыплінах) У 1915—16 большасць навучэнцаў мабілізавана ў армію, частка памяшканняў ін-та занята пад патрэбы ваен -дыпламат місіі краін Антанты У крас 1917 частка выкладчыкаў удзельнічала ў стварэнні *Магілеўскага беларускага камітэта*, а Аляхновіч ад пед рады дэлегаваны на Усебел з'езд 1917 З восені 1917 уведзена спецыялізацыя (гл *Настаўніцкія інстытуты*) У час ням акупацыі праведзены іспыты і набор слухачоў на 1-ы курс 16 12 1918 пераўтвораны ў Магілеўскі пед ін-т (гл *Магілеўскі дзяржаўны універсітэт*)

*Уладзімір Ляхоўскі*

**МАГІЛЁЎСКІ ПАВЕТ** Існаваў у 1773—1924 Утвораны 22 7(2 8) 1773 у складзе Магілеўскай правінцыі, з 22 3(2 4) 1777 — у Магілеўскай губ У 1794 павет пашыраны за кошт тэр на правым беразе р Друць, далучанай у выніку 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) З 12(23) 12 1796 да 27 2(11 3) 1801 уваходзіў у Беларускую губ , пры гэтым да яго далучана значная частка скасаванага Копыскага пав З 27 2 1802 зноў у Магілеўскай губ з аднаўленнем папярэдніх межаў У 1861 невял частка тэр на ПнУ ад Магілева перададзена ў Горацкі пав З 1861 М п падзяляўся на 13 валасцей Бялыніцкую, Вейнянскую, Вендаражскую, Княжыцкую, Круглянскую, Нежкаўскую, Палыкавіцкую, Паўлавіцкую, Таўпечынскую, Царкавішчанскую, Цяцерынскую, Чарнаруцкую, Шклоўскую, меў 10 мястэчак Буйнічы, Бялынічы, Галоўчын, Друцк, Княжычы, Круглае, Круча, Цяцерын, Шапялевічы, Шклоў Пл 3425 км$^2$, (каля 300 тыс дзесяцін), у т л 79,5 тыс дзесяцін ворыва, 25,6 тыс дзесяцін сенажацяў, 73 тыс дзесяцін пашаў і няўдобіц, 122,3 тыс дзесяцін лясоў, 12,8 тыс дзесяцін балот Нас 120,5 тыс чал (1885) Існавалі 81 праваслаўны і 3 каталіцкія прыходы (2 у Магілеве і 1 у Шклове) З 6 10 1919 па 10 8 1920 у М п уваходзілі Брадзецкая і Пагосцкая воласці Ігуменскага пав , з 4 5 1922 — Голенеўская, Радамская, Сухараўская, Чавуская і Чэрнеўская воласці скасаванага Чавускага пав , з 27 6 1922 — Нічыпаравіцкая вол Горацкага пав , з 14 2 1923 — Гарадзішчанская, Глухаўская, Грудзінаўская і Старабыхаўская воласці скасаванага Быхаўскага пав , 9 5 1923 — Даўгамох

ская воласць Чэрыкаўскага пав Пасля ўзбуйнення валасцей у 1923 замест 24 іх засталося 15 3 3 1924 М п перададзены з РСФСР у БССР, 17 7 1924 скасаваны, тэрыторыя падзелена паміж Аршанскай, Калінінскай і Магілеўскай акругамі *Вячаслаў Насевіч*

**МАГІЛЁЎСКІ ПАДПО́ЛЬНЫ АБКО́М КП(б)Б** у Вялікую Айчынную вайну Арганізацыяй падп парт органаў з чэрв 1942 займаўся адноўлены ў Маскве Магілеўскі абком КП(б)Б М п а КП(б)Б створаны ЦК КП(б)Б на тэр Магілеўскай вобл, працаваў пад яго кіраўніцтвам з 2 4 1943 да 30 6 1944 Узначальваў 18 падп райкомаў (гл ў арт *Раённыя падпольныя камітэты КП(б)Б*), якія аб'ядноўвалі 164 пярвічныя парт арг-цыі, 3672 камуністы ў партыз фарміраваннях 14 райкомаў выдавалі газеты Для аператыўнага кіраўніцтва дзейнасцю партыз фарміраванняў у 1943 стварыў *ваенна-аператыўныя групы* (ВАГ) Накіроўваў дзейнасць Магілеўскіх падп абкома ЛКСМБ, партыз злучэння, патрыят падполляў (Магілеўскага, Бабруйскага і ў інш нас пунктах) Сакратары абкома ў розныя часы Дз С *Мачанскі*, М В *Шпак*, члены І М *Кардовіч*, М П *Каралёў*, І А *Матыль*, І П Сакалоўскі, П В Яхантаў, М І Кудзін, Я І Заяц, С Г *Сідарэнка-Салдаценка*, Г Л Комар, І П Станкевіч Друк орган — газ «За Радзіму», выдаваў лістоўкі, адозвы, зводкі Саўінфармбюро, арганізоўваў палітмасавую работу сярод насельніцтва Базіраваўся ў Клічаўскім р-не 3 чэрв 1942 арганізацыяй падп парт органаў на Магілеўшчыне займаўся адноўлены ў Маскве Магілеўскі абком КП(б)Б, па ініцыятыве якога ў жн 1942 створаны Бабруйскі падп міжрайком КП(б)Б, які на месцы падбіраў кадры, арганізоўваў падп райкомы КП(б)Б У гонар падп абкома і Клічаўскай ВАГ каля в Усакіна Клічаўскага р-на ўстаноўлены мемар знак *Анатоль Кузняеў*

**МАГІЛЁЎСКІ ПАДПО́ЛЬНЫ АБКО́М ЛКСМБ** у Вялікую Айчынную вайну Створаны ЦК ЛКСМБ 18 7 1942, дзейнічаў на тэр Магілеўскай вобл са жн 1942 да 28 6 1944 пад кіраўніцтвам ЦК ЛКСМБ і *Магілеўскага падпольнага абкома КП(б)Б* Кіраваў работай падп Бабруйскага міжрайкома, Бабруйскага і Магілеўскага гаркомаў ЛКСМБ, 20 падп райкомаў камсамола (гл ў арт *Раённыя падпольныя камітэты ЛКСМБ*), 266 тэрытарыяльных падп і 266 пярвічных камсамольскіх арг-цый у партыз фарміраваннях усяго больш за 8400 чал Сакратары абкома ў розныя часы І А *Матыль*, П Ф *Валожын*, Ф М *Іванаў*, В С Даўжанкова, І В Дубіеў, П Я *Астапенка*, члены Даўжанкова, А П Касцевіч, Дубіеў, В А Барабашкіна, М П Андрэева, М Ф Сутака, П Я Мякоценка, А С Дайнека, С Я Янчанка, інструктары-сувязныя А П Вашчылава, Л І Гесць Асн база знаходзілася ў Клічаўскім р-не *Рыгор Шавяла*

**МАГІЛЁЎСКІ ПАДПО́ЛЬНЫ РАЁННЫ КАМІТЭ́Т РКП(б)** у гады грамадзянскай вайны Існаваў з мая да кастр 1918 у час акупацыі Беларусі ням войскамі Падпарадкоўваўся Паўн -Зах абл к-ту РКП(б) Старшыня А А *Брэгман* Узначальваў Магілеўскую гар, Быхаўскую (старшыня к та М І Сарокін) і Шклоўскую (П І Сямёнаў) падп падраенныя арг-цыі, якія аб'ядноўвалі 273 камуністы Кіраваў парт падполлем і партыз рухам паліт работай сярод насельніцтва на тэр Быхаўскага, Магілеўскага і Шклоўскага пав *Мікалай Сташкевіч*

**МАГІЛЁЎСКІ ПЯХО́ТНЫ ПОЛК**, вайсковая часць рас арміі ў 1805—1918 Сфарміраваны 28 8(9 9) 1805 з батальёнаў Ялецкага і Навагінскага палкоў як мушкецерскі полк, з 1811 — пяхотны Меў нумарацыю з 1829 — 34 ы з 1833 — 14-ы, з 1856 — 26-ы М п п Удзельнічаў у большасці войнаў, якія вяла Расія ў 19 — пач 20 ст Баявую дзейнасць пачаў у руска-пруска-франц вайну 1806—07, дзе вызначыўся ў бітве пры Пройсіш-Эйлаў 26—27 1(7—8 2) 1807 і пры абароне Данцыга (Гданьска) у лют —маі 1807 Удзельнічаў у руска-шведскай вайне 1808—09 У вайну 1812 найб паказаў сябе ў *Клясціцкіх баях 1812* і ў час *Бярэзінскай аперацыі 1812* каля в Студзенка (Барысаўскі р-н) у складзе 1-га корпуса П Х Вітгенштэйна У замежных паходах 1813—14 полк вызначыўся 27 1(8 2) 1814 у бітве пры Бар-Сюр Об (Францыя) і пры штурме Парыжа 18(30) 3 1814 У рус -турэцкай вайне 1828—29 у ліп —вер 1828 ён удзельнічаў у аблозе крэпасці Варна (Балгарыя) Удзельнічаў у задушэнні *паўстання 1830—31* і венгерскай рэвалюцыі 1848—49, дзе ў ліп 1849 атрымаў перамогу пад г Вайцэн У Крымскую вайну 1853—56 ваяваў пад Ізмаілам (лют 1854), вызначыўся пры абароне Севастопаля (ліп —жн 1855) і ў бітве на р Чорная 16(28) 8 1855 У час *паўстання 1863—64* дзейнічаў у Польшчы ў раёне г Радам (сак —жн 1863) У І ю сусв вайну М п п да сак 1916 у складзе 7 й пях дывізіі 10-й арміі ўдзельнічаў у баях на Зах фронце на лініі Крэва—Любча, у маі—чэрв 1916 на Паўд -Зах фронце ў Брусілаўскім прарыве 1 3 1918 па рашэнні сав ўрада полк расфарміраваны

*Літ* Иванов Ю С Могилевский 26-й пехотный полк // Иванов Ю С Боевая летопись белорусских полков Мн 1994

*Шамиль Бекцінееў*

**МАГІЛЁЎСКІ РАЁН** Размешчаны ў цэнтры Магілеўскай вобл Пл 1,9 тыс км² нас (без Магілева) 49,8 тыс чал (1997) *Цэнтр — г Магілеў* Паверхня раўнінная большая частка тэрыторыі занята Цэнтральнабярэзінскай раўнінай ва ўсх і паўн ўсх частцы — Аршанска-Магілеўскай раўнінай Рака Дняпро з прытокамі Вільчанка, Паўна Дубравенка, Лахва, на З — Друць, на У — Раста Пад лесам 26% тэрыторыі Магілеў — вузел чыгунак на Асіповічы, Оршу, Крычаў, Жлобін, аўтадарог на Бабруйск, Мінск, Оршу Чэрыкаў Гомель Суднаходства па Дняпры

Раён утвораны 17 7 1924 у складзе Магілеўскай акругі (да 26 7 1930), 20 8 1924 падзелены на 19 сельсаветаў

МАГІЛЁЎСКІ РАЁН

Бракаўскі, Вендаражскі, Вішоўскі, Вялікабялевіцкі, Гарадзішчанскі, Гаранскі, Дабрасневіцкі, Дасовіцкі, Дашкаўскі, Карабанаўскі, Княжыцкі, Коцнаўскі, Наваселкаўскі 1-ы (Навасельскі 1-ы), Наваселкаўскі 2-і (Навасельскі 2-і), Палыкавіцкі, Пашкаўскі, Рафалаўскі, Сялецкі, Цішоўскі 24 9 1926 арганізаваны Хрыпялеўскі нац польскі сельсавет (іс навау да 23 8 1937), у 1927 утвораны Чарназемаўскі сельсавет 2 3 1931 да раена далучаны Амхаўскі, Грабянеўскі, Махаўскі, Мастоцкі, Машанацкі, Слабодкаўскі, Гаранаўскі, Шчэжарскі сельсаветы ліквідаванага *Лупалаускага раена* 5 4 1935 Вішоўскі, Наваселкаўскі (Навасельскі), Рафалаўскі сельсаветы перададзены Бялыніцкаму р-ну 3 20 2 1938 М р у складзе Магілеўскай вобл У Вял Айч вайну ў ліп 1941 на тэр раена адбываліся жорсткія баі воінаў 172-й стралк дывізіі з ням -фаш захопнікамі ў ходзе *Магілева абароны 1941* У гады вайны ў М р дзейнічалі *Магілеускае патрыятычнае падполле, Магілеускі падпольны абком КП(б)Б, Магілеускі падпольны абком ЛКСМБ*, Магілеўскі падпольны райком КП(б)Б, 6-я Магілеўская партыз брыгада, 113-ы, 121-ы імя Касаева, 152, 277, 425, 600 і 810-ы партыз палкі, 61-ы партыз атрад Раен вызвалены ў чэрв —ліп 1944 войскамі 2-га Беларускага фронту ў выніку *Магілеўскаи аперацыі 1944* і *Мінскай аперацыі 1944* За гады вайны на тэр раена ням -фаш захопнікі загубілі 2499 мірных жыхароў, спалілі 6 весак, з іх ні адна не адрадзілася 25 12 1964 да раена далучаны Сухарэўскі с/с Чавускага р-на

На 1 1 1996 у раене 295 нас пунктаў, 16 сельсаветаў Брылеўскі, Вейнянскі, Вендаражскі, Дашкаўскі, Заводскаслабодскі, Кадзінскі, Княжыцкі, Мастоцкі, Махаускі, Нядашаўскі, Палыкавіцкі, Пашкаўскі, Семукацкі, Сідаравіцкі, Сухарэўскі, Цішоўскі, 17 калгасаў, 8 саўгасаў, 1 лясгас, заводы буйнапанэльнага домабудавання, жалеза-бетонных вырабаў, прамбудматэрыялаў, філіял Гомельскага завода буддэталей, 3 птушкафабрыкі, эксперыментальная база «Дашкаўка», зверагаспадарка, с.-г (доследная) станцыя У раене 22 сярэднія, 6 базавых, 14 пачатковых школ, 34 дашкольныя установы, 37 б-к, 19 дамоў культуры, 8 бальніц, паліклініка, 41 фельчарска-акушэрскі пункт, 2 амбулаторыі, 3 пункты аховы здароўя, 8 аптэк Выдаецца раенная газ «Прыдняпроўская ніва» Археал помнікі гарадзішчы жал веку ў в Дашкаўка, Палыкавічы 1-я, Фойна, стаянкі каменнага веку ў в Наваселкі, Салтанаўка, Фойна, курганны могільнік канца 11 — пач 12 ст ў в Ямніца Брацкія магілы сав воінаў і партызан у в Буйнічы, Вендараж, Дасовічы, Канстанцінаўка, Княжыцы, Краснаполле, Махава, Палыкавічы 1-я, Семукачы, Старое Пашкава, Сухары, Сялец, Цішоўка, брацкая магіла байцоў батальена міліцыі ў в Гаі, магілы ахвяр фашызму ў в Алень, Барсукі, Вендараж, Гараны, Дашкаўка, Дубінка, Залубнішча, Малыя Бялевічы, Туманаўка, брацкая магіла сав ваеннапалонных і ахвяр фашызму ў в Заводская Слабада Помнікі у гонар партызан у в Будзішча, Галынец 1 ы, Гарадзішча, землякам, якія загінулі ў Вял Айч вайну, у в Бракава, Брылі, Вейна, Вільчыцы, Грыбаны, Гуслішча, Макарынцы, Малое Хонава, Махава, Мікалаеўка 1-я, Мікалаеўка 2-я, Наваселкі (Вейнаўскі с/с), Палыкавічы 1-я, Севасцьянавічы, Сідаравічы, Сухары, Сялец, Шчэжар, помнік рускім воінам, якія загінулі ў вайну 1812 каля в Салтанаўка Помнікі архітэктуры касцел дамініканцаў (1681) у в Княжыцы, царква Пакроваў Багародзіцы (2-я пал 18 ст ) у в Вейна, Успенская царква (1903) у в Галяні 1-я, Успенская царква (пач 20 ст ) у в Сухары, капліца (19 ст ) у в Стайкі, мемарыяльная капліца (1912) у гонар перамогі рус войск у Айч вайну 1812 у в Салтанаўка, сядзібны дом (пач 20 ст ) у в Дашкаўка, каля в Буйнічы — *Буйніцкае поле.*

**МАГІЛЁЎСКІ САВЕ́Т РАБО́ЧЫХ І САЛДА́ЦКІХ ДЭПУТА́ТАЎ** Створаны ў 2-й пал сак 1917 Устаноўчае пасяджэнне адбылося 22 3(4 4) 1917 Старшыні выканкома меншавік Ветраў (май 1917), левы эсэр Тураў (з кастр 1917) Друкаваныя органы — газ «Молот» (з 29 5 1917) і «Известия Могилевского Совета рабочих н солдатских депутатов» (з 10 1 1918) Да пач мая 1917 прадстаўляў каля 10 тыс гараджан і 7 тыс салдат і афіцэраў Большасць у Савеце складалі меншавікі, эсэры і бундаўцы Савет падтрымліваў Часовы ўрад і Стаўку Вярхоунага галоўнакамандуючага, лозунг аб вайне да пераможнага канца Пад кіраўніцтвам Савета праводзіліся дэмакр пераўтварэнні арганізоўваліся прафсаюзы, салдацкія к-ты, на прадпрыемствах уводзіўся 8-гадзінны рабочы дзень, вырашаліся канфлікты паміж рабочымі і прадпрымальнікамі У час карнілаўскага мяцяжу Стаўка аб'явіла пра роспуск Савета, сакратар і некат яго члены арыштаваны, большасць дэпутатаў перайшла на нелегальнае становішча Было створана рэв бюро для барацьбы з контррэвалюцыяй, якое дзейнічала сумесна з *Магілеўскай арганізацыяй РСДРП* Пасля ліквідацыі карнілаўшчыны Савет аднавіў сваю дзейнасць Адмоўна паставіўся да кастр ўзбр паўстання 1917 у Петраградзе 28 10(10 11) 1917 на пленуме Савета прынята рэзалюцыя, якая асудзіла палітыку бальшавікоў, рэкамендавала ствараць «аднародны сацыялістычны ўрад» Агітацыя бальшавікоў і набліжэнне да Магілева рэв атрадаў, накіраваных для ліквідацыі Стаўкі, змянілі сітуацыю 18 11(1 12) 1917 выканком Савета пад уплывам бальшавікоў і левых эсэраў, якія іх падтрымалі, прызнаў савецкі ўрад і стварыў Магілеўскі ВРК, які ўзяў у свае рукі ўладу ў горадзе і павеце У ліст —снеж Савет папоўнены дэпутатамі-бальшавікамі, якія стварылі ў ім моцную фракцыю 2-е месца па колькасным складзе займала фракцыя Бунда У студз 1918 у Савеце было 240 дэпутатаў, якія прадстаўлялі 40 тыс рабочых і салдат Выканком Савета пачаў праводзіць у жыцце дэкрэты савецкай улады Была створана кантрольна рэвізійная камісія, узяты пад кантроль стары апарат улады, некат прадпрыемствы, банк, турма, забеспячэнне харчаваннем У сувязі з набліжэннем да Магілёва герм войск Савет прыняў удзел у стварэнні Магілеўскага губ ВРК, да якога перайшла ўлада ў горадзе і губерні

**МАГІЛЁЎСКІ САЦЫЯ́Л-ДЭМАКРАТЫ́ЧНЫ КАМІТЭ́Т БУ́НДА**, арганізацыя Усеагульнага яўрэйскага рабочага саюза ў Літве, Польшчы і Расіі (гл *Бунд*) у Магілеве ў 1903—20 Створаны ў пач 1903 і ўваходзіў у склад РСДРП К-т каардынаваў дзейнасць арг-цый Бунда у бліжэйшых гарадах і мястэчках, кіраваў работай гурткоў, веў вусную агітацыю і інш Пасля II з'езда РСДРП (1903) разам з усім Бундам выйшаў з партыі Узгадняў свае дзеянні ў пытаннях падрыхтоўкі агульнагарадскіх паліт выступленняў рабочых з *Магілёўскай арганізацыяй РСДРП*, але не адмаўляўся ад сваей нац платформы і арыентаваўся на дзейнасць сярод яўр рабочых і гандлевых служачых У студз 1905 Магілеўскі к-т Бунда і арг-цыя РСДРП заключылі пагадненне пра падзел сферы ўплыву бундаўцы кіравалі барацьбой яўр рабочых, РСДРП — хрысціянскіх На III з'ездзе РСДРП такое супрацоўніцтва, як уступка сепаратысцкім дамаганням бундаўцаў, рэзка крытыкавалася і было забаронена У 1905 к-т удзельнічаў у падрыхтоўцы студзеньскіх выступленняў салідарнасці рабочых Магілева з рабочымі Пецярбурга, акцый салідарнасці з рабочымі Лодзі і Адэсы, кастр і снеж паліт стачак, удзельнічаў у арганізацыі байкоту выбараў у Булыгінскую і I Дзярж думу Пасля IV (Аб'яднаўчага) з'езда РСДРП (1906) к-т разам з усім Бундам зноў уступіў у партыю, аднак фактычнага аб'яднання на месцах не адбылося У перыяд рэакцыі дзейнасць к-та звузілася, у ей праяўляліся прасіяністкія тэндэнцыі 3 пач 1-й сусв вайны і ўвядзеннем ваен становішча дзейнасць к-та спынілася Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 бундаўцы Магілева ў сак 1917 увайшлі ў Магілеўскую аб'яднаную арг-цыю РСДРП, у жн стварылі самастойную арг-цыю (430 чал ) Разам з эсэрамі і меншавікамі яны складалі большасць у *Магілеўскім Савеце рабочых і салдацкіх дэпутатаў*, прафсаюзах і гар думе Прадстаўнікі к-та ўдзельнічалі ў рабоце Магілеўскай губ канферэнцыі Бунда [25 5(7 6) 1917, Гомель], I канферэнцыі Бунда Паўн -Зах краю [1—3(14—16) 6 1917, Мінск] К-т актыўна падтрымліваў унутр і знешнюю палітыку Часовага ўрада, асудзіў карнілаўскі мяцеж Выступаў супраць перадачы ўлады Саветам, за скліканне Устаноўчага

памяшканні, утрымлівалася за кошт збораў за навучанне (70—100 руб у год за вучаніцу) У 1915 — 8 класаў, 28 выкладчыкаў і 394 вучаніцы, частка выкладчыкаў з мужчынскай гімназіі Дзейнічаў прыходскі клас 8-ы клас меў пед арыентацыю і падзяляўся на матэм і славеснае аддзяленні З 1918 школа 2-й ступені

Прыватная жаночая гімназія В Н Касовіч засн ў 1859 як 2 класнае жаночае вучылішча У 1872 пераўтворана ў 4-класнае, у 1904 — 7-класнае жаночае вучылішча 1-га разраду, якое 22 7 1906 атрымала назву прыватнай гімназіі З 26 8 1911 мела правы дзярж гімназіі Размяшчалася ў арандаваным памяшканні, утрымлівалася за кошт збораў за навучанне (40—80 руб у год за вучаніцу) і невял дзярж субсідыі У 1912 адкрыты 8-ы пед клас Пры гімназіі створана дадатковае 3-класнае прафесійнае аддз, дзе выкладаліся рукадзелле, кройка і шыццё У 1915 33 выкладчыкі (частка з мужчынскай гімназіі і рэальнага вучылішча) і 259 вучаніц З 1918 школа 2-й ступені

Прыватная жаночая гімназія А С Раманоўскай адкрыта 25 8 1907 як 4-класнае прыватнае жаночае вучылішча 11 10 1913 рэарганізавана ў 8 класную гімназію з правамі дзяржаўнай Размяшчалася ў арандаваным памяшканні, утрымлівалася за кошт збораў за навучанне (70—100 руб у год за вучаніцу) У 1915 — 24 выкладчыкі і 159 вучаніц З 1918 школа 2 й ступені

Прыватная яўрэйская жаночая прагімназія Э П Хейфіц засн у 1865 як жаночы пансіён У 1906—07 рэарганізавана ў прагімназію Мела 4 класы Размяшчалася ў арандаваным памяшканні, утрымлівалася за кошт збораў за навучанне У 1915 —11 выкладчыкаў, 94 вучаніцы Дзейнічаў прыходскі клас З 1918 школа 1-й ступені

Прыватная яўрэйская жаночая прагімназія Б Д Каплан адкрыта у вер 1905 Мела 4 класы Размяшчалася ў арандаваным памяшканні, утрымлівалася за кошт збораў за навучанне У 1907 — 14 выкладчыкаў і 150 вучаніц Закрыта ў 1911

*Літ* Киприанович Г Я К истории женского образования в Западной России Вильна, 1910 Сборник сведений о средних учебных заведениях Виленского учебного округа Вильна, 1873, Созонов М П Историческая записка Могилевской мужской гимназии 1809—1909 Могилев, 1909 Пастухова З А Среднее образование в дореволюционной Белоруссии Мн 1963

*Андрэй Самусік*

**МАГІЛЁЎСКІЯ МАНЕ́ТНЫЯ СКА́РБЫ** 1) Знойдзены ў Магілёўскай губ каля 1822 Ухаваны ў канцы 820-х г Вядома 1300 цэлых і некалькі соцень фрагментаваных куфіцкіх дырхемаў дынастый Амаядаў Ідрысідаў, Абасідаў (сярод апошніх «некалькі соцень штук» манет Іспегбедаў — намеснікаў халіфаў у Табарыстане) 250 манет паступілі ў Расійскую АН, лес астатніх невядомы 2) Знойдзены ў Магілеве ў 1936, адзін з найбольшых скарбаў залатых манет на тэр Беларусі Ухаваны ў 1790-я г У глінянай пасудзіне было 476 залатых манет, з якіх вядома 466 экз. дукаты і двайныя дукаты 16—18 ст Рэспублікі Злучаных Правінцый (302), Паўн і Іспанскіх Нідэрландаў (60), Германіі (25), Чэхіі (10) і інш краін і гарадоў Зах Еўропы, цэхіны 15—18 ст Венецыі (15) Зберагаецца ў Эрмітажы

*Літ* Марков А Топография кладов восточных монет (сасанидских и куфических) СПб, 1910 С 25—26, Маркова А.А. Могилевский клад дукатов XVI—XVII вв // Тр Гос Эрмитажа Л, 1961 Т 4 Нумизматика, вып 2 *Ірына Колабава*

**МАГІЛЁЎСКІЯ НАРО́ДНІЦКІЯ ГУРТКІ́** Дзейнічалі ў Магілеве ў 1870—80-я г Першы гурток створаны ў 1872 у Магілёўскай мужчынскай гімназіі У яго ўваходзілі браты Левенталі, Л О Цукерман, П Б.Аксельрод і інш У перыяд масавага «хаджэння ў народ» (1874—75) у гімназіі дзейнічаў гурток пад кіраўніцтвам студэнта Пецярбургскага ун-та Б К Яржыковіча У яго склад уваходзіла каля 20 чал, у т.л Р П *Ісаеў*, П І Пятроў, М М *Забела*, Л С *Залкінд* і інш З гуртком мелі сувязі актыўныя ўдзельнікі народніцкага руху ў Расіі М К *Судзілоўскі* і С П *Кавалік* У час дзейнасці «Зямлі і волі» (1876—79) у Магілеве існавалі тры гурткі, у якія ўваходзіла больш за 50 чал Яны вывучалі і распаўсюджвалі народніцкую л-ру, вялі прапаганду сярод інтэлігенцыі, навучэнцкай моладзі Магілева, сялян навакольных весак У 1877—79 гурткоўцы пачалі вучыцца рамествам, спрабавалі пасяляцца сярод сялян і займацца сістэматычнай прапагандай У 1879 гурткі былі выкрыты, іх удзельнікі перададзены пад нагляд паліцыі, арыштаваны ці сасланы ў Сібір У 1882 магілёўскія гурткі «Народнай волі» ўвайшлі ў *арганізацыю «Народнай волі» ў Паўночна Заходнім краі* Прапаганду ў Магілеве вялі Забела, А Д Лепяшынскі, П А Шафранскі і інш У 1882—83 у горадзе дзейнічалі і гурткі народавольцаў-афіцэраў Да сярэдзіны 1880-х г большасць гурткоў была выкрыта паліцыяй

*Літ* Віткоўскі Я Рэвалюцыйныя гурткі 70-х г на Беларусі // Полымя 1929 № 4, Залкинд Л С Воспоминания народовольца // Каторга и ссылка 1926 № 3 Лосинский Н Б Революционно народническое движение в Белоруссии 1870—1884 гг Мн, 1983, Самбук С М Революционные народники Белоруссии (70-е — начало 80-х г XIX в) Мн, 1972 *Марына Сакалова*

**МАГІЛЁЎСКІЯ ПАЎСТА́ННІ 1606—10**, выступленні рамеснікаў і гарадской беднаты Магілева супраць магістрата Прычынай выступлення 1606 сталі злоўжыванні ўладай магістратам, непасільныя падаткі і грашовыя паборы Паўстанне ўзначаліла група рамеснікаў пад кіраўніцтвам старасты цэха саладоўнікаў Стахора Міткові Іар масы, адхіленыя ад выбараў службовых асоб магістрата, абураліся, што багацеі «раду мескую сами межи собою собе обирают, нас до жадное справы и ведомости не припущаючи и овшем завжды при каждой схажце нашей тлумечы вольные голосы нашы» 19, 20 і 22 6 1606 некалькі соцень гараджан на чале з Мітковічам запатрабавалі спыніць злоўжыванні асобных членаў гар рады, а 25 6 1606 выступілі супраць усяго магістрата і «зверхности враду войтовского» 15 ліп яны скінулі раду і абралі новы склад магістрата Аднак выбары прахо дзілі «не звычайне», а з парушэннем правіл, устаноўленых каралеўскімі граматамі Замест багатых купцоў і ліхвяроў паўстанцы абралі «людей легких, права и писма не умеетных» Адзін з членаў новага складу магістрата быў «вандроўны чалавек», гэн не аселы жыхар Магілева Ходка Багданавіч Новы магістрат выступаў як адм, фінансавы і судовы орган Паводле скаргі скінутай рады ў войтаўскі суд войт Я Валовіч 11 9 1606 адхіліў новы склад рады, загадаў перадаць уладу ў горадзе ранейшай радзе і прызначыў на 16 10 1606 новыя выбары Аднак рашэнне войта не было выканана У справу вымушана была ўмяшацца вярх ўлада Вял князь ВКЛ і кароль польскі Жыгімонт III у лісце да гараджан вызначыў, што канфлікт павінен быць вырашаны ў каралеўскім судзе, а 6 6 1607 выдаў ахоўную грамату магіляўчанам, якія не падпа радкаваліся новай радзе Прымаліся за хады, каб раскалоць адзінства ў новай радзе і схіліць яе да пагаднення са старой 22 8 1608 у канцылярыі ВКЛ пры ўдзеле канцлера ВКЛ, магілёўскага старосты Л Сапегі паміж упаўнаважанымі абодвух складаў магістрата была падпісана дамова новая рада, за выключэннем бурмістра Ходкі Багданавіча, пры гаворанага каралеўскім дэкрэтам да смяротнага пакарання, павінна была «дабыць свой тэрмін» (да 11 11 1608) і перадаць уладу ранейшаму складу рады што і было зроблена Такім чынам, пасля больш чым двухгадовага праўлення паўстанцаў улада ў горадзе зноў перай шла да багатых купецкіх вярхоў Барацьба супраць магістрата працягвалася і ў наступныя гады У выніку яе ў 1610 арганізатары выступленняў былі пры цягнуты да судовай адказнасці Яны былі абвінавачаны ў тым, што «бунты і разрухі ў горадзе строілі, чалавека пас палітага ад паслушэнства ўраду адводзілі, на ратушу гвалтоўна нападалі і вароты да яе выламвалі, на гвалт над урадам званілі і заклікалі і раду патапіць пагражалі» Кіраўнікоў выступленняў Івана Харкавіча, Міхаіла Чабатара, Лаўра Міхайлавіча, Мікіту Мількавіча і Гаўрылу Іванавіча суд прыгаварыў да смяротнага пакарання, якое адбылося 29 7 1610 на Ільінскай гары ў Магілеве Максім Тальбуша і Ісай Шчэнсны былі засу джаны да 12-тыднёвага зняволення, пасля адбыцця якога катаваны каля ганебнага слупа і выгнаны з горада з забаронаю пражываць не бліжэй як за 30

міль ад Магілева Маемасць усіх асу-джаных была канфіскавана

*Кр* Беларускі архіў Мн, 1927 Т 1 С 79—92, Белоруссия в эпоху феодализма Мн 1959 Т 1 С 426—439

*Літ* Мелешко В И Могилев в XVI — середине XVII в Мн, 1988 С 206—211

*Васіль Мялешка*

**МАГІЛЁЎСКІЯ ПАЎСТА́НЦКІЯ АТРА́ДЫ 1863** Сфарміраваліся пад кіраўніцтвам губернскай (ваяводскай) рэв арг-цыі, падначаленай віленскаму паўстанцкаму цэнтру Вайсковым начальнікам (ваяводам) Магілеўшчыны быў прызначаны палілечнік К *Калиноўскага* Л *Звяждоўскі* У ноч на 24 4 1863 атрад Звяждоўскага з дапамогай студэнтаў Горы-Горацкага земляробчага ін-та захапіў павятовы г Горкі і рушыў на Пд у бок Крычава на злучэнне з Крычаўскім (Чэрыкаўскім) атрадам Я *Жукоўскага* Апошні, паводле дыспазіцыі, павінен быў напасці на Крычаў і захапіць там артылерыю, але ўлады паспелі нанесці папераджальны ўдар і рассеяць Крычаўскі атрад яшчэ пры яго фарміраванні Звяждоўскі павярнуў на 3, пераправіўся цераз Проню і, бачачы перавагу царскіх войск, 30 4 1863 непадалёку ад г Прапойск распусціў атрад Большасць паўстанцаў атрада (больш за 100 чал ) здалася ўладам Звяждоўскаму і Жукоўскаму ўдалося ўцячы Толькі некалькі дзён змаглі пратрымацца і іншыя атрады Магілеўшчыны Аршанскі атрад І *Будзіловіча* (разбіты 26 4 1863 пад Пагосцішчамі), Быхаўскі — І.*Анцыпы*, Рагачоўскі — Т *Грыневіча* Камандзіры разбітых атрадаў трапілі ў рукі ўлад і пасля суда расстраляны У паўд частцы Сенненскага пав атрад сфарміраваў К *Жаброўскі* і перайшоў з ім у Барысаўскі пав, дзе дзейнічалі і рэшткі атрада А *Алендскага*, разбітага 27 4 1863 каля в Славені У маі 1863 Жаброўскі і Алендскі схоплены ў Барысаўскім пав і расстраляны Паўстанне на Магілеўшчыне не набыло шырокага размаху Паўстанцам не ўдалося прыцягнуць тут на свой бок шырокія масы сялянства Атрады складаліся гал чынам з афіцэраў, студэнтаў, гімназістаў, дробных чыноўнікаў, мяшчан, шляхты і інш Паводле звестак афіцыйнага гістарыёграфа В Ратча, агульная колькасць узброеных паўстанцаў на Магілеўшчыне не перавышала 800 чал

*Літ* В [Ратч] Очерки мятежного движения в Могилевской губернии в 1863 г Вильна 1865 Цытовіч С 1863 год у Горы-Горках быўш Магілеўскай губ (падзеі паўстання) // Зап аддз гуманіт навук Мн, 1929 Кн 8 Восстание в Литве и Белоруссии 1863—64 гг Материалы и док. М, 1965

*Генадзь Кісялёў*

**МАГІЛЬНА** веска, цэнтр Неманскага с/с Уздзенскага р-на за 16 км на ПдЗ ад Узды, 37 км ад чыг ст Негарэлае, на левым беразе Немана 515 ж, 224 двары (1998)

Упершыню згадваецца ў летапісах з нагоды *Магільнянскай бітвы 1284* У далейшым вялікакняжацкае уладанне Вял кн Вітаўт заснаваў тут замак, у 1-й чвэрці 15 ст перадаў Альгердавічам Перад 1480 у крыніцах названа мястэчкам З 1512 уладанне М Паца, які пабудаваў у замку касцел У 16 ст у М дзейнічала прыстань, у 1592 былі 3 вуліцы, царква, карчма, рынак, 56 двароў З 1602 уласнасць М К Радзівіла Сіроткі У час войнаў сярэдзіны 17 ст мястэчка разбурана У 2-й пал 18 ст ў М некат час жыў філосаф С *Майман* З 1793 у складзе Рас імперыі, цэнтр воласці Ігуменскага пав У канцы 18 ст 374 ж, 92 двары, уніяцкая царква, млын, карчма, верф З 1830-х г уласнасць Вітгенштэйнаў У 1863 М наведаў мастак Н.*Орда* і зрабіў яе замалёўкі У 1886 — 700 ж, 84 двары, царк прыход, капліца, сінагога, школа, 4 крамы З 1924 цэнтр сельсавета Уздзенскага р-на У 1929 створаны калгас, працавалі рамонтная, рымарская, шавецкая майстэрні, з 1937 — электрастанцыя З 26 6 1941 да 2 7 1944 акупіравана ням-фаш захопнікамі, дзейнічала патрыят падполле У 1972 — 497 ж, 172 двары У 1979—91 наз Неман У весцы працуюць сярэдняя школа, дашкольная ўстанова, Дом культуры, б-ка, аддз сувязі, магазін Помнік землякам, брацкая магіла сав воінаў і партызан, што загінулі ў Вял Айч вайну Помнікі археалогіі курганны могільнік замчышча 16—17 ст

*Валерый Шаблюк*

**МАГІЛЬНЯ́НСКАЯ БІ́ТВА 1284** Паводле бел-літ летапісаў, адбылася каля в Магільна (Уздзенскі р-н) на р Неман паміж вял князем літ Рынгольтам і калішчыяй рус князёў (Святаславам Кіеўскім Львом уладзімірскім, Дзмітрыем друцкім), якія ў саюзе з татарамі хацелі «знову Литву под ярмо першое привести» На баку Рынгольта акрамя літоўцаў удзельнічала і «своя Русь» Войскі Рынгольта знянацку і «з великим окриком» напалі на праціўніка Бітва працягвалася з ранку да вечара і скончылася на карысць Рынгольта Калішчыя рус князёў і татар панесла страты ў 40 тыс чал у палон трапіла 1 тыс чал Страты войска Рынгольта склалі 700 чал забітымі і 200 параненымі Звесткі пра М б адносяцца да паўлегендарных Існаванне князёў, якія ўдзельнічалі ў бітве, інш крыніцамі не пацвярджаецца Але прымаючы пад увагу, што ў 1258—1338 татары 7 разоў хадзілі «на Літву» і пры гэтым разам з імі ўдзельнічалі уладзіміра-валынскія князі, можна дапусціць, што летапісны расказ абапіраецца на рэальныя падзеі Праўдападобна выглядае прывязка бітвы да в Магільна Тут Неман мае шырокую абалонь і мелкае дно, спрыяльныя для пераправы войска У 13 ст тут існавала паселішча, што зафіксавана археалагічна У 15 — пач 16 ст насупраць гэтага паселішча каля пераправы пабудаваны *Магільнянскі замак*

*Кр* ПСРЛ Т 32 35 М, 1975, 1980

*Лявон Калядзінскі*

**МАГІЛЬНЯ́НСКІ ЗА́МАК** Існаваў у пач 16—17 ст ў в Магільна Уздзенскага р-на Пабудаваны з дрэва віцебскім ваяводам Станіславам Пацам на правым беразе Немана Чатырохвугольная ў плане пляцоўка замка (110 × 65 м) была абкружана валам і аддзелена ад прызамча глыбокім (каля 8 м) ровам Ва ўсх частцы пляцоўкі існаваў бастыенападобны выступ Замак меў уязную браму з пад'емным мостам-«узводам» і не менш як 4 вуглавыя вежы Паводле інвентара 1563 у М з была розная агністрэльная зброя гарматы — «серпантины железные, гаковниц в ложах четыры, а на киях пять гаковниц», порах гарматны («фаска неполная»), ручнічны («два фунты») і «салетры пять фунтов» Сярод амуніцыі значацца баявыя нагалоўі («капалынов 24, шеломов 95»), пласціністыя даспехі («зброй бляховых на 10 похолков»), 25 кольчатых панцыраў, 10 наручаў, 4 зэрцалы, адзін шчыт («котрыгал черленый старый») і 55 яркіх плашчоў-накідак «барвіц», якія апраналі наверх даспехаў Замак страціў ролю абарончага пункта ў ходзе вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 Пазней у гіст крыніцах ён не згадваецца Археал даследаванні М з праводзілі А Р Мітрафанаў (1951), Г В Штыхаў (1975), Л У Калядзінскі (1977—79), М М Чарняўскі (1979)

*Міхась Ткачоў*

**МАГІСТРА́Т** (ад лац magistratus начальнік, чыноўнік, улада, кіраўнік), выбарны адміністрацыйны і судовы орган гар самакіравання ў гарадах, якія мелі права на самакіраванне (*магдэбургскае права* або інш ) У ВКЛ уводзіліся з канца 14 — 15 ст У вялікакняжацкіх гарадах Беларусі і Літвы М складаўся з гар рады і лавы Рада займалася справамі гар кіравання і суда па маемасных і цывільных справах мяшчан Лава выконвала функцыі суда па крымінальных справах гараджан Парадак утварэння і кампетэнцыю гар органаў самакіравання ўстанаўлівалі *граматы на магдэбургскае права* Замест ранейшых улады і суда старосты (намесніка вял князя) улада і суд у гарадах пераходзілі да *войта, лаўнікаў, бурмістраў* і *радцаў* (райцаў) Найб ранняй пасадай у сістэме самакіравання быў войт Ён выконваў гал распарадчую ўладу ў гар абшчыне і ўзначальваў *войтаўскі суд* або *войтауска-лаўніцкі суд* (лаву) Гал органам самакіравання была гар рада якая складалася з бурмістраў і радцаў Бурмістры па чарзе вялі пасяджэнне рады радцы выказваліся па розных пытаннях і разам з бурмістрамі прымалі рашэнні Дзейнічаў *бурмістраўска-радзецкі суд* У прыватнаўласніцкіх гарадах у склад М ўваходзілі войт, бурмістры, радцы, лаўнікі і гар пісар, якія ўсе засядалі разам, хоць паводле нормаў магдэбургскага права лаўнікі з войтам складалі асобную калегію і ў склад рады не ўваходзілі Цвёрда вызначанай колькасці членаў рады не было, звычайна яна набліжалася да 12 (гэта лічба лічылася класічным узорам) У Нясвіжы ў 1620 быў бурмістр, 3 радцы, 3 лаўнікі, а ў 2-й пал 18 ст штогод засядалі войт, бурмістр, рад

ца, 2 лаўнікі і пісар (яны мяняліся па чарзе, усяго ў М былі 4 бурмістры, 4 радцы, 4 лаўнікі, войт і пісар) У Друі акрамя войта і пісара было па 3 бурмістры, радцы і лаўнікі, штогод засядала чарговая група па адным на кожнаи пасадзе, да іх далучаліся 9 «мужоў» (па 3 штогод) Выбраныя ў М Друі праходзілі своеасаблівую службовую лесвіцу, паступова займаючы пасады ад «мужа» да бурмістра У 17—18 ст у М часта дзесяцігоддзямі засядалі прадстаўнікі некалькіх сямей, звычайна з заможных купцоў і цэхмістраў, М ператвараўся ў орган карпаратыўнага кіравання горадам з боку мяшчанскай алігархіі У час ваен дзейнняў абарону горада ўзначальваў М Ён фарміраваў з мяшчан ваен атрады (міліцыю), да якіх далучаў і інш жыхароў горада М на аснове магдэбургскага права праіснавалі на Беларусі да канца 18 ст і былі скасаваны пасля далучэння Беларусі да Рас імперыі ўказамі Кацярыны II у 1775 (для ўсх часткі Беларусі) і 1795 (для цэнтр і зах яе частак) У Расіі М як органы саслоўнага самакіравання ўзніклі ў 1720 У 1775 пераўтвораны ў губернскія і павятовыя суды для гар саслоўяў (мяшчанства і купецтва), існавалі і ў Беларусі Паводле *Даравальнай граматы гарадам 1785* М ўвайшлі ў сістэму гар самакіравання, але засталіся ў асн судовымі ўстановамі Пасля судовай рэформы 1864 паступова скасаваны

*Літ* Владимирский-Буданов М Ф Немецкое право в Польше н Литве СПб, 1868, Дружчыц В Д Магістрат у беларускіх местах з майдэборскім правам у XV—XVII сталеццях Б м, 1929, Копысский З Ю Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в Мн, 1975, Грицкевич А П Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв (соц-экон исслед истории городов) Мн, 1975, Яго ж Социальная борьба горожан Белоруссии (XVI—XVIII вв) Мн, 1979, Юхо Я А Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі Мн, 1992 *Анатоль Грыцкевіч*

**МАГІСТРА́ЦКІЯ СЯЛЯ́НЕ**, гл *«Гарадскія» сяляне*

**МА́ГІЯ**, чараўніцтва, абрады, таямнічыя дзеянні, заклінанні з мэтай уплываць на істоты, прадметы і з'явы навакольнага свету Узнікненне магічных уяўленняў даследчыкі адносяць да верхняга палеаліту У Стараж Вавілоне ўзнік падзел на белую М (для аховы ад шкоднага ўздзеяння дэманаў) і чорную М (вера ў магчымасць уступіць у кантакт са злымі духамі, праз іх уздзейнічаць на жыццё і здароўе інш людзей) М была шырока распаўсюджана ў Стараж Рыме У хрысціянстве ўсе віды М лічацца д'ябальскай дзейнасцю Хрысціянскія тэолагі адрознівалі 2 віды дэманаў анелы, што падтрымалі Сатану ў час яго бунту супраць Бога і ў выніку сталі слугамі д'ябла, і іх дзеці ад зямных жанчын Меркавалася, што чараўнікі могуць выконваць свае закляцці праз уздзеянне на дэманаў другога віду Па мэтавай накіраванасці М падзяляюць на лячэбную (*знахарства*), ваенную, прамысловую, с-г, любоўную і інш Археалагічныя крыніцы сведчаць пра існаванне магічных уяўленняў на тэр Беларусі са старадаўніх часоў 10—13 ст датуюцца разнастайныя амулеты-абярэгі ў выглядзе мядзведжых і воўчых іклаў, конікаў, *змеевікоў* і інш Каб засцерагчыся ад пажару і маланкі, скарыстоўвалі т зв «перуновы стрэлы» — стараж каменныя сякеры Гэты звычай быў пашыраны і ў познім сярэдневякоўі, у весцы ен захаваўся да пач 20 ст Аўтару «Аповесці мінулых гадоў» Полацкая зямля ўяўлялася краінай чараўнікоў, полацкі князь Усяслаў Брачыславіч (Чарадзей) лічыўся ўвасабленнем мага, здольнага абярнуцца воўкам, спыняць дождж, насылаць чары на сваіх ворагаў У сярэдневякоўі ў Беларусі былі пашыраны ўяўленні аб магчымасці праз магічнае ўздзеянне нашкодзіць здароўю чалавека і выклікаць яго смерць Шмат інфармацыі пра гэта захавалася ў актавых кнігах 16—18 ст магістратаў Магілева, Віцебска, Полацка і інш гарадоў Так, у 1758 жыхарка Магілева Арына Бацоўка запрасіла да сябе ў дом «чарадзейку», каб яна «зачаравала» войта Івана Янчэўскага Каб навесці порчу на войта, яны здзяйснялі магічныя маніпуляцыі з васковай фігуркай войта, а каб задуманае здзейснілася абавязкова, Бацоўка паклікала яшчэ і «ведьзмара» Кузьму Чарняка За гэта абодва «чараўнікі» былі схоплены, закаваны ў кайданы і зняволены ў турму Паводле Статутаў ВКЛ, калі ў выніку чарадзейства здаралася якая шкода, справа разглядалася па агульных правілах судаводства Статут 1588 лічыў М крымінальным злачынствам «Чараўніка» маглі пакараць смерцю або дубцамі, спагнаннем страты, выгнаннем з месца жыхарства 7 12 1622 копны суд прысудзіў да смяротнай кары за чараўніцтва жыхара в Пяцеўшчына (Мінскі пав) Барыса Славіновіча У ноч на Купалле ен з «незбожным чародейским умыслом» нарваў каласоў жыта на полі Яна Федаровіча і, паклаўшы іх у шчыліну асінавага кала, закапаў на могілках Федаровіч злавіў яго на месцы здарэння і склікаў капу, якая пакарала «чараўніка» Крымінальная адказнасць за чараўніцтва ў Рэчы Паспалітай адменена сеймавай канстытуцыяй 1776

*Літ* Довнар-Запольский М Чародейство в Северо-Западном крае в XVII—XVIII вв // Неман 1996 № 6, Барташэвіч Г А Магічнае слова Вопыт даслед светапоглядная і маст асновы замоў Мн, 1990, Замовы Мн, 1992, Лобач У Чарадзейства на Полаччыне гіст-культ кантэкст // Полацк. карані нашага радавода Полацк, 1996 Bugaj R Nauki tajemne w dawnej Polsce — Mistrz Twardowski Wrocław etc 1986 *Ігар Марзалюк*

**МА́ГЛЕМАЗЭ КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура мезалітычных плямен, якія ў 7—6-м тыс да н э жылі на паўд узбярэжжы Балтыйскага мора Назва ад знаходак у тарфяніку Маглемазэ на в-ве Зеландыя (Данія) Адгалінаваннем М к. з'яўляецца *кунда культура*, якая існавала на Усх Прыбалтыцы, пранікала і на Пн Беларусі Некаторыя даследчыкі разглядаюць М к. як перайма́льніцу *свідэрскаи культуры* *Уладзімір Ісаенка*

**МАГНАТЫ** (позналац адзіночны лік magnatus багаты, значны чалавек), буйныя феадалы-землеўладальнікі, прадстаўнікі радавітай знаці, арыстакратычныя вярхі класа феадалаў у некат краінах Еўропы У ВКЛ М — нашчадкі ўдзельных князеў (*княжаты*), прадстаўнікі знатных феад родаў, якія валодалі вял латыфундыямі з гарадамі, мястэчкамі і тысячамі сялянскіх *дымоў* Буйныя феад маенткі пачалі ствараецца у Беларусі з канца 14 ст Магнацкія роды існавалі некалькі стагоддзяў Паводле попісу войска ВКЛ 1528 на Беларусі былі 23 М, якія мелі больш за 1000 сялянскіх дымоў Яны сканцэнтравалі ў сваіх руках $1/6$ усіх уладанняў феадалаў З іх 11 былі літ паходжання, 10 бел, 1 польск, 1 рускага Паводле попісу войска ВКЛ 1567 М, якія валодалі больш як 1000 сялянскіх дымоў, было 29 Яны складалі менш як 1% усіх феадалаў, валодалі 42,5% усіх сялянскіх гаспадарак З іх 13 былі літ паходжання, 9 бел, 5 укр, 2 рускага У 1528 з сялянскіх дымоў, што былі ў феадалаў, 36,8% належалі 41 магнацкаму роду (з іх 18 літ паходжання, у т л 5 праваслаўных, 17 бел., 5 укр, 1 польск) З 37 магнатаў у 1567 літ паходжання было 13, бел 8, укр 13, польск 2, рус 1 Прадстаўнікі магнацкіх сямей займалі вышэйшыя пасады ў ВКЛ (маршалкаў, канцлера, гетманаў, віленскага ваяводы і інш) Пасля Люблінскай уніі 1569 М захоўвалі гегемонію ў дзяржаве, нягледзячы на фармальнае раўнапраўе ўсяго шляхецкага саслоўя Яны мелі ўласныя войскі, на чале іх ішлі на вайну Маенткі М вызваляліся ад некат дзярж павіннасцей Бязладдзе і анархія, якую яны падтрымлівалі ў сваіх інтарэсах, аслабілі Рэч Паспалітую, што садзейнічала яе падзелам у 1772, 1793, 1795 Найб вядомыя магнацкія роды, якія адыгрывалі значную ролю ў грамадска-паліт і культ жыцці Беларусі *Агінскія*, *Алелькавічы*, *Астрожскія*, Бжастоўскія, *Валовічы*, *Вішнявецкія*, *Гальшанскія*, *Гарнастаі*, *Гаштольды*, *Глінскія*, *Глябовічы*, *Друцкія*, *Забярэзінскія*, *Іллінічы*, *Кезгайлы*, *Кішкі*, *Лукомскія*, *Масальскія*, *Осцікавічы*, *Пацы*, *Радзівілы*, *Саламярэцкія*, *Сангушкі*, *Сапегі*, *Тышкевічы*, *Хадкевічы*, *Храптовічы*, *Чартарыйскія* *Анатоль Грыцкевіч*

**МА́ГНУС**, Монс (Magnus, Mons) Олаўс (кастр 1490 — 1 8 1558), шведскі каталіцкі святар, асветнік Высланы са Швецыі як працаўнік Рэфармацыі, але выконваў дыпламат даручэнні караля Густава I Вазы, часам інш манархаў, у т л вял князя ВКЛ і караля польскага Жыгімонта I Старога. Збіраў матэрыялы па гісторыі і геаграфіі Усх Еўропы, падтрымліваў кантакты з Б *Ваповскім* Аўтар «Гісторыі паўночных народаў» (Рым, 1555), якая змяшчала і гіст, і этнагр звесткі пра ВКЛ, падрабязна апісвала пасольства дыпламата ВКЛ М Гед-

ройца ў Маскву у 1551 На «Марской карце Скандынавіі» (Венецыя 1539) змясціў Белую Русь і Чорную Русь (Russia alba, Russia regalis nigra), якія на яго думку, не ўваходзілі ў ВКЛ або Маскоускую дзяржаву і былі лакалізаваны у Паўн-Зах Русі Белая Русь у якую М уключаў Іжорскую зямлю, пазначана паміж Фінскім залівам і Чуд скім воз і аддзелена р Нарова ад Маскоўскай дзяржавы Чорная Русь — на ПдЗ ад Белай Русі, паміж р Вя нкая і Зах Дзвіна Прытрымліваўся традыцыі паводле якой у зах -еўрап пісьмовых крыніцах («Апісанне зямель» з *Дублін скага рукапісу* 13 ст, «Трактат пра дзве Сарматыі» М Мяхоўскага, «Кніга пра Маскоўскае пасольства» П Джовія) і на картах (Фра Маўра 1459, Эйхштэцкай 1491, Р Райша 1513 і інш) Белую Русь змяшчалі на У ад Скандынавіі у ваколіцах Ноўгарада, лічачы яе інш назваи Наўгародскай зямлі або яе часткі, заселенаи весцю (вепсамі)

*Літ* Савельева Е А «Морская карта» Олауса Магнуса и ее значение для европей ской картографии // История географичес ких знаний и открытий на Севере Европы Л, 1973, Я е ж Олаус Магнус и его «История северных народов» Л 1983 *Алесь Белы*

**МАГО́Н** Эрман Якаўлевіч [3(15) 10 1899, Гольдзінгенскі пав, Латвія — 11 8 1941], удзельнік абарончых баеў на Беларусі ў Вял Айч вайну ген -маер (1941) Скончыў Ваен акадэмію імя Фрунзе (1928) Удзельнік гра мадз вайны на тэр Беларусі У Вял Айч вайну на чале 45-га стралк корпуса 13-й арміі Зах фронту 25 дзён вёў абарончыя баі на Дняпры, Проні, Сажы ў раёне Быхава, Прапойска (Слаўгарад), Крычава 7—9 ліп ў баі каля Быхава воіны пад яго камандаваннем знішчылі 8 танкаў, пераправіліся на правы бераг Дняпра, разграмілі праціўніка і прымусілі адступіць, у жн пад Клімавічамі М без страт вывеў свой корпус з акружэння Загінуў у баі ў в Малашкавічы Клімавіцкага р-на На месцы гібелі абеліск У Клімавічах, дзе пахаваны М, і Крычаве яго імем названы вуліцы

**МАДЖА́Р** Уладзімір Раманавіч (26 8 1921, в Крукавічы Мазырскага пав, цяпер Калінкавіцкага р-на — 3 7 1985), поўны кавалер ордэна Славы У Вял Айч вайну з 1941 на Балтыйскім флоце, Ленінградскім, 1-м Укр франтах Камандзір гарматы ст сяржант М вызначыўся ў 1945 ў баях на тэр Польшчы і Германіі у студз ў час прарыву абароны праціўніка каля Кракава агнём з гарматы знішчыў 2 кулямёты з разлікам, заглушыў агонь гарматы, пазней адбіў 3 контратакі, у сак выявіў і ліквідаваў 2 кулямётныя пункты, адбіў контратаку ворага

У Р Маджар

**МАДЖА́РСКІЯ**, Маджаранцы, армянскія майстры-ткачы і арандатары *Слуцкай мануфактуры шаўковых паясоў*

Ян (Аванес, ?, Стамбул або Семіградздзе — 1800 ці 1801), у 1740-я г вырабляў паясы ў і Станіслаў (Украіна), у 1758 запрошаны віленскім ваяводам М.К.Радзівілам у Нясвіж, потым у Слуцк кіраваць мануфактурай па вырабу *слуцкіх паясоў* («персіярняй»), у 1776—77 арандатар мануфактуры Унёс у распрацоўку паясоў маст традыцыі Малой Азіі, Сірыі, Персіі

Лявон (каля 1740, Стамбул — 1811), сын Яна У 1777—1807 арандаваў Слуцкую мануфактуру, якая стала пры ім буйным прадпрыемствам

*Аксана Варатнікова*

**МАДО́РА**, курганны могільнік *радзімічаў* 11—12 ст каля в Мадора Рагачоўскага р-на Даследавалі ў 1967 Г Ф Салаўёва, у 1977—79 А М Плавінскі і В Н Рабцэвіч Пахавальны аб рад — трупапалажэнне на гарызонце галавой на З, У і Пд, 1 кенатаф Муж чынскія пахаванні без інвентару, у жаночых сярод знаходак сярэбраныя і медныя (з вітага дроту) бранзалеты, бронзавыя пярсцёнкі, лунніцы, ліраподобная спражка, шкляныя бочачкападобныя і сердалікавыя прызматычныя пацеркі, фрагменты ганчарнага посуду

**МАДО́РАЎ** Федар Аляксандравіч [15(27) 2 1890, с Мсцера, цяпер г п Вязнікаўскага р на Уладзімірскай вобл Расіі — 4 3 1967], рускі і бел жывапісец Нар мастак РСФСР (1965), засл дз маст БССР (1944), чл кар АМ СССР (1944) Вучыўся ў Петраград скай АМ (1914—18) у У Макоўскага Арганізатар і дырэктар Мсцерскага маст прамысл вучылішча і маст школы камуны (1918—22) Чл Асацыяцыі мастакоў рэв Расіі (з 1923) Рэктар Маскоўскага ін та імя Сурыкава (1948—62) З канца 1930 х г творчасць М звязана з Беларуссю Кіраўнік курсаў павышэння кваліфікацыі мастакоў у Мінску (1938—41) У маст выстаўках удзельнічаў з 1914 Працаваў у жанрах партрэта, гістарычным бытавым і інш Аўтар партрэтаў удзельнікаў і кіраўнікоў партыз руху у Беларусі У З Царука (1942), У Е Лабанка, А Я Кляшчова, дзеда Талаша (усе 1943), П К Панамарэнкі В І Казлова, І Дз Варвашэні, П З Калініна, М П Шмырова (усе 1944), С А Каўпака, Р Н Мачульскага (усе 1945), В З Каржа (1947), К П Арлоўскага (1956) і інш Значныя падзеі гісторыі Беларусі 20 ст адлюстраваны ў карціх «Народны сход у Заходняй Беларусі» (1940), «У штабе партызанскага руху» (1945) Творы М захоўваюцца ў Нац маст музеі Беларусі, Дзярж Траццякоўскай галерэі і інш

*Літ* Осипов Д Ф А.Модоров М 1968

Ф Мадораў Народны сход у Заходняй Беларусі Эскіз 1939 Нацыянальны мастацкі музей Беларусі.

**МА́ЕРБЕРГ** (Meyerberg) Аўгусцін (жн 1612 Сілезія — 23 3 1688), аўстрыйскі дыпламат Сапр прозвішча фон Маерн з 1666 меў тытул барона М У 1661 імператар Леапольд I адправіў яго паслом у Расію з мэтай садзейнічаць заключэнню міру з Рэччу Паспалітай (гл *Вайна Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*) На зваротным шляху правёў каля 9 месяцаў у ВКЛ (май 1662 — люты 1663), пра-

Беларусі: прадстаўнік ЦШПР у партыз. злучэннях Мінскай, Палескай, Пінскай, Баранавіцкай і Брэсцкай абл., чл. *Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б*, сакратар ЦК ЛКСМБ. У 1943—47 2-і, 1-ы сакратар ЦК ЛКСМБ. З кастр. 1947 у апараце ЦК КП(б)Б. З 1949 2-і, 1-ы сакратар Мінскіх гаркома, з 1950 1-ы сакратар абкома партыі. З ліп. 1953 Старшыня Савета Міністраў БССР. З ліп. 1956 1-ы сакратар ЦК КПБ. У 1965—78 1-ы нам. Старшыні Савета Міністраў СССР. З 1986 Старшыня Усесаюзнага савета ветэранаў вайны і працы, чл. Міжнар. федэрацыі барацьбітоў Супраціўлення, з 1987 чл. ВЦСПС. Чл. ЦК у 1949—66, Бюро ЦК у вер. 1952 — снеж. 1962, Прэзідыума ЦК КПБ у снеж. 1962 — крас. 1965. Чл. ЦК у 1956—81, канд. у чл. Прэзідыума ЦК з 1957, чл. Прэзідыума ЦК з 1965, чл. Палітбюро ЦК КПСС у 1966—78. Дэп. ВС БССР у 1947—67, чл. Прэзідыума ВС БССР у 1950—53 і 1956—65. Дэп. ВС СССР у 1950—79 і з 1989, чл. Прэзідыума ВС СССР у 1958—66. У 1956—65 чл. Ваен. савета БВА. Пахаваны на Новадзявочых могілках у Маскве.

*Тв.:* Бальшавікі Мінска ў барацьбе за аднаўленне сталіцы Беларусі // Бальшавік Беларусі. 1949. № 6; У братняй сям'і народаў Савецкага Саюза // Камуніст Беларусі. 1957. № 10; Слаўны шлях барацьбы і перамог // Там жа. 1958. № 12; Заўсёды быць у першых радах будаўнікоў камунізма // Там жа. 1961. № 7; Великий триумф советского строя, идей коммунизма // Там жа. 1964. № 6; О 20-летии со дня освобождения Советской Белоруссии от немецко-фашистских захватчиков. Мн., 1964; Боевой помощник партии // Партийное подполье в Белоруссии, 1941—1944. Минская обл. и Минск. Мн., 1984; Незабываемое. 2 изд. Мн., 1987.

*Літ.:* Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 1—3. Мн., 1983—85; Комсомол Белоруссии в Великой Отечественной войне: Док. и материалы. Мн., 1988; Верой и правдой. Мн., 1995; Антонович С.В. Кирилл Мазуров // Антонович С.В. Петр Машеров. Докум. повесть. Мн., 1998. *Расціслаў Платонаў*

К.Т. Мазураў

І.П. Мазурук

В.В.**Мазуроўскі**. Пераправа французскіх войск цераз раку Нёман. 1900—12. Гродзенскі гісторыка-археалагічны музей.

**МАЗУРО́ЎСКІ** Віктар Вінцэнт (1859, Варшава — 7.8.1944), польскі жывапісец-баталіст. Скончыў Пецярбургскую АМ. Удзельнічаў у маст. выстаўках з 1885. У 1888 атрымаў званне класнага мастака 1-й ступені і вял. залаты медаль. У 1889 на пенсію АМ наведаў Зах. Еўропу. З 1892 стыпендыят пры рас. арміі, удзельнік рус.-яп. 1904—05 і 1-й сусв. войнаў. У 1924 пераехаў з Петраграда ў Польшчу. Аўтар карцін на тэмы рус.-тур. 1877—78, рус.-яп. і 1-й сусв. войнаў. Найб. вядомыя карціны, прысвечаныя Айч. вайне 1812, у т.л. падзеям на Беларусі: «Переправа французских войск через Неман» (1912), «Схватка казаков Платова с французской кавалерией под Миром», «Лейб-казаки под Минском» і інш. (усе пач. 20 ст.). Творы М. зберагаюцца ў музеях Польшчы, Расіі, Беларусі. *Тамара Карандышава*

**МАЗУРУ́К** Ілья Паўлавіч [7(20).7.1906, г. Брэст — 2.1.1989], Герой Сав. Саюза (1937), ген.-маёр авіяцыі (1946), засл. палярны летчык (1937). Скончыў Ваен. школу летчыкаў (1929). У Чырв. Арміі з 1927. З 1930 лётчык, камандзір атрада Грамадз. паветр. флоту, у 1938—41 нач. Палярнай авіяцыі Галоўпаўночморшляху (ГПМШ). Вызначыўся ў 1937 у час дастаўкі Папанінскай навук. станцыі на Паўн. полюс. У Вял. Айч. вайну камандзір авіягрупы ВПС Паўн. флоту, з 1943 камандзір авіядывізіі і нач. асобай паветр. трасы ВПС Аляска—Краснаярск, арганізоўваў перапраўку на фронт баявых самалётаў. З 1945 нач. упраўлення Палярнай авіяцыі, нам. нач. ГПМШ, нам. нач. НДІ. Дэп. ВС СССР у 1937—50.

**МАЗУ́РЫНА**, стаянка эпохі *мезаліту* і гарадзішча жал. веку каля в. Мазурына Міёрскага р-на. Даследавалі ў 1974 А.Р.Мітрафанаў і В.І.Шадыра, у 1984 Э.М.Зайкоўскі. На стаянцы (памер 140 × 50 м) выяўлены ямы з чорным гумусам і вугалямі, крамянёвымі вырабамі (адшчэпы і скрабкі). У сярэднявечны тут існавала паселішча, знойдзены ганчарная кераміка 15—17 ст., солід Жыгімонта III Вазы [1587—1632]. Гарадзішча (памер 26 × 56 м) абследавана у 1893 Ф.В.Пакроўскім. Было ўмацавана валам з драўлянай абарончай сцяной на ім. Знойдзены жал. серп, бронзавы арнаментаваны пласціністы пярсцёнак, рыбалоўны кручок, рэшткі керамікі *днепра-дзвінскай культуры*.

**МАЗЫ́Р**, горад абл. падпарадкавання, цэнтр Мазырскага р-на. За 133 км ад Гомеля, 7 км ад чыг. ст. на лініі Калінкавічы—Оўруч. Найб. ў Беларусі порт (Пхоў) на Прыпяці. Аэрапорт. 108 тыс. ж. (1997).

Мяркуецца, што славянскае паселішча, ад якога бярэ пачатак М., узнікла ў 8 ст. ва ўрочышчы Кімбараўка, дзе на мысе паміж ярамі правага берага Прыпяці існавала гарадзішча (памеры пляцоўкі 130 × 80 м), умацаванае з паўд. боку валам выш. каля 4 м і ровам глыб. каля 3 м. Гарадзішча абследавалі Б.І.Федарака, Ю.У.Кухарэнка, У.Ф.Іса-

р-не) Карыстаючыся высокімі пасадамі ў акупац адміністрацыі, яны ўладкоўвалі на працу ў гарадскую ўправу і інш установы падпольшчыкаў, якія ратавалі многіх грамадзян ад вывазу на работы ў Германію, зрывалі мерапрыемствы акупантаў, збіралі і перадавалі партызанам медыкаменты, харч прадукты, папярэджвалі іх аб карных аперацыях У кастр 1941 створана група (17 чал , кіраўнік Дз А.Казлоўскі), якая падбірала людзей для партыз атрада, здабывала і перадавала партызанам зброю, боепрыпасы, звесткі разведкі, вяла паліт агітацыю сярод насельніцтва У маі — жн 1942 многія падпольшчыкі былі арыштаваны і расстраляны акупантамі 3 чэрв 1943 пад кіраўніцтвам створаных у крас 1943 Палескага падп абкома КП(б)Б і Мазырскага падп РК КП(б)Б працавала падп група (9 чал , кіраўнік К В Катлінскі), якая мела свой радыеперадатчык і паведамляла камандаванню Чырв. Арміі разведданыя партызан У жн 1943 група расфарміравана, большасць яе членаў пайшла ў партызаны У Мазыры на магіле падпольшчыкаў пастаўлены абеліск *Аляксандр Адаська*

**МАЗЫ́РСКАЕ ПАЎСТА́ННЕ 1615**, антыфеадальнае выступленне гараджан Мазыра, выкліканае самавольствам і уціскам старосты, замкавай адміністрацыі і арандатараў Падставай для абурэння стала рашэнне мазырскага старосты аб падпарадкаванні сваей уладзе часткі мяшчан горада, абвясціўшы іх сваімі падданымі і пазбавіўшы магдэбургскага права 3 10 1615 мяшчане ўзнялі паўстанне, якое ўзначалілі бурмістры Ждан Муша, Іван Крыцкі, мяшчане Дарошка-кравец, Іван Ваўчок, Астап Лаўрыновіч і інш Паўстанне падтрымалі гар нізы, што надало яму востры, наступальны характар Мяшчане стварылі атрад у некалькі сотняў чалавек, узброіліся мушкетамі і інш зброяй, напалі на замак, дзе знаходзіліся староста, замкавая адміністрацыя і шляхта У час сутыкненняў забіты некалькі чыноў адміністрацыі. Паўстанцы адмовіліся ад выплаты падаткаў і пабораў у казну, арыштавалі мяшчан (прадстаўнікоў гар патрыцыяту), якія не прынялі ўдзел ў паўстанні, канфіскавалі іх маемасць Навакольнай шляхце, пад страхам смяротнага пакарання, быў забаронены ўезд у горад Блакіраваўшы замак, паўстаўшыя захапілі ўладу ў горадзе, выбралі войта і ўсе паборы, якія належалі казне, перадалі ў гар даход Як завяршылася паўстанне, крыніцы не паведамляюць З разбору ў вялікакняжацкім судзе можна заключыць, што яно цягнулася некалькі месяцаў Суд вымушаны быў пайсці на ўступкі паўстанцам, у 1622 ён прыняў рашэнне вярнуць мяшчанам, якія знаходзіліся пад уладай замка, магдэбургскае права і перадаць іх пад юрысдыкцыю гар самакіравання, у даход горада аддадзены шэраг пабораў з гандлю і рамяства

**МАЗЫ́РСКАЕ ПАЎСТА́ННЕ 1649**, выступленне гараджан Мазыра ў час *антыфеадальнай вайны 1648—51* на Беларусі Пачалося летам 1648, да гараджан далучыліся сяляне навакольных весак Выступленне ўзначаліў мазырскі рамеснік Іван Сталяр, пад кіраўніцтвам якога было больш за 400 сялян і гараджан Жыхары Мазыра склалі асобную харугву на чале з мясц седлавым майстрам Седлярам У жн. да гараджан далучыўся пасланы Б Хмяльніцкім атрад Міхненкі Каб закрыць казацкім заго нам шлях на Беларусь, у пач студз 1649 з Брэста на Тураў і Мазыр рушыла 15-тысячнае войска гетмана польнага Я.Радзівіла 18 студз войска ВКЛ падышло да Турава, большая частка паўстанцаў адышла да Мазыра Злучыўшыся з казакамі, жыхары Мазыра выбралі старэйшым начальнікам Седляра, другім — Міхненку У горадзе ўмацоўваліся сцены, вуліцы перагароджваліся зрубамі, запоўненымі зямлей, перад гар сцяной рабіліся дадатковыя ўмацаванні Радзівіл паслаў да гараджан ганца з лістом, у якім прапанаваў здаць горад без бою, за што абяцаў усім паўстанцам права на свабодны выхад Гараджане не прынялі прапановы аб капітуляцыі і закавалі гетманскага пасланца ў ланцугі 19 студз войска Радзівіла падышло да Мазыра Пяхота кінулася на штурм гар сцяны, але вымушана была адступіць Пасля артыл абстрэлу штурм аднавіўся з трох бакоў Драгуны, пад прыкрыццем саней з дрывамі, падышлі да варот, выбілі іх бярвенамі і ўварваліся ў горад Рукапашныя сутычкі працягваліся на вуліцах К канцу дня горад і замак былі захоплены, рэшткі паўстанцаў адцеснены да Прыпяці і перабіты, горад разрабаваны Кіраўнік паўстання Сядляр прарваўся праз акружэнне і выратаваўся Міхненка ўзяты ў палон і пасаджаны на кол

**МАЗЫ́РСКАЕ СТАРО́СТВА**, дзяржаўны маентак у *Мазырскім павеце* ВКЛ у 16—18 ст У 1-й пал 16 ст М с складалася з Мазырскай і Бчыцкай (Пціч скай) валасцей, якія падзяляліся на больш дробныя адм -тэр адзінкі — нядзелі У гэты час са складу староства вылучана каля 30 сел (каля 630 сялянскіх двароў), раздадзеных у прыватную і ленную ўласнасць феадалам, пасля чаго ў Мазырскай вол , паводле інвентара 1552, засталося 24 сялы прыкладна з 500 сялянскімі дварамі і горад Мазыр з 270 дварамі, а ў Бчыцкай вол — 12 сел з 300 дварамі З 2-й пал 16 ст раздача сел у прыватную ўласнасць спынілася але на працягу 17—18 ст з М с вылучаны Азарыцкае, Багрымаўскае, Барыскавіцкае, Дамашоўскае, Загальскае Нястанавіцкае, Сухавіцкае, Шыцкае Якімовіцкае і інш дзярж староствы частка якіх ператварылася ў ленныя маенткі

На пасадзе мазырскіх старостаў упамінаюцца М Гагін (1504), Я Івашэнцавіч (1506—07), А Нямір (1509), Ю Радзівіл (1511—14), А Гаштольд (1514—39), М Нарбут (1542—47), М Радзівіл Руды (1550—76), М М Радзівіл (1576—89) Ю Радзівіл (1589—1607) Б Стра-

Аўтар В Л Насевіч

вінскі (1607—20), Я Я Тышкевіч (да 1631), А Слушка (1636), К Ходкевіч (1637), Е К Хадкевіч (1642—50), М Францкевіч (1653), У Халецкі (1655—68), К К Халецкі (1668—90), М Халецкі (1690—95, 1698—1715), Ф Л Катоўскі (1695), П К Катоўскі (1696), С Дэнгаф (каля 1720), Г Л Аскерка (1724—38), Е А Аскерка (1755—65), Л Аскерка (1765—71), К.Аскерка (1773), Г Яленскі (1773—85), Я Яленскі (1787—94)

*Кр* Описание Мозырского замка 1552 г // Архив Юго-Западной России Киев, 1886 Ч 7 т 1 *Вячаслаў Насевіч*

**МАЗЫ́РСКАЕ ЎЗБРО́ЕНАЕ ВЫСТУПЛЕННЕ СЯЛЯН**, Камянецкае паўстанне, антыфеадальнае выступленне сялян Камянецкай вол Мазырскага пав ў 1750-я г Выклікана прыгнетам мясц адміністрацыі Хваляванні пачаліся яшчэ ў 1736, аднак толькі ў 1754 перараслі ва ўзбр выступлен не Гэтаму спрыяла паўстанне гайдамакаў 1754 у суседняй Жытоміршчыне Найб ранніх звесткі аб выступленні сялян адносяцца да 7 9 1754, калі загадам гетмана польнага М К Радзівіла для падаўлення паўстання ў Камянецкую вол накіраваны 2 харугвы пад камандаваннем ротмістраў Бараноўскага і Швыкоўскага У кастр 1755 гэтыя харугвы пасланы на падаўленне новага выступлення сялян, аднак іх было недастаткова і ў ліст М К Радзівіл накіраваў супраць сялян яшчэ 4 харугвы (70 коннікаў) на чале са шляхціцам Панятоўскім Да студз 1756 паўстанне ахапіла ўсю Камянецкую вол (больш за 700 сял двароў) Сабраўшыся каля мяст Славечна, паўстанцы далі адпор харугвам Панятоўскага і прымусілі іх да ўцекаў Некалькі тысяч сялян стварылі ўмацаваны лагер і пакляліся «змагацца да апошняга, хоць і галовы прыйшлося б накласці» У лют —сак 1756 Панятоўскі з войскам у 400 чал і гарматамі зноў рушыў да Славечна Пасля таго як сяляне адмовіліся ад прапанаванай капітуляцыі, вайскоўцы штурмам узялі іх лагер Паўстанцы страцілі 60 чал забітымі, некалькі дзесяткаў чалавек патанула у балотах, каля 60 чал узяты у палон Многія ўдзельнікі выступлення пакараны смерцю, некаторых білі бізунамі 4 кіраўнікоў паўстання пасадзілі на кол 10 сялянскіх важакоў адасланы ў Нясвіж на суд да Радзівіла

*Васіль Мялешка*

**МАЗЫ́РСКАЯ АКРУГА** Існавала ў БССР у 1924—30 і 1935—38 Утворана 17 7 1924 Цэнтр — г *Мазыр* Пл 16 268 км², нас 319,2 тыс чал (1924) Уключала 10 раенаў Азарыцкі, Жыткавіцкі, Калінкавіцкі, Капаткевіцкі, Каралінскі, Лельчыцкі, Мазырскі, Нараўлянскі, Петрыкаўскі і Тураўскі, раены падзяляліся на 128 сельсаветаў У М а ўваходзілі 3 гарады (Калінкавічы, Мазыр, Петрыкаў) 4 мястэчкі (Жыткавічы, Капаткевічы, Нароўля, Тураў) 5 10 1926 Мазырскі р-н перайменаваны ў Слабадскі (скасаваны 4 8 1927) 9 6 1927 да М а далучаны Юравіцкі р-н скасаванай Рэчыцкай акр На 1 1 1930 у М а 10 раенаў, 3 гарады, 5 мястэчак і 124 сельса веты Акруговая газ «Чырвонае Палессе» 26 7 1930 акруга скасавана Зноў утворана 21 6 1935, уключала 9 раенаў Даманавіцкі, Ельскі, Жыткавіцкі, Капаткевіцкі, Лельчыцкі, Мазырскі, Нараўлянскі, Петрыкаўскі, Тураўскі Акруговая газ «Бальшавік Палесся» 20 2 1938 акруга скасавана, тэр ўключана ў Палескую вобл

**МАЗЫ́РСКАЯ АРГАНІЗА́ЦЫЯ РСДРП** Створана пасля II з'езда РСДРП (1903) прыхільнікамі «Искры» Спачатку дзейнічала як група пад кіраўніцтвам Палескага к-та РСДРП, а пасля яго рэарганізацыі (вер 1905) пад кіраўніцтвам Гомельскага раеннага, з лета 1906 Гомельскага акр к-та РСДРП

У студз 1905 удзельнічала (разам з к-там Бунда) ў правядзенні агульнагарадской забастоўкі і мітынгу пратэсту працоўных Мазыра супраць расстрэлу рабочых у Пецярбургу, у крас — у першамайскіх стачцы і дэманстрацыі, у чэрв —ліп — у дэманстрацыях і маніфестацыях салідарнасці з рабочымі Іванава-Вазнясенска, Лодзі, Адэсы, у арганізацыі эканам забастовак на запалкавай ф-цы «Маланка», 200 батракоў маентка Дудзічы і інш Летам 1905 стварыла баявую дружыну рабочых Удзельнічала ў стварэнні ў час Кастр Усерас паліт стачкі 1905 т зв «*Мазырскай рэспублікі*», у арганізацыі паліт стачкі чыгуначнікаў Мазыра ў снеж 1905 У пач 1906 пад яе ўплывам рабочыя ф-к «Маланка» і «Прыма» байкатавалі выбары ў 1-ю Дзярж думу У чэрв —ліп 1906 М а РСДРП узначальвала эканам забастоўку на ф-цы «Маланка», якая закончылася частковай перамогай рабочых У гады рэакцыі дзейнасць М а РСДРП не праяўлялася Пасля Лют рэвалюцыі 1917 у Мазыры ўзнікла «аб'яднанка» (гл *Аб'яднаныя сацыял-дэмакратычныя арганізацыі*)

*Міхась Біч*

**МАЗЫ́РСКАЯ ГРУ́ПА ВОЙСК** Заходняга фронту ў грамадзянскую вайну, аператыўнае аб'яднанне часцей і злучэнняў Чырв Арміі ў *савецка-польскую вайну 1920* Сфарміравана 20 5 1920 У групу ўваходзілі 57-я стралк дывізія, 139-я стралк брыгада (з 47-й дывізіі), 72-я стралк брыгада (з 24-й дывізіі), *Дняпроўская ваенная флатылія*, 17-я кав дывізія (жн 1920) Камандуючы Ц С Хвесін Дзейнічала на левым флангу Зах фронту У чэрв 1920 фарсіравала Дняпро каля г Рэчыца, вызваліла Мазыр і Калінкавічы, вяла баі ўздоўж чыг Мазыр—Брэст, удзельнічала ў вызваленні Лунінца, Пінска, Кобрына і інш , у баях пад Варшавай 16 8 1920 у выніку контрнаступлення польск арміі пачала адыход на тэр Беларусі 2 9 1920 расфарміравана на Яе войскі і штаб увайшлі ў склад 4-й арміі (2-га фарміравання) Зах фронту

**«МАЗЫРСКАЯ РЭСПУ́БЛІКА»**, назва ўлады, якую ажыццяўляў у Мазыры рэв к-т пад кіраўніцтвам *Мазырскаи арганізацыі РСДРП* у час Кастр Усерас паліт стачкі 1905 17(30) 10 1905 на агульнагарадскім мітынгу выбраны рэўком, які меў вял баявую дружыну і 9 дзен праводзіў рэв мерапрыемствы Была зроблена спроба захапіць склады зброі і казначэйства, вызваліць паліт вязняў У сутычцы з царскімі войскамі 4 чал забіты, 6 паранена Усе члены рэўкома сасланы ў Сібір на вечнае па сяленне

**МАЗЫ́РСКІ ЗА́МАК** Існаваў у 15—18 ст на гарадзішчы стараж *Мазыра* Пабудаваны на месцы ўмацаванага драўлянага замка 14 ст Займаў мыс паміж двума шырокімі ярамі, якія праразалі высокі карэнны бераг Прыпяці Паўавальны ў плане замак меў памеры каля 120 × 60 м Першы вядомы інвентар М з за 1552 сведчыць, што як абарончае збудаванне замак існаваў ужо ў пач 1480-х г Акрамя «замка» і «паркана» інвентар згадвае «острог около все го места и ворот три», г зн уласна гар ўмацаванні У 1552 М з яшчэ не быў канчаткова адбудаваны пасля зруйнавання яго татарамі ў 1520—30-я г Паводле інвентара за 1552 адбудова яго адносіцца да 1543 Уласна замак складаўся з трох вежаў з гароднямі і некалькімі дамамі паміж імі, якія таксама выконвалі ролю абарончых умацаванняў Перад замкам размяшчаўся паркан — перадавое ўмацаванне На замкавым дворы знаходзіліся царква св Спаса, некалькі жылых і гасп пабудоў, калодзеж У 1576 М з перабудаваны Паводле інвентара 1576, ен меў ужо 5 вежаў, быў значна пашыраны і заняў абедзве часткі б Спаскай гары 2 вежы, што размяшчаліся на зах краі гары, называліся «Птичская» і «башня над Мозырским рынком» У 1609 М з згарэў, але ў 1613 адноўлены на сродкі спецыяльна ўведзенага ўрадам падатку У ходзе ваен дзеянняў 17 ст замак некалькі разоў быў разбураны, не аднаўляўся і пасту пова прыйшоў у заняпад У 18 ст М з — парадны замкава-палацавы комплекс, які складаўся (паводле інвентара 1772) з драўлянага палаца ў цэнтры і гасп зоны На замчышчы выяўлены рэшткі жылой пабудовы 16 ст з кафлянай печчу, складзенай з гаршковай і каробчатай кафлі, упрыгожанай геаметрычным арнаментам

*Літ* Архив Юго-Западной России Киев 1886 Ч 7, т 1, с 611—615, Белоруссия в эпоху феодализма Мн 1959 Т 1 с 176—178 *Расціслаў Баравы*

**МАЗЫРСКІ КЛЯ́ШТАР БЕРНАРДЗІНЦАЎ** Існаваў у 1645—1832 у Мазыры Засн С М Лошкам, які падараваў для кляштара пляц з агародам і садам Мураваны касцел Міхаіла Арханхела асвячоны ў 1775, мураваны жылы корпус

пл 70 × 14,5 локця пабудаваны ў 2-й пал 18 ст, астатнія будынкі (бровар, стайня, вазоўня, конскі млын) былі драўляныя Б-ка налічвала 203 кнігі У 1829 было 9 манахаў У 1832 кляштар скасаваны, у 1839 у ім размешчаны бальніца і адм ўстановы У 1865 касцёл пераабсталяваны ў правасл Міхайлаўскі сабор (дзейнічае і цяпер)

*Аляксандр Ярашэвіч*

**МАЗЫРСКІ КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ** Створаны ў 1948 у Мазыры, адкрыты ў 1949 З пач 1960-х г да 1984 музейныя рэчы не экспанаваліся Пл экспазіцыі 273,2 м$^2$, мае больш за 22 тыс адзінак асн фонду (1998), якія знаемяць з гісторыяй Мазыршчыны Сярод экспанатаў жаночы бранзалет і фібула бронзавага веку, амфара 2-й пал 12 ст, фрагменты шкляных бранзалетаў і праслiцы

Аўтар карты М Ф Спірыдонаў

МАШТАБ 1 1 000 000
10 0 10 20 км

12—13 ст , кафля і посуд 16—18 ст з археал помнікаў на тэр раена, дакументы і матэрыялы пра рэв рух 19 — пач 20 ст , падзеі грамадз вайны У экспазіцыі матэрыялы пра дзейнасць падполля і партыз руху на Мазыршчыне ў Вял Айч вайну, земляхоў Героях Сав Саюза М У *Барысава*, М П *Катлауца*, М В *Мураева*, пра *Азарыцкія лагеры смерці*, вызваленне раена ад ням -фаш захопнікаў У этнагр калекцыі старадаўняе хатняе начынне, прылады працы, адзенне турава-мазырскага строю, сучасныя вырабы мясц прам-сці, вышыванкі, керамічныя вырабы нар майстра М М Пушкара Дэманструюцца творы мастакоу П Дурчына, Б Звінагродскага, Я Пакаташкіна, В Цвіркі і інш Мае філіялы «Палеская веда», музей кераміста Пушкара *Іна Васількова*

**МАЗЫ́РСКІ ПАВЕ́Т**, адм -тэр адзінка у ВКЛ, Рас імперыі і БССР у 16—20 ст Утвораны у 1565 у складзе Кіеўскага з 1569 — Мінскага ваяв ВКЛ Цэнтр — г *Мазыр* Асн частку М п складалі дзяржаўныя Мазырская, Бчыцкая (Пціцкая) і Уборцкая воласці (з пач 15 ст належала Віленскаму каталіцкаму біскупству) У М п увайшла таксама тэрыторыя на паўн беразе р Прыпяць ад р Пціч да р Случ з маенткамі Ленін, Жыткавічы і інш , якія, верагодна, раней вылучыліся з Тураўскага княства Найб значныя мястэчкі Капаткевічы, Каралін, Лельчыцы, Ленін, Нароуля, Петрыкаў, Скрыгалаў Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай павет скасаваны 3 5 1795 адноўлены ў складзе Мінскага намесніцтва, з 12 12 1796 — *Мінскай губерні* Пл 15,3 тыс км² У павеце было 8 мястэчак Давыд Гарадок, Ельск Каралін, Капаткевічы, Лахва, Ленін, Петрыкау, Скрыгалаў, Тураў, 6 каталіцкіх касцелаў, 7 уніяцкіх і каля 50 праваслаўных цэркваў У 1860 у М п 112 прыватных маенткаў У 1861 утворана 21 воласць Буйнавіцкая, Бярозаўская, Грабаўская, Дзякавіцкая, Жыткавіцкая, Камаровіцкая, Капаткевіцкая, Лахвенская, Лельчыцкая, Ленінская, Лучыцкая, Ляскавіцкая, Мелянікевіцкая, Міхалкаўская, Петрыкаўская, Скараднянская, Слабада-Скрыгалаўская (у 1913 падзелена на Слабодскую і Скрыгалаўскую), Тонежская, Тураўская, Хорская, Чучавіцкая (часова далучана да Лахвенскай у 1881), пазней утворана Каралінская вол (у 1915 перайменавана ў Мікалаеўскую, пазней у Ельскую, у 1921 — зноў у Каралінскую) У 1878 — 95,3 тыс чал , з іх каля 82,3 тыс хрысціяне 12 9 тыс іудзеі, 3,5 тыс шляхты 15 тыс мяшчан На 7 11 1917 у М п 23 воласці З 29 8 1919 да 10 8 1920 у *Гомельскай губерні*, потым зноў у Мінскай 18 3 1921 Бярозаўская, Лахвенская, Хорская і Чучавіцкая вол адышлі да Польшчы, астатняя частка М п уключана у БССР 17 12 1921 Ленінская вол перададзена Слуцкаму пав 3 3 1924 да М п далучана зах частка Рэчыцкага пав (7 валасцей цалкам і 3 часткова) 17 7 1924 скасаваны, большая частка тэр уключана у *Мазырскую акругу*, частка Дзякавіцкай вол — у *Слуцкую акругу*
*Вячаслаў Насевіч*

Касцел **Мазырскага кляштара бернардзінцаў**

**МАЗЫ́РСКІ ПЕДАГАГІ́ЧНЫ ІНСТЫТУ́Т** імя Н К Крупскай Засн ў 1952 на базе Мазырскага настаўніцкага ін-та (адкрыты ў 1944) Меў ф-ты мовы і л-ры (з 1956 філал ф т), фізіка матэматычны У 1964 прысвоена імя Н К Крупскай У 1975—94 існавала падрыхтоўчае аддзяленне У 1992 адкрыта аспірантура, у 1993 — н -д сектар У 1996/97 навуч г ф-ты філалагічны, фізіка-матэматычны, педагогікі і методыкі пач навучання, інжынерна-педагагічны, агульнатэхн дысцыплін і фізікі, абслуговай працы, інстытуцкай падрыхтоўкі і прафарыентацыі, 26 кафедраў, 322 выкладчыкі, у т л 4 праф , 3 дактары навук, 66 дацэнтаў, 99 канд навук, 4980 студэнтаў (з іх на дзённай форме навучання 2913, на завочнай 2067) Асн кірункі навук дзейнасці педагогіка вышэйшай і сярэдняй школы, методыка выкладання навуч дысцыплін, оптыка і квантавая электроніка (галаграфія, акустааптыка і інш ), фізіка цвёрдага цела (фізіка трываласці і пластычнасці і інш ), тэорыя верагоднасцей (матэм статыстыка), мовазнаўства
*Уладзімір Дударэнка*

**МАЗЫ́РСКІ РАЁН** Размешчаны на Пд Гомельскай вобл Пл 1,6 тыс км², насельніцтва 22,4 тыс чал (1998, без Мазыра) Цэнтр — г *Мазыр* Паверхня пераважна раўнінная ў межах Мазырскага Палесся, на У узгорыстая Мазырская града Працякаюць р Прыпяць з прытокамі Трэмля, Іпа, Ненач, Мытва, на Пд Чэрцень — прыток Славечны Пад лесам 52,4% тэр раена. На тэр раена ландшафтны заказнік Мазырскія яры Праходзіць чыг Калінкавічы—Оўруч, Мазыр — вузел аўтадарог на Калінкавічы—Бабруйск, Лельчыцы, Оўруч, Нароулю, Петрыкаў Суднаходства на Прыпяці

Утвораны 17 7 1924 у Мазырскай акр , 20 8 1924 падзелены на 11 сельсаветаў Асавецкі, Бібікаўскі, Бокаўскі (Велікабокаўскі), Казіміраўскі, Кустаўніцкі, Махнавіцкі, Міхалкаўскі, Мялешкавіцкі, Прудкоўскі, Скрыгалаўскі, Слабодскі 5 10 1926 у сувязі з пераносам цэнтра раена з Мазыра ў в Слабада перайменаваны ў *Слабодскі раен*, тэр якога пасля скасавання ў жн 1927 перададзена ў Калінкавіцкі і інш раены Аднойлены 27 9 1930, калі Калінкавіцкі р-н быў перайменаваны ў М р , уключаў 17 сельсаветаў Антонаўскі, Бабраняцкі, Баброўскі, Гулевіцкі, Даманавіцкі, Дудзіцкі, Зеляноцкі, Какуевіцкі, Калінкавіцкі, Капліцкі, Клінскі, Ліпаўскі, Малааўцюкоўскі, Прудкоўскі, Слабодскі, Сухавіцкі, Якімавіцкі 27 9 1930 далучаны Казіміраўскі с/с Петрыкаўскага, 5 4 1935 — Бібікаўскі Нараўлянскага, Каменкаўскі (Каменскі) Ельскага р-наў З 21 6 1935 у Мазырскай акр , з 20 2 1938 у Палескай вобл 3 7 1939 аднойленаму Калінкавіцкаму р-ну перададзена 11 сельсаветаў 3 7 1939 далучаны Міхалкаўскі с/с Нараўлянскага, Мялешкавіцкі Ельскага, Скрыгалаўскі Петрыкаўскага р-наў На 1 1 1941 М р уключаў 10 сельсаветаў Бабраняцкі, Баброўскі, Бібікаўскі, Казіміраўскі, Каменкаўскі, Міхалкаўскі, Мялешкавіцкі, Прудкоўскі, Скрыгалаўскі, Слабодскі У Вял Айч. вайну з жн 1941 акупіраваны ням фашыстамі, якія загубілі ў Мазыры і раене 5884 чал , больш за 1 тыс грамаджан і больш за 1,5 тыс жыхароў з навакольных весак вывезены на катаржныя работы ў Германію На тэр раена дзейнічалі *Мазырскае патрыятычнае падполле*, Мазырскія падп райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, Мазырскія партыз атрад, партыз брыгады 99-я Калінкавіцкая і імя Аляксандра Неўскага Выдаваліся падп газ «Бальшавік Палесся», «За Радзіму» Вызвалены ў сярэдзіне студз 1944 часцямі 61-й арміі пры падтрымцы 16-й паветр арміі Бел фронту ў выніку *Калінкавіцка-Мазырскай аперацыі 1944* сумесна з Мазырскай партыз брыгадай імя Аляксандра Неўскага 3 8 1 1954 у Гомельскай вобл 25 12 1962 да раена далучаны г п Лельчыцы і 13 сельсаветаў ліквідаванага Лельчыцкага р-на (6 1 1965 увайшлі зноў у Лельчыцкі р-н), Махнавіцкі с/с Ельскага і Асавецкі Петрыкаўскага р-наў, 19 9 1963 Барбароўскі с/с Ельскага р-на

На 1 1 1998 у М р 94 нас пункты, у т л г Мазыр, 10 сельсаветаў Асавецкі, Барбароўскі, Каменскі, Козенскі, Крынічанскі, Махнавіцкі, Міхалкаўскі, Прудкоўскі, Скрыгалаўскі, Слабодскі, 13 калгасаў, 8 саўгасаў Дзейнічаюць раенныя аб'яднанні аграпрамтэхнікі і «Сельгасхіміі» ў в Козенкі, вопытны ляспгас, цагельна-чарапічны завод у в Рудня Скрыгалаўская, занальная Палеская с -г доследная станцыя ў пас Крынічны У раене 11 сярэдніх, 9 базавых, 5 пачатковых, 3 муз школы, 20 дашкольных устаноў, 4 бальніцы, урачэбная амбулаторыя, 26 фельчарска-акушэрскіх пунктаў, 35 бібліятэк, 36 дамоў культуры і клубных устаноў, 80 магазінаў, 24 аддз сувязі У в Гурын філіял Бел дзярж мастацкага музея Выдаецца газ «Жыцце Палесся» Помнікі археалогіі каля весак Акулінка, Барыскавічы, Загорыны, Лешня, Лубня, Майсееўка, Надаікі, Скрыгалаў, Слабада, Ясянец і інш Брацкія магілы сав воінаў і партызан (вескі Асавец, Барбароў, Камень, Крынічная Града, Міхалкі, Прудок, Скрыгалаў, Слабада і інш ), магілы ахвяр фашызму (вескі Буда-Казіміраўская, Забалацце, Казіміраўка, Камень, Касцюковічы, Крушнікі, Махнавічы) Помнікі партызанам у вескях Буда Казіміраўская і Слабада Помнікі архітэктуры сядзіба 19 ст ў в Барбароў, капліца ў в Скрыгалаў і абеліск за 1 км ад вескі, збудаваныя ў 1897 у памяць пра гібель у гэтых месцах у 1497 мітрапаліта Макарыя

**МАЗЫРСКІ САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫЧНЫ КАМІТЭТ БУНДА**, арганізацыя Усеагульнага яўр рабочага саюза у Літве, Польшчы і Расіі (гл *Бунд*) у Мазыры ў пач 1900-х г — 1921 Утвораны ў 1901—02 Спачатку прапагандаваў с д ідэі ў закансправаных гуртках яўр рабочых 26 10 1902 выдаў на гектографе 1-ю адозву «Да ўсіх мазырскіх рабочых» і распаўсюдзіў яе разам з лістоўкай Екацярынаслаўскага к-та партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў «Да рэкрутаў навабранцаў» 31 10 1902 паліцыя выявіла кватэру, дзе знаходзілася б-ка к-та, арыштавала 5 чал і захапіла каля 130 брашур, газет і лістовак 32 назваў З пач 1903 к-т сістэматычна дасылаў звесткі пра сваю дзейнасць у газ «Последние известия» — орган Заграмічнага к-та Бунда У крас 1903 к-т распаўсюдзіў лістоўкі ЦК Бунда, Арганізац к-та РСДРП і сваю ўласную адозву, у якой заклікаў рабочых далучыцца да агульнарас рабочага руху і выказаць 1 мая пратэст самадзяржаўю і буржуазіі У выніку 1 мая ў Мазыры ўпершыню адбылася агульнагар паліт забастоўка рабочых Пад уплывам агітацыі к-та ва ўпаковачным аддзяленні запалкавай ф-кі «Маланка» ў ліст 1903 адбылася забастоўка 250 работніц супраць паніжэння расцэнак і адвольных штрафаў У цэлым для дзейнасці к-та таго часу характэрна спалучэнне эканам і паліт агітацыі У 1904 к-т арганізаваў 3 масоўкі, 2 мітынгі і вулічную дэманстрацыю, у якіх удзельнічала ад 200 да 800 рабочых стварыў баявы атрад Пры дапамозе Мазырскага к-та ў 1904 утворана і дзейнічала арг-цыя Бунда ў мяст Калінкавічы У 1905 к т разам з Мазырскай групай РСДРП удзельнічаў у арганізацыі агульнагар паліт выступленняў працоўных — студзеньскай, першамайскай і кастрычніцкай стачак, шэрагу мітынгаў, дэманстрацый і маніфестацый, заимаўся арганізацыяй эканам барацьбы рабочых Кастр стачка (18—22 кастр ) праходзіла пад кіраўніцтвам рэв к-та і суправаджалася ўзбр сутыкненнямі рабочых з паліцыяй і войскам У 1906 размах руху, асабліва палітычнага, рэзка звузіўся, многія члены арг-цыі эмігрыравалі Сярод бундаўцаў, як і меншавікоў, пашырыліся легалізатарскія настроі Дзейнасць іх у Мазыры ў 1907—16 амаль спынілася Прадстаўнікі Мазырскага к-та ўдзельнічалі ў канферэнцыі Бунда ў Кіеве ў жн 1915.

Пасля перамогі Лют рэвалюцыі 1917 Мазырская арг-цыя Бунда стала шматлікай і ўплывовай у горадзе У ліп ў еи было 260 членаў На выбарах у гар думу яна правяла 15 сваіх кандыдатаў (60% ад агульнага складу) Пад яе кантролем выходзіла газ «Известия Мозырского Совета рабочих и солдатских депутатов и Мозырского Совета крестьянских депутатов» Пад уплывам Кастр рэвалюцыі 1917 сярод бундаўцаў паско-

кніга на ням. мове «Спроба трансцэндэнтальнай філасофіі» (1790), прысвечаная філасофіі І.Канта, была высока ацэнена самім Кантам. У 1790-я г. М. выдаў працы на ням. мове «Спрэчкі аб філасофіі», «Аб прагрэсе філасофіі», «Катэгорыі Арыстоцеля» і інш., на іўрыце — «Пагорак Настаўніка», «Тайны мудрасці», «Жаданне Саламона». Творы М. чыталі і высока ацэньвалі І.В.Гётэ, І.Х.Ф.Шылер, І.Г.Фіхтэ і інш. Характэрныя рысы яго філасофіі — скептыцызм і рацыяналізм. М. сцвяр джаў, што існуе толькі адзіны свет — свет свядомасці, што пазнаць можна толькі аб'екты, створаныя самім па знаннем. Адвяргаў існаванне кан таўскай «рэчы ў сабе». У сваёй «Гісторыі жыцця...» (1793) усебакова адлюстраваў жыццё і побыт насельніцтва Беларусі 2-й пал. 18 ст., сац.-эканам. і духоўныя праблемы.

*Тв.:* Рус. пер. — История жизни Шломо Маймона, написанная им самим // Еврейская библиотека. СПб., 1871—72. Т. 1—2.

*Літ.:* Фишер К. История новой философии. Т. 6, гл. 6—7. СПб., 1909; Яковенко Б. Философская концепция Соломона Маймона // Вопр. философии и психологии. 1912. Кн. 114(4)—115(5); Купчин Н.С. Философские взгляды Маймона // Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии. Мн., 1962.

*Эмануіл Іофе.*

**МАЙСЕЕНКА** Яўсей Яўсеевіч [15(28).8.1916, мяст. Уваравічы Гомельскага пав. Магілёўскай губ., цяпер гар. пасёлак Буда-Кашалёўскага р-на — 1.12.1988], жывапісец. Нар. мастак СССР (1970). Акад. АМ СССР (1973). Вучыўся ў АМ у Ленінградзе (1936—47). Удзельнік Вял. Айч. вайны. З 1958 выкладаў у Ленінградскім ін-це жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І.Я.Рэпіна (з 1963 праф. кафедры жывапісу). Працаваў пераважна ў батальным, пейзажным, партрэтным жанрах. Гіст. падзеі грамадз. вайны і калектывізацыі ў Беларусі адлюстраваны ў карцінах «Чырвоныя прыйшлі» (1961), «Чарэшня» (1969), «У калгас» (1987) і інш. Вял. Айч. вайне прысвечаны творы «Генерал Даватар» (1947), «Апалчэнцы» (1960), «Ветэраны» (1978), цыкл «Гэтага нельга забыць» і інш. На бел. матэрыяле напісаны карціны «З дзяцінства» (1967), «У вайну», «Жанчына ў чорным» (абедзве 1978) і інш. Жывапіс экспрэсіўны, з вытанчанымі каляровымі мадуляцыямі. Дзярж. прэмія РСФСР імя Рэпіна 1966, Ленінская прэмія 1974 (за карціну «Перамога», 1972), Дзярж. прэмія СССР 1983.

*Літ.:* Кривенко И.А. Е.Е.Моисеенко. Л., 1960; Кекушева Г.В. Евсей Моисеенко. Живопись: [Альбом]. М., 1981.

*Міхаіл Цыбульскі.*

Я.Я.Майсеенка. Чырвоныя прыйшлі. 1961.

І.Ц.Майсееў.

**МАЙСЕ́ЕЎ** Іван Цімафеевіч [3(16).8.1910, в. Вялюнь Кобрынскага пав., цяпер Брэсцкага р-на — 12.2.1976], Герой Сав. Саюза (1945). Скончыў курсы «Выстрал». У Чырв. Арміі з 1928. З 1943 на 2-м Укр. фронце. Удзельнік вызвалення Украіны, Румыніі, Чэхаславакіі. Капітан М. вызначыўся ў 1944 пры фарсіраванні р. Ціса на тэр. Венгрыі: у ліст. батальён на чале з М. пад варожым агнём пераправіўся цераз раку, выбіў праціўніка з траншэі, прайшоў з баямі 18 км, захапіў у палон 180 гітлераўцаў.

**МАЙСЕ́ЙШЫН** Федар Харланавіч (1.5.1936, г.п. Капаткевічы Петрыкаўскага р-на — 16.9.1989), бел. гісторык. Канд. гіст. н. (1982). Скончыў БДУ (1960), Мінскую ВПШ (1967). У 1961—65 сакратар Любанскага райкома ЛКСМБ, з 1967 працаваў у Любанскім раённым, Мінскім абл. к-тах КПБ. З 1972 інструктар, заг. сектара аддзела арганізац.-парт. работы ЦК КПБ. З 1983 выкладчык Мінскай ВПШ. Даследаваў гісторыю КПБ.

*Тв.:* Время и поиск: Из опыта работы Минской обл. парт. орг. Мн., 1976; Действенность партийного контроля: Из опыта работы Компартии Белоруссии. Мн., 1982; Партийная забота о комсомоле: Из опыта работы Компартии Белоруссии. Мн., 1986.

*Яўген Бараноўскі.*

**МАЙСЕ́НЯ** Анатоль Іосіфавіч (4.1.1959, в. Вял. Ліпа Нясвіжскага р-на — 12.11.1996), бел. палітолаг, журналіст. Канд. філас. н. (1987). Скончыў Мінскі пед. ін-т замежных моў (1980). Працаваў на Бел. рэсп. тэлебачанні, палітычным аглядальнікам «Народнай газеты». З 19... прэзідэнт Нац. цэнтра стратэг. ініцыятыў «Усход—Захад». Даследаваў гісторыю паліт. рэпрэсій у БССР, сац.-паліт. працэсы ў канцы 1980-х — 1990-я г. ў Рэспубліцы Беларусь. Загінуў у аўтакатастрофе.

*Тв.:* Забыть не дано. Мн., 1989; Стр... несбывшихся надежд. Мн., 1997.

**МАЙСКАЯ АПЕРА́ЦЫЯ 1920,** наступальная аперацыя сав. войск Зах. фронту 14 мая — 8 чэрв. ў *савецка-польскую вайну 1920.* Праводзілася ва ўмовах, калі польск. войскі ў ходзе красавіцкага наступлення прасунуліся на 200 км на Украіне і занялі Кіеў. На пачатак аперацыі ў склад Зах. фронту (камандуючы М.М.Тухачэўскі, чл. РВС Я.С.Уншліхт, І.Т.Смілга) уваходзілі Паўн. група (створана 5 мая, команд. Я.М.Сяргееў), 15-я армія (команд. А.І.Корк), 16-я армія (команд. М.У.Салагуб), якія налічвалі 75 тыс. штыкоў, 5 тыс. шабляў, 4... гармат, 1935 куляметаў, 10 бронепаяздоў, 15 бронеаўтамабіляў і 67 самалётаў. Польскія войскі Паўн.-Усх. фронту (команд. ген. С.Шаптыцкі) складаліся з 1-й і 4-й армій і мелі каля 52 тыс. штыкоў, 5,5 тыс. шабляў, 340 гармат, 1440 куляметаў, 10 бронепаяздоў і 46 самалётаў.

З-за цяжкага становішча, якое склалася ў выніку наступлення польскіх войск на Украіне, Зах. фронт пачаў М.а. без дастатковай падрыхтоўкі. 14 мая войскі 15-й арміі перайшлі ў наступленне на Віленскім напрамку, прарвалі абарону праціўніка і 16 мая выйшлі на рубеж Дзісна — Зябкі — воз. Шо — воз. Манец. Выкучаная 15 мая з 15-й арміі Паўн. група 16 мая выйшла на лінію Пышна—Лепель—Стайск. Войскі Паўн. групы (164-я брыгада) фарсіравалі Зах. Дзвіну на ўчастку Полацк—Дзісна і занялі плацдарм на ле-

Пінску Аднак маральны стан духавенства мітраполіі значна пагоршыўся па шырылася атрыманне царк пасад за хабар, павялічыўся ўплыў свецкіх асоб на царк справы, чаму М фактычна спрыяў

**МАКА́РЫЧАЎ** Міхаіл Іванавіч (2 6 1919 в Гуляеўка Буінскага пав Сімбірскай губ, цяпер Сурскага р-на Ульянаўскай вобл, Расія — 10 7 1991), удзельнік вызвалення Беларусі у Вял Айч вайну, Герой Сав Саюза (1944), ген-лейт (1971) Скончыў Сумскае ар тыл вучылішча (1938), Ваен акадэмію імя Фрунзе (1954) З 1941 на Паўд-Зах, Данскім, Варонежскім, 1 м, 2-м Пры балт, Ленінградскім франтах Удзельнік абароны Кіева, Сталінградскай і Кур скай бітваў, вызвалення Беларусі Літ вы, Латвіі Вызначыўся ў *Віцебска Аршанскай аперацыі 1944* 24 чэрв зні шчальны процітанк артыл полк пад яго камандаваннем выйшаў да Зах Дзвіны каля в Лабеікі Бешанковіцкага р-на, пад агнем праціўніка М умела ар ганізаваў пераправу палка, захоп і рас шырэнне плацдарма Да 1976 у Сав Ар міі

М І Макарычаў

**МАКА́РЫЧЫ**, 5 курганных могільнікаў *дрыгавічоў* 11—13 ст (не захаваліся) каля в Макарычы Старадарожскага р на Было 83 насыпы Даследаваў у 1888 14 курганоў М Мышанкоў Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў насыпе, яме, на гарызонце галавою на З, трапляецца на У і Пд Выяўлены рэшткі пахавальных збудаванняў і трун Пахавальны інвентар — металічныя буйна зярненыя і шкляныя залачоныя і пасярэбраныя пацеркі, паўтараабаротныя скроневыя кольцы, ганчарныя гаршкі

**МАКАРЭ́ВІЧ** Аляксандр Федаравіч (н 27 4 1961, г Ліда), бел гісторык Канд гіст н (1988) Скончыў Гродзенскі ун т (1984) У 1988—95 навук супрацоўнік Цэнтр партархіва КПБ заг аддзела ЦК ЛКСМБ нам дырэктара Бел НДІ дакументазнаўства і архіўнай справы З 1995 нам нач канцылярыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Асн кірункі даследаванняў — гісторыя, архіва і крыніцазнаўства Беларусі

*Тв* В фонд Победы патриотическое движение трудящихся Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1945 гг) Мн 1995

**МАКАЎ** Леў Савіч [1830, мяст Мар'іна Горка Ігуменскага пав Мінскай губ, цяпер горад у Пухавіцкім р-не Мінскай вобл — 27 2(11 3) 1883], расійскі дзярж дзеяч Скончыў Пажскі корпус (1849) Служыў афіцэрам-уланам З 1861 у Вільні, стацкі саветнік пры ген-губернатарах У І *Назімаве* і М М *Мураўеве*, займаўся правядзеннем *сялянскай рэформы 1861* у Віленскай, Гродзенскай і Мінскай губ Са жн 1863 у МУС, удзельнічаў у далучэнні уніятаў да праваслаўя ў Царстве Польскім (1875) З 1876 таварыш (намеснік) міністра, з лют 1878 — міністр унутр спраў Са жн 1880 міністр пошт і тэлеграфа, адначасова — заг дэпартамента духоўных спраў замежных веравызнанняў З 1881 чл Дзярж савета Скончыў самагубствам у сувязі з раскрытымі казеннымі крадзяжамі

*Літ* М о с о л о в А Н Виленские очерки СПб 1898 Из дневника графа С А Строганова // Дела и дни 1920 Кн 1

*Эдуард Карнілович*

**МАКІЕНАК** Іван Андрэевіч [2(15) 7 1914, в Гарадзілавічы Дрысенскага пав Віцебскай губ, цяпер у Верхнядзвінскім р не — 28 3 1944], Герой Сав Саюза (1945) У Чырв Арміі з 1936 З 1941 на Чарнаморскім флоце удзельнік абароны Севастопаля, вызвалення Марыупаля, Новарасійска Бярдзянска Нам камандзіра аддзялення аўтаматчыкаў асобнага батальена мар ской пяхоты старшына 2 и стацці М вызначыўся у час дэсантнай аперацыі ў г Мікалаеў (Украіна) у ноч на 26 сак у складзе атрада дэсантнікаў (68 чал) па р Паўд Буг зайшоў у тыл ворага высадзіўся ў порце, 2 сутак вёў з праціўнікам няроўны бой (адбіта 18 контратак), загінуў у гэтым баі

І А Макіенак

**МАКО́ЎСКІ** Тамаш (1562 або 1575, г Гданьск? — 1630), мастак, гравер У 1600—11 на службе у кн М К Радзівіла Сіроткі, жыў пераважна ў Нясвіжы Аў гар некат медзярытаў да кнігі Радзівіла «Пэрэгрынацыя, або Паломніцтва ў Святую зямлю» (Брунсберг, 1601), яго грававанага партрэта, відаў Клецка, Нясвіжа, Коўна, Трокаў, Гродна, Вільні, якія вызначаюцца падрабязнасцю і з'яўляюцца каштоўнымі іканаграфічнымі крыніцамі, ілюстрацый да «Гішкі» К Дарагастайскага (Кракаў, 1603, 2 е выд Познань, 1620), да панегірыка Радзівілу братоў Скарульскіх (Нясвіж, 1604), шматлікіх выяў магнацкіх гербаў Выгравіраваў першую дакладную геагр карту ВКЛ (каля 1603, захавалася 2 е выд, Амстэрдам, 1613), т зв «Карта М», якая з'яўляецца яго найб значным творам Распаўсюджанае меркаванне пра удзел М ў працы над картай у якасці картографа, хутчэй за ўсе, памылковае Выканаў некальк і гравюр пра падзеі *вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18* план Масквы, выяву прадстаўлення сенату палонных братоў Шуйскіх і інш У творчасці М прасочваецца ўплыў галандскіх майстроў, ей уласцівы рысы маньерызму У Нясвіжы ўстаноўлены бюст М

*Літ* Ш м а т а ў В Ф Беларуская кніжная гравюра XVI—XVIII стст Мн, 1984 Т к а ч э н к а М Аўтарству стагоддзі не замінка Невядомы партрэт з творчай спадчыны Тамаша Макоўскага // Мастацтва Беларусі 1990 № 12, J a k u b o w s k i J Tomasz Makowski, sztycharz i kartograf nieswieski Warszawa 1923 A l e x a n d r o w i c z S Rozwój kartografii Wielkiego Księstwa Litewskiego od XV do połowy XVIII wieku 2 wyd Poznan, 1989

*Алесь Белы*

Т Макоўскі Партрэт Жыгімонта III Медзярыт з кнігі «Статут Вялікага княства Літоўскага» Вільня 1619

**МАКРАЛІ́ТЫ** (грэч makros вялікі + lithos камень), буйныя прылады працы

(лаўж 8—20 см), якімі карысталіся ў эпоху *каменнага веку* Выраблялі з крэменю сякерападобныя прылады, цеслы, адбойнікі, грубыя скоблі і скрабкі, разцы, шырокія нажы, трохгранныя сякучыя прылады, адцiскальнікі, свердлы Частка М замацоўвалася ў дзяржаннях На Беларусі макралітычныя прылады працы былі найб пашыраны ў эпоху *мезаліту* ў зах раенах і бас Сажа ў плямен дзяснінскай, неманскай, свідэрскай, сожскай і інш археал культур

**МАКСІМАЛІ́СТЫ**, эсэры-максімалісты, палітычная плынь у партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў (эсэраў) Узніклі ў 1904, арганізацыйна аформіліся ў «Саюз сацыялістаў-рэвалюцыянераў максімалістаў» у кастр 1906 Кіраўнікі Ф Я Святлоў, Г А Нястроеў, М І Сакалоў, М І Рыукін і інш Выступалі за неадкладны сац пераварот, ажыццяўленне эсэраўскаи праграмы максімум (адсюль назва) — сацыялізацыю (пераход з прыватнай уласнасці ў агульнанародную) зямель, фабрык і заводаў Асн сродкамі барацьбы лічылі індывідуальны тэрор і экспрапрыяцыю, якія ажыццяўляе «ініцыятыўная меншасць» — падпольная арганізацыя змоўшчыкаў У рэвалюцыю 1905—07 М налічвалі каля 2—2,5 тыс чал У Беларусі іх арг-цыі былі ў Вільні, Беластоку, Віцебску, Гомелі і Гомельскім пав (ст Васільеўка), Гродне, Пінску, Слоніме Выпускалі пракламацыі, вялі рэв прапаганду Актыўную работу праводзілі Рыўкін, Сакалоў, С В Сікорскі 12 8 1906 гомельскія эсэры-максімалісты Э Зубельманскі і І М Ціпункоу удзельнічалі ў няўдалым замаху на жыцце П А Сталыпіна ў Пецярбургу Пасля 1907 М перажывалі агульны крызіс Апошняя іх акцыя на Беларусі — няудалая спроба вясной 1908 захапіць на станцыі Навагрудак 2 млн руб грошай У 1912 іх дзейнасць была поўнасцю спынена, аднавілася пасля Лют рэвалюцыі 1917 У 1917 іх колькасць дасягнула 3 тыс чал Пасля Кастр рэвалюцыі 1917 дзейнічалі ў па лiт блоку з левымі сацыялістамі-рэвалюцыянерамі і бальшавікамі, прызналі ўладу Саветаў, але адмоўна ставіліся да дыктатуры пралетарыяту Выступілі супраць *Брэсцкага міру 1918* Частка іх удзельнічала ў антысав мяцяжах У крас 1919 адбыўся раскол Саюза эсэраў максімалістаў большасць арг цыи выступіла за супрацоўніцтва з бальшавікамі Частка у т л Аршанскі саюз, заставалася на антыбальшавіцкіх пазіцыях У маі 1920 арг-цыя М самаліквідавалася, частка яе членаў уступіла ў РКП(б)

*Літ* Жуков А.Ф Идейно-политический крах эсеровского максимализма Л 1979, Павлов Д Б Эсеры-максималисты в первой российской революции М, 1989 Политическая история России в партиях и лицах М 1994 *Эдуард Ліпецкі*

**МАКСІМЕ́ЙКА** Мікалай Аляксеевіч [5(17) 6 1870, с Валашнўцы Роменскага пав Палтаўскай губ, цяпер у Роменскім р-не Сумскай вобл Украіны — 14 4 1941], украінскі гісторык права Чл-кар АН УССР (1925), д-р гісторыі права (1914) Скончыў Кіеўскі ун т (1892) Прыват-дацэнт, дацэнт, праф гісторыі рус права Харкаўскага ун-та (1897—1920) і інш ВНУ Харкава (1920—26), адначасова працаваў у камісіі па вывучэнні гісторыі зах рус і укр права АН УССР, быў членам гэтай камісіі (1934—40) Вывучаў гісторыю права Стараж Русі і ВКЛ, у т л праблемы ўплыву норм польскага права на заканадаўства Беларусі, Літвы і Украіны 14—16 ст У працы «Крыніцы крымінальных законаў Літоўскага Статута» (1894) прызнаваў кіруючую ролю «рускага права» у фарміраванні прававых норм літ Статутаў 16 ст, а ў «Сеслоупаи афарбоўцы» Статутаў адводзіў гал месца не ўплыву польскага права, а сас лоўнаму характару ВКЛ

*Тв* Сеймы Литовско Русского государства до Люблинской унии 1569 г Харьков 1902, Опыт критического исследования Русской Правды Вып 1 Харьков, 1914, Система Руської Правди в її поширеній редакції Київ, 1926, Інтерполяції в тексті поширеної Руської Правди Київ, 1929

*Літ* Скакун О Ф М О Максимейко як історик права // Проблеми правознавства 1972 Вип 21 *Дзмітрый Караў*

**МАКСІМЕ́НКА** Аляксей Пятровіч [23 9(5 10) 1905, г Орск Арэнбургскаи губ, цяпер у Арэнбургскай вобл, Расія — 10 3 1959], удзельнік Аршанскага і Віцебскага патрыят падполля ў Вял Айч вайну У 1932 нач Полацкага і Аршанскага аддз НКУС У Вял Айч вайну ў крас —ліст 1942 кіраўнік аператыўна-чэкісцкай групы, якая дзейнічала ў раене Віцебска, у маі 1943 — сак 1944 камандзір разведвальна-дыверсійнага атрада «Няўлоўныя» і нам камандзіра па разведцы партыз брыгады імя К Заслонава Разведчыкі на чале з ім падпольшчыкі і сувязныя здабылі і склалі больш за 200 схем, карт і паведамленняў пра вайск часці, аэрадромы, склады, абарончыя ўмацаванні праціўніка правялі шэраг дыверсіи на аб'ектах акупантаў У 1944—52 у органах КДБ Беларусі

**МАКСІМЕ́НЯ** Іосіф Маркавіч [3(16) 8 1912, в Старына Слуцкага пав Мінскай губ, цяпер у Капыльскім р не — 15 8 1964], Герой Сав Саюза (1940) У Чырв Арміі з 1934 Удзельнік сав-фінляндскаи вайны 1939—40 Пад агнем праціўніка 5 3 1940 заклаў гранатамі варожы доі заняў вышыню і 1,5 гадз утрымліваў яе да падыходу падраздзялення, 7 сак адзін з першых фарсіраваў р Вуокса і забяспечваў пераправу батальена У Вял Айч вайну камандзір узвода партыз атрада брыгады імя М Шчорса Мінскаи вобл Пасля вайны на гасп рабоце

**МАКСІМЧА́** Іван Васілевіч (14 9 1922 в Нікалаеўка Міякінскага р-на, Башкартастан — 26 4 1985), Герой Сав Саюза (1945) Беларус Скончыў Тамбоўскую ваен авіяц школу пілотаў (1943) У Вял Айч вайну з 1943 на Бранскім, Ленінградскім, 2 м Прыбалтыйскім франтах Лётчык-штурмавік, камандзір авіяэскадрыллі капітан М зрабіў 136 баявых вылетаў, знішчыў 3 самалеты, значную колькасць баявои тэхнікі і жывой сілы ворага З 1946 у грамадз авіяцыі, Рэсп штабе грамадз абароны Башкартастана, на адм-гасп рабоце

**МАКСІМЮ́К** Ян Уладзіміравіч (н 18 5 1958, в Ляхі Гайнаўскага пав Бе-

**Т Макоўскі Гетман С Жулкеўскі прадстаўляе каралю Жыгімонту III палоннага цара Васілія Шуйскага і яго братоў на Варшаўскім сейме 1611 Медзярыт паводле карціны Т Далабелы**

панії 1812 У 1977 у гонар перамогі ў Маладзечне пастаўлены помнік

*Літ* Богданович М История Отечественной войны 1812 г по достоверным источникам СПб, 1860 Т 3 С 296 300—304 *Шаміль Бекцінееў*

**МАЛАДЗЕЧАНСКІ ЗАМАК** Існаваў у 14—18 ст на правым беразе р Уша як цэнтр абароны сярэдневяковага *Маладзечна* У пісьмовых крыніцах упершыню згадваецца у 1388 Пры яго буд ве удала выкарыстаны нізкі балоцісты рэльеф і натуральныя ўмацаванні пад-ведзена грэбля на балоце вымашчаны участак 120 × 80 м, насыпана са жвіру і пяску пляцоўка вышыня каля 4 м Па яе краі зроблены валы выш да 3,5 м і шыр 11 м Напачатку тут стаялі драўляныя сцены гародні і вежы у т л ўязная брама У 17 ст на вуглах замка пабудаваны бастыёны галандскага тыпу, што адпавядала зменам у тактыцы абароны і аблогі Для прадухілення апаўзання зямлі каля падножжа бастыёнаў мелася агароджа слупавой канструкцыі Знутры вала, у месцах яго прылягання да брамы насыпы арміраваны мураванымі каменнымі сценкамі У 1519 (двойчы) і 1533 замак асаджалі наўгародска-пскоўскія ратнікі на чале з кн М Кісліцай і, напэўна, спалілі яго Сляды агню ў профілі замкавага вала і культурным пласце пацвярджаюць шматразовыя пажары ўмацаванняў У 1568 пад Маладзечнам размяшчалася 40 тысячная армія Жыгімонта II Аўгуста, якая мела намер прадухіліць паход войск Івана IV Грознага на ВКЛ У 1708 рус атрад абараняў горад ад групоўкі войск шведскага караля Карла XII Гэта відаць была апошняя бітва у якой выкарыстоўваліся умацаванні М з У 17—18 ст у замку знаходзілася рэзідэнцыя кн Агінскіх На яго тэр ў 16—18 ст быў мураваны храм (11 × 24 м), размаляваны фрэскамі М з разбураны ў канцы 18 ст Археал даследаванні замка праводзіў М А Ткачоў (1976, 1980)

*Літ* Ткачоў М А Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст Мн 1978 *Міхась Ткачоў*

**МАЛАДЗЕ́ЧАНСКІ ЛАГЕР СМЕ́РЦІ** (шталаг № 342) у Вялікую Айчынную вайну Створаны ням-фаш захопнікамі ў Маладзечне у ліп 1941 для масавага знішчэння сав ваеннапалонных Тут трымалі і цывільнае насельніцтва Меў 3 лагеры 13 аддзяленняў на чыг лініях пастаянна ў лагеры знаходзілася каля 30 тыс чал Тэр была абгароджана калючым дротам вязні размяшчаліся ў бараках без ацяплення Ад голаду (за суткі на чалавека выдавалі 100 г эрзацхлеба і 1 л баланды), фіз знясілення эпідэміі тыфу і інш хвароб у лагеры пачалася масавая смяротнасць Сістэматычна праводзіліся расстрэлы вязняў Да чэрв 1944 тут загублена 33 150 чал На месцы лагера у памяць аб ахвярах генацыду у 1996 адкрыты мемар комплекс

Асноўная кампазіцыя мемарыяла на месцы **Маладзечанскага лагера смерці**

**МАЛАДЗЕЧАНСКІ ПАВЕТ** адм тэр адзінка на Беларусі у 1927—40 Цэнтр — *Маладзечна* Створаны 1 4 1927 у складзе Віленскага ваяв Польскай Рэспублікі Падзяляўся на 8 гмін Маладзечанскую Гарадоцкую, Красненскую, Лебедзеўскую, Радашковіцкую (вылучаны з Вілейскага пав ), Беніцкую (з Ашмянскага пав ), Палачанскую (з Валожынскага), Ракаўскую (са Стаўбцоўскага) уключаў 3 мястэчкі Маладзечна (з 1929 горад), Радашковічы, Ракаў 3 4 12 1939 у Вілейскай вобл БССР 15 1 1940 скасаваны

**МАЛАДЗЕЧАНСКІ ПЯХО́ТНЫ ПОЛК**, вайсковая часць рас арміі ў 1811—1918 Сфарміраваны 17(29) 1 1811 як Віленскі унутр губернскі паўбатальён З 1877 — 61 ы (пазней 18-ы) рэзервовы пях батальён 25 3(6 4) 1891 у гонар перамогі ў *Маладзечанскім баі 1812* перайменаваны ў Маладзечанскі рэзервовы батальён 22 4(4 5) 1892 разгорнуты ў 2 батальённы 183 і рэзервовы М п п і уключаны ў 46 ю Рэзервовую пях брыгаду 1(13) 1 1898 пераарміраваны ў 170 ы М п п у складзе 43 й пях дывізіі 2 га арм корпуса, налічваў 1554 чал У 1911 у гонар 100 гадовага юбілею палка атрымаў новы сцяг з юбілейнай Аляксандраўскай чырв стужкай У 1-ю сусв вайну ў жн —вер 1914 на Зах фронце ва Усх Прусіі, потым на Гродзеншчыне У маі—чэрв 1916 на Паўд Зах фронце ўдзельнічаў у «брусілаўскім» наступленні супраць аўстра герм войск у раёне Язлоўца і Порхава (Украіна) Вызначыўся 24 6(6 6) 1916 пры прарыве часцямі 2-га арм корпуса трох ліній абароны аўстрыйцаў і адбіцці іх контра так на Пд ад г Бровары 1 3 1918 расфарміраваны паводле ўказа Сав ўрада

*Літ* Звегинцов В В Хронология русской армии 1700—1917 гг Ч 1 Париж 1961 Керсновский А А История русской армии Т 3 М 1994 *Шаміль Бекцінееў*

**МАЛАДЗЕ́ЧАНСКІ РАЁН** Размешчаны на ПнЗ Мінскай вобл Плошча 1,4 тыс км², насельніцтва (без г Маладзечна) 52 326 чал з іх сельскага 45 416 чал (1997) Цэнтр — г *Маладзечна* З ПнЗ на ПдУ цягнуцца Ашмянскае і Мінскае ўзвышшы, падзеленыя далінай Бярэзіны (басейн Немана) На Пн — Нарача на-Вілейская нізіна Найб рэкі Бярэзіна (бас Немана), Вілія, Уша Пад лесам 30,7% тэр раёна Праходзяць чыгункі Мінск—Вільнюс, Маладзечна—Полацк і Маладзечна—Ліда аўтадарогі на Мінск, Вілейку, Валожын Смаргонь

Утвораны 15 1 1940 у складзе Вілейскай вобл, 12 10 1940 падзелены на 15 сельсаветаў Бенцкі Вялікасельскі Гарадзілаўскі, Заскавіцкі, Лебедзеўскі, Літвянскі, Маркаўскі, Мароськаўскі, Мясоцкі, Насілаўскі, Палачанскі, Раеўскі Соўлаўскі, Хажоўскі Хоўхлаўскі У Вял Айч вайну ў канцы чэрв 1941

А. Звонак, В. Каваль, А. Моркаўка, А. Сянкевіч і інш.), аргкамітэта ССП БССР (№ 5—8 за 1932, рэдкалегія без пераліку імен).

На 1-м этапе (1923 — сярэдзіна 1926) часопіс арыентаваўся на бел. камсамольска-маладзежную аўдыторыю, імкнуўся спалучыць афіц. праграму сацыяліст. будаўніцтва з нац.-адраджэнскімі матывамі. Акрамя вершаў, апавяданняў, нарысаў маладнякоўцаў «1-га заклiку» (Чарота, А. Бабарэкі, У. Дубоўкі, Дудара, К. Чорнага, Вольнага, А. Александровіча, К. Крапівы, Я. Пушчы, П. Труса) друкаваў творы старэйшых пісьменнікаў (Ц. Гартнага, З. Бядулі, А. Гурло), першыя літ. спробы пачынаючых аўтараў і селькораў. Пасля выхаду з маладнякоўскага аб'яднання заснавальнікаў *«Узвышша»* (май 1926) і *«Полымя»* (снеж. 1927) аб'ядноўваў маладых літаратараў 2-га маладнякоўскага «прызыву» (П. Броўка, Галавач, І. Гурскі, А. Куляшоў, М. Лынькоў, Я. Скрыган і інш.). З сярэдзіны 1928 перайшоў на т.зв. «напастоўскія» (ад назвы час. «На посту») вульгарна-сацыялагічныя пазіцыі рас. асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў. Адпаведна гэтай ідэйна-паліт. эвалюцыі мянялася агульнагіст. і культ.-гіст. арыентацыя часопіса. На 1-м этапе апалагетыка рэвалюцыі, бальшавікоў і камсамола [матэрыялы да 5-годдзя камсамола Беларусі, нарысы філосафа С. Вальфсона «Класы і класавая барацьба» 1924, № 2—3), «Менск на зары рэвалюцыі» (1924, № 4)] межавалася з нац.-патрыятычным асвятленнем мінуўшчыны Беларусі і праблем беларусізацыі [арт. Н. Бываеўскага (Я. Дылы) «Воровские лихие дела» «литвы» у Сібіры», М. Каспяровіча «Беларускае малярства ў Польшчы», Я. Пляшчынскага «Аб жніўных абрадах і песнях» (усе 1925, № 6), Дубоўкі «Два гады працы «Маладняка» (1926, № 1)]. На 2-м этапе ў часопісе ўзмацнілася «напастоўская» плынь у гістарыяграфіі, крытыцы і публіцыстыцы [рэцэнзія Т. Глыбоцкага (Дудара) на паэт. зб. «Vita» Пушчы (1926, № 4) і яго арт. «Аб «фальшы камертонаў» (1926, № 9), «Шляхам Кастрычніка» (1927, № 10), М. Аляхновіча «На шляхах беларускай пралетарскай літаратуры» (1928, № 1) і інш.]. Адначасова публікаваліся артыкулы, якія аб'ектыўна асвятлялі гісторыю айч. і сусв. культуры: «Шляхі сучаснага малярства» У. Майзэліса (1926, № 11), «Літаратура і класы» праф. Н. Яфімава (1927, № 6—8), «Беларуская палітычная карыкатура» А. Шлюбскага (1927, № 10), «Таварыства філаматаў» Л. Цвяткова (1927, № 1—2). На 3-м этапе, калі «М.» стаў органам БелАПП, ён паступова стаў рупарам вульгарна-сацыялагічнай крытыкі і псеўданавукі: рэзалюцыя Бюро ЦК КП(б)Б «Аб беларускай літаратуры на мастацкай і тэатральнай крытыцы» (1928, № 6), арт. А. Гародні «Ці ёсць у нас неабуржуазная літаратура?» (1928, № 9) і інш., пагромныя артыкулы Л. Бэндэ з паліт. абвінавачваннямі класікаў бел. л-ры, ранніх маладнякоўцаў, узвышанцаў, фальсіфікацыя ім гісторыі бел. культуры. У той жа час з'яўляліся аб'ектыўныя артыкулы Я. Барычэўскага, П. Бузука, М. Гарэцкага, А. Некрашэвіча, М. Пятуховіча і інш., публікаваліся вершы і паэмы Броўкі, Куляшова, В. Маркова, У. Хадыкі, апавяданні, аповесці і раманы З. Астапенкі, Галавача, Гартнага, Мікуліча і інш. У 1932 «М.» як орган Аргкамітэта ССП БССР дубліраваў функцыі час. «Полымя» і да таго ж у поўнай меры скампраметаваў сябе крытычнымі публікацыямі. Гэтыя абставіны абумовілі закрыццё часопіса.

Вокладка часопіса «**Маладое жыццё**». 1922.

*Літ.:* К о н а н У. М. Развіццё эстэтычнай думкі ў Беларусі (1917—1934 гг.). Мн., 1968; Я г о ж. Адам Бабарэка: Крытыка-біягр. нарыс. Мн., 1976; М у ш ы н с к і М. І. Беларуская крытыка і літаратуразнаўства, 20—30-я г. Мн., 1975. *Уладзімір Конан*

**«МАЛАДО́Е ЖЫЦЦЁ»**, заходнебеларускі маладзежны часопіс. Выдаваўся з лют. 1921 да студз. 1923 у Вільні на бел. мове. Яго публіцыст. артыкулы заклікалі моладзь да паліт. і сац. самаўсведамлення, салідарнасці з перадавой моладдзю інш. народаў. Належная ўвага аддавалася пазнанню духоўнай спадчыны бел. народа, выхаванню пашаны да яе. На старонках часопіса друкаваліся вершы У. Жылкі, І. Дварчаніна, У. Дубоўкі, М. Запольскага, М. Парашкевічанкі, Ю. Сергіевіча, В. Сталяронка, С. Глебава, апавяданні і замалёўкі Чурылы, Я. Драздовіча (псеўд. І. Разора), М. Ільяшэвіча, артыкулы і нарысы пра творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, Я. Коласа, пераклады твораў А. Герцэна, І. Тургенева, Г. Лангфела. Змястоўнасцю вызначалася хроніка культ. жыцця Зах. Беларусі. Выдаваўся неперыядычна, выйшла 7 нумароў. *Арсень Ліс*

**«МАЛАДО́СЦЬ»**, штомесячны літ.-маст. і грамадска-паліт. ілюстраваны часопіс. Выдаецца з крас. 1953 у Мінску на бел. мове. Да чэрв. 1957 орган ЦК ЛКСМБ, пасля — і СП БССР. З 1992 заснавальнікі — Саюз бел. пісьменнікаў і працоўны калектыў рэдакцыі. Друкуе творы бел. пісьменнікаў — вершы, паэмы, апавяданні, раманы, публіцыст., крытычныя і літаратуразнаўчыя артыкулы, рэцэнзіі, матэрыялы на навук., грамадска-паліт., гіст. тэмы, фотарэпартажы, нарысы пра людзей працы, дзеячаў навукі, культуры, л-ры і мастацтва, спартсменаў, пераклады твораў замеж. аўтараў. Змяшчае ілюстрацыі і рэпрадукцыі твораў выяўл. мастацтва. Асвятляе пераважна жыццё, працоўную і творчую дзейнасць бел. моладзі. Аўтарамі выступаюць таксама грамадскія і дзярж. дзеячы, навукоўцы, чытачы. Адным з пачынальнікаў гіст. тэмы ў «М.» быў У. Караткевіч, які апублікаваў у часопісе аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха» (1964, № 9—12), раман «Чорны замак Альшанскі» (1979, № 7—8, 1980, № 1—2), п'есу «Маці ўрагану» (1985, № 12) і інш. Часопіс надрукаваў аповесць Я. Дылы «Настасся Мякота» (1968, № 11), гіст. трылогію Г. Далідовіча «Гаспадар-камень» (1984, № 3—5), «Пабуджаныя» (1987, № 11—12), «Свой дом» (1989, № 1—2), раман Л. Дайнекі «Меч князя Вячкі» (1985, № 2—3), гіст. нарыс М. Ермаловіча «Старажытная Беларусь» (1988, № 7—12), гіст. драму В. Адамчыка «Раіна Грамычына» (1988, № 12), эсэ М. Чарняўскага «Гісторыя Беларусі ў ілюстрацыях» (1992—93, № 1—12; 1994, № 1—3), успаміны А. Я. Багдановіча «Да гісторыі партыі «Народная воля» ў Мінску і Беларусі (1880—1892)» (1995, № 11—12), раман І. Шамякіна «Вялікая княгіня» (1996,

леўскага У 1927—28 часта канфіскоўваўся польскімі уладамі Замест канфіскаваных нумароў выходзілі аднадзенкі «Пякучая маланка», «Новая маланка» Выданне спынена з-за рэпрэсій улад Выйшлі 43 нумары

*Літ* Ліс А. Пякучай маланкі след Мн, 1981 Гэй смалі страляй, маланка! Мн, 1989 *Уладзімір Калеснік*

**«МАЛАНКА»**, газета-бюлетэнь Выдаецца са студз 1997 у Іркуцку на бел і рус мовах раз у 1—2 месяцы Заснавальнік — Іркуцкае т-ва бел культуры імя Я Дз Чэрскага (ІТБК) Рэдактар-выдавец А Рудакоў Мае рубрыкі «Падзеі і справы ІТБК», «Весткі з Бацькаўшчыны» «З гісторыі Беларусі», «Дзіцячая старонка», «Хата дзеда Ахрэма» Змяшчае рэд артыкулы, перадрукі з бел выданняў, матэрыялы пра дзейнасць ІТБК, перадрукаваныя з рэгіянальных газет, допісы чытачоў Распаўсюджваецца сярод удзельнікаў ІТБК, дасылаецца ў бел нац суполкі Расіі і замежжа *Уладзімір Панада*

**«МАЛАНКАВАЯ ВАЙНА́»**, бліцкрыг (ням Blitzkrieg ад Blitz маланка + Krieg вайна), тэорыя вядзення агрэсіўных войн, створаная германскімі мілітарыстамі ў пач 20 ст і пакладзеная ў аснову ваен стратэгіі Германіі ў 1-й і 2-й сусв войнах Гал тэарэтык «М в» — герм ген-фельдмаршал А фон Шліфэн Важнейшыя палажэнні «М в» апярэджанне праціўніка ў сканцэнтраванні і разгортванні войск, дасягненне поўнай перавагі ў сілах на гал напрамку, забеспячэнне аператыўна-стратэгічнай раптоўнасці, нанясенне максімальна магутнага першага удару з мэтай дасягнення ў пачатковых бітвах рашаючага поспеху, дэзарганізацыя тылу і кіравання войскамі праціўніка дыверсійна-тэрарыстычнымі групамі, знішчэнне ўзбр сіл праціўніка шляхам іх рассячэння і акружэння ў выніку імклівых дзеянняў буйных груповак танкаў і мотапяхоты (канцэпцыя «танкавай» вайны, паводле якой зыход бітвы і вайны ў цэлым залежыць выключна ад баявой моцы танк злучэнняў) Неад'емныя элементы тэорыі і практыкі «М в» — вераломства, грубае парушэнне норм міжнар права, злачынныя метады вядзення вайны Канкрэтнае ўвасабленне дактрына «М в» знайшла ў плане *«Барбароса»* Стратэгія «М в», якая забяспечыла фаш Германіі ў пач 2-й сусв вайны лёгкую перамогу над дзяржавамі Зах Еўропы, аказалася зусім беспадстаўнай і авантурыстычнай у вайне супраць СССР Фаш Германія не мела дастатковых палит, эканам і ваен перадумоў для выйгрышу гэтай вайны наогул, тым больш у кароткі тэрмін Гераічнае супраціўленне сав войск зблытала разлікі гітлераўскага камандавання Нават першыя баі на тэр Беларусі — *Брэсцкай крэпасці абарона 1941*, баі пад Мінскам Барысавам Магілевам, Гомелем, Віцебскам, Полацкам і інш — паказалі беспадстаўнасць тэорыі «М в» Разгром ням-фаш войск пад Масквой азначаў поўны крах плана «М в» Фаш Германія была пастаўлена перад неабходнасцю вядзення зацяжной вайны, чаго больш за усё імкнулася пазбегнуць яе паліт і ваен кіраўніцтва Гераічная барацьба сав народа і яго Узбр Сіл прывяла да поўнага разгрому фаш Германіі

*Літ* Гудериан Г Танки — вперед! Пер с нем М, 1957, Миддельдорф Э Тактика в русской кампании Пер с нем М 1958 Перечнев Ю Г Уроки «блицкрига» М, 1985, Ludendorff F Der totale Krieg München, 1936 *Уладзімір Лемяшонак*

МАЛАРЫЦКІ РАЕН

**МАЛАНОГ** Рыгор Пілілавіч [11(24) 1 1911, в Гуляй-Поле Аляксандраўскага пав Екацярынаслаўскай губ, цяпер Крынічанскага р-на Днепрапятроўскай вобл, Украіна], Герой Сав Саюза (1943), ген-маер (1957) Скончыў Ваен акадэмію Геншатаба (1954) У Чырв Арміі з 1932 У Вял Айч вайну на Зах, Цэнтр, 1-м Бел, 1-м і 4-м Укр франтах Нач аператыўнага аддзялення штаба стралк дывізіі падпалкоўнік М вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра каля в Шчытцы Лоеўскага р-на удзельнічаў у распрацоўцы плана фарсіравання ракі, у кароткі тэрмін арганізаваў пераправу, узначаліў перадавы назіральны пункт У баі 16 10 1943 замяніў параненага камандзіра палка Да 1972 у Сав Арміі

**МАЛАРЫ́ТА**, горад, цэнтр раена Брэсцкай вобласці, на р Маларыта Чыг ст на лініі Брэст—Ковель За 52 км на ПдУ ад Брэста 11,7 тыс ж (1997)

Упершыню ўпамінаецца ў 1566 у рэвізіі Брэсцкага староства як каралеўская веска Рыта Малая Палескай вол ў Брэсцкім пав і ваяв ВКЛ З 1795 у Рас імперыі, сяло ў Брэсцкім пав Слонімскай, з 1797 — Літоўскай, з 1801 — Гродзенскай губ У 1897 — 1275 ж, 203 двары, сельскае нар вучылішча, 2 лесапільні (у 1914 — 41 рабочы), шпалапрапітны з-д (20 рабочых), цагельня (4 рабочыя), вятрак З 1921 у складзе Польшчы, цэнтр гміны Брэсцкага пав Палескага ваяв Дзейнічаў падп райком КПЗБ 4 3 1935 адбылася забастоўка рабочых лесапільняў З 1939 у БССР З 15 1 1940 гар паселак, цэнтр *Маларыцкага раена* Брэсцкай вобл 22 6 1941 акупіравана ням-фаш войскамі, якія ў М і раёне загубілі 3349 чал У гар паселку дзейнічала падп антыфаш група 20 7 1944 вызвалена войскамі 70-й арміі 1-га Бел фронту і партызанамі брыгады імя Леніна ў ходзе *Люблін-Брэсцкай апе-*

(1923—28), працаваў у падп арг-цыях КСМЗБ і КПЗБ У 1928 сакратар Навагрудскага райкома КПЗБ З 1928 у эміграцыі ў СССР, вучыўся на рабфаку пры Горацкай с -г акадэміі, у Камуніст ун-це нац меншасцей Захаду імя Ю Ю Мархлеўскага ў Маскве (1929—32) У маі 1932 вярнуўся ў Зах Беларусь, удзельнік III канферэнцыі КСМЗБ, чл ЦК КСМЗБ, у ліп —снеж 1932 1-ы сакратар *Цэнтральнага Камітэта КСМЗБ* У 1933 сакратар Беластоцкага, Віленскага акр к-таў КПЗБ За рэв дзейнасць у сак 1933 арыштаваны і зняволены ўладамі Польшчы ў віленскай турме Лукішкі Са жн 1936 сакратар Слонімскага, Беластоцкага, Гродзенскага акр к-таў КСМЗБ У маі 1938 — вер 1939 зноў зняволены ў турму У Вял Айч вайну ў Чырв Арміі У 1944—62 на сав і выкладчыцкай рабоце ў Ляхавіцкім р-не

**МА́ЛЕЧ**, веска, цэнтр сельсавета Бярозаўскага р-на За 20 км на З ад Бярозы, 2 км ад чыг ст Паўлавічы 2445 ж , 805 двароў (1997)

У 16 ст мястэчка ў Брэсцкім пав ВКЛ З 1795 у Рас імперыі У 1886 мястэчка, цэнтр воласці ў Пружанскім пав Гродзенскай губ , 1428 ж, 71 двор, школа, 2 царквы, яўр малітоўны дом, сукнавальня, 16 крам, 12 кірмашоў у год З 1921 у складзе Польшчы, цэнтр гміны ў Пружанскім пав Палескага ваяв З 1939 у БССР, з 1940 цэнтр сельсавета Пружанскага р-на, з 1960 у Бярозаўскім р-не У 1972 — 1656 ж , 444 двары Цэнтр аграфірмы-калгаса «Малеч» Сярэдняя школа, санаторная школа-інтэрнат, муз школа, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, бальніца, аддз сувязі, магазіны Помнік 565 землякам, якія загінулі ў Вял Айч вайну Помнік архітэктуры — Сяменаўская царква (1928)

**МАЛІБО́ЖКА** Сяргей Цімафеевіч (7 10 1895, в Быстрыца Слуцкага пав Мінскай губ , цяпер Капыльскі р-н — 23 7 1918), удзельнік рэв руху і грамадз вайны Скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю З 1916 у арміі, прапаршчык За рэв агітацыю сярод салдат у крас 1917 адпраўлены ў Туркестанскі край З ліст 1917 старшыня ВРК Закаспійскай вобл З 5(18) 12 1917 старшыня Савета Закаспійскай вобл , ваен камісар Ашгабада У час антысав мяцяжу 1918 у ліку 9 ашгабадскіх камісараў расстраляны паміж чыг ст Анау і Гяурс (за 18 км ад Ашгабада) 26 7 1919 перапахаваны ў брацкай магіле ў Ашгабадзе У 1957 на месцы расстрэлу пастаўлены помнік абеліск *Эдуард Карнілові*

**МА́ЛІН** Уладзімір Нічыпаравіч [11(24) 7 1906, пас Яканава Вышнева лоцкага пав Цвярской губ , цяпер веска ў Вышневалоцкім р-не Цвярской вобл , Расія — 30 1 1982], парт і дзярж дзеяч БССР Скончыў Ленінградскі камуніст ун-т (1933), Акадэмію грамадскіх навук пры ЦК ВКП(б) (1949) У 1937 заг аддзела ЦК КП(б)Б З 1938 1 ы сакратар

Герб Малечы 1645

Магілеўскага абкома КП(б)Б У 1939—47 у ЦК КП(б)Б сакратар па прапагандзе і агітацыі, сакратар па прам-сці, 3-і сакратар У Вял Айч вайну чл ваен савета 13 й арміі, нач Паліт ўпраўлення і нам нач ЦШПР З 1949 сакратар Ленінградскага гаркома ВКП(б) З 1952 інспектар, з 1954 заг аддзела ЦК КПСС У 1965—70 рэктар Акадэміі грамадскіх навук пры ЦК КПСС Чл ЦК у 1940—49, чл Бюро ЦК КП(б)Б у 1940—47, чл Цэнтр рэвіз камісіі ЦК КПСС у 1956—66 Дэп Вярх Савета БССР у 1938—51, Вярх Савета СССР у 1946—50, 1958—66 Аўтар твораў па гісторыі партыі

**МАЛІ́НІН** Мікалай Іванавіч [8(20) 3 1893, пас Сафіеўка Навазыбкаўскага пав Чарнігаўскай губ цяпер у Бранскай вобл , Расія — 26 2 1977], адзін з арганізатараў і кіраўнікоў патрыят падполля і партыз руху на Беларусі ў Вял Айч вайну З 1921 на сав і парт рабоце ў Нароўлі Рэчыцы Гомелі У 1941 сакратар Палескага абкома КП(б)Б з ліст 1941 на парт рабоце ў Алтайскім краі З жн 1943 да лют 1944 у тыле ворага, сакратар *Палескага падпольнага абкома КП(б)Б* У 1944—60 на парт рабоце Чл ЦК КПБ у 1949—60, чл Рэвізійнай камісіі КПБ у 1960—61 Дэп ВС БССР у 1951—63 Яго імем названа вуліца ў Мазыры

**МАЛІ́НІН** Міхаіл Сяргеевіч [16(28) 12 1899, в Палуціна Галіцкага пав , цяпер у Антропаўскім р-не Кастрамской вобл , Расія — 24 1 1960], удзельнік вызвалення Беларусі ў Вял Айч вайну Герой Сав Саюза (1945), ген арміі (1953) Скончыў Ваен акадэмію імя Фрунзе (1931) Удзельнік сав фінл вайны 1939—40 У Вял Айч вайну на Зах , Бранскім, Данскім, Цэнтр Бел і 1-м Бел франтах нач штаба механіз корпуса, фронту Удзельнічаў у падрыхтоўцы і правядзенні аперацый па разгроме фаш войск пад Масквой, Сталінградам, Курскам, у Беларускай Варшаўска-Пазнанскай, Усх Памеранскай і Берлінскай аперацыях Пасля вайны на камандных пасадах у Сав Арміі Дэп ВС СССР у 1950—58 Яго імем названы вуліцы ў Мінску, Гомелі

**МАЛІ́НІН** Сяргей Мікалаевіч [31 5(13 6) 1907, Мінск — 20 5 1972], дзяржаўны дзеяч БССР, эканаміст Д-р эканам н , праф (1967) Скончыў БДУ (1929), Маскоўскі планавы ін т Дзярж плана СССР (1938) Удзельнік Вял Айч вайны Працаваў у Камуніст ун-це Беларусі імя Леніна (1925—28), у НДІ арганізацыі і аховы працы ВЦСПС (1928—36), у Ін-це эканомікі АН БССР (1936—41), у 1946—47 дырэктар гэтага ін та У 1947—53 у апараце ЦК КПБ нам нач ўпраўлення прапаганды і агітацыі, заг аддзела планавых, фін і гандл органаў У 1953—65 старшыня Дзяржплана БССР, адначасова нам старшыні Савета Міністраў БССР (1955—58) У 1966—69 рэктар Бел ін та нар гаспадаркі, з 1969 заг кафедры палітэканоміі БДУ Навук працы па эканоміцы і планаванні нар гаспадаркі Канд у чл ЦК КПБ у 1949—52, чл ЦК КПБ у 1952—66 Дэп Вярх Савета СССР у 1958—66, Вярх Савета БССР у 1951—59

*Тв* Развитие промышленности Белорусской ССР Мн 1948 Экономика Белорусской ССР и перспективы ее развития Мн 1960 (разам з М М Іпам) Экономическая эффективность общественного производства Мн 1970

**МАЛІНО́ЎСКІ** Аляксей Федаравіч [21 2(4 3 ) 1762, Масква — 26 11(8 12) 1840], гісторык-архівіст, археограф, літаратар, перакладчык Скончыў Маскоўскі ун т (1778) З 1778 служыў у Межавой канцылярыі у 1780—1840 у Маскоўскім гал архіве калегіі замежных спраў (з 1814 нач архіва) Чл Рас акадэміі (з 1835), Т ва аматараў расійскай славеснасці, адзін з заснавальнікаў і старшыня Т ва гісторыі і старажытнасцей расійскіх пры Маскоўскім ун-це Удзельнік гуртка М П *Румянцава* Пад рэд М выдадзены 2 я і 3 я часткі «Збору дзярж грамат і дагавораў, якія зберагаюцца у Дзяржаўнай калегіі замежных спраў» (1819—22), дзе ўтрымліваюцца крыніцы па гісторыі дыпламатычных адносін Расіі з ВКЛ і Рэччу Паспалітай у 16—18 ст У сваей працы «Гістарычныя доказы аб даўнім жаданні польскага народа далучыцца да Расіі» (1833) абгрунтоўваў непазбежнасць заняпаду Рэчы Паспалітай Погляды М сталі пашыранымі ў рас афіцыйна-манархічнай і дваранскай гістарыяграфіі 19 ст

*Літ* Геннади Г Н Справочный словарь о русских писателях и ученых в XVIII—XIX столетиях Т 2 Берлин 1880

*Дзмітрый Караў*

**МАЛІНО́ЎСКІ** Мікалай [6(18) 12 1799, Махноўка, Брацлаўскі пав , цяпер Він-

9 10 1937) адзін з вышэйшых кіраўнікоў НКУС і арганізатараў паліт рэпрэсій у СССР Камісар дзяржбяспекі 2-га рангу (1935) У органах ВЧК з 1919 Удзельнік грамадз вайны У 1922—31 нач Горскага аддзела ДПУ, Іванава Вазнясенскага гар аддзела АДПУ сакрэтна аператыўнай часткі Паўнамоцна га прадстаўніцтва АДПУ па Сібіры, паўнамоцны прадстаўнік АДПУ па Іва навапрамысл вобласці З 1931 нач сакрэтна аператыўнага аддзела АДПУ, з 1934 — сакрэтна-паліт аддзела Гал упраўлення дзяржбяспекі НКУС СССР З 28 11 1936 нарком унутр спраў БССР, адначасова нач асобага аддзела Гал упраўлення дзяржбяспекі НКУС па Бел ваен акрузе З прыходам М ў Беларусі актывізавалася выкрыцце ўдзельнікаў «контррэвалюцыйнай арганізацыі правых» (пазней да яе быў прылічаны і сам М) членаў «ваеннай трацкісцкай арганізацыі» Арыштаваны 7 3 1937 Расстраляны паводле пастановы НКУС СССР і Пракуратуры СССР Рэабілітаваны у 1996 *Ігар Валахановіч*

**МАЛЧАНАЎ** Павел Сцяпанавіч [1(14) 3 1902 в Івольск Гомельскага пав Магілеўскай губ цяпер Буда Кашалеўскі р н — 24 2 1977], бел акцёр Нар артыст Беларусі (1940) нар артыст СССР (1948) Скончыў Бел драм студыю ў Маскве (1926) Працаваў у бел т рах імя Я Коласа (1926—30, 1936—51, у 1944 узначальваў франтавую тэатр брыгаду), ТРАМе (1935—36), з 1952 у т ры імя Я Купалы У 1930—35 на кінастудыі «Савецкая Беларусь» Акцёр шырокага творчага дыяпазону, асабліва вылучыўся ў трагедыйных ролях Гамлет («Гамлет» У Шэкспіра), Освальд («Здані» Г Ібсена) Федар Таланаў («Нашэсце» Л Лявонава), Федзя Пратасаў («Жывы труп» Л Талстога) Па-майстэрску выконваў драм ролі Косця капітан, У Ленін («Арыстакраты», «Чалавек з ружжом» М Пагодзіна) і інш Выконваў камедыйныя і сатырычныя ролі Кутас («Прымакі» Я Купалы, М і рэжысер), Дарвідошка («У пушчах Палесся» Я Коласа), Каліберау, Глуздакоў («Выбачайце, калі ласка!», «Лявоніха на арбіце» А Макаенка) і інш Здымаўся ў кіно Выступаў як рэжысер кіно і тэатра Дзярж прэмія СССР 1946

*Літ* Няфед У І Народны артыст СССР П С Малчанаў Мн, 1958

П С Малчанаў

**МАЛЫ́ АЗЯРЭ́ЦК**, курганны могільнік 10—11 ст *крывічоў* каля в Малы Азярэцк Сенненскага р-на, на ўсх беразе воз Маеўскае У навук л-ры вядомы пад назвай б в Вядзец Больш за 50 насыпаў выш 2—3 м, дыям 5—15 м У 1893 Е Р Раманаў раскапаў 5 курганоў Пахавальны абрад — трупаспаленне і трупапалажэнне Знойдзены ляпныя і ганчарныя гаршкі, у насыпе з трупаспаленнем — дырхем 914 дынастыі Саманідаў, паясны набор і гаршчок

**МАЛЫШАЎ** Петр Федаравіч [16(28) 8 1898, в Селязнева Пераяслаўль-Залескага пав Уладзімірскай губ, цяпер у Яраслаўскай вобл, Расія — 10 12 1972], удзельнік вызвалення Беларусі ў Вял Айч вайну, ген лейт (1943) Скончыў курсы «Выстрал» (1923, 1930), Ваен акадэмію імя Фрунзе (1935) Удзельнік грамадз вайны У Вял Айч вайну на Зах, Бранскім, Ленінградскім, 1-м і 2-м Прыбалт франтах Са снеж 1943 камандуючы 4-й ударнай арміяй, якая ўдзельнічала ў Гарадоцкай, Полацкай, Мінскай і інш аперацыях Войскі пад яго камандаваннем вызначыліся пры вызваленні Гарадка, Полацка і інш Да 1959 на камандных пасадах у Сав Арміі

Ф А Малышаў

**МА́ЛЫШАЎ** Федар Аляксеевіч [н 20 4(2 5) 1914, в Камаровічы Мазырскага пав Мінскай губ, цяпер в Заполле Петрыкаўскага р-на], удзельнік партыз руху ў Палескай вобл ў Вял Айч вайну, Герой Сав Саюза (1944) Канд тэхн н (1950) Скончыў БПІ (1941) З ліп 1942 у партызанах падрыўнік, камандзір дыверсійнай групы партыз атрада 125-й Капаткевіцкай брыгады, асабіста падарваў 18 варожых эшалонаў Са снеж 1943 у Наркамаце мясц паліўнай прам-сці БССР, у 1947—90 навук супрацоўнік Ін-та торфу АН БССР

**МАЛЫШКІ**, гарадзішча 1—4 ст *штрыхаванай керамікі культуры* каля в Малышкі Вілейскага р на, на левым беразе р Сэрвач Пляцоўка паўавальная, з 3 бакоў умацавана валам Выявілі у 1938 Г Цэгак Галубовіч і У Галубовіч, далей давау у 1955—57 1969 1977—78 А Р Мітрафанаў Выяулены рэшткі 6 жытлаў зрубнай канструкцыі з 2 схільнымі пакрыццямі, кожнае з якіх складалася з 4 памяшканняў з адкрытымі агнішчамі Сярод знаходак абломкі штрыхаваных гаршкоў слоікавых слабапрафіляваных і глянцаваных пасудзін, арнаментаваныя геам узорам праслііцы і грузікі, жал наканечнікі коп'яў і дроцікаў, сярпы, нажы, позналатэнская і падкавападобная з чырв эмаллю фібулы падвеска

**МАЛЫШЭ́ЎСКІ** Іван Ігнатавіч [13(25) 7 1828, в Нягневічы Навагрудскага пав Гродзенскай губ, цяпер Навагрудскі р н — 11(23) 1 1897], пісьменнік, гісторык царквы, славяназнавец Д р багаслоўя (1873) З сям і святара Скончыў Жыровіцкае духоўнае вучылішча, Мінскую духоўную семінарыю (1849) і Кіеўскую духоўную акадэмію (1853) У 1862—97 праф Кіеўскай духоўнай акадэміі, выкладаў у ей рус гісторыю і гісторыю рус царквы Даследаваў пытанні гісторыі царквы у першыя стагоддзі хрысціянства, гісторыю Візантыйскай царквы гісторыю царквы зах і паўд славян Быў прыхільнікам агульнаславянскага культурнага адзінства Аўтар прац «Творы св Кірылы Тураўскага з апісаннем яго жыцця» (1878) «Кірыла і Мяфодзій» (1885), «Заходняя Русь у барацьбе за веру і народнасць» (1895) і інш

*Літ* Титов Ф Памяти И И Малышевского Киев 1898

**МАЛЫ́Я ЗВО́ДЫ**, курганны могільнік усх славян 12—13 ст каля в Малыя Зводы Брэсцкага р на, ва ўрочышчы Ворахава 19 насыпаў, з іх 18 у падножжы абкладзены камянямі Мясц назва Шведскія магілы Абследаваў у 1976 Ю У Кухарэнка, у 1980, 1985—86 10 курганоў даследавала Т М Каробушкіна Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З у падкурганных ямах Пахаванні у асн адзіночныя, 2 двайныя, у некаторых насыпах выяўлены толькі вугольле і попел, у 1-м — рэшткі труны Знойдзены фрагменты ганчарных гліняных гаршкоў з рыфленнем, бронзавыя і свінцова алавяныя драцяныя скроневыя кольцы

*Літ* Коробушкина Т Н Курганные древности XI—XIII вв в Белорусском Побужье // Древнерусское государство и славяне Мн, 1983, Я е ж Курганы Белорусского Побужья X—XIII вв Мн, 1993

*Таццяна Каробушкіна*

**МА́ЛЬДЗІС** Адам Восіпавіч (псеўд А Гудас, Адам Гудас, А Расольскі, Адам Расольскі, А Сві-

і 2-й Дзярж думах уплыў М п быў абмежаваны У 3-ю Дзярж думу М п правялі каля 140 дэпутатаў (61%) У Мінскай, Віцебскай, Магілеўскай і Гродзенскай губ яны заваявалі 27 з 29 месцаў, у 4-й Дзярж думе 28 з 36 месцаў Каардынатарамі дзейнасці М п былі «Савет аб'яднанага дваранства» (1906) і Партыя рускіх нацыяналістаў (1910) Апошняя ўзнікла па ініцыятыве П А *Сталыпіна* Асн пункты яе праграмы прадугледжвалі панаванне правасл царквы і рус народнасці, садзейнічанне ваен магутнасці Расіі, нац і рэліг кірунак нар адукацыі, барацьбу з яўрэйствам Напярэдадні 1-й сусв вайны М п перажывалі крызіс Іх партыі і арг-цыі распадаліся па сац прыкмеце У час Лют рэвалюцыі 1917 яны не аказалі падтрымкі самадзяржаўю Пасля адрачэння Мікалая II ад трона М п спынілі сваю дзейнасць, а іх лідэры апынуліся перад Надзвычайнай камісіяй Часовага ўрада

*Літ* История политических партий России М, 1994 Нарысы гісторыі Беларусі Ч 1 Мн, 1994, Шанін Т Революция как момент истины 1905—1907, 1917—1922

*Мікола Забаўскі*

**МАНАРХІЯ** (грэч monarchia адзінаўладдзе), форма кіравання, пры якой вярхоўная ўлада належыць персаніфікаванай асобе (манарху), спадчыннаму кіраўніку дзяржавы У старажытнасці на Усходзе М вядома ў форме неабмежаванай дэспатыі, часам прымала форму тэакратыі, пры якой манарх з'яўляўся і рэлігійным кіраўніком У Стараж Рыме пры імператару Дыяклетыяне (канец 3—пач 4 ст) усталёўвалася неабмежаваная М, вядомая як дамінат У сярэдневяковай Еўропе ўзніклі М германскіх плямен, якія часам ператвараліся ў вял феад імперыі У час аслаблення цэнтр улады яны распадаліся на манархічныя дзяржавы (*каралеўствы*, герцагствы, графствы) Са згасаннем феадалізму пачалася цэнтралізацыя ўлады ў руках манархаў-суверэнаў, што ў новы час спрыяла развіццю гандлю і ўтварэнню моцнага бюргерства Аднак неабмежаваная М паступова ўвайшла ў канфлікт з бюргерствам, што выклікала рэвалюцыі ў Англіі ў 17 ст і ў Францыі ў 18 ст Яны сталі гал вехамі ў абмежаванні аб салютнай улады У ВКЛ і Рэчы Паспалітай абмежаванне М прывяло да ўсталявання т зв шляхецкай рэспублікі з выбарна-спадчыннай М Пры канстытуцыйнай М ўлада манарха абмежавана канстытуцыяй, асн заканадаўчыя функцыі перададзены парламенту У сучасных М манарх з'яўляецца кіраўніком дзяржавы і народа, аднак паўнамоцтвы кіравання звычайна цалкам знаходзяцца ў веданні парламента і ўрада

*Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта*

**МАНАСЕ́ІН** Уладзімір Сяргеевіч (каля 1878—?), гісторык і краязнавец У 1901—07 служыў на розных афіцэрскіх пасадах у *Кобрынскім пяхотным палку*, які кватараваў у Гродне і Гродзенскай губ Быў чл *Гродзенскага царкоўна-археалагічнага камітэта*, супрацоўнічаў з *«Гродненскими губернскими ведомостями»*, падтрымліваў творчыя сувязі з Я Ф *Арлоўскім*, Ю *Ядкоўскім*, М А *Янчуком* і інш Даследаваў ваен гісторыю, паўстанні 1830—31 і 1863—64, грамадска-палітычны рух, сялянскае пытанне

*Тв* Петр I и Карл XII под Гродной в походе 1706 г Гродно 1901 Крестьянский вопрос в Гродненской губернии в XIX столетии Гродно 1902 Исторический очерк Гродненской губернии в военно политическом отношении за первые сто лет ее существования (1802—1902) Гродно 1902

*Літ* Чарапіца В М Са скарбніцы кніжных палац (Нарысы пра аўтографы даследчыкаў гісторыі Беларусі ў канцы XIX — пачатку XX стст) Мн 1994

*Валерыи Чарапіца*

**МАНАСЗО́Н** Монас Ісакавіч [13(26) 12 1907, г Магілеў — 30 11 1980], бел жывапісец Скончыў Віцебскае маст вучылішча (1929) Удзельнік Вял Айч вайны У маст выстаўках удзельнічаў з 1927 Працаваў у гіст і бытавым жанрах Гіст падзеям прысвечаны творы «Уступленне Чырвонай Арміі ў Мінск 11 лістапада 1920 г» (1937), «Выступленне М І Калініна перад працоўнымі Мінска ў 1919 г» (1938), «Сустрэча савецкіх танкістаў у Заходняй Беларусі 1939 год» (1940), «Паўстанне рамеснікаў у Магілеве ў 1606 г» (з М Белянцкім, 1964), «Першы дзень Савецкай Беларусі» (1967), «Максім Багдановіч і Змітрок Бядуля ў 1916 годзе ў Мінску» (1974), «У І Ленін у Шушанскім 1898» (1977), «А Р Чарвякоў у У І Леніна» (1978) і інш На тэму Вял Айч вайны напісаны карціны «Клятва танкістаў» (1946), «Вяртанне» (1958), «Не забудзем, не даруем!» (трыпціх, 1965), «Ноч на 22 чэрвеня 1941 г» і інш

*Літ* М І Манасзон / Аўтар тэксту Я І Сапоўскі Мн, 1978

**МАНАСТЫ́РСКІЯ СЯЛЯ́НЕ**, сяляне, якія былі ўласнасцю пэўнага манаскага ордэна або манастыра Звычайна жылі і працавалі на зямлі, якая належала манастыру Былі часткай *царкоўных сялян* М с станавіліся ўласнасцю манастыроў пасля падараванняў апошнім з боку вял князёў, магнатаў і шляхты зямельных надзелаў разам з сялянамі З явіліся на Беларусі, верагодна, у 12 ст разам з заснаваннем першых правасл манастыроў Колькасць М с пачала рэзка павялічвацца з 15 ст, калі на тэр ВКЛ пачало адкрывацца шмат каталіцкіх манастыроў пачаўся рост *манастырскіх уладанняў* Адзінай сістэмы падаткааб кладання ў манастырах не існавала У пэўных выпадках манастыр дапамагаў сялянскім сем'ям умацаваць гаспадарку, але часам адбывалася рэзкае павелічэнне павіннаснага ўціску, каб выпрацаваць цяжкі эканам стан манастыра або атрымаць прыбытак У манастырах дзе было ўведзена правіла складаць інвентары і ўставы, сяляне звычайна выконвалі толькі вызначаныя ў іх павіннасці

*Літ* Гл пры арт *Манастырскія ўладанні*

*Валянцін Голубеў*

**МАНАСТЫ́РСКІЯ ЎЛАДАННІ** зямельная і інш уласнасць праваслаўных, уніяцкіх (з 16 ст, гл *Базыльяне*) і каталіцкіх (з 15 ст) манастыроў (*езуітаў, францысканцаў, дамініканцаў, аўгусцінцаў, бенедыкцінцаў, кармелітаў* і інш) Манастырская ўласнасць фарміравалася з падараванняў вял князёў і каралёў, магнатаў, шляхты, а таксама ў выніку уласнай гасп і інш дзейнасці (купля, атрыманне ў спадчыну або за доўг і інш) Ва ўласнасці манастыроў звычайна знаходзіўся комплекс культавых збудаванняў, жылых будынкаў і гасп пабудоў, у некат выпадках — млыны корчмы і інш Аснову М у складалі зямельныя ўладанні з паселенымі на іх

М Манасзон Сустрэча савецкіх танкістаў у Заходняй Беларусі 1939 Нацыянальны мастацкі музей Беларусі

*манастырскімі сялянамі*, а таксама вял сумы грошай Манастыры мелі льготы ў землеўладанні, не плацілі звычайных дзярж падаткаў Найб буйнымі манас тырамі-землеўласнікамі ў ВКЛ былі каталіцкія манастыры, а сярод іх — езуіцкія Перад роспускам езуіцкага ордэна ў 1773 яму належала ў ВКЛ 257 119 дзес ворыва, 247 136 дзес лесу, 47 610 сялян Колькасць манастыроў у Беларусі рэзка зменшылася пасля яе далучэння да Рас імперыі Паводле царскага ўказа 1842 уладанні правасл і каталіцкай царкваў былі перададзены ў загадванне Мін-ва дзярж маемасцей Пасля Кастр рэвалюцыі 1917 манастыры практычна зніклі, а іх уласнасць была нацыяналізавана У цяперашні час ва ўласнасці манастыроў, як і інш рэліг арг-цый, у адпаведнасці з законам Рэспублікі Беларусь «Аб свабодзе веравызнанняў і рэлігійных арганізацыях» (1993) могуць знаходзіцца будынкі, культавыя рэчы, аб'екты вытв, сац і дабрачыннага прызначэння, грашовыя сродкі і інш маемасць, неабходная для забеспячэння іх дзейнасці

*Літ* Мараш Я Н Из историв борьбы народных масс Белоруссии против экспансии католической церкви Мн, 1969 Яго ж Ватикан и католическая церковь в Белоруссии (1569—1795) Мн 1971, Блинова Т Б Иезуиты в Белоруссии Мн, 1990 Голубеў В Ф Сялянскае землеўладанне і землекарыстанне на Беларусі XVI—XVIII стст Мн, 1992

*Валянцін Голубеў*

**МАНАСТЫРСКІЯ ШКО́ЛЫ** Узніклі ў сярэдзіне 1-га тыс да н э ў Індыі пры будыйскіх манастырах Пасля пашырэння хрысціянства распаўсюдзіліся ў Візантыі і ў Зах Еўропе пры мужчынскіх манастырах Падзяляліся на 3 тыпы для падрыхтоўкі белага духавенства, для будучых манахаў, для навучання грамаце свецкіх юнакоў У стараж-рус княствах манахі выкладалі ў М ш дзецям заможных гараджан асновы пісьма і чытання У 11 ст М ш адкрыты пры епіскапскіх кафедрах у Ноўгарадзе, Полацку, Тураве і інш У 12 ст яны ўзніклі і пры некат жаночых манастырах, у т л ў Полацку У ВКЛ вял кн Ягайла ў 1387 заснаваў М ш пры кляштары ў Вільні, але значна іх колькасць павялічылася толькі ў 16 ст У 1522 М ш адкрыты ў мяст Гайна Барысаўскага пав, у 1545 у мяст Мядзведзічы Слуцкага пав У 16 ст яны існавалі пры правасл манастырах у Брэсце, Вільні і інш З 17 ст пач школы працавалі пры уніяцкіх манастырах у Беразвеччы, Мазалове, Мсціславе Вядучае месца сярод М ш Рэчы Паспалітай займалі школы і *калегіумы* ордэнаў *езуітаў* і *піяраў*, якія ў 1740 мелі адпаведна 67 і 27 навуч устаноў Пасля скасавання ў 1773 ордэна езуітаў адбылося агульнае скарачэнне М ш, былыя пазіцыі захавалі толькі піяры Пасля далучэння Беларусі да Рас імперыі мясц улады пачалі перабудову свецкай сістэмы адукацыі, створанай *Адукацыйнай камісіяй* У 1797 паводле ўказа імператара Паўла І 12 свецкіх вучылішчаў перададзены каталіцкім манаскім ордэнам, а таксама базыльянам з умовай іх утрымання за ўласны кошт Такую ж палітыку праводзіла кіраўніцтва створанай у 1803 Віленскай навуч акругі у 1824 з 47 павятовых вучылішчаў акругі 37 належалі манахам, а сярод больш як 380 пач школ свецкіх навуч устаноў практычна не было Пасля паўстання 1830—31 рас ўрад пачаў ліквідацыю М ш у зах губернях У 1832—39 гг яны былі зачынены ці пераўтвораны ў свецкія гімназіі, павятовыя вучылішчы для дваран і мяшчан, семінарыі, ніжэйшыя духоўныя вучылішчы і царк-прыходскія школы

*Літ* Бобровский П О Русская греко-униатская церковь в царствование императора Александра I СПб 1890 Погодин А Виленский учебный округ 1803—1831 гг СПб, 1901, Kurczewski J Biskupstwo wilenskie Wilno, 1912

*Андрэй Самусік*

**МАНАСТЫРЫ́** (ад грэч monastērion адасобленае жыццё), асноўная форма арганізацыі рэлігійнага жыцця манахаў у хрысціянстве (акрамя пратэстантызму), індуізме, будызме, ісламе М існавалі ў сярэдзіне 1-га тыс да н э ў Егіпце (культ Серапіса), у 2—1 ст да н э ў Індыі (індуісцкія і будыйскія) Першыя хрысціянскія М як установы з'явіліся ў 4 ст

На тэр Беларусі правасл М з'явіліся ў 12 ст (паводле інш звестак у 10 ст) у Полацку Барысаглебскі на беразе р Бяльчанка і 2 на берагах Палаты, якія заснавала *Ефрасіння Полацкая* У 12 ст з'явіліся 2 манастыры ў Тураве — Варварынскі і Барысаглебскі, пры якім знаходзілася епіскапская рэзідэнцыя У канцы 13 — сярэдзіне 16 ст на тэр Беларусі заснавана каля 40 новых правасл М 17 М дзейнічала ў Полацкім пав, 7 — у Навагрудскім, па 5 — у Пінскім і Аршанскім, па 4 — у Віцебскім і Мінскім, па 3 — у Брэсцкім, Гродзенскім Мсціслаўскім, па 2 — у Ашмянскім, Браслаўскім, Мазырскім, Слонімскім Большасць з іх былі дробнымі, нярэдка да 10 манахаў Некалькі М сталі буйнымі землеўласнікамі і далі шмат сваіх прадстаўнікоў у царк іерархію Троіцкі ў Вільні, Кіева-Пячэрскі, Дабравешчан скі ў Супраслі, Троіцкі ў Слуцку, Ляшчынскі каля Пінска і інш

У рымска-каталіцкай царкве манахі аб'ядноўваліся ў свае арг-цыі з уласнай структурай і кіраўніцтвам — *ордэны манаскія* Звесткі пра з'яўленне першых каталіцкіх М (кляштараў) у Беларусі і Літве супярэчлівыя Звычайна іх датуюць канцом 14 ст — часам т зв хрышчэння Літвы (больш падрабязна пра гісторыю каталіцкіх М гл ў арт *Кляштары*) У выніку *Брэсцкай уніі 1596* была створана *уніяцкая царква*, да якой паступова пераходзілі правасл М, будаваліся новыя У 1617 на ўзор рымска-каталіцкіх манаскіх ордэнаў створаны грэка-каталіцкі ордэн *базыльян*, да якога перайшла пераважная большасць уніяцкіх М, якія выйшлі з-пад улады епіскапаў Жаночыя М падпарадкоўваліся епіскапам, а базыльянскімі называліся таму, што прытрымліваліся статута св Васіля (Базыля) Вялікага У канцы 17 — пач 18 ст на Гомельшчыне з явіліся стараверскія М — скіты У канцы 18 ст іх было 9 (Веткаўскі, Тырлоўскі, Чонкаўскі і інш) Але з-за праследаванняў царскіх улад яны праіснавалі ня доўга У 1840-я г заставаўся толькі Чонкаўскі М, потым закрыты

У 1764 у Рас імперыі праведзена царк рэформа, паводле якой кіраванне манастырскімі землямі перадавалася Калегіі эканоміі М былі падзелены на класы Правасл М падзяляліся на лаўры, кафедральныя, 1-га, 2-га і 3-га класаў, пазаштатныя, прыпісныя, скасаваныя У 1795 у Беларусі першакласным быў толькі Пінскі Богаяўленскі брацкі мужчынскі М, другакласнымі — *Віленскі Святадухаўскі манастыр* і Слуцкі Спаса-Ільінскі жаночы М, трэцекласных не было 28 М былі аднесены да пазаштатных і 3 — да скасаваных З 1797 М 1-га класа атрымлівалі з казны 1753 руб, штогод, 2-га класа — 1095 руб, пазаштатныя М грошай не атрымлівалі (ім давалася толькі штогадовая дапамога ў 300 руб) Зямельная норма манастырскіх уладанняў была вызначана ў 30 дзесяцін

У 2-й пал 19 — пач 20 ст колькасць правасл М у Беларусі зменшылася з 60 ў 1-й пал 19 ст да 37 на пач 20 ст У 2-й пал 19 — пач 20 ст былі заснаваны або адноўлены Мінскі Спаса-Праабражэнскі жаночы, Бялыніцкі Раства Багародзіцы мужчынскі, Няклюдаўскі Барысаглебскі мужчынскі (Талачынскі р-н), Мінскі Святадухаўскі мужчынскі і інш Значная частка правасл М мела ў сваім штаце 50 і больш чалавек М садзейнічалі аднаўленню брацтваў, стварэнню школ, вялі выдавецкую дзейнасць, адчынялі прытулкі і багадзельні Па-іншаму склаўся лес уніяцкіх і рымска-каталіцкіх М Рашэннем *Полацкага царкоунага сабора 1839* уніяцкая царква была ліквідавана, яе М закрываліся або ператвараліся ў праваслаўныя Каталіцкіх М у Зах губернях на пач 20 ст засталося толькі 9 Пасля Кастр рэвалюцыі 1917 паводле Дэкрэта СНК РСФСР ад 23 1 1918 царква была аддзелена ад дзяржавы, маемасць М аб'яўлена нар здабыткам Адпаведны дэкрэт ад 11 1 1922 прыняў СНК БССР, які заахаваў асн палажэнні заканадаўчага акта РСФСР М пачалі хутка закрывацца На тэр Беларусі ніколі не перапыняў сваей дзейнасці толькі *Жыровіцкі Свята-Успенскі мужчынскі манастыр* У 2-й палове 1980-х г пачалося адраджэнне рэліг жыцця аднаўляюцца храмы, духоўныя навуч ўстановы, расце колькасць вернікаў Пачалі аднаўляцца і М На 1 1 1997 у Рэспубліцы Беларусь дзейнічалі 5 мужчынскіх (81 манах) і 6 жаночых (135 манашак) правасл і 4 рымска-каталіцкія

*Літ* Толстой Д Римский католицизм в России Т 2 СПб 1876, Зверинский В В Материал для историко-топографического исследования о православных монастырях в Российской империи СПб, 1892, Горючко П С Материалы для истории рас

кола старообрядчества в Могилевской губернии конца XVIII и начала XIX столетий Могилев, 1902, Блинова Т Б Иезуиты в Белоруссии Мн, 1990, Pidłypczak-Majerowicz M Bazylianie w koronie i na Litwie Szkoły i książki w działalności zakonu Warszawa, Wrocław, 1986

*Валянціна Грыгор'ева, Алена Філатава*

**МАНАХАЎ** Аляксандр Андрэевіч [2(15) 9 1909, в Іванькава Ядрынскага пав Казанскай губ, цяпер Ядрынскага р-на, Чувашская Рэспубліка — 17 9 1978], адзін з кіраўнікоў патрыят падполля ў Вілейскай вобл ў Вял Айч вайну Скончыў Вышэйшую школу парторганізатараў пры ЦК ВКП(б) (1940), Мазырскі настаўніцкі ін-т (1949) З 1930 на гасп, камсам і парт рабоце ў Дрысенскім, Расонскім і Ар шанскім р-нах З 1939 сакратар Чашніцкага, Пастаўскага РК КП(б)Б З пач Вял Айч вайны ў Чырв Арміі, з мая 1943 чл, з вер сакратар *Вілейскага падпольнага абкома КП(б)Б* З ліп 1944 сакратар Маладзечанскага, з 1946 Палескага абкомаў КП(б)Б У 1953—56 1 ы сакратар Мазырскага райкома, по тым гаркома КПБ Канд у чл ЦК КПБ у 1954—60

**МАНДА́Т** (лац mandatum даручэнне, распараджэнне, загад), 1) у ВКЛ судовая позва, якая выдавалася ад імя вял князя дзярж канцылярыяй у выпадках *абражання маястату* і дзярж здрады, нанясення зняваг і пабояў суддзям, учыненага ў войску забойства, дэзерцір ства, незаконнага спагнання завышанага мыта, нявыплаты падаткаў, адмовы даць справаздачу пра даходы і расходы, якія маюць дачыненне да дзярж скарбу, па апеляцыі на рашэнні гродскага ці земскага судоў М у вялікакняжацкі суд маглі выклікаць свайго пана жыхары пэўнай адм-тэр адзінкі па пытанні аб незаконным трыманні гэтага ўладання Копіі М ўпісваліся ў кнігі канцылярыі 2) Дакумент, які засведчвае пэўную асобу і пацвярджае яе правы і паўнамоцтвы 3) У міжнар праве — паўнамоцтва, якое давалася пасля 1-й сусв вайны Лігай Нацый пэўнай дзяржаве-пераможцы на кіраванне б калоніямі Германіі або некат часткай тэр б Асманскай імперыі

*Літ* Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 Тэксты Давед Камент Мн 1989

*Андрэй Рыбакоў*

**МАНДРЫКАЎ** Міхаіл Сяргеевіч (1888, мяст Горы Чавускага пав Магілеўскай губ, цяпер веска Горацкага р-на — 2 2 1920), удзельнік барацьбы за сав ўладу на Чукотцы У 1909—13 на Балт флоце З 1915 у Прыморскім краі, старшыня саюза кааператываў Прымор'я Пасля Лют рэвалюцыі 1917 чл Уладзівастоцкага Савета Удзельнік III Усерас з'езда Саветаў (1918) У вер 1919 накіраваны Уладзівастоцкай арг-цыяй РКП(б) на Чукотку для ліквідацыі калчакаўскай улады Арганізатар устанаўлення сав улады ў Анадырскім пав, першы старшыня Анадырскага рэўкома Пасля контррэв перавароту расстраляны У в Горы яго імем названа вуліца, у Магаданскай вобл — паселак У Анадыры помнік М

М С Мандрыкаў

Л Я Маневіч

**МАНДЫБУ́РА** Міхаіл Карпавіч (10 5 1921, в Даўжок Магілеўскага пав Падольскай губ, цяпер Шаргародскага р-на Вінніцкай вобл, Украіна — 8 7 1985), удзельнік вызвалення Беларусі ў Вял Айч вайну, Герой Сав Саюза (1944) Скончыў Чэлябінскае ваен танка-тэхн вучылішча (1946) З 1941 на Зах, Калінінскім, 1-м Прыбалт франтах Камандзір мінаметнага разліку мал сяржант М вызначыўся ў 1944 у Віцебскай вобл 23—24 чэрв ў час прарыву варожай абароны каля в Зазер'е і Мядзведзі Сіроцінскага р-на, пры фарсіраванні Зах Дзвіны і абароне плацдарма Пасля вайны на гасп рабоце

**Манета** з выявай Юноны Манеты і інстру ментаў манетчыка Рым

**МАНЕВІЧ** Леў Яфімавіч [8(20) 8 1898, г Чавусы — 11 5 1945], ваенны разведчык, камбрыг (1938), Герой Сав Саюза (1965) Скончыў Вышэйшую школу штабной службы камсаставу РСЧА (1921), Ваен акадэмію РСЧА (1924) У Чырв Арміі з 1918 У некат краінах Еўропы быў вядомы як камерсант, уладальнік камерц фірм На самай справе вёў разведку (псеўд Этьен, Конрад Кертнер, Старасцін) 12 12 1936 арыштаваны і італьян асобым трыбуналам асуджаны да 12 гадоў зняволення, якое адбываў у фаш турмах і канцлагерах У 1943 перададзены гітлераўцам, зняволены ў канцлагерах Маўтхаузен, Мельк, Эбензе Адзін з арганізатараў падполля, кіраўнік падп арг-цыі ў канцлагеры Эбензе (Аўстрыя) Вызвалены 6 5 1945 амерыканскімі войскамі безнадзейна хворы Пахаваны ў г Лінц (Аўстрыя) У Гомелі і Чавусах яго імем названы вуліцы, у Чавусах устаноўлена мемар дошка

*Літ* В памяти народной Мн, 1969 С 327—328, Воробьев Е З Земля, до востребования М 1974

**МАНЕ́ТА** (лац moneta), стандартызаваны па памерах, пробе, масе кавалак каштоўнага металу правільнай формы, які можа прымацца не на вагу, а на лік, або грашовыя метал знакі з медзі, бронзы, нікелю, алюмінію, цынку, бронзы і інш У адрозненне ад зліткаў мае па ўсёй паверхні адбітак штэмпеля з выявамі і надпісамі (з 2-й пал 16—17 ст і на *гурце*), якія засведчвалі М ад падробкі, абразання і гарантавалі яе якасць ад імя імітэнта Назва традыцыйна звязваецца з адным з імен вярх рымскай багіні Юноны (Рэгіна — царыца, Сосліта — збавіцельніца, Манета — дарадчыца), пры храме якой у 3 ст да н э ў рымскім Капітоліі знаходзіўся манетны двор Першыя М з'явіліся ў Кітаі ў 12 ст да н э Надпіс MONETA сустракаецца на стараж-рымскіх М, ранніх зах-еўрап дэнары ях, як частка легенды — на еўрап. М., што абарачаліся ў ВКЛ з 14 ст, і ў легендзе М ВКЛ У 16 ст ў ВКЛ манетай называлі сярэднія наміналы, меншыя за талер, але большыя за пенязь (дэнарый), у 17 ст — і талерную з удакладненнем «добрая», «твардая», дробную з удакладненнем «шэляжная» М У бел пісьмовых крыніцах на працягу 15—18 ст сустракаюцца М белая, М бітая, М важная, М грубая, М давна, М добрая, М стародавна, М цвердая, М цалковая як вызначэнне дабраякаснай, і М бракаваная, М гладкая, М злая, М крэдытная, М подлая, М фальшывая, да якіх ставіліся як да непажаданых Па манетнай стапе (пэўная колькасць М з адзінкі вагі) у 16 ст адрознівалі М літоўскую і М польскую (адпавядала 8/10 літоўскай) Паводле прызначэння вылучаюць М абяговую, М-данатыву («падарункавая»), М ка-

(11 1 1832)], бел публіцыст З 1783 на дзярж службе — саветнік Бел губернскага праўлення, віцебскі губернскі пракурор, віцэ-губернатар З 1817 у адстаўцы, жыў у маентку Міласе каля Віцебска Супрацоўнічаў у рус часопісах У «Пісьме з Віцебска» («Сын Отечества», 1813) асуджаў агрэсію Напалеона У 1831 узнагароджаны залатым медалем Вольнага эканам т-ва ў Пецярбургу Публіцыстыка М вылучалася эмацыянальнасцю, шырыней кругагляду Мяркуюць, што пісаў і па-беларуску, некат даследчыкі лічылі яго аўтарам «Энеіды навыварат»

*Літ* Кісялёў Г Загадка беларускай «Энеіды» Мн, 1971 *Генадзь Кісялёў*

**МАНЮ́ШКА** (Moniuszko) Станіслаў (5 5 1819, фальварак Убель Ігуменскага пав Мінскай губ, зараз Чэрвеньскі р-н Мінскай вобл — 4 6 1872), польскі і бел кампазітар, дырыжор, педагог Стваральнік нац класічнай оперы, класік польск і бел вакальнай лірыкі Са сараж бел шляхецкага роду Манюшкаў Агульную адукацыю атрымаў дома, музычную — у Мінскай музычнай школе Д Стафановіча У 1840—58 арганіст і дырыжор у Вільні, у 1858—72 дырыжор і дырэктар опернага тэатра ў Варшаве, з 1864 праф Муз ін-та ў Варшаве Першыя яго вадэвілі, муз камедыі і камічныя оперы звязаны з Беларуссю у 1834 мінскімі аматарамі пастаўлены «Канторскія служачыя», у 1841 у Гродне, у 1843 у Мінску ішла «Латарэя» На лібрэта В Дуніна-Марцінкевіча напісаны «Рэкруцкі набор» (з К Кжыжаноўскім, паст 1841, Мінск), «Спаборніцтва музыкаў», «Чарадзейная вада» (у Мінску ставілася 21 раз), «Ідылія» («Сялянка», з К Кжыжаноўскім, паст 1852, Мінск, у 1853—55 ставілася ў Бабруйску, Слуцку, Нясвіжы, Глуску і інш) Дзякуючы выкарыстанню ў лібрэта бел мовы (побач з польскай), оперы на бел фальклор «Ідылія» мела вял значэнне ў гісторыі бел музычнай культуры На працягу жыцця М падтрымліваў сувязі з бел музыкантамі, аказваў ім падтрымку ў творчай дзейнасці, арганізоўваў іх канцэрты Быў настаўнікам мінскай піяністкі І Горват, памагаў набыць муз адукацыю піяністцы К *Марцінкевіч*, скрыпачцы Б Крыгер Пасылаў розным выдаўцам, у т.л Ф Лісту, творы Ф Міладоўскага, пісаў артыкулы пра сваіх суайчыннікаў (мінскага фартэпіяннага і арганнага майстра І Бяляўскага, гродзенскую скрыпачку Т Юзафовіч), рэцэнзаваў іх працы, у т л кнігу Н *Орды* «Граматыка музыкі» Рэгулярна дасылаў у Мінск Д.Стафановічу і Міладоўскаму экземпляры сваіх твораў Са сталых твораў М найб папулярная «Галька» (1847, паст 1854, 1859; у 1856 паст ў Мінску, у 1975 — у Дзярж тэатры оперы і балета Беларусі) У ліку інш твораў оперы «Графіня» (1859), «Вербум нобіле» («Слова гонару», 1860), «Парыя» (1869), «Страшны двор» (1865, у 1952 пастаўлена ў Дзярж тэатры оперы і балета Беларусі ў перакладзе на бел мову М Танка) М — аўтар кантаты «Крымскія санеты» на словы А Міцкевіча, больш як 300 сольных песень, якія ўвайшлі ў 12 «Хатніх спеўнікаў» (з іх 12 песень на словы Я Чачота)

С **Манюшка**

С С **Марахін**

А.А.**Марачкін** **Ф Скарына.** Пач 1978

Вытокі яго муз мовы ў бел і польскім фальклоры

*Літ* Станислав Монюшко М, Л, 1952, Рудзинский В Монюшко Пер с пол М, 1960, Мальдзіс А. Станіслаў Манюшка // Мальдзіс А. Падарожжа ў XIX ст Мн, 1969, Смольский Б С Белорусский музыкальный театр Мн, 1963, Фукс М Манюшка на Беларусі Пер с пол // Полымя 1967 № 6, Янушкевіч Я Аўтографы Станіслава Манюшкі // Маладосць 1989 № 8 *Іосіф Хаўратовіч*

**МАРАКО́Ў-БЕЛАРУ́САЎ БАЛТЫЙСКАГА ФЛО́ТУ АРГАНІЗА́ЦЫЯ** Засн ў чэрв 1917 матросам В *Мухай* Да пач снеж 1917 аб'ядноўвала больш за 800 маладых беларусаў, якія служылі на Балт флоце Члены арг-цыі збіралі ахвяраванні для беларусаў-бежанцаў 1-й сусв вайны, удзельнічалі ў рабоце з езду беларусаў-воінаў Зах фронту і прадстаўнікоў бел арг-цый 12-й арміі, Балт флоту і Рум фронту (18—24 10 1917, Мінск), *Усебеларускага з'езда 1917*, дзе выступалі з агульнадэмакр пазіцый, за стварэнне бел нац арміі і інш У рабоце арг-цыі прымаў удзел ген м К А *Аляксееўскі* Існавала, верагодна, да 1918 *Уладзімір Калаткоў*

**МАРАХІН** Сяргей Сцяпанавіч [24 9(7 10) 1911, в Тоташава Ардатаўскага пав Ніжагародскай губ, цяпер Ардатаўскі р-н Ніжагародскай вобл — 15 6 1972], ваенны дзеяч, ген арміі (1968) Скончыў Ваен акадэмію імя Фрунзе (1941) і Генштаба (1950) У Чырв Арміі з 1931 У Вял Айч вайну на Паўн -Зах, Бранскім, Варонежскім, 1 м Укр франтах — нам нач і нач штаба танк брыгады, нач аддзела і нач штаба бранятанкавых і мех войск фронту, нач аператыўнага аддзела танк арміі, камандзір танк асобнай брыгады Удзельнік баёў за Берлін, за вызваленне Прагі Пасля вайны на камандных і штабных пасадах у войсках і выкладчык Ваен акадэміі Генштаба З ліп 1964 да вер 1967 камандуючы войскамі БВА З вер 1967 першы нам нач тылу Узбр Сіл СССР, з 1968 нам міністра абароны — нач тылу Узбр Сіл СССР У 1966—71 канд у чл, у 1971—72 чл ЦК КПСС У 1966—68 канд у чл Бюро ЦК КПБ У 1966—72 дэп Вярх Савета СССР У гонар М ў Мінску на будынку Мін-ва абароны Рэспублікі Беларусь устаноўлена мемарыяльная дошка

**МАРАЧКІН** Аляксей Антонавіч (н 10 3 1940, в Язеры Чэрыкаўскага р-на) бел жывапісец, педагог Скончыў Бел тэатр -маст ін-т (1972) Выкладчык малюнка (з 1977) і жывапісу (з 1989) Бел АМ Працуе пераважна ў станковым жывапісе ў жанрах партрэта, тэматычнай карціны, пейзажа, нацюрморта Стварыў серыю партрэтаў выдатных дзеячаў гісторыі і культуры Беларусі гіст карцін «Нас кавалі ў полымі» (1976), «Язэп Драздовіч» (1977—78) «Пачатак Францыск Скарына» (1978), «Вітаўт», «Мікола Гусоўскі» (абодва 1980), «Іван Луцкевіч», «Вераніка і

Максім» (абодва 1981), «Рагнеда» (1982), «В Дунін-Марцінкевіч» (1983), «К Каліноўскі», «Старажытны Чэрыкаў» (абодва 1984), «Ефрасіння Полацкая», «Сімяон Полацкі» (абодва 1986), «Крыла Тураўскі» (1987), «Петра Сергіевіч» (1988), «Сымон Будны» (1989), трыпціх «Размова аб вечнасці Скарына і Парацэльс» (1989—90), «Рагнеда і Ізяслаў» (1991), «Леў Сапега» (1994) У адлюстраванні драм падзей гісторыі жывапіс М дасягае выразнасці і публіцыстычнасці, некаторыя творы гучаць як адказ на вострыя актуальныя праблемы сучаснасці *Ларыса Салавей*

**МАРАШ** Ілья Якаўлевіч (н 14 8 1946, Гродна), бел гісторык Канд гіст н (1975) Сын Я Н *Мараша* Скончыў Гродзенскі пед ін-т (1969) У 1975—81 у Гродзенскім пед ін-це (з 1979 Гродзенскі ун-т) У 1986—91 дацэнт Гродзенскага абл ін-та ўдасканалення настаўнікаў З 1991 у Ізраілі Даследаваў рэв рух у Зах Беларусі, гісторыю нас пунктаў Гродзенскай вобл, гісторыю бел яўрэяў

*Тв* Ленинские идеи — в массы трудящихся Изд и распространение тр В И Ленина в Польше и Западной Белоруссии в 1918—1939 гг Мн, 1980, Сморгонь Ист экон очерк Мн, 1984 (разам з *І І* Коўкелем) *Іван Коўкель*

**МАРАШ** Якаў Навумавіч [25 12 1916 (7 1 1917), Гродна — 25 9 1990], бел гісторык Д-р гіст н (1973), праф (1974) У 1936—39 вучыўся ў Віленскім ун-це, скончыў Львоўскі ун-т (1940) Працаваў настаўнікам З вер 1946 у Гродзенскім пед ін-це (з 1978 Гродзенскі ун-т), выкладчык, дацэнт, дэкан гіст ф-та, заг кафедраў гісторыі СССР і гісторыі БССР Асн тэмы навук даследаванняў — гісторыя каталіцкай царквы на тэр Беларусі і Літвы (пераважна 16—18 ст) зямельная ўласнасць епархій і манаскіх ордэнаў, становішча сялянства ў царк уладаннях, роля Ватыкана і езуітаў у падрыхтоўцы Брэсцкай уніі 1596, барацьба каталіцкага духавенства супраць ідэй вальнадумства і атэізму Удзельнічаў у выяўленні і археаграфічнай апрацоўцы дакументаў і матэрыялаў для зборніка «Беларусь у эпоху феадалізму» (т 1—2, 1959—60) Распрацоўваў пытанні методыкі выкладання гісторыі ў сярэдняй і вышэйшай школе Аўтар артыкулаў па гісторыі г Гродна і інш населеных пунктаў Гродзеншчыны

*Тв* Из истории борьбы народных масс Белоруссии против экспансии католической церкви Мн, 1969, Ватикан и католическая церковь в Белоруссии (1569—1795) Мн, 1971, Очерки истории экспансии католической церкви в Белоруссии XVIII в Мн, 1974, Политика Ватикана и католической церкви в Западной Белоруссии (1918—1939) Мн, 1983, Студенческий научно-исследовательский кружок. 2 изд. Мн, 1989, Гродненское гетто (разам з А.Плешавенем) // Полит собеседник 1991 № 7

*Літ* Батвіннік М Я Н Мараш // Бел гіст часоп 1997 № 1 *Ігар Федараў*

**МАРАШЭЎСКІ** Каятан, беларускі і польскі драматург канца 18 ст Праф

Я Н Мараш

рыторыкі і паэтыкі Забельскай дамініканскай калегіі (в Валынцы, Верхнядзвінскі р-н) Аўтар беларуска-польскай «Камедыі» і польскамоўнай трагедыі «Свабода ў няволі» (паст ў 1787 у мясц школьным тэатры) «Камедыя» — тыповая драма-маралітэ, напісаная ў адпаведнасці з эстэтыкай класіцызму, у ей праўдзіва паказваецца сялянскае жыццё, выказваецца думка, што шчасце залежыць не ад боскага наканавання, а ад чалавечых учынкаў Твор напісаны жывой гутарковай мовай, у ім адчуваецца моцны ўплыў барочных інтэрмедый, якія ўпершыню ў бел л-ры сінтэзуюцца ў камедыю Ідэі асветніцтва выявіліся ў трагедыі «Свабода ў няволі», дзе гал герой рымскі палкаводзец Велізарый вышэй за асабістыя інтарэсы ставіць інтарэсы радзімы «Камедыя» ўпершыню апублікавана У Ператцам («Изв Отд-ния рус яз и словесности» 1911 Т 16, № 3) Творы М захаваліся ў рукапісным зборніку, які зберагаецца ў б-цы АН Літвы У варыянце, асучасненым Ф.Аляхновічам, «Камедыя» ставіцца на сцэне мінскіх тэатраў

*Тв* Камедыя // Хрэстаматыя па гісторыі беларускага тэатра і драматургіі 2 выд Мн 1997 Т 1 *Адам Мальдзіс*

**МАРГАВО́Е**, у ВКЛ у 16—18 ст плата сялян феадалам за карыстанне агародамі і зямельнымі наддаткамі (вымяраліся *маргамі*)

**МАРГЕ́ЛАЎ** Васіль Піліпавіч [14(27) 12 1908, г Екацярынаслаў, цяпер Днепрапятроўск, Украіна — 4 3 1998], сав ваен дзеяч Герой Сав Саюза (1944), ген арміі (1967) Канд ваен н (1968) Беларус Скончыў Аб'яднаную бел ваен школу імя ЦВК БССР (1931), Ваен акадэмію Генштаба (1948) У Чырв Арміі з 1928 Удзельнік сав -фінл вайны 1939—40 У Вял Айч вайну з 1941 на Ленінградскім, Паўн -Зах, Сталінградскім, Паўд, 3-м і 4-м Укр франтах камандзір палка, нач штаба дывізіі, камандзір дывізіі, удзельнік баеў пад Ленінградам, Сталінградам, на Дняпры, Днястры, у Румыніі, Балгарыі, Югаславіі, Чэхаславакіі, Венгрыі і Аўстрыі З 1946 на адказных пасадах у Сав Арміі Дзярж прэмія СССР 1975

**МАРГІНАЛІЯ** (позналац marginalis што знаходзіцца на краі ад лац margo край, мяжа), 1) памета на друкаваным выданні або рукапісе тлумачэнне незразумелых слоў, нататкі пра адносіны да тэксту, падкрэсліванне асобных сказаў і слоў, пазначэнне клічнікам, пытальнікам умоўнымі значкамі і інш 2) У сучасным кніжным афармленні тэкставая рубрыкацыя, вынесеная за фармат паласы

**МАРГУНСКІ** Сцяпан Парфенавіч [24 12 1911 (6 1 1912), і Чавусы — 26 12 1978], бел правазнавец Чл -кар АН БССР (1953), д-р юрыд н (1970), праф (1972) Скончыў Акадэмію грамадскіх навук пры ЦК ВКП(б) (1951) З 1945 заг сектара, аддзела ўпраўлення кадраў ЦК КПБ, з 1951 гал вучоны сакратар Прэзідыума АН БССР, з 1956 заг сектара тэорыі і гісторыі дзяржавы і права Ін-та філасофіі і права АН БССР Асн навук працы па пытаннях тэорыі і гісторыі станаўлення і развіцця бел сав дзяржаўнасці Адзін з аўтараў і рэдактараў «Гісторыі дзяржавы і права Беларускай ССР» (т 1—2, 1970—76)

*Тв* Создание и упрочение белорусской государственности, 1917—1922 Мн, 1958, Государственное строительство БССР в годы восстановления народного хозяйства (1921—1925) Мн, 1966

**МАРЖЭРЭ́Т** (М а р ж э р э, Margeret) Жак (каля 1550 або 1560, г Асон, Францыя — пач 1620-х г), французскі афіцэр-авантурыст, аўтар запісак У 1600 у Варшаве завербаваўся ў рас армію, дзе ў чыне капітана камандаваў ротай У 1605 удзельнічаў у бітве пры Дабрынічах супраць войска Лжэдзмітрыя I, у 1605—06 узначальваў адзін з атрадаў яго гвардыі Пасля гібелі сама званца ў вер 1606 пакінуў Расію У 1607 выдаў у Парыжы кн «Стан Расійскай імперыі і вялікага княства Маскоўіі», у якой апісаў нар побыт, дзярж лад Расіі, паліт падзеі 1590—1605, вял пасольства ў Маскву канцлера ВКЛ Л Сапегі ў 1600—01 і інш Даказваў, што Лжэдзмітрый быў сапраўдным сынам Івана IV, адзначаў, што палякі называлі Белай Руссю тэр Расіі, а Чорнай Руссю — тэр Беларусі Неўзабаве вярнуўся ў Расію і паступіў на службу да Лжэдзмітрыя II, потым у час ***вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18*** — да гетмана С *Жалкеўскага* У 1611 выехаў у Польшчу, дзе пражыў апошнія гады, гандляр і паліт агент франц ўрада

*Тв* Рус пер — Россия начала XVII в Зап капитана Маржерета М, 1982 *Валерый Пазднякоў*

**МАРЗАЛЮ́К** Ігар Аляксандравіч (н 11 9 1968, г п Краснаполле Магілеўскай вобл), бел археолаг і гісторык Канд гіст н (1996) Скончыў Магілеўскі пед ін-т (1992) Працаваў у Магілеве ў архітэктурна-рэстаўрацыйнай фірме АРТ-«М» З 1996 выкладчык Магілеў-

механіз войскамі Сав Арміі, ст выкладчык ваен акадэміі З 1958 нам нач, з 1964 нач Ваен акадэміі бранятанкавых войск

**МА́РКАЎ** Федар Рыгоравіч [11(24) 12 1914, в Качаншкі Дзісенскага пав Віленскай губ, цяпер в Качаншкіс Швенчонеляйскага р-на, Літва — 14 1 1958], адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партыз руху ў Вілейскай вобл ў Вял Айч вайну Герой Сав Саюза (1944) Скончыў ВПШ пры ЦК ВКП(б) (1948) За рэв дзейнасць у Зах Беларусі ў 1936—39 зняволены ў Бяроза-Картузскі канцлагер, віленскую турму У 1939—41 старшыня Свянцянскага гарсавета, нам старшыні Вілейскага аблвыканкома У партызанах з вер 1941 камандзір спецгрупы, з мая 1942 — атрада імя Суворава, з ліст 1942 — партыз брыгады імя К Я Варашылава, адначасова з крас 1943 нач ваенна-аператыўнага аддзела Вілейскага падп абкома КП(б)Б З 1944 нам старшыні Вілейскага, Маладзечанскага аблвыканкомаў Дэп Вярх Савета БССР з 1940

**МАРКАЎ МАНАСТЫР**, Троіцкі манастыр, праваслаўны мужчынскі манастыр у Віцебску ў 1633—1918 Знаходзіўся на правым беразе Зах Дзвіны за 4 км ад цэнтра горада Засн аршан скім цівуном Л С Агінскім і браслаўскім земскім суддзёй С Мірскім У 1633 пабудаваны першы храм Тройцы і келлі для манахаў У 1638 фундатары падаравалі манастыру землі на Маркаўшчыне (дзе ў 16 ст нейкі Марк пабудаваў царкву адсюль назва) і фальварак Шыдлоўшчыну Манастыр падпарадкоўваўся кіеўскаму мітрапаліту, у 1656 у час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 быў пераведзены ў юрысдыкцыю маскоўскага патрыярхата У 1687 віцебскі

П А Маркаў

Ф Р Маркаў

падкаморы С К Агінскі пабудаваў новую Троіцкую царкву (асвячона ў 1691) Манастыр быў абнесены мурам, за якім

В П **Маркавец** Партрэт Сымона Буднага 1980

стаяла царква св Мікалая (1730) У фальварку Шыдлоўшчына існавала царква св Параскевы (каля 1730) Не пазней 1752 пабудаваны каменны манастырскі корпус і Пакроўская царква У 1751 зроблена няўдалая спроба перавесці М м у унію Паводле пацвярджальнай граматы караля Рэчы Паспалітай Аўгуста III у 1752 манастыру належалі таксама фальваркі Ахоцінца, Васькавічы, Гаеўшчына, Дуброва, Маркава, Плетніна, Прысушына, Прэгнікі, Слабада, Чэрнічы і юрыдыкі ў горадзе У 1809 было 126 рэвізскіх душ У 1773 М м прылічаны да Пскоўскай епархіі, у 1795 — да Магілёўскай, у 1833 — да Полацкай З 1798 меў ранг архімандрыі, да яго быў прыпісаны Невельскі заштатны манастыр У 1842 М м быў залічаны да 1-га класа, мог мець па штаце да 20 манахаў, атрымліваў ад казны 3185 руб серабром штогод, маенткі былі канфіскаваны (апрача 150 дзесяцін зямлі) Манастыру належалі воз Кашанскае для лоўлі рыбы, млын з сукнавальняй і 6 пляцаў у Віцебску, цагельня і чарапічны з-д У 2-й пал 19 ст працавалі майстэрні жывапісная, пазалотная, сталярная, такарная, шавецкая, кравецкая, дзейнічала пачатковая школа для слабадскіх дзяцей Пасля закрыцця М м будынкі (акрамя Пакроўскай царквы, зараз вядомай як Казанская) знесены

*Літ* Сергий (Василевский) Витебский Марков Свято-Троицкий мужской монастырь Витебск, 1887, Свято-Троицкий Марков монастырь в городе Витебске СПб, 1911 *Аляксандр Ярашэвіч*

**МАРКЕ́ВІЧ** Арсень Іванавіч [30 3(11 4) 1855, Брэст — 1942], гісторык, грамадскі дзеяч Чл-кар АН СССР (1927), прафесар Скончыў Варшаўскі ун-т (1876) Выкладаў у сярэдніх навуч установах Холма (цяпер Хелм, Польшча) і Шаўляў (цяпер Шаўляй, Літва) Вывучаў міжслав сувязі ў 17 ст, дзейнасць Ю *Крыжаніча*, А *Філіповіча* З 1883 у Сімферопалі Старшыня Таўрычаскай вучонай архіўнай камісіі (1909—27, з 1923 — Т-ва гісторыі, археалогіі і этнаграфіі Крыма) Аўтар прац па археалогіі і гісторыі Крыма Адзін з арганізатараў Таўрычаскага ун-та, мясц музеяў і архіваў

*Тв* Юрий Крижанич и его литературная деятельность Ист лит очерк Варшава, 1876, Афанасий Филиппович, игумен брестский Варшава, 1880

*Літ* Платонов С Крачковский И Записка об ученых трудах проф А.И Маркевича // Изв АН СССР Сер 6 1927 № 18, К 100-летию со дня рождения А.И Маркевича // Вестн древней истории 1955 № 4 *Валерый Пазднякоў*

**МАРКІНЯ́ТЫ**, курганны могільнік 10—12 ст культуры ўсх-літоўскіх курганоў каля в Маркіняты Ашмянскага р-на, на левым беразе р Клява 7 насыпаў выш 6—8 м Адкрыў у 1893 Ф В Пакроўскі, даследаваў у 1913

риинг Ф Карл Маркс История его жизни Пер с нем 2 изд М, 1990, Фридрих Энгельс о Карле Марксе [Сб] М, 1990, Максимова Л П, Меднова Е С Их *стихией* была борьба Очерки о жизни и деятельности К Маркса и Ф Энгельса Мн, 1991, Лобок А М Подсознательный Маркс, или Евангелие, которое не состоялось Книга-гипотеза Екатеринбург, 1993 *Петр Петрыкаў*

**МАРКС** Максіміліян Восіпавіч [7(19) 10 1816, Віцебск — 1893], удзельнік рэв руху 1860-х г, даследчык Сібіры, мемуарыст Скончыў Віцебскую гімназію (1834), вучыўся ў Маскоўскім ун-це З 1858 выкладчык у Смаленску, пасля ў Маскоўскай 4-й гімназіі Па падазрэнні ў сувязях з паўстанцамі арыштаваны і ў снеж 1863 — лют 1864 зняволены ў Петрапаўлаўскую крэпасць, выпушчаны пад нагляд паліцыі Кіраваў адной з рэв падп арг-цый у Маскве, дзе зблізіўся з балг (Л Каравелаў) і чэш студэнтамі У 1866 арыштаваны па справе Д У Каракозава, які зрабіў няўдалы замах на Аляксандра II 24 9 1866 пазбаўлены ўсіх правоў і сасланы ў Сібір З 1868 жыў у Енісейску, дзе заснаваў 1-ю сібірскую метэастанцыю Чл Рус геагр т-ва, за навуковыя даследаванні ў 1878 адзначаны залатым медалем Вызвалены з-пад паліцэйскага нагляду ў 1880 Аўтар працы «Клімат Енісейска паводле 12-гадовых назіранняў 1871—1883» («Зап імп Акадэміі навук», 1887, т 55), нататкаў пра К Касовіча («Рус старина», 1886, т 52), М Буташэвіча-Петрашэўскага (там жа 1889, т 62), пра Віцебск і Віцебшчыну ў 1820—30-я г («Запіскі старога», б-ка АН Украіны ў Львове, аддзел рукапісаў, ф Асалінскіх) і інш

*Тв* Записки старика Витебск с 1821 по 1840 гг // Віц сшытак. 1995—97 № 1—3

*Літ* Кісялеў Г Пошукі імя Мн, 1978 С 56—60, Зайцаў М, Шчарбакоў С Гістарычныя замалеўкі віцябчаніна // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі 1984 № 3 *Генадзь Кісялеў*

**МАРКСІЗМ-ЛЕНІНІЗМ**, філасофскае, эканамічнае і сацыяльна-палітычнае вучэнне, заснавальнікамі якога былі К *Маркс*, Ф *Энгельс* і У І *Ленін* Узнікла ў канцы 1840-х г Займае асаблівае месца ў гісторыі сац -паліт думкі і грамадскай гісторыі 2-й пал 19—20 ст Ад зараджэння і да нашага часу М -л — прадмет вострай ідэалаг і паліт барацьбы, таму няма адзінага падыходу да гэтага феномена ў гісторыі грамадства Прыхільнікі і праціўнікі М -л па-рознаму вызначаюць яго сутнасць і змест, месца ў грамадска-паліт практыцы, яго мінулае, сучаснае і будучае Асабліва актуальнай гэта праблема стала ў канцы 1980 — пач 90-х г у сувязі з распадам сусв сацыяліст сістэмы і СССР Агульная канцэпцыя М -л уключае шэраг метадалаг прынцыпаў умовы і перадумовы яго фарміравання, змест і прадмет, распаўсюджанне, асн этапы развіцця. Марксізм як паліт ідэалогія рабочага класа ўзнік у выніку аб'ектыўных гіст, сац -эканам і паліт умоў разлажэння феадалізму і ўсталявання капіталіст спосабу вытв-сці ў многіх краінах Еўропы і ЗША, складвання сусв рынку, фарміравання пралетарыяту, абвастрэння супярэчнасцей паміж пралетарыятам і буржуазіяй Як тэорыя і ідэалогія ён увабраў у сябе многія дасягненні папярэдніх этапаў развіцця грамадскай і прыродазнаўчай навук думкі У далейшым фактар гіст, тэарэт і сац -эканам абумоўленасці з'яўлення марксізму У І Ленін адлюстраваў у формуле аб «трох крыніцах і трох састаўных частках марксізму» Да крыніц былі аднесены англ паліт эканомія, ням класічная філасофія і франц утапічны сацыялізм, да састаўных частак — дыялектычны і гіст матэрыялізм, паліт эканомія і навук камунізм Заснавальнікамі марксізму былі ням мысліцелі Маркс і Ф *Энгельс* Іх дзейнасць і творчая спадчына — вынік працяглых сумесных намаганняў і інтэлектуальнага партнерства 1-ы этап дзейнасці Маркса і Энгельса завяршыўся напісаннем «Маніфеста Камуністычнай партыі» (1848), які змяшчаў асн палажэнні іх тэарэт канцэпцыі У гэты перыяд яны напісалі шэраг важных прац («Да крытыкі гегелеўскай філасофіі права Уводзіны», 1844, «Святая сям'я», 1845, «Нямецкая ідэалогія», 1846, «Становішча рабочага класа ў Англіі», 1845, «Прынцыпы камунізму», нап 1847), якія сведчылі пра эвалюцыю іх поглядаў у кірунку дыялектычнага і гіст матэрыялізму і навук камунізму Бурж рэвалюцыі 1848—51 у Зах Еўропе далі імпульс далейшаму развіццю тэорыі марксізму У гэты час з'явіліся творы «Капітал» (т 1, 1867), «Класавая барацьба ў Францыі з 1848 да 1850 г» (1850), «Васемнаццатага брумера Луі Банапарта» (1852) і інш Парыжская камуна 1870 паклала пачатак заключнаму этапу іх супрацоўніцтва. У гэты перыяд напісаны працы Маркса «Грамадзянская вайна ў Францыі» (1871), «Крытыка Гоцкай праграмы» (1891), Энгельса «Анты-Дзюрынг» (1878), «Развіццё сацыялізму ад утопіі да навукі» (1880), «Паходжанне сям'і, прыватнай уласнасці і дзяржавы» (1884) Пасля смерці Маркса (1883) большасць яго твораў засталася неапублікаванай Першым біёграфам і гал папулярызатарам Маркса стаў Энгельс Нягледзячы на працяглую сумесную дзейнасць, уклад Маркса і Энгельса ў фарміраванне марксізму быў розны Маркс пакінуў пасля сябе стройную эканам тэорыю капіта ліст спосабу вытв-сці Параўнальную з ёй паліт тэорыю стварыў, на распрацаваных Марксам асн сац -паліт прынцыпах, даў шырокае абагульненне тэорыі гіст матэрыялізму Энгельс у «Анты-Дзюрынгу» і інш працах У цэлым асн палажэнні тэорыі Маркса і Энгельса, т зв класічны марксізм, былі распрацаваны і сталі фундаментам усёй бу довы марксізму Многія з іх дайшлі да грамадскасці ў выказваннях, каментарыях, інтэрпрэтацыях, страцілі першапачатковы сэнс і змест

М В Маркс

Прыхільнікі і праціўнікі класічнага марксізму прызнаюць яго вял уклад у сусв грамадска-паліт думку Негатыўныя адносіны да гэтай тэорыі ў значнай ступені звязаны з практыкай увасаблен ня яе ў рэальныя грамадска-паліт і эканам формы, з той роляй, якую адводзілі марксізму паслядоўнікі, лічачы яго адзіна правільным вучэннем, якое пе раўтварае свет Прыхільнікі марксізму разглядаюць яго як поўнае і стройнае вучэнне, што дае людзям «цэласны све тапогляд», у якім зліты разам навук тэорыя, ідэалогія рабочага класа, карэнныя прынцыпы кіраўніцтва рэв ба рацьбой рабочага класа і ўсіх працоў ных за свае вызваленне З іх пункту погляду М -л — вучэнне з цэласнай і стройнай сістэмай філас, эканам і сац -паліт поглядаў, адлюстроўвае аб'ектыўныя заканамернасці развіцця рэчаіснасці, служыць тэарэт асновай рэв пераўтварэння грамадства і ўключае ў сябе 3 цесна ўзаемазвязаныя і адносна самастойныя састаўныя часткі, кожная з якіх мае свой прадмет даследавання, катэгорыі, развіваецца на аснове тых ці інш спецыфічных законаў Дыялектычны і гіст матэрыялізм слу жыць ядром усяго М -л, яго агульнай метадалаг асновай Усе 3 састаўныя часткі М -л ўяўляюць сабой навук выражэнне, абгрунтаванне і абарону ка рэнных інтарэсаў рабочага класа На думку Леніна, «толькі філасофскі матэрыялізм Маркса ўказаў пралетарыяту выхад з духоўнага рабства Толькі эканамічная тэорыя Маркса растлумачыла сапраўднае становішча пралетарыята ў агульным ладзе капіталізму» (Творы Т 19 С 8) Абапіраючыся на філас і эка нам вучэнне, навук камунізм паказаў шляхі рэв пераўтварэння капіталіст грамадства ў сацыялістычнае Маркс і Энгельс імкнуліся пазнаць эканам, сац -паліт і ідэалаг заканамернасці развіцця грамадства, пераўтварыць усе кірункі сац навукі, сінтэзаваць усе галі

*Літ* Ленін У І Тры крыніцы і тры састаўныя часткі марксізму // Тв Т 19 (Полн собр соч Т 23), Яго ж Гістарычны лес вучэння Карла Маркса // Там жа Т 18 (Там жа) Марксистская философия в XIX в М 1979 Карл Маркс Биогр 3 изд М , 1989, История марксизма-ленинизма Ч 1—2 М , 1990 Андерсон П Размышления о западном марксизме Пер с англ М , 1991, Скоробогацкий В В По ту сторону марксизма Свердловск, 1991 *Алена Грэчнева*

**МАРМУЛЁЎ** Міхаіл Глебавіч [26 10(8 11) 1917, в Арцемаўка Ярцаўскага пав , цяпер Ярцаўскага р-на Смаленскай вобл — 7 4 1985], адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партыз руху ў Мінскаи вобл ў Вял Айч вайну Герой Сав Саюза (1944) Скончыў Ленінградскае артыл вучылішча (1941) У Вял Айч вайну на акупіраванай тэр арганізаваў партыз атрад «Буравеснік» Са снеж 1943 камандзір партыз брыгады «Буравеснік» партызаны якой правялі больш за 150 баявых аперацый, знішчылі шмат ням тэхнікі Пасля вайны на сав рабоце

М Г Мармулеў

**МАРО́З** Міхаіл Іванавіч (1 10 1893, мяст Капыль Мінскай губ , цяпер горад — 1947), дзяржаўны дзеяч БССР Пасля заканчэння Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі працаваў у сельскай школе З 1916 у арміі Удзельнік Кастр ўзбр паўстання 1917 у Петраградзе У 1918—19 супрацоўнік бежанскага аддзела Бел нац камісарыята Дэлегат Усерас з'езда бежанцаў з Беларусі (ліп 1918 Масква) З крас 1919 выкладчык Камуніст ун та ў Гомелі, старшыня Мінскага акр к та КП(б)Б З 1922 у Маскве паўнамоцны прадстаўнік БССР у РСФСР, старшыня Цэнтр бюро бел пралет студэнцкага зямляцтва, заг бел сектара Камуніст ун та нац меншасцей Захаду імя Ю Ю Мархлеўскага У 1924—25 заг Бел дзярж выд-ва ў Мінску З 1926 кіраўнік спраў СНК БССР, старшыня камісіі Інбелкульта па ахове помнікаў старадаўнасці, мастацтва і прыроды, чл прэзідыума гіст -археал секцыі Інбелкульта на інш сав і гасп пасадах Чл ЦВК БССР у 1921—27, канд у чл ЦВК у 1927—29 З 11 1937 арыштаваны органамі НКУС БССР, 3 12 1940 прыгавораны да зняволення ў папраўча-працоўны лагер

*Эдуард Карніловіч*

**МАРО́ЗАВА** (Палуцкая) Святлана Валянцінаўна (н 22 11 1954, г п Ілья Маладзечанскай вобл , цяпер у Вілейскім р-не Мінскай вобл ), бел гісторык Канд гіст н (1984) Скончыла Гродзенскі пед ін-т (1977) З 1979 у Гродзенскім ун-це Даследуе гісторыю уніяцкай царквы на Беларусі, гісторыю Гродзеншчыны, удзельнічае ў падрыхтоўцы вучэбных цапаможнікаў па гісторыі Беларусі

А К Марозаў

*Тв* Наш край Гродненщина IX—XIII вв Гродно, 1990, Пісьмовыя крыніцы па гісторыі Беларусі IX—XIII ст Гродна, 1993, Уніяцкая царква ў культурна гістарычным развіцці Беларусі (1596—1839 гг ) Гродна, 1996 З гісторыі уніяцтва ў Беларусі (да 400 годдзя Брэсцкай уніі) Мн 1996 (у сааўт )

**МАРО́ЗАЎ** Аляксандр Кліменцьевіч [10(23) 1 1906, в Якубова Полацкага пав , цяпер Полацкага р-на — 9 9 1984], поўны кавалер ордэна Славы Удзельнік сав -фінл вайны 1939—40 У Вял Айч вайну з 1941 на фронце, потым у партызанах, дзе пусціў пад адхон 3 варожыя эшалоны З 1944 на фронце, разведчык, агняметчык Вызначыўся ў баях на тэр Прыбалтыкі і Усх Прусіі 10 кастр прымаў удзел у захопе фаш аўтакалоны, цяжка паранены знішчыў 2 куляметчыкаў праціўніка, якія перашкаджалі наступленню сав войск

Дз К Марозаў

**МАРО́ЗАЎ** Дзмітрый Кузьміч [18(31) 3 1912, в Казіміраўка Рэчыцкага пав Мінскай губ , цяпер Лоеўскага р-на — 5 1 1981], Герой Сав Саюза (1945) Скончыў Гомельскі фін эканам тэхнікум (1932), Маскоўскае пях вучылішча (1938), Ваен акадэмію імя Фрунзе (1949) У Чырв Арміі з 1934 Удзельнік баеў на р Халхін-Гол у 1939, сав фінл вайны 1939—40 У Вял Айч вайну з ліп 1941 на Паўн -Зах , Зах і 3-м Бел франтах Вызначыўся ў *Беларускай аперацыі 1944* стралк полк пад камандаваннем палкоўніка М ў час прарыву абароны праціўніка на ПдУ ад Віцебска авалодаў в Буракі, чым забяспечыў наступленне сав войск, фарсіраваў Лучосу, Бярэзіну, Вілію, Неман Удзельнік вызвалення Вільнюса, Каўнаса, штурму Кенігсберга, Пілау, вайны з Японіяй у складзе 1-га Далёкаўсх фронту Да 1956 у Сав Арміі, палкоўнік

**МАРО́ЗАЎ** Міхаіл Ільіч (1 1 1922 г Барысаў — 24 8 1944), Герой Сав Саюза (1943) Скончыў Барысаўскае педвучылішча (1939) У Вял Айч вайну на Зах , Варонежскім, Цэнтр і 1 м Укр франтах Вызначыўся ў жн —вер 1943 пры вызваленні Украіны артыл батарэя на чале з ст лейт М з баямі прайшла 450 км, адбіла 5 контратак знішчыла шмат тэхнікі і жывой сілы ворага, у баі за плацдарм на р Сейм паранены М працягваў кіраваць агнем батарэі забяспечыў прарыў абароны праціўніка і вызваленне шэрагу нас пунктаў Батарэя ў

М І Марозаў

ліку першых фарсіравала Дзясну, Дняпро, Прыпяць і агнем падтрымлівала пяхоту Памер ад ран Пахаваны ў г Луцк (Украіна) Яго імем названа вуліца ў Барысаве, на будынку педвучылішча мемар дошка

**МАРОСЬКАЎСКІ МАНЕ́ТНЫ СКАРБ** Знойдзены ў в Маросьaccount Маладзечанскага р на ў 1971 Схаваны ў 1655—56 У гліняным гаршку знаходзіліся білонныя і сярэбраныя манеты, з якіх вядомы 5682 экз Адзін з найбуйнейшых грашовых скарбаў 17 ст , знойдзеных на Беларусі Зберагаецца ў Мінскім абл краязн музеі

В К Л двайныя дэнарыі (6 экз ) Жыгімонта II Аўгуста [1548—72] Рэч Паспалітая двайны дэнарый (190 экз ), шэлег (461 экз ), грош (51 экз ), паўтарак (607 экз ), тэрнарый (14 экз ), трояк (9 экз ), шылінг (57 экз ), драйпелькер (1 экз ) Зыгмунта III Вазы [1587—1632], Яна II Казіміра Вазы [1648—68] і са сцертай датай Шведская Прыбалтыка шылінг (4018 экз ) і драйпелькер (85 экз ) Густава II Адольфа [1611—32], Крысціны Аўгусты Вазы [1632—54], Карла Х Густава [1654—60] і са сцертай датай Брандэнбург (маркграфства) драйпелькер (8 экз ) Георга Вільгельма [1619—40] Прусія (герцагства) шылінг (56 экз ) Георга Вільгельма, Фрыдрыха Вільгельма [1640—88], драйпелькер (43 экз ) Георга Вільгельма Курляндыя (герцагства) шылінг 1646 Цешын (герцагства) абол (2 экз ) 1652, 1653 Сучава шылінг (35 экз ) і драйпелькер (37 экз ) 1633, 1634 Іспанскія Нідэрланды патагон 1652 Рэспубліка Злучаных Правінцый левендаальдэр (4 экз ) 1648, 1653 Нявызначаная манета шылінг значна сцерты

**МАРСКА́Я АВІЯ́ЦЫЯ**, род сіл ВМФ, прызначаны для прыкрыцця сваіх караблёў ад варожай авіяцыі, пошуку і знішчэння з паветра падводных лодак, карабельных груповак, канвояў, дэсантаў працўніка на моры, базах і інш Уваходзіць у склад узбр сіл многіх марскіх дзяржаў З'явілася ў пач 20 ст (у 1911—12 у Расіі, у 1919—21 у Польшчы) У 1-й пал 20 ст падраздзяленні М а былі і на тэр Беларусі Яны звычайна ўваходзілі ў рачныя ваен флатыліі і прызначаліся для вядзення паветранай разведкі, карэкціроўкі агню *манітораў* і *кананерскіх лодак*, бамбардзіроўкі рачных караблёў і канвояў працўніка і інш У 1928—37 у Пінску базіравалася рачная авіяэскадрылля Пінскай флатыліі ВМФ Польшчы (да 10 машын, пераважна разведвальных гідрасамалетаўбіпланаў франц вытв-сці, ліквідавана з-за фінансавых і тэхн цяжкасцей) Сав *Дняпроўскай ваеннай флатыліі* ў 1930-я г прыдаваліся гідрасамалеты-біпланы (лёгкія бамбардзіроўшчыкі-разведчыкі) і самалеты з колавым шасі

Да арт **Марская авіяцыя** Разведвальны гідрасамалёт тыпу Р-5 Дняпроўскай ваеннай флатыліі

(лёгкаўзбр знішчальнікі — манапланы і біпланы), якія базіраваліся ў прырэчнай паласе і ў рачных портах Дняпроўскага басейна У час паходу Чырв Арміі ў Зах Беларусь група гідрасамалетаў да канца вер 1939 праследавала (бамбіла, абстрэльвала) адыходзячых на З польск вайскоўцаў групы «Палессе» і пагранічнікаў Авіяэскадрылля сав *Пінскай ваеннай флатыліі* налічвала 15 разведвальных самалетаў (паводле іншых звестак 18 самалетаў, з якіх 14, верагодна, баявых) У М а ВМФ СССР (канчаткова склалася ў 1930-я г ) служылі таксама беларусы і ўраджэнцы Беларусі Частка іх вызначылася ў Вял Айч вайну (М В *Аўдзееў*, М У *Барташоў*, М У *Барысаў*, І Б *Катунін*, Я Г *Навіцкі*), некат мелі генеральскія званні (Аўдзееў, Дз П *Бартноўскі* і інш )

*Літ* Olejko A. Rzeczna eskadra lotnicza Flotylli Pinskiej Pruszkow, 1994

*Раман Паўловіч*

**МАРТАВІ́ЦКІ** Віктар Ігнацьевіч (1 3 1927, Баку — 7 4 1988), бел гісторык. Канд гіст н (1958) Засл работнік вышэйшай школы БССР (1981) Скончыў БДУ (1953) З 1956 выкладчык, в а дацэнта кафедры гісторыі КПСС БДУ У 1961—75 заг кафедры гісторыі КПСС Бел тэхналагічнага ін-та, у 1975—81 — Мінскага мед ін та, з 1981 дацэнт гэтай кафедры Даследаваў пытанні дзейнасці КПСС і КПБ па кіраванні нар гаспадаркай у перыяд нэпа і пасля Вял Айч вайны Адзін з аўтараў «Курса лекцый па гісторыі КПСС» (ч 1—2, 1970—71), артыкулаў па методыцы выкарыстання тэхн сродкаў навучання ў ВНУ

*Тв* Лозунг партии «Лицом к деревне!» и его осуществление в БССР в 1924—1925 гг Мн , 1961

*Леанід Папоў*

**МАРТАС** Афанасій (1904, Навагрудскі пав — 3 11 1983), бел рэліг дзеяч, гісторык праваслаўнай царквы Скончыў тэалагічны ф-т Варшаўскага ун-та са ступенню магістра правасл багаслоўя У 1942—44 епіскап віцебскі і полацкі Удзельнік Усебеларускага царк сабора 30 8—2 9 1942, на якім была абвешчана *Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква* (БАПЦ) З 1944 у эміграцыі ў Германіі, кіраваў бел прыходамі ў брыт зоне акупацыі 6 5 1946 разам з епіскапатам БАПЦ далучыўся да Рус зарубежнай правасл царквы (РЗПЦ) З пач 1950-х г архіепіскап РЗПЦ у Аргенціне, з 1970 у Аўстраліі — архіепіскап сіднейскі і новазеландскі З 1971 жыў у Аргенціне Даследаваў гісторыю праваслаўя ў Беларусі, у 1947 выдаў у Германіі «Матэрыялы да гісторыі Праваслаўнай Беларускай царквы»

*Тв* Беларусь в исторической государственной и церковной жизни Мн , 1990

*Ларыса Языковіч*

**МАРТЫНАЎ** (Пікер) Аляксандр Самойлавіч [12(24) 12 1865, г Пінск — 5 6 1935], удзельнік рэв руху ў Расіі З 1884 чл партыі «Народная воля» У 1886 сасланы на 10 гадоў у Сібір У 1890-я г далучыўся да сацыял-дэмакратаў, з 1899 чл Екацярынаслаўскага к-та РСДРП У 1900 пасля чарговага арышту эмігрыраваў за мяжу, увайшоў у рэдакцыю час «эканамістаў» «Рабочее дело», выступаў супраць ленінскай «Искры» На II з'ездзе РСДРП (1903) антыіскравец, пасля з'езда — адзін з ідэолагаў меншавізму На V з'ездзе РСДРП абраны чл яе ЦК У гады рэакцыі 1908—10 меншавік-ліквідатар У час 1-й сусв вайны цэнтрыст, потым меншавік-інтэрнацыяналіст Пасля Кастр рэвалюцыі 1917 адышоў ад меншавізму, канчаткова парваў з ім у грамадз вайну З 1918 настаўнічаў на Украіне З 1923 чл РКП(б), працаваў у Ін-це К Маркса і Ф Энгельса З 1924 чл рэдакцыі час «Коммунистический Интернационал»

**МАРТЫ́НАЎ** Майсей Мікітавіч [н 10(23) 2 1909, Кіеў], удзельнік вызвалення Беларусі ў Вял Айч вайну, Герой Сав Саюза (1945) На фронце з 1941 Камандзір узвода старшына М вызначыўся ў 1944 у баях у Парыцкім р-не 25 чэрв каля в Замен-Рынья уз вод праграў абарону працўніка, адбіў 7 контратак, 29 чэрв каля в Альхоўка ад біў з акружэння штаб батальёна

**МАРТЫ́НАЎ** Уладзімір Кірылавіч (17 3 1919, в Дальнавідава Тульскай губ , цяпер Залягошчынскага р-на Арлоўскай вобл , Расія — 24 6 1944), удзельнік баёў на Беларусі ў Вял Айч вайну Герой Сав Саюза (1945) Скончыў курсы мал лейтэнантаў (1942) З ліп 1941 на 1-м Бел фронце Вызна чыўся ў 1944 каля в Лудчыцы Быхаўскага р-на у ноч на 24 чэрв рота на чале з ст лейт М авалодала пануючай вышыней, 19 гадзін адбівала атакі 2 батальёнаў працўніка да апошняга патрона Загінуў у гэтым баі У г Быхаў яго імем названа вуліца

**«МАРТЫРАЛО́Г БЕЛАРУСІ»**, добраахвотнае грамадска асветнае таварыства памяці ахвяр Ідэя яго стварэння ўзнікла летам 1988 Па ініцыятыве гісторыка-мемарыяльнай і інш камісій Бел фонду культуры была ўтворана арганізац група Камітэт «58», якая падрыхтавала праекты статута і дэкларацыі т-ва 19 10 1988 у Мінску ў Доме кіно адбыўся Усебел ўстаноўчы сход (прысутнічала 350 чал ), які зацвердзіў Статут і Дэкларацыю т-ва, стварыў арганізац к т *Беларускага народнага фронту «Адраджэньне»* Кіруючыя органы «М Б» — канферэнцыя і грамадская рада, выканаўчыя — выканаўчая камісія і рабочыя групы У грамадскую раду ўвайшлі З Пазняк (старшыня), В Быкаў, А Бела-

вусаў, М Дубянецкі, С Грахоўскі і інш Асн мэты — раскрыццё масавых рэпрэсій у 1920—50-я г, высвятленне колькасці тых хто загінуў на Беларусі, у месцах высылкі і зняволення, увекавечанне іх памяці Выдадзены бюлетэнь «Мартыралог» (1989), зняты дакументальны фільм «Дарога ў Курапаты» (1990, рэж М Жданоўскі), праведзена канферэнцыя «Час, помнікі, людзі Памяці рэпрэсіраваных археолагаў» (1993), устаноўлены памятныя знакі ў Чэрвені, Курапатах (пад Мінскам) і інш Т-ва з'яўляецца адным з ініцыятараў стварэння *Беларускай асацыяцыі ахвяр палітычных рэпрэсій*

**МАРУСІЧЭ́НКА** Канстанцін Іванавіч [26 4(9 5) 1917, хутар Кірсаўка Міргарадскага пав, цяпер у Міргарадскім р-не Палтаўскай вобл, Украіна — 1.8 1989], удзельнік вызвалення Беларусі ў Вял Айч вайну Герой Сав Саюза (1944), ген-м авіяцыі (1959) Скончыў Варашылаўградскую школу ваен пілотаў (1937), Ваен-паветр акадэмію (1950), Ваен акадэмію Генштаба (1961) У Чырв Арміі з 1936 У Вял Айч вайну з 1941 на Паўд фронце, з 1942 у часцях авіяцыі далёкага дзеяння Зрабіў 198 баявых вылетаў Удзельнік Сталінградскай бітвы, абароны Ленінграда, вызвалення Гомеля, Бабруйска, Мінска, Берлінскай аперацыі Да 1963 на камандных пасадах у Сав Арміі Дэп ВС БССР у 1959—63

**МАРЦЕ́ХАЎ** Васіль Федаравіч (1 4 1917, штат Агайо, ЗША — 12 7 1943), Герой Сав. Саюза (1943) Беларус, бацькі — ураджэнцы в Бярозкі Гомельскага р-на У Чырв Арміі з 1938 У Вял Айч вайну з 1941 на Бранскім, Паўд-Зах, Паўд, Сталінградскім, Данскім і Варонежскім франтах Танк рота пад камандаваннем ст лейт М ў час Сталінградскай бітвы 19 11 1942 прарвала абарону праціўніка, што паспрыяла прарыву фронту, і першая злучылася з танкістамі 62-й арміі, у Курскай бітве рота 5—12 7 1943 знішчыла 3 танкі, 6 самаходак, 3 мінаметы, 8 кулямётаў і шмат жывой сілы ворага Загінуў у баі

В Ф Марцехаў

**МАРЦІНКЕ́ВІЧ** (па мужу Асіповіч) Каміла Вінцэнтаўна (каля 1837, Мінск? — пасля 1880), бел піяністка, спявачка, кампазітар, педагог, удзельніца рэв руху ў Беларусі ў 1860-я г Дачка В *Дуніна-Марцінкевіча* Фартэпіяннай ігры вучылася ў Мінскім пансіёне Мантэграндзі Выступала з канцэртамі ў Мінску, Слуцку, Кіеве (1849 і 1851), Варшаве (у 1850 з братам Міраславам) Уваходзіла ў тэатр трупу бацькі, у 1852 удзельнічала ў паказе ў Мінску першай бел оперы «Сялянка» (муз С Манюшкі, лібрэта В Дуніна-Марцінкевіча) У 1861—63 член мінскай арг-цыі *Літоўскага правінцыяльнага камітэта* У 1861 арыштавана і змешчана ў бальніцу для вар'ятаў, але хутка выпушчана У лют 1863 зноў арыштавана і саслана ў г Салікамск (Пермская губ), там у 1865 выйшла замуж за ўрача К Асіповіча У 1880-я г вярнулася на радзіму, дзе неўзабаве памерла

Ф С Марцінкевіч

*Літ* Кісялёў Г Сейбіты вечнага Мн, 1963 С 148—174, Ахвердава А. Пачынальнікі беларускага піянізму // Мастацтва Беларусі 1985 № 2, Барышев Г Из истории семьи В И Дунина-Марцинкевича // Неман 1961 № 1 *Мікола Багадзяж*

**МАРЦІНКЕ́ВІЧ** Уладзімір Мікалаевіч [10(22) 3 1896, г п Крупкі — 30 7 1944], генерал-маёр (1941), Герой Сав Саюза (1945) Скончыў Вышэйшую ваен школу старшага камсаставу (1923), курсы ўдасканалення камсаставу пры Ваеннагасп акадэміі (1937) У арміі з 1915 З лютага 1918 камандзір 1-га Маладзечанскага партыз атрада, потым у Чырв Арміі Удзельнік грамадз вайны, сав-фінл вайны 1939—40 У Вял Айч вайну на Паўд, Закаўказскім, Волхаўскім і 1-м Бел франтах в а камандуючага 24-й і 9-й арміямі, камандзір стралк. дывізіі Вызначыўся ў ліп 1944 умелым кіраўніцтвам баявымі дзеяннямі дывізіі пры фарсіраванні Зах Буга, Віслы, захопе і ўтрыманні плацдарма Загінуў у баі У Крупках устаноўлены бюст М., яго імем названы вуліца, школа

У М Марцінкевіч

**МАРЦІНКЕ́ВІЧ** Фелікс Станіслававіч (1 2 1920, в Машчонае Мінскага пав, цяпер Дзяржынскага р-на — 13 8 1992), бел эканаміст Акад АН Беларусі (1969, чл-кар 1966) Д-р эканам н (1964), праф (1965) Скончыў БДУ (1946) Удзельнік Вял Айч вайны З 1950 ст навук супрацоўнік, заг сектара, нам дырэктара Ін-та эканомікі АН БССР, у 1964—80 дырэктар Адначасова ў 1966—70 праф Бел ін-та нар гаспадаркі Даследаваў праблемы размяшчэння прадукцыйных сіл, эфектыўнасці грамадскай вытв-сці і эканам гісторыі Беларусі Распрацоўваў пытанні спецыялізацыі с-г вытв-сці Беларусі

*Тв* Экономика Советской Белоруссии, 1917—1967 Мн, 1967 (у сааўт), Слагаемые эффективности общественного производства Мн, 1973 (у сааўт) *Валянцін Дрыц*

**МАРЦІНО́ВІЧ** Алесь Андрэевіч (н 18 8 1946, в Казловічы Слуцкага р-на), бел крытык, літаратуразнавец, краязнавец, журналіст, празаік Скончыў БДУ (1968) Працаваў у драгічынскай, капыльскай і слуцкай раённых газетах З 1972 у газ «Літаратура і мастацтва» З 1996 выступае ў друку з рэцэнзіямі, літ-крытычнымі артыкуламі Аўтар кніг «Далучанасць», «Пад небам вечнасці» (абедзве 1990), «Дарога ў запаветнае» (1992), «Шляхам праўды», «Сувязь» (абедзве 1994), «Дзе ж ты, храм праўды?» (1996), «Святло чароўнага ліхтарыка» (кн 1—2, 1997—98) Даследуе айч гісторыю, папулярызуе знакамітых асоб Беларусі Нарысы, прысвечаныя славутым землякам, друкуе ў час «Беларуская мінуўшчына», «Маладосць», газ «Літаратура і мастацтва», «Культура» і інш Гіст нарысы склалі кнігі «Зерня да зерня» (1996), «Хто мы, адкуль мы » (кн 1, 1996), літ і гіст краязнаўства — кнігу «Ля Каменкі бруістай» (1992), прысвечаную Капыльшчыне Аўтар шматлікіх рэцэнзій на творы бел пісьменнікаў *Алесь Карлюкевіч*

**МАРЦІНО́ЎСКІ** Антоній [10(21) 7 1781, мяст Радашковічы, цяпер гар пасёлак Маладзечанскага р-на — 3(15) 1.1855], рэдактар-выдавец, публіцыст З сям'і уніяцкага святара Скончыў Мінскую

**МАРЫНЕНКА** Таццяна Савельеўна (25 1 1920, в Сухі Бор Полацкага пав Віцебскай губ, цяпер у Полацкім р-не — 2 8 1942), Герой Сав Саюза (1965) Скончыла Полацкае педвучылішча (1939), працавала настаўніцай У Вял Айч вайну сувязная і разведчыца партыз брыгады «Няўлоўныя» НКДБ СССР распаўсюджвала сярод насельніцтва зводкі Саўінфармбюро, агітац л-ру, здабывала планы карных экспедыцый, звесткі пра дыслакацыю войск працўніка Арыштавана і пасля катаванняў расстраляна разам з 14-гадовым братам Лаўрэнам М пастаўлены помнікі ў Полацку (перад будынкамі педвучылішча і сярэдняй школы № 8), яе імем названа вуліца і мікрараен у Полацку, Зяленкаўская сярэдняя школа, дзе яна працавала перад вайной

Т С Марыненка

**МАРЫ́НІ** (Morini) Феліче, балетмайстар і кампазітар 2-й пал 18 ст Родам з Венецыі Раней 1781 паступіў на службу ў *Слонімскі тэатр Агінскага*, працаваў да крас 1788, стварыў шэраг балетных партытур Адначасова выкладаў у слонімскай балетнай школе Пад яго кіраўніцтвам балет у Слоніме дасягнуў высокага ўзроўню, 4 вучні мясц школы выступалі ў Варшаве ў балеце «Рыбакі» (14 2 1788)

**МАРЫ́Я ВАСІ́ЛЬКАЎНА** (12 ст), княгіня зеўна, дачка полацкага князя *Васількі Святаславіча*, пляменніца *Ефрасінні Полацкай*, праўнучка Усяслава Брачыславіча У 1143 выдадзена замуж за Святаслава Усеваладавіча, князя чарнігаўскага і ноўгарад-северскага, з 1177 вял кн кіеўскага Была пастаяннай дарадчыцай мужа ў справах палітыкі, аказвала на яго вял ўплыў Паводле летапісу, паход 1180 Святаслаў «сдумав с княгинею своею» Выступала за стабільнасць адносін паміж Кіевам і Полацкам Аўдавела ў 1194

*Літ* Кайдаш С Сила слабых Женщины в истории России (XI—XIX вв) М, 1989 Пушкарева Н Л Женщины Древней Руси М 1989, Двинская Я Легенды Полоцкой земли Рига, 1991

*Ірына Масляніцына*

**МАРЫЯНЕ**, члены каталіцкага манаскага ордэна Таварыства бязгрэшнага зачацця Дзевы Марыі (лац Congregatio Marianorum Immaculatae Conceptionis) Ордэн засн б піярам С Папчынскім у Карабеўскай Пушчы (Польшча), прызнаны пазнанскім біскупам Г Свянцянскім 24 10 1673 (лічыцца датай узнікнення ордэна) і ў 1699 зацверджаны папам рымскім Інакенціем XII Апекуном ордэна быў кароль Ян III Сабескі Паводле статута гал мэтамі ордэна былі пашырэнне культу св Марыі і душпастырская дзейнасць сярод простых людзей Да канца 17 ст М мелі ў Рэчы Паспалітай 3 дамы (кляштары) У сярэдзіне 18 ст М з'явіліся ў Чэхіі, Партугаліі, ВКЛ Стаўрапалі (пазней Марыямпаль, цяпер Літва) і Расне (цяпер Камянецкі р-н) У канцы 18 ст на тэр *Віленскага біскупства* дзейнічалі 2 кляштары (Марыямпаль і Міраслаў) і 2 рэзідэнцыі Янаў-Палескі (1776 — каля 1800 цяпер г Іванава Брэсцкай вобл) і Воўпа (закрыты каля 1814, цяпер Ваўкавыскі р-н) На працягу 19 ст ўстановы М у Рас імперыі скасоўваліся, у 1904 закрыты апошні кляштар у Марыямпалі З 1909 пачалося адраджэнне дзейнасці М на бел і літ землях У 1910 паводле прапаноў генерала ордэна В Зянькоўскага і Ю *Матулевіча* папам зацверджаны новыя палажэнні аб дзейнасці М Калі Матулевіч узначальваў ордэн (1911—27), новыя ўстановы М адкрыты ў адроджанай Польскай дзяржаве, Англіі, Аргенціне, ЗША, Канадзе Партугаліі, Францыі Пасля яго смерці генераламі ордэна былі Ф Бучыс (1927—33, 1939—51) і А Цікота (1933—39) У 1923—39 дзейнічаў *Друйскі кляштар айцоў марыянаў*, а з 1935 — яго філіял у Вільні навуч установа «Беларускі марыянскі дом студыяў», які ўзначальвалі Ю *Кашыра* (1935—36) і Я Германовіч (В *Адважны*, 1936—38) У 1928—48 у Харбіне (Кітай) сярод рус эміграцыі дзейнічала місія М, арганізавана гімназія выдаваўся час «Католический вестник» Місію ўзначальвалі Ф *Абрантовіч* (1928—39) і Цікота (1939—48), ім дапамагалі бел святары-М М Германовіч, Т Падзява, К Найловіч У 1948 Ч *Сіповічам* створаны бел Дом айцоў М у Лондане, які праводзіць рэліг і культ работу сярод беларусаў у Англіі, выдаваўся час «*Божым шляхам*», створаны *Беларуская бібліятэка і музей імя Францішка Скарыны* У 1950—60-я г ў дзейнасці Дома ўдзельнічалі Л *Гарошка*, Ф Журня і інш Цяпер Дом узначальвае А *Надсон* Характэрнай рысай бел М у Друі, Вільні, Харбіне, Лондане з'яўляецца ўсходні (грэка-каталіцкі) абрад У 1997 у ордэне было 596 чал М працуюць у 15 краінах свету, у т.л ў Казахстане Латвіі, Літве, Украіне, Эстоніі У Беларусі М (18 чал) маюць дамы ў Друі, Барысаве, Оршы, прыходы ў Росіцы (Верхнядзвінскі р-н), Ідолце (Міёрскі р-н), Задарожжы (Глыбоцкі р-н) і Вішневе (Валожынскі р-н)

*Літ* Ч С [Сіповіч Ч] З жыцця законy Айцоў Марыянаў // Божым шляхам 1973 № 2

*Янка Трацяк*

**МАР'ЯВІ́ТЫ**, касцёл мар'явітаў, рэлігійная плынь, якая вылучылася з рымска-каталіцкай царквы ў самастойную арг-цыю Засн ў 1893 у Плоцку (Польшча) манашкай Ф Казлоўскай як брацтва ксяндзоў У 1906 з-за своеасаблівага тлумачэння пытанняў маралі і крайняга містыцызму М адбыўся іх поўны разрыў з папствам Рас ўлады падтрымалі М і далі ім дазвол на ле

А.П **Марыкс** Эскіз дэкарацыі да спектакля «Кастусь Каліноўскі» Е Міровіча Бел дзярж тэатр 1923

гальную дзейнасць У 1909 прыняты статут М Іх колькасць у Прывіслінскім краі і зах губернях дасягала паводле розных звестак ад 40 да 100 тыс чал У 1935 М падзяліліся на 2 асобныя арг-цыі Старакаталіцкі касцел М (большасць вернікаў) і Каталіцкі касцел М Пэўнае распаўсюджанне М мелі ў Зах Беларусі Найб вядомай была абшчына ў в Шыдлоўшчына (цяпер Пружанскі р-н) на чале з Л Пясецкай, дзе ў 1935 было 117 вернікаў, мелася свая капліца Пасля Вял Айч вайны дзейнасць М у БССР не адзначалася

*Літ* Grelewski S Wyznania protestanckie Warszawa, 1937 *Баляслаў Камейша*

**МАР'ЯНО́ЎСКІ** Майсей Фроімавіч (н 25 10 1919, мяст Новы Буг Мікалаеўскага пав, цяпер у Мікалаеўскай вобл, Украіна), удзельнік вызвалення Беларусі ў Вял Айч вайну Герой Сав Саюза (1945) Скончыў Горкаўскае ваенна-пал іт вучылішча (1941), Маскоўскі ун-т (1951) На фронце з 1942 Вызначыўся ў чэрв 1944 у баі на тэр Магілеўскай вобл танкавы батальен на чале з капітанам М знішчыў некалькі танкаў, больш за 1000 аўтамашын, 14 гармат, 72 куляметы, шмат жывой сілы праціўніка, адбіў некалькі контратак ворага 27 чэрв на Мінскай шашы М асабіста знішчыў 60 аўтамашын, 4 бронетранспарцеры, 5 гармат, цяжка паранены не пакінуў поля бою Пасля вайны на выкладчыцкай рабоце

**МАСАЛКО́Ў** Якаў Дзмітрыевіч [23 10(3 11) 1882, в Чачанева Аршанскага пав Магілеўскай губ, цяпер Талачынскі р-н — 6 6 1931], матрос-рэвалюцыянер Балт флоту З 1902 рабочы цвіковага завода ў Оршы, іскравец З 1904 на Балт флоце, служыў у Кранштаце Веў рэв работу сярод матросаў і салдат, чл ваен арг-цыі РСДРП Удзельнік Кранштацкага ўзбр паўстання 1905 29 10 1905 арыштаваны, 18 3 1906 прыгавораны да 12 гадоў катаржных работ Пакаранне адбываў у Аляксандраўскім цэнтрале і на буд-ве Амурскай чыгункі Пасля няўдалых уцекаў у 1907 тэрмін катаргі падоўжаны на 3,5 года У 1909—17 на катаржных работах і ў турмах Горнага Зерантуя, Алгачах, у Якуцкай вобл З 1918 у Чырв Арміі, удзельнічаў у баях супраць Калчака У ліп 1918 зняволены калчакаўцамі ў іркуцкую турму, у студз 1920 вызвалены З вер 1920 на Паўд фронце, ваяваў супраць Урангеля Пасля грамадз вайны працаваў у Адэскім губкоме КП(б)У, палітаддзеле 51-й стралк дывізіі, на гасп і грамадскай рабоце Аўтар успамінаў аб паліт ссылцы і грамадзянскай вайне

*Літ* Памяць Гіст-дак хроніка Талачынскага р-на Мн, 1988 С 86—88

*Эдуард Карніловіч*

**МАСАЛЬСКІ** Ігнацій Якуб (30 7 1729, в Алекшыцы Гродзенскага пав, цяпер у Бераставіцкім р-не — 28 6 1794), рэлігійны, грамадскі і палітычны дзеяч Рэчы Паспалітай Сын гетмана ВКЛ М І Масальскага (гл ў арт *Масальскія*)

І Я Масальскі

У Р Масальскі

Д-р кананічнага і рымскага права (1752) Вышэйшую адукацыю атрымаў у Рыме З 1752 рэферэндарый літоўскі, з 1762 — біскуп віленскі На сейме 1766 выступіў супраць ураўнавання дысідэнтаў у правах з католікамі Пагадзіўся на 1-ы падзел Рэчы Паспалітай (1772) На сеймах 1773—75 выказаўся за стварэнне *Адукацыйнай камісіі*, стаў яе першым старшынёй (1773—80) Гал увагу аддаваў стварэнню шырокай сеткі пачатковых школ У 1774 выступіў на сейме за вызваленне сялян ад прыгону і надзяленне іх зямлёй, у тым жа годзе перавеў частку сялян свайго маентка каля Ігумена (цяпер г Чэрвень) з паншчыны на чынш На *чатырохгадовым сейме 1788—92* выступаў супраць прагрэсіўных рэформ, падтрымаў *Таргавіцкую канфедэрацыю*, якая прывяла да 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) Асудзіў *паўстанне 1794* Арыштаваны па загадзе Т *Касцюшкі* і пакараны смерцю за здраду нац інтарэсам Адна з самых супярэчлівых асоб сярод прадстаўнікоў ідэалогіі Асветніцтва ў Рэчы Паспалітай 2-й пал 18 ст *Вячаслаў Шалькевіч*

**МАСАЛЬСКІ** Уладзімір Рыгоравіч (22 1 1920, г Рэчыца — 21 7 1965), Герой Сав Саюза (1944) Скончыў курсы мал лейтэнантаў (1942), Ленінградскае артыл вучылішча У Чырв Арміі з 1939 Удзельнік сав-фінл вайны 1939—40 У Вял Айч вайну з 1941 на Ленінградскім фронце Камандзір роты гвардыі капітан М вызначыўся ў студз 1944 у наступальных баях на ўчастку Пулкава—Краснае Сяло рота аўтаматчыкаў на чале з ім зайшла ў тыл ворага каля вышыні Вароніна Гара, з якой гітлераўцы абстрэльвалі Ленінград, ударам з флангаў захапіла веску побач з вышыней, уварвалася на вышыню і выбіла адтуль праціўніка, чатыры разы паранены не пакінуў поля бою Да 1954 у Сав Арміі, падпалкоўнік

**МАСАЛЬСКІЯ**, княжацкі род уласнага герба «Масальскі» Па паходжанні Рурыкавічы, адгалінаванне кн Чарнігаўскіх Святаслаў Цітавіч Карачаўскі ў шлюбе з кн Фядораю, дачкой вял кн ВКЛ Альгерда, меў 7 сыноў і дачку Адзін з іх — Юрый у канцы 14 ст атрымаў ва ўдзел частку Карачаўскага княства з г Масальскам Яго сыны Васіль, Уладзімір і Сямен супольна валодалі Масальскім княствам (у 1492 яно захоплена вял кн маскоўскім Іванам III)

Васіль Юр'евіч меў сыноў Сямена, Міхала і Федара Міхал Васілевіч валодаў маенткамі Пасконь і Грэбіна на Смаленшчыне, меў сыноў Васіля, Сямена Пятра, Федара і Барыса Васіль Міхайлавіч выехаў у Маскоўскае княства, дзе яго называлі Ліцьвінам, даў пачатак рас князям Ліцьвінавым-М Сыны Сямена Міхайлавіча таксама з'ехалі ў Маскоўскую дзяржаву, адзін з іх Васіль меў мянушку Кальцо, ад яго пайшлі кн Кальцовы-М Федар Міхайлавіч у *бітве на Вядрошы 1500* трапіў у маскоўскі палон, дзе прабыў 9 гадоў Па вяртанні атрымаў маентак Алекшыцы (Гродзенскі пав), пачынальнік алекшыцкай лініі Ад унука Барыса Міхайлавіча Рыгора Афанасьевіча ідзе лінія М на Рачках і Сапежышках Федар, сын Васіля Юр'евіча, меў чатырох сыноў, ад яго сына Васіля Федаравіча ідзе валынская лінія М

Уладзімір Юр'евіч меў сыноў Цімафея і Алехну Цімафей, акольнічы смаленскі, намеснік дубровенскі, у 1487 і 1488 узначальваў пасольства ў Вял кн Маскоўскае У 1496 атрымаў ад вял кн ВКЛ Казіміра г Друю, пачынальнік браслаўскай лініі Кн Алехна у бітве на Вядрошы 1500 трапіў у палон, па вяртанні атрымаў маентак Алтупава (Ваўкавыскі пав) і Рускае Сяло (Мерацкі пав), пачынальнік ваўкавыскай лініі

Сямен Юр'евіч меў сыноў Івана і Андрэя У Івана былі сыны Федар, Дымітр і Сямен (два апошнія ў пач 16 ст з'ехалі ў Маскоўскае княства) Дымітр меў чатырох сыноў, з якіх Іван меў мянушку Клубок, пачынальнік роду кн Клубковых-М

Найб вядомыя прадстаўнікі алекшыцкай лініі

Андрэй Федаравіч (?—1651), маршалак гродзенскі (з 1618), кашталян брэсцкі (з 1627), ваявода мінскі (з 1643), ваявода брэсцкі (з 1645)

Міхал Юзаф (? — 20 1 1768), пісар вялікі ВКЛ (з 1726), ваявода мсціслаўскі (з 1737), кашталян трокскі (1742), кашталян віленскі і гетман польны ВКЛ (з 1744), гетман вялікі ВКЛ (з 1762)

Найб вядомыя прадстаўнікі лініі на Рачках і Сапежышках

Аляксандр Рыгоравіч (? — пахаваны 19 5 1643), маршалак ковенскі (з 1617), кашталян дэрпцкі (з 1627), кашталян смаленскі (з 1631), ваявода менскі (з 1638)

*Літ* Власьев Г А Потомство Рюрика Т 1, ч 1 СПб, 1906, Бранденбург Н Е Род князей Мосальских (XIV—XIX ст) СПб, 1892 *Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта*

**МА́СКАВІЧЫ**, Маскаўцы, гарадзішча археал культур днепра-дзвінскай, штрыхаванай керамікі і 11—13 ст каля в Маскавічы Браслаўскага р-на на беразе воз Дзерба На рубяжы н э было ўмацавана драўляным частаколам, у 11—12 ст — сценамі з тоўстых бярвен У 12—13 ст з'яўлялася памежнай крэпасцю на паўн -зах ускраіне *Полацкага княства* Выявіў у канцы 19 ст Ф В Пакроўскі, даследавала ў 1976—88 Л У Дучыц Культурны пласт 0,2—1,2 м Рэшткаў пабудоў не выяўлена, але аэрафотаздымак сведчыць пра комплексную забудову гарадзішча жытлы, верагодна, былі наземныя, зрубныя, па форме блізкія да квадрата, з драўлянымі і глінабітнымі падлогамі, глінабітнымі печамі на слупавых апечках Выяўлены пасад, які з цягам часу апынуўся пад вадой возера Знойдзены прылады працы, конская збруя і рыштунак конніка, рыбалоўныя снасці, вырабы з косці, жаночыя ўпрыгожанні, 4 энкалпіены, больш за 100 абломкаў касцей жывёл з надпісамі і малюнкамі

*Літ* Дучыц Л У Браслаўскае Паазер'е ў XI—XIV ст Гіст -археал нарыс Мн, 1991 *Людміла Дучыц*

Косці жывёл з малюнкамі з гарадзішча **Маскавічы**

**МАСКАЛЕ́НКА** Якаў Раманавіч (2 3 1922, в Вялікія Аўцюкі Мазырскага пав, цяпер у Калінкавіцкім р-не — 18 3 1966), Герой Сав Саюза (1945) Скончыў Мазырскае педвучылішча (1940) У Вял Айч вайну на фронце з 1941, у 1942—43 у 2-й Калінкавіцкай партыз брыгадзе, з 7 6 1944 на фронце Радавы М вызначыўся 12—14 чэрв у час дэсантнай аперацыі пры вызваленні Пінска з групай байцоў высадзіўся на бераг Піны, у цэнтры горада заняў абарону і 2 сутак адбіваў контратакі праціўніка Пасля вайны на выкладчыцкай і прафсаюзнай рабоце

Я Р Маскаленка

**МАСКА́ЛІК** Міхась [18(31) 3 1903, в Гарадзея Навагрудскага пав, цяпер гар паселак у Нясвіжскім р-не — 25 9 1965], бел уніяцкі рэлігійны і культурна-грамадскі дзеяч у эміграцыі Д-р славянскай філалогіі (1959) Вучыўся у Віленскім ун-це (1927—31), скончыў калегіум св Андрэя ў Мюнхене з пасвячэннем у сан святара (1938) З мая 1932 у Германіі, у 1933 заснаваў «Саюз беларускіх студэнтаў у Нямеччыне» Пасля польска-герм вайны 1939 вы конваў рэліг культ для бел і ўкр ваеннапалонных польскай арміі ў Баварыі У ліп 1943 — крас 1944 зняволены у канцлагеры Заксенхаўзен, вызвалены дзякуючы намаганням папскай місіі у Германіі З 1945 жыў у г Госляры, праццаваў пастырскую дзейнасць у брыт зоне акупацыі сярод беларусаў і ўкраінцаў, выкладаў у бел гімназіі, узначальваў парафіяльны к-т, які выдаваў час «Наша думка» (1946—49), кіраўнік Бел к-та перасяленцаў (1947—52) У доктарскай працы «Янка Купала — песняр беларускага народа» (выдадзена ў 1961 як манаграфія на ням мове) даследаваў ролю фалькл элемента ў творчасці паэта *Янка Трацяк, Уладзімір Сакалоўскі*

**МАСКЕ́ВІЧ** Багуслаў Казімір (1625, в Сэрвач, Навагрудскі пав, цяпер Карэліцкі р-н — 4 4 1683), вайсковы і грамадскі дзеяч, пісьменнік-мемуарыст Сын С І *Маскевіча* Адукацыю атрымаў у Навагрудку У 1643—44 пры двары Б Радзівіла, у 1644 — люблінскага кашталяна Ф Забжыдоўскага У гэты час перайшоў з кальвінізму ў каталіцтва З 1646 на службе ў І М Вішнявецкага, у 1646—48 удзельнічаў з ім у бітвах з укр казакамі У складзе харугвы Б Радзівіла ўдзельнічаў у паходзе Я Радзівіла на Палессі, ва ўзяцці Мазыра (10—11 2 1649), Бабруйска (20—22 2 1649), у *Лоеўскай бітве 1649* У 1655 абраны дэпутатам Трыбунала ВКЛ Пасол на сеймы 1668, 1673, 1674 З 1668 на службе ў К і М Пацаў, у 1673—74 войскі навагрудскі Аўтар двух «Дыярыушаў» на польск мове У адным (ахоплівае падзеі 1643—49) апісаны ваен дзеянні Вішнявецкага, М Патоцкага, М Каліноўскага, Я Радзівіла супраць войск Б Хмяльніцкага на Украіне і Беларусі, шмат партрэтных і пейзажных замалёвак У другім «Дыярыушы» апісаны трыумфальнае шэсце рус ваяводы І Хаванскага па Беларусі у пач 1660 і разгром яго войск аб'яднанымі сіламі гетманаў П Сапегі і С Чарнецкага 28 6 1660 пад Палонкай Дыярыушы М даюць аб'ектыўнае ўяўленне пра тагачасныя падзеі і факты ваен, паліт і грамадскага жыцця

*Тв* Pamiętniki Samuela i Bogusława Kazimierza Maskiewiczow Wrocław, 1961

*Літ* История белорусской дооктябрьской литературы Мн, 1977 С 215—216

**МАСКЕВІЧ** Самуіл Іванавіч (1580?, в Сэрвач, Навагрудскі пав, цяпер Карэліцкі р-н — 1642), вайсковы і грамадскі дзеяч, пісьменнік-мемуарыст З бел шляхецкага роду герба «Адравонж» Вызнаваў кальвінізм Адукацыю атрымаў, відаць, у Навагрудку У 1601 у складзе харугвы Г Войны ваяваў са шведамі ў Інфлянтах У 1605—06 пры двары А Вішнявецкай у Брагіне Пасля

на вайсковай службе на Падоллі, змагаўся супраць Сандамірскай канфедэрацыі Як паручнік гусарскай харугвы ўдзельнічаў у вайне Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18, ва ўзяцці Смаленска, Рослава, бітве пад Клушынам, баях у Маскве З 1615 служыў у клецкага ардыната Я А Радзівіла, сыноў М К Радзівіла Сіроткі, польнага гетмана ВКЛ К Радзівіла У 1617 абраны дэпутатам Трыбунала ВКЛ, з 1628 навагрудскі гродскі пісар Пасля стаў прыхільнікам Сапегаў, імі прызначаны навагрудскім падваяводам (пасля 1632—38?) Багатыя ваенна паліт ўражанні ляглі ў аснову яго «Дыярыуша» (дзенніка і мемуараў на польск мове), які ахоплівае падзеі 1594—1621 Апісанне падзей 1594—1604 мае характар дзённікавых запісаў, пазнейшага часу — больш разгорнутае і эмацыянальна насычанае М аднолькава праўдзіва характарызуе і сваіх сяброў, і ворагаў Ён падрабязна апісвае аблогу Смаленска, адзначае мужнасць і стойкасць абаронцаў горада, рус ваяводу М Шэіна паказвае як доблеснага воіна і вопытнага военачальніка Аналізуючы складанасць ваенна паліт сітуацыі ў Расіі, М тлумачыць дзеянні розных баярскіх груповак, іх узаемаадносіны, іх дзеянні супраць каралеўскага войска Падрабязна апісаны побыт баяр, майстэрства маскоўскіх рамеснікаў Значнае месца ў «Дыярыушы» адведзена паказу некат рыс жыцця рус сялян і іх адносіны да войска Рэчы Паспалітай М падкрэслівае, што менавіта войны зрабілі жорсткім просты народ і вымусілі яго ўключыцца ў барацьбу М быў індыферэнтным у адносінах да рэлігіі Гэта паспрыяла таму што падзеі апісаны ім аб ектыўна, без паліт і рэліг прадузятасці

*Тв* Pamiętniki Samuela i Bogusława Kazimierza Maskiewiczow Wrocław, 1961, Рус пер — Сказания современников о Дмитрии Самозванце Ч 5 Записки Маскевича СПб 1834

*Літ* История белорусской дооктябрьской литературы Мн 1977 С 212—215

**МАСКО́ЎСКА - БЕЛАРУ́СКА - БАЛТЫЙСКАЯ ЧЫГУ́НКА**, назва ў 1922—36 сеткі чыг ліній, якія звязвалі БССР з цэнтрам РСФСР Зах Еўропай і Прыбалтыкай Яе стварэнню папярэднічала далучэнне паводле *Рыжскага мірнага дагавора 1921* Зах Беларусі да Польшчы, у выніку чаго граніца перарэзала большасць магістралей на тэр БССР Утворана ў жн 1922 шляхам аб'яднання Маскоўска-Балтыйскай і Аляксандраўскай чыгунак, у 1924 далучана і Арлоўска *Віцебская* чыгунка Упраўленне М Б Б ч знаходзілася ў Маскве Падзялялася на ўчасткі Масква—Смаленск—Орша—Мінск—Негарэлае, Масква—Ржэў—Вял Лукі—Новасакольнікі—Себеж (граніца з Латвіяй), Смаленск—Віцебск, Полацк—Фарынава (напрамак на Крулеўшчыну), Пскоў—Полацк—Невель—Вял Лукі—Багагое (выключна)—Дно—Віцебск—Орша—Жлобін Смаленск—Рослаўль Орша—Лепель Агульная даўжыня чыг лініі 3559 км (1929) У 1928 у выніку спецыялізацыі

Зямлянкі-баракі будаўнікоў **Маскоўска-Брэсцкай чыгункі** 1870—71

Будынак вакзала станцыі Мінск **Маскоўска-Брэсцкай чыгункі** 1873

Будынак станцыі Мінск-Таварны **Маскоўска-Брэсцкай чыгункі** 1871

вял тэрыторый Моцная *Руская цэнтралізаваная дзяржава,* створаная ў выніку поспехаў Івана III, які прыняў тытул «государь всея Руси», пачала адкрыта прэтэндаваць на падуладныя ВКЛ бел і ўкр землі, барацьба за якія шмат у чым вызначыла гісторыю Усх Еўропы на працягу 15—18 ст

*Літ* Духовные и договорные грамоты великих и удельных князей XIV—XVI вв М, Л, 1950, Базилевич К В Внешняя политика Русского централизованного государства М, 1952, Греков И Б Очерки по истории международных отношений Восточной Европы XIV—XVI вв М, 1963, Зимин А.А. Витязь на распутье Феодальная война в России XV в М, 1991, Fennell J L I The emergence of Moscow, 1304—1359 Berkeley Los Angeles, 1968 *Алесь Белы*

**МАСКО́ЎСКАЯ БІ́ТВА 1941—42**, адна з вырашальных аперацый Вял Айч вайны Складалася з абарончых баеў (30 9—5 12 1941) і контрнаступлення (5 12 1941—20 4 1942) сав войск Пасля правалу плана захопу горада з ходу ў першыя тыдні вайны ням -фаш камандаванне падрыхтавала буйную наступальную аперацыю пад кодавай назвай «Тайфун» для аваладання Масквой, для чаго ў складзе групы армій «Цэнтр» сканцэнтравала 1,8 млн чал, больш за 14 тыс гармат і мінаметаў, 1,7 тыс танкаў, 1390 самалетаў, з якіх асн сілы (74,5 дывізіі, у т л 14 танк, 8 матарызаваных) былі сканцэнтраваны на У ад Смаленска У складзе сав Зах, Рэзервовага і Бранскага франтоў налічвалася каля 1250 тыс чал, 7,6 тыс гармат і мінаметаў, 990 танкаў, 677 самалетаў М б праходзіла ў паласе каля 1 тыс км Ням -фаш войскі, наступаючы на Бранскім і Вяземскім напрамках, прарвалі абарону, вял танк сіламі выйшлі ў тыл сав войск, акружылі ў раенах Бранска і Вязьмы частку сіл трох сав франтоў Вораг захапіў гарады Калінін, Малаяраславец, Мажайск, Валакаламск, з удзелам 2 тыс самалетаў (278 збіта, да Масквы прарвалася 72) у кастр зрабіў 31 налет на Маскву Рашэннем Дзярж к-та абароны гал мяжой супраціўлення была вызначана Мажайская лінія, куды выстаўляліся рэзервы Стаўкі ВГК і злучэнні з іншы франтоў Другая лінія абароны стваралася непасрэдна на подступах да сталіцы У горадзе і прылеглых раенах уведзены стан аблогі На абарону Масквы разам з вайск часцямі сталі сотні атрадаў нар апалчэння, баявых дружын, груп знішчальнікаў танкаў, у стварэнні абарончых збудаванняў удзельнічала 450 тыс жыхароў горада Для паляпшэння кіравання войскамі 10 кастр Стаўка аб'яднала Зах і Рэзервовы франты ў Зах фронт (камандуючы ген арміі Г К *Жукаў*), 17 кастр створыла Калінінскі фронт (ген -палк І С *Конеў*), 10 ліст расфарміравала Бранскі фронт 15—16 ліст група армій «Цэнтр» аднавіла наступленне на Маскву і цаной велізарных страт адцяснілa абарону на некаторых участках і наблізілася да Масквы на 25—30 км 27 і 29 ліст сав. войскі нанеслі моцныя контрудары па паўн і паўд. групоўках праціўніка 1 снеж гітлераўцы зрабілі

А.С Маслаў

апошнюю беспаспяховую спробу прарыву да Масквы Абарончая бітва была выйграна, ням -фаш групоўка была абяссілена і абяскроўлена Сав войскі пераходзілі ў контрнаступленне, калі колькасная перавага ў жывой сіле і тэхніцы была яшчэ на баку праціўніка Да пач снеж група армій «Цэнтр» мела ў сваім складзе 1708 тыс чал, каля 13 500 гармат і мінаметаў, 1170 танкаў, 615 самалетаў Сав войскі мелі каля 1100 тыс чал, 7652 гарматы і мінаметы, 744 танкі, 1 тыс самалетаў 5—6 снеж без аператыўнай паузы перайшлі ў наступленне войскі Калінінскага, Зах і правага крыла Паўд -Зах франтоў, паспяховае наступленне развіва іі войскі зноў створанага 24 снеж Бранскага фронту У пач студз 1942 контрнаступленне на зах стратэгічным напрамку было завершана Сав войскі разграмілі ўдарныя групоўкі праціўніка і адкінулі іх ад Масквы на 100—250 км, вызвалілі больш за 11 тыс нас пунктаў

У пач студз 1942 контрнаступленне пад Масквой перарасло ў агульнае наступленне сав войск на асн стратэгічных напрамках Ням -фаш войскі былі адкінуты на 150—400 км, вызвалены Маскоўская, Тульская вобл, многія раены Калінінскай, Смаленскай, Разанскай і Арлоўскай абл У М б вызначыліся воіны 2-га гв кав корпуса пад камандаваннем ген -маера Л М *Даватара*, 1-й гв Маскоўскай мотастралк дывізіі пад камандаваннем ген -маера А У *Лізюкова*, воіны-беларусы С П *Алейнікаў*, І П *Камера*, І І *Казлоўскі*, Г А *Палаўчэня*, П Ф *Сычэнка*, А Дз.*Церашкоў* і інш У час абароны Масквы Чырв Арміі дапамаглі партызаны Беларусі Толькі падпольшчыкі Оршы за 3 месяцы ўчынілі 98 крушэнняў на чыгунцы, вывелі са строю 200 паравозаў У ходзе бітвы гітлераўцы страцілі больш за 500 тыс чал, 1,3 тыс танкаў, 2,5 тыс гармат і інш тэхнікі М б была першай стратэгічнай наступальнай аперацыяй Чырв Арміі, першым значным паражэннем фаш арміі і паваротным этапам 2-й сусв вайны Канчаткова быў сарваны план т зв «маланкавай вайны» Гэта перамога садзейнічала ўзмацненню нац -вызв руху на акупіраваных тэрыторыях, паскорыла афармленне і ўмацаванне антыгітлераўскай кааліцыі Каля 40 злучэнняў і часцей атрымалі найменні гвардзейскіх, 110 воінам прысвоена званне Героя Сав Саюза, больш як 36 тыс адзначаны ордэнамі і медалямі У 1944 устаноўлены медаль «За абарону Масквы», якім узнагароджана больш за 1 млн чал 8 5 1965 Маскве прысвоена ганаровае званне «Горад-герой»

*Уладзімір Лемяшонак*

**МАСКО́ЎСКІ «РАБО́ЧЫ САЮ́З»**, першая сацыял-дэмакр арганізацыя маскоўскіх рабочых Створана ў 1895 Мела нелегальную друкарню, выдавала лістоўкі і брашуры, вяла прапаганду марксізму ў вячэрне-нядзельных рабочых школах Да ліпеня 1896 арг-цыя налічвала каля 2 тыс членаў У канцы 1897 на аснове маск «Рабочага саюза» ўзнік маск «Саюз барацьбы за вызваленне рабочага класа», які падтрымліваў сувязі з мінскімі сацыял-дэмакратамі Шыфраваная перапіска вялася праз мінчаніна В Хана Мінскія сацыял дэмакраты дапамагалі масквічам у перасылцы нелегальнай л-ры з-за мяжы Рас імперыі Зашыфраваныя паведамленні пра транспарты л-ры змяшчаліся ў артыкулах газеты «Минский листок»

*Літ* Филяков В Г Революционные связи рабочих Белоруссии и России в конце XIX — начале XX в Мн, 1987

*Уладзімір Філякоў*

**МА́СЛАЎ** Аляксандр Спірыдонавіч (22 11 1907, в Андрэеўскае Каломенскага р-на Маскоўскай вобл — 26 6 1941), удзельнік баеў на Беларусі ў Вял Айч вайну Герой Рас Федэрацыі (1996) Скончыў Ленінградскую ваенна тэарэт школу лётчыкаў (1931), Барысаглебскую 2-ю ваен школу лётчыкаў (1936), курсы ўдасканалення каманднага саставу (Ейск) Удзельнік сав -фінл вайны 1939—40 У Вял Айч вайну 26 6 1941 у час бамбардзіроўкі варожай танк калоны на дарозе Маладзечна—Радашковічы камандзір эскадрыллі капітан М разам з членамі экіпажа лейт У М Балашовым, сярж Р В *Рэутавым*, мал сярж Б Бейскбаевым накіраваў палаючы самалет на зенітную батарэю праціўніка

**МА́СЛЕНІКАЎ** Павел Васілевіч [1(14) 2 1914, в Нізкая Вуліца Магілеўскага пав, цяпер у Магілеўскім р-не — 6 9 1995], бел жывапісец, тэатр мастак, мастацтвазнавец, педагог Нар мастак Беларусі (1994) Канд мастацтвазнаўства (1960) Скончыў Віцебскае маст вучылішча (1938) і Ін-т жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя Рэпіна ў Ленінградзе (1953) Удзельнік Вял Айч вайны З 1938 працаваў у Дзярж т-ры

оперы і балета Беларусі (у 1946—60 мастак-пастаноўшчык), у 1960—79 у Бел тэатр -маст ін-це (1960—64 рэктар) Аформіў больш за 30 спектакляў у тэатры оперы і балета «Страшны двор» С Манюшкі, «Міхась Падгорны» Я Цікоцкага, «Салавей» М Крошнера і інш Сярод карцін гіст тэматыкі «Апошні», «У катгас» (1960-я г ), «Старажытнае Заслаўе», «Мінулае», «Дарогай смерці», «1944 год Палікоўская балада» (1970-я г ), «Лясная быль К Каліноўскі», «На світанні Пасля начных атак», «У Дзень Перамогі», «Вызваленне Магілева», «Старажытны Мінск Замчышча», «Рагнеда У выгнанні», «Наваколле Ракуцёўшчыны», «Мінск Дзень нараджэння М Багдановіча» (1980-я г ), «Апошні санет М Багдановіч», «Ф Скарына Людзям паспалітым добраму навучанню» (1990-я г ) Аўтар раздзела пра мастацтва Беларусі для «Гісторыі мастацтва народаў СССР» (т 8, 1977), адзін з аўтараў «Гісторыі беларускага мастацтва» (т 4—6, 1990—94) Магілёўскі абласны мастацкі музей носіць імя М Помнік у Магілеве (1997, скульп У Лятун)

*Тв* Беларускі савецкі тэматычны жывапіс Мн 1962

*Літ* Карнач П А П В Масленікаў Мн , 1973 *Галія Фатыхава*

**МАСЛЕНІЦА**, старажытнае перадвеснавое свята ў слав народаў, звязанае з культам прыроды Лакальная назва масленка, сырніца Асн накіраванасць абраднасці М — праводзіны зімы, паскарэнне прыходу вясны, забеспячэнне багатага ўраджаю і дастатку ў хаце З увядзеннем хрысціянства замацавалася на нядзелю перад вял постам На весцы М звычайна пачыналася ў чацвер На масленічным тыдні аб'язджалі маладых коней і валоў, адведвалі бабку-павітуху, моладзь наладжвала гушканне на арэлях (каб лён доўгі рос), каталася на санках, спявала масленічныя песні, існаваў звычай цягання хлопцамі «калодкі» з абавязковым заходам у хату, дзе была сталая дзяўчына, якая павінна была іх пачаставаць У панядзелак масленічнага тыдня жанчыны прывязвалі да «калодкі» адзін канец папружкі ці пояса, а другі — да суструтага імі халасцяка, які не ажаніўся за мінулы мясаед (перыяд пасля каляд), хто не жадаў такога пакарання, мусіў адкупіцца Падобнае ж адбывалася і з дзяўчатамі Заканчвалася М «запусканмі» на малочнае у нядзелю на вячэру гатавалі толькі малочныя стравы, сярод іх важную ролю адыгрывалі сыр, масла, тварог з малаком, абавязкова пяклі бліны *Антон Гурскі*

Г І Маслоўская

П В Масленікаў
Снежань 1941 год
1978

**МАСЛО́ЎСКАЯ** Вера Ігнатаўна (літ псеўд Вера Мурашка, Беларуская Мурашка, 24 3 1896, в Агароднічкі Беластоцкага пав Гродзенскай губ , цяпер Польшча — 23 1 1981), бел грамадска-паліт і культ дзеяч, адна з пачынальніц *жаночага руху* ў Беларусі Скончыла Свіслацкую настаўніцкую семінарыю, вучылася на Першых бел настаўніцкіх курсах у Вільні (1919) У 1917 стварыла адну з першых нац школ у в Грабавец (Шчучынскі р-н), у 1920 у час польскай акупацыі працавала настаўніцай у в Карма Ігуменскага пав Адна з заснавальніц і старшыня Цэнтр саюза (хаўрусу) беларусак, створанага вясной 1920 у Мінску З прыходам сав улады працавала інструктарам бел аддзела Наркамата асветы БССР З 1921 па заданні партыі бел эсэраў разгарнула канспіратыўную дзейнасць па стварэнні падп паўстанцкай арг-цыі на Гродзеншчыне Удзельніца *Першай Усебеларускай канферэнцыі* ў Празе (вер 1921) У сак 1922 арыштавана польскімі ўладамі і на *працэсе 45-і* прыгаворана да 6 гадоў зняволення З 1939 працавала настаўніцай у вёсках Гродзеншчыны і Беласточчыны Друкавала вершы ў газ «Беларусь» (Мінск), «Ніва» (Беласток), «Беларускім календары» (Вільня) Творчыя матэрыялы М захоўваюцца ў Бел дзярж архіве музеі л ры і мастацтва ў Мінску

*Літ* Туронак Ю Непакорная Вера // Беларускі каляндар Беласток, 1990, Кекелева Т «О, як мне балела душа!» // Беларусь 1996 № 7 *Тацццяна Кекелева*

**МАСЛО́ЎСКАЯ** Ганна Іванаўна (6 1 1920, в Курсевічы Дзісенскага пав Віленскай губ , цяпер у Пастаўскім р-не — 11 11 1980), Герой Сав Саюза (1944) Да вайны старшая піянерважатая Лынтупскай школы Пастаўскага р-на У Вял Айч вайну ў чэрв 1941 добраахвотна ўступіла ў Чырв Армію Трапіла ў акружэнне, наладзіла сувязь з партызанамі, сакратар Пастаўскай падп камсамольскай арг-цыі З яе дапамогай падпольшчыкі захапілі гітлераўскага генерала фон Цуга З 1942 у партызанах з мая 1943 нам камісара па камсамольскай рабоце партыз атрада імя А Пархоменкі, у 1943—44 чл Пастаўскага падп РК ЛКСМБ Удзельнічала ў разгроме фаш гарнізонаў у Залессі, Лынтупах, Камаях, у падрывах чыг рэек, З варожых эшалонаў Пасля вайны стала прыемнай маці 15 сірот, бацькі якіх загінулі ад рук фашыстаў

**МАСЛО́ЎСКІ** Мікалай Паўлавіч (парт псеўд Сакалоўскі, Алесь, Андрэй, Марцін, Пракоп, 1905, в Ялоўка Барысаўскага пав Мінскай губ цяпер Смалявіцкі р-н — 27 11 1938) дзеяч рэв руху ў Зах Беларусі З 1922 рамонтны рабочы на чыгунцы З 1926 сакратар Смалявіцкага і Капыльскага райкомаў, з 1929 — Мінскага акр к-та ЛКСМБ З ліп 1930 на нелегальнай рабоце ў Зах Беларусі, 1-ы сакратар ЦК КСМЗБ, з 1934 чл Сакратарыята ЦК КПЗБ Удзельнік 1-га з'езда КСМЗБ (1933), II з'езда КПЗБ (1935), IV з'езда Кампартыі Польшчы (1932), VII кангрэса Камінтэрна (1935) На VI кангрэсе КІМ выбраны кандыдатам у чл Выканкома КІМ, на II з'ездзе КПЗБ — чл ЦК КПЗБ У крас 1935 вярнуўся у Мінск, да канца 1936 ў прадстаўніцтве ЦК КПЗБ у Мінску 29 12 1937 арыштаваны, 12 4 1938 прыгавораны да вышэйшай меры пакарання Рэабілітаваны 4 2 1956 *Уладзімір Міхнюк*

**МАСЛЫ́КА** Іван Васілевіч (1894, в Гатава Мінскага р-на — 1920), удзельнік партыз руху на Беларусі ў грамадз вайну Скончыў нар вучылішча Працаваў на ліцейным заводзе, служыў мараком на Балтыйскім флоце У 1-ю сусв вайну на Зах фронце, дзе трапіў у палон да немцаў У час ням акупацыі 1918

удзельнічаў у падп. баявой арг-цыі. У час польск. акупацыі са студз. 1920 узначаліў спец. падрыўны партыз. атрад на радзіме, які пусціў пад адхон 3 варожыя эшалоны на ўчастках чыг. Міхана-вічы—Рудзенск і Замір'е—Пагарэльцы. Загінуў у баі.

**МАСЛЯКО́Ў** Георгій Гаўрылавіч (31.3.1925, Ніжні Ноўгарад, Расія — 29.9.1943), Герой Сав. Саюза (1944). Беларус. Скончыў Вінніцкае ваен. пяхотнае вучылішча (1943). У Вял. Айч. вайну з 1943 на Цэнтр. фронце. Кулямётчык радавы М. вызначыўся ў 1943 у Брагінскім р-не: 28 вер. ў складзе дэсантнай групы ў ліку першых фарсіраваў Дняпро, група атакавала ворага, замацавалася на плацдарме, адбіла контратаку і прыкрыла агнём пераправу палка. Загінуў у баі.

Г.Г.**Маслякоў**.

**МАСО́НСТВА**, ф р а н к м а с о н с т в а (ад франц. franc maçon, англ. free mason, ням. Freimaurer вольны муляр), вучэнне і практыка найб. міжнар. тайнага т-ва элітарнага тыпу, якое аб'ядноўвае людзей розных нацыянальнасцей і веравызнанняў пад эгідай пошуку «ісцінных шляхоў духоўнага абнаўлення грамадства». Асн. метад дзейнасці масонаў — пранікненне ва ўладныя структуры грамадства ўсіх узроўняў для аказання дзейснага ўплыву на ход гіст. падзей. Ідэолагі М. імкнуцца адшукаць яго сац.-паліт. і духоўныя вытокі ў старажытнасці, прыпісваюць масонскія рысы і характар саюзам, ордэнам, сектам і г.д., якія існавалі раней, але такія пошукі прыводзяць толькі да фіксацыі пэўнай адпаведнасці абрадаў, сімволікі, прынцыпаў і метадаў дзейнасці, характэрных для тайных т-ваў у любы гіст. перыяд. Гіст. карані М. як арг-цыі — у брацтвах вольных муляраў (будаўнічых саюзах), якія ўзніклі ў Германіі ў 12—13 ст. Вызначэнне «вольны» характарызавала прафесіянальную асаблівасць майстроў і азначала апрацоўшчыка «вольных» парод каменю (мармур, вапняк). Т-вы вольных муляроў (цэхі, ложы) пашырыліся ў Англіі, Італіі, Францыі. У канцы 16 ст. англійскія брацтвы сталі прымаць у свае рады «пабочных муляраў» — заможных адукаваных людзей, якія садзейнічалі адукацыі і маральнаму выхаванню муляраў. Уласна будаўнічыя т-вы ў пач. 18 ст. зніклі, але англійскія «пабочныя муляры», захаваўшы знешнюю атрыбутыку дзейнасці т-ваў, пачалі выкарыстоўваць ложы для абмеркавання праблем развіцця асобы і грамадства ў цэлым. У 1717 чатыры англійскія ложы ўтварылі Вял. англійскую ложу. Па яе даручэнні член т-ва, прэсвітэрыянскі пастар, доктар багаслоўя Дж.Андэрсан распрацаваў у 1721 «Кнігу канстытуцый» — першы сістэматызаваны зборнік прынцыпаў М. Паводле іх, масон не павінен быць «ні бяздумным атэістам, ні безрэлігійным вальнадумцам», падтрымліваць афіцыйныя ўлады і не прымаць удзелу ў паліт. рухах. Былі замацаваны асн. іерархічныя ступені масонскіх лож — вучань, падмайстар, майстар, уведзена асобае званне — наглядчык (сачыў за выкананнем рытуалаў). Кожнага члена ложы называлі «братам». У ложы па рэкамендацыі іх членаў прымалі асоб, якім споўнілася не менш за 25 гадоў. Прыём новага «брата» патрабаваў згоды ўсіх прысутных. Т. зв. вялікую ложу складалі майстры і наглядчыкі ўсіх існуючых т-ваў краіны, узначальваў яе вял. майстар (звычайна прадстаўнік заможных слаёў грамадства). Рытуальныя цырымоніі ў ложах адбываліся з выкарыстаннем традыц. мулярскіх прылад (цыркуль, навугольнік, малаток і інш.) і адзення (фартух, пальчаткі, капялюш).

На Беларусь М. пранікла ў канцы 18 ст. як залежнае ад расійскага і польскага. У 1774 маёр рас. арміі Вердароўскі заснаваў у Полацку ложу «Талія», у Магілёве ўзніклі ложы «Да трох арлоў» (1770) і «Геркулес у калысцы» (1776). Калі прыблізна ў 1774 частка польскіх лож апынулася пад моцным уплывам замежнага М., некат. іх члены заснавалі т-ва «Верных сяброў» (з 1775 — «Рыцараў святога Карла»). Т-ва падзялілася на 2 камандорствы ў Варшаве і Вільні (віленскі камандор — сеймавы пасол, староста беразніцкі М.Жынеў). У 1778 Жынеў перайменаваў віленскае камандорства ў масонскую ложу «Добры пастыр». У 1780 яна падзялілася на ложы «Добры пастыр» (кіраўнік — палкоўнік А.Годэн), «Руплівы літвін» (Жынеў) і «Храм мудрасці» (мінскі староста Д.Пшаздзецкі). У 1781 у Вільні існавалі ложы «Дасканалае адзінства», «Руплівы літвін», «Добры пастыр», «Храм мудрасці» і «Дасканалая вернасць» (членамі апошняй былі толькі жанчыны). Ложа «Дасканалае адзінства» была арганізавана І.Патоцкім і мела статус «Вялікая правінцыяльная літоўская ложа», што давала ёй права на заснаванне новых


1



2



3


4



5



6

Да арт. **Масонства**. Масонскія знакі (1—3) і пячаткі (4—6): 1 — гродзенскай ложы «Сябар чалавецтва»; 2 — навагрудскай ложы «Вузел адзінства»; 3, 4 — віленскай ложы «Дасканалае адзінства»; 5 — віленскай ложы «Руплівы літвін»; 6 — віленскай ложы «Славянскі арол».

лож. У 1781 яна заснавала ў Гродне ложу «Шчаслівае вызваленне», якая вяла сваю дзейнасць выключна на франц. мове. Яе майстрам быў Л.Гужакоўскі, пасля — А.Беку. У 1784 пад той жа назвай узнікла ложа ў Нясвіжы. У час паўстання 1794 дзейнасць гэтых лож прыпынілася і пачала аднаўляцца ў 1810. У 1812 у Відзах пры палку коннай гвардыі рас. арміі існавала ложа «Ваенная вернасць» пад кіраўніцтвам Сарачынскага і пры ўдзеле вял. князя Канстанціна Паўлавіча. У 1813 аднавіла дзейнасць ложа «Руплівы літвін» пад кіраўніцтвам прафесара Віленскага ун-та М.Мяноўскага. Яна налічвала 24 чал., сярод іх прэлат М.Длускі, мастак Я.*Рустэм*, кампазітар Я.Д.*Голанд*, прафесар Я.Шымкевіч, аптэкар Е.Гута, філосаф А.*Доўгірд*. 14.2.1818 у Вільні аднавіла дзейнасць ложа «Добры пастыр» пад новай назвай «Да храма мудрасці» (майстар — праф. Э.Г.Гродэк). Яна налічвала 48 «братоў» — жыхароў Вільні і 23 іншагародніх, справаводства вялося на ням. мове. 14.2.1818 у Вільні заснавана ложа «Школа Сакрата» (майстар — Я.Ходзька), у якой было 64 чал., у 1819 — ложа для рус. насельніцтва «Славянскі арол» (майстар — Т.Крамер). Узніклі ложы «Палемон» у Расіенах (Расейняй, Літва), «Вузел адзінства» ў Навагрудку, «Сябар чалавецтва» ў Гродне, «Уладзіслаў Ягайла» ў Слуцку. Мінская ложа «Паўночная паходня», заснаваная ў 1816, у 1822 налічвала больш за 200 чал. У 1818 у Мінску заснавана ложа «Гара Табар», яе майстрам быў віцэ-губернатар Л.Камінскі. Ложа «Святыня спакою», заснаваная ў Нясвіжы 19.3.1819, налічвала да 130 членаў, яе майстрам быў суддзя Х.Дамброўскі. Майстрам другой нясвіжскай ложы «Шчаслівае вызваленне» (206 чал.) быў слуцкі павятовы маршалак А.Непакайчыцкі. Віленскае М. ўзначальваў савет, сакратаром якога быў прафесар Віленскага ун-та, пасля віленскі біскуп І.*Страйноўскі*. Дзейнасць масонскіх арг-цый адлюстроўвалася ў спец. справаздачах. Кожная ложа складала яе раз у год і рассылала інш. ложам. На рэцэпцыйных пасяджэннях лож разглядаліся пытанні прыёму новых членаў, сутнасць унутраных і знешніх зносін, на інструкцыйных — спецыфіка святкавання ўрачыстых дзён па асаблівым рытуале. «Урачыстыя работы» абавязкова праводзіліся 24 чэрв. (7 ліп.) на свята св. Іаана, на гадавінах адкрыцця ложы і пасля смерці кагосьці з «братоў». Для справаводства кожная ложа выбірала сакратара і архіварыуса, функцыі якіх вызначаліся ў статуце. У 1822 указам Аляксандра І усе масонскія ложы ў імперыі забаронены.

Храналагічна дзейнасць масонскіх лож у Беларусі супадае з эпохай Асветніцтва. Разам з філасофіяй Асветніцтва М. па-свойму вырашала задачу вызвалення асобы ад прыгнёту феад. грамадскіх адносін. Паводле масонскай інтэрпрэтацыі, сэнс жыцця кожнага чалавека заключаецца ў пабудове (шляхам перааддолення ўплыву знешніх абставін і канфліктаў) унутранага царства дабрыні, справядлівасці і роўнасці. Своеасаблівым алегарычным сімвалам удасканалення чалавека ў М. лічыўся працэс апрацоўкі «дзікага каменю», будаўніцтва «вечнага храма мудрасці, справядлівасці і цнатлівасці». Ідэалам М. выступала таксама «старраннае практыкаванне ў страху Божым, варожасць да згубнай сістэмы ўяўнай роўнасці і вольнасці». Аднак змест рэлігійных тэрмінаў не супадае з іх трактоўкай у М., якое ў адрозненне ад хрысціянства трактуе Бога як абстрактны феномен. Апошняе выклікала неаднаразовае асуджэнне М. з боку каталіцкай царквы. У 1738 рымскі папа Клімент XII аб'явіў у сваёй буле анафему М. Леў XIII булай ад 20.4.1884 абвінаваціў масонаў у дзёрзкасці і хітрасці, імкненні да авалодання ўсімі ўзроўнямі сац. іерархіі з мэтаю сканцэнтраваць у сваіх руках абсалютную паўнату ўлады. Нягледзячы на гэта, некат. каталіцкія святары былі членамі лож у Літве і Беларусі. Так, ксяндзы былі ў мінскай ложы «Паўночная паходня» і нясвіжскай «Шчаслівае вызваленне». Масонскія ложы рабілі і пэўныя практычныя захады, вялі актыўную дабрачынную дзейнасць: дапамагалі фінансавымі сродкамі пагарэльцам, хворым, школьнікам. У 1817 на дваранскім сходзе ў Вільні масоны ўзнялі пытанне пра вызваленне сялян ад прыгоннага права. Некаторыя з іх імкнуліся ўдасканаліць структуру і прынцыпы дзейнасці масонскага брацтва. Майстар ложы «Руплівы літвін» Шымкевіч заснаваў 26.3.1818 новую ложу — «Руплівы літвін рэфармаваны». У ёй было шмат прафесараў Віленскага ун-та, дзейнічала яна да 24.3.1820.

Масоны мелі значны ўплыў на дзейнасць інш. тайных арг-цый. Шымкевіч быў першым старшынёй т-ва *шубраўцаў*. Маладзёжныя аб'яднанні *філаматаў*, *філарэтаў*, *прамяністых* сваёй структурай вельмі нагадвалі масонскія ложы, а іх заснавальнік Т.*Зан* вясною 1821 быў прыняты ў віленскую масонскую ложу «Школа Сакрата» па рэкамендацыі яе заснавальніка Ходзькі. Хоць філаматы ў цэлым ставіліся да масонаў скептычна, называлі іх «такуючымі цецерукамі», а сам Зан выказваў незадавальненне тым, што не можа завесці ў ложы карысных знаёмстваў, удзел у масонскіх справах знайшоў пэўны водгук у яго літ. творчасці. У вершы, прысвечаным майстру «Вялікай правінцыяльнай літоўскай ложы» М.Ромеру, Зан горача ўхваляў мэты М., называў ложы «святынямі чысціні, павагі да Бога і веры». Неўзабаве Зан стаў членам «Вялікай правінцыяльнай літоўскай ложы», верагодна, як прадстаўнік ложы «Школа Сакрата».

Пасля 1822 вельмі мала архіўных матэрыялаў пра дзейнасць масонскіх лож у Расіі. Выхад з М. дзекабрыстаў (пераважна ў канспірацыйных мэтах), рэпрэсіі афіцыйных улад прывялі да зніжэння інтэлектуальнага і духоўнага патэнцыялу лож. Толькі ў пач. 1860-х г. зноў ажывілася цікавасць да М. Рас. інтэлігенцыя пачала наладжваць адносіны з замежнымі ложамі. У французскую ложу «Біксіё» былі прыняты І.С.Тургенеў, вял. князь Мікалай Міхайлавіч (стрыечны брат Аляксандра III). У 1880-я г. ў французскія ложы прыняты філосаф В.В.Вырубаў, урач-псіхіятр М.М.Бажэнаў, электратэхнік П.М.Яблачкаў, гісторык М.М.Кавалеўскі. У Парыжы ўзніклі рус. ложы «Космас» і «Гара Сіён» 12.1.1906 Кавалеўскі атрымаў дазвол «Вялікага Усходу Францыі» на заснаванне ў Расіі масонскіх лож пад кіраўніцтвам французскіх, і 15.11.1906 адкрылася першая з іх з філіяламі ў Маскве («Адраджэнне») і Пецярбургу («Палярная зорка»). У 1909 адкрыліся ложы ў Адэсе, Кіеве, Ніжнім Ноўгарадзе, Пецярбургу, якія дзейнічалі пад кіраўніцтвам «Палярнай зоркі». Пасля фармальнага аддзялення ў 1910 ад «Вялікага Усходу Францыі» рас. М. фармальна абвясціла пра самароспуск, што было зроблена ў мэтах канспірацыі, пазбаўлення ад непажаданых асоб і абнаўлення структуры. Новыя ложы мелі не менш як па 12 чал. кожная, іх кіраўніцтва ажыццяўляў створаны ў 1913 «Вярхоўны савет народаў Расіі». Рас. ложы займаліся амаль выключна паліт. дзейнасцю, якую каардынавала пецярбургская ложа «Малая Мядзведзіца» (заснавана ў 1910). Яе членамі былі А.М.Калюбакін, А.Я.Гальперн, А.Ф.Керанскі, І.М.Яфрэмаў. У складзе 1-га пасля Лют. рэвалюцыі 1917 Часовага ўрада былі 3 масоны: Керанскі, А.І.Канавалаў і М.В.Някрасаў. Пасля грамадзянскай вайны М. фактычна выключылася (ва ўсякім выпадку, знешне) з паліт. жыцця Расіі. 4-ы кангрэс Камінтэрна ў 1922 рэзалюцыяй «Франкмасонства. Ліга правоў і буржуазны друк» забараніў членам кампартый быць удзельнікамі масонскіх «работ».

Практычна адсутнічаюць архіўныя матэрыялы пра дзейнасць масонскіх лож у Беларусі ў 20 ст. Ёсць звесткі пра членства ў варшаўскай ложы «Праўда» ў 1920—23 Б.А.Тарашкевіча. У польск. гістарыяграфіі існуе гіпотэза пра непарыўнае існаванне ў Літве М. дзякуючы намаганням роду Ромераў. Пэўная актывізацыя М. на тэр. Літвы і Беларусі назіралася ў пач. 20 ст. Па ініцыятыве ложы «Вялікі Усход Расіі» ў канцы 1910 у Вільні ўтворана ложа «Адзінства». У 1911 там фарміруецца ложа «Літва», у 1914 — «Беларусь»; ёсць звесткі пра існаванне лож у Мінску і Віцебску. Фактычна масонам удалося стварыць аўтаномную структуру ў межах былога ВКЛ. У 1913 віленскія ложы разышліся ў поглядах адносна кірунку далейшага развіцця, частка палякаў іх пакінула і ўтварыла самастойную ложу пад кіраўніцтвам польскага М. У гады 1-й сусв. вайны прадстаўнікі лож «Адзінства», «Літва» і «Беларусь» сфарміравалі адзіную ложу на чале з Ю.Саўлюсам — «Вялікі Усход Літвы і Беларусі», поўнас-

цю незалежны ад «Вялікага Усходу Расіі» Важнай паліт ініцыятывай новай ложы стала арганізацыя ў канцы 1915 Рады *Канфедэрацыі Вялікага княства Літоўскага*, якая 9 12 1915 апублікавала універсал канфедэрацыі, а ў лют 1916 — адозву да аднаўлення ВКЛ Рост сац напружанасці ў грамадстве вымусіў ложу прыпыніць дзейнасць, яна аднавілася толькі ў 1920 у Каўнасе 22 7 1920 адбылася інаўгурацыя ложы «Літва» як мацярынскай ложы «Вялікі Усход Літвы» (члены — М *Ромер*, Саўлюс, В Бельскіс, Ф Барткевічэне, Д Сямашка, А Янулайціс) Гал задачай дзейнасці ложа ставіла ўмацаванне дзяржаўнасці, агітацыю за дзярж аб'яднанне з Літвой Эстоніі, Усх Прусіі, Сувалшчыны, Земгаліі і Беларусі Намаганні аднавіць ложу «Вялікі Усход Літвы» ў ліп 1920 у Вільні былі безвыніковымі, яна пачала працаваць толькі ў 1-й пал 1921 пад кіраўніцтвам І І *Краскоўскага* Гэта ложа актыўна шукала кантакты з зах -еўрап М і, па некаторых звестках, бел ложай на тэр Літвы, пашырала свой уплыў у Латвіі Легальным прыкрыццем дзейнасці лож была Ліга правоў чалавека і грамадзяніна Масоны праводзілі антыклерыкальныя акцыі, актыўна супрацьўляліся клерыкалізацыі навуч устаноў Антымасонская кампанія ў канцы 1920-х г прывяла да заняпаду масонскага руху 31 3 1931 адбылося апошняе пасяджэнне літ масонаў, але на арэну выйшлі парамасонскія аб'яднанні Яшчэ ў 1921 у Каўнасе на ўзор масонскай ложы створана канспіратыўная арг-цыя *Беларускае брацтва*

Цяпер М распаўсюджана даволі шырока, асабліва ў Вялікабрытаніі, ЗША, Францыі Паводле розных звестак, агульная колькасць масонаў ад 6 да 30 млн чал У Італіі, дзе ў 1981—82 разгарэўся вял паліт скандал у сувязі з ложай «Прапаганда 2», у пач 1990 х г налічвалася 582 ложы, якія аб'ядноўвалі 16 700 чал, 400 лож дзейнічала на Кубе Пераважную большасць масонаў Лацінскай Амерыкі складаюць католікі Кіраўніцтва дзейнасцю М ажыццяўляе Вярх савет масонскіх лож, у якім 33 правадзейныя і некалькі ганаровых прадстаўнікоў, уладальнікаў пераважна 33-й ступені пасвячэння, якія выбіраюць прэзідэнта савета 1-ы сход савета адбыўся ў пач 20 ст ў Бруселі, пасля звычайна раз у 5 гадоў праводзяцца канферэнцыі У сучасным М вылучаюцца 2 асн плыні, якія прытрымліваюцца шатландскага, або йоркскага рытуалу, не прымаюць у ложы атэістаў і імкнуцца да захавання тайны сваёй дзейнасці Дакладных звестак пра існаванне масонскіх лож на тэр. Рэспублікі Беларусь пакуль няма

*Літ* Дабраніскі С Ф Масонскія ложы ў Літве // Спадчына 1997 № 1, Я г о ж Нарысы з гісторыі масонства ў Літве // Там жа. № 3, Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі Т 2 Мн, 1940, Т а р а ш к е в і ч Б Аўтабіяграфія // Спадчына 1996 № 4—5, Ф и н д е л ь И Г История франкмасонства. Пер с нем Т 1—2 М, 1872—74, Ш у с т е р Г Тайные общества, союзы и ордена Т 2 СПб, 1907, Масонство в его прошлом и настоящем Т 1—3 М, 1914—22, Б е г у н В Я Рассказы о «детях вдовы» 2 изд Мн, 1986, А в р е х А Я Масоны и революция М, 1990, З а м о й с к и й Л П За фасадом масонского храма Взгляд на пробл М, 1990, К л и з о в с к и й А Правда о масонстве 2 изд Рига, 1990, Z a ł ę s k i S O masonii w Polsce od roku 1738 do 1822 na źródłach wyłącznie masońskich Cz 1—2. 2 wyd Kraków, 1908, M a ł a c h o w s k i - L e m p i c k i S Wolnomularstwo na ziemiach dawnego Wielkiego Księstwa Litewskiego, 1776—1822 Dzieje i materiały Wilno, 1930, D u n a j ó w n a M Tomasz Zan Lata uniwersyteckie, 1815—1824 Wilno, 1933, S a w i c k i J Z dziejow «Wielkiego Wschodu Litwy» // Przegląd wschodni 1997 Z 2 *Мікалай Рыбко*

**МАСТАВО́Е**, плата за праезд цераз мост, грэблю ў ВКЛ Спаганялася паводле даўняга звычаю тымі, хто будаваў сваім коштам мост Гэта права было замацавана Статутамі ВКЛ, якія адначасова ўскладалі на ўладальнікаў мастоў і грэбель абавязак сачыць за іх станам, рамантаваць Калі ў выніку дрэннага стану моста ці грэблі праезджы меў страту, яна спаганялася з уладальніка Увядзенне новых ці дадатковых пабораў за карыстанне мастамі забаранялася

**МАСТАЎНІ́ЧЫ**, пасада (урад) у ВКЛ у 16—18 ст Павятовы М ў 16 ст павінен быў сачыць за станам мастоў і пераправаў, потым намінальная пасада У 17—18 ст існаваў М ВКЛ — дыгнітарскі ўрад (гл *Дыгнітары*) *Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта*

**«МАСТА́ЦКАЯ ЛІТАРАТУ́РА»**, кніжнае выдавецтва Засн ў Мінску ў 1972 на базе рэдакцый маст і дзіцячай л-ры выд-ва «*Беларусь*» Выпускае арыгінальныя творы пісьменнікаў Беларусі на бел і рус мовах, кнігі па літаратуразнаўстве і крытыцы, творы замежных пісьменнікаў, зборы твораў і выбраныя творы, дакументальную і публіцыстычную л-ру Да стварэння выд-ва «*Юнацтва*» (1981) выдавала л-ру для дзяцей і юнацтва Мае выдавецкія серыі «Першая кніга паэта» (з 1968), «Паэзія народаў свету» (з 1971), «Бібліятэка беларускай паэзіі» (з 1972), «Першая кніга празаіка» (з 1976), «Бібліятэка замежнай прозы» (з 1983), «Кніга перакладчыка» (з 1986), «Скарбы сусветнай літаратуры» (з 1989), «Спадчына» (з 1989), «Бібліятэка беларускай класікі» (з 1990), «Літаратурныя помнікі Беларусі» (з 1991), «Галасы беларускага замежжа» (з 1994) і інш Выпускае факсімільныя і мініяцюрныя выданні З кніг гіст тэматыкі і праблематыкі тут убачылі свет маст творы У Арлова, М Арочкі, Л Дайнекі, Г Далідовіча, В Іпатавай, У Караткевіча, А Петрашкевіча, Э Скобелева, К Тарасава і інш Выйшлі раманы і аповесці, прысвечаныя дзеячам нац культуры А Лойкі «Як агонь, як вада » (1984, пра Я Купалу), В Коўтун «Крыж міласэрнасці» (1996, пра Цетку), Я Міклашэўскага «Каханне і смерць, або Лес Максіма Багдановіча» (1995) У канцы 1980 — пач 90-х г з'явіліся кнігі літ -гіст і гіст -публіцыстычнага зместу У Калесніка, А Каўкі, Г Кісялева, Ю Лабынцава, А Ліса, А Мальдзіса, К Цвіркі У 1990 да 500-гадовага юбілею Ф Скарыны выйшлі «Скарынаўскі каляндар» Ю Лабынцава, працы «Францыск Скарына Жыццё і дзейнасць беларускага асветніка» Я Неміроўскага і «Францыск Скарына, або Сонца мала дзіковае» Лойкі Выдадзены працы М Ермаловіча «Старажытная Беларусь Полацкі і навагародскі перыяды» (1990), М Нікалаева «Палата кнігапісная» (1993, пра рукапісныя кнігі Беларусі) Надзенным пытанням гісторыі нац л ры і культуры, духоўнага развіцця бел народа прысвечаны зб «Шляхам гадоў» (вып 1—4, 1990—94), «Скарынiч» (вып 1—3, 1991—97), пытанням гісторыі — зб «З гісторыяй на «Вы» (вып 1—3, 1991—94) *Серафім Андраюк*

**МАСТАЦТВА**, спецыфічная форма грамадскай свядомасці і дзейнасці чалавека, якая адлюстроўвае яго светаўспрыманне ў пачуццёва-канкрэтных вобразных формах, адзін з найб важных спосабаў эстэтычнага асваення свету, важны элемент эстэтычнай культуры Уключае *выяўленчае мастацтва* (сінонім тэрміна «М » ў вузкім сэнсе), *архітэктуру*, музыку, *тэатр*, *кіно* і інш Пра адлюстраванне гіст тэматыкі ў М гл таксама *Гістарычны жанр*

**«МАСТА́ЦТВА»**, штомесячны грамадска-палітычны і навукова-папулярны ілюстраваны часопіс Мін-ва культуры Рэспублікі Беларусь Выдаецца з 1983 у Мінску, да 1992 пад назвай «Мастацтва Беларусі» Друкуе матэрыялы па пытаннях эстэтыкі і культуралогіі, прафесійнага мастацтва, у т л па раздзелах выяўленчага мастацтва, музыкі, тэатра, кіно і тэлебачання, дызайна, маст фота, нар творчасці Мае пастаянную рубрыку «Гісторыя мастацтва», дзе падае маст працэсы ў іх гіст развіцці, змяшчае творчыя біяграфіі дзеячаў культуры мінулага, знаёміць з малавядомымі ці зусім невядомымі іменамі, ілюструе артыкулы архіўнымі і інш дакументальнымі здымкамі Перыядычна змяшчае тэматычныя цыклы «Страчаная спадчына», «Народазнаўства», «Страчаная Беларуссю спадчына» Вядзе хроніку сучаснага маст жыцця краіны і падзей за яе межамі, якія яе датычаць, рэцэнзуе найб грунтоўныя працы ў галіне мастацтва *Анатоль Смольскі*

**«МАСТА́ЦТВА І РЭВАЛЮ́ЦЫЯ»**, мастацкі ілюстраваны часопіс, орган Наркамасветы і прафсаюза працаўнікоў мастацтва БССР Выдаваўся з ліп 1932 да лют 1933 у Мінску на бел мове Меў на мэце змагацца за марксісцка-ленінскую метадалогію ў мастацтве і мастацтвазнаўстве, развіваць крытыку ў галіне тэатра, кіно і выяўл мастацтва

Надрукаваў пастановы ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б па пытаннях л-ры і мастацтва Асвятляў дзейнасць тэатраў рэспублікі, станаўленне бел оперы і балета, кінамастацтва, творчасць мастакоў, драматургаў, кампазітараў, самадз калектываў Змясціў грунтоўныя артыкулы Я Барычэўскага («Гетэ і тэатр», «Вершы Беранжэ ў кніжнай графіцы»), І Замоціна («Максім Горкі ў драматургіі і на сцэне», «А С Серафімовіч як драматург»), І Жыновіча пра нар музыку, Я Рамановіча пра станаўленне БДТ-1, Ю Дрэйзіна пра творчасць Н Паганіні і інш Разам з тым часопіс дапускаў вульгарна-сацыялагічныя спрашчэнні ў ацэнцы айч і сусв культуры, атаясамленне маст метаду з філас метадалогіяй, абсалютызацыю паліт функцый маст культуры, адмаўленне лепшых дасягненняў нац культуры і інш Гэта прывяло да неабгрунтаваных паліт абвінавачванняў многіх дзеячаў культуры 1920-х г Спрашчэнне прынцыпаў класавасці і партыйнасці мастацтва асабліва ўзмацнілася ў пач 1933 у арт В Вольскага, А Давідзюка, М Модэля, А Уса і інш *Уладзімір Конан*

**МАСТО́ЎСКІ РАЁН** Размешчаны на З Гродзенскай вобл Пл 1,3 тыс км², нас 43,3 тыс чал (1997) Цэнтр — г *Масты* Раен у межах Неманскай нізіны, паўд частка на Ваўкавыскім узвышшы Найб рака Неман з прытокамі Шчара, Сіпа, Зальвянка, Рось і Ельня Пад лесам 33% тэр раена Праз раен праходзяць чыгункі Ліда—Масты—Ваўкавыск і Гродна—Масты, аўтадарогі Шчучын—Масты—Ваўкавыск, Масты—Слонім, Гродна—Масты

Утвораны 15 1 1940 у складзе Баранавіцкай вобл 12 10 1940 падзелены на 11 сельсаветаў Азеркаўскі, Бялавіцкі, Занеманскі, Курылавіцкі, Малькавіцкі, Мікелеўшчынскі, Мілявіцкі, Мастоўскі, Пескаўскі, Рагозніцкі, Самуйлавіцкі У канцы чэрв 1941 акупіраваны ням фашыстамі, якія знішчылі ў Мастах і раене 2681 чалавек Разам з жыхарамі былі спалены вескі Баяры, Задвор'е, Княжаводцы Барацьбу з акупантамі на тэр раена вялі Шчучынскі падп міжрайпартцэнтр, Зэльвенскі падп райком КП(б)Б, Мастоўскі падп райком ЛКСМБ, партыз брыгада Ленінская, асобныя партыз атрады «Наватары», імя Калініна Вызвалены ў сярэдзіне ліп 1944 воінамі 2-га Бел фронту ў ходзе *Беластоцкай аперацыі 1944* З 20 9 1944 раен у Гродзенскай вобл 5 4 1960 да М р далучаны Дубненскі с/с Скідзельскага р-на, 17 4 1962 Дзяржынскі і Марачоўскі с/с ліквідаванага Зэльвенскага р-на, Галубоўскі с/с ліквідаванага Жалудоцкага р-на 25 12 1962 раен скасаваны, яго тэр перададзена ў Ваўкавыскі і Шчучынскі р-ны Адноўлены 6 1 1965, уключаў г п Зэльва, Азеркаўскі, Воўпаўскі, Зэльвенскі, Гудзевіцкі, Дзярэчынскі, Зарудаўеўскі, Курылавіцкі, Малькавіцкі, Марачоўскі, Мілевіцкі, Пацавіцкі, Пескаўскі с/с Ваўкавыскага р-на, Багатырэвіцкі, Лунненскі, Русінаўскі с/с Гродзенскага р-на, Галубоўскі, Дубненскі, Мікелеўшчынскі, Мастоўскі с/с Шчучынскага р-на 30 7 1966 г п Зэльва, Дзярэчынскі, Зэльвенскі, Марачоўскі с/с перададзены Зэльвенскаму р-ну, 28 7 1967 Воўпаўскі с/с — Ваўкавыскаму р-ну

На 1 1 1997 у раене 154 населеныя пункты, 14 сельсаветаў Азеркаўскі, Галубоўскі, Глядавіцкі, Гудзевіцкі, Дубненскі, Зарудаўеўскі, Курылавіцкі, Лунненскі, Малькавіцкі, Мастоўскі, Мікелеўшчынскі, Пацавіцкі, Пескаўскі, Харціцкі У раене 16 калгасаў, 2 саўгасы, 4 пачатковыя, 9 базавых, 15 сярэдніх, 1 музычная школы, школа-інтэрнат, 17 дашкольных устаноў, 29 клубных устаноў, 35 б-к, 19 кінатэатраў і кінаўстановак, 5 бальніц, 23 фельчарска-акушэрскія пункты, 5 амбулаторый, 27 аддз сувязі Выдаецца газ «Зара над Неманам» Археал помнікі стаянкі неаліту і бронзавага веку ў в Выгода, неманскай культуры ў в Пескі, гарадзішчы ў в Глядавічы, Маскалі, Рыбакі Брацкія магілы сав воінаў і партызан у в Дубраўка, Лунна, Малькавічы, Радзевічы Семярэнкі, Шчара Магілы ахвяр фашызму ў в Баяры, Гудзевічы, Дубраўка Задвор'е, Княжаводцы, Самуйлавічы Чарленка, Шчара Помнікі сав воінам у весках Лунна і Навінка, мемарыяльны комплекс сав воінам, партызанам і ахвярам фашызму ў в Шымкі Помнікі архітэктуры Троіцкі касцел (1740) у в Струбніца, касцел св Ганны (1782) у в Лунна

*Літ* Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі Гродзенская вобл Мн , 1986

**МАСТЫ́**, горад, цэнтр Мастоўскага р-на, на р Неман пры ўпадзенні ў яе р Зальвянка Вузел чыгунак і аўтадарог на Гродна, Ліду, Ваўкавыск, Слонім За 60 км на ПдУ ад Гродна 18,5 тыс ж (1998)

Упершыню ўпамінаюцца ў Літоўскай метрыцы пад 1486 як мястэчка, цэнтр воласці Гродзенскага пав Трокскага ваяв (на думку некаторых гісторыкаў, у дакуменце мелася на ўвазе в Правыя Масты, а ўласна М ўзніклі ў пач 20 ст ) Паводле рэвізіі 1561 складаліся з 9 вуліц па абодвух берагах Немана, мелі прыстань і паром Пасля 1589 валасны цэнтр *Гродзенскай эканоміі* Граматамі каралеў Рэчы Паспалітай 1601, 1633 1653 і 1677 атрымалі некаторыя прывілеі паводле магдэбургскага права З 1633 згодна з каралеўскай граматай у М праводзіліся штотыднёвыя базары і 2 кірмашы ў год Значнае месца у гаспадаркі займаў лес, які сплаўлялі па Немане ў Гродна, Коўна, Каралевец (Кенігсберг) У 1673 у мястэчку пражывала 109 сем'яў З 1795 у Рас імперыі, мястэчка Гродзенскага пав Слонімскай, з 1797 — Літоўскай, з 1801 — Гродзенскай губ У канцы 18 ст падараваны царскім урадам калежскаму саветніку Літке У 1797 — 622 ж , у 1833 — 981 ж , 164 драўляныя дамы У 1-й пал 19 ст павялічылася суднаходства і сплаў лесу Калі ў 1814 на прыстані М было загружана 18 суднаў і сфарміравана 327 плытоў, то ў 1821 — 50 суднаў і 412 плытоў У сярэдзіне 19 ст колькасць загружаных суднаў падвоілася Вял значэнне набыло бурлацтва Праз М праходзілі і сухапутныя шляхі на Гродна, Вільню і Слонім У 1897 — 2633 ж пар вучылішча, ліманаднае прадпрыемства Да 1907 чыгункі злучылі М з Гроднам, Лідай, Ваўкавыскам У крас 1906 на буд-ве чыгункі Гродна—М адбылася забастоўка землякопаў З вер 1915 да крас 1919 М былі акупіраваны герм , з крас 1919 да ліп 1920 — польскімі войскамі 22 7 1920 вызвалены Чырв Арміяй, створаны ваенна-рэв к т У 1921—39 у складзе Польшчы, цэнтр гміны Гродзенскага пав Беластоцкага ваяв У 1927 заснаваны фанерны з-д купцоў Канапацкіх, які забяспечваў сваёй прадукцыяй авіяцыйную прамысловасць, у 1931 тут працавала 400 чал , выраблялася 7 тыс кубаметраў фанеры У сак — маі 1933 на з-дзе адбылася адна з буйнейшых на Гродзеншчыне забастоўка З 1939 М ў БССР, з 12 10 1940 — рабочы паселак, цэнтр Мастоўскага раена 25 6 1941 акупіра ва-

ны ням фашыстамі і ўключаны ў акругу «Беласток» правінцыі Усх Прусія Захопнікі загубілі ў М і раене 2681 чал Вызвалены 13 7 1944 войскамі 2-га Бел фронту ў выніку *Беластоцкаи аперацыі 1944* Са студз 1949 гар паселак, з 22 7 1955 — горад У 1962—65 у Ваўкавыскім р-не У 1970 — 11,6 тыс ж У М дзейнічаюць акцыянернае т-ва «Мастоўдрэў», камбінат каап вытв-сці, арэндны камбінат быт абслугоўвання, райаграпрамтэхніка, 4 сярэднія і 1 базавая школы, дзіцячы камбінат, 5 дзіцячых садоў-ясляў, спарт школа і школа мастацтваў, 2 дамы культуры, кінатэатр, 5 б-к, тэрытарыяльнае мед аб'яднанне 2 брацкія магілы сав воінаў і партызан Царква (1997)

*Літ* Мараш Я Н, Ковкель И И, Себастьян А С Мосты Ист экон очерк Мн 1986 *Іван Коўкель*

**МАСЦІЦКІ** (Mościcki) Генрык Станіслаў (30 10 1881, г Цеханавец, Ломжынскае ваяв, Польшча — 13 12 1952), польскі гісторык Чл-кар Польск АН (1945), д-р габілітаваны (1921), праф тытулярны (1936) Скончыў Львоўскі ун-т (1907) У 1909—26 выкладаў у Т-ве навук курсаў (з 1916 Вольны польскі ун-т), з 1916 — у Школе паліт навук (пазней Акадэмія паліт навук), у 1917 працаваў у Дзярж дэпартаменце, у 1918—34 — у Мін-ве замежных спраў У 1920 нам прафесара новай гісторыі Польшчы і Літвы Віленскага ун-та У 1920—39 выкладаў у Варшаўскім ун-це з 1945 — у Кракаўскім ун це Асноўныя працы прысвечаны гісторыі Беларусі і Літвы 19 ст, рас-польскім адносінам 18—19 ст, польскаму вызваленчаму руху Выдаў шмат гіст крыніц «Прамяністыя — філаматы — філарэты» (3-е выд, 1928), «Унія Польшчы з Літвой Дакументы і ўспаміны» (1919), «Паўстанне 1831 г ў Літве Успаміны ўдзельнікаў» (1931), мемуары С Мараўскага, Г Пузынінай, С Шумскага, Ю Выбіцкага

*Тв* Sprawa włościańska na Litwie w pierwszej ćwierci XIX stulecia Warszawa, Kraków, 1908, Wilno i Warszawa w «Dziadach» Mickiewicza Warszawa, Krakow, 1908, Dzieje porozbiorowe Litwy i Rusi T 1—2 Wilno, 1910—14, Generał Jasinski i powstanie Kościuszkowskie Warszawa etc, 1917, Pod znakiem Orła i Pogoni Szkice historyczne 2 wyd Lwow, Warszawa, 1923, Pod berłem carów Warszawa, 1924, Sceny z życia Tadeusza Kosciuszki Wolnosc—Rownosc—Niepodległocs Krakow, 1948 (разам з Е Р Бушэскім), Szymon Konarski Warszawa 1949

*Літ* Dutkiewicz J Henryk Moscicki jako uczeń Askenazego // Przegląd Historyczny 1958 Z 1

**МАСЮКО́ЎШЧЫНСКІ ЛА́ГЕР СМЕ́РЦІ** (шталаг № 352, Лясны лагер) у Вялікую Айчынную вайну Створаны ням-фаш акупантамі ў ліп 1941 з 2-х частак лясного каля в Масюкоўшчына Мінскага р на і гарадскога (на Пушкінскіх казармах па Лагойскім тракце, да 1942) для масавай загубы сав ваеннапалонных і цывільных грамадзян, пасля выхаду Італіі з гітлераўскай кааліцыі (вер 1943) сюды прывозілі італьян салдат Меў 22 філіялы і аддзяленні ў Мінску і больш за 90 на чыг станцыях Беларусі Лагер быў абгароджаны калючым дротам Вязні размяшчаліся ў летніх бараках і паўразбураных памяшканнях, за суткі атрымлівалі 100—200 г эрзацхлеба і $^1/_3$ л баланды Была ўстаноўлена суровая сістэма катаванняў і масавых забойстваў За час існавання лагера да 3 7 1944 тут загублена больш за 80 тыс чалавек З 29 6 1944 спец ням група праводзіла эвакуацыю лагера па маршруце Масюкоўшчына—Маладзечна—Аліту с (Літва) —Усх Прусія На месцы масавых пахаванняў вязняў помнік-манумент і ратонда, у якой зберагаецца кніга з прозвішчамі часткі загубленых (больш за 9 тыс)

Помнік ахвярам фашызму на месцы **Масюкоўшчынскага лагера смерці**

**МАТРУ́НЧЫК** Іосіф Васілевіч [20 1(2 2) 1903, маентак Кайкава Мінскага пав, цяпер веска Мінскага р-на — 9 6 1945], Герой Сав Саюза (1940) Скончыў Арэнбургскую школу летчыкаў (1932), Барысаглебскую ваен авіяц школу (1934) У Чырв Арміі з 1925 Камандзір эскадрыллі бамбардзіроўшчыкаў капітан М вызначыўся ў сав-фінл вайну 1939—40, зрабіў больш за 60 баявых вылетаў на бамбардзіроўку ўмацаванняў, апорных пунктаў, скопішчаў войск ворага У Вял Айч вайну з 1941 на Зах, Волхаўскім, Ленінградскім, 2-м Укр, 1-м Прыбалт і 1 м Бел франтах камандзір авіяпалка, нам камандзіра авіядывізіі Загінуў у авіякатастрофе

І В **Матрунчык**

**МАТУЛАЙЦІС** Стасіс Юргевіч (12 10 1866, в Сціябулішкі, цяпер Капсукскі р-н, Літва — 10 4 1956), гісторык, літоўскі рэвалюцыянер Акадэмік Бел АН (1928), д-р гіст н (1934) Скончыў мед ф-т Маскоўскага ун-та (1891) Удзельнік с-д руху, адзін з заснавальнікаў с-д партыі Літвы (1896) У 1898 арыштаваны і сасланы на 3 гады у Валагодскую губ У руска-японскую вайну 1904—05 ваен ўрач У 1906—07 у Вільні разам з В С Міцкевічам-Капсукасам выдаваў газ «Naujoji gadynė» («Новы час») З 1908 працаваў урачом У час Лют і Кастр рэвалюцыі 1917 у Маскве рэдагаваў літоўскую газ «Socialdemokratas» («Сацыял дэмакрат») З 1918 у Вільні, рэдактар газеты «Tiesa» («Праўда») З 1920 працаваў урачом выкладчыкам Марыямпальскай гімназіі У 1925 эмігрыраваў у Мінск З 1927 кіраўнік літоўскага сектара Інбелкульта, з 1929 заг кафедры гісторыі, з 1931 дырэктар Ін та гісторыі, з 1935 дырэктар Ін та нац меншасцей АН БССР 17 2 1937 арыштаваны, 15 8 1939 асуджаны на 5 гадоў высылкі ў Казахстан З канца 1945 працаваў у Ін-це гісторыі АН ЛітССР Рэабілітаваны ў 1957 Аўтар шэрагу прац па гісторыі Літвы, у т л аб сац-эканам становішчы ў Літве напярэдадні паўстання 1863—64, аб літоўскім нац-вызв руху

*Тв* 1863 год у Літве Ч 1 Мн, 1933

*Літ* Возвращенные имена Сотрудники АН Беларуси пострадавшие в период сталинских репрессий Мн, 1992 С 72—73

*Уладзімір Міхнюк*

Ю **Матулевіч**

**МАТУЛЕ́ВІЧ**, Матулайціс Юрый (Юргіс, Ежы) Баляслаў Банавентура

(13 4 1871, мяст Лугіна Марыямпальскага пав Сувалкаўскай губ , цяпер Літва — 27 1 1927), рымска-каталіцкі царкоўны дзеяч Літвы і Зах Беларусі З літоўскай сялянскай сям і Д-р тэалогіі (1902) Скончыў Варшаўскую каталіцкую духоўную семінарыю (1895), Пецярбургскую каталіцкую духоўную акадэмію (1899), вучыўся ў Фрыбургскім каталіцкім ун-це (Швейцарыя) У 1898 пасвячоны ў ксяндза У 1902—04 праф і віцэ рэктар Кельцкай духоўнай семінарыі (Польшча) Прымаў удзел у хрысціянска-дэмакр руху, выступаў у друку на рэліг і грамадскія тэмы З 1907 праф і інспектар, з 1909 віцэ-рэктар Пецярбургскай каталіцкай духоўнай акадэміі З 1909 чл ордэна *марыянаў*, у 1911—27 генерал гэтага ордэна У 1918—25 віленскі біскуп З 1925 тытулярны арцыбіскуп Адылійскі і апостальскі візітатар Літвы З 1926 каўнаскі арцыбіскуп Спрыяў развіццю бел мовы ў касцельным жыцці Па яго ініцыятыве ў 1923 адкрыты бел *Друиск кляштар айцоў марыянаў* Аўтар граматыкі літоўскай мовы (разам са сваім дзядзькам Я Матулевічам) 28 6 1987 беатыфікаваны (прылічаны да блажэнных) рымскім папам Янам Паўлам II *Янка Трацяк*

**МА́ТУС** (Matus) Ірына (н 10 1 1959, в Давідовічы Беласточкага ваяв , Польшча), гісторык Скончыла філіял Варшаўскага ун-та ў Беластоку (1987) Працуе настаўніцай Даследуе гісторыю Усх Беласточчыны ў 19 — пач 20 ст У манаграфіі «Веска Стральцы—Давідовічы ў гістарычнай традыцыі» (1994) на аснове ўспамінаў аднавяскоўцаў-земляхоў падала гісторыю роднай вескі з канца 19 ст да 1944

*Тв* Szkolnictwo cerkiewno-parafialne w powiecie bielskim pod koniec XIX i na początku XX wieku // Białoruskie Zeszyty Historyczne 1994 № 2 *Віталь Скалабан*

**МАТУСЕ́ВІЧ** Андрэй Міхайлавіч [1760 (1762?) — 6(18) 4 1816], вучоны-медык Д-р філасофіі (1786), д-р медыцыны (1797) Паходзіў з Гродзенскай ці Шавельскай эканоміі Вучыўся ў *Гродзенскай медыцынскай акадэміі* да яе пераводу ў 1781 у Вільню Скончыў Гал віленскую школу (1786). З 1798 віцэ-праф , з 1800 — праф кафедры тэарэтычнай хірургіі і акушэрства гэтай ВНУ У 1798—99 удасканальваў веды па акушэрстве ў Вене Пры рэарганізацыі Гал віленскай школы ў *Віленскі універсітэт* у 1803 стварыў і ўзначаліў першую самастойную клініку акушэрства З 1804 цэнзар ун-та, бясплатны ўрач дзіцячага прытулку Друкаваў свае творы ў час «Dziennik Wileński» («Віленскі дзеннік») Асн навук працы па акушэрстве і дзіцячых хваробах Памер і пахаваны ў Вільні Мемарыяльная дошка ў касцеле св Стафана

*Літ* Грицкевич В П С факелом Гиппократа Из истории бел медицины Мн , 1987 С 149—150, Игнатович Ф И Вклад ученых и воспитанников Гродненской медицинской академии в развитие медико-биологических наук в Белоруссии и Литве // Дзеячы аховы здароўя і медыцынскай навукі Беларусі і Літвы на пераломе XVIII—XIX стст Матэрыялы навук практ канф Гродна, Белавічы, 1992 *Федар Ігнатовіч*

**МАТУСЕ́ВІЧ** Іван Іванавіч (1884, в Лапаровічы Мінскага р-на — люты 1943), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў *Мінскага патрыятычнага падполля* У 1941 служачы на Мінскім чыг вузле, удзельнічаў у эвакуацыі насельніцтва і абсталявання ў сав тыл У пач акупацыі Мінска стварыў з Ф С *Кузняцовым* падп групу на вагонарамонтным з-дзе і быў яе членам З мая 1942 член, з вер 1942 сакратар Чыгуначнага падп РК КП(б)Б г Мінска 2 10 1942 арыштаваны, загінуў у фаш засценках У Мінску яго імем названа вуліца

**МАТУСЕ́ВІЧ** Мітрафан Рыгоравіч [4(17) 12 1900, в Чарневічы Барысаўскага пав , цяпер Барысаўскі р-н — 30 9 1975], бел эканаміст Канд гіст н (1936) Скончыў БДУ (1930) З 1932 у Ін-це эканомікі АН БССР У 1934—38 нам дырэктара Аддзела падрыхтоўкі кадраў АН БССР, вучоны сакратар Ін-та эканомікі У 1938—54 рэпрэсіраваны У 1955 рэабілітаваны У 1955—71 заг сектара Ін-та эканомікі Даследаваў праблемы развіцця прам-сці і эканам гісторыю Беларусі

*Тв* Асноўныя этапы развіцця прамысловасці БССР Мн , 1937 (разам з С М Маліні ным), Экономика Белоруссии в эпоху империализма, 1900—1917 Мн , 1963 (у сааўт ), Экономика Советской Белоруссии, 1917—1967 Мн , 1967 (у сааўт ), Социально-экономические преобразования в БССР в годы Советской власти Мн , 1970, Развитие экономики Белоруссии в 1921—1927 гг Мн , 1973 (у сааўт ) *Валянцін Дрыц*

**МАТУШЭ́ВІЧ** Марцін (псеўд Адзін з літоўскіх грамадзян, 11 11 1714, в Ельна Брэсцкага пав , цяпер Камянецкі р-н — 21 11 1773), дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай, пісьменнік-мемуарыст, перакладчык Вучыўся у езуітаў у Камянцы, Драгічыне, Брэсце і Варшаве З 1733 займаўся паліт дзейнасцю, служыў розным магнацкім групоўкам Быў пісарам брэсцкага гродскага суда (1739), неаднаразова выбіраўся пaслом сейма Рэчы Паспалітай У 1752 займаў пасаду брэсцкага стольніка У 1763—64 гал дарадчык К Радзівіла працўнік караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага У 1767 ген сакратар Радамскай канфедэрацыі, з 1768 кашталян брэсцкі У мемуарных творах М адлюстраваны праблемы гісторыі Рэчы Паспалітай, паліт , прававыя і этычныя погляды розных пластоў тагачаснага грамадства У гал творы «Дыярыуш жыцця майго » (т 1—4, Варшава 1876) апісаў побыт і норавы брэсцкай шляхты, міжусобную барацьбу Радзівілаў з Чартарыйскімі, падзеі мясц жыцця На польск мову пераклаў «Сатыры» Гарацыя (Вільня, 1784), да якіх далучыў тры арыгінальныя вершаваныя «Дадаткі», дзе выразна праявіліся яго антымагнацкія настроі Пісаў вершы на польск і лац мовах У яго поглядах адбіліся ідэі ранняга Асветніцтва, крытычныя адносіны да магнатаў і духавенства

*Тв* Diariusz życia mego T 1—2 Warszawa 1986, Бел пер — Дыярыюш жыцця маяго // Спадчына 1996 № 5, 1997 № 1—2

*Літ* Бирало А А Философская и общественная мысль в Белоруссии и Литве в конце XVII — середине XVIII в Мн , 1971 Кутщеба С Очерк истории общественно государственного строя Польщи Пер с пол СПб , 1907, Krolikowski B Marcin Matuszewicz, zapomniany satyryk wczesnego

**Я Матэйка** Грунвальдская бітва. Фрагмент 1878

палк Ген штаба П Бабpоўскі), Мінскай губ ў 2 ч (1864, склаў падпалк Ген штаба І Зяленскі) У выданне ўключаны звесткі за 10—15 апошніх гадоў з губ стат к-таў, дарожных і буд камісій, чарцежных і паштовых ведамстваў, з даследаванняў М Балінскага, М Карамзіна А Кіркора, І Лялевеля і інш, а таксама інфармацыя, сабраная самімі аўтарамі Выпускі складаюцца з прадмовы, гіст нарыса губерні, раздзелаў па геаграфіі, астраноміі, дэмаграфіі, прам сці, этнаграфіі, гісторыі дзярж і рэліг устаноў і інш У якасці дадатку да «Матэрыялаў» апублікаваны дакументы аб знаходжанні Пятра І у Вільні і Лідскім пав ў 1705, Аляксандра І і Напалеона І у Вільні ў 1812, звесткі аб на сельніцтве Мінскай губ ў канцы 1857, цэнах на збожжа і бульбу з 1854—60, падатках і даходах за 1850—60-я г, карты губерняў і інш Каштоўная крыніца па гісторыі Беларусі і Літвы 19 ст, некат даныя статыстычнага характару патрабуюць крытычнага падыходу

*Літ* Карев Д В Белорусская историография конца XVIII — нач XX вв (Политика царизма и формирование ист науки Беларуси) // Наш радавод Гродна, 1993 Кн 5, ч 4, Доўнар-Запольскі М В Гісторыя Беларусі Мн, 1994 С 372 *Міхась Шумейка*

**МАЎЧАНСКІ** Дзмітрый Сцяпанавіч [13(26) 10 1901, в Рагатка Барысаўскага пав, цяпер Барысаўскі р-н — 23 6 1979], адзін з арганізатараў і кіраўнікоў патрыят падполля і партыз руху на тэр Магілеўскай вобл ў Вял Айч вайну Скончыў Камуніст ін т журналістыкі ў Мінску (1934), Вышэйшую школу партарганізатараў пры ЦК ВКП(б) (1946) З 1924 на сав, парт і журналісцкай рабоце З 1940 сакратар Магілеўскага абкома КП(б)Б У Вял Айч вайну з 1942 у арганізац групе ЦШПР, з 2 4 1943 да 23 4 1944 сакратар *Магілеўскага падпольнага абкома КП(б)Б*, адзін з кіраўнікоў *Магілеўскага партызанскага злучэння* Пасля вайны сакратар Магілеўскага, Маладзечанскага абкомаў КПБ, на сав рабоце Канд у чл ЦК КП(б)Б у 1940—52, чл Рэвіз камісіі КПБ у 1952—54 Дэп ВС БССР у 1938—47 Яго імем названы вуліцы ў Магілеве і Маладзечне

**МА́ХЛІН** Л Д (парт псеўд Арлоў Сакалоўскі, Нора, Аляксандр Бек, 1880—1925), удзельнік с-д руху на Беларусі Рэв дзейнасць пачаў у час вучобы ў Екацярынаславе, дзе ў 1900 уступіў у РСДРП У 1900—02 за мяжой, чл мюнхенскай арг-цыі «Іскры» Пасля вяртання чл Екацярынаслаўскай арг-цыі РСДРП, ад якой дэлегаваны на II з'езд партыі На з'ездзе далучыўся да бальшавіцкага крыла, выказаў і абгрунтаваў ідэю стварэння Паўн-Зах к-та РСДРП У жн — снеж 1903 па заданні ЦК РСДРП на падп рабоце ў Лібаве, Вільні, Мінску Яго намаганнямі створаны нелегальны транспартныя шляхі праз мяжу, у Вільні

С С Мацапура

І К Мацвяёнак

сфарміравана арг-цыя, якая стала ядром Паўн-Зах к-та У снеж 1903 арыштаваны Утрымліваўся ў Мінскай, Екацярынаслаўскай турмах Вызвалены ў сак 1905, далучыўся да меншавікоў Пасля 1907 ад рэв дзейнасці адышоў Пасля Кастр рэвалюцыі 1917 на прафс і гасп рабоце З 1920 чл РКП(б)

*Літ* Король А С Большевики Белоруссии в революции 1905—1907 гг Мн 1986 *Аляксей Кароль*

**МАХНА́Ч** Нінэль Мікалаеўна (19 7 1931, Мінск — 31 5 1995), бел гісторык філасофіі і культуры Канд філас н (1974) Скончыла БДУ (1954) У 1957—84 працавала ў аддзеле гісторыі філасофіі Ін-та філасофіі і права АН Беларусі, з 1975 ст навук супрацоўнік Даследавала праблемы вызв руху, культуры, грамадска паліт і філас думкі Беларусі канца 18 — 1 й пал 19 ст, станаўленне нац самасвядомасці Адзін з аўтараў «Гісторыі Беларускай ССР» (т 1, 1972), «Нарысаў гісторыі філасофскай і сацыялагічнай думкі Беларусі (да 1917 г)» (1973), калектыўных манаграфій «Ідэі гуманізму ў грамадска-палітычнай і філасофскай думцы Беларусі (дакастрычніцкі перыяд)» (1977), «Ідэі матэрыялізму і дыялектыкі на Беларусі (дакастрычніцкі перыяд)» (1980), «Развіццё марксісцка ленінскай філасофіі ў БССР (20—70-я гады)» (1984), «Філасофская і грамадска-палітычная думка Беларусі і Літвы Дакастрычніцкі перыяд заканамернасці развіцця, праблемы даследавання» (1987) і інш Дзярж прэмія БССР 1984

*Тв* Идейная борьба в Белоруссии в 30—40-е годы XIX в Мн, 1971, От просвещения к революционному демократизму (Обществ полит и филос мысль Белоруссии конца 10-х — начала 50-х г XIX в) Мн 1976, Общественно-политическая и этическая мысль Белоруссии начала XIX в Мн, 1985 *Сямен Падокшын*

**МАХРЫ́НАЎ** Рыгор Федаравіч (н 15 2 1921, хутар Ніжне-Калінаўка Растоўскай вобл, Расія), удзельнік баеў на Беларусі ў Вял Айч вайну, Герой Сав Саюза (1946), ген-маер авіяцыі (1968) Скончыў Варашылаўградскую ваен авіяц школу (1940), Ваенна-паветраную акадэмію (1954) З чэрв 1941 на Паўн Ленінградскім, Паўн-Зах, 1-м Бел франтах Зрабіў 199 баявых вылетаў, вёў паветр разведку ў раёне Бабруйска, Баранавіч, Слоніма Камандзір звяна асобнага разведвальнага авіяпалка капітан М вызначыўся ў маі 1944 у раёне Брэста на пашкоджаным агнём варожаи артылерыі самалёце выявіў на 4 аэрадромах 240 самалётаў праціўніка Да 1973 у Сав Арміі

**МАЦАПУ́РА** Сяргей Сцяпанавіч (н 15 2 1919, в Гдзень Рэчыцкага пав Мінскай губ, цяпер у Брагінскім р-не), Герой Сав Саюза (1945) У Чырв Арміі з 1939 У Вял Айч вайну з 1941 на Цэнтр, Калінінскім, 1-м, 2-м Укр і 1 м Бел франтах Механік-вадзіцель старшына М вызначыўся у 1945 пры вызваленні Польшчы 18 студз экіпаж танка ўварваўся ў г Сахачаў, знішчыў гармату, 10 мінаметаў і кулямётаў, 16 аўтамашын, 22 студз у г Інаўроцлаў пры захопе чыг станцыі і аэрадрома знішчыў 3 самалёты, цягнік, 15 аўтамашын і інш Да 1965 у Сав Арміі, капітан

**МАЦВЯЕНАК** (Матвеенка, Мацвеенка) Іван Кузьміч [24 6(3 7) 1899 в Новы Быхаў Быхаўскага пав Магілеўскай губ, цяпер Быхаўскі р-н — ?] бел гісторык, мовазнавец, краязнавец Канд філал н (1947) Вучыўся ў Магілеўскай духоўнай семінарыі (1911—15) Смаленскай ваен інж школе (1920—21), скончыў гіст ф-т БДУ (1930) У 1916—18 і ў 1921—22 настаўнічаў у Быхаўскім пав З 1918 у Чырв Арміі, у 1919—20 удзельнік партыз руху на Магілеўшчыне У 1924—29 выкладчык Магілеўскіх парт школы і пед тэхнікума З ліст 1926 старшыня Магілеўскага акр т-ва краязнаўства З 1930 заг школы прафс руху ў Мінску, выкладчык у Бел політэхн ін-це (з 1933), Мінскім (з 1935) і Магілеўскім (з 1939) пед ін-тах У Вял Айч вайну на фронце З 1944 у суворaўскім вучылішчы ў Майкопе З 1947 ст выкладчык, з 1949 дацэнт кафедры рус мовы і агульнага мовазнаўства БДУ У 1949 абвінавачаны ў касмапалітызме У 1950-я г дацэнт Горна Алтайскага пед ін-та Пасля 1959 лёс невядомы Аўтар прац па мовазнаўстве

краязнаўстве, гісторыі рэв руху на Магілеўшчыне

*Тв* Нарысы з мінулага Магілеўшчыны, Сялянскі рух на Магілеўшчыне ў 1905 г , Магілеўшчына, як аб'ект краязнаўчага вывучэньня // Магілеўшчына Магілеў, 1927 Т 1, З падзей 1917 году // Магілеўшчына да дзесятае гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі Магілеў, 1927, Некаторыя краязнаўчыя тэмы Магілеўшчыны // Наш край 1927 № 3, З гісторыі партызаншчыны на Магілеўшчыне // Там жа 1928 № 3, Рэвалюцыя 1905 г на Магілёўшчыне // Сав краіна 1931 № 3—4, Развіццё беларускай літаратурнай мовы за 30 год БССР // Сав школа 1948 № 6, О корневом составе лексики восточнославянских языков // Уч зап Горно-Алтайского гос пед ин та. 1959 Т 1, вып 3

*Юрка Васілеўскі*

**МАЦЕЙ** з Мехава (Maciej z Miechowa, Мяхоўскі, Мехавіта, сапр Мацей Карпіга, каля 1457, г Мехаў каля Кракава — 8 9 1523), польскі гісторык, географ, медык, астролаг З сям'і мешчаніна З 1474 вучыўся ў Кракаўскай акадэміі, у 1476 стаў бакалаўрам, у 1479 — магістрам вольных мастацтваў З 1483 працягваў вучобу ў Італіі, дзе ў 1486 або 1487 атрымаў ступень доктара медыцыны З 1500 праф медыцыны Кракаўскай акадэміі, да 1519 восем разоў выбіраўся яе рэктарам У 1515—18 напісаў «Хроніку палякаў» («Chronica polonorum»), якая выдадзена ў 1519 Але ўвесь яе тыраж па загаду кароннага канцлера Я Ласкага быў канфіскаваны, некат старонкі заменены на адрэдагаваныя самім канцлерам Новае выданне хронікі з'явілася ў 1521 Гал яе крыніцай пры апісанні падзей да 1480 была «Гісторыя» *Я Длугаша*, да якога М ставіўся з вял павагай Апісанне сучасных яму падзей (1481—1506) М рабіў на падставе уласных нататак, якія веў прыкладна з 1499, вусных рэляцый і часткова рукапісных і друкаваных крыніц Вялізная колькасць дат і фактаў, асабліва з 1480, надае ей выключную вартасць Хроніка М — першая пасля твора В *Кадлубака* друкаваная гісторыя Польшчы Яна прызначалася для студэнтаў і шырокаи публікі, таму ў ей няма спасылак на папярэдніх аўтараў У хроніцы М пачаў дыскусію ў друку пра паходжанне славянскіх плямен і народаў Вынікам даследаванняў стала гіпотэза М пра аўтахтоннасць славян, аб'яднаная з тэорыяй Длугаша пра пачатковае іх жыхарства ў Паноніі М апісаў звычай правядзення набажэнства на стараж-слав мове паводле ўсх абрадаў у касцеле св Крыжа ў Кракаве У адрозненне ад Длугаша, якога цікавіла пераважна нямецка-крыжацкая праблематыка, М скіраваў свой погляд на Усход — Русь, ВКЛ, татар, Турцыю Шмат месца адвеў апісанню падзей у ВКЛ і адлюстраваў усе яго значныя паліт акцыі Крытыкаваў эканам супярэчнасці ў Літве, якія прыводзілі да рэзкага падзелу грамадства на 2 слаі — вельмі бедных мас сялянства і агорну тых раскошай магнатаў Шмат гіст фактаў і ў творы М «Трактат пра дзве Сарматыі» («Tractatus de duabus Sarmatus»), які прынес аўтару агульнаеўрапейскую вядомасць (у 16 ст кніга выдавалася 18 разоў) Ен разбурыў тагачасныя стэрэатыпы пра Усх Еўропу (існаванне там Гіпербарэйскіх і Рыфейскіх гор, народа гіпербарэйцаў і інш), але, на жаль, скарыстаў і неправерания звесткі, атрыманыя ад палонных маскавітаў, купцоў, паслоў, паліт эмігрантаў Для зах-еўрап чытача трактат стаў асн крыніцай інфармацыі пра геаграфію, веравызнанні, паліт і грамадз адносіны ў ВКЛ, Маскоўскай дзяржаве і інш землях на Усходзе

*Тв* Пол пер — Opus Sarmacji azjatyckiej i europejskiej Wrocław etc , 1972, Рус пер — Трактат о двух Сарматиях М , Л , 1936

*Лит* Анмонов Ю А. Культурные связи России с европейскими странами в XV—XVII вв Л , 1978 С 97—148, Borzemski A Kronika Miechowity Rozbiór krytyczny Kraków, 1891, Maciej z Miechowa, 1457—1523 Historyk, geograf, lekarz, organizator nauki Wrocław, 1960 *Альбіна Семянчук*

**МАЦКЕВІЧ** Ігнацій Вікенцьевіч [15(28) 5 1912, в Завольша Сенненскага пав , цяпер у Лезненскім р-не — 26 9 1943], Герой Сав Саюза (1943) У Чырв Арміі з 1934 У Вял Айч вайну на фронце з 1941 Лейтэнант М вызначыўся 22 9 1943 пры вызваленні Брагінскага р-на рота на чале з М пераправілася цераз Дняпро, захапіла плацдарм і в Калыбань, адбіла 5 контратак, М падбіў 2 танкі і забіў каля 50 гітлераўцаў Загінуў у баі

І В Мацкевіч

**МАЦКО** Аляксандр Мікалаевіч (н 15 10 1924, в Пагарэлка Стаўбцоўскага пав Навагрудскага ваяв , Польшча, цяпер Карэліцкі р-н), бел гісторык Д-р гіст н (1968), праф (1970) Засл работнік вышэйшай школы Беларусі (1980) Скончыў Мінскі пед ін-т (1951), Акадэмію грамадскіх навук пры ЦК КПСС (1962) Удзельнік Вял Айч вайны З 1945 на камсам , парт і журналісцкай рабоце, з 1951 інструктар ЦК КПБ У 1962—89 ст навук. супрацоўнік Ін-та гісторыі партыі пры ЦК КПБ, заг сектара Ін-та гісторыі АН БССР, заг кафедры гісторыі КПСС Мінскага пед ін-та З 1989 праф кафедры гісторыі Беларусі Бел дзярж пед ун-та Даследуе гісторыю нац-вызв руху ў Зах Беларусі, падп і партыз барацьбы ў Вял Айч вайну, праблемы гісторыі Беларусі сав перыяду Адзін з аўтараў калектыўнай манаграфіі «Рэвалюцыйны шлях Кампартыі Заходняй Беларусі (1921—1939 гг)» (1966), працы «Усенародная барацьба на Беларусі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у гады Вялікай Айчыннай вайны» (т 1—3, 1983—85)

А.М Мацко.

*Тв* Борьба трудящихся Польши и Западной Белоруссии против фашизма (1933—1939 гг ) Мн , 1963, Революционная борьба трудящихся Польши и Западной Белоруссии против гнета буржуазии и помещиков, 1918—1939 гг Мн , 1972

**МАЦЮША** (Мацюша Федаравіч), камандзір атрада ўкр казакоў, якія у канцы 16 ст зрабілі першы паход у Беларусь У лютым 1590 каля 500 запарожскіх казакоў на чале з М напалі і разрабавалі Быхаў, пасля Магілеў Як паведамляе Баркулабаўскі летапіс, казакі на чале з М і Голым «аж до Минску приставство по волостях брали, а кривды, шкоды не чинилы, толко жонок охочих, тых намовляли и заклинали, абы з нимн на Низ ишли, и взяли з собою жонок и девок двесте поголов»

**МАЦЮШОЎ** Аляксей Дзмітрыевіч [8(21) 3 1916, в Аўсішча Сенненскага пав , цяпер в Воўсішча Сенненскага р-на — 19 9 1943], Герой Сав Саюза (1944) Скончыў Харкаўскае ваен вучылішча пагранічных войск (1940) У Чырв Арміі з 1937 У Вял Айч вайну на фронце з 1941, маер, нач штаба палка Вызначыўся ў вер 1943 у баях за вызваленне Смаленшчыны з узводам аўтаматчыкаў і 2 узводамі 45-мм гармат зайшоў у тыл ворага, завязаў бой, у выніку якога былі захоплены 4 мінаметы, 27 куляметаў, 18 аўтамашын, 3 рацыі, 40 вінтовак, забіта каля 200 гітлераўцаў

М загінуў у баі Яго імем названа Латыгальская школа ў Сенненскім р-не

**МАЦЯЕЎСКАЯ** (Maciejewska) Ванда (15 11 1906, г Сувалкі, Польшча — 18 3 1988), польскі гісторык, архівіст Д-р філасофіі (1934), дацэнт (1973) Скончыла Варшаўскі ун-т (1931), дзе працавала да 1939 У 1948—51, 1966—77 у Гал архіве стараж актаў у Варшаве (у 1976—77 нам дырэктара), у 1951—66 у Гал дырэкцыі дзярж архіваў Аўтар прац па сярэдневяковай гісторыі Польшчы, ВКЛ (Полацкай зямлі), гісторыі медыцыны ў Рэчы Паспалітай

*Тв* Dzieje ziemi Połockiej w czasach Witołda (1385—1430) Wilno, 1933, Jadwiga, krolowa polska Kraków, 1934, Mikołaj Radziwiłł, biskup żmudzki (1515—1529), a francuski «król cudotwórca» Franciszek I // Kwartalnik Historyczny 1938 R 52, z 2, Źrodła do dziejow medycyny w aktach Rady Nieustającej (1775—1788) Warszawa, 1956, Sprawy lekarskie w aktach Straży Praw (1791—1792) i II Rady Nieustającej (1793—1794) Warszawa, 1956 (разам з Б Сабалевай)

*Літ* W o z n i a k o w a M Wanda Maciejewska // Archeion Warszawa, Łodź, 1990 [T ] 87

*А Дз Мацюшоў*

**МАЦЯЕВІЦКАЯ БІТВА 1794**, бітва паміж паўстанцамі і рас войскам у час *паўстання 1794* Адбылася 10 10 1794 каля в Мацяевіцы недалека ад Варшавы Пасля *Крупчыцкага бою 1794* і паражэння ад войск А В Суворава каля в Цярэспаль 19 9 1794 А Т Б Касцюшка сабраў рэшткі дывізіі К Серакоўскага, 2 палкі пяхоты, кавалерыйскую брыгаду, уланаў, 2 эскадроны кароннай гвардыі і столькі ж шляхецкай конніцы з-пад Брэста (разам 5600 салдат і афіцэраў пры 21 гармаце) 9 кастр войска Касцюшкі перакрыла дарогу корпусу Ферзена, які рухаўся насустрач Сувораву На досвітку 10 кастр Ферзен пачаў наступленне Яго корпус налічваў каля 20 тыс салдат і афіцэраў і сотню гармат Жорсткая бітва скончылася паражэннем паўстанцаў, цяжка паранены Касцюшка быў узяты ў палон Гэта адмоўна паўплывала на ўвесь ход паўстання і прадвызначыла яго паражэнне

*Язэп Юхо*

**МАЦЯЁЎСКІ** (M a c i e j o w s k i) Вацлаў Аляксандр (1792—10 2 1883), славяназнавец, гісторык культуры і права Вучыўся ў Кракаўскім ун-це, Вроцлаве, Берліне, Гетынгене Праф рымскага права Варшаўскага ун-та (1819—31), выкладчык класічнай філалогіі ў Пед ін-це (з 1826) Удзельнік паўстання 1830—31 З 1833 суддзя Грамадзянскага трыбунала Мазавецкага ваяв , чыноўнік для спец даручэнняў ва Урадавай камісіі ўнутр спраў (1836—40), праф класічнай філалогіі ў рымска-каталіцкай духоўнай акадэміі ў Варшаве (1836—49) З 1840 выкладчык гісторыі польскага права на правазнаўчых курсах у Варшаве У сваіх творах праводзіў ідэі агульнаслав культ адзінства У працы «Гісторыя славянскіх заканадаўстваў» (т 1—4, 1832—35) упершыню ў польскай гіст навуцы даследаваў пытанні агульнасці слав права Выдаў зборнік крыніц па слав праву «Помнікі гісторыі, пісьменства і заканадаўства славян» (т 1—2, 1839), «Пачатковая гісторыя Польшчы і Літвы» (1846), «Польскія і літоўскія летапісы і хронікі» (1850), «Польскае пісьменства з найдаўнейшых часоў да 1830 г» (т 1—3, 1851—52), «Яўрэі ў Польшчы, Русі і Літве» (1878)

*Р Н Мачульскі*

*Дзмітрый Караў*

**МАЦЯРЫЗНА**, у ВКЛ у 15—18 ст назва спадчыны па мацярынскай лініі, якую паводле Статутаў ВКЛ браты павінны былі дзяліць пароўну з сестрамі

**МАЧУЛІНА** (М а ч у л ь н а), веска ў Ваўкавыскім р-не Каля аўтадарогі Ваўкавыск—Гродна За 10 км на Пн ад Ваўкавыска, за 5 км ад чыг ст Рось, 459 ж , 166 двароў (1998)

У пісьмовых крыніцах вядома з сярэдзіны 16 ст як двор і веска ў Ваўкавыскім пав У 1553 у М быў касцёл У 1567 двор М належаў кн Я М Мікіцічу (Галоўчынскаму) У 2-й пал 17 — 18 ст у М існавалі 2 двары — Мачульна і Старая Мачульна У 1690 імі валодалі ваўкавыскі падкаморы Т Алендскі і В Мінеўскі У весцы М было 35 дымоў, карчма, 2 млыны У 2-й пал 17 — 1-й чвэрці 18 ст пры двары М дзейнічаў кальвінскі збор (цяпер урочышча «Кальвінаўка») У 1739 Мінеўскія прадалі палову свайго маёнтка Старая М Тулоўскім З 1795 у Рас імперыі У 19 — пач 20 ст веска і двор у Роскай вол Ваўкавыскага пав Гродзенскай губ , уласнасць Алендскіх У 1897 — 269 ж , 20 двароў, 2 крамы З 1921 у Польшчы, у Ваўкавыскім пав Беластоцкага ваяв З 1939 у БССР З 1940 у Лічыцкім с/с, з 1958 цэнтр Мачулінскага с/с, з 1959 у падпарадкаванні Краснасельскага пассавета Ваўкавыскага р-на Цэнтр калгаса «Бальшавік» Базавая школа, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, аддз сувязі, 2 магазіны

*Валерый Шаблюк*

**МАЧУЛЬСКІ** Раман Навумавіч [17(30) 11 1903, в Крываносы Бабруйскага пав Мінскай губ , цяпер у Старадарожскім р-не — 26 4 1990], адзін з арганізатараў і кіраўнікоў патрыят падполля і партыз руху на Беларусі ў Вял Айч вайну, парт і дзярж дзеяч Беларусі Герой Сав Саюза (1944) Засл работнік культуры Беларусі (1980) Чл КПСС з 1928 Скончыў Рэсп школу прапагандыстаў пры ЦК КП(б)Б (1937) З 1937 заг аддзела, сакратар Грэскага, Чэрвеньскага, 1-ы сакратар Плешчаніцкага райкома КП(б)Б У Вял Айч вайну ў тыле ворага ўпаўнаважаны ЦК КП(б)Б па Мінскай і Палескай абл , сакратар *Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б*, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў злучэння партыз атрадаў Мінскай і Палескай абл У кастр 1942 — маі 1943 в а камандзіра *Мінскага партызанскага злучэння*, з жн 1943 камандзір партыз злучэння Барысаўска-Бягомльскай зоны З вер 1944 старшыня Мінскага аблвыканкома, з 1948 прадстаўнік Савета па справах калгасаў пры ўрадзе СССР па Беларусі З 1950 1-ы сакратар Пінскага абкома КПБ У 1954—59 старшыня Брэсцкага аблвыканкома Чл ЦК КПБ у 1949—60 Дэп ВС БССР у 1947—55, дэп ВС СССР у 1944—62 Нам Старшыні Прэзідыума ВС БССР у 1947—51 Аўтар мемуарных твораў «Вечны агонь» (3-е выд , 1978), «Старонкі бессмяротнасці» (1972), «Людзі высокага абавязку» (1975), «На вогненнай зямлі» (1983)

**МАШАРА** Міхась [Міхаіл Антонавіч, 5(18) 11 1902, б хутар Падсосна Дзісенскага пав Віленскай губ , цяпер Шаркаўшчынскі р н — 7 6 1976], бел пісьменнік Удзельнік сав -польскай вайны 1920, нац -вызв руху ў Зах Беларусі Быў арганізатарам гурткоў Бел сял -работніцкай грамады ў родных мясцінах, рэдагаваў у Вільні газ «Наша воля» (1927) У 1928 зняволены на 4 гады ў віленскую турму Лукішкі, дзе напісаў першы зб вершаў «Малюнкі» Пасля ўз'яднання Зах Беларусі з БССР у вер 1939 кіраваў аддзелам нар асветы ў Шаркаўшчынскім р-не Быў абраны дэпутатам Нар сходу ў Беластоку У Вял Айч вайну працаваў у газ «Звязда», «Савецкая Беларусь», «Партызанскае слова», на радые З 1945 у час «Полымя», у 1947—49 у «Настаўніцкай газеце»

Друкаваўся з 1927 Паэтызацыя прыроды роднага краю, побыту, працы зах - бел селяніна спалучалася ў яго творчасці з пратэстам супраць нац і сац ўціску (зб-кі «На сонечны берагі», 1934, «Напрадвесні», 1935) Зб «З-пад стрэх саламяных» (1937) быў канфіскаваны польск ўладамі, а рукапіс зб «З ваколіц Сініх Балот» не быў надрукаваны Тэма Радзімы і подзвіг бел народа ў Айч вайне склалі аснову паэт зб-каў «Беларусі» (1944), «Праз навальніцы» (1948), «Мая азерная краіна» (1962) і інш Аўтар раманаў пра вызв рух у Зах Беларусі, падзеі грамадз вайны, у якіх шырока выкарыстаў факты з свайго жыцця («Крэсы змагаюцца», 1966, «Сонца за кратамі», 1968, «Лукішкі», 1970, «Ішоў дваццаты год», 1973, «І прыйдзе час », 1975)

М Машара

**МАШЧЫ́ХА** Еўдакія (інакш М а ц і - х а), нар лекарка ў канцы 17—18 ст Жыла ў Шклове Да 1718 аўдавела Лячыла травамі, загаворамі, рабіла нават складаныя хірургічныя аперацыі Вядома пра паспяхова праведзеную ею трэпанацыю чэрапа ў 1718 укр пеўчаму І Турчыноўскаму, якому «галаву ў дзьвух месцах да мозгу прасекли»

*Літ* Грыцкевіч В П С факелом Гиппократа Из истории бел медицины Мн , 1987 *Ірына Масляніцына*

**МАШЫННА-ТРАКТАРНЫЯ СТАНЦЫІ** (МТС), дзяржаўная форма арганізацыі тэхнічнай базы калгасаў і кіраўніцтва іх працай, вытворчасцю, размеркаваннем прыбытку, здачай (продажам) дзяржаве таварнай часткі прадукцыі Існавалі ў 1928—58 у СССР, у т л у Беларусі Былі эфектыўным сродкам сац рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, важнейшымі цэнтрамі разгортвання масавага калгаснага руху — аб'яднання сял гаспадарак у калгасы (*калектывізацыя* «бальшавізацыі» калгасаў, барацьбы з антысацыяліст сіламі вескі) У МТС былі сканцэнтраваны перадавыя на той час прылады с -г вытворчасці і працы (трактары, камбайны, складаныя малатарні, аўтамабілі і інш машыны з прычапным інвентаром, у т л конным), з дапамогай якіх яны выконвалі ў адпаведнасці з дагаворамі палявыя і стацыянарныя работы ва ўсіх галінах калгаснай гаспадаркі (ворыва, сяўбу, апрацоўку і ўборку культур, ачыстку і сартаванне збожжа, меліярацыю, нарыхтоўку кармоў, механізацыю працаемкіх працэсаў на жывелагадоўчых фермах і інш ) За выкананыя МТС с -г работы дзяржава атрымлівала ад калгасаў натуральную аплату збожжам, бульбай і інш З механізатарамі МТС калгасы разлічваліся працаднямі, гарантаваны мінімум якіх устанаўлівалі дырэктыўныя органы МТС адыгралі значную ролю ў станаўленні і развіцці калгасаў Разам з тым ва ўмовах нарошчвання сац -эканам патэнцыялу калгаснага ладу яны стрымлівалі яго магчымасці ў эфектыўным выкарыстанні найб важных элементаў буйной вытворчасці — кваліфікаваных кадраў, зямельных угоддзяў, тэхнікі МТС з'яўляліся матэрыяльнай асновай распаўсюджання пераважна натуральнай (не рыначнай) формы эканам адносін паміж калгаснай і дзярж сістэмамі, дырэктыўнага планавання калгаснай вытворчасці Яны абмяжоўвалі самастойнасць калгасаў, іх каап прыроду, садзейнічалі ўмацаванню сістэмы бесперашкоднага выпампоўвання дзяржавай матэрыяльных сродкаў з сельскай гаспадаркі У многіх МТС машынны парк выкарыстоўваўся малапрадукцыйна, планы трактарных работ і дагаворныя абавязацельствы з калгасамі не заўсёды выконваліся, што стварала цяжкасці ў праводзенні с -г работ МТС матэрыяльна не былі зацікаўлены ў павелічэнні ўраджаяў, росце вытв-сці прадукцыі, паколькі асн паказчыкам ацэнкі іх працы з'яўляўся аб'ем выкананых работ, па якім налічвалася і натуральная аплата Механізатары імкнуліся выконваць больш выгадныя работы Ва ўмовах, калі тэхнікай і механізатарамі, што яе абслугоўвалі, распараджаліся МТС, а зямлёй і пераважнай большасцю рабочай сілы — калгасы, параджаліся абязлічка і безадказнасць у арганізацыі вытворчасці, рацыянальным выкарыстанні зямлі і тэхнікі Форма вытв -тэхн абслугоўвання праз МТС усё больш не адпавядала інтарэсам калгасаў, іх эфектыўным эканам узаемаадносінам з дзяржавай

1-я на Беларусі МТС — Койданаўская (з 1932 Дзяржынская) — арганізавана ў лют 1930 паводле рашэння ЦК КП(б)Б і СНК БССР, мела 33 трактары У 2-й пал 1930 створаны яшчэ 5 МТС Асвейская, Ветрынская, Заслаўская, Капыльская і Чырвонаслабодская, якія мелі 157 трактароў Да канца 1931 колькасць МТС вырасла да 33, а іх трактарны парк павялічыўся да 1006 Асн вытв адзінкай МТС была трактарная брыгада Напачатку МТС абслугоўвалі калгасы пераважна ў прыгранічных раёнах, выконваючы задачуператварэння калектыўных гаспадарак ва ўзорна-паказальныя сацыялістычныя Да пач 1933 у БССР існавала 57 МТС з 1469 трактарамі і інш с -г машынамі, якія ў 1932 абслугоўвалі 33,1% усіх калгасаў, апрацавалі 427,8 тыс га пасеваў, ці 24% калгаснай пасяўной плошчы Пазней пашырэнне сеткі МТС адбывалася шляхам арганізацыі іх на новай тэхн базе, разбуйнення часткі раней створаных станцый, ліквідацыі саўгасаў з мэтай абслугоўвання ўсіх калгасаў У 1934 працэнт цягавай магутнасці трактароў МТС ва ўсёй цяглавай магутнасці калгасаў складаў 10%, у 1937 — 30, у 1940 — 37, у 1945 — 31, у 1953 — 55, у 1957 — 62% У 1940 у далучаных да БССР зах абласцях дзейнічала 101 МТС Роля МТС як паліт цэнтраў і апорных пунктаў парт -дзярж апарату на вёсцы вырасла ў перыяд дзейнасці іх *палітычных аддзелаў* (1933—34), якія існавалі на правах райкомаў партыі і былі прызначаны для аператыўнага вырашэння надзвычайных задач У 1934 у МТС БССР было 70 палітаддзелаў У зах абласцях палітаддзелы існавалі ў 1950—53 Паліт і арганізац дзейнасць МТС уплывала на ўзровень калектывізацыі, характар узаемаадносін паміж вяскоўцамі, у т.л калгаснікамі, арганізацыю грамадскай вытворчасці

У 1950-я г ў сувязі са зменай парт - дзярж кіраўніцтвам падыходаў да шляхоў і форм эканам развіцця, узаемаадносін паміж калгасамі і дзяржавай дзейнасць МТС перастала адпавядаць патрабаванням жыцця 1-я сесія Вярх Савета СССР 5-га склікання ў сак 1958 прызнала за неабходнае рэарганізаваць МТС і прадаць іх тэхніку калгасам Да канца 1958 большасць калгасаў БССР з дапамогай дзярж крэдыту стварылі ўласныя машынна-трактарныя паркі На базе часткі МТС былі арганізаваны рамонтна-тэхн станцыі (РТС, на пач 1959 іх налічвалася 161 з 112 аддзяленнямі) для рамонту с -г тэхнікі, тэхн абслугоўвання і забеспячэння калгасаў і саўгасаў новай тэхнікай, запчасткамі гаручым, угнаеннямі і інш Каб аблегчыць калгасам куплю тэхнікі, з іх спіс

**Асноўныя паказчыкі развіцця МТС у БССР**

| Гады | 1933 | 1937 | 1940 | 1945 | 1953 | 1957 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Колькасць МТС на канец года | 63 | 200 | 316 | 326 | 391 | 343 |
| Колькасць 15-сільных трактароў на канец года, шт | 1370 | 8262 | 12238 | 4085 | 30407 | 33820 |
| Выканана работ у пераліку на мяккае ворыва тыс га | 193,6 | 2456 | 3170 | 967 | 11307 | 16784 |

**МАЯРАТ** (позналац majoratus ад лац major большы, старэйшы), атрыманне ў спадчыну нерухомасці (перш за ўсе зямлі) паводле прынцыпу першародства ў сям'і або родзе, маентак, які пераходзіў у спадчыну паводле гэтага прынцыпу М існаваў у стараж Індыі, Афінах, з 11—13 ст у феад праве Англіі, Францыі, Германіі і інш краін Еўропы, у Беларусі з 16 ст (гл *Ардынацыя*) У Расіі атрыманне ў спадчыну маенткаў на прынцыпах М ўстаноўлена ў 1711, але з-за супраціўлення дваранства адменена ў 1732 У 1845 дваранства атрымала права на заснаванне М з дазволу імператара У Беларусі некат дзярж маенткі перадаваліся выхадцам з Расіі на правах М, пры згасанні роду ў мужчынскай лініі зямля вярталася ў казну

**МЕДАЛЬ** (франц medaille шчыт, круг з лепкай), 1) круглы ці авальны знак з двухбаковай ці аднабаковай выявою, зроблены у гонар асобы або падзеі, памерамі 20—80 мм З'явіўся ў 2-й пал 14 ст — пач 15 ст ў Італіі Выраблялі гэхнікай ліцця, на мяжы 15—16 ст паявіўся біты М, зрэдку выкарыстоўвалася тэхніка гравіроўкі ці чаканкі Звычайна на аверсе М змешчана партрэтная выява, на рэверсе — фігурная кампазіцыя, сюжэтная, алегарычная ці геральдычная Традыцыйныя матэрыялы з якіх выраблялі М — бронза, медзь, серабро, золата, волава Звычайна на М пазначана імя медальера або яго манаграма У 20 ст пашырыўся набор гэхн прыемаў, якія ўжываюцца пры вырабе М (чаканка, гальванапластыка, ліцце пад ціскам, парашковая металургія, гравіроўка) і набор медальерных матэрыялаў (фарфор, чыгун, шкло, кераміка) Памеры М паводле рашэння Міжнар федэрацыі медальераў не павінны перавышаць 180 мм

Упершыню асобы і падзеі, звязаныя з Беларуссю, з'явіліся на М у 16 ст Невяд італьян майстар у 1520 зрабіў М у гонар нараджэння будучага караля польскага і вял князя ВКЛ Жыгімонта II Аўгуста Некалькі М выраблена ў гонар Жыгімонта I Старога (майстар Г Шварц, г Гданьск, 1527) У 1532 італьянец Я М Муска Падавана зрабіў у Кракаве серыю М з выявамі Жыгімонта I, яго жонкі Боны Сфорца, сына Жыгімонта Аўгуста, дачкі Ізабелы, а ў 1546 — М з партрэтам Боны Аўтар М, прысвечанага ўступленню на трон Жыгімонта Аўгуста (1548), італьян майстар Д Венетус З сярэдзіны 16 ст пачаўся сталы выраб у ВКЛ і Рэчы Паспалітай М, прысвечаных каралям польскім і вял князям ВКЛ, іх абранню на трон, каранацыі і інш З сярэдзіны 16 ст. М выраблялі на Віленскім манетным двары Некалькі М выраблена з нагоды сканчэння Лівонскай вайны 1558—83 і вызваленню ў 1579 Полацка Падзеям вайны з Расіяй 1609—18, заняццю ў 1611 Смаленска прысвечаны М віленскіх майстроў Г Келя і манаграміста «HD» Самым значным віленскім медальерам у пач 17 ст быў Г Трыльнер Ён зрабіў М, прысвечаныя ўзяццю Смаленска (1611) і яго абароне (1641), у гонар караля Уладзіслава IV, Радзівілаў Медальер I Энгельгарт выканаў М у гонар А Валовіча з яго партрэтам і відам Вільні (1626), Уладзіслава IV З сярэдзіны 16 ст па заказу Радзівілаў пачалі вырабляцца М ў гонар прадстаўнікоў гэтага роду 1580-мі г датуецца М вял маршалка А Радзівіла У 17 ст М ў гонар Радзівілаў выраблялі Трыльнер, гданьскія майстры С Дадлер, I Гегн (малодшы) Шмат М было выбіта ў Германіі, Швецыі і Расіі на падзеі Паўночнай вайны 1700—21 (узяцце шведамі Гродна ў 1706, перамога пад Галоўчынам у 1708, перамога расіян пад Лясной у 1708) З пач 18 ст стала пашыранай практыка вырабу М і жэтонаў у гонар святых і рэліг падзей (каранацыя цудатворных абразоў Жыровіцкага ў 1730, Бялыніцкага ў 1761) У час панавання Станіслава Аўгуста Панятоўскага М выбівалі ў гонар важных дзярж падзей грашовай рэформы (1766), надання паліт правоў дысідэнтам (1768), утварэння Адукацыйнай камісіі (1774), пабудовы Агінскага канала (1786), прыняцця Канстытуцыі 3 мая 1791 і інш Шмат М выканаў на Варшаўскім манетным двары I Ф Гольцгаўзер, у т л ў гонар гісторыка А *Нарушэвіча* (1771) У 1786 Гольцгаўзер вырабіў першыя М на сучаснай тэр Беларусі у Слоніме па заказу М К Агінскага выпушчаны аднабаковы М з яго партрэтам, каранацыйны М прускага караля Фрыдрыха Вільгельма II і М на памяць пра прысягу каралю саслоўяў у Кенігсбергу Некалькі М было выбіта ў Прусіі, Аўстрыі і Расіі з прычыны падзелаў Рэчы Паспалітай 1772—95 Высокім майстэрствам вылучаліся работы Ф П Талстога ў гонар гісторыка Г *Чацкага* (1809), заснавальніка Віленскага ун-та Стафана Баторыя і Аляксандра I (1818), на 250-ю гадавіну ун-та (1828) Падзеі вайны 1812 адлюстраваны на франц і рас М (серыя Талстога) Шмат М было выраблена за мяжой у гонар паўстанняў 1830—31 і 1863—64,

**Медалі Расійскай імперыі (1—3), СССР (4 —16), Рэспублікі Беларусь (17, 18) 1 — «За храбрасць» (1894), 2 — медаль у памяць 100-годдзя Айчыннай вайны 1812 (1912), 3 — «У памяць 300-годдзя дома Раманавых» (1913), 4 — «За адвагу» (1938), 5 — «За баявыя заслугі» (1938); 6 — «За працоўную адзнаку» (1938), 7 — «За абарону Масквы» (1944), 8 — «За абарону Ленінграда» (1942), 9 — «За абарону Сталінграда» (1942), 10 — «Партызану Айчыннай вайны» 1-й ступені (1943), 11 — «Партызану Айчыннай вайны» 2-й ступені (1943),**

выходзілі М , прысвечаныя І *Лялевелю* (1858), А *Міцкевічу*, Т *Касцюшку*, І *Дамейку* (1885), Э *Чапскаму* (1896), Ф *Пекасінскаму* (1906) і інш У Рас імперыі выпушчаны М на скасаванне Брэсцкай уніі (1839), з нагоды будаўніцтва Палескіх чыгунак (1887), узнагародныя М Горацкага с -г ін-та, Магілеўскага т-ва сельскай гаспадаркі, Т-ва віцебскіх сельскіх гаспадароў Працягвалі выпускацца М ў гонар Радзівілаў (у т л нумізмата В Радзівіла) У 1913 І Урублеўскі выканаў М у гонар 400-й гадавіны ўтварэння Нясвіжскай ардынацыі князёў Падзеі 1-й сусв вайны адлюстраваны ў ням М (на ўзяцце Брэста, Вільні) У БССР М пачалі вырабляць з 1960-х г Бел памятныя, юбілейныя і сувенірныя М прысвечаны падзеям Вял Айч вайны, гадавінам вызвалення Беларусі і бел гарадоў, 900 годдзю Мінска (1967), 700-годдзю Магілева (1967), 950-годдзю Брэста (1969), 1000-годдзю Віцебска (1974), 850-годдзю Гродна (1978), 450- і 455-годдзю бел кнігадрукавання (1967, 1971), юбілеям Я Купалы і Я Коласа, гадавінам навук устаноў і прамысл прадпрыемстваў

2) Узнагародны металічны знак з вушкам для нашэння на стужцы (ланцугу), на грудзях (ці ў пятліцы) або на шыі, звычайна круглы, зрэдку авальны ці шматвугольны У Рас імперыі масавыя ўзнагароджанні М («портретами», «монетами») упершыню ўведзены Пятром І у час Паўн вайны Першы ўзнагародны М звязаны з гісторыяй Беларусі — «За Левенгаўпцкую баталію» (1708, за перамогу над *Лясной*) У шырокі ўжытак у еўрап краінах узнагародныя М ўвайшлі ў 19 ст Гісторыі Беларусі тычацца М Рэчы Паспалітай, Рас імперыі, Польскай рэспублікі, СССР і Рэспублікі Беларусь

**«Медаль мацярынства» 1-й і 2-й ступеняў СССР 1944**

Узнагародныя М Рэчы Паспалітай Bene Merentibus («Вельмі заслужаным», 1738), Merentibus («Заслужаным», 1766), «За службу на працягу 18 гадоў» (1765), Pro fide, rege et lege («За веру, караля і закон»), Praemiando incitat («Узнагароджваючы заахвочвае»), Solerti («Умеламу»), Signatum Hoc Memori Pectore Munus Habe («Май гэты пазначаны дарунак на грудзях як памяць», усе пасля 1765), Diligentiae («Стараннасці, 1767), Collegium Publicae Institutioni («Грамадства грамадскай установе», 2 ступені, пасля 1773), Equiti Dextero («Спрытнаму вершніку», 1778), Virtuti Civili («Грамадскай цноце», 1792) Насілі М на шыі на стужцы Зроблены яны з золата, серабра, медзі, што адпавядала ступеням

Найб важную для гісторыі Беларусі групу складаюць М Рас імперыі 19—20 ст , якіх больш за 130 Узнагародныя М Рас імперыі падзяляюцца на акаліч насныя (напр , за канкрэтны паход), памятныя (з нагоды падзеі, якая адбылася раней) і ўласна ўзнагародныя (якія існуюць працяглы час) Звычайна М устанаўліваўся па імператарскім загадзе, імянным указе, радзей па загадзе, палажэнні і інш М выдаваліся пераважна за кошт казны, выраблялісяі за кошт узнагароджанага на манетным двары або ў ювелірнай майстэрні З пач 19 ст да 1917 выдадзена каля 9 млн узнагародных М Каля паловы М былі заснаваны ў часы Аляксандра II, але абсалютная іх большасць была выдадзена пры Мікалаю II Большасць рас М фактычна мела 2 ступені і выраблялася з серабра (ніжэйшая) і золата (вышэйшая ступень) Больш каштоўныя М даваліся не за вялікія заслугі, а адпаведна сац статусу ўзнагароджанага (традыцыя захавалася з дапятроўскіх часоў) Часам рабілі М з брыльянтамі, для асоб з высокім сац статусам (М з брыльянтавым варыянтам было ўсяго 10 звычайна яны насіліся на стужцы ордэна Андрэя Першазванага на шыі) М адрозніваліся паводле спосабу нашэння на шыі, на грудзях (ці ў пятліцы), не для нашэння (без вушка) Большую значнасць меў М , які насіўся на шыі Звычайныя памеры М 28—65 мм, шыйныя М мелі памер 45—65 мм, нагрудныя — 28—30 мм З цягам часу дыяметр М памяншаўся У 2-й пал 19 ст шматступеннасць для шэрагу М стала фармальнай З пач 19 ст розніца ў метале выкарыстоўвалася для адрознення удзельнікаў баеў ад тых, хто толькі ўдзельнічаў у кампаніях (у пач 20 ст яна практычна знікла) Проба М звычайна 916, 875, 750, з 1917 узнагароды выраблялі толькі з невысакародных металаў Насілі М ў большасці выпадкаў на ордэнскіх стужках (з 2-й пал 19 ст на пяцікутных калодках, часам на спалучаных дзвюх ордэнскіх стужках), зрэдку на стужках выкарыстоўвалі колеры дзярж ці андрэеўскага сцягаў, зялены колер (з 1817 ордэнскія стужкі афіцыйна называюцца не па колеры, а па назве ордэна) Спалучаныя стужкі характэрны для ваенных М Розныя ордэнскія стужкі на ад натыпных М сведчылі аб розных заслугах узнагароджанага, часам стужка «ўдакладняла», за што дадзены М Колер стужкі мог азначаць паўторнае ўзнагароджанне Часам пра гэта сведчыў бант з ордэнскай стужкі, які мацаваўся ўздоўж калодкі М паверх стужкі Бант сведчыў і пра выключны геройскі ўчынак, пра атрыманне раненняў, кантузій і інш Бант маглі мець толькі 12 нагрудных М

Пры фармальна аднолькавай назве і функцыях М мог мяняць свой выгляд

**12 — «За вызваленне Варшавы» (1945), 13 — «За вызваленне Прагі» (1945), 14 — «За ўзяцце Берліна» (1945), 15 — «За перамогу над Германіяй у Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гг » (1945), 16 — «За перамогу над Японіяй» (1945), 17 — медаль Ф Скарыны (1989), 18 — «За адвагу» (1997)**

(на ім мянялася выява імператара ў адпаведнасці са зменай манарха) Насілі М партрэтам манарха (аверсам) да назіральніка Размяшчалі М ў парадку іх атрымання асобай Разнавіднасць М — фрачныя М (паменшаная копія) памерамі 12—18 мм, часам з неадпаведнага металу (вырабляліся яны ў прыватных майстэрнях) Росквіт фрачных М ініцыраваны дазволам жанчынам, якія з 1816 мелі права насіць М «У памяць Айчыннай вайны 1812 года», выкарыстоўваць з эстэтычных поглядаў гэты М паменшаных памераў Пасля смерці ўзнагароджанага М, як правіла, здаваліся ў Капітул ордэнаў (да 1856), але былі і выключэнні — некат М дазвалялася пакідаць у сваякоў без права на ншэння У 1898 і 1912 нашчадкі атрымалі дазвол насіць шэраг М бацькоў У 1-ю сусв вайну ўзнікла практыка пасмярот нага ўзнагароджання з перадачай узнагароды на захаванне родным

Медалі Польскай рэспублікі Медаль незалежнасці, Медаль добраахвотніцкі, Медаль за вайну 1918—1921, Медаль 10 годдзя вернутай незалежнасці, Ме даль за ратаванне гінучых, Медаль 3 мая, медаль «За шматгадовую службу» (3 ступені), Акадэмічны лаўр (2 ступе ні) Стужкі М былі прамавугольныя, з трохвугольным звужэннем у месцы мацавання да размешчанага рабром вуха М Асаблівасцю было ўручэнне разам з М і фрачнага М, акрамя гэтага ўжываліся і планкі са стужкамі адпаведных колераў Парадак размяшчэння М быў рэгламентаваны усе яны насіліся злева на грудзях і мелі стужкі сваіх колераў

Узнагародныя М СССР — другая па колькасці група М, звязаных з гісторыяй Беларусі — налічвае 55 М і 2 асобыя знакі ў выглядзе зоркі М «Залатая Зорка» і Залаты медаль «Серп і Молат» М СССР функцыянальна падзяляліся на знакі асобага адрознення, за баявыя заслугі, баявыя аказіянальныя, партызанскія, працоўныя аказіянальныя, за асаблівыя заслугі, за шматдзетнасць, юбілейныя, за выслугу гадоў, эвалюцыянавалі ад аднабаковай сістэмы легенд і выяў да двухбаковай Існуе праблема разыходжання афіцыйнай назвы і гал легенды М Сярод узнагародных М сав часу існуюць генетычныя групы па вы явах, легендах, прынцыпах кадзіроўкі медальнай стужкі колерам і пасамі Першыя сав ўзнагародныя М з'явіліся ў 1938 («За адвагу», «За баявыя заслугі», «За працоўную доблесць», «За працоў ную адзнаку») з аднолькавай стужкай чырв колеру, на прамавугольнай калодцы — баявыя, на трохвугольнай — працоўныя М Чатыры сав М маюць ступені — «Медаль мацярынства», «Партызану Айчыннай вайны», «За адзнаку ў воінскай службе», «За бездакорную службу» Большасць М — латунныя Пасля Вял Айч вайны з серабра некат час рабілі толькі М «За адвагу на пажары», «За адзнаку ў ахове дзяржаўных граніц СССР», «За выдатную службу па ахове грамадскага парадку» 1 я ступень, «За бездакорную службу» Большасць М мае дыяметр 32 мм, таўшчыню каля 3 мм

Узоры і апісанне стужак да ордэнаў і М СССР, правілы іх нашэння зацверджаны Указам Прэзідыума Вярх Савета СССР ад 19 6 1943 (пасля неаднаразова дапаўняліся і мяняліся) М СССР на стужках з пяцівугольнымі калодкамі павінны насіцца злева на грудзях, у паўсядзённай абстаноўцы носяцца планкі са стужкамі адпаведнага колеру Парадак размяшчэння М рэгламентаваны і не залежыць ад парадку іх атрымання Усяго з 1938 па 1991 было выдадзена узнагароджаным каля 200 млн М СССР

У Рэспублікі Беларусь да прыняцця Закона аб дзярж узнагародах (13 4 1995) існаваў адзін М Францыска Скарыны Паводле прынятага закона ўведзены М «За адвагу», «За працоўныя заслугі», Медаль Францыска Скарыны, «За бездакорную службу» (3 ступені)

Узнагародныя М мае і аддзеленая ад дзяржавы царква Медаль Прападобнага Сергія Раданежскага (3 ступені, 1979), Медаль Благавернага князя Данііла Маскоўскага (3 ступені, 1988)

*Літ* П р о з о р о в с к и й Д И Свод сведений, относящийся до техники и истории медальерного искусства Опыт руководства для обучающихся в медальерном классе имп Академии художеств Ч 1 СПб, 1884, Д е м м е н и М Сборник указов по монетному и медальному делу в России, помещенных в Полном собрании законов с 1649 по 1881 г Вып 1—3 СПб, 1887, С м и р н о в В П Описание русских медалей СПб, 1908, И в е р с е н Ю Словарь медальеров и других лиц, имена которых встречаются на русских медалях СПб, 1874, Щ у к и н а Е С Медальерное искусство в России XVIII в Л, 1962 *Памятныя медалі Савецкай Беларусі* Мн 1972, П р о ц к и й А Е Беларусь героическая Рассказывают памятные медали и значки Мн, 1985, П е т е р с Д И Наградные медали России XIX — начала XX вв Кат М, 1989, В о л о д и н А Н, М е р л а й Н М Медали СССР СПб, 1997, G u m o w s k i M Medale polskie Warszawa, 1925, W e r l i c h R Russian orders, decorations and medals Washington, 1968, O b e r l e i t n e r S Polskie ordery, odznaczenia i niektore wyróżnienia zaszczytne 1705—1990 Vademecum dla kolekcjonerow T 1 Ordery, odznaczenia i odznaki 1705—1831, 1918—1939, 1940—1989 Zielona Góra, 1992

*Валерый Пазднякоў, Іван Сінчук*

**МЕ́ДНІЦТВА**, тэхніка вырабу гасп і маст рэчаў з медзі, галіна дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва У Еўропе вядома з 3-іа тыс да н э, на тэр Беларусі вытворчасць маст вырабаў (дыядэмы, бранзалеты, пярсцёнкі, спражкі і інш) з прывазной медзі — з бронзавага веку Росквіту дасягнула ў 17—18 ст У многіх гарадах і мястэчках майстры-меднікі і катляры выраблялі разнастайны літургічны і гасп посуд (тазы, падносы, чайнікі, чашы, каўшы, блюды і інш) У сярэдзіне 17 ст бел майстры (Ф Мікулаеў, М Сяменаў і інш) займаліся ў Рус дзяржаве вырабам царк і гасп начыння для маскоўскіх храмаў і царскага двара У канцы 18—19 ст М займаліся майстры некаторых рудняў на Гомельшчыне, Гродзеншчыне і інш, таксама ў гарадах і мястэчках Медныя вырабы вызначаліся своеасаблівым спалучэннем усх форм з традыц мясцовымі У пач 20 ст М занепала *Яўген Сахута*

**МЕДЫЦЫ́НСКІЯ З'Е́ЗДЫ**, адна з форм падвядзення вынікаў і абмеркавання планаў навук даследаванняў і практычнай дзейнасці мед работнікаў Спачатку ўрачы Беларусі ўдзельнічалі ў агульнарасійскіх з'ездах, якія праводзіліся з 1860-х г У канцы 19 ст М з пачалі склікацца ў бел губернях Іх арганізатарамі былі *медыцынскія таварыствы* і ўрачэбныя аддзяленні губ праўленняў У Гродзенскай губ М з адбыліся ў 1892, 1893, 1904 і 1911 з запрашэннем урачоў, якія знаходзіліся на дзярж службе, у Віцебскаи — у 1899, 1906 і 1912 (у двух апошніх удзельнічалі прадстаўнікі земстваў), у Магілеўскай — у 1907 сумесна з прадстаўнікамі земстваў, у Мінскай — у 1908, 1911 і 1914 з удзелам урачоў, якія практыкуюць прыватна, і ў 1914 з'езд земскіх урачоў і прадстаўнікоў земстваў Матэрыялы і справаздачы большасці з іх надрукаваны У рабоце М з Мінскай губ ўдзельнічалі прадстаўнікі ад т-ва фельчараў і павітух У 1917 мед сестры Мінска правялі самастойны з'езд У 1-ю сусв вайну Мінск стаў месцам з'ездаў урачоў Паўн-Зах (1915) і Зах (1917) франтоў, работнікаў Чырв Крыжа Зах фронту (1917, 1918), нелегаль нага з'езда ўрачоў Чырв Крыжа Зах фронту (1917) У савецкі час з'явіліся новыя формы склікання і працы М з Усебел з'езды работнікаў аховы здароўя (1922, 1924 і 1928), з'езды ўчастковых урачоў (1925, 1927 і 1929), сельскіх ура чоў (1925 і 1939), з езды па асобных кі рунках медыцыны (санітарных урачоў з 1926, атарыналарынголагаў з 1928, хірургаў з 1929 і інш) Апрача рэспубліканскіх, зрэдку скліказіся акруговыя, абласныя і раенныя з'езды ўрачоў, ся рэдняга мед персаналу У 1945 адбыўся з'езд урачоў-партызан, 3-і з'езд сельскіх урачоў У 1950—80 я г асн формай сталі рэсп з'езды, якія скліказіся мед т-вамі Рэгулярна іх праводзілі хірургі, гігіеністы і эпідэміёлагі, тэрапеўты, пе дыятры, фармацэўты З пач 1990-х г на з'ездах шырэй сталі разглядацца праблемы перабудовы аховы здароўя, матэрыяльна-прававога становішча мед работнікаў Бел асацыяцыя ўрачоў з 1992 правяла 4 з'езды У 1994 адбыўся 1-ы рэсп з'езд сярэдняга мед персаналу

*Літ* И г н а т о в и ч Ф И Борьба врачей дореволюционной Белоруссии за созыв съездов // VII съезд гигиенистов и санитарных врачей, VII съезд микробиологов эпидемиологов и паразитологов, II съезд инфекционистов Белоруссии Материалы объедин съезда науч обществ Мн, 1984

*Федар Ігнатовіч*

**МЕДЫЦЫ́НСКІЯ ТАВАРЫ́СТВЫ**, т а в а р ы с т в ы ў р а ч о ў, добраах-

вотныя аб'яднанні ўрачоў і інш спецыялістаў медыцыны для распрацоўкі і ўкаранення навук дасягненняў у практыку аховы здароўя, абмену вопытам, павышэння сваей кваліфікацыі і санітарнай асветы насельніцтва На Беларусі пачалі стварацца ў 2-й пал 19 ст Існавалі ў Бабруйску (з 1902), Брэсцкае, Віцебскае, Гомельскае, Гродзенскае, Магілеўскае, Мінскае т-вы ўрачоў (пра кожнае гл асобны арт ) Дзейнічалі і спецыялізаваныя т-вы Мінскае аданталагічнае (1905—09), фармацэўтычныя ў Мінску (1906—08) і Віцебску (1906—10) М т правялі медыка-тапаграфічныя і сан -статыстычныя даследаванні большасці гарадоў Беларусі, ажыццяўлялі сан кантроль за гарадскімі тэрыторыямі, распрацавалі праекты сан пастаноў, устанавілі дзяжурства ўрачоў, арганізавалі курсы санітараў-дэзінфектараў у Магілеве і Мінску (1892) і інш Стваралі лячэбніцы для прыходзячых хворых у Віцебску (1870), Мінску (1879) і Бабруйску (1908), адкрывалі дачы-калоніі для хворых на сухоты і аказвалі ім матэр дапамогу, правялі ў 1911 дзень «белай кветкі» (збор сродкаў у насельніцтва для барацьбы з сухотамі) Па іх ініцыятыве адбыліся з'езды ўрачоў Магілеўскай (1907) і Мінскай (1908, 1911, 1914) губ Пад іх уплывам ствараліся аб'яднанні ваен урачоў, асабліва ў час 1-й сусв вайны Т-вы выдавалі свае «Пратаколы» і «Працы» Пасля Лют рэвалюцыі 1917 М т спынілі дзейнасць Пасля грамадзянскай вайны адноўлены ў Бабруйску і Мінску (1921), Гомелі (1923), Віцебску і Магілеве (1925), створаны новыя — у Асіповічах, Мазыры, Оршы, Полацку і інш , а ў Астрашыцкім Гарадку, Барысаве, Койданаве, Пухавічах, Смілавічах, Чэрвені — іх філіялы У 1929 М т пераўтвораны ў навук асацыяцыі, а ў 1933 — у профільныя т-вы У 1940 профільныя т-вы аб'яднаны ў адзінае Усебеларускае мед т-ва У 1920—30-я г М т змагаліся з сац хваробамі, эпідэміямі, прафесійнымі захворваннямі, займаліся сан прафілактыкай 14 10 1944 калегія Наркамата аховы здароўя БССР аднавіла М т ў выглядзе спецыялізаваных т-ваў (тэрапеўтаў, хірургаў, педыятраў і інш ) Яны маюць свае філіялы на месцах, праводзяць свае з'езды З 1966 пры Мін-ве аховы здароўя існуе Савет навук т-ваў, які каардынуе іх дзейнасць На 1998 налічваецца 36 спецыялізаваных М т

*Літ* Научные медицинские общества БССР Сб справ сведений Мн , 1981

*Акім Малчанаў*

**МЕДЫЯВІСТЫКА** (ад лац medius сярэдні + aevum век, эпоха), галіна гіст навукі, якая вывучае гісторыю *сярэдневякоўя*, пераважна Еўропы Храналагічныя рамкі сярэдніх вякоў звычайна пазначаюцца канцом 5—15 ст , аднак шэраг даследчыкаў лічыць магчымым пашырыць гэту эпоху да сярэдзіны 17 ст і нават канца 18 ст Гісторыя краін Зах Еўропы пасля падзення Зах Рымскай імперыі пачала вывучацца ўжо ў часы самога сярэдневякоўя Асн формамі тагачасных гіст прац былі гісторыі, хронікі, аналы, біяграфіі, агіяграфічныя творы Хрысціянскі светапогляд, які панаваў у сярэдневяковай Еўропе, адкінуў антычнае ўяўленне пра цыклічнае развіццё гісторыі чалавецтва і разглядаў яе як правідэнцыяльна вызначаны працэс выратавання людзей Кульмінацыяй гісторыі лічылася дзейнасць і ахвярная смерць за людзей Ісуса Хрыста Таму хронікі звычайна пачыналіся ад стварэння свету і заканчваліся будучым Страшным судом Тыповым было спалучэнне канспектыўнага асвятлення сусветнай гісторыі з больш падрабязным апісаннем гісторыі канкрэтнай краіны Разам з тым, асабліва ў познім сярэдневякоўі, ствараліся хронікі або гісторыі, прысвечаныя буйным падзеям, гісторыі асобных гарадоў, асвятленню параўнальна невялікіх гіст перыядаў З 6 ст ў манастырах, з 8 ст пры каралеўскіх дварах пачалі стварацца аналы — запісы падзей па гадах У адрозненне ад хронік і гісторый яны не выкладалі аўтарскай канцэпцыі Адзін з першых сярэдневяковых біягр твораў «Жыццё Карла Вялікага» быў створаны манахам Эйнгардам у 9 ст Вельмі папулярнай у сярэдневякоўі была *агіяграфічная літаратура*, якая ад біягр твораў адрознівалася апісаннем вял колькасці розных цудаў, выключным правідэнцыялізмам У 15—16 ст італьянскія гуманісты вылучылі гісторыю сярэдніх вякоў у асобны перыяд гісторыі Як на характэрныя яго рысы яны звярталі асаблівую ўвагу на сістэму феодаў і паліт раздробленасць Гуманісты паклалі пачатак навук крытыцы сярэдневяковых першакрыніц Гісторыкі эпохі Асветніцтва ўвялі ў навуку паняцце *феадалізм*, як грамадскі лад, што панаваў у сярэдневяковай Еўропе Дзякуючы іх намаганням М ў 18 ст стала асобнай гіст дысцыплінай Пэўнай рэакцыяй на ідэі гісторыкаў-асветнікаў было ўзнікненне ў М на мяжы 18—19 ст рамантычнай плыні, прадстаўнікі якой (Ю Мезер, Ж дэ Мэстр, Э Берк і інш ) ідэалізавалі сярэдневякоўе, рацыяналізму супрацьпастаўлялі правідэнцыялізм Значным крокам наперад у развіцці М былі працы вучоных 1-й пал 19 ст французаў Ф Гізо, А Цьеры, Ж Мішле, англічаніна Т Карлайла, немца В Цымермана Гісторыкі таго часу вывучалі пераважна паліт падзеі, юрыд нормы, дзейнасць выдатных асоб 19 ст было часам «палявання за першакрыніцамі» Выдадзеныя ў той час фундаментальныя зборнікі сярэдневяковых дакументаў і ў наш час з'яўляюцца істотнай крыніцазнаўчай базай для медыявістаў

У 1830—40-я г М як навука склалася ў Расіі Каля яе вытокаў стаяў Ц М Граноўскі, які быў прыхільнікам поглядаў Гізо, але аддаваў больш увагі сац праблематыцы Да паліт кірунку ў М належалі П М Кудраўцаў, С В Яшэўскі, У І Гер'е, М А Асокін і інш Сац -эканам праблемы сярэдневякоўя вывучалі І В Лучыцкі, М І Карэеў, М М Кавалеўскі, П Г Вінаградаў, Дз М Петрушэўскі Пераважна праблемамі культуры займаліся М С Карэлін, В А Добіяш-Раждзественская, Л П Карсавін Асн кірункамі ў сусв М 2-й пал 19 ст былі паліт , гісторыка-прававы і пазітывісцкі Прыхільнікі першага (Ф Дан, Г фон Зібель і інш ) канцэнтраваліся на вывучэнні паліт гісторыі, якую лічылі вынікам дзейнасці буйных гіст асоб Гісторыя дзяржавы і права была асн аб'ектам даследаванняў медыявістаў гіст -прававога кірунку (Г Л Маўрэр, У Стэбс, Г Мэйн і інш ) Гісторыкі-пазітывісты (Н Д Фюстэль дэ Куланж, І Тэн, Г Мано і інш ) разглядалі гіст працэс як вынік аднолькавага ўздзеяння эканам , паліт , ідэйнага, псіхал , біял і інш фактараў Вял папулярнасць набыла «вотчынная тэорыя», паводле якой асновай феадалізму з'яўлялася буйная вотчына Марксізм трактаваў сярэдневякоўе як час панавання феадалізму і разглядаў яго як адну з *грамадска-эканамічных фармацый* Марксізм паўплываў на некат еўрапейскіх даследчыкаў, савецкіх медыявістаў 1920—80-х г (Я А Касмінскі, М П Грацыянскі, А І Няўсыхін, С Д Сказкін і інш ) На якасна новы ўзровень канцэптуальнага асэнсавання сярэдневякоўя вывелі М франц вучоныя М Блок і Л Феўр, якія ў 1929 пачалі выдаваць час «Annales» («Аналы»), склалася «школа «Аналаў» На яе базе аформілася некалькі плыней, у т.л «татальная гісторыя» (Ж Ле Гоф), якая вывучае матэрыяльную, духоўную, інтэлектуальную культуру і з'явы паўсядзённасці як адзіны комплекс, «гісторыя ментальнасцей» (Ж Дзюбі, У Раўльф), якая арыентуецца на праблемы сац псіхалогіі і светаўспрымання Блізкія да іх сучасныя кірункі «новай сацыяльнай гісторыі» ў ЗША, Англіі і інш краінах У СССР падобныя даследаванні праводзілі М М Бахцін, А Я Гурэвіч, Ю Л Бяссмертны і інш

На Беларусі ў часы сярэдневякоўя папулярнымі былі візантыйскія «Сусветная хроніка» Іаана Малалы (6 ст ) і «Кароткая гісторыя» Георгія Амартала (9 ст ) Гіст звесткі пра Візантыю, барацьбу сербаў з туркамі ёсць у «Хаджэнні дзяка Ігнація Смальняніна ў Царград і Іерусалім» (канец 14 — пач 15 ст ) Сярэдневяковая гісторыя Зах Еўропы выкладзена ў 1-й частцы «*Вялікай хронікі*» 17 ст Крыніцай для яе паслужыла папулярная ў Беларусі «Хроніка ўсяго свету» М *Бельскага* (16 ст ) На бел мову былі перакладзены «Хроніка польская, літоўская, жамойцкая і ўсяе Русі» М *Стрыйкоўскага*, дзе гісторыя сярэдневякоўя інш краін асвятлялася ў сувязі са знешнепаліт падзеямі (што характэрна і для «*Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага*»), і «Хроніка Еўрапейскай Сарматыі» А *Гваньіні* З папулярных гіст твораў, сюжэтам якіх былі сапраўдныя падзеі сярэдневякоўя, у Беларусі была распаўсюджана перакладная «*Аповесць пра Скандэрбега*»

пра барацьбу албанцаў супраць туркаў-асманаў у 15 ст З 18 ст гісторыя сярэдніх вякоў як частка курса ўсеаг гісторыі вывучалася ў сярэдніх навуч установах, Полацкай езуіцкай акадэміі На высокім узроўні выкладалася гісторыя сярэдневякоўя ў Віленскім ун-це, дзе ў канцы 18 ст існавала кафедра ўсеаг гісторыі Лекцыі чыталі Т Гусажэўскі, І *Лялевель*, І *Анацэвіч* Гусажэўскі ўключыў у свой курс не толькі гісторыю Еўропы, але і краін Усходу Сярод выпускнікоў ун-та быў і вядомы бел арыенталіст В М *Кавалеўскі* Некалькі разоў перавыдавалася праца ўраджэнца Беларусі Ф *Папроцкага* «Еўропа са старажытнейшых часоў» (1756) Сістэмнасцю выкладання вылучаліся падручнік для школ і «Нарыс усеагульнай гісторыі», створаныя ў сярэдзіне 19 ст выкладчыкам Віленскага шляхецкага ін-та А *Здановічам* У 20 ст цэнтрам даследаванняў па М стала кафедра гісторыі стараж свету і сярэдніх вякоў БДУ (у 1934—55 — кафедра гісторыі сярэдніх вякоў) Пачатак бел савецкай школе М паклаў У М *Перцаў* Праблемы гісторыі каталіцкай царквы, пачатку Рэфармацыі, вальнадумства ў сярэдневяковай Еўропе даследаваў Г М *Ліўшыц* Сярэдневякоўе Чэхіі вывучала Н А Гусакова, міжнар адносіны ў познім сярэдневякоўі — Ю Я Івонін Сучасная бел М вызначаецца шырокім спектрам праблематыкі, разнастайнасцю метадалагічных падыходаў Сац адносіны ў сярэдневяковай Еўропе даследуе В І Гарамыкіна, гісторыю Візантыі і Польшчы — Л П Сушкевіч, гісторыю каталіцкай царквы — В А Фядосік, духоўную культуру ранняга сярэдневякоўя — І А Еўтухоў, сярэдневяковы побыт і ранні гуманізм — А Дз Смірнова, сярэдневяковую гісторыю Брытаніі — А І Малюгін, франкскай дзяржавы — А М Сурта, праблемы Адраджэння — А П Вахніна Пра вывучэнне гісторыі сярэдневяковай Беларусі гл ў арт *Гістарыяграфія гісторыі Беларусі* *Ігар Еўтухоў, Андрэй Прохараў, Віктар Фядосік*

**МЕ́ДЭМ** Уладзімір Давыдавіч (Гр ы н б е р г, Віцікі, 1879, Мінск — 9 1 1923), дзеяч яўр рабочага руху Скончыў Мінскую гімназію За рэв дзейнасць у 1899 выключаны з Кіеўскага ун-та і сасланы пад нагляд паліцыі ў Мінск, дзе ўдзельнічаў у сацыяліст руху яўр рабочых Чл Бунда з 1899, Замежнага к-та Бунда з 1903, яго ЦК з 1906 Адзін з аўтараў нац праграмы Бунда У 1901 арыштаваны і прыгавораны да 5 гадоў ссылкі ў Сібір, аднак уцёк за мяжу У рэвалюцыю 1905—07 у Расіі, рэдагаваў легальныя газеты Бунда «Наше слово» (чэрв —жн 1906) і «Наша трибуна» (снеж 1906 — сак 1907) Пасля рэвалюцыі зноў у эміграцыі У 1913 арыштаваны ў Варшаве як рэдактар бундаўскай газ «Лебенс Фраген» («Пытанні жыцця») і прыгавораны да 4 гадоў катаргі, але неўзабаве вызвалены З 1918 адзін з кіраўнікоў Бунда ў Польшчы У 1920-я і адышоў ад паліт дзейнасці, эмігрыраваў у ЗША, дзе займаўся літ працай Аўтар успамінаў

*Тв* Социал-демократия и национальный вопрос СПб, 1906, По царским тюрьмам (Тюремные воспоминания) Л, М, 1924

*Літ* Р а ф е с М Очерки по истории Бунда М, 1923 *Ігар Яцкевіч*

**МЕ́ЕР** Андрэй Казіміравіч (1742—1807), эканаміст, батанік Паходзіў з Саксоніі Паступіў на рас службу, падпалкоўнік Херсонскага грэнадзерскага палка Чл Вольнага эканам т-ва і Вольнага рас сходу пры Маскоўскім ун-це Аўтар «Батанічнага слоўніка» (кн 1—2, 1781—83), гіст-геагр апісання Смелянскага графства (1787, засталося ў рукапісе) і інш У якасці аграном а паходнай канцылярыі Р А Пацёмкіна ў 1785—86 склаў апісанне Крычаўскага староства Магілеўскай губ Даў характарыстыку прадукцыйных сіл уладання ў цэлым і становішча сялян з мэтай пабудовы тут суднаверфі і высялення мясц рускіх стараравераў на Пд імперыі У апісанні змясціў некалькі бел фальклорных твораў, малюнак Крычава, выкананы пейзажыстам-баталістам М М Івановым, і карту ўладання ў маштабе 1 336000, складзеную каптэнармусам Рыжскага батальёна Ц Неразуевым Твор М — каштоўная крыніца па гісторыі і культуры Беларусі Упершыню надрукаваны са скарачэннямі Е Р Раманавым у 1901 Рукапіс зберагаецца ў архіве Казанскага ун-та

*Тв* Описание Кричевского графства 1786 г // Могилевская старина Могилев 1901 Вып 2

*Літ* Настольный словарь для справок по всем отраслям знания СПб, 1864 Т 2 С 831 *Яўген Анішчанка*

**МЕЖАВАЯ КАМІ́СІЯ**, часовы арбітражны орган у ВКЛ для разгляду межавых спрэчак паміж шляхтай і вял князем (інш межавыя спрэчкі вырашаў *падкаморскі суд*) Паводле Статута ВКЛ 1588 вял князь са свайго боку прызначаў у камісію кашталяна або павятовага маршалка, падкаморыя і шляхціца з адпаведнага павета (у выпадку адсутнасці ў павеце кашталяна і маршалка — падкаморыя і 2 шляхціцаў або каралеўскіхураднікаў), супрацьлеглы бок дэлегаваў у М к трох шляхціцаў

**МЕЖАВЫ СУД**, спецыяльны орган у Рас імперыі па размежаванні зямельных уладанняў для аддзялення дзярж уласнасці ад прыватнай і царкоўнай Створаны ўказам 6(18) 11 1810 у кожным павеце зах губерняў імперыі, у т л Гродзенскай і Мінскай Разглядалі справы па хадайніцтве землеўласнікаў Дзейнічалі паводле норм *Статута Вялікага княства Літоўскага 1588*, з прымяненнем прынцыпу 10-гадовай *земскай даўнасці*, што дазваляла землеўласнікам пераўтвараць неадсуджаныя захопленыя землі і ўгоддзі, якія знаходзіліся ў часовым іх грыманні, у спадчынныя М с падзяляліся на суды 1 й інстанцыі (гранічны суддзя, 2 арбітры ад бакоў, рэгент, каморнік) і суды 2-й інстанцыі (апеляцыйныя), колькасць членаў суда — да некалькіх дзесяткаў чал, абраных ад павятовага дваранства Як кантрольныя дзярж органы ў 1815—18 створаны апеляцыйныя губернскія М с Яны не паспявалі рэвізаваць дзейнасць павятовых судоў і праціддзейнічаць раскраданню з дапамогай апошніх дзярж маемасці, таму Дзярж савет 21 3(2 4) 1823 забараніў рэалізоўваць пастановы павятовых М с і прызначыў рэвізію іх дзейнасці ўпаўнаважанымі пракурорамі і *казеннымі палатамі* Землеўласнікі павінны былі даказваць законнасць ранейшых зямельных набыццяў праз М с У выніку бяздзейнасці гэтых судоў самадзяржаўе стала пасіўным патуральнікам абеззямельвання дзярж сялян і ўзбуйнення «польска-каталіцкага» землеўладання У гэты час *чыншавая шляхта* і *ваколічная шляхта* атрымалі статус асобнага саслоўя, што дазволіла ім набываць дваранскія правы на зямлю шляхам судовага межавога працэсу Па гэтых прычынах М с скасаваны указам 25 6(7 7) 1840 разам з адменай Статута ВКЛ 1588 і ўвядзеннем у Беларусі рас законаў З гэтага часу межавыя спрэчкі вырашаліся на падставе агульнадзярж рас заканадаўства

*Літ* Р у б и н ш т е й н С Ф Судьба межевого дела в губерниях Западного края Вильна, 1895, А н і ш ч а н к а Я К Сеймавы праект 1788 г і яго рэалізацыя царызмам // Весці АН БССР Сер грамад навук 1991 № 5, Я г о ж. Праект Генеральнага межавання заходніх губерняў Расійскай імперыі ў першай палове XIX ст // Весці АН Беларусі Сер гуманіт навук 1997 № 3, Я г о ж Канец Статута Вялікага княства // Чырвоная змена 1996 8 лют *Яўген Анішчанка*

**МЕЖАВЫ́Я ЗНАКІ**, абазначэнні граніц зямельных уладанняў, спрэчных месцаў і правоў на зямлю Найб пашыранымі і трывалымі М з былі прыродныя ўрочышчы рэчкі, азёры, багны, заломы і інш Межы апрацаванай зямлі пазначалі разорай, следам, сцяной з камянёў, насыпалі капцы На капцах ставілі драўляныя крыжы або выкладалі іх з камянёў, знізу закопвалі каменне, вугалле, шкло, цэглу і розныя гасп рэчы, якія павінны былі сведчыць, што насып мае штучнае паходжанне У лясістай мясцовасці мяжу мецілі знакамі на дрэвах (надрэзы, зачосы, засечкі) Былі пашыраны агароджы ў выглядзе калкоў, расстаўленых паасобна або сплеценых у загарадзь ад жывёлы Пры межаваннях 18—19 ст выкарыстоўвалі стандартныя драўляныя слупы з выявамі дзярж герба, колер слупа сведчыў аб прававым характары ўчастка (чорныя, абпаленыя ставілі на спрэчных межах, белыя, акораныя — на бясспрэчных) Месцазнаходжанне М з апісвалі асобна ў дакументах і пазначалі на картах умоўнымі знакамі

*Літ* T y m o w s k i S J Dziedzina władania na ziemiach polskich a jej granice w historycznym rozwoju // Przegląd Geodezyjny 1961 N 7 *Яўген Анішчанка*

га Дзеннікі Спыткі З запісных кніжак» (1977)

На Бел тэлебачанні пастаўлены тэлеспектаклі паводле раманаў «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы» (1965), паводле рамана «Завеі, снежань» (1979), паводле твораў пісьменніка пад назвай «Сустрэчы і ростані» (1973), зняты шматсерыйны тэлефільм паводле рамана «Людзі на балоце» Бел тэатр імя Я Купалы паставіў спектакль «Людзі на балоце» (1966) Па матывах гэтага рамана К Цесакоў стварыў радыеоперу «Барвовы золак» (1978) На студыі «Беларусьфільм» рэжысеры В Тураў і Д Зайцаў па «Палескай хроніцы» паставілі маст фільмы «Людзі на балоце» (1982, Дзярж прэмія СССР 1984) і «Подых навальніцы» (1983) Жыццю і творчасці М прысвечаны дакумент фільм «Іван Мележ» (сцэнарый В Адамчыка, 1978) і відэафільм «Лес і кніті Івана Мележа» Выдадзена кніга «Успаміны пра Івана Мележа» (1982) і фотаальбом «Сказ пра Івана Мележа» (1984) Яго імем названы вуліцы ў Мінску, Хойніках, Кобрыне, г п Лельчыцы, в Глінішча, школы, б-кі і інш У Мінску на доме, дзе жыў пісьменнік, устаноўлена мемарыяльная дошка У Глінішчах адкрыты літ музей І Мележа (1983) У 1980 устаноўлена літ прэмія Саюза пісьменнікаў Беларусі імя М

*Тв* Зб тв Т 1—10 Мн, 1979—85

*Літ* Казека Я Дарога па зямлі // Казека Я Натхненне і майстэрства Мн, 1963, Шкраба Р Ад праўды жыцця // Шкраба Р Характар, стыль, дэталь Мн, 1965 Куляшоў Ф Іван Мележ. Мн, 1968, Адамовіч А. Вяртание наперад // Адамовіч А Здалек і зблізку Мн, 1976, Смыкоўская В І Творчая канцэпцыя пісьменніка Мн, 1976, Бугаеў Дз Вериасць прызванню Творчая індывідуальнасць Івана Мележа Мн, 1977, Гніламедаў У Іван Мележ Мн, 1984, Юрэвіч У Лес чалавека — лес народа // Юрэвіч У Выбранае Мн, 1987, Драздова З У Майстэрства слова Мн, 1993, Шупенька Г З думай пра народ, На вышыні жыцця, З высокай годнасцю // Шупенька Г Прага мастацкасці Мн, 1996

*Анатоль Верабей*

**МЕЛІШКЕ́ВІЧ** Уладзімір Ульянавіч (1 7 1942, в Лышчыцы Брэсцкага р-на — 7 7 1994), бел гісторык Канд гіст н (1979), праф (1991) Скончыў БДУ (1965) З 1965 настаўнік, з 1969 на парт рабоце З 1982 заг кафедры Брэсцкага інжынерна-будаўнічага ін-та, у 1984—94 заг кафедры, прарэктар, дэкан гіст ф-та Брэсцкага пед ін-та Даследаваў праблемы гісторыі культуры, бел-рас-укр культурных дачыненняў Адзін з аўтараў кн «Нарысы гісторыі Брэсцкай абласной партарганізацыі» (1989)

*Тв* Русско-белорусские культурные связи второй половины XIX в Мн, 1984

*Ігар Шаўчук*

**МЕЛІЯРА́ЦЫЯ** (лац melioratio паляпшэнне), комплекс гідратэхнічных і гаспадарча-арганізацыйных мерапрыемстваў, накіраваных на карэннае паляпшэнне глебы Надае ўстойлівасць і стабільнасць с-г вытв-сці, эфектыўнасць у выкарыстанні ўгнаенняў, сродкаў механізацыі і інш Рост эканам урадлівасці зямель як нац набытку і сродку забеспячэння патрэбнасцей насельніцтва ў прадуктах харчавання і сыравіне для прам-сці з'яўляецца канцэптуальнай асновай развіцця М Рэспубліка Беларусь адносіцца да зоны перыядычна павышанага і нераўнамернага ўвільгатнення Таму для стабільнага развіцця земляробства неабходна ў пэўныя перыяды адводзіць лішак вільгаці, а ў час засухі, наадварот, падаваць ваду ў кораненаселеныя пласты глебы Балоты і пераўвільготненыя землі на Беларусі займалі 7,6 млн га (з 20 млн га ўсей яе тэрыторыі), ці 83% с-г угоддзяў, і абумоўлівалі нізкі ўзровень развіцця сельскай гаспадаркі, што выклікала неабходнасць М

На Беларусі меліярацыйныя работы маюць шматвяковую гісторыю Паводле архіўных дакументаў 17 ст, сяляне пастаянна адваёўвалі ў балот зямлю З 2-й пал 18 ст маштабы М пашырыліся У гэты час пабудаваны *Агінскі канал* і *Дняпроўска-Бугскі канал*, якія акрамя навігацыйнай і лесасплаўнай функцый садзейнічалі асушэнню прылеглых да іх тэрыторый У 1853 Мін-ва дзярж маемасцей разаслала губернскім палатам цыркуляр з прадпісаннем распачаць асушэнне балот, «лічачы гэта справай важнейшай і першым крокам да агульнага добраўпарадкавання» Асушэнне ажыццяўлялася шляхам буд-ва адкрытых каналаў, на асобных участках — водарэгулявальных збудаванняў У 1854—56 на землях Горы-Горацкага земляробчага ін-та быў асушаны вучэбны ўчастак з дапамогай керамічнага дрэнажу З 1856 пры ін-це праходзілі практыку спецыялісты па асушэнні На аснове пошукаў, праведзеных *Заходняй экспедыцыяй па асушэнні балот Палесся 1873—98* (кіраўнік палк І І *Жылінскі*), быў распрацаваны план асушэння Палесся на пл 8 млн дзесяцін Экспедыцыяй было асушана 450 тыс га балот Аднак з-за адсутнасці сродкаў ажыццяўленне яго амаль спынілася, Зах экспедыцыя была ліквідавана, яе функцыі перададзены мясц упраўленням земляробства і дзярж маемасцей У 1910 меліярацыйныя работы актывізаваліся Па хадайніцтве Мінскага губ к-та па справах земскай гаспадаркі на Камароўскім балоце (пл 150 га) у 1911 створана першая ў Расіі доследная балотная станцыя (цяпер у межах Мінска) У 1-ю сусв і грамадз войны многія сістэмы выйшлі са строю Аднаўленне старых і буд-ва новых меліярацыйных аб'ектаў у БССР праводзілася ў 1921—25 Да 1924 у сельскай мясцовасці створаны 254 меліярацыйныя т-вы, якія аб'ядноўвалі 13 890 чал Перспектыўны план меліярацыйных работ у рэспубліцы на 1925—33 (зацверджаны 19 3 1925) прадугледжваў М зямель на пл 188,4 тыс дзесяцін На асушаных балотах арганізоўваліся калгасы і саўгасы Адной з першых такіх гаспадарак быў сучасны калгас імя БВА ў Любанскім р-не Паводле пастановы СНК СССР ад 18 5 1930, на базе аддзела меліярацыі і культуры балот Бел НДІ сельскай і лясной гаспадаркі і Мінскай доследнай балотнай станцыі створаны Усесаюзны н-д балотны ін-т (цяпер Бел НДІ меліярацыі і лугаводства), задачай якога было вывучэнне балот і лугоў з боку іх прыроды, культуры, эканомікі і выкарыстання 6 3 1941 СНК СССР і ЦК ВКП(б) зацвердзілі план, які прадугледжваў за 15 гадоў асушыць і асвоіць на Беларусі 4 млн га балот Да сярэдзіны 1941 было асушана больш за 150 тыс га У Вял Айч вайну большасць каналаў і збудаванняў на іх былі разбураны, асушаныя землі пачалі забалочвацца Пасля вызвалення Беларусі ад ням-фаш захопнікаў меліярацыйныя сістэмы ў асн былі адноўлены да 1950 У адпаведнасці з рашэннем XIX з'езда КПСС (1952) прадугледжвалася правесці вял работу па асушэнні балот у БССР і ў першую чаргу ў Палескай нізіне Распрацоўка схемы М зямель пачата ў 1940, удакладнялася ў 1956 і 1968 Буйнамаштабныя меліярацыйныя работы пачаліся на Палессі У 1976 пры Мін-ве меліярацыі і воднай гаспадаркі БССР утвораны Міжведамасны навукова-тэхн савет па праблемах меліярацыі (з 1978 Міжведамасны навукова-тэхн савет па праблемах меліярацыі пры СМ БССР), а таксама Савет па праблемах Палесся АН БССР (1966) У 1970 бел навук і праектныя ўстановы распрацавалі «Асноўныя напрамкі ў меліярацыйным будаўніцтве і выкарыстанні меліяраваных зямель», якія з улікам навейшых дасягненняў навукі і практыкі ўдакладняліся ў 1979 і 1991 Да 1995 у Рэспубліцы Беларусь асушана 2,8 млн га пераўвільготненых угоддзяў, меліярацыйныя сістэмы з закрытым дрэнажам пабудаваны на пл каля 2 млн га, асушальна-ўвільготненыя — на пл 740 тыс га, польдэрныя — на пл 250 тыс га, у 860 вадасховішчах і сажалках акумулюецца больш за 1 млрд $м^3$ вады для рэгулявання воднага рэжыму глебы і інш гасп патрэб, а таксама для рэкрэ-

**Табліца правядзення меліярацыйных работ у Беларусі ў 1951—94**

| Гады | Асушана, тыс га | У т л | |
|---|---|---|---|
| | | новае асушэнне | рэканструкцыя |
| 1951—55 | 215 | 146 | 69 |
| 1961—65 | 871 | 593 | 278 |
| 1971—75 | 836 | 560 | 276 |
| 1981—85 | 507 | 321 | 186 |
| 1986—90 | 541 | 380 | 161 |
| 1992 | 65 | 36 | 29 |
| 1993 | 49 | 25 | 24 |
| 1994 | 40 | 21 | 19 |

ацы, пракладзена больш за 20 тыс км дарог На асушаных масівах арганізавана 45 саўгасаў У 1986—90 на меліраваных землях штогод вырошчвалася больш за $^{1}/_{3}$ усей раслінаводчай прадукцыі і каля 70% зялёных кармоў Сярэдняя прадукцыйнасць складала 33 ц, а на ворнай зямлі — 45 ц з га ў збожжавым эквіваленце Для забеспячэння меліярацыйнага буд-ва на Беларусі была створана магутная вытв база буд індустрыі Аднак, нягледзячы на буйнамаштабныя работы, да нашага часу Беларусь не дасягнула нават сярэднесусв паказчыкаў асваення меліярацыйнага фонду Ні адна з праграм М не была даведзена да канца Іх ажыццяўленню перашкаджалі адсутнасць сродкаў, розныя сац рэформы, крызісныя з'явы ў эканоміцы *Пётр Чэрнік*

**МЕЛХІСЕДЭ́К** (у свеце Паеўскі Міхаіл Львовіч, вер 1878, с Вітулін Канстанцінаўскага пав Седлецкай губ, цяпер Бельска-Падляскае ваяв, Польшча — 17 5 1931), бел праваслаўны царкоўны дзеяч Скончыў Казанскую духоўную акадэмію (1904) Выкладаў у *Магілёўскай духоўнай семінарыі* (1904—05) Настаяцель *Магілёўскага брацкага манастыра* (1905—07), Бялыніцкага і Херсонскага Уладзімірскага манастыроў (1907—14) З 1914 епіскап таўрычаскі, архіепіскап астраханскі З 1919 вікарны епіскап слуцкі, епіскап мінскі і тураўскі З ліп 1922 мітрапаліт мінскі і беларускі Выступаў супраць абнаўленцаў, якія стварылі *Беларускую аўтаномную праваслаўную царкву* Стаў прыхільнікам абвяшчэння *Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы* У 1925 на адкрытым паліт працэсе ў Мінску прыгавораны да 3 гадоў зняволення ўмоўна па абвінавачанні ў «раскраданні царк маемасці» і «контррэв прапагандзе» У тым жа годзе пасля арышту ў Маскве сасланы на пасяленне ў Краснаярскі край З 1927 архіепіскап краснаярскі, з 1930 у Маскве, абраны ў Сінод Рус правасл царквы Раптоўна памёр у Дарагамілаўскім саборы

*Літ* Мартос А. Беларусь в исторической государственной и церковной жизни Мн, 1990 С 259—262, Працька Т Пакутнік за веру і бацькаўшчыну Мн, 1996 *Тацяна Процька*

**МЕ́ЛЬНІК** Федар Іванавіч (9 9 1942, в Буда Крупскага р-на — 20 4 1991), бел гісторык Канд гіст н (1972) Скончыў БДУ (1968) З 1971 на выкладчыцкай рабоце ў БДУ (з 1977 дацэнт) Даследаваў гісторыю рабочага класа, міжнар камуніст руху, знешнепаліт праблемы Аўтар метадычных распрацовак т-ва «Веды»

*Тв* Воспитание коммунистического отношения к труду // Формирование классового сознания трудящихся Мн, 1984 *Уладзімір Коршук*

**МЕ́ЛЬНІКАЎ** Аляксей Анатолевіч (9 11 1962, Гомель — 13 8 1995), бел літаратуразнавец Канд філал н (1990) Скончыў Мазырскі пед ін-т (1983) Працаваў настаўнікам у школах Мазыра З 1989 навук супрацоўнік Ін-та л-ры імя Я Купалы АН Беларусі Даследаваў стараж слав л-ру, пісьмовую спадчыну бел народа, духоўную культуру ўсх славян эпохі сярэдневякоўя Вывучаў агіяграфічную л-ру, у т л пра жыцці Ефрасінні Полацкай, інш бел святых Даследчык жыцця і творчасці Кірылы Тураўскага, падрыхтаваў збор яго твораў Укладальнік «Кнігі жыццй і хаджэняў» (1994)

*Тв* Путь непечален Ист свидетельства о святости Белой Руси Мн, 1992, Преподобная Евфросиния Полоцкая Мн, 1997, Кірыл, епіскап Тураўскі Мн, 1997 *Вячаслаў Чамярыцкі*

Мелхіседэк

А.А.Мельнікаў.

**МЕ́ЛЬНІКАЎ** Андрэй Аляксандравіч (11 4 1968, Магілёў — 8 1 1988), Герой Сав Саюза (1988) Скончыў Магілёўскае ПТВ № 1 (1986) З 1986 у Сав Арміі, удзельнік вайны ў Афганістане 1979—89 Гераічна загінуў у баі Пахаваны на радзіме У Магілёве штогод праводзіцца турнір па барацьбе дзю-до памяці М

**МЕ́ЛЬНІКАЎ** Андрэй Іосіфавіч (1914, в Колбава Бабруйскага пав, цяпер у Кіраўскім р-не — 29 10 1943), Герой Сав Саюза (1943) Скончыў Магілёўскі педтэхнікум (1936), Харкаўскае ваеннапаліт вучылішча (1941) У Вял Айч вайну з 1941 на фронце капітан, нам камандзіра дывізіёна Вызначыўся на Украіне ў 1943 у баях за г Бахмач, дзе кіраваў агнём 4 гармат, і 26 вер пры фарсіраванні Дняпра на Пн ад Кіева, дзе кіраваў боем, у якім знішчаны мінамётныя і процітанк батарэі, 4 кулямётныя кропкі, шмат жывой сілы ворага Загінуў у баі

**МЕ́ЛЬНІКАЎ** Міхаіл Федаравіч (16 5 1921, г Крычаў — 30 6 1993), бел краязнавец Засл работнік культуры БССР (1979) Вучыўся ў БДУ У 1939 выкладаў рус мову і л-ру ў школе г Гудаута (Абхазія) Рэпрэсіраваны, засуджаны на 5 гадоў зняволення ў лагер Варкуты У 1950 вярнуўся на радзіму, працаваў у вясковай б-цы, дырэктарам Дома культуры ў Крычаве У б-ках і архівах збіраў матэрыялы па гісторыі Крычаўшчыны і пра яе выдатных ураджэнцаў для *Крычаўскага краязнаўчага музея*, стваральнікам і дырэктарам якога быў у 1961—82 (з 1982 навук супрацоўнік) Аўтар кніг «З сям'і сакалінай» (1973), «Атакуючае юнацтва» (1980), «Ішоў край наш шляхам стагоддзяў» (1987), сцэнарыяў дакумент фільмаў «Барацьба і творчасць» (1967) і «Песню вялі на расстрэл» (1968), артыкулаў пра выдатных дзеячаў, герояў бел народа ў зб «У рэдакцыю не вярнуўся » (1964), «Мы не забылі вас, хлопцы» (1968), «Пабрацімы Матросава» (1984) Адзін з аўтараў «Нарысаў гісторыі народнай асветы і педагагічнай думкі ў Беларусі» (1968) *Наталля Марозава*

**МЕ́ЛЬНІКАЎ** Павел Іванавіч [псеўд Андрэй Пячэрскі, 25 10(6 11) 1818, г Н Ноўгарад, Расія — 1(13) 2 1883], рускі пісьменнік, этнограф, гісторык Скончыў Казанскі ун-т (1837) У 1847—66 чыноўнік асобых даручэнняў пры ніжагародскім ген -губернатары (выконваў таксама заданні МУС), займаўся справамі стараверaў Як гісторык вывучаў пераважна стараверства і рэліг сектанцтва У «Нарысах папоўшчыны» падрабязна разглядзеў гісторыю рассялення і рэліг дзейнасці стараверaў у раёнах Веткі і Гомеля, гісторыю стараверскага Лаўрэнцьева манастыра каля Гомеля У нарысе «Князеўна Гараканава і прынцэса Уладзімірская» паказаў гісторыю самазванкі 18 ст, якая называла сябе дачкой рас імператрыцы Лізаветы Пятроўны, пры гэтым выказаў свой погляд на ролю магнатаў ВКЛ у гэтай справе (М Казіміра Агінскага і К С Радзівіла)

*Тв* Социалистической Болгарии — 20 лет Мн , 1964, Советско болгарские отношения (1917—1935 гг ) Мн , 1975, Национальной свободе Болгарии 100 лет Мн 1978 (разам з Й Тончавым), Белоруссия и Болгария Дружба вечная, нерушимая, 681—1981 Мн , 1981

*Петр Бараноўскі*

**МЕМАРЫЯЛ ВО́ІНСКАЙ СЛАВЫ** на Лудчыцкай вышыні Адкрыты 24 6 1984 за 1,5 км ад в Лудчыцы Быхаўскага р-на на месцы жорсткіх баеў за вызваленне Беларусі ў 1943—44 Аўтары — скульптары П Белавусаў, У Лятун арх В Бялянкін і М Мызнікаў, інж Б Шчарбакоў (Дзярж прэмія Беларусі (1986) Сэнсавая дамінанта мемарыяла — пастаўленая на ўзгорку сімвалічная фігура Баяна (выш 10 м, сілумін), які апявае подзвіг воінаў-герояў Каля падножжа ўзгорка авальная пляцоўка, па краі яе на рэльефнай сцяне змешчаны гарэльефныя партрэты Герояў Сав Саюза якім прысвоена гэта званне за баі на Быхаўшчыне І А Барысевіча, П Дз Вінічэнкі, С Іскалієва, У К Мартынава, І С Размадзе, Г Якубава (выш каля 3,5 м, бетон, мармуровая крошка) На пляцоўцы размешчаны гранітная пліта з бронзавай пяцікантовай зоркай, чаша для запальвання рытуальнага агню і аблiцаваная гранітам стэла (выш каля 3 м) з інфармацыйным надпісам

**МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДО́ШКА** (ад лац memorialis памятны), памятная металічная, мармуровая ці гранітная пліта з тэкстам, часам з выявай або сюжэтнай кампазіцыяй, якая ўвекавечвае знамянальную падзею, дату ў гісторыі краіны, мясцовасці, населенага пункта ці ў жыцці выдатнай асобы Звычайна ўстанаўліваюцца на сценах дамоў, у інтэр'ерах грамадскіх будынкаў у гонар падзей

падпольшчыкау Вщебшчыны ў Вщеб
ску) і скульпт (*Манумент у гонар маці патрыеткі* ў Жодзіне) манументау і інш Сучасным М к уласцівы сінгэз архітэктуры, ландшафту скульптуры, манументальна дэкаратыўнага жывапісу з выкарыстаннем асвятлення і гуку што садзейнічае раскрыццю тэмы і ўлічвае эстэтычныя запатрабаванні грамадства

*Літ* Памяць зямлі беларускай Мн 1979

*Сяргей Сергачоу*

рэв руху, Вял Айч вайны, выдатных парт, сав, дзярж і ваен дзеячаў, дзеячаў навукі і культуры і інш На Беларусі М д вядомы з 19 ст А Міцкевічу ў Навагрудку, У Сыракомлі ў Нясвіжы Найб пашыраны тэкставыя М д Для ўзбагачэння маст вобраза ў кампазіцыю дошак часта ўключаюць выявы сімвалы віду дзейнасці асобы, якой яна прысвечана выявы партызан на М д І Дз Варвашэні, факел свабоды на дошцы М М Мураўеву, кніга на М д Міколу Гусоўскаму і інш Да 1990 на Беларусі ўстаноўлена больш за 850 М д

Да арт **Мемарыяльная дошка**

**МЕМАРЫЯЛЬНЫЯ КО́МПЛЕКСЫ**, архітэктурна скульптурныя ансамблі якія ствараюцца для ўвекавечання памяці асоб, знамянальных гіст падзеи На Беларусі стварэнне М к пайшло ад традыцыі ставіць драўляныя мемарыяльныя крыжы У 18—19 ст будавалі мемарыяльныя калоны (в Лявонпаль у Міёрскім р не), драўляныя трыумфальныя аркі (Нясвіж, Шклоў) У 1906—12 у в *Лясная* (Слаўгарадскі р-н) у гонар перамогі 1708 над шведамі пабудаваны М к, які складаецца з манумента, мемарыяльнай капліцы і абеліска на брацкіх могілках У 1912 у гонар 100-годдзя перамогі ў вайне 1812 пастаўлены помнікі-абеліскі ў Віцебску, Полацку і помнік з марцірамі ў Кобрыне Пасля 1945 створаны шэраг М к, прысвечаных падзеям Вял Айч вайны на месцы спаленых весак Літавец (скульптар С Гарбунова, архітэктары В Яўсееў і В Здасюк, 1987) у Дзяржынскім р-не, Дальва (скульптар У Церабун, прэмія Ленінскага камсамола Беларусі, 1974) і *Хатынь* у Лагойскім, «*Праклен фашызму*» ў в Шунеўка ў Докшыцкім р нах, знішчэння ням фаш захопнікамі сав і замежных грамадзян (в Брыцалавічы ў Асіповіцкім р-не, Урочышча Гай каля Баранавіч), партыз стаянак (*Зыслаў* у Любанскім р не, ва ўрочышчы Хаван шчына Івацэвіцкага р на), бітваў Сав Арміі (*Курган Славы Савецкай Арміі — вызвалицельніцы Беларусі*, «Кацюша» ў Оршы, *мемарыял воінскай славы* на Луд чыцкай вышыні ў Быхаўскім р не) і партызан («*Прарыў*» ва Ушацкім р не), гераічнай абароны («*Брэсцкая крэпасць-герой*»), на памятных мясцінах братэрства па зброі (М к савецка польскай баявой садружнасці ў в *Леніна* Горацкага р-на) Многія М к ў 1960—80 я і створаны ў выглядзе арх (М к у гонар сав воінаў-вызваліцеляў, партызан і

Мемарыяльны комплекс у гонар савецкіх воінаў вызваліцеляў, партызан і падпольшчыкаў Віцебшчыны Віцебск.

Мемарыяльны комплекс Дальва

**МЕМУА́РЫ** гістарычныя (франц mémoires, ад лац memoria памяць), успаміны пра мінулае, напісаныя ўдзельнікамі або сведкамі якіх-н падзей, адзін з відаў гіст крыніц Дакладных граней, якія аддзяляюць М ад інш крыніц асабістага паходжання, няма Да М набліжаюцца *дзеннікі*, творы аўтабіягр жанру, дакумент л-ра Паводле паходжання М — суб'ектыўная крыніца, таму ім уласціва і тэндэнцыйнасць Значны ўплыў на М мае не толькі асоба аўтара, але і гіст час, у які яны напісаны Як дакументы свайго часу М маюць вял гіст каштоўнасць

Некаторыя з М — выдатныя маст творы (напр, «Новае жыццё» Дантэ, «Споведзь» Ж Ж Русо, «Былое і думы» А І Герцэна, «Гісторыя майго сучасніка» У Г Караленкі, «Успаміны і разважанні» Г К Жукава) На Беларусі М з'явіліся ў канцы 16 — 1-й пал 17 ст У «Дзённіку» Ф Еўлашоўскага, «Дыярыушы» А Філіповіча традыцыі бел летапісання спалучаны з асабістымі запісамі, што дало магчымасць стварыць шырокую панараму тагачаснага грамадска-паліт жыцця, ахарактарызаваць многіх гіст асоб, паказаць жыццё розных слаёў грамадства У мове твораў шмат паланізмаў (Еўлашоўскі) або царкоўнаславянізмаў (Філіповіч) На працягу 17 ст М на Беларусі ствараліся на польск мове (П Бжастоўскі, А Каменскі-Длужык, С Незабітоўскі, Я Храпавіцкі і інш ) У 18 ст гал мемуарныя творы («Успаміны» К Завішы, М Залескага, Ю Нямцэвіча, «Успаміны пра жыццё» Л Галамбеўскага, «Дыярыушы» У Лапацінскага, М Радзівіла і інш) Аднак з'явіліся творы на мяшанай бел -укр мове («Жыццё і пакуты» І Турчыноўскага), у канцы 18 ст — на рус мове («Запіскі» А Луніна, С Тучкова, Л Энгельгарта, «Аўтабіяграфічная запіска» В Марчанкі, «Сапраўднае апавяданне» Г Дабрыніна, «Жыццё» А Пішчэвіча і інш ) Мемуарыстыка 18 ст — каштоўная крыніца па гісторыі Беларусі, яна адлюстроўвае становішча розных сац слаёў Многія аўтары М былі адначасова пісьменнікамі, філосафамі У іх успамінах шмат звестак пра літ жыццё Беларусі 18 ст, падаюцца матэрыялы па гісторыі тэатра, музыкі, выяўл мастацтва Ураджэнцы Беларусі ў сваіх М апісвалі таксама жыццё і побыт іншых народаў (Ю Копаць, С Майман, Ф Цяцерскі і інш ) М Беларусі ў 19 ст шматмоўныя, значную іх частку складаюць творы на рус мове Напісаны яны пераважна прадстаўнікамі рус інтэлігенцыі, чыноўніцтва, якія жылі і працавалі ў Беларусі (М Багамолаў, М Бярэзін, Ф Глыбоўскі, А Ламачэўскі, Ф Міркові ч, І Нікоцін, М Палявой і інш ) На рус мове напісаны «Далекія гады», «Літаратурныя сустрэчы і знаемствы» С Акрэйца, «Успаміны» Ф Булгарына, «Дзённік» М Вежбаловіча, «Па Заходнім краі, стары і новы» У Кігна (Дзедлава), «З майго мінулага» І Корвін-Кучынскага, «У Смаргоні» М Пяскавога, «Мазыршчына» і «Падарожжа па Палессі і Беларускім краі» П Шпілеўскага, «З успамінаў беларуса» П Чабодзькі, успаміны З Даленгі-Хадакоўскага, М Нікіфароўскага, М Сямеўскага і інш ураджэнцаў Беларусі, якія адлюстроўвалі праявы мясц грамадска-культ жыцця Развівалася і польскамоўная мемуарыстыка Беларусі, да якой адносяцца «Успаміны з мінулага» А Адынца, «У даўнейшыя гады» С Акуліча, «Вандроўка па малых дарогах» К Буйніцкага, «З выгнання» і «Нататкі ўспамінаў» Т Зана, «Мае дагістарычныя ўспаміны» Т Корзана, «Успаміны аб паўстанні 1863 і ў Мінскім ваяводстве» В Коршыца (В Валодзькі), «З успамінаў навагрудскага шляхціца» К Крашэўскага, «З-над Віліі і Немана» і «Навагрудак у XIX стагоддзі» Э Паўловіча, «З успамінаў выгнанца» А Свентажэцкага, «З жыцця літвінкі» А Скірмунт, успаміны Э Кавалеўскага, Э Масальскага, Л Патоцкага і інш ураджэнцаў і жыхароў Беларусі На польск мове напісаны мемуарныя або блізкія да мемуарных творы бел і бел -польскіх пісьменнікаў 19 ст — успаміны пра кампазітара М Грушвіцкага і бібліятэку Ю Бергеля ў Слуцку Ельскага, «Малюнкі з узбярэжжаў Немана» В Каратынскага, «Літоўскія абразкі» А Кіркора, «З крывавых дзён» Я Лучыны, «Манюшка ў Мінску» А Плуга, «Успаміны» Ф Савіча, «Вандроўкі па маіх былых ваколіцах» У Сыракомлі і інш Толькі ў канцы 19 ст ва ўспамінах «З папер Альгерда Абуховіча» ў М Беларусі адбыўся зварот да бел мовы Мемуары Абуховіча — каштоўны гіст твор, які адлюстроўваў агульную тэндэнцыю М 19 ст — іх набліжэнне да жанраў маст прозы Адначасова побач з выхадцамі з дваранства іх пачалі пісаць аўтары з сялян (Л Корхаў, А Крылоў), разначыннай інтэлігенцыі (Сініцкі), рабочых (Я Гурвіч, М Макарэвіч і інш ) Ураджэнцы Беларусі ў мемуарных творах апісвалі жыццё інш народаў — Сібіры (Б Дыбоўскі), Кітая (В Кавалеўскі), Паўд Амерыкі (І Дамейка) Да бел тэматыкі звярталіся ў сваіх успамінах прадстаўнікі рус (У Крастоўскі, І Лажэчнікаў, Д Мацкевіч, Ф Рашэтнікаў) і польск (А Гроза, Ю Крашэўскі, Я Маяркевіч) літаратур

*Мемуарыстыку* 20 ст стымулявалі вял сац ўзрушэнні, рэвалюцыі і войны Кастр рэвалюцыя 1917 спрыяла змяненню сац складу мемуарыстаў Аўтарамі М у першую чаргу выступаюць дзеячы і ўдзельнікі рэв руху, грама дзянскай вайны, пабудовы сав грамад ства, Вял Айч вайны Выходзяць серыі М — «Ваенныя мемуары», «Літаратурныя мемуары» У БССР выдадзены зб-кі ўспамінаў «У барацьбе за Кастрычнік у Беларусі і на Заходнім фронце» (1957), «У суровыя гады падполля» (1958), «У барацьбе за Савецкую ўладу» (1967), «Гераічная абарона» (4-е выд, 1971), «Бут у агні» (3-е выд, 1977), «У лясах Беларусі» (1977) і інш Выдавецтва «Беларусь» з 1971 выпускала серыю «Мемуары» Шырока вядомы кнігі ўспамінаў бел пісьменнікаў («Памятныя сустрэчы» М Хведаровіча, «Вачыма часу» М Лужаніна, «Некалькі хвілін чужога жыцця» Я Скрыгана, «Вяртанне ў маладосць» С Шушкевіча, «Споведзь» Л Геніюш, «Дзённік» Я Драздовіча), зб кі ўспамінаў пра выдатных людзей навукі, л-ры і мастацтва, грамадскіх дзеячаў Я Купалу, Я Коласа, М Багдановіча, М Гарэцкага, Ц Гартнага, М Лынькова, І Мележа, В Таўлая, У Галубка, Р Шырму, В Харужую, С Прытыцкага, зб-кі аўтабіяграфій пісьменнікаў «Пяцьдзесят чатыры дарогі», «Пра час і пра сябе», «Вытокі песні» Культурнаму жыццю Беларусі прысвечаны творы П Мядзелкі «Сцежкамі жыцця», З Азгура «Незабыўнае», Ц Сяргейчыка «Нататкі акцёра», Я Рамановіча «Знаемыя сілуэты» і інш Значная колькасць М прысвечана партыз руху ў Беларусі ў гады Айч вайны («Людзі асобага складу» В Казлова, «Партызаны прымаюць бой» У Лабанка, «Вечны агонь» Р Мачульскага, «Партызанская рэспубліка» П Калініна і інш ) Характэрнай рысай М сав часу з'яўляецца адыход на другі план жыцця аўтара, якое праглядвае толькі праз прызму грамадскай, паліт, ваеннай ці іншай дзейнасці У іх пераважае т зв «станоўчы ўхіл», крытычныя моманты ў адносінах да падзей у краіне амаль адсутнічаюць Змена сац паходжання мемуарыстаў прывяла да таго, што яны часцей, чым у 19 ст, прыцягваюць да запісу сваіх твораў пісьменнікаў і журналістаў, якія робяць літ запіс М Запісам успамінаў займаюцца навук і грамадскія ўстановы (Ін-т гісторыі Нац АН Беларусі, Ін-т гісторыі партыі пры ЦК КПБ, Камісія па гісторыі Вял Айч вайны пры ЦК КП(б)Б і інш ) У 20 ст ў Беларусі надрукаваны сотні мемуараў, толькі па гісторыі Вял Айч вайны іх больш за 200 назваў У архівах, музеях, бібліятэках і ў

Да арт **Мемуары** Тытульны ліст успамінаў С Р Пільштыновай (Русецкай) 1760

прыватных асоб захоўваецца шмат рукапісных успамінаў

*Літ* Помнікі мемуарнай літаратуры Беларусі XVII ст Мн , 1983, Мальдзіс А.І Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII ст Мн , 1982, Тартаковский А.Г 1812 год и русская мемуаристика М , 1980, Гаранін Л Я Мемуары аб Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі і грамадзянскай вайне // Весці АН БССР Сер *грамад навук 1979 № 4,* Кнатько Г Д Правящие круги Беларуси летом 1941 г (Анализ мемуарных источников) // Старонкі ваеннай гісторыі Беларусі Мн , 1992 Вып 1 Черняева А.И Мемуарные издания в Фундаментальной библиотеке АН БССР // Книговедение в Белоруссии Мн , 1977, История дореволюционной России в дневниках и воспоминаниях Аннотир указ книг и публикаций в журналах Т 1—5 М , 1976—89 История советского общества в воспоминаниях современников Аннотир указ мемуар лит Ч 1—2 М , 1958—67, Савецкая Беларусь ва ўспамінах сучаснікаў Анатаваны паказ мемуар літ 1917—1972 гг Бібліягр паказ Мн , 1973 Беларуская ССР у Вялікай Айчыннай вайне Савецкага Саюза (1941—1945 гг ) Бібліягр паказ Мн , 1980

*Адам Мальдзіс, Галіна Кнацько*

**«МЕНСК»,** «Белэр-Менск», бел рэлігійна-грамадскі цэнтр у ЗША Размешчаны за 145 км на Пн ад Нью-Йорка Афіцыйна адкрыты 4—7 7 1963 Ініцыятары стварэння В Юрцэвіч, Ю Станкевіч, К Мерляк, П Мельяновіч і інш Цэнтр узначальвае рада дырэктараў (1-ы старшыня Юрцэвіч, у сучасны момант С Рагалевіч) З'яўляецца асяродкам беларусаў Паўн Амерыкі Тут праводзяцца з'езды бел арг-цый, нац - культ , рэліг мерапрыемствы, сустрэчы моладзі, летні і зімовы адпачынак і інш З пач 1970-х г «Менск» з'яўляецца уласнасцю Бел праваслаўнай царквы св Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле і Бел праваслаўнай царквы св Ефрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы Цэнтр наведваюць госці з Беларусі, інш краін свету

*Анфіса Ляднева*

**«МЕ́НСКАЕ БЕЛАРУСКАЕ ПРАДСТАЎНІ́ЦТВА»,** «Беларускае народнае прадстаўніцтва», палітычнае аб'яднанне бел партый і груп ліберальнай і правасацыялістычнай арыентацыі ў 1918 — пач 1919 Створана 25 2 1918 з прадстаўнікоў *Беларускай народнай партыі сацыялістаў,* партыі сацыялістаў-аўтанамістаў, *Беларускай хрысціянскай дэмакратыі,* Бел праваслаўнага аб'яднання, Бел саюза зямельных уласнікаў і інш У выканаўчы к-т «М б п» ўваходзілі протаіерэй П Кульчыцкі, К А *Кандратовіч,* Р А *Скірмунт,* В *Гадлеўскі,* А М *Уласаў,* П П *Аляксюк,* В І Чавусаў, Р А *Зямкевіч,* А Русецкі Друк орган — газ *«Беларускі шлях»* Аб'ядноўвала паліт сілы, якія супрацьстаялі *Беларускай сацыялістычнай грамадзе* ў барацьбе за ўладу У праграмным дакуменце заявіла, што «прадстаўляе інтарэсы беларускага народа і з'яўляецца палітычным цэнтрам», які абараняе незалежнасць Беларусі, культуру і самабытнасць бел народа 12 4 1918 выканаўчы к-т «М б п» кааптаваны ў склад Рады БНР На яго аснове аформілася правацэнтрысцкая фракцыя, якая арыентавала Раду БНР на супрацоўніцтва з ням акупац адміністрацыяй 20 4 1918 «М б п» дамаглося згоды герм камандавання на стварэнне груп бел саветнікаў пры акупац адміністрацыі (губ і пав камендатурах) для рэгулявання адносін насельніцтва з акупац уладай 25 4 1918 фракцыя «М б п» на закрытым пасяджэнні Рады БНР ініцыравала прыняцце тэлеграмы герм кайзеру Вільгельму II, у якой ад імя Рады БНР заяўлялася, што будучыню Беларусі яны бачаць пад апекай герм дзяржавы Дзейнні фракцыі паскорылі працэс палярызацыі паліт сіл у Радзе БНР У канцы мая — пач чэрв 1918 пад націскам герм камандавання сфарміраваны новы ўрад БНР на чале са Скірмунтам Новы ўрад заклікаў да супрацоўніцтва «ўсе жывыя беларускія палітычныя сілы ў інтарэсах народа», але на самай справе праводзіў палітыку, скіраваную на абарону памешчыцкага землеўладання Герм арыентацыя «М б п» прывяла да ізаляцыі яго прадстаўнікоў у Радзе БНР Пад націскам сацыяліст фракцый урад Скірмунта ў пач ліп 1918 падаў у адстаўку Па меры нарастання вызв барацьбы бел народа супраць ням акупантаў паліт уплыў «М б п» зніжаўся, паступова яно распалася

*Літ* Стaшкевич Н С Приговор революции Крушение антисов движения в Белоруссии, 1917—1925 Мн , 1985

*Мікалай Сташкевіч*

**МЕНТАЛІТЭ́Т,** ментальнасць (франц mentalité ад лац mentalis разумовы), своеасаблівы тып мыслення, светабачання асобнага чалавека або якой-н супольнасці Адлюстроўваецца ў спецыфічных уяўленнях людзей аб прасторы і часе, прыродным і сац асяроддзі, меркаваннях аб саміх сабе і прадстаўніках інш груп насельніцтва Вылучаюцца такія разнавіднасці М , як першабытны, антычны, сярэдневяковы, еўрапейскі, азіяцкі, дзіцячы, жаночы, мужчынскі, рэвалюцыйны, таталітарны, бюракратычны, сялянскі, інтэлігенцкі, рэлігійны і інш , а таксама М розных узроўняў — індывідуальны, групавы, калектыўны і агульнанародны (нацыянальны) Тэрмін «М » упершыню выкарыстаў амерыканскі філосаф Р Эмерсан у сярэдзіне 19 ст Шматпланавае развіцце праблемы ментальнасці набылі ў працах Г Лебона, Л Леві-Бруля, Ж Лефеўра, Л Феўра, Э Фрома, З Фрэйда, Й Хейзінга, К Юнга і інш Асн дасягненнем гэтых філосафаў, псіхолагаў, гісторыкаў быў аналіз М прадстаўнікоў розных краін, народаў, гіст эпох, сац , канфесійных, прафесіянальных, полаўзроставых супольнасцей, высвятленне ролі і ўплыву на ментальнасць падсвядомых імпульсаў, біял , геагр , кліматычных, сац , культ і інш фактараў М не застаецца заўседы аднолькавым, нязменным, а з цягам часу набывае новыя адметныя рысы, хоць звычайна ментальнасць мяняецца больш марудна (т зв інерцыя М ), чым эканам і паліт жыцце грамадства М пераважнай большасці людзей той ці інш нац (этнічнай) супольнасці звычайна называецца нацыянальным Таму можна асоб на вылучаць франц , яўр , польск , рус , укр , бел і інш ментальнасці

М беларусаў фарміравауся працяглы гіст час і набываў свае тыповыя рысы ў адмысловых абставінах грамадска-паліт , сац -эканам і духоўна-культ жыцця У стараж перыяд для М жыхароў Беларусі былі ўласцівы язычніцкі політэізм (вера ў адначасовае існаванне многіх багоў), абагаўленне зямлі, нябесных свяцілі, дрэў, камянеў і інш прыродных з'яў (пантэізм), перакананне ў рэальным існаванні душы, злых і добрых духаў (анімізм), вербальная магія (вера ў цудадзейную сілу асобных слоў, выразаў), адчуванне непарыўнай еднасці паміж чалавекам і ўсей навакольнай прасторай, разнастайныя забабоны, культы і г д Пасля прыняцця хрысціянства ў пач 2-га тыс н э адбывалася своеасабліваe перапляценне двух тыпаў светабачання — язычніцкага і хрысціянскага, для якога стаў характэрны монатэізм (перакананне ў існаванні адзінага Бога) Ва усе часы беларусам уласціва прывязанасць да сваей зямлі-карміцелькі, свайго роднага кутка, імкненне прыстасаваць працу і адпачынак да пэўных прыродна-сезонных цыклаў, пор года (т зв каляндарны тып М ), пра што пераканаўча сведчыць бел нар каляндар з незвычайным багаццем свят, прысвяткаў і адпаведных ім песень, танцаў, абрадаў, разнастайных прыкмет і павер'яў

Акрамя таго, М беларусаў амаль заўседы вызначаўся такімі характэрнымі рысамі, як талерантнасць (цярпімасць да прадстаўнікоў іншых нацый, канфесій, сацыяльных груп), патрыятызм, гуманнасць, дэмакратызм і інш Такі традыцыйны бел М працяглы час захоўваўся без істотных змен Аднак на працягу апошняга стагоддзя пад уплывам розных фактараў светабачанне часткі жыхароў Беларусі эвалюцыянавала ад ранейшай набожнасці да адкрытага атэізму, ад магічна-міфалагічных уяўленняў да ўкаранення матэрыялістычных ідэй, паслаблення механізмаў нац культ ідэнтыфікацый У сучасны перыяд пад уплывам істотных грамадскіх змен М многіх грамадзян Беларусі паступова пазбаўляецца ад празмернай заідэалагізаванасці, пакорлівасці афіц уладам, бязбожніцтва, надзвычайнай жыццевай кансерватыўнасці, у ім умацоўваюцца ідэі аб неабходнасці незалежнасці краіны, сапраўды дэмакр грамадства, свабоднага самасцвярджэння асобы, паглыбляецца нац самасвядомасць Як сведчыць гіст вопыт, падобныя пазітыўныя перамены ў светабачанні людзей ва ўмовах татальнага крызісу грамадства адбываюцца вельмі марудна, неадназначна і нярэдка маюць тэндэнцыю да рэгрэсіўнага развіцця,

своеасаблівага «вяртання» да М мінулых гадоў

*Літ* История ментальностей, историческая антропология Зарубежные исслед в обзорах и рефератах М, 1996, Дубянецкі Э Менталітэт беларусаў спроба гіст-псіхал аналізу // Беларусіка=Albaruthenica Мн, 1993 Кн 2, Яго ж. Ментальнасць грамадзян Беларусі ў сучасны перыяд // Кантакты і дыялогі 1996 № 7—8, Мельнікаў А. Характар і менталітэт беларусаў // Бел думка 1997 № 7 *Эдуард Дубянецкі*

**МЕНШАВІ́КІ**, прадстаўнікі палiт плыні, якая склалася на II з'ездзе *Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі* (1903) у выніку размежавання з бальшавікамі Меншавізм — плынь унутры марксізму (гл *Марксізм-ленінізм*) і рас рабочым руху, фракцыя РСДРП, а з вясны 1917 — самастойная с-д партыя Ідэйна звязаны з «бернштэйніянствам», «легальным марксізмам» і «эканамізмам» у рас і міжнар *сацыял-дэмакратыі* Лідэрамі М былі Л Мартаў (Ю В Цэдэрбаўм), Г В Пляханаў, П Б Аксельрод, А.М Потрасаў, Ф І Дан і інш Арганізацыйна аформіўся на II з'ездзе РСДРП (ліп—жн 1903, Брусель—Лондан) М выступалі супраць ленінскіх палажэнняў аб стварэнні строга заканспіраванай і цэнтралізаванай партыі з безумоўным падпарадкаваннем ніжэйшых арг-цый цэнтру Атрымалі назву ад колькасці галасоў, пададзеных за прыхільнікаў У І.Леніна і Л Мартава Меншавіцкая і бальшавіцкая фракцыі дзейнічалі ў рамках адной РСДРП, кіраваліся адной праграмай і статутам Барацьба паміж бальшавікамі і М не спынялася на ўсіх этапах рэв руху ў Расіі, у т л ў Беларусі У аснове іх разыходжанняў ляжалі розныя погляды на пралетарскую партыю і яе *ролю* ў рабочым руху, неаднолькавы падыход да пытання пра механізм грамадскага развіцця і перспектыў рэалізацыі сацыяліст ідэалу ў Расіі, розныя адносіны да самога марксісцкага вучэння, а таксама шматлікія рознагалоссі ў час рэвалюцыі 1905—07 і пасля яе Меншавіцкая тактыка арыентавалася на паступальнае развіцце рэвалюцыі, паэтапнае ўстанаўленне спачатку ўлады буйной ліберальнай буржуазіі, потым дробнай рэв буржуазіі ў выглядзе буржуазнай дэмакр рэспублікі, у канчатковым выніку, пасля сацыяліст перавароту, улады пралетарыяту Планавалася працяглае існаванне капіталіст этапу развіцця грамадства М мелі на ўвазе гегемонію буржуазіі ў рэвалюцыі, адводзілі пралетарыяту ролю «крайне левай апазіцыі», лічылі апраўданым яго саюз з буржуазіяй Меншавізм уяўляў сабой тыповы блок пралетарскіх і дробнабурж элементаў М ў шэрагу выпадкаў бралі верх над бальшавіцкай фракцыяй па розных тактычных пытаннях Лідэр бальшавікоў Ленін у арт «Заметкі публіцыста» (люты 1922) прызнаваў, што «ў асобных выпадках меншавікі бывалі правы супраць бальшавікоў» (Творы Т 33 С 182) Меншавізм з'яўляўся арганічнай часткай рабочага руху ў Расіі, а многія яго эканам і палiт ідэі (ідэя дэмакр сацыялізму і інш) актуальныя і ў наш час

Узнікненне меншавіцкіх арг-цый РСДРП у Беларусі адбывалася ў рэчышчы агульнага працэсу фарміравання РСДРП, хаця мела і асаблівасці У студз 1904 быў створаны *Палескі камітэт РСДРП(б)*, рэарганізаваны ў вер 1905 у шэраг асобных раённых арг-цый У сак 1904 аформіўся *Паўночна-Заходні абласны камітэт РСДРП(б)*, у які ўваходзілі Віленская, Віцебская, Дзвінская і Мінская групы Да іх сталі далучацца яўр рабочыя, што адыходзілі ад *Бунда* На IV (Аб'яднаўчым) з'ездзе РСДРП (1906) дасягнута арганізац адзінства партыі пры супярэчлівасці рэзалюцый па пытаннях тактыкі У *арганізацыях РСДРП* Беларусі меншавікі ўплыў быў значна большы, што праяўлялася ў абвастрэнні ідэйна-палiт барацьбы пасля IV з'езда Спачатку М не прынялі ленінскую ідэю цэнтралізму як арганізац прынцыпу, таму на I канферэнцыі РСДРП (снеж 1905) быў сфармуляваны прынцып дэмакр цэнтралізму Пераважна бальшавіцкіх пазіцый прытрымліваліся Мінская, Бабруйская і Барысаўская арг-цыі РСДРП (гл адпаведныя арт), палiт аблічча астатніх мянялася Сярод дэлегатаў V (Лонданскага) з'езда РСДРП (1907) быў толькі 1 бальшавік — ад Мінскай арг-цыі Віцебская акруговая, Смаргонская і Гомельская раённыя арг-цыі паслалі М Пасля паражэння рэвалюцыі 1905—07 пачаўся распад с-д арг-цый Беларусі У гады 1-й сусв вайны яны сталі аднаўляцца У канцы 1914 — пач 1915 адноўлена Палеская арг-цыя РСДРП, летам 1915 — групы ў Оршы, Копысі і інш У Мінску аднаўленне с-д груп пачалося летам 1915 У Віцебску да лют 1917 сфарміравалася Латышская раённая с-д арг-цыя Мінская і Віцебская с-д арг-цыі аб'ядноўвалі амаль 500 членаў У інш (акрамя армейскіх) групы Магілёўскай, Віцебскай і Мінскай губ уваходзілі каля 250 чал Склад арг-цый, як і раней, быў бальшавіцка-меншавіцкі У сельскай мясцовасці арг-цый РСДРП па сутнасці не было Гал цэнтрам рэв руху на Беларусі ў гэтыя гады сталі армія Зах фронту і звязаныя з імі прадпрыемствы Афармленыя групы РСДРП дзейнічалі ў 19-й роце 3-га Сібірскага корпуса, 2-м Сібірскім артдывізіёне, 32-м эвакапункце, войсках, што базіраваліся ў Нясвіжы і Маладзечне Шэраг с-д груп сфарміраваўся ў ваен майстэрнях у Барысаве, Магілеве, Мінску, Полацку і інш М-абаронцы ў падп рабоце не ўдзельнічалі, іх апазіцыйнасць рэжыму праяўлялася ў легальных формах у саюзе з *кадэтамі* Пасля звяржэння самадзяржаўя верх на Беларусі ўзяла аб'яднаўчая тэндэнцыя — не толькі бальшавікоў з М, але і з бундаўцамі Цэнтр ідэя М на паступальнае пераўтварэнне грамадскіх адносін пры захаванні капіталіст форм адпавядала ўзроўню развіцця капіталізму ў Расіі З гэтага М зыходзілі, калі адхілілі магчымасць пераходу да сацыяліст рэвалюцыі і выступалі за рэфармісцкі шлях, падтрымку Часовага ўрада, змякчэнне класавай барацьбы пралетарыяту супраць буржуазіі і аб'яднанне на гэтай платформе ўсіх рэв-дэмакр сіл *Аб'яднаныя сацыял-дэмакратычныя арганізацыі* М, бальшавікоў і бундаўцаў пачалі ствараццa ў Беларусі адразу пасля *Лютаўскай рэвалюцыі 1917* У сак.—крас аформіліся ва ўсіх бел гарадах, многіх часцях Зах фронту У ліку першых узнікла «аб'яднанка» ў Магілеве На яе арганізац сходзе 3(16) 3 1917 прысутнічала 15 чал Сход прыняў меншавіцкія рэзалюцыі У Мінску ўзніклі 2 ініцыятыўныя групы бальшавіцкая і меншавіцкая Бальшавікі выступілі за аб'яднанне толькі з левым М-інтэрнацыяналістамі, М — за аб'яднанне «ўсіх здаровых грамадскіх сіл» З-за колькаснай перавагі М стварылі ініцыятыўны к-т, які 9(22) 3 1917 склікаў устаноўчы сход з 200 мінскіх сацыял-дэмакратаў Ён падтрымаў меншавіцкія рэзалюцыі аб вайне і міры (пачакаць з вырашэннем гэтых пытанняў да Устаноўчага сходу), адносінах да Часовага ўрада (устанавіць кантроль над яго дзейнасцю)

У Віцебску ў пач сакавіка быў створаны «Сацыялістычны блок», у які ўвайшлі ў асн М і бундаўцы Лінію на аб'яднанне ўсіх фракцый настойліва праводзілі гомельскія М Аднак яны сутыкнуліся з моцным супрацьстаяннем мясц бальшавікоў, якія імкнуліся стварыць самастойную арг-цыю Таму «аб'яднанка» тут была няўстойлівай Аб'яднаныя арг-цыі РСДРП утварыліся таксама ў Оршы, Рагачове, Слуцку, Полацку і інш гарадах У войсках Зах фронту «аб'яднанак» амаль не было Бальшавікі абапіраліся на рэв настроеных салдат, гал ч з рабочых, мабілізаваных на фронт з прамысл цэнтраў Прыхільнікамі М былі малодшыя афіцэры, ваен ўрачы, настаўнікі, аграномы, юрысты, чыноўнікі і інш выхадцы з разначыннай інтэлігенцыі На іх аб'яднаўчым з'ездзе ў жн 1917 дэлегаты ад арміі прадстаўлялі каля 3700 членаў Найб шматлікія арг-цыі М мелі ў Бабруйску, Віцебску, Гомелі, Магілеве, Мінску, Полацку Паводле рашэння VII (Красавіцкай) канферэнцыі РСДРП (1917) бальшавікі прыступілі да рэалізацыі задачы пераходу ад 1-га этапу рэвалюцыі, які даў уладу буржуазіі, да 2-га, які павінен быў даць уладу пралетарыяту і бяднейшаму сялянству, што азначала адмову ад сац-эканам пераўтварэнняў шляхам рэформ Быў узяты курс на сацыяліст рэвалюцыю, звяржэнне Часовага ўрада, не выключаючы ўзбр паўстання У сувязі з гэтым канферэнцыя прызнала немагчымым аб'яднанне *бальшавіцкіх арганізацый РСДРП* з інш партыямі і групамі, якія праводзілі палітыку абароннцтва і саюзу з буржуазіяй Гэтыя рашэнні паскорылі працэс размежавання паміж бальшавікамі і М Першымі ў крас 1917 выйшлі з «аб'яднанак» бальшавікі Гомеля, да ліп —

жн — большасць астатніх Спробы М вярнуць бальшавікоў у «аб'яднанкі» з мэтай захаваць адзінства арг-цыі да парт з'езда поспеху не мелі VI з'езд РСДРП(б) [26 7—3 8(8—16 8) 1917] быў цалкам бальшавіцкі Ён вызначыў курс на ўзбр паўстанне Арганізац размежаванне 2 плыней у РСДРП і афармленне іх у 2 самастойныя партыі завяршылася Пасля з'езда бальшавікі фарсіравалі разрыў з М Да жн —вер 1917 працэс размежавання ў аб'яднаных арг-цыях РСДРП у Беларусі поўнасцю завяршыўся Меншавіцкая арг-цыя да гэтага часу налічвала ў сваіх радах 14 тыс, бальшавіцкая — 4 тыс членаў Бальшавікі хутка нарошчвалі сілы, збіралі пад свае лозунгі рабочых, сялян, салдат, якія страцілі надзею дачакацца ад Часовага ўрада абяцаных сац рэформ, вырашыць пытанні аб міры і зямлі Адпаведна пайшоў на спад уплыў партый, што падтрымлівалі Часовы ўрад, у т л і меншавіцкай, хоць яна была даволі шматлікая і арганізаваная Пра гэта сведчыць канферэнцыя с -д арг-цый Паўн -Зах вобласці і фронту, якая праходзіла 25 9(8 10) 1917 у Мінску 60 яе дэлегатаў прадстаўлялі каля 6 тыс членаў Паўн -Зах абл арг-цыі РСДРП(б) Аднак меншавіцкая арг-цыя не была адзінай ні ідэйна, ні арганізацыйна, падзялялася на правую і левую фракцыі Апошняя ў сітуацыі абвастрэння рэв крызісу ідэйна набліжалася да бальшавізму Ідэйная і арганізац няўстойлівасць у парт радах у многім прадвызначыла крах меншавіцкай партыі

*Літ* Мартов Л История Российской социал-демократии 3 изд Пг, М, 1923, Кнорин В Г Революция и контрреволюция в Белоруссии Ч 1 Смоленск, 1920, Яго ж 1917 год в Белоруссии и на Западном фронте Мн, 1925, Кастрычнік на Беларусі Зб арт і дак Вып 1 Мн, 1927, Второй съезд РСДРП Протоколы М, 1959, Четвертый (Объединительный) съезд РСДРП Протоколы М, 1959, Малашко А М К вопросу об оформлении однопартийной системы в СССР Мн, 1969, Солошенко В И Большевики в борьбе с мелкобуржуазными партиями в Белоруссии (1903 — март 1917 гг) Мн, 1981, Бич М О Развитие социал-демократического движения в Белоруссии в 1883—1903 гг Мн, 1973, Яго ж Рабочее движение в Белоруссии в 1861—1904 гг Мн 1983, Сташкевич Н С Приговор революции Крушение антисов движения в Белоруссии, 1917—1925 Мн, 1985, Игнатенко И М Февральская буржуазно-демократическая революция в Белоруссии Мн, 1986, Волобуев О В, Ильящук Г И Послеоктябрьский меньшевизм // История СССР 1991 № 2, Галили З Лидеры меньшевиков в русской революции Соц реалии и полит стратегия Пер с англ Мн, 1993, Октябрь 1917 и судьбы политической оппозиции Ч 1—3 Гомель, 1993, История политических партий России М, 1994, Меньшевики в 1917 г Т 1—3 Мн, 1995—96, Тумаринсон В Х Меньшевики и большевики несостоявшийся консенсус (Опыт исторической реконструкции) М, 1994, Программы политических партий России, конец XIX — начало XX вв М, 1995

*Ігар Шардыка*

**МЕНШАВІЦКІЯ АРГАНІЗАЦЫІ РСДРП**, гл ў арт *Меншавікі*

**МЕНШЫКАЎ** Аляксандр Данілавіч [6(16) 11 1672, Масква — 12(23) 11 1729], расійскі дзярж і ваен дзеяч, граф (1702), святлейшы князь (1707), генераліссімус (1727) Сын прыдворнага конюха Службу пачаў дзеншчыком цара *Пятра I* Вызначыўся ў першых бітвах *Паўночнай вайны 1700—21*, у 1702 прызначаны камендантам Шлісельбурга, у 1703 — губернатарам Інгерманландскай (пазней — Санкт-Пецярбургскай) губ, кіраваў буд-вам Пецярбурга У 1705 прызначаны камандуючым кавалерыяй рас арміі ў Рэчы Паспалітай Кіраваў адыходам войск з Гродна ў Брэст (гл *Гродзенская аперацыя 1706*) 18(29) 10 1706 атрымаў перамогу пад Калішам, 30 8(10 9) 1706 — каля в Добрае (Мсціслаўскі р-н), удзельнічаў у бітве пад *Лясной* 28 9(9 10) 1706 У Палтаўскай бітве 27 6(8 7) 1706 камандаваў левым флангам У 1709—13 камандаваў рас войскамі ў Польшчы, Курляндыі, Памераніі З 1714 кіраваў былымі шведскімі землямі ў Прыбалтыцы, узначальваў буд-ва балтыйскага флоту У 1717—24 прэзідэнт Ваеннай калегіі Сканцэнтраваў у сваіх руках вялізныя зямельныя ўладанні У 1709 М дамогся ад польск караля і вял князя ВКЛ Аўгуста II перадачы яму ў трыманне Дзісенскага і Аршанскага старостваў, узяў у заставу ў гетмана Р А Агінскага Язерскае староства на Магілёўшчыне (у 1710 паводле загаду Пятра I вярнуў), у 1710 купіў мяст Ула ў Полацкім ваяв, у 1711 узяў у заклад у Ю Сапегі Горы-Горацкае графства, у 1715 купіў мяст Дуброўна, набыў інш маенткі на Беларусі Пасля смерці Пятра I, абапіраючыся на гвардыю, 28 1(8 2) 1725 узвёў на пасад *Кацярыну I* і стаў фактычным кіраўніком дзяржавы 25 5(5 6) 1727 заручыў сваю дачку Марыю з Пятром II (унукам Пятра I) Паліт праціўнікі М князі Галіцыны і Далгарукія дамагліся ад імператара таго, што 8(19) 9 1727 М абвінавачаны ў дзярж здрадзе, казнакрадстве і разам з сям'ёй сасланы з канфіскацыяй маемасці ў г Бярозаў, дзе і памёр

*Літ* Порозовская Б Д А Д Меншиков Его жизнь и гос деятельность СПб, 1895, Голомбиевский А А Сотрудники Петра Великого А Д Меншиков М, 1903, Павленко Н И Полудержавный властелин Ист хроника о жизни сподвижника Петра Первого А Д Меншикова М, 1991, Deruga A Ks Aleksander Mienszykow, jako starosta dzisnieński // Ateneum Wileńskie 1935 R 10

*Валерый Пазднякоў*

**МЕ́РА**, полісемантычная адзінка вымярэнняў (гл *Меры*) У якасці самастойнай адзінкі емістасці сыпучых рэчываў (збожжа) М ўжывалася ў 17—18 ст на ўсх -бел землях ВКЛ, дзе прыраўноўвалася да 12 гарцаў шынковых або 24 гарцаў камісійных (скарбовых) ці 4 карцоў кракаўскіх

*Яўген Анішчанка*

**МЕРАНКО́Ў** Міхаіл Андрэевіч [н 23 8 1936, г Перавальск Варашылаўградскай (цяпер Луганскай) вобл, Украіна], бел жывапісец Скончыў Бел тэатр -маст ін-т (1966) З 1973 выкладае ў Акадэміі мастацтваў Беларусі Працуе ў станковым жывапісе Ваенна-гіст тэматыцы прысвечаны карціны «Год 41-ы» і «Станцыя Аўрагі» (абедзве 1966), «На абпаленай зямлі» (1968), «Год 41-ы Бежанцы» і «Алтар Перамогі» (абедзве 1984), «Налет» (1985), «Год 45-ы Раніца» (1985), «Востраў Зыслаў» (1987), «Партызанскі штаб» (1988), «Салдацкая каша» (1989) і інш Творчасці ўласцівы манументалізацыя вобразаў, выразнасць жывапісна-пластычнай мовы

*Галія Фатыхава*

**МЕ́РКУШАЎ** Аляксандр Максімавіч (14 11 1918, г Казань, Татарстан — 1 5 1993), удзельнік баёў на Беларусі ў Вял Айч вайну, Герой Сав Саюза (1945) У Чырв Арміі з 1938 Скончыў курсы ўдасканалення каманднага (1942) і афіцэрскага (1956) саставаў У Вял Айч вайну на фронце з жн 1942 Камандзір роты, ст лейтэнант М вызначыўся ў баях за в Сычкава Бабруйскага р-на, 28—29 6 1944 на аўтамагістралі Бабруйск— Мінск яго рота адбіла 13 контратак, знішчыла 100 аўтамашын ворага, М 7 разоў падымаў байцоў у рукапашны бой Да 1959 у Сав Арміі

**МЕ́РЛЯК** Кастусь (Канстанцін Ільіч, н 25 12 1919, в Дзетамля Навагрудскага пав, цяпер Навагрудскі р-н), бел грамадска-паліт дзеяч у эміграцыі Скончыў вучылішчы с -г (1937) і сельгаскааперацыі (1938), курсы крэдытных інспектараў Бел рэсп канторы Дзяржбанка СССР у Беластоку (1940) Працаваў бухгалтарам, старшым крэдытным інспектарам у Навагрудку, Карэлічах У час акупацыі Беларусі супрацоўнічаў з ням фашыстамі, уваходзіў у *Беларускую народную самапомач, Беларускі корпус самааховы* З 1944 у эміграцыі ў Германіі, Італіі, Аргенціне, з 1954 у ЗША У 1948—82 член Рады БНР, заснавальнік і старшыня Згуртавання беларусаў у Аргенціне, старшыня гал управы *Беларуска-амерыканскага задзіночання*, Бел -амер к-та ветэранаў і інш Аўтар артыкулаў па гісторыі бел эміграцыі, пытаннях культ, літ, рэліг, грамадска-паліт жыцця Беларусі

*Тв* Дзейнасць Кастуся Мерляка на эміграцыі Нью-Ёрк, 1992

**МЕ́РНІК**, мернічы, мерчы, геаметр, службовая асоба ў ВКЛ у 16—18 ст, якая займалася вызначэннем межаў і вымярэннем зямельных участкаў, з'яўлялася членам *падкаморскага суда* Пасада М распаўсюдзілася з пачаткам *валочнай памеры* Звычайна М назначалі з шляхціцаў, аселых у адпаведным ваяводстве або павеце (гл таксама *Каморнікі*) Прыладамі працы М былі шнуры, жэрдкі, металічныя ланцугі Вял адлегласці вымяралі крокам і з дапамогай астралябій з дыёптрамі, мензульных столікаў У 18 ст ўведзена дыгнітарская

пасада (гл *Дыгнітарыі*) генеральнага М ВКЛ (у 1726 ім быў гродзенскі лантвойт К Сямашка), пазней — М ВКЛ Пасля далучэння бел зямель да Рас імперыі (канец 18 ст ) мернцтвам займаліся рас земляміеры, якія былі дзярж службоўцамі М да часу скасавання Статута ВКЛ у 1840 выконвалі другарадныя дапаможныя абавязкі

*Літ* Grzepski S Geometria to jest miernicka nauka Wrocław, 1957

*Яўген Анішчанка*

**МЕ́РТЭНС** Станіслаў Адамавіч (парт псеўд Стафан Скульскі, 3 5 1892, г Лодзь, Польшча — жн 1937), дзеяч рэв руху ў Польшчы і Зах Беларусі Чл СДКПіЛ з 1909, чл РКП(б) з 1918, чл КПП з 1921 Вёў рэв дзейнасць у Варшаве, Лодзі, Калішы У 1913—14 зняволены ў турму У 1918 старшыня павятовага к-та РКП(б) і старшыня ЧК у Мсціславе Дэлегат І з'езда КП(б)Б У 1919 у Чырв Арміі, камандзір батальёна, камісар брыгады У 1920 нам старшыні Смаленскага губвыканкома і чл губкома РКП(б), потым у Часовым польскім рэўкоме ў Беластоку, старшыня Навагрудскага рэўкома У 1921 нарком унутр спраў і чл калегіі ЧК БССР, чл ЦБ КП(б)Б, чл Прэзідыума ЦВК БССР З канца 1921 на нелегальнай рабоце ў Польшчы, у 1922—23 узначальваў Лодзінскі, Дамброўскі акруткомы КПП Адзін з арганізатараў КПЗБ і *Мінскай школы КПЗБ* У 1923—25 упаўнаважаны ЦК КПП пры ЦК КПЗБ У кастр 1925 зняволены У выніку абмену палітвязнямі са студз 1928 у СССР Дэлегат IV—VII кангрэсаў Камінтэрна Удзельнік І і ІІ канферэнцый, ІІ з'езда КПЗБ Чл ЦК КПП у 1923—27 і з 1931 Чл Палітбюро ЦК КПП у 1923—25 і ў 1935 Чл *Бюро ЦК КПЗБ* і яго прадстаўнік пры ЦК КП(б)Б у 1934—35 Аўтар многіх дакументаў КПЗБ, брашур і артыкулаў У 1935 у Мінску пад рэдакцыяй М выдадзены зб артыкулаў «Палітычныя партыі ў Польшчы, Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны», у якім дзейнасць КПЗБ ацэньваецца з пазіцый «нацыянал-апартунізму» У 1937 рэпрэсіраваны Рэабілітаваны

*Мікалай Арэхва, Уладзімір Ладысеў*

**МЕРЧЫНГ** (Merczyng) Генрык (5 2 1860, г Згеж, Польшча — 14 9 1916), польскі гісторык, інжынер Скончыў Варшаўскі ун-т (1882), Пецярбургскі ін-т інжынераў шляхоў зносін (1885), дзе і выкладаў (з 1904 праф ардынарны) Ініцыятар электрыфікацыі чыгунак у Расіі Займаўся гісторыяй Рэфармацыі ў Рэчы Паспалітай Вывучаў дакументы ў архівах Вільні, Варшавы, Кракава і інш Член Яднoты евангелічна-рэфармаванага касцёла ў Вільні Па яго ініцыятыве сінод царквы пачаў выдаваць зборнікі дакументаў па гісторыі Рэфармацыі «Monumenta Reformationis Polonicae et Lithuanicae», асабіста падрыхтаваў сшытак 1 серыі 1 (1911), куды ўвайшлі дакументы 16 ст Аўтар прац пра кальвінісцкую і арыянскую цэрквы ў ВКЛ, дзейнасць С Буднага, па гісторыі педагогікі, дэмаграфіі. У творах М шмат звестак з дакументаў, якія не захаваліся да нашага часу

*Тв* Szymon Budny jako krytyk tekstów biblijnych Krakow, 1913, Mapa Litwy z r 1613 ks Radziwiłła Sierotki, pod względem matematycznym i kartograficznym // Sprawozdania Towarzystwa Naukowego Warszawskiego Wydz 3 Warszawa, 1913

**МЕ́РЫ** гістарычныя, адзнакі і сродкі вымярэння, якімі карысталіся да ўвядзення метрычнай сістэмы, аб'ект вывучэння *метралогіі гістарычнай* Старажытныя і народныя М адпавядалі прыродным аб'ектам і з'явам Напр , вядомы народныя М адлегласці «на вераб'іны скок», «на крок чалавека» Адлегласць вымяралі па гуку роў вала чуваць на паўвярсты, крык чалавека — на вярсту, брэх сабакі — на 2 вярсты Даўжыню вымяралі *пядзяй, локцем,* ступней, крокам, тапарышчам, прутком, шнурам і г д , збожжа і вадкасці — гасп посудам больш-менш пэўнага памеру *бочкай,* каддзю, вядром, кублом, сявенькай З часоў Полацкага княства для практычных вымярэнняў выкарыстоўвалі драўляныя М даўжыні, каменныя і металічныя вагі (знойдзены ў час археал раскопак) На Беларусі з часоў сярэдневякоўя і да 20 ст выкарыстоўваліся М даўжыні *цаля, стапа, сажань, лінія, прут, шнур, гоня, вярста, міля,* М плошчы прут (квадратны), *морг, валока, лан,* М сыпкіх рэчываў і вадкасцей бочка, *гарнец, кварта, чвэрць, карэц,* асьміна, *салянка, мера,* барыла, М масы *камень, лашт, фунт, пуд, беркавец,* кантар, *лот, бязмен, грыўня* Некаторыя тавары вымяралі спец М кудзелю — каслаўкамі, мед — *мядніцамі,* ліпаўкамі, луканамі і інш На Беларусі існавала мноства мясц разнавіднасцей М У дакументах упамінаюцца 4 віды вядра для вымярэння меду, больш за 40 мясц збожавых М (бочкі, карцы і інш ) Упершыню дзярж рэгуляванне М на Беларусі зафіксавана дагаворам Полацка з Рыгай (каля 1338—41), дзе полацкія М вагі параўноўваліся з рыжскімі Статут ВКЛ 1588 імкнуўся уніфікаваць М ў дзяржаве і патрабаваў, «абы в месте нашом столечном Виленьском и в кождом месте нашом паньства нашого Великого князства Литовского и в домех гостинных, по дорогах, в торг и без торгов збоже всякое продавано мерою однакою ровновано», г зн віленскаю бочкаю, роўнаю 4 кракаўскім карцам Мясц ўлады ў гарадах павінны былі клеймаваць узорныя гарадскія М — бочку, паўбочкі, чвэрць бочкі Падлягалі уніфікацыі мядніцы, кварты, гарцы, локці Той, хто выкарыстоўваў несанкцыянаваныя М , падлягаў суду, аднак мясц адзінкі вымярэння працягвалі ўжывацца Пастановай сейма 1766 уведзены новыя суадносіны асн М Пасля далучэння ў канцы 18 ст да Рас імперыі ў Беларусі сталі пашырацца рас М даўжыні (вяршок, чвэрць), плошчы (дзесяціна), сыпкіх рэчываў (чацвярык), масы (*доля*) Шмат якія М пад уздзеяннем адпаведных рас М набылі новыя вызначэнні або былі выцеснены імі У некат гасп галінах пачалі ўжывацца спецыфічныя сістэмы М (аптэкарскія фунт, унцыя, драхма, скурупул, гран) Сучасная метрычная (дзесятковая) сістэма М упершыню зацверджана ў Францыі 1 8 1793 З мэтай яе пашырэння ў 1872 у Парыжы была склікана Міжнар камісія па вырабе ўзораў метрычных М для розных дзяржаў У 1875 прадстаўнікі шэрагу краін, у т л Расіі, падпісалі Метрычную канвенцыю, якая прадугледжвала выраб міжнар і нац прататыпаў метра і кілаграма і стварэнне міжнар метралаг устаноў Міжнар к-та М і вагаў (кіраўнічы орган з навукоўцаў) і Міжнар бюро М і вагаў (н -д ін-т) У 1889 у Парыжы склікана 1-я міжнар канферэнцыя М і вагаў З 1899 у Расіі дазволена выкарыстоўваць метр і кілаграм побач з ранейшымі М У 1916 метрычная сістэма аб'яўлена раўнапраўнай з рас сістэмай М , а ў 1918 — адзінай і агульнаабавязковай Пераходны перыяд увядзення метрычнай сістэмы цягнуўся ў СССР да 1926

*Літ* Сементовский А.М О мерах и весе, употребляемых в Витебской губернии Витебск, 1874, Каралеў Х.І Таблiцы пераводу расійскіх мер і мясцовых мер у метрычныя і наадварот Мн , 1925, Депман И Я Меры и метрическая система М, 1954, Молчанова Л А. Народная метрология (к истории нар мер длины) Ми , 1973, Скурат К У Даўнія беларускія меры Мн , 1974, Каменцева Е И , Устюгов Н В Русская метрология 2 изд М , 1975

*Сымон Барыс*

**«МЕСЕ́НЧНІК ПОЛО́ЦКІ»** («Miesięcznik Połocki», «Полацкі месячнік»), літаратурна-навуковы часопіс Выдаваўся на працягу 1818 і 2 месяцаў 1820 штомесячна ў Полацку на польскай мове *Полацкай езуіцкай акадэміяй* Засн філосафам В Бучынскім, гал рэдактар — праф фізікі і д-р філасофіі Ю Цытовіч, рэдактары — І Івіцкі, Я Роотхаен, Е Залескі, Я Кондраў і інш Меў 6 раздзелаў л-ры і свабодных навук, маральна-філасофскі, фізіка-матэматычны, гістарычны, крытычны, літаратурных навін Сярод артыкулаў — краязнаўчыя працы («Кароткія звесткі пра Полацк»), літаратурныя пераклады (трагедыя Еўрыпіда «Арэст» у пер Я Міхановіча з Віцебска), рэцэнзіі на творы польскамоўных пісьменнікаў (на эпічную паэму Н Мусніцкага «Палтава») У ідэйных спрэчках з прагрэсіўнымі прафесарамі Віленскага універсітэта, якія друкаваліся ў «*Дзенніку Віленскім*», «М П» стаяў на пазіцыях клерыкалізму і кансерватызму Выданне часопіса спынена пасля выгнання ў 1820 ордэна *езуітаў* з Рас ім перыі Выйшла 14 нумароў, у якіх змешчана 85 артыкулаў

*Літ* Сапунов А.П Заметка о коллегии и академии иезуитов в Полоцке Витебск 1890, Філатава А. Полацак 1818 і Па матэрыялах часопіса «Miesięcznik Połocki» // Бел гіст часоп 1993 № 1, Умецкая Е С «Месенчник Полоцкий» — первый журнал дореволюционной Белоруссии // Из истории

книги, библиотечного дела и библиографии в Белоруссии Мн , 1972 Вып 2
*Андрэй Самусік*

**МЕСТА,** сінонім паняцця *горад* у Беларусі ў 16—19 ст *Тэрмін запазычаны з* польск мовы (miasto) Старыя ўмацаваныя часткі гарадоў — *дзядзінец* і *вакольны горад* — з 16 ст набываюць значэнне ў асн ваеннай крэпасці і назву «замак» (ад польск zamek), асн тэрыторыю горада з рыначнай плошчай на месцы былых *пасадаў* называлі М , а другасныя кварталы, якія не былі ахоплены новымі гар ўмацаваннямі, — прадмесцямі Невялікія гарады звалі *мястэчкам* Ад слова «М » паходзіць назва гарадскога саслоўя *мяшчан*

**МЕСТР** (Maistre) Жазеф дэ (1 4 1753—26 2 1821), французскі паліт дзеяч, філосаф, публіцыст, граф Скончыў езуіцкі калегіум, Турынскі ун-т Сенатар (1788) У час Франц рэвалюцыі 1789—94 эмігрыраваў у Сардзінію, з 1800 яе канцлер У 1802—17 пасланнік сардзінскага караля ў Расіі Меў уплыў на Аляксандра I і міністра нар асветы графа А К Разумоўскага Падтрымліваў дзейнасць ордэна *езуітаў* у Рас імперыі Гал ініцыятар стварэння *Полацкай езуіцкай акадэміі*, удзельнічаў у яе ўрачыстым адкрыцці 10(22) 6 1812 Выступаў супраць прагрэсіўных рэктараў Віленскага ун-та — І *Страйноўскага* і А *Снядэцкага* У 1817 за празмерную падтрымку каталіцызму высланы з Расіі Аўтар вял ліг і эпісталярнай спадчыны У пісьмах да Разумоўскага асвятляў гісторыю езуітаў у Беларусі Захаваліся фрагменты яго перапіскі з генераламі ордэна езуітаў Т *Бжазоўскім* і мітрапалітам С І *Богушам-Сестранцэвічам*

*Тв* Lettres et opuscules inédits T 1—2 Paris, 1851, Рус пер — [Письма к А.К Разумовскому] // Васильчиков А.А. Семейство Разумовских СПб , 1880 Т 2

*Літ* Степанов М Жозеф де Местр в России // Литературное наследство М , 1937 Т 29—30, Хоружий С С Карсавин и де Местр // Вопр философии 1989 № 3, Яковенко С Иезуиты в России «Записки» по истории о-ва Иисуса в царствование Екатерины II // Европейский альманах М , 1991, Катлярчук А.С Санкт-Пецярбургскі перыяд жыцця Ж дэ Мэстра і Полацкая езуіцкая акадэмія // Albaruthenika Petropolitanae СПб , 1996, *Яго ж* Жазэф дэ Мэстр і Тадэвуш Бржазоўскі ў справе адкрыцця Полацкай езуіцкай акадэміі // Віцебскі сшытак 1997 № 3
*Андрэй Катлярчук, Энгельс Дарашэвіч*

**МЕСЯЧЫ́НА,** штомесячная натуральная плата харчамі і адзеннем, якую памешчык выдаваў прыгоннаму селяніну, пазбаўленаму зямлі, т зв месячніку, у Расіі ў 18 ст — 1861 Месячнік працаваў на полі ў памешчыка або выконваў работы ў яго маентку (т зв дваровыя людзі) М выдавалася толькі на работніка і задавальняла яго мінімальныя патрэбы Імкненне памешчыкаў Беларусі і Правабярэжнай Украіны прыстасаваць сваю гаспадарку да патрэб рынку і атрымаць больш с-г прадуктаў выклікала ў 1-й пал 19 ст пашырэнне пераводу прыгонных у месячнікі М — адна з найцяжэйшых форм прыгонніцтва
*Валянціна Чапко*

**МЕТАДАЛО́ГІЯ ГІСТО́РЫІ,** даследаванне практычных праблем пазнання *гісторыі*, яго прыроды, прынцыпаў і метадаў Прырода пазнання ўключае ў сябе шырокае кола пытанняў, важнейшыя з якіх звязаны з суб'ектна-аб'ектнымі адносінамі ў гіст навуцы, што вызначае спецыфіку гіст даследавання ў адрозненне ад прыродазнаўча-навуковага ці мастацкага На філас узроўні яна заключаецца ў канцэптуальным бачанні даследчыкам свайго аб'екта гіст рэчаіснасці, на прыкладным узроўні — у рэканструкцыйным і рэтраспектыўным (ад цяперашняга стану да пачатковага) характары гіст пазнання, што, з аднаго боку, выключае запазычанне інтэлектуальнай мадэлі гіст з'яў (працэсу) з прыродазнаўства, а з другога — атаясамліванне або супрацьстаянне гісторыі і мастацтва На гэта ўказвае і сам прадмет гіст навукі Побач з функцыямі сац памяці (назапашванне і захаванне ў памяці чалавецтва вопыту папярэдніх пакаленняў), выхаваўчай (з абавязковым прызнаннем агульначалавечых каштоўнасцей, ідэалаў свабоды, дэмакратыі і правоў чалавека) і палітыка-ідэалагічнай (водгук на тыя ці інш пытанні жыцця сучаснага грамадства, які не абмяжоўваецца даследаваннямі ў галіне *новай і навейшай гісторыі*) гісторыя выконвае і навукова-пазнавальную функцыю Гал задачай апошняй з'яўляецца прадастаўленне грамадству, пажадана ў эстэтычнай форме, неабходных ведаў для адэкватнага вырашэння праблем, што стаяць перад ім Пры гэтым толькі палітычна незалежная навука можа даць грамадству аб'ектыўныя рэкамендацыі Да прыроды гіст пазнання адносяцца таксама кампаненты, якія характарызуюць структуру гіст даследавання, найперш своеасаблівасць гіст крыніц і іх пазнавальныя магчымасці, значэнне гіст факта ў навуцы, эмпірычны і тэарэт ўзроўні пазнання, арганізацыю, падачу і апісанне гіст ведаў У структуры гіст даследавання выключна важнае значэнне маюць навук паняцці Яны складаюць лагічны фундамент навукі, акумулююць гіст веды, арганізуюць і сістэматызуюць матэрыял М г раскрывае асн паняцці навукі і паказвае іх ролю ў працэсе пазнання Перад ей стаіць важная задача па ўдасканаленні паняційнага апарату Ад ступені яго распрацаванасці і дыферэнцыраванасці залежыць узровень развіцця навукі У працэсе ўдакладнення паняццяў адны з іх адміраюць і паяўляюцца новыя, другія мяняюць свой змест У сучаснай *гістарыяграфіі* няма, напр , паняцця «боскае наканаванне», на якім базіравалася сярэдневяковая навука Анахранізмам гучыць паняцце «развіты сацыялізм», што было папулярна ў недалекім мінулым Разам з тым замацаваліся тэрміны «ідэальны тып», «менталітэт», «цывілізацыя» і інш , пашырылі свой змест «поліс», «дыктатура», «рэвалюцыя» і інш Да асн паняццяў М г адносяцца катэгорыі і прынцыпы Катэгорыямі называюцца найб агульныя паняцці, якія канцэнтруюць веды пра важнейшыя адносіны, уласцівасці і сувязі навакольнага свету (гіст час, гіст факт, гіст месца і інш ) У якасці прынцыпаў выступаюць зыходныя паняцці навукі, што вызначаюць асн спосабы вырашэння навук праблемы Змест таго ці інш прынцыпу выяўляецца ў пэўных патрабаваннях, якімі павінен кіравацца кожны даследчык у сваей галіне навукі Сутнасны бок гіст пазнання вызначаюць прынцыпы гістарызму (падыход да рэчаіснасці, што змяняецца і развіваецца ў часе), аб'ектыўнасці (даследаванне, якое характарызуецца ўсебаковым ахопам вывучаемай з'явы, апорай на дасягнуты ўзровень навук ведаў з улікам маючых быць пунктаў погляду па дадзенай праблеме, творчым падыходам з выкарыстаннем усей сукупнасці розных метадаў і ў адпаведнасці з новымі грамадскімі патрэбамі і поспехамі ў інш галінах навукі) і каштоўнасны падыход (выяўленне і ацэнка індывідуальна значнага ў вывучаемым аб'екце, аднак пры захаванні *гістарызму прынцыпу* і прынцыпу аб'ектыўнасці) Ад захавання патрабаванняў, што вынікаюць з дадзеных прынцыпаў, залежыць паспяховае выкарыстанне гісторыкамі адпаведных метадаў, якія выступаюць як сродак пазнавальнай дзейнасці Яны ўяўляюць сабой сукупнасць прыемаў і аперацый, што рэгулююць дзейнасць гісторыка і забяспечваюць вырашэнне даследчыцкай задачы Іх лагічнай асновай з'яўляюцца агульнанавук метады, а канкрэтным праяўленнем — самыя разнастайныя метады Сярод іх традыцыйныя метады класавы падыход (трактоўка гіст працэсу праз прызму наяўнасці вызначаных класаў, а ў прыхільнікаў марксісцкага падыходу — і класавай барацьбы), гіст-генетычны (вывучэнне гіст з'яў у працэсе іх развіцця, ад зараджэння да гібелі ці сучаснага стану), гіст параўнальны ці кампаратыўны (параўнанне гіст аб'ектаў у прасторы і часе і выяўленне падабенства і адрознення паміж імі), гіст-тыпалагічны (выяўленне агульных рыс у прасторавых групах гіст падзей і з'яў ці вылучэнне аднародных стадый у бесперапынна-часавым іх развіцці), гіст-сістэмны (паглыблены аналіз сац-гіст сістэм, раскрыцце ўнутраных механізмаў іх функцыянавання), дыяхранічны (пабудова ў часе разнастайных па прыродзе гіст працэсаў), рэтраспектыўны (паслядоўнае пранікненне ў гіст мінулае з мэтай выяўлення прычыны дадзенай падзеі), выкарыстанне метадаў псіхалогіі (гл ў арт *Псіхагісторыя*), колькасныя метады, у т л інфармацыйныя колькасны аналіз (сутнасна-зместавы аналіз гіст з'яў на аснове атрыманай сістэмы іх лічбавых характарыстык), контэнт-ана-

нізкіх месцах, зімой шмат снегу — будзе добры ўраджай, зіма голая (без снегу) — гола будзе на полі і на лузе На ўраджай паказвалі і інш прыкметы іней перад Калядамі — на грыбное лета, у сакавіку сад у інеі — будзе вялікі ўраджай яблык і груш, але прападуць арэхі Выключнае значэнне ў прадказанні будучага ўраджаю надавалі стану месяца ў час сяўбы і нават у дзень вывазу гною веснавая сяўба ў маладзік (першая квадра) — не чакай добрага ўраджаю, гной на ніву пажадана было вывозіць у поўню (другая квадра), а калі сходнік (чацвертая квадра) ці маладзік, то вырасце толькі трава і т п

*Літ* Никифоровский Н Я Простонародные приметы и поверья, суеверные обряды и обычаи, легендарные сказания о лицах и местах Витебск, 1897, Минько Л И Суеверия и приметы (Истоки и сущность) Мн 1975 *Леанід Мінько*

**МЕХАЎСКІ РАЁН** Існаваў у БССР у 1935—58 Утвораны 12 2 1935 Пл 1,3 тыс км$^2$ (на 1 1 1941) Цэнтр — ст *Езярышча* Уключаў 15 сельсаветаў Віраўлянскі, Газьбенскі (Газьбянскі), Горацкі (Горкаўскі), Езярышчанскі, Зайкаўскі, Кузьмінскі, Межанскі, Мехаўскі, Обальскі, Паташненскі (Паташнянскі), Пылькінскі, Рудненскі (Руднянскі), Саладухінскі, Хвошненскі (Хвашнянскі), Халамерскі 3 20 2 1938 у складзе Віцебскай вобл 16 7 1954 скасаваны Горацкі, Обальскі, Паташненскі, Пылькінскі, Хвошненскі с/с, утвораны Кудзінскі с/с, 4 10 1957 скасаваны Езярышчанскі с/с 18 3 1958 М р перайменаваны ў *Езярышчанскі раён*

**МЕЦЭНАЦТВА** (ад імя Гая Цыльнія Мецэната, прыдворнага рымскага імператара Актавіяна Аўгуста, апекуна паэтаў Вергілія і Гарацыя), практыка матэрыяльнай і духоўнай падтрымкі мастацтва і навукі з боку багатых прыватных асоб

М як інстытут стараж-рымскай культуры перанята рэнесансавай Італіяй і з апекі над літаратарамі было пашырана на інш віды мастацкай творчасці У Беларусі вядома з 14 ст, але найб распаўсюдзілася з канца 15 ст Характэрнай рысай усіх форм вялікакняжацкага М была яго пракаталіцкая накіраванасць Пленным для бел культуры 16 ст з'явілася М з боку магнатаў, шляхты, мяшчан, якое было шматканфесійным Пры матэрыяльнай падтрымцы заможных гараджан Ю Адверніка, Я Бабіча, Б Вонкава стаў магчымым выхад у свет пражскіх і віленскіх выданняў Ф *Скарыны* Бел магнат Р А *Хадкевіч* даў у сваім маентку ў Заблудаве прытулак і магчымасць працягваць выдавецкую дзейнасць І *Федараву* і П *Мсціслаўцу* (апошняму пазней дапамагалі віленскія купцы *Мамонічы*) Пры пасрэдніцтве кн Мікалая Радзівіла Чорнага ў 1550—60 я г засн *Брэсцкія друкарні* і *Нясвіжская друкарня* Радзівілаў, стала развівацца свецкае кнігадрукаванне На аснове буйных архіўных і кніжных збораў, багатых калекцый жывапісу, зброі, прадметаў прыкладнога мастацтва, сабраных у 16—18 ст у магнацкіх уладаннях *Алелькавічаў, Астрожскіх, Пацаў*, Радзівілаў, *Сапегаў, Хадкевічаў, Храптовічаў* і інш, пазней створаны б-кі, музеі, архівы Уступленне на прастол Рэчы Паспалітай *Станіслава Аўгуста Панятоўскага* [1764—95] адзначыла новы ўздым М пасля пэўнага занападу, выкліканага войнамі 2-й пал 17 — 1-й чвэрці 18 ст Паліт і грамадскі дзеяч ВКЛ гродзенскі староста А *Тызенгаўз* заснаваў *Гродзенскі кадэцкі корпус, Гродзенскую медыцынскую акадэмію*, інш навуч установы, *Гродзенскі тэатр Тызенгаўза, Гродзенскую друкарню* і інш Вял асабістую падтрымку развіццю культуры ў 18 ст аказалі таксама М Казімір Агінскі, які заснаваў у Слоніме друкарню, оперны тэатр, капэлу і інш (гл ў арт *Агінскія*), і І *Храптовіч* Пасля далучэння бел зямель да Рас імперыі буйнейшым мецэнатам 1-й трэці 19 ст быў прыбліжаны Аляксандра I кн А Ю *Чартарыйскі*, які шмат зрабіў для развіцця асветы Карыснай для Беларусі была мецэнацкая дзейнасць М П *Румянцава* (сабраў каштоўныя рукапісныя, этнагр, нумізмат калекцыі і б-ку, якія сталі асновай Румянцаўскага музея) і І Ф *Паскевіча* (уладальнік вял мастацкага збору ў Гомельскім палацы) Вядомымі мецэнатамі сярэдзіны 19 ст былі К П *Тышкевіч* і Я П *Тышкевіч*, якія заснавалі *Лагойскі музей старажытнасцей* На мяжы 19—20 ст актыўна дапамагала маладым літаратарам і навукоўцам княгіня М І Радзівіл (дзявочае прозвішча Завіша), напр, зборнік вершаў М Багдановіча «Вянок» выйшаў у 1913 дзякуючы яе фінансавай падтрымцы, у гонар чаго на тытульным лісце змешчаны герб роду Завішаў «Лебедзь» У наш час М як з'ява культуры пачынае адраджацца ў выглядзе спонсарства — інвесціравання прыватнымі асобамі і арг-цыямі культуры, навукі, асветы, эканомікі Добрым прыкладам стала фінансавая падтрымка ў 1997 бел прадпрымальніка з Сібіры А Сілівончыка стварэння Крыжа на ўзор Узвіжальнага крыжа Ефрасінні Полацкай З'яўляецца ўсе больш разнастайных фондаў, накіраваных на падтрымку таленавітых праграм і ідэй *Настасся Скеп'ян*




Узоры мячоў 1 — каралінгскі, 2, 3 — раманскія, 4 — гатычны

**МЕЧ**, сякучая або сякуча-колючая зброя блізкага бою Сучаснае зброязнаўства вызначальнымі прыкметамі М лічыць наяўнасць прамога двухбакававострага клінка даўжынёй больш за 60 см і эфеса адкрытага тыпу У Еўропе М пачаў выкарыстоўвацца ў Грэцыі з мікенскага часу (16—12 ст да н э) Найб характэрныя інтэррэгіянальныя ўзоры еўрап М гальштацкі (Цэнтр і Зах Еўропа, 8—5 ст да н э), латэнскі (Цэнтр і Зах Еўропа, 5 ст да н э — 2 ст н э), саўрамата-сармацкі (Усх Еўропа, Паўн і Паўн Зах Прычарнамор'е, 7 ст да н э — 4 ст н э), тыпу познарымскай спаты (Міжземнамор'е, Цэнтр і Зах Еўропа, 2—5 ст), франка-аламанскі (Цэнтр і Зах Еўропа, 6—7 ст) каралінгскі (агульнаеўрапейскі, 8—11 ст), раманскі (агульнаеўрапейскі, 11—16 ст), гатычны (Цэнтр і Зах Еўропа 13—16 ст) Значныя змены адбываліся ў афармленні эфеса У 2-й пал 13 ст побач з аднаручнымі пачалі ўжывацца паўтарачныя, а з 13—14 ст двухзахопныя дзяржанні Найб ранняй прыкметай выкарыстання М на Беларусі з'яўляецца касцяная імітацыя крыжавіны М з гарадзішча *Пруднікі* (9 ст) Цэлыя або ў фрагментах М каралінгскага ўзору, дэталі іх эфесаў і наканечнікі похваў знойдзены ў Полацку, Гродне, на гарадзішчы Франапаль (Брэсцкі р-н, усе 10 ст), у Навагрудку, Друцку, курганных могільніках каля Брагіна і в Гарадзіла ва (Маладзечанскі р-н, усе 11 ст) Верагодна, М каралінгскага узору былі знойдзены ў курганах каля в Замошша (Браслаўскі р-н) і Папоўка (Аршанскі р-н) М раманскага ўзору прадстаўлены знаходкамі з Лукомля, в Гарадзішча (Мінскі р-н, абодва 11 ст), Друцка (11—12 ст), Мінска, Гомеля, Слуцка, Ваўкавыска, гарадзішчаў Вусце (Аршанскі р-н), Кісялі (Талачынскі р-н, усе 12 ст), *Маскавічы* (Браслаўскі р-н), Полацка, Гродна (усе 12—13 ст), Брэста (13 ст), Крычава (14 ст) М гатычнага ўзору знойдзены каля Старых Дарог (14 ст) і ў Мінску (16 ст) Клінкі М 10 ст маюць клеймы полацкі — зах-еўрап паходжання, а гродзенскі — верагодна, паўночнага Аднак даныя даследаванняў па гісторыі металургіі і металаапрацоўкі сведчаць, што на Беларусі ўжо ў той час існавалі сыравінныя і тэхналагічныя магчымасці для ўласнай вытв-сці клінкоў Выраб і мантаж простых, каваных з жалеза дэталей эфеса быў даступны нават майстрам невысокай кваліфікацыі У 13—16 ст вытворчасць М у Беларусі існавала безумоўна, а імпартнымі ў першую чаргу былі высокакаштоўныя вырабы Пісьмовыя крыніцы згадваюць палоннага мечніка-беларуса Ілью, пры-

мушанага ў канцы 14 — пач 15 ст працаваць у майстэрнях тэўтонскіх рыцараў Мечнікі сустракаюцца ў пераліку цэхавых спецыяльнасцей на Беларусі ў 16 ст і, па традыцыі, у больш познія часы Яшчэ ў 17 ст выраб узорнага М («штукі») быў абавязковым экзаменам для рамеснікаў, якія хацелі стаць майстрамі цэхаў бел зброўнікаў У якасці асн віду клінковай зброі М выкарыстоўваўся ў Польшчы і ВКЛ да 2-й пал 16 ст Яго месца заняла *шабля* У Зах Еўропе М у канцы 16 ст быў канчаткова выцеснены *шпагай* і *палашом* У наступным за ім захавалася роля цырыманіяльнай зброі

*Літ* Б е х а й м В Энциклопедия оружия Пер с нем СПб, 1995, М а к у ш н і к а ў А Зброя вашчадкаў радзімічаў // Спадчына 1991 № 2, Л е в к о О Н Средневековая Орша и ее округа Орша, 1993, Л а с к а в ы й Г В К истории оружия Белорусского Подвинья в VI—XIII вв // Полоцкий летописец 1993 № 1, К р а ў ц э в і ч А. Комплекс зброі і рыштунку XIII ст з-пад Гродна // З глыбі вякоў Наш край Мн, 1992, Connoly P Greece and Rome at war London, 1981, M ü l l e r H, K ö l l i n g H Europäische hieb- und stichwaffen Berlin, 1981

*Георгий Ласкавы*

**МЕЧАНО́СЦЫ**, гл ў арт *Інфлянцкі ордэн*

**МЕ́ЧНІК**, м е ч н ы, пасада (урад) у ВКЛ у канцы 15—18 ст У час вял урачыстасцей М ВКЛ нес перад манархам аголены меч як сімвал вайсковай улады Існавалі таксама павятовыя М

*Уладзіслаў Вяроўкін Шэлюта*

**МЁРЫ**, гл *Міеры*

**МІЁРСКІ ГІСТО́РЫКА-ЭТНАГРАФІ́ЧНЫ МУЗЕЙ** Засн ў 1983 у г Міеры на базе школьнага музея, адкрыты 4 7 1994 Пл экспазіцыі 131 м², каля 1,7 тыс экспанатаў асн фонду, 6 залаў (1997) У зале археалогіі сярод экспанатаў жал прылады працы, касцяныя грабеньчыкі, шпілька-амулет у выглядзе галавы сабакі, шкляныя пацеркі, вітыя бранзалеты з заамарфнымі выявамі з могільнікаў, гарадзішчаў і селішчаў Міершчыны 2 залы прысвечаны гісторыі краю з пач 19 ст, падзеям вайны 1812, паўстанняў 1830—31 і 1863—64, рэвалюцыі 1905, 1-й сусв вайны, акупацыі ў 1918—20 ням і польск войскамі, умовам і стану развіцця нар гаспадаркі раёна ў складзе Польшчы, дзейнасці падполля і партыз руху ў Вял Айч вайну, развіццю сельскай гаспадаркі і прам-сці ў пасляваенны час Экспануюцца таксама вырабы нар ткацтва, ганчарства і бандарства, пляцення з саломкі і лазы, маляванкі *Тамара Мішчышына*

**МІЁРСКІ РАЁН** Размешчаны на ПнЗ Віцебскай вобл Пл 1,8 тыс км², нас 33,3 тыс ж (1998) Цэнтр — г *Міеры* Большая частка раёна ў межах Полацкай нізіны, на ПнЗ — Браслаўская града Рэкі Зах Дзвіна і яе левыя прытокі Дзісна з Авутай, Волта, Мерыца, Вята Шмат азёр (20 маюць рыбапрамысл значэнне), з іх найб Абстэрна, Ельна, Набіста, Важа, Орцы, Вял Язна, Мерскае Пад лесам 20% тэр раёна Прахо-дзяць чыгунка Друя—Міеры—Варапаева, аўтадарогі ад Міёраў на Браслаў, Дзісну, Друю, Полацк Верхнядзвінск Шаркоўшчыну і інш

Раён утвораны 15 1 1940 у Вілейскай вобл 12 10 1940 падзелены на 19 сельсаветаў Александроўскі, Барсукоўскі, Валькоўскі, Ваўкоўшчынскі, Дварнасельскі, Жукоўскі, Лебедзеўскі, Лявонпаўскі, Лявонпальскі, Мальцаўскі, Міёрскі, Навакрукаўскі, Новапагосцкі, Наўгародскі, Павяцкі, Перабродскі, Урбанаўскі, Чэраскі, Янчонкаўскі 1 5 1940 у раёне ўтвораны г п *Друя* У Вял Айч вайну ў пач ліп 1941 тэр раёна акупіравана ням фашыстамі, якія загубілі ў Міёрах і раёне 1902 чал, знішчылі разам з жыхарамі в Сухавежа Барацьбу з акупантамі вялі Міёрскія падп райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, партыз брыгады імя Ракасоўскага, імя Жукава, «Кастрычнік», 4-я Беларуская, імя Калініна, імя С М Каротківа, 16-я Смаленская, выдавалася падп газ «Кліч партызана» Раён вызвалены ў пач ліп 1944 войскамі 1-га Прыбалт фронту разам з партызанамі ў ходзе *Полацкай аперацыі 1944* З 20 9 1944 раён у складзе Полацкай, з 8 1 1954 — Маладзечанскай вобл 3 10 1959 да раёна далучаны г *Дзісна*, Мікалаеўскі, Сцяфанпольскі і Туркоўскі с/с Дзісенскага р-на З 20 1 1960 раён у Віцебскай вобл 25 12 1962 далучаны Дварноўскі, Завуццеўскі, Лужкаўскі, Празароцкі, Старынкаўскі і Язненскі с/с Пліскага р-на 18 3 1963 г п Друя перададзены Браслаўскаму р-ну, 12 2 1965 Празароцкі і Старынкаўскі с/с перададзены Глыбоцкаму р-ну На 1 1 1998 у М р 498 нас пунктаў, у т л г Дзісна, 11 сельсаветаў Даўгінаўскі Дварнасельскі, Завуццеўскі, Мікалаеўскі, Новапагосцкі, Павяцкі, Перабродскі, Туркоўскі, Узменскі, Чэраскі, Язненскі, 23 калгасы, 3 саўгасы, 36 фермерскіх гаспадарак, камбінат будматэрыялаў з цагельным з-дам (в Горкі), дзярж буд эксплуатацыйнае прадпрыемства меліярацыі воднай гаспадаркі (в Язна) У раёне 16 сярэдніх і 10 базавых школ, 11 дашкольных устаноў, вучэбна-выхаваўчы камбінат (в Маляўкі), 2 бальніцы, 33 фельч -акушэрскія пункты, 15 клубных і 30 бібліятэчных устаноў Выдаецца газ «Сцяг працы» Археал помнікі каля весак Гвардзейская, Кублішчына, Паддубнікі, Панізова, Прруднікі Язна і інш Брацкія магілы сав воінаў і партызан (вёскі Лявонпаль, Масеўцы Новы Пагост), магілы ахвяр фашызму (вёскі Дарожкавічы, Завуцце, Язна) Помнік у гонар Канстытуцыі 3 мая 1791 (в Лявонпаль) Помнікі архітэктуры цэрквы сярэдзіны 19 ст ў в Ідолта, 2 й пал 19 ст ў в Галомысла, пач 20 ст у в Нінікі, Крыжаўзвіжанская (1864—67) у в Цвецна, Мікалаеўская 2-й пал 19 ст ў весках Новы Пагост, Узмены Чэрасы, канца 19 ст ў в Калінавая Пакроўская сярэдзіны 19 ст ў в Сцяфанполле, Праабражэнская канца 19 — пач 20 ст ў в Язна, Троіцкія 1774 у в Лявонпаль, пач 20 ст ў в Кублішчына касцел 1-й пал 20 ст ў в Ідолта, званіца 16 ст ў в Навалака, капліцы 19 ст у весках Ідолта, Стэфанова, сядзібы 18—19 ст ў в Лявонпаль, 1810—20 у в Дзедзіна, канца 19 — пач 20 ст у в Камянполле Радзіма ўдзельніка рэв

руху ў Беларусі ў 1830—60-я г Г М Дмахоўскага, дзеяча нац-вызв руху ў Зах Беларусі П В Мятлы, бел і польск пісьменнікаў В К Савіча-Заблоцкага, Я Гушчы, П Сушко, бел грамадскіх, рэліг і культ дзеячаў Г Цітовіча, І Бобіча, Я Малецкага, Ч Сіповіча

*Літ* Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі Віцебская вобл Мн, 1985

*Язэп Бунто*

**МІЁРЫ**, Меры, Міры, Меры, горад, цэнтр *Міёрскага раёна* Размешчаны на беразе Міёрскага возера, за 190 км на ПнЗ ад Віцебска Чыг ст на лініі Друя—Варапаева, аўтадарогамі злучаны з Дзіснай, Верхнядзвінскам, Браславам, Шаркаўшчынай 9,3 тыс ж (1998)

Упершыню ўпамінаюцца пад 1514 як маентак Мярэя ў Браслаўскім пав ВКЛ У попісе войска ВКЛ 1567 згадваецца як маентак Меры (назва існавала да 19 ст), які належаў Р Мірскаму У 1621 уладальніца маентка Н Мірская заклала тут царкву З 1644 у М быў праваслаўны манастыр, які ў 1690 М Мірскі перадаў уніятам Паводле тастамента (1680) Сімяона Полацкага ён ахвяраваў на карысць манастыра частку грошай У 1691 пабудаваны касцел (існаваў да 1862) У 18 ст існавалі 5 маенткаў з назвай Меры, якія належалі Мірскім, Перасвет-Солтанам, Белікові чам, Клотам, Зяновічам, Пуцятам Пасля 2 га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) М ў Рас імперыі Мястэчка, цэнтр воласці Дзісенскага пав Мінскай, з 1842 Віленскай губ З 1866 дзейнічала нар школа (32 вучні ў 1878) У 1886 у М 110 ж, валаснос праўленне, 3 корчмы, адбываліся 2 кірмашы на год У 1903 у М 145 ж, яур вучылішча, царк прыходская школа У 1907 пабудаваны Успенскі касцел З 1922 М ў складзе Польшчы, мястэчка, цэнтр гміны Дзісенскага пав Віленскага ваяв У 1927 у М 422 ж, 2 млыны, аптэка, 5 крам, да 1931 працавала запалкавая ф-ка З 1939 у БССР 15 1 1940 цэнтр раёна Вілейскай вобл У Вял Айч вайну 3 7 1941 акупіраваны ням фашыстамі, якія загубілі ў М 662 чал Вызвалены 4 7 1944 войскамі 1-га Прыбалт фронту разам з партызанамі брыгады імя Калініна Вілейскага злучэння ў ходзе *Полацкай аперацыі 1944* З 1944 у Полацкай, з 1954 у Маладзечанскай, з 1960 у Віцебскай абл З 7 8 1957 гар паселак 1,9 тыс ж у 1959, 5 7 тыс ж у 1970 З 7 8 1972 горад Працуюць мясакамбінат, малаказавод, хлебазавод, ільнозавод, камбікормавы з-д, МПМК-55 будаўнікоў, райаграпрамтэхніка, сельгасхімія, камбінат быт абслугоўвання У горадзе 3 сярэднія і дзіцяча-юнацкая спарт школы, школа мастацтваў, 3 дашкольныя ўстановы, Дом піянераў, раённы Дом культуры, *Міёрскі гісторыка-этнаграфічны музей*, 2 б-кі, бальніца, паліклініка Брацкая магіла сав воінаў і партызан Помнік Вызвалення, Курган Славы Помнік архітэктуры — Успенскі касцел (пач 20 ст)

*Вітальд Ермаленак*

**МІЖНАРО́ДНАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ ДАПАМО́ГІ БАРАЦЬБІТА́М РЭВАЛЮ́ЦЫІ** (МОПР) Існавала ў 1922—47 Афіцыйна стваралася для дапамогі ахвярам белага тэрору і барацьбітам супраць фашызму і вайны Знаходзілася пад кіраўніцтвам Камінтэрна і нац кампартый Ініцыятары яе стварэння старыя бальшавікі і паліткатаржане Ю Ю Мархлеўскі (1-ы старшыня ЦК МОПРа СССР), **Ф Я Кон**, **П М** *Лепяшынскі* і інш Дзейнасцю МОПРа кіраваў Выканаўчы к-т, які знаходзіўся ў Маскве і выбіраўся на сусв кангрэсах У 1937 секцыі МОПРа існавалі ў 74 краінах свету і налічвалі каля 15 млн чал Найб масавай была секцыя МОПРа ў СССР (у 1937 каля 9 млн чал) З 1923 дзень Парыжскай камуны (18 сак) праводзіўся як дзень МОПРа Друкаваны орган — час «Интернациональный маяк»

25 12 1923 адбылося 1-е пасяджэнне «Арганізацыйнага бюро МОПРа пры Беларускім бюро ЦК РКП(б)» У 1924 арг-цыі МОПРа ствараюцца ў акругах, на прадпрыемствах, у вайск часцях, навуч установах, пазней — у вёсках 17 5 1924 праведзена Усебел канферэнцыя, на якой абраны Бел к-т МОПРа 7 5 1925 адбыўся 1-ы Усебел з'езд (40 дэлегатаў ад 128 528 чл МОПРа) На ім абраны ЦК МОПРа БССР (старшыня А С Славінскі), пры якім працавала Бел аддзяленне палітэміграцыі (аказвала дапамогу палітэмігрантам і іх сем'ям) У студз 1928 адбыўся 2-і Усебел з'езд У 1929 МОПР БССР налічвала каля 180 тыс чл, працавалі 8 акр, 102 раённыя, 3 тыс нізавых арг цый Праводзіліся кампаніі ў абарону паліт зняволеных у капіталіст краінах, у абарону ахвяр тэрору ў Зах Беларусі, вялося шэфства над палітвязнямі 110 турмаў Зах Еўропы У даваен перыяд працоўныя БССР сабралі ў фонд дапамогі замежным змагарам рэвалюцыі каля 20 млн руб У 1930-я г арг-цыі МОПРа актыўна ўдзельнічалі ў стаханаўскім руху, сац спаборніцтве, арганізацыі калгасаў, распаўсюджванні пазыкі індустрыялізацыі, правядзенні паліт кампаній супраць т зв «ворагаў народа» У 2-й пал 1930-х г дзейнасць МОПРа знаходзілася пад кантролем парторганаў і жорстка рэгламентавалася, многія кіраўнікі акр і раённых арг-цый былі рэпрэсіраваны МОПР БССР падтрымлівала сувязі з арг-цыяй «Чырвоная дапамога» ў Зах Беларусі (гл *Міжнародная арганізацыя дапамогі рэвалюцыянерам Заходняй Беларусі*) Пасля ўз'яднання Зах Беларусі з БССР пачалі ствараюцца агульныя арг-цыі МОПРа, да 1941 яны аб'ядноўвалі каля 170 тыс чл З 10 1 1941 пачаўся абмен мопраўскіх дакументаў, што фактычна азначала чыстку арг-цыі У гэты час МОПР БССР налічвала каля 500 тыс чл, якія былі аб'яднаны ў 7 990 ячэек У Вял Айч вайну яна фактычна спыніла сваё існаванне З 1944 аднавіла дзейнасць, аднак яна была скіравана толькі на ўдзел у паліт кампаніях і вырашэнне эканам задач У 1947 дзейнасць МОПРа была спынена

*Васіль Кушнер*

**МІЖНАРО́ДНАЯ АРГАНІЗА́ЦЫЯ ДАПАМО́ГІ РЭВАЛЮЦЫЯНЕ́РАМ ЗАХО́ДНЯЙ БЕЛАРУ́СІ**, МОПР Заходняй Беларусі, Чырвоная дапамога Заходняй Беларусі, масавая грамадская арганізацыя ў Зах Беларусі, якая праводзіла шырокія кампаніі ў абарону дэмакр правоў і свабод, аказвала маральную, матэрыяльную і юрыд дапамогу палітвязням незалежна ад іх паліт прыналежнасці, змагалася за іх вызваленне Створана ў 1924 у выніку аб'яднання гурткоў Чырв Крыжа, якія займаліся дапамогай палітзняволеным Уваходзіла на правах аўтаномнай арг-цыі ў склад МОПРа Польшчы Працавала пераважна пад кіраўніцтвам *Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі* На 15 1 1925 у Зах Беларусі было 878 членаў МОПРа Да канца 1928 дзейнічалі 6 акр, у студз 1932 — 9 акр і 48 раённых мопраўскіх к-тау У кастр 1933 у МОПР Зах Беларусі і Зах Украіны ўваходзіла 3 тыс чал 70% членаў МОПРа Зах Беларусі былі беспартыйныя Работу арг-цый МОПРа ўзначальваў ЦК (знаходзіўся ў Вільні) Дзейнічаў сакратарыят ЦК МОПРа Зах Беларусі ЦК падпарадкоўваліся акр к-ты, пры іх існавалі камісіі гаспадарчая, прапагандысцкая, мед, юрыдычная У кожным раёне і падраёне дзейнічалі адпаведныя к ты, пры якіх працавалі мопраўскія тройкі, што ствараліся на прадпрыемствах, у прафсаюзах, Т-ве бел школы, спарт і інш легальных арг-цыях У 2 й пал 1930-х г да дзейнасці МОПРа далучыліся многія члены ППС, інш партый і арг цыі, а таксама беспартыйныя Гэта садзейнічала ператварэнню яго ў масавую арг-цыю *антыфашысцкага народнага фронту* У 1927—28 сакратаром ЦК МОПРа Зах Беларусі быў І Жыулюк, з 1937 — Р Пірышка ЦК МОПРа Зах Беларусі выдаваў газ *«Чырвоная дапамога»*, «Палітычны вязень», «Турмы клічуць да барацьбы», «Бюлетэнь ЦК МОПРа», Беластоцкі акр к-т МОПРа — газ «Moprowec Białystocki» («Беластоцкі моправец») Пры садзейнічанні МОПРа палітвязні гродзенскай турмы выдавалі рукапісныя газ «Вастрожныя думкі», віленскай — «Лукішскі сцяг», пінскай — «Знамя политарестованных» У Вільні ў турме Лукішкі штомесяц у 2 экз выходзіў рукапісны час «Краты» У 1930 выпускалася 7 турэмных выданняў Выдаваліся мопраўскія адозвы і лістоўкі Важнае значэнне ў барацьбе за дэмакр правы і свабоды, у абарону палітзняволеных мела раскрыццё МОПРам у друку фактаў дэспатызму ўлад, становішча ў турмах У 1925 МОПР Зах Беларусі ўдзельнічаў у кампаніі ў абарону дэпутата польскага сейма С Ланцуцкага, у 1927—28 — у аба-

дапамогі рэспублікі складае нязначную частку Беларусь актыўна ўдзельнічае ў працы такіх функцыянальных органаў ААН, як Еўрап эканам камісія (ЕКЕ), Дзіцячы фонд ААН (ЮНІСЕФ), ПРААН, Канферэнцыя Аб'яднаных Нацый па гандлі і развіцці (ЮНКТАД) і інш У 1995 у Мінску адкрыта прадстаўніцтва Упраўлення Вярх камісара ААН па бежанцах, у 1996 — пастаяннае прадстаўніцтва Міжнар арг-цыі па мігрантах У крас 1994 Мінск з трохдзенным візітам наведаў Ген сакратар ААН Б Бутрас-Галі У кастр 1995 Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А Р Лукашэнка выступіў на спец урачыстым пасяджэнні Ген Асамблеі, прысвечаным 50-годдзю ААН Паводле Даклада ААН аб развіцці чалавека за 1997, Беларусь займае 62-е месца сярод 175 краін і аднесена ў групу з сярэднім узроўнем развіцця чалавечага патэнцыялу

Пасля абвяшчэння незалежнасці і ўсеагульнага міжнар прызнання Рэспубліка Беларусь была прынята ў члены Нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе (НБСЕ, Прага, 30 1 1992) 27 2 1992 Беларусь падпісала Хельсінкскі Заключны акт, 10 4 1992 — Парыжскую хартыю для новай Еўропы 21 10 1992 Вярх Савет Рэспублікі Беларусь ратыфікаваў Дагавор аб звычайных узбр сілах у Еўропе (ДЗУСЕ) Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь выступіў на форумах АБСЕ у Будапешце і Лісабоне з прапановамі стварэння бяз'ядзернай прасторы ў Цэнтр і Усх Еўропе Рэспубліка Беларусь выступіла таксама з ініцыятывай правядзення ў Мінску канферэнцыі па Нагорным Карабаху (24 3 1992 створана Мінская група па Нагорным Карабаху), пасрэдніцкай ролі Беларусі ў канфлікце ў Прыднястроўі, размяшчэння ў Мінску сакратарыята Вярх камісара НБСЕ па нац меншасцях У час сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў краін — удзельніц НБСЕ у Будапешце (снеж 1994) Беларусь, Вялікабрытанія, ЗША і Расія падпісалі Мемарандум аб гарантыях бяспекі Беларусі Будапешцкая сустрэча прыняла рашэнне перайменаваць з 1 1 1995 НБСЕ у Арг-цыю па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (АБСЕ) У ліст 1996 у Мінску Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Лукашэнка і Ген сакратар АБСЕ Д.Арагон абмеркавалі пытанні, звязаныя з выканнем Беларуссю Дагавора аб звычайных узбр сілах у Еўропе Лукашэнка заявіў аб падтрымцы ініцыятыў АБСЕ па мірным урэгуляванні рэгіянальных канфліктаў і гатоўнасці Рэспублікі Беларусь аказваць у гэтым неабходнае садзейнічанне На сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў краін — удзельніц АБСЕ у Лісабоне (снеж 1996) Прэзідэнт Лукашэнка выклаў пазіцыі краіны па ключавых пытаннях пабудовы архітэктуры еўрап бяспекі і ролі АБСЕ у гэтым працэсе АБСЕ разам з Еўрап Саюзам (ЕС) і Саветам Еўропы (СЕ) заяўляе пра гатоўнасць садзейнічаць працэсу дэмакратызацыі і канструктыўнаму дыялогу паміж прэзідэнцкай адміністрацыяй і прадстаўнікамі Вярх Савета Рэспублікі Беларусь 3 сак 1998 у Мінску дзейнічае кансультацыйна-назіральная група АБСЕ На 1 7 1998 членамі АБСЕ былі 55 краін Еўропы, Азіі і Паўн Амерыкі Асн органы АБСЕ знаходзяцца ў Вене

Першыя афіц кантакты паміж Беларуссю і ЕС устаноўлены ў ліп 1992 у час візіту ў Мінск прэзідэнта Еўрапарламента Э Клепша ЕС аказвае рэспубліцы садзейнічанне ў рамках праграмы TACIC (тэхн дапамога краінам СНД), пераадоленні вынікаў Чарнобыльскай катастрофы 1986 У сак 1995 у выніку візіту Прэзідэнта Лукашэнкі ў Брусель падпісана пагадненне аб партнерстве і супрацоўніцтве паміж ЕС і Рэспублікай Беларусь Яно разлічана на 10 гадоў і ўстанаўлівае рамкі для развіцця паліт, эканам, гандл і культ сувязей паміж Беларуссю і 15 краінамі ЕС ЕС прызнае Беларусь краінай з пераходнай эканомікай, прадастаўляе ей рэжым найб спрыяння ў гандлі, гатовы садзейнічаць правядзенню эканам рэформ, ліквідацыі бар'ераў у гандлі паміж краінамі ЕС і Беларуссю Пагадненне прадугледжвае паляпшэнне магчымасцей для дзейнасці кампаній з ЕС у Беларусі і наадварот, а таксама ўмоў для прамых інвестыцый і найму, руху капіталу, плацяжоў, паслуг Але яно не ўступіла ў сілу Пасля лістападаўскага рэферэндуму 1996 кіруючыя органы ЕС спынілі праграмы дапамогі для Беларусі за выключэннем тых, мэтай якіх, на іх думку, з'яўляецца падтрымка дэмакратыі і свабоды сродкаў масавай інфармацыі У 1997 у Мінску адбыліся кансультацыі паміж Адміністрацыяй Прэзідэнта і прадстаўнікамі Вярх Савета, на якіх з пасрэдніцкай місіяй выступалі прадстаўнікі ЕС і СЕ У вер 1992 Беларусь атрымала статус спецыяльна запрошанай краіны ў СЕ На 1 7 1997 членамі СЕ былі 40 дзяржаў, у т л краіны Цэнтр і Усх Еўропы Мэтамі СЕ з'яўляюцца абарона правоў чалавека і пашырэнне дэмакратыі, супрацоўніцтва па асн пытаннях права, культуры, адукацыі, інфармацыі, аховы навакольнага асяроддзя і здароўя Асн органы СЕ знаходзяцца ў Страсбургу (Францыя) У вер 1995 створаны Міжведамасны савет Беларусі па супрацоўніцтве з СЕ, які распрацаваў шэраг мерапрыемстваў па ўступленні краіны ў СЕ і каардынацыі дзейнасці дзярж органаў і грамадскіх арг-цый па супрацоўніцтву з гэтай міжнар міжурадавай арг-цыяй У 1993 Рэспубліка Беларусь падала заяўку на ўступленне ў СЕ Яна была разгледжана ў 1994 Кабінетам Міністраў, падтрымана ім і перададзена на разгляд Парламенцкай асамблеі СЕ (ПАСЕ) Рэспубліка Беларусь удзельнічала ў рабоце асобных органаў СЕ, напр, у Савеце па культ супрацоўніцтву У 1993 Беларусь падпісала Канвенцыю СЕ па культуры, у 1994 уступіла ў Венецыянскую камісію «Дэмакратыя праз правы» Пасля лістападаўскага рэферэндуму 1996 Бюро прыпыніла дзеянне статусу «спецыяльна запрошанага» ў адносінах да парламента Беларусі 3 сак 1992 рэспубліка з'яўляецца членам Савета паўн-атлантычнага супрацоўніцтва (СПАС), створанага 20 12 1991 у штаб-кватэры НАТО у Бруселі па рашэнні 16 краін-членаў НАТО і 9 краін Усх Еўропы (былых краін Арг-цыі Варшаўскага Дагавора) У СПАС уваходзяць краіны НАТО, усе былыя рэспублікі СССР, краіны Цэнтр і Усх Еўропы, якія не звязаны з НАТО дагаворам аб бяспецы У чэрв 1997 СПАС пераўтвораны ў Савет Еўраатлантычнага партнерства, які на 1 7 1997 аб'ядноўваў 43 краіны, у т.л Беларусь З вясны 1992 Вярх Савет Рэспублікі Беларусь быў запрошаны да ўдзелу на ўзроўні асацыраванай дэлегацыі ў рабоце Паўн-атлантычнай асамблеі (ПАА) — пастаяннага міжпарламенцкага органа НАТО, створанага з мэтай выпрацоўкі агульных заканадаўчых падыходаў краін НАТО і інш дзяржаў Зах Еўропы

Пасля распаду Арг-цыі Варшаўскага Дагавора і СССР перад Беларуссю паўстала праблема вызначэння адносін з НАТО (Арг-цыі Паўн-атлантычнага дагавора) — ваенна-паліт блока 16 краін Зах Еўропы і Паўн Амерыкі, створанага ў 1949 У ліст 1992 Беларусь наведаў Ген сакратар НАТО М Вернер Ён заявіў, што Захад і НАТО з павагай ставяцца да імкнення Беларусі стаць нейтральнай і бяз'ядзернай дзяржавай, яны зацікаўлены ў добрых адносінах з Беларуссю і яе суседзямі У кастр 1993 дзярж сакратар ЗША У Крыстафер наведаў Рэспубліку Беларусь і запрасіў яе да ўдзелу ў праграме НАТО «Партнерства дзеля міру» («ПДМ») Афіцыйна Беларусь далучылася да «ПДМ» 11 1 1995 На працягу 1995 урадам распрацоўваўся Прэзентацыйны дакумент аб супрацоўніцтве Рэспублікі Беларусь з НАТО, зацверджаны ў штаб-кватэры НАТО 29 4 1996 У гэтым дакуменце вызначаны асн кірункі супрацоўніцтва Беларусі з НАТО абмен інфармацыяй, рэгулярнае правядзенне двухбаковых кансультацый па пытаннях бяспекі, прыцягненне новых тэхналогій у галіне канверсіі, экалогіі і скарачэння ўзбраенняў У 1997 распрацавана і ўхвалена Індывідуальная праграма партнерства Беларусі з НАТО на 1997—99, у якой прадугледжваецца ўдзел прадстаўнікоў Беларусі ў сумесных з НАТО мерапрыемствах па ўзгодненых кірунках супрацоўніцтва З 1994 Прэзідэнт і кіраўніцтва рэспублікі актыўна выступілі супраць механічнага пашырэння НАТО на Усход На думку Беларусі, такое рашэнне стала б вял гіст памылкай Захаду, якая здольна зноў прывесці Еўропу да новага супрацьстаяння і ўзнікнення раздзяляльных ліній Са свайго боку Беларусь прытрымліваецца прагматычнага падыходу да супрацоўніцтва з НАТО працягваецца ўдзел у «ПДМ»,

**МІКАЛА́Й II** [6(18) 5 1868—17 7 1918], апошні расійскі імператар [21 10(2 11) 1894—2(15) 3 1917] Старэйшы сын Аляксандра III і імператрыцы Марыі Федараўны Да ўступлення на трон у чыне палкоўніка камандаваў 1-м батальёнам лейб-гвардыі Праабражэнскага палка З 14 11 1894 у шлюбе з прынцэсай Алісай Гесенскай (у праваслаўі Аляксандра Федараўна), меў дзяцей Вольгу, Таццяну, Марыю, Настассю, Аляксея Ва ўнутр палітыцы рабіў стаўку на спалучэнне рэпрэсіўнай дзейнасці з «паліцэйскім сацыялізмам» (гл *Зубатаўшчына*) Пры М II у 1895—97 праведзена грашовая рэформа С Ю Вітэ, у 1897 — усерасійскі перапіс насельніцтва Маніфестам 17 кастр 1905 абвешчаны паліт свабоды (слова, друку, сходаў і інш ), утварэнне заканадаўчай Дзярж думы, у гэтыя ж дні створаны новы ўрадавы орган — Савет Міністраў М II санкцыяніраваў правядзенне П А Сталыпіным шэрагу рэформ, у т л *Сталыпінскай аграрнай рэформы* У 1911 у Віцебскай, Магілёўскай, Мінскай губ і на Правабярэжнай Украіне ўведзены земствы Земская рэформа ў Віленскай і Гродзенскай губ адкладвалася на няпэўны тэрмін з-за боязі павелічэння тут уплыву польскіх землеўладальнікаў Пры М II набылі ўплыў прыхільнікі правядзення актыўнай знешняй палітыкі У 1896 Расія атрымала канцэсію на будаўніцтва і эксплуатацыю кітайскай усх чыгункі, у 1898 — на 25 гадоў порты Артур і Таленван Вайна з Японіяй 1904—05 скончылася паражэннем Расіі, якая страціла Курыльскія астравы і частку Сахаліна Англа-расійскае пагадненне 1907 фактычна аформіла Траістую згоду (Антанту), у складзе якой Расія уступіла ў 1-ю сусв вайну 1914—18 У жн 1915 М II узяў на сябе вярхоўнае галоўнакамандаванне і выехаў у Стаўку ў Магілёў У выніку Лют рэвалюцыі 1917 М II адрокся ад прастола, праз некалькі дзён арыштаваны Часовым Урадам і адпраўлены ў Габольск У грамадз вайну разам з сям'ёй расстраляны чэкістамі ў Екацярынбургу

*Кр* Богданович А.В Три последних самодержца М, 1990, Бьюкенен Дж. Мемуары дипломата Пер с англ 2 изд М, 1991 Великий князь Александр Михайлович Кн воспоминаний М, 1991, Витте С Ю Избр воспоминания, 1849—1911 гг М, 1991 Воейков В Н С царем и без царя Воспоминания последнего дворцового коменданта государя императора Николая II М, 1995, Дневники императора Николая II Тверь, 1992, Отречение Николая II Воспоминания очевидцев, документы М, 1990,

*Літ* Боханов А Николай II М, 1997, Ольденбург С С Царствование императора Николая II М, 1992

**МІКАШЭ́ВІЧЫ**, рабочы пасёлак у Лунінецкім р-не, на р Валхва (правы прыток Случы) На аўтадарозе Мікашэвічы—Слуцк За 54 км на У ад Лунінца Чыг ст на лініі Лунінец—Калінкавічы 15,5 тыс ж (1998)

М В **Мікешын** Помнік «Тысячагоддзе Расіі» ў Ноўгарадзе 1862

У 19 ст веска Ленінскай вол Мазырскага пав З часу пракладкі Палескіх чыгунак (1880-я г ) — мястэчка і буйная станцыя, пабудаваны фанерна-лесапільны з-д па вытв-сці фанеры, дошак і гонтаў (у 1910 — 231 рабочы) У 1921—39 у Польшчы, мястэчка Лунінецкага пав Палескага ваяв З 1939 у БССР, з 15 1 1940 рабочы пасёлак, цэнтр сельсавета ў *Ленінскім раёне* У Вял Айч вайну з ліп 1941 да 9 7 1944 акупіраваны ням -фаш захопнікамі З 8 6 1950 цэнтр Ленінскага р-на З 20 1 1960 у Лунінецкім р-не Вытворчае аб'яднанне «Граніт» (на базе радовішча бутавага каменю), каменеапрацоўчы і ліцейна-механічны з-ды, з-д спец жалезабетону, буд ўпраўленне, ПМК-22, камбінат быт абслугоўвання, лясгас, рачны порт на Мікашэвіцкім канале (за 6 км на З ад М ) 3 сярэднія школы, муз школа, 7 дашкольных устаноў, Палац культуры, кінатэатр, 2 б-кі, бальніца Брацкая магіла сав воінаў Царква Іаана Хрысціцеля (1920—30-я г )

**МІКЕ́ШЫН** Міхаіл Восіпавіч [9(21) 2 1835, в Платонава Рослаўскага пав Смаленскай губ, цяпер Рослаўскі р-н Смаленскай вобл, Расія — 19(31) 1 1896], скульптар і мастак-рысавальшчык. Творчасць звязана з маст жыццём Расіі і Беларусі Вучыўся ў Пецярбургскай АМ (1852—58) Паводле яго праектаў групай скульптараў створаны помнікі «Тысячагоддзе Расіі» ў Ноўгарадзе (1862), Кацярыне II у Пецярбургу (1873), Багдану Хмяльніцкаму ў Кіеве (1888) і інш Аўтар шэрагу замалевак з жыцця беларусаў («Сцэна колішняга рэкруцкага набору Клімавічы», 1865, «Каханне», 1879, «Паштовая эстафета Беларусь», 1892, «Банкір і шляхціц», «Жабрачка»), а таксама некалькі «смехатворных лістоў» для выдання І Сыціна «Народныя карціны», у т л ліст «Без музыкі, без дуды ходзяць ногі не туды» (1886)

*Тв* Воспоминания художника // Неман 1969 № 11

*Літ* Савинов А. Микешин [Альбом] М, 1971 *Галія Фатыхава*

**МІКО́ЛА**, старадаўняе каляндарна-абрадавае свята Вядомы 2 М веснавы, або цёплы (святкаваўся 9 мая с ст ), і зімовы (6 снежня с ст ), т зв міколь шчына Паводле нар вераванняў, М — заступнік земляроба, клапоціцца пра ўраджай На веснавога М упершыню пасля зімы выводзілі коней на начлег Пры гэтым начлежнікі ладзілі балек і рабілі розныя магічныя захады, накіраваныя на забеспячэнне конскага статку ад псавання Пастухам-начлежнікам належала ўсю ноч на 9 мая не спаць пільнаваць, каб злыя сілы (ведзьмакі) не прычынілі коням якой-небудзь шкоды Лічылася, калі на М жывела наесца

М В **Мікешын** Тыпы Магілёўскай губерні Малюнак

номіцы Беларусі ў 1917—1920 гг.» (1966), «Гісторыя Мінска» (1967), «Эканамічная гісторыя БССР» (1969), «Гісторыя Беларускай ССР» (т 3, 1973), «Гісторыя сялянства Беларусі» (т 1, 1997) і інш. Аўтар 3б-каў вершаў

*Тв* Першыя крокі калгаснага руху ў Беларусі (кастр 1917 г — 1920 г) Мн, 1958.

**МІЛАВІ́ДАЎ** Аляксандр Іванавіч (1864—пасля 1933), гісторык, археограф, бібліёграф. Скончыў Маскоўскую духоўную акадэмію. Супрацоўнік Віленскай публічнай б-кі, дырэктар музея М М *Мураўёва*. Даследаваў помнікі кірылічнага пісьменства, гісторыю правасл царквы, паўстання 1863—64, рэліг сектаў, архіўнай справы. Стаяў на пазіцыях «*заходнерусізму*». Падрыхтаваў да выдання «Архіўныя матэрыялы Мураўёўскага музея, якія датычацца польскага паўстання 1863—1864 гг. у межах Паўночна-Заходняга краю» (ч. 1—2, Вільня, 1913—15; рукапіс 3-га т ў Гіст. архіве Літвы) Выдаваў каталогі апісанняў старадрукаваных кніг са збораў Вільні З 1918 на архіўнай рабоце ў Петраградзе

*Тв* Описание славяно-русских старопечатных книг Виленской публичной библиотеки (1491—1800 гг) Вильна, 1908; Старопечатные славяно-русские издания, вышедшие из западно-русских типографий XVI—XVII вв Вильна, 1908, Рукописное отделение Виленской публичной библиотеки. Его история и состав Вильна, 1910, Современное штундобаптистское движение в Северо-Западном крае Вильна, 1910

*Літ*· Леончиков В Е. Белорусская библиография Общий курс. Мн, 1983 С 53—55.

*Дзмітрый Караў*

**МІЛАВІ́ДАЎ** Ігар Мікалаевіч [5(18).4.1910, в. Падгароддзе Дрысенскага пав., цяпер Верхнядзвінскага р-на — 30.3.1984], генерал-лейтэнант артылерыі (1966). Скончыў ваен. акадэміі імя Фрунзе (1941) і Генштаба (1952). У Чырв. Арміі з 1927. Удзельнік баёў каля воз. Хасан у 1938. У Вял. Айч. вайну на Зах., Волхаўскім, 1-м і 2-м Укр. франтах: нач. штаба артыл. дывізіі, камандзір артыл. палка, камандуючы артылерыяй дывізіі. Удзельнік Корсунь-Шаўчэнкаўскай, Уманскай, Яска-Кішынёўскай, Будапешцкай і Венскай аперацый. Да 1969 на камандных пасадах у Сав. Арміі.

**МІЛАВІ́ДСКАЯ БІ́ТВА 1863**, бітва паміж паўстанцамі і рас. войскамі ў час *паўстання 1863—64* у Польшчы, Беларусі і Літве. У сярэдзіне мая 1863 у лагеры пад Мілавідамі (Слонімскі пав., цяпер Баранавіцкі р-н) сканцэнтраваліся Слонімскі, Ваўкавыскі, Гродзенскі, Навагрудскі, Пружанскі паўстанцкія атрады (каля 800 чал.). Лагер паўстанцаў знаходзіўся ў лесе паблізу шашы Брэст—Бабруйск. Камандаванне аб'яднанымі сіламі ўзяў на сябе А.*Лянкевіч*. 21 мая паўстанцкія сілы ў мілавідскім лагеры інспектаваў К.*Каліноўскі*. На падаўленне паўстання царскія ўлады кінулі войскі са Слоніма і Нясвіжа. Першай падышла калона са Слоніма (3 роты Стараінгерманландскага пяхотнага палка з 4 гарматамі і коннай групай) на чале з падпалкоўнікам Булгарыным. 22 мая (3 чэрвеня) рас. войскі з розных бакоў атакавалі лагер. Бой працягваўся некалькі гадзін, паўстанцы вытрымалі ўсе атакі. Калі стала цямнець, царскія войскі адступілі на зыходныя пазіцыі, страціўшы 50 чал. забітымі і параненымі. Хутка ім на дапамогу падаспела калона з Нясвіжа (2 роты Новаінгерманландскага палка), і назаўтра наступленне аднавілася, але паўстанцы да гэтага часу пакінулі лагер і разышліся ў розныя бакі (іх страты — 18 чал.). Забітыя паўстанцы і царскія вайскоўцы паводле загаду Булгарына былі пахаваны каля шашы ў розных магілах. На месцы пахавання рас. салдат быў устаноўлены чыгунны крыж, у гонар паўстанцаў — капліца-помнік (1930-я г.). У 1990 пастаўлены яшчэ адзін памятны знак — камень з мемарыяльнай плітой і надпісам па-беларуску. У 1993 Мілавідскай школе прысвоена імя А.Лянкевіча, памяць пра гэтыя падзеі захоўваецца тут і ў назве вуліцы Паўстанцаў.

*Літ*. Восстание в Литве и Белоруссии 1863—1864 гг.: Материалы и док. М., 1965, Смирнов А.Ф. Восстание 1863 г. в Литве и Белоруссии. М., 1963; Супрун В. Бітва пад Мілавідамі // Беларусь. 1973. № 5

*Генадзь Кісялеў*

Да арт. **Мілавідская бітва 1863.** Мемарыяльная капліца ў гонар паўстанцаў. 1930—33.

**МІЛАГРА́Д**, комплекс археалагічных помнікаў *мілаградскай культуры* і *зарубінецкай культуры* каля в. Мілаград Рэчыцкага р-на

Гарадзішча 4 ст. да н.э. — 2 ст н.э. Выявіў А.Дз.Каваленя (1935), даследавалі Ю.У.Кухарэнка (1952), В.М.Мельнікоўская (1955, 1957—58, 1961). Выяўлены рэшткі жытлаў слупавой канструкцыі, слупавыя і гасп. ямы, фрагменты мілаградскага і зарубінецкага посуду, 2 бронзавыя трохвугольныя падвескі, 6 бранзалетападобных кольцаў, бронзавыя і жал. позналатэнскія фібулы, 2 бронзавыя званочкі, каменная зерняцерка, жал. сярпы, тыглі, льячкі, гліняныя праслiцы, грузілы і інш. Ад гарадзішча атрымала назву мілаградская культура.

Селішча. Даследавала Мельнікоўская (1955). Выяўлены рэшткі жытлаў, фрагменты познамілаградскай керамікі і адзінкавыя абломкі зарубінецкага посуду.

*Літ*. Мельниковская О Н Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке М, 1967

**МІЛАГРА́ДСКАЯ КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура плямён, якія жылі ў бас Дняпра паміж сярэднім цячэннем Бярэзіны на Пн і р. Рось на Пд, Зах. Бугам на З і р. Іпуць на У (тэр. Пд Беларусі і Укр. Палесся). Назва ад гарадзішча *Мілаград* Рэчыцкага р-на Гомельскай вобл Большасць археолагаў датуе М к. 7—3 ст. да н.э. На думку С.Я.Расадзіна яе межы больш шырокія — 9 ст да н э. — 1 ст н.э Характэрны 2 тыпы паселішчаў умацаваныя — гарадзішчы і неўмацаваныя — селішчы. Яны размяшчаліся на берагавых мысах рэк, пратокаў, водападзелаў і ў забалочаных мясцінах, паплавах на невял. узвышшах. У Падняпроўі і Пасожжы ўмацаванні рабілі ў выглядзе валоў і равоў з боку поля, а ў Палессі валы і равы ўмацоўвалі пляцоўкі з усіх бакоў. Ня-

Гліняны гаршчок з гарадзішча **Мілаград** Рэчыцкага раёна.

рэдка гарадзішчы мелі 2 і больш пляцовак, аддзеленых адна ад аднойваламі (*Гарошкаў*, Мілаград) Селішчы вядомы ва ўсім арэале культуры У Падняпроўі яны прымыкаюць да гарадзішчаў і ўтвараюць з імі адзіны гасп -эканам комплекс На Палессі яны існуюць незалежна ад гарадзішчаў Асн тып жытлаў — зямлянкі, паўзямлянкі і наземныя пабудовы (апошнія характэрны для палескіх помнікаў) Памяшканні прамавугольнай або акруглай формы плошчай 12—16 м² слупавой канструкцыі і з выступам каля адной са сцен размічаны на адну сям'ю Агнішчы адкрытыя, у круглых і авальных ямах, размешчаны паміж апорным слупам і сцяной У гасп мэтах выкарыстоўваліся пабудовы тыпу хлявоў і ям-скляпоў Пахавальныя помнікі — курганныя і бескурганныя (грунтавыя) могільнікі Да ранняга этапу культуры належаць курганы — паўсферычныя невысокія насыпы дыяметрам да 22 м Пахавальны абрад — трупапалажэнне на пясчанай падсыпцы, або на гарызонце ў драўляных зрубах, а таксама ў неглыбокіх мацерыковых ямах Пахавальны інвентар складалі адзін або некалькі гаршкоў, радзей — зброя ці ўпрыгожанні Бескурганныя (грунтавыя) могільнікі знаходзіліся на ўзвышшах або прымыкалі да гарадзішчаў Зрэдку пахаванні знаходзяць і на пляцоўках гарадзішчаў Пахавальны абрад — трупаспаленне па-за межамі могільніка Косці ссыпалі на дно ям (круглых ці авальных) глыбінёй 0,5—1 м Пахавальны інвентар — кавалкі гліняных пасудзін і зубы свойскіх жывел Радзей трапляюцца прылады працы, зброя, упрыгожанні Для носьбітаў М к характэрны гліняны посуд з прамым адагнутым вонкі венчыкам і яйка- або шарападобным тулавам, а таксама паўсферычныя гаршкі без пазначанага венчыка Вышыня і дыяметр па зрэзе венчыка ад 10 да 30 см, але ёсць мініяцюрныя пасудзінкі вышынёй 3—5 см Частка посуду аздоблена па венчыках, шыйках, плечуках уцісканнямі круглай палачкі насечкамі, пазногцевымі або пальцавымі ўціскannямі, «жамчужынамі» Гліняныя праслцы і грузікі часам дакладна капіруюць форму посуду, арнаменты на іх у выглядзе заштрыхаваных трохвугольнікаў, зорак, крыжоу, кольцаў і інш Ёсць знаходкі гліняных фігурак жывел Рэчавы комплекс разнастайны прылады працы з жалеза, наканечнікі дзідаў, стрэлы скіфскага тыпу, каменныя сякеры, зерняцёркі, таўкачы, бронзавыя і жалезныя ўпрыгожанні (бранзалеты, пярсцёнкі, скроневыя кольцы, завушніцы, фібулы, разнастайныя падвескі, шпількі, бляшкі і інш ), пацеркі (шкляныя, бурштынавыя, бронзавыя) Асн формы гаспадаркі — земляробства і жывёлагадоўля, паляванне і рыбалоўства мелі дапаможны характар Былі развіты дамашнія рамёствы здабыча і апрацоўка жалеза, ліццё бронзы, прадзенне, ткацтва, выраб ляпнога посуду Этнічная прыналежнасць «мілаградцаў» застаецца спрэчнай Частка даследчыкаў адносіць іх да славян (В М *Мельнікоўская*, Л Д *Побаль* і інш ), частка (П М Траццякоў, В В *Сядоў*, А Р *Мітрафанаў*, Э М *Загарульскі*) лічыць іх балтамі

Праслцы **мілаградскай культуры** з гарадзішча Гарошкаў Рэчыцкага раёна

*Літ* Кухаренко Ю В Памятники железного века на территории Полесья М , 1961, Третьяков П Н Финно-угры, балты и славяне на Днепре и Волге М , Л , 1966, Мельниковская О Н Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке М , 1967, Седов В В Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья М , 1970

**МІЛАДО́ЎСКІ** Вітольд Феафілавіч (1837?, Навагрудскі пав — ?), удзельнік паўстання 1863—64, інж -прапаршчык рус арміі Належаў да ваенна-рэв арг-цыі ў Пецярбургу З сак 1863 у Беларусі, у крас ўзначаліў сфарміраваны ў Налібоцкай пушчы паўстанцкі атрад Навагрудскага пав і на чале яго 22 мая ўдзельнічаў у Мілавідскай бітве (Слонімскі пав ), якая скончылася перамогай паўстанцаў Пазней атрад разбіты, М арыштаваны і сасланы ў Сібір

**МІЛАРА́ДАВІЧ** Міхаіл Андрэевіч [1(12) 10 1771, Палтаўская губ — 15(27) 12 1825], расійскі ваен дзеяч, удзельнік вайны 1812 на тэр Беларусі Ген ад інфантэрыі (1809), граф (1813) Паходзіў з чарнагорскага роду, які ў 1713 перасяліўся у Расію З 1780 на ваен службе Удзельнік рус -шведскай вайны 1788—90, Італьянскага паходу А В Суворава 1798—99, рус -аўстра-франц 1805 і рус -турэцкай 1806—12 войнаў У вайну 1812 удзельнічаў у Барадзінскай бітве 26 жн (7 вер ), у баях пры Тарущіне 6(18) кастр , Малаярслаўцы 12(24) кастр , Вязьме 22 кастр (3 ліст ) і інш У час праследавання французаў на тэр Беларусі камандаваў авангардам Гал рас арміі у складзе 2-га і 7-га пях , 2-га кав карпусоў і 4 казацкіх палкоў 9(21) ліст М заняў мяст Гараны (цяпер веска ў Аршанскім р-не), 12(24) ліст пасля пераправы цераз Дняпро спыніўся ў в Стараселле (Чашніцкі р-н), 13(25) ліст прыбыў у Талачын, 14(26) ліст — у в. Маляўку (Талачынскі р-н) Адарваўшыся ад Гал арміі, М з авангардам 15(27) ліст прыбыў у мяст Крупкі, 17(29) ліст — у Барысаў, але не паспеў прыняць удзел у баях за горад 22 ліст (4 снеж ) М з авангардам заняў Лагойск, а 23 або 24 ліст (5 або 6 снеж ) — Радашковічы, дзе 24 ліст яго дагнаў М І *Кутузаў* З 25 ліст (7 снеж ) М са сваім атрадам рухаўся ў авангардзе Гал рас арміі праз в Саламірычы (цяпер Саламярэчча, Мінскі р-н), Ракаў, Кісялі (Валожынскі р-н) і 2(14) снеж ўвайшоў у в Гальшаны (Ашмянскі р-н) Пасля вызвалення Вільні і Коўна рус войскі выйшлі 14(26) снеж на зах граніцу Рас імперыі У замежных паходах 1813—14 М удзельнічаў ва ўсіх гал бітвах, у т л «Бітве народаў» пад Лейпцыгам 4—7(16—19) 10 1813 і ўзяцці Парыжа 17—18(29—30) 3 1814 У 1814—18 камандаваў гвардзейскім корпусам, у 1818—25 С -Пецярбургскі ваен ген -губернатар 14(26) 12 1825 смяротна паранены на Сенацкай плошчы дзекабрыстам П Р Кахоўскім

*Шаміль Бекцінееў*

**МІЛАСЛА́ВІЦКІ РАЁН** Існаваў у 1924—27 Утвораны 17 7 1924 у *Калінінскай акрузе*, 20 8 1924 падзелены на 8 сельсаветаў Галіцкамызскі, Галіцкі, Звянчаткаўскі (Звянчацкі), Кісялевабудскі (Кісялева-Будзянскі), Макеевіцкі, Мілаславіцкі, Пуцімельскі, Склімінскі 24 9 1926 Галіцкамызскі с/с рэарганізаваны ў нац латышскі З 9 6 1927 у *Магілеўскай акрузе* 4 8 1927 скасаваны, яго тэр далучана да Клімавіцкага р-на Магілеўскай акр

**МІЛАСЛА́ВІЧЫ**, веска, цэнтр сельсавета і саўгаса «Мілаславічы» ў Клімавіцкім р-не, на р Іпуць (прыток р Сож), на шашы Клімавічы—Макеевічы За 23 км на ПнУ ад Клімавіч, 136 км ад Магілева, 7 км ад чыг ст Шасцераўка на лініі Магілеў—Рослаў 762 ж , 262 двары (1998)

Вядома з 1604 У 1727 мястэчка Мілаславічы (яно ж Скрылінава) у Крычаўскім старостве З 1772 у складзе Рас імперыі З 1773 пав горад *Мсціслаўскай правінцыі*, аднак з 1777 у ліку гарадоў не значыліся У 1779 мястэчка ў Крычаўскім старостве Клімавіцкага пав , 382 ж , 51 двор У 1830 цэнтр валасці, працавалі 3 вадзяныя млыны, масларобойня, 4 корчмы, хлебазапасны магазін Двойчы на год праводзіліся кірмашы У 1858 у М 422 ж , 88 двароў, вінакурны з-д, у 1897 — 1403 ж , 205 двароў, 2-класная і царкоўнапрыходская школы, хлебазапасны магазін, 23 крамы, піцейны дом, царква, малітоўны дом З 1921 у М іс навалі т вы с г «Усход», крэдытнае па сумеснай апрацоўцы зямлі, масларобчая арцель, з 1925 — с -г т-вы «Векер» і «Вызваленне» З 17 7 1924 цэнтр *Мілаславіцкага раёна* і сельсавета Калінінскай, з 9 6 1927 Магілеўскай акруг 4 8 1927 раён ліквідаваны, тэрыторыя далучана да Клімавіцкага р-на Магілеўскай акр 14 10 1925 у М адбылася с -г

выстаўка У 1926 — 1119 ж , 224 двары, паштова-тэлеграфнае аддз , лясніцтва, 2 каап крамы, 7-гадовая школа У 1930 арганізаваны калгас, у 1937 — МТС У 1940 — 533 ж , 121 двор У Вял Айч вайну гітлераўцы знішчылі 116 ж , спалілі 88 двароў

У вёсцы рамонтныя майстэрні, камбінат быт абслугоўвання насельніцтва, бальніца, аптэка, сярэдняя школа, Дом культуры, аддз сувязі, дзіцячы сад, гандл цэнтр, б-ка Брацкія могілкі сав воінаў, помнік землякам, якія загінулі ў Вял Айч вайну Помнік архітэктуры — царква (2-я пал 19 ст ) *Уладзімір Бянько*

**МІЛЕ́ВІЧ** Ільдафонс Юр'евіч (каля 1835, Віленскі пав — ?), адзін з кіраўнікоў паўстання 1863—64 у Польшчы, Беларусі і Літве З дваран З 1860 каморнік у Гродзенскай губ З 1861 у *Гродзенскай рэвалюцыйна-дэмакратычнай арганізацыі*, адзін з яе кіраўнікоў У 1863 сакратар паўстанцкага цывільнага начальніка Гродзенскай губерні З лета 1863 у Вільні, адзін з памочнікаў К *Каліноўскага* па кіраўніцтве паўстаннем, член *Выканаўчага аддзела Літвы* У студз 1864 арыштаваны, прыгавораны да 6 гадоў катаргі Далейшы лёс невядомы *Генадзь Кісялёў*

**МІ́ЛЕР** Саламон Танхелевіч [парт псеўд Шлемка, Партыец, І Р Васілевіч, 10(22) 12 1889, мяст Кнышын Беластоцкага пав Гродзенскай губ , цяпер горад у Польшчы — 1 9 1937], дзеяч рэв руху ў Зах Беларусі У рэв 1905—07 камандзір атрада самаабароны ў Беластоку, потым у арміі У 1910 за арганізацыю салдацкага бунту арыштаваны З турмы ўцёк, эмігрыраваў у ЗША, дзе працаваў друкаром, удзельнічаў у левым прафс руху Стаяў на пазіцыях анарха-сіндыкалізму Пасля Лют рэвалюцыі 1917 у Чырв гвардыі, потым у Чырв Арміі У 1919 уступіў у РКП(б), загадваў секцыяй па рабоце сярод яўр насельніцтва Смаленскага гаркома РКП(б), у 1920 узначальваў Мінскі падп к-т КП(б)Б З 1921 на падп рабоце ў Зах Беларусі, сакратар Беластоцкага акруткома КПРП Удзельнік І—ІІІ канферэнцый, І з'езда КПЗБ, ІІ, IV—VI з'ездаў КПП, VI Кангрэса Камінтэрна З 1923 чл ЦК, з 1926 чл *Бюро ЦК КПЗБ* У 1932—33 узначальваў *Краявы сакратарыят ЦК КПЗБ* У 1933—35 адказны інструктар ЦК КП(б)Б, сакратар Бабруйскага райкома партыі З 1936 заг камісіі сав кантролю Омскай вобл , нам заг аддзела Омскага абкома ВКП(б), на гасп рабоце Аўтар брашуры «Першыя гады Кампартыі Заходняй Беларусі» (1935, пад псеўд І Р Валевіч) Скончыў самагубствам *Мікалай Сташкевіч*

**МІЛІ́ЦЫЯ** (лац militia войска, ваенная служба, вайна), 1) апалчэнне ў магнацкіх гарадах ВКЛ у 16—18 ст Вяла паходжанне ад гар дружын Стараж Русі Прызначалася для абароны горада пры аблозе Пытанні арг-цыі, кіравання і забеспячэння М вырашаліся гар *магістратам* і *войтам* Кожны мешчанін быў абавязаны мець зброю і быў запісаны ў пэўную сотню, якой выдзяляўся для абароны пэўны ўчастак гар умацаванняў Сотні падзяляліся на дзесяткі, а ў буйных гарадах зводзіліся ў палкі Напр , у Слуцку ў 1655 было 18 соцень (4 палкі, 1800 чал ), у Копысі ў 1635 — 5 соцень, у Шклове ў 1643 — 11 соцень Часам гар М мела артылерыю і кавалерыю (гл *Конныя мяшчане*) У мірны час М несла варту на гар брамах, пажарную ахову, выкарыстоўвалася ў фіскальных мэтах (збірала падаткі і паборы) Рэгулярна (звычайна штогод) праводзіліся перапісы (пописы) гар М , часта пры гэтым арганізоўваліся спаборніцтвы па стральбе і ваен вучэнні

2) Прыватнае войска магнатаў у Рэчы Паспалітай у 18 ст Узнікла ў сувязі з крызісам цэнтр улады ў дзяржаве Стваралася з сялян, мяшчан, *выбранцаў*, *зямян*, шляхты Так, Г Ф Радзівіл на аснове гарнізонаў Бялай, Слуцка і кавалерыі стварыў уласную М , якая ў 1753 налічвала 1854 чал Слуцкі гарнізон М складаўся са штаба, артылерыі, роты мушкецёраў, 4 пяхотных рот, янычарскай харугвы, роты выбранцаў (да 700 чал ) У 1719 М К Радзівіл стварыў уласную М , якая ў 1754 у 18 гарнізонах у розных маентках налічвала 234 чал Яго сын К С Радзівіл Пане Каханку павялічыў М да 2130 чал (1789) Для радзівілаўскай М былі складзены статуты — «Артыкулы вайсковыя», для падрыхтоўкі камандзіраў адкрыты *Нясвіжскі кадэцкі корпус* У мірны час М выконвала некат гаспадарчыя задачы ахова княжацкіх палацаў, гасп аб'ектаў, грузаў, дастаўка пошты, арг-цыя палявання, падтрымка грамадскага парадку М кн І Ф Радзівіла ўдзельнічала ў задушэнні *Крычаўскага паўстання 1743—44*, у баях на баку *Барскай канфедэрацыі* (пад Нясвіжам у 1768, пад Беластокам у 1769) У 1791 радзівілаўская М уключана ў войска ВКЛ як 8-ы рэгімент (полк)

3) Апалчэнне ў Рас імперыі ў 1806—07, скліканае на аснове маніфеста 30 11(12 12) 1806 і ўказа 15(27) 3 1807 у сувязі з пачаткам вайны з Францыяй У сувязі з хуткім заканчэннем вайны маніфестам 27 9(9 10) 1807 распушчана

4) Дзяржаўны орган па ахове грамадскага парадку і грамадскай бяспекі ў БССР і Рэспубліцы Беларусь, састаўная частка сістэмы органаў унутр спраў дзяржавы Пасля Лютаўскай рэвалюцыі Часовы ўрад ліквідаваў Штаб асобнага корпуса жандараў (6 3 1917) і Дэпартамент паліцыі (10 3 1917), 17 4 1917 ён выдаў пастановы «Аб заснаванні міліцыі» і «Часовае палажэнне аб міліцыі» У Беларусі, як і ў Расіі, на змену паліцыі прыйшла народная М 4 3 1917 грамадзянская камендатура Мінска выдала пастанову, згодна з якой служачы Усерас земскага саюза М А Міхайлаў (М В Фрунзе) быў прызначаны часовым начальнікам мінскай М 28 10(10 11) 1917 НКУС па даручэнні СНК выдаў пастанову «Аб рабочай міліцыі», паводле якой усе Саветы рабочых і салдацкіх дэпутатаў пачалі ствараць рабочую М 26 11 1917 на першым пасяджэнні Аблвыкамзаха ўтвораны СНК, у склад якога ўвайшоў камісарыят унутр спраў на чале з К І Ландарам Арганізацыя М Беларусі завершана да канца 1918, аднак гэта была яшчэ няштатная, непрафесійная М У лют 1918 створаны крымінальны вышук, які пасля пастановы ЦВК і СНК БССР ад 3 11 1924 «Аб народным камісарыяце ўнутраных спраў» аб'яднаны з упраўленнем М 15 12 1930 паводле пастановы ЦВК і СНК СССР «Аб ліквідацыі народных камісарыятаў унутраных спраў саюзных і аўтаномных рэспублік» кіраўніцтва М перададзена АДПУ, пры якім створана Гал ўпраўленне рабоча-сял М Аналагічныя змены адбыліся і на Беларусі 10 11 1934 створаны НКУС СССР, састаўной часткай якога сталі органы М У гады Вял Айч вайны М Беларусі актыўна ўдзельнічала ў стварэнні знішчальных батальёнаў, абароне нас пунктаў ад ням -фаш захопнікаў, арганізацыі пар тыз руху і антыфаш падполля, падтрымлівала парадак на вызваленых тэрыторыях Пасля вайны бел М ўдзельнічала ў ліквідацыі бандыцкіх фарміраванняў, ажыццяўляла ахову грамадскага парадку і барацьбу з крымінальнай злачыннасцю У 1949 М падпарадкавана мін-ву дзярж бяспекі, а ў 1954 зноў вернута ў склад праваахоўных органаў

У 1956 аднаўлена двайное падпарадкаванне М — МУС і Саветам дэпутатаў працоўных У студз 1960 ліквідаваны МУС БССР 5 9 1962 створана мін-ва аховы грамадскага парадку — МАГП БССР, 6 4 1963 — следчы апарат У 1968 адноўлена МУС БССР, у склад якога ўвайшло ўпраўленне М 3 10 1988 створаны атрады М асобага прызначэння (АМАП) На новы якасны ўзровень М Беларусі перайшла пасля абвяшчэння дзярж незалежнасці 28 8 1991 спынена дзейнасць парт арг-цый у органах М 26 2 1991 Вярх Савет Беларусі прыняў закон «Аб міліцыі», які рэгламентуе арганізацыю, парадак дзейнасці, правы і абавязкі бел М на сучасным этапе

*Літ* Горновский И А Сто лет назад [Милиция 1806—1807 годов и пожертвования на нее] // Рус архив 1904 № 8, Кароткі нарыс гісторыі міліцыі Беларусі 1917—1927 Мн , 1927 Болотников В Т , Макаров Л Т Минская специальная средняя школа милиции им М В Фрунзе МВД СССР Мн , 1982 Вишневский А Ф , Ильинский Н И , Сороковик И А История милиции Беларуси (1917—1994 гг ) Мн , 1995, Lech M J Milicje Radziwiłłow jako oręż feudałow w walce z ruchami chłopskimi na Białorusi i Litwie // Rocznik Białostocki Białystok, 1962 T 3

*Мікалай Ільінскі, Валерый Пазднякоў*

**МІЛІЯРЫ́СІЙ** (лац miliarense тысячны), 1) познарымская сярэбраная манета 4—5 ст (лігатурная маса 4,5 г) 2) Візантыйская сярэбраная манета 6—11 ст

Таўцівіла, нальшчанскага *Даўмонта* У вынiку М быў забiты разам з сынамi Рупекам i Руклем

*Літ* Пашуто В Т Образование Литовского государства М, 1959, Насевіч В Л Пачаткі Вялікага княства Літоўскага Падзеі і асобы Мн, 1993, Maleczyński K W sprawie autentycznosci dokumentów Mendoga z lat 1253—1261 // Ateneum Wileńskie Wilno, 1936 R 11 *Вячаслаў Насевіч*

**МІНЕЙКА** Зыгмунт (Мінейка-Газдава Сігізмунд Станіслававіч, псеўд Баравы, 1840, в Балванішкі Ашмянскага пав, цяпер в Зялены Бор Ашмянскага р-на, паводле інш звестак Вільня — 27 12 1925), удзельнік паўстання 1863—64 Скончыў Акадэмію Генштаба ў Парыжы (1868) У 1861 вёў рэв агітацыю сярод сялян Ашмянскага пав, у 1863 у атрадах М Лянгевіча, паўстанцкі ваенны начальнік Ашмянскага пав, камандзір атрада 3 6 1863 атрад разбіты пад Расолішкамі, М схоплены і прыгавораны да 12 гадоў катаргі У Сібіры адзін з кіраўнікоў рэв арг-цыі ссыльных У 1865 уцёк за мяжу З 1891 у Грэцыі, удзельнічаў у вайне з Турцыяй за Крыт Ганаровы грамадзянін Грэцыі

*Тв* Z tajgi pod Akropol Wspomnienia z lat 1848—1868 Warszawa, 1971

*Літ* Клейн Б Фамильный портрет // Клейн Б Время выбора Кн для учащихся Мн, 1987, Орлов В Почетный гражданин Эллады // Дело (Восток + Запад) 1995 № 5 *Генадзь Кісялёў*

**МІНІН** Аляксандр Аляксандравіч (н 28 8 1924, в Арлея Полацкага р-на), Герой Сав Саюза (1945) Скончыў ВПШ пры ЦК КПСС (1963) У Вял Айч вайну ў 1942—43 разведчык 3-й Бел партыз брыгады, з ліст 1943 на фронце, камандзір аддзялення разведкі Вызначыўся ў Бел аперацыі 1944 з 26 чэрв ў складзе гал дазору праследаваў ворага, 14 ліп каля шашы Гродна—Друскінінкай зайшоў у тыл праціўніка, разведаў яго сілы і агнявыя пункты на левым беразе Немана, выявіў месца для пераправы, фарсіраваў з 2 разведчыкамі раку, узарваў 6 кулямётных гнёздаў гітлераўцаў, стварыў умовы для пераправы палка За час Бел аперацыі захапіў 29 «языкоў» З 1948 на парт і прафс рабоце ў Магілёве

А А Мінін

**МІНІН** Якаў Кірэевіч (22 4 1922, в Шарсцін Веткаўскага р-на — 15 6 1985), Герой Сав Саюза (1944) Скончыў Тамбоўскую лётную школу (1942), школу вышэйшай лётнай падрыхтоўкі (1945, 1960) У Вял Айч вайну з 1942 на Паўн-Зах, Калінінскім, Варонежскім, Сцяпным, 2-м Укр франтах Лётчык-штурмавік лейтэнант М зрабіў 104 баявыя вылеты, удзельнічаў у 19 паветр баях, асабіста збіў 3 самалёты, знішчыў 29 танкаў, 8 зенітных артыл батарэй, 12 зенітных гармат, 9 дзотаў, інш тэхніку ворага Да 1978 у грамадз паветр флоце У 1960 у складзе экіпажа самалёта ТУ-104Е устанавіў 6 сусв рэкордаў

Я К Мінін

Ліст **Міністэрства беларускіх спраў** 8 2 1919

**МІНІСТР** (лац minister памочнік, дараваная асоба), 1) у пратэстантызме (часцей за ўсё ў *кальвінізме*) святар, які ўтрымліваўся за кошт вернікаў Выбіраўся рэліг абшчынай М мог быць кожны прыхаджанін, духоўная адукацыя і духоўнае званне былі неабавязковыя Лічыўся не пасрэднікам паміж людзьмі і Богам, а настаўнікам, які, дзякуючы жыццеваму вопыту і ведам, дапамагае вернікам разумець Біблію і Бога У службовым узроўні гэтая пасада адпавядала парафіяльнаму (прыходскаму) ксяндзу ў каталіцызме 2) У дзярж структуры вышэйшая службовая асоба, што ўваходзіць у склад урада і ўзначальвае міністэрства — буйны галіновы орган дзярж кіравання *Вячаслаў Шалькевіч*

**МІНІСТЭРСТВА БЕЛАРУСКІХ СПРАЎ** у Літве, орган выканаўчай улады ў літ урадзе ў 1918—23 Створана ў адпаведнасці з дамоўленасцю паміж *Віленскай беларускай радай* і Прэзідыумам *Літоўскай Тарыбы* ад 27 11 1918 Беларусам адводзілася 25% з агульнай колькасці месцаў у літ урадзе У выніку 6 бел нац дзеячаў (В Ластоўскі, І Луцкевіч, Я Станкевіч, В Талочка, К Фалькевіч і Д Сямашка) увайшлі ў склад Літ Тарыбы На арганізацыю культ асв справы і органаў мясц самакіравання на тэр б Гродзенскай губ, паўд часткі Віленскай (Лідскі, Ашмянскі і Вілейскі пав) і Аўгустоўскага пав Сувалкаўскай губ выдзяляліся фінансавыя сродкі Тэр, на якую пашырылася юрысдыкцыя мін ва (каля 39 тыс км$^2$, нас больш за 1 млн 900 тыс чал), павінна была мець статус аўтаномнай адзінкі з дзярж бел мовай М б с узначальвалі Я Варонка (1 12 1918—12 3 1919, 12 4 1919—19 6 1920) і Сямашка (19 6 1920—2 2 1922) У яго функцыі ўваходзіла прадстаўленне кандыдатаў-беларусаў (камісараў) на пасады кіраўнікоў гар і пав органаў самакіравання, прызначэнне школьных інспектараў, суддзяў, следчых і інш Камісары былі назначаны ў Гродна, Беласток, Ліду, Бельск, Белавежу, Дзятлава, Крынкі і Саколку Сфарміравала 1-ы бел пешы полк, які дысланыраваўся ў Гродне 19 12 1918 сюды пераехала і М б с Перыяд са снеж 1918 да крас 1919 быў найб плённы ў арганізацыі бел справы і зацвярджэнні М б с у якасці суб'екта міжнар адносін Пры ўдзеле яго прадстаўнікоў створаны *Гродзенская павятовая рада*, гродзенскія бел краевая ўправа і к-т сувязі культ-нац адраджэння Беларусі 11 4 1919 мін-ва накіравала ноту пратэсту ген ўпаўнаважанаму ўрада Германіі ў Літве ў сувязі з увядзеннем польск войск на тэр Беларусі, якую раней займала ням армія У жн 1919 міністр Варонка накіраваў ноту пратэсту краінам Антанты, у якой абгрунтаваў правы бел народа на тэр цэласнасць Аднак спробы мін-ва абараніць тэр цэласнасць былі беспаспяховымі У сувязі з усё большым пранікненнем польск акупац улад у пач мая 1919 М б с пераехала ў Коўна Пасля падпісання 12 7 1920 *мірнага дагавора паміж Літвой і РСФСР*, паводле якога сав ўрад прызнаў Вільню і суседнія з ёй тэрыторыі, у т л паўн частку б Гродзенскай губ з г Гродна неад'емнай часткай Літвы, паліт статус М б с рэзка змяніўся У сувязі з рашэннем сейма т зв *Сярэдняй Літвы* ў лют 1922 аб далучэнні Віленшчыны да Польшчы адносіны літ ўрада да бел нац-дзярж структур пагоршыліся У новым праек

якому былі перададзены функцыі ліквідаваных прамысл і буд мін-ваў У 1965 сістэма галіновых мін-ваў у прам-сці і буд ве адноўлена У 1970—80-я г рабіліся спробы мадэрнізаваць гасп механізм, часткова абмежаваць правы мін-ваў і ведамстваў, расшырыць правы ніжавых вытв звенняў, працоўных калектываў Аднак яны скончыліся няўдачай З прыняццем Канстытуцыі СССР 1977 ступень цэнтралізацыі ў кіраванні павялічылася Так, у пач 1980-х г у БССР у распараджэнні агульнасаюзных мін-ваў знаходзілася 17 найбуйнейшых галін прам-сці (машына- і станкабудаванне, аўтамабільная, электра-, радыетэхнічная і інш ), у распараджэнні саюзна-рэсп мін-ваў — 7 галін (лёгкая, лясная і дрэваапрацоўчая, мясная і малочная, харчовая, энергетычная, нафтаперапрацоўчая, прам-сці буд матэрыялаў), да рэсп галін адносілася мясц і палівная прам-сць Агульнасаюзныя і саюзна-рэсп мін-вы распараджаліся таксама фінансамі, мат-тэхн забеспячэннем, чыг і паветраным транспартам, культурай, адукацыяй, аховай здароўя, адм-паліт сферай і інш Для гэтага перыяду характэрны груваздкасць і ажасцянеласць унутранай структуры мін-ваў, узмацненне бюракратызму і ведамаснай раз'яднанасці, рост кіраўніцкага апарату З сярэдзіны 1987 пачаўся новы этап рэфармавання гасп механізму, які ў сувязі з распадам СССР (снеж 1991) не быў завершаны З набыццем Рэспублікай Беларусь незалежнасці (ліп 1990) у сістэме і кампетэнцыі яе мін-ваў адбыліся істотныя змены, абумоўленыя ўмацаваннем дзярж суверэнітэту, развіццем новых гасп адносін і форм уласнасці, пераўтварэннем шэрагу гасп мін-ваў у канцэрны, карпарацыі, холдынгі — пераходныя арганізац-упраўленчыя формы на шляху станаўлення ў галінах рынач ных адносін На пач 1998 у Рэспубліцы Беларусь было 27 мін-ваў архітэктуры і будаўніцтва, знешніх эканам сувязей, унутраных спраў, жыллёва-камунальнай гаспадаркі, аховы здароўя, замежных спраў, культуры, лясной гаспадаркі абароны, адукацыі, па кіраванні дзярж маёмасцю і прыватызацыі, па надзвычайных сітуацыях, прадпрымальніцтва і інвестыцый, прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, прамысловасці, сувязі, сельскай гаспадаркі і харчавання, спарту і турызму, статыстыкі і аналізу, паліва і энергетыкі, гандлю, транспарту і камунікацый, працы, фінансаў, эканомікі, юстыцыі Непрацяглы час існавалі мін-вы адукацыі і навукі, інфармацыі, культуры і друку па антыманапольнай палітыцы, рэсурсаў, сувязі і інфарматыкі Ліквідаваны таксама мін-вы транспарту, хлебапрадуктаў, энергетыкі

*Літ* Министерства государственные комитеты и ведомства союзной республики Мн 1984 *Алег Лібезін*

**МІНІЯЦЮ́РА** (італьян miniatura ад лац minium кінавар, сурык, якімі ў старажытнасці размалёўвалі рукапісныя кнігі), мастацкі твор малых памераў Адну з асн галін маст М складае кніжная М — зробленыя ад рукі малюнкі, шматколерныя ілюстрацыі гуашшу, клеявымі, акварэльнымі і інш фарбамі ў рукапісных кнігах, а таксама выяўл-дэкар элементы афармлення гэтых кніг — ініцыялы, застаўкі і інш На Беларусі маст аздабленне кніг вядома з 10—13 ст (аздобы *Супрасльскага рукапісу, Тураўскага евангелля* і *Аршанскага евангелля*, Хутынскага служэбніка 13 ст ) Застаўкі і ініцыялы ранніх рукапісаў выконваліся ў т зв візантыйскім стылі, фігурныя выявы (напр , «Евангеліст Лука» з Аршанскага евангелля) сведчаць пра ўздзеянне «Палеаложскага рэнесансу» (Палеалогі — дынастыя візантыйскіх імператараў) Асобна стаяць М «Кодэкса Гертруды» 11 ст (некат даследчыкі лічаць рукапіс «заходнярускім»), у якіх візантыйскія традыцыі паяднаны з раманскім уздзеяннем У 14 ст развіваўся тэраталагічны («звярыны») стыль, найб выразны ў ініцыялах *Мсціжскага евангелля, Полацкім евангелл*і, Анежскім псалтыры (1395) У 2 й пал 14—16 ст у бел М ўзмацніўся зах-еўрап уплыў праніклі свецкія сюжэты, гіст і быт сцэны (*Лаўрышаўскае евангелле, Шарашоўскае евангелле, Радзівілаўскі летапіс*) У 17—18 ст на М паўплывала гравюра друкаваных кніг Вядомы імёны перапісчыкаў кніг і мастакоў Паповіча Бярозкі з Навагрудка, Юрыя Алелькі (Алелькавіча) са Слуцка, Стафана Кахановіча з Супрасля, Васіля Амельяненскага з Віцебска, Яўстафія з Гродна, Парфена з Пінска У цэлым для бел М характэрна спалучэнне візантыйскіх і заходнееўрапейскіх традыцый

Да арт **Мініяцюра** Архангел Міхаіл Мініяцюра з Лаўрышаўскага евангелля 14 ст

*Літ* Гісторыя беларускага мастацтва Мн 1987 Т 1 С 86—87, 229—241

*Віктар Шматаў*

Ф А Мінкевіч

**МІНКЕ́ВІЧ** Франц Адольфавіч [19 7(1 8) 1904, Мінск — 17 1 1988], Герой Сав Саюза (1942) Скончыў Маскоўскую артыл школу (1930), Харкаўскую школу марскіх лётчыкаў-назіральнікаў (1933) У Чырв Арміі з 1924 У Вял Айч вайну на фронце з 1941 Штурман далёкабамбардзіровачнага авіяпалка маёр М зрабіў 97 баявых вылетаў, у т л са студз 1942 удзельнічаў у налётах на Берлін, у маі 1942 група бамбардзіроўшчыкаў пад яго камандаваннем бамбіла ваен аб'екты і чыг станцыі ў акупіраваным Мінску Да 1947 у Сав Арміі, да 1962 на гасп рабоце

Я Л Мінкін

**МІ́НКІН** Яфім Львовіч (н 22 1 1922 Магілёў), поўны кавалер ордэна Славы Д-р геолага-мінералагічных н (1968) Скончыў Маскоўскі геолагаразведачны ін-т (1950) У Вял Айч вайну з ліст 1942 на Сталінградскім, Зах , 1 м, 2-м Укр франтах Разведчык яфрэйтар М вызначыўся 12 9 1944 у Трансільваніі ў час разведкі захапіў палоннага з каштоўнымі звесткамі 17 12 1944 у Венгрыі з групай разведчыкаў з боем прайшоў абарону праціўніка, злучыўся з партыз

атрадам французаў, што ўцяклі з палону, і вывеў іх атрад да сав войск, 3 4 1945 каля г Бадэн (Аўстрыя) у варожым тыле з 4 воінамі ўступіў у бой з разлікам батарэі з 4 шасціствольных мінаметаў і знішчыў іх Да 1987 у Ін-це водных праблем Расійскай АН

**МІНСК**, сталіца Рэспублікі Беларусь, горад рэсп падпарадкавання, цэнтр Мінскай вобл, на р Свіслач Паліт, эканам, навук і культурны цэнтр краіны Гал транспартны вузел вобласці і рэспублікі 1716,7 тыс ж (1998) Падзяляецца на 9 раенаў Заводскі, Кастрычніцкі, Ленінскі, Маскоўскі, Партызанскі, Першамайскі, Савецкі, Фрунзенскі, Цэнтральны

Паводле археал даследаванняў, якія ў розны час праводзілі В Р Тарасенка, Э М Загарульскі, Г В Штыхаў, В Е Собаль і інш, стараж дзядзінец М (пазней *Мінскі замак*) пабудаваны ў 2-й пал 11 ст на правым беразе р Свіслач, пры упадзенні ў яе р Няміга (раен сучаснай ст метро Няміга і праспекта Машэрава) На думку некат гісторыкаў (А М Ясінскі і інш), стараж М узнік за 16 км на З ад Мінскага замка, на беразе цяпер амаль высахлай р Менка (адсюль назва горада), дзе захаваўся

**Падмурак Замкавай царквы 2-й пал 11 — пач 12 ст ў Мінску**

комплекс археал помнікаў (гл *Гарадзішча* Мінскага р-на), а ў канцы 11 ст перанесены на сучаснае месца У пач 12 ст (або ў канцы 11 ст) на замчышчы пачалі будаваць мураваную *Мінскую Замкавую царкву* У 12—13 ст на Пд, ПдЗ і ПдУ ад замчышча вырас рамесны пасад з гандл плошчай — Нямігскі рынак [з 16 ст Мінскі ніжні (ніжні) рынак, частка сучаснай вул Няміга і праспекта Машэрава], вуліцы якога былі вымашчаны драўлянымі насцiламі з дрэнажнымі прыстасаваннямі, шчыльна забудоўваліся зрубнымі дамамі Цэнтр вуліца пасада Няміга (самая стараж вуліца М 12 ст) ішла ўздоўж р Няміга, з ПнЗ падыходзіла да Нямігскага рынку і далей да моста цераз р Свіслач У 12 ст ўзніклі паселішчы на левым беразе Свіслачы каля Траецкай гары і на ПнЗ ад замчышча — Пятніцкі канец (сучасны раен праспекта Машэрава, некалі тут былі Пятніцкая вуліца і Пятніцкая царква) З 2-й пал 15 ст пачалося засяленне тэрыторыі на З і ПдЗ ад замка Яно адбывалася ўздоўж вул Няміга і дарогі на Ракаў, паклала пачатак фарміраванню Ракаўскага прадмесця У пач 16 ст пасля таго, як у 1506 кн Міхаіл Глінскі ў бітве пад Клецкам разбіў крымскіх татар і палонных пасяліў у М, гэта частка горада стала называцца Татарскай слабадой У пач 16 ст на месцы, дзе цяпер стаіць 2-я гар клініка, была пабудавана драўляная Троіцкая праваслаўная царква, ад якой, на думку польскага гісторыка Е Ахманскага, утварылася назва гар прадмесця Траецкае прадмесце злучалася мостам з замкам і Нізкім (Ніжнім) рынкам У выніку асваення тэрыторыі, якая прылягала да замкавых сцен, а таксама суседняга з Нямігай узвышша — Кузьмадзям'янаўскай гары, у 16 ст на месцы паселішча 12—13 ст узнік новы гандл цэнтр — Верхні рынак (сучасная пл Свабоды) Тут былі пабудаваны 2 на вярховая драўляная *Мінская ратуша*, культавыя і жылыя будынкі, паступова складваўся арх ансамбль плошчы, утварыўся новы гар цэнтр — Мінскі Верхні горад (археал раскопкі праводзілі З С Пазняк, А А Трусаў, І У Ганецкая, Ю А Заяц)

Упершыню М (летапісны Меньск, Менеск) упамінаецца ў «*Аповесці мінулых гадоў*» пад 1067 у сувязі з падзеямі, што адбываліся ў Кіеўскай Русі У 1065 полацкі кн Усяслаў Брачыславіч напаў на Пскоў, праз год захапіў Ноўгарад, вывез з Сафійскага сабора званы і інш рэчы, а частку горада спаліў У адказ кіеўскі вялікі кн Ізяслаў Яраславіч разам з братамі пераяслаўскім кн Усеваладам і чарнігаўскім кн Святаславам з'явіліся пад М На вечы «мяняне» рашылі абараняць горад Яны зачыніліся ва ўмацаванай частцы горада, але Яраславічы захапілі М да прыходу войска Усяслава Горад быў разрабаваны, насельніцтва ўзята ў палон, часткова знішчана Потым Яраславічы рушылі да р Няміга, на берагах якой 3 сак адбылася *Нямігская бітва 1067* Войска Усяслава было разбіта, а сам князь вымушаны быў уцячы На М неаднаразова рабілі паходы паўд -рус князі, у т л кіеўскі кн Уладзімір Усеваладавіч Манамах, бо полацкія і інш князі імкнуліся адасобіцца ад Кіева У сваім «Павучанні» Манамах пры апісанні падзей 1083—84, калі яшчэ быў чарнігаўскім князем расказвае, як ен з чарнігаўскім войскам і полаўцамі захапіў М У 2-й пал 11 ст М знаходзіўся пад уладай Полацка Ен меў свае веча і гар апалчэнне У канцы 11 — пач 12 ст М стаў цэнтрам удзельнага *Мінскага княства* Тут княжыў сын Усяслава Брачыславіча *Глеб Усяславіч*, які атрымаў Мінскае княства яшчэ пры жыцці бацькі У 1119 М захапіў Уладзімір Манамах Глеб быў узя

**Раскопкі ўмацаванняў замчышча Мінска 12 ст 1984**

ты ў палон і перавезены ў Кіеў, дзе неўзабаве памер і быў пахаваны ў Пячэрскім манастыры Пасля смерці Глеба М быў падначалены вял кн кіеўскаму Уладзіміру Манамаху, а потым яго сыну Мсціславу Уладзіміравічу Апошні пераеў у 1132 з Полацка ў М свайго сына *Ізяслава Мсціслаеіча* Да сярэдзіны 12 ст адносіцца новае ўзвышэнне М Верагодна, з 1146 у М княжыў сын Глеба Усяславіча *Расціслаў Глебавіч* Полацкія князі Усяславічы варагавалі паміж сабой і імкнуліся захапіць суседнія землі і полацкі прастол У Іпацьеўскім летапісе паведамляецца, што ў 1151 палачане выгналі свайго кн *Рагвалода Барысавіча* ў М, дзе трымалі «ў вялікай нястачы», а на полацкі прастол запрасілі мінскага кн Расціслава Глебавіча У 1158 Рагвалод Барысавіч з дапамогай сваіх прыхільнікаў заняў полацкі прастол Расціслаў Глебавіч быў вымушаны ўцячы у М Рагвалод Барысавіч зрабіў 3 беспаспяховыя паходы на М (1159, 1160, 1161), але авалодаць горадам не змог

Паліт ўзвышэнне і зручнае геагр становішча садзейнічалі эканам росту М, ператварэнню яго ў 2-й пал 11—13 ст ў рамесна-гандл цэнтр Пра гэта сведчаць знойдзеныя пры археал дасле даваннях інструменты рамеснікаў, рэшткі майстэрняў, шматлікія вырабы з жалеза, каляровых металаў, косці, дрэва, скуры Высокімі маст вартасцямі вызначаецца залаты бранзалет вагой 75,472 г, сплецены з некалькіх залатых тоўстых дратоў, на канцах — стылізаваныя змяіныя галоўкі Гандл сувязі М з інш гарадамі і землямі не перапыняліся ні частымі войнамі, ні сутычкамі феадалаў З Кіева прывозілі шкляныя вырабы, з Поўдня — амфары з віном і алўкавым алеем, з Прыбалтыкі — бурштын Важнымі занятнамі жыхароў старАж М былі сельская гаспадарка, паляванне і рыбалоўства

Абставіны і дакладны час уваходжання Мінскага княства ў ВКЛ не вызначаны Гэты працэс адбываўся ў 2-й пал 13 — 1-й чвэрці 14 ст Як паведамляе Наўгародскі 1-ы летапіс, у 1325 сярод літ паслоў у Ноўгарадзе быў «Василий, меньский князь», васал Гедзіміна Верагодна, у Мінскім княстве некаторы час існавала мясц княжацкая дынастыя У 1387 вял кн літоўскі і кароль Польшчы Ягайла аддаў «горад Меньск» з усімі землямі, людзьмі і падаткамі свайму брату Скіргайлу Пасля *Гарадзельскай уніі 1413* М у складзе Віленскага ваяв Праз 5 гадоў горад перайшоў да вял кн ВКЛ Вітаўта Пад 1433 Хроніка Быхаўца паведамляе пра захоп горада Свідрыгайлам З 2-й пал 15 ст ў М правілі намеснікі — прадстаўнікі вял князя, горад становіцца цэнтрам *Мінскага павета* У 1473 намеснікам М быў кн Іван Заслаўскі, яго змяніў кн Іван Красны — прадстаўнік роду друцкіх князёў У канцы 15 ст намеснікам быў Мікалай Ільініч, потым кн Багдан Заслаўскі Намеснікі-дзяржаўцы ад імя вял князя кіравалі ўсім жыццём замка і горада, а таксама ў маентках і дварах

Да арт **Мінск.** Пячатка-пломба з выявай князя Глеба

Замчышча **Мінска** Здымак пач 20 ст

Залаты бранзалет 12 ст з раскопак замчышча ў **Мінску**

вял князя, якія знаходзіліся ў Мінскім пав Яны правілі суд, кіравалі войскам Рэзідэнцыяй намесніка быў замак Тут знаходзіліся яго двор і чэлядзь У каралеўскай грамаце 1444 М названы ў ліку 15 найб развітых гарадоў ВКЛ Разам з гандлем аснову эканам жыцця горада складала рамяство Сярод мінскіх рамеснікаў 14—15 ст былі ганчары, кавалі, шаўцы, гарбары, цесляры, сталяры, ювеліры, збройнікі і інш У 15 ст ў М налічвалася каля 20 рамесных спецыяльнасцей Рамесны люд жыў пераважна на пасадах і часткова ў замку, а таксама на землях, якія ў горадзе належалі феадалам, цэрквам і манастырам Гараджане займаліся таксама рыбнай лоўляй, бортніцтвам, паляваннем, вырошчваннем с-г культур Па-ранейшаму былі распаўсюджаны садоўніцтва, агародніцтва і жывелагадоўля У наваколлі М былі зямельныя ўладанні «ку осаженью и размноженью людей», а таксама лугі для пасьбы жывелы Пісьмовыя крыніцы 15 — пач 16 ст зафіксавалі маемасную, прававую і сац няроўнасць насельніцтва Кіруючую ролю ў жыцці горада адыгрывалі князі, баяры, папы У пач 16 ст зямельны ўчастак у Мінскім замку меў гетман найвышэйшы ВКЛ кн К Астрожскі, кіеўскі мітрапаліт Іосіф набыў каля моста ў замку пляц «на пашырэнне двара яго» Уладанні каталіцкай царквы з'явіліся ў горадзе ў канцы 16 ст У час нападу на М у 1505 войска крымскага хана Менглі Гірэя горад згарэў, а замак татары ўзяць не змаглі Даравальнай граматаи вял кн літоўскага ад 14 3 1499 М дадзена самакіраванне паводле магдэбургскага права З гэтага часу кіраўніцтва горадам перайшло да магістрата, у склад якога ўваходзілі 12 чал (радцаў) на чале з войтам і 2 бурмістрамі Войта назначаў вял князь, бурмістраў выбіралі з ліку членаў рады, у якую ўваходзілі прадстаўнікі заможных гар вярхоў Магістрат сачыў за гандлем, збіраў падаткі, разглядаў грамадз спрэчкі і крымінальныя справы, назіраў за парадкам З наданнем М права на самакіраванне пачаў фарміравацца новы адм цэнтр Паводле каралеўскай граматы за 1499 М дазволена будаваць ратушу для пасяджэнняў магістрата Расла сац і прававая дыферэнцыяцыя насельніцтва Свабодныя гараджане падпарадкоўваліся распараджэнням і ўказам гар улад у асобе магістрата Другая частка жыхароў (рамеснікі, чэлядзь), якая жыла на землях феадалаў або царквы, была феадальна залежнай ад іх і выконвала загады толькі сваіх гаспадароў Вольнае насельніцтва горада ў 15 ст атрымала назву «мяшчане» — жыхары «места» (горада)

Такім чынам, у пач 16 ст ў М склаліся 2 адм цэнтры Частка жыхароў была падначалена вялікакняжацкаму намесніку, які жыў у замку, другая, больш шая, падпарадкоўвалася ўладзе гар магістрата У гэты перыяд насельніцтва М не перавышала 3—4 тыс чал У канцы 15—16 ст значна паскорыўся працэс маемаснага падзелу гараджан У яго аснове ляжала феад землеўладанне Яго адзінкай у бел гарадах былі зямельныя ўчасткі — пляцы У М і яго наваколлі ў 16 ст вял зямельныя ўчасткі мелі феадалы Крошынскія, Друцкія-Горскія, Даўмонты, Талачынскія, Служкі Напр, кн Б Саламарэцкі валодаў у М ў 1510 трыма дамамі з пляцамі і агародамі Значная колькасць гар зямлі знаходзілася ва ўласнасці цэркваў і манастыроў Паводле адм рэформы ВКЛ 1565—66 М стаў цэнтрам самага буйнога на землях Беларусі *Мінскага ваяводства*, у якое ўваходзіла 60 гарадоў і мястэчак Статус цэнтра ваяводства спрыяў прытоку ў горад гандл люду З 1580-х г у М праз 2 гады праводзіў свае пасяджэнні *Трыбунал Вялікага княства Літоўскага* 12 1 1591 М атрымаў герб — у блакітным полі жаночая постаць па

між двума анеламі і херувімамі Усе гэта садзейнічала развіццю ў горадзе будаўніцтва, стымулявала рост рамесстваў, гар тэрыторыі Адной з прычын інтэнсіўных горадабудаўнічых пераўтварэнняў стаў пажар у 1547, які знішчыў амаль усе гар пабудовы Арх аблічча М ў 2-й пал 16—17 ст вызначалі новыя вуліцы, якія ўзніклі на тэр Верхняга горада Бернардзінская (цяпер вул Кірылы і Мяфодзія), Дамініканская (вул Энгельса), Францысканская (вул Леніна), Валоцкая (частка вул Інтэрнацыянальнай), Зыбіцкая (вул Гандлевая), Малая Бернардзінская (вул Герцэна), Феліцыянская (вул Камсамольская), Койданаўская (вул Рэвалюцыйная), Семінарская (Музычны зав ) На плошчы Верхняга рынку сфарміраваўся барочны ансамбль, маляўнічы сілуэт якога стваралі групы культавых будынкаў — касцелы і кляштары бенедыкцінцаў, бернардзінак, бернардзінцаў, францысканцаў, дамініканцаў, царква Святога Духа, манастыры базыльян і базыльянак і інш У 2-й пал 16 ст склалася сетка дарог, якія звязвалі М з іншымі гарадамі У дакуменце за 1557 названы дарогі Віленская, Лагойская, Магілеўская, Слуцкая, Койданаўская, Барысаўская, Гатаўская, Гарадзішчанская і інш Большасць з іх былі працягам вуліц, якія веерам разыходзіліся ад замка і рыначнай плошчы На Траецкай гары побач з аднайменнай царквой утварылася плошча трохвугольнай формы, якая стала цэнтрам прадмесця Пісьмовыя крыніцы 1605 акрамя Траецкай вул называюць тут вуліцы Глебабарысаўскую і Ляўкоўскую, паміж якімі знаходзілася 20 пляцаў феадала Быхоўскага У Ракаўскім прадмесці пісьмовыя крыніцы канца 16 ст называюць вуліцы Нямізскую і Замкавую На вул Ракаўскай (вул Астроўскага) княжна Г Друцкая Горская ахвяравала ў 1613 грашовыя сродкі і 3 пляцы для будаўніцтва царквы і манастыра св Пятра і Паўла Петрапаўлаўскаму манастыру належаў гаксама «пляц Сетченский» У 1-й чвэрці 17 ст правасл брацтвам (засн ў 1592) пабудавана царква З 2 й пал 17 ст ў гэтай частцы горада вядома вул Васкрасенская (вул Віцебская) з аднайменнай драўлянай царквой У Татарскай слабадзе асн вуліцамі былі Вялікая і Малая Татарскія (адпаведна вул Дзімітрова і вул Калгасная), на іх пера сячэнні ў пач 17 ст пабудавана мячэць У сярэдзіне 16 ст ў М было 35 вуліц і завулкаў, 300 двароў, каля 2 тыс ж Дамы ў горадзе былі пераважна драўляныя Першыя звесткі пра мураваныя дамы ў М адносяцца да 1570 Стольнік П Талстой, які наведаў М у 1697, адзначаў, што ў горадзе «много домов каменных» і «лавок каменных»

Герб Мінска 1591

План Мінска 1797

У 17—19 ст на Верхнім рынку знаходзіліся гандл рады, якія ўтварыліся ад зліцця асобных крам у комплекс Напачатку яны былі драўляныя Мураваныя гандл рады пабудаваны ў 1810—17 У 16—17 ст М стаў буйным цэнтрам развіцця рамяства і гандлю З 2-й пал 16 ст ў выніку драблення прафесій на больш вузкія ў М з'явілася каля 20 новых спецыяльнасцей Гар рамеснікі былі аб'яднаны ў цэхі Першае ўпамінанне пра іх у М адносіцца да 1552 У 1591 існаваў цэх металістаў, у 1592 — цэхі краўцоў і ювеліраў У 1609 шаўцы аб'ядналіся ў цэх майстроў чатырох спецыяльнасцей Уласныя цэхі заснавалі рымары, седзельнікі, партупейшчыкі, чахольшчыкі (1622), цырульнікі (1635), ганчары, муляры, цесляры (1637), кушняры, капялюшнікі, магерачнікі, баўтушнікі (1647) У горадзе дзейнічалі мукамольны і 2 папяровыя млыны (на Пярэспе і Крупіцы), васкабойня, пастрыгальня сукна і інш Прадукцыя рамеснікаў прадавалася на мінскім рынку, вывозілася купцамі ў інш гарады і краіны У канцы 16 — пач 17 ст ў М існавалі рынкі ў Верхнім горадзе, у Траецкім прадмесці і Нізкім (Ніжнім) рынку (каля замка) На гэтых рынках кожны цэх меў свае крамы Кожны тыдзень па серадах і пятніцах у горадзе адбываліся кірмашы На іх з навакольных вёсак з'язджаліся сяляне і жыхары мястэчак і інш гарадоў У М прыязджалі купцы з Віцебска, Магілева, Оршы, Копысі, інш гарадоў Усх Беларусі Гандлёвымі партнерамі М былі таксама Гродна, Вільня, Брэст, Коўна і гарады Кароны — Кракаў, Торунь, Люблін Гнезна Адтуль у М прывозіліся чорныя і каляровыя металы (свінец, волава, медзь), нажы, косы, вострыя прыправы і тканіны Мінскія купцы, як сведчаць мытныя кнігі Брэста і Гродна, правозілі ў польскія гарады ў пач 17 ст скуры казловыя, замш, юхт, воск, футра і хмель У Вільню з М везлі жалеза, паперу, цвікі Гар гандаль развіваўся і праз купцоў-пасрэднікаў Гандл і рамеснай дзейнасці гар насельніцтва перашкаджалі частыя войны У час Лівонскай вайны 1558—83 у М значна скараціўся збор мыта Асабліва моцна пацярпеў горад у *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* Пасля заняцця М маск войскам летам 1655 частка насельніцтва пакінула горад У 1656 у М засталося толькі 150 сем'яў мяшчан Пасля вайны горад паступова аднаўляўся, і ў 1667 у ім было 300 двароў, каля 2 тыс жыхароў

Але аднаўленне М перапыніла Паўночная вайна 1700—21 У маі 1707 го

Да арт **Мінск** Верхні горад Рэканструкцыя В Сташчанюка

Гістарычны цэнтр **Мінска** Вуліца Астроўскага ў Ракаўскім прадмесці

Плошча Верхняга рынку ў **Мінску** З малюнка Ю Пешкі Пач 19 ст

Панарама **Мінска** З гравюры 19 ст

рад захоплены *арміяй* Карла XII У 1710—11 М перажыў моцную эпідэмію чумы Пасля такіх спусташэнняў горад марудна выходзіў з заняпаду і адрадзіўся толькі да апошняй чвэрці 18 ст Устойлівай тэндэнцыяй у 18 ст быў рост феад *юрыдык* Так, у 1667 ва ўладаннях феадалаў у М было 220 двароў, а пад юрысдыкцыяй магістрата — толькі 75 Паводле «Тапаграфічнага апісання Мінска» за 1800, гэта тэндэнцыя захавалася да пач 19 ст З 1009 дамоў, зафіксаваных у горадзе, 647 былі ўласнасцю феадалаў, манастыроў і царквы, і толькі 73 дамы стаялі на «гарадской зямлі» Астатнія будынкі былі ўзведзены на уласных землях гараджан, цэхаў, царк брацтваў і яўр насельніцтва У 1800 у М 50 рамесных спецыяльнасцей На канец 18 ст рамеснікі складалі больш за палову гар насельніцтва Пасля працяглага заняпаду ажыўленне гандлю пачалося ў 2-й пал 18 ст У гэты час у прадмесці Раманава ўзнік яшчэ адзін гар рынак Павялічылася колькасць крам У 1790-я г ў М 89 крам, большасць з іх былі мураваныя Традыцыйнымі ў М былі 2 штогадовыя кірмашы — летні і асабліва веснавы, які працягваўся каля 2 тыдняў На яго з'язджаліся купцы і шляхта з усіх бел гарадоў, а таксама з Літвы, Украіны, прускіх гарадоў, Польшчы, Расіі У 1790 з 966 «дымоў» у М 228 мелі агароды, 202 валодалі зямельнымі ўчасткамі У 18 ст ў М пабудаваны кляштары баніфратаў (1700), кармелітаў (1703), бенедыкцінцаў (1764), марыявітак (1771, усе не захаваліся) Сярэдневяковы М быў значным культ цэнтрам У ім адзначаліся свае святы У 16—18 ст народ збіраўся на плошчы Верхняга рынку, каля замка, і кожны цэх ішоў са сваім штандарам і бубнам У час свят ігралі музыкі, адбываліся выступленні скамарохаў, дрэсіроўшчыкаў з мядзведзямі, паказы тэатра-батлейкі З 1620 у М наладжваецца паштовая сувязь з інш гарадамі Рэчы Паспалітай, а ў 1717 стала ствараецца паштовая служба З Вільні праз М сувязь ішла на Магілёў і далей у Расію Паводле гіст крыніц, значная частка жыхароў горада была пісьменнай, асабліва феадалы, царкоўнікі, прадстаўнікі магістрата, вольныя гараджане, купцы, цэхмістры Большасць з іх атрымалі адукацыю ў школах пры цэрквах і манастырах У 1592 у М адкрыта школа пры саборнай царкве, дзе выкладаліся бел і грэч мовы З 1613 дзейнічала школа пры Петрапаўлаўскім брацкім манастыры на вул Нямігскай Тут дзяцей вучылі бел, грэч, лац мовам і «*сямі вольным мастацтвам*» Настаўнікамі былі манастырскія паслушнікі У 1617 у школе пры Кузьмадзям'янаўскім уніяцкім манастыры вучыліся некалькі дзесяткаў вучняў У ей выкладалі 5 моў Акрамя трох вядомых па інш школах моў, тут вучылі яшчэ царк-слав і

польскай мовам У 1727 існавала каталіцкая школа пры кляштары дамініканцаў У школе, што ўзнікла ў 1771 пры кляштары марыявітак, апрача агульнапрынятых на той час прадметаў выкладалі арыфметыку і дамаводства Прывілеяванай школай была езуіцкая, у якой навучаліся дзеці шляхты У ёй выкладалася шмат прадметаў, у т.л мовы, тэалогія, фізіка, логіка, матэматыка, этыка Пры манастыры базыльян у 17 ст дзейнічала друкарня Другая друкарня ў 1-й пал 17 ст існавала пры Петрапаўлаўскім брацкім манастыры На тэр замка ў будынку гродскага суда ў 1612 знаходзіўся гар архіў У 1775 у М было больш за 400 двароў, у 1790 — больш за 40 вуліц і завулкаў У канцы 18 ст плошча горада складала каля 300 га, насельніцтва — каля 6 тыс чал

У 1793 у выніку 2-га падзелу Рэчы Паспалітай М далучаны да Рас імперыі Ен стаў цэнтрам Мінскага намесніцтва У 1795 у горадзе адкрыты на месніцкае праўленне, палаты (казенныя, грамадзянскага і крымінальнага судоў), земскія суды (сумленны, сіроцкі, павятовы, верхні і ніжні), прыказ грамадскага апекавання, дваранская апека, губ і гарадавы магістраты і інш З 1796 М — цэнтр *Мінскай губерні* 29 12 1796 М нададзены новы герб на грудзях двухгаловага рас арла шчыт з выявай — на блакітным полі прасвятая Дзева ў ўзнясенні, абкружаная 6 анеламі У 1797 у М 5797 ж Першы праектны план горада складзены ў канцы 18 ст Рэгулярныя планы забудовы горада распрацаваны ў 1800, 1809, 1817, 1858 Паводле іх вяліся забудова і ўпарадкаванне тэр горада Узнікла новая вуліца — Захар'еўская (цяпер праспект Ф Скарыны і частка вул Савецкай) Дамы ў М ў асн былі драўляныя, таму горад моцна цярпеў ад пажараў у 1809, 1813, 1822 Пасля пажару ў 1835 цэнтр горада забудоўваўся пераважна мураванымі 2- і 3-павярховымі дамамі На ўскраінах (Камароўка, Ляхаўка, Кальварыя, Серабранка) захоўваліся драўляная жылая забудова і нерэгулярная планіроўка У 1800 у М было 1009 дамоў з іх 39 мураваных, у 1860 — адпаведна 2119 і 560 Да сярэдзіны 19 ст з 42 вуліц горада 22 забрукаваны, у т л Захар'еўская, Койданаўская, Замкавая З 1793 М — цэнтр *Мінскай праваслаўнай епархіі*, з 1798 — *Мінскай рымска-каталіцкай епархіі* У 18 ст ў М засн кафедральны сабор і касцёлы на Кальварыйскіх могілках і Залатой Горцы Працавалі дваранскае 5-класнае вучылішча 2-класная прыходская школа, духоўнае вучылішча, *Мінская духоўная семінарыя*, каталіцкая духоўная семінарыя, губ гімназія (з 1803), прыватны жаночы пансіён, школа для пач адукацыі дзяўчынак, яўрэйскія казеннае вучылішча і прыватная дзявочая школа (гл *Мінскія гімназіі, Мінскія вучылішчы*) З 1788 у М дзейнічаў невял прыватны тэатр, які ставіў спектаклі на польск мове У 1797 адкрыта *Мінская губернская друкарня*, у якой пазней друкавалася газ *«Минские губернские ведомости»* З 1803 існаваў гар аркестр У пач вайны 1812 паводле загаду мінскага грамадзянскага губернатара П Добрынскага з М эвакуіраваны найб каштоўная маёмасць, архівы, горад пакінулі рас чыноўнікі і правасл духавенства 26 чэрв (8 ліп) М заняты франц войскамі маршала Л Н Даву Мясц дваранства ўрачыста сустрэла французаў 1(13) ліп Даву зацвердзіў камісію часовага кіравання Мінскай правінцыі Замест яе 15(27) ліп створана адміністрацыя Мінскага дэпартамента, які падпарадкоўваўся арганізаванаму франц камандаваннем *Часоваму ўраду Вялікага княства Літоўскага* Камендантам М прызначаны барон Саньё-Лакратэль Асн задачамі франц адміністрацыі былі збор правіянту і набор рэкрутаў для сваёй арміі У перыяд акупацыі выходзіла першае перыяд выданне — «Tymczasowa Gazeta Mińska» («Часовая Мінская газета»). 4(16) ліст М узяты рус атрадам 3-й арміі П В Чычагова, якім камандаваў франц эмігрант граф Ламберт У выніку вайны гораду нанесены вял страты ў суме 370 тыс руб асігнацыямі Насельніцтва М скарацілася з 11 200 чал у 1811 да 3480 у канцы 1812

Замак Пішчалы ў **Мінску** Фота 1981

Від з Аляксандраўскага моста ў **Мінску** Злева — спадзісты схіл Замкавай гары і ўмацаваная набярэжная Свіслачы Малюнак Я Драздовіча. 1920-я г Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь

У час паўстання 1830—31 царскі ўрад абвясціў у М і губерні ваен становішча З 21 5 1831 у горадзе працавала Мінская губ следчая камісія Да 1834 яна разгледзела 407 спраў удзельнікаў паўстання 1830—31, якіх толькі ў мінскай турме было зняволена 187 чал Да сярэдзіны 19 ст разбураная вайной гаспадарка горада аднаўлена У 1840-я г працавалі 12 тытуневых, 6 свечачных, 2

# ПЛАН губернскага горада МІНСКА

(1898г.)

1 Кальварыйскія каталіцкія могілкі (з 1815) з брамай (1831) і касцёлам (1839)
2 Праваслаўныя Старажоўскія могілкі (з 1797) з царквой (1847)
3 Магаметанская мячэць
4 Духоўная праваслаўная семінарыя
5 Плошча (Траецкая гара)
6 Жаночае духоўнае вучылішча
7 Шпітальныя могілкі (1881)
8 Губернская земская бальніца
9 Касцёл святога Крыжа (1830) ці касцёл святога Роха. Святатроіцкі касцёл (канец XIX ст.) Залатагорскі касцёл. Плябанскі касцёл
10 Юбілейная плошча (1826)
11 Кацярынінская царква. Пабудавана у 1611–13 да 1795 была саборнай царквой манастыра святых Пятра і Паўла
12 Нізкі рынак галоўны гандлёвы цэнтр старога Мінска

13 Былы касцёл кляштара бернардзінак (з 1642) царква мужчынскага Святадухаўскага манастыра (з 1862)
14 Сінагога
15 Гарадская сядзіба XVIII ст.
16 Дом Гайдукевіча дзе знаходзіўся тэатр (верагодна да 1817)
17 Комплекс жылых дамоў XVIII пач. XIX ст.
18 Былы мужчынскі кляштар бернардзінцаў (з 1624), архіў (з 1843)
19 Азова-Данскі камерцыйны банк і купецкі клуб былы гасціны двор
20 Крамы

21 Петрапаўлаўскі сабор XVIII ст.
22 Дзяржаўныя установы
23 Кафедральны касцёл (1709)
24 Былы жаночы кляштар базыльян
25 Жылы дом XVIII ст.
26 Дом губернатара
27 Гарадскі сквер з помнікам Аляксандру II
28 Акруговы суд і дзяржаўныя установы (1863) будынак былога мужчынскага кляштара і касцёла базыльян (XVII–XVIII ст.)
29 Былы мужчынскі кляштар дамініканцаў (1605)



палатняныя, гарбарнае і салатопнае прадпрыемствы. Штогод з 25 мая да 25 чэрв. праводзіўся вял кірмаш, на які, напр., у 1845 было прывезена тавараў на суму 65 930 руб., прададзена на 9937 руб. Калі ў 1800 у М. працавалі 124 крамы, то ў 1833 — 263, у 1850 — 306. У горадзе неаднойчы ўспыхвалі эпідэміі, з іх найбольшыя (халеры і воспы) у 1830, 1848 і 1853 Да сярэдзіны 19 ст. адкрыты 3 бальніцы з агульнай колькасцю ложкаў 30—40, дом для псіхічна хворых, 2 багадзельні. У 1846 трупа артыстаў на чале з акцёрам прыватнага тэатра Вяржбіцкім стала асновай для стварэння гар. рус. тэатра На яго ўтрыманне штогод адлічвалася з гар. казны 2 тыс. руб. У гэты перыяд у М. склаўся культ. асяродак вакол бел. драматурга і тэатр. дзеяча В.Дуніна-Марцінкевіча. Ён пакінуў прыкметны след у станаўленні і развіцці бел. сцэнічнага мастацтва. У 1840-я г. працавалі некалькі прыватных друкарняў і літаграфія. У 1858 насельніцтва горада паводле веравызнання падзялялася на праваслаўных (3526 чал.), католікаў (6951), іудзеяў (11 971), пратэстантаў (119), мусульман (439). У 1860 дзейнічалі 2 Кацярынінскія саборы, лютэранская кірха, мячэць, сінагога і 9 яўр. малітоўных дамоў. Выдаваўся першы мінскі час. «Фотографические иллюстрации» (1863). З 1847 у М. існавала першая ў Расіі дзярж. пач. школа для яўр. хлопчыкаў. У 1860 у М. 26 760 ж. Жыхары горада актыўна ўдзельнічалі ў паўстанні 1863—64 (гл. *Мінская паўстанцкая арганізацыя, Мінскія паўстанцкія атрады*).

Істотна паўплывалі на ўсе бакі жыцця М бурж. рэформы 1860—70-х г. Моцны штуршок развіццю горада дала пабудова Маскоўска-Брэсцкай і Лібава-Роменскай чыгунак, якія перакрыжоўваліся ў М. і звязвалі яго з цэнтрам Расіі, Польшчай, Прыбалтыкай і Украінай. Яны ў многім прадвызначылі з'яўленне шматлікіх вытворчасцей па перапрацоўцы мясц. сыравіны: с.-г. прадуктаў, мінеральных выкапняў, драўніны. На мясц. прадпрыемствах вырабляліся цэгла, кафля, шпалеры. Рост попыту на с.-г. прылады, абсталяванне для лесапільных, гарбарных, шкляных, цагельных з-даў абумовіў з'яўленне прадпрыемстваў па іх вытворчасці. У 1881 узведзены машынабудаўнічы (цяпер з-д імя С.М.Кірава), у 1885 гарбарны (цяпер «Бальшавік») з-ды, у 1891 спіртзавод (цяпер дражджавы камбінат), у 1893 дрожджа-вінакурны з-д, у 1907 металаапрацоўчы з-д «Гігант» (цяпер *Мінскі станкабудаўнічы завод імя Кастрычніцкай рэвалюцыі*) і інш. Пабудаваны вакзалы і дэпо Маскоўска-Брэсцкай і Лібава-Роменскай чыгунак, чыг. майстэрні (1871, гл. *Мінскі вагонарамонтны завод*), помпавая станцыя (1873), водаправод (1874), з'явіліся тэлефон (1890), конка (1892), радзільны дом (1895). Пасля буд-ва ў 1894 электрастанцыі газавае асвятленне на цэнтр. вуліцах пачало замяняцца электрычным. У 1895 у М. было 18 фабрык і заводаў і столькі ж *мануфактур*. На ўсіх гэтых прадпрыемствах працавала 1,4 тыс. рабочых. У дробнай вытв-сці пераважалі рамеснікі (у 1895 іх 5 тыс. чал.), якія выраблялі прадукты харчавання, адзенне, абутак. Важную ролю ў эканам. жыцці М. пачалі адыгрываць банкі. У 1873 пачаў дзейнасць *Мінскі камерцыйны банк*. Да канца 19 ст. адкрылі свае аддзяленні Дзярж., Азоўска-Данскі, Пецярбургска-Азоўскі, Віленскі прыватныя банкі. З развіццём прам-сці, павелічэннем колькасці насельніцтва пашыраўся гандаль. У 1890 адкрыты 583 гандл. установы з тавараабаротам 3,6 млн. руб. Адбываліся змены і ў знешнім выглядзе М. У архітэктуры горада 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. панавалі стылізатарскія плыні, якія імітавалі маст. стылі мінулых эпох: Кальварыйскі касцёл і брама, Троіцкі Залатагорскі касцёл, касцёл Сімяона і Алены, цэрквы Марыі Магдаліны, Аляксандра Неўскага і інш. Рысы эклектыкі і стылю мадэрн уласцівы архітэктуры жылых і даходных дамоў: дом Кастравіцкай на вул. Магазіннай (вул. Кірава, 11), гасцініца «Еўропа» (1906—09, не захавалася, стаяла на рагу сучасных вуліц Леніна і Інтэрнацыянальнай) і інш. Павялічвалася колькасць насельніцтва, пашыралася гар тэрыторыя. У 1897 у М. 90,9 тыс. ж., плошча горада складала 1,7 тыс. дзесяцін; у ім было 140 вуліц і завулкаў працягласцю 68 вёрст, з якіх забрукаваны былі толькі 27 вёрст; 7476 будынкаў, з іх 2110 мураваныя. Цэнтр забудоўваўся, як і раней, 2—3-павярховымі дамамі На рубяжы 19—20 ст. дзейнічалі 18 культавых устаноў (цэрквы, касцёлы, сінагогі, мячэць). У 1893 у М. 4 сярэднія і 13 пач. школ. У 1897 узровень пісьменнасці жыхароў горада складаў 49,1%. У 1890-я г. мед. дапамогу гараджанам аказвалі 8 лячэбных устаноў, працавала каля 70 урачоў. У канцы 19 — пач. 20 ст. М. стаў важным культ цэнтрам Беларусі. У 1890 тут пабудаваны Мінскі гар. тэатр, на сцэне якога выступалі знакамітыя тэатр. калектывы з Пецярбурга, Масквы, Украіны Вял ролю ў навук. і культ. жыцці горада адыгралі *Мінскае таварыства ўрачоў, Мінскае таварыства аматараў прыродазнаўства, этнаграфіі і археалогіі, Мінскае таварыства сельскай гаспадаркі, Мінскае таварыства аматараў прыгожых мастацтваў, Мінскі царкоўны гісторыка-археалагічны камітэт, Мінскі царкоўна-археалагічны музей, Мінская публічная бібліятэка* імя А.С.Пушкіна і інш. Выдаваліся газ. *«Минский листок», «Северо-Западный край»*. У 1870—80-я г горад стаў адным з цэнтраў народніцкага руху. Тут дзейнічалі *Мінскія народніц-*

**Гістарычны цэнтр Мінска. Траецкае прадмесце ў панараме горада. Фота 1997.**

*кія гурткі,* арг-цыі «*Чорнага перадзелу*» (у М. меў друкарню), «*Народнай волі*».

У сярэдзіне 1880-х г. створаны першыя Мінскія марксісцкія гурткі, якія паўплывалі на развіццё рабочага руху. У 1894 узніклі *Мінская рабочая арганізацыя* і *Мінская сацыял-дэмакратычная арганізацыя,* прайшлі *Мінскія забастоўкі рабочых чыгуначных майстэрняў 1895.* У 1898 у М. адбыўся *Першы з'езд РСДРП,* у пач. 1900 на аб'яднаўчым з'ездзе створана *Сацыял-дэмакратыя Каралеўства Польскага і Літвы.* У пач. 20 ст. на рабочы рух у горадзе ўплывалі таксама *Мінскі сацыял-дэмакратычны камітэт Бунда, Мінская арганізацыя эсэраў, Яўрэйская незалежная рабочая партыя.* У рэвалюцыю 1905—07 праходзілі забастоўкі рабочых і рамеснікаў, дэманстрацыі і мітынгі салідарнасці з рабочымі Лодзі, Адэсы, Варшавы, адбыліся *Мінская студзеньская палітычная забастоўка 1905, Мінская кастрычніцкая палітычная стачка 1905.* 18(31) кастр. са згоды губернатара П.Р.*Курлова* ў М. расстраляны 20-тысячны мітынг (гл. *Курлоўскі расстрэл 1905*). У пач. 20 ст. ў горадзе ўзніклі акцыянерныя т-вы «Сокал» (1901), «Прасвет» (1903), сіндыкаты лесапрамыслоўцаў, цагельных з-даў, гандляроў газай і інш. З 1911 пачала працаваць *Мінская балотная доследная станцыя.* У 1913 у М. 106,7 тыс. ж. Напярэдадні 1-й сусв. вайны тэр. горада дасягнула 5417 дзесяцін, было 305 вуліц і завулкаў працягласцю 305 вёрст, з іх забрукавана 80 вёрст. З 10 300 будынкаў 15% складалі мураваныя. У горадзе працавалі 104 фабрыкі, заводы і мануфактуры, на якіх было занята 5,1 тыс. рабочых Аб'ём выпушчанай прадукцыі склаў 11,5 млн. руб. У дробнай вытв-сці было занята 7,2 тыс. рамеснікаў. Колькасць гандл. прадпрыемстваў павялічылася да 1333, іх тавараабарот склаў 27,2 млн руб У 1913 М — вядучы гандл.-прамысл і банкаўскі цэнтр Беларусі Працавалі 62 навуч. ўстановы, у т.л настаўніцкі ін-т (з 1914), у якіх вучылася 12 468 чал., меліся 23 бальніцы, 85 урачоў і 42 фельчары. У 1914—15 у М. выходзілі 24 перыядычныя выданні, у т л час «*Саха*» і «*Лучынка*» на бел. мове У 1-ю сусв. вайну з кастр. 1915 М. прыфрантавы горад, у ім размяшчаліся штаб Зах фронту, інш. франтавыя арг-цыі і ўстановы, шпіталі. Насельніцтва горада за кошт вайскоўцаў і бежанцаў вырасла да 250 тыс. чал. Рэзкае яго павелічэнне абвастрыла праблемы забеспячэння прадуктамі, жыллём, палівам, мед. абслугоўваннем. Часткова іх вырашэннем займаліся *Мінскі аддзел Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны, Мінская абшчына сясцёр міласэрнасці Чырвонага Крыжа* і інш.

З прыходам у М. весткі аб *Лютаўскай рэвалюцыі 1917* бальшавікі горада і Зах. фронту 4(17) сак. стварылі *Мінскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў.* Яго друкаваным органам стала газ. «*Известия Минского Совета рабочих и солдатских депутатов*». Гар. міліцыю ўзначаліў М.В *Фрунзе.* Рэвалюцыя садзейнічала

Будынак гарадскога тэатра ў **Мінску**. Фота пач. 20 ст.

ажыўленню бел. нац. руху, дзейнасці розных партый. 25—27 сак. (7—9 крас.) у М. адбыўся *з'езд беларускіх нацыянальных арганізацый* (150 чал.), які выказаўся за аўтаномію Беларусі, стварэнне беларускамоўных школ. 7—17(20—30) крас. ў М. адбыўся I з'езд ваен. і рабочых дэпутатаў армій і тылу Зах. фронту, які заклікаў усіх грамадзян выступіць на абарону заваёў рас. рэвалюцыі. 8—10(21—23) ліп. ў горадзе прайшоў *з'езд беларускіх нацыянальных арганізацый і партый* (50 чал.), скліканы *Беларускім нацыянальным камітэтам* на ініцыятыве *Беларускай сацыялістычнай грамады.* Большасць дэлегатаў з'езда выказалася за паліт. аўтаномію Беларусі ў складзе Рас. федэратыўнай дэмакр. рэспублікі. 27 ліп. (9 жн.) *Мінскі камітэт РСДРП(б)* выдаў 1-ы нумар газ «*Звязда*», пасля закрыцця якой з 15(28) вер. стала выходзіць газ. «*Молот*», потым — «Буревестник». 15(28) 10—24.10(6.11).1917 у М. ўтвораны каардынацыйны цэнтр бел. нац.-вызв. руху — *Вялікая беларус-*

Вуліца Захар еўская (цяпер праспект Ф.Скарыны) у **Мінску**. Здымак пач. 20 ст.

Від на **Мінск** з левага берага ракі Свіслач. Пач. 20 ст.

*кая рада* (ВБР) Пасля Кастр ўзбр паўстання 1917 у Петраградзе ўся ўлада ў М перайшла 26 кастр (8 лiст ) у рукi Мiнскага Савета рабочых i салдацкiх дэпутатаў, якi падтрымлiвалi рэвалюцыйна настроеныя часцi Зах фронту 2(15) лiст на сходзе Мiнскага Савета з удзелам прадстаўнiкоў прадпрыемстваў i Зах фронту ўхвалены дэкрэты II Усерас з'езда Саветаў 30 лiст (13 снеж ) у М ўведзена ваен становiшча У канцы снежня ў горадзе праходзiў *Усебеларускi з'езд 1917*, разагнаны салдатамi Мiнскага гарнiзона 21 2 1918 М акупiравалi ням войскi У горадзе разгарнулася барацьба супраць iнтэрвентаў, створаны *Мiнскi падпольны раенны камiтэт РКП(б)* Адначасова ўзмацнiўся нац -адраджэнскi рух У адпаведнасцi з прынятай 9 сак Выканкомам Рады Усебел з'езда *Другой Устаўнай граматай*, Беларусь абвешчана Бел Нар Рэспублiкай 25 сак Рада БНР абвясцiла Беларусь незалежнай i суверэннай З прыходам у М 10 снеж часцей Чырв Армii Рада БНР, якую не прызнавалi бальшавiкi, пакiнула горад У канцы 1918 у М створаны надзвычайныя органы — *Мiнскi ваенны савет* i *Мiнскi губернскi ваенна-рэвалюцыйны камiтэт*, якiя займалiся ўстанаўленнем сав улады на Мiншчыне Новай уладзе рашуча супрацiўлялiся правыя эсэры, меншавiкi, яўр сацыялiст партыi З утварэннем БССР (1 1 1919) М — яе сталiца, у пач студз 1919 сюды пераехаў са Смаленска Часовы рабоча-сял сав ўрад Беларусi У горадзе пачалася барацьба са старым ладам 2—3 2 1919 у М адбыўся *Першы Усебеларускi з'езд Саветаў*, якi прыняў 1-ю Канстытуцыю БССР З 8 8 1919 да 11 7 1920 М заняты польскiмi войскамi, якiя прытрымлiвалiся антысацыялiст пазiцый У вынiку 2 акупацый гораду прычынены вял матэрыяльныя страты Па-сапраўднаму мiрнае жыццё ў М пачало ўсталёўвацца толькi з 1921 Нягледзячы на вял разбурэннi i страты, паступова адраджалiся эканомiка i культура Горад набываў аблiчча дзярж сталiцы Тут пачалi функцыянаваць вышэйшыя дзярж , парт i адм -гасп органы, рабiлiся пэўныя крокi па развiццi нац навукi, культуры i адукацыi Узровень 1913 у галiне прам-сцi М перавысiў у 1925—26 Сацыялiст сектар у цэнзавай прам-сцi склаў 97,8% У гэты час сталi выпускаць прадукцыю з-ды станкабудаўнiчы «Энергiя», маш -буд «Метал», чыгуналiцейны Расла колькасць рабочых, занятых у прам-сцi, на буд-ве i транспарце, рыхтавалiся спецыялiсты вышэйшай i сярэдняй адукацыi 30 10 1921 адкрыўся *Беларускi дзяржаўны унiверсiтэт*, у 1922 на базе політэхн iн-та заснаваны Бел дзярж iн-т сельскай i лясной гаспадаркi У лют 1921 пры Нар камiсарыяце асветы БССР створана Навук -тэрмiналагiчная камiсiя, на базе якой у студз 1922 заснаваны *Інстытут беларускай культуры* (з 1929 *Акадэмiя навук Беларусi*) Вучоныя разам з дзярж дзеячамi распрацавалi навук асновы палiтыкi *беларусiзацыi*, асн палажэннi якой выкладзены ў прынятай у лiп 1924 ЦВК БССР пастанове «Аб практычных мерапрыемствах па правядзеннi нацыянальнай палiтыкi» З гэтага часу М стаў сапраўдным цэнтрам нац -культ адраджэння ва ўмовах сав улады Яго значэнне ў ажыццяўленнi нац палiтыкi асаблiва вырасла пасля *ўзбуйнення БССР* у 1924 i 1926 Доля беларусаў у 1926 складала 42% мiнчан З 17 7 1924 М — цэнтр *Мiнскай акругi*, з 29 6 1934 — Мiнскага прыгараднага р-на, з 15 1 1938 — *Мiнскага раена*, з 20 2 1938 — *Мiнскай вобласцi*, з 17 9 1938 — горад абл падпарадкавання Прынятыя дзяржавай меры па аздараўленнi нац жыцця ў горадзе станоўча адбiлiся на яго эканам i духоўным развiццi Прамысл патэнцыял М папоўнiўся новымi прадпрыемствамi, у т л швейнай «Кастрычнiк» i кандытарскай «Камунарка» ф-камi, электраматорным, азбестабетонным i клiнкерным з-дамi, электрастанцыяй магутнасцю 6400 кВт i iнш Пачала дзейнiчаць радыестанцыя (1925)

Да 1940 у М 332 дзярж i каап прадпрыемствы (23,8 тыс рабочых), прамысл прадукцыя ў параўнаннi з 1913

Фрагмент гiсторыка-архiтэктурнай зоны Верхнi горад у **Мiнску** Раен вулiцы Бакунiна

Гандлёвыя рады на вулiцы Герцэна у **Мiнску** Від з плошчы Свабоды **Фота 1920-х г**

Від на **Мінск** з Саборнай плошчы. Фота пач. 20 ст.

Вуліца Праабражэнская (цяпер Інтэрнацыянальная) у **Мінску**. Пач. 20 ст.

Від на вуліцу Леніна з боку плошчы Свабоды ў **Мінску**. 1930.

вырасла ў 40 разоў. На 17.1 1939 у М. 238,8 тыс жыхароў, 20 бальнічных устаноў на 3,4 тыс ложкаў (1083 урачы, 1610 фельчараў і мед сясцёр), 13 жаночых і дзіцячых кансультацый, 49 дзіцячых ясляў На канец 1940 агульная плошча горада склала 65,8 км$^2$, жылая плошча — 1070 км$^2$. У 1929 пушчаны трамвай (у 1940 даўжыня ліній 36,7 км), наладжаны рэгулярны аўтобусны рух. У 1940 у М 49 агульнаадук школ, (33 тыс вучняў), 10 ВНУ (9,8 тыс студэнтаў), 17 тэхнікумаў (5 тыс. студэнтаў) і інш сярэдніх навуч устаноў. На 1 1 1941 у складзе АН БССР працавала 437 навук. і навукова-тэхн. работнікаў, з іх каля 60 акадэмікаў, членаў-карэспандэнтаў, дактароў і прафесараў. Функцыянавалі 81 б-ка, 78 клубаў і дамоў культуры, 5 тэатраў (у тэатры оперы і балета некат творы зах.-еўрап. класікі ставіліся на бел мове), 4 музеі, 5 кінатэатраў На 17.1.1941 у М. было 270,4 тыс ж У першыя дні Вял. Айч вайны ў выніку *Мінска абароны 1941* гітлераўцам былі нанесены значныя страты ў жывой сіле і тэхніцы. 28.6 1941 М. акупіраваны ням фашыстамі, ён стаў цэнтрам *Генеральнага камісарыята Беларусь* — вышэйшага органа герм. цывільнага кіравання часткай акупіраванай тэр. Беларусі. З удзелам акупантаў у М. былі заснаваны ў кастр. 1941 *Беларуская народная самапомач*, у чэрв. 1943 *Саюз беларускай моладзі*, у снеж. 1943 *Беларуская цэнтральная рада*. Акупанты далі дазвол на адкрыццё ў М. розных тыпаў навуч. устаноў (усе яны працавалі на бел. мове, вялі паглыбленае вывучэнне ням. мовы, гісторыі і геаграфіі Германіі), тэатраў і клубаў, выданне газет і часопісаў; іх дзейнасць была скіравана на карысць «новага парадку» Гітлераўцы ўстанавілі ў горадзе жорсткі акупац. рэжым, стварылі ў М. і наваколлі 9 лагераў смерці з аддзяленнямі і філіяламі, у т.л. *Масюкоўшчынскі лагер смерці, Трасцянецкі лагер смерці*, а таксама яўр. гета, у якім знаходзілася больш за 100 тыс. чал. Усяго за час акупацыі захопнікі знішчылі ў М. і яго ваколіцах больш за 400 тыс. чал., з іх больш за 70 тыс. мінчан. Фашысты разбурылі горад, знішчылі 313 дзярж. і каап. прадпрыемстваў, 78 школ і тэхнікумаў, 80% будынкаў, разрабавалі б-кі і музеі Агульныя страты, нанесеныя гаспадарцы горада, склалі 6 млрд. руб. (у цэнах 1941). На момант вызвалення ў М. жыло 80—90 тыс. чал. З першых дзён акупацыі жыхары М. разгарнулі барацьбу супраць гітлераўцаў. Дзейнічалі *Мінскае патрыятычнае падполле*, Мінскія падп. абкомы і міжрайкомы КП(б)Б і ЛКСМБ (гл. адпаведныя арт.), падп. гаркомы КП(б)Б і ЛКСМБ, гар. падп. райкомы КП(б)Б (Варашылаўскі, Чыгуначны, Сталінскі, Кастрычніцкі, Тэльманаўскі) і ЛКСМБ (Варашылаўскі, Кастрычніцкі, Сталінскі), сельскі падп. райком КП(б)Б і

Паўд падп гаркам ЛКСМБ У падп друкарнях горада былі выдадзены ліс ток «Вестник Родины», газеты «Патриот Родины» і «Звязда» (выйшлі 4 нумары) Горад вызвалены 3 7 1944 войскамі 1, 2 і 3-га Бел франтоў ва ўзаемадзеянні з партызанамі ў выніку *Мінскай аперацыі 1944* У *Мінскім «катле»* было знішчана больш за 70 тыс і ўзята ў палон каля 35 тыс салдат і афіцэраў ворага 53 вайсковым фарміраванням, якія вызначыліся ў аперацыі, нададзена ганаровае найменне «Мінскіх» За гераізм, праяўлены ў барацьбе супраць ням -фаш захопнікаў, мінскім падпольшчыкам У С.Амельянюку, І К Кабушкіну, І П Казінцу, М.А Кедышку, Я У Клумаву, А Р Мазанік, М Б Осіпавай, Н В Траян прысвоена званне Героя Сав Саюза

Аднаўленне М пачалося адразу ж пасля выгнання ням -фаш захопнікаў Першачарговае значэнне надавалася ар ганізацыі вытворчасці тавараў нар спажывання, уводу ў эксплуатацыю жылля, прадпрыемстваў гандлю і камунальнай гаспадаркі, бальніц, паліклінік і амбулаторый, школ, дзіцячых дашкольных устаноў У 1944—45 пачаліся заняткі ў БДУ, пед, політэхн, мед, юрыд ін-тах, ін тах фізкультуры, нар гаспадаркі, кансерваторыі Аднавіла працу АН БССР З 14 5 1946 М — горад рэсп падпарадкавання У буйных маш табах ажыццяўляліся аднаўленча-будаўнічыя работы ў 1-й пасляваен пяцігодцы (1946—50) За гэты час уведзены у дзеянне шэраг новых прадпрыемстваў, у т л *Мінскі трактарны завод, Мінскі аўтамабільны завод*, мотавеласіпедны і гіпсавы з-ды, тонкасуконны камбінат У 1950 у М 500 прадпрыемстваў Аб ем валавой прамысл прадукцыі на 95% перавысіў даваен ўзровень На прамысл прадпрыемствы М прыпадала 18,5% усей прадукцыі рэспублікі У вер 1950 у нар гаспадарцы горада працавала 137 тыс рабочых і служачых На 1 1 1950 жылы фонд М склаў 1106 тыс м$^2$, або ў 2,7 раза больш, чым на 1 1 1947 Працягласць гар трамвайных маршрутаў склала 31 км Колькасць прадпрыемстваў рознічнага гандлю вырасла з 333 у 1945 да 816 у 1950, тавараабарот павялічыўся амаль утрая У горадзе функцыяналі 14 бальніц, 70 амбулаторна-паліклінічных устаноў, 16 жаночых і дзіцячых кансультацый, у якіх працавалі 1450 урачоў Даваен ўзровень быў пера сягнуты па многіх паказчыках развіцця культуры, навукі і адукацыі У пач 1950/51 навуч г агульнаадук школы наведвалі 39 тыс вучняў, ВНУ — 14 тыс студэнтаў, сярэдняя спец навуч ўстановы — 7,6 тыс навучэнцаў У 1950 у М працавалі 31 клуб, 5 музеяў, 3 тэатры, 17 кінатэатраў У буйны навук цэнтр ператварылася АН БССР Акрамя адноўленых даваен навук устаноў створаны шэраг новых і ў 1950 іх стала 28 У складзе АН БССР працавалі 34 акадэмікі і 27 членаў-карэспандэнтаў Да сярэдзіны 1950-х г у М ў асн пера адолены наступствы вайны На 1 8 1950 у М 273,6 тыс жыхароў, у 1959 — 509,5 тыс чал, у 1970 — 916,6, у 1980 — 1308,6 тыс чал Да канца 1950-х г насельніцтва М ўпершыню больш чым на палову (64%) складалася з беларусаў

Цэнтральная частка **Мінска**, разбураная ня мецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941

Рэканструкцыя цэнтральнай магістралі **Мінска** 1947—49

У 1950—70-я г М быў 5-м (пасля Масквы, Ленінграда, Кіева і Ташкента) горадам СССР па абсалютным прыро це насельніцтва Вяліся работы па ад наўленні і развіцці гар гаспадаркі, жыллевым і культ -бытавым будаўніц тве, добраўпарадкаванні горада Уведзе ны ў дзеянне заводы падшыпнікавы (1951), *Мінскі гадзіннікавы завод* (1955), *Мінскі завод халадзільнікаў* (1959), ма торны, радыезавод, запасных трактар ных дэталей, аўтаматычных ліній, элек трамеханічны, вылічальных машын (гл *Мінскае вытворчае аб'яднанне вылічаль наи тэхнікі*), камбінаты камвольны (1955), паліграфічны (1956) Адкрыты новыя інстытуты тэатральна-мастацкі (1945), замежных моў (1948, гл *Мінскі дзяржаўны лінгвістычны універсітэт*) механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі (1954), *Мінская вышэйшая партыйная школа* (1956), тэхнікумы і школы У 1953 пушчаны тралейбус, ад крыты стадыен «Дынама» (1953), дзіця чая чыгунка (1955) У 1958 у 64 дзенных школах навучалася больш за 56 тыс школьнікаў, у 12 ВНУ — 19 тыс сту дэнтаў У 1956 пачаліся перадачы тэле цэнтра, адкрыўся тэатр юнага гледача У 1957 на базе Карціннай галерэі ад крыты Маст музей БССР (гл *Нацыя нальны мастацкі музей Рэспублікі Бела русь*), у 1959 — літ музей Я Коласа (гл *Коласа Якуба дзяржаўны літаратурна мемарыяльны музей*) Працавалі 18 баль ніц і 85 паліклінік, 18 кінатэатраў і 43 клубныя ўстановы, выдавалася 11 газет і 12 часопісаў У 1951—58 пабудавана 1248,6 тыс м$^2$ жылой плошчы, у 1959—65 — 2400 тыс м$^2$ У сярэдзіне 1960-х г прам-сць М выпускала кожны 6-ы ма тацыкл, 8-ы веласіпед, 11-ю аўтаматыч ную лінію, 13-ы радыепрыемнік і тэле візар у маштабах усяго СССР У 1962 уведзены ў дзеянне першы ў рэспублі цы атамны рэактар, у 1963 пушчана першая электрычка (да ст Аляхновічы) у 1964 засн радыетэхн ін-т З 1968 па чала дзейнічаць *Выстаўка дасягненняў народнай гаспадаркі БССР* У 1970/71 навуч г ў М ў 161 агульнаадук школе (у асн усе рускамоўныя) навучалася 156,6 тыс вучняў, у 13 ВНУ — 81,6 тыс студэнтаў, у 22 сярэдніх спец на вуч установах — 30,6 тыс навучэнцаў У 1970 у горадзе дзейнічалі 46 клубных устаноў, 185 б-к, 53 кінаўстаноўкі, 8 му зеяў, 6 тэатраў, у НДІ і ВНУ працавалі 203 дактары і каля 2,4 тыс кандыдатаў навук, жылы фонд горада дасягнуў 6,7 млн м$^2$ У студз 1972 М стаў 11-м го радам СССР з насельніцтвам больш за 1 млн чал 26 6 1974 Указам Прэзідыу ма Вярх Савета СССР М прысвоена ганаровае званне «*Горад-герой*» Адбудо ва і пасляваен развіццё М адбываліся паводле ген планаў горада 1946, 1965 і 1982 Адметнай рысай будаўніцтва сталі арх ансамблі, цэласная забудова вуліц плошчаў Створаны адзін з лепшых ан самбляў сталіцы — ансамбль вул Са вецкай (пазней Ленінскі праспект, ця пер праспект Ф Скарыны) з плошчамі Леніна (Незалежнасці), Цэнтральнай

(Кастрычніцкай), Круглай (Перамогі), Я Коласа і зяленымі масівамі ўздоўж р Свіслач Арыгінальнае арх -маст вырашэнне маюць адм -грамадскія будынкі на праспектах Скарыны, Машэрава, жылыя раёны Чыжоўка, Усход, Зялёны Луг, Серабранка, Курасоўшчына, Паўд Захад, Малінаўка, станцыі *Мінскага метрапалітэна* Водна-зялёны дыяметр М дапаўняюць маляўнічыя дэкаратыўныя вадаемы, каналы, набярэжныя, каскады Сляпянскай воднай сістэмы

У 1989 у М 1607 тыс ж Крызісныя з'явы ў эканам і грамадска-паліт жыцці СССР, у т л ў Беларусі, у 2-й пал 1980 — пач 90-х г, дапоўненыя наступствамі *Чарнобыльскай катастрофы 1986* і распадам СССР, моцна адбіліся і на М Запаволіліся тэмпы прыросту прамысл прадукцыі, знізіўся ўзровень жыцця гараджан, што вылілася ў масавыя выступленні працоўных горада (гл *Красавіцкія рабочыя забастоўкі 1991*) У М пачалі ўзнікаць т зв нефармальныя аб'яднанні (суполкі «Талака», «Спадчына», т-вы «Тутэйшыя», «Узлет», клуб «Мінская альтэрнатыва» і інш ), якія выступалі супраць афіц ідэалогіі, за захаванне і развіццё бел мовы і культуры, шмат увагі аддавалі экалагічнай сітуацыі Узніклі шматлікія грамадскія арг-цыі, паліт партыі і рухі, у т л *Мартыралог Беларусі*, «*Беларускі народны фронт «Адраджэньне»*, Бел экалагічны саюз, Т-ва бел мовы імя Ф Скарыны, Бел с -д грамада, Нац -дэмакр партыя Беларусі, Партыя камуністаў беларуская, Бел сял саюз, Хрысціянска-дэмакр саюз Беларусі, Рух за дэмакратыю сац прагрэс і справядлівасць і інш

Адбыліся *Гадзіна смутку і маўчання 1989*, нар шэсце і мітынг «*Чарнобыльскі шлях*» (30 9 1989), інш мітынгі і дэманстрацыі, скіраваныя супраць палітыкі афіц улад Пачалі выходзіць першыя бесцэнзурныя бел выданні «Кантроль», «Навіны БНФ», «Супольнасць» У 1991 М стаў сталіцай суверэннай дзяржавы — Рэспублікі Беларусь З 1993 у горадзе размяшчаецца Выканаўчы сакратарыят СНД, з 1994 — рэзідэнцыя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь У 1993 у М адбыўся *Першы з'езд беларусаў свету*, у 1994 — 1-я сустрэча бел моладзі свету М — буйны прамысл цэнтр Беларусі На 1 1 1998 у ім дзейнічаюць 285 прамысл прадпрыемстваў машынабуд і металаапрацоўчай прамысловасці (з-ды машынабудаўнічыя, электратэхнічныя, тэхналагічных металаканструкцый, прыладабудаўнічы, аўтаматычных ліній, рысорны, «Ударнік», *Мінскі станкабудаўнічы завод імя С М Кірава, Мінскае вытворчае аб'яднанне «Гарызонт»*, вытв аб'яднанні «Атлант», «Інтэграл» і інш ), прадпрыемствы лёгкай (ф-кі трыкатажная «Прагрэс», маст вырабаў «Мастра», скургалантарэйная, валюшна-лямцавая і люстраная, гарбарны і фарфоравы з-ды, вытв аб'яднанне па выпуску цацак «Мір» і інш ), паліграфічнай (Бел Дом друку, шпалерная і каляровага друку ф-кі), харчовай (мясакамбінат, малочны, кансервава-агароднінасушыльны і хлебапрадуктаў камбінаты, тытунёвая ф-ка, з-ды маргарынавы, шампанскіх він), буд матэрыялаў (каля 20 аб'яднанняў, камбінатаў і з-даў буд матэрыялаў, металаканструкцый, зборнага жалезабетону, буйнапанэльнага і аб'ёмнага домабудавання, сілікатных вырабаў, гіпсавы, цагельны і асфальтабетонны з-ды, «Мінскметрабуд»), дрэваапрацоўчай (мэблевыя прадпрыемствы, вытв-сць буд матэрыялаў), хіміка-фармацэўтычнай (аб'яднанне «Белмедпрэпараты» і інш ) прамысловасці 4 ЦЭЦ, 1961 прадпрыемства гандлю і 782 быт абслугоўвання У М 34 ВНУ, у т л 13 недзяржаўных (усяго 129,4 тыс студэнтаў), 28 сярэдніх спец устаноў (32 тыс навучэнцаў), 245 агульнаадук школ, з іх 14 гімназій (261,5 тыс вучняў), 502 дашкольныя ўстановы, 164 навук і н -д установы, у т л Цэнтр батанічны сад Нац АН Беларусі Працуюць 40 бальніц, 143 амбулаторна-паліклінічныя ўстановы, 16 музеяў (*Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі, Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, Музей ваеннай гісторыі Рэспублікі Беларусь, Музей гісторыі медыцыны, Купалы Янкі літаратурны музей, Багдановіча Максіма літаратурны музей, Броўкі Петруся літаратурны музей, Парк валуноў*, Музей гісторыі тэатр і муз культуры і інш ), 11 тэатраў, у т л Нац акад тэатр імя Я Купалы (гл *Беларускі тэатр імя Янкі Купалы)*, Нац акад тэатр оперы і балета *(гл Дзяржаўны тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь)*, рус драм тэатр, тэатры муз камедыі, лялек і інш , 20 кінатэатраў, 139 б-к (буйнейшыя *Бібліятэка нацыянальная Беларусі, Бібліятэка цэнтральная навуковая* імя Я Коласа Нац АН Беларусі, *Бібліятэка ўрадавая Рэспублікі Беларусь, Бібліятэка фундаментальная БДУ* і інш ), 36 палацаў і дамоў культуры, 3098 спарт збудаванняў

На 1 1 1998 у М больш за 200 грамадскіх аб'яднанняў і паліт партый розных кірункаў, 30 канфесій, 102 рэліг абшчыны, з іх 19 правасл , 10 каталіцкіх, 3 іудзейскія, 1 мусульманская і інш , дзейнічаюць 22 культавыя будынкі Працуюць 10 выдавецтваў (*«Беларуская Энцыклапедыя»* імя Петруся Броўкі, *«Беларускі Дом друку»*, *«Беларусь»*, *«Вышэйшая школа»*, *«Мастацкая літаратура»*, *«Народная асвета»*, *«Полымя»*, *«Універсітэцкае»*, *«Ураджай»*, *«Юнацтва»*), выдаюцца 262 часопісы («Беларускі гістарычны агляд», «Беларускі гістарычны часопіс», *«Беларусь»*, «Бярозка», *«Весці Акадэміі навук Беларусі»*, *«Вожык»*, *«Маладосць»*, *«Мастацтва»*, «Народная асвета», *«Неман»*, *«Полымя»*, *«Спадчына»* і інш ) і 701 газета (*«Голас Радзімы»*, *«Звязда»*, *«Літаратура і мастацтва»*, *«Мінская праўда»*, *«Народная газета»*, *«Рэспубліка»*, *«Советская Белоруссия»*, *«Вечерний Минск»* і інш ) У М на Вайсковых могілках 42 брацкія магілы сав воінаў і партызан, якія загінулі ў Вял Айч вайну, магілы ахвяр фашызму ў

Вуліца Нямiга ў **Мінску** 1948



МІНСК
Маладзечна
Віцебск
Вільнюс Маладзечна
Масква
Гомель Магілёў
Брэст
Слуцк
Гомель
Мінская кальцавая аўтамабільная дарога
Помнікі
1 М І Калініну
2 Якубу Коласу
3 Архітэктурна скульптурны комплекс "Мінск - горад герой"
4 Манумент Перамогі
5 Храм-помнік загінуўшым у Афганістане
6 Максіму Багдановічу
7 Марату Казею
8 Янку Купалу
9 Максіму Горкаму
10 Помнік танкістам
11 Двойчы Герою Савецкага Саюза С І Грыцаўцу
12 Ф Э Дзяржынскаму
13 У І Леніну
Помнікі архітэктуры
1 Царква св Марыі Магдаліны
2 Касцёл св Роха (зала камернай музыкі)
3 Свята Аляксандра-Неўская царква
4 Траецкае прадмесце
5 Свята Духаў кафедральны сабор
6 Брама і касцёл Кальварыйскіх могілак
7 Свята-Петра Паўлаўскі сабор
8 Былы дом масонаў
9 Кафедральны сабор прасвятой Дзевы Марыі
10 Касцёл св Сімяона і Алены
11 Гарадская сядзіба Белая дача
Музеі
1 Фізкультуры і спорту
2 Дзяржаўны літаратурна мемарыяльны музей Якуба Коласа
3 Старажытнабеларскай культуры
4 Народнай архітэктуры і быту
5 Літаратурны музей Максіма Багдановіча
6 Гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі
7 Дом музей І з езда РСДРП
8 Літаратурны музей Янкі Купалы
9 Гісторыі Вялікай Айчыннай вайны
10 Ваеннай гісторыі Рэспублікі Беларусь
11 Літаратурны музей Петруся Броўкі
12 Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь
13 Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі
14 Прыроды і экалогіі
15 Гісторыі медыцыны Беларусі
Тэатры канцэртныя залы цырк
1 Вольная сцэна
2 Дзяржаўны маладзёжны тэатр
3 Нацыянальны акадэмічны вялікі тэатр оперы і балета
4 Тэатр студыя кінаакцёра
5 Хрыстафор
6 Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы
7 Арт цэнтр
8 Дзяржаўны тэатр лялек
9 Тэатр юнага гледача
10 Дзяржаўны акадэмічны рускі тэатр імя М Горкага
11 Дзяржаўны тэатр музычнай камедыі
12 Дзе Я?
13 Жэст
15 Мінск канцэртная зала
16 Цырк
Мяжа горада
Спартыўныя збудаванні
Чыгункі
Паркі сквяры зялёныя масівы
Аэрапорт
Аўтавакзал "Цэнтральны"
Чыгуначны вакзал
Аўтавакзал Усходні

Плошча Перамогі ў Мінску.

парку імя Чэлюскінцаў, на бульвары Галбухіна, на 9-м км Маскоўскай шашы, на месцы былых Трасцянецкага і Масюкоўшчынскага лагераў смерці, на іх пастаўлены помнікі. Устаноўлены манумент Перамогі, створаны арх.-скульптурны комплекс «Мінск — горад герой». Помнікі: Я.Купалу, Я.Коласу, М Багдановічу, М.Гарэцкаму, Я.Драздовічу, М.Горкаму, У.І.Леніну, М.І.Калініну, Ф.Э.Дзяржынскаму, С.І.Грыцаўцу, М.Казею і інш.

У горадзе 3 гіст.-арх. зоны: зона старога М , або зона Верхняга горада, дзе часткова захавалася планіроўка і забудова 17 — пач. 19 ст.; зона Траецкага і Ракаўскага прадмесцяў. Тэр. стараж. замка — Мінскае замчышча — з'яўляецца археал. запаведнікам. Помнікі архітэктуры: цэрквы Петрапаўлаўская (1612—20, вул. Астроўскага), Марыі Магдаліны (1847, вул. Кісялёва), Аляксандра Неўскага (1898, Вайсковыя могілкі, вул. Казлова); касцёл і кляштар езуітаў (засн ў 1654, пл. Свабоды), Троіцкі Залатагорскі касцёл (касцёл св Рока, 1861—64, перакрыжаванне праспекта Ф Скарыны з вул Казлова), Кальварыйскія касцёл і брама (1839—41, Кальварыйскія могілкі), касцёл Сімяона і Алены (1908—10, пл. Незалежнасці), Пішчалаўскі замак (1852, вул. Валадарскага), гасціны двор (18—20 ст., пл. Свабоды, 2—10), сядзібны дом (1795, пл Свабоды, 15), гандл. рады (пач. 19 ст., пл. Свабоды); будынкі мужчынскага духоўнага вучылішча (2-я пал. 18 ст., вул Рэвалюцыйная), вайск шпіталя (1830-я г., вул. Фрунзе), жаночай Марыінскай гімназіі (1879, вул. К.Маркса), духоўнай кансісторыі (19 ст., рог праспекта Ф.Скарыны і вул. Чырвонаармейскай), жаночай гімназіі (канец 19 — пач. 20 ст., вул. Кірава), адм. будынак (1852, пл. Свабоды); гар. тэатр (1890, перакрыжаванне вуліц К.Маркса і Энгельса); помнікі сядзібна-паркавай архітэктуры: сядзібы Ваньковічаў (мяжа 18—19 ст., вуліцы Інтэрнацыянальная і Парніковая, 26), Белая дача (канец 19 ст., вул. Казінца, 76). Захаваліся таксама асобныя помнікі грамадз , жылой, культавай і прамысл. архітэктуры 19 — пач. 20 ст

*Літ* Д р у ж ч ы ц В Места Менск у канцы XV і пачатку XVI ст // Працы БДУ 1926 № 12, Гісторыя Мінска. 2 выд Мн , 1967, Минск Краткая хровика (ноябрь 1917—1966) Мн., 1967; Минск и окрестности Справ -путеводитель. Мн., 1979, Минск: Энцикл. справ 2 изд. Мн , 1983, З а г о р у л ь с к и й Э М. Возникновение Минска. Мн., 1982, Мінск на старых паштоўках (канец XIX — пач. XX ст.). Мн., 1984, Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Мінск. Мн , 1988; Ш ы б е к а З.В , Ш ы б е к а С Ф Мінск. Старонкі жыцця дарэв. горада: Пер. з рус. Мн , 1994; Б о р о в о й Р В Историческая топография древнего Минска Обзор источников и современное состояние проблемы // Гіст -археал зб Мн , 1997 № 12

*Георгій Штыхаў (11—13 ст ), Валянцін Собаль (14 ст — 2-я пал 18 ст ), Алена Філатава (1793—1860), Уладзімір Філякоў (1861 — пач. 20 ст ), Леанід Лыч (1917—50), Валянціна Грыгор'ева, Алесь Скараход (1951—98)*

**«МІНСК»**, баявы карабель-лідэр класа экскадраных мінаносцаў Балт. флоту, экіпаж якога вызначыўся ў Вял Айч вайну. Закладзены ў 1934 на Балт. заводзе ў Ленінградзе, спушчаны на ваду ў 1935 у прысутнасці дэлегацыі сталіцы БССР, якая ўзяла шэфства над караблём. Дабудаваны да 1939. Меў на ўзбраенні пяць 130-міліметровых і тры 76-міліметровыя гарматы, шэсць 37-міліметровых зенітак, 6 буйнакаліберных кулямётаў, 2 тарпедныя апараты, 2 бомбакідальнікі, 76 мін; экіпаж 343 чал У сав.-фін. вайну 1939—40 вёў абстрэл умацаванняў праціўніка на ўзбярэжжы Фінскага заліва. З пач. Вял. Айч. вайны ўдзельнічаў у абароне Таліна. 28—29.8.1941 у час прарыву караблёў Балт. флоту з Таліна ў Кранштат з'яўляўся флагманскім караблём атрада прыкрыцця, адбіў некалькі атак герм. тарпедных катэраў, выявіў шэраг плавальных мін, аднак сам падарваўся на міне і толькі дзякуючы намаганням экіпажа, які здолеў ліквідаваць пашкоджанні, дайшоў сваім ходам да Кранштата. 23.9.1941 патоплены ў час бамбардзіроўкі фаш авіяцыяй Кранштата. Знятыя ў 1941 з «М.» гарматы выкарыстоўваліся ў абароне Ленінграда. У 1942 падняты і зноў уведзены ў строй. Далейшая гісторыя карабля дакладна невядома (паводле некат. звестак, у 1959 стаў вучэбным караблём).

*Літ.* Б у н и ч И Л Таллинский переход Ист хроника балтийской трагедии Мн , 1994.

*Раман Паўловіч*

**МІ́НСКА АБАРО́НА 1941** у В я л і к у ю А й ч ы н н у ю в а й н у . Вялася 25—28 чэрв , складалася з кароткачасовых жорсткіх баёў вакол Мінскага ўмацаванага раёна. Абарону на З ад горада трымалі войскі 44-га (камдыў В.А.Юшкевіч), на Пн ад Мінска — 2-га (ген.-м. А.М.Ермакоў) стралк. карпусоў (СК) 13-й арміі (ген.-лейт П.М.Філатаў) Зах. фронту, а таксама 16-ы Дзяржынскі пагранатрад (маёр А.А.Аляксееў), падмацоўвалі 151-ы корпусны і 301-ы гаўбічны артпалкі, 7-я брыгада ППА, 42-я далёкабамбардзіровачная дывізія і інш. Палкі 44-га СК [64-й і 108-й стралк. дывізій (СД)] занялі пазіцыі на рубяжы Стайкі—Рагава—Хмелеўка—Заслаўе—Гараны—Дзяржынск—Станькава. 23—24 чэрв. варожы паветр. дэсант захапіў ст. Аляхновічы, атрады 3-й танк. групы (ген.-палк. Г. фон Гот) занялі Радашковічы, 25 чэрв. — Валожын, Ракаў. У паветры панавала варожая авіяцыя. 23 чэрв. ням. самалёты бамбілі аэрадром у Лошыцы, чыг. вак-

Карабель-лідэр «Мінск»

## АБАРОНА МІНСКА
## 25 чэрвеня—3 ліпеня 1941 г.

Размяшчэнне бакоў
- 25 6
- удзень 26 6
- у канцы дня 26 6
- 27 6
- 28 6
- 29 6-1 7




Удары сіламі палка, батальёна, даты

Удары танкавыя

Паветраныя дэсанты

Рэйды, прарывы невялікіх сіл, разведбатальёнаў



Акружэнне, кругавая абарона

Сканцэнтраванне, зыходныя пазіцыі, доты УР а

Бомбавыя удары, даты (26 6, 24 6)

Даты заняцця населеных пунктаў раніцай, удзень, вечарам (26 6, 29 6, 25 6; 27 6, 26 6, 23 6)

Чырвоная Армія




Штабы арміі, корпуса дывізіі, іх нумары

Ням армія

Штабы арміі, танкавай групы, корпуса

2ск 20мк XXXXVI тк — Нумары вайсковых злучэнняў, карпусоў

100сд 85сп 17тд — Нумары дывізій і палкоў

Аўтар У Ф Ісаенка

яе сын Уладлен (хавалі на кватэрах зброю, адзенне, бланкі пашпартоў для чырвонаармейцаў, перапраўлялі б вай скоўцаў у «лес») Патрыеты вялі агітацыю сярод насельніцтва, распаўсюджвалі газеты, што паступалі з тылу, збіралі медыкаменты, выводзілі са строю абсталяванне на вытворчасці, зрывалі мерапрыемствы акупац улад Восенню 1941 пры актыўным удзеле б сакратара Заслаўскага райкома КП(б)Б, упаўнаважанага ЦК КП(б)Б І К *Кавалева* былі створаны Мінскі гарком КП(б)Б і Ваенны савет партыз руху (ВСПР), якія дзейнічалі ў жорсткіх нелегальных умовах у пэўным сэнсе аўтаномна Гал цэнтрам супрацьўлення быў гарком, узнікненню якога спрыяла стварэнне канспіратыўных кватэр, дзе збіраўся актыў падпольшчыкаў у Амельянюкоў (вул Чарнышэўскага, 11, кв 2), Барсукоў (Някрасава, 4), Будаева (Беламорская, 14б), Л Д Драгун (Надзеждзінская, 14а, кв 1), Кузняцова (Чкалава, 26, кв 1), Сержановічаў (Асаавіяхімаўская, 8, кв 2), І І Фамлюка (Фабрыцыуса, 12, кв 1) У склад гаркома ў 1941 уваходзілі Кавалеў (сакратар), члены Грыгор'еў, Жудро, Заяц, Казінец, Коцікаў, Нікіфараў, І І Рогаў, Сяменаў, Кавалеў, Казінец і Рогаў утваралі «тройку» для каардынацыі і вырашэння аператыўных пытанняў Стварэнне гаркома завяршыла аб'яднанне падп груп і арг-цый горада ў адно арганізац цэлае Асн кірункі дзейнасці агітац , дыверсійная і разведвальная работа, утварэнне партыз атрадаў, выяўленне і знішчэнне ням агентуры, здраднікаў У кастр — снеж гарком даў жыццё першым партыз атрадам «Дзядзькі Васі», Сяргеева, Пакроўскага Па заданні к-та збіраліся звесткі пра размяшчэнне ў горадзе і наваколлі ваен аб'ектаў, штабоў, складоў, бензабаз ворага, наладжваліся сувязі з надзейнымі людзьмі на перыферыі, арганізоўваліся ўладкаванне б ваеннаслужачых на работу, матэрыяльная дапамога ўдзельнікам падполля, іх сем'ям Найб важныя звесткі перапраўляліся ў партыз атрады, адтуль за лінію фронту ВСПР узначалі-

Да арт **Мінскае патрыятычнае падполле.** Мемарыяльны знак на вул Кульман

лі Рогаў (старшыня), П І Антохін (нам ) і І М Бялоў (нач штаба) Задачы савета выяўленне і ўзяцце на ўлік б камандзіраў Чырв Арміі вызваленне з лагераў ваеннапалонных, забеспячэнне іх дакументамі, стварэнне тайнікоў і захоўванне ў іх сабраных зброі і боепрыпасаў, арганізацыя партыз атрадаў У сваей дзейнасці члены ВСПР выкарыстоўвалі канспіратыўныя кватэры Драгун, В.А Салаўянчык (Надзеждзінская, 16), П С Алейчыка (Аранжарэйная, 7), У І Адынца (Чкалава, 34), Г І Бушмакіна (Кааператыўная, 8) і інш Арг-цыя мела цесныя сувязі з падпольшчыкамі Камароўкі, чыг вузла і інш групамі і арг-цыямі У пач 1942 ВСПР аб'ядноўваў больш за 300 чал , ажыццяўляў кантакты з партыз атрадамі, што дзейнічалі ў Дзяржынскім, Заслаўскім, Лагойскім, Плешчаніцкім і Рудзенскім р-нах, з яго ўдзелам створана некалькі атрадаў, куды ён накіроўваў камандзіраў і палітработнікаў Падпольшчыцы Драгун, Салаўянчык і інш здабылі для ваеннапалонных больш за 200 бланкаў пашпартоў, Драгун перадала партызанам 100 тапаграфічных карт Беларусі і планы Мінска з нанесенымі на іх ваен аб'ектамі ворага У канцы 1941 гарком і ВСПР арганізавалі першую падп друкарню, дзе выпускаўся перыяд лісток «*Вестник Родины*», друкаваліся зводкі Саўінфармбюро, лістоўкі Са студз 1942 групай А А Маркевіча выдавалася на шапірографе газ «Патриот Родины» Забяспечвалі падполле шрыфтамі роз нымі друкарскімі матэрыяламі Дз І Бязмен, С А Гардзей, М І Іваноў А А Каранькоў, У У Карповіч, М С Паланейчык, Г В Суслава, К К Трошын, І С Удод, М Б Чыпчын 21 5 1942 выйшаў 1-ы нумар падп газ «*Звязда*» [органа Мінскага гаркома КП(б)Б] Яе рэд У.Амельянюк, 2—4 га нумароў — Я М *Савіцкая*, у падрыхтоўцы і выданні актыўна ўдзельнічалі С А Благаразумаў М І Васькоў, Б Б Гофман, А С Грышын У С Казачонак, А А Карпусенка Мацкевіч, Нікіфараў, Н Палонская А Я Платайціс, Б Пупко, М П Рынкевіч М І Свірыдаў, М і В В Тарашкевічы Н і Ц А Трафімюкі, А Я Цітовіч, Шугаеў Т Я Якавенка і інш , набіралі 1 ы нумар М П і М М Воранавы 2— 4-ы — Х М.Александровіч Значную работу па распаўсюджванні і дастаўцы газеты, лістовак, падп л-ры ў Баранавічы Барысаў, Маладзечна, Оршу і інш гарады у Дзяржынскі, Заслаўскі, Смалявіцкі, Пухавіцкі, Рудзенскі, Чэрвеньскі і інш раёны праводзілі падпольшчыкі А І Астравухаў, М І Батурына Г В *Будаи* А Ф Верамейчык, З З Гала Івашчонак Ю Ю Крывец, А А Маркевіч Х М Пруслiна, П М і Н Ц Цвятковы М Ф Шклярэўскі, Г.А Язубчык і інш У 1941 у Мінску і наваколлі дзейнічала каля 50 падп груп і арг-цый (больш за 2 тыс чал ), у т л групы на Балотнай станцыі (кіраўнік Л Ф Мацюшка) пладаагароднінная базе № 1 (М К *Каржанеўскі* Я І Ермалінскі, І Ф Крук) цагельным з-дзе № 1 (Р Ф Валынец) ст Мінск-Таварная (А А.Вадкоўскі Б А Івашкевіч, І В Юховіч), у гаражы Мінгаруправы (А Ф Арндт, М Ф Філіповіч) арг-цыя ў в Прылепы (П І Санковіч) група студэнтаў і выкладчыкаў юрыд ін-та (Осіпава), арг цыя (Кузняцоў) і групы (Паўлечка, А.А Даўгалеў) у паравозным дэпо, на вагонарамонтным з-дзе (Трус, В Шчарбацэвіч, Г М Красніцкі), на ЦЭЦ-2 (М І Яраслаўцаў Н Г Коўшык, У Г Вільчынскі, М А.Ерашэвіч, Дз Р Гняўко, М А Яловік), Старажоўскай хлебапякарні (В М Бачароў) цагельных з-дах № 2, 3 (М І Зехаў) арг-цыі на Грушаўскім пасёлку (І С Руткоўскі, С М Гапоненка) і цвіковым з-дзе (М Ф Мацюшка), групы у інфекц б-цы (В З Клімук), «Вера» (А Ф.Апацкі), на гарбарным (Я М Канапацкі) і станкабуд (І Г Матусевіч В Ф Дзярыба, В С Дуброўская) з-дах, у медпункце (А.І Плавінская) і на чыг ст Мінск-Пасажырскі (П І Чыркун), арг-цыя ў Доме друку (Платайціс), група (В С Ждановіч-Рабава) у Доме ўрада групы па Пугачоўскім зав (І.А.Адамовіч), у аптэцы № 1 (Г Г Фалевіч) арг-цыя на піўзаводзе (Н Р Зікуненка) групы на чыг вузле (Жывалеў, У І Сянько, Г М Гамаліцкі, Бязмен В.Д *Шацько*), у в Ліпка і ваен гарадку

Да арт **Мінскае патрыятычнае падполле.** Помнік падпольшчыкам у Цэнтральным скверы

Сцяпянка (Савіцкая, М.Л.Кізіневіч, М.Ф.Шпілеўскі), у раёне вуліц Калгаснай, Маладзечанскай, Саўгаснай і Старавіленскай (М.П.Зайцаў), на хлебазаводзе «Аўтамат» (М.Н.Паўлаў, М.М. Зубко, М.Ф.Хаткоўскі, М.П.Шэлестаў, А.І.Івашкевіч, М.П.Тужыкаў), арг-цыя ў друкарні Дома друку (Васькоў), групы на малочным з-дзе (М.Х.Валатоўская), хімфармзаводзе (В.Я.Вяржбіцкая, П.П. Асядоўскі), арг-цыя (М.Р.Іваноўская) і групы (Л.Дз.Казючыц, Б.І.Чырко, П.Ф.Карпека) на дрожджа-патачным з-дзе, групы ў раёне вул. Калгаснай (Р.П.Духоўнікава), «Красворд» (Ф.Ф. Субач), на мэблевай ф-цы па вул. Апанскага (І.І.Драздоўскі), настаўнікаў (В.П.Александроўская), на складзе бухгалтарскіх бланкаў (П.К.Кобля), Лагойскага падп. райкома КП(б)Б (І.Х.Маркаў), арг-цыя ў раёне вуліц Р.Люксембург і К.Лібкнехта (Ч.Б.Чарапові), групы на радыёзаводзе (У.М.Елін, Н.К. Ісачанка), у гаражы гаруправы (Э.І.Якіменка, С.З.Анікін), «Каўказ» (У.Ц.Бабенка), медработнікаў (Л.Ф.Густарнік-Ларына), арг-цыя «Андруша» (М.А.*Кедышка*). У складзе М.п.п. з ліп. 1941 дзейнічала камсам.-маладзёжнае падполле, створанае гаркомам КП(б)Б і структурнымі органамі ЛКСМБ: на радыёзаводзе, вагонарамонтным, гарбарным, цвіковым з-дах, на Балотнай станцыі, арг-цыя «Андруша» (больш за 60 чал.), група Сянько на чыг. вузле (каля 10 чал.). Да восені 1942 кіраваў маладзёжным падполлем Благаразумаў. У снеж. 1942 пасля арышту і пакарання смерцю Благаразумава Мінскі падп. міжрайком ЛКСМБ стварыў Мінскі надп. гарком ЛКСМБ, які ўзначаліў праз сувязных маладзёжны падп. рух у Мінску (дыслацыраваўся ў Заслаўскім р-не). У першыя месяцы пасля стварэння гета (19.7.1941) яго вязні наладзілі сувязі з падполлем з дапамогай Казінца, Р.Д.Смоляра, З.М.Окуня, А.Падапрыгары і інш. Тут існавалі падп. «дзесяткі» і інш. групы (кіраўнікі Смоляр, М.Л.Гебелеў, М.М. і Х.М.Прусліны, Р.А.Ліпская, Н.Л.Фельдман, Е.П.Майзлес, Окунь, М.Міркін, Л.Гурэвіч, М.Каган, Х.І.Гусінаў, Н.Бурштын, А.Шляхтовіч, Е.М.Рольбін, Б.Ф.Хаймовіч, В.С.Лосік, Л.Я.Кулік, С.Х.Левіна, Ц.Я.Батвіннік, І.Міндэль, Э.Родава, Д.Герчык), якія адыгралі важную ролю ў арганізацыі матэрыяльнай і фін. дапамогі падполлю і партызанам, зборы сакрэтнай інфармацыі, перапраўкі вязняў у партызаны.

Гарком і ВСПР сваю дзейнасць накіроўвалі ў адпаведнасці з падзеямі на фронце: у снеж. 1941, у час бітвы пад Масквой, група падпольшчыкаў ажыццявіла дыверсію, у выніку якой на 10 дзён спыніўся рух ням. эшалонаў на фронт, на ЦЭЦ-2 сарвалі падачу электраэнергіі на ваен. аб'екты, у сак. 1942 сапсавалі прылады гал. пульта. Недастатковая канспірацыя ў арганізацыі некаторых аперацый прывяла ў сак. 1942 да арыштаў і гібелі кіраўнікоў (Рогаў, Антохін) і многіх членаў ВСПР, да спынення дзейнасці гэтай арганізацыі (Бялоў памылкова расстраляны партызанамі як здраднік). У сак.—крас. амаль адначасова з ВСПР ахвярамі ням. рэпрэсій сталі члены інш. падп. арг-цый і груп, вязні гета. Пасля катаванняў 7.5.1942 публічна павешаны 28 актывістаў, у т.л. члены гаркома Казінец, Заяц, Сямёнаў, расстраляны 251 падпольшчык; у крас. смяротна паранены Жудро, трагічна загінуў Макаранка, ад спраў гаркома адышоў Грыгор'еў. Але актыўная барацьба з акупантамі працягвалася. У пач. мая 1942 на канспіратыўнай кватэры М.П.*Дразда* адбылася нарада актыву падполля з 14 чал. (Кавалёў, Амельянюк, Гебелеў, Караткевіч, Нікіфараў, К.І.*Хмялеўскі* і інш.), на якой вырашаліся пытанні ўдасканалення арганізац. структуры і канспірацыі падполля. У склад гаркома давыбраны Амельянюк (пасля яго гібелі — Хмялеўскі) і Караткевіч. Былі створаны 5 падп. гар. райкомаў КП(б)Б: Варашылаўскі (сакратар Шугаеў), Кастрычніцкі (Хмялеўскі, з вер. Каржанеўскі), Сталінскі (Н.Я.*Герасіменка*), Тэльманаўскі (раён гета, Гебелеў), Чыгуначны (Коцікаў, з вер. І.І.*Матусевіч*). Пад кіраўніцтвам і пры ўдзеле гаркома адноўлена і пашырана сетка падп. арг-цый. Узмацніла сваю дзейнасць група на чале з Маркевічам, якая вырасла ў буйную падп. арг-цыю. Па заданні гаркома ў бюро прапускоў гар. камісарыята амаль 2 гады працаваў Гала, які забяспечваў нелегалаў бланкамі прапускоў, узорамі ням. пячатак, подпісаў, папярэджваў пра аблавы і інш. карныя мерапрыемствы акупантаў. Актыўны ўдзел у падп. рабоце прымалі медыкі, якія збіралі і перадавалі патрыётам медыкаменты, хірургічныя інструменты, лячылі параненых: прафесар Я.У.*Клумаў*, урачы В.Р.Гаўрыленка, В.І.Гудына, В.М.Гурыновіч, М.А.Кірзон, М.І.Мельнікаў, В.І.Паўловіч, М.Г.Піліпушка, Плавінская, С.А.Прылуцкі, М.М.Уладысік, В.К.Шыкаўка, медсёстры В.Ф.Рубец, А.І.Сідаровіч, Ю.І.Сямашка і інш. У 1942 створаны новыя падп. групы па вул. Р.Люксембург (кіраўнік А.В.Чарненка), у пас. Малая Серабранка (Дз.А.Малаш), на шчацінна-шчотачнай ф-цы (М.П.Ананьін), плодаагародніных базах № 2 і 1 (І.І.Яцэвіч, М.Т.Раманоўскі), у домакіраўніцтве № 1 на вул. Уфімскай (К.Л.Матузаў), Гал. разведупраўлення Генштаба Чырв. Арміі (С.К.Вішнеўскі, Л.А.Барсукоўскі), у раёне вуліц Калгаснай, Маладзёжнай, Саўгаснай і Старавіленскай (С.Я.Крывічанін), на вагонарамонт. з-дзе (І.В.Кухто), у дэпо чыг. ст. Мінск-Пасажырскі (М.Р.Гаўрылаў), «Салавей» на чыг. ст. Мінск-Таварная (Ю.М.Буры-Бурымскі), у вёсках Аляксандрава (А.М.Ждановіч-Носава) і Серабранка (С.А.Рамаоўскі), на аэрадроме (К.І.Мурашка, З.М.Васілеўская), хлебазаводзе «Аўтамат» (Л.П.Мамат, А.Р.Фаловіч, Я.Ф.Раманава), арг-цыя на чыг. вузле (В.П.Барысаў). З удзелам падпольшчыкаў на працягу 1941—42 створана каля 20 партыз. атрадаў, у т.л. «Дзядзькі Васі», «Дзядзькі Колі», «Бальшавік», Нікіціна, № 208, імя Будзённага, імя Лазо, імя Сталіна, імя Фрунзе, імя Чкалава. 12.8.1942 прадстаўнікі гаркома Будаеў і Коцікаў у раёне воз. Палік на нарадзе камандавання партыз. атрадаў прапанавалі стварыць партыз. брыгады «Дзядзькі Васі» (камандзір В.Т.*Варанянскі*), «Дзядзькі Колі» (П.Р.*Лапацін*), «Старога» (В.С.Пыжыкаў), у вер. 1942 паводле ўказання падп. гаркома створана брыгада «Штурмавая» (Б.М.*Лунін*, І.А.Гламаздзін, І.Л.Фогель). У выніку прапагандысцкай работы падпольшчыкаў 357 чал. з укр. ахоўных батальёнаў, больш за 150 салдат-антыфашыстаў (бельгійцы, немцы, палякі, сербы, славакі і інш.) перайшлі да партызан. Падпольшчыкі сістэматычна адпраўлялі партызанам зброю, выбуховыя прылады, радыёпрыёмнікі, пішучыя машынкі. паперу, соль, вопратку, бінты і інш., у т.л. чл. падп. арг-цыі на Грушаўскім пас. і хлебазаводзе «Аўтамат» адвезлі брыгадзе Нікіціна машыну з хлебам; з хімзавода ў 11 атрадаў перадалі медыкаменты і перавязачныя матэрыялы, з гарбарнага з-да тром атрадам — больш за 100 кажухоў, футравых безрукавак, некалькі соцень аўчынных шапак, рукавіц, 13 швейных машын; са станкабуд. з-да вывозілі сакрэтную тэхн. дакументацыю. Пры выкананні гэтых мерапрыемстваў вызначыліся І.П.Агейчык, І.І.Барсук, У.Р.Бацяноўскі, Будаеў, І.М.Волчак, М.Р.Гілеўскі, П.А.Гаранскі, Дрозд, М.П.Іваноўская, А.В.Каліноўскі,

Да арт. **Мінскае патрыятычнае падполле.** Мемарыяльная дошка на вул. Чкалава.

Да арт. **Мінскае патрыятычнае падполле.** Мемарыяльная дошка на вул. Караля.

1967, В памяти народной Мн, 1969 Сквозь огонь и смерть Мн, 1970, Давыдова В С В битве за Отечество // Герои подполья 4 изд М, 1972 Вып 1, Ваупшасов С А На тревожных перекрестках 2 изд М 1974 Лещеня С К С паролем горкома 2 изд Мн, 1988, Мазаник Е Г Возмездие Док повесть Мн, 1981, Матуковский Н Е Минск. Док. повесть о 1100 днях героической борьбы минчан против гитлеровских оккупантов (в письмах, воспоминаниях, док.), 1941—1944 Мн, 1982, Савицкая Я М Бойцы подпольного фронта Мн, 1982, В непокоренном Минске Док. и материалы о подпол борьбе сов патриотов в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944) Мн, 1987, Доморад К И Партийное подполье и партизанское движение в Минской области, 1941—1944 гг Мн, 1992, Мінскае антыфашысцкае падполле Мн, 1995

*Яўген Бараноўскі, Іларыён Ігнаценка*

**МІНСКАЕ СТАРОСТВА**, дзяржаўнае уладанне ў Мінскім пав ў 16—18 ст Уваходзіла ў склад сталовых каралеўскіх маенткаў Гродавае староства ўключала Мінск з замкам, дзе адбываўся гродскі суд, і некат навакольныя вёскі На пасадзе мінскіх старостаў упамінаюцца В Тышкевіч (1544—71), Г Гарнастай (1571—82), Дз Тышкевіч (1588—92), А Станкевіч (1595—97), П Тышкевіч (1625), К Завіша (1631—45), А К Завіша (1645—47), Я М Завіша (1685), К С Завіша (1685—1720), І Завіша (1720—38), У К Радзівіл (1739—46), Ю Іваноўскі (1746), І Іваноўскі (1765), А Пшаздзецкі (1767—72), Д Пшаздзецкі (1772—82), М Бжастоўскі (1782), Г В Радзівіл (1783—86)

*Літ* Беларускі архіў Т 3 Мн, 1930

**МІНСКАЕ ТАВАРЫСТВА АМАТАРАЎ ПРЫГОЖЫХ МАСТАЦТВАЎ**, гарадская культ-асв і літ-мастацкая арг-цыя ліберальна-дэмакр кірунку Існавала ў Мінску ў 1898—1906 Створана 19 11 1898 на аснове муз-драм т-ва (1888—98) па ініцыятыве пісьменніка Я М Чырыкава, рэвізора акцызнага упраўлення А.Аляксандрава, пам прысяжнага паверанага В Чавусава і інш І вам кіраваў савет старэйшын з 10 чал У яго ў розны час уваходзілі Д Мейчык, С Мядзведзеў, А.Холмскі, К Какоўцаў, К Фальковіч, М Мысаўскі, С Нейфах, С Камінскі, В Сушчынскі і інш Паводле статута (зацверджаны 19 11 1889) мела на мэце «служыць збліжэнню мясцовых дзеячаў у галіне прыгожых мастацтваў і асоб, якія спачуваюць ім», садзейнічаць развіццю і рас паўсюджванню мастацтваў у Мінску З гэтай мэтай планавала праводзіць аматарскія спектаклі, канцэрты, літ і муз вечары, стварыць б-ку, студыі і майстэрні выяўл мастацтва, а пры наяўнасці сродкаў — школы жывапісу, скульптуры, музыкі, дэкламацыі і сцэнічнага майстэрства, арганізаваць выданне кніг і часопісаў Мела літ, тэатр-драм, муз і маст секцыі Літ секцыя наладжвала лекцыі, дыспуты, чытанне рэфератаў пра творчасць Э По, М Метэрлінка, В Бялінскага, А.Чэхава, Л Андрэева, М Горкага, абмеркаванне новых літ плыней У рэпертуары аматарскага тэатра т-ва былі п'есы «Багна», «Не ў свае сані не садзіся», «Свае людзі — паладзім» А.Астроўскага, «Рэвізор» М Гогаля, «Улада цемры» Л Талстога, «На дне» і «Фама Гардзееў» М Горкага, «У двары, у флігелі» Чырыкава, «Чайка» і «Дзядзька Ваня» Чэхава, «Маскарад» М Лермантава, «Нора» Г Ібсена, «Злачынства і кара», «Ідыёт» паводле Ф Дастаеўскага, «Патанулы звон» Г Гаўптмана і інш Маст секцыя арганізавала выстаўкі жывапісу графікі, фатаграфіі (1901, 1902, 1904) Муз секцыя мела аркестр, клас па тэорыі харавых спеваў Дзейнасць т ва развівалася ў кантэксце рускай літ і культ традыцыі, праблемы адраджэння бел культуры, мовы і л-ры не закраналіся Для пакрыцця расходаў т-ва здавала ў арэнду памяшканне тэатра, дзе праводзіліся балі, сходы і інш мерапрыемствы, якія пад уплывам рэв руху ў 1905—06 перараслі ў масавыя антыўрадавыя дэманстрацыі пад лозунгамі «Далоў самадзяржаўе!», «Няхай жыве Рэспубліка!» Паводле данясення мінскага паліцмайстра і губернатара П Курлова, члены т-ва падазраваліся ў нядобранадзейнасці 8 2 1906 Курлоў прыпыніў дзейнасць т-ва і прапанаваў мін-ву ўнутр спраў забараніць яго дзейнасць Па просьбе савета старшынь т-ву было дазволена самаліквідавацца рашэннем агульнага сходу (25 7 1906), маемасць і даўгі перададзены новаўтворанаму мінскаму літ-артыстычнаму т-ву

Першая старонка статута **Мінскага таварыства аматараў прыгожых мастацтваў** 1898

*Літ* Устав Минского общества любителей изящных искусств Мн, 1899, Дорошевич Э, Конон В Очерк истории эстетической мысли Белоруссии М, 1972

*Уладзімір Конан*

**МІНСКАЕ ТАВАРЫСТВА АМАТАРАЎ ПРЫРОДАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І АРХЕАЛОГІІ** Існавала ў 1912—15 у Мінску Яго праграма прадугледжвала навук вывучэнне прыроды краю, гісто рыка-археал даследаванні, ахову помнікаў прыроды, распаўсюджванне прыродазнаўча-гіст. і геагр ведаў на тэр Мінскай губ Размяшчалася ў памяшканні Мінскай губ земскай управы і гімназіі К В Фальковіча, з 1913 — у *Мінскім гарадскім музеі.* Існавала за кошт членскіх узносаў, паступленняў ад чытання лекцый, ахвяраванняў Кіравалася радай з 6 чал 1-ы старшыня — дырэктар *Мінскай балотнай доследнай станцыі* А Ф Флераў, члены урачы С М Урванцоў і А.П Грацыянскі, інж-тэхнолаг, чл гар управы Ф Цывінскі, кіраўнік Упраўлення земляробства і дзярж маемасцей Мінскай губ І М Шэмігонаў, старшыня губ казеннай палаты Ф М Яструэмскі і інш Члены т-ва займаліся навук работай, чыталі даклады па медыцыне, геалогіі, глебазнаўстве, флоры і фауне Беларусі, праблемах збе ражэння прыродных багаццяў Т-ва падтрымлівала сувязі з археал камісіяй, батанічным садам і Вольна-эканам т-вам у Пецярбургу, Казанскім ун-там, Маскоўскім, Вяцкім, Уральскім, Мікалаеўскім т-вамі аматараў прыродазнаўства, Зах-Сібірскім аддз Рус геагр т-ва і інш У 1914 выдала навук зб «Весці» Сабрала калекцыі стараж кніг, манет, мінералаў, бел. нац адзення, гербарыі, якія захоўваліся ў створаным т вам гар музеі Спыніла дзейнасць у сувязі з пачаткам 1-й сусв вайны

*Захар Шыбека*

**МІНСКАЕ ТАВАРЫСТВА АХОВЫ ЖАНЧЫН**. Засн ў 1901 у Мінску гарадскім галавой К Э Чапскім Знаходзілася пад уплывам дзеячаў ліберальна-апазіцыйнага руху У рабоце т-ва ўдзельнічалі пераважна жонкі чыноўнікаў і прадпрымальнікаў Мела юрыд аддзел, прысяжныя паверамыя якога давалі бясплатныя юрыд кансультацыі, бюро па арганізацыі лекцый Жанчыны-ўрачы вялі курс жаночай гігіены, выкладчыкі гімназіі К В Фальковіча чыталі лекцыі па астраноміі, гісторыі і л-ры У 1904—05, 1912—13 пры т-ве дзейнічалі нядзельныя школы, быў адкрыты дзенны прытулак для дзяцей ра бочых Спыніла дзейнасць з пачаткам 1-й сусв вайны

*Захар Шыбека*

**МІНСКАЕ ТАВАРЫСТВА ГІСТОРЫІ І СТАРАЖЫТНАСЦІ**, навуковая і культ-асв арганізацыя ў 1919—25 Утворана 29 6 1919 пры Мінскім пед ін-це У першы яго склад уваходзілі Д Бохан, У Вішнеўскі, М Маслаковец (старшыня), Д Мейчык, М Сыркін, А Сцепуржынскі і інш Ставіла за мэту вывучэнне гісторыі і археалогіі Белару-

сі, ахову помнікаў гісторыі і культуры, утварэнне гісторыка-археал музея, прапаганду гіст ведаў сярод насельніцтва У 1919—20 польск акупац адміністрацыя адмовіла ў легалізацыі арг-цыі 28 12 1920 Наркамат асветы БССР вылучыў на яго патрэбы 2 млн руб 21 3 1923 т-ва зарэгістравана ў НКУС БССР У 1921—23 было каля 50 правадз членаў, у склад праўлення ў розны час уваходзілі В *Дружчыц*, М *Гуткоўскі* У *Ігнатоўскі*, М *Каспяровіч*, М *Мялешка*, У *Пічэта* (старшыня), А *Савіч*, А *Шлюбскі*, І *Поляк* і інш, ганаровымі членамі абраны праф Г Мейчык, акад Я Карскі, Ф Турук і М Янчук Правяло каля 40 агульных пасяджэнняў, на якіх абмеркаваны навук даклады «Рэлігійнае пытанне на сеймах Рэчы Паспалітай у 1596—1632», «Навейшая беларуская гістарыяграфія», «Працы польскіх навукоўцаў па гісторыі Беларусі», «Мацей Стрыйкоўскі і яго хроніка», «Казанні пра Рагнеду», «Адукацыйная камісія ВКЛ і уніяцкія школы», «Знішчэнне бібліятэк і рукапісных гістарычных крыніц у Беларусі з 12 ст да гэтага часу», «Мінулае Навагрудка» і інш Частка дакладаў апублікавана ў час «Вольны сцяг», «Працы БДУ», «Вестник Народного комиссариата просвещения» інфармацыю пра пасяджэнні т-ва давала газ «Савецкая Беларусь» У вер 1921 пры дапамозе Наркамасветы БССР т-ва арганізавала археал раскопкі стараж курганоў у Заслаўі (Маслаковец, В Сушчынскі і Поляк), супрацоўнічала з *Мінскім навуковым педагагічным таварыствам*, *Беларускім вольна-эканамічным таварыствам*, з краязнаўчымі арг-цыямі Беларусі і Расіі, у снеж 1921 удзельнічала ва Усерас канферэнцыі краязн т-ваў У студз 1922 пры таварыстве ўтворана Часовае бюро краязнаўства у валасныя цэнтры Мінскага пав разасланы анкеты для збору інфармацыі пра помнікі гісторыі і культуры, старадрукі і архіўныя зборы Мінскі ін-т нар адукацыі перадаў т-ву гіст, этнагр і археал часткі былога музея *Мінскага таварыства аматараў прыродазнаўства, этнаграфіі і археалогіі* У 1923 з-за пераходу большасці членаў у інш навук. ўстановы (Інбелкульт, БДУ) актыўнасць т-ва зменшылася На запыт НКУС БССР ад 16 3 1925 Пічэта паведаміў, што М т г і с «з мая 1924 не праводзіць пасяджэнняў і на гэты час практычна спыніла сваю дзейнасць»

*Літ* Каспяровіч М Арганізаванае вывучэнне Беларусі ў XIX і пачатку XX ст // Полымя 1928 № 1—2, Вяргей В С Дзейнасць краязнаўчых арганізацыяў у 20-я г па археалагічнаму вывучэнню БССР // Весці АН БССР Сер грамад навук 1979 № 1

*Аляксандра Гесь, Уладзімір Ляхоўскі*

**МІНСКАЕ ТАВАРЫСТВА ДАПАМОГІ НАВУЧЭНЦАМ** Засн ў 1875 для аказання матэрыяльнай дапамогі выхаванцам навуч устаноў горада з мэтай падтрымкі выпускнікоў гімназій, вучылішчаў і студэнтаў вышэйшых навуч установ Кіравалася статутам (прыняты 22 1 1875) Калегіяльны орган — агульны сход, які выбіраў праўленне, а тое — старшыню, сакратара і казначэя Працяглы час старшыней т-ва быў дырэктар Мінскага рэальнага вучылішча І І Самойла Члены т-ва падзяляліся на ганаровых (уносілі аднаразова не менш за 300 руб), сталых (не менш за 75 руб) і правадзейных (не менш за 3 руб ў год) Сярод ганаровых чл былі мастак І К Айвазоўскі (з 1882) і папячыцель Віленскай навуч акругі М А Сергіеўскі У 1900 у т-ве было 275 чл Сродкі т-ва складаліся з членскіх узносаў, аднаразовых ахвяраванняў, працэнтаў з капіталу і прыбыткаў ад дабрачынных мерапрыемстваў і латарэй Прадстаўнікі т-ва збіралі ахвяраванні па прыватных дамах, праводзілі вечарыны на карысць студэнтаў Сродкі ад іх складалі фонд дапамогі (4—5 тыс руб за год), якая ішла на аднаразовыя субсідыі, плату за навучанне і падручнікі Дапамогай т-ва карысталіся пераважна навучэнцы мінскіх мужчынскай і жаночай гімназій, рэальнага вучылішча і гарадскога 4-класнага вучылішча Да 1907 т-ва спыніла існаванне Яго функцыі выконвалі т-вы пры адпаведных навуч установах

*Літ* 25-летие Минского общества вспомоществования учащимся и отчет за 1899 г Мн 1900

*Мікалай Марчанка*

**МІНСКАЕ ТАВАРЫСТВА СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ**, арганізацыя буйных землеўласнікаў Існавала ў 1876—1914 Працавалі 4 секцыі аграмамічная, жывелагадоўлі, конегадоўлі і лясная У распараджэнні т-ва знаходзілася туганавіцкае доследнае поле, для даследаванняў выкарыстоўваліся гаспадаркі членаў т-ва, у маентках вывучаліся перадавыя с-г дасягненні Вынікі практычнай работы абагульняліся ў навук дакладах Т-ва займалася нарыхтоўкамі і пастаўкамі збожжа ваен ведамству і продажам ячменю піваварным з-дам Пецярбурга і Масквы У 1896 пры т-ве створана лесаўпарадкавальнае бюро з аддзелам ляснога гандлю, ў 1897 — камерцыйнае аддзяленне Т-ва пастаўляла лясныя матэрыялы данецкім каменнавугальным шахтам, экспартавала лес, наладзіла гандл зносіны з Варшавай па збыце масла і малочных прадуктаў, займалася ўпарадкаваннем мінскіх конскіх кірмашоў, стварэннем узорнага кірмашу на Залатой Горцы па продажы коней і інш жывелы Па ініцыятыве т-ва арганізавана Мінскае землеробчае т-ва ўзаемнага страхавання, створаны суполка вінакураных заводчыкаў, акц т-ва крухмалапатачнага з-да «Сокал» і лясная біржа Т-ва наладзіла юбілейную с-г і саматужна-прамысл выстаўкі ў 1901, выстаўкі-кірмашы жывелагадоўлі ў 1912

*Захар Шыбека*

**МІНСКАЕ ТАВАРЫСТВА ЎЗАЕМАДАПАМОГІ НАСТАЎНІКАМ НАРОДНЫХ ВУЧЫЛІШЧ**, Минское губернское Общество взаимного вспомоществования учащим и учившим в народных училищах Засн у крас 1901 з мэтай аказання матэрыяльнай дапамогі настаўнікам нар вучылішчаў Рашэнні па ўсіх пытаннях прымаліся калегіяльна на агульным сходзе членаў т-ва ці на пасяджэннях праўлення Кантрольныя функцыі выконвала рэвізійная камісія Публікавала штогадовыя справаздачы аб сваёй дзейнасці Да 1913 у т-ве было 1530 чал, амаль усе настаўнікі губерні Агульны сход зацвярджаў кандыдатуры на званне ганаровага члена т-ва Сярод іх былі педагог К В Ельніцкі і адзін з заснавальнікаў т-ва, інспектар 1-га Мінскага гар вучылішча М В Голубеў Сродкі т-ва складаліся са штогадовых членскіх узносаў (3 руб, з 1912 — 5 руб), штогадовых субсідый урада ў памеры 1000 руб і губ земства — 1150 руб (з 1913 — 2000 руб), аднаразовых ахвяраванняў і прыбыткаў ад дабрачынных мерапрыемстваў Трымала ў Мінску мужчынскі (з 1905) і жаночы (з 1912) інтэрнаты для навучэнцаў — дзяцей членаў т-ва Існавала да 1917

*Мікалай Марчанка*

**МІНСКАЕ ТАВАРЫСТВА ЎРАЧОЎ** Таварыства мінскіх урачоў Створана ў 1862 па ініцыятыве губ ўрачэбнага інспектара Дз В Спасовіча з мэтай сан вывучэння губерні барацьбы з эпідэміямі, арганізацыі ўрачэбнай дапамогі насельніцтву, сан асветы У 1863 зачынена У 1867 аднавіла дзейнасць намаганнямі доктара М К Берга Т-ва правяло медыка-тапаграфічнае і сан-статыстычнае апісанне гарадоў, мястэчак Мінскай губ, праводзіла лабараторныя сан-гігіенічныя даследаванні вады і прадуктаў харчавання, якія прадаваліся, арганізавала дэзінфекцыйную камеру, сан-бактэрыялагічную лабараторыю У 1867 т-ва заснавала мед б-ку, у 1869 — метэаралагічную станцыю, у 1879 — бясплатную лячэбніцу для бедных, у 1898 — гар бальніцу сан камітэта, у 1899 — гар амбулаторыю, у 1912 — дачу-калонію для хворых на туберкулез Т-ва ўдзельнічала ў стварэнні ў Мінску бібліятэк — імя А С Пушкіна (1900), чытальнай (1902), імя Л М Талстога (1911) Правяло 3 з'езды ўрачоў Мінскай губ (1908, 1911, 1914), рэгулярна выдавала свае «Пратаколы» і «Працы», у 1910—15 — штомесячны час «Минские врачебные известия» У 1919—21 і 1941—44 дзейнасць т-ва перапынялася У 1929 яно ператворана ў навук асацыяцыю у 1933 — у профільныя т-вы, у 1940 — ва Усебел мед т-ва З 1944 створаны шэраг спецыялізаваных мед т-ваў (на 1997 36)

*Літ* Молчанов А П К истории научных медицинских обществ в Белоруссии // Научные медицинские общества БССР Сб справ сведений Мн, 1981

*Акім Малчанаў*

**МІНСКАЯ АБЛАСНАЯ БІБЛІЯТЭКА** імя А С Пушкіна Створана на базе *Мінскай публічнай бібліятэкі* імя А С Пушкіна У сак 1938 атрымала статус абласной На 1 1 1998 кніжны фонд каля 705 тыс экз, больш за 46 тыс чы

тачоў Б-ка мае 11 аддзелаў, 6 сектараў 2 актавыя залы, 6 чытальных залаў раз лічаных на 650 чытачоў агульная перыяд выданняў, л-ры па мастацтве, бел і краязнаўчай л-ры, тэхн і с-г л ры, замежнай л-ры Сярод рэдкіх выданняў камплекты часопісаў «Исторический вестник», «Современник», «Русская мысль», прыжыццевыя поўныя зборы твораў С М Салаўева, А С Пушкіна, В.А Жукоўскага і інш Б-ка аказвае метадычную дапамогу 29 цэнтральным бібліятэчным сістэмам вобласці, праводзіць мерапрыемствы па павышэнні кваліфікацыі бібліятэчных работнікаў вобласці Выпускае штоквартальна інфармацыйны зб «Бібліятэчны веснік» Супрацоўнічае з культ цэнтрамі замежных краін на Беларусі Пры б-цы адкрыта франка-бел зала інфармацыі, сумесна з ін-там Гетэ праводзяцца дні ням культуры, створаны клуб «Кніга і мы»

**МІНСКАЯ АБШЧЫНА СЯСЦЁР МІЛАСЭРНАСЦІ ЧЫРВОНАГА КРЫЖА** Засн ў 1889 мінскім упраўленнем Расійскага т-ва Чырв Крыжа У абшчыну ўваходзілі старшая і 14 штатных сясцер міласэрнасці Каб атрымаць пасведчанне сястры міласэрнасці трэба было прайсці гадавое выпрабаванне і 2 гады папрацаваць у абшчыне Праца не аплачвалася, абшчына выдзяляла інтэрнат, харчаванне, вопратку, абутак і невял. грашовую дапамогу У 1903 пры абшчыне адчынены гадавыя курсы, на якіх выкладалі фізіялогію, хірургію і дэсмургію, гігіену, анатомію, унутр хваробы, догляд і пач дапамогу, псіхіятрыю, фармакалогію і рэцэптуру Да 1915 падрыхтавана 143 сястры міласэрнасці У 1904 сестры абшчыны накіраваны на Далекі Усход і ў Самару, куды прыбывалі параненыя з руска-японскай вайны 1904—05, у 1908 удзельнічалі ў барацьбе з халерай у Мазырскім пав , у 1910 — з тыфам, шкарлятынай, воспай у Мінскай губ , у 1911 выязджалі на дапамогу галадаючым Акмолінскай, Табольскай, Закаспійскай губ У 1910 абшчына адчыніла лячэбніцу на 14 ложкаў, у 1914 пабудавана новая лячэбніца на 40 ложкаў З пач 1-й сусв вайны абшчына сфарміравала і накіравала на фронт шпіталь на 200 ложкаў, які пазней пашыраны да 800 ложкаў З 1921 у складзе Т-ва Чырв Крыжа БССР

*Літ* Петрова А.Ф К истории РОКК на территории Белоруссии // Здравоохранение Белоруссии 1961 № 7, Хоров Г К истории подготовки медицинских сестер в Белоруссии // Вопросы истории медицины и здравоохранения Мн , 1968, Крючок Г Р Очерки истории медицины Белоруссии Мн 1976 *Тамара Разуменка*

**МІНСКАЯ АБ'ЯДНАНАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ РСДРП**, «Аб'яднанка» Створана 9(22) 3 1917 з прадстаўнікоў бальшавіцкай і меншавіцкай фракцый РСДРП, Бунда, Мінскай групы СДКПіЛ (Сацыял-дэмакратыя Каралеўства Польскага і Літвы) Ва ўстаноўчым сходзе ўдзельнічаў 131 прадстаўнік ад усіх с-д арг-цый Мінска, былі абраны яе кіруючы орган — камітэт Член к-та С Р Магілеўскі ўдзельнічаў у VII (Красавіцкай) Усерасійскай канферэнцыі РСДРП(б), 24 5(6 6) 1917 на пашыраным сходзе «аб'яднанкі» абмеркаваны яго даклад па выніках канферэнцыі Гэты сход стаў пачаткам расколу арг-цыі 1(14) 6 1917 на сходзе бальшавікоў і інтэрнацыяналістаў (прадстаўнікі СДКПіЛ) прынята рэзалюцыя аб іх выхадзе з М а а РСДРП, «аб'яднанка» спыніла сваё існаванне *Міхась Біч*

**МІНСКАЯ АКРУГА**, адм -тэр адзінка ў БССР у 1924—30 Утворана 17 7 1924 Цэнтр г *Мінск* Пл акругі 10 888 км$^2$, нас 498 6 тыс чал (1924), пасля ўзбуйнення пл 21 421 км$^2$, нас 879,7 тыс чал (1927) Уключала 11 раёнаў Астрашыцка-Гарадоцкі, Заслаўскі, Койданаўскі, Лагойскі, Пухавіцкі, Самахвалавіцкі, Смалявіцкі, Смілавіцкі, Уздзенскі, Чэрвеньскі, Шацкі (4 8 1927 ліквідаваны), 2 гарады (Мінск, Чэрвень), 8 мястэчак (Заслаўе, Койданава, Лагойск, Пухавічы, Смалявічы, Смілавічы, Узда, Шацк) 20 8 1924 раёны падзелены на 120 сельсаветаў Акруговая газ «Беларуская веска» 9 6 1927 да М а далучаны Барысаўскі, Бягомльскі, Бярэзінскі, Зембінскі (27 9 1927 ліквідаваны), Крупскі (18 6 1927 перададзены Аршанскай акр ), Плешчаніцкі і Халопеніцкі р-ны ліквідаванай Барысаўскай акр , Грэскі і Капыльскі р-ны ліквідаванай Слуцкай акр 26 7 1930 М а скасавана

**МІНСКАЯ АКРУГОВАЯ СЯЛЯНСКАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ ПРЫ РСДРП** Створана Мінскай арг-цыяй РСДРП у канцы 1905 у адпаведнасці з рашэннем III з'езда партыі (1905) Мела статут, пячатку, бібліятэку нелегальнай л-ры Дзейнасцю кіраваў акруговы к-т Вясковыя, валасныя, павятовыя к-ты ўзначальвалі выступленні сялян Летам 1906 к-т правеў каля 60 мітынгаў Найб размах сялянскі рух набыў у Навагрудскім і Слуцкім пав (213 выступленняў) У снеж 1907 шмат мясц камітэтаў арг-цыі разгромлены паліцыяй 11 11 1909 паліцыя раскрыла ў Мінску бібліятэку арг-цыі Пасля 1909 звестак пра арг-цыю няма

*Літ* Шабуня К И Аграрный вопрос и крестьянское движение в Белоруссии в революции 1905—1907 гг Мн , 1962 *Міхась Біч*

**МІНСКАЯ АПЕРАЦЫЯ 1944**, наступальная аперацыя войск 3-га (камандуючы ген арміі І Д Чарняхоўскі), 2-га (ген -палк Г Ф Захараў), 1-га (Маршал Сав Саюза К К Ракасоўскі) Бел франтоў пры садзеянні 1-га Прыбалт фронту (ген арміі І Х Баграмян) 29 чэрв — 4 ліп , састаўная частка *Беларускай аперацыі 1944* у Вял Айч вайну

Удзельнічалі 5-я (ген -лейт М І Крылоў), 11-я (ген -палк К М Галіцкі), 31-я (ген -лейт В В Глаголеў), 5-я гвардз танк (маршал бранятанк войск П А.Ротмістраў), 1-я паветр (ген.-палк авіяцыі Ц Ц Хрукін) арміі, конна-механіз група (ген -лейт М С Асцікоўскі), 2-і гвардз танк корпус (ген -м танк войск А.С Бурдзейны) 3-га Бел фронту, 33-я (ген -лейт В Дз Кручонкін), 49-я (ген -лейт І.Ц Грышын), 50-я (ген -лейт І В Болдзін), 4-я паветр (ген -палк авіяцыі К.А.Вяршынін) арміі 2-га Бел фронту, 3-я (ген -палк А.В Гарбатаў), 48-я (ген -лейт П.Л Раманенка), 16-я паветр (ген -палк авіяцыі С І Рудэнка) арміі, конна-механіз група (ген -лейт І.А Пліеў) 1-га Бел фронту Задача М а імклівымі ўдарамі войск левага крыла 3-га Бел фронту і часткі сіл правага крыла 1-га Бел фронту па збежных напрамках на Мінск ва ўзаемадзеянні з 2-м Бел фронтам завяршыць акружэнне групоўкі войск праціўніка і вызваліць Мінск У выніку

ажыццяулення Віцебска-Аршанскай, Магілёўскай і Бабруйскай аперацый ням 4-я і частка сіл 9-й арміі групы армій «Цэнтр» апынуліся ў паўкальцы, глыбока ахопленыя сав войскамі 30 чэрв войскі 3-га Бел фронту фарсіравалі Бярэзіну, разбілі барысаўскую групоўку гітлераўцаў, вызвалілі Барысаў, Бягомль (1 ліп), Лагойск, Смалявічы, Вілейку, Краснае (2 ліп), перарэзалі чыг Мінск—Вільнюс Войскі 1-га Бел фронту вызвалілі Любань, Слуцк (30 чэрв), Стоўбцы, Гарадзею (2 ліп), перарэзалі чыг Мінск—Баранавічы Адначасова ў напрамку на Мінск наступалі войскі 2-га Бел фронту, якія вызвалілі Бялынічы (29 чэрв), Чэрвень (2 ліп), Беразіно (3 ліп) Рухомыя злучэнні 1-га Бел фронту ў ноч на 3 ліп абышлі Мінск з Пд, выйшлі да паўд ўсх ускраіны горада, дзе злучыліся з войскамі 3-га Бел фронту На досвітку 3 ліп быў нанесены вырашальны ўдар па ням гарнізоне ў Мінску З У і ПнУ у горад уварваўся 2-і гвардз танк корпус, з Пн увайшлі часці 5-й гвардз танк арміі і падраздзяленні 11-й гвардз і 31-й арміі 3-га Бел фронту, з ПдУ — 1-ы гвардз танк корпус і часці 3-й арміі 1-га Бел фронту У 2-й пал дня 3 7 1944 Мінск быў поўнасцю вызвалены У акружэнне (*Мінскі «кацел»*) на У ад горада трапілі гал сілы 4-й і асобныя злучэнні 9-й ням армій, якія да 11 ліп былі разгромлены У час М а сав авіяцыя наносіла па ворагу магутныя ўдары, перашкаджала падыходу рэзерваў праціўніка, дэзарганізоўвала яго планамернае адступленне 4 ліп войскі 3-га і 1-га Бел франтоў дасягнулі рубяжа воз Нарач—Маладзечна, вызвалілі Нясвіж Войскі 1-га Прыбалт фронту надзейна ізалявалі групу армій «Поўнач» і не далі ей магчымасці прыйсці на дапамогу групе армій «Цэнтр» 4 ліп выйшлі на З ад лініі Варапаева — воз Мядзел У ажыццяўленні аперацыі вял дапамогу сав войскам аказвалі партызаны 53 злучэнням і часцям, што вызначыліся ў М а, нададзены ганаровыя найменні «Мінскіх», 13 — «Барысаўскіх», 8 — «Слуцкіх» *Уладзімір Лемяшонак*

**МІ́НСКАЯ АРГАНІЗА́ЦЫЯ РСДРП** Створана ўвосень 1903 на аснове іскраўскай групы Заснавальнікі М М Кузняцоў, С А Валынскі і В І Валынская, якія аб'ядноўвалі вакол сябе каля 30 рабочых чыг майстэрняў З сак 1904 уваходзіла ў *Паўночна-Заходні камітэт РСДРП*, са жн 1905 у Паўн-Зах саюз РСДРП, з чэрв 1906 у *Абласны саюз РСДРП Літвы і Беларусі* У канцы 1905 каля 1000 чл Кіравала дзейнасцю груп РСДРП у Бабруйску, Навагрудку, Слуцку У час рэвалюцыі 1905—07 поруч з інш левымі паліт арг-цыямі кіравала выступленнямі працоўных Падтрымлівала сувязі з ЦК РСДРП, выдавала газ «Минский летучий листок» Пасля разгону II Дзярж думы 3 6 1907 і арышту яе с-д. фракцыі многія чл мінскай арг-цыі РСДРП таксама арыштаваны і дзейнасць яе спынена Аднавілася ў канцы 1907 Удзельнічала ў стварэнні нелегальных прафсаюзаў, устанавіла сувязі з арг-цыямі РДСРП Пецярбурга, Масквы, Адэсы, Каралеўства Польскага і Літвы, арганізавала Мінскі перасыльны пункт нелегальнай л-ры У ліп — жн 1914 разгромлена паліцыяй

*Літ* Гісторыя Беларускай ССР Т 2 Мн 1972 Король А С Большевики Белоруссии в революции 1905—1907 гг Мн 1986

**МІ́НСКАЯ АРГАНІЗА́ЦЫЯ ЭСЭ́РАЎ**, народніцкая рэвалюцыйна-дэмакратычная арганізацыя неанародніцкага кірунку Узнікла ў 1902 на аснове разгромленай у 1900 мінскай групы *Рабочай партыі палітычнага вызвалення Расіі*. У 1904 утвораны Мінскі к-т Партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў (ПС-Р) У Мінскі к-т уваходзілі Е Гальперын, П Гамзагурдзі, К Ізмайловіч, С Маршак, І Сарока У крас 1904 М а.э удзельнічала ў 1-м з'ездзе прадстаўнікоў эсэраўскіх груп і к-таў Беластока, Бранска, Вільні, Віцебска, Гомеля, Дзвінска, Смаленска, на якім сфарміраваны Паўн-Зах абл к-т ПС-Р У структуру М а э уваходзілі саюз прапагандыстаў, агітацыйная сходка і тэхнічная група (друкарская і транспартная) Напярэдадні рэвалюцыі 1905 у Мінскай арг цыі 26 чал, у 1906 — каля 200 У ліст 1905 Мінская арг-цыя пад уплывам К Ізмайловіч выказалася супраць рашэння ЦК аб часовым прыпыненні паліт тэрору і захавала сваю баявую арг-цыю 14 1 1906 эсэр І П Пулихаў зрабіў замах на мінскага губернатара П Р Курлова і паліцмайстра Дз Дз Норава У 1905—07 мінскія эсэры пашырылі кантакты з Бундам, РСДРП, БСГ і ўваходзілі ў склад кааліцыйных саветаў Паражэнне рэвалюцыі 1906—07, арышты актывістаў паралізавалі дзейнасць Мінскай арг-цыі, сувязь з ЦК падтрымлівалася эпізадычна У 1909—12 існавала невял група эсэраў Пасля Лют рэвалюцыі 1917 мінскія эсэры падтрымалі Часовы ўрад На выбарах у Мінскі Савет яны атрымалі 17,8% месцаў (бальшавікі 54,6%) Восенню 1917 арг-цыя раскалолася на 2 часткі правых і левых эсэраў Правыя эсэры не прызналі сацыяліст характар Кастр рэвалюцыі 1917, павялі барацьбу супраць сав улады Левыя эсэры да ліп 1918 супрацоўнічалі з бальшавікамі Летам 1918 правыя і левыя эсэры разам з прадстаўнікамі народніцкага крыла БСГ сфарміравалі ў Мінску *Беларускую партыю сацыялістаў-рэвалюцыянераў* (БПС-Р), якая ўзяла курс на стварэнне незалежнай бел дзяржавы — *Беларускай Народнай Рэспублікі* (БНР) У 1919—20 разам з бальшавікамі эсэры вялі барацьбу супраць польскай інтэрвенцыі У перыяд 2-га абвяшчэння БССР (31 7 1920), не пагадзіўшыся з нац палітыкай, якую праводзіла КП(б)Б, М а э парвала з ей адносіны і выступіла ў якасці апазіцыі кіруючай партыі У 1924 на з'ездзе ў Мінску прыняла рашэнне аб самароспуску

*Літ* Непролетарские партии России в трех революциях Сб ст М, 1989, Бригадин П И Эсеры в Беларуси (конец XIX в — февраль 1917 г) Мн, 1994

*Мікалай Сташкевіч, Эдуард Ліпецкі*

**МІНСКАЯ БАЛО́ТНАЯ ДО́СЛЕДНАЯ СТАНЦЫЯ**, першая навук ўстанова па культуры балот у Расіі і Беларусі Засн 21 8 1911 у Мінску паводле рашэння балотнай камісіі Мінскага губ земства 1-ы дырэктар А Ф.Флёраў Праводзіла навук. даследаванні ў галіне земляробства, раслінаводства, лугаводства, меліярацыі, глебазнаўства, геабатанікі, аграхіміі і агратэхнікі Мела дośледную гаспадарку (7,5 дзесяціны балотнай глебы каля прыпынку Лахва Палескай чыг) У 1912—17 выдавала час «Болотоведение» (з 1915 выходзіў у Маскве), які публікаваў справаздачы аб дзейнасці станцыі, навук артыкулы, паведамленні аб новых машынах па асушэнні балоцістых глеб і здабычы торфу, агляды айч і замежнай л-ры па балотнай справе У 1912 удзельнічала ў юбілейнай с-г і саматужнай выстаўцы, арганізаванай Смаленскім т-вам сельскай гаспадаркі, у нарадзе па кармавых раслінах і лугаводстве і асушэнні балот Беларусі і Літвы У 1913 пераўтворана ў раенную У зону яе дзейнасці ўваходзілі Мінская, Валынская, Гродзенская, Чарнігаўская і Магілёўская губ У 1930 на базе станцыі і аддзела асушэння і культуры балот Бел дзярж ін-та сельскай і лясной гаспадаркі арганізаваны Усесаюзны НДІ балотнай гаспадаркі. *Захар Шыбека*

**МІ́НСКАЯ БЕЛАРУ́СКАЯ ВУЧНЁЎСКАЯ ГРАМАДА́**, нацыянальная маладзежная арг-цыя ў Мінску ў 1917—20 Утворана восенню 1917 на аснове вуч неўскага гуртка «Вянок» навучэнцамі сярэдніх навуч устаноў горада У склад яе кіраўніцтва ў розны час уваходзілі А Садоўскі, М Кіркевіч, М *Міцкевіч*, Б *Платонаў*, М *Рамановіч*, А Александровіч, П Самковіч і інш Дзейнічалі драм і харавы гурткі, б-ка, каса ўзаемадапамогі У час працы *Усебеларускага з'езда 1917* у Мінску члены грамады арганізавалі харавыя канцэрты, тэатр пастаноўку, дэкламацыю вершаў У час польск акупацыі 1919—20 пашырыла дзейнасць у Мінскім, Ігуменскім і інш паветах, дзе ў вёсках і мястэчках стварала бел маладзежныя гурткі, б-кі, чытальні, драм і харавыя гурткі праводзілі ў правінцыі тэатр вечарыны Члены грамады Міцкевіч, Платонаў, Александровіч удзельнічалі ў стварэнні восенню 1919 *Таварыства працаўнікоў беларускага мастацтва* Спыніла дзейнасць у ліп 1920 *Уладзімір Ляхоўскі*

**МІ́НСКАЯ БЕЛАРУ́СКАЯ ГІМНА́ЗІЯ** першая сярэдняя беларускамоўная навуч ўстанова ў Мінску ў 1919—20 Створана 15 9.1919 на базе 3-га Мінскага пач вучылішча Дзейнічалі 4 класы Дырэктар П П.*Дзямідовіч* У пед раду ўваходзілі Л Л Більдзюкевіч, Ч *Родзевіч*, А.*Галіна*, Я *Фарботка*, А.А *Грыневіч*, А *Данілевіч*, Я Н *Драздовіч*, Я М Луцэ-

**«МІ́НСКАЯ ГАЗЕ́ТА»**, штодзенная грамадска-паліт газета ліберальна-кадэцкага інфармацыйна-асв кірунку Выдавалася ў Мінску на рус мове з 12(25) 8 1912 да 29 11 1918 Да № 1091 (1915) наз «Минская газета-копейка» Арыентавалася на яўр грамадскасць рас культуры У праграмным арт «Нашы задачы» вызначыла свой кірунак абстрактна, у сэнсе безумоўнай падтрымкі прагрэсу і крытыкі ўсяго, што вядзе да вяртання ў мінулае Асвятляла рэгіянальныя, сац-эканам праблемы, дзейнасць мясц самакіравання, Дзярж думы, мела аддзел гар хронікі перадрукоўвала матэрыялы сталічных газет Знаёміла чытачоў з жыццём і творчасцю рус і яўр пісьменнікаў (Л Андрэеў, В Верасаеў, Я Гордзін, А Купрын, Шолам-Алейхем), друкавала крытычныя разборы прачытаных у Мінску лекцый, змяшчала нарысы пра творчасць Л Талстога, М Някрасава і інш, агляды мінскіх мастацкіх выставак, твораў Л Альпяровіча, Я Кругера, Ф Рушчыца нататкі пра тэатр і муз падзеі ў горадзе У арт «Горкі пра нацыянальнае пытанне» (5 10 1912), нарысах Д Мейчыка «Вера і нацыянальнасць» (8 2 1913) «Агульначалавечае і нацыянальнае» (23 12 1913) і інш аўтары выступалі за дэмакр самавызначэнне народаў, аднак дапускалі асіміляцыю на глебе агульначалавечай культуры Падтрымлівала выступленні сацыял-дэмакратаў супраць падрыхтоўкі да вайны Надрукавала ў перакладзе на рус мову апавяданне Я Коласа «Дудар» (пад назваю «Гусляр Казка Якава Колас», 5 8 1913) У 1917—18 падтрымлівала Часовы ўрад, кааліцыю бурж партый з сацыялістамі, агітавала за скліканне Ўсерас Устаноўчага сходу і за перадачу яму заканадаўчай улады Публікавала інфармацыю пра бел нац рух (арт П Алексюка «Беларускае нацыянальнае адраджэнне», 11 5 1917, праграмныя дакументы «Аўтаномія Беларусі Ад Беларускага нацыянальнага камітэта», 3 6 1917 дакументы з пратэстамі супраць разгону Усебел з'езда 1917) Выпускала літ дадатак — час «Минский огонек» (1912) «Вечерние известия Минской газеты-копейки» (1914—15), «Вечерние известия Минской газеты» (1915—17) *Уладзімір Конан*

**МІ́НСКАЯ ГУБЕРНСКАЯ ДРУКА́РНЯ** Існавала ў 1797—1917 у Мінску Друкавала афіц матэрыялы Гал ўвага аддавалася выданню *«Минских губернских ведомостей»*, розных тыповых бланкаў, справаздач, канцылярскага справаводства і да т п Друкавала «Памятную кніжку Мінскай губерні» (1860—1916), «Агляд Мінскай губерні за год» (1882—1914), працы па пытаннях гісторыі, археалогіі, этнаграфіі, асветы, маст л-ры на рус мове Сярод выданняў «Збор старажытных грамат і актаў гарадоў Мінскай губерні» (1848), «Паўночна-Заходні каляндар» на 1892—93 пад рэд А Слупскага, «Нарыс археалагічных помнікаў на прасторы Мінскай губерні і яе археалагічнае значэнне» Г Татура (1892), «Працы Таварыства мінскіх урачоў» (1895—1901), «Працы Мінскай раённай доследнай балотнай станцыі» (1914—1915), аповесць у вершах «Пан Дольскі, ці Спатканне з дачкой» Дз Сергіеўскага (1845) і інш Усяго надрукавана больш за 170 выданняў У 1913 у друкарні працавала 40 рабочых, дзейнічалі 2 электрарухавікі, друкаванай прадукцыі выпускалася на 70 тыс рублёў. *Захар Шыбека*

**МІ́НСКАЯ ГУБЕ́РНЯ** Існавала ў 1793—1921 Цэнтр — г *Мінск* Утворана 23 4 1793 пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай У 1793—96 уваходзіла ў Мінскае, Ізяслаўскае і Брацлаўскае генерал-губернатарствы З 3 5 1795 да 1796 складала асобнае Мінскае намесніцтва Мела 13 паветаў Бабруйскі, Барысаўскі, Вілейскі, Давыд-Гарадоцкі, Дзісенскі, Докшыцкі, Ігуменскі, Мазырскі, Мінскі, Нясвіжскі, Пастаўскі, Пінскі, Слуцкі У ліст 1796 далучаны Рэчыцкі пав, скасаваны Давыд-Гарадоцкі, Докшыцкі, Нясвіжскі, Пастаўскі пав У снеж 1842 з Гродзенскай губ далучаны Навагрудскі пав, у Віленскую губ перададзены Вілейскі і Дзісенскі пав У 1831 губерня ў складзе *Беларускага генерал-губернатарства*, у 1834—56 і 1862—70 — *Віленскага генерал-губернатарства* У час вайны 1812 на акупіраванай тэр М г загадам франц маршала Даву 1(13) ліп заснавана камісія Часовага кіравання Мінскай правінцыяй на чале з ген Барбанегра, потым з Бранікоўскім, якая 15(27) ліп заменена адміністрацыяй Мінскага дэпартамента У Барысаўскім, Вілейскім, Ігуменскім і Мінскім пав створаны пав камісіі У 1845 у губерні 9 гарадоў (1 губернскі і 8 павятовых), 2 заштатныя гарады, 116 мястэчак, 2983 сялы, 15 121 веска, 2162 засценкі і ваколіцы Паводле перапісу 1897 пл губерні 80152,3 кв вярсты, нас 2147,6 тыс чал, буйныя рэкі Бярэзіна, Дняпро, Неман, Прыпяць, праходзілі чыгункі Лібава-Роменская, Маскоўска-Брэсцкая, Брэст—Бранск, Вільна—Роўна, Баранавічы—Беласток, Балагое—Ваўкавыск Паводле нац складу беларусаў 76,04%, яўрэяў 15,9, рускіх 3,91, палякаў 3,01%, па роднай мове беларусаў, рускіх і ўкраінцаў 80,4%, яўрэяў 16, палякаў 3, татар 0,19, немцаў 0,18, латышоў 0 08%, паводле веравызнання правасл 72,56%, іудзеяў 16,06, католікаў 10,15, стараверaў 0,74, пратэстантаў 0,27, мусульман 0,21%, па саслоўях дваран 3,64%, святароў 0,26, купцоў 0,16, мяшчан 23,6, сялян 71,8%, пісьменныя складалі 17,8% насельніцтва, у гарадах — 45,2% У 1795 у М г 8 вучылішчаў (Бабруйск, Мазыр, Мінск, Нясвіж, Паставы, Пінск, Слуцк, Халопеничы) У 1848 працавала 31 прыходскае вучылішча (742 навучэнцы), 11 жаночых навуч устаноў (444 вучні), 42 царк школы (562 вучні), 5-класныя дваранскія пав вучылішчы (772 чал) На 1 1 1909 у губерні 2390 навуч устаноў (4265 настаўнікаў, 121 484 навучэнцы), з іх 14 гімназій, 10 прагімназій, 23 вучылішчы, Нясвіжская настаўніцкая семінарыя, 4 рамесныя школы, 691 пачвучылішча, з іх 642 сельскія, у 1860 у М г 1 правасл семінарыя (Мінск) і 2 духоўныя вучылішчы (Мінск, Слуцк), Мінска-Магілеўская рымска-каталіцкая семінарыя У 1893 дзейнічалі правасл манастыры (80 манахаў), 860 цэркваў, 67 касцёлаў, 6 пратэстанцкіх устаноў (кірхі, зборы, малітоўныя дамы), 9 мячэцяў, 36 сінагог, 420 яўр малітоўных дамоў На тэр губерні існавалі Мінская правасл і рымска-каталіцкая (да 1869) епархіі Асн заняткі насельніцтва земляробства, жывёлагадоўля, рыбалоўства, пчалярства, лясныя, саматужныя і адыходныя промыслы У 1892 працавала 320 прадпрыемстваў, з іх 138 бровараў, 23 піваварні, 14 медаварняў, 36 мукамольняў, 7 маслабойняў, 3 суконныя ф-кі, у 1890-х г былі 24 конезаводы, у 1908 дзейнічала 215 бровараў, 16 піваварняў, 445 фабрык і заводаў (3738 рабочых), праведзена 203 кірмашы У 1902 працавалі 53 бальніцы, 37 фельч-акушэрскіх пунктаў, 78 аптэк, 117 аптэчных крам

Губернатары І М Няплюеў, З Э Карнееў (1796—1806), Г І фон Родзін (1806—12), П М Добрынскі (1812—17), В І Гяцэвіч (1817—31), К Я Цюфяеў (1831), А.Ф фон Дрэбуш (1831—35), С І Давыдаў (1835—39), М В Сушкоў (1839—41), Г Ф Допельмеер (1842—44), А.В Сяменаў (1844—50), С А.Херхеўлядзеў (1850), Ф М Шклярэвіч (1850—51), І А.Росет (1857—58), Э Ф Келер (1858—62), А.Л Кажэўнікаў (1862—64), П Н Шалгуноў (1864—68), Я.А.Касінаў (1868—69), У М Токараў (1869—75), В І Чарыкаў (1875—79), А І Пятроў (1879—86), М М Трубяцкой (1886—?) і інш

З 7 11 1917 М г ў складзе *Заходняй вобласці*, 9 паветаў Бабруйскі, Барысаўскі, Ігуменскі, Мазырскі, Мінскі, Навагрудскі, Пінскі, Рэчыцкі, Слуцкі З 13 9 1918 у складзе *Заходняй камуны*, з 1 1 1919 у БССР, з 2 2 1919 у Літбеле У лютым 1919 утвораны Баранавіцкі пав, 26 крас Рэчыцкі пав далучаны да Гомельскай губ З 29 8 1919 да 10 8 1920 Мазырскі і ч Бабруйскага, Барысаўскага і Ігуменскага пав у Гомельскай губ 29 7 1920 утвораны Нясвіжскі пав З ліп 1920 у БССР 18 3 1921, калі частка тэр губерні, акрамя Бабруйскага, Барысаўскага, Ігуменскага, Мазырскага, Мінскага і Слуцкага пав, адышла ў склад Польшчы, губерня перастала існаваць

*Літ* Административно-территориальное устройство БССР Справ Мн, 1985 Т 1 С 112, Смородский А.П Столетие Минской губернии [1793—1893] 2 изд Мн, 1893, Минская губерния СПб, 1903, 1863 год на Міншчыне Мн, 1927 *Алена Філатава*

**«МІ́НСКАЯ ДАЎНІНА́»**, «Минская старина», зборнік дакументаў, артыкулаў і дакладаў па гісторыі, археалогіі і этнаграфіі Беларусі Выдадзены ў 1909—13 *Мінскім царкоўным гісторыка-археалагічным камітэтам* у 4 выпусках

(3-і ў дзвюх частках, у Вільні) У якасці дадатку да 1-га вып ў 1909 выйшла «Апісанне рукапіснага аддзела і старадрукаваных кніг бібліятэкі Мінскага царкоўнага гісторыка-археалагічнага камітэта» (склад А К *Сніткa*) Зб-к мае праваслаўна-ахоўчы кірунак, большасць матэрыялаў прысвечана гісторыі праваслаўнай царквы і духавенства Змяшчае інфармацыю і нататкі пра гісторыю стварэння і асн кірункі дзейнасці к-та, апісанне архіўных збораў некат манастыроў і цэркваў Мінскай епархіі, артыкулы і даследаванні пра дзейнасць праваслаўных духоўных асоб і каталікоў-рэнегатаў Апублікаваны і дакументы з царкоўных і свецкіх архіваў, падрыхтаваныя да друку Дз І *Даўгялам*, Сніткам і інш У 1-м вып надрукаваны інвентар Пінскага Ляшчынскага манастыра ад 26 12 1588 (выяўлены Даўгялам) Яго публікацыі папярэднічае гіст археагр прадмова, тэкст суправаджаецца філал заўвагамі У 4-м вып змешчаны апісанне і публікацыя найб старажытнай часткі архіва Слуцкага Свята-Троіцкага (Трайчанскага) манастыра (з 1517 да 1547, публ Сніткі) звесткі пра склад гэтага архіва і інш слуцкіх манастыроў 17 — пач 18 ст, архіваў Слуцкай архімандрыі, Слуцкага

яўлена 21 пахаванне ў дамавінах скрынкавага тыпу Унікальная знаходка — залаты бранзалет масай 75,5 г, сплецены з дратоў, завяршэнне якіх выканана ў выглядзе зверападобных галовак У 1967 за 30 м ад падмуркаў царквы пабудаваны іх муляж Самі падмуркі знаходзяцца ў некранутым выглядзе на раней шым месцы на глыбіні 0,5—2,1 м У 1993 царква часткова музеефікавана на сучаснай дзеннай паверхні па контуры выкладзены пліткай план царквы і пастаўлена стэла *Георгш Штыхаў*

**«МІНСКАЯ ІСКРА»**, газета, орган Мінскай арг-цыі РСДРП і фракцыі сацыял-дэмакратаў-інтэрнацыяналістаў 2 га з'езда Зах фронту Выдавалася 28 11—1 12 1917 у Мінску на рус мове Выйшлі 3 нумары Рэдактар А Горын Выступала з крытыкай знешняй і ўнутр палітыкі бальшавікоў, асудзіла парушэнне імі дэмакр свабод (арт «Ці можна сядзець на штыках?» А Мартынава, № 2) Прыводзіла факты пару шэнняў правоў выбаршчыкаў у час выбараў ва Устаноўчы сход па Заходне франтавой акрузе Закрыта паводле загаду ВРК Зах фронту Публікацыя газеты пад назвай «Жывая іскра» спынена бальшавікамі ў дзень яе выхаду 1 снежня Каб спыніць спробы сацыялдэмакратаў аднавіць выхад свайго органа, адначасова арыштаваны ўладальнік друкарні, дзе набіраліся і друкаваліся газеты

**МІНСКАЯ КАСТРЫЧНІЦКАЯ ПАЛІТЫЧНАЯ СТАЧКА 1905**, састаўная частка *Кастрычніцкай усерасійскай палітычнай стачкі 1905* Гал лозунгі звяржэнне самадзяржаўя, заваяванне дэмакр свабод Вядучую ролю ў стачцы адыгралі чыгуначнікі У Мінску забастоўка рабочых і служачых Маскоўска-Брэсцкай і Лібава-Роменскай чыг па чалася 11—12 кастрычніка На наступны дзень рашэнне аб яе падтрымцы прынялі мясц к-ты РСДРП, Бунда, ПСР, якія абвясцілі ў горадзе 2-дзенную агульную паліт забастоўку Па іх закліку спынілася работа на фабрыках і заводах, у друкарнях, рамесных майстэрнях і гандл прадпрыемствах Да стачкі далучыліся навучэнцы ўсіх навуч устаноў горада У наступныя дні праходзілі штодзенныя мітынгі чыгуначнікаў пры ўдзеле соцень гар рабочых Паводле паведамленняў друку, на іх збіралася да 5 тыс чал На мітынгу, што адбыўся каля Віленскага вакзала 18 кастр удзельнічала каля 20 тыс чал Паводле загаду жандарскага палкоўніка, узгодненага з мінскім губернатарам П Р *Курловым*, маніфестанты былі расстраляны (гл *Курлоўскі расстрэл 1905*) Пасля гэтай падзеі быў створаны *Мінскі кааліцыйны савет*, які аб'явіў аб аднаўленні з 18 кастр ўсеагульнай стачкі ў горадзе Яна працягвалася да 24 кастр аднак гал мэты не дасягнула бо Усерасійская стачка ў той час ужо загасала *Уладзімір Філякоў*

**МІНСКАЯ МІТРАПОЛІЯ**, царк -адм аб'яднанне бел праваслаўных епархій у 20 ст Утворана ў 1922 у складзе Мінскай, Бабруйскай, Мазырскай і Слуцкай епархій У 1989 атрымала статус Бел экзархата (Бел правасл царквы) Маскоўскага патрыярхата Гісторыю М м гл ў арт *Мінская праваслаўная епархія*

**МІНСКАЯ ПАСТЭРАЎСКАЯ СТАНЦЫЯ**, медыцынская ўстанова, якая займалася вырабам антырабічнай (супраць шаленства) вакцыны, правядзеннем антырабічных прышчэпак, дыягнастычным даследаваннем жывел на шаленства і барацьбой з эпідэміямі, была таксама навукова-практычным цэнтрам па падрыхтоўцы ўрачоў для Мінскай губ Адкрыта 2 2 1911 па хадайніцтве мінскага губ інспектара С М Урванцова Абсталяваннем станцыі займаўся ўрач В М Камоцкі За 11 месяцаў работы станцыя абслужыла 630 чал (за папярэдния 6 гадоў прышчэпкі атрымалі 1328 чал ) У 1912 за дапамогай звярнуліся 918 чал , у 1914 — 658, у 1915 — 794, у 1916 — 1441 Пры станцыі працавалі хіміка-бактэрыялагічная і судова-мед лабараторыі М.п с займалася таксама н -д дзейнасцю Камоцкі даследаваў бактэрыялогію туберкулезнай палачкі, супрацоўнікі лабараторыі паклалі пачатак даследаванням хворых на малярыю З лета 1920 да ліп 1922 не дзейнічала У 1924 станцыя пераўтворана у пастэраўскае аддзяленне Бактэрыялагічнага (Пастэраўскага) ін-та (зараз Беларускі НДІ эпідэміялогіі і мікрабіялогіі)

*Літ* Комоцкий В М Минская земская пастеровская станция и лаборатория Мн 1912, Крючок Г Р Очерки истории медицины Белоруссии Мн , 1976

*Таццяна Святловіч*

**МІНСКАЯ ПАЎСТАНЦКАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ 1863**, арганізацыя па падрыхтоўцы і кіраўніцтву *паўстаннем 1863—64* у Мінску і Мінскай губ На першым этапе гал ролю ў ей адыгрывалі *«чырвоныя»* А *Трусаў*, І *Козел*, К *Марцінкевіч* і інш У Навагрудскім пав дзейнічалі У *Борзабагаты* і В *Клімовіч*, у Барысаўскім — М Цюндзявіцкі Арганізацыя паступова набыла характар стройнай сістэмы губ , гар і пав органаў з падзелам на цывільныя і ваенныя. Вясной 1863, з далучэннем да паўстання партыі *«белых»*, многія важныя пасады апынуліся ў руках памяркоўных элементаў, звязаных з памешчыкамі Асн ваен сілу ў арг-цыі складалі «чырвоныя», што дазволіла *мінскім паўстанцкім атрадам 1863* у крас 1863 арганізавана выступіць супраць царызму З лета 1863 паўстанцкім губ камісарам стаў доктар М *Аскерка* Увосень 1863 К Каліноўскі паслаў у Мінск свайго памочніка І *Яманта*, які разам з Аскеркам і К Пялікшам (губернскі цывільны начальнік) рэарганізаваў Мінскую арг-цыю Арг-цыя разгромлена царскімі ўладамі на пач 1864

*Літ* Кісялеў Г На пераломе дзвюх эпох Паўстанне 1863 г на Міншчыне Мв 1990, Революционный подъем в Литве и Белоруссии 1861—1862 гг Материалы и док. М , 1964, Восстание в Литве и Белоруссии 1863—1864 гг Материалы и док. М 1965 Koszczyc W Wspomnienia z powstania województwa Minskiego w roku 1863 // Polska w walce Kraków, 1875 T 2 *Генадзь Кісялёў*

**МІНСКАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЕПАРХІЯ** Утворана ў крас 1793 на тэр Мінскага, Ізяслаўскага і Брацлаўскага генерал-губернатарстваў. З крас 1795 уключала тэр Мінскай і новаўтвораных Віленскай і Слонімскай (пазней Гродзенскай) губ У 1833 у сувязі з адраджэннем *Полацкай праваслаўнай епархіі* тэр М п е зменшылася да межаў Мінскай і Гродзенскай губ З 1840 тэр епархіі ахоплівала толькі Мінскую губ (575 прыходаў) Тады ж у Мінску пачала дзейнічаць пераведзеная са Слуцка *Мінская духоўная семінарыя* З 1869 пачалі выдавацца *«Минские епархиальные ведомости»* У 1910 утворана Слуцкае вікарыяцтва Перад 1-й сусв. вайной у епархіі было 1230 храмаў (у т.л капліцы і дамавыя цэрквы), 566 прыходаў, 4 мужчынскія і 2 жаночыя манастыры, семінарыя, 5 духоўных вучылішчаў У 1921 зах. частка епархіі апынулася ў складзе Польшчы і потым перайшла пад юрысдыкцыю Польскай аўтакефальнай правасл царквы У ліп 1922 на з'ездзе духавенства ў Мінску абвешчана *Мінская мітраполія*, якая падзялялася на Мінскую, Бабруйскую, Ма-

**Рэшткі Мінскай замкавай царквы**

зырскую, Слуцкую епархіі. Мітрапалітам стаў епіскап мінскі, які т.ч. узначаліў усю правасл. царкву на тэр. БССР. У выніку рэпрэсій супраць духавенства М.п.е. ў 2-й пал. 1930-х г. фактычна спыніла функцыянаванне. Ва ўмовах ваен. акупацыі ў кастр. 1941 з прызначэннем на мінскую кафедру кіруючага архірэя дзейнасць епархіі была аднаўлена ў рамках *Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы*. У 1950-я г. ў сувязі з тым, што епіскапы на інш. бел. епархіі не прызначаліся, М.п.е. ў рангу мітраполіі засталася адзінай у БССР. Кананічна яна падпарадкоўвалася Маскоўскаму патрыярхату. У 1989 утвораны Бел. экзархат Маскоўскага патрыярхата (Бел. правасл. царква) на чале з мінскім мітрапалітам, які наз. яшчэ «патрыяршы экзарх усяе Беларусі». З адраджэннем у 1989—92 стараж. бел. епархій межы М.п.е. мяняліся. У лют. 1992 яны сталі супадаць з адм. граніцамі Мінскай вобл. На пач. 1998 у М.п.е. было 14 благачынных акруг, 241 прыход, 3 манастыры, 5 брацтваў, 1 духоўная семінарыя, 1 духоўнае вучылішча, багаслоўскі ф-т Еўрап. гуманітарнага ун-та. З 1989 аднаўлена выданне «Минских епархиальных ведомостей». Тытулы кіруючых архірэяў — епіскапаў, архіепіскапаў, мітрапалітаў: мінскі, ізяслаўскі і брацлаўскі (1793—95), мінскі і літоўскі (1795—1833), мінскі і гродзенскі (1833—40), мінскі і бабруйскі (1840—78), мінскі і тураўскі (1878—1922), мінскі і беларускі (1922—89), мінскі і слуцкі (з 1991). Епархіяй кіравалі: архіепіскап Віктар (Садкоўскі, 1793—96), архіепіскап Іоў (Пацёмкін, 1796—1812), архіепіскап Серафім (Глаголеўскі, 1812—14), архіепіскапы Анатоль (Максімовіч, 1816—32), Яўгеній (Бажанаў, 1832—34), Ніканор (Кляменцьеўскі, 1834—40), Антоній (*Зубко*, 1840—48), *Міхаіл* (Галубовіч, 1848—68), Аляксандр (Дабрынін, 1868—77), Яўгеній (Шарашылаў, 1877—80), Варлаам (Чарняўскі, 1880—89), Сімяон (Лінькоў, 1889—99), Міхаіл (Цемнарусаў, 1899—1912), епіскап Мітрафан (Краснапольскі, 1912—16), архіепіскап Георгій (Ярашэўскі, 1916—19), мітрапаліт *Мелхіседэк* (Паеўскі, 1919—26), епіскап Арсеній (Смалянец, 1927—30), епіскап Феафан (Семяняка, 1930—35), архіепіскап Мадэст (Нікіцін, 1936—37), мітрапаліт *Панцеляймон* (Ражноўскі, 1941—44), архіепіскап Васілій (Ратміраў, 1944—47), мітрапаліт Піцірым (Свірыдаў, 1947—58), мітрапаліт Гурый (Ягораў, 1958—61), мітрапаліт Антоній (Крацэвіч, 16.4—17.7.1961), архіепіскап Варлаам (Барысевіч, 1961—63), мітрапаліты Нікадзім (Ротаў, 4.8—9.10.1963), Сергій (Пятроў, 1963—65), *Антоній* (Мельнікаў, 1965—78), *Філарэт* (Вахрамееў, з 10.10.1978).

*Генадзь Шэйкін.*

**«МІ́НСКАЯ ПРА́ЎДА»**, грамадска-паліт. газета. Выдаецца з 1.11.1950 у Мінску; спачатку на бел., з 1990 — на бел. і рус. мовах 3—5 разоў у тыдзень. Асвятляе дзейнасць выканаўчай і прадстаўнічай улады, пытанні нац. культуры, эканомікі. Засн. як орган Мінскіх абкома і гаркома КПБ, абл. і гар. Саветаў дэпутатаў працоўных (з 1977 — Саветаў нар. дэпутатаў). Інфармавала пра сац.-эканам. і культ. развіццё Мінскай вобл., краіны, работу парт., сав. органаў і інш. Са жн. 1991 выходзіла як орган Мінскага абл. Савета нар. дэпутатаў. З 1995 заснавальнікамі «М.п.» з'яўляюцца Мінскія аблвыканком і абл. Савет дэпутатаў, рэдакцыя газеты. *Мікалай Шлома.*

**МІ́НСКАЯ ПУБЛІ́ЧНАЯ БІБЛІЯТЭ́КА** імя А.С.Пушкіна. Адчынена ў Мінску 25.12.1900 у сувязі са 100-годдзем з дня нараджэння А.С.Пушкіна. Папярэдне думская камісія склала Статут б-кі, гараджане сабралі 2 тыс. кніг, К-т ушанавання памяці Пушкіна для заснавання недатыкальнага капіталу сабраў 1545 руб., а гар. дума выдзеліла 10 тыс. руб. аднаразова і 2 тыс. руб. у якасці пастаяннай субсідыі. 27 снеж. б-ка прыняла першых наведвальнікаў. Да 1904 знаходзілася ў падпарадкаванні гар. кіраўніцтва. Б-ку ўзначальваў савет, прызначаны гар. думай. Першым кіраўніком савета быў дырэктар рэальнага вучылішча І.І.Самойла. Наведванне б-кі было платнае — падпісчыкі ўносілі залог у памеры 3 руб. і штомесяц плацілі 20—30 кап. У 1901 было толькі 38 падпісчыкаў, у 1912 — 1299. Чытальныя залы штодзённа прымалі 150—200 наведвальнікаў. У час рэв. падзей 1905—07 б-ка стала адным з паліт. цэнтраў горада, месцам сустрэч рэвалюцыянераў, тут працавала падп. друкарня партыі эсэраў. На 1913 дванаццаць аддзелаў б-кі мелі фонд больш за 17 тыс. адзінак. Б-ка выпісвала каля 15 найменняў газет і часопісаў, штогод набывала да 1,5 тыс. новых выданняў. У 1908 ганаровым чл. б-кі абраны Л.М.Талстой. У 1938 атрымала статус *Мінскай абласной бібліятэкі* імя А.С.Пушкіна.

**МІ́НСКАЯ РАБО́ЧАЯ АРГАНІЗА́ЦЫЯ 1894—97**, арганізацыя яўрэйскіх рабочых рамеснай і дробнай прам-сці горада. Утварылася пад уплывам *Мінскай яўрэйскай сацыял-дэмакратычнай групы*. У 2-й пал. 1894—95 на аснове стачачных кас створаны цэхавыя (прафес.) саюзы пераплётчыкаў, слесараў, гарбароў, шаўцоў, белашвеек, каменшчыкаў, рабочых трох тытунёвых і цукеркавай фабрык і інш., усяго — 24 саюзы з агульнай колькасцю членаў да 1200 чал. Кожны саюз аб'ядноўваў у сярэднім 86,5% рабочых сваёй прафесіі. Кіравалі саюзамі выбарныя прадстаўнікі і касіры. Іх дзейнасць каардынавала міжкасавая сходка (цэнтральная каса), якая складалася з прадстаўнікоў цэхавых саюзаў. У яе ўваходзіў прадстаўнік с.-д. групы. За 2 гады (1894—96) цэхавыя саюзы арганізавалі ў Мінску 54 стачкі з удзелам 480 рабочых. Гал. патрабаванні стачачнікаў: скарачэнне рабочага дня (26 стачак), павелічэнне платы (13). Найбольшая працягласць стачкі — 70 дзён. Пераважная большасць стачак (50) закончылася поўнай ці частковай перамогай. У ходзе барацьбы нярэдка выкарыстоўваліся тэрарыстычныя сродкі ўздзеяння на штрэйкбрэхераў і гаспадароў майстэрняў. Летам 1896 і ў сак.—жн. 1897 паліцыя правяла масавыя арышты. Да следства прыцягнута каля 200 рабочых. У выніку большасць цэхавых саюзаў распалася. Восенню 1897 у М.р.а. адбыўся раскол: большасць ацалелых саюзаў падтрымала праграму яўр. с.-д. групы аб уступленні ў *Бунд*, астатнія пад уплывам агітацыі групы Л.Радзіёнавай-Клячкі і Х.Гальперына стварылі мясц. арг-цыю леванародніцкай *Рабочай партыі палітычнага вызвалення Расіі*.

*Літ.*: Бич М.О. Рабочее движение в Белоруссии в 1861—1904 гг. Мн., 1983. С. 97—100. *Міхась Біч.*

**МІ́НСКАЯ РА́ТУША**. Існавала ў 17—19 ст. у Мінску. Пра буд-ва ратушы ў Мінску ў 1499 адзначана ў прывілеях па арганізацыі кіраўніцтва ў горадзе паводле *магдэбургскага права*. Як існуючая ратуша ўпамінаецца ў 1582 (але ў 1591 зноў згадваецца пра яе будаўніцтва). З пач. 17 ст. звесткі пра ратушу ёсць у дакументах (напр., у 1617), што стаіць яна на пл. Высокага рынку (Саборнай пл., сучасная пл. Свабоды). У ратушы праходзілі пасяджэнні органа гар. самакіравання — *магістрата* або *рады*, захоўваліся прынятыя ў горадзе адзінкі меры вагі, аб'ёму. Будынак ратушы моцна пашкоджаны пажарам 1640, адноўлены (існаваў у 1656). У пач. 18 ст. ратуша страціла сваё аблічча. У 1744 адноўлена па ініцыятыве і пад кіраўніцтвам войта С.Буржынскага. У канцы 18 ст. перабудавана губ. архітэктарам Ф.А.Крамерам, набыла рысы класіцызму. 2-павярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты пакатым вальмавым дахам. Цэнтр. частка сіметрычнага па кампазіцыі гал. фасада была вылучана рызалітам з 3-маршавымі ўсходамі, акцэнтавана чацверыковай вежай, завершанай купалам са шпілем з флюгерам. Рызаліт і тарцы аформлены 4-калоннымі порцікамі іанічнага ордэра. Дэкар. вырашэнне будынка дапаўнялася каванымі агароджамі балконаў у порціках і на вежы. У 1819 ратуша зноў рэканструявана (арх. М.Чахіўскі). Да яе фасада з ПдУ прыбудавана мураваная агароджа, упрыгожаная стукавым дэкорам і жывапіснымі кампазіцыямі. На месцы прылеглых да ратушы прыбудоў разбіты невял. рэгулярны сквер, ён стаў месцам адпачынку гараджан (летам тут гучала музыка, на бакавым балконе ратушы размяшчаўся гарадскі аркестр). У 1825—35 бакавыя порцікі былі завершаны франтонамі. У канцы 18 — пач. 19 ст. ў будынку знаходзіліся магістрат, суд, гаўптвахта, гарадавы, паліцыя, архіў, у 1830-я г. — муз. школа. У 1847 зала на 2-м паверсе прыстасавана пад тэатр (арх. Хршчаневіч, афармленне інтэр'ераў мастака Я.Кураткевіча). У 1851—57 будынак ратушы і сквер зні-

фондаў музея, яго дырэктарам у 1978—82 быў бел. гісторык Г.А.*Каханоўскі*.

*Таісія Лянкевіч.*

**МІНСКІ АДДЗЕ́Л БЕЛАРУ́СКАГА ТАВАРЫ́СТВА ДАПАМО́ГІ ПАЦЯРПЕ́ЛЫМ АД ВАЙНЫ́**, дабрачынная арг-цыя для дапамогі *бежанцам* 1-й сусв. вайны; адзін з цэнтраў бел. нац. руху. Існаваў у Мінску ў ліп. 1915—17 як аддзел *Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны*, створанага ў Вільні ў крас. 1915. Налічваў каля 50 чал. (снеж. 1916). У к-т праўлення аддзела ўваходзілі В.І.*Чавусаў* (старшыня), А.І.Лявіцкі (*Ядвігін Ш.*, нам старшыні), У.І.Голуб (У.*Галубок*, сакратар), А.С.Астрамовіч (А.*Зязюля*), В.А.*Лявіцкая*, Л.А.Сівіцкая (З.*Верас*), Э.Л.Сівіцкая, У.С.*Фальскі*. Сярод актывістаў П.А. Аляксюк, М.*Багдановіч*, С.Я.Плаўнік (З.*Бядуля*), А.А.*Смоліч*. Адкрыў некалькі начных прытулкаў для бежанцаў, дзіцячы прытулак у Ратамцы (каля Мінска),

БѢЛОРУССКОЕ ОБЩЕСТВО
помощи жертвамъ войны
МИНСКІЙ ОТДѢЛЪ
г. Минскъ Захарьевская № 28

22 декабря 1916 г.
№ 145.

[illegible] 1916 г.

Ея Превосходительству Госпожѣ Предсѣдателю Минскаго Губернскаго Комитета имени Ея Императорскаго Высочества Татіаны Николаевны

Прошеніе

На попеченіи Бѣлорусскаго общества находится въ нѣсколькихъ пріютахъ 52 человѣка дѣтей бѣженцевъ, изъ коихъ многіе сироты. Нѣкоторые изъ этихъ дѣтей совершенно не имѣютъ частью теплой одежды, частью бѣлья и обуви, у другихъ же она находится въ ветхомъ состояніи. Между тѣмъ комитетъ, не имѣя постоянной [illegible], испытываетъ въ настоящее время матеріальныя затрудненія и не можетъ снабдить дѣтей необходимыми для нихъ вещами.

Въ виду сего Комитетъ ~~[illegible]~~ проситъ выдать ему для раздачи дѣтямъ нижеслѣдующіе предметы: 50 [illegible] пальто; 40 комплектовъ бѣлья для мальчиковъ и 30 комплектовъ бѣлья для дѣвочекъ; 100 паръ теплыхъ чулокъ; 35 шапокъ и 15 теплыхъ головныхъ платковъ; 50 паръ обуви. Въ случаѣ отсутствія на складѣ названныхъ предметовъ могутъ быть выданы иные, ихъ замѣняющіе.

Въ заключеніе комитетъ проситъ выдать упомянутыя вещи, если это возможно, до дня Рождества Христова, чтобы опекаемыя комитетомъ дѣти получили [illegible] праздничный подарокъ.

Предсѣдатель А. Левицкій




За секретаря А. Смолич

Ліст **Мінскага аддзела Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны** 22.12. 1916. Аўтограф М.Багдановіча. Подпісы А.І. Лявіцкага, А.А.Смоліча. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі.

2 бясплатныя сталовыя і 1 платную — «*Беларускую хатку*», заснаваў 2 майстэрні — ткацкую і па рамонце ваен. абмундзіравання. У крас.—маі 1916 дзейнічалі курсы па садаводстве, агародніцтве і пчалярстве. Падтрымліваў сувязь з *Беларускім таварыствам у Петраградзе па аказанні дапамогі пацярпелым ад вайны*. Хадайнічаў перад мінскім губернатарам аб правядзенні 4.12.1916 лекцыі Багдановіча «Беларускае адраджэнне» (хадайніцтва адхілена паводле ўказання дэпартамента паліцыі Мін-ва ўнутр. спраў Расіі). Пасля Лют. рэвалюцыі 1917 аб'явіў сябе Часовым Бел. нац. к-там і пачаў арганізац. і прапагандысцкую працу ў новых умовах. Яго прадстаўнік Аляксюк увайшоў у склад Выканаўчага к-та грамадскай бяспекі г. Мінска, быў абраны нам. старшыні К-та прапаганды на вёсцы асноў новага грамадскага ладу. У час агульнагар. маніфестацыі 6.3.1917 адбылося першае выступленне членаў Бел. к-та з паліт. лозунгамі: яны ішлі пад белым сцягам з надпісамі «Вітайма волю народа» (лацінкай) і «Жыве Беларусь». 25—27.3.1917 склікаў у Мінску *з'езд беларускіх нацыянальных арганізацый*, які абраў *Беларускі нацыянальны камітэт*.

*Літ.*: Багдановіч М. Поўны збор твораў. Мн., 1995. Т. 3. С. 190—192, 195—198, 203—205, 239—242; Верас З. Пяць месяцаў у Мінску // Шлях паэта. Мн., 1975; Яе ж. Справы дзён, даўно мінулых // Тэатр Мінск. 1980. № 6; Шыбека З.В., Шыбека С.Ф. Мінск: Старонкі жыцця дарэв горада. Мн., 1994. С. 219; Скалабан В «...В это суровое и важное время»: Максим Богданович в Минске // Неман. 1981. № 12; Рудовіч С. Утварэнне каардынацыйнага цэнтра беларускага нацыянальнага руху ў Менску (сакавік 1917 г.) // Спадчына. 1996. № 3.

*Віталь Скалабан*

**МІ́НСКІ АЎТАМАБІ́ЛЬНЫ ЗАВО́Д** (МАЗ). Засн. ў 1944, з 1975 галаўное прадпрыемства вытв. аб'яднання па выпуску вялікагрузных аўтамабіляў «БелаўтаМАЗ». Асн. прадукцыя: бартавыя транспартныя аўтамабілі, седлавыя цягачы, поўнапрывадныя грузавыя і лесавозныя аўтамабілі, самазвалы, аўтамабілі-шасі. Першы аўтамабіль МАЗ-205 сышоў з канвеера ў 1947. За час існавання завода асвоена вытв-сць 5 сем'яў аўтамабіляў — МАЗ-200, МАЗ-500, МАЗ-500А, МАЗ-5335, МАЗ-6422. У 1996 пачаты выпуск аўтамабіляў серыі МАЗ-64221, а з 1997 і аўтамабіляў сям'і МАЗ-6430, якія адпавядаюць сучасным міжнар. патрабаванням. Імпарцёрамі прадукцыі прадпрыемства з'яўляюцца каля 80 краін. Пры з-дзе заснаваны філіялы па вытв-сці аўтобусаў («АМАЗ») і прычэпаў («Белаўтапрычэп»). МАЗ стаў родапачынальнікам *Беларускага аўтамабільнага завода*, Магілёўскага аўтамабільнага з-да, мінскіх з-даў колавых цягачоў і рысорнага, Баранавіцкага і Асіповіцкага аўтаагрэгатных з-даў, прадпрыемства «Туртранс» па выпуску прычэпаў-дач і гандлёвых кузаваў. 36 работнікам завода прысуджана Дзярж. прэмія СССР, 15 — Дзярж. прэмія Беларусі. У 1958 на міжнар. прамысл. выстаўцы ў Бруселі аўтамабілю МАЗ-

530 прысуджана Гран пры, у 1970 на Лейпцыгскім кірмашы аўтамабіль МАЗ-516, у 1985 на Плоўдзіўскім кірмашы аўтамабіль МАЗ-5432 адзначаны залатымі медалямі. У 1994 МАЗ удастоены Залатой Зоркі «Арка Еўропы». Аб'яднанне «БелаўтаМАЗ» адзначана міжнар. прызамі «Залаты Меркурый» (1980) і «Залаты Глобус» (1994). Прадпрыемства мае Палац культуры, 2 бібліятэкі, музей гісторыі завода, паліклініку з 13 пунктамі аховы здароўя, прафілакторый, базу адпачынку на р. Бярэзіна, фізкультурна-спартыўнае ўпраўленне, піянерлагер, 20 дашкольных устаноў, дапаможную гаспадарку. Выдаецца шматтыражная газ. «Аўтазаводзец».

Серыйны ўзор першага аўтамабіля-самазвала МАЗ-205 **Мінскага аўтамабільнага завода.**

**МІНСКІ БЕЛАРУ́СКІ ПЕДАГАГІ́ЧНЫ ІНСТЫТУ́Т**, вышэйшая навуч. ўстанова ў 1918—20, якая рыхтавала настаўнікаў сярэдніх школ. Створаны 30.12.1918 на базе *Мінскага настаўніцкага інстытута.* Тэрмін навучання 4 гады. Складаўся з літ.-маст., сац.-гіст., прыродазнаўчага, геагр., фізіка-хімічнага і фізіка-матэм. ф-таў (цыклаў). Навучалася 150 студэнтаў. Размяшчаўся ў будынку б. Мінскага рэальнага вучылішча. Меў фізічны і пед. кабінеты, хім. лабараторыю, б-ку (5 тыс. тамоў). У карыстанне ін-ту перададзены б. Мінскі гар. музей. За ін-там ва ўрочышчы Антонаўка пад Мінскам быў замацаваны фальварак, дзе існавалі агранамічная, батанічная, заалагічная лабараторыі, біялагічны кабінет, птушнік, пчальнік, доследнае с.-г. поле, ферма, метэаралагічная станцыя. У навуч. працэсе асн. ўвага аддавалася пед. дысцыплінам, беларусазнаўству, рабіліся спробы перавесці выкладанне на бел. мову. У сак.—маі 1919 па абвінавачанні ў контррэв. дзейнасці былі арыштаваны выкладчыкі С.В.Балкавец і Б.А.*Тарашкевіч*, пасля арышту інтэрніраваны ў Смаленск В.Л.*Іваноўскі* і А.С.*Неканда-Трэпка*, «да высвятлення палітычнага крэда» забаронена чытаць лекцыі *Я.Ф.Карскаму.* Пасля заняцця Мінска польск. войскамі 14.8.1919 будынак ін-та забраны пад шпіталь. Польскія акупац. ўлады адмовіліся фінансаваць ін-т, выдзелілі толькі часовы крэдыт у 35 тыс. польск. марак. Паводле пастановы Часовага Бел. нац. к-та ад 15.9.1919 ін-т абвяшчаўся бел. дзярж. установай. Для правядзення беларусізацыі навуч. працэсу і рэарганізацыі структуры ін-та створана камісія на чале з У.М.*Ігнатоўскім* і Карскім. На працягу 1919/20 навуч. г. выкладанне пераводзілася на бел. мову, 6 ф-таў рэарганізаваны ў літ.-гістарычны і геагр.-прыродазнаўчы ф-ты з фізіка-хім. і фізіка-матэм. аддзяленнямі. З правядзеннем беларусізацыі не згадзіліся і пакінулі ін-т выкладчыкі М.Г.Маслаковец, А.М.Нікольскі, Я. Сняткоў. У навуч. праграму ўводзіліся таксама польск. мова і л-ра, гісторыя Польшчы і польск. культуры. Па-антыпольску настроеная частка студэнтаў і выкладчыкаў, члены радыкальнай плыні «*Маладой Беларусі*», у студз. 1920 па ініцыятыве Ігнатоўскага стварылі *Беларускую камуністычную арганізацыю.* У знак пратэсту супраць польск. ўціску і ў сувязі з нязгодай з прапольскай арыентацыяй Часовага Бел. нац. к-та прэзідыум ін-та на чале з Ігнатоўскім падаў у адстаўку. Паводле пастановы Бел. школьнай рады Міншчыны ад 1.3.1920 ін-т узначалілі Іваноўскі (рэктар) і Неканда-Трэпка, якія намагаліся пераўтварыць ін-т у бел. нац. універсітэт. Ін-т пераведзены ў будынак б. Мінскай правасл. духоўнай семінарыі, выкладчыкамі запрошаны М.І.*Гарэцкі*, В.Д.*Дружчыц*, Х.П.*Імшэнік*, С.А.*Любіч-Маеўскі*, Л.Л.Більдзюкевіч, А.А.*Данілевіч*, І.У.*Канчэўскі* і інш. Пры ін-це створана аспірантура, спец. камісія па выпрацоўцы бел. навук. тэрміналогіі. Членамі камісіі падрыхтавана «Арыхметычная тэрміналогія» (выд. ў Вільні ў 1921). Ін-ту была падпарадкавана *Мінская балотная доследная станцыя.* Пасля прыходу Чырв. Арміі ў жн. 1920 рэфармаваны ў *Мінскі інстытут народнай адукацыі.*

*Літ.*: Новик Е.К. Формирование кадров народного образования Белоруссии (1917—1941 гг.). Мн., 1981; Ляхоўскі У. Беларускі універсітэт: з гісторыі стварэння // Спадчына. 1994. № 4. *Уладзімір Ляхоўскі.*

**МІ́НСКІ ВАГОНАРАМО́НТНЫ ЗАВО́Д.** Рамантуе пасажырскія вагоны, фарміруе колавыя пары для пасажырскіх і грузавых паяздоў, вырабляе запчасткі для рухомага саставу чыгунак. Засн. ў 1871 як чыг. майстэрні па рамонце паравозаў і вагонаў. У гады грамадз. вайны і ваен. інтэрвенцыі 1918—20 разбураны, у 1926 адноўлены. У 1927 майстэрні пераўтвораны ў з-д «Полымя рэвалюцыі», пашыраны і рэканструяваны. З 1931 вагонарамонтны з-д. У Вял. Айч. вайну частка абсталявання з-да эвакуіравана ў Куйбышаўскую вобл. У час ням.-фаш. акупацыі на з-дзе дзейнічалі групы Мінскага патрыят. і камсам.-маладзёжнага падполля (гл. адпаведныя арт.). Пры адступленні гітлераўцы 2.7.1944 узарвалі завод. Аднавіў работу ў студз. 1945. У 1953—54 рэканструяваны і расшыраны. Пабудаваны корпус заводакіраўніцтва (1955), электрацэх і абівачная майстэрня (1973), слясарная майстэрня (1975), зварачнае аддзяленне (1976).

**МІ́НСКІ ВАЕ́ННЫ САВЕ́Т**, вышэйшы часовы надзвычайны орган сав. улады на тэр. Мінскай губ. ў канцы 1918 — пач. 1919. Створаны 15.11.1918 паводле пастановы РВС Зах. арміі ў сувязі з эвакуацыяй ням. войск з тэр. Беларусі. Старшыня С.І.Берсан, члены: ваен. кіраўнік Барзінскі, паліт. камісар І.Ф.Скуратовіч. Яму падпарадкоўваліся Бабруйскі і Маладзечанскі ваен. саветы. Вёў работу па аднаўленні органаў сав. улады, арганізацыі камбедаў, батрацкіх к-таў на вызваленай тэр. Мінскай губ. Склаў паўнамоцтвы 6.1.1919, створаныя ім ваен. і цывільныя органы былі падпарадкаваны *Мінскаму губернскаму ваенна-рэвалюцыйнаму камітэту.*

**«МІ́НСКІ ВАРЫЯ́НТ» КАНСТЫТУ́ЦЫІ М.М.МУРАЎЁВА**, першы з трох варыянтаў праекта канстытуцыі для Рас. дзяржавы. Распрацаваны ў 1821—22 у Мінску дзекабрыстам М.М.*Мураўёвым.* Тэкст захаваўся ў копіі 1822, перапісанай дзекабрыстам С.П.Трубяцкім і знойдзенай у яго пры вобыску. Лічыцца найб. самаст. у аўтарскіх адносінах праектам стварэння ў Расіі бурж. дзяржавы, заснаванай на прынцыпах эканам. і грамадз. свабод, выбарнасці пасад і раздзялення функцый заканад., выканаўчай і судовай улад. У аснове праекта — супастаўленне і творчая перапрацоўка канстытуцый краін Зах. Еўропы і ЗША з прыцягненнем рас. прававых актаў. Праект прадугледжваў адмену прыгоннага права, паліт. свабоды грамадзян, суверэнітэт народаў, вяршэнства канстытуцыі і роўнасць усіх перад законам, недатыкальнасць правоў асобы, прыватнай уласнасці, свабоду слова, адмену саслоўяў, увод суда прысяжных. Правы грамадзян абмяжоўваліся высокім маёмасным цэнзам, узростам (не менш 21 года), цэнзам аселасці, абавязковым веданнем рус. мовы. Праект выклікаў сур'ёзную крытыку ў членаў Паўн. т-ва, што паслужыла падставай для напісання Мураўёвым у 1824—25 2-га і 3-га варыянтаў канстытуцыі.

*Літ.*: Букчин С.В. К мечам рванулись наши руки. 2 изд. Мн., 1985; Грыцкевіч А. Нацыянальнае пытанне ў праграме дзекабрыстаў // З гісторыяй на «Вы». Мн., 1994. Вып. 2; Дружинин Н.М. Декабрист Никита Муравьев // Дружинин Н.М. Революционное движение в России в XIX в.: Избр. тр. М., 1985. *Марына Тарасава.*

**МІ́НСКІ ГАДЗІ́ННІКАВЫ ЗАВО́Д.** Дзейнічае з ліст. 1955. З 1992 акцыянернае т-ва «Мінскі гадзіннікавы завод» (АТ МГЗ). Першая прадукцыя (жаночыя ручныя гадзіннікі «Зара») выпу-

шчана ў 1956 У 1963—64 наладжана серыйная вытв-сць мужчынскіх і жан ручных гадзіннікаў «Прамень-2209» і «Прамень-1300» у 1968—73 — жаночых ручных гадзіннікаў «Прамень-1816» (залаты медаль на Лейпцыгскім кірмашы 1974) У 1973 пачаў выпрацоўваць аўтамаб і электронна-мех мужчынскія ручныя гадзіннікі са стрэлачнай індыкацыяй, у 1981 — электронна-мех ручныя гадзіннікі «Прамень-1956» (залаты медаль на міжнар кірмашы ў Пловдзіве 1981), мініяцюрныя будзільнікі У 1981—86 наладзіў выпуск гадзіннікаў мужчынскіх кварцавых, з сігналам, жаночых кварцавых, мініяцюрных будзільнікаў У 1998 працуюць вытв-сці зборачная, механазборачная, электронікі, цэхі па вытв-сці знешніх афармленняў гадзіннікаў, інструментальны, аддзел станкабудавання і аўтаматызацыі Прадукцыя экспартуецца ў 17 краін свету З-д узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга Атрымаў «Залаты Глобус Міру» ў Парыжы (1994), «Залаты кубак» у Жэневе (1995), «Алмазную зорку» ў Мехіка (1996) Дзярж прэміі Беларусі 1972 за комплекс работ па стварэнні аўтаматызаваных сістэм кіравання для прадпрыемстваў рэспублікі і 1984 за ўкараненне робататэхнікі на з-дзе

Завод мае тэхн вучылішча, клуб, музей, 2 б-кі, паліклініку, аздараўленчы лагер для школьнікаў, 7 дашкольных устаноў

**МІ́НСКІ ГАРАДСКІ́ МУЗЕ́Й** Дзейнічаў у 1912—15 Адкрыты ў чэрв 1912 у Мінску Створаны *Мінскім таварыствам аматараў прыродазнаўства, этнаграфіі і археалогіі* з дазволу і пры падтрымцы гар думы Існаваў на сродкі гар управы і ахвяраваннях прыватных асоб і устаноў Размяшчаўся ў доме Е.С Федаровіч (цяпер на яго месцы будынак Галоўпаштамта) Меў гістарычны, археалагічны, этнаграфічны, прыродазнаўчы, маст -прамысловы аддзелы Кіраваў музеем савет з 5 асоб (3 выбірала дума, 2 — т-ва) Экспанаваліся ўзоры глебы, мінералаў, чучалы звяроў і птушак, шкілеты дагіст жывел, стараж прылады працы і манеты, узоры нар ткацтва і інш У спец сховішчы збераглся старадрукі, карты, рукапісы, гравюры, інш каштоўнасці Аснову экспазіцыі складалі падараванні членаў т-ва (заснавальніка музея), розных устаноў горада, мінскай інтэлігенцыі, напр , каменныя сякеры, кавалкі скамянелага дрэва, рэшткі шкілетаў дагіст жывел, жалезны наканечнік стараж дзіды, ікла маманта, самаробная стрэльба селяніна Ігуменскага пав і інш Музей наладжваў тэматычныя выстаўкі, складаў школьныя калекцыі, розныя дапаможнікі і інш У сувязі з 1-й сусв вайной у 1915 спыніў публічную дзейнасць У 1920 частка экспанатаў, захаваных Е С.Федаровіч, перададзена Мінскаму абласному музею

*Літ* Записки Северо-Западного отдела имп Русского географического общества Кн 4 Вильна, 1914, Шыбека З В Шыбека С Ф Мінск Старонкі жыцця дарэв горада Мн , 1994 С 275—276

*Захар Шыбека*

**МІ́НСКІ ГУБЕРНСКІ́ ВАЕННА-РЭВАЛЮЦЫ́ЙНЫ КАМІТЭ́Т**, вышэйшы надзвычайны орган сав улады на тэр Мінскай губ ў 1918—20 Створаны 10 12 1918 у Мінску па ініцыятыве Паўн Зах абл к-та РКП(б) пасля вызвалення Мінска ад ням войск Старшыня І І Рэйнгольд, члены І І.Агол, С І Берсан, М І Крывашэін, А М Крыніцкі, К Ф Розенталь, А С Славінскі, Ш Ш Ходаш, В І Яркін і інш Меў аддзелы ваенны, фінансаў, зямельны СНК, працы, харчавання, асветы, ахо вы здароўя, сац забеспячэння, юстыцыі ЧК і інш Вёў работу па стварэнні на вызваленай тэр губерні рэўкомаў і Саветаў, устанаўліваў і падтрымліваў рэв парадак і законнасць 7 1 1919 скасаваны ў сувязі з утварэннем БССР, аддзелы зліліся з камісарыятамі рэспублікі 25 2 1919 адноўлены паводле пастановы ЦВК БССР у сувязі з утварэннем Літ -Бел ССР Дзейнасць пашырыў і на Віленскі пав Віленскай губ Старшыня І С Савацееў, члены Крывашэін, Крыніцкі, Я М Кроль, Э С Русецкі, Ходаш Л М Шагал, А Р Чарвякоў і інш Вёў падрыхтоўчую работу па скліканні з'езда Саветаў Мінскай губ 29 4 1919 скасаваны ў сувязі з пераездам урада Літ Бел ССР з Вільні ў Мінск, аддзелы зліліся з наркаматамі, функцыі перайшлі да Савета абароны, СНК і інш цэнтр органаў рэспублікі 26 7 1919 зноў ад ноўлены ў Бабруйску ў сувязі з акупацыяй большасці тэр Беларусі польск войскамі, скасаваннем Савета абароны і згортваннем работы СНК Літ -Бел ССР Старшыня Р В Пікель, члены С Л Гельтман, М І Калмановіч, Р А Муклевіч, І І Пузыроў, П Ф Равінскі, Чарвякоў і інш У жн 1919 спыніў дзейнасць у сувязі з акупацыяй губерні польск войскамі Створаны зноў 9 7 1920 у сувязі з пачаткам вызвалення Мінскай губ Старшыня Чарвякоў, члены І А.Адамайціс, Я.А Адамовіч, А І Вайнштэйн, А Х Гетнер, І Л Грыдзюшка, У М Ігнатоўскі, С Д Камінскі і інш Вёў работу па стварэнні органаў сав улады на вызваленай тэр , забеспячэнні харчаваннем і абмундзіраваннем Чырв Арміі, аднаўленні прам-сці і сельскай гаспадаркі, па нарыхтоўцы і размеркаванні харчавання, рабіў захады да адкрыцця школ, наладжвання аховы здароўя, дапамогі сем'ям чырвонаармейцаў Спыніў існаванне ў сувязі з прыняццем 31 7 1920 *Дэкларацыі аб абвяшчэнні незалежнасці Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь* і ўтварэннем Ваен -рэв к-та БССР На базе аддзелаў рэўкома створаны камісарыяты ВРК БССР

*М І Камінскі*

**МІНСКІ ДЗЯРЖА́ЎНЫ ЛІНГВІСТЫ́ЧНЫ УНІВЕРСІТЭ́Т**, да 1993 Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моў Засн ў 1948 на базе літ -лінгвістычнага ф-та (арганізаваны ў 1932, з 1934 ф-т замежных моў) *Мінскага педагагічнага інстытута.* З 1960 пры ін-це дзейнічалі 2-гадовыя курсы для спецыялістаў, якія выязджалі на работу ў замежныя краіны (у 1994 пераўтвораны ў спец факультэт кіруючых работнікаў і спецыялістаў нар гаспадаркі Рэспублікі Беларусь) Аспірантура з 1962 З 1997 рыхтуе магістраў У 1998/99 навуч г ф-ты англійскай, іспанскай, нямецкай французскай, зах -еўрап моў, пераклад чыцкі, рус мовы для замежных грамадзян, павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі выкладчыкаў замежных моў, на 40 кафедрах (з іх 19 агульнааду кацыйных) працавала 675 выкладчыкаў у т.л 68 праф і дактароў навук, 209 дацэнтаў і канд навук, займалася 7,8 тыс студэнтаў, у т.л 225 з краін далекага замежжа. Навучанне дзеннае і завочнае

*Літ* Минский государственный педагогический институт иностранных языков Краткий ист очерк Мн , 1974

*Наталля Баранава, Эдуард Ліпецкі*

**Мінскі езуіцкі калегіум** Малюнак Н Орды 1860-я г

**МІНСКІ ЕЗУІЦКІ КАЛЕГІУМ**, установа ордэна *езуітаў* у Мінску у 1657—1773 У 1657—86 місія, у 1686—1714 рэзідэнцыя, у 1714—73 калегіум. У 1657 смаленскі біскуп Геранім Сангушка купіў для езуітаў у Мінску ўчастак на Высокім рынку і завяшчаў ім 70 тыс злотых (яго нашчадкі выдалі толькі дзесятую частку) У 1665 Тамаш і Елісlава Улоўскія падаравалі місіі маентак Нача і 5 тыс злотых У 1680 рэферэндарый ВКЛ Ц П Бжастоўскі з жонкай далі мінскім езуітам маентак Ніжыцы ў Аршанскім пав і 50 тыс. злотых Віленскі біскуп К К Бжастоўскі ў 1682 падараваў маентак Ніжняе ў Мінскім ваяв У 1685 канцлер ВКЛ кн М.Агінскі падараваў 50 тыс злотых Падобныя падараванні былі і ў 18 ст Калегіум ператварыўся ў буйнога землеўласніка і ўладальніка вял грашовых багацяў Каралі Рэчы Паспалітай выдалі М е к шэраг прывілеяў: Міхаіл Вішнявецкі — права збіраць маставы падатак, Аўгуст III — права бязмытнага гандлю ва Упіравічах і права рыбнай лоўлі ў р Бярэзіна каля маентка Ніжыцы Да канца 17 ст пабудавана школа, у 1700—10 — касцел Ісуса, Марыі і Барбары У 1723 пачаў будавацца мураваны корпус калегіума (закончаны ў 2-й пал 18 ст) Калегіум садзейнічаў умацаванню пазіцый каталіцызму на Беларусі, змагаўся супраць ідэй вальнадумства, адначасова ен спрыяў усталяванню і развіццю еўрап сістэмы адукацыі З 1678 у ім адкрыты класы граматыкі і паэзіі, з 1729 чытаўся курс філасофіі Для бедных вучняў існавала бурса (інтэрнат), не пазней чым з 1737 дзейнічала аптэка У 1773 у сувязі са скасаваннем ордэна езуітаў калегіум закрыты і перададзены *Адукацыйнай камісіі* Касцел пераўтвораны ў парафіяльны, у 1798—1869 быў кафедральным саборам *Мінскай рымска-каталіцкай епархіі*, у 1951 пераабсталяваны пад будынак ДСТ «Спартак», у 1997 зноў адкрыты пасля рэстаўрацыі як кафедральны касцел Дзевы Марыі Вучэбныя і жылыя карпусы значна перабудаваны для грамадзянскіх патрэб

*Літ* Załęski St Jezuici w Polsce Kraków 1908 *Тамара Блінова*

**МІНСКІ ЗАВОД ХАЛАДЗІЛЬНІКАЎ** Створаны ў 1959 на базе майстэрняў па вырабе тавараў хатняга ўжытку з 1977 галаўное прадпрыемства вытв аб'яднання «Атлант», з 1993 — акц т-ва «Атлант» закрытага тыпу У 1962 выпусціў першы халадзільнік «Мінск-1» з 1964 пачалася серыйная вытв-сць халадзільнікаў маркі «Мінск» З 1978 упершыню ў б СССР пачаўся выпуск быт маразільнікаў Халадзільнік «М 12» адзначаны Вял залатым медалем міжнар кірмашу ў Лейпцыгу (1977), шэраг інш відаў — прызам Залатыя «Трафей якасці» (1992, 1993, 1994) Больш за 80% асн вырабаў экспартуецца Асн прадукцыя быт халадзільнікі маразільнікі і прамысл абсталяванне Завод мае клуб, 3 б-кі, інтэрнат, паліклініку, 2 пункты аховы здароўя, 3 дашкольныя установы, санаторый-прафілакторый, дзіцячы аздараўленчы лагер, базу адпачынку і фізкульт-аздараўленчы комплекс Выдаецца штотыднёвая шматтиражная газ «Атлант»

Мінскі замак Брама 12 — 1-й пал 13 ст Рэканструкцыя Ю А.Зайца

**МІНСКІ ЗАМАК**, старажытная крэпасць, на аснове якой узнік г *Мінск* У стараж-рус летапісах вядомы пад назвай «град», «горад», у актах 15—17 ст — замак, пазней — Стары горад Старое места, Стары замак, Замкавая гара, Замчышча Пабудаваны ў 2-й пал 11 ст на правым беразе р Свіслач пры ўпадзенні у яе Нямігі для абароны паўд межаў Полацкага княства Быў абнесены пясчана-жвіровым валам выш каля 8 м, на грэбені якога пастаўлены драўляныя сцены, з паўд боку — брама тыпу вежы Замак меў форму няправільнага прамавугольніка (даўж ад Свіслачы да процілеглага зах краю 300 м, шыр 120—150 м, пл 3 га) Абкружаны з усіх бакоў вадой, меў выгляд умацаванага вострава Гал вуліца замка шыр 4 м перасякала дзядзінец з У на З ад яе адыходзілі вузкія завулкі Шырыня астатніх вуліц была 3 м, праезная іх частка масцілася драўлянымі насціламі Паміж вуліцамі размяшчаліся двары гараджан Яны ўключалі 1—2 жылыя пабудовы, хлявы, клеці, майстэрні Двор абгароджваўся парканам з бярвен, свабодная ад забудовы плошча масцілася насцілам У 12—13 ст у замку было 80—82 двары і 400—500 жыхароў Умацаванні М з паспяхова вытрымалі асаду войска паўд-рус князёў і іх саюзнікаў у 1105 (у летапісе недакладна 1104) і 1116, няўдалымі былі спробы полацкага кн Рагвалода Барысавіча ўзяць М з прыступам у 1159 і 1160 у час княжацкіх міжусобіц Доўгі час замак быў па літ, ваенным і культ цэнтрам, рэзідэнцыяй князёў, пазней велікакняжацкіх і каралеўскіх намеснікаў У 1506 войскі крымскага хана Махмет-Гірэя, захапіўшы горад, не здолелі авалодаць крэпасцю У замку былі ваенны гарнізон (залога), правянцкія крамы, дом кіеўскага мітрапаліта, уладанні кн Астрожскага У вежы каля замкавай брамы размяшчалася турма У М з знаходзіліся цэрквы Мікалаеўская і Раства Багародзіцы З канца 17 ст замак стаў паступова занепадаць, да канца 18 ст асталіся земляныя валы, зафіксаваныя на планах Мінска канца 18 — пач 19 ст Археал даследаванні М з праводзілі ў 1945—51, 1957 В Р Тарасенка, у 1958—61 Э М Загарульскі, у 1976 Г В Штыхаў, у 1981—82 В Е Собаль і Штыхаў, у 1983—87 Штыхаў

*Літ* Гісторыя Мінска Мн, 1967, Загорульский Э М Возникновение Минска Мн 1982, Заяц Ю А. Оборонительные сооружения Менска XI—XII вв Мн, 1996 *Георгій Штыхаў*

Забудова заходняй часткі **Мінскага замка** 13 ст Рэканструкцыя П А.Русава Мастак А.Зарх

**МІНСКІ ІНСТЫТУТ КУЛЬТУРЫ** Засн у 1975 У 1993 пераўтвораны ў Бел ун-т культуры (БУК) У 1998/99 навуч г ф-ты культуралогіі, маст творчасці, бібліятэчна-інфарм сістэм, завочнага навучання, 307 выкладчыкаў, у т л 18 праф і дактароў навук, 117 дацэнтаў і канд навук, 3,5 тыс студэнтаў Навучанне дзеннае і завочнае Філіял ф та завочнага навучання у Мазыры Дзейнічаюць магістратура, аспірантура, дактарантура, саветы па абароне дысертацый, б-ка вучэбнай і маст л-ры, камп ютэрныя класы і лабараторыі Працу-

юць вучэбна-метадычныя комплексы: БУК—Мінская гімназія—каледж № 24, БУК—Магілёўскі бібліятэчны тэхнікум. Ун-т рыхтуе спецыялістаў сацыякультурнай сферы па 11 спецыяльнасцях (культуралогія, бібліятэказнаўства і бібліяграфія, нар. творчасць, дырыжыраванне, харэаграфічнае мастацтва, сац. работа, сац. педагогіка, музейная справа і ахова помнікаў гісторыі і культуры, рэжысура, мастацтва эстрады, акцёрскае мастацтва, літ. работа) і 39 спецыялізацыях, у т.л. па сусв. і айч. маст. культуры, менеджменце сацыякультурнай сферы, тэатр. творчасці, рэжысуры нар. абрадаў і свят, нар. рамёствах, інфарм. сістэмах у культуры, рэгіянальным фальклоры і інш. Навук. даследаванні па тэорыі і гісторыі бел. маст. культуры, тэорыі і гісторыі мастацтваў, гісторыі Беларусі, зместу і методыцы падрыхтоўкі спецыялістаў у галіне культуры і мастацтва, бібліятэчнай справы, сац. рэабілітацыі асобы сродкамі мастацтва, інфарматызацыі культуры і інш. Дзейнічаюць студэнцкія творчыя калектывы: аркестры (эстрадна-сімфанічны, духавы, народны, рускіх нар. інструментаў), хары (народны, акадэмічны, «Мара», «Дабрасвет», «Віват»), фальклорныя ансамблі («Валачобнікі», «Грамніцы», «Баламуты», «Спадчына»), ансамблі («Тутсі», «Браз-шоу-квінтэт», мандаліністаў, скрыпачоў, танцавальныя ансамблі) і інш.

*Літ.*: Минский институт культуры. Мн., 1990. *Ядвіга Грыгаровіч.*

**МІ́НСКІ ІНСТЫТУ́Т НАРО́ДНАЙ АДУКА́ЦЫІ**, вышэйшая навуч. установа ў 1920—21, якая рыхтавала пед. работнікаў у галіне школьнай адукацыі і для дашкольных устаноў. Створаны ў жн. 1920 на базе *Мінскага беларускага педагагічнага інстытута*. Паводле статута меў 5 аддзяленняў, фактычна дзейнічалі 3: 1-е для падрыхтоўкі педагогаў у дашкольныя ўстановы (тэрмін навучання 2 гады); 2-е для настаўнікаў пач. школ (3 гады); 3-е для настаўнікаў сярэдніх школ (4 гады); яно складалася з 6 ф-таў (цыклаў) (літ.-маст., сац.-гіст., прыродазнаўчага, геагр., фізіка-хім., фізіка-матэм.). Колькасць студэнтаў каля 500, выкладчыкаў 34. Старшыня пед. савета М.Г.Маслаковец. Ін-т размяшчаўся ў будынку б. Мінскага рэальнага вучылішча. Меў фіз., прыродазнаўчы, гіст., этнагр. і пед. кабінеты, хім. лабараторыю, б-ку (9,5 тыс. тамоў). Пры ін-це дзейнічалі *Мінскае навуковае педагагічнае таварыства*, *Мінскае таварыства гісторыі і старажытнасці*. 1.2.1921 аднавіла працу доследна-ўзорная школа 2-й ступені. Выкладаліся бел. мова і л-ра, гісторыя і геаграфія Беларусі, чыталіся спецкурсы па старaж. бел. л-ры, гісторыі ВКЛ, практычнай падрыхтоўцы настаўнікаў. Пры 1-м аддз. дзейнічала яўр. секцыя, факультатыўна выкладаўся ідыш, на рус. мове чыталіся лекцыі па гісторыі яўр. л-ры і фальклоры. У снеж. 1920 створана выдавецкая камісія, на шапірографе друкаваліся лекцыі выкладчыкаў. Ін-т меў цесныя сувязі з Маскоўскай пед. акадэміяй (б. пед. ін-т П.Р.Шалапуціна), пед. т-вамі пры Маскоўскім і Казанскім дзярж. ун-тах. У ін-це чыталі лекцыі Я.Ф.*Карскі*, У.І.*Пічэта*, праф. Дз.М.Кулагін, Ф.Ф.Турук, праф. Маскоўскага ун-та Р.Ю.Віпер, А.М.Беркенгейм і інш. 20.6.1921 на пасяджэнні пед. савета прынята рашэнне аб рэарганізацыі ін-та ў пед. ф-т БДУ. Паводле загаду Наркамасветы БССР ад 1.9.1921 1-е і 2-е аддз. ўвайшлі ў склад створанага Мінскага пед. тэхнікума, 3-е аддз. на працягу 1921—22 уключана ў склад ф-та грамадскіх навук БДУ.

*Літ.*: Новик Е.К. Формирование кадров народного образования Белоруссии (1917—1941 гг.). Мн., 1981; Ляхоўскі У. Узгадаем з удзячнасцю // Адукацыя і выхаванне. 1995. № 11. *Уладзімір Ляхоўскі.*

**МІ́НСКІ КААЛІЦЫ́ЙНЫ САВЕ́Т 1905**, орган кіраўніцтва рэв. барацьбой працоўных Мінска ў час *Кастрычніцкай усерасійскай палітычнай стачкі 1905* і Снежаньскага ўзбр. паўстання 1905. Утвораны пасля *курлоўскага расстрэлу 1905* з прадстаўнікоў Мінскай групы РСДРП, Лібава-Роменскага к-та Усерас. чыг. саюза, мясц. к-таў ПСР і Бунда. У час Кастр. стачкі савет 12 дзён трымаў пад сваім кантролем чыг. вузел, стварыў камісію ўзаемадапамогі, суд гонару. 8(21) снеж. М.к.с. заклікаў да ўсеагульнай забастоўкі (гл. *Мінская снежаньская палітычная забастоўка 1905*) і пачаў дзейнічаць як орган улады: кантраляваў працу камунальнай гаспадаркі горада, аптэкі, цэны на прадукты харчавання. З прычыны масавых арыштаў савет прыняў рашэнне прыпыніць з 12(25) снеж. гар. забастоўку, працягваць забастоўку чыгуначнікаў. 15(28) снеж. члены М.к.с. арыштаваны.

*Літ.*: Всероссийская политическая стачка в октябре 1905 г. Ч. 1. М.;Л., 1955; Революционное движение в Белоруссии 1905—1907 гг.: Док. и материалы. Мн., 1955; История рабочего класса БССР. Т. 1. Мн., 1984. *Эдуард Савіцкі.*

**МІ́НСКІ КАМЕРЦЫ́ЙНЫ БАНК**, першы прыватны банк у дарэв. Беларусі. Засн. ў 1873 памешчыкамі і гандл. буржуазіяй Мінска і Мінскай губ. Сярод акцыянераў банка Л.А.Ванькові́ч, кн. Е.Э.Друцкі-Любецкі, В.А.Лапо, Х.Г. і А.Я.Лур'е і інш. Акцыянерны капітал складаў 1,5 млн. рублёў. Банк спецыялізаваўся на выдачы пазык для забеспячэння гандлю с.-г. таварамі, на крэдытаванні вывазу лясной прадукцыі ў паўд. губерні Расіі і за мяжу. У 1880—90-я г. аддзяленні і агенцтвы М.к.б. дзейнічалі ў Лібаве, Гомелі, Магілёве, Бабровіцах, Навазыбкаве, Рамнах, Канатопе і інш. На канец 19 — пач. 20 ст. прыпадае найб. росквіт М.к.б. У 1895 кантрольны пакет яго акцый купіў пецярбургскі прадпрымальнік Я.С.Палякоў з сынамі. Пасля разарэння Паляковых на чале М.к.б. зноў сталі мясц. акцыянеры. Змены ў развіцці ляснога рынку, канкурэнцыя з боку буйных рас. банкаў, канцэнтрацыя акцый у руках вузкай групы асоб прывялі да ліквідацыі М.к.б. (1908), у 1912 ён паглынуты Азоўска-Данскім камерцыйным банкам. *Вадзім Сяховіч.*

**МІ́НСКІ КАМІТЭ́Т ГРАМА́ДСКАЙ БЯСПЕ́КІ**, часовы грамадскі орган улады ў Мінску ў 1917. Створаны 3—4(16—17).3.1917 на агульнагар. сходзе (прысутнічала каля 70 чал.) кіраўнікоў губ. і пав. земстваў, думскай управы, к-таў усерасійскіх земскага саюза і саюза гарадоў, Земгора і інш. Сход вылучыў арганізац. камісію для вызначэння прадстаўніцтва ў М.к.г.б., прыняў адозву да насельніцтва горада, абраў грамадз. камендантам старшыню Мінскай губ. земскай управы Б.М.Самойленку. Усе мерапрыемствы былі ўзгоднены з галоўнакамандуючым Зах. фронтам ген. Эвертам. На 4(17) сак. ў камітэт уваходзілі больш за 100 прадстаўнікоў ад сац. і нац. пластоў, канфесійных груп, буйнейшых дзярж. і грамадскіх устаноў, а таксама Мінскага Савета рабочых дэпутатаў; пры грамадз. каменданце ўтвораны рабочы орган з 10 чал. на чале з гар. галавой С.Б.Хржанстоўскім. Рабочы орган займаўся арганізац., інфармац., праваахоўнымі і інш. пытаннямі. 7(20) сак. на сумесным сходзе гар. думы і членаў М.к.г.б., колькасць якіх дасягнула амаль 200 чал., створаны выканаўчы к-т (або гар. савет); у яго абраны М.А.Міхайлаў (М.В.Фрунзе), Н.В.Шлегель, І.В.Цеўмін (ад Мінскага Савета рабочых дэпутатаў), П.П.Аляксюк (ад беларусаў), Е.С.Хургін, С.М.Каплан (ад яўр. насельніцтва), В.А.Янчэўскі (ад польск. насельніцтва), С.П.Кавалік (ад рус. насельніцтва), а таксама Хржанстоўскі, М.Г.Парфіяновіч, М.В.Доўнар-Запольскі, В.Ф.Цывінскі, Э.Ф.Амбрашкевіч, Н.В.Ярохаў (гар. сакратар), прапаршчык Генцшэль (ад Мінскага гарнізона), С.В.Басіст, А.П.Краўчанка (служачыя зах.-франтавога к-та Усерас. земскага саюза). Летам у яго рабоце ўдзельнічалі А.Р.Левітас, М.Б.Нейфах, А.С.Яромін, Д.І.Жос; камітэт узначаліў Хржанстоўскі, які адначасова быў абраны і гар. камісарам. Атрымаўшы прызнанне штаба Зах. фронту, губ. камісарыята, грамадскіх арг-цый, а таксама падтрымку насельніцтва, камітэт за першыя тыдні забяспечыў нармальную жыццядзейнасць горада. У яго кампетэнцыю перададзены пытанні аховы парадку, узаемаадносін паміж ваен. і дзярж. уладамі і грамадскімі арг-цыямі. Па меры папаўнення гар. думы прадстаўнікамі нац. дыяспар і парт. арг-цый рос і яе аўтарытэт. У сувязі з гэтым дзейнасць М.к.г.б. звузілася да рэдкіх (1—2 разы ў месяц) пасяджэнняў яго выканкома, гал. чынам з мэтай вырашэння сац.-эканам., бытавых і інш. праблем, што набывалі паліт. афарбоўку і таму патрабавалі ўмяшання грамадскіх арг-цый. Пасля 30 ліп. М.к.г.б. як першая спроба рэв. пераўтварэнняў і народаўладдзя ў Мінску саступіў месца дэмакратычна абранаму гар. самакіраванню ў асобе гар. думы. *Мікалай Сяменчык.*

**МІНСКІ КАМІТЭ́Т РСДРП(б)**, кіруючы орган Мінскай арг-цыі РСДРП(б). Створаны 1(14).6.1917 як часовы, з 30.6(13.7).1917 сталы. Яго старшыня А.Ф.*Мяснікоў.* У адозве да працоўных 17(30).7.1917 к-т абвясціў аб стварэнні самастойнай бальшавіцкай арг-цыі, са жніўня выдаваў сваю газ. «Звезда», меў чырвонагвардз. дружыну (100 чал.), якая абараняла к-т і друкарню. Меў сувязі з ЦК РСДРП(б), Віцебскай, Лунінецкай, Палескай, Рэчыцкай, Слуцкай і інш. парт. арг-цыямі, з'яўляўся цэнтрам парт. работы ў Зах. вобласці і на Зах. фронце. Па даручэнні ЦК у вер.—кастр. 1917 склікаў абласную і франтавую нараду, I і II Паўн.-Зах. абл. і франтавую канферэнцыі РСДРП(б), ажыццяўляў рашэнні VI з'езда партыі бальшавікоў па мабілізацыі рэв. сіл, вёў агітацыю сярод рабочых, сялян і салдат. Пасля Кастр. рэвалюцыі вёў барацьбу за пераход улады ў горадзе ў рукі Мінскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў. У час акупацыі Мінска герм. войскамі ў лют. 1918 эвакуіраваўся ў Смаленск. 3(16).3.1918 на аб'яднаным пасяджэнні з Паўн.-Зах. абл. і Смаленскім к-тамі РСДРП(б) Мінскі к-т адобрыў палітыку Сав. ўрада на заключэнне мірнага дагавора з Германіяй. Далейшы лёс к-та не прасочваецца.

*Міхаіл Смальянінаў.*

**МІНСКІ КАМІТЭ́Т УСЕРАСІ́ЙСКАГА СЯЛЯ́НСКАГА САЮ́ЗА.** Існаваў у 1917. Створаны 23.3.1917 як аддзел Усерас. сял. саюза пры ўдзеле к-таў Усерас. земскага саюза, служачых земстваў і Мінскага Савета. Старшыня М.В.*Фрунзе.* Ставіў за мэту прадухіленне захопу сялянамі памешчыцкай, дзярж. і інш. маёмасці, захаванне нармальнай жыццядзейнасці фронту і тылу, бесканфліктна давесці вырашэнне агр. пытання да Устаноўчага сходу, «умацаванне на вёсцы асноў новага дзярж. ладу і арганізацыю працоўнага сялянства». Імкнучыся засцерагчы сялянства ад уплыву *Беларускай сацыялістычнай грамады* і *Беларускага нацыянальнага камітэта*, падпарадкаваў сабе К-т прапаганды на вёсцы асноў новага ладу. Паводле сац.-паліт. платформы (выпрацавана на пасяджэнні к-та 30.3.1917) лічыў сябе не нацыянальнай, а класавай арг-цыяй, выказваўся за ўсталяванне дэмакр. рэспублікі з адной палатай прадстаўнікоў і прызнаннем за кожнай народнасцю Расіі права на свабоднае самавызначэнне. У зямельным пытанні стаяў за перадачу ўсіх зямель у агульнанар. карыстанне, але канчатковае вырашэнне гэтага пытання аддаваў Устаноўчаму сходу. У адносінах да вайны выступаў за найхутчэйшае яе спыненне на аснове самавызначэння народаў і недапушчальнасці гвалтоўнага захопу чужых тэрыторый, інш. умоў не прызнаваў. Але пакуль працягваецца вайна, лічыў неабходным падтрымліваць захаванне ў арміі строгай дысцыпліны, асуджаў дэзерцірства. Нягледзячы на агульнадэмакр. змест платформы, яна мела антынац. характар і была скіравана супраць бел. арг-цый, якія выражалі інтарэсы мясц. сялянства. Арганізаваў сял. з'езд Мінскай і Віленскай губ. (20—23 крас.), пасля яго існаваў фармальна. У чэрв. меў 4 прадстаўнікоў у пав. камісарыяце. Пасля ўтварэння губ. Савета сял. дэпутатаў саступіў яму месца ў арганізац. і ідэалаг. дзейнасці сярод сялянства. На 2-м з'ездзе сял. дэпутатаў Мінскай і Віленскай губ. (30.7—2.8.1917) высветлілася рэзка негатыўнае стаўленне да Усерас. сял. саюза, што абумовіла поўны заняпад яго Мінскага к-та да восені 1917.

*Мікалай Сяменчык*

**МІНСКІ «КАЦЁЛ»**, акружэнне войскамі 1, 2 і 3-га Бел. франтоў у ходзе *Мінскай аперацыі 1944* гал. сіл ням. 4-й і асобных злучэнняў 9-й армій групы армій «Цэнтр» на У ад Мінска 3.7.1944 у Вял. Айч. вайну. У «кацёл» трапіла 105 тыс. гітлераўцаў. 4 ліп. сав. войскі (часці 49-й, 50-й армій 2-га Бел. фронту, 33-й арміі 3-га Бел. фронту, частка сіл 1-й і 4-й паветр. армій) пачалі ліквідацыю акружаных войск. 7—8 ліп. знішчаны ці ўзяты ў палон гал. сілы ням. войск, 9—11 ліп. — астатнія асобныя групы. У М.«к.» знішчана больш за 70 тыс. і ўзята ў палон каля 35 тыс. варожых салдат і афіцэраў, у т.л. 12 генералаў. У ліквідацыі «катла» ўдзельнічалі партызаны брыгад 2-й Мінскай, «Буравеснік», імя Ракасоўскага, «За Савецкую Беларусь», імя газ. «Правда», «Полымя», імя Шчорса і інш. Партызаны ахоўвалі ўсе асн. аб'екты ў Мінску і яго ваколіцах. Упершыню ў наступальных дзеяннях Чырв. Арміі праціўнік быў акружаны і разгромлены ў выніку паралельнага і франтальнага праследавання на глыбіні 200—250 км ад пярэдняга краю яго абароны. *Уладзімір Лемяшонак*

**МІНСКІ КЛЯ́ШТАР БЕНЕДЫКЦІ́НАК.** Існаваў у Мінску ў 1633—1870-я г. Засн. віленскім канонікам В.Сялявай, які купіў у Мінску 2 дамы з інш. пабудовамі ў С.Друцкага-Горскага і А.Сакалінскага і перадаў іх бенедыкцінкам.

**Мінскі кляштар бернардзінак.**

Касцёл **Мінскага кляштара бернардзінцаў**.




ны. У 1986 гэта лінія падоўжана на 1,71 ...да ст. «Усход». У перспектыве 1-я ...я звяжа жылыя раёны Уручча і ...д. Захад. Працягласць яе складзе ...3 км. У 1990 пушчаны ўчастак 2-й ...ў напрамку ПнЗ—ПдУ ад ст. ...унзенская» да ст. «Трактарны за...» (даўж. 7,18 км, 6 станцый). У 1995 на гэтай лініі здадзены ў эксплуатацыю станцыі «Маладзежная» і «Пушкінская» (даўж. 2,8 км), у 1997 — «Партызанская» і «Аўтазаводская» (даўж. 3,6 км). З завяршэннем буд-ва 2 я лінія (даўж. 20 км) злучыць жылы раён Кунцаўшчына праз цэнтр з Заводскім раёнам горада. 3-ю лінію (даўж. 17 км) намечана пракласці ў напрамку Пд—Пн ад перакрыжавання Слуцкай шашы і вул. Каржанеўскага праз Прывакзальную плошчу да жылога раёна Зялены Луг. Агульная працягласць трох ліній М.м. складзе 59 км. На іх будзе размешчана 45 станцый з трыма перасадачнымі вузламі. У перспектыве плануецца буд-ва 4-й лініі М.м. (даўж. 16 км, 11 станцый), якая звяжа праз цэнтр жылыя масівы Чыжоўка, Серабранка і Навінкі, а праз перасадачныя вузлы забяспечыць сувязь з інш. жылымі раёнамі і прамысл. зонамі горада. Агульная працягласць 4 ліній складзе 75 км (гл. таксама схему). Станцыі М.м. з'яўляюцца арыгінальнымі творамі архітэктуры. У іх аздабленні выкарыстаны граніт, мармур, каляровыя металы, паліва, шкло, кераміка, дрэва і інш. матэрыялы.

*Валерый Ярмоленка*

**МІНСКІ НАСТА́ЎНІЦКІ ІНСТЫТУ́Т**, 1) педагагічная навуч. ўстанова ў 1914—18, якая рыхтавала настаўнікаў для вышэйшых пач. вучылішчаў. Створаны 1.7.1914. Тэрмін навучання 3 гады. Прымаліся асобы мужч. полу правасл. веравызнання, якія мелі 2-гадовы стаж настаўніцкай працы. Утрымліваўся за дзярж. кошт. У склад пед. рады ў розны час уваходзілі Дз.А.*Сцяпура*, У.М. *Ігнатоўскі*, К.І.Кудзін, М.Гамолка, З.М.Полазаў, Р.К.*Астроўскі*, Я.*Каранеўскі*, В.Андэрсан, М.Я.*Байкоў*, В.Л.*Іваноўскі*, Я.Ф.*Карскі*, А.С.*Неканда-Трэпка*, Ч.*Родзевіч*, У.Накавіцкі-Урбановіч, Б.А.*Тарашкевіч* і інш. Навуч. праграмы арыен-

Станцыя «Плошча Якуба Коласа» Мінскага метрапалітэна.

тавалися на ўзровень сярэдняй школы, пед дысцыпліны, багаслоўскі курс, гісторыя і л-ра выкладаліся па праграмах, набліжаных да ўзроўню вышэйшай школы У вер. 1915 ін-т эвакуіраваны ў Яраслаўль Навуч працэсу перашкаджалі масавыя мабілізацыі слухачоў, кватэрная неўладкаванасць і інш (у канцы 1915 з 60 студэнтаў засталося 19, у 1916—17 навуч г не быў сфарміраваны 1-ы клас) Паступова навуч працэс наладжаны У 1916 факультатыўна выкладаліся замежныя мовы, пры ін-це створаны аднагадовыя пед курсы для падрыхтоўкі настаўнікаў вышэйшых пач вучылішчаў (навучалася 77 дзяўчат, пераважна бежанак з Беларусі) У час знаходжання ў Яраслаўлі ін-т стаў цэнтрам нац руху бел бежанцаў Восенню 1915 па ініцыятыве Ігнатоўскага тут створана арг-цыя *«Наш край»* У *1916* актывам ін-та арганізавана *Яраслаўская беларуская рада* Пасля Лют рэвалюцыі 1917 выкладчыкі і навучэнцы ін-та актыўна ўдзельнічалі ў грамадска-паліт жыцці Яраслаўля Пры ін-це дзейнічала бел чытальня У маі 1917 у ін-це створана арг-цыя *«Маладая Беларусь»* Пасля скасавання паліт, рэліг, нац і палавых абмежаванняў у правах на адукацыю ін-т пераўтвораны ў навуч ўстанову змешанага тыпу (прымаліся асобы абодвух полаў), уведзена спецыялізацыя ў падрыхтоўцы настаўнікаў, уключаны новыя дысцыпліны (палітэканомія, філасофія, сацыялогія і інш), навучэнцы ін-та пасля заканчэння вучобы мелі права паступаць ва ун-ты У 1917—18 навуч г пры ін-це створана ўзорнае вышэйшае пач вучылішча З канца 1917 Ігнатоўскі чытаў тут курс лекцыі «Кароткі нарыс нацыянальна-культурнага адраджэння Беларусі» У вер 1918 ін-т рээвакуіраваны ў Мінск Існаваў за кошт сродкаў ням ваен камандавання і ўрада БНР Уведзены новыя дысцыпліны. бел мова і л-ра, гісторыя бел мовы і л-ры, гісторыя і геаграфія Беларусі і інш У поўным аб'еме выкладаліся ням, франц, англ мовы Навучанне

было бясплатнае, пры ін-це дзейнічала узорная школа 30 12 1918 рэфармаваны ў *Мінскі Беларускі педагагічны інстытут* У розны час у ін-це вучыліся С Г *Булат*, В С Гарбацэвіч, В *Р Камлюк*, М І *Каспяровіч*, М І *Мароз*, А В *Сташэўскі*, В *Сташэўскі*, К *Станкевіч*, М *Чарот*, П Шчарбінскі і інш 2) Навуч установа пры Мінскім пед ін-це ў 1936—55 (з 1947 у Маладзечне, называўся Маладзечанскі настаўніцкі ін-т) Рыхтаваў настаўнікаў для 5—7-га класаў агульнаадук школ Тэрмін навучання 2 гады

*Літ* З я н е в і ч І Да гісторыі развіцця педагагічнай адукацыі ў Мінску // Полымя 1972 № 1, Л я х о ў с к і У В Прадвеснік Адраджэння // Адукацыя і выхаванне 1994 № 11 Ш ы б е к а З В, Ш ы б е к а С Ф Мінск Старонкі жыцця дарэв горада Мн 1994 *Уладзімір Ляхоўскі*

**МІНСКІ ПАВЕ́Т**, адм -тэр адзінка ў ВКЛ, Расійскай імперыі і БССР у 15—20 ст Утвораны на тэр *Мінскага княства* пасля яго ўключэння ў ВКЛ і пераходу пад кантроль вял князя Да 1565 уваходзіў у *Віленскае ваяводства* як гіст адзінка Паводле адм -тэр рэформы 1565—66 уключаны ў *Мінскае ваяводства*, яго тэр пашырана за кошт былых Заслаўскага і Лагожскага княстваў (паветаў) часткі Барысаўскай, Любашанскай, Свіслацкай валасцей на правым беразе р Бярэзіны Устаноўлена сістэма службовых асоб кашталян, падкаморы, харунжы і інш, а таксама гродскі і земскі суды У павет уваходзілі гарады Мінск і Барысаў, каля 45 мястэчкаў, з іх буйнейшыя — Беразіно-Любашанскае, Гайна, Заслаўе, Ракаў, Смалявічы і інш Пасля далучэння да Расіі ў 1793 павет скасаваны, у 1795 адноўлены ў меншых памерах і ўключаны ў Мінскае намесніцтва 3 12 12 1796 у *Мінскай губерні*, да М п далучаны часткі скасаваных Вілейскага і Нясвіжскага пав Яго тэр складала каля 4,5 тыс кв верст (каля 5 тыс км$^2$), статус мястэчкаў захавалі Астрошыцкі Гарадок (Гарадок-Тышкевіцкі), Бяларуч, Дубровы, Заслаўе, Івянец, Камень, Койданаў, Мікалаеўшчына, Пяршай, Ракаў, Рубяжэвічы, Саламярэцкі Гарадок (Гарадок-Хмарынскі), Самахвалавічы, Свержань, Слабодка, Стоўбцы У сярэдзіне 19 ст ў павеце 808 сел і весак, 246 засценкаў і інш дробных паселішчаў Насельніцтва ў 1816 было каля 92 тыс чал (у т л 15 тыс шляхты), у 1857 — каля 121 тыс чал (з іх 23,5 тыс ў Мінску), у т л каля 57 тыс праваслаўных, 54 тыс католікаў, 15 тыс яўрэяў Меліся 41 царква, 19 касцелаў, 2 евангелісцкія царквы, 23 сінагогі, 1 мячэць, больш за 300 панскіх маенткаў У 1861 тэр М п падзелена на валасці, пасля пераразмеркавання ў 1864—66 іх было 19 Астрошыцка-Гарадоцкая, Бяларуцкая, Вялікасельская, Заслаўская, Засульская, Івянецкая, Койданаўская, Крывіцкая (у 1869 перайменавана ў Дуброўскую, скасавана ў 1872), Пяршайская, Ракаўская, Рудзіцкая (пазней скасавана), Самахвалавіцкая, Свержанская (часова ўключана ў Стаўбцоўскую ў 1876), Сеніцкая, Семкаўская (Семкава-Гарадоцкая), Слабодская, Старасельская, Стаўбцоўская У 1878 замест Вялікасельскай і Слабодскай утворана Рубяжэвіцкая, у 1898 з Самахвалавіцкай вылучана Крупіцкая вол (пазней перайменавана ў Станькаўскую), пасля аднаўлення Свержанскай у М п стала 16 валасцей У 1920 Свержанская вол перададзена Нясвіжскаму пав Паводле *Рыжскага мірнага дагавора 1921* зах частка павета (Засульская, Івянецкая, Пяршайская, Ракаўская, частка Рубяжэвіцкай і Стаўбцоўскай вол ) адышлі да Польшчы Замест іх у М п уключаны Магільнянская вол Нясвіжскага пав, Радашковіцкая і Хаценчыцкая вол Вілейскага пав У 1923 Рубяжэвіцкая вол перайменавана ў Вялікасельскую Павет скасаваны 17 7 1924, асн яго частка ўключана ў *Мінскую акругу*, частка Магільнянскай вол — у Слуцкую *Вячаслаў Насевіч*

**МІ́НСКІ ПАДПО́ЛЬНЫ АБКО́М КП(б)Б** у В я л і к у ю А й ч ы н н у ю в а й н у Створаны ЦК КП(б)Б і дзейнічаў пад яго кіраўніцтвам з 21 7 1941 да 3 7 1944 на тэр Мінскай і Палескай (крас 1942 — сак 1943) абл Сакратары В І *Казлоў*, І.А.*Бельскі*, А.Ф *Брагін*, І Дз *Варвашэня*, Р Н *Мачульскі* Базіраваўся ў Старобінскім, Любанскім і Акцябрскім р-нах Кіраваў дзейнасцю падп Барысаўскіх міжрайпартцэнтра і гаркома-райкома КП(б)Б, Мінскага і Слуцкага міжрайкомаў, Мінскага гаркома, 20 раенных падп к-таў КП(б)Б Накіроўваў дзейнасць падп Мінскага абкома, Барысаўскага, Мінскага і Слуцкага міжрайкомаў, Мінскага, Мінскага Паўд і Барысаўскага гаркомаў ЛКСМБ, 21 раеннага падп к-та ЛКСМБ, падполляў Азерскага, Барысаўскага, Вялікастахаўскага, Грэскага, Дзяржынскага, Каладзішчанскага, Мар'інагорскага, Мінскага, Плешчаніцкага, Рудзенскага, Слуцкага, Тарасава-Ратамскага, Уздзенскага, Хідраўскага, торфапрадпрыемства «Чырвоны Сцяг» Смалявіцкага р-на і інш Пад яго кіраўніцтвам у розны час дзейнічалі Барысаўска-Бягомльскае, Мінскае, Слуцкае партыз злучэнні, 213 партыз атрадаў, аб'яднаных у 45 брыгад, больш за 50 асобных атрадаў (больш за 55 тыс партызан) Друкаваны орган — газ «Звязда» Абком кіраваў паліт -масавай і ваенна-арганізац работай сярод насельніцтва і партызан, агітацыяй сярод салдат захопнікаў, выдаваў адозвы, лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро, распаўсюджваў газеты з сав тылу Сакратары абкома Казлоў, Бельскі, Мачульскі ўдастоены звання Героя Сав Саюза У гонар падп Мінскіх абкомаў і Любанскіх райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, штабоў Мінскага партыз злучэння, партыз брыгады 25-й імя Панамарэнкі створаны мемар комплекс *Зыслаў* (Любанскі р-н), у гонар 1-га пасяджэння абкома 21 7 1941 у пас Чырвоная Паляна Любанскага р-на ў 1976 пастаўлена стэла, у гонар абкома КП(б)Б, штабоў Мінскага партыз злучэння, партыз злучэння Мінскай і Палескай абл,

падп. друкарні ў 1972 у в. Альбінск і Дзвесніца Акцябрскага р-на ўстаноўлены мемар. дошкі, на в-ве Добры і ва ўрочышчы Дзвесніца адноўлены 3 партыз. зямлянкі, устаноўлена мемар. пліта. *Раман Мачульскі.*

**МІНСКІ ПАДПОЛЬНЫ АБКОМ ЛКСМБ** у Вялікую Айчынную вайну. Створаны *Мінскім падпольным абкомам КП(б)Б* і дзейнічаў пад яго і ЦК ЛКСМБ кіраўніцтвам з 26.6.1943 да ліп. 1944. Сакратары: С.І.*Пармон*, П.Е.*Папоў*, Я.М.Канаплін (з 15.9.1943). Базіраваўся ў партыз. фарміраваннях Мінскай вобл., у асн. у Любанскім р-не. Узначальваў дзейнасць падп. Барысаўскага, Мінскага, Слуцкага міжрайкомаў, Барысаўскага, Мінскага, Мінскага Паўд. гаркомаў, 3 гарадскіх і 21 сельскага райкомаў ЛКСМБ, 536 падп. тэрытарыяльных, 900 пярвічных камсам. арг-цый у партыз. фарміраваннях (каля 20 тыс. камсамольцаў). Друкаваныя органы — газ. «Чырвоная змена» і «Сталинская молодежь». Да стварэння абкома камсам.-маладзёжным падполлем вобласці кіравалі Мінскі падп. абком КП(б)Б, апаратыўная група Мінскага абкома ЛКСМБ, потым Мінскі абком ЛКСМБ (дзейнічаў у жн. 1942 — сак. 1943 у прыфрантавой паласе), з ліп. 1942 — Барысаўскі, Мінскі, Слуцкі міжрайкомы ЛКСМБ, з вер. 1942 — група ЦК ЛКСМБ на чале з К.Т.*Мазуравым*, з ліст. 1942 — упаўнаважаны ЦК ЛКСМБ па Мінскай вобл., сакратар Мінскага абкома ЛКСМБ Пармон. М.п.а. ЛКСМБ увекавечаны ў мемар. комплексе *Зыслаў*. *Рыгор Шавяла.*

**МІНСКІ ПАДПОЛЬНЫ КАМІТЭТ КП(б)ЛіБ** у грамадзянскую вайну. Дзейнічаў з канца жн. 1919 да 11.7.1920 пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)ЛіБ. Старшыня к-та К.Ю.Гедрыс, чл. С.Куляшынскі, П.Вараб'ёў, В.Матусевіч; са снеж. 1919 старшыня М.Дземба (парт. псеўд. Ян), чл. Ю.Крваўніцкі (Э.Кундзіч, Максімовіч), Я.Рывес. З кастр. 1919 выконваў функцыі краявога парт. цэнтра, кіраваў дзейнасцю Барысаўскай, Гродзенскай, Ігуменскай, Маладзечанскай, Нясвіжскай, Слуцкай падп. арг-цый. Ва ўмовах тэрору польск. акупантаў стварыў парт. ячэйкі ў прафсаюзах металістаў, будаўнікоў, дрэваапрацоўшчыкаў, друкароў, чыгуначнікаў, швейнікаў, камуніст. групы ў часцях польск. войск. У вер. 1919 Мінская падп. камуніст. арг-цыя налічвала 100 чал. Члены к-та неаднаразова былі арыштаваны (кастр. 1919, крас. 1920), але к-т аднаўляў дзейнасць. Меў друкарню, выдаваў лістоўкі, распаўсюджваў газ. «Правда», «Звезда», «Жизнь национальностей», «Коммунист», «Савецкая Беларусь» і інш. Пад яго кіраўніцтвам ў ліст. 1919 на прадпрыемствах Мінска адбыліся забастоўкі. Калі акупац. ўлады ліквідавалі прафсаюзы, к-т у студз. 1920 стварыў падп. прафсаюзы, якія аб'ядноўвалі 4 тыс. рабочых. З партыз. атрадаў С.С.Плашчынскага, В.П.Пагірэйчыка, І.В.Маслыкі, М.Згіроўскага, А.Раманоўскага, дукорскіх партызан сфарміравана Мінская раённая паўстанцкая арг-цыя (нач. штаба ўпаўнаважаны ЦК КП(б)ЛіБ В.Ф.Шаранговіч). Пад кіраўніцтвам к-та ў чэрв.—ліп. 1920 (у перыяд баёў на Зах. фронце) партызаны і рабочыя дружыны ўзрывалі склады, воінскія эшалоны, грамілі гарнізоны, разбуралі камунікацыі, вывелі са строю чыг. лініі на Вільню, Баранавічы, Жлобін, Барысаў. З вызваленнем Мінска (11.7.1920) к-т выйшаў з падполля і ўзначаліў аднаўленне сав. улады. Спыніў дзейнасць у ліп. 1920, калі стаў дзейнічаць Мінскі губком партыі. *Мікалай Сташкевіч.*

**МІНСКІ ПАДПОЛЬНЫ МІЖРАЙКОМ КП(б)Б**. Створаны ЦК КП(б)Б 11.8.1942, дзейнічаў з 3.10.1942 да 18.9.1943. Сакратары: І.П.*Паромчык*, І.Л.*Сацункевіч*; члены: С.Л.Балабуткін, Р.А.Молчан, Паромчык. Асн. месца базіравання — лес на ПнЗ ад в. Раваніцкая Слабада Чэрвеньскага р-на. Міжрайком кіраваў патрыят. падполлем і партыз. рухам на тэр. Дзяржынскага, Заслаўскага, Мінскага, Пухавіцкага, Рудзенскага і Чэрвеньскага р-наў, фарміраваў і зацвярджаў падп. райкомы, накіроўваў работу *Мінскага падпольнага міжрайкома ЛКСМБ.* Займаўся пытаннямі актывізацыі баявой дзейнасці партыз. атрадаў, арганізацыі на іх базе брыгад, стварэння падп. парт. арг-цый. Сумесна з падп. райкомамі КП(б)Б стварыў у раёнах зону дзеяння некалькіх друкарняў і забяспечыў выпуск газет і лістовак. У 1942 паводле рашэння міжрайкома парт. арг-цыі партыз. атрадаў стварылі 46 агіткалектываў. Пасля выканання сваіх функцый ліквідаваны ЦК КП(б)Б. У гонар міжрайкома каля в. Раваніцкая Слабада пастаўлена стэла (1955), на месцы яго базіравання створаны мемар. комплекс «Разгром» (1982—84). *Аляксей Літвін.*

**МІНСКІ ПАДПОЛЬНЫ МІЖРАЙКОМ ЛКСМБ**. Створаны ЦК ЛКСМБ, дзейнічаў з 18.7.1942 да 22.11.1943 пад кіраўніцтвам *Мінскага падпольнага міжрайкома КП(б)Б* і *Мінскага падпольнага абкома ЛКСМБ* (з 26.6.1943). Сакратары: Я.І.Гукін, С.А.*Пілатовіч*; члены: А.М.Бадзягіна, Л.Г.*Гайдучонак*, П.Ф.Патоцкая, Пілатовіч М.П.Саламацін. Базіраваўся ў партыз. фарміраваннях Мінскай зоны. Кіраваў камсам.-маладзёжным падполлем у Дзяржынску, Мінску, Дзяржынскім, Заслаўскім, Мінскім, Пухавіцкім, Рудзенскім і Чэрвеньскім р-нах.

**МІНСКІ ПАДПОЛЬНЫ РАЁННЫ КАМІТЭТ РКП(б)** у грамадзянскую вайну. Дзейнічаў з 28 лют. да снеж. 1918 пад кіраўніцтвам Паўн.-Зах. абл. к-та РКП(б). Старшыня Б.З.Райцэс, сакратар А.М.Крыніцкі (Бампі), чл. Я.Ф.Пярно, А.С.Славінскі, Л.І.Стронгін, Э.С.Русецкі, Ш.Ш.Ходаш, І.Янюсас і інш. Ахопліваў Мінскі, Ігуменскі, Ашмянскі, Вілейскі, Навагрудскі, Слуцкі, Барысаўскі пав. Кіраваў дзейнасцю Замір'еўскай (старшыня к-та А.К.Залескі), Кайкаўскай (Е.М.Баранаў), Слуцкай (А.М.Вендраў), Барысаўскай, Ігуменскай і Нясвіжскай падп падраённых арг-цый (да 2 тыс. камуністаў). Арганізоўваў і ўзначальваў партыз рух і вёў прапаганду сярод ням. салдат Выкарыстоўваў легальныя сродкі для паліт. работы сярод працоўных. Крыніцкі, Райцэс, Ходаш уваходзілі ў Цэнтр. бюро прафсаюзаў Мінска 1.5.1918 к-т арганізаваў у Мінску дэманстрацыю, 15.7.1918 правёў 1-ю падп. канферэнцыю камуністаў Мінскага р-на, якая прызнала гал. задачай разгортванне ўзбр. барацьбы супраць акупантаў. *Мікалай Сташкевіч.*

**МІНСКІ ПЕДАГАГІЧНЫ ІНСТЫТУТ**. Засн. ў 1922 як пед. ф-т БДУ, з 1931 Бел. дзярж. вышэйшы пед. ін-т. З 1935 Мінскі пед. ін-т (3 ф-ты: сацыяльна-эканамічны, літ.-лінгвістычны, педолагапедагагічны). З 1993 — Бел. дзярж. пед. ун-т (БДПУ), з 1995 імя М.Танка. Да Вял. Айч. вайны падрыхтаваў каля 4 тыс. пед. работнікаў. У 1944 аднавіў работу ў складзе 5 ф-таў. За гады існавання падрыхтаваў больш за 120 тыс. спецыялістаў. У 1997/98 навуч. г. ф-ты: фізічны, матэматычны, прыродазнаўства, гістарычны, бел. філалогіі і культуры, рус. філалогіі, сацыяльнай педагогікі, практычнай псіхалогіі, дэфекталагічны, педагогікі і методыкі пач. навучання, дашкольнага выхавання, муз.-пед., нар. культуры, даўніверсітэцкай падрыхтоўкі і прафес. арыентацыі моладзі. Навучанне дзённае, вячэрняе і завочнае. 63 кафедры, 1960 выкладчыкаў, у т.л. 102 праф. і дактары навук, 620 дацэнтаў і канд. навук. 14 тыс. студэнтаў вучацца па 52 спецыяльнасцях і спецыялізацыях. Аспірантура з 1934, дактарантура з 1992. З 1993 рыхтуе бакалаўраў, з 1994 — магістраў. Кірункі навук. даследаванняў: педагогіка і псіхалогія вышэйшай школы; метадалогія, тэорыя і сучасныя тэхналогіі выхавання; развіццё школы, дашкольнай адукацыі і пед. адукацыі; культура і нац. свядомасць; інфармацыйныя тэхналогіі ў навуч. працэсе пед. ВНУ і школ; праблемы экалагічнай адукацыі; сац.-эканам., паліт. і культ. развіццё Беларусі; узаемасувязь і тыпалагічныя адпаведнасці рус. і бел. літаратур і ўключэнне іх у кантэкст сусв. літаратуры; узбагачэнне і захаванне генафонду на аснове павышэння біял. патэнцыялу раслін; вывучэнне жывёльнага свету запаведных і ахоўных тэр. Беларусі і інш.

Дзейнічаюць студэнцкія творчыя калектывы: нар. студэнцкі тэатр чытальнікаў «Жывое слова», нар. ансамбль цымбалістак «Вярба», аркестр вакальна-інструментальнай музыкі «Спадчына», нар. студэнцкі тэатр «Мы», фальклорны ансамбль «Ярыца», аркестр нар. інструментаў і інш. *Васіль Бондар.*

с-г, у т. л. 2 птушкафабрыкі (пас. Бальшавік, в. Дубаўляны), гандл. фірма «Ждановічы» (в. Кунцаўшчына), 7 прамысл. прадпрыемстваў, у т. л. вытв.-гарбарнае аб'яднанне і з-д перапрацоўкі металалому (пас. Гатава), 95 пачатковых, 6 базавых, 34 сярэднія, 1 спарт., 8 муз. школ, 1 гімназія, 6 школ-інтэрнатаў і дзіцячых дамоў, 48 дашкольных устаноў, 9 санаторыяў-прафілакторыяў і 1 дзіцячая турбаза, 7 бальніц, 3 паліклінікі, 24 амбулаторыі, 10 фельчарска-акушэрскіх пунктаў, 4 санаторыі («Аксакаўшчына», «Астрашыцкі Гарадок», «Крыніца», «Траскоўшчына»), 35 бібліятэк, 44 клубныя ўстановы, конна-спарт. база (в. Ратамка), спарткомплекс «Раўбічы». Выдаецца газ. «Наша жыццё». Археал. помнікі: селішча (*Дворыцкая Слабада*), гарадзішчы (*Банцараўшчына, Гарадзішча, Збаравічы, Лабеншчына*), курганныя могільнікі (в. Анусіна, Бузы, Нялідавічы, Скарынічы). Брацкія магілы сав. воінаў (пас. Міханавічы, в. Абчак, Азярцо, Анопаль, Астрашыцкі Гарадок, Вішнеўка, Каралёў Стан, Ляхаўшчына, Малы Трасцянец, Падгор'е, Ратамка, Сенніца, Старое Сяло, Шчомыслііцы), сав. воінаў і ваеннапалонных (в. Пятрышкі), сав. воінаў і партызан (в. Гатава, Байдакі, Траскоўшчына, Юзуфова), ваеннапалонных, партызан, падпольшчыкаў і мірных жыхароў (в. Баравая), магілы сав. ваеннапалонных (в. Калядзічы), ваеннапалонных і мірных жыхароў (в. Рагава), магілы ахвяр фашызму (в. Вышкава, Вял. Трасцянец, Гатовіна, Ксаверава, Лясіны, Малы Трасцянец, Старое Сяло), партыз. магілкі (в. Сярэдняя). Помнікі землякам (пас. Міханавічы, в. Астрашыцкі Гарадок, Крупіца, Плябанцы, Чурылавічы, Шаршуны), партызанам (в. Сярэдняя, Траскоўшчына), падпольшчыкам (в. Тарасава), што загінулі ў Вял. Айч. вайну. Помнікі архітэктуры 2-й пал. 19 ст.: царква і капліца (в. Астрашыцкі Гарадок), царква (в. Сенніца), касцёл (в. Раўбічы), Троіцкі касцёл (в. Семкаў Гарадок), сядзібы (в. Прылукі, Семкава).

*Літ.*: Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Мінская вобл. Кн. 2. Мн., 1987.

**МІНСКІ САВЕТ РАБОЧЫХ І САЛДАЦКІХ ДЭПУТАТАЎ**. Утвораны 4(17).3.1917 паводле рэзалюцыі служачых Заходнефрантавога к-та Усерас. земскага саюза. У гэты ж дзень абраны Часовы выканаўчы к-т з 9 чал. (з 5 сак. — 11 чал.), старшыня — Б. П. Позерн. 8 сак. Савет выказаў падтрымку Часоваму ўраду пры ўмове захавання ім дэмакр. свабод і падрыхтоўкі склікання Устаноўчага сходу. 10 сак. створаны аб'яднаны Мінскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Яго друкаваным органам сталі «*Известия Минского Совета рабочих и солдатских депутатов*». Да красавіцкага крызісу паліт. лінія Мінскага Савета была ў рэчышчы агульнарас. дэмакр. руху. У пач. мая пры Савеце арганізаваны дэмакр. клуб, з мэтай асветы рабочых і салдат. У маі — пач. чэрвеня адбыліся перавыбары (абрана 265 чал., старшыня — Позерн). Выканаўчы к-т Савета складаўся з 36 чал., па 18 ад рабочых і салдат (пазней прапорцыя змянілася 16:20), з іх 23 сацыял-дэмакраты, 13 эсэраў. З 5 членаў прэзідыума 4 былі бальшавікамі. З перавыбраннем Савета ўзмацніўся яго вайсковы склад, актывізаваліся бальшавікі, на пазіцыі якіх перайшоў і друкаваны орган Савета. 8.7.1917 старшынёй Мінскага Савета абраны бальшавік І. Е. Любімаў. У ліп. з фракцыі сацыял-дэмакратаў выйшлі бальшавікі. Пры Савеце існавалі секцыі: ваенная, рабочая, чыгуначная, культ.-асв., рэдакцыйная, харч., фінансавая і інш. Выканком Савета ўдзельнічаў у дзейнасці Камітэта рэв. арг-цый (13—31 ліп.), у кампаніі па выбарах у гар. думу. 15.8.1917 старшынёй Мінскага Савета абраны К. І. *Ландар*. У выніку перавыбараў (2-я пал. вер. — пач. кастр.) з 337 дэпутатаў Савета 184 былі бальшавікі, 60 эсэраў, 21 меншавік, 21 бундавец, 48 беспартыйных, 3 ад Паалей-Цыена і Аб'яднанай яўр. сацыяліст. рабочай партыі (АЯСРП). Старшынёй застаўся Ландар. У складзе выканкома былі 23 бальшавікі, 7 эсэраў, 4 бундаўцы, 1 паалейцыяніст, 1 ад АЯСРП. 2 месцы пакінуты за прафсаюзамі. Створаны аддзелы: ваенны, эканамічны, агі тацыйны, культ.-асв., сувязі з іншага роднімі і інш. З сак. па кастр. 1917 ад былося не менш як 35 пасяджэнняў Савета. 25 кастр. прэзідыум Савета пастанавіў утварыць рэв. штаб з мэтай прадухілення магчымых беспарадкаў. 2( кастр., даведаўшыся аб падзеях у Пе раградзе, бальшавікі — члены прэзіды ума ад імя выканкома выдалі «Загад N 1. Да насельніцтва гор. Мінска і яго на ваколляў», дзе заяўлялася пра перахо улады да Мінскага Савета. Вызвален з турмы і гаўптвахтаў салдаты (каля 80 чал.) былі аб'яднаны ў Першы *Рэвалю цыйны імя Мінскага Савета полк*. Пэу ную дапамогу бальшавікам аказалі сал даты 37-га і 289-га палкоў, са склад якіх былі вылучаны каравулы, патрулі нарады на пошту, тэлефон, тэлеграф і штаб фронту. 27 кастр. выйшаў «*Бюлле тень Минского Совета рабочих и сол датских депутатов*» з «Загадам № 1» «Дэкрэтам аб міры» і інш. публікацыя мі. У 2-й пал. таго ж дня члены выкан кома — небальшавікі асудзілі дзейнасц прэзідыума. Лідэры Савета былі выму шаны прызнаць уладу *Камітэта выра*

ствау і чыгунак З 1925 чыгуналцейны і маш -буд з-д «Металіст» У 1928 да яго далучаны з-д «Усход» і с -г майстэрні і створаны маш -буд з-д «Камунар», які выпускаў невял свідравальныя станкі, каменедрабілкі, тачкі, ціскі і інш З 1934 выпускае металарэзныя станкі, прысвоена імя С М Кірава У Вял Айч вайну разбураны З 1947 выпускаў базавыя мадэлі працяжных і адразных станкоў розных відаў і мадыфікацый У 1970 асвоены серыйны выпуск працяжных гарызантальных станкоў розных мадэлей З 1973 дзейнічае філіял з-да ў г п Халопенічы 8 работнікам завода прысуджана Дзярж прэмія БССР 1978 У 1974 на Лейпцыгскім кірмашы гарызантальна-падоўжнаму станку 7Б56 прысуджаны залаты медаль Станкі экспартаваліся (1980) у 15 краін, у т л ў Францыю, Індыю, Бразілію, Вялікабрытанію і інш Асн прадукцыя металарэзныя станкі працяжныя, адразныя, спецыяльныя У 1978—92 галаўное прадпрыемства Мінскага вытв аб'яднання па выпуску працяжных і адразных станкоў З 1992 пачаўся выпуск дрэваапрацоўчага абсталявання Завод мае бібліятэку, пункт аховы здароўя, 2 дашкольныя ўстановы, дзіцячы лагер

**МІНСКІ ТРАКТАРНЫ ЗАВОД** Засн у 1946 З 1975 галаўное прадпрыемства вытв аб'яднання «Мінскі трактарны завод» (ВА «МТЗ», мае 4 з-ды-філіялы Віцебскі трактарных запчастак, Бабруйскі трактарных дэталей і агрэгатаў, Мінскі спец інструменту і тэхналагічнай аснасткі, Смаргонскі агрэгатны) З 1948 вырабляў пускавыя рухавікі, з 1950 — гусенічныя с -г і тралевачныя трактары, з 1953 — колавыя с -г трактары «Беларусь» на пнеўматычных шынах, з 1961 — трактар МТЗ-50 магутнасцю 55 к с , з 1974 — МТЗ-80 (75—80 к с ), у 1984 — МТЗ-100 і МТЗ-102 (100 к с ), пазней — «Беларусь-1025», у 1993—94 — мадэрнізаваныя трактары серыі 900 (81—90 к с ), з 1995 — «Беларусь-1221» (130 к с ) У 1981 пачаў выпуск сям'і міні-тэхнікі — мотаблокі (6—8 к с ), міні-трактары (12—16 к с ), малагабарытныя трактары (16—35 к с ) У 1995 выпусціў 3-мільенны трактар і 500-тысячны экспартны трактар «Беларусь» На 1 1 1998 вырабляе 44 мадэлі трактарнай тэхнікі, у т л колавыя трактары магутнасцю ад 50 да 130 к с і іх мадыфікацыі, малагабарытныя трактары і міні-тэхніку (ад 6 да 35 к с ), тэхніку спец прызначэння камунальныя, пагрузачныя, лесаапрацоўчыя машыны, колавы транспарт для шахтаў, універсальнае шасі, запчасткі да трактароў, тавары нар ўжытку Экспартам прадукцыі больш чым у 60 краін свету займаецца 13 уласных і змешаных акцыянерных т-ваў, 30 фірм-агентаў за мяжой і 140 дылерскіх цэнтраў у краінах СНД

ВА «МТЗ» узнагароджаны міжнар прызам «Залаты Меркурый» На міжнар выстаўках і кірмашах трактары «Беларусь» атрымалі 27 медалеў, у т л 24 залатыя

Будынак **Мінскага царкоўна-археалагічнага музея**

**МІНСКІ ЦАРКОЎНА-АРХЕАЛАГІЧНЫ МУЗЕЙ** Існаваў у 1908—15 пры *Мінскім царкоўным гісторыка-археалагічным камітэце* З 1909 музеем кіраваў А К *Снітка*, які за свой кошт пабудаваў для яго будынак Экспазіцыя мела 1363 экспанаты (1910), сярод іх рэчы царк даўніны, рэліг культу, тэксты нар песень, казак, паданняў, матэрыялы этнагр экспедыцый, па гісторыі гербаў і пячатак, каля 500 стараж манет, археал знаходкі з раскопак пад Пінскам, Радашковічамі, Слуцкам, Туравам Сярод збораў кніжнага фонду (каля 1900 тамоў, 1910) Апостал і Тыпікон (16 ст ) Мінея агульная (канец 17 ст ), Сінопсіс (18 ст ), архіў Слуцкага Троіцкага (Трайчанскага) манастыра У музеі зберагалася частка калекцыі бел археолага Г Х.*Татура* У пач 1-й сусв вайны экспанаты музея былі эвакуіраваны ў Казань (Расія), у 1922 вернутая частка фонду і 250 кніг трапілі ў царк аддзел Бел дзярж музея, астатнія выданні кніжнага фонду перададзены дзярж б-цы, архівы — цэнтр архіву Некат рэчы і рукапісы зберагаюцца ў Нац музеі гісторыі і культуры Беларусі

*Літ* Записки Северо-Западного отдела имп Русского географического общества Кн 1 Вильна, 1910, Шыбека З В Шыбека С Ф Мінск Старонкі жыцця дарэв горада Мн , 1994 *Аляксандр Жмуроўскі*

**МІНСКІ ЦАРКОЎНЫ ГІСТОРЫКА-АРХЕАЛАГІЧНЫ КАМІТЭТ** Дзейнічаў з лют 1908 да пач 1-й сусв вайны Створаны ў Мінску Сінодам пры Мінскай епархіі па ініцыятыве інтэлігенцыі для збору і вывучэння старажытнасцей на тэр Міншчыны Кіраўнікі М М Былоў, з 1909 А К *Снітка* К-т праводзіў даследаванні і апісанні помнікаў даўніны і гісторыі, збор і запісы фальклору вывучэнне манастырскіх архіваў, меў бібліятэку і *Мінскі царкоўна-археалагічны музей* Члены к-та чыталі лекцыі па гісторыі і культуры Беларусі У яго рабоце ўдзельнічалі вядомыя навукоўцы Д І.*Даўгяла* і А.А Шахматаў К-т выдаў зб дакументаў «*Мінская даўніна*» і 1 ы вып кнігі «Апісанне рукапіснага аддзела і старадрукаў бібліятэкі Мінскага царкоўнага гісторыка-археалагічнага камітэта» (1909)

*Літ* Записки Северо-Западного отдела имп Русского географического общества Кн 4 Вильна, 1914, Шыбека З В , Шыбека С Ф Мінск Старонкі жыцця дарэв горада Мн , 1994 *Аляксандр Жмуроўскі*

**«МИНСКИЕ ВЕДОМОСТИ»**, штотыднёвая паліт і літ газета афіцыезнага вялікадзярж , шавіністычнага кірунку, неафіц частка «*Минских губернских ведомостей*» Выдавалася з 11(24) 7 да 25 12 1911(7 1 1912) у Мінску на рус мове Падтрымлівала палітыку П А Сталыпіна, выступала супраць рэв руху, прапагандавала адзінства царызму і народа, аднак імкнулася стрымліваць чарнасоценны экстрэмізм газ «*Минское слово*» Друкавала творы Д.Д *Бохана* (вершы, гіст аповесць «У мінскім трыбунале», краязнаўчыя нарысы), вершы эцюды, допісы мясц аўтараў Змяшчала «Літаратурныя нататкі» Б Талазанава з нападкамі на светапогляд і творчасць Л Талстога, асабліва на яго драму «Жывы труп» (10 і 17 10 1911) Пераўтворана ў газ «*Минские ежедневные ведомости*» *Уладзімір Конан*

**«МИНСКИЕ ГУБЕРНСКИЕ ВЕДОМОСТИ»**, афіцыйная газета Выдавалася ў 1838—1917 у Мінску губ праўленнем на рус мове 1—2 разы на тыдзень У сувязі з 1-й сусв вайной з 10 9 1915 па 5 10 1916 не выходзіла Мела афіцыйны (1-ы) і неафіцыйны (2-і) аддзелы У 1838—44 і з 1912 друкавалася толькі афіц частка з дадаткамі, у 1845—1911 — абедзве часткі, з 11(24) 7 да 25 12 1911 (7 1 1912) толькі неафіц частка пад назвай «*Минские ведомости*» У афіц частцы змяшчаліся паведамлен-

ні і ўказы ўрада, распараджэнні губ. улад, аб'явы, у дадатках — спісы асоб, якіх шукалі ўлады, звесткі аб таргах. У неафіц. частцы друкаваліся гіст., этнагр., статыстычныя матэрыялы, артыкулы і інш. звесткі. Сярод іх змешчаны гіст. артыкулы: «Алена Іаанаўна», «Статыстычныя звесткі пра Пінскі павет» (абодва 1847); «Статыстычныя звесткі пра Мінскую губерню» (1850); «Аб грэка-уніяцкай царкве ў Заходнім краі» [успаміны архіепіскапа Антонія (Зубко); 1864]; «Гістарычны нарыс Мінскай губерні» (1866); «Гістарычна-статыстычныя нататкі аб г. Барысаве» (1868); «Нарысы Беларускага Палесся» (1868—69); «Гістарычны нарыс мястэчка Турава, былой сталіцы Тураўскага княства» М.А.Гаўсмана, «Тураў і Тураўшчына», «Гістарычны нарыс Навагрудка», «Нарыс сяла Грабава Мазырскага павета» (усе 1877); «Мястэчка Заслаўль, ці Ізяслаў, горад нашчадкаў Рагнеды» Р.Г.Ігнацьева, «Знаходкі ў курганах Барысаўскага і Ігуменскага паветаў» Г.Х.Татура (усе 1878), «Мінская хроніка» (1879); «Рэчыца» (1880); «Мінск, яго мінулае і сучаснасць» (1891); «Нарыс археалагічных помнікаў на прасторы Мінскай губерні...» Татура (1891—92); «Археалагічнае вывучэнне Мінскай губерні» М.В.Доўнар-Запольскага (1892) і інш.

*Алена Філатава.*

**«МІ́НСКИЕ ЕЖЕДНЕ́ВНЫЕ ВЕ́ДОМОСТИ»**, штодзённая паліт., эканам. і літ. газета праваакцябрысцкага кірунку. Выдавалася з 1(14).1 да 16(29).6.1912 у Мінску на рус. мове. Абвясціла сябе «незалежнай» газетай. Працягвала праграму газ. «*Минские ведомости*». Выступала супраць рэв. руху, бальшавікоў (29 лют. і 6 крас.). Прапагандавала сталыпінскую аграрную палітыку. Надрукавала юбілейныя артыкулы пра А.Герцэна (29 сак.), І.Ганчарова (6 чэрв.), дзе падкрэслівала іх рускі патрыятызм, але пазбягала асвятлення рэв.-дэмакр. ідэалогіі, прынцыпаў крытычнага рэалізму. З «ахоўніцкіх» пазіцый крытыкавала творчасць М.Арцыбашава (17 лют.), Н.Вярбіцкай (30 сак.) і інш. прадстаўнікоў натуралізму і мадэрнізму, прылічвала да гэтых кірункаў пісьменнікаў-рэалістаў М.Горкага, Л.Андрэева, А.Купрына, проціпастаўляла ім творчасць А.Пушкіна, І.Тургенева, Л.Талстога, Ф.Дастаеўскага (18 мая). Пераўтворана ў газ. «*Минское русское слово*».

*Уладзімір Конан.*

**«МІ́НСКИЕ ЕПАРХИА́ЛЬНЫЕ ВЕ́ДОМОСТИ»**, часопіс *Мінскай праваслаўнай епархіі*. Выдаваліся ў 1869—1917 у Мінску на рус. мове 2 разы на месяц (у 1871—72 штотыднёва). Мелі афіц. аддзел і неафіц. «Приложения». У афіц. аддзеле змяшчаліся паведамленні аб рабоце Сінода, распараджэнні па епархіі, указы аб перамяшчэннях і ўзнагародах свяшчэннаслужыцеляў, некралогі, справаздачы епархіяльнага ўпраўлення аб рабоце сваіх структур (царк., гасп., навуч.), асвятлялася жыццё манастыроў і царк. прыходаў. У «Приложениях» публікаваліся творы вядомых дзеячаў правасл. царквы, павучанні і прапаведзі айцоў царквы, артыкулы па царк. гісторыі і археалогіі, паведамленні аб дзейнасці царк. брацтваў і сястрыцтваў, духоўных асветных і дабрачынных устаноў. Вял. ўвагу «Ведомости» аддавалі місіянерскай дзейнасці сярод стараабрадцаў і сектантаў, змяшчалі рэкламу аб новых кнігах, рабоце рэстаўрацыйных майстэрняў. У 1989 выданне «М.е.в.» адноўлена.

*Ларыса Салодкіна.*

**«МІ́НСКИЙ ГО́ЛОС»**, штодзённая грамадска-паліт. газета ліберальна-буржуазнага кірунку. Выдавалася з 1(14).11.1909 да 29.11.1918 у Мінску на рус. мове. Рэдактары Л.Штэйнберг, М.Верасаў, В.Тасьман, І.Альпяровіч, Ш.Эфрон. Выдавец Тасьман. Рэдакцыя абвясціла газету «прагрэсіўным, незалежным» органам мясц. грамадства, якому «дарагія інтарэсы ўсіх нацыянальнасцей, што засяляюць наш горад і край» (13.1.1911). Асвятляла міжнар. і ўнутр. становішча Расіі, дзейнасць Дзярж. думы, грамадска-побытавыя праблемы Мінска і губерні, адстойвала інтарэсы яўр. абшчыны, выкрывала нападкі газ. «*Минское слово*» і рас. «Нового времени» на яўрэяў, палякаў і на бел. культ.-нац. рух, выступала за правы беларусаў на сваю нац. мову і культуру (26.8.1910). Надрукавала артыкул рэдактара «Нашай нівы» А.Уласава «Край з пяццю нацыянальнасцямі» пра неабходнасць мірнага супрацоўніцтва ўсіх народаў краю і развіцця іх культур (20.6.1912, крыпт. А.У.). Знаёміла чытачоў з узорамі бел. паэзіі. Апублікавала ў перакладзе на рус. мову вершы Я.Купалы «Я не паэта» (21.11.1910, перакладчык пад псеўд. Homo), М.Багдановіча «Мая душа» (2.5.1910, перакладчык пад псеўданімам Кле), рэцэнзію на зб. вершаў А.Гаруна «Матчын дар» і яго верш «Хто сказаў: «і я з народам...» у перакладзе на рус. мову (31.7 і 10.8.1918, пад псеўд. Беларус). Асн. частку літ. аддзела адводзіла прапагандзе рус. і яўр. л-ры, у т.л. творчасці В.Бялінскага, А.Герцэна, М.Горкага, Л.Андрэева, крытычнаму агляду рус. літ. выданняў.

*Уладзімір Конан.*

**«МІ́НСКИЙ КУРЬЕ́Р»**, штодзённая грамадска-паліт. і літ. газета ліберальна-асв. кірунку. Выдавалася ў Мінску з 27.1(9.2) да 8(21).10.1908 на рус. мове. Выдавец В.І.*Чавусаў*, рэдактар Е.А.Воліна, з жн. 1908 рэдактар-выдавец Чавусаў. З 6(19) чэрв. да 22 жн. (4 вер.)не выходзіла. Працягвала дэмакр. традыцыі газ. «*Минский листок*» і «*Северо-Западный край*», арыентавалася на мясц. прагрэсіўную інтэлігенцыю. Цэнзура характарызавала яе як выданне «рэзка апазіцыйнага кірунку без яснай і пэўна вызначанай праграмы якой-небудзь партыі, з ухілам да чыста рэвалюцыйных выхадак». Крытыкавала грамадска-паліт. лад Расіі, выкрывала рэакц. палітыку правых партый і груповак. Рэдактара і выдаўца неаднаразова судзілі за апазіц. выступленні, абарону паліт. зняволеных, падтрымку студэнцкага і рабочага руху. Выступала за скарачэнне рабочага дня, павышэнне зарплаты, інтэнсіфікацыю вытв-сці шляхам механізацыі працаёмкіх працэсаў, нац. раўнапраўе. У цыкле нарысаў пад назваю «Да характарыстыкі перажываемага моманту» (28 лют. — 8 сак.) і шэрагу перадавіц выкрывала чарнасоценныя арг-цыі, крытыкавала утапізм бальшавікоў і здраду дэмакратыі з боку былых лідэраў кадэтаў. Асвятляла літ., тэатр. і муз. жыццё Расіі і Мінскай губ., прапагандавала рэаліст. і дэмакр. традыцыі рус. л-ры. У шэрагу артыкулаў У.Самойлы, М.Караліцкага, Н.Чарноцкага аб'ектыўна ацаніла сімвалізм, рэалізм, авангардысцкія плыні ў л-ры (Л.Андрэеў, З.Гіпіус, М.Арцыбашаў), драматургіі і тэатры (У.Меерхольд, М.Метэрлінк, Г.Ібсен, М.Горкі), крытыкавала сац. спрашчэнні марксісцкай крытыкі. Апублікавала артыкулы супрацоўнікаў рэдакцыі Самойлы («Нататкі», 1 і 7 лют.) і Чарноцкага («Да пытання пра беларускую народную школу», 10 крас.) у абарону бел. мовы ў школе. Самойла крытыкаваў нацыяналізм як паліт. дактрыну, абараняў усебаковае развіццё ўсіх нацыянальнасцей, выкрываў паліт. даносы газ. «*Минское слово*» (1 крас.). Газета ўпершыню надрукавала ў рус. перакладзе Самойлы верш Я.Купалы «Белорусу» (13 крас.) і арт. Самойлы «Вялікае свята» (23 жн.), у якім аўтар вітаў выхад зб. паэзіі Я.Купалы «Жалейка» і апублікаваў яго верш «Да мужыка». Чарноцкі звярнуў увагу на паэт. творы Я.Коласа ў «Нашай ніве».

*Літ.*: Александровіч С. Пуцявіны роднага слова. Мн., 1971. С. 182—193; Конон В.М. Проблемы искусства и эстетики в общественной мысли Белоруссии начала XX в. Мн., 1985. С. 107—136.

*Уладзімір Конан.*

**«МІ́НСКИЙ КУРЬЕ́Р»**, штодзённая «беспартыйная» газета ліберальна-буржуазнага антысав. кірунку. Выдавалася з 26.8.1919 да ліп. 1920 (апошнія нумары не знойдзены) у Мінску на рус. мове з дазволу польск. акупацыйных улад. Выдавец і рэдактар А.І.Гзоўскі (рэд. псеўд. Б.Ольгінскі). Рэдакцыя арыентавалася на дапамогу польск. легіёнаў у вызваленні Расіі ад бальшавіцкай улады, рэкамендавала грамадскасці «не забываць той вялікай паслугі, якую аказала нам наша заходняя суседка» Польшча, пад крылом якой «мы захаваем свае нацыянальныя рысы, зможам дасягнуць высокай ступені культуры і эканамічнага дабрабыту» (26.8.1919). Апублікавала зварот Ю.Пілсудскага «Да жыхароў былога Вялікага княства Літоўскага» і каментарыі да яго ген. камісара Усх. зямель Г.Асмалоўскага (26.8.1919). Заклікала падтрымаць Польшчу, Калчака, Дзянікіна ў іх барацьбе супраць Сав. Расіі, асуджала тэрор бальшавікоў супраць сваіх паліт. праціўнікаў, крытыкавала краіны Антанты за курс на прымірэнне з бальшавіцкім рэжымам (арт. «Небяспечны крок», 5.9.1919). Шмат увагі аддавала

пус (1917) дырэктар, інспектар, 3 законанастаўнікі, 12 выкладчыкаў Вучэбныя прадметы рус, ням і франц мовы, гісторыя, геаграфія, камерцыя, бухгалтэрыя, палітэканомія, гісторыя гандлю, хімія, тавараэнаўства, каліграфія законазнаўства, матэматыка, фізіка прыродазнаўства, маляванне, гімнастыка Восенню 1915 эвакуіравана ў Маскву Закрыта ў 1917 У 1920-х г памяшканне заняў пед ін-т

Мінскае 1-е вышэйшае пачатковае вучылішча Пераутворана ў 1913 з 4-класнага гар вучылішча (створана ў 1819 з Рэчыцкага павятовага вучылішча) Утрымлівалася за кошт казны і платы за навучанне У 1915 вучылася 209 юнакоў, выкладчыцкі корпус інспектар і 11 выкладчыкаў (выхаванцы Маскоўскай духоўнай акадэміі, Панявежскай настаўніцкай семінарыі, Віленскага і Віцебскага настаўніцкіх ін таў, Мінскай духоўнай семінарыі) Вучэбныя прадметы законавучэнне правасл і каталіцкага веравызнанняў, геаграфія, гісторыя, прыродазнаўства, матэматыка, геаметрыя, рус, царк слав, ням і франц мовы, маляванне чарчэнне, спевы, гімнастыка Закрыта ў пач 1917

Мінскае 2-е вышэйшае пачатковае вучылішча Пераутворана 1 1 1913 з 4-класнага гар вучылішча (адкрыта 1 7 1905) Утрымлівалася за кошт казны, сродкаў гар думы і Лібава Роменскай чыг, платы за навучанне У 1913 вучылася 207, у 1915 — 200 юнакоу Выкладчыцкі корпус інспектар і 11 выкладчыкаў (выхаванцы Віленскага настаўніцкага ін-та, Мінскага рэальнага вучылішча, Беластоцкага ін та шляхетных дзяўчат) Вучэбныя прадметы законавучэнне правасл і каталіцкага веравызнанняў, геаграфія, гісторыя, прыродазнаўства, матэматыка, геаметрыя, графіка, рус, царк-слав, ням франц мовы, маляванне, чарчэнне спевы, гімнастыка Закрыта ў 1916

Мінскае 3-е вышэйшае пачатковае вучылішча Пераутворана 1 1 1913 з 4-класнага гар вучылішча (адкрыта 1 9 1907) Утрымлівалася за кошт казны, сродкаў гар думы і платы за навучанне У 1913 вучылася 186, у 1915 — 172 юнакі Выкладчыцкі корпус (1915) інспектар і 11 выкладчыкау (выхаванцы Віленскага і Маскоўскага настаўніцкіх ін-таў, Мінскай духоўнай і Полацкай настаўніцкай семінарый) Вучэбныя прадметы законавучэнне правасл і каталіцкага веравызнанняў, геаграфія, гісторыя, прыродазнаўства, матэматыка, геаметрыя, графіка, рус, царк-слав, ням, франц мовы, маляванне, чарчэнне спевы, гімнастыка У 1916—17 сюды пераведзены частка выкладчыкаў і выхаванцаў 1-га і 2-га вышэйшых пач вучылішчаў Закрыта ў 1918

Мінскае 1-е жаночае гарадское вучылішча Пераўтворана ў 1906 з 3-класнага вучылішча (адкрыта ў 1880) Мела 4 класы З 1883 пры вучылішчы дзейнічалі нядзельныя жаночыя курсы, якія знаходзіліся пад наглядам Мінскага епархіяльнага вучылішчнага савета Закрыта ў 1916

Мінскае 2-е жаночае гарадское вучылішча Пераўтворана ў 1906 з 3-класнага вучылішча (адкрыта 20 2 1897) Мела 4 класы У 1909 пры вучылішчы адкрыты 2-гадовыя жаночыя пед курсы з пач вучылішчам, якія ўтрымліваліся за кошт казны і дапамогі земства Навучанне бясплатнае У 1912 вучылася 55 дзяўчынак Рыхтавала настаўніц для пач школ Мінскай губ Выкладчыцкі корпус загадчыца, наглядчыца, яе памочніца, законанастаўнік і 8 выкладчыкаў (большасць з іх мела дыпломы хатніх настаўнікаў) Вучэбная праграма была набліжана да курса мужчынскіх настаўніцкіх семінарый Вучэбныя прадметы рус і царк-слав мовы, педагогіка, прыродазнаўства, фізіка, гігіена, гісторыя, геаграфія, спевы, рукадзелле, гімнастыка, маляванне Закрыта ў 1918

Мінскае 3-е жаночае гарадское вучылішча Рэарганізавана ў 1909 з 2-класнага жаночага прыходскага вучылішча з рукадзельным аддзяленнем Мела 4 класы У 1911 пры вучылішчы арганізавана прафес аддзяленне Разам з агульнаадук прадметамі выкладаліся кравецкае і белашвейнае рамествы, чарчэнне, рукадзелле, маляванне У 1914 пры вучылішчы дзейнічала жаночая нядзельная школа Мінскага аддз Рас т-ва аховы жанчын Закрыта ў 1918

Мінскае прыватнае жаночае камерцыйнае вучылішча І І Самойлы Адкрыта ў 1905 Падпарадкоўвалася Мін-ву гандлю і прам-сці Прымаліся асобы жаночага полу ўсіх саслоўяў і веравызнанняў Навучанне платнае Тэрмін навучання — 7 гадоў Вучэбныя прадметы Закон Божы, рус, франц, ням мовы, арыфметыка, алгебра, геаметрыя, трыганаметрыя, фізіка, заалогія батаніка, мінералогія, анатомія і фізіялогія, прыродазнаўства, геаграфія, гісторыя, хімія, тавараэнаўства, камерц арыфметыка і геаграфія, бухгалтэрыя, паліт эканомія, законазнаўства, маляванне, рукадзелле Выдатніцы ўзнагароджваліся залатымі і сярэбранымі медалямі У сувязі з недахопам навучэнцаў мела фін цяжкасці Закрыта ў 1913

Мінскае прыватнае яўрэйскае рэальнае вучылішча Э М Хайкіна Засн ў жн 1907 Мела прыходскі і 7 асн класаў Утрымлівалася за кошт платы за навучанне У 1911 вучылася 302, у 1913 — 310, у 1915 — 325 юнакоў Выкладчыцкі корпус (1915) загадчык і 16 выкладчыкаў (выхаванцы ун-таў Масквы, Варшавы, Юр'ева, Віленскага яўр настаўніцкага ін-та, Казанскай духоўнай акадэміі, Разанскай духоўнай семінарыі) Вучэбныя прадметы законы яўр веры, рус, ням, франц мовы, гісторыя, геаграфія, прыродазнаўства, хімія, матэматыка, законазнаўства, чарчэнне, чыстапісанне,ваен гімнастыка, спевы Восенню 1915 эвакуіравана ў Пензу Закрыта ў 1918

Мінскае змешанае пачатковае вучылішча для

Да арт **Мінскія вучылішчы** Будынак 1-га чатырохкласнага гарадскога вучылішча (з 1913 1-е вышэйшае пачатковае вучылішча) Пач 20 ст

Да арт **Мінскія вучылішчы** Будынак Мінскага мужчынскага камерцыйнага вучылішча Пач 20 ст

дзяцей служачых на Аляксандраўскай чыгунцы Адкрыта 1 9 1913 Утрымлівалася за кошт Аляксандраўскай чыгункі Плата за навучанне залежала ад колькасці дзяцей у сям'і (плацілі толькі за першых 3 дзяцей) і заробку служачага (не больш за 2%) Выкладчыцкі корпус (1915) інспектар і 7 выкладчыкаў (выхаванцы духоўных семінарый Магілева, Чарнігава, Палтавы, Віленскага настаўніцкага ін-та, Пецярбургскага Елізавецінскага ін-та) Вучэбныя прадметы рус, ням, франц мовы, гісторыя, геаграфія, прыродазнаўства, матэматыка, мастацтва, рукадзелле, гімнастыка, спевы Восенню 1915 эвакуіравана ў Маскву Закрыта ў 1918

Мінскае вучылішча рамесных вучняў Адкрыта ў 1896 Знаходзілася пры гар кіраўніцтве Утрымлівалася за кошт казны і платы за навучанне Мела 3 аддзяленні слясарна-кавальскае, сталярна-такарнае і ліцейнае 12 1 1902 пры вучылішчы арганізавана чыгуналіцейная майстэрня У 1907 вучылася 100, у 1915 — 108 юнакоў Выпускнікі працавалі на чыгунцы і машынабудаўнічых заводах горада Выкладчыцкі корпус (1915) інспектар і 6 выкладчыкаў (выхаванцы Пецярбургскага рамеснага вучылішча, Свіслацкай настаўніцкай семінарыі Мінскага 3-га вышэйшага пач вучылішча) Вучэбныя прадметы рус і лац мовы, законавучэнне правасл і каталіцкага веравызнання, матэматыка, геаграфія, гісторыя, чыстапісанне, спевы, геаметрыя, фізіка, чарчэнне, маляванне слясарнае, сталярнае, чыгуналіцейнае майстэрства Восенню 1915 эвакуіравана ў Тулу Закрыта ў 1918

Мінскае духоўнае мужчынскае вучылішча Падпарадкоўвалася Камісіі па духоўных вучылішчах пры св Сінодзе Засн 12 3 1834 як духоўнае 4-класнае пав вучылішча з прыходскай 2-класнай школай пры Казанскай царкве Рыхтавала да паступлення ў духоўныя семінарыі Выкладчыцкі корпус (1916) наглядчык яго памочнік і 8 выкладчыкаў Вучэбныя прадметы рус, грэчаская і царк слав мовы, прыродазнаўства, матэматыка, латынь, гісторыя, геаграфія, катэхізіс, царк статут, спевы Закрыта ў 1917

Мінскае духоўнае жаночае вучылішча Падпарадкоўвалася Камісіі па духоўных вучылішчах пры св Сінодзе Засн ў 1867 пры Вазнясенскай царкве Мела 7 класаў Выкладчыцкі корпус (1916) начальніца, 7 выхавальніц і 8 выкладчыц Вучэбныя прадметы рус, франц, грэчаская і царк-слав мовы, прыродазнаўства матэматыка, дыдактыка, фізіка, касмаграфія, гігіена, латынь, гісторыя геаграфія, катэхізіс, царк статут, спевы, музыка Закрыта ў 1917

Акрамя названых у Мінску дзейнічалі 12 пачатковых і сярэдніх вучылішчаў прыватныя — гандлёвае, рамеснае, зубалячэбнае, фельчарска-акушэрскае, музычнае, свецкія — чыгуначнае, для сляпых і інш Закрыты ў 1916—18 (частка эвакуіравана ў Расію)

*Літ* Памятная книжка Виленского учебного округа на 1915 г Вильна, 1915, Пастухова З А Среднее образование в дореволюционной Белоруссии Мн, 1963, Устав Минского семиклассного коммерческого училища Мн 1901 Шыбека З В, Шыбека С Ф Мінск Старонкі жыцця дарэв горада Мн 1994

*Наталля Новік, Андрэй Самусік*

**МІНСКІЯ ГІМНАЗІІ** Існавалі ў 1803—1918 Уваходзілі ў склад Віленскай і Бел навуч акруг

Мінская мужчынская гімназія Адкрыта 24 1 1803 на месцы Мінскай губ школы (створана ў 1773 з *Мінскага езуіцкага калегіума*) Мела 6 класаў (з 1804 — 7-класная), быў дырэктар, 6 выкладчыкаў і 195 вучняў У час вайны 1812 будынкі гімназіі заняты франц, потым рус войскамі пад шпіталь (заняткі праходзілі ў інш памяшканні) У 1822 раскрыта тайнае т ва, у якое ўваходзілі большасць вучняў і некат выкладчыкі (дзейнічала з 1819, статут напісалі А Міцкевіч і Т Зан) З 1833 выпускнікі гімназіі атрымалі права на 14-ы чын пры ўмове добрага ведання рус мовы і славеснасці 3 1 1834 гімназія атрымала агульнаімперскі статут 1828 У 1835 пажар знішчыў будынкі гімназіі (новыя пабудаваны да 1844) У 1842—62 пры гімназіі дзейнічаў шляхетны пансіён З 1839 забаронена выкладанне на польск мове З 1849 старэйшыя класы (4—7) падзелены на 2 аддзяленні для тых, хто жадае паступіць ва ун-т (выкладаліся лац і грэч мовы), і тых, хто абраў грамадз службу (больш дасканала вывучалася законазнаўства) У час паўстання 1863 ў гімназіі дзейнічаў камітэт пад кіраўніцтвам вучня 7-га класа Салістроўскага, які займаўся вярбоўкай паўстанцаў і зборам ахвяраванняў Пасля падаўлення паўстання колькасць выхаванцаў скарацілася з 624 у 1862 да 325 у 1866 Рэарганізавана ў 1863 і 1871 У пач 1880-х г у гімназіі дзейнічаў гурток народавольцаў пад кіраўніцтвам А В *Бонч-Асмалоўскага* У пач 20 ст утрымлівалася за кошт казны, збораў за навучанне і прыватных ахвяраванняў Пры гімназіі дзейнічала царква, царк і свецкі хоры змешаны і духавы аркестр, фіз, прыродазнаўчы і мінералагічны кабінеты Каля 10% бедных вучняў займалася бясплатна У 1905 у гімназіі адбыліся хваляванні выхаванцаў (16—21 лют арганізавана забастоўка), якія працягваліся і ў 1906 Частка вучняў выключана (16 юнакоў за ўдзел у маніфестацыі 27 2 1906) і пазней арыштавана У 1890 вучылася 510, у 1913 — 640, у 1915 — 690 юнакоў У 1915 гімназіяй кіраваў дырэктар, якому дапамагалі інспектар 6 законанастаўнікаў, 26 выкладчыкаў (выхаванцы ун-таў Варшавы, Юр'ева Адэсы, Масквы, Пецярбурга, Харкава, Кіева, Пецярбургскіх духоўнай акадэміі і гіст-філал ін-та, Нежынскага і Віленскага настаўніцкага ін-таў, Палтаўскай духоўнай семінарыі, Варшаўскай кансерваторыі) Вучэбныя прадметы рус мова і славеснасць, латынь, гісторыя філасофія, законазнаўства, матэматыка фізіка, геаграфія, прыродазнаўства, маляванне, чыстапісанне, спевы, музыка ням і франц мовы Восенню 1915 эвакуіравана ў Маскву Спыніла дзейнасць у 1918 Сярод выхаванцаў І Л Неслухоўскі (*Я Лучына*) і А І Лявіцкі (*Ядвігін Ш*)

Мінская жаночая гімназія Адкрыта 12 8 1899 як 8-класная (8-ы клас педагагічны) Утрымлівалася за кошт сродкаў гар думы і платы за

Да арт **Мінскія гімназіі** Будынак Мінскай жаночай Марыінскай гімназіі Пач 20 ст

Да арт **Мінскія гімназіі** Будынак Мінскай жаночай прыватнай гімназіі В І Лявіцкай Пач. 20 ст

навучанне У кастр 1905 адбылюя хваляванні, улады звярнулюя за дапамогай да казакоў і паліцыі У 1907 вучылася 482, у 1911 — 625, у 1913 — 651, у 1915 — 704 дзяўчынкі Выкладчыцкі корпус начальнік, гал. наглядчыца, 3 законанастаўнікі, 20 выкладчыкаў, 15 класных наглядчыц (выхаванцы ун-таў Пецярбурга, Юр'ева, Магілеўскай духоўнай семінарыі, Пецярбургскіх духоўнай акадэміі і жаночай гімназіі, Царскасельскага жаночага вучылішча, Херсонскіх пед і Віленскіх Марыінскіх вышэйшых жаночых курсаў, Пензенскага маст вучылішча) Вучэбныя прадметы рус, ням, франц і лац мовы, педагогіка, матэматыка, фізіка, гісторыя, прыродазнаўства, геаграфія, чыстапісанне, маляванне, рукадзелле, музыка, танцы, гімнастыка Ліквідавана ў адпаведнасці з дэкрэтам Сав ўрада ад 16 10 1918 Памяшканне аддадзена сярэдняй школе № 1 У гімназіі вучылася вядомая артыстка С М *Станюта*

Мінская жаночая Марыінская гімназія Падпарадкоўвалася ведамству ўстаноў імператрыцы Марыі Адкрыта ў 1899 Ганаровы папячыцель — мінскі губернатар У 1912 вучылася 560 дзяўчынак Выкладчыцкі корпус начальнік, гал наглядчыца, 20 выкладчыкаў, 14 класных наглядчыц Вучэбныя прадметы рус. мова і славеснасць, фізіка, гісторыя, педагогіка, маляванне, законазнаўства, матэматыка, прыродазнаўства, гігіена, касмаграфія, геаграфія, чыстапісанне, рукадзелле, спевы, танцы, ням і франц мовы Восенню 1915 эвакуіравана ў г Прапойск (Слаўгарад) Магілеўскай губ Закрыта ў 1918 У 1920—30-х г у памяшканні гімназіі знаходзіўся палітэхнікум У гімназіі вучыліся вядомыя артысткі Л І *Ржэцкая*, В М Пола

Мінская мужчынская прыватная гімназія С П Зубакіна і К В Фальковіча Адкрыта ў 1906 як 8-класная з падрыхтоўчым класам Мела правы ўрадавых гімназій Утрымлівалася за кошт платы за навучанне У 1907 вучылася 205, у 1911 — 442, у 1915 — 482 юнакі Выкладчыцкі корпус дырэктар, інспектар, 3 законанастаўнікі, 21 выкладчык (выхаванцы ун-таў Кіева, Адэсы, Харкава, Пецярбурга, Масквы, Варшавы, Харкаўскага тэхнал ін-та, духоўных акадэмій Масквы і Пецярбурга) Вучэбныя прадметы рус мова і славеснасць, лацінь, гісторыя, філасофія, законазнаўства, матэматыка, фізіка, геаграфія, прыродазнаўства, музыка, ням і франц мовы, графіка, гімнастыка З 1914 памяшканне забрана пад ваен шпіталь, заняткі праходзілі ў жаночай гімназіі ў 2-ю змену. Закрыта ў 1918 З 1921 памяшканні гімназіі заняў БДУ

Мінская жаночая прыватная Аляксееўская гімназія Е Дз Рэйман Мела правы ўрадавых гімназій Рэарганізавана ў гімназію 21 6 1910 з прыватнага вучылішча 1-га разраду Напачатку мела 5 класаў, у 1911 створаны 6-ы, у 1912 — 7-ы, у 1913 — 8-ы класы Утрымлівалася за кошт платы за навучанне У 1911 вучылася 321, у 1913 — 510, у 1915 — 500 дзяўчынак. Выкладчыцкі корпус (1915) начальніца, 3 законанастаўнікі, 20 выкладчыкаў, 7 класных наглядчыц (выхаванцы Маскоўскага і Пецярбургскага ун-таў, Мінскай духоўнай семінарыі, жаночых гімназій Дзвінска, Лібавы і Саратава, Пецярбургскіх пед курсаў, Віленскага жаночага духоўнага вучылішча) Вучэбныя прадметы рус мова і славеснасць, педагогіка, гісторыя, лацінь, матэматыка, фізіка, прыродазнаўства, рукадзелле, маляванне, гігіена, спевы, гімнастыка, танцы, ням і франц мовы Закрыта ў 1918 Сярод выкладчыкаў вядомы балетмайстар К.А Алексютовіч

Мінская жаночая прыватная гімназія В І Лявіцкай Засн ў 1906 як 7-класная з падрыхтоўчым класам 29 3 1911 атрымала правы ўрадавых гімназій Утрымлівалася за кошт платы за навучанне У 1913 вучылася 356, у 1915 — 340 дзяўчынак Выкладчыцкі корпус (1915) начальніца, 3 законанастаўнікі, 17 выкладчыкаў, 9 класных наглядчыц (выхаванцы Маскоўскага ун-та, вышэйшых жаночых курсаў Пецярбурга і Масквы, жаночых гімназій Мінска і Петразаводска) Вучэбныя прадметы рус мова і славеснасць, гісторыя, матэматыка, фізіка, прыродазнаўства, касмаграфія, маляванне, гігіена, геаграфія, чыстапісанне, спевы, гімнастыка, танцы, ням і франц мовы З крас 1912 пры гімназіі дзейнічалі курсы сясцер міласэрнасці (50 чал ) Закрыта ў 1918

Мінская жаночая прыватная гімназія М М Скаварод ніка вай Рэарганізавана ў гімназію ў 1905 з прыватнага вучылішча (дзейнічала з 1889) Мела 7 класаў Утрымлівалася за кошт платы за навучанне У 1911 вучылася 330, у 1915 — 324 дзяўчынкі Выкладчыцкі корпус (1915) загадчыца, 3 законанастаўнікі, 22 выкладчыкі, 3 класныя наглядчыцы (выхаванцы мінскіх рэальнага вучылішча, духоўнай семінарыі і настаўніцкага ін-та, вышэйшых жаночых курсаў Масквы і Пецярбурга). Вучэбныя прадметы рус мова і славеснасць, гісторыя, матэматыка, фізіка, прыродазнаўства, касмаграфія, геаграфія, чыстапісанне, рукадзелле, педагогіка, гімнастыка, танцы, ням і франц мовы Закрыта ў 1918

Мінская жаночая прыватная яўрэйская гімна-

Да арт **Мінскія гімназіі** Будынак Мінскай мужчынскай гімназіі Пач 20 ст.

Да арт **Мінскія гімназіі** Будынак Мінскай жаночай гімназіі Пач 20 ст

тели прошлого: Журнал «Былое» история, редакторы, издатели. Л., 1990.
*Міхась Шумейка.*

**МІНЦ** Ісаак Ізраілевіч [22.1(3.2).1896, с. Крынічкі, цяпер Днепрапятроўская вобл., Украіна — 5.4.1991], савецкі гісторык. Акад. АН СССР (1946, чл.-кар. 1936). У час грамадз. вайны 1918—20 на паліт. рабоце ў Чырв. Арміі. У 1932—72 заг. кафедры у Маскоўскім ун-це, ВПШ пры ЦК КПСС, Маскоўскім пед. ін-це, з 1954 супрацоўнік Ін-та гісторыі АН СССР. З 1962 старшыня Навук. савета АН СССР па комплекснай праблеме «Гісторыя Вял. Кастр. сацыяліст. рэвалюцыі». Зрабіў значны ўплыў на развіццё гіст. навукі ў СССР, у т.л. ў БССР. Асн. працы прысвечаны гісторыі КПСС, перамозе Сав. улады і абароне яе ў гады грамадз. вайны (у т.л. разгледжаны падзеі на тэр. Беларусі), міжнар. адносінам СССР. Дзярж. прэміі СССР 1943, 1946, Ленінская прэмія 1974.

*Тв.*: Великая Октябрьская социалистическая революция и прогресс человечества. М., 1967; История Великого Октября. Т 1—3 М., 1967—73. *Пётр Петрыкаў.*

**«МИНЧА́НИН»**, штотыднёвая літ. і грамадска-паліт. газета ліберальна-асветнага кірунку. Выдавалася з 30.11(13.12) да 28.12.1913 (10.1.1914) у Мінску на рус. мове. Рэдактар-выдавец М.Шофман. Рэдакцыя ставіла за мэту пазбягаць «партыйных і нацыяналістычных тэндэнцый», арыентавалася на асвету, добры густ і здаровы сэнс. У серыі нарысаў, артыкулаў і літ. аглядаў «Танец убоства», «Дух веку», «Пецярбургскія лісты») выступіла з крытыкай бездухоўнасці, дэгуманізацыі масавай культуры і грамадскага побыту, крызісу традыц. рэліг., эстэт., маральных каштоўнасцей. На думку некат. яе аўтараў (А.Чорнабародава, І.Бялова), тэхн. прагрэс у пач. 20 ст. прынёс з сабою адмаўленне ўзнёслых ідэалаў, крызіс культуры, які выявіўся ў выцясненні высокага мастацтва масавай культурай, дэвальвацыі рэлігіі і філасофіі, у перамозе прагматызму і утылітарызму над духоўнасцю, падмене хрысціянскага гуманізму «прынцыпам камунізму», які прывядзе да адчужэння чалавечай асобы, яе растварэння ў безаблічнай масе. Газета крытыкавала мадэрнісцкія і натуралістычныя плыні ў мастацтве. Станоўча ацаніла творчасць сял. паэта С.Дрожына. Друкавала вершы А.Багалюбавай, апавяд. М.Старасельскага, урыўкі з рамана Л.Раманоўскага.
*Уладзімір Конан.*

**МІНЧАНКО́Ў** Міхей Мітрафанавіч [н. 2(15).1.1913, в. Каськова Мсціслаўскага пав., цяпер у Мсціслаўскім р-не], поўны кавалер ордэна Славы. У Вял. Айч. вайну на фронце з кастр. 1943. Камандзір стралк. аддзялення сяржант М. вызначыўся ў баях на тэр. Літвы і Усх. Прусіі; у жн. 1944, адбіваючы контратакі ворага, знішчыў 15 гітлераўцаў, у вер.—кастр. 1944 — 19, у крас. 1945 пры адбіцці контратакі агнём прымусіў ворага адступіць, узяў у палон 11 гітлераўцаў. За час вайны знішчыў 125 варожых салдат і афіцэраў. Пасля вайны на гасп. рабоце.

М.М.**Мінчанкоў**.

Дз.М.**Мінчугоў**.

**МІНЧУГО́Ў** Дзмітрый Міхайлавіч [26.10(8.11).1911, г. Сімбірск, цяпер Ульянаўск, Расія — 14.5.1943], Герой Сав. Саюза (1943). Беларус. Скончыў Севастопальскую школу ваен. лётчыкаў (1933). У Чырв. Арміі з 1932. У Вял. Айч. вайну на фронце з 1941 у складзе ВПС Чарнаморскага флоту. Камандзір авіяэскадрыллі маёр М. зрабіў 118 баявых вылетаў, з іх 41 ноччу. Эскадрылля бамбіла караблі, камунікацыі, войскі і тэхніку праціўніка на Адэскім, Перакопскім, Севастопальскім і Каўказскім участках, ваен. аб'екты ў Бухарэсце, знішчыла 15 батарэй, 11 катэраў, 15 самалётаў, 250 чыг. вагонаў, 148 аўтамашын ворага. Загінуў у баі. У г.п. Шуміліна яго імем названа вуліца, на будынку школы, дзе ён вучыўся, устаноўлена мемар. дошка.

**МІ́НЧЫЦКІ МАНЕ́ТНА-РЭ́ЧАВЫ СКАРБ**. Знойдзены ў 1989 каля в. Мінчыкі Бераставіцкага р-на. Ухаваны ў 1935. Складаўся з набораў сярэбранага сталовага посуду і прыбораў рознай камплектнасці 19 — пач. 20 ст., булавы 2-й пал. 18 ст., 2 імянных кубкаў Ю.У.*Нямцэвіча*, 3 т.зв. «палкавых» знакаў 1920—30-х г., каля 20 манет Рэчы Паспалітай і Вялікабрытаніі 1920-х г. Сталовы посуд і прыборы з княжацкім (выява св. Георгія) і шляхецкім («Неўлін») гербамі. Адзін з кубкаў (1-я трэць 19 ст.) аздоблены па корпусе ўстаўкамі з граната, бірузы, сердаліку, каляровага шкла і манет, сярод якіх пражскі грош Яна I Ольбрахта, прускі грош 1534 Жыгімонта I Старога, 4-грашовік 1568 Жыгімонта II Аўгуста, літ. траяк 1585 Стафана Баторыя, талер Жыгімонта III Вазы, тынф 1633 і каронны орт 1655 Яна II Казіміра. Латунная булава (даўж больш за 50 см) мае двухкаленнае дзяржанне, аздобленае чаканкай у выглядзе арнаменту з лілеяй і партрэтнымі выявамі.

**МІР**, гарадскі пасёлак у Карэліцкім р-не, на р. Міранка. На аўтадарозе Мінск—Навагрудак. За 26 км на ПдУ ад Карэліч, 17 км ад чыг. ст. Гарадзея. 2,6 тыс. ж. (1998).

Упершыню згадваецца ў гіст. крыніцах пад 1395. У 1434 вял. кн. ВКЛ Жыгімонт Кейстутавіч падараваў М. з ваколіцамі свайму прыдворнаму Сеньку Гедыголдавічу. Пасля змены некалькіх гаспадароў з 1486 належаў *Іллінічам.* У 15 ст. наз. горадам і быў абнесены лініяй умацаванняў. У 16 ст. насельніцтва складалася з баяр і «людзей мірскіх» пад кіраўніцтвам «урадніка», прызначанага ўладальнікам М. У пач. 16 ст Юрый I Ілініч заснаваў *Мірскі замак.* З 1555 М. стаў цэнтрам Мірскага графства. Паводле завяшчання 1568 графа Юрыя II Іллініча М. перайшоў да яго сваякоў кн. Радзівілаў. З 1589 у складзе іх Нясвіжскай ардынацыі як асобнае графства. З 1579 карыстаўся няпоўным магдэбургскім правам. У канцы 16 — 1-й пал. 17 ст. адрамантаваны гар. умацаванні, пабудаваны мураваныя Віленская, Мінская, Слонімская і Нясвіжская брамы. У 1-й пал. 17 ст. важны цэнтр рамяства і гандлю, у дакументах згадваюцца рамеснікі 18 спецыяльнасцей. У канцы 17 ст. ў М. 478 двароў, 49 рамесных спецыяльнасцей, значная частка насельніцтва займалася земляробствам. У Паўн. вайну 1700—21 М. значна пацярпеў у 1706. У 1-й пал. 18 ст. Радзівілы здавалі Мірскае графства ў арэнду, тут пабудаваны палатняныя і суконныя мануфактуры. 2 разы на год (у маі і снежні) на працягу месяца праводзіліся кірмашы. У 2-й пал. 18 ст у М. пасяліліся цыганы, тут жыў цыганскі старшыня (кароль) ВКЛ, якому ў 1787 К.Радзівіл («Пане каханку») выдаў прывілей на вядзенне судовых спраў над цыганамі. З 1795 у Рас. імперыі, у 19 — пач. 20 ст. мястэчка, цэнтр воласці Навагрудскага пав. Мінскай губ. У пач. вайны 1812 адбыўся *Мірскі бой 1812*, 29—30.10(10—11.11).1812 каля М рус. войскі П.В.Чычагова нанеслі паражэнне праціўніку пры яго адступленні У 1828 у выніку шлюбу Стафаніі Радзівіл з кн. Л.Вітгенштэйнам (гл. *Вітгенштэйны*) М. перайшоў у яго ўладанні. З

2-й пал. 19 ст. уласнасць кн. Святаполк-Мірскіх. У 1886 у М. 2 царквы, 7 сінагог, мячэць, павятовае вучылішча, школа, паштовая станцыя, заезны дом, 74 крамы. У 1893 пабудаваны вінакурны з-д. У 1897 — 5401 ж. У час 1-й сусв. вайны 28—29.10(10—11.11).1917 у М. адбыўся 2-і з'езд 3-га Сібірскага корпуса 2-й арміі, які выказаўся за падтрымку сав. улады. У 1921—39 у складзе Польшчы, цэнтр гміны Стаўбцоўскага пав. Навагрудскага ваяв. У 2-й пал. 1930-х г. каля 6 тыс. ж., паштовае ўпраўленне, гарадскі суд, 7-класная школа. З 1939 у БССР, з 15.1.1940 гар. пасёлак, цэнтр *Мірскага раёна.* У Вял. Айч. вайну з 26.6.1941 да 7.7.1944 акупіраваны ням. фашыстамі, якія загубілі ў М. і раёне больш за 2560 мірных жыхароў. Дзейнічала *Мірскае камсамольска-маладзёжнае падполле.* З 17.12.1956 у Карэліцкім р-не. У М. працуюць масла-, хлеба-, спіртазавод, птушкафабрыка, камбінат быт. абслугоўвання, лясніцтва. Сярэдняя школа, ПТВ, дзіцячы сад, Дом культуры, 2 б-кі, бальніца, аддз. сувязі, філіял Бел. маст. музея. Традыцыйны цэнтр рамеснай кафлянай і ганчарнай вытворчасці. З магілы ахвяр фашызму, брацкая магіла сав. воінаў і партызан. Помнікі архітэктуры: замак, Троіцкая царква (16—19 ст.), Мікалаеўскі касцёл (пач. 17—19 ст.), капліца-пахавальня князёў Святаполк-Мірскіх (1904). Помнік прыроды — пейзажны парк з вадаёмам.

*Літ.:* Гурин М.Ф. Мир: Ист.-экон. очерк. Мн., 1985; Краўцэвіч А.К., Якшук Г.М. Стары Мір. Мн., 1993.

*Міхаіл Гурын.*

**МІРАВЫ́ ПАСРЭ́ДНІК**, пасада ў Расійскай імперыі, уведзеная паводле «Палажэнняў» аб адмене прыгоннага права 19.2.1861 для садзейнічання ў правядзенні *сялянскай рэформы 1861.* М.п. прызначаўся Сенатам па рэкамендацыі губ. улад з мясц. дваран-памешчыкаў, што валодалі пэўным зямельным цэнзам (спачатку на 3-гадовы тэрмін, пазней — бестэрмінова). Улада М.п. распаўсюджвалася на міравы ўчастак, які на Беларусі найчасцей складаўся з 5—7 валасцей. У сярэдзіне 1860-х г. існавала 127 міравых участкаў, у якія ўваходзілі 752 воласці. Асн. функцыі М.п. — размежаванне сялянскай і панскай зямлі, разбор і вырашэнне пазямельных скаргаў і спрэчак паміж сялянамі і памешчыкамі; праверка, зацвярджэнне і ўвядзенне ў дзеянне *устаўных грамат;* утварэнне органаў сялянскага грамадскага кіравання і нагляд за іх дзейнасцю (зацвярджэнне рашэнняў валасных і сельскіх сходаў, а таксама валасных старшын, сельскіх старастаў і інш.). У адносінах да сялян М.п. валодаў судова-паліцэйскімі правамі: разгляд спрэчак паісках, што не перавышалі 30 руб. (патравы, высечкі лесу і інш.), арышт да 7 дзён, пакаранне розгамі да 20 udараў, адпраўка на грамадскія работы тэрмінам да 6 дзён, штраф да 5 руб. Дзеянні М.п. маглі быць абскарджаны перад пав. міравым з'ездам (сход усіх М.п. павета на чале з пав. маршалкам, з удзелам чыноўніка, якога прызначаў губернатар). Канчатковай інстанцыяй па абскарджанні іх рашэнняў з'яўляліся *губернскія па сялянскіх справах установы.* У час паўстання 1863—64 у Польшчы, Літве і Беларусі М.п. усюды былі заменены новымі — з рускіх чыноўнікаў і афіцэраў. У 1870-я г. ў сувязі са зменай палітыкі царызму да сялянства і дваранства зах. губерняў зноў сталі прызначаць М.п. з мясцовых дваран. З утварэннем на Беларусі *міравых судоў* у пач. 1870-х г. судовыя функцыі М.п. перайшлі да міравых суддзяў. У Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губ. інстытут М.п. скасаваны ў 1878 і заменены *павятовымі па сялянскіх справах установамі.* Частка паўнамоцтваў М.п. перайшла да земскай паліцыі. У Віленскай і Гродзенскай губ. пасада М.п. захоўвалася да 1904, калі была замешчана *земскім участковым начальнікам.*

*Літ.:* Зайончковский П.А. Отмена крепостного права в России. 3 изд. М., 1968; Дружинин Н.М. Русская деревня на переломе 1861—1880 гг. М., 1978; Самбук С.М. Политика царизма в Белоруссии во второй половине XIX в. Мн., 1980.

*Вячаслаў Панюціч.*

Капліца-пахавальня князёў Святаполк-Мірскіх у Міры.

**МІРАВЫ́ СУД**, ніжэйшае звяно судовай сістэмы ў шэрагу бурж. дзяржаў. Узнік у 14 ст. ў Англіі. У Расіі створаны паводле Судовых статутаў. Складаўся з участковых і ганаровых суддзяў, якія разглядалі дробныя грамадз. і крымін. справы па 1-й інстанцыі, але не ўваходзілі ў штаты Мін-ва юстыцыі і не атрымлівалі жалавання, і з'ездаў павятовых міравых суддзяў — 2-я інстанцыя, якія разглядалі апеляцыйныя скаргі на пастановы міравых суддзяў. Выбіраліся павятовымі, земскімі сходамі ці гар. думамі. У бел. губернях міравыя суддзі не выбіраліся, а прызначаліся царскім урадам, бо да 1911 тут не было земскіх сходаў. На Беларусі М.с. пачалі ўтварацца ў 1871, міравымі суддзямі маглі быць мужчыны не маладзей як 25 гадоў, якія мелі не менш чым 100 дзес. зямлі і адпаведную адукацыю. М.с. былі падсудныя цывільныя справы пры цане іску да 500 руб. і крымінальныя, па якіх прадугледжваліся арышт да трох месяцаў, грашовыя спагнанні да 300 руб., зняволенне ў работны дом да 1 года. У 1872—74 у Мінскай губ. створана 36 участкаў М.с., у Гродзенскай — 28, Віленскай — 27, Віцебскай і Магілёўскай губ. — па 35. Паводле закона 1889 М.с. падлягалі скасаванню. У Віцебскай, Мінскай і Магілёўскай губ. скасаваны паводле закона 1900, замест іх уводзіліся земскія начальнікі, у гарадах — гарадскія суды. Адноўлены законам 1912, у Беларусі — у 1914, з адтэрміноўкай на адзін год у сувязі з пачаткам 1-й сусв. вайны.

*Літ.:* Юхо Я.А. Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі. Мн., 1992.

*Язэп Юхо.*

**МІРАНО́ВІЧ** Антон Васілевіч (н. 30.10.1959, г. Беласток, Польшча), бел. гісторык у Польшчы. Д-р гіст. н. (1990), д-р габілітаваны (1997), праф. (1998). Скончыў Варшаўскі ун-т (1982). З 1986 выкладае ў Ін-це гісторыі ў Беластоку (філіял Варшаўскага ун-та). Даследуе гісторыю правасл. царквы ў Цэнтр. і Усх. Еўропе, бел.-польскія ўзаемаадносіны да канца 18 ст., нац. меншасці ў Польшчы.

*Тв.:* Supraśl jako ośrodek kulturalno-religijny w XVI wieku. Leimen, 1984; Podlaskie ośrodki i organizacje prawosławne w XVI i XVII wieku. Białystok, 1991; Nieznany herbarz Michała Szęciłły. London, 1992; Bractwo objawienia pańskiego w Bielsku Podlaskim. Bielsk Podlaski, 1994, Prawosławie i unia za panowania Jana Kazimierza. 2 wyd. Białystok, 1997; Metropolita Józef Nielubowicz Tukalski Białystok, 1998; Паходжанне назвы Беларусь // Імя тваё Белая Русь. Мн., 1991; 150 гадавіна звароту вуніятаў у склад Праваслаўнай царквы ў Беларусі (1839—1989) // Голас часу. Лондан, 1990. № 1(4); Царкоўныя брацтвы на Беларусі // Бел. каляндар, 1991. Беласток, 1991.

**МІРАНО́ВІЧ** Яўген Васілевіч (н. 2.9.1955, в. Алексічы Беластоцкага ваяв., Польшча), бел. гісторык у Польшчы. Д-р гіст. н. (1990). Скончыў філіял Варшаўскага ун-та ў Беластоку (1980). Працаваў настаўнікам ліцэя ў Супраслі. З 1992 гал. рэдактар тыднёвіка «*Ніва*». Аўтар прац па гісторыі Беларусі і беларусаў у 20 ст.

фронце, камандзір экспедыцыйнага корпуса, у ліп. сфарміраваў Асобы казацкі корпус. За самавольнае выступленне на фронт у вер. 1919 з часцямі корпуса прыгавораны да расстрэлу, але памілаваны ВЦВК. У 1920 камандаваў 2-й коннай арміяй у баях супраць Урангеля. Узнагароджаны ордэнам Чырв. Сцяга, ганаровай рэв. зброяй. У лют. 1921 па лжывым даносе арыштаваны, расстраляны. Рэабілітаваны пасмяротна.

**МІ́РСКАЕ КАМСАМО́ЛЬСКА-МАЛАДЗЁЖНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ**. Дзейнічала з канца чэрв. 1941 да вер. 1942 у Мірскім р-не. Створаны групы ў вёсках Пагарэлка (кіраўнік І.М.Мацко), Сіняўская Слабада (К.У.Балабановіч), Беражное *(Р.М.Рускіх, Я.І.Крамко)*, *Лядкі* (А.Ф.Бянецкі), якія аб'ядноўвалі 97 чал. Да сярэдзіны ліп. 1941 падпольшчыкі дапамагалі часцям Чырв. Арміі выходзіць з акружэння, у в. Антанёва і Быковічы арганізавалі шпіталі для цяжкапараненых. Распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, лістоўкі, збіралі і вывучалі зброю. Вясной 1942 наладзілі сувязь з партызанамі, перадалі ім зброю і да вер. пайшлі ў лес, стварылі партыз. атрад «Камсамольскі», які разам з інш. атрадамі стаў базай для фарміравання аднайменнай партыз. брыгады. У барацьбе з ням.-фаш. захопнікамі загінула 29 падпольшчыкаў.

**МІ́РСКІ БОЙ 1812**, бой 27—28.6(9—10.7).1812 каля мяст. Мір у ходзе вайны 1812 паміж рус. казацкім корпусам ген. М.І.*Платава* і польскай уланскай дывізіяй ген. А.Ражнецкага з напалеонаўскіх войск. У час адступлення з Ваўкавыска на Нясвіж 2-й рус. Зах. арміі яе камандуючы ген. П.І.*Багрыціён* загадаў Платаву затрымаць ворага на 2 дні каля Міра, каб армія магла адарвацца ад праследавання. У корпус Платава ўваходзілі 3 казацкія брыгады (усяго 6 палкоў, 5 тыс. чал.), на дапамогу ім рухаўся атрад ген. І.В.Васільчыкава з 3 конных і 2 пях. палкоў. На іх наступала дывізія ген. Ражнецкага (6 палкоў). За 3 вярсты ад Міра па дарозе на Карэлічы была падрыхтавана засада (больш за 100 казакоў), з Міра іх павінен быў падтрымаць полк палк. Сысоева. 27 чэрв. 3 палкі польскай дывізіі пад камандаваннем ген. К.Турно пачалі атаку на Мір, але былі контратакаваны казакамі з засады, якіх падтрымалі інш. палкі корпуса Платава. Рускія гналі праціўніка 15 вёрст па дарозе на Карэлічы і нанеслі яму вял. страты, захапілі ў палон 248 чал., у т.л. 2 палкавых камандзіраў. У ноч на 28 чэрв. да Платава падышоў атрад Васільчыкава. Платаў пакінуў у Міры 3 казацкія палкі, а з астатнімі пачаў адступленне на Нясвіж. Раніцай 28 чэрв. ўся дывізія Ражноўскага размясцілася каля Міра ў раёне в. Сімакава, адкуль пачала дзеянні супраць часцей Васільчыкава. Спачатку праціўнік пацясніў рускіх, але з падыходам брыгады Д.Е.Куцейнікава з корпуса Платава палякі былі разбіты. Праследаванне праціўніка працягвалася да самага Міра і спынілася толькі з уступленнем у мястэчка польскай коннай брыгады ген. Т.Тышкевіча з артыл. брыгадай. Палякі страцілі больш за 600 чал. забітымі і некалькі сотняў палоннымі. Пасля бою атрад Платава адышоў да Нясвіжа і 30 чэрв. далучыўся да гал. сіл 2-й Зах. арміі. М.б. даў магчымасць 2-й Зах. арміі адарвацца ад ворага, адпачыць і праз Слуцк і Бабруйск рушыць на злучэнне з 1-й Зах. арміяй. Гэта была першая перамога рускіх у вайне. У гонар М.б. ў 1-ю сусв. вайну быў сфарміраваны Мірскі 694-ы пях. полк (зіма 1916/17 — 1.3.1918).

*Кр.:* *Донские казаки в 1812.:* Сб. док. Ростов н/Д, 1954. С. 89—105.

*Літ.:* Бутурлин Д.П. История нашествия императора Наполеона на Россию в *1812 г.: Пер. с фр. СПб., 1823. Ч 1. С. 157*—160; Богданович М История Отечественной войны 1812 г по достоверным источникам СПб , 1859 Т. 1. С 159—163

*Шамиль Бекцинееў*

**МІ́РСКІ БОЙ 1944**, бой партыз. брыгад імя Жукава і «Камсамолец» па разгроме ням.-фаш. гарнізона ў г.п. Мір 22 сак. ў Вял. Айч. вайну. План знішчэння гарнізона, які налічваў 150 гітлераўцаў, распрацаваны камандаваннем брыгады імя Жукава, кіраўнік аперацыі У.З.Царук. Выведаўшы пароль аховы гарнізона, партызаны ў ноч на 22 сак. праніклі ў цэнтр пасёлка, блакіравалі казарму, разграмілі ўсе ўстановы акупантаў. Байцы атрадаў імя Суворава і імя Ракасоўскага, што знаходзіліся ў засадах, знішчылі каля 2 км лініі тэлеграфна-тэлефоннай сувязі. На досвітку партызаны пакінулі пасёлак.

**МІ́РСКІ ЗА́МАК**, помнік архітэктуры 16—18 ст. Пабудаваны, верагодна, каля 1510 у мястэчку *Мір* (Карэліцкі р-н) магнатам Ю.І.Іллінічам. У гіст. крыніцах упершыню ўпамінаецца ў 1527 Будаўніцтва замка праходзіла ў 3 этапы Спачатку былі ўзведзены 5 вежаў (выш 25—27 м) і сцены паміж імі. Крэпасць у плане ўяўляла сабой блізкі да квадрата чатырохвугольнік, утвораны бакамі даўж. каля 75 м. Па вуглах стаяць 4 пяціпавярховыя вежы, якія выступаюць за межы сцен. Пасярэдзіне зах. сцяны знаходзіцца 5-я шасціпавярховая вежа — галоўная. У ёй маецца ўязная брама, абсталяваная варотамі і герсай — каванымі жалезнымі кратамі, якія звычайна знаходзіліся ўверсе ў зафіксаваным становішчы, а ў выпадку небяспекі падалі ўніз перад нападаючым ворагам. Падмуркі вежаў і сцен заглыблены на 5 м. Гал. вежа ў ніжнім сячэнні блізкая да квадрата (11,7 × 12 м), памеры астатніх — 10,7 × 11,5 м, 10,7 × 10 м; 10 × 9,75 м; 10,8 × 9,8 м. Усе 4 вежы з чатырохграннага сячэння пераходзяць у васьміграннае на ўзроўні 4-га паверха, галоўная вежа — на ўзроўні сцен. Яе 2-і і 3-і паверхі са скляпеністымі перакрыццямі мелі адпаведна 6 і 7 байніц для стральбы з гармат і мушкетаў, астатнія паверхі — па 8 гарматных байніц. Знізу пачыналася і праходзіла ў тоўшчы вежавай сцяны каменная лесвіца, якая даходзіла да 4-га паверха з выхадамі на кожны ярус бою. На самым версе вежы былі машыкулі і «варавыя вокны» для навеснага бою і скідвання на ворага камянёў або гарачай смалы. З вуглавых вежаў лепш захавалася паўд.-заходняя. Яна падзялялася на 5 ярусаў, у цокалі знаходзіўся склад ваен. амуніцыі. На 1-м паверсе было 7 гарматных байніц, якія фланкіравалі агнем уязную браму, зах. і паўд. сцены. На 2-м паверсе размяшчаліся 6 гармат. На верхніх паверхах меліся байніцы, адкуль можна было весці стральбу з гармат і ручной агнястрэльнай зброі. Сцены М.з. змураваны з камянёў і цэглы на выш. 13 м. На думку некат. даследчыкаў (В.А.Чантурыя і інш.), яны завяршаліся зубцамі. Таўшчыня сцен каля падмурка да 3 м. Ніжнія зоны сцен прарэзалі гарматныя байніцы ў

**Мірскі замак.** З малюнка Н.Орды. Ся-

**Мірскі замак.** Фота пач 1990-х г

выглядзе прасторных камер Сярэдні ярус шоў у цэнтры сцен на адлегласці прыблізна 8 м ад зямлі Верхні ярус — гэта баявая галерэя, прыкрытая парапетамі з байніцамі Важную ролю ў абароне М з адыгрывалі земляныя валы выш да 9 м Яны ў плане ўтваралі чатырохвугольнік з бакамі 17 × 150 м, на вуглах якога пазней былі ўзведзены бастыёны галандскага тыпу Каля падэшвы вала быў роў, запоўнены вадой, узровень якой рэгуляваўся плацінай на р Міранцы У М з існаваў патаемны ход Магчыма, пачатак яго і выявіў Ю Ядкоўскі ў 1912 у час раскопак у замку У сярэдзіне 16 ст ў ходзе 2-га этапа будаўніцтва на замкавым двары каля ўсх і паўн сцен былі ўзведзены аднапавярховыя карпусы палаца са складскімі памяшканнямі і падваламі 10.7 1555 Ю Ф Ільініч, унук Ю І Ільініча, стаў графам «Свяшчэннай Рымскай імперыі на Міры», а замак набыў статус адм цэнтра Мірскага графства У 1566 незадоўга да сваей смерці Ю Ф Ільініч завяшчаў М з са шматлікімі маенткамі сыну свайго былога апекуна М К Радзівілу *Сіротку* Па ініцыятыве апошняга ў канцы 16 — пач 17 ст праводзіўся 3-і этап будаўніцтва ў М з Карпусы палаца паднялі да трох паверхаў, што вымагала значных пераробак усх і паўн сцен замка байніцы былі закладзены, прабіты вял аконныя праемы, верхняя частка сцен разабрана і змуравана нанова Перад гал вежай пабудавалі перадбрам'е, т зв барбакан, сцены якога мелі таўшч 1,25 м, у вышыню дасягалі ўзроўню замкавых сцен Унутры барбакана быў катлаван, які закрываўся пад'емным мостам памерамі 9,75 × 9,5 м Ен падымаўся і поўнасцю закрываў браму На версе мелася баявая галерэя — памост для стралкоў Пабудаваны ў стылі рэнесансу замкавы палац меў больш за 40 пакояў, вокны якіх былі зашклены звычайным і каляровым франц шклом Меліся вітражы з размалеўкай Падлогі былі паркетныя і выкладзеныя з разнастайных пліткак Сістэма ацяплення складалася з прыгожых кафляных печаў і камінаў, а дымаходы праходзілі ў мураваных сценах Палац быў накрыты чырв дахоўкай Сцены пакояў аздоблены мармурам, лепкай, шпалерамі У пакоях было шмат *скульптур*, карцін, габеленаў і *інш* У гал вежы ўстанавілі вял гадзіннік са званамі, у т.л і ажурнымі У замку былі алтар св Хрыстафора, бровар, пякарня, кухня, лазня, каравулка, турма, стайня, вазоўня З паўн боку за валам быў «італьянскі сад», у якім, акрамя прысад з мясц парод дрэў, налічвалася больш за 400 цеплалюбівых раслін з розных куткоў свету У сад з 2-га паверха палаца вёў мост на высокіх слупах Такім чынам, у пач 17 ст М з ператварыўся ў фартэцыйна-палацавы комплекс На працягу існавання замак неаднойчы быў аб'ектам аблог і штурмаў У 1655 ен зведаў аблогу ўкр гетмана І Залатарэнкі і маск ваяводы А.М Трубяцкога, моцна пацярпеў ад артыл абстрэлу шведскім атрадам У Паўн вайну 1700—21 шведы на чале з каралем Карлам XII у 1706 узялі замак штурмам і спалілі яго У час падаўлення паўстання Т Касцюшкі замкам у 1794 авалодала прыступам войска А.В Суворава Найб разбурэнні М.з зведаў у Айч вайну 1812 Пад яго сценамі 9—14 7 1812 адбылся жорсткія баі паміж кавалерыяй ген М І Платава (ар'ергард 2-й рус арміі) і конніцай франц маршала Л Н Даву, 10—11 11 1812 — паміж арміяй адмірала П В Чычагава і французамі Выбух парахавога склада, які размяшчаўся ў паўн -ўсх вежы, раскалоў яе зверху да нізу Назаўседы страчаны замкавыя гарматы і інш ўзбраенне, разрабаваны багацці палаца У 1828 М з стаў уласнасцю кн Л Вітгенштэйна і паступова ператвараўся ў руіны Толькі ў 1870 на 4 вежах былі зроблены часовыя дахі У 1891 М з купіў кн Мікалай Святаполк-Мірскі У 1922—38 Міхаіл Святаполк-Мірскі правеў тут рэстаўрацыйныя работы У Вял Айч вайну ў замку размяшчалася яўр гета. З 1969 вядзецца рэстаўрацыя падняты да першапачатковага ўзроўню сцены, адрамантавана паўд -зах вежа, выкананы інш работы У 1994 М.з аднесены ЮНЕСКА да вышэйшай катэгорыі помнікаў сусв культуры Археал даследаванні М з праводзілі М А Ткачоў (1972), А.А Грусаў (1980—84, 1989—91), І М Чарняўскі (1982)

*Літ* Иодковский И И Замок в Мире // Древности М, 1915 Т 6 Ткачев М А Замки Белоруссии Мн 1987 Калнін В В Мірскі замак [Гіст архіт нарыс] Мн 1995, Гурын М Ф Замак у Міры // Падарожнік 1997 № 5—6

*Міхась Гурын Міхась Ткачоў*

**Мірскі замак** у пачатку 17 ст Рэканструкцыя М А.Ткачова Мастак Я Кулік

**МІ́РСКІ РАЁН**, адм -тэр адзінка у БССР у 1940—56 Утвораны 15 1 1940 у складзе Баранавіцкай вобл , з 8 1 1954 у складзе Гродзенскай вобл Цэнтр — г п Мір Тэр 0,7 тыс км² (1941) 12 10 1940 падзелены на 12 сельсаветаў Аюцэвіцкі, Жухавіцкі, Крышылоўшчынскі, Некрашэвіцкі, Прылуцкі Сімакаўскі, Сіняўскі, Скорыцкі, Слабодскі, Турэцкі, Ушанскі, Яромцкі 17 12 1956 раен скасаваны, тэр далучана да *Карэліцкага раена*

Міфалогія і абрадавасць валачобных песень Мн 1931, Кун Н А. Легенды и мифы Древней Греции 4 изд. М, 1957, Лосев А.Ф Античная мифология в ее историческом развитии М, 1957, Мифы народов мира Энцикл Т 1—2 2 изд. М, 1991—92, Евсюков В В Мифы о вселенной Новосибирск, 1988 Грейвс Р Мифы Древней Греции Пер с англ М, 1992, Славянская мифология Энцикл словарь М, 1995

*Міхаіл Дабрынін, Уладзімір Замкавец*

**МІХАІЛ**, князь пінскі ў 13 ст Упамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1247 Верагодна, сын пінскага кн. *Расціслава*

**МІХАІЛ** [у свеце Галубовіч, 1800, Літоўская губ — 6(18) 3 1881], уніяцкі, потым правасл царк дзеяч Д-р багаслоўя і царк права Скончыў Віленскую гал семінарыю З 1828 інспектар, выкладчык (да 1831) *Літоўскай духоўнай семінарыі* ў Жыровічах, потым саборны протаіерэй і віцэ-старшыня Літ уніяцкай духоўнай кансісторыі, пасля смерці жонкі архімандрыт *Быценскага кляштара базыльян* 12 2 1839 разам з інш вышэйшым духавенствам падпісаў на *Полацкім царкоўным саборы 1839* Саборны акт аб скасаванні *Брэсцкай уніі 1596* і далучэнні уніяцкай царквы да праваслаўя З 1839 епіскап пінскі (з 1840 наз епіскап брэсцкі), з 1848 епіскап, з 1853 архіепіскап мінскі З 1868 па-за штатам Апошнія гады правёў у *Жыровіцкім Свята-Успенскім мужчынскім манастыры* Аўтар перакладу на польскую мову правасл катэхізісу, пашыранага сярод былых уніяцкіх святароў, якія не ведалі або дрэнна ведалі рус мову (1841).

*Літ* Киприанович Г Я Жизнь Иосифа Семашки, митрополита литовского и виленского и воссоединение западнорусских униатов с православной церковью в 1839 г 2 изд Вильна, 1897, Извеков Н Д Исторический очерк состояния православной церкви в Литовской епархии за время с 1839—1889 г М, 1899, Кісялёў Г Дыярыуш Міхала Галубовіча // Голас Радзімы 1998 29 кастр, 5 лістап *Алена Філатава*

**МІХАІЛ БАРЫСАВІЧ** (1453 або 1457, Цвер — не пазней 1505), апошні вял князь *Цвярскога вялікага княства* [1461—85] Уступіў на прастол малалетнім пасля смерці бацькі, Барыса Аляксандравіча, і па дасягненні паўналецця спрабаваў праціўгавіць яго палітыку на захаванне незалежнасці Цверы з апорай на ВКЛ У жн 1485 вял князь маскоўскі Іван III пачаў ваен дзеянні і асадзіў Цвер Цвярское баярства у большасці перайшло на бок Масквы У ноч на 12 9 1485 М Б уцек з абложанага горада ў ВКЛ У 1486, атрымаўшы невял дапаможны атрад ад Казіміра, М Б беспаспяхова спрабаваў вярнуць сабе княства У якасці кампенсацыі за страчаныя уладанні атрымаў ад Казіміра вял грашовыя сумы, маентак Пячыхвосты на Валыні і вял латыфундыю ў Слонімскім пав (Ласасіная, Бялавічы, Гошчава і інш) Першым шлюбам (1470) жанаты з Соф'яй, дачкой кіеўскага кн Сямена Алелькавіча, другім, паводле няпэўных звестак, — з дачкой кагосьці з роду Радзівілаў, аднак застаўся бяздзетным Пасля смерці М Б яго ўладанні ў Беларусі перайшлі да кн В Глінскага У Нац мастацкім музеі Беларусі захоўваецца партрэт М Б, які паходзіць з Нясвіжскай галерэі Радзівілаў

Міхаіл

*Літ* Борзаковский В С История Тверского княжества СПб 1876 Жизневский А.К Портрет Тверского великого князя Михаила Борисовича Тверь, 1889 Клюг Э Княжество Тверское (1247—1485 гг) Пер с нем Тверь, 1994 *Алесь Белы*

**МІХАІЛ ЖЫГІМОНТАВІЧ** (Баляслаў, 1380-я г —1451 або 1452), князь у ВКЛ Сын вял князя ВКЛ *Жыгімонта Кейстутавіча* і яго 1-й жонкі, дачкі кн Андрэя Адзінцэвіча З 1390 разам з бацькам і інш быў аддадзены Вітаўтам крыжакам як залог за падтрымку ў барацьбе за велікакняжацкі пасад Калі Вітаўт не стрымаў слова і заключыў з Ягайлам *Востраўскае пагадненне 1392*, М Ж і інш заложнікі былі зняволены крыжакамі З 1398 у ВКЛ, ажаніўся з Ганнай — дачкой плоцкага кн Земавіта IV У 1427—29 пры двары вял магістра Нямецкага ордэна З 1432, калі яго бацька заняў велікакняжацкі пасад, знаходзіўся пры ім, быў прызначаны камандуючым войскамі, што дзейнічалі супраць Свідрыгайлы 1 9 1435 атрымаў над ім перамогу пад Вількамірам, заняў Оршу, аблажыў Віцебск і Полацк Атрымаў ва ўладанне Слуцк, Хоўхлу, Слонім, землі на Падляшшы Пасля забойства бацькі некат феадалы, гал ч на Жамойці, падтрымалі кандыдатуру М Ж на велікакняжацкі пасад, але ў 1440 вял князем абраны Казімір IV Паводле «Хронікі Быхаўца», Казімір, калі ўмацаваўся на троне, падараваў М Ж Бельск, Браньск, Сураж, Клецк Койданаў, Бранск і Старадуб У Клецку М Ж задумаў змову супраць Казіміра, у якой удзельнічалі князі Валожынскія, але яна была раскрыта Паводле інш крыніц, М Ж пасля абрання Казіміра выехаў да сваякоў у Мазоўша за падтрымкай у барацьбе супраць вял князя, потым — у Малдову і да хана Сеід-Ахмеда У пач 1449 М Ж з татарскім войскам на кароткі час захапіў у ВКЛ Севершчыну і Кіеў Пасля шукаў падтрымкі ў Маскве, але там зняволены і атручаны

*Літ* Kopystiański A. Książę Michał Zygmuntowicz // Kwartalnik historyczny 1906 Z 1—2 *Валерый Пазднякоў*

**МІХАІЛ КАНСТАНЦІНАВІЧ**, віцебскі князь у 13 ст Верагодна, сын полацкага і віцебскага кн *Канстанціна* Яму адрасаваны ліст рыжскіх ратманаў і «ўсіх гараджан» Рыгі з абвінавачваннямі ў несправядлівым судзе над рыжскімі купцамі і ў прымусовых дзеяннях Мяркуецца, што дакумент напісаны паміж 1271—89

*Літ* Русско ливонские акты СПб, 1868 *Лявон Калядзінскі*

**МІХАЙЛАЎ** Клім, бел разьбяр па дрэве 17 ст Паходзіў са Шклова Майстар бел рэзі З 1654 (?) працаваў у Маск. дзяржаве З 1666 ці 1667 у Палаце разьбярных і сталярных спраў Маск Крамля, з 1681 узначальваў Палату З *Арсеніем* Старцам і С Зіноўевым удзельнічаў у стварэнні «іарданскай сені» (1668, цяпер у саборы Раства Багародзіцы ў Суздалі) У 1667—68 удзельнічаў у аздабленні палаца цара Аляксея Міхайлавіча ў с Каломенскае, харомаў царэўнаў Соф'і Аляксееўны і Кацярыны Аляксееўны, стварэнні іканастасаў З цэркваў у Ізмайлаве У 1683—85 група разьбяроў на чале з М стварыла кліրас і 5-ярусны іканастас Смаленскага сабора Новадзявочага і іканастас царквы Данскога манастыроў у Маскве Пры яго ўдзеле створана драўляная разная рака цудатворца Савы Вішэрскага (1670)

**МІХАЙЛАЎ-ІВАНОЎ** Міхаіл Сільвестравіч (сапр Семянюк, 3 11 1894, в Райск Бельскага пав Гродзенскай губ — 28 9 1931), удзельнік рэв руху, сав гасп дзеяч З 1908 рабочы на прадпрыемствах Адэсы За рэв дзейнасць неаднаразова арыштаваны і зняволены ў турму З 1915 працаваў і вёў бальшавіцкую агітацыю на з-дах Петраграда Пасля Лют рэвалюцыі 1917 чл Петраградскіх Савета і к-та РСДРП(б), Цэнтр савета фабзаўкомаў Дэлегат VI з'езда партыі (1917) У Кастр рэвалюцыю 1917 у складзе кіруючага ядра Васілявостраўскага р-на сталіцы З 1918 адзін з кіраўнікоў СНГ Паўн р-на Петраграда, чл СНГ Украіны У грамадз вайну палітработнік на транспарце З 1920 заг Петрагубметалу, адзін з арганізатараў сав трактарабудавання З 1927 старшыня Ленінградскага маш -буд трэста Са студз 1931 старшыня Усесаюзнага аўтатрактарнага аб'яднання, чл Прэзідыума ВСНГ СССР Чл ВЦВК Канд у чл ЦК ВКП(б) з 1927 Пахаваны на Краснай плошчы ў Маскве

*Эдуард Карніловіч*

**МІХАЙЛА́ШАЎ** Мікалай Апанасавіч [н. 6(19).12.1917, станіца Прочнаакопская Краснадарскага краю, Расія], адзін з кіраўнікоў партыз. руху на Беларусі ў Вял. Айч. вайну, Герой Сав. Саюза (1944). З 1939 у органах бяспекі ў Століне і Ганцавічах Пінскай вобл. З чэрв. 1941 у тыле ворага: камандзір групы, аддзялення, узвода, нам. камандзіра Чачэрскага партыз. атрада, са жн. 1942 нам. нач. разведкі партыз. спец. атрада «Уперад» НКДБ СССР (дзейнічаў на тэр. Гомельскай, Магілёўскай і Арлоўскай абл.), з мая 1943 нам. камандзіра атрада, потым Добрушскай брыгады імя Сталіна, з чэрв. да кастр. 1943 чл. Добрушскага падп. райкома КП(б)Б, у крас.—ліп. 1944 камандзір партыз. спец. групы «Бура» (дзейнічала на тэр. Вілейскай вобл.). У 1944—76 у органах КДБ БССР. Аўтар кн. «Бура гневу» (1971).

**МІХАЙЛО́ЎСКІ** Анатоль Цімафеевіч (25.12.1898, в. Бутрава Аршанскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Руднянскага р-на Смаленскай вобл., Расія — 3.1.1984), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў падполля і партыз. руху на тэр. Палескай вобл. ў Вял. Айч. вайну. З 1923 на сав. рабоце. З пач. вайны ў тыле ворага: адзін з арганізатараў Капаткевіцкага партыз. атрада, са студз. 1942 яго камандзір; з крас. 1943 сакратар Капаткевіцкага падп. райкома КП(б)Б і чл. *Палескага падпольнага абкома КП(б)Б*, нам. камандзіра Палескага партыз. злучэння. У 1944—54 сакратар Васілевіцкага райкома КП(б)Б, старшыня Петрыкаўскага райвыканкома.

**МІХАЛЁНАК** Іван Адамавіч (6.6.1891, г. Маладзечна — 24.7.1967), удзельнік устанаўлення сав. улады ў Беларусі, камбрыг (1935). Чл. РСДРП(б) з 1917. Скончыў Ваен. акадэмію РСЧА (1927). Удзельнік 1-й сусв. вайны. У 1917 вёў паліт. работу ў 10-й арміі Зах. фронту: старшыня палкавога і чл. карпуснога к-таў, чл. *Паўночна-Заходняга абласнога камітэта РСДРП(б)*. У час ням. акупацыі Беларусі ў 1918 на падп. рабоце ў Маладзечне, потым старшыня Маладзечанскага рэўкома. З 1919 у Чырв. Арміі — у палітаддзелах 17-й і 54-й дывізій, 4-й арміі, Мазырскай групы войск, чл. Віцебскага пав. рэўкома. Пасля грамадз. вайны камісар 4, 8, 7-й Самарскай дывізій, 5-га стралк. корпуса. З 1927 у штабе РСЧА, з 1935 у запасе.

**МІХА́ЛІШКАЎСКІ КЛЯ́ШТАР АЎГУСЦІ́НЦАЎ (КАНО́НІКАЎ РЭГУЛЯ́РНЫХ).** Існаваў у 1622—1839 у мяст. *Міхалішкі*. Засн. ў 1622 рэферэндарыем ВКЛ Я.Ц.Бжастоўскім з аддannем кляштару фальварка Рудашаны, які ён памяняў з Рудамінам-Дусяцкім на Мілашуны. Сын Бжастоўскага Цыпрыян Павел дадаў да зямельнага ўчастка дакупленую частку Мілашун і фальварак Буйвідзы. Быў філіялам Віленскага кляштара аўгусцінцаў. Дзейнасць нешматлікіх манахаў абмяжоўвалася абслугоўваннем парафіі, працаваў шпіталь. У 1653 (паводле інш. звестак у 1622) тут пабудаваны мураваны касцёл Міхаіла Архангела (арх. К.Пенс), у канцы 17 ст. аздоблены ляпнымі алтарамі са стука (майстры П.Перці, М.Жалевіч і інш.), служыў пахавальняй Бжастоўскіх і Котвічаў. У 1782 інфлянцкі біскуп Ю.*Касакоўскі* дамогся ад папы рымскага закрыцця кляштара. Аўгусцінцы папрасілі дапамогі ў гаспадара Міхалішак графа Міхала Бжастоўскага, які адпісаў на касцёл і плябанію 20 тыс. злотых, валоку зямлі, аднак у далейшым сам захапіў уладанні кляштара. У 1839 са скасаваннем ордэна аўгусцінцаў у Рас. імперыі кляштар закрыты. Касцёл стаў парафіяльным, у 1-ю сусв. вайну ў 1915 пацярпеў ад пажару ў выніку ваен. дзеянняў, у 1920-я г. адрэстаўрыраваны, помнік архітэктуры. *Аляксандр Ярашэвіч*

**МІХА́ЛІШКІ**, вёска, цэнтр сельсавета Астравецкага р-на, на р. Вілія. На шашы Вільнюс—Полацк. За 35 км на ПнУ ад Астраўца, 41 км ад чыг. ст. Гудагай. 791 ж., 297 двароў (1998). У пісьмовых крыніцах вядомы з канца 15 ст як паселішча Вілія кн. Радзівілаў, потым Пронскіх і Кенішкаў. Назва М. ад уладальнікаў Міхальскіх. У 1528 у М. 71 двор. У 1604 куплены Бжастоўскімі, якія ў 1622 заснавалі *Міхалішкаўскі кляштар аўгусцінцаў (канонікаў рэгулярных)*. У 1669 М. атрымалі каралеўскі прывілей, паводле якога новыя пасяленцы на 10 гадоў вызваляліся ад падаткаў, жыхары мелі свой суд, праводзіліся 4 кірмашы ў год. У маі 1705 у час Паўночнай вайны 1700—21 М. наведаў рас. цар Пётр I, за 7 км ад М. быў разбіты шведскі атрад. З 1771 уладанне Ю.Пузыны. З 1795 у Рас. імперыі, мястэчка Віленскага пав У 1885 уладанне К.Котвіча і Я.Місевіча, 843 ж., 62 двары, касцёл, сінагога, яўр школа, бровар, кірмашы па нядзелях. У 1921 у складзе *Сярэдняй Літвы*, у 1922—39 — у Польшчы, у Віленскім ваяв. З вер. 1939 у БССР, з 12.10.1940 цэнтр сельсавета Астравецкага р-на (у 1962—65 у Смаргонскім р-не). У чэрв.1941—ліп. 1944 акупіраваны ням. фашыстамі, якія загубілі яўр. насельніцтва М Цэнтр калгаса. Сярэдняя і муз. школы, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, бальніца, аддз. сувязі, лясніцтва, магазіны. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял Айч вайну. Помнік архітэктуры — аўгусцін скі касцёл Міхаіла Архангела 1653. *Аляксандр Яфімчы*

**МІХАЛО́Н ЛІТВІ́Н** (Michalo Lituanus), аўтар трактата «Пра норавы татар, літвінаў і маскавітаў» («De moribus tartarorum, lituanorum et moschorum»). Твор напісаны да 1550. Захаваліся 10 вя фрагментаў, выдадзеных у 1615 на лац мове ў друкарні Ё.Я.Грасера ў Базе (Швейцарыя) разам з творам Я.*Ласіцкага* «Пра багоў жамойтаў». Трактат М.Л. прысвечаны крытыцы заганаў ВКЛ, паноў, каталіцкай царквы, якія паслужылі прычынамі знешнепаліт. няўдач дзяржавы. М.Л. узняў шэраг важных пытанняў эканам. і грамадска-паліт. жыцця ВКЛ: дэфіцыту бюджэту, неабходнасці судовай рэформы, рэарганізацыі вялікакняжацкай канцылярыі, рэфармавання войска і інш. Апісаў жахлівую карціну гандлю рабамі з ВКЛ у Крыме, рэкамендаваў прыцягнуць да абароны межаў запарожскіх казакоў, выступаў супраць прывілеяў магнатаў, за ўмацаванне пазіцый шляхты. Звяртаў увагу жыхароў ВКЛ на заганы — п'янства, хабарніцтва, ляноту, марнатраўства. Высока ста

Касцёл Міхалішкаўскага кляштара аўгусцінцаў.

р-на, цяпер Свіслацкі р-н), бел. гісторык. Д-р гіст. н. (1987), праф. (1991). Скончыў Гродзенскі пед. ін-т (1969). З 1973 выкладчык Гродзенскага пед. ін-та, з 1975 супрацоўнік Ін-та гісторыі партыі пры ЦК КПБ. У 1982—87, 1991 супрацоўнік Ін-та гісторыі АН Беларусі.

У 1987—91 выкладчык Мінскай ВПШ (з 1990 Ін-т паліталогіі і сац. ўпраўлення КПБ). З 1992 дырэктар Бел. НДІ дакументазнаўства і архіўнай справы. У 1997—98 заг. аддзела Камісіі па міжнар. справах і нац. бяспецы Савета Рэспублікі Нац. сходу Рэспублікі Беларусь. З 1998 праф. кафедры гіст. Беларусі БДУ. Даследуе праблемы гісторыі, гістарыяграфіі і крыніцазнаўства, археаграфіі і архівазнаўства, бібліяграфіі і гісторыі л-ры Беларусі 1920—30-х г. Распрацоўвае пытанні паліт. рэпрэсій, масонства ў Беларусі. Аўтар дакумент. нарысаў пра паліт. дзеячаў К.Езавітава, У.Ігнатоўскага, В.Ластоўскага, А.Луцкевіча, У.Пракулевіча, А.Смоліча, А.Сокал-Кутылоўскага, Б.Тарашкевіча, А.Цвікевіча, пісьменнікаў М.Гарэцкага, А.Гурло, У.Дубоўку, Я.Пушчу. Адзін з аўтараў «Нарысаў гісторыі Беларусі» (ч. 2, 1995), аўтараў і складальнікаў зб-каў дакументаў і матэрыялаў «Знешняя палітыка Беларусі» (т. 1—2, 1997—98), «Антон Луцкевіч: матэрыялы следчай справы НКУС БССР» (1997).

*Тв.:* Крестьянство Белоруссии на пути к социализму. Мн., 1979, Социалистические преобразования в западных областях БССР (сентябрь 1939 — июнь 1941 гг.) Мн., 1979, Становление и развитие исторической науки Советской Белоруссии (1919—1941 гг.) Мн., 1985; Историческая наука БССР, 80-е годы Мн., 1987 (разам з П.Ц.Петрыкавым); Гісторыя славянскіх народаў у працах савецкіх даследчыкаў Мн., 1988 (разам з П.Ц.Петрыкавым, Г.Г.Сяргеевай); Докторские и кандидатские диссертации по историческим наукам БССР 1944—1987 гг.: Библиогр указ. 2 изд. Мн., 1988 (разам з Л.М.Навіцкай); Арыштавацъ у высылцы: Дакум. нарыс пра Алеся Дудара. Мн., 1996; Споведзь у надзеі застацца жывым: Біягр. Б.Тарашкевіча. Мн., 1998 (разам з А.І.Валахановічам)

У.М.**Міхнюк.**

**МІЦКЕ́ВІЧ** (Mickiewicz) Адам Бярнард (14.12.1798, фальварак Завоссе Навагрудскага пав. Літоўскай губ., паводле інш. крыніц г. Навагрудак — 26.11.1855), польскамоўны паэт Беларусі, грамадскі дзеяч, публіцыст, асветнік. Паходзіў са старадаўняй збяднелай бел. шляхты роду Рымвідаў-Міцкевічаў герба «Порай». Скончыў Навагрудскую дамініканскую школу (1815), Віленскі ун-т (1819). У час вучобы ва ун-це быў адным з лідэраў т-ваў філаматаў («сяброў навукі») і філарэтаў («сяброў дабрачыннасці»), якія ставілі перад сабою культ., навук.-асв. мэты, прапагандавалі патрыятычную ідэю самаадданага служэння для дабра і росквіту айчыны, змаганне за аднаўленне яе незалежнасці і магутнасці. У 1819 накіраваны на выкладчыцкую працу ў Коўна, а фактычна высланы далей ад Вільні. Калі ў 1823 віленскія тайныя маладзёжныя арг-цыі былі выкрыты і разгромлены царызмам, М. арыштаваны і пасля многіх месяцаў зняволення высланы «ў аддаленыя ад Польшчы губерні». З кастр. 1824 пачаўся перыяд яго ссылкі; жыў у Пецярбургу, Адэсе, Маскве пад тайным паліцэйскім наглядам. Пазнаёміўся і пасябраваў з пісьменнікамі А.Пушкіным, П.Вяземскім, будучымі дзекабрыстамі К.Рылеевым, А.Бястужавым, С.Валконскім і інш. У маі 1829 пакінуў Расію раней, чым падпісаны загад цара пра забарону выезду. Жыў пераважна ў Рыме, часам у Швейцарыі. Атрымаўшы вестку пра паўстанне 1830, ён выехаў на радзіму, каб далучыцца да барацьбы, але ўжо ў Познані даведаўся аб паражэнні паўстання і вярнуўся ў Дрэздэн. З 1832 у Парыжы, разам з І.*Лялевелем* стаў адным з лідэраў левага дэмакр. крыла польскай эміграцыі, рэдагаваў час. «Pielgrzym Polski» («Польскі пілігрым»), які быў трыбунай свабодалюбівых ідэй. У 1839 праф. Лазанскага ун-та, чытаў курс лекцый па рымскай л-ры. З 1840 узначальваў кафедру слав. літаратур у Калеж дэ Франс у Парыжы. У гэты час на М. моцна паўплывалі містычна-месіянскія ідэі і настроі А.Таўянскага. У 1848 ён далучыўся да рэв. падзей, што ўскалыхнулі ўсю Еўропу. Выехаў у Італію, дзе стварыў польскі легіён, які змагаўся поруч з войскамі італьянскіх паўстанцаў на чале з Мадзіні і Гарыбальдзі. Дэвізам яго стаў адноўлены лозунг Т.Касцюшкі: «За вашу і нашу свабоду!». Для польскага легіёна М. напісаў «Звод прынцыпаў», у якім адбіліся яго дэмакр. і нац.-вызв. ідэі. У час руху легіёна па паўн. гарадах Італіі М. выступаў з прамовамі, у якіх сцвярджаў, што Польшча не памерла, што яна паўстане на змаганне за незалежнасць, расклейваліся яго адозвы са свабодалюбівымі заклікамі. Пасля паражэння «вясны народаў» у Еўропе М. у 1849 зноў у Парыжы, рэдагаваў прагрэсіўную дэмакр. газ. «La Tribune des Peuples» («Трыбуна народаў»), у сваіх артыкулах выступаў як духоўны лідэр еўрап. дэмакратыі. З 1852 бібліятэкар Арсенала. З пачаткам Крымскай вайны М. зноў далучыўся да барацьбы, спадзеючыся, што ў час канфлікту будзе закранута і польскае пытанне. У 1855 ён выехаў у Турцыю, дзе ствараў польскія атрады для барацьбы з царскай Расіяй. Памёр раптоўна ў Канстанцінопалі ў час эпідэміі халеры. Многія біёграфы лічаць, што яго смерць з'явілася вынікам паліт. інтрыгі. Яго пахаванне ў студз. 1856 у Парыжы вылілася ў магутную маніфестацыю. У 1890 прах паэта перавезены ў Кракаў.

Грамадска-паліт. погляды М. на гісторыю і лёс роднага краю, на ролю нац.-вызв. барацьбы ў гіст. працэсе знайшлі адлюстраванне ўжо ў яго ранняй «філамацкай» творчасці. У паэме «Мешка, князь Навагрудка» (1822) створаны рамантычны вобраз жанчыны-патрыёткі і ваяводы Парая (у яго імені скарыстана назва радавога герба Міцкевічаў), гатовых на самаахвярнае змаганне дзеля вызвалення айчыны. Гэта стала асн. тэмай усёй яго далейшай творчасці. У вершах «Ужо з пагодных нябёс...», «Картопля» адлюстраваў паэтычную праграму дзеянняў для маладых людзей, якіх заклікаў да ахвярнасці і адвагі ў імя свайго патрыятычнага абавязку, выказваў пачуццё замілаванасці і любові да роднага краю. Вершы ковенскага перыяду (1819—23) «Песня Адама», «Песня філарэтаў», «Ода да маладосці» сталі агульнапрызнанымі сімваламі філамацкага руху, кодэксам паводзін яго членаў. «Шчырасць, веды і айчына» — так спяваецца ў «Песні Адама», якая стала гімнам т-ва філаматаў і выконвалася на першай маёўцы. У «Песні філарэтаў» вызваленне айчыны і вернасць ёй сімвалізаваны ў вобразе чары, якую сябры-паплечнікі перадаюць па крузе, і для кожнага з іх глыток з гэтай святой чары — прычасце. У «Одзе да маладосці» нац.-вызв. пафас спалучаўся з роздумам паэта пра лёс усяго чалавецтва. Гэты твор быў маніфестам паўстанцаў 1830—31.

Віленска-ковенскі перыяд адметны выхадам 2 тамоў «Вершаў» М., у якіх змешчаны «Балады і рамансы» (1822), паэмы «Гражына» і «Дзяды» (ч. 2 і 4, 1823). Са з'яўленнем гэтых твораў постаць М. ў польскай л-ры выходзіла на першы план, а цэнтр новага літ. жыцця змяшчаўся на ўсход, у Вільню. «Балады і рамансы» сведчылі аб пачатку новага маст. кірунку — рамантызму, асн. прынцыпы народнасці і нац. самабытнасці якога М. сфармуляваў у літ. маніфесце «Да паэзіі рамантычнай», змешчаным у якасці прадмовы да 1-га тома вершаў. Творы гэтага перыяду грунтаваліся на бел. фальклорным і гіст. матэрыяле і знаменавалі перавагу пачуццёвага светаўспрымання над рацыяналістычна асветніцкім. Моцным акордам гучалі нац.-патрыятычныя матывы ў паэме «Гражына», прысвечанай гераічнай барацьбе з крыжакамі. Гіст. мясціны і падзеі ў творы адлюстраваны праз прызму аўтарскай фантазіі, асн. мэта яго была не гіст. факты, а ўзвышана апаэтызаваць героіку патрыятычнай барацьбы і самаахвярнасці ў імя вызвалення айчыны. У цэнтры твора гераічны вобраз жанчыны-патрыёткі, намаля-

торыі. Выдаваліся ў Магілёве ў 1883—1917 на рус. мове. Прызначаліся для *Магілёўскай праваслаўнай епархіі.* Мелі афіц. і неафіц. аддзелы. У афіц. аддзеле друкаваліся пастановы і распараджэнні ўрада і мясц. улад па царк. справах, рашэнні і справаздачы Сінода, аб'явы і распараджэнні кансісторыі. У неафіц. частцы змяшчаліся матэрыялы царк.-гіст. характару: пра дзейнасць брацтваў (артыкул Ф.Жудро аб Магілёўскім Богаяўленскім брацтве, 1889—90), царк.-прыходскіх школах і інш. навуч. установах (аб Магілёўскім жаночым духоўным вучылішчы, 1884, № 20, чытаннях па гісторыі Магілёўскай епархіі пры *Магілёўскай духоўнай семінарыі*, 1884, №35—36), гіст. нарысы пра асобныя манастыры (Чонкаўска-Макар'еўскі адзінаверскі, 1889, № 22—23, Тупічэўскі Св.-Духаўскі, 1889, №14—16), успаміны пра магілёўскіх епіскапаў і інш. Змяшчалі матэрыялы ў дапамогу святарам: як праводзіць гутаркі са старaверамі, як весці барацьбу супраць забабонаў і інш. У кожным нумары змяшчаўся летапіс бягучых падзей, што тычыліся розных бакоў грамадскага жыцця. Рэдактары: Д.Ціхаміраў, І.Пятніцкі, П.Сахараў, А.Малевіч. У 1991 выпуск «М.е.в.» адноўлены. *Валянціна Грыгор'ева.*

**«МОГИЛЁВСКИЙ ВЕ́СТНИК»**, штодзённая грамадска-паліт. і літаратурная газета праваакцябрысцкага кірунку. Выдавалася з 19.5(1.6).1906 да 15(28).4.1917 у Магілёве на рус. мове спачатку губ. праўленнем, з 1913 прыватнымі выдаўцамі. Рэдактары: М.І.Пілін, М.М.Сталеўскі, Г.П.Пажараў, А.Е.Адамец і інш. Падтрымлівала палітыку царызму, асуджала рэв., нац.-вызв. і ліберальна-апазіцыйны рух. Друкавала «словы» і «казанні» мясц. епіскапа, у якіх прапагандаваліся ідэі рус. праваслаўя і самадзяржаўя, асуджаліся атэізм, матэрыялізм, філасофія Л.Талстога. У арт. «Брашуры на беларускай мове» (18.8.1906), «Мінск» (27.8.1906) і інш. адмаўляла нац. і этнакульт. самастойнасць бел. народа, абвінавачвала газеты *«Наша доля»* і *«Наша ніва»* ў сепаратызме. Пасля Лют. рэвалюцыі 1917 падтрымлівала Часовы ўрад. Змяшчала вершы, апавяданні, нарысы мясц. аўтараў, гіст. раман Юрыя Барташэвіча «Імператар сфінкс», навукова-папулярныя і этнагр. артыкулы. Прапагандавала рус. літ.-маст. спадчыну, але замоўчвала сац.-крытычную накіраванасць твораў. Тэндэнцыйна абвінавачвала М.Горкага, С.Сяргеева-Цэнскага, Н.Найдзёнава ў натуралізме і дэкадэнцтве. Адмоўна ставілася да футурызму і інш. авангардысцкіх кірункаў, але прызнавала наватарства У.Меерхольда. Інфармавала пра музычныя і тэатральныя навіны ў Магілёве, адзначала заслугі Е.Раманава і М.Доўнар-Запольскага ў даследаванні фальклору. *Уладзімір Конан.*

**«МОГИЛЁВСКИЙ ГО́ЛОС»**, штодзённая грамадска-палітычная і літаратурная газета радыкальна-ліберальнага кірунку. Выдавалася з 6(19).1 да 22.8(4.9).1906 у Магілёве на рус. мове. Заснавальнік і 1-ы рэдактар-выдавец Ю.Ю.Бехлі. З 22.2.1906 газету выдавала т-ва «Правінцыяльная прэса», 3.5.1906 рэдактарам стаў Н.А.Шафраноўскі. У праграмным артыкуле рэдакцыя заявіла, што газета будзе служыць усеагульнай паліт. свабодзе на аснове «канстытуцыйна-дэмакр. праграмы», раўнапраўю, «эканам. інтарэсам працоўных мас» (6 студз.). У публікацыях Я.Окуня «Мясцовая хроніка» (28 студз.), «Пра лібералізм» (5 лют.), «Партыйнае жыццё: Рэвалюцыя «бальшавікоў» пра адносіны да нацыянальных сацыял-дэмакратычных партый» (7 крас.), «Айчына ў небяспецы» (28 крас.), «Рэвалюцыя і творчасць» (12 ліп.) і інш. падтрымлівала вызв. рух і рэвалюцыю. У арт. «Аб Л.М.Талстым і пралетарыяце», «Папулярныя гутаркі» Окунь прапагандаваў марксісцкі погляд на грамадства, ролю розных класаў у рэвалюцыі; Л.Талстога лічыў вял. пісьменнікам, адносіў яго да ідэолагаў буржуазіі. Газета станоўча ацаніла творчасць М.Горкага, Л.Андрэева. У аддзеле «Тэатр і музыка» асвятляла культ.-асв. дзейнасць у Гомелі. 11 разоў падвяргалася судовым праследаванням і адм. спагнанням за падтрымку рэвалюцыі, арганізацыю збору ахвяраванняў для ссыльных. *Уладзімір Конан.*

**«МОГИЛЁВСКИЙ ГО́ЛОС»**, грамадска-паліт. і літаратурная газета. Выдавалася з 13.3.1918 у Магілёве на рус. мове. Рэдактар-выдавец І.Міркін (Мірскі-Ісаеў). У праграмным і рэдакцыйным артыкуле абвясціла сябе беспартыйнай, ставіла задачу інфармаваць жыхароў горада пра падзеі мясц. жыцця, асвятляць з'явы і факты, якія з'яўляюцца «каштоўным укладам у летапіс горада Магілёва». Выходзіла ва ўмовах акупацыі горада германскімі войскамі і польскім корпусам І.Р.Доўбар-Мусніцкага. Друкавала справаздачы пра пасяджэнні Магілёўскай гарадской думы, Магілёўскай губ. земскай управы, пра Усерасійскі з'езд Саветаў, даклад пра Брэсцкі дагавор. Апублікавала артыкул Дрыгавіча «Беларуская Народная Рэспубліка» (1 крас.). Пісала пра падзеі ў Петраградзе, Мінску, Гомелі, Смаленску, Бабруйску. Апошні вядомы № 19 выйшаў 10.4.1918. *Святлана Кныш.*

**МО́ГІЛЬНІК**, група стараж. пахаванняў у адным месцы. Адасобленыя ад паселішчаў М. з'явіліся ў *мезаліце.* Падзяляюцца на курганныя (гл. *Курган*) і бескурганныя, або грунтавыя без насыпаў. Паводле пахавальнага абраду адрозніваюць М. з трупаспаленнем і трупапалажэннем. Даследаванне М. дае каштоўны матэрыял для вызначэння арэала этнічных груп, археал. культур. хранапогіі, палеантрапалогіі, сямейных і сацыяльных адносін; пахавальны інвентар, убранне нябожчыка дапаўняюць уяўленне аб матэрыяльнай культуры розных плямён. На Беларусі самыя старажытныя М. адносяцца да бронзавага веку (*Рудня-Шлягіна, Ходасавічы*). Найб. даследаваны бескурганныя М. ранняга жал. веку *Чаплін,* курганныя часоў Полацкай дзяржавы — *Ізбішча, Заслаўскія курганныя могільнікі.* Антычны М. звычайна называюць некропалем, хрысціянскі і мусульманскі — могілкамі.

*Літ.*: Очерки па археологии Белоруссии. Ч. 1—2. Мн., 1970—72; Лысенко П.Ф. Дреговичи. Мн., 1991; Штыхаў Г.В. Крывічы. Мн., 1992. *Георгій Штыхаў.*

**МО́ДЭЛЬ** (Model) Вальтэр (24.1.1891, г. Генцін, Германія — 21.4.1945), германскі ваенны дзеяч. Ген.-фельдмаршал (1944). З 1909 у арміі, удзельнік 1-й сусв. вайны. З ліст. 1940 камандаваў 3-й танк. дывізіяй, якая ўдзельнічала ў нападзе на СССР. З кастр. 1941 камандзір 41-га танк. корпуса, са студз. 1942 на ліст. 1943 (з перапынкамі) камандуючы 9-й арміяй на Усх. фронце. У лют.—сак. 1944 камандаваў групай армій «Поўнач», у крас.—чэрв. 1944 «Паўночная Украіна». Вызначаўся асаблівай жорсткасцю. 28.6.1944 як «майстар адступлення» прызначаны камандуючым групай армій «Цэнтр» (дыслацыравалася на Беларусі), каб спыніць наступленне сав. войск у ходзе *Беларускай аперацыі 1944.* Аднак у час камандавання М. войскі групы армій «Цэнтр» панеслі найб. цяжкія паражэнні і 15.8.1944 ён адхілены ад пасады. З вер. 1944 камандуючы групай армій «Б» у Францыі (у крас. 1945 разгромлена і капітулявала). Скончыў самагубствам.

**МО́ЖЫ** (Morzy) Юзаф (н. 10.8.1921, в. Лопуш Бельск-Падляскага пав. Беластоцкага ваяв.), польскі гісторык. Д-р гіст. навук (1962). Скончыў Маскоўскі ун-т (1955). Да 1991 працаваў ва Ун-це імя А.Міцкевіча ў Познані, дацэнт (1968). Вывучае гісторыю ВКЛ і Расіі. Аўтар манаграфіі «Дэмаграфічны крызіс у Літве і Беларусі ў II палове XVII ст.» (1965; бел. пераклад фрагментаў у час. «Спадчына», 1992, № 5), дзе на падставе шматлікіх крыніц зроблена выснова пра значнае (да 50%) скарачэнне насельніцтва ВКЛ у час войнаў 1648—67 з-за баявых дзеянняў, голаду, пошасцей, вываду ў палон, уцёкаў. Аўтар больш як 50 артыкулаў і рэцэнзій.

*Тв.*: Geneza i rozwój cechów wileńskich do końca XVII w. // Zeszyty naukowe Uniwersytetu im. Adama Mickiewicza w Poznaniu. Historia. Poznań, 1959. Z. 4; Zarys dziejów ZSRR. Warszawa; Poznań, 1984 (разам з А.Кіясам, Е.Ахманскім).

**МО́ЙЗЫХ** Яўген Антонавіч [7(20)12.1903, в. Германава Лукаўскага пав. Сядлецкай губ., цяпер у Люблінскім ваяв., Польшча — 10.8.1944], Герой Сав. Саюза (1945). Беларус. Скончыў ваенна-пях. вучылішча (1944). З 1933 нар. суддзя ў Чэлябінску і вобласці. У Чырв. Арміі з 1941. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1944 на 2-м Прыбалт. фронце. Камандзір кулямётнага ўзвода ст. лейтэнант М. вызначыўся пры вызваленні Латвіі: 10.8.1944 узвод М. фарсіраваў р. Айвіекстэ, знішчыў агнявыя

пункты ворага, што перашкаджалі пераправе сав. войск; у час адбіцця 5-й контратакі праціўніка, калі скончыліся боепрыпасы, М. павёў узвод у рукапашны бой, у якім загінуў.

**МÓКАШ**, адна з гал. багінь слав. язычніцкага пантэона. Ва ўсх-слав. летапісах згадваецца як адзіны жаночы персанаж, чый ідал разам з ідаламі інш. багоў быў пастаўлены кн. Уладзімірам Святаславічам у Кіеве «на холму вне двора теремного». На думку шэрагу даследчыкаў, у міфалогіі славян М. лічылася жонкай Перуна. Уяўлялі яе як жанчыну з вял. галавой і доўгімі рукамі, якая ноччу прадзе. Ушанаванне М. засведчана царк. павучаннямі 14 ст. Ёй прыносілі ахвяры — кідалі ў калодзеж кудзелю або пражу. Лічылася апякункай шлюбу, эротыкі і ўвогуле сексуальнай сферы. У сакралізаванай тапаніміцы ёй прысвячалі ўзгоркі (напрыклад, чэшскае Mokošin Vrch). У бел. мікратапаніміцы вядомы ўрочышча Мокшава балота, Мокіш. У сістэме бінарных апазіцый М звязвалі з няцотнымі полюсамі (дзень Перуна — чацвер, а М. — пятніца). М. як багіня звязана з вадой, а таксама з ідэяй нараджэння, урадлівасці, жыцця. Паводле даных фальклору і тапанімікі, М. была вядома зах. і паўд. славянам. На Беларусі існаваў культ багіні, аналагічнай М. Паводле звестак А.Кіркора, ёй была Цёця (Ціоця), якую ўяўлялі прыгожай поўнай жанчынай, з галавой, упрыгожанай спелымі каласамі, а ў руках яна трымала садавіну і гародніну. Па нар. календары, на зімовае сонцастаянне (Каляды) Цёця нараджае сонца — Божыча (Дажбога). Пасля прыняцця славянамі хрысціянства, на змену М. прыйшоў яе адпаведнік — св. Параскева Пятніца. Даволі часта хрысціянскім адпаведнікам М. лічыцца Марыя.

*Літ.:* Иванов В.В., Топоров В.Н. К реконструкции Мокоши как женского персонажа в славянской версии основного мифа // Балто-славянские исследования, 1982. М., 1983; Живописная Россия. Т. 3. СПб.; М., 1882 *Эдвард Зайкоўскі.*

**МÓКРАЕ**, вёска ў Холстаўскім сельсавеце Быхаўскага р-на, чыг. паўстанак Мокрае на лініі Магілёў — Жлобін, на р. Макранка. За 3 км на Пн ад Быхава, *50 км ад Магілёва. 800 ж., 364 двары* (1997).

Вядома па рукапісных крыніцах з 16 ст., як вёска ў складзе каралеўскіх зямель. У пач. 17 ст. прыпісана да Быхаўскага замка, уладанне Храптовічаў, пасля Сапегаў; з 1745 у Быхаўскім графстве, 35 двароў. У 1758 — 152 асобы мужчынскага полу, 53 двары, карчма, млын, царква. Пасля *Першага падзелу Рэчы Паспалітай 1772* у складзе Рас. імперыі. У 1885 у Гарадзецкай воласці Быхаўскага пав., 583 ж., 100 двароў. У 1897 — 975 ж., 140 двароў, хлебазапасны магазін. У лют.—ліст. 1918 акупіравана герм. войскамі. У 1920 — 1243 ж., 209 гаспадарак, 894,9 дзес. ворнай зямлі. У 1924 арганізавана т-ва па рэалізацыі с.-г. прадукцыі, якое аб'ядноўвала

*Я.А.Мойзых.*

23 гаспадаркі. З 20.8.1924 да 11.4.1960 — цэнтр сельсавета (4.6.1965 сельсавет адноўлены, 18.3.1966 перайменаваны ў Холстаўскі). У 1926 — 1143 ж., 215 двароў (236 ж., 41 двор на хутарах вакол М.), працоўная школа 1-й ступені, б-ка. У 1930 утвораны калгас імя Сталіна, у 1933 — МТС. З 1972 цэнтр саўгаса, пасля калгаса «Мокранскі»; школа, дзіцячы сад, б-ка, Дом культуры, фельчарска-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, 2 магазіны. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Помнік архітэктуры — Успенская царква (1865). М. — радзіма літаратуразнаўцы М.І.*Мушынскага.* *Васіль Удальцоў.*

**МÓЛАТАЎ** Вячаслаў Міхайлавіч [сапр. Скрабін; 25.2(9.3).1890, слабада Кукарка Нолінскага пав. Вяцкай губ., цяпер г. Савецк Кіраўскай вобл., Расія — 8.11.1986], савецкі парт. і дзярж. дзеяч. Герой Сац. Працы (1943). Скончыў Казанскае рэальнае вучылішча (1908), вучыўся ў Пецярбургскім політэхн. ін-це (1911—12). За рэв. дзейнасць неаднойчы быў арыштаваны і сасланы. У Лют. рэвалюцыю 1917 узначальваў Рус. бюро ЦК, чл. Выканкома Петраградскага Савета. У Кастр. рэвалюцыю 1917 чл. Петраградскага ВРК. У 1919—21 старшыня Ніжагародскага губвыканкома, сакратар Данецкага губкома РКП(б), ЦК КП(б) Украіны. У 1921—30 сакратар ЦК РКП(б) [ВКП(б)]. У 1930—41 Старшыня СНК СССР, потым 1-ы нам. Старшыні Савета Міністраў СССР. У 1941—45 нам. старшыні Дзярж. к-та абароны, уваходзіў у склад Стаўкі Вярх. Галоўнакамандавання. У 1939—49, 1953—57 міністр замежных спраў СССР, з 1956 міністр дзярж. кантролю СССР, з 1957 пасол СССР у Мангольскай Нар. Рэспубліцы. У 1960—62 кіраўнік Сав. прадстаўніцтва ў МАГАТЭ у Вене. Чл. ЦК партыі ў 1921—57 (канд. з 1920), чл. Палітбюро (Прэзідыума) ЦК у 1926—57 (канд. з 1921), чл. Аргбюро ЦК у 1921—30. Чл. ВЦВК і ЦВК СССР у 1937—58. Дэп. ВС СССР у 1937—58. На чэрвеньскім (1957) пленуме ЦК КПСС выведзены са складу Прэзідыума ЦК і ЦК за несумяшчальную з прынцыпамі партыі фракцыйную дзейнасць. У лют. 1962 выключаны з КПСС. Адноўлены ў партыі ў 1984.

М. — адзін з актыўных арганізатараў масавых *рэпрэсій палітычных* у СССР і БССР у 1930-я г. Выступіў на лютаўска-сакавіцкім (1937) пленуме ЦК з дакладам «Урокі шкодніцтва, дыверсіі і шпіянажу япона-трацкісцкіх агентаў». 8.5.1933 М. падпісаў пасля І.В.Сталіна інструкцыю ўсім парт.-сав. работнікам і ўсім органам суда і пракуратуры, у адпаведнасці з якой толькі з Беларусі ў раёны Сібіры было выслана больш за 16 тыс. сялян. Яго подпіс стаіць больш як у 4500 спісах асуджаных за «контррэвалюцыйныя злачынствы». Ад імя сав. ўрада падпісаў сав.-герм. дагавор аб ненападзе (пакт Молатава — Рыбентропа), германа-сав. дагавор аб дружбе і граніцы, канфідэнцыяльны і сакрэтныя дадатковыя пратаколы (28.9.1939), сакрэтны сав.-герм. пратакол аб далейшым супрацоўніцтве (10.1.1941). Удзельнік Маскоўскіх нарад (1941, 1943, 1945), Тэгеранскай (1943), Крымскай і Патсдамскай (абедзве 1945) канферэнцый кіраўнікоў урадаў трох саюзных дзяржаў — СССР, ЗША і Вялікабрытаніі.

*Тв.:* В борьбе за социализм: Речи и статьи. 2 изд. М., 1935.

*Літ.:* Медведев Р.А. Об одном московском долгожителе // Медведев Р.А. Они окружали Сталина. М., 1990; Чуев Ф.И. Сто сорок бесед с Молотовым. М., 1991. *Ігар Кузняцоў.*

**«МÓЛАТ»**, газета, орган Магілёўскага Савета сялянскіх, рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Выдавалася з канца мая 1917 да пач. студз. 1918 у Магілёве на рус. мове. Мела эсэра-меншавіцкі кірунак, таму што большасць дэпутацкіх месцаў у Савеце належала прадстаўнікам гэтых партый. Публікавала матэрыялы з пасяджэнняў Савета, афіцыйныя дакументы, хроніку мясц. жыцця. Пасля Кастр. рэвалюцыі трапіла пад уплыў бальшавікоў і левых эсэраў. З 10.1.1918 выдавалася пад назвай «Известия Могилевского Совета рабочих и солдатских депутатов». *Аляксандр Вараб'ёў.*

**МÓЛЬНІЧЫ**, курганны могільнік *дрыгавічоў* каля в. Мольнічы Навагрудскага р-на, на беразе р. Валоўка. Выявіла ў 1956 Ф.Д.Гурэвіч (19 насыпаў), даследавала ў 1971 К.В.Паўлава (8 курганоў). Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на ПдЗ (6 насыпаў) і на ПнЗ (адзін), адзін курган без пахавання. Праслойкі з попелу і вугалля ў насыпах (4 курганы), відавочна, рэшткі памінальных вогнішчаў. Выяўлены рэшткі складзенай з бярвён дамавіны. Пахавальны інвентар — жаночыя ўпрыгожанні (сярэбраныя і алавяныя скроневыя кольцы, сярэбраны пярсцёнак і фрагмент зярнёнай пацеркі, шкляныя, хрусталёвыя і сердалікавыя пацеркі), жал. нож. *Яраслаў Звяруга.*

**МОРГ** (ад ням. Morgen ранак), зямельная мера. У сярэдневяковай Германіі —

засваваны касцел св Тройцы (не збярогся) З 1486 у крыніцах наз мястэчкам Слонімскага пав, уласнасць вял князёў ВКЛ У 1654 разбурана ў час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 і на 4 гады вызвалена ад падаткаў У 1660-я г уласнасць Халецкіх У 1716—70 належала Юдыцкім, пазней — Тызенгаўзам З 1795 у Рас імперыі, у 19 — пач 20 ст мястэчка Люшнеўскай вол Слонімскага пав У 1860-я г 737 ж, 127 двароў, касцел Тройцы (зачынены ў 1867) царква, капліца, 2 яўр малітоўныя дамы, 4 кірмашы на год У 1879 М на 2/3 знішчана пажарам У 1886 — 479 ж 45 двароў 2 царквы, 3 сінагогі, школа бровар, *базар па нядзелях*, 4 кірмашы на год З 1921 у складзе Польшчы, цэнтр гміны ў Слонімскім, з 1926 — у Баранавіцкім пав З 1939 у БССР з 15 1 1940 цэнтр сельсавета Гарадзішчанскага р-на, з 25 12 1962 у Баранавіцкім р-не Цэнтр калгаса, лясніцтва, хлебапякарня Сярэдняя школа, базавая школа-інтэрнат, дашкольная ўстанова, б-ка, бальніца, аддз сувязі, магазіны Помнікі землякам і ахвярам фашызму, якія загінулі ў Вял Айч вайну двойчы Герою Сав Саюза С І Грыцаўцу Помнік архітэктуры — Петрапаўлаўская царква (1869—73)

*Валерый Шаблюк, Уладзіслаў Вяроўкін Шэлюта*

**МО́ХАЎ**, комплекс археал помнікаў (2 гарадзішчы, бескурганны і курганны могільнікі) каля в Мохаў Лоеўскага р на, на правым беразе Дняпра Гарадзішчы (6 ст да н э — 1 ст н э і 5—4 ст да н э) у 1950-я г і 1961 даследавалі В М Мельнікоўская і П М Траццякоў Выяўлены сляды буданападобнага і рэшткі 2 заглыбленых у зямлю жытлаў мілаградскай, наземнае жытло і 2 паграбы зарубінецкай культур Сярод мілаградскіх знаходак вял колькасць керамікі, жал цясла і матыка, абломак бронзавага бранзалета, зарубінецкіх — тапныя гаршкі, арнаментаваныя міскі і кубкі, біканічныя праслііцы, ліцейная форма, фігурка жывеліны, жал серп На бескурганным могільніку мілаградскай культуры пахавальны абрад — трупаспаленне па-за межамі пахавання У курганным могільніку дрыгавічоў 10—12 ст (было 600 курганоў, 26 насыпаў даследаваў у 1890 У З Завітневіч) пахавальны абрад — трупаспаленне, трупапалажэнне (15 курганоў) галавой на З, адно пахаванне — у драўлянай труне галавой на Пн, у некаторых насыпах адзначаны рэшткі драўляных збудаванняў, адзін *кенатаф* Сярод знаходак шкляныя пацеркі, шыйная грыўня, бранзалеты, бразготкі, гузікі, нажы крэсіва, сякеры, гаршкі

*Літ* Третьяков П Н Моховское второе городище // Краткие сообщения Ин-та археологии АН СССР 1960 Вып 81 Мельниковская О Н Племена южной Белоруссии в раннем железном веке М 1967 Лысенко П Ф Дреговичи Мн, 1991

*Георгій Штыхаў*

**МРАЗО́ЎСКІ** Іосіф Іванавіч [14(26) 12 1857 — пасля 1917], расійскі ваен дзеяч. Ген ад артылерыі (1913) З патомных бел дваран Скончыў Полацкую ваен гімназію (1874, гл *Полацкі кадэцкі корпус*), Міхайлаўскае артыл вучылішча (1877), Міхайлаўскую артыл акадэмію (1885) Служыў у артыл часцях Удзельнік рус -турэцкай вайны 1877—78 У 1885—1902 ст ад'ютант упраўлення нач артылерыі гв корпуса, камандзір батарэі Удзельнік падаўлення паўстання іхэтуаней у Кітаі 1900—01 У рус японскую вайну 1904—05 камандаваў артыл брыгадай, вызначыўся ў баі пад Ляаянам У 1906—14 нач артылерыі Пецярбургскай ваен акругі, камандзір 1-й гв пях дывізіі Шмат зрабіў для палвышэння баяздольнасці артыл часцей У 1-ю сусв вайну камандаваў грэнадзерскім корпусам (1914—15), войскамі Маскоўскай ваен акругі (1915—17)

*Андрэй Лукашэвіч*

А. Мрый.

**МРЫЙ А.** (сапр Шашалевіч Андрэй Антонавіч, 1893, в Палуж Чэрыкаўскага пав Магілёўскай губ, цяпер Краснапольскі р-н — 8 10 1943), бел пісьменнік Брат В *Шашалевіча* Скончыў духоўную семінарыю Быў прапаршчыкам у царскай арміі, у 1918—21 у Чырв Арміі У 1921—26 настаўнічаў у Краснапольлі У 1926—30 інспектар Цэнтр бюро краязнаўства БССР по тым стыльрэдактар у газ «Звязда» Быў членам літ аб'яднання «Узвышша» У 1934 арыштаваны, асуджаны на 5 гадоў, у 1937 і ў 1940 зноў арыштаваны Абвінавачваўся ў розных «злачынствах», у т.л ва ўдзеле ў антысав арг цыі і шпіёнстве на карысць польскай дэфензівы

Пакаранне адбываў у Карагандзе, Валагодскай, Мурманскай абл Памер у лагеры на Поўначы Рэабілітаваны ў 1961

Друкаваўся з 1924 у «Савецкай Беларусі», «Голасе беларуса» (Вільня), «Узвышшы», «Чырвоным сейбіце» Яго сатырычны раман «Запіскі Самсона Самасуя» (1929, поўнасцю апубл 1988, пастаўлены тэлефільм «Пратарчака жыцця, або Запіскі Самсона Самасуя», 1990) вызначаецца асаблівай маст сілай У ім развенчваецца «тыповы выскачка Самасуй, што з мяшчанскіх нізоў прабіраецца да вяршыняў савецкай улады» Раман быў абвешчаны паклепніцкім Для твораў М характэрны складаныя жыццёвыя сітуацыі, неардынарныя чалавечыя характары, глыбіня праблематыкі Навелы, аповесці і раман з лагернага жыцця «Жывы дом», напісаныя ў ссылцы, у час арышту ў Мурманску канфіскаваны і, відаць, згублены

*Тв* Творы Мн, 1993

**МСЦІ́БАВА**, гарадзішча каля в Мсцібава Ваўкавыскага р-на, на правым беразе р Альшанка Пляцоўка дыям 30 м умацавана валам выш каля 5 м са стромкімі схіламі, з усх боку прарэзаны ўезд На Пд і ПдЗ мае другі невысокі вал, які канцамі ўпіраецца ў балота, перад валам прасочваюцца сляды рова Даследавалі ў 1974 Я Г Зверуга, у 1988—89 С А Піваварчык Культурны пласт 0,2—0,8 м Знойдзена ганчарная кераміка 12—13 ст і 16—17 ст (складае каля 90%), у раене знешняга вала і на Пд ад яго — абломкі керамікі 13 ст Паводле П А Рапапорта, гарадзішча — рэшткі сядзібы валынскага баярына Мсцібога, які ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1202 У 15—17 ст замак

*Літ* Раппопорт П А Мстибогов городок // Краткие сообщения Ин-та археологии АН СССР 1962 Вып 87 Зверуго Я Г Исследования в Верхнем Понеманье // Археологические открытия 1974 г М, 1975

*Сяргей Піваварчык*

**МСЦІ́БАВА**, веска ў Гнезнаўскім сельсавеце Ваўкавыскага р-на За 23 км на З ад Ваўкавыска, за 1 км ад чыг ст Мсцібава на лініі Ваўкавыск—Бераставіца 376 ж, 186 двароў (1997)

Першае паселішча на месцы М — гарадзішча — сфарміравалася ў 12—13 ст У 15 ст вялікакняжацкія двор і веска пад назвай Мсцібогаў (магчыма, раней сядзіба валынскага баярына Мсцібога, які ўпамінаецца ў крыніцах пад 1202) У 3-й чвэрці 15 ст вял кн ВКЛ Казімір IV аддаў Мсцібогаў Кезгайлам У 1492 згадваецца ў дакументах як М Ваўкавыскага пав З 1-й чвэрці 16 ст зноў вялікакняжацкае ўладанне У 1572 і 1576 у М адбываліся з'езды шляхты Рэчы Паспалітай, на апошнім з якіх выпрацавана абрацць каралем Стафана Баторыя У 17—18 ст цэнтр староства ў Ваўкавыскім пав, складалася з мястэчка і замка У 18 ст 3 вуліцы, касцел, царква, 2 карчмы У 1744 атрымала маг дэбургскае права У 1775 — 162 двары Пры замку існавалі карчма, млын, кляштар марыявітак У 1792 каля М адбылася бітва войска ВКЛ з каалцыяй рас войск і атрадаў *Таргавіцкай канфедэрацыі* З 1795 у Рас імперыі У 19—пач 20 ст дзярж мястэчка, цэнтр воласці Ваўкавыскага пав У 1886 — 1040 ж, 103 двары, 2 царквы, касцел, сінагога, пошта, багадзельня, 6 крам, 5 корчмаў, 3 кірмашы штогод У 1921—39 у складзе Польшчы, у Ваўкавыскім пав Беластоцкага ваяв З 1939 у БССР, з

12 10 1940 цэнтр сельсавета Ваўкавыскага р-на З 28 7 1967 у Гнезнаўскім сельсавеце У складзе саўгаса «Гнезна» Базавая школа, б-ка, клуб, магазін Помнік археалогіі гарадзішча *Мсціbава* Помнік архітэктуры касцел св Іаана (Яна) Хрысціцеля 1910—19

*Валерый Шаблюк*

**«МСТИСЛА́ВСКИЙ ГО́ЛОС»**, газета, орган Мсціслаўскага пав земства Выдавалася з 30 7 1917 у г Мсціславе Магілеўскай губ 2 разы ў тыдзень на рус мове У рэдакцыйную камісію ўваходзілі святар М Ф Свідзерскі, галосны гар думы У.М Нікольскі, старшыня пав земскай управы Ф І Дарашэвіч, старшыня пав Савета сял дэпутатаў М С Старавойтаў, галосныя земства А.А.Ьірукові і Я М Брыськін Паводле ідэйнага кірунку была агульнадэмакр выданнем. Падтрымлівала палітыку Часовага ўрада У рубрыках «Агульная хроніка», «Мясцовая хроніка» асн ўвагу аддавала мясцовым, асабліва харч праблемам, выбарам у валасныя земствы і інш Значнае месца адводзіла пытанням паліт асветы сярод сялянства (рубрыка «Грамадзянам сялянам») Змяшчала матэрыялы грамадска-паліт жыцця Расіі (рубрыка «Па Расіі»), асвятляла баявыя дзеянні на франтах («Ваенныя навіны»), дзеянні ўрада («Пастановы Часовага ўрада») і інш Інфармацыя падавалася са значным спазненнем, для яе асвятлення характэрны антыбальшавіцкі падыход Друкавала аб'явы, паведамленні парт арг-цый, перадвыбарныя заклікі, спісы кандыдатаў ва Устаноўчы сход Апошні вядомы нумар ад 12 11 1917 *Мікалай Сяменчык*

**МСЦІ́ЖСКАЕ ЕВА́НГЕЛЛЕ**, рукапісны помнік 13—14 ст Напісаны царк -слав мовай уставам у 2 слупкі, па 24 радкі ў слупку, на 187 пергаментных аркушах Уключае пачаткі тэкстаў евангелляў ад Іаана, Матфея, Лукі, чытанні ад Марка, Лукі і Іаана (уперамежку), саборнік (паказальнік евангельскіх чытанняў па святах) На палях зроблены надпісы 16 ст зачыны асобных евангелляў і інш У М е змешчаны 1 застаўка і каля 350 ініцыялаў, выкананых пераважна ў тэраталагічным стылі Асобныя ініцыялы маюць жанравы характар На адным з іх (літара «В») адлюстраваны селянін з рыдлеўкай — адна з першых выяў працы ў бел. мастацтве Аздобы выкананы 4 колерамі сінім, чырвоным, зяленым, жоўтым На сярэбраных пласцінках скуранога пераплету выгравіраваны выявы евангелістаў і Хрыста на крыжы На 1 й і апошняй старонках у 16 ст зроблены запісы аб тым, што мінскі бурмістр Васіль Лах ахвяраваў гэты экзэмпляр царкве св Юр'я ў Мсціжы (Барысаўскі р-н) Зберагаецца ў б-цы АН Літвы

*Літ* Б а т ю ш к о в П Н Памятники русской старины Вып 6 Вильна, 1874, Д о б р я н с к и й Ф Описание рукописей Виленской публичной библиотеки, церковнославянских и русских Вильна, 1882, С о б о л е в с к и й А.И История русского литературного языка Л 1980

*Уладзімір Свяжынскі, Віктар Шматаў*

Старонка **Мсціжскага евангелля**

**МСЦІСЛА́ВА АБАРО́НА 1654** Адбылася ў час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітаи 1654—67* Баі паміж рус войскамі на чале з А М Трубяцкім і войскам ВКЛ пачаліся ў ліп 1654 Войскі Трубяцкога аблажылі горад На дапамогу мсціслаўцам падышлі «служылыя людзі» «рослоўского урядника» М Посахаўскага колькасцю больш за 3 тыс чал У баі войска Посахаўскага было разбіта, каля 500 чал захоплены ў палон У выніку прыступу 12(22) ліпеня горад быў узяты Паведамляючы аб гэтым прыступе Б Хмяльніцкаму, цар Аляксеі Міхайлавіч у сваей грамаце пісаў што горад «взяты взятьем и шляхты, поляков и литвы и иных служылых людей и ксензов и езвуитов и иного их чину побито больши десяти тысяч человек» У якасці палонных баяры і ваяводы адаслалі цару «городничего мсциславского Я Стенкевича, да ротмистров и иных начальных людей» *Васіль Мялешка*

**МСЦІСЛА́ВА АБАРО́НА 1659** Адбылася ў студз —крас ў час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* Мэтай рус войск было падаўленне гараджан і ўзбр атрадаў палк І Рытара, ротмістра А Сутоцкага, казацкага сотніка Германа, «стражніка шляхты» В Крываноса, паручніка Зімніцкага, якія здрадзілі прысязе на вернасць цару Абаронцаў Мсціслава было больш за 3 тыс чал (шляхта, конныя і пешыя казакі), 300 укр казакоў, якіх прыслаў на дапамогу гетман І Выгоўскі З 26 1(5 2) 1659 рас войскі на чале з кн І Лабанавым-Растоўскім пачалі аблогу Мсціслава Нягледзячы на жорсткія прыступы, горад выстаяў Абаронцам неаднаразова па «выструбках» дасылаліся прапановы здаць горад, але яны адмаўляліся У сак на дапамогу асаджаным прыйшлі казакі І *Нячая*, атрад брата Выгоўскага Самойлы і палкоўнік Аскірка «са многими людьми» 11(21) сак яны атакавалі рус войска, але беспаспяхова Больш чым двухмесячная поўная блакада падарвала сілы абаронцаў У горадзе не хапала вады і прадуктаў У пачатку крас 1659, паводле заявы Лабанава-Растоўскага, «полковник Рытар и шляхта и казаки и всяких чинов жилецкие люди ему великому государю добили челом и город Мсциславль сдали»

*Васіль Мялешка*

**МСЦІСЛА́ВЕЦ** Петр Цімафеевіч, адзін з першых бел і рус друкароў, гравер 16 ст Выхадзец з г Мсціслава Удзельнічаў у заснаванні (з І Федаравым) друкарні ў Маскве, дзе яны надрукавалі «Апостал» (1564), 2 выданні «Часоўніка» (1565) Пад націскам рэакц колаў і кансерватыўнага духавенства з Федаравым пакінуў Маскву і пераехаў у мяст

Да арт **П Мсціславец** Іван Фёдараў і Пётр Мсціславец Мастак Р Таболіч 1992

У 1069, пасля перамогі над кн *Усясла вам Брачыславічам,* М І атрымаў ад бацькі княжацкі прастол у Полацку дзе неўзабаве і памер

**МСЦІСЛА́Ў РАМА́НАВІЧ** (у хрышчэнні Барыс, мянушка Стары, ?—1223), князь Сын вял князя кіеўскага Рамана Расціславіча (?—1180) У 1178 М Р княжыў у Пскове Паводле В М Тацішчава, Раман Расціславіч «па кінуў пасля сябе сына Мсціслава, яко му збудаваў горад Мсціслаў у вобласці Смаленскай і там загадаў яму пад ула даю стрыя яго быць» У 1197 Давыд Расціславіч завяшчаў яму Смаленск, у якім М Р княжыў да 1212—14 У 1210 заключыў гандлевы дагавор з Рыгаи Паміж 1212—14 захапіў Кіеў, у 1219 перайшоў на княжанне ў Галіч, а кіеўскі пасад перадаў Уладзіміру Рурыкавічу Пазней вярнуўся княжыць у Кіеў Загінуў у бітве з мангола-татарамі на р Калка З яго сыноў Усевалад (Петр) княжыў у Пскове (1214), Ноўгарадзе (1219—21), Кіеве (1221), суправіцель бацькі (?), Смаленску (1239) а *Свята слаў Мсціславіч* — у Ноўгарадзе, Полацку і Смаленску

*Літ* Татищев В Н История Российская М, Л, 1963 Т 2 С 123, Голубовский П В История Смоленской земли до начала XV ст Киев, 1895 Рапов О М Княжеские владения на Руси в X— первой половине XIII в М 1977 *Андрэй Мяцельскі*

**МСЦІСЛАЎ СВЯТАПО́ЛЧЫЧ** (?—12 6 1099), князь уладзіміра-валынскі Сын вял князя кіеўскага *Святаполка Ізяславіча* У «Аповесці мінулых гадоў» яго гібель датавана 1097 і 12 6 1099, калі кн Давыд Ігаравіч аблажыў Уладзімір-Валынскі і М С быў смяротна паранены стралою на сценах горада Паводле В М Тацішчава гэтая падзея адбылася 12 7 1099 М С, верагодна, валодаў Брэстам (Бярэсцем), Пінскам і Вышгарадам, бо дружыны з гэтых гарадоў таксама ўдзельнічалі ў абароне Уладзіміра-Валынскага *Алег Іоў*

**МСЦІСЛА́Ў УЛАДЗІ́МІРАВІЧ** (у хрышчэнні Федар, мянушка Вялікі, 1 6 1076—15 4 1132), вялікі князь кіеўскі Сын *Уладзіміра Усеваладавіча Манамаха* У 1088—93 трымаў Наўгародскую зямлю, у 1093 князь растоўскі, у 1093—95 — смаленскі, у 1095 — зноў растоўскі, у 1095—1117 — наўгародскі У 1117 бацька даў яму ў трыманне таксама Белгарад, што, верагодна, азначала прызначэнне М У суправіцелем Манамаха Паводле завяшчання бацькі 19 5 1125 М У стаў вял князем кіеўскім У жн 1127 ен арганізаваў вял калацыю для паходу на Полацкую зямлю, што, верагодна, было выклікана спробамі полацкіх князёў адваяваць Мінск У паходзе ўдзельнічалі Андрэй Уладзіміравіч з Уладзіміра-Валынскага, *Вячаслаў Уладзіміравіч* з Турава (браты М У), Усевалад з Гародна (Гродна?), *Вячаслаў Яраславіч* з Клецка, якія былі накіраваныя на Ізяслаўль, сын М У *Ізяслаў Мсціславіч* з Курска быў пасланы на Лагожаск (Лагойск), Расціслаў Мсціславіч са Смаленска — на Друцк, чарнігаўскі кн Давыд Ольгавіч з братамі — на Стрэжаў і Барысаў Пазней з Пн наступленне на Некалач пачаў сын М У Усевалад Каб прадухіліць поўны захоп Полацкай зямлі, веча ў Полацку пазбавіла пасада *Давыда Усяславіча* і абрала полацкім князем *Барыса Усяславіча* М У спыніў ваенныя дзеянні У 1128 ен загадаў полацкім князям удзельнічаць у яго паходзе на полаўцаў але тыя адмовіліся і ўзнавілі напады на падуладныя М У землі Пасля перамогі над полаўцамі М У паслаў у Полацкую зямлю ваявод, якія вымусілі палачан выдаць сваіх князёў У 1129 тыя разам з жонкамі і дзецьмі былі высланы ў Візантыю У Полацку М У пасадзіў свайго сына Ізяслава У 1131 зрабіў паход на Літву

*Літ* Рапов О М Княжеские владения на Руси в X—первой половине XIII в М 1977 С 139—140, Ермаловіч М Старажытная Беларусь Полацкі і новагародскі перыяды Мн, 1990 С 172—189

**МСЦІСЛАЎ УСЕ́ВАЛАДАВІЧ**, княз гродзенскі ў 12 ст Сын *Усевалада Давыдавіча* У 1167 дапамог валынскаму кн Мсціславу Ізяславічу заняць кіеўскі пасад У 1168 (1167?) удзельнічаў у паходзе Мсціслава на полаўцаў Пасля таго як у 1169 Андрэй Юр'евіч Багалюбскі захапіў Кіеў, М У у 1170 дапамог Мсціславу на кароткі час аднавіць улад над горадам, верагодна, хадзіў на полаўцаў, бо яго тысяцкі быў імі захоплены палон У 1173 (1174?), пэўна, быў сяр гродзенскіх князёў, якіх Багалюбск прымусіў удзельнічаць у паходзе на Кіеў Хадзіў на полаўцаў у 1183 (1184?) складзе войска вял князя кіеўскі Святаслава Усеваладавіча Даследчы атаясамліваюць Гарадзен, якім валода М У, з сучасным г Гродна, в Гарадн Столінскага р-на або лакалізуюць я на Валыні

**МСЦІСЛА́ЎСКАЕ ВАЯВО́ДСТВ** адм тэр адзінка ў ВКЛ у 16—18 ст Ут ворана ў 1565 Ахоплівала тэр былої *Мсціслаўскага княства, Крычаўскай в ласці* і прыватных маенткаў, папярэд вылучаных з іх складу На паветы

(пансіен) і б-ка У розны час рэзідэнцыі і калегіуму належалі навакольныя маенткі Гразь, Жукаў, Казлоўск, Крута, Кулікоў, Ласкоўка, Пятровічы, Пірхаў, Пацееўка, Стайкі, Точна і інш У 1820 калегіум закрыты Будынкі захаваліся, у навуч корпусе месціцца школа-інтэрнат Касцел доўгі час выкарыстоўваўся як правасл сабор, цяпер не дзейнічае

**МСЦІСЛА́ЎСКІ ЗА́МАК** Існаваў у 14—18 ст у г *Мсціслаў* Размяшчаўся *на пляцоўцы гарадзішча Замкавая гара 12—13 ст, на высокім правым беразе р* Віхра, ад якой аднак быў значна аддалены Замак абкружалі шырокія (60—100 м) і глыбокія (больш з 25 м) яры Пляцоўка замка была ўмацавана кальцавым валам, ад якога захаваўся значны ўчастак з ПдУ З напольных усх і паўд бакоў выш вала дасягала 6—7 м, шыр ў аснове — 15—18 м На яго вяршыні стаялі зрубныя абарончыя канструкцыі — гародні, абмазаныя глінай, шмат'ярусная вежа і ўязная брама Перыметр замкавых умацаванняў перавышаў 800 м Высокі мост на палях (сваях) злучаў замак з горадам У цэнтры М з ўзвышалася пабудаваная ў 15—16 ст васьмівугольная вежа-данжон, ніжні ярус якой займаў храм На замкавым двары знаходзіўся калодзеж, які ў час аблогі забяспечваў абаронцаў вадой М з лічыўся важнейшым стратэгічным замкам Пасожжа на мяжы ВКЛ і Маскоўскай дзяржавы, таму перажыў шмат аблог і войнаў У 1389 на працягу 11 дзен яго асаджала войска смаленскага кн Святаслава Іванавіча Абаронцы адбілі ўсе штурмы, а сцены замка вытрымалі ўдары каменяметных машын — поракаў У перыяд міжусобнай вайны (1432—39) паміж вял князем ВКЛ Свідрыгайлам і Жыгімонтам Кейстутавічам М з адзіны на Беларусі не паддаўся войску апошняга і вытрымаў грохтыднеўную аблогу Потым былі аблогі рус войскамі 1500, 1502, 1508 (двойчы) і 1514 У пач 16 ст ў замку былі гарматы-тарасніцы, арбалеты, размяшчаўся гарнізон наемных салдат-«дробаў», які ў час войнаў налічваў 600—900 чал Воінскія даспехі ў М з даглядалі і выраблялі спец майстрыплатнеры Гарматы (тарасніцы, фальканеты, серпянціны, карцечніцы, шротаўніцы, «делы великие медные») пастаўляліся з Віленскага цэйхгауза Пасля надання Мсціславу ў 1634 магдэбургскага права замак яшчэ больш умацавалі Гэтаму ў значнай ступені садзейнічала эканам развіццё горада У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 у ліп 1654 рус войскі (18,2 тыс чал) на чале з князямі А.М Трубяцкім, Р С Куракіным, Ю А Далгарукім і С Р Пажарскім акружылі Мсціслаў і замак У выніку 4 штурмаў з 18 да 22 ліп замак быў узяты і спалены, а большасць абаронцаў загінула Стратэг важнасць М з спрыяла хуткаму яго аднаўленню У 1658 і 1660 жыхары замка рабілі перавароты, падоўгу сядзелі ў асадах і амаль усе загінулі Паводле загаду цара ў канцы 1660 М з быў поўнасцю спалены, а апошнія 46 яго абаронцаў сасланы ў Яраслаўль Толькі ў 1676 сейм Рэчы Паспалітай прыняў рашэнне аднавіць замак і выдзеліць для гэтай мэты грошы, артылерыю і розны рыштунак У час Паўн вайны 1700—21 М з узарваны ў жн 1708 адступаючым войскам Пятра I Пасля вайны замак адбудавалі, і ён праіснаваў да 1772, калі Мсціслаў быў далучаны да Расійскай імперыі і патрэба ў М з адпала

*Літ* Ткачев М А. Замки Белоруссии Мн, 1987 *Міхась Ткачоў*

**Мсціслаўскі езуіцкі калегіум** Галаўны фасад касцела

**МСЦІСЛАЎСКІ КЛЯШТАР КАРМЕЛІТАЎ** Існаваў у 1620—1832 у Мсціславе Паводле падання, *кармеліты* — ваисковыя капеланы вяртаючыся з *ваины Рэчы Паспалітаи з Расіяи 1609—18* былі запрошаны мясц шляхтай у Мсціслаў Спачатку яны размяшчаліся у прыходскім касцеле У 1622 упамінаецца кармеліцкі касцел Успення Марыі, у 1623 віленскі біскуп Яўстафій Валовіч (гл ў арт *Валовічы*) даў кармелітам парафію (прыход) Пазнейшыя дакументы (архіў згарэў у 1654) наз заснавальнікамі кляштара мсціслаўскага ваяводу Я К Мадалінскага, які даў яму 3 валокі зямлі (1618), стаў і 10 юрыдык (1638) Ю Багдановіча, Б Бялецкага (1618) мсціслаўскага старосту К С Сапегу (1622), А Геленскага і Букоўскага (маентак Земнае), Пажарыскага (маентак Безнакаў, 1690) Кляштару належалі таксама в Біжуны і фальварак Асляны у Смаленскім ваяв У 1654 кляштар пацярпеў у час штурму Мсціслава маскоўскімі войскамі ў ходзе *ваины Расіі з Рэччу Паспалітаи 1654—67* (гэтыя падзеі і панарамаи горада адлюстраваны на 2 паасценных размалёўках) Пры падзеле ў 1687 Польскай правінцыі ордэна кармелітаў М к к аднесены да Рус правінцыі св Юзафа з 1756 у Літ Рускай (Беларускаи) правінцыі св Георгія Пакутніка У 1691 комплекс кляштара поўнасцю згарэў, у 1717 адбудаваны Жылы корпус увесь час заставаўся драўляным (інвентары 1817 і 1828) Мураваны касцел пачаў будавацца, верагодна, у 1732 у 1746—50 рэканструяваны архітэктарам Я К Глаўбіцам Каля 1768, відавочна зроблены насценныя размалёўкі У 2 и пал 18 ст грашовыя ахвяраванні на кляштар рабілі у асн мясц шляхцічы Галынскія Паводле інвентара 1823 памер касцела быў 12 5 × 8,5 сажняў 6 алтароў б-ка налічвала 207 кніг У 1832 М к к скасаваны Касцел захаваўся помнік архітэктуры рэсп значэння

*Аляксандр Ярашэвіч*

**МСЦІСЛАЎСКІ ПАВЕТ** Існаваў у 1773—1924 Утвораны 22 7(2 8) 1773 у складзе *Мсціслаўскаи правінцыі* з 22 3(2 4) 1777 — у Магілёўскай губ 12 12 1796 да М п далучаны прылеглыя часткі Крычаўскага Чавускага і Чэрыкаўскага пав а сам ён уключаны у Беларускую губ З 27 2 1802 зноў у Магілёўскаи губ з аднаўленнем папярэдніх межаў Пл каля 230 тыс дзес (каля 2 5 тыс км²), у т л каля 35% ворных зямель каля 31% лясоў, каля 1% балот, каля 33% лугоў пашы і няўдобіцы У М п было каля 900 маенткаў, з іх 84% плошчы займалі прыватнаўласніцкія да 15% дзярж і каля 1% царкоўныя ўладанні, 7 мястэчкаў Захарына, Кадзіна Казімірава Слабада Манастыршчына

**Мсціслаўскі кляштар кармелітаў** Выгляд касцела з боку апсіды

Татарск, Хаславічы і Шамава Пасля скасавання прыгоннага права ў 1861 утвораны 10 валасцей Аслянская, Бахоцкая Казіміра-Слабодская, Любавіцкая, Манастыршчынская, Піранская, Соінская Старасельская, Хаславіцкая, Шамаўская На 1883 у М п жыло 63 тыс чал, з іх 7,7 тыс ў Мсціславе, 9,6 тыс у мястэчках Большасць мяшчан (да 12 тыс ) складалі яўрэі Было 3 правасл манастыры, 52 правасл і 1 каталіцкі прыходы 3 2 2 1919 М п разам з Магілёўскай губ засталіся ў складзе РСФСР, з 26 4 1919 перададзены ў Смаленскую губ 9 5 1923 да М п далучаны часткі Доўгавіцкай вол Чэрыкаўскага і Надзейкавіцкай вол Клімавіцкага пав 3 3 1924 М п у паменшаных межах перададзены БССР, частка яго адышла да Рослаўскага і Смаленскага пав 20 6 1924 М п скасаваны, асн частка яго тэрыторыі ўвайшла ў Калінінскую акругу частка Шамаўскай воласці — у Аршанскую *Вячаслаў Насевіч*

**МСЦІСЛАЎСКІ ПУСТЫ́НСКІ УСПЕ́НСКІ МАНАСТЫР** Існаваў каля Мсціслава на беразе р Аслянка (правы прыток Сажа) Паводле царк падання, заснаваны каля 1380 мсціслаўскім кн *Лугвенам* Па звестках царк гісторыка М І Пятрова, манастыр вядомы толькі з 1500 (архіў не захаваўся) У 1578 аддадзены каралем Рэчы Паспалітай Стафанам Баторыем пад патранат полацкага архіепіскапа Феафана У пач 17 ст стаў уніяцкім у 2-й пал 17 ст пэўны час быў не заселены, падпарадкоўваўся юрысдыкцыі смаленскага уніяцкага арцыбіскупа Да 19 ст будынкі былі драўляныя, у 1801—08 мітрапаліт Іраклій *Лісоўскі* пабудаваў мураваны храм Успення Багародзіцы базілікальнага тыпу У 1839 пры настаяцелі Касікоўскім манастыр зноў стаў праваслаўным У 1864 на месцы, дзе паводле легенды кн Лугвену з явіўся абраз Маці Божай, пабудавана новая мураваная царква Нараджэння Багародзіцы (абраз візант тыпу захоўваўся ў манастыры да 1918) У 1865 узведзена цёплая мураваная Пакроўская царква У 1869 царква Успення Багародзіцы перабудавана ў крыжападобны у плане храм У канцы 19 ст пабудаваны шмат'ярусная званіца У 1918 манастыр закрыты Частка будынкаў захавалася ў руінах *Аляксандр Ярашэвіч*

**МСЦІСЛА́ЎСКІ ПЯХО́ТНЫ ПОЛК,** вайсковая часць рас армп ў 1902—18 Сфарміраваны 12 10 1902 як Мсціслаўскі 194-ы пяхотны рэзервовы полк (пры падзеле Ковельскага пяхотнага палка), 20 2 1910 разгорнуты ў чатырохбатальенны Мсціслаўскі 194-ы пяхотны полк у складзе 49-й дывізіі У пач 1-й сусв вайны 1914—18 полк атрымаў № 298 і ўвайшоў у склад 75-й дывізіі Удзельнічаў у баявых дзеяннях спачатку на Зах фронце восенню 1914 у складзе гарнізона Івангорада, у 1915 у складзе 31-га армейскага корпуса на Прыпяці і Агінскім канале 3 10 6 1916 полк у складзе 3-й арміі Паўд Зах фронту 1 3 1918 паводле дэкрэта сав ўрада расфарміраваны *Шаміль Бекцінееў*

**МСЦІСЛА́ЎСКІ РАЁН.** Размешчаны на ПнУ Магілёўскай вобл Пл 1,3 тыс км$^2$, нас 33,1 тыс чал (1997) Цэнтр — г *Мсціслаў* Паверхня пласкахвалістая ў межах Горацка-Мсціслаўскай раўніны Рака Сож з прытокамі Віхра, Малатоўка, Чорная Натапа (з Белай Натапай), на З Рамясцвянка і Волчас Пад лесам 14% тэр раена Праходзяць чыгунка Орша—Крычаў, аўтадарогі Мсціслаў—Магілёў, Горкі—Мсціслаў—Крычаў

Утвораны 17 7 1924 у Калінінскай акр, 20 8 1924 падзелены на 12 сельсаветаў Дудчыцкі, Клінскі, Курманаўскі, Лапацінскі, Мсціслаўскі, Падсолтаўскі, Рыдаўшчынскі, Старасельскі, Татаршчынскі, Хлыстоўскі, Шамаўскі, Янаўскі 3 9 6 1927 да 26 7 1930 М р у Аршанскай акрузе 25 7 1931 далучаны Баброўскі, Доўгавіцкі, Забалацкі, Мальковскі, Пячкоўскі, Пячонкаўскі, Раснянскі Шыркаўскі с/с ліквідаванага Раснянскага р-на 5 12 1931 Баброўскі с/с перайменаваны ў Заходскі 12 2 1935 Заходскі і Раснянскі с/с перададзены Дрыбінскаму р-ну 3 20 2 1938 у Магілёўскай вобл На 1 1 1941 раен уключаў г Мсціслаў і 16 сельсаветаў У Вял Айч вайну ў ліп 1941 раен акупіраваны ням -фаш войскамі, якія знішчылі ў М і раене 1649 чал Дзейнічалі Мсціслаўскія падп райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, 14-я Цемналеская партыз брыгада, партыз атрады 85-ы, Д А Журбы, П Е Казанакава, «Чапай», падп -патрыятычныя групы М р вызвалены ў вер 1943 войскамі Зах фронту ў ходзе *Смаленскай аперацыі 1943*

На 1 1 1997 у раене 167 нас пунктаў, 13 сельсаветаў Доўгавіцкі, Забалацкі, Капачоўскі, Лютнянскі Мазалаўскі, Мушынскі, Падсолтаўскі, Раздзельскі Ракшынскі, Сапрыкавіцкі, Сялецкі, Ходасаўскі, Чырванагорскі і Мсціслаўскі гар Савет 15 калгасаў, 6 саўгасаў, ільнозавод, маслазавод, хлебазавод, камбінат надомнай працы, камбікормавы з д буд прадпрыемствы У раене 18 сярэдніх, 5 базавых, 5 пач школ, школа інтэрнат, дзіцяча-юнацкая спартыўная і музычная школы, 2 вучэбна-вытв камбінаты 25 дашкольных устаноў, Дом піянераў і школьнікаў, 26 клубных устаноў, 27 б-к, 2 музеі, 5 бальніц, амбулаторыя, 20 фельчарска акушэрскіх пунктаў, 2 пункты аховы здароўя, 5 аптэк, санэпідэмстанцыя Выдаецца газ «Святло Кастрычніка» Помнікі археалогіі гарадзішчы у в Асмолавічы, Доброе, Каробчына, Мазалава, Мшцькаўшчына, Усполле, Ходасы, курганны могільнік эпохі Кіеўскай Русі ў в Дубейкава, селішча ў в Разанцы Брацкія магілы сав воінаў у в Башары, Беразетня, Крутая, Ракшына, Ходасы, Шамава помнікі ахвярам фашызму ў в Пячкавічы, Шамава Помнікі архітэктуры Успенскі манастыр (18—19 ст ) у в Пустынкі, царква (2 я пал 18 ст ) і вадзяны млын (сярэдзіна 20 ст ), у в Сялец, царква Ілы Прарока (1-я пал 19 ст ) у в Слаўнае, царква (пач 19 ст ) у в Мазалава, царква (канец 19 — пач 20 ст ) у в Басценавічы

*Літ* Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі Магілёўская вобл Мн , 1986

**МСЦІСЛА́ЎСКІ ЦАРКО́ЎНА-АРХЕАЛАГІ́ЧНЫ МУЗЕ́Й** Адкрыты ў 1915 у г Мсціслаў пры духоўным вучылішчы У 1923 меў 1157 экспанатаў Аддзелы археал , нумізматычны, этнагр , царк старажытнасцей, 100-гадзя вучылішча Сярод экспанатаў косці маманта з кар'ера мясц цагельні, каменныя сяке-

ры, керамiка з гарадзiшча, замкавая гара стараж Мсцiслава, манеты ВКЛ, Рус дзяржавы 17—18 ст, узоры нарадзення, с г прылады працы, вырабы з лазы, лыка, дрэва, старадрукi i рукапiсныя царк кнiгi У 1924 створаны новыя аддзелы прыродна-гiст, мастацка-прамысловы, бiблiяграфiчны Пры музеi дзеiнiчалi гурткi краязнаўцаў i аховы гiст помнiкаў, быў выпрацаваны статут музея Экспанаты загiнулi ў час Вял Айч вайны *Мiхась Ткачоў*

**МСЦІСЛАЎСКІЯ**, Лугвенавiчы, княжацкi род у ВКЛ, адгалiнаванне Альгердавiчаў Паходзяць ад сына Альгерда *Лугвена*, якi пасля смерцi брата *Карыгайлы* (1390) атрымаў *Мсцiслаўскае княства* З яго нашчадкаў

Юрый (1395?—1458?), сын Лугвена ад шлюбу з Марыяй, дачкой вял маскоўскага кн Дзмiтрыя Данскога У 1422 у складзе рады вял князя ВКЛ Вiтаўта, у 1431 — Свiдрыгайлы З восенi 1432 служылы князь у Ноўгарадзе Вераготна удзельнiчаў у вайне памiж вял князем ВКЛ Жыгiмонтам Кейстутавiчам i Свiдрыгайлам на баку апошняга, пасля яго паражэння страцiў Мсцiслаўскае княства з iнш вотчынамi (Цяцерын, Княжыцы, магчыма, Магiлеў), з вясны 1438 зноў у Ноўгарадзе У 1440 новы вял князь ВКЛ Казiмiр вярнуў яму вотчыны, аднак па дарозе ў ВКЛ Юрый узначалiў паўстанне супраць вял князя ў Смаленску, дзе быў абвешчаны князем Пасля падаўлення паустання у 1441 уцек у Маскву, каля 1443 памiлаваны Казiмiрам, да 1444 зноў быў служылым князем у Ноўгарадзе У 1445 падтрымаў кн *Мiхаiла Жыгiмонтавiча* ў яго выступленнi супраць Казiмiра, за што зноў пазбаўлены Мсцiслава якi быў перададзены кн Васiлю Яраслававiчу Бароўскаму У 1448 зноў атрымаў дараванне i ўсе вотчыны У 1458 апошнi раз запрошаны княжыць у Ноўгарад, адтуль праз некалькi месяцаў вярнуўся ў Мсцiслаў

Яраслаў Федар (1411—35), сын Лугвена ад другога шлюбу Загiнуў у бiтве пад Вiлькамiрам, дзе змагаўся на баку Свiдрыгайлы

Іван (?—да 1489), сын Юрыя Валодаў Мсцiславам, Цяцерынам, Княжыцамi, Паповай Гарой, Дрокавам i iнш валасцямi, магчыма, Магiлевам Пасля яго смерцi засталiся непаўналетнiя дочкi Настасся (каля 1496 выйшла замуж за кн Сямена Мiхайлавiча Алелькавiча) i Ульяна Апошнюю вял князь ВКЛ Аляксандр у 1499 аддаў замуж за кн Мiхаiла Iванавiча Заслаўскага (гл ў арт *Заслаўскiя*), якому перадаў частку Мсцiслаўскага княства i дазволiў карыстацца прозвiшчам М З яго сыноў малодшы, Васiль, памер раней за бацьку, а старэйшы, Федар, у 1526 з'ехаў у Маскву, дзе яго нашчадкi карысталiся прозвiшчам М да згасання iх роду ў 1622 *Вячаслаў Насевiч*

**МУГІР** (ад тур мухаiр — ваўняная тканiна), у *iсламе* твор дэкаратыўнага мастацтва, тканiна з рэлiг надпiсам або выявай рэлiг сiмволiкi, якая выконвае функцыi абярога Першапачаткова вырабляўся туркамi-качэўнiкамi, праз iх трапiў да крымскiх татар У бел татар вядомы з 16 ст як элемент насценнага аздаблення *мячэцi* цi жылога дома Спачатку М выраблялi з казiнай воўны, потым таксама з iнш тканiн i матэрыялаў На Беларусi былi вядомы М, як апраўленыя ў рамы пергаменты з вершамi *Карана*, малiтвамi, iмем прарока Мухамеда У 19—20 ст яны змяняюцца лiтаграфiямi з вiдамi славутых мячэцей свету, атрыбутамi iсламскай сiмволiкi У М бел татар творча узаемадзейнiчалi татарскiя i бел культ традыцыi *Галiна Дз...*

Мугiр з Клецка Пач 20 ст

**МУЖЫКІ**, мужыкi цяглыя, адна з назваў *цяглых сялян* у афiцыйных актах ВКЛ 15—16 ст, феад залежныя сяляне, якiя выконвалi ў асн *паншчыну* Акрамя працы на ворыве, у панскiм маентку, абавязаны былi выконваць вартавую павiннасць, рамантаваць i iн трымлiваць у належным стане мастi i дарогi, хадзiць з падводамi (перавозiлi панскiя тавары) Плацiлi таксама сярэбшчыну i выконвалi некаторыя iнш павiннасцi *Анатоль Грыцкевiч*

**«МУЖЫЦКАЯ ПРАЎДА»** («Mużyckaja praŭda»), нелегальная рэвалюцыйна-дэмакратычная, першая на беларускай мове газета (друкавалася лацiнкаю) Выдавалi ў 1862—63 К Калiноўскi, Ф Ражанскi, С Сангiн (Сонгiн), В Урублеўскi Выйшла 7 нумароў Асобныя нумары перадрукоўвалi паўторна (з некаторымi змяненнямi) Газета выдавалася на Гродзеншчыне (нумар 7, відаць выйшаў у Вiльнi) у выглядзе лiсткоў невялiкага фармату значным тыражом распаўсюджвалася амаль па ўсей Беларусi, а таксама ў Лiтве i Латвii Кожны нумар падпiсваўся псеўданiмам «Яська гаспадар з-пад Вiльнi» Усе нумары прасякнуты важнейшым пытаннем эпохi — пытаннем зямлi i волi, пафасам барацьбы за свабоду Газета заклiкала бел народ да узбр барацьбы супраць самадзяржаўна-прыгоннiцкага ладу

АН у пасляваенны час, шматтомныя і манаграфічныя выданні прац вучоных акадэміі, копіі дыпломаў аб адкрыццях і вынаходніцтвах, Ленінскіх і дзярж прэмій, макеты арыгінальных тэхнал установак, матэрыялы пра міжнар сувязі вучоных акадэміі *Пётр Петрыкаў*

**МУЗЕЙ ГІСТОРЫІ ТЭАТРАЛЬНАЙ І МУЗЫЧНАЙ КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ** Створаны 23 3 1990 у Мінску Пл экспазіцыі 352 $м^2$, каля 7 тыс экспанатаў (1998) Экспазіцыя фарміруецца, будзе размешчана ў будынку б «Дома масонаў» Сярод экспанатаў прыжыццёвыя выданні твораў А Астроўскага з архіва Я Міровіча, першыя выданні твораў У Галубка, асабістыя рэчы Л Александроўскай, муз інструменты, зробленыя бел майстрамі В Пратасевічам, К Тарасенкам, В Козакам, У Дударэвічам і інш , рукапісныя партытуры бел кампазітараў А Багдарэнкі, Г Вагнера, I Лучанка, Ю Семянякі, К Цесакова, эскізы дэкарацыяй М Блішча, Б Герлавана, Я Ждана, Я Чамадурава і інш , фотаматэрыялы, мемар прадметы, дакументы, рэдкія выданні, калекцыя рэдкіх фона- і відэазапісаў, грамафонных пласцінак, афішы і праграмы тэатр спектакляў Дзсініс філіял «Гасцёўня Галубка», дзе сістэматычна праводзяцца імпрэзы звязаныя з юбілейнымі датамі, канцэрты майстроў мастацтва, творчыя сустрэчы з дзеячамі культуры, выстаўкі твораў мастакоў, муз інструментаў і інш *Арсень Лабовіч*

**МУЗЕЙ ОБАЛЬСКАГА КАМСАМОЛЬСКАГА ПАДПОЛЛЯ** Адкрыты 29 10 1965 у г п Обаль Шумілінскага р-на як музей камсамольскай славы, да 26 6 1989 філіял Бел дзярж музея гісторыі Вял Айч вайны, з 1985 сучасная назва Пл экспазіцыі 150 $м^2$, 896 адзінак асн фонду, 4 залы (1998) Сярод экспанатаў асабістыя рэчы, дакументы, фотаздымкі з даваен жыцця падпольшчыкаў, матэрыялы пра пачатак вайны, стварэнне і дзейнасць падполля, карта-схема развіцця партыз руху, інтэр'ер кватэры кіраўніка падполля Е С *Зяньковай*, схема дыверсій, матэрыялы аб увекавечанні памяці обальскіх падпольшчыкаў, карціна А Каржанеўскага «Обальскія падпольшчыкі», літаграфіі Ю Пучынскага «Мініраванне шашы» і «Узрыў вадакачкі», бюсты Герояў Сав Саюза Зяньковай і З М *Партновай*

*Нэлі Азоліна*

**МУЗЕЙ ПАРТЫЗАНСКАЙ СЛАВЫ** Створаны у 1971 ва ўрочышчы Хаваншчына (за 3 км ад в Карочын Івацэвіцкага р-на), дзе ў 1943—44 у Вял Айч вайну базіраваліся *Брэсцкі падпольны абком КП(б)Б, Брэсцкі падпольны абком ЛКСМБ*, штаб *Брэсцкага партызанскага злучэння*, рэдакцыя і друкарня абл і падп газ «Заря», філіял *Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея* Уключае 4 драўляныя домікі, 2 зямлянкі, кало дзеж, «Лясную школу» У доміках экс панаты пра дзейнасць падп абкома КП(б)Б і штаба партыз злучэння, падп абкома ЛКСМБ і барацьбу моладзі суп раць ням -фаш захопнікаў, работу рэ дакцыі газ «Заря», партыз шпіталя і інш З жн 1998 музейны комплекс ува ходзіць у склад Івацэвіцкага раённага краязн музея

**МУЗЕЙ РЭВАЛЮЦЫІ БССР** Існаваў з 2 5 1926 да чэрв 1941 у Мінску Раз мяшчаўся на вул Савецкай (цяпер праспект Ф Скарыны) побач з *Домам музеем І з'езда РСДРП* Аснову музея склалі экспанаты Усебел выстаўкі гіст - рэв матэрыялаў, арганізаванай у 1924 Гістпартам ЦК КП(б)Б Паводле пала жэння знаходзіўся пры ЦВК БССР, у навукова-метадычным і арганізац пла не падпарадкоўваўся Гістпарту, які кі раваў ім праз навук савет Музей лі чыўся н -д і прапагандысцка-асв уста новай, вёў пошук, сістэматызацыю вы вучэнне і экспанаванне дакументаў і матэрыялаў па гісторыі сял , нац вызв і рабочага руху ў Беларусі, Кампартыі Беларусі, дзейнасці непралетарскіх і нац партый (Бунд, Бел сацыяліст грамада, польская і латышская сацыял дэ макратыя і інш ) Асаблівая ўвага адда валася падзеям рэвалюцыі 1905—07 у Беларусі, Лют і Кастр рэвалюцый 1917, сацыяліст пераўтварэнням У 1926 музей наведалі 15 тыс чал У пер шыя дні Вял Айч вайны музей згарэў разам з усімі экспанатамі

*Літ* Сацункевіч Ю Музей рэвалюцыі да дзесяцігоддзя Кастрычніка // Наш край 1927 № 10 Сербента В Белорусский научно-исследовательский институт истории партии // Пролетарская революция 1930 № 2/3, Михнюк В Н Становление и развитие исторической науки Советской Белоруссии (1919—1941 гг ) Мн , 1985

*Расціслаў Платонаў*

**МУЗЕЙ САВЕЦКА-ПОЛЬСКАЙ БАЯВОЙ САДРУЖНАСЦІ** Адкрыты 15 10 1968 у в Леніна Горацкага р на На 12—13 10 1943 у Вял Айч вайну адбыў ся першы бой Польскай пях дывізіі імя Т Касцюшкі сумесна з 42 и і 290 і стралк дывізіямі Чырв Арміі супраць ням -фаш захопнікаў Пл экспазіцыі 907 $м^2$, больш за 6,2 тыс адзінак асн фонду (1998) Матэрыялы расказваюць пра фарміраванне і баявыя дзеянні 1-й Польскай дывізіі, сумесныя баі з часці мі Сав Арміі Сярод экспанатаў сцягі сав і польскіх часцей, асабістая зброя узнагароды ўдзельнікаў баёў, схемы ба явых аперацый, узоры зброі тых часоў фотаздымкі і матэрыялы пра Герояў Сав Саюза — удзельнікаў бою пад Леніна і вызвалення Польшчы Ф М *Лыхачова*, У *Высоцкага*, А *Кжывань*, А Д *Шамянкова* і інш Цэнтр месца ў экспазіцыі займае дыярама «Бой за Леніна» (маст М Авечкін і А Інтазараў) Мемарыяльны комплекс (арх Я Белапольскі, У Хавім, скульпт У Цыгаль) савецка-польскай баявой садружнасці ўтвараюць будынак музея ў форме каскі, бетонная стэла перад яго ўваходам (выява сцяга, дрэўка якога сціскаюць 2 моцныя рукі), 2 магільныя пліты на ўшанаванне памяці загінуўшых сав польск воінаў і паміж імі кавалак брані з прабоінамі, тут запалены Вечны агонь, помнік на брацкай магіле сав воінаў (гранітны блок, сячэнне якога 5-канцовая зорка з надпісам-прысвячэннем) *Анатоль Фядосенка*

**МУЗЕЙ СТАРАЖЫТНАБЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ** Засн 7 7 1977 пры Ін це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нац АН Беларусі, адкрыты 15 5 1979 Пл экспазіцыі 600 $м^2$, каля 17 тыс экспанатаў (1998), у т л каля 800 твораў жывапісу і 170 твораў

У Музеі старажытнабеларускай культуры

1931 інспектар) ВМС РСЧА, чл рэдка легій час «Красный флот», «Морской сборник» З 1934 нач Гал упраўлення суднабуд прам-сці і адначасова (з 1936) нам наркома абароннай прам-сці СССР Дэлегат XI, XV—XVII з'ездаў партыі, III кангрэса Камінтэрна (1921) Чл ЦВК БССР і ЦВК Літ-Бел ССР (1919), ВЦВК (1921—22), ЦВК СССР (1925—31) Чл РВС (1926—34) У маі 1937 беспадстаўна арыштаваны, загінуў у Лефортаўскай турме (Масква) У маі 1956 рэабілітаваны пасмяротна Яго імя прысвоена гідраграфічнаму судну ВМФ

*Тв* Политработа в боевой обстановке 4 изд М Л, 1929, Октябрьские дни в Ленинграде // Воен вестн 1924 № 42, Комсомол и красный флот // Военная работа комсомола М, Л, 1927, Десятилетие Октябрьской революции и морской флот // Морской сборник 1927 № 10

*Літ* Корнилович Э А. Начальник Военмора // Корнилович Э А На гребне истории Мн, 1989 *Эдуард Карніловіч*

**МУЛА́** (ад араб маўла пан, уладыка, у бел татар м а л н а), служыцель культу у *ісламе*, настаўнік рэліг школы, пісьменны, вучоны чалавек Звычайна выбіраецца вернікамі У Рас імперыі фактычна прыраўнаваны да святара, яго статус вызначаўся дзярж пастановамі Звычайна М вядзе службу ў мячэці (з'яўляецца імамам — кіраўніком агульнай малітвы ў дадзены момант), выступае з пропаведдзю — хутбай Настаяцелем саборнай (пятнічнай) мячэці павінен быць М са спец духоўнай адукацыяй Бел татары вучыліся на М да пач 20 ст ў Крыме, Казані, у Зах Беларусі ў 1921—39 — у Сараеве (Боснія) М сельскай або квартальнай мячэці можа не мець спец адукацыі Гл таксама *Духавенства*

**МУЛЬТА́Н** Мікалай Мікалаевіч [11(24) 11 1900, в Някрасаўшчына Слонімскага пав Гродзенскай губ, цяпер у Івацэвіцкім р-не — 19 9 1975], Герой Сав Саюза (1944), ген лейтэнант (1955) Скончыў Бел ваен школу імя ЦВК БССР (1927), Вышэйшыя акад курсы пры Ваен акадэміі Генштаба (1951) У Чырв. Арміі з 1918 У грамадз вайну 1918—20 на Паўд, Петраградскім, Зах франтах, у Вял Айч вайну на Зах, 2-м і 3-м Бел франтах камандзір стралк палка, дывізіі, корпуса Удзельнік баёў пад Масквой, вызвалення Смаленска, Калініна, Магілева, Гродна, штурму Кёнігсберга У чэрв 1944 корпус пад каман даваннем М вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра ў Магілёўскай вобл і ўтрыманні плацдарма на яго правым беразе Да 1959 у Сав Арміі Яго імем названа вуліца ў г Беразіно

М М Мультан

**МУЛЬТЫПЛІКАЦЫ́ЙНАЕ КІНО́** (ад лац multiplicatio памнажэнне), фільмы, створаныя пакадравай фіксацыяй момантаў руху штучных (маляваных, лялечных) аб'ектаў, пры хуткай і паслядоўнай змене якіх узнікае ілюзія іх руху, т зв «адушаўленне», адсюль другая назва М к — анімацыйнае Існуе маляванае, перакладкавае (калі плоскі відарыс цела персанажа падзелены на рухомыя часткі) і лялечнае М к Мультыплікацыя ўзнікла раней за ігравое *кіно* у выглядзе хуткага чаргавання асобных малюнкаў Маляванае М к з'явілася ў Францыі ў 1907, звязана з творчасцю мастака Э Коля Першынство ў стварэнні лялечных фільмаў (1911) належыць беларусу фатографу і энтамолагу У Старэвічу (1882—1965), высокае майстэрства якога ў вырабе лялек насякомых і перадачы іх рухаў стварала ў гледача ўпэўненасць прагляду здымак дрэсіраваных істот У 1936 ён першы стварыў паўнаметражны мультфільм «Рэйнеке-Ліс» Афіц пачаткам анімацыйнага кіно ў Беларусі лічыцца 1972, калі на «Беларусьфільме» была створана лялечная стужка «Недарэка» (рэж У Голікаў) У 1973 выйшаў першы перакладкавы фільм «Хлопчык і птушка» (рэж У Піменаў), у 1975 — маляваны «Аленчына кураня» (рэж Л Шукалюкаў) У 1975 створана Творчая майстэрня мультыплікацыі, з 1989 вытворчасць М к распачата ў навукова-вытв аб'яднанні «Цэнтр», у 1990 створана незалежная студыя «Анімацыйны беларускі цэнтр» Большасць бел мультфільмаў пабудавана на фальклорных традыцыях паводле нар казак У 1982 створаны маляваны фільм «Песня пра Зубра» (рэж А Белавусаў), дзе знайшлі месца пошукі новых формаў стварэння вобразаў, спроба перадачы філас напаўнення паэмы М Гусоўскага Да 1992 створана 37 маляваных, 26 лялечных і 13 перакладкавых стужак Сярод іх вышэйшыя ўзнагароды на міжнар фестывалях атрымалі «Лафертаўская макаўніца» (рэж А Марчанка) і «Капрычыо» (рэж І Волчак, абодва 1986), «Меч» (рэж Н Лось, В Доўнар, 1989), «Мука» (рэж Волчак, 1990), «Сны» (рэж У Пяткевіч 1992) Мультыплікацыя выкарыстоўваецца таксама ў навукова-папулярных, навучальных і маст фільмах, тэлерэкламах *Анатоль Янкоўскі*

**МУЛЯ́РАЎСКАЯ АПЕРА́ЦЫЯ** 1942 бой партызан аб'яднанага «гарнізона Ф І Паўлоўскага» па разгроме ням фаш гарнізона на чыг ст Муляраўка Петрыкаўскага р-на на лініі Жыткавічы—Калінкавічы 22 лютага ў Вял Айч вайну Для правядзення аднаўленчых

работ на чыгунцы на станцыю прыбыла частка буд батальена гітлераўцау Атрадам А Ф Каваленкі, I Р Жулегі, «Чырвоны Кастрычнік» (камандзір Э Я Чырлін) і Капаткевіцкаму (камандзір А Ц Міхайлоўскі) было даручана разграміць гарнізон праціўніка Да раніцы 21 лютага атрады сканцэнтраваліся ў в Залессе Акцябрскага р на, правялі разведку для ўдакладнення ўзброенасці і жывой сілы ворага Аперацыяй кіравалі Паўлоўскі і камісар С В Маханько 22 лютага партызаны акружылі станцыю, падышлі да казармы, у якой размяшчаліся гітлераўцы і адкрылі агонь У выніку аперацыіаднаўленчыя работы былі сарваны Разгром фаш гарнізона на ст Муляраўка — адна з першых баявых аперацый партызан на чыг камунікацыях праціўніка

**МУНІЦЫПАЛІТЭТ** у 1812, орган гарадскога самакіравання, створаны ў гарадах 4 *дэпартаментаў* на тэр Беларусі паводле «Правіл для заснавання муніцыпальнага кіравання ў Літве» (17 8 1812) Вядома пра існаванне у Гродне, Віцебску Барысаве, Мінску, Магілеве, Чавусах Улада М распаўсюджвалася на горад і яго ваколіцы У склад М ўваходзілі прэзідэнт (мэр) яго памочнікі (ад юнкты), члены муніцыпальнай рады Усе мелі права рашаючага голасу Звычайна гэта былі памешчыкі, чыноўнікі ксяндзы рымска каталіцкага веравызнання Старшынямі рады звычайна прызначаліся былыя маршалкі Многія з членау М служылі пад страхам смерці і страты маемасці М распараджаліся гар маемасцю, паліцыяй, дабрачыннымі ўстановамі, але галоуным было задавальненне патрэб франц арміі, яе раскватараванне М меў 3—4 аддзяленні паліцыі, фінансау (распараджалася гар капіталамі і маемасцямі), кватэрнае, бо гаўгодных спраў Станоўчым у дзейнасці М былі абарона насельніцтва ад здзекаў напалеонаўскіх салдат, падтрыманне парадку ў горадзе

*Кр* Акты, издаваемые виленской комиссией для разбора древних актов Т 37 Документы и материалы относящиеся к истории Отечественной войны 1812 г Вильна 1912

*Лит* К р а с н я н с к и й В Г Минский департамент Великого княжества Литовского СПб 1902, *Отечественная война и русское общество 1812—1912* Т 4 СПб 1912

*Вячаслаў Швед*

**МУРАВА́НАЯ АШМЯ́НКА**, веска, цэнтр сельсавета Ашмянскага р-на За 12 км на ПнЗ ад горада, 29 км ад чыг ст Ашмяны 345 ж , 140 двароў (1998)

Вядома з 16 ст як веска, уласнасць *Дарагастаиских* Адзін з іх, Мікалай Мікалаевіч, заснаваў у М А. кальвінскі збор і ў 1590 я г друкарню, якая дасягнула росквіту ў пач 17 ст пры яго сыне Мікалаю Крыштофе У 1615 у гэтай друкарні выдадзена кніга В Саліінарыуса «Цэнзура» З 1649 М А належала кн Сапегам, з 1678 — Важынскім З 1795 у Рас імперыі, у Віленскай губ У 1848 у М А 30 двароу У 1886 — сяло Палянскай вол Ашмянскага пав Віленскай губ 330 ж , 44 двары, касцел, багадзельня, карчма, вадзяны млын У канцы 19 ст нар вучылішча У пач 20 ст належала памешчыку Карэйву З 1921 у складзе Польшчы, у Палянскай гміне Ашмянскага пав Віленскага ваяв у 1925 — 1621 ж , школа крама З 1939 у БССР з лют 1940 цэнтр сельсавета Ашмянскага р на Цэнтр калгаса «Кастрычнік» Сярэдняя школа Дом культуры, б ка бальніца, аптэка аддз сувязі прыемны пункт камбіната быт абслугоування магазін Помнік землякам, якія загінулі у Вял Айч вайну Помнікі гісторыі і архітэктуры — касцел Дзевы Марыі са званіцай (канец 18 — пач 19 ст ) рэшткі друкарні 16 ст

*Лит* J a n k o w s k i Cz Powiat Oszmianski Cz 1 Petersburg, 1896 L o r e n t z S Wycieczki po województwie wilenskim Wilno 1932

*Аляксандр Каранеускі*

Да арт **Мультыплікацыйнае кіно** Кадры з фільмаў «Дудка весялушка» (1), «Несцерка» (2), «Як ліса воўка су дзіла» (3) «На досвітку на двары» (4) «Песня пра зубра» (5)

**МУРАВАНКАЎСКАЯ ЦАРКВА-КРЭ́ПАСЦЬ**, М а л а м а ж э й к а ў с к а я ц а р к в а к р э п а с ц ь, помнік архітэктуры пач 16 ст Пабудавана у в Мураванка (Шчучынскі р н) Храм абарончага тыпу Трохнефавае 4 стаўповае збудаванне зальнага тыпу (у плане — прамавугольнік блізкі да квадрата), завершанае высокім 2 схільным дахам з шчытамі на тарцах, паўкруглай апсідай і 4 круглымі вуглавымі вежамі, накры

ɪымі шатрамі Сцены і вежы упрыгожаны яруснай кампазіцыяй плоскіх аглн кававых ншаў, завершаных падвойнымі аркамі Падобны дэкор мае фігурны шчыт на гал фасадзе Гатычныя скляпенні царквы вызначаюцца тонкім малюнкам (спляценне гуртоў і нервюр зорчатых скляпенняў утварае трохвугольнікі і ромбы розных абрысаў і велічынь) Пад храмам — скляпеністае складское памяшканне Да пач 19 ст у царкве былі апускныя жал дзверы краны (герсы) У час перабудоў (1817, 1871—72) да гал фасада прыбудаваны прытвор надбудаваны зах вежы паніжаны іах зроблены карнізы і павялічаны вокны Ахоўваецца дзяржаваи

*Літ* Иодковский И И Церкви приспособленные к обороне в Литве и Литовской Руси // Древности Тр комиссии по сохранению древних памятников М , 1915 Т 6 Егоров Ю Градостроительство Белоруссии М 1954, Чантурия В А История архитектуры Белоруссии Т 1 3 изд Мн 1985 Всеобщая история архитектуры Т 6 М 1968

Мураванкаўская царква-крэпасць.

**МУРАВІЦКІ** Лука Захаравіч [18(31) 12 1917 в Доўгае Слуцкага пав , цяпер у Салігорскім р-не — 30 11 1941], Герой Сав Саюза (1941) Скончыў Барысаглебскае ваен авіяц вучылішча (1938) У Вял Аич вайну на фронце з чэрв 1941 Пілот знішчальнага авіяпалка, ст лейтэнант М суправаджаў транспартныя самалеты ў блакіраваны Ленінград, прыкрываў з паветра разгрузку чыг эшалонаў, збіў 3 самалеты праціўніка, 3 9 1941 тараніў ням бамбардзіроўшчык Загінуў у баі Яго імем назва на вуліца ў в Доўгае

Л З Муравіцкі

**МУРАЎЁЎ** Мікіта Міхаилавіч [9(20) 7 1795, Пецярбург — 28 4(10 5) 1843], дзекабрыст Вучыўся ў Маскоўскім ун-це З 1813 у арміі капітан гвардыі Удзельнік замежных паходаў 1813—14 Адзін са стваральнікаў «Саюза выратавання» (1816) і «Саюза працвітання» (1818) У 1821 чл Вярх думы, правіцель Паўн т-ва і чл дырэкторыі Паўд т-ва У 1821—22 у чыне штабс капітана Гвардзейскага ген штаба служыў у Віцебску, Магілеве, Бабруйску, Рагачове У Мінску працаваў над першым варыянтам канстытуцыі для будучай рус дзяржавы (гл *Мінскі варыянт канстытуцыі М М Мураўёва*) У паўстанні 14 12 1825 не ўдзельнічаў Як актыўны ўдзельнік дзекабрысцкага руху асуджаны Вярх судом да пакарання смерцю замененай 20-гадовай катаргай (пазней скасавана на 10 гадоў), якую адбываў у Нерчынскіх рудніках У 1835 пераведзены на пасяленне ў Іркуцкую губ , дзе і памер У Сібіры пісаў працы па ваен гісторыі з М С Луніным выступаў су праць фальсіфікацыі гісторыі руху дзекабрыстаў

*Літ* Дружинин Н М Революционное движение в России в XIX в Избр тр М 1985 Букчин С В К мечам рванулись на ши руки 2 изд Мн 1985 Декабристы Биогр справ М , 1988 *Марына Тарасава*

**МУРАЎЁЎ** Міхаіл Васілевіч (15 5 1919, в Нараўшчызна Мазырскага пав , цяпер у Мазырскім р-не — 19 5 1981) Герой Сав Саюза (1944) У Вял Айч вайну з 1941 на Паўн , Варонежскім, 1-м Укр , Бел , 1-м Бел франтах Камандзір батарэі мал лейтэнант М вызначыўся ў баі каля г Пераяслаў-Хмяльніцкі (Украіна) 8 10 1943 батарэя на чале з ім фарсіравала Дняпро, замацавалася на плацдарме і адбіла контратакі ворага, у баях 8 і 12 кастр знішчыла мінаметную батарэю 3 гарматы, 4 мінаметы, 16 кулямётаў праціўніка Пасля ваины на гасп рабоце Імем М названа вуліца ў в Козенкі Мазырскага р-на

**МУРАЎЁЎ** Міхаіл Мікалаевіч [24 9 (5 10) 1796, С-Пецярбург — 31 8 (12 9) 1866), дзяржаўны дзеяч Расійскаи імперыі, ген ад інфантэрыі З 1809 у Маскоўскім ун-це З 1811 на ваен службе Удзельнік войнаў з Напалеонам 1812—14, у т л Барадзінскай бітвы Актыўны ўдзельнік першых таиных дзекабрысцкіх арг-цый, адзін з аўтараў статута «Саюза працвітання» (1816) У 1820 адышоў ад дзекабрысцкага руху і пасяліўся ў маентку Лазіцы Рослаўскага пав Смаленскай губ У 1826 арыштаваны па справе дзекабрыстаў, але здолеў апраўдацца З 1827 віцебскі ген -губернатар, з 1828 магілеўскі грамадзянскі губернатар Прымаў актыўны ўдзел у падаўленні *паўстання 1830—31* Ініцыіраваў адмену ў зах губернях дзеяння Статута Вял кн Літ , прапанаваў увесці замест польскай рус мову навучання, абмежаваць каталіцкае духавенства ў выхаванні і навучанні моладзі З 1831 гродзенскі грамадзянскі губернатар, з 1832 мінскі ваенны губернатар, з 1835 — курскі З 1839 — дырэктар Дэпартамента падаткаў і розных збораў, з 1842 сенатар і кіраўнік Межавога корпуса, старшыня Дэпартамента ўдзела З 1850 член Дзярж савета У 1857—61 міністр дзярж маемасцей, прыхільнік захавання прыгоннага права Не пагадзіўшыся з правядзеннем сял рэформы 1861, пайшоў у адстаўку 25 4 1863, у час *паўстання 1863—64*, прызначаны віленскім ген -губернатарам з надзвычайнымі паўнамоцтвамі З дапамогай жорсткіх рэпрэсіўных мер (пакаранне смерцю актыўных удзельнікаў паўстання, масавыя высылкі ў Сібір), за якія ў сучаснікаў атрымаў прозвішча «вешальнік», да вер 1863 падавіў асн ачагі паўстання у Літве і Беларусі На працягу

Мікіта Міхайлавіч **Мураўёў**

М В **Мураўёў**

Міхаіл Мікалаевіч **Мураўёў**

С І **Мураўёў-Апостал.**

Р Д **Мурашка**

1863—64 праводзіў палітыку на змян шэнне каталіцкага ўплыву на Беларусі, умацаванне правасл царквы і рус чыноўніцтва У 1864 яму нададзены тытул графа і прыстаўка «Віленскі» З 1865 у адстаўцы У крас 1866 прызначаны старшыней Вярх камісіі па справе няўдалага замаху Дз Каракозава на Аляк сандра II Следства да канца не давёў

*Літ* Долгоруков П В М Н Муравь ев Лондон 1864, Кропотов Д А Жизнь графа М Н Муравьева СПб, 1874, Таляронак С Генерал Міхаіл Мураўёў «ве шальнік» // Бел гіст часоп 1997 № 3

*Дзмітрый Караў, Сяргей Токць*

**МУРАЎЁЎ-АПО́СТАЛ** Сяргей Іванавіч [23 10 (3 11) 1795, Пецярбург — 13 (25) 7 1826], дзекабрыст, чл Паўд т-ва дзекабрыстаў (з 1822) Скончыў Пецяр бургскі ін-т інжынераў шляхоў зносін (1811) З 1811 на ваен службе Удзель нік вайны 1812, замежных паходаў 1813—14 Адзін са стваральнікаў «Саюза выратавання» (1816) і «Саюза працвітання» (1818) Пасля паўстання (1820) і расфарміравання (16 5 1822) Сяменаўскага палка, дзе ён служыў, у Чарнігаўскім пяхотным палку які поўны час кватараваў у Бабруйску падпалкоўнік Удзельнічаў у распрацоўцы першага рэальнага плана паўстання дзекабрыстаў (гл *Бабруйскі план дзекабрыстаў 1823*) які не быў здзейснены У час паўстання Чарнігаўскага палка (29 12 1825 — 3 1 1826) цяжка паранены, арыштаваны і дастаўлены ў Гал штаб 1 й арміі у Магілёў, дзе 14 і 15 1 1826 адбыліся першыя допыты Асуджаны Вярх судом і павешаны ў ліку пяці кіраўнікоў паўстання дзекабрыстаў

*Літ* Медведская Л А С И Муравьев Апостол М 1970 Букчин С В К мечам рванулись наши руки 2 изд Мн 1985 Декабристы Биогр справ М, 1988

*Марына Тарасава*

**МУРА́ШКА** Дзяніс (? — пасля 1671) кіраўнік атрада бел сялян у *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* наказны бел палкоўнік Арганізаваны ім у 1656—57 атрад дзейнічаў у Мінскім і Аршанскім пав, рабіў рэйды па шля хецкіх маентках Яго рэзідэнцыямі былі Ігумен (у 1656) і Камень (з 1657) у Мін скім пав У вер 1658 перайшоў на бок Рэчы Паспалітай веў баявыя дзеянні супраць рус войск ва узаемадзеянні з І *Нячаем* і *Аскеркам* 22 5 1659 сейм Рэчы Паспалітай падараваў М шляхецтва У снеж 1664 здзейсніў рэйд у Ноўга рад Северскі пав у студз 1665 у ваколі цы Чарнігава У маі 1665 на шляху на між Старадубам і Гомелем яго атрад (400 чал) разбіты і сам ён паранены Служыў у войску гетмана ВКЛ П *Сапегі*

*Кр* Акты Московского государства Т 1—3 СПб 1890—1901, Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России Т 4—5 СПб, 1863—67

*Літ* П'янкоў А П Паўстанне Дзяніса Мурашкі // Весці АН БССР 1949 № 1 Абецедарский Л С Белоруссия и Россия Очерки рус бел связей второй полови ны XVI—XVII в Мн 1978, Сагановіч Г Невядомая вайна, 1654—1667 Мн 1995

**МУРАШКА** Павел Яўхімавіч (н 25 9 1920 в Градно Чэрвеньскага р на) бел гісторык Канд гіст н (1974) Скончыў Рэсп парт школу пры ЦК КП(б)Б (1948), Магілёўскі пед ін-т (1956) Удзельнік Вял Айч вайны Працаваў у органах дзяржбяспекі і ўнутр спраў БССР, Белдзяржмузеі, Мін-ве культуры Беларусі У 1963—89 у Мінскім дзярж пед ін це замежных моў Асн тэмы даследавання — барацьба з узбр контррэвалюцыяй (паліт бандытызмам) у Беларусі ў першыя гады сав улады (1918—24), дзейнасць Саветаў нар дэпутатаў па мабілізацыі працоўных на выкананне планаў сацыяліст буд-ва, барацьба з ням -фаш захопнікамі ў гады Вял Айч вайны Адзін з аўтараў кн «У імя вялікай мэты» (1981)

*Тв* Особого назначения (Из истории ЧОН Белоруссии), 1918—1924 Мн 1979

**МУРА́ШКА** Рыгор Данілавіч [3(16) 2 1902, в Бязверхавічы Слуцкага

пав Мінскай губ, цяпер Слуцкі р-н — крас 1944], бел пісьменнік Вучыўся ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі (1917—18) Скончыў інструктарскія курсы пры Наркамаце унутр спраў Беларусі (1920) У 1919—20 удзельнік барацьбы з польскімі акупантамі на Случчыне, працаваў інструктарам Слуцкага пав ваенкома У 1920—21, 1924—26 у Чырв Арміі У 1921—24 на сав і парт рабоце Чл літ-маст арг-цыі «Маладняк» У 1926—29 адказны сакратар час «Бальшавік Беларусі» у 1930—33 заг аддзела у Дзярж выд ве БССР У Вял Айч вайну ўдзельнік Мінскага падполля з восені 1943 партызан Загінуў у час прарыву партыз блакады на Лагойшчыне Друкаваўся з 1924 Аўтар зб-каў апавяданняў «Стрэл начны у лесе» (1926), «Прыгранічны манастыр» (1930), «Званкі» (1931), «Рузікі» (1932), «Мюдаўская ноч» (1934), аповесці «У іхным доме» (1929), раманаў «Сын» (1929), «Салаўі святога Панкара» (1940) Асн тэма творчасці — высяванне свядомасці рабочых у гады рэвалюцыі 1905—07, надзеі грамадз вайны калектывізацыя, жыццё бел вёскі ў 1930-я г У гады акупацыі напісаў раманы «Насуперак лесу» і «Таварышы» (апубл 1993)

**МУРАШКАЎЦЫ**, евангельскія хрысціяне святыя сіяністы, рэлігійная секта Узнікла ў канцы 1920-х г у сялянскім асяроддзі Зах Беларусі Назва ад імя заснавальніка — Івана Мурашкі селяніна в Размеркі Косаўскага пав Палескага ваяв У 1912 ен жыў у ЗША, дзе засвоіў ідэі *баптыстаў* і *пяцідзесятнікаў* У 1925 вярнуўся на радзіму, не атрымаўшы значнага поспеху як місіянер пяцідзесятнікаў вырашыў заснаваць сваю «новую» рэлігію У сак 1926 абвясціў сябе пракам і, прыкінуўшыся нямым, вандраваў па палескіх вёсках У канцы 1931 у в Альшаны (цяпер Столінскі р-н) ен ажаніўся с «прарочыцай» В Кірыльчук, пасля чаго нібыта загаварыў У снеж 1932 у в Васкадавы (цяпер Ровенская вобл Украіны) адбыўся 1-ы з'езд прыхільнікаў «новай веры», дзе Мурашка выклаў яе асн прынцыпы выкананне Майсеевых запаведзей, святкаванне суботы і нядзелі, забарона есці мяса, галіць бараду, чытаць свецкую л-ру і інш Практыкавалася пачварная абраднасць Сам Мурашка стаў наз Ільей-прарокам Было прызначана 12 «апосталаў» і 10 іх вучняў На чарговым з'ездзе быў прыняты «статут» секты евангельскіх хрысціян святых сіяністаў (абшчыны М наз «сіенамі», адсюль назва) У 1936 Мурашка заснаваў рэліг камуну «Новы Іерусалім» каля г Сарны Валынскага ваяв, дзе яго паслядоўнікі павінны былі дачакацца «другога прышэсця» Сектанты (акрамя Мурашкі і яго жонкі) жылі тут у антысанітарных умовах, усе грошы ад распраданых гаспадарак даверылі свайму кіраўніку, колькасць М у «Новым Іерусаліме» ў 2-й пал 1930-х г дасягала 800—1000 чал У 1938, забраўшы касу, Мурашка з жонкай уцек у Аргенціну (жыў верагодна, да пач 1950-х г) «Новы Іерусалім» распаўся Пасля Вял Айч вайны найб актыўныя «апосталы» стварылі новыя сіены ў Антопальскім, Высокаўскім, Іванаўскім, Кобрынскім р-нах — усяго 6 у Брэсцкай і 2 у Валынскай вобл У 1951 секта перайменавана у царкву св Тройцы, стаў прызнавацца крыж, падкрэслівалася лаяльнасць да сав улады, аднак секта ніколі не рэгістравалася Да 1953 усе 8 сіенаў разагнаны, дзесяткі членаў секты арыштаваны і асуджаны (у 1956—57 многія вызвалены з лагераў) Вернікі раз'ехаліся па Малдаві, Грузіі, Казахстане, Краснадарскім краі У Беларусі засталіся адзінкі М, якія не маюць сваей арг-цыі, але выконваюць веравучэнне і абрады секты, часам наведваюць малітоўныя сходы пяцідзесятнікаў і адвентыстаў, радзей баптыстаў

*Літ* Камейша Б І Кто такие мурашковцы Мн, 1970, Яго ж В ожидании конца света (О секте мурашковцев) // Наука и религия 1969 № 10, Яго ж Асаблівасці матэрыяльнага і сямейнага быту сектантаў мурашкаўцаў // Этнагр зб (Дакл аддз-ня этнаграфіі Геагр т-ва БССР) Мн, 1975

*Баляслаў Камейша*

**Мурашкаўцы** Абед у «Новым Іерусаліме» Други злева І Мурашка 1930-я г

В М **Мурашоў** Помнік партызану П Кавалеву ў Клічаве

**МУРАШО́Ў** Віктар Мікалаевіч (н 27 7 1935, г Кранштат, Расія), бел скульптар Скончыў ін-т жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя Рэпіна ў Ленінградзе (1961) У Беларусі з 1977 Працуе у станковай і манументальнай скульптуры Аўтар твораў прысвечаных гіст асобам кампазіцыя «Генерал Карбышаў» (1976, 1984), партрэт рус паэта казачніка П П Яршова (1975), У І Леніна (1980), бел пісьменніка М Лужаніна (1983), партызана П М Шыянка (1984) помнікі Дз М Карбышаву у Цюмені (1968), партызану П Кавалеву у г п Клічаў Магілеўскай вобл (1989) і інш Зрабіў герб Рэспублікі Беларусь (1997) для Дома ўрада Творы М вызначаюцца лаканічнасцю пластычнай мовы, псіхалагізмам вобразаў *Галія Фатыхава*

скім жылл было больш простая, нярэдка афарбаваная ў адзін колер (звычайна зялены) У канцы 19 ст нар М стала больш разнастайнай, набылі пашырэнне сталы на ножках, куфры, шафы, канапы, ложкі, падвясныя паліцы ці шафкі для посуду Аздаблялі М такарнымі накладкамі, прапілоўкаи, размалёўкай і інш Павялічылася колькасць рамеснікаў-мэбельшчыкаў, у многіх гарадах і мястэчках працавалі майстэрні, у Бабруйску — мэблевая ф-ка У Гомелі, Магілеве, Давыд-Гарадку, в Лахва (Лунінецкі р-н) выраблялі М, плеценую з лазы, характар дэкору якой ў канцы 19 — пач 20 ст вызначаўся ўплывам стылю «мадэрн» У 1920—30-я г з'явілася секцыйная М, камбінаваная (канапа-ложак і інш), спецыялізаваная У 1950—60-я г традыц самаробная М амаль поўнасцю выйшла з ужытку Сучасную М ў Беларусі выpабляюць на мэблевых аб'яднаннях, ф-ках, сумесных і малых прадпрыемствах у розных стылях, з выкарыстаннем прыродных матэрыялаў (дрэва, камень, лаза), з аздабленнем тканінамі, скурай, сінтэтычнымі матэрыяламі, рознымі відамі фурнітур Па матывах традыц нар М, паводле ўзораў вядучых мэблевых фірм свету стварающца масавыя камплекты і унікальныя гарнітуры Пашырана М штампаваная, клееная, прасаваная, універсальна-разборная, з уніфікаваных элементаў і вузлоў Асн канструкцыйна-маст асаблівасць сучаснай М — макс зручнасць, функцыянальнасць, прастата Мастакоў мэблевай прам-сці ў Беларусі рыхтуе *Беларуская акадэмія мастацтваў*

*Літ* Барташевич АА Конструирование мебели Мн, 1988, Белов АА, Янов ВВ Художественное конструирование мебели 2 изд М, 1985, Бухтияров ВП Новак ГК Развитие мебельной промышленности М, 1982, Кес Д Стили мебели Будапешт, 1972, Матвеева ТА Мозаика и резьба по дереву 5 изд М, 1993 Сахута ЯМ Народная разьба па дрэв Мн, 1978 Яго ж Народное искусство и художественные промыслы Белоруссии Мн 1982, Яго ж. Народнае мастацтва Беларусі Мн, 1997 *Яўген Сахута*

**МЭ́НДЭЛЕ МО́ЙХЕР-СФО́РЫМ** [сапр Бройдэ, па пашпарту Абрамовіч Шолам-Якаў, 21 12 1835 (2 1 1836), г Капыль — 25 11(8 12) 1917], яўрэйскі пісьменнік, заснавальнік новай яўр класічнай л-ры Скончыў Слуцкую яўр бурсу З 1853 жыў у Камянец-Падольску, Бярдзічаве, Адэсе Друкаваўся з 1857 Пісаў спачатку на стараж -яўр мове, потым на ідыш У 1860 выйшаў зб-к вершаў і артыкулаў «Суд свету», скіраваны супраць рэлі фанатызму М стаяў на пазіцыях асвет ніцтва, стварыў «Гісторыю прыроды» (т 1—3, 1862—67) У 1862 напісаў апо весць «Вучыцеся добра» (у 1868 дапра цавана і выдадзена пад назвай «Бацькі і дзеці») У 1860-я г яго погляды эвалю цыяніравалі ад асв -народніцкіх да рэв дэмакратычных У кнізе «Крытычным поглядам» (1867) заклікау змагацца за інтарэсы народа У сатырычнай аповес ці «Маленькі чалавечак» (1864), творах «Такса, ці Банда гарадскіх дабрадзеяў» (1869), гумарыстычным «Падарожжы Веніяміна Трэцяга» (1878, у перакладзе на інш мовы выходзіла пад назвай «Яўрэйскі Дон Кіхот»), «Запаветны пярсцёнак» (ч 1—2, 1888) і інш стварыў шырокую карціну жыцця яур народа ў Расіі ў сярэдзіне 19 ст У аутабіягр творы «Шліма, Хаімаў сын» (1911) паказаў жыцце і побыт капыльскіх рамеснікаў Выступаў у яўр друку як публіцыс крытык і перакладчык

*Тв* Рус пер — Такса М, 1884, В долине плача М, 1912, Кляча М, 1918, Маленький человечек Путешествие Вениамива Третьего Фишка Хромой М, 1961

*Літ* Фінкель У Мэндэле Мойхер Сфорым Пер з яўр Мн 1940

**МЭ́ТЭ** Казімір Юльянавіч [н 14(27) 1 1905, в. Бараўляны Мінскага р-на, цяпер у межах Мінска], адзін з арганізатараў Магілеўскага патрыят падполля у Вял Айч вайну Скончыў Ленінградскі пед ін-т імя Герцэна (1931) З 1927 настаўнік у Бабруйскім р-не, Мінску Магілеве У 1933 арыштаваны і асуджаны на 3 гады як удзельнік «Польскай арганізацыі вайсковай» У ліп 1941 УНКУС Магілеўскай вобл пакінуты у тыле ворага для арганізацыі падп работы У пач 1942 быў у ліку стваральнікаў падп арг-цыі «Камітэт садзеяння Чырвонай Арміі», якая аб'ядналa многія падп групы, мела сувязі з партызанамі З сак 1943 у партызанах З 1944 выкладчык Магілеўскага пед ін-та, у 1948—64 дырэктар, завуч Бараўлянскай сярэдняй школы У 1949 рэабілітаваны

**МЮНЦ** (Muntz) Еган Генрых (1727 Мюльгаўзен, Эльзас — 1798), мастак пейзажыст, падарожнік У 1760-я г жыў у Лондане, вандраваў па Італіі (1762 1785), Грэцыі (1763), Галандыі (1772) У пач 1780-х г у Рэчы Паспалітай З 1792

Мэбля 1 — крэслы (пач 17 ст), 2 — куфар размаляваны (19 ст), 3 — сучасная мэбля

Бел і 1-га Прыбалт франтоў з удзелам партызан у ходзе *Мінскай аперацыі 1944* З 20 9 1944 у Маладзечанскай вобл 31.8 1959 да раена далучаны і н Свір, Канстанцінаўскі, Сырмежскі, Шэметаўскі с/с скасаванага Свірскага р-на З 20.1 1960 у Мінскай вобл 25 12 1962 да раена далучаны г п Крывічы, Будслаўскі, Княгінінскі, Пузырэўскі, Сіўцаўскі с/с скасаванага Крывіцкага р-на На 1.1.1998 у раене гар паселкі *Крывічы* і *Свір*, курортны пас *Нарач*, 307 весак, 12 сельсаветаў Будслаўскі, Дзягільскі, Занарачанскі, Княгінінскі, Латвянскі, Мядзельскі Нарачанскі, Пузырэўскі, Сваткаўскі, Слабадскі, Старагабскі, Сырмежскі, пассаветы Крывіцкі і Свірскі, Нарачанскі курортны, 17 калгасаў і 1 саўгас, птушкафабрыка (в Выгалавічы) Дзейнічаюць прадпрыемствы рыбакамбінат «Нарач» (каля пас Нарач), спіртзавод, масласырзавод (в Нарач), спіртзавод (пас Будслаў) вінзавод (в Глава) На пач 1998 у раене (без Мядзела) 19 сярэдніх, 9 базавых, 2 пач школы дапаможная школа-інтэрнат, дзіцяча-юнацкая спарт і 5 муз школ, 19 дашкольных устаноў, 34 клубы і Дамы культуры, 52 бібліятэкі, 60 кінаўстаноўак, *Мядзельскі музей народнай славы*, 6 бальніц, 23 фельч -акушэрскія пункты санаторыі «Нарач», «Свір», «Баравое», дамы адпачынку «Нарач», «Звязда», «Сосны», піянерскі лагер «Зубраня» Выдаецца раенная газ «Нарачанская зара» Найб значныя помнікі археалогіі стаянка каля в Міколыцы, селішча каля в. Гатавічы, Міколыцы, Равячка, Некасецк, *Гарадзішча*, *Засвір*, паселішчы каля в Міколыцы, Расохі, Рыбкі, Стругалапы, гарадзішчы каля в Белаўшчына, Гарадзішча, Некасецк, гар пас Свір курганныя могільнікі ў в Алешкі, Іжкі Занарач, Засвір, Наўры Брацкія і рускіх салдат, што загінулі ў час *…анскай аперацыі 1916* у в Брусы, Вузла Княгінін, Чарэмшыцы Магілы ахвяр фашызму ў в Брусы, Будслаў, Нарач, Новікі Помнікі Герою Сав Саюза А С Бычку ў в Ліпава, партызанам, падпольшчыкам каля в Гулі, Нікольцы, у в Чарэмшыцы, на месцы партыз аэрадрома Помнікі архітэктуры касцелы ў весках Будслаў (2-я пал 18 ст ), Канстанцінава (2-я пал 19 ст ), Нарач (пач 20 ст ), Шэметава (на рубяжы 18—19 ст ), г п Свір (1908), кляштар кармелітаў у в Засвір (пач 18 ст ), цэрквы ў в Вузла (1820), Княгінін (19 ст ), Нарач (2-я пал 19 ст ), Слабада (канец 19 ст ), сядзібы ў весках Альшэва (канец 19 ст ) і Камарова (пач 20 ст ) Радзіма бел паэта-дэмакрата А Г К *Гурыновіча*, дзярж дзеячаў І А *Васілевіча* і В Ф *Шаранговіча*, засл. дзеяча культуры Беларусі П В *Мядзёлкі*, нар паэта Беларусі Максіма *Танка* і інш

*Літ* Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі Мінская вобл Кн 2 Мн , 1987, Памяць Гіст дак хроніка Мядзельскага р-на Мн , 1998

П В **Мядзёлка**

**МЯДЗЕЛКА** Пауліна Вінцэнтаўна [12(24) 9 1893, в Будслаў Вілейскага пав Віленскай губ , цяпер Мядзельскі р-н — 13 2 1974], дзяячка бел культуры Засл дз культ Беларусі (1966) Скончыла прыватную жаночую гімназію ў Вільні (1912), Вышэйшыя камерцыйныя курсы ў Пецярбургу (1914) Адна з першых выканала ролю Паўлінкі ў аднайм п'есе Я Купалы ў Пецярбургу (1913) Удзельнічала у рабоце Бел муз -драм гуртка ў Вільні З восені 1916 сакратар Бел к-та дапамогі ахвярам вайны у Петраградзе У 1917 працавала ў Кіеве, у Саюзе гарадоў, у аддзеле дапамогі ахвярам вайны па арганізацыі дзіцячых прытулкаў Для падрыхтоўкі Бел з'езда у Кіеве аб ехала шэраг гарадоў У кастр 1917 арганізавала бел школу ў в Жорнаўка Ігуменскага пав , з сак 1918 настаўнічала ў Мінску, у в Мядзведзічы Слуцкага пав , удзельнічала ў пастаноўках Першага т-ва бел драмы і камедыі (Пронка у «Хаме» Э Ажэшкі, Зоська ў «Раскіданым гняздзе» Я Купалы) З вясны 1919 інспектар бел школ, кіраўнік Грамады бел моладзі і драмгуртка ў Гродне За ўдзел у выданні газ «Родны край» 20 7 1919 арыштавана польск акупац уладамі З пач 1920 у Мінску, кіравала жаночай бел школай, удзельнічала ў бел спектаклях, была звязана з падполлем У маі 1920 арыштавана польск дэфензівай, вывезена ў Варшаву, была зняволена ў турму Вронкі на Познаншчыне Пасля вызвалення ў лют 1921 нелегальна выехала ў Літву Удзельнічала ў выданні ў Каўнасе агітац прапагандысцкай л-ры, скіраванай супраць польск акупантаў у Зах Беларусі З восені 1921 па прапанове Ц Гартнага працавала ў выдавецкім аддзеле пры сав пасольстве ў Берліне З 1922 у Латвіі, выкладала ў бел гімназіі ў Дзвінску, арганізавала там хор і драм калектыў Разам з інш выкладчыкамі арыштавана за «падрыўную дзейнасць», апраўдана судом у крас 1925 і пераехала ў БССР Працавала ў сектары мастацтва Інбелкульта, у 1927—30 выкладала ў Горацкай с -г акадэміі У 1930 беспадстаўна арыштавана і выслана за межы Беларусі З 1932 выкладала у маскоўскай школе З 1947 настаўнічала ў Будславе, арганізавала драм і харавы калектывы Друкавалася з 1918 (псеўд Паўлінка) У маладыя гады выступала з вершамі, артыкуламі, рабіла спробы ў драматургіі Зрабіла значны ўклад у развіццё бел тэатр мастацтва, яе дзейнасць спрыяла бел нац -культ адраджэнню Сябравала з Я Купалам, які прысвяціў ей вершы Аўтар мемуараў пра культ жыццё Беларусі дарэв часу «Сцежкамі жыцця» (1974, ч 2, надр 1993)

*Літ* Калеснік У Галгофа адроджаных // Полымя 1993 № 2, Марціновіч А. Паўліна, Паўлінка, Жураўінка // ЛіМ 1993 10 верас , Янушкевіч Я Невядомыя старонкі жыцця Паўліны Мядзелкі // Голас Радзімы 1993 23 верас

*Генадзь Кісялеў*

**МЯДНІЦА**, даўняя адзінка вымярэння сыпкіх і вадкіх рэчываў на Беларусі, раўнялася 12 гарцам — 33,84 літра

марксістаў «Жизнь» (у 1900—01) Украінка 4 разы наведвала Мінск, у апошні прыезд правяла 2 месяцы каля пампраючага М Яго імем названа вуліца ў Мінску

*Лit* Басин Я Зов Прометея Повесть о Сергее Мержинском Мн , 1987 *Якаў Басін*

**МЯСНІКО́ВІЧ** Міхаіл Уладзіміравіч (н 6 5 1950, в Новы Сноў Нясвіжскага р-на), дзярж дзеяч Беларусі Д-р эканам навук (1998) Скончыў Брэсцкі інж -буд ін-т (1972), Мінскую ВПШ (1989) З 1972 працаваў інжынерам З 1983 на сав , парт і гасп рабоце старшыня Савецкага райвыканкома г Мінска, нам старшыні Мінскага гарвыканкома, сакратар Мінскага гаркома КПБ, міністр жыллева-камунальнай гаспадаркі БССР З 1990 нам Старшыні Савета Міністраў — старшыня Дзяржэканамплана, з 1991 1-ы нам Старшыні Савета Міністраў, з 1994 нам Прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь З кастр 1995 кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Чл Прэзідыума міждзярж эканам к-та Садружнасці Незалежных Дзяржаў (з 1994), нам старшыні Выканкома Саюза Беларусі і Расіі (1996—98), чл Прэзідыума Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь (1990—95 і з 1997)

**МЯСНІКО́Ў** Аляксандр Федаравіч [сапр Мяснікян, парт і літ псеўд Ал Мартуні, Бальшавік, 28 1 (9 2) 1886, г Нахічэвань-на-Доне — 22 3 1925], рэвалюцыянер, сав парт і дзярж дзеяч, адзін з кіраўнікоў устанаўлення сав улады на Беларусі Скончыў Маскоўскі ун-т (1911) У рэв руху з 1904, чл РСДРП з 1906 З 1914 у арміі на Зах фронце, прапаршчык, вёў рэв прапаганду сярод салдат Пасля Лют рэвалюцыі 1917 у Мінску, чл бальшавіцкай фракцыі выканкома Зах фронту, чл Мінскага Савета, Мінскага к-та РСДРП(б) Адзін з заснавальнікаў і рэдактараў газ «Звезда» На VI з'ездзе РСДРП(б) (Петраград, 1917) выступіў з дакладам пра становішча ў Мінску і на Зах фронце Дэпутат Устаноўчага сходу па Мінскай акрузе З вер 1917 старшыня Паўн -Зах к-та РСДРП(б) Пасля Кастр рэвалюцыі 1917 выбраны чл ВРК Зах фронту, у ліст 1917 галоўнакамандуючым Зах фронтам, у снеж — в а Вярх галоўнакамандуючага З ліст 1917 нарком ваен аддзела, са студз 1918 старшыня Аблвыканзаха Пасля акупацыі Беларусі герм войскамі ўзначальваў Паўн -Зах абл к-т РКП(б) (у Смаленску) У маі—ліп 1918 камандуючы Паволжскім фронтам Нігілістычнае стаўленне М да нац пытання найб выявілася ў працэсе ўтварэння БССР, калі ён выступаў супраць самастойнасці бел рэспублікі У Часовым рабоча-сялянскім урадзе БССР быў наркомам па ваен справах, нам старшыні СНК, старшынёй ЦВК Летам 1920 нач палітупраўлення Зах фронту З 1920 ваен

С К Мяржынскі

М У Мяснiковiч

А.Ф Мяснікоў

арганізатар, сакратар Маскоўскага к-та РКП(б), з 1921 старшыня СНК і нар ком па ваен справах Арм ССР, з 1922 старшыня Саюзнага Савета ЗСФСР, потым 1-ы сакратар Закаўказскага крайкома РКП(б) Загінуў у авіяц катастрофе Чл ЦБ КП(б)Б у 1919, чл Прэзідыума ЦК КП(б)ЛіБ у 1919—20 Чл РВС СССР, чл Прэзідыума ЦВК СССР у 1923—25 Аўтар артыкулаў па пытаннях марксісцкай тэорыі, гісторыі рэв руху, арм л-ры

*Тв* Избр произв М , 1985, Подготовка Октября // В борьбе за Октябрь в Белоруссии и на Западном фронте Мн , 1957

*Лit* Мнацаканян А.Н Александр Мясников (Мясникян) Ереван, 1957 *Іосіф Хауратовіч*

**МЯСНІКО́Ў** Анатоль Федаравіч (н 15 7 1950, в Шмідзельшчына Галачынскага р-на), бел гісторык і публіцыст Канд гіст н (1987) Скончыў БДУ (1972) Працаваў у газ «Чырвоная змена» (1972—78), з 1978 у газ «Звязда», адначасова ў 1995—96 прэс-сакратар Старшыні Вярх Савета Рэспублікі Беларусь З 1996 гал рэдактар час «Гуманітарна-эканамічны веснік» Даследуе гісторыю Беларусі 20 ст , праблемы міжнац зносін, пытанні бел журналістыкі Аўтар гіст нарысаў пра Я Адамовіча, А Бурбіса, Дз Прышчэпава, А Смоліча, А Чарвякова і інш Дзярж прэмія Беларусі 1994 за кн «Нацдэмы Лес і трагедыя Фабіяна Шантыра, Усевалада Ігнатоўскага і Язэпа Лёсіка» (1993), прэмія Саюза журналістаў Беларусі 1993

*Тв* Жыццё і ўваскрэсенне Усевалада Ігнатоўскага // Коммунист Белоруссии 1991 № 4, «Жывіце без мяне »// Полымя 1992 № 1, Камісар земляробства // Беларусь 1992 № 9 Выгнаннік сваёй Радзімы // Полацак 1992 № 7, Лёс адметны і трагічны // Бел мінуўшчына 1994 № 1, «Беларус — грамадзянін будучыні » // Маладосць 1994 № 7, Айчыны верныя сыны Гіст нарысы Мн , 1997

**МЯСТЭ́ЧКА**, населены пункт, які адрозніваўся ад горада меншай колькасцю насельніцтва, адсутнасцю абарончых збудаванняў, агр рысамі, ад сяла і вёскі — наяўнасцю гандлю і рамяства як сталых заняткаў часткі жыхароў На Беларусі актыўна ўзнікалі з 14 ст каля месцаў традыц кірмашоў, на бойкіх гандлевых скрыжаваннях, у буйных сёлах і вёсках (каралеўскія таргі) У 15—16 ст на тэр Беларусі было больш за 200 М , з іх каля 70 у Панямонні больш за 40 у цэнтр рэгіёне і Паазер'і, адпаведна, больш за 30 у Падняпроўі і прыкладна столькі ж на Палессі Пэўны час падаткі ад мястэчковага гандлю ішлі выключна на карысць казны Феадалам забаранялася ствараць прыватнаўладальніцкія таргі без дазволу караля ці вял князя, праводзіць прыватнаўладальніцкія кірмашы бліжэй чым за тры мілі ад каралеўскіх М У 1588 шляхта дамаглася скасавання абмежаванняў і забароны на буд-ва прыватнаўладальніцкіх таргоў і М Жыхары, якія выраблялі сялішча ў М , вызваляліся на некалькі гадоў ад натуральных і грашовых падаткаў Некат М будаваліся каля замкаў, разам з апошнімі (Іказнь, 1504 Дзісна 1566) Многія ўзнікалі каля кляштараў і буйных прыходаў (Жыровічы, 1643) У 16 ст са скасаваннем абмежаванняў, у М пачалі пераўтварацца буйныя сёлы і вёскі (Моталь, 1554, Дзівін, 1566, Станькава, 1585, і інш) Найб хутка раслі М на буйных шляхах і скрыжаваннях дарог, каля перапраў і прыстаней (Нача, Барань, Старобін,

Стары Свержань, Свіслач, Петрыкаў і інш ) У абавязкі местачкоўцаў уваходзілі нагляд за дарогамі, будаўніцтва корчмаў і заезных дамоў У 16—18 ст у Беларусі было ўжо каля 400 М На чале адміністрацыі М стаяў войт М падзяляліся паводле прыналежнасці (дзярж, прыватнаўласніцкай, царк ), ландшафтнаи прывязкі (берагавыя, сухадольныя, балотныя) Магнаты і заможныя паны стваралі М побач з замкамі, палацамі, сядзібамі (Шчучын, Паставы, Варняны, Пужкі і інш ) Ва ўзнікненні М пэўную ролю адыгрывала наяўнасць прамысловых і інш аб'ектаў (фалюшы, крупадзеркі, млыны, мануфактуры, гуты, бровары, суднабуд верфі і інш ) Планіровачнай асновай іх забудовы былі гандлевая плошча, якая ўтваралася пашырэннем вуліцы пад кірмаш, выкарыстаннем часткі вольнай прасторы паміж паралельнымі вуліцамі, ці на скрыжаванні вуліц, дзе плошча магла фарміравацца рознай формы На пач 19 ст для шэрагу бел М былі распрацаваны арх «ўзорныя» планы (Сянно, Чавусы, Быхаў Вілейка і інш ) Найб развітую планіровачную структуру ва ўсх Беларусі мелі М, якія ў свой час былі павятовымі цэнтрамі (Горкі, Чавусы, Быхаў, Рагачоў) або т зв заштатнымі гарадамі (Мсціслаў, Крычаў, Бялынічы) У канцы 19 ст ў М жыло каля 150 тыс чал У 1920—30-я г многія М БССР пераўтвораны ў гарады і гар пасёлкі, астатнія — у вёскі У Зах Беларусі М існавалі да 1939

*Літ* Беларускае народнае жылле Мн, 1973 Лакотка А І Дойлідства Мн, 1997 (Беларусы, Т 2) Яго ж. Мястэчкі Беларусі // Мастацтва 1998 № 10

*Аляксандр Лакотка*

**МЯТЛА́** Петр Васілевіч (1890, в Кухшцы Дзісенскага пав Віленскай губ, цяпер Міёрскага р-на — 12 8 1936), дзеяч нац-вызв руху ў Зах Беларусі Чл КПЗБ з 1926 У 1906—10 вучыўся ў Дзісенскім гар вучылішчы, у 1911—12 на пед курсах у Коўне. Працаваў настаўнікам У 1914—17 у арміі Знаходзіўся сярод юнкераў Аляксееўскага ваен вучылішча, якія «выступілі супраць рэвалюцыі і паўстаўшага пралетарыяту» Быў арыштаваны і зняволены ў турму З канца 1917 да 1921 настаўнік на радзіме З 1921 у Вільні У 1921—22 працаваў бухгалтарам, заг аддзела Віленскага саюза кааперацыі Удзельнічаў у стварэнні нац-вызв арг-цый, бел школ у Зах Беларусі У 1922 выбраны дэпутатам польскага сейма ад бел нац меншасці Быў членам *Беларускага пасольскага клуба* Адзін са заснавальнікаў, чл ЦК *Беларускай сялянска-работніцкай грамады* Пасля яе разгрому арыштаваны 16 1 1927, па *працэсе 56-і* (1928) прыгавораны да 12 гадоў турмы У выніку абмену палітвязнямі з 1930 у СССР Працаваў у ВСНГ БССР нам нач планавання, нач сектара кадраў, у *Камісіі па вывучэнні Заходняй Беларусі* пры Прэзідыуме Бел АН, быў яе старшыней (1932—33) Аўтар прац па гісторыі нац-вызв руху ў Зах Беларусі, у т л «Аб таварыстве беларускай школы і

П В Мятла

яго барацьбе» (1932) 1 9 1933 арыштаваны па справе *«Беларускага нацыянальнага цэнтра»* («БНЦ») 9 1 1934 судовай калегіяй АДПУ як арганізатар і кіраўнік «БНЦ» прыгавораны да вышэйшай меры пакарання, якая была заменена 10 гадамі папраўча-працоўных лагераў Пакаранне адбываў на буд-ве Беламорска-Балтыйскага канала Памёр у лагеры Рэабілітаваны 18 4 1956 Ваен трыбуналам Бел ваен акругі

*Уладзімір Адамушка*

**МЯХО́ЎСКІ** Мацей (каля 1457 — 8 9 1523), польскі гісторык, гл *Мацей* з Мехава

**МЯЦЕ́ЛЬСКІ** Андрэй Анатолевіч (н 16 9 1960, г Котбус, ГДР), бел археолаг, гісторык Канд гіст н (1992) Скончыў Гродзенскі ун-т (1984) З 1990 у Ін-це гісторыі АН Беларусі Даследуе археалогію ўсх Беларусі сярэдневяковага перыяду, займаецца пытаннямі гіст геаграфіі

Да арт **Мячэць** Праект рэстаўрацыі мячэці з былой в Даўбучкі (Смаргонскі р-н) для Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту Аўтар А І Лакотка

*Тв* Города Посожья X—XIII вв // Ист археол семинар «Чернигов и его округа в IX—XIII вв» Тез докл Чернигов 1990, Некаторыя пытанні гістарычнай геаграфіі Смаленскай зямлі XII—XIII стст // Гіст археал зб Мн, 1993 Ч 2, Смаленска Чарнігаўскае памежжа XII ст ў міжрэччы Дзясны і Дняпра // Там жа 1994 № 4, Орша ў XII—XIII стст паміж Полацкам і Смаленскам // Там жа 1995 № 6, О местонахождении центра Зарубской волости Смоленской земли // Там жа 1996 № 10 Да пытання аб прыродных і антрапагенных межах Віцебскай зямлі XII—XIII стст // З глыбі вякоў Наш край Мн, 1997 Вып 2

**МЯЧЭ́ЦЬ** (ад араб масджыд — месца дзе адбіваюцца зямныя паклоны), культавы будынак у *ісламе*, месца агульнаи малітвы Узніклі ў 7 ст На пачатку гэта былыя язычніцкія храмы або цэрквы, прыстасаваныя для мусульманскага набажэнства Да канца 8 ст сфарміравалася характэрнае аблічча М гал сцяна (к і б л а) павернута ў бок Мекні, знутры ў ей ніша накшталт алтара — м і г р а б (м і х р а б), да якой у час малітвы павернуты твары вернікаў Побач з міграбам — кафедра з 3—9 прыступак для *мулы* — м і н б а р (татар м у м і б і р) Падлога засцілаецца коўдрамі і дыванамі Для старых і хворых уздоўж сцен стаяць лавы На сценах могуць развешвацца выявы славутых М, цытаты з *Карана* — м у г і р ы (але ніякіх скульптур і малюнкаў людзей і жывел) У час малітвы ў М дапускаюцца толькі мужчыны, але ззаду за гал залай можа быць асобнае памяшканне для жанчын з акном з тонкай фіранкай (напр, у бел татар) або ізаляваныя галерэі М часта ўпрыгожваецца купалам вежа —

м і н а р э т знаходзіцца на тым жа будынку (характэрна для ўсіх татар) або стаць асобна (звычайна ў Турцыі, Сярэдняй Азіі і інш ) З мінарэта памочнік мулы м у э д з і н (у бел татар м я з і м ) голасам склікаў вернікаў на малітву (цяпер гэта звычайна не робіцца або выкарыстоўваецца гуказапіс) У буйных населеных пунктах існуюць вялікія М — д ж а м і і (пятнічныя, або саборныя), якія з'яўляюцца цэнтрамі прыходаў — д ж а м і я т а ў, і дробныя квартальныя і сельскія М Акрамя набажэнстваў у М праводзяцца сходы і інш грамадскія мерапрыемствы мусульман скіх абшчын На Беларусі М з'явіліся разам з пасяленнем тут татар-мусульман у 14—16 ст Пасля перыяду верацярпімасці ў ВКЛ у 17 ст мела месца забарона з боку каталіцкай царквы будаваць і рамантаваць М У Рас імперыі ўсе падобныя пытанні рэгулявала прадпісанне МУС 1829 «Аб правілах будаўніцтва татарскіх мячэцей» Праект узгадняўся ў губернскім праўленні і ў Таўрычаскім магаметанскім духоўным упраўленні Першыя М на Беларусі былі драўляныя аднязрубныя пад 4-схільным дахам, са слупавым ганкам ці галерэяй, без мінарэтаў Паступова ўзнік мінарэт у выглядзе стромкай вежы (Лоўчыцы, Навагрудскі р-н, 1688) Пазней такі тып вядомы і ў інш М у Мядзеле (1840), Клецку (1881), Іўі (1884), Асмолаве (Навагрудскі р-н, 1924) У 18—19 ст ўзнік адметны тып М, па архітэктуры блізкі да касцела (Крушыняны, Гродзенскі пав , 18 ст ) Унікальным помнікам архітэктуры, які ўвасобіў рысы М класічнага Усходу, стала М з в Даўбучкі Смаргонскага р на (18 ст ) Шэраг М будаваўся па ўзорах правасл царк архітэктуры (Слонім, 1882, Мінск, 1902 — адзіная мураваная М на тэр Беларусі) У 1-й пал 20 ст на тэр Беларусі М існавалі ў Асмолаве, Відзах (1860—65), Даўбучках, Іўі, Капылі (1880 я г ), Клецку (1881), Крушынянах, Лоўчыцах, Ляхавічах (1815), Мінску, Міры (да 1795), Мядзеле, Навагрудку (1796), Некрашунцах (Воранаўскі р-н, 18 ст ), Слоніме, Смілавічах (1856), Уздзе Захаваліся М з в Даўбучкі (перавезена ў Бел дзярж музей народнай архітэктуры і побыту), у Іўі, Лоўчыцах (рэшткі) У 1994 адбудавана М у Слоніме, у 1996 — у Навагрудку, 18 10 1996 адкрыта новая М у Смілавічах

*Літ* Л а к о т к а А І Бераг вандраванняў, ці Адкуль у Беларусі мячэці Мн , 1994

*Аляксандр Лакотка*

**МЯШКО́Ў** Мікалай Максімавіч (н 11 5 1922, г Крычаў), дзярж дзеяч БССР, бел гісторык Канд гіст н (1953), праф (1968) Скончыў БДУ (1949), Акадэмію грамадскіх навук пры ЦК КПСС (1953) Удзельнік Вял Айч

Да арт **Мяшчане** Мяшчанка з г Давыд-Гарадок у традыцыйным уборы 19 ст

вайны З 1942 на грамадскай і парт рабоце ў Тадж ССР З 1945 інструктар ЦК КП(б)Б, з 1953 нам дырэктара, дырэктар Ін-та гісторыі партыі пры ЦК КПБ, заг аддзела навукі, навуч устаноў і школ ЦК КПБ, рэктар Мінскай ВПШ У 1968—88 міністр вышэйшай і сярэдняй спец адукацыі БССР Чл ЦК КПБ у 1960—91 Дэп Вярх Савета БССР у 1967—90 Даследаваў гісторыю СССР і БССР, КПСС і КПБ, пытанні вышэйшай адукацыі ў Беларусі Адзін з аўтараў і рэдактар прац «Бальшавікі Беларусі ў першай рускай рэвалюцыі» (1955), «У суровыя гады падполля» (1958), «Нарысы гісторыі Камуністычнай партыі Беларусі» (ч 1, 2-е выд 1968), «Курс лекцый па гісторыі КПСС» (ч 1—2, 2-е выд 1974—75) і інш

**МЯШЧА́НЕ** (польск mieszczanin гараджанін), падатковае саслоўе ў ВКЛ у 14—18 ст і ў Расіі ў 1775—1917, якое ўключала розныя катэгорыі гараджан — рамеснікаў, дробных гандляроў, купецтва і інш На Беларусі тэрмін «М » замацаваўся на працягу 15 ст Да М залічвалі тую частку рамеснікаў (у т л цэхавых), купцоў, дробных гандляроў, якая падпарадкоўвалася магдэбургскаму праву У некаторых гарадах Беларусі (Віцебск, Полацк) у склад М ува ходзіла і землеўласніцкая частка гараджан, якая выконвала вайсковы абавязак — *конныя мяшчане*, путныя пасельскія Яны складалі прывілеяваную групу М , вызваляліся ад падаткаў Пасля далучэння Беларусі да Рас імперыі на М бел гарадоў пашырана заканадаўства імперыі Акты 1775 і 1785 залічылі да М пасадскіх людзей, частку гараджан, што не ўваходзіла ў купецкія гільдыі, рамесныя цэхі М выконвалі рэкруцкую павіннасць, былі абмежаваны ў праве перамяшчацца, да 1863 на іх пашыраліся цялесныя пакаранні Зван не М спадчыннае, аднак іх склад па паўняўся за кошт збяднелых купцоў прыватнаўласніцкіх сялян, якія выкупіліся або былі адпушчаны памешчыкамі Паводле перапісу 1897 М і купцоў у бел губернях было 1800,1 тыс чал — 22,4% насельніцтва, у гарадах (без мяс тэчак) — 69,5% насельніцтва

**МЯШЧА́НСКАЯ СЛАБАДА́**, месца кампактнага пражывання беларусаў у Маскве ў 2-й пал 17 — пач 18 ст Утворана ў вер 1672 паводле царскага ўказа на тэр «дварцовай» Напрудная слабады і Троіцкага падвор'я спецыяльна для бел рамеснікаў, вывезеных з Беларусі ў час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* У 1676 у М с было 56[?] двароў, у 1684—679, у 1695—787 Слабадой кіравалі асобныя стольнікі, пры значаныя Пасольскім прыказам Сюды былі пераведзены тыя беларусы, якія пасяліўшыся ў Маскве, мелі свае двары Бяздворных і некат майстроў, якія працавалі пры царскім двары і жылі ў дварцовых і чорных слабодах і сотнях у М с не ўзялі Каля 200 сем'яў беларусаў з-за недахопу зямлі ў М с , жылі у іншых слабодах У 1680-я г беларусы складалі каля 20% насельніцтва Масквы, палова з іх жыла ў М с Паводле перапісу 1676, у М с жылі рамеснікі больш як 60 спецыяльнасцей Каля 36% жыхароў слабады былі пісьменныя, тут працавала школа для дзяцей (трымаў беларус Якаў Якаўлеў) і багадзельня Адметную ролю слабада адыграла у ста наўленні рас тэатра 26 дзяцей жыхароў М с ў 1675 паставілі спектакль «Жалос ная камедыя», пасля чаго трупа пашы рана да 60 чал і створана спец артыс тычная школа, 20 акцёраў займаліся у асобнай балетнай школе У 1676 пастаўлены спектаклі «Пра Давыда і Галіяфа» і «Аб Бахусе і Венусе» Аднак пасля смерці цара Аляксея Міхайлавіча ў 1676 трупа распушчана Баярскім «прыгаворам» 23 8 1682 вызначана асобнае ста новішча М с , паводле якога жыхары яе як іншаземцы атрымалі розныя льготы і прывілеі, што спрыяла пашырэнню гандл дзейнасці мяшчан, 17 з якіх былі прыняты ў Гандлёвую сотню М с знік ла пасля пажару 1712 *Генадзь Прыбытка*

рау (1578, 1599, 1613, 1652, 1751) і эпідэміи (1590 1592, 1603, 1708) Ваен падзеі і прыродныя катаклізмы прывялі горад да палп з эканам заняпаду У канцы 18 ст у Н каля 3 тыс чал, 3 уніяцкія царквы 5 касцелаў, 6 манастыроў, сінагога мячэць Паводле 3-га падзелу Рэчы Паспалітаи з 1795 Н у складзе Рас імперыі цэнтр павета Слонімскай, з 1797 — Літоўскай, з 1801 — Гродзенскай з 1842 — Мінскай губ У 1812 Н заняты войскамі *«Вялікай арміі»* Напалеона (польскія часці і вестфальскі корпус *Жэрома Банапарта)*, з мясц жыхароў сфарміраваны 19-ы уланскі полк *літоўскіх войск 1812* У 1817 у Н 1571 ж, у т л 726 яўрэяў, 319 татар, 428 драўляных і 9 мураваных дамоў У час паўстання 1830 — 31 у Н 22 7 1831 увайшоу паўстанцкі атрад Ю *Кашыца* і М Машкоўскага У 1837 — 3679 ж, у т л 2660 мяшчан, з служачых 36 ваенных, 37 цывільных, 15 адстаўных, 14 купцоў 3 гільдыі, 48 духоўных, былі 4 брукаваныя і 9 небрукаваных вуліц і завулкаў Пасля закрыцця *Навагрудскаи дамініканскаи школы* ў 1834 створана 5 клас-

нае гар вучылішча, якое ў 1858 пераўтворана ў *Навагрудскую гімназію* У 1862 засн кафляны з-д братоў Лейтнекераў, які меў філіялы на Украіне У час паўстання 1863—64 у Н сфарміравана паўстанцкая арг-цыя на чале з У *Борзабагатым* У 1887 засн с-г ашчаднае т-ва, у 1888 — банк, у 1895 — друкарня У 1890-я і дзейнічаў марксісцкі гурток I *Трусевіча*, з 1899 — сіяністскі гурток У 1897 — 7887 ж, з іх роднай мовай лічылі беларускую 1676, рускую 319, «маларускую» 16, яўрэйскую 4992, польскую 401, татарскую 475, нямецкую 5 жыхароў, паводле веравызнання было праваслаўных і аднавернікаў 1573, католікаў 790, іудзеяў 5015, магаметан 494, пратэстантаў 14, былі 723 жылыя дамы, гар вучылішча з аддзяленнем для дзяўчынак, яўр прыватнае вучылішча, сабор, царква, касцел, сінагога, мячэць, паштовая станцыя, 86 крам у гандлевых радах і 62 асобныя крамы, цагельны, ганчарны, мылаварны, 2 ганчарна-кафляныя з-ды, 1 кірмаш на год, 8 гасцініц, 6 заезных дамоў, 20 корчмаў і паліцейных дамоў, 417 рамеснікаў У 1905 з явіліся першыя вулічная газавыя ліхтары У 1910 у Н 8414 ж, 76 мураваных і 1074 драўляныя будынкі У 1914 — 6 навуч устаноў У 1-ю сусв вайну Н з 22 9 1915 да канца 1918 акупіраваны герм войскамі, тут размяшчаўся штаб іх 10-й арміі, былі пабудаваны электрастанцыя, праведзена тэлефанізацыя, пракладзена вузкакалейная чыгунка, выдавалася «Nowogrodoker Kriegszeitung» («Навагрудская ваенная газета») 27 12 1918 у Н увайшоу 152-гі стралк полк Чырв Арміі У лют 1919 адбыуся 1-ы пав з'езд Саветау З 18 4 1919 да 19 7 1920 і з 1 10 1920 акупіраваны польскім войскам З 1921 у складзе Польскаи Рэспублікі, цэнтр ваяводства і павета, 6376 ж, 699 будынкау, у 1931 — 9567 ж, 1055 жылых будынкау, 2 касцелы, 2 царквы, 3 сінагогі, мячэць, польская гімназія і *Навагрудская беларуская гімназія*, 2 бальніцы, 4 кірмашы на год, 7 гасцініц, 2 друкарні У 1920—30-я г выходзіла больш за 10 найменняў перыяд выданняў, у кастр 1922 пачала выдавацца першая ў Н бел газ «Наша Бацькаўшчына» У 1924—31 на Малым замку насыпаны курган у гонар А *Міцкевіча*, 11 9 1938 адкрыты яго

Н ў ВКЛ стал звычайнай з яваю У Статут ВКЛ 1566 быў унесены спец артыкул «О простых людех, кгдыж повышеня чести и станов за годностями заслугами могут меть» Пасля Люблінскай унп 1569 на сеиме 1578 прынята канстытуцыя, каб кароль «плебеяў» не ўзводзіў у шляхецтва, адно толькі на сейме па прадстаўленні Рады ВКЛ ці ў войску за мужнасць Гэта паўплывала на фармулеўку артыкула ў Статуце ВКЛ 1588 «О непривлащенье вольностей шляхетских людем простого стану» Паводле яго Н праводзілася толькі «за явными значными и рицерскими послугами, мужством, оказаным против неприятелем нашим» На сейме 1601 зацверджана палажэнне, паводле якога Н праводзілася каралем толькі па прадстаўленні сената і пасольскай ізбы, а у войску — гетманам Каб не было таемных Н, сапраўднымі лічыліся толькі тыя, што адзначаны ў спец сеймавых канстытуцыях На каранацыйным сейме 1633 забаронены прыватныя адопцыі (прыем у геральдычны род прадстаўнікоу інш саслоўяў) Паводле канстытуцыі 1643 набілітаваныя сем і на працягу 3 пакаленняў не мелі права заимаць пасад і спраўляць пасольствы Значнае пашырэнне атрымала практыка Н ў час панавання караля Станіслава Аўгуста [1764—95], калі было набілітавана ў 2 разы больш асоб, чым яго папярэднікамі з 1601 *Уладзіслаў Вяроўкін Шэлюта*

**НАВАГРУДАК**, горад у Гродзенскай вобл, цэнтр Навагрудскага раена За 162 км на У ад Гродна, 22 км ад чыг ст Наваельня на лініі Ліда—Баранавічы 30,7 тыс ж (1998)

Паводле археал даследаванняў насельніцтва на тэр сучаснага Н узнікла ў канцы 10 ст Тут быў пасад, пазнеи — вакольны горад Прыкладна праз паўстагоддзя абжыта Замкавая гара, на якой пабудаваны дзядзінец Некропалем Н ў 10—11 ст быў *Навагрудскі курганны могільнік* Не пазней 12 ст заселена ўзвышша, размешчанае на ПдЗ

Герб **Навагрудка** 1595

ад вакольнага горада у сярэдзіне — 2 й пал 12 ст тут пабудаваны мураваны храм — папярэднік Барысаглебскай царквы У горадзе былі развіты апрацоўка жалеза, косці, янтару, каляровых і высакародных металаў, існаваў гандаль з краінамі Зах Еўропы, Прыбалтыкі, Кіеўскай зямлеи Пра сувязі Н з Візантыяй і Блізкім Усходам у 12—13 ст сведчыць візантыйскі і сірыйскі шкляны посуд, размаляваны золатам і каляровай эмаллю На тэр вакольнага горада было некалькі дамоў са шклянымі вокнамі (шкло прывозілі з Кіева) і фрэскавай размалеўкай сцен, што было унікальным для тагачаснай жылой забудовы Першае верагоднае ўпамінанне Н ў пісьмовых крыніцах адносіцца да 1044 і звязана з паходам Яраслава Мудрага на *Літву* Упершыню гэтае меркаванне выказаў В М *Тацішчаў* Летапісныя варыянты назвы горада — Новогород, Новгородок, Новогородок, Новый Городок і інш Традыцыйнае бел вымаўленне Наваградак пад уплывам польскага варыянта Nowogródek граф сфармавалася ў сучасную назву Н У 13—14 ст Н — цэнтр удзельнага *Навагрудскага княства* Пад 1235 упамінаецца навагрудскі кн Ізяслаў У 1252 навагрудскі князь *Міндоўг* каранаваўся ў Н як кароль літоўскі, на падставе чаго шэраг гісторыкаў лічыць з гэтага часу Н сталіцай ВКЛ Сын Міндоўга *Войшалк* у барацьбе супраць Галіцка Валынскага княства і літ князеў аб яднаў вакол Н Пінскую зямлю, *Нальшчан Дзяволтву*, што склала аснову тэр ВКЛ На Н неаднаразова нападалі татары і іх саюзнікі — дружыны галіцка валынскіх князеў у 1250-я г, 1274, 1276, 1277 а потым крыжакі у 1314, 1321 1341 1390 1394 Як цэнтрам удзельнага княства Н валодалі з 1329 *Карыят*, пасля 1358 яго сын Федар, з 1386 — *Карыбут* З 139? Н — адзін з цэнтраў вялікакняжацкага дамена У канцы 14 — пач 15 ст *Вітаут* пасяліў у Н і яго наваколлі татар у 1428 ен запісаў горад разам з навакольнымі вескамі ў пажыццевае уладанне сваей жонцы Ульяне У канцы 15 ст ў Н 3—4 тыс ж У 1316 Н стаў цэнтрам самастоинай Літоўска Навагрудскай мітраполіі, якая ахоплівала праваслаўную царкву ВКЛ і Галіцыі (гл ў арт *Кіеўская мітраполія*) У 1568 у Н 10 цэркваў Пасля *Брэсцкай уніі 1596* мітрапалічкай кафедрай завалодалі уніяты У 16 ст Н таксама адзін з цэнтраў *фармацыі* Беларусі У студз 1507 утворана *Навагрудскае ваяводства* 26 7 1511 Н атрымаў магдэбургскае права якое пацверджана ў 1562 1595 і 1776 Прывілеем 1595 зацверджаны гарадскі герб у чырв полі выява архангела Міхаіла які трымае ў правай руцэ меч, а у левай ва... гі У 1597 кароль Рэчы Паспалітай Жыгімонт III даў мяшчанам Н прывілей на 2 кірмашы у год на працягу 2 тыдняў на «рымскія святы» Тры Карлі і Троіцу З 1581 па 1775 у горадзе адбываліся пасяджэнні Гал літ трыбунала У сярэдзіне 16 ст ў Н 2—5 тыс ж У 16—18 ст горад моцна пацярпеў ад ваен дзеянняў у 1506 і 1507 ад крымскіх татар у 1518 і 1534 у выніку войнаў Рус дзяржавы з ВКЛ, у 1648 у ходзе антыфеад вайны 1648—51, у вер 1655 узяты рус войскам кн А М Трубяцкога ў вайне Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 У 1661 у сувязі з ваен спусташэннямі горад вызвалены ад падаткаў на 4 гады У 1706 у Паўночную вайну 1700—21 акупіраваны шведскім войскам У 16—18 ст Н некалькі разоў пацярпеў ад пажа...

**Навагрудак** у канцы 18 ст З акварэлі Ю Пешкі

**Навагрудак** Від на Замкавую гару і Фарны касцел З малюнка Н Орды Сярэдзіна 19 ст

раў (1578, 1599, 1613, 1652,1751) і эпідэмій (1590 1592,1603,1708) Ваен падзеі і прыродныя катаклізмы прывялі горад да палит і эканам заняпаду У канцы 18 ст ў Н каля 3 тыс чал, 3 уніяцкія царквы, 5 касцелаў, 6 манастыроў, сінагога, мячэць Паводле 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 Н у складзе Рас імперыі, цэнтр павета Слонімскай, з 1797 — Літоўскай, з 1801 — Гродзенскай, з 1842 — Мінскай губ У 1812 Н заняты войскамі *«Вялікай арміі»* Напалеона (польскія часці і вестфальскі корпус *Жэрома Банапарта)*, з мясц жыхароў сфарміраваны 19-ы уланскі полк *літоўскіх войск 1812* У 1817 у Н 1571 ж, у т л 726 яўрэяў, 319 татар, 428 драўляных і 9 мураваных дамоў У час паўстання 1830 — 31 у Н 22 7 1831 увайшоў паўстанцкі атрад Ю *Кашыца* і М Межаеўскага У 1837 — 3679 ж, у т л 2660 мяшчан, з служачых 36 ваенных, 37 цывільных, 15 адстаўных, 14 купцоў 3-й гільдыі, 48 духоўных, былі 4 брукаваныя і 9 небрукаваных вуліц і завулкаў Пасля закрыцця *Навагрудскай дамініканскай школы* ў 1834 створана 5-класнае гар вучылішча, якое ў 1858 пераўтворана у *Навагрудскую гімназію* У 1862 засн кафляны з д братоў Лейтнекераў, які меў філіялы на Украіне У час паўстання 1863—64 у Н сфарміравана паўстанцкая арг-цыя на чале з У *Борзабагатым* У 1887 засн с-г ашчаднае т-ва, у 1888 — банк, у 1895 — друкарня У 1890-я г дзейнічаў марксісцкі гурток І *Трусевіча*, з 1899 — сіяніцкі гурток У 1897 — 7887 ж, з іх роднай моваи лічылі беларускую 1676, рускую 319, «маларускую» 16, яурэйскую 4992, польскую 401, татарскую 475, нямецкую 5 жыхароў, паводле веравызнання было праваслаўных і аднавернікаў 1573, каталікаў 790 іудзеяў 5015, магаметан 494, пратэстантаў 14, былі 723 жылыя дамы, гар вучылішча з аддзяленнем для дзяўчынак, яўр прыватнае вучылішча, сабор, царква, касцел, сінагога, мячэць, паштовая станцыя, 86 крам у гандлевых радах і 62 асобныя крамы, цагельні, ганчарні, мылаварні, 2 ганчарна-кафляныя з-ды, 1 кірмаш на год, 8 гасцініц, 6 заезных дамоў, 20 корчмаў і піцейных дамоў, 417 рамеснікаў У 1905 з'явіліся першыя вулічная газавыя ліхтары У 1910 у Н 8414 ж, 76 мураваных і 1074 драўляныя будынкі У 1914 — 6 навуч устаноў У 1-ю сусв вайну Н з 22 9 1915 да канца 1918 акупіраваны герм войскамі, тут размяшчаўся штаб іх 10-й арміі, былі пабудаваны электрастанцыя, праведзена тэлефанізацыя, пракладзена вузкакалейная чыгунка, выдавалася «Nowogrodoker Kriegszeitung» («Навагрудская ваенная газета») 27 12 1918 у Н увайшоў 152-гі стралк полк Чырв Арміі У лют 1919 адбыуся 1-ы пав з езд Саветаў З 18 4 1919 да 19 7 1920 і з 1 10 1920 акупіраваны польскім войскам З 1921 у складзе Польскай Рэспублікі, цэнтр ваяводства і павета, 6376 ж, 699 будынкаў, у 1931 — 9567 ж, 1055 жылых будынкаў, 2 касцелы, 2 царквы, 3 сінагогі, мячэць, польская гімназія і *Навагрудская беларуская гімназія*, 2 бальніцы, 4 кірмашы на год, 7 гасцініц, 2 друкарні У 1920—30-я г выходзіла больш за 10 найменняў перыяд выданняў, у кастр 1922 пачала выдавацца першая ў Н бел газ «Наша Бацькаўшчына» У 1924—31 на Малым замку насыпаны курган у гонар А *Міцкевіча*, 11 9 1938 адкрыты яго

дом-музей. З 1939 Н. у БССР, з 15.1.1940 цэнтр *Навагрудскага раёна* Баранавіцкай вобл. У Вял. Айч. вайну ў выніку акружэння сав. войск у *Навагрудскім «катле»* акупіраваны ням.-фашыстамі, якія загубілі ў Н. і раёне 4506 чал., у т. л. 28 тыс. чал. у створаным тут лагеры смерці, разбурылі каля 60% жыллёвага фонду. 8.7.1944 вызвалены войскамі 2-га Бел. фронту ў ходзе *Беластоцкай аперацыі 1944*. З 8.1.1954 у Гродзенскай вобл., з 7.3.1963 — горад абласнога падпарадкавання. Паводле Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 478 ад 22.8.1997 Н. і Навагрудскі р-н аб'яднаны ў адну адм.-тэр. адзінку. У 1997 у Н. 11 дзярж. прадпрыемстваў (з-ды газавай апаратуры, абястлушчанага малака, народнінасушыльны, масла-камбінат, ф-кі швейная, валюшна-лямцавая і інш.), 5 буд. арг-цый, аўтобусны і грузавы аўтапаркі, 3 прадпрыемствы камунальнай гаспадаркі, 26 недзярж. прадпрыемстваў; 7 агульнаадук. школ, 2 школы-інтэрнаты, 2 спартшколы, муз. школа, гандлёва-экан. каледж, с.-г. тэхнікум, СПТВ 139, Дом культуры, *Навагрудскі гісторыка-краязнаўчы музей*, *Міцкевіча Адама дом-музей*, 4 б-кі, гар. парк культуры і адпачынку, бальніца, 4 паліклінікі, 2 кінатэатры. Брацкая магіла чырвонаармейцаў 1939, брацкія могілкі ахвяр фашызму, могілкі сав. воінаў і партызан, помнікі Я. Коласу, У. Леніну, А. Міцкевічу, Невядомаму салдату, землякам, якія загінулі ў Афганістане, памятныя знакі каля гары Міндоўга і на Замкавай гары з выявай гар. герба 1595. Курган Бессмяротнасці ў гонар А. Міцкевіча. Помнікі архітэктуры: *Навагрудскі замак*, Барысаглебская царква (16 ст.), Міхайлаўскі касцёл *Навагрудскага кляштара дамініканцаў*, Мікалаеўская царква (б. касцёл *Навагрудскага кляштара францысканцаў*), Фарны касцёл (1712—23), гандлёвыя рады (1812), жылыя дамы 19 — пач. 20 ст. Помнік садова-паркавага мастацтва — парк 1930. Выдаецца газ. «Новае жыццё».

*Літ.*: Живописная Россия. 2 изд. Мн., 1994; Гуревич Ф. Д. Древний Новогрудок: Посад — окольный город. Л., 1981; Королев Н. Д. Новогрудок: Ист.-экон. очерк. Мн., 1988; Ермаловіч М. І. Старажытная Беларусь: Полацкі і новагародскі перыяды. Мн., 1990; Гайба М. П. Навагрудак: Гіст. нарыс. Навагрудак, 1992; Ягоў ... Навагрудак: Гады і падзеі. Навагрудак, 1995; Памяць: Гіст.-дак. хроніка Навагрудскага р-на. Мн., 1996.

*Мікалай Гайба.*

План **Навагрудка** 1850 (?)

**Навагрудак.** Забудова плошчы Леніна

**Навагрудак.** Фрагмент гарадской забудовы

(каля 80%) працягвалі вучобу ў *Віленскай беларускай гімназіі*, частка — у мясц польскай гімназіі імя А Міцкевіча Сярод вучняў Н б і вучоныя Л Барысаглебскі, Ь *Кіт*, паліт дзеяч Я Сажыч, педагог Б Сладкоўскі і інш
*Аляксей Анішчык*

**НАВАГРУ́ДСКАЯ ГІМНА́ЗІЯ** Засн ў 1858 на базе 5-класнага дваранскага павятовага вучылішча, адкрытага ў 1834 Утрымлівалася за кошт даходаў з маенткаў, што належалі ліквідаваным каталіцкім кляштарам, часткова — за кошт дзярж казны За вучобу гімназісты плацілі 10 руб Ад платы вызваляліся дзеці беднай шляхты пры наяўнасці адпаведнай даведкі (у 1860 іх было 15 чал ) У 1860 на базе Навагрудскага аднакласнага вучылішча створаны падрыхтоўчы клас гімназіі Пры гімназіі працавалі мінералагічны і фіз кабінеты, б-ка (2,5 тыс тамоў) У 1860 было 276 навучэнцаў, у 1861 — 322 Першы дырэктар — Чарніцкі, з 1859 — М А *Дзмітрыеў*, чл Рус геагр т-ва, даследчык гісторыі Навагрудка, этнограф, фалькларыст і педагог Куратарам быў кн К Радзівіл Дзейнасць гімназіі ў асноўным была накіравана на фарміраванне ў вучняў рус дзярж светапогляду Закрыта пасля паўстання 1863—64 Аднавіла работу ў 1866 У 1868 зноў закрыта, на яе базе створана 4-класная павятовая школа

*Літ* Зеленский И Материалы для географии и статистики Минская губерния Ч 2 СПб , 1864, Труды Минского губернского статистического комитета Мн , 1870
*Мікалай Гайба*

**НАВАГРУ́ДСКАЯ ДАМІНІКА́НСКАЯ ШКО́ЛА**, павятовая сярэдняя школа пры *Навагрудскім кляштары дамініканцаў* у 1794—1834 Мела 6 класаў, працавала 6—7 выкладчыкаў (прафесараў) на чале з прэфектам Мела 2 ступені Ніжнюю ступень утваралі 2 першыя класы, у якіх вывучалі польскую і лацінскую мовы, арыфметыку і геаграфію У наступных чатырох класах выкладаліся гісторыя, фізіка, матэматыка, л-ра, права, этыка, франц , ням і рус мовы У кожным класе з найб здольных вучняў выбіралі т зв аўдытараў, якія дапамагалі выкладчыкам у навучанні і падтрымцы дысцыпліны Штоквартальна праводзіліся экзамены Большасць вучняў жыла ў кляштарнай бурсе (інтэрнаце) Выпускнікі школы мелі права паступаць у *Віленскі універсітэт* У 1807—15 у Н д ш вучыліся А *Міцкевіч* і Я *Чачот* Закрыта пасля пажару 1831 У 1834 на яе базе створана пяцікласная павятовая школа з рус мовай выкладання

*Літ* Świrko St Z Mickiewiczem pod rękę, czyli Życie i twórczość Jana Czeczota Warszawa, 1989 S 18—22
*Мікалай Гайба*

**НАВАГРУ́ДСКАЯ ПРАВАСЛА́ЎНАЯ ЕПА́РХІЯ**, царкоўна-адм адзінка Бел правасл царквы (экзархата) У 1316—1596 Навагрудак з'яўляўся цэнтрам Літоўска-Навагрудскай мітраполіі (гл ў арт *Кіеўская мітраполія*) У 1942—44 епархія існавала ў складзе *Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы* У лют 1992 адноўлена, ахоплівае Навагрудскі, Астравецкі, Ашмянскі, Дзятлаўскі, Іўеўскі, Карэліцкі, Лідскі, Слонімскі, Смаргонскі р-ны Гродзенскай вобл На тэр епархіі ў в *Жыровічы* дзейнічае *Мінская духоўная семінарыя* Тытул кіруючага архірэя Н п е — епіскап Навагрудскі і Лідскі, яго рэзідэнцыя знаходзіцца ў *Жыровіцкім Свята-Успенскім мужчынскім манастыры* З 1992 епархіяй кіравалі епіскапы Канстанцін (А А Гаранаў, 1992—96), Гурый (М П Апалька, з 1996)

Да арт **Навагрудская беларуская гімназія.** Выпуск 1929/30 навучальнага года

**НАВАГРУ́ДСКІ БАРЫСАГЛЕ́БСКІ МАНАСТЫ́Р**, уніяцкі мужчынскі манастыр у Навагрудку ў 17—19 ст Засн ў 1-й чвэрці 17 ст пры мітрапаліцкім Барысаглебскім саборы протаархімандрытам ордэна *базыльян*, пазней мітрапалітам І В *Руцкім* які на ўтрыманне манахаў прызначыў частку прыбыткаў *Лаўрышаўскага манастыра* (Паводле меркавання некат гісторыкаў, манастыр пры Барысаглебскім саборы існаваў з 14 ст як праваслаўны ) На 1-й і 2-й кангрэгацыях базыльян (1617, 1623) Навагрудскі манастыр названы другім пасля Віленскага У сярэдзіне 17 ст манастыр ахвяраваў на ўтрыманне рымскай рэзідэнцыі базыльян 24 залатыя фларыны Пэўны час пры манастыры дзейнічала школа для свецкіх асоб, у 1666 манахі пратэставалі супраць канкурэнцыі езуітаў у галіне адукацыі Пасля вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 манастыр збяднеў і заняпаў, у 1671 былі толькі 2 манахі Скасаваны разам з Лаўрышаўскім манастыром пры ліквідацыі уніі ў 1839 Барысаглебская царква 1517—19 захавалася, помнік архітэктуры рэсп значэння
*Аляксандр Ярашэвіч*

**НАВАГРУ́ДСКІ ГІСТО́РЫКА-КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й** Засн 29 7 1987 у г Навагрудак, адкрыты 11 9 1992 Пл эк

Царква **Навагрудскага Барысаглебскага манастыра** Малюнак 19 ст

Навагрудскі замак. Рэканструкцыя В.Сташчанюка. 1991

спазіцыі 263 м$^2$, больш за 7,6 тыс. экспанатаў асн. фонду (1998). У 9 залах паказаны гіст. шлях Навагрудка ад стараж. часоў да вызвалення ад ням.-фаш. захопнікаў у 1944. Сярод экспанатаў прылады працы з крэменю, бронзы, жалеза, керамічны посуд, кафля, упрыгожанні са шкла, бронзы 10—13 ст., прадметы імпарту з Кіеўскай зямлі, Візантыі, Скандынавіі, краін Зах. Еўропы і Блізкага Усходу. Экспазіцыя расказвае пра ўтварэнне ВКЛ, вял. князёў Міндоўга, Войшалка, Вітаўта. Дыярамы, малюнкі, фотакопіі і інш. матэрыялы адлюстроўваюць жыццё горада ва ўмовах магдэбургскага права, войнаў 17—18 ст. Асобныя экспазіцыі прысвечаны дзеячам навукі і культуры *Я. Булгаку*, Я.Н. *Драздовічу*, *Ф. Еўлашоўскаму*, *А. Міцкевічу, Я. Чачоту* і інш., вучонаму-астранаўту Б.У. *Кіту*, дзейнасці *Навагрудскай беларускай гімназіі*, *Навагрудскай польскай гімназіі* імя А. Міцкевіча, т-ва бел. школы. Экспазіцыя, прысвечаная Вял. Айч. вайне, расказвае пра дзейнасць сав. падполля і партыз. атрадаў, фарміраванняў Арміі Краёвай, яўр. партыз. атрада Бельскага і інш. На базе музея ў 1991—96 праведзены навук. канферэнцыі «Наваградскія чытанні», па матэрыялах якіх выдадзены 4 зборнікі (1993, 1996). *Тамара Вяршыцкая*

**НАВАГРУ́ДСКІ ЕЗУІ́ЦКІ КАЛЕ́ГІУМ**, установа ордэна *езуітаў* у г. Навагрудак. У 1626—31 місія, 1631—1714 рэзідэнцыя, у 1714—73 калегіум. Сродкі на стварэнне місіі ахвяравалі Е. Галаўня і Я Машынскі, першы кіраўнік місіі Я. Разнавольскі. У 17 — 1-й пал. 18 ст. драўляныя збудаванні калегіума шмат разоў знішчаліся пажарамі. Каля 1754 пабудаваны мураваны 3-нефавы касцёл, у 1752 — навуч. корпус. Калегіуму падпарадкоўваліся місіі ў Бурдыкаве, Варончы, Востраве, Гарадзішчы, Любчы, Мажэйках, Моладаве, Пачапаве, Слоніме, Шчорсах. У 1649 у рэзідэнцыі адкрыты класы граматыкі, у 1653 — паэтыкі і рыторыкі. Пасля ператварэння рэзідэнцыі ў калегіум навуч. праграма адпавядала гэтаму тыпу навуч. устаноў, выкладаліся таксама матэматыка, геаграфія, гісторыя, франц. мова. Каля 1680 адкрыта муз. бурса, у 1705 — канвікт (пансіен), у 1721 — аптэка. Была б-ка. У 18 ст. колькасць навучэнцаў складала ад 13 да 51 чал. У розны час рэзідэнцыі і калегіуму належала некалькі навакольных маёнткаў. У 1773 калегіум закрыты, у 1815 касцел перааб сталяваны пад ратушу.

**НАВАГРУ́ДСКІ ЗА́МАК**. Існаваў у 10 — пач. 18 ст. З'яўляўся стараж. цэнтрам г. *Навагрудак* і рэзідэнцыяй зах.-рус. і літ. князёў. Размяшчаўся на ўзгорку (часткова насыпным) выш. 20 м, т. зв. Замкавай гары (дзядзінцы). З Пн і ПнУ Замкавая гара была ўмацавана ровам глыб. 10 м і шыр. 10—12 м, а таксама земляным валам выш. каля 6 м і шыр. у аснове 27 м У 2-й пал 13 ст пабудавана чатырохвугольная ў плане (12 × 12 м) абарончая вежа з вял. камянёў на вапне. У 1394 у час апошняга нападу крыжакоў яна, відаць, была моцна пашкоджана. У канцы 14 ст. аднаўлена. Вежа ўвайшла ў гісторыю замка пад назвай Шчытоўка, Шчытавая, Цэнтральная Пяціпавярховая вежа мела меншыя памеры (11,4 × 11,4 м), формай нагадвала прызму. Вышыня сцен каля 25 м, таўшчыня на ўзроўні 1-га паверха да 2,75 м, 2-га — 2,6 м. Вежа была накрыта чатырохсхільным дахам Сцены прарэзаны спічастымі байніцамі,

Руіны **Навагрудскага замка.** Фота пач 1990-х г.

на ніжнім паверсе — брамнымі праёмамі. У канцы 14 ст. з ПнУ і У пабудаваны яшчэ 3 мураваныя вежы. Справа на У ад Шчытоўкі пастаўлена трохпавярховая Касцельная вежа (9 × 9 м у аснове). Ад яе па ўсх. строме гары выкладзена мураваная сцяна даўж. 80 м, якая вяла да 2-й уваходнай вежы — Малой брамы (8 × 8 м у аснове). Ад брамы на З было прасла сцяны даўж. 70 м і таўшч. 2,6 м. Сцяна звязвала Малую браму з Пасадскай вежай (7,7 × 7,7 м у аснове, таўшч сцен 2,6 м). У вежы быў праход шыр 1,5 м. Вежы былі трохпавярховыя, мелі па 4 байніцы на кожным паверсе. У Малой браме быў дзвярны праём выш. 3 м і шыр. 1,6 м. Для надзейнага забеспячэння Н. з. вадой на ўсх. схіле над крыніцай была пастаўлена Калодзежная вежа (8 × 8 м), якая звязвалася праслам сцяны з верхнімі сценамі замка. Унутры вежы быў спец. праход да вады. Будаўніцтва вежаў закончылася да 1410. Далейшае ўмацаванне Н. з. адбывалася ў канцы 15 — пач. 16 ст. ў сувязі з нападамі крымскіх татар. У паўн.-зах. частцы замка была пабудавана мураваная вежа Дазорца (14 × 14 м). Паміж вежамі Дазорца і Шчытоўка пабудавана мураванае прасла сцяны, што замкнула кальцо замкавых збудаванняў. У пач. 16 ст. каля паўд.-ўсх. схілу Замкавай гары ўзведзена яшчэ адна — Меская вежа-брама, якая звязвалася праслами сцен з Калодзежнай вежай і Малой брамай. Утварыўся дадатковы своеасаблівы мураваны пояс абароны перад уваходам у замак з боку горада. У 14—19 ст. на тэрыторыі Н.з. была царква, у якой да 1775 адбываліся сесіі Трыбунала — вышэйшага апеляцыйнага суда ВКЛ. У канцы 16 — пач. 17 ст. на замкавым дзядзінцы пабудаваны палац, да якога прылягала капэла (канец 17 ст.). У 1505 і 1506 татары двойчы асаджалі замак, але ўзяць яго не змаглі. Неаднаразовыя разбурэнні зведаў Н.з. у сярэдзіне 17 — пач. 18 ст. У 1706 замак узарваны шве-дамі.

*Літ.*: Ткачоў М.А. Замкі Беларус (XIII—XVII ст). Мн, 1977, Гурев Ф.Д. Древний Новогрудок: Посад — окол ный город. Л, 1981. *Міхась Тка*

**НАВА́ГРУДСКІ «КАЦЁЛ»**, акружэн 3-й, 10-й і часткі 13-й армій Зах фрон ту у раене Навагрудка і Налібоцкай пу-шчы 28.6—4.7.1941 у Вял. Айч. вайн Утварыўся ў выніку злучэння пад Мін-скам ням. 3-й (наступала з Вільнюса праз Маладзечна; ген.-палк. Гот) і 2-й (прарвалася ад Брэста і Баранавіч, ген.-палк. Гудэрыян) танк. груп у час *Мінска абароны 1941.* У акружэнне трапіла каля 11 дывізій, якія мелі значныя страты ў баях пад Гроднам, Ваўкавыскам і Лідай прарваліся каля Зэльвы, Дзярэчына Слоніма з беластоцкага «катла» (ахапі раён на У ад Беластока да мяст. Крын кі, дзе злучыліся ням. армейскія кар пусы вакол 8—9 сав. дывізій). Упартае супраціўленне сав. войск у гэтых «ка

іах» (на думку некат. даследчыкаў, у вялізным «катле» Беласток—Мінск) скавала палову (25 дывізій) ням. групы армій «Цэнтр», у т. л. элітныя танк. дывізіі. Палова з 24 разгромленых у пач. вайны дывізій Зах. фронту прыпадае на Н «к» Сярод многіх дзесяткаў тысяч загінуўшых у баях камандзіры буйных злучэнняў генералы У.Б. Барысаў (21-ы стралк. корпус), Дз.П. Сафонаў (143-я стралк. дывізія), М.Г. Хацкілевіч (6-ы механіз. корпус), палкоўнікі Дз.І. Іванюк (155-я стралк. дывізія), Н.П. Студнеў (29-я стралк. дывізія); прапалі без вестак ген. Ц.К. Бацанаў (17-я стралк. дывізія), палк. М.В. Фамін (8-я стралк. дывізія). З цяжкімі баямі з акружэння прарваліся 24-я стралк. дывізія (ген.-м. К.Н. Галіцкі), зводныя атрады 11-га (ген. м. Д.К. Маставенка) і 13-га (ген.-м. П.А. Ахлюсцін) механіз. карпусоў, рэшткі 17, 55, 64, 108, 155, 204-й матарызаванай і інш. дывізій і кав. палкоў. Частка акружэнцаў рассеялася па лясных весках, перайшла да партыз. форм барацьбы. Многія камандзіры сфарміравалі і ўзначалілі партыз. атрады, сярод іх палк. У.І. Нічыпаровіч і Бесіяраў, лейт М.С. Заруднеў, Д.А. Дзенісенка. «Лясная дывізія» на чале з ген.-лейт. І.В. Болдзіным і палк. І.С. Стральбіцкім (8-я артыл. процітанк. брыгада) з баямі выйшла праз варожыя тылы да Смаленска Толькі 4—5 ліп. 52 тыс. чырвонаармейцаў (паводле сведчання Ф. Гальдэра) вымушаны былі здацца ў палон. У лагерах Дразды пад Мінскам ням. ўлады трымалі каля 100 тыс., у Баранавічах (чыг ст Лясная) — 88 тыс., у Слоніме — 20 тыс. акружэнцаў. Каля 15 ням. дывізій, спрабуючы знішчыць акружэнцаў, панеслі адчувальныя страты, запаволіўся рух ням. злучэнняў да Смаленска і Масквы, што дазволіла камандаванню аднавіць у ліп. 1941 Зах. фронт па Дняпры і Зах. Дзвіне, утрымліваць Магілёў (гл. *Магілёва абарона 1941*) і Оршу, правесці *Рагачоўска-Жлобінскую аперацыю 1941*, *Лепельскі контрудар 1941*, рэйд па тылах 2-й ням. арміі трох кав. дывізій у складзе зводнай кав. групы (палк. А.І.Гарадавікоў), падцягнуць рэзервовыя арміі да Смаленска і Бранска

Літ Е р е м е н к о А.И В начале войны 1964, Память: Гіст.-дак хроніка Навагрудскага р-на. Мн , 1996, Б а с ю к І А Навагрудскі «кацёл» Гродна, 1998

*Уладзімір Ісаенка.*

**НАВАГРУ́ДСКІ КЛЯ́ШТАР ДАМІНІКА́НАК**, адзіны жаночы кляштар ордэна *дамініканцаў* на Беларусі. Існаваў у 17—19 ст. у Навагрудку. Засн. ў 1654 М Дамброўскім (паводле інш. звестак — у 1678 А. Пратасевічавай, жонкай навагрудскага земскага натарыуса). У 1690 пабудаваны мураваны касцёл Дзевы Марыі. У канцы 18 — пач. 19 ст. кляштару належала частка в. Каменка ў Навагрудскім пав. У 1864 скасаваны, 20 яго манашак накіраваны ў *Гродзенскі кляштар брыгітак* і *Мінскі кляштар бенедыкцінак.* Каля 1900 касцёл разабраны на цэглу. У жылым будынку кляштара ў 1920-я г. размяшчалася ваяводская ўправа, у час Вял. Айч. вайны разбураны.

*Мікалай Гайба.*

**НАВАГРУ́ДСКІ КЛЯ́ШТАР ДАМІНІКА́НЦАЎ**. Існаваў у Навагрудку ў 17—19 ст. Засн. літ. канюшым, пазней віленскім ваяводам К. Хадкевічам, які ў 1624 даў дамініканцам дом, пляц, пабудаваў драўляны касцёл св. Яцака. У канцы 17 ст. Бральніцкія і Астроўскія далі кляштару фальваркі Корыца і Перакопы (105 валок зямлі і шмат прыгонных). Драўляны касцёл згарэў у 2-й пал. 17 ст. Мураваны касцёл 1724 зведаў 2 пажары: 1751 (пасля рамонту асвячоны ў гонар Міхаіла Архангела) і 1831 (пасля адбудовы набыў сучасны класіцыстычны выгляд). Надмагільныя пліты-эпітафіі 18 ст. са сцен пакладзены ў падлогу. У 1794—1834 пры кляштары дзейнічала *Навагрудская дамініканская школа.* У 1853 кляштар скасаваны, з 1858 Міхайлаўскі касцёл стаў фарным (прыходскім), у 1898 у ім нелегальна ўстаноўлена мемарыяльная дошка ў гонар А. Міцкевіча. Касцел — помнік архітэктуры, у ім зберагаецца фундатарскі партрэт К. Хадкевіча і алтарны абраз Міхаіла Архангела. Будынкі кляштара і школы не захаваліся.

*Аляксандр Ярашэвіч*

Міхайлаўскі касцёл **Навагрудскага кляштара дамініканцаў.**

Касцёл **Навагрудскага кляштара францысканцаў.**

**НАВАГРУ́ДСКІ КЛЯ́ШТАР ФРАНЦЫСКА́НЦАЎ**. Існаваў у 18—19 ст. у Навагрудку (паводле некат. звестак францысканцы былі запрошаны ў Навагрудак вял. кн. ВКЛ Гедзімінам у 1323). Засн. навагрудскім падстолім Т. Вайніловічам у 1714 (паводле некат. звестак — у 1780). У 1831 кляштар скасаваны. Барочны касцёл св. Антонія ў 1846 перабудаваны ў візантыйскім стылі ў правасл. сабор св. Мікалая (дзейнічае). Г-падобны ў плане будынак кляштара цяпер прыстасаваны пад жыллё.

*Міхаіл Дабрынін*

**НАВАГРУ́ДСКІ КУРГА́ННЫ МО́ГІЛЬНІК**, некропаль стараж. Навагрудка 10—11 ст. Складаецца з 2 груп, 52 насыпы вышыней да 1,5 м, дыяметрам 5—10 м, шмат якія разараны. Даследавана 30 курганоў. Пахавальны абрад трупаспаленне на месцы пахавання (6), трупаспаленне па-за межамі могільніка (2), трупапалажэнне на гарызонце (22). Праслойкі попелу маюцца пад пахаваннямі і над імі. У насыпах з трупаспаленнем выяўлены фрагменты жал. і бронзавых вырабаў, абломкі ганчарных пасудзін; у насыпах з трупапалажэннем — жал. нажы, крэсівы, сякера, спражка, пярсцёнкі, скроневыя кольцы трохпацеркавыя і са спіралепадобным завіткам, шкляныя і сердалікавыя пацеркі, цэлыя і фрагментаваныя ганчарныя гаршкі. Належаў *дрыгавічам.*

*Праслаў Звяруга*

**НАВАГРУ́ДСКІ ПАВЕ́Т**, адм.-тэр. адзінка 15—20 ст. у ВКЛ, Рас. імперыі, Польскай Рэспубліцы. Цэнтр — г. *Навагрудак.* У 1-й пал. 16 ст. тэр. павета фактычна супадала з тэр. *Навагрудскага ваяводства*, у складзе якога павет знаходзіўся з 1507 Паводле прывілея вял кн. ВКЛ Жыгімонта ІІ Аўгуста ад 30.4.1565 упершыню вызначаны межы Н. п., які стаў адным з трох паветаў ваяводства. У выніку 2-га і 3-га падзелаў Рэчы Паспалітай (1793, 1795) тэр Н. п. ўвайшла ў склад Рас. імперыі. Уваходзіла ў Слонімскую, з 1797 у Літоўскую, з 1801 у Гродзенскую, з 1842 у

Мінскай губ У сярэдзіне 19 ст плошча павета 976 кв міляў, або 457,7 тыс дзесяцін, з іх 276 тыс дзесяцін займалі палі У 1861 складаўся з 24 валасцей, 111 сельскіх грамад, нас 135 435 чал (самы густанаселены павет Мінскай губ ) Паводле веравызнання праваслаўных 71%, католікаў 23,58, іудзеяў 4,98, магаметан 0,43% Паводле сац складу сельскіх саслоўяў 83,7%, гараджан 7,3, ваенных 4,3, дваран 4,4, духоўных асоб 0,4% У 1866 у Н п працавала 57 прамысл прадпрыемстваў 34 вінакурныя, 15 цагельных, 5 шкіпінарных, 3 піваварныя У 1900 у павеце 19 ф-к і з-даў з агульнай колькасцю 276 рабочых Асн гандлевыя шляхі — р Неман (8 прыстанеи) і чыгунка (з канца 19 ст ) С і прадукты і свойская жывела адпраўляліся ў Варшаву, Вільню, Рыгу, Усх Прусію і інш У 1891 — 29 царк -прыходскіх, 33 нар вучылішчы 3 лют 1919 Н п у складзе Савецкаи Сацыялістычнай Рэспублікі Літвы і Беларусі (Літ-Бел) 3 крас 1919 акупіраваны польскім войскам Паводле *Рыжскага мірнага дагавора 1921* у Польшчы, у Навагрудскім ваяв У 1921 — 2930,2 км$^2$, 12 гмін, на сельніцтва 109 820 чал , з іх беларусаў 58,8%, палякаў 35,4, яўрэяў 5,5% 91,3% насельніцтва жыло ў весцы Налічвалася 846 гаспадарак *асаднікаў* (1933) Дзейнічалі прадпрыемствы па перапрацоўцы мясц сыравіны і прадуктаў сельскай гаспадаркі, буйнейшае — шклозавод «Неман» У чэрв 1938 распараджэннем міністра ўнутр спраў Карэліцкая, Любчанская, Пачапаўская, Райцаўская, Цырынская, Шчорсаўская гміны ўключаны ў пагранічную зону З 1939 павет у БССР, 2 12 1939 уключаны ў Баранавіцкую вобл 15 1 1940 скасаваны, тэрыторыя падзелена на раены

*Мікалай Гайба*

**НАВАГРУ́ДСКІ РАЁН** Размешчаны н У Гродзенскай вобл Пл 1,6 тыс км нас 27,3 тыс чал (1998) Цэнтр — *Навагрудак* Амаль усю тэр раена зай мае Навагрудскае ўзвышша, уздоўж Не мана — частка Нёманскай нізіны Найб рака Неман з прытокамі Валоўка Пліса, Крамушэўка, Ізва, на Пд р Не да (прыток Сэрвачы) Найб возера Св цязь Пад лесам 35% тэр раена Нава грудак — вузел аўтадарог на Баранаві чы, Наваельню, Бярозаўку, Іўе, Любч Карэлічы

Утвораны 15 1 1940 у складзе Барана віцкай вобл 12 10 1940 падзелены на 1 сельсаветаў Бярозаўскі, Ваўкавіцкі Га радзечанскі, Драчылаўскі, Ждановіцкі Корастаўскі, Кашалеўскі, Курэвіцкі Мітрапольскі, Налібоцкі, Пятрэвіцк Суляціцкі, Уселюбскі У Вял Айч вай ну з ліп 1941 акупіраваны ням фашы тамі, якія знішчылі ў раене каля тыс грамадзян На тэр раена дзейні лі падп райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ

мжрайком ЛКСМБ, партыз брыгады імя Кірава, 1-я Баранавіцкая, імя Чапаза Першамайская, асобныя партыз трады 106-ы, «Громава», імя Калініна, артыз спецгрупа «Знішчальнік» Выдавалася падп газета «Звезда» Раен вызвалены ў пач ліп 1944 воінамі 3-й і ) и армій 2-га Бел фронту ў ходзе *Беластоцкай аперацыі 1944* З 8 1 1954 раен у складзе Гродзенскай вобл 7 12 1956 да Н р далучаны г п Любча, Асташынскі, Ацмінаўскі, Вераскаўскі, Галынскі, Зенявіцкі, Купіскі, Лаўрышаўскі, Нягневіцкі, Шчорсаўскі сельсаветы скасаванага Любчанскага р-на, 25 12 1962 — Валеўскі, Машэвіцкі, Ягораўскі с/с Карэліцкага р-на На 1 1 1998 ў раене 215 населеных пунктаў, г п *Любча*, 14 сельсаветаў Асташынскі, Ацмінаўскі, Бенінскі, Валеўскі, Ваўкавіцкі Вераскаўскі, Гарадзечанскі, Кашалеўскі, Ладэніцкі, Нягневіцкі, Пятрэвіцкі, Уселюбскі, Шчорсаўскі, Ятраўскі Працуе прадпрыемства «Валарэкс» (в Нягневічы) На 1 1 1998 у раене 18 калгасаў, 1 саўгас На тэр раена 4 пачатковыя, 13 базавых, 16 сярэдніх школ, школа-сад, 17 дашкольных устаноў, 21 дом культуры, 24 клубныя ўстановы, 47 б-к, 6 бальніц, 31 фельчарска-акушэрскі пункт Выдаецца раенная газ «Новае жыцце» Найб значныя археал помнікі стаянкі каля в Валеўка, Васілевічы, Панямонь, Чарэшля, курган каля в Мольнічы, курганныя могільнікі каля в Брацянка, Ладзенікі, Суляцічы, Сялец, селішча ў в Чарэшля, гарадзішча каля в Радагошча Брацкія магілы салдат рус арміі часоў 1-й сусв вайны (в Нягневічы), сав воінаў і партызан, якія загінулі ў Вял Айч вайну, у в Валеўка, Кудавічы, Нягневічы; брацкія могілкі сав актывістаў у в Шчорсы, магілы ахвяр фашызму ў в Ацмінава, Малыя Вераб'евічы, Неўда, Нягневічы, Скрыдлева, Шчорсы У раене помнікі прападобнаму Елісею Лаўрышаўскаму ў в Лаўрышава, партызанам і падпольшчыкам у в Ляхавічы, Чарэшля, землякам, якія загінулі ў Вял Айч вайну, у в Асташына, Ацмінава, Валеўка, Ваўкавічы, Вераскава, Вял Вераб евічы, Галынь, Гарадзечна, Дзяляцічы, Зенявічы, Каменка, Кашалева, Купіск, Лаўрышава, Масцішча, Налібакі, Несутычы, Нягневічы, Пятрэвічы, Сянежыцы, Тулічава, Уселюб, Харосца, Ятра Помнікі архітэктуры палацава-паркавы комплекс у в Шчорсы, (2-я пал 18 ст ), цэрквы — Успенская (1768) у в Лаўрышава, Дзмітрыеўская (1776) у в Шчорсы, Петрапаўлаўская (18 ст ) у в Валеўка, Мікалаеўская (1861) у в Нягневічы, цэрквы ў в Загор'е Сенненскае (1877), у в Поўбераг (1895), у в Дзяляцічы (19 ст ) Помнік садова-паркавага мастацтва — парк (2-я пал 18 ст ) у в Уселюб

*Літ* Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі Гродзенская вобл Мн , 1986, Памяць Гіст -дак хроніка Навагрудскага р-на Мн , 1996

**НАВАГРУ́ДСКІЯ ВЫСТУПЛЕ́ННІ СЯЛЯ́Н 1905 і 1906**, масавыя выступленні сялян і парабкаў Навагрудскага пав супраць памешчыкаў Пачаліся вясною 1905 у маентку Шчорсы на чале з мясц настаўнікамі У пач чэрв 1905 забастоўка ахапіла ўвесь павет Бастуючыя патрабавалі павысіць заработную плату парабкам і падзенным рабочым, устанавіць 9-гадзінны рабочы дзень, забараніць продаж сервітутных зямель, знізіць арэндныя цэны На час забастоўкі было вырашана выдаваць беднякам і батракам збожжа з запасных магазінаў У ліп 1905 забастоўка падаўлена карнай экспедыцыяй з роты салдат, 2 эскадронаў драгун і больш як 50 казакоў У выніку сял выступленняў плата парабкам і падзеншчыкам павялічана ў 2 разы У пач чэрв 1906 у весках Нягневіцкай, Любчанскай, Гарадзечанскай валасцей сяляне спынілі падзеншчыну і працу на лугах памешчыкаў Да сярэдзіны ліп 1906 забастовачны рух ахапіў увесь павет Бастуючыя патрабавалі павысіць заработную плату і знізіць арэндныя цэны на зямлю *Мінская акруговая сялянская арганізацыя пры РСДРП* накіравала ў павет сваіх агітатараў Выступленні працягваліся ўсе лета Ліквідавана ўзбр сілай За ўдзел у аграрным руху 1906 арыштавана 137 чал

*Літ* Революционное движение в Белоруссии 1905—1907 гг Док и материалы Мн , 1955, Шабуня К И Аграрный вопрос и крестьянское движение в Белоруссии в революции 1905—1907 гг Мн 1962

*Мікалаи Гайба*

**НАВАДВО́РСКІ** Вітольд Уладзіслававіч [2(14) 6 1861, маентак Лемна Ігуменскага пав (цяпер Чэрвенскі р-н) — 25 11 1923], гісторык. Скончыў ваенную гімназію ў Полацку (1878), Пецярбургскі ун-т (1885) Выкладаў гісторыю ў сярэдніх навуч установах, з 1900 прыват-дацэнт Пецярбургскага ун-та З

1906 экстраардынарны праф усеаг гісторыі гіст -філал ін-та ў Нежыне, з 1908 дацэнт Кіеўскага ун-та, з 1921 праф усеаг гісторыі Віленскага ун-та У магістарскай дысертацыі «Барацьба за Лівонію паміж Масквой і Рэччу Паспалітай (1570—1582)» (1904) прасачыў ход ваен падзей на заключным этапе Лівонскай вайны 1558—83, заняцце Полацка войскамі Стафана Баторыя, аблогу Вялікіх Лук і Пскова

*Тв* Исторический материализм Доктрина Маркса и Энгельса Опыт ист исслед Нежин, 1914, История Западной Европы в начале нового времени Киев 1914 Wilno na tle dziejow Litwy (Rys historyczny) // Ziemia 1922 № 5, Istota i zadanie dziejow powszechnych Wilno, 1924

**НАВАДВО́РСКІ МАНЕ́ТНЫ СКАРБ**, знойдзены ў в Новы Двор Мінскага р-на ў 1871 Ухаваны каля 1000 Вядома 366 манет 92 куфіцкія *дырхемы* і іх манетныя перайманні, 273 зах -еўрап *дэнарыі* (Германія, Францыя, Данія, Чэхія) і іх перайманні, 1 візантыйскі міліярысій У Эрмітажы (Расія) зберагаюцца 34 дырхемы Арабскага Халіфата

*Літ* Марков А Топография кладов восточных монет (сасанидских и куфических) СПб 1910, Потин В М Топография находок западноевропейских монет X—XIII вв на территории Древней Руси // Тр Гос Эрмитажа Л 1967 Т 9 Нумизматика, вып 3

**НАВАЕ́ЛЬНЯ**, гарадскі паселак у Дзятлаўскім р-не У сутоку рэк Моўчадзь і Ятранка За 13 км на У ад Дзятлава, чыг ст на лініі Баранавічы — Ліда 4,3 тыс ж (1998)

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст як в Ельня ў Навагрудскім павеце ВКЛ У 17 ст пабудаваны палац (не збярогся) З 1795 у Рас імперыі, з 1842 — мястэчка Навагрудскага пав Мінскай губ З адкрыццём руху цягнікоў на ўчастку Вільня—Лунінец (1884) Н — чыг станцыя У 1886 Н — сяло Дварэцкай вол Слонімскага пав Гродзенскай губ , 99 ж , 11 двароў, 2 царквы, карчма У 1905 — 285 ж У 1921—39 у складзе Польшчы, у Дварэцкай гміне Слонімскага пав Навагрудскага ваяв У 1923 — 373 ж , 56 двароў З 1939 у БССР, з 12 10 1940 цэнтр сельсавета ў Дзятлаўскім р не З 4 5 1945 гар паселак, цэнтр Дзятлаўскага раена (да 8 1 1954) У 1962—65 у Навагрудскім р-не Камбікормавы з-д, хлебапякарня, камбінат быт абслугоўвання Сярэдняя школа, школа рабочай моладзі, яслі-сад, Дом культуры, 2 б-кі, бальніца, спецыялізаваны рэсп. санаторый «Наваельня» Брацкія могілкі і брацкая магіла сав воінаў і партызан Помнікі архітэктуры царква Раства Багародзіцы (1876—79), касцел Найсвяцейшага Сэрца Ісуса (1936) *Галіна Новікава*

**НАВАМЫ́ШСКІ РАЁН** Існаваў з 15 1 1940 у Баранавіцкай вол 12 10 1940 падзелены на 15 сельсаветаў Балабанавіцкі, Валахоўскі, Дубоўскі, Жарабілавіцкі, Каўпеніцкі, Лотвіцкі, Лукаўскі, Люшнеўскі, Ляснянскі, Малахоўскі, Навамышскі, Палонкаўскі, Русіноўскі, Уцескі, Чашаўленскі З 8 1.1954 у Брэсцкай вобл Цэнтр — в Новая Мыш, з мая 1954 Баранавічы 8 4 1957 перайменаваны ў *Баранавіцкі раен*

**НАВАПО́ЛАЦК**, горад у Полацкім р-не, на левым беразе Зах Дзвіны За 6 км на ПнЗ ад г Полацк, за 12 км ад чыг ст Полацк на лініі Віцебск—Рыга Таварная чыг станцыя 103 тыс ж (1998)

Узнік у 1958 у сувязі з буд-вам нафтахім прамысл комплексу З 22 10 1959 р п Полацкі, з 14 12 1963 горад абл падпарадкавання, атрымаў назву Н Пры буд-ве горада і заводаў знесена 30 весак 40,1 тыс ж у 1970 У перспекты ве плануецца зліцце Н з Полацкам Працуюць Наваполацкія вытв аб'яднанні «Нафтан», «Палімір» (гл адпаве дныя арт ), прадпрыемства па транспарціроўцы нафты «Дружба», заводы жалезабетонных вырабаў, «Вымяральнік», «Нафтазаводмантаж», бялкова-вітамінных канцэнтратаў, хлебазавод, больш за 300 прадпрыемстваў і структур недзярж сектара У горадзе Полацкі дзярж ун т палітэхнікум, 2 ПТВ (нафтахімі і будаўнікоў), муз вучылішча, 13 сярэдніх 8 дзіцяча-юнацкіх спарт , вячэрняя муз і маст школы, 34 дашкольныя ўстановы, 3 палацы культуры, Цэнтр нац культуры і раместваў, 33 бібліятэкі 2 кінатэатры, *музей гісторыі і культуры горада Наваполацка*, бальніца, 5 урачэбна-палікл інічных устаноў, 3 прафілакторыі Выдаюцца гар газеты «Химик» «Новая газета» Помнікі воінам-вызвалі целям, на месцы першай палаткі будаўнікоў горада, Курган працоўнай славы

*Літ* Хадкевіч Т Нафтагігант на Дзвіне Мн , 1963, Ліпскі У Прыдзвінскі цуд Мн , 1975, Лукша В Белыя берагі Паэма хроніка Мн , 1981 *Жанна Мацвеенка*

Помнік на месцы першай палаткі будаўнікоў **Наваполацка** 1973

**НАВАПО́ЛАЦКАЕ ВЫТВО́РЧАЕ АБ'ЯДНА́ННЕ «НАФТА́Н»** Створана ў 1992 на базе Полацкага нафтаперапрацоўчага завода (пабудаваны ў 1958—63) Першае і самае буйное прадпрыемства свайго профілю на Беларусі З 1981 — ВА «Нафтааргсінтэз» Вырабляе аўтамабільны бензін, дызельнае, пячное і маторнае паліва, прадукцыю для хім

польск урадам падтрымалі «бунт» Л Жалігоўскага і ўтварэнне т зв *Сярэдняй Літвы* У Варшаве быў створаны Бел паліт к-т пад кіраўніцтвам П П Алек юка, які пазней выконваў функцыі «беларускага ўрада» пры С Н Булак-Ба лаховічу ў час яго паходу Зразумеўшы намылковасць арыентацыі на Польшчу, сацыял-дэмакраты прынялі ўдзел у *нацыянальна-палітычнай нарадзе 1920* у Рызе (20 10 1920), якую праводзілі БПС-Р і БПС-Ф Чл прэзідыума найвышэйшай рады Цярэшчанка ад яе імя прызнаў Нар Раду БНР адзіным паўнамоцным прадстаўніком бел народа Нр БНР спыніла існаванне

*Літ* Луцкевіч А За дваццаць пяць гадоў (1903—1928) Вільня 1928 Тое ж Мн 1991 Октябрь 1917 и судьбы политической оппозиции Ч 2—3 Гомель, 1993 Сидоревич А Антон Луцкевич Главы из книги // Неман 1990 № 7, Крэчэўскі П Мандаты БНР // Спадчына 1993 № 1 Byelorussian statehood Reader and bibliography New York 1988 *Анатоль Сідарэвіч*

**НАЙДЗЁНКАЎ** Рыгор Паўлавіч (?—30 5 1919), дзяржаўны дзеяч БССР З сак 1918 ў Смаленску, старшыня Савета нар гаспадаркі Зах вобл, старшыня Калегіі па палонных і бежанцах Зах камуны На 1-м з'ездзе КП(б)Б (снеж 1918) абраны ў склад ЦК КП(б)Б Член *Часовага рабоча-сялянскага савецкага ўрада Беларусі*, старшыня камісіі па справах палонных і бежанцаў (Цэнтрапалонбежа Беларусі) На 1-м Усебел з'ездзе Саветаў (люты 1919) абраны чл ЦВК БССР і яго Прэзідыума, на аб'яднаным з'ездзе КП(б)ЛіБ (сак 1919) — чл ЦК КП(б) ЛіБ Паводле пастановы ЦВК Літбела 23 5 1919 арыштаваны Вярх рэв трыбуналам пры ЦВК Літбела 29 5 1919 абвінавачаны ў тым, што выдаваў сябе за чл РСДРП з 1906, што адказныя пасады ў Зах вобл выкарыстоўваў для сваей выгады Расстраляны Рэабілітаваны Прэзідыумам Вярх суда Рэспублікі Беларусь 22 9 1998 Н — прататып Найдзёнкоўскага ў аповесці А Юношы-Гзоўскага «У дзяржаве чырвоных молажэрцаў» (Варшава, 1921, на польск мове, першы варыянт пад назвай «Аляксандр Мяснік'янц» надрук у газ «Минский курьер» у 1919)

*Літ* Круталевич В А Рождение Белорусской Советской Республики Мн 1979 *Вячаслаў Селяменеў Віталь Скалабан*

**НАЙДЗЮ́К** Язэп (15.5 1909, в Рэпля Ваўкавыскага р-на — 13 2 1984), дзеяч бел нац руху ў Зах Беларусі. З канца 1920-х г працаваў у Бел друкарні імя Ф Скарыны ў Вільні, быў яе дырэктарам рэдагаваў час *«Шлях моладзі»* У жн 1939 арыштаваны польскімі ўладамі і зняволены ў Бяроза-Картузскі канцлагер Пасля вызвалення ў вер 1939 Чырв Арміяй вярнуўся ў Вільню, займаўся грамадскай і культ-асв дзейнасцю Восенню 1941 пераехаў у Мінск, супрацоўнічаў з акупантамі, працаваў у выдавецтве падручнікаў і літаратуры для моладзі ў Менску», быў членам Цэнтр рады Бел нар самапомачы У 1945 (на вокл 1944) выдаў у Мінску падручнік для вывучэння гісторыі Беларусі і бел вызв руху «Беларусь учора і сення», у якім выкарыстаны звесткі з навук прац рас. і бел гісторыкаў розных кірункаў Летам 1944 выехаў у Польшчу, жыў пад прозвішчам Александровіч, займаўся выдавецкай справай Пакінуў рукапіс новай працы па гісторыі Беларусі

*Тв* Беларусь учора і сяньня Мн, 1993 (разам з І Касяком) *Анатоль Грыцкевіч*

Наканечнікі стрэл 10—13 ст з гарадзішча Кульбачына (Шчучынскі р н)

Герб «Налеч»

Ян Налепка

**НА́ЙМІТ**, у ВКЛ слуга, парабак, якога наймалі рамеснікі, гандляры ці купцы для працы ў горадзе У 15—16 ст Н называлі наемных матросаў на рачных суднах («малойцы»), рабочых на гар прыстанях, а таксама нанятых на пэўны час больш бедных рамеснікаў У падатковых рэестрах і пастановах сеймаў Рэчы Паспалітай 16—17 ст Н — пастаянная катэгорыя гар насельніцтва, для якой існавалі асобныя квота і нормы грашовых падаткаў

**НАКАНЕ́ЧНІК**, элемент ручной кідальнай зброі з каменю, косці, дрэва, металу Мацавалі да канца дрэўка дзіды, кап'я, стралы, суліцы і інш рэчывам, якое звязвала (смала, бярозавы вар і інш ) Найб старажытныя Н вядомы з эпохі верхняга *палеаліту* Часцей сустракаюцца на помніках эпох *мезаліту, неаліту, бронзавага веку, жалезнага веку*, у часы сярэдневякоўя Форма і памеры Н розныя і залежаць ад таго, у які час іх выраблялі і да якой культуры яны належаць *Уладзімір Ксянзоў*

**«НА́ЛЕНЧ»**, прыватнаўласніцкі герб, якім у Польшчы, Літве, на Беларусі і Украіне карысталася каля 400 родаў, у т л Малахоўскія, Машынскія, Рачынскія, Чарнкоўскія Мае у чырв полі вы яву сярэбранай круглай павязкі, якая звязана унізе (першапачаткова павязка не была звязана) Клейнод — над прылбіцай з каронай жаночая постаць у чырв сукенцы і з сярэбранай павязкай на галаве, трымаецца рукамі за аленевы рогі Вядомы з 14 ст, у ВКЛ — пасля *Гарадзельскай уніі 1413*

**НАЛЕ́ПКА** (Nalepka) Ян (псеўд Рэпкін, 20 9 1912, в Смжані, Усх Славакія — 16 11 1943), арганізатар і кіраўнік славацкага партыз атрада, які дзейнічаў на тэр Беларусі і Украіны ў Вял Айч вайну Герой Сав Саюза (1945), Герой Славацкага нац паўстання (1945) Скончыў афіцэрскую школу (1936) У Вял Айч вайну з 1941 у складзе войск марыянетачнага ўрада Славакіі на акупіраванай ням фашыстамі тэр Беларусі і Украіны, нач 101-га славацкага палка Стварыў у палку антыфаш падп групу, якая ў 1942 наладзіла сувязь з партызанамі Мінскай і Палескай абл У пач 1943 з групай славакаў-антыфашыстаў перайшоў да партызан стаў камандзірам атрада ўкр партыз злучэння А М Сабурава, які дзейнічаў у раене Оўруч—Ельск—Мазыр—Алеўск Загінуў у баі У Ельску і г п Лельчыцы яго імем названы вуліцы

**НАЛІ́** (Налейка, Налівукі), першая слабада іншаземцаў у Маскве Вя-

дома паводле звестак С *Герберштэйна* Існавала з пач 16 ст ў раене вул Якіманка (за сучасным Спасаналіўкаўскім завулкам) Засн па загадзе вял кн маск Васіля III для драбаў (пешых воінаў), у асн выхадцаў з ВКЛ Жыхары слабады (у адрозненне ад іншых жыхароў Масквы) мелі права варыць піва і мед увесь год і, як мяркуе Герберштэйн, назва паходзіць ад слова «налей», якое тут часта гучала Паколькі слабада была заселена вайскоўцамі, яе размясцілі па суседстве з Крымскім бродам — найб небяспечным месцам у час татарскіх наездаў Пры ўзнікненні слабады сярод яе насельніцтва пераважалі беларусы, але з-за наплыву людзей з Зах Еўропы яна паступова страчвала свой бел характар Як мяркуецца, Н знішчаны ў 1571 у час наезду хана Даўлет-Гірэя, калі Маскву вынішчыў вялікі пажар

*Літ* Снегирев В Московские слободы М , 1947, Герберштейн С Записки о Московии М , 1988 *Генадзь Прыбытка*

**НАЛІ́БАКІ**, Налібокі, веска, цэнтр сельсавета ў Стаўбцоўскім р-не Аўтобусная станцыя на скрыжаванні дарог г п Івянец — в Шчорсы, Стоўбцы—Налібакі За 45 км на ПнЗ ад Стоўбцаў 658 ж , 240 двароў (1998)

Вядома з 1447 Да 1485 належала Гедыголдавічам, да 1554 — Кезгайлам, потым Завішам і Шэметам, з 1555 — М Радзівілу Чорнаму, з 2-й пал 19 ст — Вітгенштэйнам, з 1881 — Гогенлое У 16 ст цэнтр воласці Навагрудскага пав У 1636 А С Радзівіл пабудаваў тут касцел (у 1699 перабудаваны) У 17—18 ст вакол двара сфарміравалася веска (у 1727 — 62 двары), уваходзіла ў Ашмянскі пав У 1720-я г каля Н заснавана гута У 1757 у Н 83 двары, карчма З 1793 у Рас імперыі, цэнтр воласці Ашмянскага пав У 1801 у Н 61 двор, касцел, магазін, бровар, карчма У 2-й пал 19 ст фарміруецца мястэчка У 1897 у ім 270 ж., 42 двары, у весцы 1519 ж , 224 двары, касцел, малітоўны дом, 2 школы, бальніца, валасны суд, карчма З пач 20 ст Н — веска, 1789 ж , нар вучылішча, касцел З 1920 у Польшчы, цэнтр гміны Стаўбцоўскага пав , з 1939 у БССР, з 12 10 1940 да 16 7 1954, потым з 8 6 1963 цэнтр сельсавета У Вял Айч вайну ням -фаш акупанты ў ліп 1943 спалілі веску і загубілі 109 жыхароў Партызаны правялі тут *Налібоцкія баі 1942, 1943* У весцы сярэдняя школа, дашкольная ўстанова, Дом культуры, магазін, аграбуд фірма ПМК-74 «Налібокі» Помнік землякам, што загінулі ў Вял Айч вайну *Валерый Шаблюк*

**НАЛІБО́ЦКАЯ ШКЛЯНА́Я МАНУФАКТУ́РА**, прыгонная шкляная мануфактура, заснаваная ў 1717 кн Радзівіламі у в Налібакі і Янкавічы (сучасны Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл ) Адна з буйнейшых шкляных мануфактур 18—19 ст у Беларусі Выраблялa люстэркі, люстры для сцен і столі, жырандолі і падсвечнікі, шмат мастацкага і побытавага посуду Створана на высокім тэхн узроўні на ўзор Дрэздэнскай мануфактуры Тут варылі рэдкае рубінавае шкло, якое афарбоўвалі калоідным золатам паводле ням тэхналогіі 17 ст Шмат посуду на мануфактуры выраблялася пад уплывам зах -еўрап мастацтва, але былі і самабытныя ўзоры, якія ў 18 ст сталі традыцыйнымі — келіхі з пустацелымі цыліндрычнымі паддонамі і са звонападобнымі чашамі, розныя формы пацешнага посуду і інш Асн маса вырабаў аздаблялася гравіраваннем, шліфоўкай і рэльефнай разьбой У гравіраваных дэкорах сустракаюцца жартоўныя надпісы-парады, пажаданні, вершы, міфалагічныя і алегарычныя сюжэты, паляўнічыя сцэны, партрэты, гербы, арабескі, краявіды, выявы птушак, сабак, адлюстроўваліся самабытныя з'явы побыту, жартаў, забаў, сатырычныя сцэнкі з заняткаў мясц жыхароў, прыгажосць прыроды, флора і фауна Беларусі Гравіраваныя выявы вылучаюцца рэалістычнай трактоўкай фігур, раслін, жывел і краявідаў Графічна трактаваны малюнак пераважае ў геральдычнай, геаметрычнай і расліннай арнаментацыі У вырабах падкрэсліваліся такія ўласцівасці шкла, як бляск, празрыстасць, брыльянтавае ззянне Посуд выраблялі не толькі з добраасветленага шкла і хрусталю, але і з празрыстага каляровага Шмат рэчаў рабілі ў гутнай тэхніцы Каляровы посуд ствараўся ў нар традыц формах фляшы квартавыя зялёныя, цукарніцы сінія, сальнічкі белыя, салатнічкі фаянсавага колеру, келіхі фіялетавыя, бутэлькі чырвоныя і г д Посуд аздаблялі каляровай крошкай, у т л каляровыя сталовыя бутлікі і фляшы Выраблялі посуд, аздоблены рубінкам (г зн рубінавым шклом), дробную пластыку, выразаную са шкла, кубкі з накрыўкамі, бакалы, шкляніцы, графіны, куляўкі (посуд без стоп), барылкі, збанкі для напіткаў і кветак, дзіцячыя цацкі, флакончыкі, шліфаваныя і ...ныя аздобы для люстраў, падсвечнікаў і жырандоляў, як і на *Урэцкай шкляной мануфактуры* Усяго на Н ш м выраблялася больш за 100 найменняў вырабаў са шкла Рысавальшчыкамі і гравіроўшчыкамі былі выключна беларусы ... замежныя спецыялісты займаліся ... налагічнымі працэсамі Склада... мясц дынастыі майстроў шкляной справы Дубіцкія і Александровічы (выхадцы са збяднелай дробнамаянтковай шляхты), Санцэвічы, Залескія, Рымашэўскія, Адамовічы, Сільвястровічы, Малішэўскія, Дашкевічы, Галубовічы і інш Мануфактура існавала да 18... шліфавальны цэх у в Янкавічы — 1798 Вырабы Н ш м зберагаюцца ў Эрмітажы (С -Пецярбург), Дзярж гіст музеі (Масква), Музеі этнаграфіі і маст прам-сці (Львоў), Кракаўскім і Варшаўскім Нац музеях Традыцыі Н ш м актыўна працягваюць сучасныя бел мас... такі па шкле

*Літ* Яніцкая М М Беларускае мастацкае шкло (XVI—XVIII стст ) Мн , 1977 Я е ж Беларускае мастацкае шкло XIX—пачатак XX ст Мн , 1984, Я е ж Гісто... шкляной вяселкі Мн , 1986

*Таццяна Скрыпчанка*

**НАЛІБО́ЦКІЯ БАІ́ 1942, 1943**, баі на... між партызанамі брыгады імя Сталіна і ням -фаш захопнікамі ў в Налібакі Івянецкага р-на 9 6 1942 і 8 5 1943 ... Вял Айч вайну 9 6 1942 партыз атрад 125-ы (камандзір С А Рыжак) пас... разгрому паліцэйскага ўчастка ў в Налібакі ўступіў у бой з карнікамі, якія вярталіся з в Рубяжэвічы У выніку 2-гадзіннага бою партызаны спалілі валасную ўправу, магазін, паліцэйскую

Да арт **Налібоцкая шкляная мануфактура** Келіх з накрыўкай і кварта 18 ст

лянскай брыгады ў выніку *Нараўлянскаи аперацыі 1943* З 8 1 1954 Н р у Гомельскай вобл 25 12 1962 скасаваны, тэр раена перададзена ў Ельскі р-н Адноўлены 6 1 1965 у складзе 8 сельсаве таў Вербавіцкага, Вуглоўскага, Галоўчыцкага, Даўлядскага, Дзернавіцкага, Завайцянскага, Кіраўскага, Красноўскага Раен пацярпеў у выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, у 1987 скасаваны Вуглоўскі, Даўлядскі і Дзернавіцкі с/с Жыхары весак гэтых сельсаветаў пераселены ў інш населеныя пункты За 1985—95 у выніку міграцыі колькасць насельніцтва ў раене скарацілася на 17,3 тыс чал

На 1 1 1998 у раене 73 населеныя пункты, 5 сельсаветаў Вербавіцкі, Галоўчыцкі, Завайцянскі, Кіраўскі, Красноўскі У раене 5 калгасаў, 2 саўгасы, 5 базавых 3 сярэднія школы, 8 дашкольных установ, 5 б-к, 25 клубных установ, 2 бальніцы, 16 фельчарска-акушэрскіх пунктаў 2 амбулаторыі, 11 аддз сувязі Выдаецца газ «Прыпяцкая праўда»

Найб значныя археал помнікі паселішчы каля в Белая Сарока, Цешкаў Брацкія магілы сав воінаў і партызан, якія загінулі ў гады Вял Айч вайны, у в Вербавічы, Вуглы, Гажын, Завайць, магілы ахвяр фашызму ў в Вуглы, Лубень, помнікі ахвярам фашызму ў в Аляксандраўка, Мальцы, Хільчыха, землякам, якія загінулі ў Вял Айч вайну, у в Будкі, Бук, Дзяржынск Красноўка, Маскалеўка, мемар знак на месцы базіравання Нараўлянскага падп райкома КП(б)Б і 27-й Нараўлянскай партыз брыгады імя Кірава (за 5—6 км на З ад в Хільчыха) Помнік архітэктуры — царква 18 ст ў в Вербавічы

*Літ* Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі Гомельская вобл Мн , 1985

**НАРАЎЛЯ́НСКІ ЭТНАГРАФІ́ЧНЫ МУЗЕ́Й** Засн ў сак 1993 у г Нароўля як музей этнаграфіі і нар рамёстваў на базе грамадскага музея пры Доме піянераў (1980), са снеж 1996 сучасная назва Пл экспазіцыі 220 м², 475 адзінак асн фонду (1998) Размешчаны у будынку, які з'яўляецца помнікам драўлянага дойлідства канца 19 ст Сярод экспанатаў прылады працы ткацтва (кросны, грабяні, верацены), рыбалоўства (венцеры, каробкі, таптухі, грузілы, падсакі), бондарства, вырабы пляцення з лубу, лазы, бяросты (мэбля, кошыкі, лапці), тканыя арнаментаваныя ручнікі разнастайнага прызначэння, посцілкі, драўляныя лыжкі, начоўкі і інш У экспазіцыі інтэр'ер сял хаты, сял падвор'я канца 19 — пач 20 ст У Чарнобыльскай зале размешчана дыярама пакінугай вескі Даўляды, творы мастака В Шматава, прысвечаныя гэтай тэматыцы У 2 залах праводзяцца выстаўкі прац мастакоў і майстроў дэкар -прыкладнога мастацтва Нараўляншчыны

*Раіса Бобр*

**НАРАЧ**, веска, цэнтр сельсавета і калгаса «Прыазерны» ў Мядзельскім р-не За 20 км на ПнЗ ад Мядзела 29 км а чыг ст Паставы На аўтадароз Мінск—Нарач 2,7 тыс ж (1998)

Вядома з 15 ст пад назвай Кабыльнік (Кабельнікі) у Ашмянскім пав Віленскага ваяв ВКЛ У 1463 у маентку па будаваны драўляны касцел (у 1736 пе рабудаваны) З 1527 уладанне А М І аш тольда, Збаражскіх, Абрамовічаў, М Ас керкі, Свентаржыцкага і інш У 1641 122 ж , 19 дамоў З 1793 у Рас імперыі у Завілейскім (Свянцянскім) пав Віленскай губ З 1847 мястэчка, 25 два роў, уваходзіла ў 2 маенткі Свентаржыцкага — 43 ж , вадзяны млын, віна курня (з 1845) і Шышкаў — 105 ж З 1885 цэнтр воласці, 483 ж , 17 двароў царква, касцел, багадзельня, сінагога, 4 крамы, карчма, штогод 5 кірмашоў, па аўторках таржок, з 1892 працавала нар вучылішча У 1897 у мястэчку 1054 ж У 1901—04 пабудаваны Андрэеўскі кас цел, плябанія У 1-ю сусв вайну з сак 1916 тут размяшчаўся штаб герм узмоцненага корпуса З 1921 у Поль шчы, цэнтр гміны Пастаўскага пав Віленскага ваяв У 1931 — 900 ж , аддз сувязі, касцел, сінагога, царква, цагель ня, гарбарня, млыны, аптэка, штомесяц кірмаш З 1939 у БССР, з 12 10 1940 цэнтр сельсавета Мядзельскага р-на У Вял Айч вайну ў кастр 1942 партыза ны разграмілі ў весцы варожы гарнізон У 1960 — 1116 ж , 28 8 1964 перайменавана ў Н У весцы сярэдняя і муз шко лы, Дом культуры, бібліятэка, бальніца аддз сувязі, магазіны, працуюць масла сырзавод, з-д безалкагольных напіткаў, каап камбінат Магіла ахвяр фашызму Помнік землякам, што загінулі ў Вял Айч вайну Помнік археалогіі курганны могільнік крывічоў і дрыгавічоў 11—12 ст Помнікі архітэктуры царква 2-й пал 19 ст , Андрэеўскі касцел, зва ніца, плябанія пач 20 ст *Вольга Князева*

**НА́РАЧ**, курортны пасёлак у Мядзельскім р-не, на беразе воз Нарач За 18 км на ПнЗ ад Мядзела, 31 км ад чыг ст Паставы На аўтадарозе Мінск—Паставы Каля 2,9 тыс ж (1998)

Утвораны 26 9 1964 з весак Баравыя Купа, Малая Сырмеж, Наносы, Садоўшчына, Сцепянева, Урлікі У паселку працуюць санаторыі «Нарач», «Беларусь», «Будаўнік», «Прыазерны», Дом адпачынку, турыстычна-экскурсійны комплекс, пач і сярэдняя школы, сад яслі, бібліятэка, амбулаторыя, аддз сувязі, аптэка, Дом быту, гандлевы цэнтр

**НАРАЧА́НСКАЯ АПЕРА́ЦЫЯ 1916**, наступальная аперацыя войск 5, 1, 2 і 10-й рус армій 5(18)—15(28) сак. ў раене воз Нарач у 1-ю сусв вайну 14 2 1916 на канферэнцыі дзяржаў Антанты ў Шантылі (Францыя) было дасягнута пагадненне пачаць наступленне супраць Германіі на франц фронце 1 ліп , а на рускім — 15 чэрвеня Аднак з-за цяжкага становішча франц арміі пад Вердэнам рус камандаванне вырашыла пачаць свае наступленне раней каб адцягнуць на сябе герм войскі з франц фронту Аперацыя праводзілася левым флангам Паўн і правым флан

**НАРАЎЛЯНСКІ РАЁН**

гам Зах франтоў у раёне Дзвінск — воз Нарач Гал удар наносіла 2-я армія з мэтай прарваць фронт 2 групамі 3 карпусамі на Пн ад чыгункі Паставы—Свянцяны і 3 карпусамі паміж азёрамі Нарач і Вішнеўскае Часці 5-й арміі дзейнічалі ў раёне Дзвінска, 14-ы корпус 1-й арміі — у раёне Відзаў 10-я армія вяла баі ў напрамку Крэва—Ашмяны Войскі дзейнічалі ў складаных метэаралагічных умовах, у веснавое бездарожжа, разрознена асобнымі карпусамі, без агульнага ўзаемадзеяння Артылерыя не была своечасова падцягнута, што не забяспечыла наступаючай пяхоце належнай артыл падтрымкі У канцы сакавіка наступленне было спынена з-за немагчымасці далейшага перамяшчэння войск у неспрыяльных умовах надвор я У выніку Н а рускія войскі атрымалі толькі мясц поспех і панеслі вял страты (78 тыс чал ) Аднак яны іказалі значную дапамогу саюзнікам-французам, адцягнуўшы на сябе вял частку войск праціўніка 22—28 сак наступленне немцаў на Вердэн аслабла, а потым спынілася

*Літ* Зайончковский А М Мировая война 1914—1918 гг 3 изд Т 2 Кампании 1916—1918 гг М 1938, Подорожный Н Е Нарочская операция в марте 1916 г на русском фронте мировой войны М 1938 *Панцеляймон Селіванаў*

**НАРАЧА́НСКІХ РЫБАКО́Ў ВЫСТУПЛЕ́ННЕ 1935**, барацьба сялян прынарачанскіх вёсак супраць забароны ўрадам Польшчы свабодна лавіць рыбу Паводле прынятага польскім урадам у 1932 закона аб нацыяналізацыі рэк і азёр воз Нарач перайшло да Дырэкцыі дзярж лясоў і здадзена ў арэнду акцыянернаму т-ву на чале з памешчыкам Яблонскім, які ў 1935 забараніў сялянам рыбны промысел Сяляне навакольных вёсак адмовіліся выконваць распараджэнні ўлад Пачаліся сутычкі з паліцыяй, арышты ЦК КПЗБ накіраваў на Нарач сваіх прадстаўнікоў А К *Шчасную* і А І *Багданчука*, звярнуўся да сялян з адозвай «Брацкае слова да рыбакоў возера Нарач і ўсіх азёр Заходняй Беларусі», выдаў лістоўку «Возера належыць вам» У чэрв 1935 выбраны забастовачны к-т, у які ўвайшлі рыбакі І П Зарэцкі, К І Субач, М І Субач, І А.Чарняўскі і інш , у жн праведзена забастоўка, прагнаны арандатар, сяляне не пускалі на працу штрэйкбрэхераў, вялі арганізаваную лоўлю і продаж рыбы Паліцыя правяла новыя арышты Забастоўка ахапіла раён Браслаўскіх азёр, баставала каля 40 вёсак Дружыны самаабароны ахоўвалі лодкі і сеткі Улады вымушаны былі пайсці на частковыя ўступкі павысілі цану на рыбу, дазволілі сялянам лавіць рыбу сваімі сеткамі Барацьба за свабодную лоўлю рыбы і адмену закона аб нацыяналізацыі прадаўжалася да вер 1939 Выступленню нарачанскіх рыбакоў прысвечана паэма М Танка «Нарач» (1937), карціна В Цвіркі «Паўстанне рыбакоў на возеры Нарач» (1957) і інш

Т **Нарбут**

Да арт **Нарачанскіх рыбакоў выступленне 1935.** Паўстанне рыбакоў на возеры Нарач З карціны В Цвіркі 1957

*Літ* Шчасная А К Барацьба нарачанскіх рыбакоў // У суровыя гады падполля Мн 1958

**НА́РБУТ** Казімір (3 І 1738, маёнтак Яшнец Лідскага пав — 17 3 1807), мысліцель-асветнік, прадстаўнік эклектычнага кірунку ў філасофіі эпохі Асветніцтва ў Беларусі і Літве Вучыўся ў піярскай школе ў Шчучыне, потым у Любяшоўскім навіцыяце і ў піярскім калегіуме ў Дубровіцы, з 1759 у піярскім калегіуме ў Вільні, каля 4 гадоў — у піярскім вучылішчы ў Рыме У 1764 вярнуўся на радзіму, прызначаны прафесарам і прэфектам піярскага калегіума ў Дубровіцы Пасля жыў у Вільні, чытаў лекцыі па філасофіі, быў прэфектам піярскай друкарні У 1769 выдаў у Вільні падручнік па логіцы («Логіка, або Навука разважання і меркавання пра прадметы навукі», на польскай мове) Аўтар курса «Эклектычнай філасофіі» і рукапісаў на лац мове Пераклаў з французскай мовы на польскую кнігу «Ваенная навука прускага караля для яго генералаў» (1771) У прадмове да яе выказаў свае захапленне грамадскімі мерапрыемствамі, што ажыццяўляліся ў тагачаснай Беларусі, у прыватнасці бу даўніцтвам Пінскага канала Як член *Адукацыйнай камісіі*, займаўся рэформай школьнага навучання ў Беларусі і Літве Член «Таварыства па складанні элементарных кніг», напісаў 2 раздзелы для школьнага «Статута парафіяльных школ» і настаўленне «Аб інспектаванні школ» Выступаў за вызваленне філасофіі ад схаластыкі і багаслоўя, за развіццё навукі Крытыкаваў сістэму адукацыі ў акадэміях і калегіумах ордэна езуітаў, выступаў за свецкую сістэму адукацыі

*Літ* Дубровский В В Казимир Нарбут Мн , 1979, Дорошевич Э К Философия эпохи Просвещения в Белоруссии Мн , 1971

**НА́РБУТ** Людвік Тэадоравіч [26 8 (7 9) 1832, маёнтак Шаўры Лідскага пав , цяпер Воранаўскі р-н — 22 4(4 5) 1863], адзін з кіраўнікоў паўстання 1863—64 у Беларусі і Літве Сын Т *Нарбута* У 1850 за рэв дзейнасць сасланы радавым на Каўказ Пасля на радзіме, афіцэр у адстаўцы Дэмакрат, прыхільнік «чырвоных» У 1863 паўстанцкі ваен начальнік Лідскага пав , адзін з першых у Беларусі сфарміраваў атрад, з якім 3 месяцы (люты— крас ) паспяхова вёў барацьбу супраць урадавых войск У атрадзе Н , які падтрымлівалі сяляне, былі мастак М Андрыелі і, магчыма, Ф Багушэвіч Паўстанцкія ўлады прысвоілі Н званне палкоўніка Загінуў у баі

*Літ* Восстание в Литве и Белоруссии 1863—1864 гг Материалы и док. М , 1965, Кісялёў Г Радаводнае дрэва Мн , 1994 Kowalewska Z Dzieje powstania lidzkiego Wspomnienie o Ludwiku Narbucie Wilno, 1934 *Генадзь Кісялёў*

**НА́РБУТ** Тэадор [Федар Яўхімавіч, 28 10(8 11) 1784, б маёнтак Шаўры Лід-



Да арт Нарвенская культура Касцяныя і ра гавыя вырабы са стаянкі Зацэнне Лагойскага р-на. 1 — абломак кінжала, 2 — гарпун 3 — сякера, 4 5, 8 — матыкі, 6 — цясла, 7 — прылада з трубчастай косці

сценкі (з захаваннем ракавінных дамешак), брыжы венчыкаў былі патоўшчаныя і скошаныя ў сярэдзіну, паверхні аздабляліся разрэджаным арнаментам, у т.л. выявай змей, птушак, абрысамі расдін. Плямены Н к на тэр Беларусі адчувалі істотныя культ уплывы з боку неалітычнага насельніцтва Падняпроўя і Панямоння, а ў познім неаліце — Усх. Прыбалтыкі Наиб значныя помнікі ў Беларусі — *Асавец, Галоўск, Зацэнне, Скема* *Міхась Чарняўскі*

**НАРЖЫМСКІ** Уладзімір Аляксандравіч [1(14) 2 1915, в Цімкавічы Слуцкага пав., цяпер у Капыльскім р-не— 17.10.1988], Герой Сав Саюза (1945) Канд ваен н (1967), дацэнт (1969) Скончыў Ульянаўскую летна-тэхн школу (1935), Ейскае ваенна-марское авіяц. вучылішча (1941), Ваенна-паветр акадэмію (1951) У Чырв Арміі з 1936 У Вял. Айч вайну на фронце з 1941 у ВПС Чарнаморскага флоту Удзельнік абароны Крыма, Каўказа, вызвалення Румыніі Балгарыі, Аўстрыі, вайны з Японіяй капітан, нам камандзіра, камандзір авіяэскадрыллі знішчальнага авіяпалка Зрабіў 404 баявыя вылеты, правеў 35 паветр баеў, асабіста збіў 13 самалетаў праціўніка Пасля вайны ў авіячасцях ВМФ У 1958—70 выкладчык Ваенна-паветр акадэміі, нам нач Цэнтр аэраклуба СССР, ст выкладчык Ваенна паліт акадэміі імя Леніна, заг ваен кафедры Вышэйшай камсам школы пры ЦК ВЛКСМ

У А Наржымскі

Я А.Наркевіч-Ёдка

**НАРКЕ́ВІЧ-ЕДКА** Вітольд Аляксандравіч [23 12 1834(4 1 1835), в Пукава Слуцкага пав , цяпер в Камсамольская Капыльскага р-на — 12(24) 11 1898], бел ўрач-афтальмолаг Д-р медыцыны (1859) Бацька В В *Наркевіча-Ёдкі* Вучыўся ў Мінскай гімназіі, Юр'еўскім (Тартускім) ун-це (1853—58) У 1861 удасканальваўся ў галіне афтальмалогіі ў Берліне У 1860—72 працаваў ардынатарам клінікі састарэлых у Варшаве, потым (да 1881) у Варшаўскім афтальмалагічным ін-це З 1863 дацэнт Варшаўскай медыка-хірургічнай акадэміі, з 1869 — Варшаўскай гал школы Аўтар каля 80 навук прац у галіне вочных хвароб Пераклаў на польск мову 2-томную працу Векера «Афтальмалогія» (1868) З 1883 жыў у сваім маентку Бабоўня (Капыльскі р-н), займаўся сельскай гаспадаркай, рабіў аперацыі ў арганізаванай ім тут лячэбніцы *Уладзімір Кісялеў*

**НАРКЕВІЧ-Ё́ДКА** Вітольд Вітольдавіч [29 4(12 5) 1864, Варшава — 22 10 1924], дзеяч польскага сацыяліст руху Сын В А *Наркевіча-Ёдкі* У 1884 здаў экстэрнам экзамен за курс Слуцкай гімназіі, у 1885 вучыўся у Юр'еўскім (Тартускім), у 1886—89 — у Парыжскім ун-тах У 1882—92 веў паліт. дзейнасць як член 2-га *«Пралетарыяту»* У 1892 у Парыжы ўдзельнічаў у з'ездзе, які паклаў пачатак Польскай сацыяліст партыі (ППС) Разам з Ю Пілсудскім адзін з яе лідэраў, рэдактар час «Przedświt» («Світанне», 1893—99) У 1898 у Бернскім ун-це абараніў доктарскую дысертацыю Садзейнічаў выданню на базе ППС шэрагу беларускамоўных рэв брашур і адозваў Выступаў за аддзяленне Царства Польскага і Беларусі ад Рас імперыі У час 1-й сусв вайны выступаў за аб'яднанне намаганняў Японіі, Аўстрыі, Францыі і Англіі супраць Расіі, аднак не быў падтрыманы грамадскасцю У 1919 пасол у Канстанцінопалі, потым у Рызе Працаваў над гісторыяй польскага сацыяліст руху Некат матэрыялы пра пачатковы перыяд жыцця і дзейнасці Н -Е захоўваюцца ў Нац архіве Рэспублікі Беларусь *Уладзімір Кісялеў*

**НАРКЕ́ВІЧ-ЕДКА** Якуб Атонавіч [15 12(27 12) 1847, маентак Гурын Ігуменскага пав , цяпер Пухавіцкі р н — 6(19) 2 1905], бел прыродазнавец, вынаходнік, медык Праф (1900) Скончыў Мінскую гімназію (1865), працягваў вучобу ў Маскве, Вене, Парыжы, Фларэнцыі Чл -кар Рус геагр т-ва (1889), Ін-та эксперым медыцыны (1892) у Пецярбургу Чл шэрагу іншайч і замежных навук т-ваў Арганізаваў у сваім маентку Над Неман (Уздзенскі р-н) метэаралагічную станцыю (1888) Даследаваў атмасферную электрычнасць Вынайшаў лізіметр (прылада для вымярэння вільготнасці глебы), спосаб вымярэння скорасці руху воблакаў Рэгістраваў навальнічныя разрады з дапамогай тэлефонау і прадказваў на бліжэнне навальніцы (1890), вынайшаў спосаб бяспровадная перадачы электра магнітных сігналаў на адлегласць (1891) У сваім маентку адкрыў санаторый для лячэння сухотных і нервовых хворых Распрацаваў спосаб лячэння электратокам (электратэрапія-электрамасаж), метад электраграфіі (1891) для дыягностыкі захворванняў Яго навук працы высока ацэньвалі Дз І Мендзялееў, А В Саветаў, А І Ваейкаў і інш

*Літ* Кісялеў У М Вучоны шырокага дыяпазону // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі 1980 № 2 Грыбкоўскі В П, Гапоненко О А. Киселев В Н Я О Наркевич-Иодко // Весці АН БССР Сер фіз -мат навук 1985 № 5, Я О Наркевич Иодко (1847—1905) Биобиблиогр указ Мн , 1988 *Уладзімір Кісялеў*

**«НАРМА́НДЫЯ—НЁМАН»**, назва французскага знішчальнага авіяпалка які ўдзельнічаў у вызваленні Беларусі ад ням -фаш захопнікаў у Вял Айч вайну У ліст 1942 франц добраахвотнікі

ную сістэму падрыхтоўкі кадраў. У сін. першыя ажыц. уключала Віцебскую і Гродзенскую школы УС, Магілёўскую міжкраявую школу УС—НКДЬ, Мінскую школу міл. імя М. В. Фрунзе, шэраг абласных школ і школ рэзерву. Падрыхтоўка супрацоўнікаў вялася на пастаянна дзеючых курсах міліцыі, крымінальнага вышуку, пажарнай аховы, аховы рэжымных аб'ектаў і інш. Пасля вайны аднавілі дзейнасць Магілёўская і Мінская школы міліцыі, пастаянныя кароткатэрміновыя курсы пры цэнтр. апараце Камісарыята унутраных спраў БССР, пры абласных УНКУС для супрацоўнікаў крымінальнага вышуку, участковых упаўнаважаных, крымінальнага і інш. была адкрыта Мінская афіцэрская школа НКУС. Паводле Закона Вярх. Савета СССР ад 15.7.1946 НКУС пераўтвораны ў Мін-ва унутраных спраў БССР.

Нар. камісарамі НКУС БССР былі: С. В. *Іваноў* (студз.—люты 1919), З. І. *Ангарэцкі* (люты 1919 — снеж. 1920, НКУС Літ.-Бел. ССР), Я. А. *Адамовіч* (студз.— сак. 1921), С. А. *Мертэнс* (сак.—снеж. 1921), Н. Дз. *Малаковіч* (1922—23), Дз. С. *Чарнушэвіч* (сак.—вер. 1924), А. І. *Хацкевіч* (1925—26), А. В. *Сташэўскі* (1926—28), Р. А. *Піляр* (1929—30), І. М. *Закоўскі* (1934—35), І. М. *Ляплеўскі* (1935—36), І. А. *Малчанаў* (1936—37), Б. Д. *Берман* (1937—38), А. А. *Наседкін* (май—лют. 1938), Л. Ф. *Цанава* (1938—41), А. П. Мацвееў (крас.—чэрв. 1941), С. С. Бельчанка (1943—46, да 25.4.1953 міністр унутраных спраў БССР).

*Аляксей Вішнеўскі, Мікалай Чэпікаў.*

**НАРО́ДНЫ САКРАТАРЫЯТ БЕЛАРУСІ**, орган выканаўчай улады, сфарміраваны 21.2.1918 *Выканаўчым камітэтам Рады Усебеларускага з'езда*. Старшыня і адначасова нар. сакратар замежных спраў Я. Варонка, нар. сакратары: В. Багунова (апекі), Г. Белкінд (фінансаў), Я. Я. Бялевіч (юстыцыі), Г. Т. Грыб (земляробства), Л. Гутман (яўр. спраў), К. Б. Езавітаў (вайск. спраў), П. У. Злобін (велікарускіх спраў), А. Карач (пошты і тэлеграфа), П. А. Крачэўскі (кантролю), І. Макрэеў (унутр. спраў), В. Рэдзька (шляхоў зносін), Я. Серада (нар. гаспадаркі), А. А. Смоліч (асветы). Казначэй — В. І. Захарка, кіраўнік канцылярыі — Л. І. Заяц. Членамі ўрада былі пераважна прадстаўнікі *Беларускай сацыялістычнай грамады* (БСГ). Н. с. Б. працаваў у цяжкіх умовах ням. акупацыі. У апазіцыі да ўрада Н. с. Б. знаходзіліся па прагерманску настроеныя правыя, якія згуртаваліся ў *«Менскім беларускім прадстаўніцтве»*. 12.4.1918 правыя кааптаваны ў склад *Рады Беларускай Народнай Рэспублікі*. 25.4.1918 правыя ад імя Рады БНР накіравалі тэлеграму кайзеру Вільгельму II, у якой ішлі, што будучыню Беларусі яны бачаць пад апекаю Германіі. У выніку ў БСГ адбыўся раскол: утварыліся Бел. партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў, Бел. партыя сацыялістаў-федэралістаў і інш. партыі. У пач. мая сацыялісты-рэвалюцыянеры Бадунова, Грыб, Заяц і сацыял-дэмакрат Смоліч выйшлі з Н. с. Б. Былі створаны 2 ўрады БНР, які больш вядомы як *Рада пяцех*. Карыстаючыся адсутнасцю ў Мінску большасці левых членаў Рады БНР, правыя створаны ў маі 1918 Н. с. Б. альтэрнатыўны Радзе пяцех. У склад яго ўваходзілі Р. А. Скірмунт (старшыня), К. А. Кандратовіч (нар. сакратар унутр. спраў), міністр Г. Хржанчоўскі (казначэй, у чэрв. яго замяніў Ф. Верніоўскі), П. П. Аляксюк і Р. К. Астроўскі (члены ўрада). З. і урад спыніў сваё існаванне ў чэрв. 1918. У выніку кампрамісу дасягнутага паміж левымі і правымі Рада БНР сфарміравала 4-ы Н. с. Б., у склад якога ўваходзілі члены БПС-Ф і БПС-Р Серада (старшыня), Захарка, Заяц, Вернікоўскі (нар. сакратар гандлю і прам-сці). 11.10.1918 Н. с. Б. перайменаваны ў *Раду народных міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі*.

*Літ.:* За дзяржаўную незалежнасць Беларусі: Дак. і матэрыялы. Лондан, 1960; Byelorussian statehood: Reader and bibliography. New York, 1988.

*Анатоль Сідарэвіч.*

**НАРО́ДНЫ СХОД ЗАХО́ДНЯЙ БЕЛАРУСІ**, Нацыянальны сход Заходняй Беларусі, вярхоўны орган нар. улады ў *Заходняй Беларусі* пасля яе вызвалення Чырв. Арміяй у вер. 1939. Выбары ў Нар. сход адбыліся згодна з пастановай Палітбюро ЦК ВКП(б) ад 1.10.1939 «Пытанні Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі». У ёй вызначаліся мэты, час, працэдура арганізацыі і правядзення выбараў, а таксама пытанні, якія павінны быць вырашаны дэпутатамі сходу. Яму сакратару ЦК КП(б)Б П. К. Панамарэнку даручалася падрыхтаваць адпаведныя дэкларацыі па парадку дня Нар. сходу. Пастанова прадугледжвала праводзіць выбарчую кампанію пад лозунгамі ўстанаўлення сав. улады на тэр. Зах. Беларусі і Зах. Украіны, уваходжання Зах. Беларусі ў склад БССР і Зах. Украіны ў склад УССР, адабрэння канфіскацыі памешчыцкіх зямель, нацыяналізацыі банкаў і буйной прам-сці. Выбарчая кампанія праходзіла ў адпаведнасці з рашэннямі Палітбюро ЦК ВКП(б). Правам вылучэння кандыдатаў у дэпутаты Нар. сходу забяспечваліся сял. камітэты, часовыя упраўленні гарадоў, сходы рабочых на прадпрыемствах, члены рабочай гвардыі, прадстаўнікоў інтэлігенцыі. 5 тыс. выбаршчыкаў выбралі у Нар. сход 1 дэпутата. Упершыню ў гісторыі Зах. Беларусі жанчыны атрымалі права не толькі выбіраць, але і быць абранымі. Выбарчае права атрымалі таксама усе грамадзяне, якім споўнілася 18 гадоў, незалежна ад сац. паходжання, маёмаснага стану, нац. прыналежнасці і палітычнай дзейнасці. Выбары праводзіліся на аснове усеагульнага, роўнага і прамога выбарчага права пры тайным галасаванні. У выбарах 22.10.1939 з агульнай колькасці 2 763 191 выбаршчык у галасаванні удзельнічала 2 672 280 чал. (96,71%). Было абрана 929 дэпутатаў. Супраць галасавалі 247 245 выбаршчыкаў (9,3%), прызнаны несапраўднымі 14 932 бюлетэні. У 2 выбарчых акругах Вялікая Мазавецкага пав. (з агульнай колькасці акруг 929) кандыдаты не атрымалі большасці, і выбары былі праведзены паўторна. Пасяджэнне сходу адбылося 28—30.10.1939 у Беластоку. Прысутнічала 926 дэпутатаў, з іх паводле сац. складу — 563 селяніны, 197 рабочых, 112 прадстаўнікоў інтэлігенцыі, 29 служачых, 25 саматужнікаў, паводле нац. складу — 621 беларус, 127 палякаў, 72 яўрэі, 53 украінцы, 43 рускія і інш. Сярод дэпутатаў былі актыўныя удзельнікі

У зале пасяджэння **Народнага сходу Заходняй Беларусі**. Беласток. Кастрычнік 1939.

(1944) Скончыў Петраградскі ун-т (1922) З 1924 працаваў у Дзярж Эрмітажы, з 1935 у маскоўскай групе Гісторыка-археаграфічнага ін-та АН СССР (з 1936 Ін-т гісторыі АН СССР) Вывучаў гісторыю Русі эпохі феадалізму, гіст геаграфію, крыніцазнаўства Выявіў і даследаваў больш за 1000 стараж рукапісаў з летапіснымі тэкстамі, выдаў многія рус летапісы, у т л пскоўскія, наўгародскі 1-ы У працы «Руская зямля» і ўтварэнне тэрыторыі старажытнарускай дзяржавы» (1951) даследаваў Полацкую, Тураўскую, Брэсцкую землі Меркаваў, што ў 12 ст Літва размяшчалася па суседству з Мінскам і плаціла даніну Полацку Прааналізаваў працэс фарміравання і росту тэр Полацкай зямлі, прычыны барацьбы Полацка з Кіевам Выказаў меркаванне пра мясц паходжанне першага полацкага князя Рагвалода

*Тв* Монголы и Русь М , Л , 1940, История русского летописания XI — начала XVIII в М 1969

*Літ* Кучкин В А А Н Насонов Биогр и творческий путь // Летописи и хроники, 1973 г М , 1974 *Мікола Ермаловіч*

**«НАСТА́ЎНІЦКАЯ ГАЗЕ́ТА»**, рэспубліканская газета, разлічаная на работнікаў адукацыі Беларусі Выходзіць са снеж 1945 у Мінску на бел мове (да 1957 — 1 раз, з 1958 — 2 разы, з 1998 — 3 разы на тыдзень) Асвятляе шырокі комплекс праблем адукацыі і выхавання Інфармуе аб усім новым, эфектыўным, што нараджаецца пед практыкай і навукай, аналізуе развіццё пед думкі на Беларусі, асэнсоўвае і акумулюе шырокі спектр нестандартных ідэй, адукац тэхналогій і праектаў Расказвае пра рэформу агульнаадук школы, перуладкаванне прафесійнай і вышэйшай школы, пра сістэму адукацыі ў краінах замежжа Адрасавана настаўнікам, выкладчыкам, навукоўцам, навучэнцам, студэнтам, бацькам

**НАСТА́ЎНІЦКІЯ ІНСТЫТУ́ТЫ**, 1) педагагічныя навуч установы ў 1872—1918, якія рыхтавалі настаўнікаў *для гарадскіх вучылішчаў* (з 1912 для *вышэйшых пачатковых вучылішчаў*) Тэрмін навучання — 3 гады (у яўр — 4 гады) Прымаліся пераважна мужчыны ад 16 да 30 гадоў, правасл веравызнання, якія мелі стаж пед працы ў пач школе не менш за 2 гады На Беларусі дзейнічалі 5 Н і , якія падпарадкоўваліся Віленскай навуч акрузе Віленскі яўр (з 1873), Віленскі хрысціянскі (з 1875), Віцебскі (з 1910), Магілёўскі (з 1913), Мінскі (з 1914) Пры стварэнні Віцебскага Магілёўскага і Мінскага Н і матэрыяльную дапамогу аказалі органы гар самакіравання і земскія ўстановы Паводле статута 1872—76 Н і павінны былі даваць незакончаную вышэйшую адукацыю Аднак матэрыяльным забеспячэннем, аб'емам і зместам навуч праграм Н і саступалі ўзроўню гімназій і рэальных вучылішчаў Слухачы атрымлівалі дзярж стыпендыі У Н і выкладаліся педагогіка, псіхалогія, логіка гігіена, рус мова і л-ра, багаслоўскія дысцыпліны, сусв л-ра, геаграфія, гісторыя сусв і Расіі, матэматыка, прыродазнаўства, фізіка, хімія, астраномія, чарчэнне і маляванне, музыка і спевы, гімнастыка і інш , у Віленскім і Віцебскім Н і — і ручная праца Значная ўвага аддавалася гуманітарным прадметам, методыцы выкладання, правасл выхаванню Для правядзення практычных пед заняткаў пры Н і дзейнічалі ўзорныя гар вучылішчы У 1907 пед радам ін-таў пры ўзгадненні з кіраўніцтвам навуч акругі дазволена ўносіць змены ў навуч праграмы З 1910-х г у Н і Беларусі факультатыўна выкладаліся замежныя мовы, пашырыўся змест навуч праграм У 1915 пры Н і створаны аднагадовыя пед курсы з увядзеннем спецыялізацыі па падрыхтоўцы настаўнікаў, на якія прымалі і жанчын Пасля Лют рэвалюцыі 1917 пры паступленні ў ін-ты адменены паліт , рэліг , нац і інш абмежаванні, Н і пераўтвораны ў навуч установы змешанага тыпу (прымалі і мужчын, і жанчын) Паводле рашэнняў Усерас з'езда выкладчыкаў Н і (Пецярбург, жн 1917) у ін тах уводзілася спецыялізацыя на гіст -славесным, фіз -матэм і геагр - прыродазнаўчым аддзяленнях, выпускнікам дазвалялася паступаць у ВНУ, навуч праграмы набліжаны да ўзроўню вышэйшай школы, уводзілася выкладанне стараж і замежных моў, філасофіі, эканам дысцыплін, сацыялогіі і інш Н і абвяшчаліся аўтаномнымі навуч установамі з непасрэдным падпарадкаваннем Мін-ву асветы Расіі, уводзілася выбарнасць пед кіраўніцтва Дазвалялася вывучэнне нац моў, л-ры, гісторыі, краязнаўства, выкладанне на роднай мове студэнтаў, утварэнне нац аддзяленняў Асн форма выкладання — лекцыйная Узорныя гар вучылішчы пры Н і пераўтвораны ў вышэйшыя пач вучылішчы У 1918—19 Н і рэфармаваны ў *педагагічныя інстытуты* 2) Пед навуч установы ў 1930—50-я г , якія рыхтавалі настаўнікаў для 5—7-х класаў 7-гадовых і сярэдніх школ Створаны ў сувязі з пераходам да ўсеагульнага 7-гадовага навучання ў СССР У БССР у 1936 Н і арганізаваны ў Мінску (у 1947 пераведзены ў Маладзечна), Віцебску, Гомелі, Оршы, Рагачове, у 1937 — у Магілеве, у 1940 — у Баранавічах, Гродне, Пінску, у 1945 — у Брэсце У 1950-я г пераўтвораны ў пед ін-ты або пед вучылішчы

*Літ* Асвета і педагагічная думка ў Беларусі Мн , 1985, Кравцов А И Педагогическое образование в Белоруссии в дооктябрьский период // Уч зап Минского гос пед ин-та иностр яз Сер пед 1958 Вып 1 *Уладзімір Ляхоўскі*

**НАСТА́ЎНІЦКІЯ СЕМІНА́РЫІ**, спецыяльныя пед. навуч установы ў 19 — пач 20 ст , якія рыхтавалі настаўнікаў для пач школ Першая ў Беларусі Н с дзейнічала ў Віцебску ў 1834—39 Пасля падаўлення паўстання 1863—64 рас ўрад пайшоў на стварэнне Н с у Беларусі з мэтаю падрыхтоўкі настаўнікаў для новаўтвораных рускамоўных пач школ Створаны 4 Н с Маладзечанская (1864, першая на тэр Рас імперыі), Полацкая (1872), Нясвіжская (1875), Свіслацкая (1876) Паводле новага статута ў семінарыі прымалі мужчын правасл веравызнання, якія скончылі *двухкласнае пачатковае вучылішча* з 5—6-гадовым курсам Навучэнцы атрымлівалі дзярж стыпендыі Тэрмін навучання — 3 гады Выкладаліся багаслоўскія дысцыпліны, рус мова і л-ра, арыфметыка з пачаткамі алгебры, геаметрыя, прыродазнаўства, фізіка, гісторыя і геаграфія Расіі, чарчэнне, маляванне, музыка і спевы, пед дысцыпліны, методыка выкладання ў пач школе і інш Пры Н с дзейнічалі ўзорныя пач вучылішчы для правядзення практычных пед заняткаў слухачоў Паводле палажэння Мін-ва асветы Расіі ад 11 3 1902 у Н с павялічаны тэрмін навучання да 4 гадоў, колькасць навуч гадзін па некат прадметах, уведзены заняткі па ручной працы Значная ўвага аддавалася практычным пед заняткам і методыцы выкладання У час рэвалюцыі 1905—07 навучэнцы Н с Беларусі ўдзельнічалі ў антыўрадавых выступленнях, у бел нац -вызв руху У 1908 дазволены жаночыя Н с На пач 20 ст адкрыта яшчэ 5 Н с мужчынская ў Рагачове (1909), жаночыя ў Оршы (1911), Барысаве і Гомелі (1915), Бабруйску (1916) У 1-ю сусв вайну Маладзечанская, Нясвіжская і Свіслацкая Н с эвакуіраваны ў Расію У чэрв 1917 Н с прыраўнаваны да сярэдніх навуч установ (гімназій і рэальных вучылішчаў), пры паступленні адменены ўсе абмежаванні паліт , рэліг , нац і інш характару, пераўтвораны ў навуч установы змешанага тыпу (прымалі мужчын і жанчын) Тэрмін навучання павялічаны да 5 гадоў Уведзена выкладанне замежных моў, сусв гісторыі, геаграфіі і інш У 1919—20 паводле пастановы Наркамасветы РСФСР Н с Беларусі пераўтвораны ў 3-гадовыя пед курсы, у 1920-я г — у пед тэхнікумы

*Літ* Асвета і педагагічная думка ў Беларусі Мн , 1985, Кравцов А И Педагогическое образование в Белоруссии в дооктябрьский период // Уч зап Минского гос пед ин-та иностр яз Сер пед 1958 Вып 1 *Уладзімір Ляхоўскі*

**НАТАЛЕ́ВІЧ** Нічыпар Якаўлевіч [4(17) 5 1900, г Орша — 28 3 1964], дзярж дзеяч БССР Скончыў Ваен -паліт акадэмію імя Талмачова ў Ленінградзе (1934) Удзельнік грамадз вайны У 1919—37 у Чырв Арміі палітрук роты, камісар палка, нач палітаддзела дывізіі З ліст 1937 да ліп 1938 в а старшыні ЦВК БССР У 1938—47 старшыня Прэзідыума Вярх Савета БССР і нам старшыні Прэзідыума Вярх Савета СССР У 1948—56 на адказных пасадах у Пензенскай вобл У 1956—60 на гасп рабоце ў Мінску, Баранавічах, Брэсце Чл ЦК у 1937—47, Бюро ЦК КП(б)Б у 1938—47 Дэп Вярх Савета СССР у

фондаў, 906,4 тыс спраў (1998) Дакументы адлюстроўваюць падзеі Кастр рэвалюцыі і ўстанаўлення сав улады на тэр Беларусі, утварэнне БНР і БССР, дзейнасць КПБ і ЛКСМБ, аднаўленне нар гаспадаркі і развіцце культуры ў 1920-я г, сацыяліст буд-ва, нац-вызв рух у Зах Беларусі, устанаўленне ням акупац рэжыму ў гады Вял Айч вайны і барацьбу бел народа супраць гітлераўцаў, развіцце партыз руху і патрыят падполля, аднаўленне і развіцце эканомікі і культуры ў пасляваенны час, станаўленне суверэннай Рэспублікі Беларусь Архіў займаецца н д дзейнасцю, распрацоўвае пытанні дакументазнаўства, тэорыі і методыкі архівазнаўства Разам з інш навук ўстановамі рыхтуе дакумент выданні Працуюць аддзелы забеспячэння захавання дакументаў і фондаў, інфарм-пошукавых сістэм, справаводства, камплектавання і ведамасных архіваў, навук выкарыстання дакументаў і інфармацыі, асабістых фондаў, дакументаў Вял Айч вайны, навук-тэхн апрацоўкі дакументаў, публікацыі дакументаў, бібліятэка (8,1 тыс экз кніг, 1,7 тыс гадавых камплектаў часопісаў, 1,5 тыс гадавых камплектаў газет)

*Літ* Центральный государственный архив Октябрьской революции и социалистического строительства БССР Путеводитель Мн, 1967, Архивное дело в БССР (1918—1968) Мн, 1972, Государственные архивы СССР Справ Т 2 М, 1989, Национальный архив Республики Беларусь Мн, 1997

*Вячаслаў Селяменеў*

**НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГІСТАРЫ́ЧНЫ АРХІЎ БЕЛАРУ́СІ** Засн 5 7 1938 пастановай ЦВК БССР як Цэнтр гіст архіў на базе Магілеўскага гіст архіва У ліст 1963 пераведзены з Магілева ў Мінск, дзе яму перададзены дакументы дарэв фондаў Дзярж архіва Мінскай вобл і комплекс старадаўніх актаў з ЦДГІА БССР у Гродне У 1992—95 у складзе Нац архіва Рэспублікі Беларусь 12 6 1995 вылучаны ў самастойны Нац гіст архіў Беларусі На 1 1 1998 у архіве 3091 фонд, 1 013 256 спраў, 7 005 095 кадраў фотакопіі Захоўвае дакументы Нац архіўнага фонду Рэспублікі Беларусь з 14 да пач 20 ст Сярод іх стараж акты магістратаў, гродскіх, земскіх, каптуровых, падкаморскіх, камісарскіх кампрамісарскіх, канфедэрацкіх, эксдэвізарска-таксатарскіх судоў, цывільна вайсковых парадкавых камісій, каралеўскіх эканомій ВКЛ, Рэчы Паспалітай на тэр Беларусі (15—18 ст), дакументы губ, пав і валасных органаў кіравання, прам-сці, буд-ва, транспарту, сувязі, гандлю, сельскай гаспадаркі, фін, судовых, жандарскіх, паліцэйскіх, навук, культ-асв, нар адукацыі, аховы здароўя і інш устаноў Рас імперыі б Полацкай, Бел, Магілеўскай, Мінскай і Віцебскай губ (за 1772—1918), фамільныя фонды кн Радзівілаў, Любамірскіх і інш магнатаў, дакументы рэліг культу, грамадскіх і дабрачынных арг-цый, падзей рэвалюцыі 1905—07 і Лют рэвалюцыі 1917, копіі архіўных дакументаў на правах арыгіналаў, мікрафільмы і інш копіі дакументаў, якія захоўваюцца ў замежных архівах Дакументы на стараж -бел, рус, польскай, ням, франц і лац мовах

Тэкставыя і графічныя матэрыялы, якія захоўваюцца ў архіўных фондах, былі выкарыстаны пры распрацоўцы праектаў кансервацыі, рэстаўрацыі і пашпартызацыі шэрагу помнікаў архітэктуры Беларусі, у т л Сафійскага са бора ў Полацку (11—18 ст), касцела Святога Роха ў Мінску (19 ст), тэатра імя Я Купалы (19 ст) і інш Архіў сумесна з Дзяржкамархівам распрацоўвае праграму «Наш радавод», якая прадугледжвае стварэнне агульнанац банка даных генеалагічнай інфармацыі, пытанні тэорыі і методыкі архівазнаўства і інш дапаможных гіст дысцыплін, рыхтуе дакументы да выдання Аддзелы забеспячэння захаванасці дакументаў і фондаў, інфармацыі, публікацыі і навук выкарыстання дакументаў, стараж актаў, аўтаматызаваных архіўных тэхналогій, інфармацыйна-пошукавых сістэм Навукова-даведачная б-ка (25 680 тыс экз кніг, 11 204 дарэв газет і часопісаў)

*Літ* Центральный государственный исторический архив БССР в Минске Путеводитель Мн, 1974, Архивное дело в БССР (1918—1968) Мн, 1972

*Ала Галубовіч*

**НАЦЫЯНА́ЛЬНЫ ГІСТАРЫ́ЧНЫ АРХІЎ БЕЛАРУ́СІ** ў Гродне Засн ў 1940 як філіял Цэнтр гіст архіва БССР, у 1960 пераўтвораны ў Цэнтр дзярж гіст архіў у Гродне, з 1993 наз Бел дзярж гіст архіў, з 1995 — Нац гіст архіў, з 1996 сучасная назва Размяшчаецца ў будынку — помніку архітэктуры канца 18 ст На 1 1 1988 у архіве 1200 фондаў, 408 тыс спраў Захоўвае пераважна дакументы ўстаноў б Гродзенскай губ і Віленскага, Дзісенскага, Лідскага, Ашмянскага пав Віленскай губ Рас імперыі за 19 — пач 20 ст, у асобных фондах — дакументы 16—18 ст Матэрыялы адлюстроўваюць грамадска-паліт жыццё б Гродзенскай губ, гісторыю нац-вызв, рэв-дэмакр руху, маюць звесткі пра колькасны і склад насельніцтва, адм-тэр падзел прававы стан саслоўяў, жыццё і дзейнасць вядомых прадстаўнікоў грамад ска-паліт руху, навукі, культуры (Т Касцюшкі, П Багрыма, Э Ажэшкі і інш), падзеі вайны 1812 Ёсць дакументы пра паўстанне 1863—64, дзейнасць К Каліноўскага і яго паплечнікаў, сял рэформу 1861, сталыпінскую агр рэформу, дзейнасць паліт партый і прафсаюзаў, устаноў эканомікі, гаспадаркі, нар адукацыі, аховы здароўя Захоўваюцца радавыя фонды Быхаўцаў і Слізняў, фонды органаў саслоўнага самакіравання, фінансава-падатковых устаноў, рэліг канфесій Аддзелы забеспячэння захаванасці дакументаў і фондаў уліку дакументаў, інфарм пошукавых сістэм і аўтаматызаваных архіўных тэхналогій, выкарыстання і публікацыі дакументаў, лабараторыя забеспячэння захаванасці і мікрафільмавання дакументаў Працуюць б-ка (каля 11 тыс кніг і брашур, 5 тыс перыяд выданняў), чытальная зала

*Літ* Центральный государственный исторический архив БССР в г Гродно Путеводитель Мн, 1965

*Карына Батракова*

**НАЦЫЯНА́ЛЬНЫ КАМІТЭ́Т «СВАБО́ДНАЯ ГЕРМА́НІЯ»**, кіруючы орган руху ням патрыетаў-антыфашыстаў, створаны па ініцыятыве ЦК КП Германіі на тэр СССР у ліп 1943 На тэр Беларусі ў сак — ліп 1944 дзейнічалі 2 групы к-та Група № 117 (ням антыфашысты Г Генчке, Э Карвінскі, Г Кронаўэр, О Меер, К Рынагель, Ф Шэфлер і інш, сав афіцэры А А Казлоў, І А Колас, Г Ф Храмушына) дыслацыравалася ў размяшчэнні партыз брыгад імя Чкалава і імя Сталіна Баранавіцкай вобл Выдала ў паходнай друкарні 40 назваў лістовак (тыраж некалькі тыс экз) з тлумачэннямі мэт к-та, доказамі непазбежнасці паражэння гітлераўскай арміі і распаўсюдзіла іх у варожых гарнізонах Баранавіч, Барысава, Дзяржынска Мінска і інш У час *Беларускай аперацыі 1944* чл групы ў ролі «рэгуліроўшчыкаў» накіроўвалі адступаючыя часці гітлераўцаў па дарогах, якія кантраляваліся партызанамі У якасці парламенце

**Будынак Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі ў Гродне**

раў і перакладчыкаў сустракаліся з салдатамі і афіцэрамі вермахта, пераконвалі іх у бессэнсоўнасці супраціўлення і прапаноўвалі ім скласці зброю. Другая група (антыфаш. Г. Шаўэр, А. Готэ, Т. Цымерман, Э. Апельт і інш.) на чале з падпітработнікам М. Дз. Дзятленкам размяшчалася ў раёне дзеяння Лагойскай партыз. брыгады «Бальшавік». Чл. групы на партатыўным станку надрукавалі 15 назваў лістовак тыражом 150—800 экз. і з дапамогай партызан і падпольшчыкаў распаўсюдзілі іх у 24 нас. пунктах, дзе дыслацыраваліся варожыя гарнізоны, у т. л. ў Вілейцы, Красным, Лагойску, Маладзечне, Мінску, Плешчаніцах.

*Ілья Барысаў.*

**НАЦЫЯНА́ЛЬНЫ МАСТА́ЦКІ МУЗЕ́Й РЭСПУ́БЛІКІ БЕЛАРУ́СЬ**, рэспубліканскі музей выяўленчага мастацтва. Засн. ў Мінску ў 1939 (да 1957 Дзярж. карцінная галерэя, у 1957—93 Дзярж. маст. музей). Да 1941 размяшчаўся ў прыстасаваным памяшканні, фонд складаў больш за 4 тыс. экспанатаў. Асновай калекцыі сталі творы, якія паступілі ад гіст.-краязн. музеяў Мінска, Віцебска, Магілёва і інш.: бел. абразы (больш за 60), драўляная скульптура 16—18 ст., *слуцкія паясы*, бел., рус. і зах.-еўрап. жывапіс. У музеі былі значныя калекцыі мэблі, у т. л. эпохі Людовіка XIV і майстэрні Жакоб, збор камінных гадзіннікаў, вял. калекцыя фарфору рас. мануфактур (500 экспанатаў), зах.-еўрап. (800 твораў), у т. л. 210 экспанатаў мейсенскага фарфору, кітайскі фарфор, больш за 30 твораў *Урэцкай шкляной мануфактуры*, 200 посцілак бел. нар. ткацтва, каўказскія дываны, франц. габелены 18 ст. Асаблівую каштоўнасць мелі 48 слуцкіх паясоў, сярод якіх «літыя» залататканыя паясы фабрык Маджарскага ў Слуцку, Пасхаліса ў Ліпкаве, Ф. Маслоўскага ў Кракаве. Бел. мастацтва 18—20 ст. было прадстаўлена творамі С. Богуш-Сестранцэвіча, Л. Альпяровіча, М. Філіповіча, Я. Кругера, Ю. Пэна, М. Сляпяна, В. Цвіркі, У. Хрусталева, А. Шаўчэнкі, А. Тычыны, М. Тараскава, М. Пашкевіча, А. Мазалева, У. Кудрэвіча, Л. Красоўскага, К. Касмачова, В. Волкава, Г. Віера, Л. Зевіна, А. Бразера, рас. жывапісу — творамі А. Антропава, К. Брулова, Ф. Рокатава, Дз. Лявіцкага, У. Баравікоўскага, В. Трапініна, І. Айвазоўскага, М. Ярашэнкі, І. Крамскога, В. Паленава, І. Шышкіна, Ф. Васільева, І. Рэпіна, В. Сярова і інш. Творы сав. мастакоў І. Грабара, Ф. Багародскага, П. Канчалоўскага, М. Рамадзіна, А. Рылова. У графічным раздзеле больш за 700 гравюр, афортаў, літаграфій бел., рас. і зах.-еўрап. майстроў, што паступілі з фондаў Эрмітажа і Музея выяўл. мастацтваў імя Пушкіна. У Вял. Айч. вайну галерэя разрабавана ням.-фаш. захопнікамі. Пасля вайны невял. колькасць экспанатаў знойдзена і вернута ў музей. Зноў адкрыты ў 1945 (дырэктар у 1944—77 А. Аладава), з 1957 размешчаны ў спец. узведзеным паводле праекта арх. М. Бакланава будынку (пл. 10 экспазіц. залаў 1749 м², больш за 22 тыс. твораў на 1997). Першымі экспанатамі новага збору сталі скульпт. партрэты М. Гастэлы работы А. Бембеля і Ф. Смалячкова работы З. Азгура, жывапісны партрэт «Юны партызан» Я. Зайцава. Былі набыты палотны мастакоў-беларусаў І. Аляшкевіча, В. Бялыніцкага-Бірулі, А. Гараўскага (гл. ў арт. *Гараўскія*), С. Жукоўскага, С. Заранкі, Н. Сільвановіча, І. Хруцкага. У канцы 1940 — 1960-х г. фонды музея папаўняліся творамі класічнай айч. спадчыны, фарміраваліся вял. калекцыі бел. мастацтва 16—20 ст.: абразы, стараж. драўляная скульптура, прыкладное мастацтва, жывапіс, скульптура, графіка, творы рус. і сав. майстроў, Зах. Еўропы і краін Усходу. Экспедыцыйная дзейнасць, збор, вывучэнне і рэстаўрацыя помнікаў далі магчымасць сабраць найкаштоўнейшую калекцыю нац. мастацтва, у т. л. абразы 15—18 ст. «Маці Божая Адзігітрыя», «Параскева Пятніца», «Маці Божая Адзігітрыя Смаленская», «Нараджэнне Маці Божай» Пятра Яўсеевіча з Галынца, «Выбраныя святыя Васіль Вялікі, Рыгор Багаслоў, Іаан Златавуст» з Шарашова і інш. Адноўлена калекцыя партрэтаў са збору Радзівілаў. Сярод новага збору лепшыя творы рас. мастакоў Айвазоўскага, Баравікоўскага, Брулова, А. Ласенкі, Рэпіна, В. Сурыкава, Сярова, Трапініна, М. Урубеля, Шышкіна. Музей праводзіць н.-д., збіральніцкую і папулярызатарскую работу, наладжвае выстаўкі твораў айч. і замежных майстроў, ажыццяўляе навук. і творчую сувязь з музеямі за межамі рэспублікі, арганізоўвае выставачны абмен, праводзіць лекцыі, экскурсіі, заняткі клубаў мастацтвазнаўцаў і аматараў мастацтва, памагае ствараць карцінныя галерэі, маст. аддзелы ў інш. музеях рэспублікі. Выдае каталогі, альбомы, паштоўкі, рэпрадукцыі (альбом-каталог «Бялыніцкі-Біруля», 1974, «Руская і савецкая скульптура», 1977, «Беларуская савецкая скульптура», «Беларускі савецкі жывапіс», абодва 1978, «Беларускія народныя тканіны», 1979, «Жывапіс Беларусі XII—XVIII стст.», 1980, «Другое нараджэнне партрэтаў з Нясвіжа і Гродна», 1981, «Пластыка Беларусі XII—XVIII стст.», 1983, «Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва Беларусі XII—XVIII стст.», «Руская дарэвалюцыйная і савецкая гравюра і літаграфія ў зборы Дзяржаўнага мастацкага музея БССР», абодва 1984, «Музей В. К. Бялыніцкага-Бірулі», 1988, «Іван Хруцкі», 1990, і інш.). Мае філіялы: Музей нар. мастацтва ў Раўбічах Мінскага р-на, Музей Бялыніцкага-Бірулі ў Магілёве, карцінная галерэя ў в. Гурыны Мазырскага р-на, аддзелы музея — выставачная зала ў б. кляштары францысканцаў 17 ст. ў в. Гальшаны Ашмянскага р-на, Мірскі замак (Карэліцкі р-н). Плануецца адкрыць музеі ў доме бел. мастака 19 ст. В. М. Ваньковіча, Лошыцкай сядзібе, музей-майстэрню З. Азгура (усе ў Мінску). Мае бібліятэку, рэстаўрацыйную майстэрню.

*Літ.:* Государственный художественный музей БССР. М., 1958; Дзяржаўны мастацкі музей БССР: Кароткі давед. Мн., 1969; Дзяржаўны мастацкі музей БССР: [Альбом]. Мн., 1979; Государственный художественный музей БССР: Собр. живописи XV—XX вв.: [Альбом]. М., 1989; Дзяржаўны мастацкі музей БССР: [Альбом]. Мн., 1990.

*Юрый Карачун.*

**НАЦЫЯНА́ЛЬНЫ МУЗЕ́Й ГІСТО́РЫІ І КУЛЬТУ́РЫ БЕЛАРУ́СІ.** Засн. 31.1.1957 у Мінску як Бел. дзярж. гісторыка-краязнаўчы музей. З 13.11.1964 Дзярж. музей БССР. Адкрыты ў 1967. З 1992 сучасная назва. 10 экспазіцыйных і выставачных залаў (пл. 1214 м²), больш за 250 тыс. экспанатаў асн. фонду (1998). Стацыянарныя экспазіцыі: «Старажытная Беларусь» (першабытная эпоха і сярэдневякоўе), «Старадаўняя геральдыка Беларусі», «З гісторыі зброі», «Стары гарадскі побыт» (19 — пач. 20 ст.). У фондах музея зберагаюцца калекцыі археалогіі, нумізматыкі, сфрагістыкі, зброі, старадрукаў, этнаграфіі, керамікі, нар. строю, выяўл. мастацтва, іканапісу, нар. мастацтва, фарфору і шкла, фотадакументальных і пісьмовых крыніц. Да унікальных помнікаў адносяцца рэшткі першабытнага жытла з касцей маманта (18—16-е тыс. да н. э.), неалітычныя прылады працы з крэменездабыўных шахт, драўляная фігурка чалавека (канец 3 — пач. 2-га тыс. да н. э.), стараж. язычніцкі ідал (6 ст.). Сярод твораў сярэдневяковага рамяства і мастацтва ўпрыгожанні з косці, шкла і бурштыну, метал. абразкі, разьбяныя алтарныя вароты, драўляная культавая скульптура, слуцкія паясы, паліхромная кафля, урэцкае і налібоцкае шкло. У зборы старадрукаў і рукапісаў — выданні бел. друкарняў 16—18 ст., у т. л. «Мінея на сакавік і красавік» (1521, Тураў), «Служэбнік і Тыпікон» (16 ст.), «Ірмалогій» (1651, Куцейна), каралеўскія і княжацкія граматы з віслымі пячаткамі 16 ст. Музей захоўвае больш за 80 манетна-рэчавых скарбаў, знойдзеных на тэр. Беларусі. Нумізматычная калекцыя ахоплівае перыяд ад манет стараж. Усходу, Грэцыі і Рыма да сучаснасці. Сфрагістычная калекцыя ўключае канфесійныя, фальварковыя, асабістыя пячаткі, у т. л. пячатку Гал. трыбунала ВКЛ Гродзенскай кадэнцыі 1788. У музеі захоўваюцца найб. поўныя ў Беларусі калекцыі нар. строю, медната посуду, керамікі ўсіх этнагр. рэгіёнаў. Фотадакумент. матэрыялы адлюстроўваюць шырокі спектр гісторыі Беларусі, уключаюць асабістыя матэрыялы дзеячаў гісторыі і культуры. Сярод іх каля 200 малюнкаў радаводаў бел. шляхты; вял. калекцыя бел. фотамайстроў С. Юхніна, М. Напельбаума, І. Метора, фотаальбом сям'і Ф. Багушэвіча, дакументы і асабістыя рэчы М. Багдановіча, фотаматэрыялы этнагр. экспедыцыі І. Сербава, навук. л-ра бел. вучоных П. Шэйна,

2 и пал 1930-х г усе такія адзінкі скасаваны, многія іх кіраўнікі рэпрэсіраваны па абвінавачанні ў шпіянажы на карысць сваіх «гістарычных айчын» Гл таксама *Латышы, Літоўцы, Немцы, Палякі, Рускія, Украінцы, Яўрэі*

*Літ* Административно-территориальное устройство БССР Справ Т 1 (1917—1941 гг) Мн 1985 *Анатоль Валахановіч*

**НАЦЫЯНА́ЛЬНЫЯ МЕ́НШАСЦІ**, групы насельніцтва пэўнай нацыянальнасці, якія расселены ў іншанац асяроддзі па-за межамі ўласных дзярж утварэнняў або не маюць такіх Утвараюць этнакульт супольнасць, якая пэўным чынам інтэгруецца з тытульнай (часта карэннай) большасцю Урэгуляванасць, гарманічнасць адносін дзяржавы з Н м з'яўляецца важнай прыкметай цывілізаванай, праваеой краіны На бел землях Н м вядомы з 12—13 ст калі пачалося пранікненне мазураў (польская этнагр група) на З сучаснай Беларусі Прыблізна тады ці раней з'явіліся першыя групы *яўрэяў* (гандляры, рамеснікі і інш) У 13 ст пад націскам Тэўтонскага і Лівонскага ордэнаў і мазурскай экспансіі на Падляшша на У перасяляліся розныя групы балцкага насельніцтва прод кі сучасных *латышоў* (лотва, латыгола), *ліцвягі, прусы* Пасля Люблінскай 1569 і асабліва Брэсцкай 1596 уній перасялен не з этнічнай Польшчы («Кароны») *палякаў*, перш за ўсе мазураў, яўрэяў, набыло больш шырокі характар, у наступ ныя стагоддзі адбывалася паланізацыя значнай колькасці прадстаўнікоў пануючых класаў У 1-й пал 14 ст пры вял кн ВКЛ *Гедзіміне* былі запрошаны пер шыя *немцы* — рамеснікі, у 16 ст немцы перасяляліся ў Віцебск і Полацк *Цыганы* прыйшлі на Беларусь у 15 ст з Польшчы і Германіі, у канцы 16 — пач 17 ст — з Венгрыі. *Татары*, якія з 14 ст сяліліся тут як палонныя, а потым і вольныя, трывала замацаваліся ў бел грамадстве і захавалі сваю этнакультурную адметнасць *Літоўцы* традыцыйна жылі ў шэрагу мясцовасцей на ПнЗ Беларусі На У Беларусі яны і латышы з'явіліся ў выніку перасяленняў у 2-й пал 19 ст Колькасць *рускіх* (пераважна стараверaў) доўгі час была нязначнай, толькі пасля 1863 у Паўн -Зах край былі пераселены групы рус сялян і інш У 1860—70-я г на ПнУ бел зямель з'явіліся групы *эстонцаў* У 1897 найб Н м Беларусі яўрэі (890 тыс), рускія (250 тыс), палякі (324,2 тыс) На працягу стагоддзяў у ВКЛ былі талерантныя адносіны да Н м (мела месца адно буйное ганенне на яўрэяў пры вял кн *Аляксандру* ў пач 16 ст) Такая палітыка у асн працягвалася і ў Рэчы Паспалітай, хоць у 17 ст ў перыяд *контррэфармацыі* каталіцкая царква праследавала татар У 19 — пач 20 ст. царскі ўрад не садзейнічаў развіццю нац культур народаў Беларусі Абмежаванні ў правах тычыліся пераважна яўрэяў (пражыванне ў *мяжы яўрэйскай аселасці*, працэнтная норма пры паступленні ў ВНУ і інш) У сав час пачаўся ўздым нац культ будаўніцтва Н м У 1920—30-я г ў БССР ствараліся нац адм -тэр адзінкі, найперш сельскія і мястэчковыя Саветы латышскія, літоўскія, нямецкія польскія, рускія, украінскія, яўрэйскія, нац калгасы У 1932 створаны *Польскі нацыянальны раен* Працавалі нац школы, у канцы 1920-х г дзейнічалі 3 яўрэйскія, 1 польскі педтэхнікумы, літ аддзяленне пры Белпедтэхнікуме, ад дзяленні пед ін-таў, дзярж польскі вандроўны і яўр тэатры Пры Ін-це бел культуры (пазней у складзе Бел АН) існавалі нац н-д ўстановы У 1920—30-я г Белдзяржвыдавецтва выдавала л-ру на мовах Н м (яўрэйскай, польскай, літоўскай, латышскай) Рабочымі мовамі на Бел радые побач з бел былі літоўская, латышская, польская, руская, яўрэйская, а таксама эсперанта Для 1920-х г характэрна і т зв «экзатычнае» нац будаўніцтва, напр землеўпарадкаванне ў Беларусі *кітайцаў* і асірыйцаў, стварэнне асірыйскай школы, кітайскага, эстонскага нац калгасаў і інш У 1927 праведзена Усебел выстаўка дасягненняў нацменшасцей, экспанаты прадстаўлялі культ і гасп дзейнасць яўрэяў, палякаў, латышоў, літоўцаў Сав Беларусі У 1930-я і БССР была рэспублікай-шэфам яўр нац будаўніцтва на Далёкім Усходзе — Яўрэйскай аўтаномнай вобласці з цэнтрам у Біраб́іджане У канцы 1930-х г нац -культ работа сярод Н м згорнута Фактычна толькі яўрэі (а пасля ўз'яднання Зах Беларусі ў 1939 таксама палякі, *украінцы*, літоўцы) захавалі свае культ -асв ўстановы У Вял Айч вайну ням -фаш захопнікамі пад пагрозу было пастаўлена само фізічнае існаванне яўрэяў і цыганоў, якія шукалі паратунку у эвакуацыі на У СССР Пасля вайны да 1947 працаваў Дзярж яўр тэатр БССР У 1957 у раенах з літ насельніцтвам створана 8 школ з выкладаннем літ мовы (засталіся 3) У 1989 у БССР было 1 342 089 рускіх (13,2%), 417 720 палякаў (4,1%), 291 008 украінцаў (2,9%), 111 883 яўрэяў (1,1%) У выніку працэсаў дэмакратызацыі ў канцы 1980 — пач 1990-х г аднавілася нац -культ будаўніцтва сярод Н м, шэраг Н м (рускія, палякі, яўрэі, немцы, татары, украінцы, літоўцы, карэйцы, армяне, азербайджанцы, пазней латышы) утварылі ўласныя грамадска-культ арг-цыі для развіцця нац культуры і моў У 1993—95 існавала паліт арг-цыя польскага насельніцтва Беларусі — Польскае дэмакратычнае аб'яднанне Арг-цыям Н м аказваецца дапамога фондамі дабрачыннасці і інш грамадскімі арг-цыямі краін, дзе гэтыя меншасці з'яўляюцца тытульнымі нацыямі (яўрэйскім — Ізраіля, польскім — Польшчы, літоўскім — Літвы і інш, татарскім — Рэспублікі Татарстан у складзе Расіі, а таксама буйных мусульманскіх краін — Турцыі, Саудаўскай Аравіі і інш) У пасляваен час у выніку міграцый адбылося скарачэнне колькасці яўрэяў і палякаў Беларусі, стала больш рускіх і ўкраінцаў Аднак сярод пасляваенных перасяленцаў з Віленшчыны, Чарнігаўшчыны, зах абласцей Расіі, якія афіцыйна лічацца адпаведна палякамі, украінцамі, рускімі, значную частку склалі выхадцы з этнаграфічных бел тэрыторый Юрыд аснова для забеспячэння грамадска-паліт і культ - духоўных правоў Н м закладзена ў Законе Рэспублікі Беларусь «Аб нацыянальных меншасцях у Рэспубліцы Беларусь» (11 11 1992), які гарантуе свабоднае развіццё ўсіх Н м, забяспечвае захаванне і развіццё іх культур, садзейнічае гарманізацыі міжнац адносін, дазваляе ствараць іх нац грамадскія арг-цыі і культ -асв ўстановы Вывучэннем гісторыі і культуры Н м займаюцца Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору і Ін-т гісторыі Нац АН Беларусі У 1994—96 выдаваўся часопіс «Форум», прысвечаны гэтым пытанням З 1993 існуе Савет па справах рэлігіі і нацыянальнасцей пры СМ Рэспублікі Беларусь, з 1994 — Цэнтр нац культур Беларусі Утворана і працуе Міжнар акадэмія вывучэння Н м, якая выдае з 1997 свой час «Весці Міжнароднай акадэміі вывучэння нацыянальных меншасцей Нацыянальныя меншасці на Беларусі і ў свеце» *Ігар Карашчанка*

**НА́ЧА**, веска, цэнтр сельсавета ў Воранаўскім р-не, на р Начка За 41 км на З ад Воранава, 35 км ад чыг ст Бастуны, аўтамаб дарогай звязана з г п Радунь 445 ж, 173 двары (1998)

Вядома не пазней 16 ст як уладанне Касцевічаў Адзін з іх, Януш, ваявода падляшскі ў 1529 заснаваў у Н касцел і перанес сюды цэнтр парафіі з Дубіч Пазней належала Кішкам, Радзівілам Паводле рэвізіі 1631, была населена татарамі (цяпер жывуць толькі ў суседняй весцы Некрашунцы) З 1795 у Рас імперыі У 19—пач 20 ст у Каняеўскай вол Лідскага пав Віленскай губ У 1886 мястэчка, 272 ж, 16 двароў, касцел, 3 карчмы, крама, таржок З 1921 у складзе Польшчы, у Лідскім пав Навагрудскага ваяв З 1939 у БССР З 12 10 1940 цэнтр сельсавета *Радунскага раена* З 25 12 1962 у Воранаўскім р-не Цэнтр калгаса «Светлы шлях» Камбінат быт абслугоўвання Сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, фельч -ак пункт, аддз сувязі, магазіны Помнік землякам, якія загінулі ў Вял Айч вайну Магілы Т *Нарбута*, В А *Шукевіча*, вучонага-натураліста С Б Юндзіла За 300 м на ПнЗ ад вескі ва ўрочышчы Пліт́ніца помнік археалогіі — стаянка Помнік архітэктуры — касцел Ушэсця Дзевы Марыі (1910)

**«НАШ ГО́ЛАС»**, газета рэв -дэмакр кірунку ў Зах Беларусі Выдавалася *Беларускай сялянска-работніцкай грамадой* з 27 1 да 28 2 1927 у Вільні на бел мове 2 разы на тыдзень Адлюстроўвала рэпрэсіі польскага ўрада супраць бел нац -вызв руху, выкрывала паклёп бурж прэсы на яго арыштаваных прадстаўні-

інтэлігенцыі У Знамяроўскі, Я Германовіч, А Станкевіч, Б Тарашкевіч і інш *Аляксандр Вабішчэвіч*

**«НА́ША БУ́ДУЧЫНЯ»**, штотыднёвая газета Беларускай рэв арг-цыі Выдавалася з 8 12 1922 да 14 1 1923 у Вільні на бел мове Рэдактар А Амельяновіч, рэдактар-выдавец Л Родзевіч. Ставіла сабе за мэту абуджэнне ў народзе веры ва ўласныя сілы, у перспектыву вызв руху (перадавіцы «Будзьма сільнымі», «Па-за пагранічнымі капцамі», «Верым у будучыню») Паведамляла пра поспех *Блока нацыянальных меншасцей* на выбарах у 1922 у польскі сейм і сенат, стварэнне ў ім парламенцкай фракцыі *Беларускага пасольскага клуба*, надрукавала праграмнае выступленне яго старшыні Б Тарашкевіча Узнімала пытанні ваен асадніцтва, драпежніцкай эксплуатацыі лясных багаццяў краю, пісала пра гаменні на бел школу і прэсу (арт «Змаганне за беларускую школу», «Сяўцы цемры» Лаўрыновіча, «Куды прападаюць беларускія газеты») Важнае значэнне надавала барацьбе за мясц самакіраванне, выбарам у гмінныя рады і павятовыя соймікі (арт «Аб самаўпраўленні» Баўтручонка), арганізацыі кааператыўнага руху, сац страхаванні (арт «Кааперацыя ў 1922 годзе», «Закладайце народныя выдавецтвы» І Канчэўскага, «Задачы сацыяльнай страхоўкі») На яе старонках змешчаны творы М Гарэцкага, Я Коласа, У Дубоўкі, У Жылкі, М Запольскага, Родзевіча (пад псеўд Сучасны), П Верлена ў пер М Багдановіча і інш Выйшла 9 нумароў, з іх 2 канфіскаваны Забаронена польскімі ўладамі *Арсень Ліс*

**«НА́ША ВЕ́РА»**, культурна-рэлігійны і гістарычны часопіс Выходзіць са жн 1995 у Мінску на бел мове Заснавальнікі Мінскі кафедральны касцел Марыі Панны і дабрачынны фонд «Маці Божая Фацімская» Першыя нумары выдадзены ў Польшчы на ахвяраванні ордэна *францысканцаў* Асвятляе праблемы духоўнасці сучаснага грамадства, становішча каталіцкай царквы ў Рэспубліцы Беларусь, друкуе матэрыялы па гісторыі хрысціянства і каталіцызму ў Беларусі, жыццяпісы каталіцкіх святых, вядомых бел каталіцкіх святароў і вернікаў, расказвае пра помнікі духоўнай архітэктуры, мастацтва і л-ры Упершыню на бел мове публікуе фрагменты з твораў і аўтабіяграфіі папы рымскага Яна Паўла II *Уладзімір Ляхоўскі*

**«НА́ША ВО́ЛЯ»**, газета рэв.-дэмакр кірунку Выдавалася 4—12 3 1927 у Вільні на бел мове Выкрывала Ю Пілсудскага як стаўленіка буйных памешчыкаў і буржуазіі Асвятляла барацьбу рабочых Зах Беларусі і Польшчы за сац-эканам правы, культ жыццё ў Зах Беларусі і БССР На яе старонках змешчаны турэмныя вершы А Салагуба, рэцэнзія, ліст асв-грамадскага дзеяча Я Гаўрыліка Выйшлі 4 нумары, з іх 2 канфіскаваны Забаронена польскімі ўладамі Рэдактар М Машара быў зняволены ў Лукішскую турму *Арсень Ліс*

**«НА́ША ВО́ЛЯ»**, легальная газета КПЗБ народнафронтаўскага кірунку Выдавалася з 24 12 1935 да 23 8 1936 у Вільні на бел мове Спачатку выходзіла як 2-тыднёвік, з 20 3 1936 раз у месяц Афіцыйны рэдактар — студэнт Віленскага ун-та В Склубоўскі, фактычна кіравалі газетай чл КПЗБ С Малько і Т Будкевіч Садзейнічала ўключэнню ў рэв барацьбу новых пластоў грамадства, зблізжэнню дэмакр інтэлігенцыі з КПЗБ, папулярызацыі лозунгаў кампартыі ў барацьбе за стварэнне *антыфашысцкага народнага фронту* ў Зах Беларусі Выступала супраць фашызацыі грамадства, прымусовай паланізацыі бел народа У газеце супрацоўнічалі М Танк, М Васілек, М Машара, М Засім, А Іверс, П Граніт, Р Шырма, М Бурсевіч Выйшла 13 нумароў, з іх 3 канфіскаваны *Сцяпан Говін*

**«НА́ША ДО́ЛЯ»**, штотыднёвая грамадска-паліт і літ газета «для вясковага і мясцовага рабочага народа», фактычны орган нелегальнай *Беларускай сацыялістычнай грамады*, першае легальнае перыяд выданне на бел мове Паводле вызначэння цэнзуры, была «сацыял-дэмакратычнага кірунку» Выдавалася з 1(14) 9 да 1(14) 12 1906 у Вільні кірыліцай і лацінкай Рэдактар-выдавец І А Тукеркес, з 18 11 1906 за рэдактара А Гедвіла У заснаванні і выданні ўдзельнічалі Цётка, І і А Луцкевічы У праграмным артыкуле «Да чытачоў» абяцала змагацца за сац і нац свабоды, асвету на роднай мове, сац і культ адраджэнне краю Друкавала вострапубліцыстычныя артыкулы і фельетоны, у якіх выкрывала антынар палітыку ўрада («Што будзе?», «Авечы агітатар», «Пагром», «Даход расійскага цара», «Як мужыку палепшыць свае жыццё», «Старое лякарства», «Аб народных дэмакратах», «Напасць чужынцаў», «Колькі стояць рускія генералы» і інш ). Рэв.-вызв ідэямі прасякнуты апублікаваныя ў газеце творы Цёткі пад псеўд Крапіўка (апавяд «Прысяга над крывавымі разорамі», верш «Наш палетак», «Разумныя ды не на дурня напалі»), Я Коласа (вершы «Наш родны край», «Беларусам», «Асенні вечар», апавяд «Свабода» пад псеўд Дзядзька Карусь), апавяд Ядвігіна Ш «Суд» (26 9 1906) У рубрыках «Усяго па троху», «З Беларусі і Літвы», «Па Расіі» інфармавала чытачоў пра вызв рух, урадавыя рэпрэсіі, барацьбу сялян за бел школу, дзейнасць дэмакр фракцыі Дзярж думы («Вільня, 27 верасня», «Аб выбарах у Дзяржаўную Думу», «Кандыдаты ад Вільні», «Якая будзе Дума», 18 11 і 1 12 1906) Апублікаваны шэраг с-г і навукова-асв нарысаў («Гутаркі аб гаспадарцы», «Як мужыку палепшыць свае жыццё», «Соль») На апошняй старонцы друкавала аб'явы, рэкламу выд-ва «Загляне сонца і ў наша аконца» і інш Пасля 4-га нумара ў выніку расколу рэдакцыі і заснавання газ «Наша ніва» літ аддзел «Н д» аказаўся аслабленым З 6 нумароў «Н д» 4 былі канфіскаваны, за 1, 3 і 4-ы нумары паводле судовага прыгавору 11 1 1907 яе выданне забаронена, а рэдактар Тукеркес прыгавораны да турэмнага зняволення на 1 год

*Літ.:* Александровіч С. Гісторыя і сучаснасць. Мн., 1968; Біч М. У змаганні за лепшую долю // Полымя. 1966. № 8.

*Уладзімір Конан*

**«НА́ША ДУ́МКА»**, штотыднёвая грамадска-палітычная і літаратурная газета прагрэсіўнага кірунку. Выдавалася з 24.12.1920 да 8.7.1921 у Вільні на бел. мове. Рэдактар-выдавец М. Гарэцкі. Мела рубрыкі «Штодзенныя весткі», «Эканамічны аддзел», «Правінцыяльны аддзел», «Школьны аддзел», «Беларуская хроніка». Асн. ўвагу аддавала паліт. і эканам. становішчу Зах. Беларусі пад уладай Польшчы, распаўсюджанню ідэй вызв. руху. Выкрывала палітыку бурж.-памешчыцкіх колаў, разглядала зямельнае пытанне, змагалася за бел. культуру і асвету, пісала пра паліт. становішча БССР. На яе старонках змешчаны творы Гарэцкага (пад псеўд. А. Мсціслаўскі, Дзед Кузьма і інш.), А. Луцкевіча, М. Краўцова, Л. Родзевіча, І. Канчэўскага, Ю. Лістапада, І. Дварчаніна, С. Шыманоўскага, К. Сваяка, У. Жылкі, П. Прадухі, В. Сталяронка, К. Лейкі, П. Праслага, С. Рак-Міхайлоўскага, М. Чарота, творы з фалькл. збораў А. Сержпутоўскага, нар. песні з Сакольшчыны. Друкавала выступленні па пытаннях развіцця тэатра, выяўл. мастацтва, л-ры, гісторыі бел. культуры. Выйшла 27 нумароў. Забаронена польск. уладамі.

*Арсень Ліс*

**«НАША ЖИЗНЬ»**. Выходзіла з 16 сак. па май 1918 у Віцебску на рус. мове як «штодзенная сацыялістычная газета». У рэдкалегію ўваходзілі прадстаўнікі арг-цый ПС-Р, РСДРП і Бунда. Мела рубрыкі «Апошнія паведамленні», «За мяжой», «На франтах», «Па Расіі», «Па губерніі», «Мясцовае жыццё» і інш., аддзелы аб'яў і інфармацыі аб падзеях грамадска-паліт. і культ. жыцця. Праводзіла паліт. лінію на аднаўленне (шляхам перавыбараў) Саветаў рабочых дэпутатаў як органаў абароны дэмакратыі. Абмяркоўвала праблемы прафсаюзнага і сацыяліст. руху. З агульнадэмакр. пазіцый разглядала знешнюю і ўнутр. палітыку бальшавіцкага ўрада, дзейнасць яго віцебскіх органаў (артыкулы «Ягадкі бальшавіцкага міру», «Паход на друк», «25 кастрычніка — 25 красавіка» і інш.). У рубрыцы «Палітычныя партрэты» характарызавала асабістыя і дзелавыя якасці У. І. Леніна і Л. Д. Троцкага. Вядомы апошні № 40 за 30.5.1918. Ёсць падставы меркаваць, што газета закрыта бальшавіцкімі ўладамі Віцебска.

*Мікалай Сяменчык*

**«НА́ША КАЛЯІ́НА»**, газета, орган культ.-грамадскай арг-цыі «Папараць-кветка». Выдавалася 6.2—4.3.1920 у Слуцку на бел. мове. Рэдактар А. Бараноўскі. Апублікавала апавяданне У. Галубка «Яззэпавы сыны» пра грамадз. вайну на Беларусі, пераклад апавядання М. Горкага «Макар Чудра», творы мясц. аўтараў, у т. л. вершы Валоцікі, Б-ы, апавяданні В-т, запісы фальклору — песні, казкі, прыказкі, гіст. легенду. Інфармавала пра дзейнасць бел. тэатра ў Слуцку, у т. л. пра пастаноўку п'есы Галубка «Праменьчык шчасця».

*Арсень Ліс*

**«НА́ША НІ́ВА»**, штотыднёвая бел. грамадска-паліт., навук.-асв. і літ.-маст. газета нац.-адраджэнскага кірунку. Выдавалася з 10(23).11.1906 да 7(20).8.1915 у Вільні на бел. мове кірыліцай, да 18(31).10.1912 і лацінкай. Засн. лідэрамі *Беларускай сацыялістычнай грамады* (БСГ) братамі І. і А. Луцкевічамі, В. Іваноўскім, А. Уласавым, А. Пашкевіч (Цетка) і інш. Рэдактары-выдаўцы С. Вольскі, Уласаў (з 8.12.1906), Я. Купала (з 7.3.1914 рэдактар, з 16.5.1914 рэдактар-выдавец). Рэдактарамі аддзелаў у розны час былі Я. Купала, Я. Колас, З. Бядуля, Х. Імшэнік (заг. канторы і сакратар рэдакцыі да 1909), В. Ластоўскі (з 1909 сакратар рэдакцыі), Ядвігін Ш., С. Палуян (С. Ясяновіч), А. Бульба (А. Чыж) і інш. Друкавала перадавіцы, іншыя рэдакцыйныя матэрыялы, вершы, нарысы, маст. прозу, навук.-папулярныя артыкулы, мела рубрыкі «У Думе і каля Думы», «Паштовая скрынка» і інш. Да выхаду ў свет газ. *«Беларус»* гуртавала вакол сябе аўтараў усіх веравызнанняў і кірункаў, якія выступалі за культ.-нац. адраджэнне Беларусі. Мела больш за 3 тыс. сталых і часовых карэспандэнтаў у пав. і губ. гарадах, мястэчках і вёсках Беларусі, у Расіі (Маскве, Пецярбургу, Сібіры), за мяжой. Нязменнымі ў «Н. н.» заставаліся ідэя сац.-паліт., эканам. і культ. адраджэння Беларусі, яе супрацоўніцтва з інш. народамі, апазіцыя да самадзяржаўя. Тэматыка, змест і характар падачы апублікаваных матэрыялаў мяняліся ў залежнасці ад паліт. сітуацыі і складу рэдакцыі. У праграмным артыкуле 1-га нумара падкрэслена агульнанац. пазіцыя газеты «Наша ніва» — «газета не рэдакцыі, але ўсіх беларусаў і ўсіх тых, хто ім спагадае...». У 1906—07 шмат месца займалі матэрыялы агітац. і крытычнага зместу. Паводле ацэнкі Віленскага ахоўнага аддзела ў 1908 «Н. н.» была спачатку больш памяркоўная, чым «Наша доля», але пасля «стала змяшчаць артыкулы ўзбуджальнага характару, за што падвяргалася некалькі разоў канфіскацыі». На падставе інфармацыі інспектара па справах друку Віленская судовая палата ў чэрв. 1907 пачала судовае праследаванне рэдактара Уласава за матэрыялы, апублікаваныя ў 8-м нумары (арт. «Дума і народ», «Зямельная справа ў Новай Зеландыі», верш Я. Коласа «Расійскія абразы»), 9-м (арт. «Работа Думы») і 12-м (перадавіца «Дзяржаўная Дума»), а таксама за апаратыўна-інфармац. рубрыкі «З усіх старон», «З Беларусі і Літвы», «Аб усім патроху». Паводле ацэнкі цэнзуры, артыкулы «напамінаюць падпольныя пракламацыі» і могуць «моцна ўсхваля-

Пісьмы Б. Эпімаха-Шыпілы і Я. Карскага ў рэдакцыю **«Нашай нівы»**. 1909.

перад франц камандаваннем Антанты, рабіў спробы фарміравання бел арміі для барацьбы з сав уладай Адначасова вучыўся ў Адэскім вышэйшым міжнар ін-це З 1920 у Мінску, працаваў у апараце Наркамасветы БССР заг літ выдавецкага аддзела, старшыня навук-тэрміналагічнай камісіі, нам старшыні Акадэмічнага цэнтра, нам старшыні Галоўпрафасветы і інш Удзельнічаў у арганізацыі Інбелкульта, у 1922—25 узначальваў яго, у 1926—28 старшыня Аддзела гуманітарных навук і старшыня слоўнікавай камісіі Інбелкульта Адначасова ў 1923—25 веў беларусазнаўства на мед ф-це, з 1927 дацэнт пед ф-та БДУ У пач 1925 камандзіраваны для павышэння лінгвістычнай кваліфікацыі у НДІ мовы і л-ры пры Ленінградскім ун-це, дзе да ліп 1926 займаўся бел мовай пад кіраўніцтвам Я Ф *Карскага* Уваходзіў ва ўрадавую камісію, якая падрыхтавала і праводзіла рэарганізацыю Інбелкульта ў Акадэмію навук З 1928 віцэ-прэзідэнт Бел АН, адначасова з 1929 дырэктар Ін-та мовазнаўства, старшыня камісіі па ўкладанні слоўніка жывой бел мовы і старшыня правапіснай і астранцкай камісій, з 1 1 1928 і старшыня Галоўнавукі пры Наркамасветы БССР Чл ЦВК БССР у 1927—31 21 7 1930 арыштаваны па справе *«Саюза вызвалення Беларусі»*, 10 4 1931 асуджаны на 5 гадоў высылкі ў г Сарапул Удмурцкай АССР, потым тэрмін высылкі прадоўжылі на 2 гады У канцы 1937 арыштаваны паўторна, прывезены ў Мінск, дзе 19 12 1937 прыгавораны да вышэйшай меры пакарання Рэабілітаваны па 2-м прыгаворы ў 1957, па 1-м — у 1988

Асн кірунак навук дзейнасці Н — лексікаграфія і гісторыя бел мовы Аўтар 1-га паслярэв «Беларускага лемантара» (1922), школьнай чытанкі «Роднае слова» (1923), сааўтар буквара для дарослых «Наша сіла — ніва ды машына» (1925) Разам з М Я Байковым выдаў «Беларуска-расійскі слоўнік» (1925) і «Расійска-беларускі слоўнік» (1928), з П А Бузуком склаў «Праграму для збірання асаблівасцей беларускіх гаворак і гаворак пераходных да суседніх моваў» (1927) Гісторыі бел мовы прысвечаны даследаванні «Мова кнігі Касьяна Рымляніна Ерамiты «О уставах манастырскіх» (1928) «Васіль Цяпінскі Яго прадмова, пераклад евангелля на беларускую мову і мова перакладу» (не апубл ) Каштоўнымі для свайго часу былі навук публікацыі Н «Правапіс спрэчных дзеяслоўных форм» (1922), «Да пытання аб укладанні слоўніка жывой беларускай мовы» (1925), «Аб пашырэнні акання на чужаземныя словы» (1926), «Да характарыстыкі беларускіх гаворак Парыцкага раена» (1929), «Праект беларускага правапісу» (1930), даклады на Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе бел правапісу і азбукі 1926 «Сучасны стан вывучэння беларускай мовы» і «Да пытання аб рэформе нашага правапісу» (1927) Звесткі пра культ будаўніцтва ў 1920-я г змяшчаюць арт «Становішча культурна-асветных устаноў на Беларусі пры нэпе» (1924), «Да пяцігадовага плана навукова-даследчай працы БССР» (1928)

С М **Некрашэвіч**

*Літ* Германовіч І К Аб навуковай дзейнасці С М Некрашэвіча // Веснік БДУ Сер 4 1972 № 3, Шчэрбін В Ён мог стаць беларускім Далем Пра лексікагр дзейнасць Сцяпана Некрашэвіча // Роднае слова 1995 № 2, Іофэ Э Першы старшыня Інбелкульту // Спадчына 1995 № 6

*Іван Германовіч*

**НЕЛЮБО́ВІЧ-ТУКА́ЛЬСКІ** Іосіф (? — 1675), праваслаўны царк дзеяч Рэчы Паспалітай Архімандрыт *Пінскага Лешчанскага манастыра* У 1654—69 епіскап магілеўскі (зацверджаны каралеўскім прывілеем у 1661) Аднак у 1654—56 *Магілеўскай праваслаўнай епархіяй* фактычна кіраваў епіскап *Іаакім*, прызначаны Маскоўскім патрыярхатам У 1664—75 мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі Да 1669 адначасова заставаўся і епіскапам магілеўскім У 1664 па нагаворы гетмана Правабярэжнай Украіны П Цяцеры арыштаваны каралеўскімі ўладамі і разам з б гетманам Ю Хмяльніцкім сасланы ў Марыенбургскую крэпасць (Паўн Польшча) У 1667 апраўданы і вызвалены Жыў у Каневе і Чыгірыне, дзе і памер У 1669 пасвяціў у епіскапа магілеўскага Феадосія Васілевіча і ў дыякана — Д Туптала (будучага св Дзімітрыя Растоўскага) Аўтар пасланняў і пісем

*Літ* Грыгаровіч І І Беларуская іерархія Мн 1992 С 22, Mironowicz A. Metropolita Józef Nielubowicz Tukalski Białystok, 1998

*Ігар Пушкін*

**НЕМАГАЙ** Ілья Уладзіміравіч (н 22 8 1930, Мінск), бел мастак, педагог Скончыў Бел тэатр-маст ін-т (1959), выкладаў у ім у 1961—62, у 1962—74 — у БПІ Працуе у кніжнай і станковай графіцы ў тэхніцы літаграфіі Аформіў кнігі гіст тэматыкі «Старажытны Мінск» Э Загарульскага (1963), «Гісторыя БССР» (1967), «Старонкі нашай гісторыі» В Вольскага (1969) Сярод станковых графічных работ партрэты П Груса (1965), Цёткі (А Пашкевіч, 1966), М Багдановіча (1967), П М Лепяшынскага (1970), Я Коласа (1974), Я Купалы (1975), А П Чэхава (1976), М Горкага, А С Пушкіна (абодва 1977), кампазіцыя «У І Ленін і П М Лепяшынскі» (1970) Стварыў шэраг жывапісных карцін «Вызваленне Брацлава», «Аперацыя «Баграціён», «Бой з канфедэратамі», «Набат», «Фарсіраванне Дняпра» (1970-я г ), «Якуб Колас у Нясвіжскай семінарыі», «Падрыў чыгуначнай станцыі Асіповічы» (абедзве 1974), «Вызваленне Стоўбцаў» (1984) партрэт камандзіра партыз брыгады У Баранава (1977) Творам Н уласцівы ўзнесласць вобразаў, глыбокае пранікненне ў гістарызм тэмы, яе філас асэнсаванне

*Галія Фатыхава*

І У **Немагай** Старажытны Мінск 1963

**НЕМАНЦЭ́ВІЧ** Антон [27 1(8 2) 1893, С-Пецярбург — 1 4 1943], бел уніяцкі царк дзеяч З сям'і выхадцаў з мяст Саколка Гродзенскай губ Д-р тэалогіі (1927) Скончыў Віленскую каталіцкую духоўную семінарыю, Петраградскую каталіцкую духоўную акадэмію (1918) У 1915 пасвячоны ў ксяндза Быў чл бел культ-асв гуртка ў акадэміі З 1918 вікарый парафіяльнага касцела св Кацярыны ў Петраградзе У 1921 арыштаваны на некалькі месяцаў за пратэст

**«НЕПАХО́ЖЫЯ» ЛЮ́ДЗІ**, гл *Людзі «непахожыя»*

**НЕПАЧАЛО́ВІЧ** Іван Барысавіч (н 15 1 1922, в Арэхаўка Слуцкага пав, цяпер у Старадарожскім р-не), Герой Сав Саюза (1945) Скончыў Мінскі аэраклуб (1941), Тамбоўскае авіяц вучылішча (1943), Ваен -паветр акадэмію (1955) У Чырв Арміі з 1941 У Вял Айч вайну з ліст 1943 на 3-м Укр фронце Удзельнік вызвалення Украіны, Малдовы, Румыніі, Балгарыі, Югаславіі, Венгрыі лётчык-штурмавік Зрабіў 179 баявых вылетаў, удзельнічаў у 17 паветр баях, збіў самалёт, знішчыў 12 танкаў, 7 бронетранспарцёраў, 37 аў гамашын і шмат інш тэхнікі працўніка Да 1965 у Сав Арміі

І Б **Непачаловіч**

**НЕ́СТАР**, старажытнарускі пісьменнік і гісторык канца 11—пач 12 ст Манах Кіева-Пячэрскага манастыра Аўтар «Чытання пра жыццё і гібель Барыса і Глеба» і «Жыцця Феадосія Пячэрскага» У сваіх творах побач з прапаведдзю хрысціянства праводзіў ідэю адзінства і незалежнасці Русі ад Візантыі, асуджаў міжкняжацкія ўсобіцы Апіраўся на кніжныя традыцыі, спалучаў літ ўмоўнасць і схематызм агіяграфічнага канона з канкрэтнасцю рэальнага жыцця герояў Адзін з заснавальнікаў летапіснага жанру на Русі (гл *«Аповесць мінулых гадоў»*), узняў майстэрства гіст апавядання дасягнуўшы ў ім высокай дакладнасці прастаты і жывасці выкладу Яго творы былі шырока вядомы на Беларусі

*Тв* У кн Памятники литературы Древней Руси Начало рус лит XI—нач XII в М 1978

*Літ* Еремин И П К характеристике Нестора как писателя // Литература древней Руси М, Л 1966 Приселков М Д Нестор-летописец Опыт ист -лит характеристики Пг, 1923 *Вячаслаў Чамярыцкі*

**НЕСЦЕРА́Ў** Іван Фірсавіч [26 6(7 7) 1904, в Таўкачы Магілёўскага пав, цяпер у Шклоўскім р-не — 24 12 1989], Герой Сав Саюза (1945) У 1924 арганізатар і сакратар камсам ячэйкі ў Таўкачах У Чырв Арміі з 1941 У Вял Айч вайну з 1942 на Сталінградскім, 2-м і 3-м Укр франтах Нам камандзіра батальёна па палітчасці капітан Н вызначыўся ў 1944 пры фарсіраванні Дуная у Венгрыі 4 снеж на чале роты ўварваўся на прыстань, у рукапашным баі рота знішчыла каля 100 гітлераўцаў, адбіла 4 контратакі, што паспрыяла пераправе батальёна Да 1962 на сав і парт рабоце

І Ф **Несцераў**

**НЕСЦЯРО́ВІЧ** Павел Уладзіміравіч [25 6(8 7) 1913, в Енцы Рагачоўскага пав цяпер Кармянскага р-на — 7 9 1974], Герой Сав Саюза (1943) У Вял Айч вайну на фронце з 1943 Удзельнік Курскай бітвы 1943, вызвалення Рэчыцы, Бабруйска, Асіповіч, Баранавіч, Польшчы, баёў ва Усх Прусіі Сапёр сяржант Н вызначыўся ў 1943 пры фарсіраванні Дняпра каля Лоева 15 ліст з групай байцоў нераадолеў раку і нацягнуў канат для парома, на наступны дзень пад агнём ворага пераправіў 9 процітанк гармат, 6 мінаметных батарэй Пасля вайны у органах МУС БССР Яго імем названа вуліца ў в Енцы

П У **Несцяровіч**

**НЕСЦЯРУК** Уладзімір Сцяпанавіч [4(16) 2 1900, в Бушмічы Брэсцкага пав, цяпер Камянецкага р-на — 5 11 1991], генерал-лейтэнант артылерыі (1944) Скончыў Ваен акадэмію імя Фрунзе (1936) У Чырв Арміі з сак 1918 Удзельнік грамадз 1918—20, сав -фінл 1939—40 войнаў камандзір узвода, нач артылерыі дывізіі У Вял Айч вайну на Карэльскім, Бранскім, 2-м Прыбалт і 3-м Укр франтах камандуючы артылерыяй арміі, нам камандуючага артылерыяй фронту, камандзір артыл корпуса Удзельнік абарончых баёў у Карэліі, Курскай бітвы, Дзвінскай, Рыжскай, Балатонскай, Венгерскай аперацый Да 1956 на камандных пасадах у Сав Арміі

**НЕСЯЛОЎСКІЯ**, паліт дзеячы Рэчы Паспалітай, шляхецкі род герба «Кошбак» Паходзілі з Памор'я, з 17 ст аселі на Украіне, пасля на Беларусі Найб вядомыя

К а з і м і р І г н а ц ы (каля 1676—пасля 1752), на сейме 1697 галасаваў за абранне на пасад Рэчы Паспалітай Аўгуста II У час Паўночнай вайны 1700—21 падтрымліваў Станіслава Ляшчынскага, удзельнічаў у Тарнаградскай канфедэрацыі Пасля змяніў паліт арыентацыю на карысць Аўгуста II і цара Пятра I Пасол на сеймы 1722, 1735, 1736, 1738, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1724 Удзельнічаў у абранні на пасад Аўгуста III (1733) У 1734 прызначаны ваяводам мсціслаўскім, але ад гэтай пасады адмовіўся Кашталян смаленскі ў 1738—52, староста цырынскі з 1718 (?) У 1743 выдаў у Пінску кн «Публічныя забаўкі», у 1752 — «Хатнія забаўкі», дзе змясціў свае вершы, эпісталярна-мемуарныя матэрыялы, прамовы, гіст паведамленні, у т л легендарнага характару, дакументы, адозвы Кніга з'яўляецца важнай гіст крыніцай і карысталася папулярнасцю ў сучаснікаў, 2-е выданне выйшла ў Супраслі пад назвай «Хатнія забавы цікаўнага» (1783)

Ю з а ф (1728—8 3 1814), пляменнік Казіміра Ігнацыя Напачатку прыхільнік Чартарыйскіх Пасол на сеймы 1756, 1764 (удзельнічаў у абранні на пасад Станіслава Аўгуста Панятоўскага), 1766 Дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1762, маршалак Скарбовага трыбунала ВКЛ Староста цырынскі ў 1756, прэнскі і прапойскі з 1769, падкаморы навагрудскі, чашнік ВКЛ у 1765, кашталян навагрудскі ў 1765—73 і ваявода з 1773 У 1766—75 і 1793—94 уваходзіў у Скарбовую камісію ВКЛ, у 1775—76 і 1793 — у Вайсковую камісію ВКЛ, у 1788—92 — у Вайсковую камісію абодвух народаў (яе старшыня ў час вайны 1792 з Рас імперыяй) Чл *Пастаяннай Рады* з 1778 Паліт працўнік падскарбія А Тызенгаўза Удзельнік падрыхтоўкі *паўстання 1794* Віленскім актам паўстання 24 4 1794 прызначаны старшынёй *Найвышэйшай літоўскай рады* Пасля яе роспуску Найвышэйшая нац рада прызначыла яго старшынёю скарбовага аддзела *Цэнтральнай дэпутацыі Вялікага княства Літоўскага* Арганізаваў эвакуа-

цыю касы і дакументаў у Гродна і Варшаву У ліст 1794 схоплены казакамі, адпушчаны пад нагляд Кацярына II амнісціравала яго і вярнула секвестраваныя маенткі (Новая Мыш, Варонча і інш ) У Варончы ў яго служыў аканомам (1807—09) А Чарноцкі (З *Даленга-Хадакоўскі*)

Францішак Ксаверы (18 12 1771, мяст Ляхавічы—15 9 1845), сын Юзафа У 1785—88 вучыўся ў Гал школе ВКЛ у Вільні З 1788 шэф 6-га рэгімента (палка) пяхоты войска ВКЛ Удзельнічаў у вайне 1792 з Рас імперыяй, у бітвах пад Брэстам і Кабылянамі, узнагароджаны крыжам «Virtuti Militari» Удзельнік падрыхтоўкі паўстання 1794 Вызначыўся са сваім палком 7 5 1794 у бітве пад Палянамі (каля Ашмян), у рэйдзе па Курляндыі ў чэрв —ліп 1794 У вер 1794 па загадзе Т Ваўжэцкага рушыў з Гродна да Варшавы Трапіў у палон, адмовіўся прысягаць Кацярыне II і выехаў у Германію У 1796 вярнууся У 1798 абвінавачаны ў падрыхтоўцы новага паўстання, знаходзіўся ў зняволенні ў Вільні Падтрымаў план А Чартарыйскага пра адбудову Польск дзяржавы пад суверэнітэтам Расіі З 1807 у складзе судова-адм камісіі Віленскага ун-та У 1812 прызначаны Напалеонам чл Вайсковага к-та ў Вільні, пазней у званні генерала брыгады інспектар пяхоты арміі ВКЛ, паспалітага рушэння Адступіў з напалеонаўскімі войскамі за мяжу У 1814 пасля амністыі вярнуўся на Беларусь, прадаў родавыя маенткі (Варончу і інш ) і з'ехаў у Польшчу У 1830 абраны паслом сейма Каралеўства Польскага У час *паўстання 1830—31* намеснік губернатара Варшавы, камандаваў брыгадай пры абароне горада, быў сенатарам-кашталянам Пасля задушэння паўстання на некалькі гадоў дэпартаваны ў Волагду

**НЕЎРАЎ** Мікалай Васілевіч [1830, Масква — 3(16) 5 1904], рускі жывапісец Вучыўся ў Маск вучылішчы жывапісу, скульптуры і дойлідства (1851—56), выкладаў у ім у 1887—90 Чл Т-ва перасоўных выставак (з 1881) Працаваў у жанрах бытавым, гістарычным, партрэта Жанравым карцінам уласцівы выкрывальная вастрыня, пераканаўчасць сац характарыстык, падрабязная распрацоўка сюжэтных сітуацый «Хатняя сялянская сцэна» (1856), «Торг» (1866) «Выхаванка» (1867), «Паніхіда на сельскіх могілках», «Пахаванне селяніна», «Протадыякан абвяшчае даўгалецце на імянінах купца» і інш З 1870-х г пісаў пераважна гіст карціны «Князёўна П Р Юсупава перад пострыгам» (1866), «Раман Галіцкі прымае паслоў папы Інакенція III» (1875) і інш У канцы 19 ст перасяліўся ў Беларусь, жыў у в Лыскаўшчына (Круглянскі р н), дзе і пахаваны (скончыў самагубствам) Тут ім напісаны творы «Эпізод з жыцця Пятра», «Чым былі моцныя шлюбныя вузы» і інш Творы Н зберагаюцца ў Дзярж Траццякоўскай галерэі, Нац маст музеі Рэспублікі Беларусь, музеях С -Пецярбурга, Кіева, Рыгі, Іванава (Расія), Саратава

*Літ* Дановская Р В Н В Неврев М , 1950, Н В Неврев [Альбом] М , 1964, Памяць Круглянскі р-н Мн , 1996 С 185—187

*Віктар Бабровіч*

М В Неўраў Раман Галіцкі прымае паслоў папы Інакенція III Нац маст музей Рэспублікі Беларусь

**НЕЎРЫ** (грэч Nevroi), старажытнае племя, якое паводле звестак Герадота жыло ў 6—5 ст да н э ў басейнах Гарынь і Паўд Буг Аб Н і іх краіне Неўрыдзе згадвалі таксама Эфар, Дыянісій, Пліній, Аміян Марцэлін і інш антычныя аўтары Інфармацыя Герадота пра тое, што кожны неўр штогод на некалькі дзен ператвараецца ў ваўка, дала падставу шматлікім аўтарам (П Шафарык, П Шплеўскі і інш ) змяшчаць Н на тэр Беларусі, дзе ўяўленні аб ваўках-пярэваратнях было вельмі пашырана З развіццём археалогіі Н атаясамлівалі з носьбітамі высоцкай у Зах чарналескай ва Усх Украіне і асаблівай мілаградскай археал культур Аднак з герадотавымі Н можна атаясамліваць не ўсю *мілаградскую культуру*, а толькі асобную яе групу ў бас р Гарынь і курганныя могільнікі Курылоўка і Мізякі у паўн частцы бас р Паўд Буг З адкрытых на тэр Беларусі мілаградскіх помнікаў герадотавым Н можа адпавядаць курганны могільнік каля в Дубаи на Століншчыне

*Літ* Рассадзін С Я Аб «неўрах» «змеях» Герадотавай «Гісторыі» // Весці А Беларусі Сер гуманіт навук 1994 № Яго ж Землі амаль невядомыя Будучая Беларусь паводле антычных манускрыпта Мн , 1996

*Сяргей Рассадзін*

**НЕЎСКАЯ БІТВА 1240**, бітва паміж наўгародскім і шведскім войска 15 7 1240 у сутоках р Нява і Іжора Мэтай шведаў было захапіць вусце Нявы г Ладага, што дало б магчымасць авалодаць важным участкам *шляху з «варагаў у грэкі»*, які знаходзіўся пад кантролем Ноўгарада Разам са шведамі ў паходзе ўдзельнічалі нарвежцы і фіны Шведскае войска ўзначальваў зяць караля ярл Біргер Наўгародскі кня Аляксандар Яраслaвіч на чале невя коннага войска з наўгародцаў і ладажа рушыў да Нявы Напад на шведскі ла гер быў раптоўны і нечаканы, у выніку шведскае войска было разгромлена Наўгародцы і ладажане страцілі ўся 20 чал Пасля Н б кн Аляксанда Яраслaвіча сталі называць Неўскім В домы імены 6 найб храбрых воіна адзін з іх *Якаў Палачанін*, лоўчы княз які з мячом уварваўся ў шведскія шэр гі і «мужествовав крепко»

*Літ* Пашуто В Т Героическая борьба русского народа за независимость (XIII в) М , 1956, Тихомиров М Н Борьба рус ского народа с немецкими интервентами в XII—XV вв // Тихомиров М Н Древняя Русь М , 1975

**НЕЎСКІ** Мікалай Арсенавіч (22 2 1924 Гомель — 27 10 1989), Герой Сав Саюза (1945) Канд ваен н (1953), дацэнт (1955) Скончыў Кіеўскае артыл вучылішча (1941), Ваен артыл акадэмію імя Дзяржынскага (1950) З 1940 у Чырв Арміі У Вял Айч вайну з сак 1943 на Паўн -Зах , 2-м Прыбалт , 1-м Бел франтах Камандзір артыл дывізіёна маер Н вызначыўся ў *Люблін-Брэсцкай аперацыі 1944* 29—31 ліп дывізіён пад яго камандаваннем трапным агнем садзейнічаў захопу плацдарма на левым

зідыума *Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў* Адзін са стваральнікаў і член праўлення Бел грамадска-культ т ва ў С -Пецярбургу

*Тв* Несвижская библиотека князей Радзивиллов // Книга в России XVIII — середины XIX в Л , 1989, Іван Грыгаровіч — гісторык беларускай царквы Знаходка ў Аддзеле рукапісаў // Наш радавод Гродна, 1992 Кн 4, ч 1, Кірылічнае кнігапісанне ў Вільні ў XV в — першай палове XVI ст // Спадчына 1993 № 3, Экзэмпляры Радзівілаўскай Бібліі 1563 г ў Пецярбургскіх кнігасховішчах // Badania Księgozbiorów Radziwiłłów Warszawa, 1995

*Ларыса Языковіч*

**НІКАНАЎСКІ ЛЕ́ТАПІС**, расійскі летапісны звод 16 ст Назва ад прыналежнасці аднаго са спісаў патрыярху Нікану Асн частка складзена ў канцы 1520-х г пад кіраўніцтвам мітрапаліта Данііла Н л — велізарная кампіляцыя, створаная на аснове выкарыстання шматлікіх крыніц ранейшых летапісных зводаў, мясц летапісаў, аповесцей, сказанняў, жыцій святых, запісаў нар эпасу, архіўных дакументаў Складальнікі Н л ў значнай ступені адрэдагавалі гіст матэрыялы і стварылі канцэпцыю, згодна з якой кіруючая роля ў стварэнні Рас дзяржавы належала маск князям, якія дзейнічалі ў саюзе з царквой, абгрунтоўвалася права маск князеў на землі Кіеўскай Русі Н л пачынаецца з «Аповесці мінулых гадоў» Шмат звестак, асабліва за 13—15 ст , маюць унікальны характар Сярод іх запісы пра вайну кіеўскіх князеў 9 ст Аскольда і Дзіра з палачанамі, паходы манголаў і татар на Літву ў 1282, 1289, 1325, 1408, мор у Полацку ў 1349 і Літве ў 1366, паход вял князя ВКЛ Альгерда супраць немцаў у 1371, знаходжанне кн Вітаўта ў немцаў, яго паход на Літву і выданне ім дачкі замуж за вял князя маскоўскага Васіля I у 1391, мяцеж і голад у ВКЛ у 1407 Шмат звестак Н л прысвечана ўзаемадачыненням рус зямель з ВКЛ З 2 й пал 1550-х г летапіс папоўнены матэрыяламі афіцыйнай гістарыяграфіі У 1560—70-я г на падставе Н л складзены Лицавы летапісны звод, дзе прасочваецца тэндэнцыя надаць Н л характар афіцыйнага тлумачэння гіст падзей

*Публ* ПСРЛ Т 9—13 М , 1965

*Літ* Клосс Б М Никоновский свод и русские летописи XVI—XVII вв М , 1980, Муравьева Л Л Об «избытке» известий Никоновской летописи (конец XIII — начало XV в ) // Древности славян и Руси М , 1988

**НІКАНДРАВА** Ганна Аляксееўна (13 10 1921, в Барашкіна Краснагорскага р-на Пскоўскай вобл , Расія — 23 6 1944), удзельніца вызвалення Беларусі ў Вял Айч вайну, Герой Сав Саюза (1945) На фронце з 1941 Камсорг стралк батальёна ст лейтэнант Н вызначылася ў 1944 у баі пры прарыве абароны працiўніка ў Дубровенскім р-не 23 чэрв ў час наступлення палка каля в Кіраева з-за моцнага агню працiўніка пяхота залягла, Н першая паднялася ў атаку і павяла за сабой байцоў Загінула ў гэтым баі Яе імем названы вуліцы ў Дуброўне і Оршы, на яе магіле ў Дуброўне ўстаноўлены бюст Подзвіг Н увекавечаны ў мемар комплексе *Рыленкі*

Г А Нікандрава

В К Нікіфараў

П П Нікіфараў

**НІКІ́ФАРАЎ** Вячаслаў Кандратавіч (1909 — люты 1943), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў *Мінскага патрыятычнага падполля* ў Вял Айч вайну Перад вайной працаваў у Бел канторы Галоў нафтазбыту, з першых дзен акупацыі Мінска адзін з ініцыятараў стварэння і кіраўнік падп групы з работнікаў канторы Прымаў па радые і распаўсюджваў зводкі Саўінфармбюро, удзельнічаў у выратаванні і адпраўцы ў партыз атрады сав ваеннапалонных, на яго кватэры падпольшчыкі праводзілі нарады, хавалі шрыфты, падп л-ру З студз 1942 член, з 26 мая заг аддзела агітацыі і прапаганды Мінскага падп гаркома КП(б)Б, у жн — вер кіраваў падрыхтоўкай матэрыялаў і выпускам № 2—4 падп газ «Звязда» 25 9 1942 схоплены фашыстамі, знішчаны ў Трасцянецкім лагеры смерці

**НІКІФАРАЎ** Петр Паўлавіч [16(29) 7 1917, Віцебск — 7 4 1971], Герой Сав Саюза (1945) Скончыў Барысаглебскую школу летчыкаў (1939) У Чырв Арміі з 1938 У Вял Айч вайну з мая 1942 на 1-м і 2-м Укр франтах, штурман знішчальнага авіяпалка Удзельнік баеў пад Сталінградам, Курскай бітвы, вызвалення Украіны, Польшчы, Румыніі, Чэхаславакіі Зрабіў 297 баявых вылетаў, правеў 69 паветр баёў, збіў 20 самалетаў ворага Да 1960 у Сав Арміі, да 1971 на гасп рабоце

**НІКІ́ФАРАЎСКІ ЛЕ́ТАПІС**, помнік беларуска-літоўскага летапісання апошняй чвэрці 15 ст , спіс 2-й рэдакцыі *Беларуска-літоўскага летапісу 1446* Перадае яго тэкст хоць і няпоўна (без пачатку і канца, з пропускамі ў сярэдзіне), але больш дакладна, чым інш спісы Заканчваецца апісаннем падзей у ВКЛ пасля смерці Вітаўта *«Пахвала Вітаўту»* і *«Летапісец вялікіх князеў літоўскіх»* з *«Аповесцю пра Падолле»* ў гэтым спісе не зберагліся Н л грунтуецца на скарочаным агульнарус летапісе, у якім сцісла выкладаецца гісторыя Кіеўскай і Маскоўскай Русі, ВКЛ (канец 14—1-я трэць 15 ст ) У ім змешчаны кароткія пагадовыя запісы, апавяданні пра знач ныя гіст падзеі (паход Батыя на Русь Неўская бітва 1240 і інш ) Упершыню апублікаваны ў 1898 С Белакуравым перавыдадзены М Улашчыкам у Поўным зборы рускіх летапісаў (т 35 1980) Зберагаецца ў б-цы Рас АН у С -Пецярбургу

*Вячаслаў Чамярыцкі*

**НІКІФАРО́ЎСКІ** Мікалай Якаўлевіч [5(17) 5 1845, в Вымна Віцебскага р-на — 28 5(10 6) 1910], беларускі этнограф і фалькларыст Правадз чл Т-ва аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі Маскоўскага ун та (з 1890), Рус геагр т-ва (з 1897) Скончыў духоўную семінарыю ў Віцебску (1867) Працаваў настаўнікам нар вучылішчаў і гімназіі ў Віцебску і Віцебскай губ , у Свіслацкай і Маладзечанскай семінарыях З 1860-х г вывучаў побыт і культуру Беларусі Больш за 20 гадоў быў карэспандэнтам П В *Шэйна* з 1890-х г выступаў з самастойнымі працамі Апублікаваў каля 20 даследаванняў па этнаграфіі, фальклоры і гісторыі Віцебшчыны, у т л «Нарысы Ві

цебскай Беларусі» (ч 1—8, 1892—99), «Нарысы простанароднага жыцця-быцця ў Віцебскай Беларусі і апісанне прадметаў ужытку (Этнаграфічныя звесткі)» (1895), «Старонкі з нядаўняй старыны горада Віцебска» (1899) Складальнік зборнікаў «Простанародныя прыкметы і павер'і, прымхлівыя абрады і звычаі, легендарныя паданні пра асобы і мясціны» (1897, 2307 запісаў), «Простанародныя загадкі» (1898), «Нячысцікі Збор простанародных у Віцебскай Беларусі паданняў пра нячыстую сілу» (1907), «Напаўпрыказкі і напаўпрымаўкі, якія ўжываюцца ў Віцебскай Беларусі» (1910—13), «Беларускія песні-частушкі» (1911, 2356 частушак), «Напаўпрыказкі — напаупрыслаўкі» (1928)

*Літ* Карский ЕФ Белорусы Т 1 Вильна, 1904, Стукалич ВК НЯ Никифоровский, 1845—1910 гг Вильна, 1910, Бондарчик ВК, Чигринов ИГ НЯ Никифоровский Мн, 1960, Бандарчык ВК Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст Мн, 1964 *Васіль Бандарчык*



М Я **Нікіфароўскі**

**НІКІЦІН** Федар Пракопавіч [31 3(13 4) 1913, в Шпылеўшчына Бабруйскага пав, цяпер Кіраўскага р-на — 3 11 1979], Герой Сав Саюза (1945) Удзельнік сав-фінл вайны 1939—40 У Вял Айч вайну з 1943 партызан 540-га асобнага партыз атрада Магілеўскай вобл, з 1944 на фронце Камандзір стралк аддзялення сяржант Н вызначыўся ў чэрв 1944 пры вызваленні Чавускага р-на на чале аддзялення прабраўся ў тыл ворага, знішчыў 15 агнявых кропак, шмат жывой сілы праціўніка кали аддзяленне трапіла ў акружэнне і загінулі ўсе байцы, адзін адбіваў атакі гітлераўцаў У 1945—63 старшыня калгаса на радзіме, да 1973 на гасп рабоце

Ф П **Нікіцін**

**НІКÓЛЬСКАЯ** Рахіль Абрамаўна (н 18 11 1904, г Бярдзічаў, Украіна), бел гісторык Канд гіст н (1947) Скончыла Харкаўскі пед ін-т (1931) У 1944—48 працавала ў Ін-це гісторыі АН БССР, у 1949—68 на кафедры стараж свету і сярэдніх вякоў БДУ (з 1957 дацэнт) Даследавала гісторыю стараж свету, антычных Афін, першабытнай рэлігіі

*Тв* Раннегреческая тирания // Уч зап БГУ Мн, 1953 Вып 16, Социально-политическая борьба в Афинах в конце V в до н э // Там жа 1955 Вып 23, Право // Никольский Н М Культура древней Вавилонии Мн, 1959, Происхождение религии и ее первобытные формы Мн, 1968 *Міхаіл Корзун*

**НІКÓЛЬСКІ** Мікалай Міхайлавіч [1(13) 11 1877, Масква — 19 11 1959], бел гісторык, усходазнавец, даследчык гісторыі рэлігіі Акад АН БССР (1931), ч кар АН СССР (1946) Скончыў Маск ун-т (1900) Праф Смаленскага (з 1918), Беларускага (з 1922) ун-таў З 1931 узначальваў сектар этнаграфіі і фальклору Ін-та гісторыі АН БССР, у 1937—53 дырэктар гэтага ін-та У Айчынную вайну звязаны з мінскім падполлем, быў у партыз зоне (1943—44) Навук інтарэсы Н сфарміраваліся пад уплывам бацькі — вядомага ўсходазнаўца М В Нікольскага Даследаваў праблемы гісторыі Стараж Усходу, рэлігіі, этнаграфіі і фальклору Беларусі Даказаў існаванне абшчыннага ладу і хатняга рабства ў Стараж Двухрэччы і Фінікіі Распрацоўваў гісторыю ранняга хрысціянства, царквы і сектанцтва ў Расіі Даследаваў паходжанне бел абрадавых песень, прасачыў гісторыю ўзнікнення і відазмянення бел шлюбных рытуалаў да канца 19 ст Дэп Вярх Савета БССР у 1947—59 У Мінску на доме, дзе жыў Н, мемарыяльная дошка

М М **Нікольскі** Работа мастака М Тараскава 1940

*Тв* Древний Вавилон М, 1913, Дохристианские верования и культы днепровских славян М, 1929, Політэізм і монатэізм у яўрэйскай рэлігіі Мн, 1931, Частное землевладение и землепользование в Древнем Двуречье Мн, 1948, Этюды по истории финикийских общинных и земледельческих культов Мн, 1948, Происхождение и история белорусской свадебной обрядности Мн, 1956, Культура древней Вавилонии Мн, 1959, История русской церкви Мн, 1990

*Літ* Ботвинник М Н М Никольский Мн 1967

**НІСÍМКАВІЧЫ**, комплекс археалагічных помнікаў (гарадзішча, селішчы, курганны і бескурганны могільнікі) каля в Нісімкавічы Чачэрскага р-на У працэсе даследаванняў на гарадзішчы памерам 62 × 52 м выяўлены рэшткі пабудовы (15 × 2—2,5 м), 4 агнішчы, фрагменты ляпной керамікі, гліняныя праслiцы і грузікі, бронзавае скроневае кольца, зерняцерка і інш Заснавана насельніцтвам *мілаградскай культуры* (7—3 ст да н э), пазней асвоена носьбітамі *зарубінецкай культуры* (2 ст да н э — 1 ст н э) На пяці селішчах 5—7 і 9—11 ст выяўлены рэшткі пабудоў *калочынскай культуры* (паузямлянкі, гасп пабудовы і ямы), фрагменты ляпнога і ганчарнага посуду, жал нажы,

звай Шчокат з в Сеўрукі (140 рэвізскіх душ, 4594 дзесяціны зямлі) у памешчыкаў Кільчэўскіх і Усціновіча Новы горад паводле ўказаў належала называць «по-прежнему Белицы» 10 3 1791 Сенат даручыў магілеўскаму намесніку П Пасеку перасяліць 302 сялян с Прыбыткі і в Дуянаўка на пасад Н Б У 1786—1852 Н Б — цэнтр *Беліцкага павета* У 1828 пабудавана Васільеўская (пазней згарэла), у 1842 — Нікольская (не захавалася) правасл цэрквы У сярэдзіне 19 ст нававеліцкім жыхарам перададзена царква скасаванага ў 1850 стараверскага Пахом'ева манастыра ва урочышчы Чонка, якая перабудавана ў Аляксандра-Неўскую царкву (не захавалася) У 1854 Н Б далучана да Гомеля як прадмесце У 1880—1646 ж , 305 дамоў Сувязь з Гомелем ажыццяўлялася па драўляным мосце цераз Сож У 1897 у Н Б 2957 ж , 405 двароў, 2 царквы, 2 малітоўныя стараверскія дамы, 3 яўр малітоўныя школы, прыходскае вучылішча (з жаночай зменай), 2 чыг станцыі на лініі Лібава-Роменскай і Палескай чыг , крупадзерка, вятрак, запалкавая ф-ка, канатны з-д, пенькатрапальня, пякарня, 26 крам, 6 корчмаў і інш У пач 20 ст існавалі лесапільная ф-ка і лесапільна-бандарны з-д У 1940 утвораны Навабеліцкі р-н г Гомеля (у 1948 быў скасаваны, у 1951 адноўлены)

*Літ* Кіштымаў А Гісторыя з геаграфіяй Беліца старая і новая // Палессе 1997 № 2

**«НО́ВАЯ ВА́РТА»** («Novaja varta»), грамадска-навуковы і літаратурны часопіс бел студэнцкай моладзі Віленскага ун-та, аб'яднанай у арг-цыю «Скарына» Выдаваўся ў 1931—32 і 1934 у Вільні на бел мове лацінкай Выходзіў неперыядычна Рэдактары-выдаўцы К Глінскі, Т Грышкевіч (з 3-га нумара) Асвятляў грамадскую і культ -асв дзейнасць бел студэнтаў, узнімаў пытанні нац -вызв руху, супрацоўніцтва з польскімі студэнцкімі арг-цыямі (арт «Ад рэдакцыі», «Абавязак хвіліны» Я Зенюка, «Адно з пытанняў» А Бартуля, «Чэцьверць веку існавання беларускай прэсы») Публікаваў дыскусійныя матэрыялы, у якіх разглядаліся розныя погляды на кірункі развіцця сусв грамадства (арт «У дарозе да новага ладу» Бартуля, «Барацьба з інтэлектам») Друкаваў хроніку культ -грамадскага жыцця моладзі Зах Беларусі, даследаванні па гісторыі і л ры («Леў Сапега — вялікі канцлер літоўскі» пад крыптанімам «Ш », «Крытычныя моманты з жыцця Купалы і Коласа — паводле іх твораў» Ант Навіны, «Заходнебеларускія заўвагі Проса»), творы Х Ільяшэвіча, В Багдановіча (Вішаблянін), Бартуля, Дж Свіфта Выйшлі 3 нумары Выданне спынена ў сувязі с самаліквідацыяй «Скарыны»

*Сяргей Ёрш, Арсень Ліс*

**НО́ВАЯ ГІСТО́РЫЯ**, перыяд *сусветнай гісторыі* з 16 да пач 20 ст Гл ў арт *Новая і навейшая гісторыя*

**«НО́ВАЯ ДАРО́ГА»**, штотыднёвая газета Выдавалася ў 1942—44 у Беластоку на бел мове з дазволу герм улад у перыяд акупацыі Беларусі ням -фаш захопнікамі ў Вял Айч вайну Выдавец — беластоцкае Бел нац згуртаванне Гал рэдактар Х Ільяшэвіч Публікавала ваен зводкі, артыкулы на міжнар тэмы, агляды сац -эканам сітуацыі на Беларусі, матэрыялы антысемітцкага, антырус і антыпольскага характару На старонках газеты змешчаны артыкулы пра Міндоўга, Л Сапегу, П Крачэўскага і інш гіст асоб, пра падзеі мінулага, стараж каштоўнасці, успаміны К Езавітава пра Ф Аляхновіча, М Сяднева пра А Цвікевіча, звесткі па геаграфіі Беларусі, рэцэнзіі, асобныя творы бел пісьменнікаў Друкавала хроніку культ жыцця, дапаможны вучэбны матэрыял, с -г парады Выйшла больш за 100 нумароў

*Літ* Жумарь С В Оккупационная периодическая печать на территории Беларуси в годы Великой Отечественной войны Мн , 1996

*Сяргей Жумар*

**НО́ВАЯ І НАВЕ́ЙШАЯ ГІСТО́РЫЯ**, 1) асобы перыяд *сусветнай гісторыі* ад канца сярэдніх вякоў да нашых дзён, калі чалавецтва ўпершыню ўсвядоміла унікальнасць свайго існавання 2) Галіна гіст навукі, якая вывучае гэты перыяд У адрозненне ад папярэдніх эпох у Еўропе сфарміравалася ўяўленне пра сусв характар развіцця, адзінства і разнастаінасць гіст працэсу Рэлігія, разуменне прыроды, грамадства, дзярж лад — усе трапіла пад жорсткую крытыку і моцны ўплыў розуму Вял геагр адкрыцці, рэліг войны, прамысл і сац рэвалюцыі непазнавальна змянілі аблічча Еўропы У сваім імклівым руху яна вырвалася за рамкі ўласных гіст -геагр межаў Адбывалася збліжэнне краін і народаў, якое, аднак, не было добраахвотным Пачынаючы з 15 ст Еўропа ажыццявіла грандыезную экспансію і ўстанавіла свае панаванне над светам У выніку *гісторыя* сапраўды стала сусветнай

Паняцце «новы час» узнікла ў эпоху Адраджэння (14—1-я пал 15 ст ) Росквіт навукі і мастацтва таго перыяду еўрап гуманісты назвалі «новай эпохай», бо лічылі, што Еўропа ўступіла ў асобы перыяд свайго развіцця Гуманісты звязвалі з ей вял надзеі і нават падзялілі гісторыю чалавецтва на стараж , сярэднюю і новую Гэтыя паняцці ў гіст навуцы трывала замацаваліся да нашага часу У 20 ст яны дапоўнены паняццем «сучасная» ці «навейшая гісторыя» Гісторыя новага часу пачынаецца з 16 і заканчваецца пачаткам 20 ст За гэты час чалавецтва прайшло шлях ад безагаворачнай веры ў ідэю прагрэсу і светлага будучага да знішчальнай 1-й сусв вайны (1914—18) Гісторыкі падзяляюць новы час на 2 вял перыяды За пункт адліку 2-га перыяду звычайна бяруць Франц рэвалюцыю канца 18 ст , якая завяршыла папярэдні этап развіцця і адкрыла новы, што закончыўся 1-й сусв вайной і Кастр рэвалюцыяй 1917 у Расіі У сваю чаргу 1-я сусв вайна стала рубяжом новага і навейшага часу У сав гіст навуцы навейшая гісторыя характарызавалася як эпоха крушэння *капіталізму* і перамогі *сацыялізму* У сапраўднасці навейшая гісторыя практычна не мае канца і з'яўляецца працягам Новай гісторыі Так званыя глабальныя праблемы чалавецтва бяруць пачатак у эпосе, аддаленай ад нас сама меней на 3—4 стагоддзі Адзінства і ўзаемазалежнасць сучаснага свету былі б немагчымыя без Вял геагр адкрыццяў, навук -тэхн дасягненняў, прамысл рэвалюцыі і многага інш , што зараджалася і эвалюцыяніравала ў Новы час Асн змест Новага часу — хуткі рост і ўмацаванне Заходняй цывілізацыі На Захадзе раней, чым дзе-небудзь, узнік асобы і унікальны тып грамадства — капіталізм Яго з'яўленне часта характарызуецца як «еўрапейскі цуд» Менавіта пры капіталізме еўрапейцы стварылі індустрыяльную сістэму прадукцыйных сіл, якая проціпаставіла іх усяму дакапіталіст свету Дзякуючы ваен і тэхн перавазе Захад стаў гаспадаром свету, падпарадкаваўшы сабе ў 16—18 ст народы Азіі, Афрыкі і Амерыкі Доўгі час пра гэта гаварылі як пра загадку Усходу Аднак больш правільна было б сказаць пра вял тайну Захаду, паколькі нідзе за межамі Зах Еўропы не адбылося самастойнага і натуральнага ўзнікнення капіталізму Дасягнуўшы небывалага росквіту і моцы, Еўропа стала лідэрам свету Развіцце капіталізму, якое суправаджалася каланіяльнай экспансіяй еўрап дзяржаў, прывяло да ўстанаўлення цеснай узаемасувязі паміж краінамі і цывілізацыямі Гэты працэс быў зусім не мірны і не добраахвотны Ён суправаджаўся шматлікімі войнамі і каланіяльным грабяжом Нават некалі магутныя краіны Усходу не змаглі процістаяць настойлівай і прадпрымальнай Еўропе Упершыню ў гісторыі адна цывілізацыя ўсталявала своеасаблівы «кантроль» над усімі інш , навязала ўсяму свету індустрыяльную мадэль развіцця У адрозненне ад папярэдніх эпох гісторыя перастала быць арыфметычнай сумай ізаляваных адна ад адной краін і цывілізацый Еўрапейцы прыйшлі на іншыя кантыненты не толькі са зброяй Разам з імі пранікалі навук і тэхн веды, чыгункі і паравозы, газеты і парламент, многія інш атрыбуты еўрап ладу жыцця Даўно пачаты дыялог цывілізацый працягваецца Не без цяжкасцей і паступова краіны Азіі, Афрыкі і Лац Амерыкі засвойваюць многія еўрап адкрыцці і дасягненні, што маюць агульначалавечае значэнне У ходзе гэтага складанага і супярэчлівага працэсу Японія, напр , нават абганяе ў наш час сваіх еўрап настаўнікаў, як некалі еўрапейцы абганялі Азію Нягледзячы на войны і рэвалюцыі, асобае месца ў гісторыі Новага і навейшага часу займае 19 ст У Еўропе ўзнікла індустрыяльная цывілізацыя Гэта было, магчыма, самае аптымістычнае стагоддзе ў еўрап гісто-

сялянства на эканам аснове, развіцце прам-сці на базе электрыфікацыі, кааператыванне насельніцтва, выкарыстанне таварна-грашовых адносін, укараненне гасп разліку, асабістай зацікаўленасці ў выніках працы, часовы допуск капіта ліст элементаў у эканоміку, удасканаленне дзярж планавання і кіравання, барацьбу з бюракратызмам, адм -камандным звычкамі і камчванствам, павышэнне культуры ва ўсіх сферах чалавечай дзейнасці Пры гэтым улічваліся эканам, паліт, нац і прыродныя ўмовы рэгіенаў

У Беларусі правядзенне нэпа пачалося ў надзвычай неспрыяльных умовах Разруха, разрыў ці аслабленне ранейшых гасп сувязей, распыленне рабочага класа, бядотнае становішча ўсяго насельніцтва праявіліся тут значна васірэй, чым у іншых рэгіенах краіны Прамысловасць і сельская гаспадарка знаходзіліся ў занядбаным стане З 815 буйных прамысл прадпрыемстваў бяздзейнічалі 470 Прамысл вытворчасць скарацілася ў 5 разоў, валавая прадукцыя сельскай гаспадаркі складала крыху больш за палову даваеннай Своеасаблівасць нэпа на Беларусі была абумоўлена шэрагам умоў Да 1924 БССР складалася з 6 паветаў б Мінскай губ , займала тэрыторыю 52,3 тыс км² Большая частка тэрыторыі, заселенай беларусамі, уваходзіла ў склад Віцебскай, Гомельскай і Смаленскай губ РСФСР На эканоміцы рэспублікі адбіліся і вынікі *Рыжскага мірнага дагавора 1921* Захоп зах раенаў Польшчы парушыў эканам сувязі, што склаліся гістарычна Неабходна было шукаць новыя рынкі збыту і крыніцы сыравіны ўзамен страчаных Цяжкае эканам становішча рэспублікі узмацнялася масавым паліт і крымінальным бандытызмам За 1921—22 было ўчынена больш за 2,1 тыс бандыцкіх нападаў Да сак 1921 антысав атрады, сканцэнтраваныя паблізу польска-сав граніцы, налічвалі звыш 13 тыс чал Як адзначаў ЦК КП(б)Б, увесь 1921 працягвалася жорсткая барацьба з бандытызмам Толькі з 1922 пачалася сапраўдная праца па аднаўленні эканомікі Спецыфіка нэпа у Беларусі тлумачылася і сац -эканам структурай гаспадаркі Сельская гаспадарка пераважала над прам-сцю, у асн дробнай і часткова сярэдняй Сярэднія прадпрыемствы займаліся гал чынам перапрацоўкай прадукцыі сельскай і лясной гаспадаркі Каля паловы ўсей прамысл прадукцыі выпускалі саматужнікі і рамеснікі У такіх умовах у БССР даводзілася аднаўляць прам сць, транспарт, промыслы, ажыўляць гандаль, умацоўваць сувязь паміж горадам і вескай Тым не менш гасп механізм нэпа заахвочваў да больш высокай прадукцыйнасці і добрасумленнай працы, стымуляваў спалучэнне асабістых інтарэсаў з грамадскімі Натуральны падатак паступова зніжаўся, а потым наогул заменены грашовым З мэтай большага заахвочвання селяніна былі гарантаваны яго правы на валоданне зямлеи, хоць дзярж ўласнасць на зямлю заставалася Былі санкцыянаваны з некат абмежаваннямі наемная праца і арэнда зямлі Вынікі нэпа ў хуткім часе сталі адчувальнымі У 1925 сельская гаспадарка ў асн дасягнула даваен ўзроўню У 1926 кошт усей валавой прадукцыі ў даваен ацэнцы склаў 384,8 млн руб і перавысіў сярэднегадавыя паказчыкі 1911—13 на 9,8% Насельніцтва рэспублікі было забяспечана хлебам (прыклад на 180 кг збожжа на 1 чал ў горадзе і 220 кг у весцы) Гараджане сталі спажываць больш за 41 кг мяса пры сярэднім спажыванні яго на душу 29 кг у 1913 З 1921 па 1926 спажыванне мала ка ў сельскай мясцовасці павялічылася ў 2 разы, масла — у 3, мяса — у 2, цукру — больш чым у 8, рыбы — амаль у 12 разоў Гал асаблівасць нэпа — эканам рэформа, заснаваная на дэцэнтралізацыі і шырокай аўтаноміі прамысл прадпрыемстваў, пераведзеных на гасп (у рамках дзяржбюджэту і цвердых цэн) і камерцыйны (атрыманне прыбытку за кошт дагаворна-рыначных цэн) разлікі Усе главкі, якія раней кіравалі нар гаспадаркай, былі скасаваны Створаныя замест іх трэсты і сіндыкаты падпарадкоўваліся непасрэдна Вышэйшаму савету нар гаспадаркі Праводзілася рэарганізацыя рэсп , губ і павятовых саўнаргасаў, ствараліся новыя формы кіравання прам-сцю Зыходзячы з таго, што дробныя і сярэднія прадпрыемствы было немэтазгодна аб'ядноўваць у трэсты, асн формамі кіравання першапачаткова былі групавыя аб'яднанні і ўпраўленні, якія аб'ядноўвалі прадпрыемствы па прынцыпу аднароднасці вытв-сці і тэрытарыяльнага размяшчэння Аднак пасля 1-га *ўзбуйнення БССР* (сак 1924) былі створаны на ўсей тэр БССР трэсты У 1922 для забеспячэння работы дзярж прадпрыемстваў ва ўмовах недахопу матэрыяльных, сыравінных і грашовых рэсурсаў у непасрэдным падпарадкаванні бел саўнаргасаў з 595 прадпрыемстваў пакінулі толькі 167 Каб падрыхтаваць іх для выхаду на рынак ва ўмовах канкурэнцыі, была ўведзена калькуляцыя сабекошту Каля 300 прадпрыемстваў, пераважна дробных, было здадзена ў арэнду прыватнікам Гэта мела асабліва вял значэнне для Беларусі, дзе ў 1926 дробнасаматужная вытв-сць складала 42,1% усей прамысл прадукцыі і раўнялася 88,7 млн залатых руб Арэнда ў прам-сці была адзінай формай дзярж капіталізму ў БССР, канцэсіі і акцыянерныя т-вы тут не атрымалі развіцця Прыватны капітал, які валодаў 96,4% усіх прадпрыемстваў у дробнай прам-сці, садзейнічаў умацаванню эканам сувязі паміж горадам і вескай Палітыка нэпа спрыяла кольскаснаму росту рабочых і павышэнню прадукцыйнасці працы Ужо ў 1922/23 гасп г выпуск прадукцыі на 1 рабочага ў буйной прам-сці Беларусі перасягнуў узровень 1913, а ў 1927 прадукцыйнасць працы перавысіла даваен ўзровень амаль у 1,8 раза У 1926/27 гасп г завяршыўся працэс аднаўлення прам-сці рэспублікі Гэтаму садзейнічалі пераход з пач 1923 на здзельную аплату працы і выплату зарплаты з 1924 не натурай, а грашыма У зарплату ўключаўся і кошт камунальных паслуг для сем'яў рабочых і служачых Адначасова была знята забарона на гандаль Гал рэгулятарам эканам дзейнасці стаў рынак У 1922/23 на долю прыватніка прыпадала 90% усіх гандл прадпрыемстваў і 85% тавараабароту Пераадольвалася інфляцыя, умацоўвалася грашовая сістэма Вял сетка бірж, кірмашоў, розных гандл прадпрыемстваў умацоўвала сувязь прам-сці з рынкам, сялянамі Пасля завяршэння грашовай рэформы вясной 1924 у абарот былі выпушчаны чырвонец, які забяспечваўся золатам Вяртанне да агульнапрынятай фінансавай палітыкі пачалося ў ліст 1921 з аднаўлення Дзярж банка і працягвалася шляхам развіцця традыц падатковай сістэмы, крэдыту, ашчадных кас і бан каўскай справы Палітыка нэпа застава лася ў сіле 7 гадоў, да наступлення «вялікага пералому» ў 1928—29 Аднак па меры завяршэння аднаўленчага перыяду сістэма нэпа пачала «працаваць» са збоямі Нэп разняволіў сілы рынку, садзейнічаў уздыму эканомікі краіны і адначасова стымуляваў далейшую маемасную няроўнасць Фабрыкі і заводы зарацавалі, але зноў з'явіліся гаспадары Масавае беспрацоўе ў гарадах пераўтварылася ў вострую сац праблему Яшчэ больш радыкальна нэп ламаў адносіны ў весцы, у якой працягвалася глыбокае расслаенне Напр, даход у бядняцкіх гаспадарках быў у 4,6 раза, а ў серадняцкіх у 2,3 раза ніжэйшы, чым у заможных (кулацкіх) Жывучай была і «ваенна-камуністычная» ідэалогія ў асяроддзі парт -дзярж апарату Па меры таго, як нэп ставіў усе больш цяжкія пытанні перад паліт сістэмай, усе часцей узнікалі тэндэнцыі да яго згортвання Многія кіраўнікі партыі, радавыя яе члены лічылі, што нэп з'яўляецца не пераходам да прынцыпова новай мадэлі сацыялізму, якая адпавядала б яго гуманіст прыродзе, а толькі тактыкай прымірэння з сялянствам Больш таго, нэп патрабаваў не столькі «класавага чуцця», колькі прафесійнага ведання той справы, кіраўніцтва якой на іх было ўскладзена Але ў асяроддзі кіраўнікоў панавала пагарда да аваладання тэхн і эканам ведамі І «выхад» быў знойдзены ў вяртанні да сістэмы камандна-адм метадаў, якія не ўпісваліся ў нэп

*Літ* Белорусская Советская Социалистическая Республика Мн , 1927, Промышленность БССР Итоги и перспективы Мн 1928, Белорусская ССР в цифрах К 10-летию существования БССР, 1919—1929 Мн , 1929, Экономика Советской Белоруссии, 1917—1967 Мн , 1967, Белорусская ССР за 50 лет Стат сб Мн , 1968, Экономическая история БССР М , 1969, Гісторыя Беларускай ССР Т 3 Мн , 1973, Коммунистическая партия Белоруссии в резолюциях и решениях съездов и пленумов ЦК Т 2 1928—1932 Мн 1984, Горинов М М Нэп поиски путей развития М , 1990, Карр Э История Со

ветской России Пер с англ Кн 1 М , 1990, Валентинов Н (Н Вольский) Новая экономическая политика и кризис партии после смерти Ленина Годы работы в ВСНХ во время нэп М , 1991, На путях к рыночным отношениям В И Ленин о нэпе М , 1991, Нарысы гісторыі Беларусі Ч 2 Мн , 1995 *Уладзімір Асмалоўскі*

**НОВІК** Яўген Канстанцінавіч (н 17 8 1939, в Рахавец Любчанскага р-на Баранавіцкай вобл , цяпер Навагрудскі р-н), бел гісторык Д-р гіст н (1989), праф (1991) Скончыў Мінскі пед ін-т (1962) З 1962 працаваў настаўнікам, выкладчыкам Навагрудскага гандл -эканам тэхнікума З 1970 у Мінскім пед ін-це, Мінскім ін-це культуры, Рэсп міжгаліновым ін-це павышэння кваліфікацыі кіруючых кадраў і спецыялістаў галін нар гаспадаркі З 1990 заг кафедры гуманіт дысцыплін Бел дзярж ун-та інфарматыкі і радыеэлектронікі Даследуе гісторыю культ будаўніцтва, паліт партый, арг-цый і рухаў, сац -эканам , паліт і культ развіцця Беларусі Адзін з аўтараў вучэбнага дапаможніка «Гісторыя Беларусі» (ч 1—2, 1998)

*Тв* Минский Ордена Трудового Красного Знамени государственный педагогический институт им А М Горького, 1922—1972 Мн 1974 (у сааўт ), Участие Ленинского комсомола Белоруссии в борьбе за подъем народного образования (1920—июнь 1941 гг ) Мн , 1979 (у сааўт ), Формирование кадров народного образования Белоруссии (1917—1941 гг ) Мн , 1981, Содержание, форма и методы работы по обучению и коммунистическому воспитанию молодежи (1941—1980 гг ) Мн , 1982 (у сааўт )

**НОВІКАЎ** Іван Рыгоравіч (н 26 1 1918, в Нязнань Клімавіцкага пав Магілёўскай губ , цяпер Клімавіцкі р-н), бел пісьменнік, журналіст Засл дзеяч культуры Беларусі (1967) Вучыўся ў Аршанскім настаўніцкім ін-це (1938) і ў Ленінградскім ін-це журналістыкі (1939—41), скончыў БДУ (1955) Удзельнік Вял Айч вайны Працаваў у газ «Камуна» (Клімавічы, 1935—38), «Советская Белоруссия» (1946—57), «Правда» (1957—86)

Друкаваўся з 1948 Пачаў з дакумент нарысаў, у т л «Дзесяць тыдняў у Злучаных Штатах Амерыкі» (1958), «Палескае золата» (1959), «Побач сябры» (1960), «Вера Харужая» (1962) і інш Услаўленне барацьбы бел падпольшчыкаў і партызан у Вял Айч вайну ў дакумент аповесцях «Руіны страляюць ва ўпор» (1962), «Дарогі скрыжаваліся ў Мінску» (1964, Літ прэмія Я Коласа 1965), «Да світання блізка» (1974), якія склалі трылогію «Мінскі фронт» (у пер на рус мову, 1977—78, літ прэмія А А Фадзеева 1980), аповесці «Тварам да небяспекі» (1967, Дзярж прэмія Беларусі імя П М Лепяшынскага 1968), гіст нарысах «Бяссмерце Мінска» (1977) і «Мінск—горад-герой» (1986) Аўтар зб-ка фельетонаў «Уласны іншаземец» (1960), рамана «Ачышчэнне» (1987), кнігі аповесцей і апавяданняў «Параненая памяць» (1990) Дзярж прэмія Беларусі 1974 за сцэнарый шматсерыйнага тэлефільма «Руіны страляюць » (з І Чыгрынавым, паст 1973)

Ц П Новікаў.

**НОВІКАЎ** Ціт Парфенавіч [18(31) 3 1907, в Салтанаўка Рагачоўскага пав , цяпер Чачэрскага р-на — 5 3 1974], Герой Сав Саюза (1943) У Чырв Арміі з 1929 У Вял Айч вайну з 1941 на Цэнтр , 1-м Укр франтах, камандзір стралк ўзвода, роты Вызначыўся ў 1943 пры фарсіраванні Дняпра 27 вер рота на чале са ст лейтэнантам Н перапраўлілася цераз раку на Пд ад Кіева, на наступны дзень авалодала с Яснагародка, фарсіравала Дняпро каля ст Глебаўка і замацаваўшыся ў в Казаровічы, стварыла ўмовы для пераправы інш падраздзяленняў Да 1946 у Сав Арміі, да 1958 на гасп рабоце

**НОВІКАЎ** Якім Іванавіч [9 (21) 9 1874, в Дарынполле Рагачоўскага пав , цяпер у Веткаўскім р-не — ?], кавалер 4 Георгіеўскіх крыжоў Працаваў сталяром З 1898 у арміі на тэрміновай, потым на звыштэрміновай службе За мужнасць і храбрасць у руска-японскай вайне 1904—05 узнагароджаны Георгіеўскім крыжам 4-й ступені У 1-ю сусв вайну за асабістую адвагу ў баях ва Усх Прусіі ў жн 1914 узнагароджаны Георгіеўскімі крыжамі 3-й, 2-й і 1-й ступеней Быў тройчы паранены У 1916 прапаршчык 97-га пях Ліфляндскага палка

С Новік-Пяюн

**НОВІК-ПЯЮН** Сяргей Міхайлавіч [14(27) 8 1906, в Лявонавічы Слуцкага пав Мінскай губ , цяпер Нясвіжскі р-н—26 8 1994], бел пісьменнік Скончыў Нясвіжскую гімназію (1924), вучыўся на бел настаўніцкіх курсах у Вільні (1925—26) У 1926 стварыў у Лявонавічах бел нар хор (існуе і цяпер) і тэатр, бел б-ку, арганізаваў гурток ТБШ, за што на 5 гадоў высланы польск уладамі ў г Свеце над Віслай Пасля вяртання зноў арыштаваны, высланы пад нагляд паліцыі ў Слонім У 1939 зняволены ў турму ў Баранавічах, адтуль вызвалены Чырв Арміяй У 1939 інспектар Слонімскага райаддзела нар адукацыі, дырэктар Слонімскага краязнаўчага музея У час Вял Айч вайны выратаваў экспанаты і б-ку музея У 1943 арыштаваны слонімскім СД і прыгавораны да пакарання смерцю У час расстрэлу 4 7 1944 паранены, прытварыўся мертвым, што выратавала яго 14 12 1944 па ілжывым даносе арыштаваны сав карнымі органамі і зняволены ў турму 24 3 1945 ваен трыбуналам асуджаны на 10 гадоў пазбаўлення волі, адпраўлены на Калыму Рэабілітаваны ў 1958 З 1959 жыў у Слоніме, Нясвіжы, з 1960 у Мінску

Друкаваўся з 1925 Выдаў у Вільні п'есы «Елка Дзеда Мароза», «Пакой у наймы», «Цудоўная ноч» (усе 1927) «Прадка пад крыжам» (1939) У 1927—31 супрацоўнічаў з віленскім час для дзяцей «Заранка», у 1940—41 друкаваўся ў слонімскай газ «Вольная праца» З 1960 выступаў у бел рэсп друку Аўтар зб-каў лірыкі «Заўседы з песняй» (1984), «Зорачкі ясныя» (1986), успамінаў пра Я Купалу, Г Леўчыка, І Стаброўскага, Я Карскага, ген Я Леашэню Найб поспеху дасягнуў у жанры песні Папулярныя песні на словы і музыку Н -П «Зорачкі» і «Над Шчарай» («Слонімскі вальс») лічацца народнымі Кніга вершаў «Песні з-за кратаў» засталася ў рукапісе Займаўся перакладамі на бел мову *Любоў Гарэлік*

**«НОВІНЫ ВІЛЕНЬСКЕ»** («Nowiny Wileńskie», «Віленскія навіны»), штодзенная газета Выдавалася з 4(17) 1 да 20 2(5 3) 1906 у Вільні на польскай мове Рэдактар — З Багдановіч, уладальнік — віленскі біскуп Э Ю *Роп* Падзеі паліт, сац -эканам і культ -рэліг жыцця Беларусі і Літвы асвятляла з пазіцыі хрысціянскай дэмакратыі Значнае месца адводзіла навінам з жыцця католікаў Віленскай дыяцэзіі Адыграла прыкметную ролю ў стварэнні *Канстытуцыйна каталіцкай партыі Літвы і Беларусі* Кіраўнік партыі Роп у шэрагу артыкулаў выступіў з тлумачэннем асн палажэнняў парт праграмы У нац пытанні адстойвала правы палякаў, літоўцаў і беларусаў на самастойнае культ развіццё і свабоду ў межах Рас дзяржавы Свабода разумелася як дасягненне аўтаноміі эт-

натр Літвы і Беларусі Выйшлі 32 нумары У лютым 1906 Роп стаў уладальнікам газ *«Кур'ер Літэўскі»* і далучыў «Н В» да сваей новай газеты

*Алесь Смалянчук*

**«НО́ВОЕ ВАРША́ВСКОЕ УТРО»**, газета Выдавалася ў Мінску штодзенна, акрамя панядзелка, у 1915—17 на рус мове, належала М Дворжацу Рэдактар І Я Радштэйн, з лют 1916 па ліст 1917 — М Ш Усман Да Лют рэвалюцыі мела выключна інфарм -камерцыйны змест. Асвятляла гар жыццё (рубрыка «Мінск»), падзеі на франтах («Паведамленні са Стаўкі», «На фронце і ў тыле») Змяшчала ўрадавыя распараджэнні і загады мясц улад З сак 1917 набыла паліт афарбоўку У новых рубрыках «Партыйнае жыццё», «Рабочае жыццё», «Па краі», «Па губерні» і інш асвятляла ход усталявання новага ладу, фарміравання і дзейнасці нац рухаў, партыйных, грамадска-паліт , прафесійных і інш арг-цый Паведамляла аб важнейшых падзеях грамадска-паліт жыцця Расіі Не заяўляючы аб сваей прыналежнасці да пэўнай сацыяліст партыі, абвясціла праграмай дзейнасці платформу Петраградскага Савета (№ за 25 чэрвеня) Вяла ідэйную барацьбу супраць мясц сіяністаў і кадэтаў На выбарах у гар думу падтрымлівала кандыдацкі спіс сацыял-дэмакратаў Кастр рэвалюцыю сустрэла варожа У сувязі з высылкай бальшавіцкімі ўладамі з Мінска М Ш Усмана ў снеж 1917 выданне газеты спынена

*Мікалай Сяменчык*

**НО́ВЫ БО́ЛЕЦК**, гарадзішчы жал веку і ранняга сярэдневякоўя каля в Новы Болецк Гарадоцкага р-на Гарадзішча-1 (8 ст да н э — 5 ст н э) *днепра-дзвінскай культуры* памерам 45 × 30 м, з паўн боку ўмацавана валам і равамі Выяўлены рэшткі жылых пабудоў слупавой канструкцыі, жалезаапрацоўчай майстэрні, гасп ямы, жал сякеры, сярпы, наканечнікі стрэл, посахападобныя шпількі, касцяныя долаты, гліняныя праслліцы, бронзавыя ўпрыгожанні, фрагменты ляпнога посуду гладкасценнага і арнаментаванага адбіткамі тканіны ямкамі і перакрэсленымі лініямі Гарадзішча-2 у жал веку было сховішчам, у 10—12 ст функцыянавала як паселішча, у 14—15 тут былі могілкі Складаецца з 2 пляцовак памерам адпаведна 45 × 30 і 36 × 25 м Знойдзены нажы, праслліцы, шкляныя пацеркі, фрагменты ганчарнага посуду 10—15 ст, бронзавыя пярсцёнкі, падвескі, званочак, каменны крыж памерам 40 × 30 см і інш Выяўлены магільныя агароджы, складзеныя з вял камянёў, камень з антрапаморфнай выявай

**НО́ВЫ БЫ́ХАЎ**, комплекс археалагічных помнікаў (стаянкі каменнага веку, селішча і бескурганны могільнік) каля в Новы Быхаў Быхаўскага р-на На стаянцы-1 *сожскай культуры* (6—5-е тыс да н э,) выяўлены крамяневыя скрабкі, разцы, свідэроідны наканечнік стралы, праколка, вастрыі, пласціныўкладышы, адшчэпы, нуклеусы, адбойнікі На стаянцы-2 эпохі неаліту (4—3-е тыс н э) знойдзены нуклеусы, пласціны, адшчэпы, скрабкі, нажы, фрагменты ямкава-грабеньчатай керамікі На селішчы (2 ст да н э — 5 ст н э і 9—11 ст) выяўлены розначасовыя гасп ямы, фрагменты ляпнога і ганчарнага посуду Бескурганны могільнік належаў плямёнам *зарубінецкай культуры* (1 ст да н э — 3 ст н э, 100 пахаванняў) Пахавальны абрад — трупаспаленне Рэшткі крэмацыі змяшчаліся ў ямах, трапляюцца адзінкавыя урнавыя пахаванні У 4 пахаваннях знойдзены цэлыя гаршкі, у 6 — бронзавыя і жал рэчы

**НО́ВЫ ДВОР**, веска, цэнтр сельсавета Шчучынскага р-на Гродзенскай вобл На аўтадарозе Астрына—Радунь За 30 км на ПнЗ ад Шчучына, 55 км ад Гродна, 36 км ад чыг ст Ражанка 695 ж, 275 двароў (1998)

Вядома з 15 ст У 1480 тут пабудаваны касцел З 1720 мястэчка У 1749 пабудаваны драўляны Юр'еўскі касцел (захаваўся) З 1795 у Расійскай імперыі З 1843 у Лідскім пав Віленскай губ Жыхары мястэчка прымалі ўдзел у паўстанні 1863—64 У сак 1863 каля Н Д царскія войскі разбілі паўстанцкі атрад Лідскага пав на чале з Л *Нарбутам* У 1897 у мястэчку 822 ж, касцел, 2 малітоўныя дамы, капліца, вадзяны млын, 3 крамы, 2 карчмы З 1921 у складзе Польшчы, цэнтр гміны Шчучынскага пав Навагрудскага ваяв У 1937 у Н Д 655 ж, касцел, царква, паштовае агенцтва, праводзіліся таргі З 1939 у БССР З 1940 цэнтр сельсавета Васілішкаўскага р-на Баранавіцкай вобл З 20 9 1944 у Гродзенскай вобл З 20 1 1960 у Шчучынскім р-не (у 1960—61 у Радунскім р-не) Лясніцтва, цэх кансерваваных вырабаў Сярэдняя школа, дзіцячая дашкольная ўстанова, б-ка, Дом культуры, амбулаторыя, аддз сувязі, магазіны Помнікі архітэктуры Юр'еўскі касцел, капліца (1882)

*Уладзімір Мальцаў*

**НО́ВЫ МЯ́ДЗЕЛ**, назва часткі г п *Мядзел* да 1921

Да арт **Новы Свержань** Царква Ушэсця 17 ст

**НО́ВЫ ПАГО́СТ**, веска, цэнтр сельсавета ў Міёрскім р-не За 18 км на ПдЗ ад Міёраў, 4 км ад чыг ст Зоры На аўтадарозе Міёры—Шаркаўшчына 583 ж, 286 гаспадарак (1998)

У пісьмовых крыніцах вядомы з канца 15 ст пад назвай Пагост як месца збору даніны У 1498 прывілеем вял князя ВКЛ Аляксандра перададзены пісару ВКЛ Івашку Сапегу, у 1500 — немцу Клоту У 1566 вял кн ВКЛ і польскі кароль Жыгімонт II Аўгуст перадаў двор Пагост і Пагосцкую вол рус ваяводу Мікалаю Сіняўскаму З 1593 мяст Пагост — уласнасць Льва Сапегі, на сродкі якога ў тым жа годзе тут пабудаваны касцел св Тройцы З 1693 дзейнічала мытная застава — камора У 1775 пабудавана уніяцкая царква (у 1839 пераабсталявана ў праваслаўную, не захавалася) З 1777 маенткам Пагост валодаў капітан смаленскі Станіслаў Бужынскі, з 1797 — падкаморы гродзенскі Францішак Юндзіл З 1795 мястэчка ў складзе Рас імперыі У 1818 маентак Пагост падзелены, частка Стары Пагост (за 7 км на У ад Н П) мела 284 ж, 31 двор У 1859 было 119 ж, 32 двары, з 1862 працавала школа (56 вучняў) цэнтр воласці Дзісенскага пав У 1878—79 пабудавана Мікалаеўская царква У 1897 — 607 ж З 1921 у складзе Польшчы, цэнтр воласці Браслаўскага пав З 1939 у БССР, з 12 10 1940 цэнтр Новапагосцкага с/с Міёрскага р-на У Н П сярэдняя школа, клуб, бальніца, б-ка, дзіцячы сад, лясніцтва, аддз сувязі, 3 магазіны Касцел (1989) Брацкая магіла саў воінаў і партызан, якія загінулі ў Вял Айч вайну Помнік архітэктуры — Мікалаеўская царква

*Язэп Бунто*

**НО́ВЫ СВЕ́РЖАНЬ**, веска, цэнтр сельсавета Стаўбцоўскага р-на, на левым беразе Немана, на аўтадарозе Стоўбцы—Нясвіж За 3 км на Пд ад г Стоўб-

ягр звесткі пра асобу Назва наступных 4 частак — «Папулярна аб усім» (л-ра ў дапамогу прадпрымальнікам, абітурыентам, настаўнікам-прадметнікам і інш, а таксама па ўсіх галінах ведаў і захапленнях), «Мастацкая літаратура» (пра творы, выдадзеныя асобна і надрукаваныя ў бел часопісах), «Кнігі і публікацыі — дзецям» (навук-папулярныя выданні, творы маст л-ры, казкі), «У полі зроку рэцэнзента» (рэцэнзіі з бел перыяд друку на бел выданні) Кожны нумар выходзіць пад адной вокладкай з дадаткам У адным з іх (часцей у 2-м паўгоддзі) змяшчаецца спіс памятных дат бел календара на наступны год Тры дадаткі знаемяць з матэрыяламі да наиб значных памятных дат, яны складаюцца з біягр ці гіст даведкі і спіса л ры, прысвечанай асобе ці падзеі, астатнія 8 — значныя па памеры бібліягр спісы ці агляды (у асн беларусазнаўчай тэматыкі), якія можна выкарыстоўваць як самаст бібліягр дапаможнікі

*Ірына Нарчук*

**НОЖ**, універсальная рэзальная прылада у выглядзе падоўжанай пласцінкі з адным завостраным бокам Выкарыстоўваецца ў гасп мэтах і як халодная зброя У каменным веку Н рабілі з крамяневых адшчэпаў і пласцін Самыя стараж Н на тэр Беларусі знойдзены ў *Бердыжы* (датуюцца 24—23 тыс г назад) Жал Н з'явіліся ў пач 1-га тыс да н э ў плямен *мілаградскай культуры* Паступова (да першых ст н э) сфарміраваўся выразны трохвугольны клінок Н аддзелены ад дзяржання 2 ўступамі Касцяная або драўляная ручка Н набівалася на дзяржанне ці мацавалася да яго заклёпкамі Найб пашыранымі былі універсальныя Н, у эпоху ранняга феадалізму з'явіліся спецыялізаваныя (баявыя, шавецкія, сталовыя, для апрацоўкі дрэва, хірургічныя — суцэльнаметалічныя з вузкімі і тонкімі клінкамі) З канца 11—12 ст вядомы складаныя Н з 2 лезамі У 17 ст з'явіліся Н для рэзання старонак кніг, зробленыя з каляровых металаў ці косці Н звычайна насілі на поясе (у 10—12 ст ў бронзавых ножнах, пазней — у скураных) Жанчыны насілі невял Н на грудзях Баявыя Н мелі больш доўгі клінок, насілі іх за халявай бота (т зв захаляўны Н) У познім сярэдневякоўі Н захоўваюць у хатніх умовах

**«НОЙБУРГСКІЯ МАЁНТКІ»**, уладанні князёў Нойбургаў (дынастыя ў ням княстве Нойбург) у ВКЛ у 1695—1744 Слуцкае і Капыльскае княствы, Себежскае і Невельскае графствы, Копысь, Раманава, Белiца, Кейданы, Біржы, Заблудаў Пачатак утварэнню гэтага своеасаблівага анклава на тэр ВКЛ паклаў 2-і шлюб (10 8 1688) адзінай дачкі Б Радзівіла Людвікі Караліны (ням Луіза Шарлота, 27 2 або 9 3 1667—25 3 1695) з князем нойбургскім Карлам Філіпам (4 11 1661—31 12 1742), які ў 1697 быў прэтэндэнтам на польскую карону, з 1716 курфюрст-пфальцграф рэйнскі Пасля смерці Людвікі Караліны яе ўладанні ў ВКЛ (спадчына Б Радзівіла) перайшлі да яе дачкі Лізаветы Аўгусты Сафіі (17 3 1693—30 1 1728), якой апекаваўся бацька З 1717 яна была замужам за пфальцграфам зульцбахскім Езэфам Карлам Эмануэлем (1693—1729), пасля яе смерці «Н м» перайшлі да 3 дачок ад гэтага шлюбу Лізаветы Аўгусты (17 1 1721—17 8 1794), Марыі Ганны Шарлоты (22 6 1722—25 4 1790) і Марыі Францыскі Даратэі (16 6 1724—15 11 1794), якімі зноў апекаваўся Карл Філіп Нойбургскі Яго смерць у 1742 прыспешыла аднаўленне спадчынных правоў Радзівілаў на «Н м», якія на працягу паўстагоддзя былі сталым аб'ектам судовых разбораў і ўзбр наездаў прэтэндэнтаў з буйных магнацкіх родаў ВКЛ Пасля працяглых перагавораў з Нойбургамі і інш зацікаўленымі бакамі іх уладальнікам 22 5 1744 стаў Г Ф Радзівіл, якому давялося заплаціць 230 тыс дукатаў кампенсацыі новаму курфюрсту-пфальцграфу рэйнскаму Карлу Тэадору (1724—99), мужу Лізаветы Аўгусты, а таксама 2 млн злотых Сапегам, 1 млн злотых прускаму каралю Фрыдрыху II і інш у якасці кампенсацыі

Цэнтрам «Н м», у якіх пасля Людвікі Караліны ніхто з Нойбургаў не бываў, быў Слуцк Кіраванне вялося праз аканомаў (у 1682—1714 гэтую пасаду займаў С Незабітоўскі) Іх злоўжыванні выклікалі рэзкія пратэсты мясц насельніцтва, якія часта перарасталі ў паўстанні (1684, 1685, 1695, 1699 і інш) Нягледзячы на высокія падаткі і злоўжыванні, Слуцк пры Нойбургах быў буйнейшым эканам цэнтрам Беларусі, па колькасці мануфактур і цэхаў і аб е ме іх вытв-сці далёка пераўзыходзіў інш гарады Экстэрытарыяльнасць «Н м» спрыяла рэлігійнай талерантнасці праваслаўным Слуцкага княства было дазволена засгавацца па-за уніяй (тольк і ў Слуцку налічвалася 14 праваслаўных цэркваў) Людвіка Караліна, гарачая прыхільніца кальвінізму, падтрым лівала гэту канфесію, якой у 1693 пада равала слуцкую друкарню, выдаткавала значныя сродкі на выданне тут Новага Запавету на літ мове Працяглая эка нам і культурная адасобленасць «Н м» у ВКЛ праяўлялася і пазней тут быў гал асяродак рэлігійнага дысідэнцтва, што выявілася ў стварэнні Слуцкай канфедэрацыі 1767

*Літ* Грыцкевіч А П Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв Мн, 1975 Яго ж Древний город на Случи Мн, 1985, Яго ж Маргінальныя тэрыторыі Беларусі Невель і Себеж у XVII—XVIII стст // Спадчына 1995 № 1, Jelski A Neuburskie dobra na Litwie // Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajow słowiańskich Warszawa, 1886 T 7 Morz S Die letzte Kurfürstin Elisabeth Augusta von der Pfalz, die Gemahlin Karl Theodors Stuttgart etc 1997

*Алесь Белы*

**НОРДМАН** Эдуард Баляслававіч (н 25 2 1922, в Рэчыца Гомельскай вобл), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камсам - маладзежнага падполля і партыз руху ў Пінскай вобл ў Вял Айч вайну Ген маёр (1969) Скончыў ВПШ пры ЦК КПСС (1958) З 1939 на камсам рабоце У Вял Айч вайну з ліп 1941 нам сакратара, з 1 1 да 3 6 1943 сакратар, потым чл Пінскага падп абкома, адначасова з 14 7 1941 да 1 7 1943 сакратар Пінскага падп гаркома ЛКСМБ, у ліп 1943—ліп 1944 нам камісара атра




Да арт **Нож.** 1—2 — крамяневыя нажы, 3 — захаляўны нож (Віцебск 14 ст)

**Нумізматыка.** 1 Златнік (золата); 2—4. Сярэбранікі (серабро), канец 10 — пач. 11 ст , 5 Грыўня (рубель) чарнігаўскага тыпу (серабро), 2-я пал. 13 ст , 6 Грыўня (рубель) кіеўскага тыпу (серабро), 11—13 ст , 7 Грыўня (рубель) наўгародскага тыпу (серабро), 13—14 ст , 8 Палова грыўні наўгародскага тыпу («палціна»); 9. Грыўня (рубель) заходнярускага (літоўскага) тыпу (серабро), 14—15 ст ; 10 Солід (білон) 1652, 11. «Барацінка» (медзь) *1665*; 12—*14* Паўгрошы (білон), *1494*—*1506*, *1509*, *1565*, *15*—*23*. Грошы (білон), *1536*, 1546, *1555*, *1580*, *1607*, *1608*, *1612*, *1627*, *1652*, 24 Два грошы (серабро) 1565, 25—27 Тры грошы (білон і серабро) 1546, 1562, 1562; 28 Чатыры грошы (серабро) *1566*; 29—31. Шэсць грошаў (білон і серабро) 1547, 1562, 1664; 32—33 Паўкопкі (серабро) 1564, 1565; 34 Талер (серабро) 1580

кага княства Мірныя перагаворы вынікаў не далі, Усяслаў быў зняволены Н б асуджана аўтарам «Слова аб палку Ігаравым», які апісаў яе як жорсткае пабоішча. «На Немизе снопы стелют головами, молотят чепи харалужными, на тоце живот кладут, веют душу от тела Немизе кровави брезе не бологом бяхуть посеяни — посеяни костьми руских сынов» *Эдуард Загарульскі*

**НЯМЦЭ́ВІЧ** (Урсын-Нямцэвіч) Юльян (16 2 1758, в Скокі Брэсцкага р-на — 21 5 1841), пісьменнік, палітычны дзеяч, гісторык З роду *Нямцэвічаў* У 1770—77 вучыўся ў Рыцарскай школе ў Варшаве З 1777 ад'ютант А К Чартарыйскага Падарожнічаў па Еўропе Пасол на Чатырохгадовы сейм 1788—92, удзельнічаў у распрацоўцы Канстытуцыі 3 мая 1791 З 1791 чл Адукацыйнай камісіі Пасля перамогі Таргавіцкай канфедэрацыі ў 1792 у эміграцыі ў Саксоніі, Аўстрыі, Італіі У час паўстання 1794 ад'ютант і сакратар Т Касцюшкі Быў паранены ў Мацяевіцкай бітве і зняволены ў Петрапаўлаўскай крэпасці ў Пецярбургу У 1796 разам з Касцюшкам выехаў у ЗША У 1807 вярнуўся, займаў пасаду сакратара Сената Варшаўскага княства З 1813 сакратар Сената Каралеўства Польскага У сваім маентку Урсынаў каля Варшавы сабраў значную б-ку (4 тыс тамоў) Чл Т-ва сяброў навук у Варшаве (старшыня з 1827) Зрабіў некалькі падарожжаў з мэтай адшукання і апісання «нацыянальных помнікаў», па Беларусі — у 1809, 1816 і 1819 У час паўстання 1830—31 увайшоў у Часовы ўрад, абраны сенатарам-кашталянам Пасля ў эміграцыі ў Парыжы Быў звязаны з кансерватыўным лагерам эміграцыі на чале з А Е Чартарыйскім Адзін з найвыдатнейшых пісьменнікаў польскага Асветніцтва, аўтар драматычных і паэтычных твораў, аповесцей, падарожжаў У паліт камедыі «Вяртанне пасла» (1790) выказаўся за сац рэформы ў Рэчы Паспалітай, вызваленне сялян ад прыгону Аўтар зборнікаў «Літоўскія песьмы» (1812), дзе адлюстравана мясц бел тэматыка, цыкла «Гістарычныя песні» (1816), раманаў «Два паны Сяцехі» (1815), «Ян з Тэнчына» (1825) і інш

Ю Нямцэвіч

У кн «Гістарычныя падарожжы па польскіх землях, што адбыліся ад 1811 да 1828 гг» (1858) апісаў Брэст, Гродна, Навагрудак, жыццё бел сялян Напісаў «Гісторыю панавання Жыгімонта III» (т 1—3, 1818—19), «Сучасную гісторыю» (1863), «Жыцці значных людзей XVIII ст» (1904) Ініцыятар і рэдактар выдання «Збор гістарычных мемуараў пра старажытную Польшчу» (т 1—7, 1822—36), у які ўключыў «Дыярыушы» С і Б Маскевічаў Гістарычныя погляды Н абапіраліся на канцэпцыю школы А *Нарушэвіча* з яе ідэямі пра ўнутраныя прычыны заняпаду Рэчы Паспалітай Аўтар шматлікіх мемуараў, у т л «Дзеннікаў часоў маіх» (1848, дапоўненае выд, т 1—2, 1957)

*Тв* Dzieła poetyckie wierszem i prozą T 1—12 Lipsk, 1838—43

*Літ* Грицкевич В П Путешествия наших земляков Мн, 1968 С 76—95, Dihm J Niemcewicz jako polityk i publicysta w czasie Sejmu Czteroletniego Krakow, 1928, Jgo ж. Niemcewicz jako historyk // Sprawozdania Polskiej Akademii Nauk 1961 Z 1, Grabski A F Mysl historyczna polskiego oswiecenia Warszawa, 1976

**НЯМЦЭ́ВІЧЫ**, Урсын-Нямцэвічы, палітычныя дзеячы ВКЛ, шляхецкі род герба «Равіч» Вядомы з 16 ст, валодалі маенткамі ў Брэсцкім, Навагрудскім, Віленскім ваяв З 17 ст карысталіся прыдомкам Урсын (алюзія на выяву ў гербе мядзведзя — лац ursus) Найб вядомыя

Францішак (1718, в Клейнікі, Брэсцкі р-н? — 30 12 1795), чашнік брэсцкі ў 1750, суддзя каптуровы ў 1764 і земскі з 1770, староста равяцкі з 1770-х г Пасол на сеймы 1750, 1764 (падпісаў элекцыю Станіслава Аўгуста Панятоўскага), 1773—75 У 1769 збудаваў базыльянскую царкву ў в Непля Брэсцкага р-на

Станіслаў (1753, в Клейнікі, Брэсцкі р-н — 22 11 1817), сын Францішка, стрыечны брат Юльяна У 1768—73 вучыўся ў Рыцарскай школе ў Варшаве Уваходзіў у склад камісіі па дэмаркацыі мяжы з Расіяй пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай З 1776 рэгент па справах ВКЛ у вайсковым дэпартаменце Пастаяннай Рады Пасол на сейм 1782, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1781—82, староста равяцкі У 1786 абраны чл Пастаяннай Рады, да 1788 у дэпартаменце паліцыі З 1790 пасол на Чатырохгадовы сейм 1788—92, выступаў супраць Канстытуцыі 3 мая 1791 На чале харугвы кавалерыі ўдзельнічаў у вайне з Расіяй 1792, у бітве пад Мірам 11 6 1792 Далучыўся да паўстання 1794, праводзіў мабілізацыю ў Брэсцкім ваяв Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай заняў лаяльную пазіцыю да рас улад Падтрымліваў планы А Чартарыйскага адбудовы Польскай дзяржавы пад сюзерэнітэтам Расіі У 1801—07 гродзенскі маршалак, з 1816 губернатар Выдаў «Зборнік законаў і ўказаў, як у дзенніках, так і асобна агалошаных аб прэрагатывах шляхты » (т 1—3, 1805)

Юльян (16 2 1758, в Скокі, Брэсцкі р-н — 21 5 1841), гл *Нямцэвіч* Ю

Кароль (1797—9 2 1867), скончыў Свіслацкую гімназію, вучыўся ў Віленскім ун-це У 1830 абраны віцэ-маршалкам Гродзенскай губ У часе паўстання 1830—31 на 4 месяцы інтэрніраваны ў Гродне, уцек пад Беласток дзе стаў на чале невял атрада 16 5 1831 атрад разбіты і адышоў пад Белавежу, пасля рассеяны Кароль далучыўся да дывізіі ген М Рыбінскага У жн 1831 увайшоў у склад Сената Каралеуства Польскага як прадстаўнік ад Гродзеншчыны Пасля капітуляцыі Варшавы ў эміграцыі ў Парыжы, звязаны з Ю Нямцэвічам, А Чартарыйскім Аўтар мемуараў «Успаміны з 1831 г» (1863), «Успаміны пра паўстанне ў Брэсце Літоўскім» (1869)

**НЯРА́Ж**, стаянка *сожскай культуры* (6—5-е тыс да н э) каля в Нярах Быхаўскага р-на Пры даследаванні знойдзены наканечнікі свідэроіднага тыпу, вастрыі, праколкі, разцы, разнастайныя скрабкі, сякерка з двухбаковым выцінаннем, цеслы і інш Прылады працы

**Нямігская бітва 1067** Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу

выраблялі на стаянцы з мясц цемнашэрага крэменю, пра што сведчаць больш за 1000 дробных асколкаў і лускавін, адшчэпаў, пласцін, *нуклеусаў*, кавалкаў і канкрэцый крэменю Паселішча было сезонным лагерам стараж паляўнічых і рыбаловаў

**НЯСВІЖ**, горад, цэнтр Нясвіжскага р-на, на р Уша За 112 км на ПдЗ ад Мінска, 14 км ад чыг станцыі Гарадзея на лініі Мінск—Баранавічы Аўтадарогамі злучаны з Баранавічамі, Клецкам, Навагрудкам, з аўтамагістраллю Мінск—Слуцк 15,1 тыс ж (1998)

Упершыню ўпамінаецца ў 1446 як уласнасць Сяляўкі, перададзеная вял кн ВКЛ Казімірам М Неміровічу З 1492 уласнасць маршалка **ВКЛ П Я** Мантыгірдавіча, з 1523 — Радзівілаў У 1547 з атрыманнем М Радзівілам Чорным княжацкага тытула Н стаў цэнтрам *Нясвіжскага княства* У сярэдзіне 16 ст ў Н дзейнічаў кальвінскі збор, заснавана *Нясвіжская друкарня* для выпуску пратэстанцкай л-ры, дзе друкаваў бел кнігі С Будны У канцы 16 ст М К Радзівіл Сіротка ператварыў Н у буйны асяродак распаўсюджання каталіцтва ў Беларусі, надаў гораду шматлікія прывілеі Па яго ініцыятыве 23 4 1586 Н атрымаў магдэбургскае права, герб шчыт, на адной палове якога палова чорнага арла (элемент герба Радзівілаў), на другой — 10 палос блакітнага, чырвонага і залатога колераў Горад быў перабудаваны паводле зах -еўрап прынцыпаў прамавугольная планіроўка з 2 мураванымі брамамі на восі гал вуліцы (пазней зроблена яшчэ некалькі брам), у цэнтры Н — прамавугольная гандл плошча з ратушай, горад быў умацаваны валам і ровам У 1586 засн *Нясвіжскі езуіцкі калегіум*, у 1591 — *Нясвіжскі кляштар бенедыкцінак*, у 1598 — *Нясвіжскі кляштар бернардзінцаў* У 1583 распачата буд-ва *Нясвіжскага замка* У 1586 Н стаў цэнтрам зямельнага ўладання Радзівілаў — Нясвіжскай ардынацыі з рысамі дзярж адзінкі ў Навагрудскім ваяв У 1625 горад зведаў мор, што паспрыяла адкрыццю тут у 1627 аптэкі, у 1651 мор паўтарыўся У 1626 у прадмесці Новае Места збудавана езуіцкая капліца св Ісідора У вер 1655 у час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 Н заняты ўкр казакамі і рас войскамі, але замак аблогу вытрымаў У 1660 Н зноў разбураны, замак выстаяў У 1672 засн *Нясвіжскі кляштар дамініканцаў* У 1673 у Н каля 2,4 тыс жыхароў, 366 «дымоў» Паводле каралеўскага прывілея ў 1681 заснаваны *Нясвіжскі кірмаш* Моцна пацярпеў Н ад шведаў у час Паўночнай вайны 1700—21 (гл *Нясвіжа абарона 1706*) Горад і замак адбудаваны ў 1720-я г М К Радзівілам Рыбанькам, які ў 1740-я г заклаў мануфактуру шаўковых паясоў (пазней пераведзена ў Слуцк), у 1747 — *Нясвіжскі кадэцкі корпус*, у 1750 аднавіў друкарню, у 1750—53 адбудаваў езуіцкі касцел, у 1752 заснаваў *Нясвіжскую дывановую мануфактуру* і *Нясвіжскую суконную мануфактуру* Па ініцыятыве яго жонкі Францішкі Уршулі пачаў дзейнічаць *Нясвіжскі тэатр Радзівілаў* з капэлай і балетнай школай У прадмесці Альба, дзе з канца 16 ст знаходзілася загарадная рэзідэнцыя Радзівілаў, былі ўзведзены мураваны палац «Эрмітаж», інш пабудовы, зроблены набярэжныя каналаў У 1764 і 1768 Н заняты рас войскамі з-за антырас пазіцыі К С Радзівіла Пане Каханку ў час выбараў новага караля і ўдзелу ў *Барскай канфедэрацыі* гіст і маст каштоўнасці замка былі канфіскаваны, бібліятэка (10 тыс кніг) у 1772 вывезена ў Пецярбург і паступіла ў Акадэмію навук У якасці кампенсацыі за гэта ў 1775 Радзівілі атрымаў ад рас урада 6 млн злотых У 1773 з утварэннем Адукацыйнай камісіі ў Н арганізавана павятовая падакруговая школа У час вайны з Расіяй 1792 Н заняты рас войскамі З 1793 у Рас імперыі, да 1 цэнтр *Нясвіжскага павета*, пасля заштатны горад Слуцкага пав У канцы 18 ст тут 2,7 тыс ж, 490 дамоў У лют 1812 як уладанне Д Радзівіла, які з атрадам дзейнічаў у складзе войск Напалеона, заняты рас арміяй, каштоўнасці замка канфіскаваны калекцыі медалёў і манет адпраўлены ў Харкаўскі ун-т, прадметы культу — у Маскву, інш старажытнасці — у розныя зборы Пасля паўстання 1830—31 у 1835 закрыта дамініканская школа У 1875 адкрыта *Нясвіжская настаўніцкая семінарыя* У 1897 у Н 8446 ж Уліст 1917 тут адбыўся *Другі з'езд салдат 2-й арміі і Заходняга фронту*, створаны атрад Чырв гвардыі У лютым—снеж 1918 акупіраваны ням войскамі 6 8 1919 заняты польск войскамі, у ліп 1920 — Чырв Арміяй, 29 7 1920 створаны пав ВРК У кастр 1920 зноў заняты польск войскамі З 1921 у складзе Польшчы, цэнтр павета Навагрудскага ваяв Адкрыта *Нясвіжская беларуская гімназія*, гарадскі музей у будынку ратушы, дзе захоўваліся стараж пергаментныя дакументы, залатыя ключы ад гарадскіх брам і інш У кастр 1926 у Н адбылася сустрэча маршала Ю Пілсудскага з буйнымі землеўладальнікамі З вер 1939 у БССР, з 15 1 1940 цэнтр раёна У 1939 — 8,5 тыс ж У Вял Айч вайну з 28 6 1941 акупіраваны ням фашыстамі, якія загубілі ў горадзе больш за 6 тыс чал, у 1943 дзейнічала падп група Вызвалены 2—4 7 1944 часцямі 65-й арміі 1-га Бел фронту ва ўзаемадзеянні з партызанамі ў ходзе *Мінскай аперацыі 1944* У 1959 — 6,7 тыс ж Працуюць хлебазавод, швейная ф-ка, малочны завод, камбінат быт паслуг, рыбгас «Альба», пед вучылішча, 4 сярэднія, вячэрняя, муз і дзіцяча-юнацкая спарт школы, школа-гімназія, 7 дашк устаноў Дом піянераў, Дом культуры, кінатэатр 2 бібліятэкі, бальніца, паліклініка, рад дом, санаторый «Нясвіж», стадыён Магіла ахвяр фашызму, брацкая магіла сав воінаў і партызан, мемар знак на месцы расстрэлу ахвяр фашызму Помнікі С Буднаму, Вызваленне ад ням -фаш захопнікаў Помнікі архітэктуры канца 16—19 ст касцел езуітаў, плябанія кляштары бенедыкцінак, бенедыкцінцаў, ратуша і гандл рады, гар абарончая замкавая вежа, Слуцкая брама, дом рамесніка, жылы дом (вул Савецкая) палацава-паркавы комплекс, парк «Альба»

*Літ* Грицкевич А П Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв Мн, 1975, Деленковский Н И Несвиж Ист -экон очерк Мн, 1979, Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі Мінская вобл Т 2 Мн, 1987, Сыракомля У Вандроўкі па маіх былых ваколіцах Пер з

Рынак у Нясвіжы Пач 20 ст

Будынак ратушы ў **Нясвіжы** Здымак 1980-х г

пол Мн, 1992 Tauroginski B Z dziejow Nieświeża Warszawa, 1937, Яго ж Nieśwież Warszawa, 1937, Ciechanowiecki A S Nieśwież międzynarodowy osrodek kultury na Białorusi (od XVI do XX w ) Warszawa, 1994 *Валерый Пазднякоў*

**НЯСВІЖА АБАРОНА 1706** Адбывалася ў сак —маі ў ходзе *Паўночнай вайны 1700—21* У пач 1706 ваен дзеянні з Польшчы перакінуліся на тэр ВКЛ Шведскі кароль Карл XII, стаўшы лагерам пад Гродна, пасылаў войскі нішчыць гарады і замкі прыхільнікаў караля польскага і вял князя ВКЛ Аўгуста II Моцнага У сак 1706 атрад палпалк Траўтфэтэра быў накіраваны ў Нясвіж, уласнасць канцлера ВКЛ К С Радзівіла У горадзе, акрамя радзівілаўскага гарнізона, стаяла 2000 укр казакоў палк Міхаловіча 14 3 1706 Траўтфэтэр трыма батальенамі драгун атакавау адначасова браму з боку Міра і гар валы Захапіўшы з ходу браму, шведы уварваліся ў горад У вулічных сутычках быў забіты Міхаловіч і каля 300 казакоў 500 казакоў зачыніліся ў езуіцкім калегіуме, аваладаць якім Траўтфэтэр не здолеў з-за адсутнасці гармат вял калібру Рэшта казакоў вяла агонь па шведах з гар дамоў Шведы падпалілі горад, у агні і сутычках загінула некалькі соцень казакоў, каля 180 здаліся Добра ўмацаваны Нясвіжскі замак Траўтфэтэр не стаў штурмаваць і рушыў на Ляхавічы 10 5 1706 у Нясвіж увайшлі войскі на чале з Карлам XII У Нясвіжскім замку знаходзіўся гарнізон пад камандаваннем Балімана, з 200 чал якога 90 былі прафесійнымі вайскоўцамі, астатнія — мяшчане і сяляне Да Балімана былі пасланы Траўтфэтэр і ген -ад'ютант Расенштэрн з патрабаваннем праз 1 гадзіну здаць замак Не маючы надзеі на падтрымку, камендант выканаў патрабаванне Шведы спалілі ваенны рыштунак з арсенала, патапілі 21 захопленую гармату, каменданта і ўвесь гарнізон адпусцілі на волю Замкавыя ўмацаванні былі разбураны, горад спалены, за выключэннем касцелаў і кляштараў

**НЯСВІЖСКАЕ КНЯСТВА**, буйное феад зямельнае ўладанне князёў Радзівілаў у 16—18 ст у Навагрудскім пав Цэнтр — г *Нясвіж* У л-ры выказвалася меркаванне, што Н к існавала ў 13 ст, бо ў бітве на р Калка ў 1223 манголы сярод інш князёў забілі «Святослава Шумьскаго, Мстислава Черневовськаго с сыном, Юрья Несвежьскаго» Верагодна, кн Святаслаў і Юрый мелі ўладанні ва Уладзіміра-Суздальскай зямлі, дзе, паводле «Спіса рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх» канца 14 ст, знаходзіліся гарады «Шумьскыи, Несвежьскыи» У ВКЛ у 14—16 ст існавалі князі Несвіцкія, якія мелі г Несвіч на Валыні (цяпер у Луцкім р-не Украіны) Беларускі г Нясвіж і яго ўладальнікі вядомы з сярэдзіны 15 ст У 1492 вял кн Аляксандр падараваў двор Нясвіж з с Круты Бераг і Чучэвічы П Я Мантыгірдавічу У 1-й пал 16 ст маентак перайшоў да Радзівілаў У 1547 М Радзівіл Чорны атрымаў ад імператара Карла V княжацкі тытул «Свяшчэннай Рымскай імперыі» («князь на Алыцы і Нясвіжы»), які ў 1549 прызнаны вял князем ВКЛ З гэтага часу да Нясвіжскага маентка Радзівілаў ужывалася назва Н к У пач 1560-х г у Н к праведзена валочная памера М Радзівіл Чорны зрабіў невял зямельныя набыцці ў ваколіцах Нясвіжа (землі с Ліпа) У буйную латыфундыю Н к ператварыў сын Чорнага — М К Радзівіл Сіротка У 1566—87 ён набыў у прыватных уласнікаў Ліпу, Свержань, Алекавічы, Лань, Кукавічы, Юшавічы, Задзвею, Быхаўшчыну, Чанавічы, Салтанаву Гаць і інш У 1568—69 да яго ў спадчыну перайшло і далучана да Н к Мірскае графства У 1587 гэта латыфундыя падзялялася на 7 ключоў (Нясвіжскі, Мірскі, Свержанскі, Быхаўшчынскі, Чанавіцкі, Салтанаўскі, Затур'янскі), налічвала каля 40 сел У 1587—1602 набыты і далучаны да Н к Белікі, Кунаса, Мікалаеўшына, Гарадзея, Магільна, Лунін, Андрушы, Атцэда і інш На поўдні Н к межавала з *Клецкім княствам* Радзівілаў На аснове Н к ў 1586 створаны буйны маярат — Нясвіжская ардынацыя, правы на якую перадаваліся ў спадчыну старэйшаму прадстаўніку Радзівілаў па мужчынскай лініі У далейшым княства пашыралася за кошт новых набыццяў У пач 17 ст яго памеры дасягнулі 5810 валок, тут было каля 3600 «дымоў» (25 тыс чал насельніцтва) М К Радзівіл Сіротка шмат зямель Н к аддаваў шляхце ва ўмоўнае трыманне (пераважна па 5 валок), з якіх шляхціц павінен быў выстаўляць у войска конніка Без усялякіх умоў былі падараваны землі Нясвіжскаму езуіцкаму калегіуму (с Рудаўка, Ужанка), Мірскаму касцелу (19 валок каля Міра, с Возера), Нясвіжскаму бенедыкцінскаму кляштару (с Гаўязна) і інш У Нясвіжы знаходзіўся замкавы суд, якому падлягала усе насельніцтва, у т л шляхта

*Літ* Jakubowski J Czy istnieli kniaziowie nieswiescy? // Ateneum Wilenskie 1923 № 1, Siekierski M Landed wealth in the Grand Duchy of Lithuania the economic affairs of princ Nicholas Christopher Radziwiłł (1549—1616) // Acta Baltico-Slavica Wrocław etc, 1991—92 T 20—21

*Валерый Пазднякоў*

**НЯСВІЖСКАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГІМНАЗІЯ**, сярэдняя навуч ўстанова ў Зах Беларусі Утворана летам 1921 на базе б жаночай прыватнай рускамоўнай гімназіі (кандэсіянер Ю Жаўнеркевіч) Напачатку сфарміраваны 2 першыя беларускамоўныя змешаныя класы, на працягу 1922—24 навучанне пераведзена на бел мову У пед раду ўваходзілі К Шчансновіч (у 1921—22 дырэктар, кіраўнік рускамоўных класаў), Я Шнаркевіч (кіраўнік беларускамоўных класаў, выкладчык бел мовы, беларусазнаўства і спеваў), Н Шчансновіч (ням мова), Я Смоліч (польск мова), свяшчэннік В Валасовіч (рэлігія для праваслаўных), М Андрыеўская (маляванне і ручная праца), Р Якубенак (беларусазнаўства), Г Малойла (гісторыя, геаграфія і бел мова), Эпштэйн і інш Гімназія існавала на грошы бацькоў і ахвяраванні добраахвотных фундатараў Яна цярпела ўціск ад польск афіц улад ей было адмоўлена ў фінансавай дапамозе, забаранялася прымаць дзяцей

небеларусаў і бел католікаў, не дазваялялася рэфармаваць гімназію з жан у змешаную, у вер 1921 адабраны будынак, заняткі на працягу 2 гадоў праводзіліся ў 2—3 змены на прыватных кватэрах добраахвотных фундатараў П Вітушкі, Н Дылеўскага і М Кулакоўскага У 1922—23 пададзена каля 150 заяў ад жадаючых вучыцца ў гімназіі Пры гімназіі дзейнічалі тэатральны гурток і хор, якія праводзілі бел вечарыны з тэатр пастаноўкамі п'ес Я Купалы «Паўлінка», Ф Аляхновіча «Чорт і баба» і «Дзядзька Якуб», з нар спевамі і дэкламацыямі вершаў бел паэтаў У 1923—24 навуч г польск школьная адміністрацыя адмовіла Шнаркевічу ў канцэсіі на дзейнасць Гімназія працавала нелегальна, навучэнцы былі падзелены на 8 груп (класаў), заняткі праводзіліся на кватэрах выкладчыкаў Летам 1924 Шнаркевіч атрымаў канцэсію на арганізацыю бел гімназіі ў Клецку, куды былі пераведзены 1—4-я класы (гл *Клецкая беларуская гімназія*) Навучэнцы старэйшых класаў былі ўладкаваны ў бел гімназіі ў Вільні, Навагрудку і Радашковічах *Уладзімір Ляхоўскі*

**НЯСВІЖСКАЯ ДРУКА́РНЯ** Існавала ў Нясвіжы ў 16 і 18 ст 1) Друкарня 16 ст засн М *Кавячынскім і Л Крышкоўскім*, щэйным кіраўніком у першыя гады яе існавання быў С *Будны* Першая на тэр Беларусі друкарня, якая карысталася кірылаўскімі шрыфтамі Друкар кірылічных выданняў невядомы У 1562 выдадзены творы Буднага «Катэхізіс» (першая на Беларусі кніга на бел мове) і «Пра апраўданне грэшнага чалавека перад богам» (не збярогся) У 1563—71 на польск і лац мовах надрукавана 11 выданняў, пераважна палемічная пратэстанцкая публіцыстыка Друкар Д *Ланчыцкі* Спыніла дзейнасць паводле загаду М К Радзівіла Сіроткі Апошняе выданне — «Біблія» ў перакладзе на польск мову Буднага — дадрукавана ў 1572 у Заслаўі ці ў маентку Кавячынскіх у Уздзе Маемасць друкарні ў 1572 купіў Я С Кішка, які заснаваў *Лоскую друкарню* Большасць кніг Н д аформлена проста, без ілюстрацый Ужываліся наборны арнамент, разнастайныя шрыфты, ініцыялы з дэкаратыўна-раслінным фонам У маст аздабленні кірылаўскіх кніг выразна прасочваецца сувязь з друкарскімі традыцыямі Ф *Скарыны* 2) Друкарня 1750—90-х г засн Радзівіламі У 1751 падаравана мясц калегіуму езуітаў Граверам працаваў Г *Ляйбовіч* Надрукавана каля 70 белетрыстычных, рэлігійных, палемічных і вучэбных твораў, панегірыкаў на польск і лац мовах, у т л «Пра жыццё і справы Аляксандра Вялікага» К Руфа (1763), «Жыццё і ерасі Вальтэра» Ф Нано (1781), «Артыкулы вайсковыя» (1754), альбом медзярытаў «Партрэты сям'і Радзівілаў » (1757, уключае 165 гравюр на медзі)

Хор **Нясвіжскай беларускай гімназіі**

*Літ* Мальдзіс А.І Кнігадрукаванне Беларусі ў XVIII ст // Книга, библиотечное дело и библиография в Белоруссии Мн 1974, Шматаў В Ф Беларуская кніжная гравюра XVI—XVIII стст Мн , 1984 *Георгій Галенчанка*

**НЯСВІ́ЖСКАЯ ДЫВАНО́ВАЯ МАНУФАКТУ́РА** Засн ў 1752 у прадмесці Нясвіжа Альбе ўладальнікам горада М К Радзівілам Рыбанькам як мастацкая майстэрня У ей працавала некалькі ткачых (гапісерак) мясц паходжання У кожнай з іх было па 4—5 памочніцдзяўчат, якія пасля навучання таксама станавіліся майстрыхамі Мяркуецца, што майстэрня была арганізавана для выканання разам з аналагічнай у Мірскім замку (адкрыта ў 1747) задуманай Рыбанькам серыі шпалераў са сцэнамі з гісторыі роду Радзівілаў У 1757 яшчэ адна майстэрня створана ў Камянцы У 1762 усе майстэрні пераведзены ў Карэлічы, дзе праца над шпалерамі прадоўжана (гл *Карэліцкія шпалеры*)

**НЯСВІ́ЖСКАЯ НАСТА́ЎНІЦКАЯ СЕМІНА́РЫЯ**, навучальная ўстанова, якая рыхтавала настаўнікаў для пач школ Утворана ў 1875 у Нясвіжы замест закрытага даміканскага кляштара па ініцыятыве міністра асветы Расіі графа Д А Талстога і папячыцеля Віленскай навуч акругі М А Сергіеўскага як «асветны і адукацыйны фарпост, які будзе служыць адпорам польскаму каталіцызму, што гняздзіцца ў Нясвіжы і яго ваколіцах» Тэрмін навучання 3—5 гадоў У розны час у семінарыі выкладалі К Ф Шчанснові́ч, С А Кулагін І Ф Нікалаеўскі, П Р *Бывалькевіч*, І К Лычкоўскі, Ф В Лукашэвіч, С А Гурыновіч, Ф А *Кудрынскі*, ксендз В *Гадлеўскі* і інш Меліся фізічны, прыродазнаўчы кабінеты, хім лабараторыя, актавая зала, клас для заняткаў ручной працы вучнеўская дамавая правасл царква ін тэрнат для навучэнцаў Пры семінарыі дзейнічала ўзорнае пач вучылішча У пач 1900-х г утворана метэаралаг станцыя, у 1910 — музей наглядных навуч дапаможнікаў і прыстасаванняў У 1914 фундаментальная б-ка семінарыі мела 1850 найменняў кніг (3630 тамоў) вучнеўская б-ка — адпаведна 980 і 1710 Фінансавалася з дзярж бюджэту Грашовую дапамогу навучэнцам аказвалі мясц сельскія грамады У 1911—14 Нясвіжская пав земская ўправа штогод выдзяляла семінарыі па 300 руб У 1-ю сусв вайну навучэнцы працавалі сані

**Нясвіжская настаўніцкая семінарыя** Канец 19 ст

гарамі ў мясц вайсковым шпіталі, пед рада штомесяц ахвяроўвала сродкі Рас Чырв Крыжу У жн 1915 семінарыя эвакуіравана ў г Вязьму Смаленскай губ У час бежанства на вучобу прымаліся пераважна выхадцы з Беларусі У 1915—17 сярод навучэнцаў дзейнічала суполка партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў Пасля Лют рэвалюцыі 1917 дазвалялася прымаць асоб неправаслаўнага веравызнання і жаночага полу У маі 1917 пры семінарыі ўтвораны бел вучнёўскі культ -асв гурток *«Прасвета»* Летам 1917 па просьбе Нясвіжска га гар самакіравання семінарыя рээвакуіравана ў Нясвіж У час ням акупацыі ў 1918 фінансавалася акупац ўладамі і гар самакіраваннем Утворана бел б-ка-чытальня У *1919* у час польск акупацыі падпарадкоўвалася *Мінскай беларускай школьнай радзе* Пед рада семінарыі распрацавала праграмы і курсы лекцый па гісторыі Беларусі (Кулагін), геаграфіі Беларусі (Гурыновіч) Гадлеўскі чытаў курс бел мовы, для навучэнцаў католікаў выкладаў па-беларуску асновы рэлігіі У кастр 1919 Гадлеўскаму даручылі правесці беларусізацыю гімназіі У снеж 1919 закрыта з-за адмовы фінансавання польск акупац уладамі У розны час у семінарыі вучыліся Антось *Галіна*, Адам *Багдановіч*, Павел *Дземіговіч*, Якуб *Колас*, Васіль *Камлюк*, Васіль *Сташэўскі*, Аляксандр *Сташэўскі*, Кузьма *Чорны* і інш

*Уладзімір Ляхоўскі*

**НЯСВІЖСКАЯ СУКО́ННАЯ МАНУФАКТУ́РА** Дзейнічала ў 1752—1867, заснавана ўладальнікам Нясвіжа М К Радзівілам Рыбанькам Мела 3 будынкі для ткання сукна, пастрыгальню, валюшню ў вадзяным млыне каля Слуцкай брамы, фарбавальню, шпіхлер пад склад гатовай прадукцыі і сыравіны Абсталяванне было звезена з княжацкіх фальваркаў і весак, у 1752 мелася 5 ткацкіх станаў, 3 сталы для стрыжкі ванна для вымочвання сукна, 3 катлы для фарбавання, вял валюшны кацел і інш У 1-й пал 1750-х г працавала да 6 майстроў-ткачоў, фарбавальшчык, пастрыгач Ім дапамагалі «хлопцы» з мясц мяшчан (да 11 чал ) Дзяўчат-прадзільшчыц прымусова набіралі з княжацкіх уладанняў (да 37 чал ), спачатку на 3 месяцы ў год, потым працавалі пастаянна Рабочы дзень складаў да 15 гадзін, плацілі натурай і грашыма Частку воўны раздавалі для прадзення сялянам у вёскі Некаторыя майстры былі запрошаны з Германіі У 1756 дзейнічала 25 ткацкіх станаў, працавала да 152 чал Выробленае сукно ішло на патрэбы княжацкага двара, на продаж, выраблялася на заказ У 1753—55 прададзена сукнаў на 35 тыс злотых, у т л на 25 тыс злотых на патрэбы царквы і радзівілаўскага войска З 1765 пры мануфактуры дзейнічала капялюшная майстэрня

*Літ* Болбас М Ф Развитие промышленности в Белоруссии (1795—1861 гг ) Мн , 1966 Kula W Szkice o manufakturach w Polsce XVIII wieku Cz 1—2 Warszawa, 1956

**НЯСВІ́ЖСКІ ГІСТО́РЫКА-КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ** Адкрыты 14 1 1995 у г Нясвіж Пл экспазіцыі 390 м², каля 2,7 тыс адзінак асн фонду (1998) Мае 7 залаў, з іх 2 выставачныя Сярод экспанатаў археал знаходкі (кафля, урэцка-налібоцкае шкло, дахоўка 16—18 ст ), солíды ВКЛ і Рэчы Паспалітай, рас дзенга і капейкі, акупац маркі часоў Вял Айч вайны, напольны гадзіннік і фартэпіяна з замка Радзівілаў, сярэбраны кубак пач 18 ст з выявай Багуслава Радзівіла, біблія, малітоўнікі 19 ст , кавальскі мех (найвялікшы на Беларусі), карціны і асабістыя рэчы М К *Сеурука* У экспазіцыі нац адзенне, вышываныя ручнікі, выраб ы з саломкі і лазы, бандарныя вырабы 19 — пач 20 ст Музей праводзіць выстаўкі карцін бел мастакоў (у т л мясцовых), вырабаў дэкар -прыкладнога мастацтва, калекцый інш музеяў У дні фестываляў камернай музыкі адбываюцца навук -практычныя канферэнцыі, прысвечаныя муз і пісьмовай спадчыне Нясвіжчыны

*Вольга Шкрабіна*

**НЯСВІ́ЖСКІ ЕЗУІ́ЦКІ КАЛЕ́ГІУМ** Дзейнічаў у 1586—1773 у Нясвіжы Засн М К Радзівілам Сіроткам, які падараваў калегіуму маентак Ліпск з 6 вёскамі Даходы калегіума ў 1603 складалі 1600, у 1639 — 6000, у 1749 — 5569 злотых Корпус калегіума пабудаваны ў 1586—88 паводле планаў з Рыма, у 1593—99 павялічаны У 1587—93 узведзены касцел Божага Цела (арх Я М Бернардоні), у 1601 асвячоны Нясвіжскія езуіты стварылі свае місіі ў Белай, *Капылі, Крывошыне*, Ліпску, Мікалаеве, Ужанцы, на базе іх місій узніклі таксама *Бабруйская езуіцкая рэзідэнцыя, Мінскі езуіцкі калегіум, Навагрудскі езуіцкі калегіум, Слонімская езуіцкая рэзідэнцыя* У 1586 адкрыты класы граматыкі, потым — паэтыкі, рыторыкі і інш У пач 17 ст было каля 300 вучняў Пры Н е к дзейнічалі з 1610 муз бурса, з 1620 канвікт (інтэрнат) для дзяцей збяднелай шляхты, з 1627 аптэка, з 1750 *Нясвіжская друкарня* Радзівілаў Б-ка ў канцы існавання налічвала каля 15 тыс тамоў У 1773 калегіум са скасаваннем ордэна езуітаў пераўтвораны ў свецкую школу Касцел пераўтвораны ў парафіяльны (помнік архітэктуры барока, у ім знаходзіцца склеп з пахаваннямі членаў роду Радзівілаў) Інш будынкі не захаваліся

*Літ* Paszenda J Kosciol Bożego Ciała w Nieswieżu // Kwartalnik architektury i urbanistyki 1976 T 21

**НЯСВІ́ЖСКІ ЗА́МАК** Закладзены кн М К Радзівілам Сіроткам у 1583 на ПдЗ ад г Нясвіжа на месцы драўлянага замка (1533) У першапачатковым выглядзе адлюстраваны на гравюры Т

Касцёл **Нясвіжскага езуіцкага калегіума**

Касцел **Нясвіжскага езуіцкага калегіума** Фрэскі скляпенняў цэнтральнага нефа

Макоўскага (пач 17 ст) Замак меў у плане форму чатырохвугольніка (170 × × 120 м), быў абкружаны высокім земляным валам з бастыенамі па вуглах, вадзяным ровам (унутранае кальцо), шырокай дарогай з невысокім земляным насыпам (гласісам) з вонкавага боку і штучнымі вадаемамі на р Уша (вонкавае кальцо) Вал выш да 20 м быў абмураваны каменем, уверсе пераходзіў у мураваны бруствер з дадатковымі ўмацаваннямі Унутры вала былі мураваныя стайні і 4 патаемныя ўваходы У 17 ст па вуглах бастыенаў пабудаваны 4 абарончыя вежы (вядомы па інвентарах) Падыход да замка з 3 умацаваны трохвугольным шанцам, да якога вялі 2 пад'язныя дарогі Уздоўж гал восі знаходзіліся мураваная брама з рассоўным мостам і 3-павярховы палац з 8-граннымі вуглавымі вежачкамі Злева ад брамы стаяў 2-павярховы гасп корпус, справа — 3-павярховая казарма з вял дазорнай вежай У 1706 замак разбураны шведамі Адноўлены і перабудаваны пасля 1726 Мураваныя бастыены заменены землянымі ўмацаваннямі Паводле інвентара 1767, замак складаўся з палаца і дапаможных карпусоў абапал уязной брамы Злева і справа ад замкавай брамы па-за межамі ўмацаванняў каля ставоў былі 2 комплексы жылых, гасп і вытв пабудоў (жылле прыслугі свірны, стайні, вазоўні, парахавая і карэтныя майстэрні, кузня і інш) Каля аднаго з іх размяшчаўся тэатр У замкавых бастыенах былі арсеналы, алькежы і каморы З 1945 у замку — санаторый «Нясвіж» *Міхась Ткачоў*

**Нясвіжскі замак** З гравюры Т Макоўскага Пач 17 ст

**НЯСВІЖСКІ КАДЭЦКІ КОРПУС** (ш к о л а, а к а д э м і я), ваенная навучальная ўстанова ў Нясвіжы ў 18 ст для падрыхтоўкі кадраў войска Радзівілаў — міліцыі Засн вял гетманам ВКЛ Міхалам Казімірам Радзівілам Паводле яго «Пастановы, служачай да адукацыі кадэцкага корпуса» ад 25 5 1747 на навучанне прымаліся 14-гадовыя падлеткі са шляхты Выкладаліся франц, ням лац, рус мовы, геаметрыя, матэматыка, цывільная і вайсковая архітэктура, маляванне, айч права, айч і агульная гісторыя Кадэтаў абучалі верхавой яздзе, фехтаванню, танцам Вучні павінны былі размаўляць паміж сабой на замежных мовах Яны адбывалі вартавую службу У ліст 1751 было 13 вучняў Відаць, корпус занепаў у 1750-я г Адроджаны Каралем Станіславам Радзівілам Пане Каханку ў 1767 Паводле яго інструкцыі ў корпус прымалі ўжо адукаваных падлеткаў — дзяцей мяшчан з радзівілаўскіх гарадоў і шляхецкую моладзь (у інш кадэцкія корпусы краіны прымалі толькі шляхту) Меркавалася набраць 48 чал, але фактычна было значна менш (у кастр 1770—17 кадэтаў) Выкладчыкамі былі пераважна немцы, а таксама кадэты папярэдніх гадоў набору Выкладаліся франц, ням мовы, матэматыка, геаметрыя, логіка, маляванне, артылерыя, архітэктура Корпус месціўся ў Нясвіжскім замку Кадэтам штомесяц выплачвалася па 24 злотыя У сярэдзіне 1770-х г корпус занепаў

*Літ* L e c h M J Milicje Radziwiłłów jako oręż feudałów w walce z ruchami chłopskimi na Białorusi i Litwie // Rocznik Białostocki Białystok, 1962 T 3, K o ś c i a ł k o w s k i S Kilka szczegołów o korpusie kadetów w Nieświeżu Wilno, 1912 *Валерый Пазднякоў*

**НЯСВІЖСКІ КІРМАШ**, М і х а й л а ў с к і к і р м а ш Існаваў у канцы 17 — пач 20 ст пад Нясвіжам каля Міхаловай гары Засн ў 1681 Праводзіўся штогод на свята св Міхаіла (29 вер) доўжыўся звычайна 2 тыдні З'язджаліся гандляры і пакупнікі з Пінска, Мазыра, Мінска, Брэста, Вільні, Кіева, Масквы, Варшавы і інш Прывозілася рыба з Палесся, рас мануфактура, шкляны і фарфоравы посуд, люстры, галантарэя, мыла, свечкі, папера, чаи, тытунь, мясц с г прадукты і вырабы (скуры, шчаціннe, смала, воск, ільняное семя і інш) Напр, у 1837 прывезе на тавару на 73 тыс руб, прададзена на 45 тыс руб, колькасць наведвальнікаў — 4 тыс чалавек У сярэдзіне 19 ст, паводле сцверджанняў П М Шпілеўскага, Н к — «для беларускага краю ледзьве не тое ж, што Ніжагародскі для велікарускіх губерняў» На кірмаш прыязджалі вандроўныя артысты музыкі, павадыры мядзведзяў Пастулова страціў свае значэнне

**НЯСВІЖСКІ КЛЯШТАР БЕНЕДЫКЦІНАК** Існаваў у 1591—1877 у Нясвіжы Засн Мікалаем Крыштофам Радзівілам з жонкай Альжбетай Эўфеміяй Актамі фундацыі 1591—95 і 1602 яны далі бенедыкцінкам фальварак Гаўязна з вескамі Ахрымавічы, Вязавец, Зарэчча, Петухоўшчына (170 валок зямлі), а таксама тэрыторыю у 11 маргоў у паўд зах частцы горада і 9 тыс злотых на пабудову кляштара Першыя манашкі прыбылі з Хелмна (Польшча), прыярыса М Мартэнская атрымала папскі прывілей на змякчэнне суровага статута ордэна Пазней нясвіжскія бенедыкцінкі сталі першымі насельніцамі кляштараў у Вільні, Коўне, Мінску, Оршы Смаленску Сярод манашак былі прадстаўніцы вядомых магнацкіх і шляхецкіх родаў (Войнаў, Нарбутаў, Радзівілаў, Слушкаў, Тышкевічаў, Халецкіх і інш), якія пры паступленні ў кляштар павінны былі ўносіць грашовы «пасаг» У 1627 бенедыкцінкі купілі фальварак Вялешын і в Талядовічы Крыстына Эўфемія Радзівіл (прыярыса ў 1632—58) адсудзіла у Завішаў на карысць кляштара вескі Лучыца і Слабада Грашовыя наданні кляштару працягваліся Радзівіламі і пазней У Н к б пастаянна выхоўвалася 25 свецкіх паненак, якіх манашкі навучалі мовам, музыцы, мастацкаму шыццю і інш У 1804 было 22 выхаванкі, 48 чал жаночай прыслугі, 16 рамеснікаў, у 1828 — 33 манашкі, пераважна з Мінскага і Навагрудскага пав, б-ка мела 437 кніг на польскай і 79 на лац мове, былі муз інструменты 5 скрыпак, басэтля, 2 флейты У 1784 кляштар наведаў кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст Корпус кляштара змураваны ў 1593—96, касцел св Эўфеміі (архітэктар Я М Бернардоні) асвячоны ў 1595 Вежа над касцелам пабудавана ў 1720-я г, уваходная званіца — у 1760-я г У 1877 кляштар скасаваны, апошнія 20 манашак высланы ў Вільню і Гродна, будынкі аддадзены пад *Няс-*

**Фасад галоўнага корпуса палаца Нясвіжскага замка**

Фота пач 1990-х г

Нясвіжскі кляштар бенедыкцінак. З малюнка Н Орды 19 ст

віжскую настаўніцкую семінарыю У 1920—45 кляштар зноў дзейнічаў Цяпер у комплексе Н к б размешчана пед вучылішча *Аляксандр Ярашэвіч*

**НЯСВІЖСКІ КЛЯШТАР БЕРНАРДЗІНЦАЎ** Дзейнічаў у 1598—1864 у Нясвіжы Засн М К Радзівілам (Сіроткам) па волі сваей памерлай жонкі Гальшкі Эўфеміі (з Вішнявецкіх), якая завяшчала на пабудову кляштара даход ад маентка Карэлічы Сіротка перадаў бернардзінцам даход ад маентка Чановічы, агарод у 3 маргі і 20 прутоў, 28 маргоў лугоў і 5 валок, 6 маргоў лесу ў наваколлях Нясвіжа У 1617 Я Ю Радзівіл даў кляштару млын, сажалку і лес каля Пагарэлага Касцел св Кацярыны (названы ў памяць памерлай дачкі М К Радзівіла, у 1603 асвячоны віленскім біскупам Б Войнам) і корпус кляштара пабудаваны па праекце італьян архітэктара Я М *Бернардоні* У 17 ст да касцела прыбудаваны капліцы св Францыска і св Ганны З 1628 пры кляштары працавала школа тэалогіі, у 1654 заменена на школу філасофіі У 1655 кляштар спалены, да 1662 адбудаваны У 1731 школа адноўлена, дзейнічала да 1864 У касцеле знаходзіліся надмагіллі фундатараў з вядомых магнацкіх і шляхецкіх родаў Статуя «Укрыжаванне» лічылася цудадзейнай Пры касцеле дзейнічалі 3 брацтвы У 1793 касцел св Кацярыны і корпус кляштара цалкам згарэлі, у пач 19 ст касцел нанова пабудаваны ў класіцыстычным стылі, вуглавы камень закладзены біскупам Дэдэркам у 1802 У 1804 у кляштары было 15 манахаў, 12 студэнтаў, у б-цы — 1199 кніг У 1864 нясвіжскія бернардзінцы абвінавачаны ў падтрымцы паўстання 1863—64, і кляштар быў закрыты (перададзены ваен ведамству) Манахаў выслалі ў Крэтынгу (Літва), Кімбараўку (прыгарад Мазыра), Гарадзішча і ў *Нясвіжскі кляштар дамініканцаў* У 1870 касцел пераабсталяваны пад Георгіеўскую царкву, у 1950-я г разбураны

*Літ* Klasztory bernardynskie w Polsce w jej granicach historycznych Kalwaria Zebrzydowska, 1985 S 228—233 *Аляксандр Ярашэвіч*

Нясвіжскі кляштар бернардзінцаў З карты 1750-х г

**НЯСВІЖСКІ КЛЯШТАР ДАМІНІКАНЦАЎ** Дзейнічаў у 1672—1877 у Нясвіжы Засн ў 1672 падчашым смаленскім Б Баканоўскім і М К Радзівілам, які, верагодна, выдзеліў месца для пабудовы кляштара У 1842 кляштару належала 268 валок зямлі і 12 тыс руб капіталу 26 8 1680 асвячоны мураваны, 3-нефавы, з 2-вежавым фасадам касцел Яна Хрысціцеля Яго скляпенні і сцены былі размаляваны вядомым мастаком Д Гескім У алтары знаходзіўся абраз Маці Божай Ружанцавай, які лічыўся цудатворным Да касцела прымыкаў 2 павярховы мураваны корпус кляштара Пасля закрыцця ў 1773 *Нясвіжскага езуіцкага калегіума* дамініканцы утрымлівалі пры сваім кляштары гімназічныя школы, пазней павятовыя (зачынены ў 1835) У апошні перыяд існавання кляштара сюды адпраўлялі ксяндзоў, якія не хацелі правіць імшу на рус мове У 1877 скасаваны, касцел перабудаваны ў правасл храм Будынкі кляштара да нашага часу не захаваліся

*Літ* Сыракомля У Вандроўкі па маіх былых ваколіцах Пер з пол Мн, 1992 *Аляксандр Ярашэвіч*

**НЯСВІЖСКІ ПАВЕТ** Існаваў у канцы 18 ст і ў 1920—40 Створаны ў 1793 у межах Мінскай губ Рас імперыі Цэнтр — г *Нясвіж* Скасаваны 12(23) 12 1796 Зноў утвораны 29 7 1920 у Мінскай губ БССР Уключаў 12 валасцей Гавязнянскую, Гарадзейскую, Грыцэвіцкую, Клецкую, Ланскую, Магільнянскую, Пацейкаўскую, Свержанскую, Сіняўскую, Сноўскую, Цімкавіцкую, Цялядавіцкую 6 8 1920 да павета далучаны Жухавіцкая і Мірская вол Навагрудскага пав З 18 3 1921 у складзе Польшчы, за выключэннем Магільнянскай вол, частак Пацейкаўскай, Цімкавіцкай і Цялядавіцкай вал З 4 12 1939 у БССР, у Баранавіцкай вобл 15 1 1940 скасаваны, утвораны *Нясвіжскі раен*, часткі тэр павета адышлі Ганцавіцкаму, Капыльскаму, Клецкаму, Навагрудскаму, Стаўбцоўскаму і Уздзенскаму р нам

**НЯСВІЖСКІ РАЁН** Размешчаны на ПдЗ Мінскай вобл Пл 0,9 тыс км$^2$, нас каля 45 тыс чал (1998) Цэнтр — г *Нясвіж* Паўн ч тэрыторыі раена размешчана на Стаўбцоўскай раўніне, паўд — у межах Капыльскай грады Працякаюць рэкі Уша, Тур'я, Лань, Сноўка Пад лесам 10% тэрыторыі Праходзяць чыгунка і аўтадарога Мінск—Брэст, аўтадарогі на Баранавічы, Капыль, Клецк, Навагрудак, Слуцк, Стоўбцы

Утвораны 15 1 1940 у складзе Баранавіцкай вобл 12 10 1940 падзелены на 17 сельсаветаў Астроўскі, Быхаўшчынскі, Гарадзейскі, Грыцкавіцкі, Карцэвіцкі, Качановіцкі, Квачоўскі, Казлоўскі, Ланскі, Ліпскі, Лысіцкі, Лявонавіцкі, Наваселкаўскі, Пагарэльскі, Сейлавіцкі, Сноўскі, Юшавіцкі, утвораны г п *Гарадзея* У Вял Айч вайну з чэрв 1941 акупіраваны ням фашыстамі, якія загубілі ў раене 10 тыс чал, дзейнічалі партыз брыгады 27-я імя Чапаева, 300-я імя Варашылава, асобны атрад імя Жданава, Нясвіжскія райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ Раен вызвалены ў пач ліпеня 1944 войскамі 1-га Бел фронту ў ходзе *Беларускай аперацыі 1944* З 8 1 1954 у Мінскай вобл На 1 1 1998 у раене 124

нас пункты, у т л 1 горад, гар пас Гарадзея, Гарадзейскі гарпассавет, 13 сельсаветаў Астроўскі, Гарадзейскі, Грыцкавіцкі, Казлоўскі, Карцэвіцкі, Ланскі, Ліпскі, Лявонавіцкі, Навасёлкаўскі, Нясвіжскі, Сейлавіцкі, Сноўскі, Юшавіцкі, 1 саўгас Працуюць прамысл прадпрыемствы крухмальны з-д (Сноў), торфабрыкетны з-д (Каралін), райаграпрамтэхніка (в Рудаўка), 15 сельгаспрадпрыемстваў У раёне 15 сярэдніх, 7 базавых, 5 пач , 3 музычныя, 1 школа-інтэрнат, 18 дашкольных устаноў, 40 бібліятэк, 9 кінаўстановак, 15 дамоў культуры, 23 аддз сувязі, 3 бальніцы, 5 амбулаторый, 22 фельч -акушэрскія пункты, *Нясвіжскі гісторыка-краязнаўчы музей* Раённая газ «Чырвоны сцяг» Помнік археалогіі — гарадзішча ў в Качановічы Магілы ахвяр фашызму ў в Вялікая Лысіца, Еськавічы, Раковічы, брацкія магілы салдат рус арміі 1-й сусв вайны і сав воінаў і партызан (в Сноў) Помнікі землякам, што загінулі ў Вял Айч вайну (Аношкі, Высокая Ліпа, Грыцкавічы, Казлы, Лань, Лявонавічы, Новыя Навасёлкі, Салтанаўшчына, Саская Ліпка, Юшавічы) Помнікі архітэктуры касцёлы 18 ст (Сноў) і 19 ст (Салтанаўшчына), цэрквы канца 18 ст (Вялікая Ліпа), канца 19 — пач 20 ст (Кунаса), Мікалаеўская мяжы 18—19 ст (Мацылеўшчына), Казьмадзям'янаўская 1836 (Новы Сноў), Раства Багародзіцы 1844 (Астроўкі), Троіцкая канца 19 ст (Лань), сядзіба 19 ст (Вялікая Ліпа), сядзібныя дамы 19 ст (Заазер'е, Новы Сноў), палацава-паркавы ансамбль 19 ст (Сноў)

**НЯСВІЖСКІ ТЭАТР РАДЗІВІЛАЎ**, прыдворны тэатр кн Радзівілаў у 1740—91 З 1746 пры кн Ф У Радзівіл існаваў як аматарскі у спектаклях разам з прыгоннымі спевакамі, танцорамі, музыкантамі ўдзельнічалі члены княжацкай сям'і, шляхта, кадэты нясвіжскага корпуса (першы спектакль — «Узор справядлівасці») Паказы ў суправаджэнні капэлы Радзівілаў адбываліся ў спец будынку — «камедыенгаўзе» (пабудаваны ў 1747—48, арх К Ждановіч), які стаяў за замкам на беразе штучнага вадаема на р Уша Паводле інвентара 1767, цэнтр памяшканнем тэатра была вял партрэтная зала, выраšаная амфітэатрам, у якой размяшчаліся ложы Уздоўж адной з бакавых сцен стаяла доўгая лава Сцены і столь былі аздоблены размаляванымі палатнянымі шпалерамі Сцэна была адгароджана ад залы жоўтай тканай заслонай з выявамі герба Радзівілаў З абодвух бакоў сцэны былі хоры для капэлы Тэатр залу асвятлялі 53 металічныя ліхтары Спектаклі ставіліся таксама ў Альбе (прадмесце Нясвіжа) пад адкрытым небам у «зяленым тэатры» і ў палацы «Кансаляцыя» (пабудаваны ў 1748, арх М Педэці, перабудаваны ў 1770-я г , арх Л Лутніцкі, рэстаўрыраваны ў 1809 М Цэйзікам, не збярогся) Спектаклі став на польск , італьян , ням , франц вах У рэпертуары творы Ф У Рад камедыі «Дасціпнае каханне» (1 «Убачанае не мінае» (1749), «І Фартуны» (1750), трагедыі «Золата у ... ні» (1750), «Несумленнасць ў пасты (1751), оперы «Сляпое каханне не з жае на вынікі» і «Шчаслівае няшчас (1752) і інш , перакладзеныя і перароб леныя Ф У Радзівіл творы Мальер Вальтэра, балеты, пантамімы У 175 62 кн М К Радзівіл Рыбанька папоўн трупу нанятымі акцерамі, стварыў пр капэле музычную (з 1751), вакальную 1751), балетную школы (з 1758) і ар кестр нар інструментаў (т зв «літоў скую музыку»), павялічыў прыдворную капэлу У гэты перыяд тэатр набыў пра фесійны характар і стаў прыдворны Рэпертуар папоўніўся творамі Ф У Ра дзівіл, камедыямі Мальера, Вальтэра С Мыцельскага, В Ржавускага, італьян і ням камічнымі операмі і балетамі Тэ атр выязджаў у Слуцк (паміж 1755— 59), Белае (1753, 1761), Жоўкву (1753) Алыку (1753, у 1755 працаваў у «новым тэатры») Пры кн К С Радзівілу Пане Каханку ў складзе тэатра (1762—64, 1777—86) была драм трупа акцёраў пад кіраўніцтвам Л Пeражынскага (з 1783), сярод акцёраў К Аўсінскі, В Ясінскі Я Закжэўскі, М Верняруўна, М Пера жынская, Т Маруноўская, М Лазанская а таксама група італьян спевакоў, новы склад капэлы (44 чал , з 1780 капель майстары Я Голанд, Дж Альберціні), ба лет (больш за 20 прыгонных танцораў балетмайстары з 1750 Л Дзюпрэ, з 1761 А Пуціні, з 1762 Я Аліўе, з 1779 А Лои ка і Г Петынеці) З 1786 тэатр працаваў нерэгулярна За 50 гадоў існавання ён перажыў эвалюцыю ад аматарскага да прафесійнага, стварыў свой арыгінальны рэпертуар, падрыхтаваў вял групу прыгонных артыстаў-беларусаў, многія з якіх пазней працавалі ў прафес гарадскіх тэатрах і капэлах

*Літ* Барышаў Г І Тэатры Радзівілаў у Нясвіжы і Слуцку // Гісторыя беларускага тэатра Мн , 1983 Т 1

**НЯСВІЖСКІЯ ПАЛКІ**, вайсковыя фарміраванні у рас арміі ў 19—20 ст

Нясвіжскі карабінерны полк, існаваў у 1817—33 Сфарміраваны 7 12 1817 у складзе *Літоўскага асобнага корпуса* У 1825 у гонар перамогі рускіх войск пад Нясвіжам у вайну 1812 названы Нясвіжскім карабінерным палком З 1825 у складзе Зводнай гвардзейскай і грэнадзерскай дывізіі Літоўскага асобнага корпуса, з 1830 — 6-га пях корпуса Полк удзельнічаў у задушэнні паўстання 1830—31 У ім служылі афіцэры-дзекабрысты, члены т-ва ваенных сяброў М Ф Вількенец і П І Гофман У 1833 расфарміраваны

Нясвіжскі 4-ы грэнадзерскі полк, існаваў у 1857—1918 Створаны на аснове 2-га Егерскага палка пад назвай Нясвіжскі 4-ы грэнадзерскі генерал-фельдмаршала князя Барклая-дэ Толі полк (у гонар перамогі рускіх войск пад Нясвіжам у 1812) Полк удзельнічаў у руска-турэцкай вай

не 1877—78, вызначыўся пры штурме Аладжынскіх вышынь і крэпасці Карс, у 1-ю сусв вайну на Зах фронце ваяваў у складзе 3-й арміі на Палессі, у кастр 1914 адбіваў наступленне 11-й аўстра-венгерскай арміі У крас —маі 1916 разам з Грэнадзерскім корпусам пераведзены на Баранавіцкі напрамак, дзе удзельнічаў у баявых дзеяннях супраць ням войск 1 3 1918 расфарміраваны паводле ўказа сав ўрада

*Літ* Иванов Ю С Несвижский 4-й гренадерский генерал-фельдмаршала князя Барклая-де-Толли полк // Иванов Ю С Боевая летопись белорусских полков Мн , 1994, Керсновский А.А. История русской армии М , 1993 Т 2 С 19—20

*Шамиль Бекцінееў*

**НЯСЕЦКІ** (Niesiecki) Каспар (31 12 1682, Вял Польшча — 9 7 1744), польскі гісторык, генеалог Вучыўся ў езуіцкіх навуч установах у Кракаве, Любліне, Луцку, Кросне, Яраславе У 1699 уступіў у ордэн езуітаў, з 1710 святар Выкладаў у навуч установах у Быдгашчы, Хойніцах, Калішы З 1715 прапаведнік у Раве Мазавецкай, Кракаве, Любліне, Калішы, Львове, Краснаставе, з 1724 загадваў у Краснаставе езуіцкай духоўнай семінарыяй і касцелам (з перапынкам у 1740—41, калі ўзначальваў шляхецкі канвікт у Сандаміры) Склаў гербоўнік «Карона польская» (т 1—4, 1728—43), генеалагічныя артыкулы якога заснаваны на багатым, крытычна апрацаваным архіўным матэрыяле Праца змяшчае дзярж гербы Польшчы і ВКЛ, ваяводстваў, спісы манархаў Рэчы Паспалітай, сенатараў, міністраў, маршалкаў Пасольскай ізбы і трыбуналаў Асн месца адведзена вопісу шляхецкіх гербаў і радаводаў, у т л бел родаў Звесткі некат артыкулаў выклікалі судовыя спрэчкі з магнатамі і шляхтай З часам праца набыла аўтарытэт дакументальнай крыніцы і выкарыстоўвалася для пацвярджэння шляхецкіх правоў у рас і аўстрыйскай частках былой Рэчы Паспалітай пасля яе падзелаў У 19 ст гербоўнік з дапаўненнямі А Нарушэвіча, І Красіцкага, І Лялевеля, звесткамі з інш крыніц перавыдадзены Я Н Баброўскім пад назвай «Польскі гербоўнік» (т 1—10, 1839—45, перавыд 1979)

**НЯСІЛАВІЧЫ**, стаянкі каменнага і бронзавага вякоў каля в Нясілавічы Дзятлаўскага р-на Датуюцца 6—1-м тыс да н э Пры даследаванні знойдзены ланцэтападобныя вастры, пласцінкі разцы, *нуклеусы*, кераміка розных этапаў *нёманскай культуры* і *шнуравой керамікі культуры* Выяўлены рэшткі агнішчаў-кастрышчаў і агнішчаў, выкладзеных камянямі

**НЯСТАННАЕ**, у ВКЛ штраф на карысць істца і суда за няяўку на суд па першай позве Н плаціў пазваны, калі ён не мог спаслацца на сур'езную прычыну, якая перашкодзіла з'явіцца Паводле Статута ВКЛ 1588 Н складала 4 капы (г зн 240) грошай істцу і 1 капу — суду

А.А. Нячаеў

**НЯТЫЛЬКІН** Аляксандр Трафімавіч (н 18 5 1922, в Лапаціна Гомельскага пав , цяпер Гомельскі р-н), бел гісторык Д-р гіст навук (1976) Скончыў Мінскі пед ін-т, Рэсп парт школу пры ЦК КП(б)Б (1949) Удзельнік Вял Айч вайны З 1946 на парт рабоце ў Пінскай вобл , нам заг аддзела Мінскага абкома КПБ У 1956—90 ст навук супрацоўнік Ін-та гісторыі партыі пры ЦК КПБ Асн тэматыка даследаванняў — Кастр рэвалюцыя 1917, грамадз вайна і ваен інтэрвенцыя 1918—20, сацыяліс г індустрыялізацыя, навук-тэхн прагрэс у прамысловасці ў пасляваен перыяд, гістарыяграфія гісторыі КПБ і БССР Адзін з аўтараў калектыўных прац «Гісторыя Мінска» (1957), «Нарысы гісторыі КПБ» (ч 2, 1967), «Нарысы гісторыі прафсаюзаў Беларусі» (1970), «На чале навукова тэхнічнага прагрэсу З вопыту работы КПБ (1959—1977 гг )» (1979)

*Тв* Пинск Ист очерк. Мн , 1961, В борьбе за индустриализацию Мн , 1970, Осуществление ленинской политики индустриализации в Белоруссии (1926—1941 гг ) Мн 1979

**НЯФЁД** Уладзімір Іванавіч [14(27) 1 1916, г Шахты Растоўскай вобл — 23 4 1999], бел тэатразнавец, педагог, пісьменнік Чл-кар Нац АН Беларусі (1972), д-р мастацтвазнаўства (1963), праф (1964) Засл дз маст Беларусі (1975) Скончыў Маскоўскі дзярж ін-т гісторыі, філасофіі і л-ры (1940) Працаваў ва Упраўленні па справах мастацтваў пры СМ БССР (у 1942—47 нач аддзела тэатраў) З 1951 у АН БССР з 1954 заг сектара мастацтва Ін-та л-ры і мастацтва, з 1957 заг сектараў тэатра і кіно, збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі, з 1977 заг аддзела тэатра, з 1988 гал навук супрацоўнік аддзела тэатральнага мастацтва Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К Крапівы Адначасова выкладчык Бел тэатр-маст ін-та (1947—90) З 1940 даследуе пытанні гісторыі, тэорыі і сучаснай практыкі бел тэатра, праблемы драматургіі і творчасці майстроў сцэны Значны яго ўклад у падрыхтоўку кадраў тэатразнаўцаў Аўтар аднаактовых п'ес Дзярж прэмія БССР 1966 за кнігі «Тэатр у вогненныя гады» (1959), «Сучасны беларускі тэатр (1946—1959)» (1961), «Станаўленне беларускага савецкага тэатра, 1917—1941» (1965) Адзін з аўтараў «Гісторыі савецкага драматычнага тэатра» (т 1—6, 1966—71), аўтар раздзелаў і гал рэдактар «Гісторыі беларускага тэатра» ў 3 т (т 1—2, 1983—85)

*Тв* Шлях беларускага савецкага драматычнага тэатра Мн , 1954, Народны артыст БССР У І Уладамірскі Мн , 1954, Народны артыст СССР П С Малчанаў Мн 1958, Беларускі тэатр Нарыс гісторыі Мн 1959, Беларускі акадэмічны тэатр імя Я Купалы Мн , 1970, Беларускі тэатр імя Я Коласа Мн 1976, Гісторыя беларускага тэатра Мн 1982 Николай Ковязин Жизнь и творчество Мн , 1990, Ігнат Буйніцкі — бацька беларускага тэатра Мн , 1991, Францішак Аляхновіч Тэатральная і грамад-палiт дзейнасць Мн , 1996

*Таццяна Гаробчанка*

**НЯЦЕЦКІ** Язэп Сцяпанавіч (1883, Шчучын — ?), дзеяч бел нац і рэв руху, адзін з заснавальнікаў КП(б)Б Кіраўнік бел сацыяліст грамады і Бел бежанскай камісіі ў Гомелі, старшыня гал выканкома Палескіх чыгунак (1918) У маі 1918 кіраўнік дэлегацыі гомельскіх чыгуначнікаў і прамыслоўцаў ва ўрадавыя органы Укр Нар Рэспублікі У чэрв 1918 прызначаны намеснікам Нар сакратарыята БНР на Гомельшчыне і Палессі У жн 1918 арыштаваны ням акупац уладамі за ўдзел у забастоўцы гомельскіх чыгуначнікаў З восені 1918 у Маскве, старшыня Бел чыгуначнай грамады, дзеяч Бел секцый пры ЦК РКП(б) Удзельнік канферэнцыі бел секцый РКП(б) (21—23 12 1918), на якой выступіў з абгрунтаваннем ідэі спалучэння камуністычна-сав і бел нац-вызв руху у Беларусі, супраць ідэалогіі і практыкі «заходнерусізму» з боку Аблвыкамзаха Выказваўся за нац-дзярж самавызначэнне Беларусі як сав рэспублікі ў федэрацыі з РСФСР і інш сав рэспублікамі на тэр Рас імперыі, за «беларусізацыю савецкай улады на беларускіх землях» і вяртанне ў афіц ўжытак этнічнай назвы «Беларусь» замест «Заходняя вобласць» і «Заходняя камуна», падкрэсліваў, што да камунізму «можна прыйсці толькі праз нацыяналізм» У 1921—22 у Мінску, пам нач аддзела Зах чыгункі, чл Бел рабочага клуба Далейшы лес невядомы

*Тв* Белорусское движение в Гомельском уезде // Бел слово 1918 15 крас

*Літ* Турук Ф Белорусское движение Репринт Мн , 1994, Лебедзева В Беларуская Народная Рэспубліка і Гомельшчына // Гомел ведамасці 1994 25 сак , Я е ж Год 1918 барацьба за Гомель // Бел гіст часоп 1995 № 1

*Юрка Васілеўскі, Аляксей Каўка*

**НЯЧАЕЎ** Арсен Аляксеевіч [27 11(10 12) 1910, в Блеўчыцы Слуцкага пав , цяпер Капыльскага р-на —

7.4.1989], Герой Сав Саюза (1946) Скончыў ваен школу ў Пухавічах (1939) У Вял Айч вайну з 1941 на Волхаўскім, Ленінградскім, 1-м Прыбалт, 2-м і 1-м Бел франтах, удзельнік прарыву блакады Ленінграда, вызвалення Пскоўскай вобл, Эстоніі, Латвіі, баёў ва Усх Прусіі Камандзір гаўбічнай батарэі ст лейтэнант Н вызначыўся ў 1945 у баях за Берлін 24 крас яго батарэя адбіла контратаку ворага, захапіла квартал горада Да 1971 на сав, парт і гасп рабоце

**НЯЧА́Й** Іван (?—пасля 1669), палкоўнік казацкага запарожскага войска ў Беларусі ў час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* Са шляхецкай сям'і з Мсціслаўскага ваяв, якая перад паўстаннем 1648 на Украіне перасялілася ў Кіеўскае ваяв Жанаты з дачкою Б Хмяльніцкага Стэфанідай У 1649 у брацлаўскім палку, якім камандаваў яго брат Даніла У 1650—54 казацкі прадстаўнік пры двары крымскага хана У 1655 удзельнічаў у аблозе Старога Быхава ў войску І *Залатарэнкі*. Страціўшы надзеі на поспех, казакі адышлі на Украіну, пакінуўшы ў Беларусі Н і частку войска 29 1 1656 Хмяльніцкі прызначыў Н «палкоўнікам беларускім» У 1657 Н узяў Стары Быхаў, яго полк масава папаўняўся бел насельніцтвам, у асн сялянамі На словах падпарадкоўваючыся царскаму ўраду, на справе Н. праводзіў палітыку, выгадную гетманскай Украіне, накіраваную на пашырэнне яе тэрыторыі, масавае аказачванне сялянства Царскі ўрад, занепакоены дзейнасцю Н, прымаў меры для вывядзення яго войска з Беларусі, аднак безвынікова У 1658, услед за І.Выгоўскім, Н адкрыта перайшоў на бок Рэчы Паспалітай Атрады Н. дзейнічалі ў Аршанскім, Дубровенскім і Магілеўскім пав. У ліст. 1658 Н. зрабіў 2 няўдалыя спробы ўзяць Магілеў У снеж 1658 пацярпеў паражэнне ад рас войск каля в Благовічы Мазырскага пав, 11.3 1659 — каля Мсціслава Пасля ўзяцця рус войскам Старога Быхава (у ноч на 4 12 1659) трапіў у палон і адпраўлены ў Маскву 6 10 1660 сасланы ў Табольск Вядома, што, вярнуўшыся са ссылкі, М у 1669 неаднаразова ездзіў на Украіну да гетмана Дарашэнкі ў якасці палкоўніка літ казацкага палка Далейшы лес невядомы

*Літ* Похилевич Д Л Белорусское казачество // Питання історіі СРСР Львів, 1957 Вип 6, Мальцев А.Н Россия и Белоруссия в середине XVII в. М, 1974

*Васіль Мялешка*

Ф М. Нячай

**НЯЧА́Й** Федар Макаравіч [24 2(9) 1905, в Дзяражычы Рэчыцкага пав Мінскай губ, цяпер у Лоеўскім р-не — 17 12 1990], бел гісторык Д-р гіст н (1965), праф (1966) Скончыў Растоўскі пед ін-т (1937). Працаваў дэканам гіст ф-та (1941—43), нам дырэктара Чувашскага пед ін-та (1943—45) З 1945 у БДУ Дэкан гіст ф-та (1946—53), кафедры гісторыі стараж свету (19— 55), кафедры гісторыі стараж свету і сярэдніх вякоў (1961—77) У 1977— праф гэтай кафедры Навук працы гісторыі Стараж Рыма

*Тв* Рим и италики Мн, 1963, Образование римского государства Мн, 1972

*Пётр Барановскі*

**НЯЧЫ́СЦІКІ**, зборная назва дэманалагічных істот у стараж. вераваннях усх славян Як правіла, гэта ўяўныя варожыя сілы, якія нібыта жывуць у балотах, гушчарах (чэрці, злыдні, вадзянікі) хатах (дамавікі), хлявах (хлеўнікі), гумнах (гуменнікі), ёўнях (ёўнікі), лясах (лесавікі, русалкі) і інш. Існавала таксама павер'е ў ведзьмаў, якія ўсяляліся ў чалавека і рабілі яго шкодным для людзей і свойскай жывелы Ведзьмакі і ведзьмы нібыта мелі звышнатуральную сілу насылаць хваробы, нярэдка з фатальным вынікам Гэта знайшло адлюстраванне ў бел казках, асаблівa міфалагічных, прымаўках, былічках і інш відах фальклору Ёсць выпадкі, калі Н дапамагаюць чалавеку, калі апошні перахітрыць злую сілу (казкі «Чорт і баба», «Чорт і пастух») М Я Нікіфароўскі адзначае, што ўжо ў яго часы (пач 20 ст) людзі не раставалі баяцца «нябачных ворагаў» Гл таксама *Дэманалогія*

*Літ* Никифоровский Н Я Нечистики Свод простонар в Витебской Белоруссии сказаний о нечистой силе Вильна, 1907 Сержпутоўскі А К Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў Мн, 1930

*Васіль Бандарчык*

О шаснаццатая літара бел алфавіта Паходзіць з кірылічнага О («он»), што ўзнікла на аснове грэка-візантыйскай устаўнай О («омікрон») У старабел графіку перайшла са стараж-рус пісьменства Абазначала галосны гук «о» пасля цвердых зычных («народъ», «столъ») Мела таксама лічбавае значэнне «семдзесят» У рукапісах 14—17 ст у сувязі з функцыянаваннем розных пісьмовых школ і выкарыстаннем розных тыпаў пісьма (устаў, паўустаў, скорапіс) ужывалася ў некалькіх варыянтах, якія памагаюць вызначаць час і месца напісання помнікаў У 16 ст акрамя рукапіснай набыла друкаваную форму Пачынаючы з Ф Скарыны, стала адрозні вацца малая і вялікая, хоць ужыванне вял літары ва ўласных іменах, геагр назвах і ў пачатку сказаў не было яшчэ паслядоўным Паралельна з ей для абазначэння гука «о» пераважна ў пачатку слоў выкарыстоўвалася літара ѡ («отъ», лічбавае значэнне «восемсот»), утвораная на аснове грэка-візантыйскай ѡ («амега») ѡлово, ѡраті У сучаснай бел мове літара «О» абазначае лабіялізаваны галосны гук «о» задняга рада сярэдняга пад'ему ў пачатку слоў і пасля цвёрдых зычных пад націскам («Орша», «родны») Бывае вялікая і малая, мае рукапісную і друкаваную формы Пры класіфікацыйным падзеле мае значэнне «пятнаццаты» (група «О»), пры лічбавай нумарацыі — дадатковае значэнне для размежавання прадметаў пад адным нумарам (шыфр № 5о) *Аляксандр Булыка*

**ОБАЛЬ**, гарадскі паселак у Шумілінскім р-не, на р Обаль Чыг ст на лініі Віцебск—Полацк, на аўтадарозе Віцебск—Полацк За 23 км на ПнУ ад Шуміліна 3,9 тыс ж (1998)

Упершыню ўпамінаецца ў гіст крыніцах у 1503 як сяло ў Полацкім ваяв ВКЛ Належала Зяновічам З 1772 у Рас імперыі З пач 19 ст цэнтр Петрапаўлаўскай вол Полацкага пав Росту О садзейнічала пабудова Рыга-Арлоўскай чыгункі (1886) У канцы 19 ст ў О былі царк-прыходская школа, вадзяны млын, бровар У пач 20 ст — 30 ж З 1922 пачаў выпуск прадукцыі торфазавод імя Даўмана З 1924 О — цэнтр сельсавета Сіроцінскага (з 1961 Шумілінскага) р-на У ліст 1924 у б маентку адкрыта школа сял моладзі 8 12 1924 арганізавана камсам ячэйка з 15 чал (да пач 1927 мела 106 членаў) У час ням фаш акупацыі О ў Вял Айч вайну дзейнічала *Обальскае камсамольска-маладзежнае падполле* У снеж 1962 — ліп 1966 О у Полацкім р-не З 30 9 1968 гар паселак Брацкая магіла сав воінаў, якія загінулі ў Вял Айч вайну, магіла ахвяр фашызму Помнік падпольшчыкам, помнік архітэктуры 19 ст — сядзіба Цэнтр калгаса «Обальскі» Працуюць керамічны з-д, торфапрадпрыемства, лясніцтва У О сярэдняя і муз школы, дзіцячы сад, Дом культуры, музей камсамольскага падполля, 2 б-кі, бальніца *Галіна Новікава*



**ОБАЛЬСКАЕ КАМСАМОЛЬСКА-МАЛАДЗЁЖНАЕ ПАДПОЛЛЕ** («Ю н ы я м с ц і ў ц ы») Дзейнічала з пач 1942 да жн 1943 у Сіроцінскім р-не Створана па ініцыятыве Сіроцінскіх падп рай комаў КП(б)Б і ЛКСМБ з моладзі пас Обаль, весак Ушалы, Зуі, Масцішча, Ферма Аб'ядноўвала каля 40 чал, мела 3 групы (Обальскую, Масцішчанскую, Ушальскую) Узначальваў падполле камсам к-т Е С *Зянькова* (сакратар), Н А Азоліна, М С Дзяменцьева, У І, І В і Я Я Езавітавы, М П Лузгіна, З М *Партнова*, В М Шашкова Падпольшчыкі здабывалі і перадавалі партызанам зброю, медыкаменты, разведданыя пра размяшчэнне варожых войск, рух эшалонаў, забяспечвалі партыз разведчыкаў дакументамі, рабілі дыверсіі на аб'ектах ворага, знішчалі яго тэхніку, вялі паліт агітацыю сярод насельніцтва, распаўсюджвалі лістоўкі і зводкі Саўінфармбюро Дзякуючы звесткам падпольшчыкаў сав самалеты знішчылі на чыг ст Обаль 4 эшалоны з танкамі, пасля ўзрыву вадакачкі на гэтай станцыі 11 ням воінскіх эшалонаў былі затрыманы тут на некалькі дзён, у выніку падрыву цыстэрны на ст Лоўжа згарэлі эшалон з боепрыпасамі, будынак станцыі, прадуктовы склад Усяго падпольшчыкі ўчынілі 21 дыверсію (спалілі льнозавод, пілараму, электрастанцыю, некалькі мастоў і інш ) Гітлераўцы арыштавалі і пасля катаванняў расстралялі амаль усе кіраўніцтва арг-цыі і многіх падпольшчыкаў, тыя, хто пазбег арышту, пайшлі да партызан Зяньковай і Партновай прысвоена званне Героя Сав Саюза У гонар падп арг-цыі ў Обалі пастаўлены помнік У 1965 створаны *Музей Обальскага камсамольскага падполля* *Раіса Чарнаглазава*




**Літара «О»** 1 — устаў 11 ст, 2 — паўустаў 15 ст, 3 — паўустаў 16 ст, 4 — паўустаў 17 ст, 5 — скорапіс 15 ст, 6 — скорапіс 16 ст, 7 — скорапіс 17 ст, 8 — шрыфт Ф Скарыны 16 ст, 9 — шрыфт Статута ВКЛ 1588 10 — друкаваная 17 ст, 11 — грамадзянская 18 ст

**ОДРСК**, горад, які ўпамінаецца ў «Павучанні» Уладзіміра Манамаха ў сувязі з яго паходам на Полацк у 1078 З Я *Даленга-Хадакоўскі* выказаў меркаванне, што О знаходзіўся на р Адроў (правы прыток Дняпра), на Аршаншчыне, але гэта не пацверджана раскопкамі Рус гісторык М М Карамзін лічыў, што ў крыніцы памылкова напісана Одрьск замест Дръютеск (Друцк)

**ОДЭРБОРН** (Oderborn) Пауль (каля 1555, Барт у Зах Памор'і — 1604), дзеяч лютэранскай царквы ў ВКЛ, пісьменнік З 1577 служыў прапаведнікам у Вільні, удзельнічаў у рэліг дыспутах і палемічнай перапісцы з прадстаўнікамі інш канфесій ВКЛ, у т л з Я *Ласіцкім* У 1582 выдаў у Ростаку (Германія) на лац мове трактат «Апавяданне пра рэлігію і звычаі рускіх», у якім выклаў свае ўражанні ад побыту і рэліг жыцця беларусаў і рускіх, адным з першых сярод зах-еўрап аўтараў ужыў назву «Белая Русь» у дачыненні да ПнУ Беларусі Трактат О перавыдаваўся разам з падобнай па назве і змесце працай Ласіцкага і ў складзе выданняў кампілятыўнага зместу У 1587 у Гродне вітаў аб ранне каралем польскім і вял князем ВКЛ Жыгімонта III, атрымаў ад яго падсаду лютэранскага пастара ў Рызе Пазней служыў пастарам у сталіцы Курляндыі Мітаве

у Гродне, потым на Валыні Лепшыя муз творы О , асабліва паланэзы, вылучаюцца маштабнасцю і віртуозным стылем Аўтар «Граматыкі музыкі» (Варшава, 1873), высока ацэненай С Манюшкам О шмат падарожнічаў па Беларусі, Украіне, Польшчы і Літве, рабіў замалеўкі мясцін, звязаных з жыццем вядомых людзей і арх помнікамі, у т л больш за 200 у Беларусі Камянецкай вежы, Горы-Горацкага земляробчага ін-та, замкаў, сядзіб і палацаў у Міры, Навагрудку, Нясвіжы, Камянцы, Гродне і інш Малюнкі вызначаюцца строгай дакументальнасцю, маюць вял каштоўнасць для гісторыі архітэктуры Вял колькасць малюнкаў зберагаецца ў Нац музеі ў Кракаве (Польшча) Помнік у г Іванава Брэсцкай вобл (1997, скульптар Голубеў)

*Літ* Д р о б а ў Л Н Напалеон Орда — мастак і збіральнік // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі 1971 № 3, А х в е р д о в а Е Друг Мицкевича и Шопена // Неман 1983 № 6, Я е ж Пачынальнікі беларускага піянізму // Мастацтва Беларусі 1985 № 2, Я к і м о в і ч Ю А. Беларуская архітэктура ў малюнках Напалеона Орды // Там жа 1983 № 7

**ÓРДЭНЫ** (ням Orden ад лац ordo шэраг, разрад), ганаровыя дзярж ўзнагароды за асобыя заслугі Паходжаннем звязаны з ордэнамі прыдворнымі (карпарацыямі) 14—16 ст , якія паходзілі ад ордэнаў рыцарскіх 12—13 ст Доўгі час характэрная рыса прыдворных ордэнаў — ордэнскі касцюм — была элементам узнагароднага О (17—18 ст ) У 19 ст знакі О (стужка, крыж, зорка) пачалі існаваць асобна ад ордэнскай вопраткі У 20 ст зорка як абавязковы элемент вышэйшай ступені О знікла Звычайна знакі вышэйшай ступені узнагароды насілі на стужцы цераз плячо разам з зоркай на грудзях, другой ступені — на шыі, ніжэйшых — у пятліцы (пазней — злева на грудзях) Парадак узнагароджання рэгламентаваўся статутам О Існавала традыцыя ўручаць О у час ордэнскага свята Справамі О ведаў капітул Пры існаванні ў дзяржаве некалькіх О выпрацоўваліся правілы ордэнскай паступеннасці Звычайна О быў індывідуальнай прыжыццевай узнагародай У 20 ст з'явіліся традыцыі пасмяротных і калектыўных узнагароджанняў Да 2-й пал 19 ст знакі аднаго О розных ступеней адначасова не насілі знак ніжэйшай ступені замяняўся на знак вышэйшай Звычайна кавалеры О мелі пэўныя матэрыяльныя выгады (пенсіен, камандорства, льготы)

Першыя О , звязаныя з гісторыяй Беларусі — О Рэчы Паспалітай Першы і вышэйшы О Рэчы Паспалітай — О Белага Арла (1705—95) Функцыянаваў ен на аснове праекта О Бязгрэшнага Зачацця Дзевы Марыі 1632 Першае ўручэнне ордэнскіх знакаў у выглядзе залатых эмалевых нашыйных медальенаў адбылося ў час спаткання Аўгуста II з Пятром I у Тыкоціне У 1709 О набыў выгляд нашыйнага крыжа з брыльянтамі, падобнага да французскага О

Н Орда

Св Духа З 1713 свецкія асобы насілі такі крыж на стужцы цераз левае плячо разам з шытаи зоркай з брыльянтамі на левым баку грудзей, духоўныя асобы насілі нашыйны варыянт О , магістр — на ланцугу З 1760-х г крыж і зорка (шытая і каваная) былі без брыльянтаў Ордэнскае свята прымяркоўвалася да дня імянін пануючага караля Ордэнская стужка спачатку была белая з чырв палосамі па краях, з 1713 — блакітная, дэвіз «Pro Fide, Rege et Lege» («За веру, караля і закон») О адзначана каля 900 асоб О св Станіслава (1765—93) быў узнагародай за цывільныя заслугі Статут патрабаваў ад ордэнскіх кавалераў фінансавых ахвяраванняў на дабрачыннасць Ордэнскае свята адзначалася 8 мая Стужка О была чырвоная з белымі палосамі па краях Свецкія асобы насілі крыж на стужцы цераз правае плячо з шытай зоркай на левым баку грудзей, духоўныя асобы — нашыйны варыянт Дэвіз «Praemiando incitat» («Узнагароджваючы заахвочваю») О адзначаны 1774 асобы Пасля адрачэння ў 1795 Станіслава Аўгуста Панятоўскага ен пэўны час трактаваў гэты О як свой прыватны О Вайсковага крыжа (1792—94) спачатку меў выгляд медаля «Virtuti Militari» («Ваеннай доблесці») з серабра і золата (1792), пазней уведзены крыж і зорка Фактычна існаваў аднаступенны О (крыж або залаты медаль) і знак адрознення О (сярэбраны медаль) Пазней гэты О падзелены на 5 ступеняў (крыжы вялікі з зоркай, камандорскі шыйны, кавалерскі пятлічны, медалі залаты і сярэбраны) Яго статут быў складзены на ўзор аўстрыйскага вайсковага О Марыі Тэрэзіі Першапачаткова ордэнская стужка была чырвоная з белымі палосамі па краі, пазней — цемна-блакітная з чорнымі палосамі У 1792 гэты О адменены Таргавіцкай канфедэрацыяй, адноўлены Гродзенскім сеймам 23 11 1793

Значная група фалерыстычных помнікаў бел гісторыі — О Рас імперыі і Часовага ўрада Першы і вышэйшы О Рас імперыі — О св Андрэя Першазванага (1699) 1-ы вядомы праект яго статута складзены ў 1720, афіцыйны статут — у 1798 Меў 1 ступень Крыж насілі на блакітнай стужцы цераз правае плячо, зорку — на грудзях злева Яго дэвіз «За веру і вернасць». З 1855 за ваенныя заслугі на знакі дадаваліся мячы, існаваў варыянт з брыльянтамі, з 1870-х г — варыянт для іншаверцаў Наданне О аўтаматычна рабіла яго ўладальніка кавалерам вышэйшых рас О (за выключэннем св Георгія і св Уладзіміра) О св вялікамучаніцы Кацярыны (1714) прызначаўся для жанчын Меў 2 ступені Яго статут распрацаваны ў 1713, стужка спачатку была белая, з 1797 чырвоная з сярэбраным беражком, дэвіз «За каханне і Бацькаўшчыну» Крыж 1-й ступені насілі на стужцы цераз правае плячо з зоркай, 2-й ступені — на банце на левым баку грудзей О св Аляксандра Неўскага (1722) быў узнагародай для асоб з чынам ад генерал-лейтэнанта або тайнага саветніка У 1736 кавалерам гэтага О стаў кароль польскі і вял кн літ Аўгуст III Меў 1 ступень, стужка чырвоная цераз левае плячо, зорку насілі злева, дэвіз «За працу і Бацькаўшчыну», існаваў варыянт з брыльянтамі, з 1855 дадаваліся мячы за ваенныя заслугі (маглі дадавацца і на ўжо нададзеныя знакі); існавалі брыльянтавыя мячы, быў варыянт О для іншаверцаў О св. Ганны (1742) паходзіў

**Да арт Ордэны Урачысты ордэнскі строй кавалера ордэна св. Станіслава 2-я пал 18 ст.**

ад адпаведнага гальштэйн-гаторпскага О (1735—42) Першапачаткова меў 1 ступень, з 1797 — 3, з 1815 — 4 (на стужцы цераз плячо, на шыі, у пятліцы, на зброі). Яго стужка была чырвоная з жоўтым беражком, дэвіз «Amantibus justitiam, pietateret, fidem» («Тым, хто любіць праўду, набожнасць, вернасць»). Да 1828 існаваў варыянт О. з брыльянтамі, пазней да 1874 — з імператарскай каронай на знаках 1-й і 2-й ступеняў. За ваенныя заслугі з 1855 да О. дадаваліся і мячы, з 1857 — мячы і бант за ваенныя заслугі для вайскоўцаў да 3-й ступені; існаваў варыянт О. для іншаверцаў, 2-я ступень для іншаземцаў была з зоркай. Крыж насілі на стужцы цераз левае плячо, зорку — на правым баку грудзей, знак ніжэйшай ступені — на халоднай зброі (т.зв. ганнінская зброя). Існавалі спец. правілы спа чэння знака ніжэйшай ступені і залатой зброі (гл. ў арт. *Узнагародная зброя*) Імператарскі ваенны О. св. велікамучаніка і Пераможцы Георгія (1769) быў вы ключна вайсковай узнагародай за бая выя заслугі або за выслугу гадоў (да 1855). Меў 4 ступені (на стужцы цер плячо з зоркай на грудзях, на шь зоркай на грудзях, на шыі, у пятлі Яго стужка з 3 чорных і 2 аранжа палос, дэвіз «За службу і храбрасць»

**Ордэны** Рэчы Паспалітай (1), Рас. імперыі (2—9), СССР (10—20), БССР (21): 1 — Вайсковага крыжа (правы і адваротны бакі); 2 — св. Андрэя Першазванага (крыж з брыльянтамі); 3 — св. велікамучаніцы Кацярыны (крыж 1-й ступені); 4 — св. Аляксандра Неўскага (крыж з мячамі), 5 — св Ганны (крыж 1-й ступені з мячамі і каронай); 6 — св. велікамучаніка і Пераможцы Георгія (крыж 1-й ступені); 7 — св роўнаапостальнага князя Уладзіміра (крыж 1-й ступеиі з мячамі); 8 — Белага Арла (крыж з мячамі); 9 — св. Станіслава (крыж 1-й ступені з мячамі); 10 — «Перамога», 11 — Суворава 1-й ступені; 12 — Ушакова 1-й ступені; 13 — Кутузава 1-й ступені; 14 — Нахімава 1-й ступені; 15 — Багдана Хмяльніцкага 1-й ступені; 16 — Аляксандра Неўскага; 17 — «За службу Радзіме ва Узброеных Сілах СССР» 1-й ступені; 18 — Айчыннай вайны 1-й ступені, 19 — Айчыннай вайны 2-й ступені; 20 — Чырвоиай Зоркі; 21 — Працоўнага Чырвонага Сцяга.

знаках 4-й ступені за выслугу змяшчалі надпісы «25 год», «18 кампаній», «20 кампаній», да іх мог дадавацца бант за баявыя заслугі (сведчанне паўторнага ўзнагароджання), існаваў і варыянт для іншаверцаў Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 4-й ступенню ўзнагароджвалі таксама салдат (меў лаўровую галінку на калодцы) О св роўнаапостальнага князя Уладзіміра (1782) даваўся за выслугу гадоў і асаблівыя ўчынкі цывільным і вайсковым чынам Меў 4 ступені (на стужцы цераз плячо з зоркай на грудзях, на шыі з зоркай на грудзях, на шыі, у пятліцы) Яго стужка была чырвоная з чорным беражком, дэвіз «Карысць, гонар і слава» На знаках 4-й ступені за выслугу ў класных чынах змяшчалі надпісы «25 год», «35 год», існаваў і варыянт для іншаверцаў За баявыя заслугі ў 1789—1855 да О мог дадавацца бант, пазней — мячы, з 1857 да 4-й ступені для вайскоўцаў — бант Месца для мячоў на цывільных знаках вышэйшых ступеняў адводзілася над зоркай і над крыжам пры наданні раней ніжэйшай ступені за ваенныя заслугі (1855—70) О св Іаана Іерусалімскага (1798—1817) меў мальтыйскае паходжанне, у 1798—1801 рас імператар быў яго вял магістрам, у 1801—03 — пратэктарам) З 1797 у Рас імперыі існавалі праваслаўнае і каталіцкае прыерствы, пазней з'явіліся родавыя камандорствы, ганаровыя камандоры і кавалеры Камандорскі крыж насілі на шыі, кавалерскі — у пятліцы, існавалі вял і малы крыжы для жанчын, стужка чорная Пасля ліквідацыі О яго кавалеры маглі насіць ордэнскія знакі і мець адпаведныя тытулы, але у сувязі са скасаваннем спадчынных камандорстваў нашчадкі іх уладальнікаў пазбаўлены гэтых тытулаў Адной з вышэйшых рас ўзнагарод быў О Белага Арла (1815) Ён паходзіў ад адпаведнага ордэна Варшаўскага княства (1807—12) Да 1831 прызначаўся толькі для Царства Польскага ў складзе Рас імперыі, пазней знаходзіўся ў Капітуле рас О Прызначаўся для асоб з чынам ад генерал-лейтэнанта або тайнага саветніка Меў 1 ступень, стужка цемна-сіняя, дэвіз «Pro Fide, Rege et Lege», з 1855 О за ваенныя заслугі дадаваліся мячы, існаваў варыянт з брыльянтамі для іншаземцаў і варыянт без кароны перыяду Часовага ўрада (1917) О св Станіслава (1815) паходзіў ад адпаведнага ордэна Варшаўскага княства (1809—13) Да 1831 ен прызначаўся толькі для Царства Польскага Меў 4 ступені, стужка чырвоная з 2 белымі палосамі па краях, дэвіз «Praemiando incitat», з 1855 за ваенныя заслугі дадаваліся мячы, з 1857 — бант да 4-й ступені для вайскоўцаў, існаваў варыянт для іншаверцаў, 2-я ступень для іншаземцаў была з зоркай О «Virtuti Militari» (1815—31) паходзіў ад адпаведнага О Варшаўскага княства (1807—12) Да 1831 ен прызначаўся толькі для Царства Польскага, у перыяд паўстання 1830—31 масава надаваўся ўдзельнікам яго падаўлення (з датай «1831» і пяцівугольнай калодкаи) Меў 5 ступеней, стужка цемна-блакітная з чорнымі беражкамі, дэвіз «Rex et Patria» («Кароль і Бацькаўшчына») Паўстанцы таксама надавалі 5-ступенны О «Virtuti Militari», але ен адрозніваўся наяўнасцю герба «Пагоня» (3763 узнагароджаных) У 1797 у Рас імперыі зроблена спроба ўвесці «Адзіны расійскі кавалерскі чын» з мэтай уніфікацыі ўзнагароднай сістэмы і практычнага звядзення ордэнскай паступеннасці да аднаго шматступеннага О з рознымі назвамі і ступенямі, але хутка адбылося вяртанне да рэгламентаванай Табелем аб рангах паслядоўнасці надання О (за выключэннем О св Георгія) З 1870 дазволена насіць ордэнскія знакі ніжэйшых ступеней, атрыманыя за ваенныя заслугі, адначасова з вышэйшымі

О міжваеннай Польскай Рэспублікі працягвалі папярэднія традыцыі уведзены О Белага Арла (1921), «Virtuti Militari» (5 ступеняў, 1919) і новы О

**Ордэны СССР** 1 — Леніна, 2 — Кастрычніцкай Рэвалюцыі, 3 — Чырвонага Сцяга, 4 — Працоўнага Чырвонага Сцяга, 5 — Дружбы народаў, 6 — «Знак Пашаны», 7 — Славы 1-й ступені, 8 — Славы 2-й ступені, 9 — Славы 3-й ступені, 10 — Працоўнай славы 1-й ступені

Адраджэння Польшчы (5 ступеняў, 1921) Для іх характэрна вельмі рэдкае наданне першых ступеней і масавае ўзнагароджанне ніжэйшымі

Пасля Кастр рэвалюцыі ўсе папярэдн-нія ўзнагароды былі скасаваны дэкрэтам ВЦВК і СНК ад 10(23) 11 1917, але хутка ўзнікла неабходнасць ва ўвядзенні сав О У 1918—33 існавалі О ў шэрагу сав рэспублік (звычайна ў выглядзе чырв сцяга на ўзор О Чырвонага Сцяга РСФСР), у т.л О Працоўнага Чырвонага Сцяга БССР (1924—32) Нашэнне іх працягвалася пасля скасавання інстытута рэспубліканскіх О Як правіла, кавалеры О мелі права на пэўныя льготы Агульнасаюзныя О з'явіліся паралельна з рэспубліканскімі і паступова выцеснілі іх цалкам Былі ўведзены О Чырвонага Сцяга (1924), Працоўнага Чырвонага Сцяга (1928), Леніна (1930), Чырвонай Зоркі (1930), «Знак Пашаны» (1935, у 1988 перайменаваны ў О Пашаны), Айчыннай вайны (2 ступені, 1942), Суворава (3 ступені, 1942), Кутузава (2 ступені, 1942, 3 ступені, 1943), Аляксандра Неўскага (1942), Багдана Хмяльніцкага (3 ступені, 1943), Славы (3 ступені, 1943), «Перамога» (1943), Ушакова (2 ступені, 1944), Нахімава (2 ступені, 1944), «Маці-гераіня» (1944), «Мацярынская слава» (3 ступені, 1944), Кастрычніцкай Рэвалюцыі (1967), Дружбы народаў (1972), Працоўнай славы (3 ступені, 1974), «За службу Радзіме ва Узброеных Сілах СССР» (3 ступені, 1974), «За асабістую мужнасць» (1988) Спецыфікай О СССР як часткі ўзнагароднай сістэмы было фармальная адмова ад прынцыпаў царскіх О і фактычнае следаванне ім, дэкларыраванне роўнасці і фактычная сац стратыфікацыя, існаванне «партрэтных» О, якія мелі прататыпам даравальныя імператарскія партрэты, адначасовае нашэнне знакаў усіх ступеней, адсутнасць зорак як дадатковых адзнак вышэйшых ступеней О і існаванне зоркападобных О, знакі для паўторных узнагароджанняў, адсутнасць фармалізаванай іерархіі ўзнагарод рэспублік і СССР, падвойныя ўзнагароджанні за адзін учынак, адсутнасць ордэнскай стужкі ў 1918—38, існаванне «ордэнскай» стужкі аднаго колеру для розных узнагарод у 1938—43, увядзенне О Працоўнага Чырвонага Сцяга як фактычны падзел адзінага (вышэйшага да 1930) О Чырвонага Сцяга на вайсковую і цывільную разнавіднасці, юрыдычны статус медаля («Залатая Зорка», «Серп і Молат») як вышэйшай узнагароды краіны і фактычны яго статус як зоркі вышэйшага ордэна з магчымасцю неаднаразовага ўручэння, юрыдычны статус асобнага О як знака да ганаровага звання «Маці-гераіня» і яго фактычны статус як вышэйшай ступені О «Мацярынская слава», суцэльнаметалічныя эмалевыя калодкі-банты (без ордэнскай стужкі з матэрыі) О «Маці-гераіня», «Мацярынская слава» і «Медаль мацярынства», наданне нагрудных знакаў О як калектыўных узнагарод, існаванне аказіянальных О, нац мова ў легендзе саюзнага О Багдана Хмяльніцкага

Ордэны СССР 1 — «Маці-гераіня», 2 — «Мацярынская слава» 1-й ступені

Аддзеленая ад дзяржавы Руская правасл царква мае свае О Св Роўнаапостальнага князя Уладзіміра (3 ступені, 1958?), Прападобнага Сергія Раданежскага (3 ступені, 1972?), Андрэя Першазванага (1 ступень, зорка і знак, 1988), Св Роўнаапостальнай княгіні Вольгі (3 ступені, 1988), Благавернага князя Даніла Маскоўскага (3 ступені, 1988), Св мучаніка Трыфана (3 ступені, 1996), Свяцшеля Інакенція (3 ступені 1997) Па ініцыятыве Бел экзархата зацверджаны О Крыжа Прападобнай Ефрасінні Полацкай (2 ступені, 1998) Польская аўтакефальная правасл царква мае О Святой Роўнаапостальнай Марыі Магдаліны (3 ступені) З узнагарод бел эміграцыі вядомы О «Гонар Айчыны», устаноўлены «Камітэтам шанавання» (1997)

Законамі ад 13 4 1995 і 2 7 1997 уведзены О Рэспублікі Беларусь Айчыны (3 ступені, 1995), Воінскай Славы (1995), «За службу Радзіме» (3 ступені 1997), «За асабістую мужнасць» (1997) Кастуся Каліноўскага (1995), Францыска Скарыны (1995), Маці (1995) Асаблівасці О і ўзнагароднай сістэмы Беларусі адсутнасць зафіксаванай магчымасці паўторных узнагароджанняў, прынцып сац роўнасці, фактычнае вывядзенне за ордэнскую сістэму вышэйшай узнагароды (медаль Героя Беларусі — знак асобай адзнакі і ўручаецца асобна, без О), права на льготы толькі ў Герояў Беларусі, кавалераў О Айчыны і «За службу Радзіме» і адсутнасць іх у кавалераў інш О, працяг узнагародных традыцый СССР (да ўзнагароджання О Айчыны прадстаўляюцца асобы, узнагароджаныя раней О ці медалём Рэспублікі Беларусь або О СССР, не прадстаўляюцца да ўзнагароджання О Маці мнагадзетныя маці, якім раней прысвоена званне «Маці-гераіня» або ўручаны О «Мацярынская слава» ці «Медаль мацярынства»), узнагароды Рэспублікі Беларусь носяцца перад узнагародамі СССР У адпаведнасці з Канстытуцыяй дзярж ўзнагародамі ўзнагароджвае Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь па хадайніцтву працоўных калектываў і ін-таў улады Вызначаны тэрмін магчымага прадстаўлення да наступнай узнагароды — не раней чым праз 5 год пасля папярэдняга ўзнагароджання Да дзярж узнагароды выдаецца пасведчанне

*Літ* Учреждение орденов и других знаков отличия СПб, 1892, Винклер П фон Очерки истории орденов и знаков отличия в России от Петра Великого до наших дней СПб, 1899, Сборник высочайших повелений и циркуляров о наградах СПб 1902 Сбор-

Ордэны Рэспублікі Беларусь 1 — Айчыны 1-й ступені, 2 — Айчыны 2-й ступені, 3 — Айчыны 3 й ступені, 4 — Воінскай Славы 5 — Францыска Скарыны, 6 — Маці

славічу Віцебск і Усвяты Упершыню ўпамінаецца ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 1067 як горад Рша Полацкага княства ў сувязі з міжусобнай барацьбой паміж полацкім кн Усяславам Брачыславічам і сынамі Яраслава Мудрага У пач 12 ст, калі Полацкая зямля падзялілася на княствы-ўдзелы, О ўвайшла ў склад Віцебскага княства З пачатку княжання ў Віцебску Альгерда Гедзімінавіча (1320) О ў складзе Віцебскага княства далучана да ВКЛ У сувязі з прыгранічным размяшчэннем горада тут у 1 й пал 14 ст па ініцыятыве кн Альгерда ўзведзены *Аршанскія гарадскія ўмацаванні*, у 1398—1407 паводле загаду кн Вітаўта пабудаваны *Аршанскі замак* 15 7 1410 аршанская харугва ў складзе войска ВКЛ удзельнічала ў *Грунвальдскай бітве 1410* Паводле гіст крыніц за 1555, М К Радзівіл Чорны заснаваў у О кальвінскі (пратэстанцкі) збор — адзін з першых на Беларусі З 1560-х г О — дзярж ўладанне, цэнтр павета У 16—20 ст існаваў *Аршанскі павет* Упершыню О пазначана на «Карце Вялікага княства Літоўскага, Лівоніі і Маскоўскага княства», складзенай у 1589 М Струбічам У 16 ст ў ходзе шматлікіх войнаў і аблог рус войскамі (1500, 1507, 1519, 1534, 1535, 1561—64, 1580) гораду нанесены вял страты У час вайны Маск дзяржавы з ВКЛ 1512—22 пад О адбылася *Аршанская бітва 1514*, у Лівонскую вайну 1558—83 — *Аршанская бітва 1564* Горад займаў выгаднае становішча на водным шляху на Дняпры Меў гандл сувязі з Расіяй, Польшчай, Прыбалтыкай, Украінай, быў транзітным цэнтрам, пачатковым пунктам вял гандл шляху «гасцінца купецкага», які праходзіў па тэр Беларусі з Рус дзяржавы ў Польшчу і Прыбалтыку У 1573 у О з'явіліся езуіты, у 1590 канцлер ВКЛ Л Сапега заснаваў тут езуіцкі касцел У 16 ст ў О існавалі 23 віды рамесстваў, у 17 ст — 26, да канца 18 ст — больш за 50 У сярэдзіне 17 ст ў О каля 5 тыс ж У 1620 горад атрымаў магдэбургскае права, прадвеснікамі якога былі грамата

Гарадзішча старажытнай **Оршы** 1994

Жыгімонта III ад 23 11 1593 аб гар органе самакіравання (войт і 4 сотнікі), а яшчэ раней — увядзенне аршанцамі ў 1559 частковага самакіравання (абранне войта і 6 памочнікаў) 13 12 1620 О атрымала герб — у блакітным полі залаты паўмесяц, паміж рагамі якога сярэбраны крыж Складанне гар статута («Вилкер места его королевское милости Орши»), зацверджанага 3 3 1621, да поўніла фарміраванне *аршанскага права* У 16—18 ст О з'яўлялася значным рэліг цэнтрам З 1592 існавала праваслбрацтва Былі заснаваны і дзейнічалі *Аршанскі езуіцкі калегіум, Куцеінскі Богаяўленскі манастыр, Куцеінскі Успенскі манастыр*, царква Ілы Прарока (1505), манастыры бернардзінцаў (1636), базыльянак (1642), дамініканцаў (1649), францысканцаў (1680), уніяцкі Пакроўскі манастыр (1758), саборная царква Раства Маці Боскай (1691), касцелы св Антонія (па інш звестках Прачыстай Багародзіцы, 1680), трынітарыяў (1714), місіянераў (1752), марыявітак (18 ст), базыльян (2-я пал 18 ст), цэрквы Узнясця (1757), Іаана Багаслова (1790) і інш У 1630 пры Куцеінскім Богаяўленскім манастыры бел асветнік Спірыдон *Собаль* заснаваў *Куцеінскую друкарню*, якая з'яўлялася асн цэнтрам бел кірылічнага кнігадрукавання У 17 ст О была адным з буйных маст цэнтраў Беларусі Тут працавалі разьбяры Іпаліт, Герасім і Арсеній, цесляры Васіі і Андрэй Федараў, гравер Пасіі лір і чаканшчык Афанасій Воўчак стры-збройнікі, мастакі З О пах рукапісныя помнікі бел пісьм «Лісты» Ф С Кміты-Чарнабы (1567—87, па інш звестках 1572—74 «Збор польскіх і рускіх вершаў» (кане 17 ст), *«Аршанскі кодэкс»* (1693), у 18 у О знойдзена *«Аршанскае евангелле»* (канец 12 — пач 13 ст) У вайну Рас з Рэччу Паспалітай 1654—67 і у Паў вайну 1700—21 горад моцна па колькасць насельніцтва скар больш чым у 5 разоў Пасля 1-га па лу Рэчы Паспалітай (1772) О ў склад Рас імперыі, цэнтр *Аршанскай правін* Магілеўскай губ, 793 ж У 1776 гор пазбаўлены магдэбургскага права, 17 ж, 309 будынкаў У 1781 нададзены н вы герб уверсе — палова герба Рас ім перыі, унізе — «в голубом поле пя стрел, потому что сей город построен еще древними скифами, которые та выми орудиями похвально действ ли» У 1791 адкрыта 2-класнае нар чылішча З 1796 О стала цэнтрам па та Беларускай, з 1802 — Магілеўск губ 6(18) 7 1812 горад захапілі фра войскі Інтэндантам О быў прызнача А Бейль (пазней вядомы пісьмен Стэндаль) У ліст 1812 у час адступле ня французы спалілі горад У 1848 пр няты новы план забудовы З 2-й пал ст пасля будаўніцтва чыгунак О буйны чыг вузел, аршанская пр тань — значны транспартны пункт Дняпры, адкуль штогод адпраўля каля 100 суднаў, з 1881 наладжаны р гулярны пасажырскі рух па рацэ да Ма гілева 28 8(9 9) 1863 паводле прыгавор ваен суда ў О расстраляны І М *Буй ловіч* — кіраўнік паўстанцкага атрада які дзейнічаў у Аршанскім пав ў час паўстання 1863—64 У 1881—83 існаваў нарадавольскі ваен гурток У 1881 у О 5025 ж, 82 купецкія сям'і 1-й і 2-й гіль дый, 229 асоб з пасведчаннямі на дроб ны гандаль, 113 — на промыслы У пач 1890 у горадзе 15 прамысл пра прыемстваў (ільнотрапальнае, гарбар нае, крухмальнае, цагельнае, піваварн і інш), 9 навуч устаноў (657 вучняў 1894), бальніца, 6 урачоў, 2 аптэкі б-кі, 2 кнігарні, друкарня Былі адкры

**Арачны мост і млын у Оршы** Пач 20 ст

**Пецярбургская вуліца ў Оршы** Пач. 20 ст

кавіча, крайчы ВКЛ у 1519—42, староста ковенскі ў 1539, упіцкі ў 1546, ваявода навагародскі ў 1542—44, кашталян віленскі з 1544 Быў у апазіцыі да клана Радзівілаў

Юрый Юрэвіч (каля 1530—79) сын Юрыя Рыгоравіча Кальвініст Староста браслаўскі з 1558, дзяржаўца упіцкі ў 1-й пал 1560-х г, ваявода мсціслаўскі ў 1566—78, ваявода смаленскі з 1578 Удзельнік Лівонскай вайны 1558—83 Пасля смерці Жыгімонта II Аўгуста (1572) выступаў за абранне на пасад Рэчы Паспалітай царэвіча Федара Іванавіча, падпісаў элекцыю Генрыка Валезы Пасля ўцекаў апошняга ў 1574 выступаў супраць абрання на каралеўскі пасад цара Івана IV Грознага

Рыгор Юр'евіч (каля 1535—18 6 1580), сын Юрыя Рыгоравіча Кальвініст Каралеўскі дваранін з 1569 У час бескаралеўя 1572 выступаў за абранне на пасад царэвіча Федара Іванавіча у час 2-га бескаралеўя — за цара Івана IV (прапаноўваў яму падтрымку ўзамен за г Ковель, Бельск і пасаду «гетмана дворнага») У 1580 зняволены у Вільні з-за падазроных кантактаў з рас паслом, абвінавачаны ў дзяржздрадзе, замаху на жыцце караля Стафана Баторыя і пакараны смерцю На яго сыне Яне, суддзі земскім віленскім у 1606—09, род О скончыўся

**«ÓГА»** («Otto»), кодавая назва карнай аперацыі ням -фаш захопнікаў супраць партызан і мясц насельніцтва, якія выйшлі з-пад удараў карнікаў у ліст 1943 у ходзе карнай аперацыі «Генрых» Праводзілася ў Дрысенскім і Асвейскім р нах 20 12 1943—1 1 1944 баявымі гру памі Екельна і Готберга Мэты аперацыі знішчыць партыз сілы на тэр паміж г Дрыса і Себеж (Пскоўская вобл ), наладзіць беспераШкоднае забеспячэнне правага фланга групы арміі «Поўнач» па дарогах Дрыса—Себеж і Полацк—Себеж 20 снеж з Себежа, Ідрыцы і Шкяўне (Латвія) на Пн, з Даўгаўпілса на З, з Полацка на Пд праціўнік пачаў наступленне супраць партыз абароны, якая праходзіла па р Ніша, Дрыса і Свольна, адцясніў партызан да апошняй лініі іх абароны — лагераў у раене в Роўнае Поле Расонскага р-на, дзе сканцэнтраваліся штабы ўсіх брыгад, шпіталі з параненымі, тысячы жанчын, старых і дзяцей На сумесным пасяджэнні камандавання брыгад было прынята рашэнне ў ноч на 28 снеж прарваць блакаду і вывесці жыхароў і параненых у сав тыл Каб адцягнуць сілы праціўніка і прарваць лінію фронту (ст Дрэтунь — воз Нешчарда — г Пустошка Пскоўскай вобл ), былі створаны 2 ударныя групы першая ў складзе партыз брыгад Асвейскай, 1-й і 2-й Дрысенскіх, Латышскага партыз атрада (узначаліў І К Захараў), другая ў складзе 1, 7, 11, 12, 20-й Калінінскіх брыгад (В М Лісоўскі) 26 снеж першая ўдарная група нанесла моцны ўдар па карніках каля в Канюхова (Расонскі р-н), што стварыла магчымасць 30 снеж каля 10 тыс жыхароў пад прыкрыццем партызан пераправіцца цераз р Дрыса і ўвайсці ў размяшчэнне часцей Чырв Арміі Другой ударнай групе прарыў у раене в Клясціцы—Юхавічы (Расонскі р-н) не ўдаўся, таму пасля 2-дзенных баеў партызаны і мясц жыхары, што ішлі з імі, адышлі ў лясы на Пн і З ад в Роўнае Поле, частка насельніцтва выйшла за лінію фронту па маршруце першай ударнай групы У ходзе аперацыі «О» гітлераўцы (паводле даных баявой групы Готберга) расстралялі каля 2 тыс чал , захапілі для вывазу ў Германію больш за 500 чал , спалілі в Барысава (загубілі 76 чал ), Кісялі (113), Кашалева (37), Стралкі (122), Ярмоліна (39), Мельніца (не аднавілася) Верхнядзвінскага р-на У 1974 у в Канюхова Расонскага р-на пастаўлены помнік партызанам і жыхарам, якія загінулі пры прарыве блакады

*Уладзімір Пасэ*

**ÓТРАКІ**, у 11—13 ст на Русі княжацкія і баярскія слугі, члены іх двара, уласныя дружыннікі Былі асабіста свабоднымі Мяркуецца, што ў буйных князеў колькасць О магла дасягаць многіх соцень Тураўскі князь Святаполк Ізяславіч, як толькі стаў у 1093 вял князем кіеўскім, казаў «Имею отрокъ своихъ 8 сотъ, иже могуть противу имъ (полаўцаў) стати» Як члены княжацкай малодшай дружыны О нагадвалі *дзецкіх*, аднак у адрозненне ад іх мелі больш шырокія правы ў судова-адм апараце Паводле Падрабязнай праўды, О былі памочнікамі вірніка, мостніка, вераготна, мечніка, а таксама самастойнымі службовымі асобамі па выбіранні вір (у 1-й пал 11 ст )

*Літ* Свердлов М Б Генезис и структура феодального общества в Древней Руси М , 1983

**ÓТЧЫЧЫ**, 1) у ВКЛ у 15—18 ст адна з асноўных па характары асабістай залежнасці ад феадалаў катэгорый сялян Не мелі права пераходу ад аднаго феадала да другога і таму называліся яшчэ *людзі «непахожыя»*, або «отчизные» людзі, г зн атрыманыя феадаламі ў спадчыну У О ператвараліся тыя *людзі «пахожыя»* і іх нашчадкі, якія пратэрмінавалі («заседели») 10-гадовы тэрмін даўнасці і не маглі заплаціць за выхад Прыгоннае права феадалаў на О заканадаўча афармлена Прывілеем 1447, Статутамі ВКЛ 1529, 1566, 1588 Феадалы маглі О перадаваць у спадчыну, дарыць,закладваць і прадаваць з зямлею і без зямлі 2) У ВКЛ у 15—16 ст назва сялян і феадалаў, якія атрымлівалі ў спадчыну зямлю або маентак бацькі («отчину»)

*Літ* Спиридонов М Ф Закрепощение крестьянства Беларуси (XV—XVI вв ) Мн , 1993

*Міхаіл Спірыдонаў*

**П**, семнаццатая літара бел алфавіта Паходзіць з кірыліцкай П («пакой»), утворанай на аснове грэка-візантыйскай устаўнай П («пі») У старабел графіку перайшла са стараж -рус пісьменства Абазначала зычныя гукі «п», «п'» («палац», «праца», «пятно») Мела таксама лічбавае значэнне «восемдзесят» У рукапісах 14—17 ст у сувязі з функцыянаваннем розных пісьмовых школ і выкарыстаннем розных тыпаў пісьма (устаў, паўустаў, скорапіс) ужывалася ў некалькіх варыянтах, якія памагаюць вызначыць час і месца напісання помнікаў У 16 ст акрамя рукапіснай набыла друкаваную форму Пачынаючы з Ф Скарыны, стала адрозніваццa малая і вялікая, хоць ужыванне вял літары ва ўласных іменах, геагр назвах і ў пачатку сказаў не было яшчэ паслядоўным У сучаснай бел мове абазначае шумныя глухія выбухныя губна губныя зычныя гукі «п», «п'» («парог», «праўда», «пясок»—«п'асок») Бывае вялікая і малая, мае рукапісную і друкаваную форму Ужываецца ў афіц абрэвіятурах («ПАРП», «ППШ») Пры класіфікацыйным падзеле мае значэнне «шаснаццаты» (група «П»), пры лічбавай нумарацыі — дадатковае значэнне для размежавання прадметаў пад адным нумарам («паліца № 4п») *Аляксандр Булыка*



**ПААЛЕ́Й ЦЫЁН** (Р а б о ч ы я С і е н а), палітычныя партыі і міжнар таварыствы сацыял-сіяніцкага кірунку, арганізацыі якіх з пач 20 ст да канца 1920-х г дзейнічалі ў шэрагу краін, у т л ў Расіі Абвясціўшы сябе прыхільнікамі некат тэарэт палажэнняў марксізму (напр , аб вядучай ролі рабочага класа), дзеячы П Ц разам з тым імкнуліся распаўсюджваць і ажыццяўляць ідэі «тэрытарыяльнага» і «духоўнага» сіянізму сярод яўр рабочых, дробных гандляроў, прадстаўнікоў інтэлігенцыі Найб поўна ідэалогія і палітыка П Ц ўвасоблена ў дзейнасці Яўр с -д рабочай партыі (ЯСДРП, засн ў 1906, праграма зацверджана ў 1907) У 1906 налічвала каля 16 тыс членаў У 1907 у г Гаага (Нідэрланды) утвораны Сусв яўр сацыяліст рабочы саюз П Ц , вядомы таксама пад назвай «Вельтфарбанд» П Ц У яго ўвайшлі акрамя расійскай ЯСДРП аднайменныя партыі ЗША, Аўстра-Венгрыі, Палесціны, Англіі, Румыніі Фак тычна паалейцыянізм выступіў як міжнар левасіяніцкая плынь ЯСДРП лічыла яўр рабочых «перадавым элементам» усяго яўрэйства, аднак была пераканана, што толькі «прагрэсіўны нацыяналізм» можа наблізіць яўр працоўных да сацыялізму Партыя разглядала сіянізм як «гістарычную неабходнасць» і ставіла сабе за мэту стварыць дзяржаву яўр пралетарыяту ў Палесціне ЯСДРП дамагалася таксама нац -паліт аўтаноміі з усеабдымнай эканам , культ і фінансавай кампетэнцыяй ва ўсіх унутр нац справах для тых народнасцей, інтарэсы якіх, на яе думку, не могуць быць дастаткова задаволены тэрытарыяльнай (абласной) аўтаноміяй У рэвалюцыю 1905—07 тактыка ЯСДРП супадала з меншавіцкай, у 1-ю сусв вайну яна выступіла з заклікам «Далоў вайну», вяла прапаганду і агітацыю за сіянізм, эміграцыю яўр працоўных у Палесціну, каб потым будаваць там сацыялізм Пасля Лют рэвалюцыі 1917 ЯСДРП падтрымлівала палітыку Часовага ўрада Усерас канферэнцыя П Ц (крас 1917) пацвердзіла ідэі нац.-паліт аўтаноміі, падкрэсліла, што «свабодная Расія можа быць толькі на аснове дэцэнтралізацыі» Паалейцыяністы выступалі за ўтварэнне федэрацыі яўр сацыяліст партый

У Беларусі першыя арг-цыі П Ц стварылі ў пач 20 ст прыхільнікі «пралетарскага сіянізму» У 1902 у Мінску адбыўся 2-і Усерас з'езд сіяніцкіх арг-цый На ім былі прадстаўлены дэлегаты ад будучых гурткоў П Ц , якія ў той час прызнавалі толькі эканам барацьбу Арг-цыі П Ц былі створаны таксама ў Бабруйску, Баранавічах Віцебску, Гомелі, Лідзе, Магілеве, Оршы і інш гарадах П Ц уваходзіў у склад створанага ў маі 1917 Савета нац сацыяліст партый Расіі разам з рас і укр эсэрамі, Бел сацыяліст грамадой польск сацыялістамі і інш Летам 1917 прадстаўнікі П Ц былі абраны у гар думы Віцебска, Гомеля, Мінска, Оршы ЯСДРП варожа сустрэла Кастр рэвалюцыю 1917 На выбарах ва Устаноўчы сход (ліст 1917) у Мінскай губ за спіс П Ц прагаласавалі 6136 чал (0,7% ад усіх выбаршчыкаў), у Магілеўскай губ — 2596 (0,4%) У сак 1918 прадстаўнікі ЯСДРП увайшлі ў склад Рады БНР, аднак разам з эсэрамі і дзеячамі Аб'яднанай яўр сацыяліст партыі ўстрымаліся пры галасаванні 3-й Устаўнай граматы, якая абвяшчала незалежнасць Беларусі Пасля падтрымкі большай часткай Рады БНР (крас 1918) рашэння аб накіраванні на імя кайзера Вільгельма II тэлеграмы, у якой гаварылася, што добрую будучыню Беларусі Рада бачыць «толькі пад апекай германскай дзяржавы», прадстаўнікі П Ц разам з інш яўр сацыялістамі, эсэрамі і меншавікамі выйшлі з яе складу У жн 1919 на канферэнцыі ў Гомелі ЯСДРП раскалолася Левыя паалейцыяністы арганізавалі т зв Яўр камуніст партыю (ЯКП), якая разам з ей падобнымі партыямі ў жн 1920 стварылі т зв Сусв яўр камуніст саюз П Ц (Камуністычны Вельтфарбанд) ЯКП паставіла сабе за мэту ўтварыць у Палесціне яўр камуніст дзяржаву з дыктатурай пралетарыяту ў выглядзе Саветаў Нягледзячы на адмаўленне ў прыеме ЯКП у Камуністычны Інтэрнацыянал, механізм апошняга выкарыстоўваўся па накіраванні паалейцыяніцкіх атрадаў для каланізацыі Палесціны У снеж 1922 ЯКП заявіла пра адмову ад сіяніцкай ідэалогіі Невял частка яе членаў уступіла ў РКП(б), іншыя зліліся з ЯСДРП, якая ў 1923 змяніла назву на Яўр камуніст рабочую партыю (ЯКРП) і фактычна працягвала сіяніцкую прапаганду У 1928 ЯКРП у СССР ліквідавана У 1920—30-я г паалейцыяніцкія партыі дзейнічалі ў Польшчы, у т л Зах Беларусі Ідэалогія П Ц садзейнічала фарміраванню сацыял-сіяніцкіх партый, якія ў наш час дзейнічаюць у Ізраілі

*Літ* Программа Еврейской социал-демократической рабочей партии («Поалей Цион») М , Бг , А г у р с к и й С Х Еврейский




**Літара «П»** 1 — устаў 11 ст , 2 — паўустаў 15 ст , 3 — паўустаў 16 ст ; 4 — паўустаў 17 ст , 5 — скорапіс 15 ст , 6 — скорапіс 16 ст , 7 — скорапіс 17 ст , 8 — шрыфт Ф Скарыны 16 ст , 9 — шрыфт Статута ВКЛ 1588, 10 — друкаваная 17 ст , 11 — грамадзянская 18 ст

крыць 7 новых гімназій і 12 трохкласных вучылішчаў (пры некаторых існаваў 4-ы падрыхтоўчы клас) Пасля падаўлення паўстання 1863 праводзілася мэтанакіраваная палітыка ўлад па уніфікацыі праграм навуч устаноў у зах губ з уласнарасійскімі (у 1864 прыняты новы школьны статут) У 1865 трохкласныя П в на бел землях былі рэарганізаваны ў 2-класныя У 1884 у Беларусі дзейнічала 21 П в, у іх выкладаліся закон божы каталіцкага і правасл веравызнання, геаграфія, матэматыка, рус мова, гісторыя, чыстапісанне, чарчэнне і маляванне Дрэннае фінансаванне школ з казны прыводзіла да пастаяннага недахопу выкладчыкаў (часта па гэтай прычыне не было занняткаў па большасці прадметаў) і малой колькасці вучняў У 1890—1909 П в пераўтвораны ў 4-класныя гар вучылішчы

Духоўныя павятовыя вучылішчы ствараліся ў Рас імперыі з пач 19 ст ў адпаведнасці з планам рэарганізацыі правасл духоўнай адукацыі Паводле статута ад 26 6 1808 меркавалася адкрыць шырокую сетку 4-класных П в (на кожную епархію 10 школ) Падзяляліся на 3 разрады вышэйшыя, сярэднія і ніжэйшыя (адрозніваліся памерамі фінансавання), падпарадкоўваліся Камісіі па справах духоўных вучылішчаў пры св Сінодзе Выкладаліся рас і слав граматыка, арыфметыка, царк спевы, асновы грэч мовы і латыні, гісторыя, геаграфія, катэхізіс, царк статут, суседняя мова (на Беларусі — польская) Рыхтавалі святароў і жадаючых паступіць у семінарыі 3-за недахопу сродкаў планы Сінода выкананы не поўнасцю *Магілеўская духоўная семінарыя* з дапамогай архіепіскапа магілеўскага і віцебскага Варлаама у 1810—11 заснавала толькі 4 П в — у Магілеве (пры семінарыі), Віцебску, Оршы і Гомелі, а семінарыя ў Слуцку (гл *Мінская духоўная семінарыя*) адкрыла толькі 1 — пры семінарыі, бо не было жадаючых вучыцца З сярэдзіны 1820-х г распрацоўваліся праекты стварэння духоўных П в для уніятаў Для ажыццяўлення гэтага плана канфіскавана большасць публічных школ базыльянскага ордэна У 1830 такі ж лес напаткаў вучылішчы ў Брэсце (пераведзена ў Кобрын) і Талачыне, у 1831 — у Барунах Ашмянскага пав, у 1834 — Беразвеччы Дзісенскага пав і Лядах Ігуменскага пав Пасля ліквідацыі ў 1839 уніяцкай царквы гэтыя навуч установы зачынены ці пераўтвораны ў праваслаўныя З сярэдзіны 19 ст пачалі адкрывацца жаночыя правасл П в (Вільня, Полацк, Мінск) З 1860-х г правасл П в атрымалі назву духоўных вучылішчаў, хоць іх праграма засталася без змен У пач 20 ст на Беларусі дзейнічалі 9 мужчынскіх і 3 жаночыя духоўныя школы Скасаваны ў 1917

*Літ* Воронов А Историко-статистическое обозрение учебных заведений Санкт Петербургского учебного округа с 1829 по 1853 включительно СПб, 1854, Лебедев Н А Исторический взгляд на учреждение училищ, школ, учебных заведений и учебных обществ, послуживших к образованию русского народа с 1025 по 1855 год СПб, 1874, Памятная книжка Виленского учебного округа на 1915 г Вильна, 1915, Погодин А Виленский учебный округ, 1803—1831 СПб, 1901, Сборник сведений о средних учебных заведениях Виленского учебного округа Вильна, 1873, Щеглов И К столетию Витебского духовного училища Витебск, 1911, Пастухова З А Среднее образование в дореволюционной Белоруссии Мн, 1963, Beauvois D Szkolnictwo polskie na ziemiach Litewsko-Ruskich, 1803—1832 T 2 Rzym, Lublin, 1991 *Андрэй Самусік*

**ПАВЯТО́ВЫЯ ПА СЯЛЯ́НСКІХ СПРА́ВАХ УСТАНО́ВЫ** (Уездные по крестьянским делам присутствия), мясцовыя кіруючыя органы па рэалізацыі *сялянскай рэформы 1861* у Рас імперыі Утвораны пасля ліквідацыі пасады *міравога пасрэдніка* там, дзе дзейнічалі земскія і міравыя судовыя ўстановы, у 1874, у Віцебскай, Мінскай і Магілеўскай губ у 1878 Разглядалі зямельныя спрэчкі паміж сялянамі і памешчыкамі, прымалі скаргі на органы валаснога і сельскага сял кіравання, распрацоўвалі і зацвярджалі інструкцыі па кіраўніцтве імі, зацвярджалі валасных старшынь Падпарадкоўваліся *губернскім па сялянскіх справах установам*, узначальваліся павятовым маршалкам, у склад іх уваходзілі спраўнік, старшыня пав земскай управы і т зв «неадменны член» з мясц дваран, які прызначаўся міністрам унутр спраў Гэтыя ўстановы былі яшчэ больш цесна звязаны з памешчыкамі, чым міравыя пасрэднікі, а іх паўнамоцтвы — яшчэ бліжэй да правоў будучага *земскага ўчастковага начальніка* Скасаваны з увядзеннем інстытута земскіх участковых начальнікаў (1889)

*Літ* Катаев М М Местные крестьянские учреждения 1861, 1874 и 1889 гг Ч 2 СПб, 1911, Дружинин Н М Русская деревня на переломе 1861—1880 гг М, 1978 Ерошкин Н П История государственных учреждений дореволюционной России 3 изд М, 1983 *Вячаслаў Панюціч*

**ПАГАДНЕ́ННЕ 1408** Заключана паміж вял кн ВКЛ Вітаўтам і вял кн маскоўскім Васілем I 14 9 1408, завяршыла вайну 1406—08 Ваенныя дзеянні былі выкліканы бояззю Масквы далейшага ўзмацнення ВКЛ пасля канчатковага падпарадкавання Вітаўтам у 1404 Смаленскага княства У лют 1406 Вітаўт напаў на Пскоў, што выклікала беспаспяховы паход Васіля I на Вязьму і Сярпейск У адказ Вітаўт зрабіў рэйд углыб маск тэрыторыі, ваяваў у ваколіцах Мажайска, захапіў Варатынск і Казельск, дзе пасадзіў намеснікаў У вер 1406 маск войска з дапамогай татар і вял кн цвярскога Івана Міхайлавіча рушыла да межаў ВКЛ і выйшла да войска Вітаўта на р Ака каля р Плава Не пачынаючы бітвы, бакі заключылі перамір'е да 15 5 1407 Ужо 20 5 1407 Вітаўт спаліў Адоеў, ваяваў на тэр Навасільскага княства, у маск землях Васіль I у жн 1407 рушыў з войскам на ўладанні Вітаўта, спаліў г Дзмітравец і падышоў пад Вязьму, дзе зноў без бою заключана перамір'е да 29 6 1408 Увосень 1408 праціўнікі сышліся ў вусці р Угры і пасля некалькіх дзен стаяння «взяша мир вечный» У летапісах адзначана, што мір быў заключаны «по давному», г зн захавалася старая мяжа па між Маскоўскім вял княствам і смаленскімі землямі ВКЛ (у т л па р Угра), аднак у час вайны Вітаўт здолеў замацавацца на землях Верхняй Акі, падпарадкаваць сабе Мцэнск, Любуцк, Карачаў, Бялеў і інш

*Літ* Полное собрание русских летописей М, 1965 Т 11 С 207, СПб, 1863 Т 15 С 482, М, Л, 1949 Т 25 С 234—236, Клюг Э Княжество Тверское (1247—1485 гг) Пер с нем Тверь, 1994 С 261—266 *Валерый Пазднякоў*

**ПАГАРЭ́ЛЬШЧЫЦКІ СКАРБ** Знойдзены на левым беразе р Бярэзіна каля в Пагарэльшчына Валожынскага р-на ў 1955 Ухаваны ў 910-я г Складаецца з рэчавай часткі бронзавы корпус з накладным верхнім медным абадком і жал вушкамі для падвешвання, палавінны фрагмент сярэбранай *грыўні шыйнай* (звітая з 3 дроцікаў з конусападобнымі канцамі), сярэбраны фрагмент і загатоўка для бранзалета з 2 скаваных палос (чатырохгранныя ў сячэнні, скручаныя ў 2,2 вітка) і манетнай часткі — 1904 цэлых і фрагментаваных куфіцкіх дырхемаў Арабскага халіфата Захоўваецца ў Нумізматычным кабінеце БДУ (Мінск)

**ПАГІРЭ́ЙЧЫК** Васіль Паўлавіч (1900, в Козырава Мінскага пав, цяпер у межах Мінска — 7 5 1920), удзельнік партыз руху на Беларусі ў грамадз вайну З 1918 у Чырв Арміі Удзельнік баёў супраць Калчака, знаходзячыся ў падп арг-цыі, якая вяла барацьбу супраць забайкальскага атамана Сяменава У час акупацыі Беларусі польскімі войскамі ў Мінскай раённай паўстанцкай арг-цыі — пам камандзіра партыз падрыўнога атрада (гл *Козыраўскія партызаны*) 27 4 1920 арыштаваны і з 7 партызанамі расстраляны ў Камароўскім лесе

*Літ* Памятник борцам, погибшим за освобождение Белоруссии Мн, 1925 С 89—90, 132—133

**ПАГО́ДЗІН** Міхаіл Пятровіч [11(23) 11 1800, Масква — 8(20) 12 1875], рускі гісторык, публіцыст, пісьменнік Акад Пецярбургскай АН (1841) Скончыў Маскоўскі ун-т (1821), у 1826—44 праф гэтага ун-та Выдаваў час «Московский вестник» (1827—30) і «Москвитянин» (1841—56), даследаваў стараж -рус і слав гісторыю, быў гісторыкам афіц кірунку, прапаведаваў «праваслаўе, самадзяржаўе, народнасць» Прыхільнік бел гісторыка і археолага З Я Даленгі-Ходакоўскага, высока цаніў яго працы, часткова апублікаваў зробленыя ім атлас стараж гарадзішчаў Беларусі Сабраў вял б-ку рукапісаў і старадрукаў, сярод якіх былі

выданні Ф Скарыны У л-ры выступаў як ліберальна-дваранскі пісьменнік. У 1820—30-я г напісаў некалькі празаічных і драматычных твораў У публіцыстыцы таксама быў прыхільнікам тэорыі «афіц народнасці», у гіст працах — паслядоўнікам нарманскай тэорыі і панславізму

*Тв* Исследования, замечания и лекции о русской истории Т 1—7 М, 1846—57, Древняя русская история до монгольского ига Т 1—3 М, 1871, Исторические афоризмы М, 1936

**ПАГО́НЯ**, ваенная павіннасць у ВКЛ Згадваецца ў прывілеі караля польскага і вял князя літ Ягайлы 20 2 1387 баярству ВКЛ «У тым выпадку, калі прыйдзецца пераследаваць ворагаў, непрыяцеляў нашых, якія б збягалі з нашай літоўскай зямлі, то дзеля гэтага роду пераследавання, якое па-народнаму завецца пагоняй, абавязаны адпраўляцца не толькі рыцары, але і кожны мужчына, якога б ен ні быў паходжання або стану, толькі б ен быў здольны насіць зброю» У лацінскім тэксце акта слова «пагоня» прыведзена ў форме «pogonia», што сведчыць пра існаванне гэтай павіннасці на слав землях ВКЛ

**«ПАГО́НЯ»**, герб, выява конніка з занесеным над галавой мячом На ўзнікненне «П» і замацаванне яе на стараж землях Беларусі паўплывала спалучэнне шэрагу фактараў атаясамліванне яе з выявай абаронца Бацькаўшчыны; уплыў грэка-візантыйскіх хрысціянскіх традыцый, культаў св. Дзмітрыя — заступніка ўсяго славянства, св Георгія — заступніка рыцарства, а ва ўсх славян — і земляробства, адаптацыя іх вобразаў на мясц глебе і фарміраванне пад іх уплывам іканаграфіі ўласных пакутнікаў, спалучэнне ў адзін вобраз язычніцкага бажаства Ярылы і св Барыса, пэўны ўплыў праз польскую і крыжацкую геральдыку зах.-еўрап традыцый адлюстравання коннай постаці рыцара на пячатках феад іерархаў Фарміраванне «П» адбывалася на працягу 13—16 ст Летапісцы 16—17 ст пакінулі некалькі версій паходжання «П» У «Хроніцы Літоўскай і Жамойцкай» паведамляецца, што «Наримонт, яко старший будучи, в Великом князстве Литовском пановал . Той Наримонт мел герб, або клейнот, рицерства своего таковый, и тым печатовался, Великому князству Литовскому зоставил его, а то такий в гербе муж збройный, на коню белом, в полю червоном, меч голый, яко бы кого гонячи держал над головою, и есть оттоля названый «Погоня» Густынскі летапіс звязвае ўзнікненне «П» з вял князем Віценем «В лето 6786 (1278) Витен нача княжети над Литвою, измысли себе герб и всему княству Литовскому печать рыцер збройны на коне з мечем, еже ныне наричут Погоня» Іншыя летапісы паведамляюць, што герб «П» быў прыняты па ініцыятыве Ры-

Да арт **«Пагоня»** **Гербы ваяводстваў ВКЛ і суседніх зямель у 16—18 ст**

манта-Васіля, сына, па адных звестках, Грайдзеня, па іншых — Прайдзена (апошні названы бацькам Віценя) Васіль параіў Віценю перамяніць герб па прыкладу Нарымонта, які пакінуў свой ранейшы герб братам, а сабе «уделал герб — человека на кони с мечом, а то знаменуючи через тот герб пана дорослого, хто бы мог боронити мечом отчины своее» Усе летапісы з некаторымі зрухамі храналогіі датуюць узнікненне «П» 1270—90-і г З гэтага часу «П» замацавалася ў якасці рэпрэзентатыўнага сімвала за асобамі, якія ажыццяўлялі вярх уладу ў ВКЛ

Выява конніка на пячатках была даволі пашырана на землях Паўн -Усх Еўропы Вядома 5 пячатак кн Аляксандра Неўскага (1220—63) з выявай конніка, узброенага мячом Мяркуецца, што на 3 пячатках гэта выява самога князя, на 2 змешчаны яго заступнік св Аляксандр Конныя постаці ёсць на пячатках яго сыноў Дзмітрыя (выява св Дзмітрыя) і Андрэя (сакольнік) Перыяд існавання гэтых пячатак амаль цалкам супадае з часам абрання герба «П» паводле бел -літ летапісаў Гэта ўскосна пацвярджае існаванне ў 13 ст сімвала «П» на бел землях Пячатка Міндоўга з выявай «П» не можа брацца ў разлік, бо гэта фальсіфікацыя канца 19 ст Коннік ёсць на пячатцы полацкага кн Глеба (Нарымонта) на дагаворы 1330 з Рыгай, ён блізкі па іканаграфіі да св Дзмітрыя, св Юрыя або св Глеба З 1370-х і «П» прысутнічае на пячатках уладароў ВКЛ

Статут ВКЛ 1566 юрыдычна замацаваў выкарыстанне герба «П» за этнаграфічнымі бел землямі У адпаведным яго артыкуле сцвярджалася «Теж мы Господарь даем под гербом того паньства нашого Великого князства Литовского, Погонею, печать до каждого повету» Гербоўнікі 16—18 ст вылучалі 5 разнавіднасцей герба «П» У класічным варыянце гэта ў чырв полі ўзброены рыцар на белым кані Правай рукой ён трымае ўзняты над галавой аголены меч, на левым плячы шчыт з падвойным залатым крыжам Конь пакрыты 3-канцовай гунькай Афарбоўка збруі і шчыта рыцара на найб стараж малюнках блакітная У 2-м варыянце герба такі ж коннік, але ў руцэ ён трымае кап'е Не выключана, што ў гербоўніках маецца на ўвазе іканаграфічнае ўвасабленне св Глеба, маскоўскі герб (воін забівае

**Да арт «Пагоня» (1—13) 1 — пячатка кн Сямёна Альгердавіча (1388—89), 2 — «Пагоня» з рукапіснага гербоўніка Э Коміна (1575), 3 — ініцыял «О» з прывілея г Веліжу (1653), 4 — «Пагоня» з гербоўніка Б Папроцкага (1578), 5 — спражка формы войска ВКЛ (1-я пал 18 ст ), 6 — шапка 17-га уланскага палка войска ВКЛ (1812), 7 — харугва Слонімскага пав (1588?, рэстаўрыравана ў 1747), 8 — рынграф (нагрудны знак) афіцэра войска ВКЛ (1-я пал 18 ст ),**

кап'ём змея) або выява конніка, які трымае кап'е наперавес (такі варыянт нідзе, акрамя як на гербе Ліпнішак, пакуль не знойдзены) 3-і варыянт — выява голага ездака на кані без сядла, які над галавой трымае меч; вядома падобная версія 17 ст. маскоўскага герба. У гербоўніках згадваюцца таксама 2 варыянты «Малой Пагоні», калі на шчыце прыведзены не ўвесь герб, а толькі яго гал. дэталь — узброеная рука з аголеным мячом. Яны адрозніваюцца колерам поля (залаты або чырвоны) і клейнотамі (упрыгожаннямі на шлемах: паўтор узброенай рукі з мячом або паясная выява рыцара з узнятым мячом). Акрамя гэтых, згадваецца і «Татарская Пагоня»: у зяленым полі яздок, які страляе з лука ў сваіх праследавацеляў. Класічны варыянт герба «П.» размяшчалі на сцягах і харугвах ВКЛ. Яго выява прысутнічала на павятовых, ваяводскіх і канцылярскіх пячатках ВКЛ, знаходзілася разам з інш. гербамі ў зале пасяджэнняў сейма Рэчы Паспалітай.

Пасля далучэння Беларусі да Рас. імперыі ўрад Кацярыны II надаў герб «П.» шэрагу бел. гарадоў, Бел. гусарскаму палку (1775). «П.» карысталіся таксама Гродзенскі лейб-гвардыі гусарскі полк, Полацкі мушкецёрскі полк і інш. У час паўстанняў 1794, 1830—31, 1863—64 «П.» выкарыстоўвалі інсургенты. «П.» знайшла адлюстраванне і ў губернскіх гербах. Першы герб Гродзенскай губ. (1802) меў выяву «П.» ў верхняй частцы шчыта і зубра ў ніжняй (пры «рэдагаванні» герба ў 1845 пакінуты толькі зубр). Гербы з «П.» атрымалі Віленская і Віцебская губ. У 1845 пачалося наданне павятовых гербаў, якія, з аднаго боку, падкрэслівалі прыналежнасць павета да адпаведнай губерні, што рабілася размяшчэннем у верхняй частцы поля губернскага герба, а з другога — адлюстроўвалі пэўныя асаблівасці паветаў (выявы ў ніжняй частцы поля). Ашмянскі, Вілейскі, Дзісенскі, Лідскі пав. Віленскай губ. атрымалі гербы з «П.» у верхняй частцы. Паколькі гербы іншых бел. губерняў да гэтага часу ўжо былі зменены, то на астатніх павятовых гербах «П.» не было. Але яна засталася на гарадскіх гербах, нададзеных царскім урадам адразу пасля далучэння ўсх. зямель Беларусі да Рас. імперыі. Гіст. гербы гэтых гарадоў пазней заменены новымі з агульнадзярж. сімволікай, пры гэтым у кожным з нованададзеных гербаў шчыт быў падзелены на 2 часткі: у верхняй размешчаны двухгаловы рас. арол, а ў ніжняй — «П.». Герб «П.» прысутнічаў у Вял. дзярж. гербе Рас. імперыі, дзе атаясам-

**9 — ківерны герб Гродзенскага лейб-гвардыі гусарскага палка (1818); 10 — герб мяст. Ліпнішкі (1792); 11 — герб Гродзенскай губ. (1802); 12 — герб князёў Сангушкаў (сярэдзіна 19 ст.); 13 — пячатка мінскай гарадской паліцыі (1812).**

перапісу 1897, тут пражывала 82,4% беларусаў, 12,1 — яўрэяў, 3,4 — рускіх, 1,4 — палякаў. Найб. заселенай і асвоенай пад земляробства была левабярэжная частка П. — Аршанска-Магілеўская і Горацка-Мсціслаўская раўніны. Сістэма рассялення і аблічча весак Правабярэжжа выяўляюць пераходныя рысы ад паўн.-ўсх. да палескай частак Беларусі. Найб. слаба быў заселены водападзел Бярэзіны і Друці, дзе шчыльнасць насельніцтва і зараз ніжэйшая, чым у суседніх раенах. У міжрэччы Друці і Дняпра найб. населенай была паўн. частка ад Друці на З да Магілева і Копысі на У, што рэтраспектыўна пацвярджаецца гіст. картамі (карта М. Радзівіла Сіроткі, 1613). За П. разам з *Падзвіннем* з канца 16 да 2-й пал. 19 ст. замацавалася гіст. назва «Белая Русь», якая потым была пашырана на ўсю тэр. Беларусі. Нар. гаворкі П. вызначаюцца рэгіянальнай дыялектнай структурай, што адлюстроўваецца ў багатай мясц. лексіцы і фанетычным гучанні, яны ўтвараюць усх.-магілеўскую групу з пераходам на Пд да сярэднебел. гаворак. Рэгіянальныя рысы мае і вусна-паэтычная творчасць — абрадавыя дзеянні, песні, карагодныя гульні, прымеркаваныя да разнастайных каляндарных і сямейных свят. У песнях, абрадах, легендах, паданнях захавалася шмат язычніцкіх матываў, міфалагічных вобразаў і сюжэтаў (гуканне вясны, упрыгожванне зелянінай жылля на Сёмуху, гулянні моладзі ў Купальскую ноч, пахаванне стралы, варажба, тлумачэнне сноў і інш.). *Віктар Цітоў*

**ПАДНЯПРОЎСКІЯ І ПАДЗВІНСКІЯ ГАСПАДАРСКІЯ ВО́ЛАСЦІ**, адм.-тэр., падатковыя і гасп. адзінкі, зямельныя ўладанні вял. князя ВКЛ. Размяшчаліся на У Беларусі па цячэнні Дняпра і Зах. Дзвіны і іх прытокаў. Складаліся з Бабруйскай, Барысаўскай, Бярэзінскай, Брагінскай, Бчыцкай (Пціцкай), Гомельскай, Горвальскай, Крычаўскай, Любашанскай, Магілеўскай, Мазырскай, Прапойскай (Прапошаскай), Рэчыцкай, Свіслацкай, Чачэрскай і інш. валасцей. Утваралі тэрытарыяльны кангламерат «рускіх валасцей» ВКЛ. Арганізацыя жыцця ў іх вызначалася «*старынай*», а з 16 ст. фіксавалася ў велікакняжацкіх граматах гаспадарскім валасцям (гл. *Граматы валасныя*). Яны вылучаліся пэўнай своеасаблівасцю ў параўнанні з інш. рэгіёнамі і відамі феад. уладанняў Беларусі. Асн. павіннасцю залежнага насельніцтва была *даніна*, таму насельніцтва называлася *даннікамі*. У канцы 15—16 ст. аснову выплат складала даніна «грошовая и бобры и куницы и мед пресный», жытам, аўсом, сенам і інш., якая нярэдка спалучалася з пэўнымі нерэгулярнымі работамі (падводы, рамонт гаспадарскіх замкаў). Другой своеасаблівасцю гэтых валасцей было захаванне абшчынных традыцый. Даніна тут звычайна раскладалася пароўну сярод насельніцтва, потым збіралася агулам з валасці і адвозілася ў спец. прызначаныя месцы. Нярэдка ў валасцях захоўвалася і абшчыннае землекарыстанне. Насельніцтва называлася мужамі, кіраўнікі грамад — старцамі. Нават у 16 ст. вял. князь у сваіх граматах да насельніцтва гэтых валасцей абавязкова падкрэсліваў, што адрасаваныя яны «старцом и всим мужом Поднепровским». Пасля агр. рэформы 2-й пал. 16 — 1-й пал. 17 ст. (гл. *Валочная памера*) асн. відам зямельнага надзелу і адзінкай абкладання павіннасцямі была ўведзена блізкая да валокі *служба*, вядучай формай феад. рэнты стала грашовая рэнта — *чынш* у спалучэнні з данінай (у адрозненне ад *паншчыны* ў фальварках зах. і цэнтр. Беларусі).

*Літ.*: Любавский М. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. М., 1892; Довнар-Запольский М.В. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Т. 1. Киев, 1901; Голубеў В.Ф. Сялянскае землеўладанне і землекарыстанне на Беларусі XVI—XVIII стст. Мн., 1992; Спиридонов М.Ф. Закрепощение крестьянства Беларуси (XV—XVI вв.). Мн., 1993. *Валянцін Голубеў*

С.А. Падокшын

М.Г. Падсаднік

**ПАДО́КШЫН** Сямен Аляксандравіч (н. 8.3.1931, г. Гомель), бел. філосаф і гісторык-медыявіст. Д-р філас. н. (1987). Скончыў Мінскі пед. ін-т (1953). З 1960 у Ін-це філасофіі і права Нац. АН Беларусі. Даследуе рэфармацыйна-гуманіст. рух і рэліг.-царк. жыццё Беларусі 14—17 ст., гісторыю філас. і грамадска-паліт. думкі эпохі Адраджэння і Рэфармацыі, праблемы культуры, філасофіі гісторыі, нац. самасвядомасці бел. народа. Вызначыў спецыфічныя рысы айч. Адраджэння і гуманізму, стварыў цэласную гісторыю станаўлення і развіцця рэнесансава-гуманістычнай думкі Беларусі. Адзін з аўтараў «Гісторыі Беларускай ССР» (т. 1, 1972), прац «Францыск Скарына і яго час» (1988), «Статут Вялікага княства Літоўскага 1588. Тэксты, даведнік, каментарыі» (1989), «Скарына і яго эпоха» (1990), «Мысліцелі і асветнікі Беларусі. X—XIX стст.» (1995). Дзярж. прэмія Беларусі (1984) за цыкл работ па гісторыі філасофскай і грамадска-паліт. думкі Беларусі.

*Тв.*: Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы (вторая половина XVI — начало XVIII в.). Мн., 1970; Скорина и Будный. Очерк филос. взглядов. Мн., 1974; Франциск Скорина. М., 1981; Філасофская думка эпохі Адраджэння ў Беларусі: Ад Францыска Скарыны да Сімяона Полацкага. Мн., 1990; Памятники философской мысли Белоруссии XVII — первой половины XVIII ст. Мн., 1991 (у сааўт.); Канцэпцыя гісторыі Вялікага княства Літоўскага ў даследаваннях Мацея Любаўскага (XIII першая — пал. XVI ст.) // Весці АН Беларусі. Сер. гуманіт. навук. 1996. № 4; Унія: Дзяржаўнасць. Культура (Філас.-гіст. аналіз). Мн., 1998.

**ПАДПІ́САК**, памочнік *пісара*, за дзейнасць якога апошні нёс поўную адказнасць. Рыхтаваў дакументы, перапісваў іх у кнігі, афармляў чыставікі. У дзярж. канцылярыі ВКЛ называўся дзякам. Статуты ВКЛ 1566 і 1588 дазвалялі мець земскім і гродскім пісарам 1—2 ці больш П. *Алесь Груша*

**ПАДПО́ЛЬНАЯ ШКО́ЛА КПЗБ** у Мінску, гл. *Мінская школа КПЗБ*.

**ПАДРО́СЬ**, каменны могільнік 11—12 ст. каля в. Падрось Ваўкавыскага р-на. Складаецца з курганоў і грунтавых магіл, шчыльна абкладзеных вял. камянямі. Пры даследаванні паміж каменнымі вымасткамі знойдзены фрагменты ганчарнага посуду, аздобленага хвалістым або лінейным арнаментам. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Інвентар жан. нажы, калачападобныя крэсівы, бронзавыя пярсцёнкі, шкляныя пацеркі і інш. На думку некат. даследчыкаў, могільнік пакінуты мазавецка-дрыгавіцкім насельніцтвам.

**ПАДСА́ДНІК** Мікалай Георгіевіч (1.1.1922, в. Вутлы Лепельскага пав., цяпер Полацкага р-на — 24.11.1975), Герой Сав. Саюза (1945). Скончыў Арэнбургскую школу пілотаў (1942), Маскоўскую вышэйшую школу прафруху ВЦСПС (1959). У Вял. Айч. вайну з 1943 на Варонежскім, 1, 2 і 3-м Укр. франтах. Удзельнік вызвалення Украі-

ны, Малдовы, Румыніі, Югаславіі, Венгрыі Камандзір звяна летчык-штурмавік лейт П зрабіў 106 баявых вылетаў на разведку, штурмоўку і бамбардзіроўку жывой сілы і тэхнікі ворага Пасля вайны на парт, прафс і адм рабоце

**ПАДСВІЛЛЕ**, гарадскі паселак у Глыбоцкім р-не Віцебскай вобл, на берагах азер Алаізберг і Белае Чыг ст на лініі Маладзечна—Полацк За 26 км на У ад Глыбокага, 194 км ад Віцебска 3000 ж (1998) Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) веска Пліскай вол Дзісенскага пав Мінскай, з 1842 Віленскай губ У 1913 у П 9 двароў і фальварак Алаізберг з 3 дварамі З пабудовай чыг Маладзечна—Полацк у пач 20 ст веска значна вырасла У 1921—39 у складзе Польшчы, у Дзісенскім пав Віленскага ваяводства Тут пабудаваны гасп пабудовы і канюшні для пагранічнага гарнізона польскіх войск З 1939 у БССР у Пліскім р-не Вілейскай вобл З чэрв 1941 да 2 7 1944 акупіравана ням фашыстамі З 20 9 1944 у Полацкай, з 8 1 1954 у Маладзечанскай вобл З 8 6 1950 цэнтр Пліскага р-на, з 28 6 1958 гар паселак, з 25 12 1962 у Глыбоцкім р-не Прадпрыемствы ільнозавод, з-д харч прадуктаў, Дзвінская эксперым база Ін-та лесу Нац АН Беларусі, ПМК № 48 Мінсельбуда, вытв участак Глыбоцкага камбікормавага з-да Сярэдняя школа, дзіцячы сад, 2 б-кі, бальніца Брацкая магіла сав воінаў і партызан, якія загінулі пры вызваленні П ад ням-фаш захопнікаў

*Язэп Бунто*

**ПАДСКАРБІ**, службовая асоба ў ВКЛ у 15—18 ст 1) П з е м с к і (у 17—18 ст П в я л і к і л і т о ў с к і) Першапачаткова захоўваў скарб ВКЛ, выконваў фін, гасп, а таксама судовыя і дыпламат даручэнні вял князя і *Рады ВКЛ* З 1520 адначасова і *пісар* (у 1509 — толькі часова) Уваходзіў у склад Рады ВКЛ У 1530—36 П земскі І Гарнастай атрымаў права судзіць арандатараў дзярж маенткаў у адсутнасць вял князя і выдаваць квіты на граш і рэчавыя жалаванні Аднак гэтыя паўнамоцтвы не мелі службовага характару З 2-й пал 16 ст П земскі набыў самаст распарадча-выканаўчыя функцыі, вёў улік крыніц дзярж даходаў, збіраў і распараджаўся дзярж даходамі, адказваў за чаканку манеты, прызначаў мытнікаў і зборшчыкаў розных плацяжоў і падаткаў, праводзіў рэвізіі З 1569 з'яўляўся членам Сената Рэчы Паспалітай Буйнымі дзярж дзеячамі былі П земскія Б Багавіцінавіч, А *Валовіч* і інш 2) П д в о р н ы (у 17—18 ст П н а д в о р н ы л і т о ў с к і) Спачатку намеснік П земскага З вылучэннем сталовых маенткаў у 1588 іх фінансавы і эканам кіраўнік Найб вядомы П дворны А *Тызенгаўз*, які шляхам рэформ павялічыў даходнасць сталовых эканомій у 2—3 разы 3) П т р о к с к і (с к а р б о в ы) У 16 ст памочнік П земскага, хавальнік аддзялення скарбу, якое знаходзілася ў г Трокі Свае П былі таксама ў прыватных асоб ВКЛ, напрыклад у віленскага кашталяна, гетмана ВКЛ К І Астрожскага, віленскага ваяводы, канцлера ВКЛ М М Радзівіла і інш

*Літ* Л ю б а в с к и й М К Литовско-русский сейм М, 1900, Л а п п о И И Великое княжество Литовское за время от заключения Люблинской унии до смерти Стефана Батория (1569—1586) Т 1 СПб, 1901, Urzędnicy centralni i dostojnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV—XVIII wieku Kornik, 1994

*Алесь Груша*

**ПАДСОЛТАВА**, веска, цэнтр сельсавета ў Мсціслаўскім р-не, на р Белая Натапа За 20 км на ПнЗ ад Мсціслава, 115 км ад Магілева, 35 км ад чыг ст Ходасы на лініі Орша—Сураж 326 ж, 116 двароў (1998)

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст У 1781 сяло Поцалтава ў Мсціслаўскім пав, меліся млын і карчма У 1897 сяло Поцалтава ў Старасельскай вол Мсціслаўскага пав Магілеўскай губ, 13 жыхароў, 4 двары, драўляная царква, царк-прыходская школа, 2 разы на год праводзіліся таржкі Побач быў фальварак, 8 жыхароў, 1 двор, вятрак, кузня, карчма У 1909 — 104 ж, 20 двароў, казенная вінная крама, млын, кузня З 20 8 1924 цэнтр сельсавета Мсціслаўскага р-на Калінінскай, у 1927—30 Аршанскай акруг З 1938 у Магілеўскай вобл У 1990 — 311 ж, 112 двароў Сярэдняя школа, б-ка, Дом культуры, фельчарска-акушэрскі пункт, аддз сувязі Брацкая магіла сав воінаў, помнік землякам, якія загінулі ў Вял Айч вайну

*Марат Батвіннік*

**ПАДСТАРОСТА**, намеснік старосты, які ім прызначаўся асабіста Часта спалучаў сваю пасаду з пасадай гараднічага ці *стольніка* Фактычны кіраўнік *замкавага суда* У час *паспалітага рушэння* павінен быў заставацца ў замку (як і *войскі*), яму падпарадкоўваліся ўсе жыхары замка У гэты час П належала таксама ўся судовая ўлада ў горадзе

*Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта*

**ПАДСТОЛІ**, пасада ў ВКЛ Вядома з сярэдзіны 15 ст Намеснік *стольніка*, дапамагаў яму серваваць велікакняжацкі стол З часам яго функцыі станавяцца намінальнымі З сярэдзіны 17 ст вядомы павятовыя П

*Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта*

**ПАДСУДАК**, намеснік, потым памочнік суддзі земскага Пасада ўведзена ў час адм-тэр рэформы 1565—66 Выбіраўся шляхтаю Разам з *пісарам* уваходзіў у склад суда Рыхтаваў справы да суда

*Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта*

**ПАДСУСЕДЗІ**, п а д с у с е д н і к і, п а д с у с е д к і, беззямельныя сяляне ў ВКЛ у 16 — 1-й пал 17 ст Жылі ў весках і гарадах на чужых дварах (адсюль і назва) Гл ў арт *Каморнікі*

**ПАДУШНЫ ПАДАТАК**, асноўны прамы падатак у Рас імперыі ў 18—19 ст Уведзены ў 1724 Пятром І Абкладалася ўсе мужчынскае насельніцтва падатковых саслоўяў паводле перапісаў, якія праводзіліся перыядычна (гл *Рэвізіі*) На Беларусі замена падворнага абкладання (гл *Падымнае*) П п адбылася ў канцы 18 ст Яго памер складаў каля 1 рубля серабром З-за слабай плацежаздольнасці насельніцтва і каб паступова прызвычаіць да рас падатковай сістэмы насельніцтву на некат час даваліся льготы У снежні 1772 жыхары ўсх часткі Беларусі былі вызвалены ад П п на паўгода, у красавіку 1793 у цэнтр Беларусі — на 2 гады З 1797 на працягу 10 гадоў ва ўсіх бел губернях афіцыйна дзярж падаткі браліся ў меншым памеры, але да 1811 яны збіраліся тут не асігнацыямі, як гэта было ў рус губернях, а серабром, рэальны курс якога быў намнога вышэйшы П п быў цяжкім і яго спагнанне адбывалася з нарастаючымі недаплатамі Напрыклад, казенныя сяляне спачатку адносна паспяхова спраўляліся з выплатай П п Па Мінскай губ нядоімка, што сабралася да 1812, складала менш за $^{1}/_{10}$ ад сумы няўнесеных падаткаў гэтага года Да 1839 нядоімкі ў выплаце падаткаў і земскіх збораў у дзярж весках Віцебскай, Магілеўскай, Мінскай, Віленскай і Гродзенскай губ складалі ў сярэднім 1,8, 1,2, 0,3, 0,8 і 0,2 акладу на душу Вял нядоімка па П п і адмовы насельніцтва плаціць вымусілі з 1887 адмяніць яго ў еўрап частцы імперыі (з мяшчан і цэхавых — з 1863)

*Літ* Р у к о в с к и й И Д Историко-статистические сведения о подушных податях // Тр Комиссии для пересмотра системы податей и сборов СПб, 1866 Т 1, Н е у п о к о е в В И Государственные повинности крестьян Европейской России в конце XVIII — начале XIX в М, 1987

*Уладзімір Сосна*

**ПАДЧАШЫ**, пасада ў ВКЛ Першапачаткова аб'ядноўваў функцыі П і *чашніка* У 15 і 16 ст часам тытулаваўся чашнікам Павінен быў падаваць вял князю ВКЛ напоі, папярэдне пакаштаваўшы іх сам Пасада лічылася вельмі ганаровай, яе займалі толькі прадстаўнікі магнацкіх родаў Першы вядомы П ВКЛ — Алехна Мантыгердавіч (1410) З канца 16 ст вядомы павятовыя П

*Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта*

**ПАДЫМНАЕ**, асноўны дзярж пазямельны падатак у Рэчы Паспалітай, у т л на Беларусі, у 17—18 ст Уведзена ў 1649 Адзінка абкладання — *двор* ці *дым*, стаўка 1 П складала 0,5 злотага (15 грошаў за год) Памер падатку не залежаў ад заможнасці гаспадаркі і вызначаўся сеймам у 1650 — 16 П, у 1653 — 12 П з дыма Плацілі сяляне, мяшчане і дробная шляхта Феадалы ад П вызваляліся (да 1775) і збіралі яго з насельніцтва ў сваіх уладаннях Для налічэння П перыядычна праводзіліся перапісы дымоў, пры гэтым феадалы нярэдка ўтойвалі частку дымоў, а падатак з іх прысвойвалі Пасля далучэння Беларусі да Расіі заменена інш падаткамі

*Павел Казлоўскі*

раўніцтвам В Гасеўскага 22 10 1656 у час бітвы са шведамі пад Філіпавам трапіў у палон, зняволены ў Мальбаркскай крэпасці Выйшаў на волю паміж 1658 і 1660 На вайсковую службу больш не пайшоў Ахвяраваў уласныя сродкі на ўзбраенне войск ВКЛ
*Андрэй Шпунт*

**ПАКРО́ВЫ**, старажытнае земляробчае свята славян, якое адзначалася 1 кастр с ст як свята заканчэння палявых работ Вытокі П — у глыбокай старажытнасці, лічыліся пераломным момантам у жыцці прыроды Да гэтага часу звычайна завяршаліся ўсе работы на полі і ў садзе, уцяпляліся жылле і гасп пабудовы, пачынаўся новы цыкл работ — нарыхтоўка паліва, перавод жывелы на стойлавае ўтрыманне («Прыйшлі па кровы, ці да зімы гатовы») Пасля П пачыналася пара вяселляў («Пакровы пакрываюць траву лістам, зямлю снегам, ваду ледам, а дзяўчат шлюбным чэпкам») Вечарам перад П дзяўчаты варажылі пра замужжа стаялі з блінам на скрыжаваннях і слухалі, у якім баку брэша сабака (туды, маўляў, пойдуць замуж), елі на ноч саленую аладку (спадзяваліся, што суджаны паднясе вады) і інш З П пачыналіся попрадкі (вячоркі, супрадкі), якія працягваліся да Вялікадня
*Аляксандр Цітавец*

**ПАКРО́ЎСКІ** Георгій Федаравіч [н 2(15) 1 1915, г Сімферопаль, Украіна], адзін з кіраўнікоў партыз руху ў Мінскай вобл ў Вял Айч вайну, Герой Сав Саюза (1944) Скончыў Ваен акадэмію імя Фрунзе (1948) і Генштаба (1955) У Чырв Арміі з 1936 У Вял Айч вайну з 1941 нач штаба стралк палка, з ліст 1942 камандзір партыз брыгады ў Арлоўскай, злучэння ў Кіеўскай вобл, у Цэнтр штабе партыз руху, у лютым—ліп 1944 камандзір партыз брыгады «Народныя мсціўцы» імя Воранянскага (дзейнічала на тэр Лагойскага і Плешчаніцкага р-наў) У 1948—64 у Сав Арміі, Ваен акадэміі Генштаба, групе сав войск у Германіі, з 1965 у Мін-ве знешняга гандлю СССР

**ПАКРО́ЎСКІ** Мікалай Пракопавіч [6(19) 5 1909, с Сарагожскае Цвярской вобл, Расія — 4 8 1976], адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партыз руху ў Мінскай вобл ў Вял Айч вайну, Герой Сав Саюза (1944) Скончыў Калінінскую сав парт школу (1931), у 1937—39 вучыўся ў Мінскім пед ін-це З 1932 сакратар Ушацкага райкома камсамола, з 1940 — Рудзенскага РК КП(б)Б У Вял Айч вайну ў жн 1941 у тыле ворага арганізаваў і ўзначаліў партыз атрад «Беларусь», які ў сак 1943 пераатвораны ў партыз брыгаду «Беларусь» У ліп 1941 — чэрв 1943 сакратар Рудзенскага падп РК КП(б)Б, з ліст 1942 чл Мінскага падп абкома ЦК КП(б)Б Пасля вайны 1-ы сакратар Барысаўскага гаркома, Баранавіцкага абкома КП(б)Б, у апараце ЦК КП(б)Б, СМ БССР Чл ЦК КПБ у 1949—52 Дэп ВС БССР у 1947—55

М П Пакроўскі

**ПАКРО́ЎСКІ** Міхаіл Мікалаевіч [17(29) 8 1868, Масква — 10 4 1932], савецкі гісторык, парт і дзярж дзеяч Акад АН СССР (1929) і АН БССР (1928) Скончыў Маск ун-т (1891), вучань В В *Ключэўскага* і П Г Вінаградава Удзельнік рэв 1905—07, чл Маск к-та РСДРП З 1909 у эміграцыі Прыхільнік «легальнага марксізму» У 1910—13 выдаў 5 тамоў «Рускай гісторыі са старажытных часоў», апублікаваў «Нарыс гісторыі рускай культуры» (ч 1—2, 1915—18) У гэтых і інш працах ён шмат зрабіў для станаўлення марксісцкай канцэпцыі рус гісторыі З жн 1917 у Расіі, удзельнік Кастр ўзбр паўстання ў Маскве, старшыня Массавета У пач 1918 удзельнічаў у мірных перагаворах з Германіяй у Брэсце, далучаўся да «левых камуністаў» З мая 1918 нам наркома асветы РСФСР Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў Камуніст акадэміі, Ін-та чырв прафесуры, Ін-та гісторыі АН СССР, Цэнтр архіва, заснавальнікаў і рэдактараў час «Историк-марксист», «Красный архив», «Борьба классов» Пад яго рэд апублікавана серыя дакументаў «Міжнародныя адносіны ў эпоху імперыялізму» (т 1—9, 1931—37), «Паўстанне дзекабрыстаў» (т 1—6, 1925—29) і інш

*Тв* Избр произв Кн 1—4 М, 1965—67, Историческая наука и борьба классов Вып 1—2 М, Л, 1933

*Літ* Чернобаев А.А. «Профессор с пикой», или Три жизни историка М Н Покровского М, 1992, Артизов А Н М Н Покровский финал карьеры — успех или поражение? // Отеч история 1998 № 1—2, Кривошеев Ю В Дворниченко А.Ю Изгнание науки рос историогр в 20-х — начале 30-х гг XX в // Там жа 1994 № 3, Энтин Дж Интеллектуальные предпосылки утверждения сталинизма в советской историографии // Вопр истории 1995 № 5—6

**ПАКРО́ЎСКІ** Федар Васілевіч [1855, в Падольскае Кастрамской вобл — 31 7(13 8) 1903], археолаг Чл-кар Маск археал т-ва (1893) Скончыў Пецярбургскую духоўную акадэмію (1879) З 1879 выкладаў у Мінскім, з 1880 — у Віленскім духоўных вучылішчах У 1884—1902 захавальнік *Віленскага музея старажытнасцей*, склаў апісанне яго фондаў Праводзіў археал даследаванні на тэр Беларусі, паўд-ўсх Літвы і Кастрамской губ Склаў археал карты Гродзенскай, Віленскай і Ковенскай губ Прымаў удзел у падрыхтоўцы і правядзенні 9-га археал з'езда (Вільня, 1893) Узнагароджаны вял сярэбраным медалем Рус археал т-ва Асн творы «Археалагічная карта Віленскай губерні» (1893), «Археалагічная карта Гродзенскай губерні» (1895), «Курганы на мяжы сучаснай Літвы і Беларусі» (1895) «Да даследавання басейна Віліі ў археалагічных адносінах» (1899)

**ПАКРЫ́ШКІН** Петр Пятровіч (1870—1921), расійскі архітэктар, дзеяч у галіне рэстаўрацыі помнікаў сярэдневяковай архітэктуры Акад архітэктуры (1909) Удасканаліў методыку навук абмераў папярэдніх даследаванняў помнікаў мэтай іх аднаўлення Вывучаў і рэстаўрыраваў шматлікія арх помнікі Расіі Даследаваў Полацкі Сафійскі сабор (1909), Супрасльскую царкву-крэпасць і Лідскі замак (1908—10), Гродзенскую Барысаглебскую царкву (у 1904—06 зрабіў яе рэканструкцыю) Аўтар навук прац па архітэктуры

**ПА́КТА КАНВЕ́НТА** (лац Pacta conventa), пагадненне публічна-прававога характару паміж шляхтай Рэчы Паспалітай і новаабраным каралём Фіксавала індывідуальныя абавязкі манарха забяспечыць фінансавую дапамогу дзяржаве, выплаціць даўгі папярэдняга караля, вярнуць у склад дзяржавы страчаныя тэрыторыі, будаваць замкі на межах, развіваць флот і артылерыю, выкупляць з татарскага палону «рускую» шляхту, не прызначаць іншаземцаў на дзярж пасады, захоўваць *вольнасці шляхецкія*, не ўжываць тытул «дзедзіч» (г зн спадчынны манарх), не выкарыстоўваць войска супраць шляхты і інш Упершыню заключана ў 1573 пры абранні на пасад Генрыка Валезы разам з *Генрыкавымі артыкуламі* П к рыхтаваў нанава пры кожным абранні караля элекцыйны сейм, з канца 17 ст — яго спец камісія з некалькіх сенатараў і паслоў ад ваяводстваў У час апошніх элекцый змест П к мала мяняўся Пасля прысягі караля на П к яму ўручаўся дыплом элекцыі — на абранне яго каралем

*Літ* Sobociński W Pakta konwenta Kraków, 1939

**«ПАЛАЖЭ́ННІ» АБ АДМЕ́НЕ ПРЫГО́ННАГА ПРА́ВА 1861**, сукупнасць заканадаўчых актаў аб *сялянскай рэформе 1861* у Рас імперыі, у т.л на Беларусі Складаюцца з 17 дакументаў Ім папярэднічаюць «Маніфест 19 лютага 1861», у якім Аляксандр II абвясціў адмену прыгону, і «Указ правячаму Сенату 19 лютага 1861» пра ажыццяўленне палажэнняў У «Маніфесце» коратка выкладзены асн змест сял рэформы 1861 Адмена прыгону абвешчана добраахвотным ахвяраваннем і дабрадзействам

дваранства Разам з тым адзначана, што памешчыкі не маглі быць пазбаўлены ранейшых правоў «без добрай узнагароды або добраахвотнай уступкі» Найб важным з'яўляецца «Агульнае палажэнне аб сялянах, якія выйшлі з прыгоннай залежнасці», дзе выкладзены асн прынцыпы рэформы, вызначаны грамадскія (асабістыя, сямейныя, маемасныя) правы і абавязкі сялян, парадак надзялення іх зямлёй і адбывання павіннасцей на карысць памешчыка, а таксама казенных, земскіх, грамадскіх і рэкруцкай павіннасцей, асновы адм ладу былой панскай вёскі, парадак кіравання валаснoй і сельскай грамадой з падрабязным пералікам правоў і абавязкаў валасных старшын, сельскіх стараст і інш службовых асоб сял установаў У «Палажэнні аб уладкаванні дваровых людзей, якія выйшлі з прыгоннай залежнасці» сцвярджаецца, што дваровыя атрымалі тыя ж грамадзянскія правы, што і панскія сяляне, але на працягу 2 гадоў пасля рэформы яны застаюцца ў ранейшай феад залежнасці ад памешчыкаў, абавязаны служыць ім або плаціць аброк Пераважная большасць дваровых не мела зямельнага надзелу У 1863 іх вызвалялі без зямлі і ўзнагароды за службу Такія дваровыя маглі атрымаць надзел толькі са згоды памешчыка, што здаралася параўнальна рэдка Правілы выкупу надзельнай зямлі сялянамі вызначаны ў «Палажэнні аб выкупе сялянамі, што выйшлі з прыгоннай залежнасці, іх сядзібнай аселасці і аб садзейнічанні ўрада да набыцця гэтымі сялянамі ва ўласнасць палявых угоддзяў» Сяляне маглі выкупляць надзел па добраахвотным пагадненні з памешчыкам ці па яго патрабаванні Для пераходу на выкуп *часоваабавязаных сялян*, якія адбывалі паншчыну, пераводзілі на аброк *Выкупную аперацыю* праводзіла дзяржава Яна давала селяніну выкупную пазыку, якую ён павінен быў пагасіць на працягу 49 гадоў штогаднімі выкупнымі плацяжамі ў памеры 6% выкупнога доўгу Акрамя таго, сяляне абавязаны былі плаціць працэнты па пазыцы Выкупная аперацыя ліквідавала сістэму феад адносін на вёсцы, ператварала селяніна ва ўладальніка зямельных угоддзяў Аднак сяляне не былі ўласнікамі надзельнай зямлі нават пасля выкупу Яе вярх уласнікам з'яўлялася дзяржава Правы і абавязкі службовых асоб, установаў, парадак іх утварэння і дзеянняў, склад, межы ведамства і ўлады вызначала «Палажэнне аб губернскіх і павятовых па сялянскіх справах установах» Першай інстанцыяй па ўрэгуляванні адносін паміж былымі прыгоннымі і памешчыкамі з'яўляліся *міравыя пасрэднікі* Пытанні ўзаемаадносін паміж сялянамі, землеўладальнікамі і органамі валаснога кіравання, што не маглі быць вырашаны міравым пасрэднікам, абмяркоўвалі павятовыя міравыя з'езды Міравы з'езд разглядаў таксама скаргі на дзеянні міравых пасрэднікаў Яго старшыня — павятовы маршалак, члены — усе міравыя пасрэднікі павета і чыноўнік, якога прызначаў *губернатар* Рэалізацыя сял рэформы 1861 у губернях кіравалі *губернскія па сялянскіх справах установы* Усе адзначаныя мясц органы ўлады, што непасрэдна праводзілі рэформу, складаліся з памешчыкаў і чыноўнікаў, якія ажыццяўлялі палітыку пануючага класа — дваранства, абаранялі яго інтарэсы «Правілы аб парадку прывядзення ў дзеянне Палажэння аб сялянах, што выйшлі з прыгоннай залежнасці» вызначалі грамадзянскія правы часоваабавязаных сялян і агульныя адносіны іх з памешчыкамі да ўвядзення валаснога кіравання і *ўстаўных грамат*, парадак складання, разгляду, праверкі, зацвярджэння і ўвядзення ў дзеянне гэтых дакументаў, якія былі пакладзены ў аснову пазямельных адносін былых прыгонных і землеўладальнікаў Наступныя 4 дакументы — мясц палажэнні аб пазямельным уладкаванні панскага сялянства ў беларуска-літоўскіх, рускіх і ўкраінскіх губернях Яны прадугледжвалі парадак прымянення артыкулаў «Агульнага палажэння» ў названых губернях у адпаведнасці з мясц умовамі, вызначалі памеры сял надзелаў і павіннасцей Адпаведна агульнаму і мясц палажэнням у мясцовасцях з абшчынным землеўладаннем (акрамя стэпаў) уводзіліся вышэйшыя і ніжэйшыя памеры душавога надзелу з падворным уладаннем зям лей — падворны надзел, што вызначаўся перадрэформеннымі *інвентарамі* панскіх маёнткаў З вызваленнем ад прыгоннай залежнасці панскія сяляне абавязаны былі адбываць на карысць памешчыка ранейшыя павіннасці, плаціць феад зямельную рэнту ў выглядзе грашовага аброку або паншчыны Апошнія мелі характар павіннасцей асабіста залежнага, часоваабавязанага селяніна, што азначала захаванне значных перажыткаў прыгонніцтва на вёсцы Былыя прыгонныя дробнапамесных дваран вызвалены паводле «Дадатковых правіл аб уладкаванні сялян, пасяленых у маёнтках дробнапамесных уладальнікаў, і аб дапамозе гэтым уладальнікам» на больш цяжкіх умовах, чым астатнія панскія сяляне Дробнапамесныя дваране не абавязаны былі павялічваць сял надзел, нават калі ён быў меншы за вызначаны для дадзенай мясцовасці ніжэйшы памер Беззямельныя сяляне, як і пераважная большасць дваровых, зямлі не атрымалі Яны мелі права сяліцца на дзярж землях толькі там, дзе на рэвізскую душу ў малазямельных паветах прыпадала больш за 8 дзес, у многазямельных — больш за 15 дзесяцін Сяляне, што атрымалі надзел, маглі перайсці на казенныя землі толькі са згоды памешчыка, які меў права перадачы сялян разам з надзелам у казну за адпаведную ўзнагароду ў суме капіталізаванага гадавога аброку Шэсць дакументаў вызначаюць правілы вызвалення сялян, прыпісаных да ўральскіх прыватных горных заводаў і саляных промыслаў, да панскіх фабрык, сялян і дваровых асобных губерняў Сібіры Да палажэнняў прыкладзены «Меркаванні Дзяржаўнага Савета» па прыватных пытаннях (адчужэнне, аддача ў заклад і перадача па спадчыне панскіх маёнткаў, вызваленне дваровых Паўд Урала) Палажэнні адлюстроўвалі бурж змест і прыгонніцкі характар сял рэформы 1861, якая паскорыла развіццё капіталіст адносін і адначасова абумовіла захаванне значных рэшткаў феадалізму ў Рас імперыі

*Кр* Крестьянская реформа в России 1861 г Сб законодательных актов М, 1954

*Літ* Зайончковский П А Отмена крепостного права в России 3 изд М, 1968, Дружинин Н М Русская деревня на переломе 1861—1880 гг М, 1978, Фридман М Б Отмена крепостного права в Белоруссии Мн, 1958 *Вячаслаў Панюціч*

**ПАЛАНЕ́ЙЧЫК** Апанас Кузьміч (1900, в Радуцічы Бабруйскага пав, цяпер Асіповіцкі р-н — 1921), удзельнік партыз руху ў Беларусі ў грамадз вайну З 1919 на падп рабоце ў Слуцкім і Бабруйскім пав Вясной 1920 у раёне Старых Дарог арганізаваў некалькі партыз атрадаў, якія на чале з П разбурылі чыг ст Дараганава, мост цераз Пціч, пусцілі пад адхон варожы эшалон, перадавалі камандаванню Чырв Арміі звесткі разведкі, вялі агітац работу сярод сялян У чэрв 1920 партыз атрад П разам з Чырв Арміяй удзельнічаў у фарсіраванні Бярэзіны каля мяст Лізава і вызваленні Асіповіч З ліп 1920 на парт рабоце Забіты бандытамі

**ПАЛАНЕ́НІКІ**, палонныя ў ВКЛ, адзін з відаў *чэлядзі* нявольнай Выконвалі паншчыну і інш работы, жылі пры дварах феадалаў, некаторыя мелі свае жыллё і ўчасткі зямлі Статут ВКЛ 1529 у ліку 4 крыніц папаўнення чэлядзі нявольнай называе П, «которые полоном заведены суть з земли неприятелское» Паступова палон як крыніца папаўнення чэлядзі нявольнай страціў свае значэнне П часта выкуплялі і як феадальна-залежных сялян саджалі на зямлю, ператвараючы іх у *агароднікаў* Заканадаўства ВКЛ 16 ст было накіравана на памяншэнне колькасці чэлядзі нявольнай, ператварэнне яе ў сялян, якія займаліся апрацоўкай зямлі У Статуце ВКЛ 1588 вызначана, што «неволники вперед не мають быти з иншых причин, одно полоненики, а иншая челядь неволная и теж дети, потомки полонеников мають быти осаживаны на землях и розумены быти за отчичов» Статут адмяняў таксама назву «челядь неволная» і ўказваў, што ў далейшым гэта катэгорыя насельніцтва будзе называцца «челедью дворною отчызною материстою купленою або полонениками» Збеглых П, як і інш чэлядзь, належала шукаць і вяртаць з усёй сям'ёй і маёмасцю феадалу П нельга было завяшчаць маёмасць, не падараваўшы ім спачатку свабоду *Таісія Доўнар*

**ПАЛАНЕ́ЦКІ УНІВЕРСАЛ**, заканадаўчы акт, падпісаны Т Касцюшкам 7 5 1794 у лагеры каля мяст Паланец пад Сандомежам у час *паўстання 1794* Складзены пры ўдзеле Г *Калантая* Быў 1-й спробай усебаковага рэфармавання становішча сялян у Рэчы Паспалітай, меў на мэце прыцягнуць іх да ўдзелу ў паўстанні Абвясціў аб прадастаўленні сялянам асабістай свабоды пры ўмове іх разліку з землеўладальнікам, скарачэнні *паншчыны* на 33—50% у часе паўстання і яе адмене для сялян, якія далучыліся да паўстання, прызнаў права сялян на зямлю, якую яны апрацоўвалі, і забараніў іх згон У якасці кампенсацыі землеўласнікам за змяншэнне паншчыны П у прадугледжваў заключэнне з сялянамі дагавораў аб наемнай працы (фактычна прымусовай) Быў устаноўлены ін-т дазорцаў, якія павінны былі разглядаць спрэчкі паміж сялянамі і землеўласнікамі Рэалізацыя універсала сустрэла процідзеянне шляхты Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай рэформы, прадугледжаныя П у , скасаваны новымі дзярж ўладамі

*Публ* Akty powstania Kosciuszki T 1 Krakow, 1918

*Літ* K o w e c k i J Uniwersał połaniecki i sprawa jego realizacji Warszawa 1957

**ПАЛАНІЗАЦЫЯ**, сістэма мерапрыемстваў дзярж органаў, культ устаноў і каталіцкага духавенства па *асіміляцыі* бел народа У правядзенні П актыўна ўдзельнічалі польскія феадалы і шляхта што жылі на Беларусі, а таксама мясц заможныя пласты насельніцтва пасля прыняцця імі каталіцкай веры Першыя сімптомы П абазначыліся пасля *Крэўскай уніі 1385*, калі ў заснаваных на бел землях касцелах асн набажэнства пачалі весці на лац , а казанні — на польск мовах З пашырэннем уплыву *каталіцызму* на Беларусі ішло паступовае ўмацаванне пазіцый польск элемента ў сістэме адукацыі, кнігавыдавецкай справе Абавязковым прадметам каталіцкай школы, акрамя лац і грэч моў, была пазней і польская Вывучэнне старабел мовы практыкавалася вельмі рэдка, што выклікала пратэсты з боку этнічна свядомай часткі насельніцтва краю Дзякуючы яе намаганням у некат каталіцкіх школах стала вывучацца старабел мова, на ей выкладаліся асобныя прадметы Пачатак выданню кніг на польск мове на тэр Беларусі пакладзены ў 1553 з заснаваннем друкарні ў Брэсце, дзе выходзілі кнігі пераважна на польск і лац мовах З 324 кніг, надрукаваных у ВКЛ у 1525—99, 151 выдадзены на лац , 114 — на польск 50 — на старабел мовах П бел народа ўзмацнілася пасля *Люблінскай уніі 1569* Яна ахапіла амаль усе сферы духоўнага жыцця ў ВКЛ, асабліва рэлігію, асвету, культуру, кнігадрукаванне Гэтаму садзейнічала прынящце дзяржавай шэрагу пратэкцыяністкіх захадаў па наданні прэстыжнасці польск культуры і мове на тэр ВКЛ Іх носьбітамі з-за пэўнай сац выгады станавіліся найперш бел памешчыкі, якія схілялі да гэтага і залежных ад іх сялян, а таксама шляхта — найб адукаваная частка грамадства Мэтам пашырэння каталіцызму і П служыла дзейнасць *езуітаў*, якім праз стварэнне ў Беларусі розных навуч устаноў удалося схіліць на свой бок значную колькасць моладзі Палітыка акаталічвання і П бел народа выклікала супраціўленне яго прагрэсіўных этнічна свядомых дзярж дзеячаў, прадстаўнікоў найб адукаванай часткі насельніцтва Па іх ініцыятыве з'явіўся ў новай, 3-й рэдакцыі Статут ВКЛ 1588, у які з папярэдняга Статута ВКЛ 1566 быў даслоўна перанесены спец пункт аб бел мове У адпаведнасці з ім толькі яе павінны былі выкарыстоўваць ва ўсіх канцылярыях дзярж , адм і судовых органаў ВКЛ Незадаволенасць тэмпамі і маштабамі П беларусаў падштурхнула прапольскія ўлады Рэчы Паспалітай да больш рашучага наступу У 1696 усеагульная канфедэрацыя саслоўяў Рэчы Паспалітай прыняла пастанову, у якой зафіксавана, што ў службовым справаводстве ВКЛ «усе рашэнні павінны складацца на польскай мове» Пазбаўленне бел мовы такога роду сац функцый зрабіла яе непрэстыжнай у сістэме адукацыі, у выніку чаго самая пісьменная частка насельніцтва ВКЛ станавілася носьбітам польск культуры і мовы Пасля 1696 пачала зніжацца роля бел мовы ў міжасобасных зносінах людзей, асабліва сярод заможных, прывілеяваных прадстаўнікоў насельніцтва Разам з польск мовай у Беларусь інтэнсіўна і мэтанакіравана былі занесены інш духоўныя каштоўнасці суседняга зах народа Усе больш адукаваных, таленавітых асоб бел паходжання, якія працавалі на карысць польскай сістэмы адукацыі, навукі, культуры і мастацтва, забываліся на абавязак служэння ўласнаму народу П культ -моўнага жыцця ВКЛ садзейнічала прытоку сюды значнай колькасці палякаў, што паглыбляла працэс асіміляцыі беларусаў Многія з іх пачалі выракацца сваей этнічнай прыналежнасці і залічваць сябе да палякаў Над беларусамі навісла рэальная пагроза поўнай культ -моўнай асіміляцыі Гэты трагічны для кожнага этнасу працэс аблягчаўся тым, што народы Рэчы Паспалітай — палякі і беларусы — былі вельмі блізкія па культуры і мове У такіх умовах працэс культ -моўнай асіміляцыі адбываецца больш інтэнсіўна, чым у федэратыўнай дзяржаве з далекімі адна ад адной культурамі і мовамі Гал прычына істотнай страты беларусамі сваей культ -моўнай адметнасці — у свядомай дзейнасці свецкай і духоўнай улад Рэчы Паспалітай Фактар добраахвотнасці з боку бел народа тут адсутнічаў П беларусаў мела месца і пасля таго, як іх землі ў выніку 3 падзелаў Рэчы Паспалітай (1772, 1793, 1795) былі далучаны да Рас імперыі Царпер такую палітыку ажыццяўлялі гал чынам каталіцкае духавенства, у якога на Беларусі было шмат касцелаў, манастыроў і навуч устаноў, а таксама польскія прафесійныя і прыдворныя тэатры Та му яшчэ і ў 1830-я г пазіцыі польск ўплыву ў Беларусі былі больш моцныя чым рускага З рэзкім абмежаваннем сферы ўплыву уніяцкай царквы, аб чым у аднолькавай ступені клапаціліся каталіцкае і праваслаўнае духавенства, працэс асіміляцыі ўзмацніўся і ў асяроддзі жыхароў вескі, якая з'яўлялася генератарам бел прыроднай культуры П аслабела толькі пасля падаўлення *паўстання 1863—64*, калі ўжо палякам давялося адстойваць сваю культуру і мову ад рус ўплыву Самым актыўным праваднікам П ва ўсе часы заставаўся каталіцкі касцел З пач 1-й сусв вайны 1914—18, якая прывяла да захопу герм інтэрвентамі зах часткі бел зямель, палітыку П разам з каталіцкім духавенствам праводзілі розныя шавіністычныя польскія партыі і культ -асв рухі, ствараючы ў гэтых мэтах адпаведную сістэму адукацыі Яшчэ больш узмацнілася П пасля змены герм акупацыі Беларусі польскай, калі паводле *Рыжскага мірнага дагавора 1921* да Польшчы адышла значная частка тэр Беларусі Нягледзячы на ўпартае супраціўленне П *беларускага нацыянальна-вызваленчага руху* пазіцыя польск культуры і мовы, якія мелі сталую падтрымку з боку дзяржавы і каталіцкага духавенства, станавілася ўсе больш трывалай на *«крэсах усходніх»* Перад уз'яднаннем у вер 1939 Зах Беларусі з БССР тут ужо амаль не было бел школ, адсутнічалі ўмовы для развіцця бел прафесійнай нац культуры У той ці інш сферы праводзілася П на этнічных бел землях Польшчы і ў пасляваен перыяд У наш час у гэтай краіне далека не поўнасцю задавальняюцца патрэбы нац -культ развіцця беларусаў Элементы П назіраюцца сення ў практыцы некат каталіцкіх храмаў на тэр суверэннай Рэспублікі Беларусь

*Леанід Лыч*

**ПАЛАНЭ́ЧКА**, П а л а н е ч к а, вескa цэнтр сельсавета ў Баранавіцкім р-не на р Змейка За 34 км на ПнУ ад Баранавіч, 21 км ад чыг ст Пагарэльцы на лініі Мінск—Баранавічы, аўтадарогаі злучана з Баранавічамі і Мірам 664 ж 267 двароў (1998)

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст як мястэчка Належала Дусяцкім Рудамінам, потым Радзівілам, пры якіх у канцы 18 — пач 19 ст быў пабудаваны палац У 1777 П наведаў рус пісьменнік Дз І Фанвізін на шляху з Масквы у Францыю, аб чым напісаў у сваіх нататках З 1795 у складзе Рас імперыі У 19 — пач 20 ст у Жухавіцкай вобл Навагрудскага пав У 1844 было 58 двароў з поўнымі надзеламі і 32 двары з прысядзібнымі ўчасткамі У 1845 пад апякунствам К Радзівіла ў П знаходзілася рэдакцыя час «Народ і час», які выдаваў Я Філіповіч (выйшаў толькі 1 нумар) К Радзівіла наведваў у П паэт У Сыракомля У час паўстання 1863—64 у наваколлі П дзейнічалі паўстанцкія атрады У сярэдзіне 1880-х г пад назвай П былі 3 нас пункты мястэчка

454 ж., 62 двары, касцёл, капліца, земскае нар. вучылішча, вадзяны млын, рама), вёска (9 двароў) і маёнтак. У пач. 20 ст. — сяло (459 ж., 89 двароў) і маёнтак (29 ж.). З 1921 у складзе Польшчы, мястэчка (523 ж., 99 двароў, цэнтр гміны Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв.) і фальварак (77 ж., 9 дамоў). З 1939 у БССР, вёска. З 12.10.1940 цэнтр сельсавета ў Гарадзішчанскім р-не. З 14.4.1960 у Савіцкім с/с, з 25.12.1962 у Баранавіцкім р-не. З 12.9.1986 П. зноў цэнтр сельсавета. Цэнтр калгаса імя Чапаева. Сярэдняя школа, клуб, б-ка, аптэка, аддз. сувязі, магазіны. Брацкія магілы сав. воінаў. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Помнікі архітэктуры: палац (канец 18 — пач. 19 ст.), Георгіеўскі (Юр'еўскі) касцёл (1899). *Ганна Дулеба.*

Палац у **Палавэчцы.** З малюнка Н. Орды. 19 ст.

**ПАЛА́ТА КРЫМІНА́ЛЬНАГА СУДА́,** вышэйшы судовы орган у губернях Расійскай імперыі па *крымінальных справах.* Уведзены на падставе «Устанаўлення для кіравання губерняў Усерасійскай імперыі» 1775. У 1778 П.к.с. уведзены ў Полацкай і Магілёўскай губ., у 1795 — у Мінскай губ. Апеляцыйная інстанцыя (2-я інстанцыя) для *верхняга земскага суда, губернскага магістрата,* верхняй расправы. У якасці рэвізійнай (рашаючай) інстанцыі разглядала справы аб злачынствах, якія прадугледжвалі смяротнае пакаранне, гандлёвае пакаранне, пазбаўленне гонару і ў якасці суда 1-й інстанцыі — справы па абвінавачанні ў службовых злачынствах. Рашэнні палаты па некат. катэгорыях крымінальных спраў зацвярджаліся губернатарамі. Апеляцыйнай і рэвізійнай інстанцыяй для П.к.с. быў Сенат. У склад палаты ўваходзілі старшыня (выбіраўся Сенатам, зацвярджаўся імператарам), 2 саветнікі і 2 асэсары (прызначаліся Сенатам). Паводле ўказа Паўла I ад 6.2.1797 П.к.с. *на тэр. Беларусі скасаваны і заменены галоўнымі судамі.* Адноўлены ў 1831 як апеляцыйная і рэвізійная інстанцыя для павятовых судоў і магістратаў. У якасці 1-й інстанцыі разглядалі справы аб службовых злачынствах чыноўнікаў. У адносінах да судоў 1-й інстанцыі мелі адм. паўнамоцтвы і маглі абʼяўляць вымовы і накладаць штрафы на чыноўнікаў ніжэйшых судоў. У склад палаты пасля 1831 уваходзілі старшыня, саветнік (з 1837 — таварыш старшыні) і па 2 засядацелі ад дваран і купецтва. Старшыня выбіраўся на 6 гадоў на губернскіх дваранскіх выбарах і зацвярджаўся імператарам. Засядацелі ад дваран і купецтва выбіраліся на 6 гадоў адпаведнымі саслоўямі. Саветнікі прызначаліся ўрадам. Пазней засядацелі ад купецтва заменены засядацелямі ад урада. Справаводства вялося на рус. і польскай (да 1831) мовах. У 1867 П.к.с. паводле ўказа Сената абʼяднаны з *палатамі цывільнага суда* ў Злучаныя палаты крымінальнага і цывільнага суда.

*Літ.:* Виленский Б.В. Судебная реформа и контрреформа в России. Саратов, 1969; Учреждения для управления губерний Всероссийской империи // Российское законодательство X—XX вв. Т. 5. Законодательство периода расцвета абсолютизма. М., 1987.
*Аляксандр Марыскін.*

Г.А. **Палаўчэня.**

**ПАЛА́ТА ЦЫВІ́ЛЬНАГА СУДА́,** вышэйшы судовы орган у губернях Расійскай імперыі па цывільных справах. Уведзены на падставе «Устанаўлення для кіравання губерняў Усерасійскай імперыі» 1775. У 1778 уведзены ў Полацкай і Магілёўскай губ., у 1795 — у Мінскай губ. Апеляцыйная інстанцыя (2-я інстанцыя) па цывільных справах для *верхняга земскага суда, губернскага магістрата,* верхняй расправы. У якасці суда 1-й інстанцыі разглядала цывільныя справы з коштам іску не ніжэй за 500 р. Да адмены *Статута Вялікага княства Літоўскага 1588* на тэр. Беларусі (да 1840) цывільныя справы разглядаліся ў палаце на падставе заканадаўства Рас. імперыі (справы, якія закраналі інтарэсы казны) і норм мясц. права. У склад палаты ўваходзілі старшыня, 2 саветнікі і 2 асэсары. 6.2.1797 паводле ўказа Паўла I П.ц.с. на тэр. Беларусі скасаваны і заменены *галоўнымі судамі.* Адноўлены ў 1831 як апеляцыйная і рэвізійная інстанцыя для павятовых судоў і магістратаў. У якасці 1-й інстанцыі разглядалі справы па спрэчках аб гарадах, маёнтках, якія знаходзіліся на тэр. розных паветаў. У дачыненні судоў 1-й інстанцыі мелі адм. паўнамоцтвы і маглі абʼяўляць вымовы і накладаць штрафы на чыноўнікаў ніжэйшых судоў. У склад палаты пасля 1831 уваходзілі старшыня, саветнік (з 1837 — таварыш старшыні) і па 2 засядацелі ад дваран і купецтва. Старшыня выбіраўся на 6 гадоў на губернскіх дваранскіх выбарах і зацвярджаўся імператарам. Засядацелі ад дваран і купецтва выбіраліся на 6 гадоў адпаведнымі саслоўямі. Саветнікі прызначаліся ўрадам. Пазней засядацелі ад купецтва заменены засядацелямі ад урада. Справаводства вялося на рус. і польскай (да 1831) мовах. У 1867 паводле ўказа Сената П.ц.с. абʼяднаны з *палатамі крымінальнага суда* ў Злучаныя палаты крымінальнага і цывільнага суда.

*Літ.:* Гл. ў арт. *Палата крымінальнага суда.*
*Аляксандр Марыскін.*

**ПАЛАЎЧЭ́НЯ** Гаўрыіл Антонавіч [18.4(1.5).1907, в. Лескі Бабруйскага пав., цяпер Старадарожскага р-на — 5.6.1988], Герой Сав. Саюза (1942). Скончыў Ваен. акадэмію бранятанк. і механіз. войск (1944), Харкаўскі с.-г. ін-т (1956). У Чырв. Арміі з 1929. Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 на Зах., Калінінскім франтах. Нам. камандзіра

партызан), створаны штаб злучэння Камандзіры Ф М *Языковіч* (сак —крас 1943), К М Бакун (крас —вер 1943, в а), І Дз *Вятроў* (вер 1943 — сак 1944), І В Скалабан (сак —крас 1944, в а, загінуў), Р М Дарожка (крас —ліп 1944, в а), нач штаба Бакун (сак — крас 1943), Дарожка (крас 1943 — крас 1944), А І Неўскі (крас —ліп 1944) У 1943 яднала 12 брыгад 2-ю Калінкавіцкую імя Фрунзе, 50-ю Жыткавіцкую, 99 ю Калінкавіцкую, 100-ю Глускую, 101 ю Даманавіцкую, 123-ю Акцябрскую імя 25-годдзя БССР, 125-ю Капаткевіцкую, 130-ю Петрыкаўскую, 150 ю імя Языковіча (да канца 1943), 210 ю Капаткевіцкую, 225-ю Васілевіцкую імя Панамарэнкі, 11 асобна дзейных атрадаў І С Губіна, А Ф Сарафанава імя Варашылава, імя Катоўскага, імя Суворава, імя Чапаева, Васілевіцкі імя Панамарэнкі, Парыцкі імя Кірава, Даманавіцкі, Ельскі, штабны Калінкавіцкі імя Варашылава, дзейнічала каля 5 тыс падпольшчыкаў і сувязных Акрамя таго, на тэр Палескай вобл ў розны час дзейнічала (не ў складзе П п з ) 14 асобных партыз атрадаў Дзеянні партызан у Ельскім, Лельчыцкім, Мазырскім, Нараўлянскім і Тураўскім р нах каардынавала створанае ў маі 1943 *Паўднева-Прыпяцкае партызанскае злучэнне* З 22 9 1943 па меры вызвалення Палескай вобл ад ням -фаш захопнікаў адбывалася злучэнне партыз фарміраванняў з часцямі Чырв Арміі

*Іван Вятроў*

**ПАЛЕ́СКАЕ ПАЎСТАННЕ 1918—19**, выступленне партызан і насельніцтва Пінскага і Ровенскага пав супраць аўстра герм акупантаў, войск украінскага гетмана П П Скарападскага і Дырэкторыі за аднаўленне Сав улады У кастр 1918 на тэр зах Беларусі і зах Украіны акупіраваных аўстра-германскімі войскамі, дзейнічала каля 100 атрадаў (да 100 000 паўстанцаў) Да канца 1918 партыз атрады зведзены ў роты, батальёны, аб'яднаны ў 1-ы, 2-і Палескія і 1 ы Дубровіцкі палкі, створаны валасныя рэўкомы і цэнтральны Палескі рэўком Пасля Лістападаўскай рэвалюцыі 1918 у Германіі Лунінецкі рэўком заключыў з салдацкім к-там ням дывізіі пагадненне, паводле якога немцы, пакідаючы г Лунінец 7 1 1919, павінны былі перадаць рэўкому ваен склады б царскай арміі, чыг транспарт і абсталяванне вакзала Партызаны ўзялі пад кантроль чыгунку ад ст Сарны да ст Ганцавічы і Парахонск, на ўсе чыг станцыі і ваен склады прызначылі камендантаў 25 12 1918 у Століне на з'ездзе старшынь рэўкомаў, камандавання палкоў і партыз атрадаў у вызваленых раенах абвешчана сав ўлада і перавыбраны Палескі рэўком (старшыня Р М.Астроўскі), які пераехаў у Лунінец У склад рэўкома ўведзены і прадстаўнік ЦК РКП(б) А М Ільін У сувязі з наступленнем на г Сарны пятлюраўскіх войск быў створаны ваен савет паўстанскіх камуніст войск на чале з Ільіным На працягу студз 1919 паўстанцы вялі цяжкія баі супраць пятлюраўскіх войск, якія пацяснілі 1-ы Палескі полк і дубровіцкіх партызан На дапамогу ім падышоў 2-і Палескі полк, які выбіў пятлюраўцаў з Дубровіцы і адцясніў іх да г Сарны У студзені 1919 ням камандаванне перадало ўладу ў Пінску войскам урада Дырэкторыі, атрады Чырв Арміі і партызан былі раззброены У адказ паўстанцы спынілі пропуск ням эшалонаў праз Лунінец, што вымусіла іх вярнуць зброю чырвонаармейцам і паўстанцам 25 1 1919 2-і Палескі полк і чырвонаармейцы вызвалілі Пінск, куды пераехаў Палескі рэўком і штаб 2-га Палескага палка 1-ы Палескі полк, які панес вял страты ў баях, расфарміраваны У лют 1919 2-і Палескі і 1-ы Дубровіцкі палкі ўвайшлі ў 17-ю дывізію Чырв Арміі На Палессі была ўстаноўлена сав ўлада

*Літ* Почанин С З В грозовом восемнадцатом Мн , 1969 С 262—267

**«ПАЛЕ́СКАЯ ВЕ́ДА»**, музей народнай культуры Мазыршчыны, філіял *Мазырскага краязнаўчага музея* Засн ў 1997 у Мазыры на базе экспедыцыйных збораў супрацоўнікаў краязнаўчага музея і мастака кераміста М Пушкара Пл экспазіцыі 243 м$^2$, 730 экспанатаў, 5 залаў (1998) У экспазіцыі прылады працы і побыту сялян Палесся 19—20 ст , у т л саха, барана, хатняе начынне, даматканыя адзенне (вясельны ўбор дзяўчыны 1890, элементы вопраткі канца 19 ст ), ручнікі-набожнікі канца 19 ст , посцілкі, вырабы пляцення з лазы, дзіцячая мэбля, рамесныя і прамысл вырабы, падручнікі пач 20 ст

*Віталіна Сайфутдзінава*

**ПАЛЕ́СКАЯ ВО́БЛАСЦЬ**, адм -тэр адзінка ў БССР у 1938—54 Утворана 15 1 1938 Цэнтр — г *Мазыр* Пл 26 тыс км$^2$, нас 680 тыс чал (1941) Уключала 17 раенаў Акцябрскі (утвораны 28 6 1939, з 20 9 1944 з Глускім і Парыцкім р-намі ў складзе Бабруйскай вобл ), Брагінскі, Васілевіцкі, Глускі, Даманавіцкі, Ельскі, Жыткавіцкі, Калінкавіцкі (утвораны 3 7 1939), Камарынскі, Капаткевіцкі, Лельчыцкі, Мазырскі, Нараўлянскі, Парыцкі, Петрыкаўскі, Тураўскі, Хойніцкі, гарады Калінкавічы, Мазыр (з 17 3 1938 у абласным падпарадкаванні), Петрыкаў, гар паселкі Брагін, Глуск, Ельск, Жыткавічы, Капаткевічы, Лельчыцы, Нароўля, Парычы, Тураў, Хойнікі, рабочыя паселкі Капцэвічы, Пастала, Пціч З жн 1941 да ліп 1944 акупіравана ням фашыстамі, барацьбу з якімі на тэр вобласці вялі *Палескі падпольны абком КП(б)Б* і *Палескае партызанскае злучэнне* Вызвалена ў выніку *Гомельска-Рэчыцкай аперацыі 1943, Калінкавіцка-Мазырскай аперацыі 1944* і *Беларускай аперацыі 1944* У 1953 у П в 316 калгасаў, 7 саўгасаў, 23 МТС, 375,5 тыс га пасяўных плошчаў Працавалі 791 школа, пед ін-т, 2 пед вучылішчы, 14 Дамоў культуры, каля 500 б-к, драм тэатр, музей Выходзіла газ «Савецкае Палессе» (да 1952 «Бальшавік Палесся») Пасля скасавання 8 1 1954 тэр П в далучана да Гомельскай вобл

**ПАЛЕ́СКАЯ СЕЧ УКРАІ́НСКАЙ ПАЎСТА́НЦКАЙ А́РМІІ** (ПС УПА), бульбаўцы, узброенае фарміраванне ўкр нацыяналістаў Створана ў чэрв 1941 на базе падп арг-цыі «Украінскае нацыянальнае адраджэнне», якая з 1933 дзейнічала на тэр Укр і Бел Палесся Кіраўнік Т Дз *Баравец* (мянушка Бульба) Дзейнічала ў саюзе з прадстаўнікамі бел нацыяналіст арг-цый М Вітушкам, І Ермачэнкам, У Казлоўскім, У Родзькам і інш Да ліст 1941 супрацоўнічала з ням армейскімі спецслужбамі, выконвала функцыі паліцыі, вяла барацьбу з сав партызанамі З прыходам на Палессе ням цывільнай адміністрацыі восенню 1941 самараспусцілася Зімой 1942 адноўлена Бараўцом як партыз фарміраванне (налічвала 15 тыс чал ), якое змагалася і супраць немцаў і супраць бальшавікоў Імкнулася аб'яднаць у адзіную армію ўсе ўкр антыкамуніст арг-цыі для барацьбы за адраджэнне Укр Нар Рэспублікі — дэмакр шматпарт дзяржавы Летам 1943 ПС УПА сілай падпарадкавана *Арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістаў*, якая стварыла сваю Укр паўстанцкую армію

*Літ* Організація Українських Націоналістів, 1929—1954 Париж, 1955, ОУН у світлі постанов Великих Зборів, Конференцій та інших документів із боротьби 1929—1955 Мюнхен, 1955 Бульба-Боровець Т Армія без держави Спогади Вінніпег 1981 ОУН на службе у фашизма // Военно-ист журн 1991 № 5, Косик В Україна і Німеччина у другій світовій війні Париж, Нью Йорк Львів, 1993 *Уладзімір Гуленка*

**ПАЛЕ́СКІ КАМІТЭ́Т РСДРП(б)**, 1) арганізацыя с -д партыі, якая дзейнічала на тэр Магілеўскай, ч Мінскай, Чарнігаўскай і Палтаўскай губ Утвораны па ініцыятыве У І Леніна і ЦК РСДРП у студз 1904, зацверджаны ЦК як паўнамоцная арг-цыя да крас 1905 (у ліку 28 мясц парт арг-цый Расіі) Яднаў Гомельскую, Клінцоўскую, Навазыбкаўскую, з лют 1904 Магілеўскую і Роменскую арг-цыі Да вясны 1904 ахапіў уплывам Магілеўскую губ , Мазырскі і Рэчыцкі пав Мінскай губ , Гараднянскі, Мглінскі, Навазыбкаўскі, Старадубскі і Суражскі пав Чарнігаўскай, Роменскі пав Палтаўскай губ Для наладжвання парт работы на Палессе неаднойчы прыязджалі прафес рэвалюцыянеры Г М Кржыжаноўскі, П М Лепяшынскі, М М Літвінаў і інш У маі 1905 адбыўся *Першы з'езд арганізацый РСДРП Палескага раена*, які вызначыў практычныя задачы падрыхтоўкі ўзбр паўстання, разгортвання прапаганды і агітацыі, кіраўніцтва сял рухам, прыняў статут і зацвердзіў паўнамоцнымі арг-цыямі П к РСДРП(б) Аршанскую, Гомельскую, Копыскую, Магілеўскую, Шклоўскую, Горацкую, Дабранскую, Клінцоўскую, Лоеўскую, Навазыбкаўскую, Сноўскую і Сяменаўскую арг-цыі РСДРП Апрача паўнамоцных, летам

1905 яднаў арг-цыі, у склад якіх уваходзілі бальшавікі і меншавікі Пасылаў дэлегатаў на *Першую абласную канферэнцыю арганізацыи РСДРП Паўночна-Заходняга краю* (жн 1905) У вер 1905 адбылася канферэнцыя к-та У сувязі з ростам колькасці арг-цый РСДРП кан ферэнцыя падзяліла к-т на 4 самастойныя раенныя арг-цыі Аршанскую, Гомельскую, Магілеўскую і Клінцоўска-Навазыбкаўскую Летам 1906 Гомельская і Магілеўская арг-цыі рэарганізаваны ў акруговыя з правам утвараць на іх тэр раенныя У вер 1909 Гомельскаму акр к-ту дАручана выконваць функцыі абл парт цэнтра 3 мая 1912 ен стаў называцца П к РСДРП(б) і дзеинічау да 1917

2) Кіруючы орган арганізацый РСДРП Магілеўскаи, ч Мінскай, Чарнігаўскай і Палтаўскай губ Паводле статута, прынятага І з'ездам парт арг-цый Палесся, — «ідэйны і практычны кіраўнік у сваім раене» Меў калегіі раз'язных агентаў, прапагандыстаў, тэхнічную, сялянскую, а таксама ваен -рэв групу для работы сярод салдат, падп друкарню, выпускаў газ «Полесский листок» Па асн праграмных, тактычных, арганізац пытаннях стаяў на пазіцыях бальшавікоў Кіраваў рэв выступленнямі працоўных Палесся, вёў палітработу вакол бальшавіцкай газ «Правда», трымаў сувязь з ЦК РСДРП, з Рус бюро ЦК, рэд газ «Пролетарий» Размяшчаўся ў Гомелі, Навазыбкаве Старшыня М К Уладзіміраў У вер 1905 парт арг-цыя, якую ен узначальваў, падзелена на 4 раенныя, і к-т перастаў існаваць Яго функцыі выконваў Гомельскі раенны, потым акр к-т РСДРП Пасля VI (Пражскай) Усерас канферэнцыі РСДРП адноўлены Пасля Лют рэвалюцыі 6(19) 4 1917 на арганізац сходзе бальшавікоў Гомеля выбраны П к РСДРП(б), які выконваў функцыі абласнога, пасылаў прадстаўнікоў на VII (Крас ) канферэнцыю і VI з'езд РСДРП(б), удзельнічаў у ліквідацыі Стаўкі Вярхоўнакамандуючага ў Магілеве, ажыццяўляў першыя дэкрэты сав улады У лют —сак 1918 Палессе акупіравана ням войскамі Барацьбу супраць інтэрвентаў узначаліў *Палескі падпольны камітэт РКП(б)*

**ПАЛЕ́СКІ ПАДПО́ЛЬНЫ АБКО́М КП(б)Б** у В я л і к у ю А й ч ы н н у ю в а й н у Створаны ЦК КП(б)Б і працаваў пад яго кіраўніцтвам з 9 2 1943 да ліп 1944 на тэр Палескай вобл Узначальваў Калінкавіцкі падп гарком КП(б)Б і 17 падп райкомаў [гл *Раенныя падпольныя камітэты КП(б)Б*], якія аб'ядноўвалі 117 пярвічных парт арг-цый, 1549 камуністаў у партыз фарміраваннях Накіроўваў дзейнасць Палескіх падп абкома ЛКСМБ і партыз злучэння, падп арг-цый вобласці антыфаш груп славацкіх і венгерскіх салдат у Мазыры, Нароўлі, Хойніках і ням салдат у Ельску, Калінкавічах Лельчыцах, Мазыры Сакратары абкома Ф М *Языковіч* (да 7 4 1943) І Дз *Вятроў* (з 7 8 1943), М І *Ма*[illegible] (4 8 1943 — люты 1944), члены А П *Міхайлоўскі* (з 2 4 1943), Ф І *Па*[illegible] (2 4 1943 — май 1944), М Л *П*[illegible] (2 4 — кастр 1943), Я А Гатараў (2 4— 4 8 1943), К М Бакун (5—28 10 1943) І В Скалабан (5 10 1943 — крас 1944) Р І Слепаў (5 10 1943 — люты 1944) Друк орган — газ «Бальшавік Палесся» Кіраваў агітац -масавай работай сярод насельніцтва і салдат варожых фарміраванняў, выдаваў лістоўкі (каля 40 назваў), бюлетэні, адозвы, зводкі Саўінфармбюро Базіраваўся на тэр Капаткевіцкага і Акцябрскага р-наў (в Камаровічы, Філатаўка, Чырвоная Слабада і інш )

**ПАЛЕ́СКІ ПАДПО́ЛЬНЫ АБКО́М ЛКСМБ** у В я л і к у ю А й ч ы н н у ю в а й н у Створаны ЦК ЛКСМБ і дзейнічаў пад яго і *Палескага падпольнага абкома КП(б)Б* кіраўніцтвам з 9 2 1943 да 6 7 1944 на тэр Палескаи вобл Узначальваў дзейнасць 16 падп райкомаў (гл *Раенныя падпольныя камітэты ЛКСМБ*), якія аб'ядноўвалі 59

пярвічных падп арг-цый, 193 у партыз фарміраваннях (2416 камсамольцаў) Сакратары абкома М Л *Пінязік (да 27 5 1944),* У Г *Казыр (з 1 10 1943),* Ф І *Самбук* (з 2 8 1943), члены Казыр, У К Рудак (да 10 1 1944), Ф А Плавінскі (з 3 6 1943), Самбук (з 3 6 1943), У Ф Ткач (8 8 1943—5 3 1944), лектар абкома ЛКСМБ М Ф Палазнік (8 9 1943—10 1 1944) Асн база знаходзілася ў Акцябрскім р-не Да стварэння абкома камсам работу ў Палескай вобл ўзначальваў сакратар ЦК ЛКСМБ К Т *Мазураў* *Рыгор Шавяла*

**ПАЛЕ́СКІ ПАДПО́ЛЬНЫ КАМІТЭ́Т РКП(б)**, падпольны парт цэнтр на Палессі ў час акупацыі Беларусі германскімі войскамі ў 1918 Існаваў з 10 3 1918 да студз 1919 у Гомелі У склад к-та ўваходзілі А М Кузняцоў, Х С Любамірскі, Н Ф Манькін (Кін), С А Рохлін, М П Хаўкін, з ліп 1918 М С Бастынец, А Валодзька, Д С Гуло, С Ц Хаўкін (старшыня) і інш Працаваў пад кіраўніцтвам ЦК РКП(б), трымаў сувязь з Паўн -Зах абл і Мінскім падп к-тамі РКП(б), з ЦК КП(б)У, Кіеўскім падп цэнтрам, з Бранскім атрадам Зах ўчастка атрадаў заслоны Узначальваў падп парт арг-цыі Гомельскага, Мазырскага, Навазыбкаўскага, Рагачоўскага і Рэчыцкага пав (800 камуністаў) Меў уплыў у прафсаюзах Арганізаваў першамайскія дэманстрацыі, паліт за бастоўкі і стачкі ў Гомелі, Добрушы, Жлобіне, Мазыры, Навазыбкаве, 2-тыднёвую забастоўку салідарнасці рабочых Гомельскага чыг вузла з усеаг забастоўкай чыгуначнікаў Украіны, якая перарасла ва ўзбр барацьбу супраць акупантаў Для кіраўніцтва партыз рухам 18 4 1918 стварыў Гомельскі рэўком, у жн правёў нараду кіраўнікоў падп парт арг-цый і камандзіраў партыз атрадаў (прысутнічала 40 чал ), якая паставіла гал задачай узбр барацьбу супраць акупантаў З восені 1918 пры к-це дзейнічаў аддзел агітац -масавай работы (30 агітатараў-арганізатараў) Спец разведштаб збіраў звесткі пра дыслакацыю, колькасць, узбраенне, камандны састаў, ваен -матэрыяльную базу варожых войск, набываў зброю, праводзіў дыверсіі Да ліст 1918 амаль ва ўсіх валасцях Палесся дзейнічалі падп камуніст ячэйкі і партыз атрады

*Літ* Почанин С З В грозовом восемнадцатом Мн , 1969 *Мікола Сташкевіч*

**ПАЛЕ́СКІЯ ЧЫГУ́НКІ**, назва ў 1882—1921 сеткі чыг ліній, якія звязвалі паўд раёны Беларусі з Літвой, Украінай і цэнтр раёнамі Расіі Пабудаваны казной паводле ўказа цара Аляксандра III Мелі вял стратэг і гасп значэнне Агульная іх даўжыня на Беларусі 1005 верст (на 1 1 1910) Падзяляліся на ўчасткі Жабінка—Пінск (135, адкрыты 9 11 1882), Вільня—Лунінец—Пінск (350, 30 12 1884), Лунінец—Роўна (181, 2 8 1885), Лунінец—Гомель (281, 15 2 1886), Баранавічы—Беласток (201, 23 11 1886), Гомель—Бранск (256, 8 8 1887) Гал грузы — лясныя Капіталаўкладанні на 1 1 1913 склалі 140,1 млн руб , колькасць абслугоўвага персаналу 16,1 тыс чал , паравозаў 419, вагонаў 510 пасажырскіх і 9127 таварных Гал майстэрні ў Пінску Найб чыг станцыі Гомель, Лунінец, Пінск, Баранавічы Беласток П ч садзейнічалі развіццю сельскай гаспадаркі і прам-сці, росту гарадоў, развіццю рабочага руху У 1880-я г Пецярбургскі (паводле інш звестак Маскоўскі) манетны двор адчаканіў медаль «У памяць будаўніцтва Палескіх чыгунак З 1883 па 1887 год» Пасля Кастр рэвалюцыі 1917 нацыяналізаваны і падпарадкаваны Наркамату шляхоў зносін РСФСР У 1919 усх ўчасткі П ч уключаны ў Зах чыгункі, у 1921 зах лініі П ч адышлі да Польшчы

*Літ* Очерк 25-летней эксплуатации Полесских железных дорог (1884—1909 гг ) Вильна 1909

**ПАЛЕ́ССЕ**, геаграфічны рэгіен на Пд Беларусі і Пн Украіны Размешчаны на Палескай нізіне ўздоўж ракі Прыпяць і яе прытокаў У Беларускім П вылучаюць 2 гісторыка-этнагр рэгіены *Заходняе Палессе* і *Усходняе Палессе*

**ПАЛЕССЕ**, веска, цэнтр сельсавета і калгаса ў Чачэрскім р-не, каля р Каўпіта, на аўтадарозе Чачэрск—Краснаполле За 35 км на ПнУ ад г Чачэрск 566 ж , 226 двароў (1998) У 1704 веска (9 дымоў, 1 служба) у Чачэрскім старостве Рэчыцкага пав , Мінскага ваяв ВКЛ, адносілася да Чачэрскага замка У 1726 цэнтр Палескага войтаўства Чачэрскага староства (6 дымоў, 1 служба) З 1770 П прыватная ўласнасць земскага суддзі Рэчыцкага пав Маліноўскага Пасля 1-га падзелу Паспалітай (1772) у Рас імперыі У 1843 пабудавана драўляная Мікалаеўская царква У 1862 у П 513 ж , 91 двор, хлебазапасны магазін З 1884 дзейнічала нар вучылішча У 1886 П — цэнтр Палескай воласці, 503 ж , 86 двароў, 3 ветраныя млыны, царква, валаснае праўленне, 2 разы на год кірмаш У 1909 у вёсцы 1095 ж , 152 двары У 1921 створана працоўная школа 1-й ступені З 8 12 1926 цэнтр сельсавета Чачэрскага р-на Гомельскай акр , з 20 2 1938 Гомельскай вобл У Вял Айч вайну акупіравана фашыстамі, якія ў крас 1942 спалілі 135 двароў і загубілі 11 жыхароў У вёсцы швейная майстэрня, сярэдняя школа, клуб, бібліятэка, бальніца, аптэка, аддз сувязі, магазіны Помнік землякам, якія загінулі ў Вял Айч вайну *Валянціна Віталева*

**«ПАЛЕ́ССЕ»**, літаратурна-гістарычны і грамадска-культурны часопіс Выдаецца з 1996 у Гомелі на бел , укр і рус мовах штоквартальна Распаўсюджваецца на тэр Беларусі, Бранскай (Расія), Чарнігаўскай і Житомірскай (Украіна) абласцей, у Беластоцкім ваяв (Польшча) Заснавальнік і гал рэдактар Р Андрэявец Асвятляе гіст , літ і культ жыццё палескага рэгіена, прапагандуе лепшыя творы бел і замежных аўтараў Мае пастаянныя рубрыкі «Успаміны, дзённікі, дакументы», «Хроніка», «Крытыка і літаратуразнаўства» і інш Ілюстраваны, з каляровымі ўкладкамі Надрукаваў гіст раманы Ю Фатнева «Куміры тварахў», У Федасеенкі «Мутныя росы» раздзелы з рамана С Талкачова пра А Грына «Падаравана лесам», апавяданні М Даніленкі, А Бароўскага, А Федарэнкі, паэму М Башлакова «Як слёзы горкія Айчыны», вершы бел паэтаў М Мятліцкага, Н Мацяш, А Сыса і інш Змяшчае матэрыялы па гісторыі Беларусі і суседніх дзяржаў У сувязі з 130-годдзем з дня нараджэння М В *Доўнар-Запольскага* артыкулы пра яго змясцілі А Ліс, З Яцкевіч, З Шыбека, А Каўка, С Міхальчанка, У Конан і інш *Рыгор Андрэявец*

Да арт **Палешукі** Удзельнікі вяселля Вёска Павіцце Кобрынскага раёна 1950-я г

1607 або 1608), сын Івана Андрэевіча Кіраваў ад імя бацькі Навагрудскім ва яв У час Лівонскай вайны 1558—83 ва яваў у Інфлянтах, трымаў там Вольмар скае староства У 1577 трапіў у палон але быў адпушчаны царом Іванам IV Грозным Кашталян навагрудскі з 1586 У 1596 прымаў удзел у Брэсцкім сабо ры, прыхільнік царк уніі Валодаў Дзярэ чынам у Слонімскім пав і інш

Канстанцін Аляксандра віч (?—1640), унук Аляксандра Івана віча Вучыўся ў езуіцкім калегіуме ў Браневе, Віленскай акадэміі Удзельні чаў у войнах са Швецыяй 1600—29 і з Расіяй 1609—18 Слонімскі пісар земскі у 1616—21 і маршалак у 1621—27, кашталян мсціслаўскі ў 1627—33, ваявода парнаўскі з 1633, маршалак Трыбунала ВКЛ у 1627 З праваслаўя перайшоў у каталіцтва, у 1618 фундаваў Дзярэчынскі дамініканскі кляштар Валодаў Дзя рэчынам, Глускам, Глыбокім і інш

Аляксандр Гіляры (6 8 1627—3 11 1679), сын Канстанціна Аляксандравіча Вучыўся ў Віленскай і Замойскай акадэміях, у Кракаве, Галандыі, Францыі З 1646 неаднаразова выбіраўся пaслом на сеймы Падкаморы слонімскі ў 1650—54, падстолі ВКЛ у 1654, пісар польны ВКЛ у 1654—68, староста генеральны жамойцкі ў 1669—70, мар шалак вялікі ВКЛ з 1669 Вызначыўся ў вайне супраць укр казакоў, пад камандаваннем Я Радзівіла ўдзельнічаў ва узяцці Мазыра ў лют 1649, у *Лоеўскай бітве 1649*, бітве пад Белай Царквой 23 9 1651 На чале кавалерыйскіх харугваў браў удзел у асн ваенных дзеяннях у час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 у бітвах пад Шкловам 12 8 1654 і Шапялевічамі 24 8 1654, аблозе Магілева ў пач 1655, у баях супраць шведаў ў Польшчы, у вызваленні Мінска ў ліст 1658 і інш У 1659—60 ваяваў у Інфлянтах У складзе дывізіі П Я Сапегі ўдзельнічаў у *Палонкаўскай бітве 1660*, аблозе Барысава, вызваленні Шклова і Оршы, бітве на р Бася з войскам Ю А Далгарукага, *Кушліцкай бітве 1661* Валодаў Дзярэчынам, Глускам, Рудобелкай, Дзятлавам, Горамі Вялікімі, Горкамі З 1655 адміністратар Брэсцкай эканоміі, быў старостам бабруйскім, ваўкавыскім, слонімскім У 1662 фундаваў Глускі бернардзінскі кляштар Пасля адрачэння ад трона Яна II Казіміра ў 1668 і смерці Міхала Вішнявецкага ў 1673 выступаў за абранне на пасад Рэчы Паспалітай цара Аляксея Міхайлавіча

Дзмітрый Самуэль (?—8 8 1687), сын Міхала Слонімскі падчашы ў 1640—59, харужы ў 1659—60, маршалак у 1660—70, ваявода навагрудскі з 1670 Пасол на сеймы 1632, 1667, 1679, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1655 Удзельнічаў у вайне Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67

Аляксандр Райнальд (?—1687?), сын Івана (Януша) Дзмітрыевіча У 1655 пачаў службу ў войску пад камандаваннем А Г Палубінскага, удзельнічаў у буйнейшых бітвах вайны з Расіяй 1654—67, з 1663 паручнік казацкай харугвы Падстолі слонімскі ў 1667, падсудак у 1668, харужы з 1670 Пасол на сеймы 1668, 1674

А.В **Палупанаў**

І.В **Палуян**

С **Палуян**

Леан Казімір (?—1726), сын Дзмітрыя Самуэля Вучыўся ў езуіцкім калегіуме ў Браневе З 1670-х г у войску Належаў да антысапежынскага лагера У 1669—1703 неаднаразова выбіраўся паслом на сеймы Цівун і дзяржаўца цверскі з 1689, староста лікавянскі

Ежы Антоні (1735—7 8 1801), сын Яна Святар з 1760, канонік віленскі з 1761, пасля архідыякан, сакратар вялікі духоўны ВКЛ у 1782—93 Падтрымаў паўстанне 1794, быў абраны старшынёй Генеральнай адміністрацыі духоўнага ўрада Віленскай дыяцэзіі

*Валерый Пазднякоў*

**ПАЛУПА́НАЎ** Андрэй Васілевіч [2(14) 9 1888, ст Ханжонкава Екацярынаслаўскай губ, цяпер Днепрапятроўскай вобл, Украіна — 5 12 1956], удзельнік грамадз вайны ў Беларусі Скончыў Прамысл акадэмію З 1909 на Чарнаморскім флоце За рэв дзейнасць у 1912—15 зняволены Удзельнік 1-й сусв, грамадзянскай і польска-савецкай 1919—20 войн У студз 1918 камандзір атрада маракоў, накіраванага ў Кіеў для барацьбы з Цэнтр радай, камендант Кіева, потым камандзір бронепоезда «Свабода або смерць!» на Усх фронце, удзельнік ліквідацыі антысав паўстанняў у Паволжы і Чэхаславацкага корпуса (1918) У сак—вер 1919 камандуючы *Дняпроўскай ваеннай флатыліяй* (базіравалася таксама ў Гомелі) Удзельнічаў у разгроме польск войск пад Туравам і абароне Гомельскага ўмацаванага раена У лют 1920 камандзір бронепоезда ў Маскве, потым групы бронепаяздоў на Паўд-Зах фронце З ліп 1920 камандзір асобнай агнявой брыгады пад Кахоўкай, начальнік бронечасцей 6-й арміі Пасля грамадз вайны на парт, сав і гасп рабоце Аўтар кнігі «Свабода або смерць!» (1966)

*Раман Паўловіч*

**ПАЛУЯ́Н** Іван Васілевіч (н 20 8 1928, в Некрашэвічы Стаўбцоўскага пав Навагрудскага ваяв, цяпер Карэліцкі р-н), бел гісторык Д-р гіст н (1981), праф (1983) Скончыў Мінскі пед ін-т (1951) З 1959 мал, старшы навук супрацоўнік Ін-та гісторыі АН Беларусі, з 1966 дацэнт, прафесар Бел політэхн ін та З 1985 заг кафедры, прафесар Бел тэхнал ун-та Даследуе рэв і нац вызв рух у Зах Беларусі, сац-эканам развіццё бел вёскі ў 1950—80-я г, унутр і знешнюю палітыку Рэспублікі Беларусь, праблемы станаўлення бел дзяржаўнасці Адзін з аўтараў кн «Рэвалюцыйны і нацыянальна-вызваленчы рух у Заходняй Беларусі ў 1920—1939 гг» (1962), 12-томнай «Гісторыі СССР са старажытных часоў да нашых дзён» (т 9, 1971), 5-томнай «Гісторыі Беларускай ССР» (т 5, 1975) і інш

*Тв* Технические кадры белорусской деревни и развитие сельского хозяйства республики Мн 1978 Западная Белоруссия в период экономического кризиса 1929—1933 гг Мн 1991

**ПАЛУЯ́Н** Сяргей Епіфанавіч [псеўд С Ясяновіч, крыпт С П, П Я н, 7(19) 10 1890, мяст Брагін Рэчыцкага пав Мінскай губ, цяпер Брагінскі р-н — 7(20) 4 1910], бел публі

за выключэннем крымінальных, звязаных з інтарэсамі грамадскага скарбу, і спраў паміж трымальнікамі каралеўскіх маенткаў Дзейнасць суда рэгламентавана Статутамі ВКЛ 1566 і 1588 Складаўся з некалькіх суддзяў-камісараў, якія выбіраліся бакамі з асоб аднолькавага з імі саслоўя і звання Выракі П с мелі моц рашэнняў дзярж судоў і апеляцыі не падлягалі, аднак у выпадку нязгоды паміж суддзямі пакрыўджаны бок мог падаць апеляцыю ў Трыбунал ВКЛ Пры нязгодзе аднаго з бакоў выконваць рашэнне П с іншы бок прад'яўляў вырак *земскаму суду*, які забяспечваў яго выкананне Скасаваны ўказам Мікалая І ад 25 6(7 7) 1840

**ПАЛЮ́ДДЗЕ** («хаджэнне па людзях»), 1) штогадовы аб'езд старажытнарус князямі, баярамі-ваяводамі з дружыннікамі падуладных тэрыторый і плямен Кіеўскай Русі (10—12 ст ) для збору даніны П адбывалася пасля збору ўраджаю з ліст па красавік Памеры даніны не былі вызначаны, што прыводзіла да канфліктаў Пасля забойства драўлянамі ў час П кн Ігара (945) кн Вольга вызначыла памер даніны і месцы яе збору — пагосты У Польшчы месца збору П наз «стан» 2) Назва даніны У 12 ст ў Наўгародскай і Смаленскай землях П — грашовая павіннасць, якую збіраў князь ці феадал У ВКЛ у 15—16 ст П — даніна ў форме падарункаў ад насельніцтва намеснікам або княжацкім старостам пры аб'ездзе імі валасцей *Васіль Мілаванаў*

**ПАЛЯВА́ННЕ**, здабыча дзікіх звяроў і птушак з мэтаю іх выкарыстання ў гаспадарцы, для забеспячэння свайго існавання, адна з самых стараж форм гасп дзейнасці чалавека У каменным веку П — асн занятак першабытнага чалавека, які забяспечваў яго ежай (мяса, тлушч), адзеннем (скура, воўна, футра, пух), сыравінай для вытв-сці прылад працы, зброі, амулетаў, чурынгаў, упрыгожанняў (іклы, біўні, косці, сухажыллі, скура), буд матэрыялам і палівам (чарапы, косці, рогі, скура, тлушч) Узровень развіцця вытв-сці і віды паляўнічай зброі (сродкі паляўніцтва) вызначалі аб'екты і спосабы П і ўдасканальваліся ад эпохі да эпохі Разам з тым яны захоўвалі мясцовыя, іншы раз этнавызначальныя асаблівасці На пачатку людзі палявалі на жывел, якія ім трапляліся, пры дапамозе выпадкова знойдзеных палак і камянёў У сярэднім палеаліце яны выкарыстоўвалі розныя рубілы, востраканечнікі, а таксама коп'і з масіўнымі наканечнікамі, якімі маглі здабываць мамантаў, шарсцістых насарогаў, пячорных мядзведзяў У верхнім палеаліце з крамяневых пласцін выраблялі разнастайныя наканечнікі дроцікаў, пазней стрэл, выкарыстоўвалі кап'якідальнікі, рагаціны і інш У канцы палеаліту палявалі пераважна на паўн аленя, з рагоў якога выраблялі наканечнікі гарпуноў або коп'яў Паводле наскальных малюнкаў і выяў на сценах пячор, у час П на дзікіх жывел выкарыстоўвалі загоны да абрываў, яроў са стромкімі схіламі і ў дрыгву, аблавы з нагонкай, лоўчыя ямы, падыход або скрадванне, часам з маскіроўкай пад скурай жывелы Пасля апошняга зледзянення і ўсталявання сучаснай геалагічнай эпохі (галацэну) узнавіліся лясы і значна ўзбагаціўся жывельны свет Мамант і шарсцісты насарог зніклі, а статкі паўн аленяў адышлі далека на Пн Быў прыручаны сабака, вынайдзены і пашырыліся лук і стрэлы, прашча, больш разнастайнымі сталі спосабы П Акрамя калектыўных, пачалі выкарыстоўваць групавыя і індывідуальныя віды П, заснаваныя на добрых ведах нораваў, звычак і паводзін звяроў Прадукцыйным было П метадам аблавы з нагонкай жывел на лінію паляўнічых з засады, пошук здабычы па следу Развіліся і неактыўныя спосабы П, пры якіх выкарыстоўваліся самалоўныя прылады і прыстасаванні лоўчыя ямы, пасткі, петлі, самастрэлы, сеткі, сілкі і інш Некат звяроў і птушак прываблівалі Асн аб'ектамі П былі высакародны алень, бабер, дзік, зубр, казуля, лань, лось, мядзведзь, тур, тарпан, дробныя пушныя звяркі і інш У раннім неаліце палявалі пераважна на дзіка, лася, высакароднага аленя, тарпана, бабра, зубра або тура, мядзведзя і казулю У познім неаліце сталі больш здабываць дзіка і лася, меней тарпана, бабра, аленя, палявалі на дробнага пушнога звера і вадаплаўную птушку Некат прылады П, вынайдзеныя ў неаліце (ступа, калодка, торгала, апчэп, ваўкайня), дайшлі да нашых дзён З пераходам да вытв гаспадаркі ў бронзавым веку П адышло на другі план, хоць і адыгрывала значную ролю Удасканальвалася паляўнічая зброя, пры П выкарыстоўвалі верхавую язду На працягу многіх стагоддзяў лук быў асн паляўнічай зброяй У раннім сярэдневякоўі ен быў удасканалены, а з 12 ст пашырылася куша (арбалет) з кольбай, ложам і механічным напінаннем цецівы Наканечнікі стрэл адрозніваліся разнастайнасцю форм у залежнасці ад таго, на якога звера палявалі Для П на птушак і футравых звяроў выкарыстоўвалі касцяныя наканечнікі з тупым уплошчаным канцом Куніц, собаляў, ваверак, гарнастаяў, выдраў, лісоў здабывалі самалоўнымі прыстасаваннямі З канца 15 ст пашырылася П з агнястрэльнай зброяй (напачатку сярод знаці, а з сярэдзіны 16 ст і сярод сялян) Да канца 19 ст карысталіся шомпальнымі стрэльбамі ручніцамі губчастымі («звярынымі» і «птушынымі»), крамянёвымі («крамзелямі» і «сакалоўкамі»), аднаствольнымі, пазней двухствольнымі дубальтоўкамі («пістонаўкамі»), у канцы 19 — пач 20 ст «бярданкамі» — стрэльбамі з зарадамі патроннага тыпу На працягу тысячагоддзя П мела характар варварскай забавы для прывілеяваных асоб, а П з агнястрэльнай зброяй і адсутнасць дзейснага кантролю прывялі да масавага знішчэння многіх відаў жывел да 17 ст зніклі туры, у сярэдзіне 18 ст — тарпаны, у пач 19 ст — высакародныя алені, у 20 ст — зубры, звяліся собалі, расамахі, бабры, чорныя зайцы, пад пагрозай знішчэння апынуліся казулі, ласі, мядзведзі Сучаснае П на Беларусі істотна адрозніваецца ад старажытнага Са знішчальнага яно стала адной з форм рацыянальнага прыродакарыстання, мае спартыўна-аматарскі характар, дазволена толькі членам т-ва паляўнічых і рыбаловаў у паляўнічы сезон па пуцёўках або ліцэнзіях у вызначаных для П угоддзях

*Літ* Верещагин Н К Охота первобытного человека и вымирание плейстоценовых млекопитающих в СССР // Материалы по фаунам антропогена СССР Л, 1979, Терехин С Ф Охота в Белоруссии Мн 1986, Цалкин В И Материалы для истории скотоводства и охоты в Древней Руси М, 1956, Щеглова В В К вопросу о животноводстве и охоте в Белоруссии в средние века // Древности Белоруссии Мн, 1969

**ПАЛЯВІ́К**, вобраз у старадаўніх павер'ях беларусаў і інш народаў Яго ўяўлялі ў выглядзе велізарнага ценю Быў увасабленнем небяспекі, што магла натрапіць чалавека ў полі, на лузе Паводле павер'яў, садзейнічаў або шкодзіў людзям клапоцячыся пра ўрадлівасць палеў і лугоў, адпужваў шкодных насякомых або нахіляў да зямлі жыта і травы, скручваў іх, страшным абліччам і свістам палохаў людзей, прывальваў іх да зямлі, паражаў санцапекам і нават мог забіць Зімой нібыта зацярушваў снегам дарогу, прымушаў блукаць падарожных У бел фальклоры вобраз П адлюстраваны пераважна ў былічках *Міхаіл Піліпенка*

**ПАЛЯ́КІ** (саманазва polacy), 1) народ заходнеславянскай моўнай падгрупы, асн насельніцтва Польскай Рэспублікі Гавораць на польскай мове У Беларусі 417,8 тыс чал (перапіс 1989), 16% з іх лічаць роднай моваю польскую, 80% — беларускую

Этнакульт сувязі бел і польск народаў маюць даўнія традыцыі Перасяленне мазураў (польская этнагр група) на З сучаснай Беларусі пачалося ў 12—13 ст Узмацненне польскага ўплыву на Беларусі прыпадае на перыяд пасля *Люблінскай уніі 1569*, калі была створана федэратыўная дзяржава *Рэч Паспалітая* Частка бел насельніцтва, асабліва прадстаўнікі вышэйшых саслоўяў, прымаючы каталіцкую веру, мяняла сваю нац прыналежнасць на польскую Перасяленне ж на бел землі груп П з этнічных польскіх зямель не было масавым, бо *Статут Вялікага княства Літоўскага 1588* уводзіў абмежаванні для польскай шляхты на заняцце дзярж пасад і надзяленне зямлей у ВКЛ Сваю этнічную спецыфіку захоўвалі групы мазурскіх перасяленцаў, т зв *буднікаў* Многія дзярж і культ дзеячы ВКЛ 16—18 ст былі П (*Кішкі, Кавячынскія, Гасеўскія, Патоцкія, С Будны*, П *Кахлеўскі*, Д *Ланчыцкі*, А *Волан*, Я *Ласіцкі*, П *Скар-*

бернях Расіі — праваслаўныя, а ва ўсх губернях — каталікі Цяпер у Новасібірскай, Томскай (напр с Беласток Крывашэінскага р-на) і інш абл Расійскай Федэрацыі называюць польскімі пасельшчы беларусаў-каталікоў У Свабодненскім р-не Амурскай вобл група перасяленцаў-католікаў з усх Беларусі называе сябе П-беларусцамі (вёскі Рагачоўка, Серабранка)

*Літ* Лушчыцкі Я Саветы нацыянальна-польскага Дзяржынскага раена на новым этапе Мн, 1932, Палескі Я Шляхам перамог [саўгас «(Вялікія) Навасёлкі»] Мн, 1932, Сташэўскі В П Койданаўская МТС Нарыс Мн, 1931, Валахановіч А И, Кулагин А Н Дзержинщина Прошлое и настоящее Мн, 1986, Бараноўскі Я І За дружбу народаў Дзейнасць Кампартыі Беларусі па ажыццяўленню ленінскай нац палітыкі ў 1921—1925 гг Мн, 1972, СССР и Польша Интернациональные связи — история и современность Т 1 М, 1977, Карашчанка І Гуды Кайшадорскага раена Літоўскай Рэспублікі // Рунь 1998 № 5—6, Iwanow M Polacy w Związku Radzieckim w latach 1921—1939 Wrocław, 1990.

*Ігар Карашчанка, Анатоль Валахановіч*

**ПАЛЯКÓЎ** Іван Яўцеевіч [н 12(25) 11 1914, Гомель], дзяржаўны і парт дзеяч БССР Герой Сац Працы (1973) Скончыў ВПШ пры ЦК ВКП(б) (1949) З 1933 электразваршчык на Гомельскім паравозавагонарамонтным з-дзе, потым 1-ы сакратар Навабеліцкага райкома ЛКСМБ, камсорг ЦК ВЛКСМ і сакратар к-таў камсамола на прадпрыемствах Гомеля, Магілева, Куйбышава У Вял Айч вайну адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камсам-маладзежнага падполля і партыз руху ў Гомельскай вобл З ліст 1942 сакратар *Гомельскага падпольнага абкома ЛКСМБ*, у жн—ліст 1943 камісар 1-й Гомельскай партыз брыгады З канца 1943 1-ы сакратар Гомельскага, Мінскага абкомаў ЛКСМБ З 1949 1-ы сакратар Віцебскага гаркома, Рэчыцкага райкома КПБ У 1956 старшыня Гомельскага аблвыканкома, у 1957—64 1-ы сакратар Гомельскага, са снеж 1964 Мінскага абкомаў КПБ У 1977—85 Старшыня Прэзідыума ВС БССР, адначасова да 1985 нам Старшыні Прэзідыума ВС СССР Чл ЦК КПБ з 1952, чл Прэзідыума ЦК КПБ у 1965—66, чл Бюро ЦК КПБ у 1966—85 Канд у чл ЦК КПСС у 1961—66, чл ЦК КПСС у 1966—85 Дэп ВС БССР у 1951—59, 1977—90, ВС СССР у 1958—89

*Тв* В лесах под Чечерском // Партийное подполье в Белоруссии, 1941—1944 Страницы воспоминаний Витеб, Могилев, Гомел, Полес обл Мн, 1985

*Літ* Алешко В, Потемкин М Родники // Труд, талант, доблесть Мн, 1981 Ч 2

*Расціслаў Платонаў*

**ПАЛЯ́НАЎСКІ МІР 1634**, мірны дагавор паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай, падпісаны ў чэрвені ў в Сямлёва на р Палянаўка паміж Вязьмай і Дарагабужам П м завяршыў *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34* (т зв Смаленская вайна) У перагаворах з рас боку ўдзельнічалі баярын Ф.І Шарамецеў і кн А.М Львоў, ад Рэчы Паспалітай — І Я Палякоў

каронны канцлер біскуп Я Задзік, гетман польны ВКЛ К Радзівіл і інш Паводле ўмоў П м Расія атрымала г Сярпейск і крэпасці Трубчэўск, Ахтырку і Лебядзін Уладзіслаў IV афіцыйна адмовіўся ад прэтэнзій на рас трон і абавязаўся вярнуць арыгінал крыжацалавальнага запісу маскоўскіх баяр 1610 аб яго выбранні рус царом Бакі дамовіліся вывесці войскі з захопленых тэрыторый і абмяняцца палоннымі без выкупу і затрымкі

*Літ* Поршнев Б Ф На путях к Поляновскому миру 1634 г // Международные отношения Политика Дипломатия XVI—XX в М, 1964

**ПАЛЯ́НЕ** (ад стараж-слав поле), 1) усходнеславянскае племяннóе аб'яднанне, якое жыло на берагах Дняпра ад Любеча да Родні, а таксама па ніжнім цячэнні Росі, Сулы, Стугны, Цецерава, Ірпеня, Дзясны і Прыпяці Палянская зямля суседнічала з тэр *драўлян, радзімічаў, дрыгавічоў*, севяран Тут праходзіў гандл *шлях «з варагаў у грэкі»* У 9 ст П трапілі пад уладу Хазарскага каганата, плацілі яму даніну У 880-я г землі П захапіў наўгародскі кн Алег і яны сталі ядром Стараж-рус дзяржавы *(Кіеўскай Русі)* Буйнейшыя гарады Кіеў, Пераяслаў, Вышгарад, Белгарад, Канеў і інш У часы феад раздробленасці на зямлі П узніклі самастойныя *Кіеўскае княства, Чарнігаўскае княства*, Пераяслаўскае і інш Апошні раз у летапісах назва «П» згадвалася пад 944 2) Заходнеславянскае племянное аб'яднанне ў басейне р Варта ў 8—10 ст З П паходзіць дынастыя Пястаў, якая аб'яднала пад сваей уладай у канцы 10 ст ў Велікапольскую дзяржаву ўсе польскія землі Першы правіцель П — Мешка І [960—992] Племянная назва П стала асновай для этноніма ўсей польскай народнасці

**ПАЛЯ́НЫ**, веска ў Жупранскім с/с Ашмянскага р-на Каля аўтадарогі Ашмяны—Астравец (2 км) За 7 км на Пн ад Ашмян, 13 км ад чыг ст Гудагай, 220 ж, 91 двор (1998)

Вядома з 16 ст як маентак у Ашмянскім пав ВКЛ З 1750 уласнасць Янкоўскіх 7 5 1794 каля П у час *паўстання 1794* адбылася бітва паміж паўстанцамі (камандзір дывізіі Я Ясінскі) і царскім войскам (камандзір атрада Дзееў) З 1795 у Рас імперыі, у Ашмянскім пав Віленскай губ (у 1797—1801 у Літоўскай губ) У 1864 цэнтр воласці, у весцы 80 рэвізскіх душ, нар вучылішча і бровар, у фальварку 25 рэвізскіх душ У 1886 у весцы 175 ж, 26 двароў, нар вучылішча, каталіцкая капліца, шынок У 1905 у П 292 ж У 1920—22 у складзе *Сярэдняй Літвы*, з 1922 у складзе Польшчы З 1939 у БССР, з 12 10 1940 цэнтр сельсавета ў Ашмянскім р-не З 1988 у Жупранскім с/с, у складзе калгаса «Маяк» Базавая школа, клуб, фельч-акушэрскі пункт, аддз сувязі, магазін Помнік землякам, якія загінулі ў Вял Айч вайну Радзіма польскага паэта, гісторыка і публіцыста Ч *Янкоўскага*

*Валянціна Віталёва*

**«ПАМЕ́НТНІК НАУКÓВО-ЛІТЭРÁЦКІ»** («Pamiętnik naukowo-literacki», «Навукова-літаратурны дзеннік»), літаратурна-мастацкі альманах радыкальна-дэмакр кірунку Выдаваўся ў 1849—50 у Вільні на польскай мове Р *Падбярэскім* Выйшлі 2 т ў 6 кнігах Падзяляў эстэт погляды В Р Бялінскага і натуральнай школы, крытыкаваў ням ідэаліст філасофію за адарванасць ад жыцця Разам з тым сцвярджаў прынцыпы рамантызму, генетычна звязанага з ням рамантычнай думкай і філасофіяй Г Гегеля Змяшчаў творы А Адынца, Ю Гарайна, Э Жалігоўскага, Ю Корсака, У Сыракомлі і інш ураджэнцаў Беларусі Абвінавачаны ў распаўсюджванні «варожага ўраду духу» і забаронены

*Уладзімір Мархель*

**ПАМЕ́СЦЕ**, форма феад зямельнага ўладання ў Расіі, пры якім уладальнік абавязаны несці ваенную ці інш службу дзяржаве Пашырана ў 15 — пач 18 ст Масавая раздача П феадалам пачата ў канцы 15 ст ў Наўгародскай і інш землях У 16 ст колькасць П пабольшала ў выніку раздачы зямель, канфіскаваных у баяр і манастыроў, а таксама дварцовых і чарнасошных зямель Юрыд статус П вызначаны Судзебнікам 1497 Уладальнікі П — *памешчыкі*, або дваране, былі асн апорай дзярж улады ў барацьбе з рэшткамі феад раздробленасці У адрозненне ад *вотчыны* П даваліся дваранам на пэўны час, уладальнік не мог яго прадаць, перадаць па спадчыне З ростам паліт значэння *дваранства* як прывілеяванага саслоўя з сярэдзіны 16 ст пачаўся працэс юрыд збліжэння П і вотчыны памешчыкі атрымалі права перадаваць П ў спадчыну і распараджацца імі Пасля ўказа Пятра І аб адзінаспадчыннасці (1714) П зліліся з вотчынамі ў адзіны від зямельнай уласнасці феадалаў — «нерухомую маемасць» *(маентак)* У 18 — пач 20 ст тэрмін «П» ўжываўся як адна з назваў маенткаў буйных зем-

леўладальнікаў (гл *Землеўладанне*) Ліквідаваны Кастр рэвалюцыяй 1917

У Беларусі першыя звесткі пра раздачу зямлі пры ўмовах службы адносяцца да сярэдзіны 13 ст Паняцце «П» ў сэнсе «зямельная маемасць» ужывалася рэдка Зямельныя ўладанні («имения»), якія феадалы-васалы атрымлівалі ад вял князя ці паноў за ваен і інш службу, называлися «даніна» або «выслуга» Землі даваліся ў часовае («дачаснае») і ў пастаяннае («вячыстае») уладанне З павелічэннем паліт ролі *шляхты* і аслабленнем улады вял князя ў 15—16 ст адбываўся працэс пераўтварэння дачасных данін у вотчыны, якія сталі пануючай формай феад зямельнай уласнасці Да сярэдзіны 16 ст большасць зямельнага фонду ВКЛ стала ўласнасцю шляхты Неабмежаваныя правы шляхты на маенткі замацаваны шэрагам прывілеяў, а таксама Статутамі ВКЛ 1529, 1566, 1588

*Літ* Довнар-Запольский М Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах Т 1 Киев, 1901, Козловский П Г Землевладение и землепользование в Белоруссии в XVIII — первой половине XIX в Мн, 1982, Мелешко В И Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии (вторая половина XVII — XVIII в) Мн, 1975, Пичета В И История сельского хозяйства и землевладения в Белоруссии Ч 1 Мн, 1927, Спиридонов М Ф Закрепощение крестьянства Беларуси (XV—XVI вв) Мн, 1993

*Міхаіл Спірыдонаў*

**ПАМЕ́ШЧЫКІ**, сярэднія і буйныя землеўладальнікі ў Расіі з 15 ст да 1917 З канца 15 ст за ваенную і дзярж службу цар узнагароджваў дваран зямлей (памесцем), заселенай сялянамі Першыя 2 стагоддзі іх землеўладанне было ўмоўным, давалася на час службы без права продажу і перадачы ў спадчыну Паводле Указа аб адзінаспадчыннасці (1714) *памесце* прыраўнавана да *вотчыны* на правах спадчыны, як «нерухомая маемасць» У адпаведнасці з Маніфестам аб вольнасці дваранства (1762) П былі поўнасцю вызвалены ад абавязковай службы, пачалі выконваць паліцэйска-адм функцыі ў сваіх *маентках*, афіцыйна карыстацца манапольным правам на валоданне населенымі землямі «нерухомых маемасцей» Па меры развіцця таварна-грашовых адносін П павялічвалі колькасць ворнай зямлі за кошт памяншэння зямельных надзелаў сялян Па 10-й рэвізіі 1859 на Беларусі было 9072 П, яны мелі 1 146 712 прыгонных сялян мужчынскага полу З іх дробныя П (да 100 душ на ўладальніка) складалі 73,3% і валодалі 16,5% прыгонных, буйныя П (больш за 500 душ) складалі 4,2%, але мелі 44,4% прыгонных У бел -літ губернях у канцы 1850-х г *паншчыну* выконвалі 92,3% прыгонных З сярэдзіны 19 ст П ўсе часцей закладалі ў крэдыт сялян сваіх маенткаў, у 1856 на Беларусі было закладзена 56,5% сялян Пасля адмены прыгоннага права ў 1861 гал паказчыкам эканам заможнасці П стала зямельная ўласнасць Пры капіталізме права набыць зямлю ва ўласнасць атрымалі ўсе саслоўі, таму працэнт дваранскай зямлі памяншаўся у 1861 ен складаў 95%, у 1875—73,5, у 1887—65,9, у 1900—52,9, у 1907—44% У бел губернях гэты працэс адбываўся больш павольна, таму што з-за антырасійскай настроенасці шляхты царскі закон 1865 забараніў палякам набываць зямлю ў Зах краі У складзе П з'явіліся прадстаўнікі розных сац слаеў У 1905 па 50 губернях еўрап Расіі з 27 834 буйных зямельных уладанняў у прыватнай уласнасці П розных саслоўяў было ў працэнтах з дваран — 65, з духоўных асоб — 0,3, з купцоў і ганаровых грамадзян — 17, з мяшчан — 4,3, з сялян — 10,7, іншых саслоўяў — 2,3, замежных падданых — 0,4 П ліквідаваны ў кастр 1917

*Літ* Ковальченко И Д Русское крепостное крестьянство в первой половине XIX в М, 1967, Липинский Л П Развитие капитализма в сельском хозяйстве Белоруссии (II половина XIX в) Мн, 1971

*Васіль Мілаванаў*

**ПАМІНА́ЛЬНІК**, гл *Сінодзік*

**ПАМІ́НКІ**, абрады ўшанавання памяці памерлага чалавека, звязаны з *культам продкаў* і верай у замагільнае існаванне Звычайна адбываліся ў доме, дзе памёр чалавек, адразу пасля пахавання і ў наступныя пасля смерці дні 3-і (трацціны), 9-ы (дзявяціны), зрэдку 20-ы (паўсарачыны), 40-ы (сарачыны), паўгодкі Цыкл П па нябожчыку завяршаўся гадавінай яго смерці Затым ішлі агульныя П па ўсіх памерлых родзічах — *дзяды* На першыя П запрашалася ўся радня і ўдзельнікі пахавання, на наступныя — блізкія сваякі На П маглі прысутнічаць свяшчэннік, старцы У правядзенні П назіраліся і язычніцкія элементы (галашэнні), і хрысціянскія (чытанне малітваў, запальванне свечак) Жалобны стол пачынаўся звычайна з куцці або кануна, які кожны браў з агульнай міскі па тры лыжкі У залежнасці ад мясц традыцый існавалі розныя рытуальныя стравы клецкі, боб гарачы хлеб, які трэба было разрываць рукамі, і інш Ужывалася на П і гарэлка Асобную чарку, як і талерку з ядою, ставілі для нябожчыка, каб душа яго, пачаставаўшыся, у наступным спрыяла тым, хто застаўся пасля яго ў хаце і на гаспадарцы Акрамя жалобнага стала ў хаце, П праводзіліся на могілках У наступны дзень пасля пахавання блізкія ішлі «будзіць нябожчыка» на яго магілу, дзе падпраўлялі насып, памінаді, галасілі Месцамі захаваліся такія памінальныя звычаі, як прыкладзіны У гэты дзень упарадкоўвалі магілу — абкладвалі яе дзернам, ставілі крыж Тое ж рабілі і ў іншыя поры года — на *радаўніцу* (на большасці тэр Беларусі) і напярэдадні семухі (на У Беларусі) Традыцыйны абрад П захоўваецца і ў наш час

*Уладзімір Васілевіч*

**ПАМО́РСКАЯ КУЛЬТУ́РА**, культура тваравых урнаў, усходнепаморская культура, культура падклешавых пахаванняў, вейхэраўска-краташынская культура, археалагічная культура плямен, якія ў 7—2 ст да н э насялялі тэр Польшчы, ПдЗ Беларусі і ПнЗ Украіны Падзяляецца на 3 этапы 7 — сярэдзіна 6 ст, сярэдзіна 6—5 ст, 4—2 ст да н э На тэр Беларусі яе помнікі маюць перыферыйны характар і датуюцца 4—2 ст да н э Прадстаўлены неўмацаванымі паселішчамі і бескурганнымі могільнікамі з абрадам трупаспалення Асн даследчыкі Ю У Кухарэнка, В Б Нікіціна-Караткевіч, В С Вяргей і інш На Бел Палессі зафіксавана каля 20 пунктаў з матэрыяламі П к Селішчы размяшчаліся паблізу рэк і азёр,

Кераміка паморскай культуры

забудоўваліся невял паўзямлянкамі і наземнымі жытламі слупавой канструкцыі Рэшткі наземнага жытла прамавугольнай формы пл 18 м² выяўлены на паселішчы Кусічы (Агароднікі) у Камянецкім р-не на беразе р Лясная У якасці падмурка ў пабудове выкарыстаны камяні-валуны, на пясчанай падлозе размяшчаліся 2 агнішчы, складзеныя з каменняў На Беларусі, на тэр ад Зах Буга да р Льва, адкрыта 8 могільнікаў П к (каля весак Скорбічы, Трасцяніца, Ратайчыцы, Камень, Аздамічы, гарадоў Драгічын і Пінск), на якіх выяўлена ад 1 да 5 пахаванняў Яны прадстаўлены 3 тыпамі — падклешавыя, урнавыя і ямныя Нябожчыкаў спальвалі па-за межамі могільніка, рэшткі спалення ссыпалі на дно ямкі або змяшчалі ў гліняной урне, у шэрагу выпадкаў урну накрывалі зверху вял гаршком—клешам У магілы ставілі разнастайны посуд, клалі побытавыя рэчы і ўпрыгожанні жалезныя і бронзавыя фібулы раннелатэнскай схемы, спіральныя бранзалеты, кольцы, каменныя і шкляныя пацеркі Асн маса знаходак — ляпны посуд (таўстасценныя гаршкі з бугрыстай і шурпатай паверхняй, глянцаваныя міскі, збаны, вазы, накрыўкі, кубкі, падстаўкі) Насельніцтва займалася земляробствам і жывелагадоўляй, чорнай і каляровай металургіяй, ганчарствам і інш П к мела поліэтнічны характар Ёсць меркаванні пра ўваходжанне яе ў склад праславян

*Літ* Czopek S Południowo-wschodnia strefa kultury pomorskiej Rzeszów, 1992, Кухаренко Ю В Памятники поморской культуры в Белоруссии и на Украине // Сов археология 1965 № 1, Вергей В С Западный ареал милоградской культуры // Гіст археал зб Мн, 1995 № 7

*Валянціна Вяргей*

**ПАМЯТНАЕ**, у ВКЛ плата суду за выйграную справу, працэс Незалежна ад значнасці выйгрышу, яго грашовай сумы і колькасці ўдзельнікаў, на карысць якіх вырашана справа, паводле Статута ВКЛ 1588 П раўнялася 4 грошам ад кожнага Неабходна было плаціць П пры сведчанні судом здзелак аб набыцці нерухомай маемасці Напр, асоба, якая атрымлівала маентак, павінна была плаціць суддзі 4 грошы, падсудку — 2 грошы За выпіску з кнігі дакумента аб гэтай здзелцы і прыкладанне да яго пячаткі плата спаганялася асобна

**ПАМЯТНЫЯ КНІ́ЖКІ ГУБЕ́РНЯЎ**, афіц урадавыя выданні, што выходзілі ў большасці губерняў Расійскай імперыі на рус мове Часам выдаваліся па звужанай праграме («Адрас-каляндар губерні», «Адрас каляндар і даведачная кніга», «Памятная кніжка і каляндар») Мэта выданняў — публікаваць звесткі для рознабаковага вывучэння губерні Выдаўцы — губернскія стат к-ты З 1860 «П к г» выходзілі ў Віцебскай, Гродзенскай і Мінскай, з 1861 — у Магілёўскай губ Мелі раздзелы адрас-каляндар з пералікам губернскіх і павятовых урадавых і грамадскіх устаноў і іх супрацоўнікаў, звесткі пра адм падзел, пошту, тэлеграф, шляхі зносін, ф-кі і з-ды, навуч установы, музеі, б-кі, кнігарні і друкарні на тэр губерні, статыстычны (тут друкаваліся звесткі па с-г, дэмаграфічнай, гандл, эканам статыстыцы губерняў) У літ-навук раздзеле друкаваліся архіўныя матэрыялы, пісцовыя і плацежныя кнігі, летапісы гарадоў, артыкулы па мясц гісторыі, эканоміцы, этнаграфіі, фальклоры, біяграфіі і некралогі мясц дзеячаў У памятнай кнізе па Віцебскай губ былі змешчаны працы «Віцебск гістарычны нарыс» (1864) і «Пра кірмашы Віцебскай губерні» (1867) А М Семянтоўскага, «Гістарычны лес Віцебскай губерні з канца 12 да пачатку 16 ст» (1866—67) П Дружылоўскага, «Пра народныя святы Себежскага павета» (1867) Ф Сярэбранікава, «Беларускія загадкі» (1898) М Я Нікіфароўскага, у кнізе па Гродзенскай губ — «Абрады і звычаі заходнярускіх сялян» (1869) М А Дзмітрыева, «Нарыс дамашняга жыцця і нораваў вышэйшых саслоўяў у Літве ў 16 і 17 ст» (1869), «Нарыс гісторыі горада Гродна, складзены на аснове друкаваных крыніц» (1890) Я Ф Арлоўскага, па Магілёўскай губ — «Хроніка губерні за апошняе дзесяцігоддзе» (1907), па Мінскай губ — «Нататкі пра плямены Мінскай губерні» (1861) І Зяленскага і інш Беларускі матэрыял змяшчалі і памятныя кніжкі Віленскай губ

*Літ* Збралевич Л И Местные издания Белоруссии и некоторые вопросы их изучения // Из истории книги, библиотечного дела и библиографии Белоруссии Мн, 1970, Сакольчик А.А. Дооктябрьская книга на русском языке о Белоруссии (1768—1917 гг) 2 изд Мн, 1976

*Лідзія Збралевіч*

**«ПА́МЯЦЬ»**, шматтомнае серыйнае выданне энцыклапедычнага характару гісторыка-дакументальных хронік раенаў і гарадоў Беларусі Выдаецца паводле пастановы ўрада Рэспублікі Беларусь «Аб выданні ў рэспубліцы кніг Памяці», на бел мове (асобныя дакументы і матэрыялы на рус мове) Плануецца выдаць да 140 тамоў пра кожны раен Беларусі, абласны цэнтр і буйны горад Для падрыхтоўкі рукапісаў створаны раенныя (у гарадах — гарадскія) камісіі, у стварэнні кніг прымаюць удзел вучоныя і краязнаўцы Пры Дзяржкамдруку рэспублікі створаны Арганізац-метадычны цэнтр Выданне пачата выд-вам «Беларуская Энцыклапедыя» імя П Броўкі ў 1985 («Памяць Гісторыка-дакументальная хроніка Шуміліінскага раена»), ім жа распрацаваны першыя метадычныя ўказанні, да 1998 выдадзена больш за 20 кніг Над выданнем кніг серыі працуюць усе дзярж выд-вы, на 1 6 1999 выдадзена каля 59 кніг Сярэдні аб'ем кожнага тома 60—65 улікова-выдавецкіх аркушаў Кожны том змяшчае да 600 ілюстрацый, у пач кнігі — каляровыя ўклейкі У кожнай кнізе ў звароце да чытача раскрываецца яе змест і характар, змяшчаецца даведка пра раен (горад), даецца геагр карта 1-ы раздзел «Ад часоў першабытных — 1917» мае падраздзелы «Зямля нашых продкаў» (археал характарыстыка раена, спіс археал помнікаў), «У складзе Полацкага (Тураўскага, Смаленскага або Чарнігаўскага) княства», «У складзе Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай», «У складзе Расійскай імперыі» 2-і раздзел ахоплівае перыяд з 1917 да 1941 У ім расказваецца пра ўстанаўленне сав улады, гасп будаўніцтва, развіцце культуры, асветы, аховы здароўя і інш Змешчаны спісы ахвяр паліт рэпрэсій, нарысы і ўспаміны Цэнтр месца ў выданні прысвечана перыяду Вял Айч вайны, які мае падраздзелы пачатак вайны, акупацыя і акупац рэжым, падполле і партыз рух, вызваленне, першыя аднаўленчыя работы і дапамога фронту, землякі на франтах вайны Змяшчаюцца спісы воінаў Чырв Арміі, што загінулі ў час абароны і вызвалення раена (горада) і пахаваны на яго тэрыторыі, воінаў-землякоў, якія загінулі ці прапалі без вестак, партызан, падпольшчыкаў, удзельнікаў антыфаш руху, асоб, якія садзейнічалі партыз руху і падполлю, членаў іх сем'яў і мірных жыхароў — ахвяр фаш тэрору Раздзел «1945 — да нашых дзен» уключае падраздзелы «Пасля вызвалення Айчыны», «У мірнай працы», «Вызначыліся працай», «Яны нарадзіліся у раене (горадзе)» У раздзеле «Матэрыяльная і духоўная спадчына» змешчаны нарысы пра арх помнікі, культавую культуру, этнаграфію, нар промыслы, фальклор, музеі, маст калектывы Заключны раздзел кнігі «З гісторыі населеных пунктаў» нагадвае маленькую энцыклапедыю нас пунктаў раена, у т л і тых, што перасталі існаваць Нарысы па раздзелах і падраздзелах падмацоўваюцца вытрымкамі з пісьмовых помнікаў летапісных звестак, дакументаў, інвентароў, дыярыушаў, радаводаў знакамітых асоб, дзярж указаў, распараджэнняў, старадрукаў, успамінаў вядомых людзей і інш Храналагічны ахоп падзей і геагр дэталевасць асвятляемых рэгіенаў ставяць гэтае выданне ў лік унікальных, якое не мае аналагаў у айч кнігавыданні Кнігі «П» становяцца важнымі крыніцамі патрыят выхавання і абуджэння гіст памяці, грамадзянскай годнасці, вучаць любіць свой край, сваю Радзіму

*Софія Самуэль*

**ПАНАМАРО́Ў** Сяргей Аляксеевіч [18(31) 12 1908, в Мікалаеўка Гомельскага пав, цяпер у Буда-Кашалеўскім р-не — 17 10 1968], Герой Сав Саюза (1945) З 1932 у НКУС, з 1939 у Чырв Арміі У Вял Айч вайну з чэрв 1941 на Зах, Паўн-Зах, Бранскім, Бел, 1-м Укр, 3-м і 1-м Прыбалт, 1-м Бел франтах Старшы ад'ютант стралк батальена капітан П вызначыўся ў баях у час прарыву абароны ворага ў Польшчы і ўступлення сав войск на тэр Германіі распрацаваў план бою, забяспечыў сувязь батальена з інш падраздзяленнямі Да 1946 у Сав Арміі, потым на гасп рабоце ў Рагачоўскім р-не

ча, П. пазбаўлены ўсіх пасад і пад націскам царадворцаў (гал. ч. Арловых) у 1781 падаў у адстаўку.

*Літ.* Лебедев П.С. Графы Никита и Петр Панины. СПб., 1883; Чечулин Н. Внешняя политика России в начале царствования Екатерины II. СПб., 1896; Гаврюшкин А.В. Граф Никита Панин. Из истории рус. дипломатии XVIII в. М., 1989.

*Яўген Анішчанка*

**ПАНКО́ВА** Софія Сяргееўна [14(27).9.1902, г. Жыздра Калужскай вобл., Расія — 13.11.1942], дзеяч рэв. руху ў Зах. Беларусі. Скончыла Маск. пед. ін-т (1926). З канца 1926 на падп. рабоце ў Зах. Беларусі: заг. аддзелаў Беластоцкага, Брэсцкага акр., Пінскага гар. к-таў КПЗБ. Дэлегат I з'езда КПЗБ (1928). За рэв. дзейнасць 22.10.1928 арыштавана польск. уладамі і зняволена. Пасля вызвалення з канца 1931 у Мінску. Працавала ў Ін-це гісторыі партыі і рэв. руху, *Мінскай школе КПЗБ*. З канца 1934 саркратар Навагрудскага, Беластоцкага, Гродзенскага акр. к-таў КПЗБ. 30.7.1935 зноў арыштавана, прыгаворана да 12 гадоў турмы. У 1939—41 старшыня Беластоцкага гаркома МОПРа. У Вял. Айч. вайну ўвосень 1942 перакінута ў акупіраваны Віцебск, з В.З.*Харужай* арганізоўвала работу патрыят. падполля. 13.11.1942 арыштавана. Закатавана ням. фашыстамі.

С.С. **Панкова**

*Літ.:* Ласковіч В.П. Тайными тропами. Док. повесть. Мн., 1974. *Васіль Ласковіч.*

**ПАНКРА́ТАВА** Ганна Міхайлаўна (9.2.1897, г. Адэса, Украіна — 25.5.1957), расійскі гісторык, дзярж. і грамадскі дзеяч. Акад. АН СССР (1953), акад. АН БССР (1940), правадз. чл. АПН РСФСР (1944). Ганаровы чл. Венгерскай АН, чл.-кар. Германскай і Румынскай АН. Засл. дз. нав. РСФСР (1943). Скончыла Новарасійскі ун-т (1917, Адэса), Ін-т чырв. прафесуры (1925). З 1925 заг. кафедры гісторыі СССР у Маск. ун-це, Акадэміі грамадскіх навук пры ЦК КПСС. У 1939—52 заг. сектара і нам. дырэктара Ін-та гісторыі АН СССР. Навук. працы па пытаннях гісторыі рабочага класа, зах.-еўрап. пралетарыяту, рэвалюцыі 1905—07 і Кастр. рэвалюцыі. У 1953—57 гал. рэдактар час. «Вопросы истории». Дзярж. прэмія СССР 1946. Чл. ЦК КПСС у 1952—57. Дэп., чл. Прэзідыума Вярх. Савета СССР 1954—57.

Г.М. **Панкратава**.

*Тв.:* Фабзавкомы и профсоюзы в революции 1917 г. М.; Л., 1927; Петербургский «Союз борьбы за освобождение рабочего класса». 2 изд. Саратов, 1940; Формирование пролетариата в России (XVII—XVIII вв.). М., 1963.

*Літ.:* Из истории рабочего класса и революционного движения: Памяти академика А.М.Панкратовой. М., 1958.

**ПАНО́Ў** Міхаіл Фёдаравіч [8(21).11.1901, в. Аўчыннікава Невельскага пав. Віцебскай губ., цяпер Пскоўская вобл., Расія — 10.5.1979], Герой Сав. Саюза (1945), ген.-лейт. танк. войск (1945). Скончыў Ваен. акадэмію механізацыі і матарызацыі (1938), Вышэйшыя акад. курсы пры Ваен. акадэміі Генштаба (1952). У Чырв. Арміі з 1919. У Вял. Айч. вайну з 1941 на Зах., Сталінградскім, Паўд., Бранскім, Бел., 1-м і 2-м Бел. франтах: камандзір танк. дывізіі, нам. камандуючага арміяй, камандзір 1-га гвардз. танк. корпуса. Удзельнік Гомельска-Рэчыцкай, Калінкавіцка-Мазырскай, Бел., Нараўлянскай, Усх.-Прускай аперацый, вызвалення Бабруйска, Мінска. Да 1967 на адказных пасадах у Сав. Арміі. Чл. ЦК КПБ у 1956—59. Дэп. ВС БССР у 1951—59. Ганаровы грамадзянін г. Калінкавічы і Мар'іна Горка.

М.Ф. **Паноў**.

**ПАНСІЁНЫ ЖАНО́ЧЫЯ**, навучальныя ўстановы з агульнаадук. курсам у канцы 16 — сярэдзіне 19 ст. На Беларусі яны з'явіліся, калі тут пачалі дзейнічаць жаночыя каталіцкія манаскія ордэны. Першы жаночы кляштар адкрыты ў 1590 бенедыкцінкамі ў Нясвіжы на сродкі Мікалая Радзівіла «Сіроткі». У 17 ст. жаночыя манаскія абшчыны дзейнічалі ў большасці гарадоў Беларусі. Практычна пры кожным кляштары дзейнічалі П.ж. Для дзяўчынак з незаможных сем'яў яны былі адкрыты пры кляштарах шарытак (сёстры міласэрнасці) і феліцыянак. Шляхцянак бацькі аддавалі ў кляштары візітак, бернардзінак, бенедыкцінак і сакрамэнтак. Напачатку ў П.ж. выкладаліся толькі найб. неабходныя прадметы — чытанне, пісьмо, лічэнне, рукадзелле, танцы і музыка. З сярэдзіны 18 ст. выкладанне стала арыентавацца на Францыю і яе культуру, панавала і франц. мова выкладання. Спробу манапалізацыі жаночай адукацыі ў Рэчы Паспалітай зрабілі марыявіткі, манаскі ордэн якіх з'явіўся тут у 1737. П.ж. марыявітак дзейнічалі ў Мінску, Мсціславе, Слоніме, Полацку, Оршы, Віцебску, Гродне, Навагрудку, Мазыры, Пінску, Бабруйску, Краславе. З 1770-х г. пачалося рэфармаванне жаночай асветы. У 1775 *Адукацыйная камісія* падрыхтавала рэкамендацыі для настаўніц П.ж. з прыблізнай вучэбнай праграмай. Меркавалася стварыць у краіне шырокую сетку П.ж. (свецкіх і манаскіх), адначасова ўведзена патрабаванне абмежаваць колькасць дзяўчынак у кожнай з іх (не больш за 12 асоб). У навуч. курс планавалася ўключыць польскую мову, арыфметыку, гісторыю, геаграфію, рэлігію, мараль. Але пры ажыццяўленні праекта Камісія сутыкнулася з цяжкасцямі кантролю за дзейнасцю П.ж. Для гэтага ствараліся жаночыя «Эфараты», куды ўваходзілі найб. адукаваныя жанчыны ваяводстваў, якія павінны былі непасрэдна кіраваць гэтай галіной адукацыі. Камісія выдала для выкладчыц шэраг падручнікаў, у якіх былі змешчаны метадалагічныя інструкцыі па асновах выхавання, у т.л. падрыхтаваных М.Пракаповічам. Уваходжанне бел. земель у склад Рас. імперыі не змяніла становішча з П.ж. Яны працягвалі дзейнічаць практычна ў кожным горадзе і мястэчку Беларусі. Найб. вядомымі пансіёнамі былі: візітак і ма-

раны У 1940—41 архіепіскап гродзенскі у 1941—44 ва ўмовах ваен акупацыі мітрапаліт мінскі і ўсяе Беларусі У ліп 1944 пакінуў Беларусь і выехаў у Германію У 1946 разам з большасцю бел епіскапаў, якія эмігрыравалі, перайшоў пад юрысдыкцыю Рус праваслаўнай царквы ў замежжы

*Літ* Мартос А Беларусь в исторической государственной и церковной жизни Мн 1990 С 268—284 *Генадзь Шэйкін*

**ПАНЦЫР** (ад лац pantex жывот), засцерагальны даспех стараж і сярэдневяковага воіна для абароны тулава Выраблялі П пераважна з металічных кольцаў ці пласцін таўшч 0,5—2 мм разнастайнай формы, якія нашывалі на скураны або тканы кафтан П называлі таксама кальчугі, выкананыя кальчужнай пляценкай, камбінацыяй кальчужнага палатна са стальнымі пласцінамі П вынайдзены ў бронзавым веку асірыйцамі, якія рабілі доўгае да шчыкалатак адзенне з кароткімі рукавамі і нашытымі па ўсей паверхні бронзавымі лускамі Такімі П карысталіся ў стараж Егіпце, Грэцыі і сярэдневяковай Еўропе На Беларусі лускаватыя П паявіліся ў эпоху Кіеўскай Русі і называліся «бронямі» У 11 ст паявілася лускаватая «браня» У 14 ст тэрмін «браня» замяняецца словам «даспех», а ў 15 ст — «панцыр» Фрагменты П знойдзены пры раскопках Гродзенскага замка і гарадзішча Хатомль, у г Мінск, Навагрудак, Гомель, каля Нясвіжа З удасканаленнем агнястрэльнай зброі П паступова страціл свае значэнне і ў 18 ст зніклі зусім

*Літ* Гуревич Ф Д Древний Новогрудок Посад — окольный город Л, 1981, Кирпичников Л Н Военное дело на Руси XIII—XV вв Л, 1976

**ПАНЧАНКА** Пімен Емяльянавіч [10(23) 8 1917, г Рэвель, цяпер Талін, Эстонія — 2 4 1995], бел паэт Нар паэт Беларусі (1973) Бацькі, бел сяляне, у пошуках заробку выехалі ў Прыбалтыку з роднай в Гедэйкі Ашмянскага пав Віленскай губ У 1920 вярнуліся на Беларусь Пасля заканчэння гадавых пед курсаў (1933—34) П з 1935 працаваў настаўнікам Казуліцкай няпоўнай сярэдняй школы Кіраўскага р-на, з 1938 — выкладчыкам у Кіраўскай сярэдняй школе Адначасова вучыўся завочна на філал ф-це Мінскага пед ін-та У 1939—46 у Чырв Арміі Удзельнічаў у паходзе ў Зах Беларусь (вер 1939) У Вял Айч вайну спец карэспандэнт у армейскіх і франтавых газетах Вершы, фельетоны, прыпеўкі П змяшчаліся ў газ «За свабодную Беларусь», сатыр выданнях «Партызанская дубінка», «Раздавім фашысцкую гадзіну» і інш У 1944—45 служыў у Іране З 1946 заг аддзела час «Вожык», з 1948 заг аддзела, нам гал рэдактара штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» У 1953—58 гал рэдактар альманаха «Советская Отчизна», у 1958—66 — час «Маладосць» З 1966 сакратар праўлення Саюза бел. пісьменнікаў З 1972 на творчай рабоце У 1958 як член дэлегацыі БССР удзельнічаў у рабоце XIII сесіі Ген Асамблеі ААН Быў членам рады Саюза бел пісьменнікаў (з 1990)

П Панчанка

Першыя вершы П надрукаваны ў альманаху «Ударнікі» (1934, № 3) У ранняй творчасці (зб-кі «Упэўненасць», 1938, «Верасневыя сцягі», 1940) адлюстраваны настрой і пачуцці яго пакалення — юнацкія рамантычна-ўзнеслыя парыванні, захапленне прыгажосцю навакольнага свету, летуценні маладосці і кахання, а таксама трывогі ў прадчуванні нарастаючай пагрозы вайны У гады вайны герагічная, часам трагічная ці сатыр паэзія П падтрымлівала веру людзей у перамогу, дапамагала выжыць, выстаяць Падрыхтаваны да друку зб вершаў «Трывожныя зарніцы» згарэў у час вайны Аўтар паэтычных зб-каў «Дарога вайны» (1943), «Далекія станцыі» (1945) Уражанні ад знаходжання ў Іране сабраны ў «Іранскім дзённіку» (1944—47) Суровай памяццю адгрымелай вайны, услаўленнем працоўнага энтузіязму напоўнены вершы ў кн «Гарачыя вятры» (1947), «Прысяга» (1949), «За шчасце, за мір!» (1950), «Шырокі свет» (1955) Вынікам паездак за мяжу сталі «Кніга вандраванняў і любові» (1959), «Нью-Йоркскія малюнкі» (1960), «Тысяча небасхілаў» (1962), «Чатыры кантыненты» (1964) Сведчаннем сапраўднай творчай сталасці з'яўляюцца зб-кі «Пры святле маланак» (1966, Дзярж прэмія Беларусі імя Я Купалы 1968), «Снежань» (1972), «Крык сойкі» (1976), «Вячэрні цягнік» (1977), «Маўклівая малітва» (1981), «Лясныя воблакі» (1985) і інш, дзе найб поўна рэалізаваліся магчымасці творчай асобы, выявіліся лепшыя рысы таленту П Паэт яскрава выражанага грамадзянска-публіцыст тэмпераменту, глыбока ўражлівы, па-маладому няўрымслівы ен усе жыцце працаваў змаганне за маральна-этычную вартасць і грамадзянскую іс насць чалавечай асобы, за нац свядомасць, мову і культуру беларусаў З сярэдзіны 1980-х г яго творчасць вылучаецца публіцыст адкрытасцю, трыбуннасцю, вастрыней прамаўлення, сатыр пафасам Разам з тым у сваім роздуме ен застаецца па-ранейшаму глыбока лірычным, уражлівым, чуйным да чужога болю (кн «І вера, і вернасць, і вечнасць», 1986, «Горкі жолуд», 1988, «Высокі бераг», 1993) У пасмяротную кнігу паэзіі розных гадоў «Зямля ў мяне адна» (1996) увайшла і напісаная на франтавых дарогах паэма «Вандраванне ў нянавісць», скіраваная супраць фашызму П вядомы і як крытык Артыкулы, эсэ, успаміны пра падзеі ў літ жыцці і таварышаў па паэтычным цэху змешчаны ў кн «На паэтычным небасхіле» (1977) і «Высокі бераг» Пераклаў на бел мову асобныя творы А Міцкевіча, М Нагнібеды, Я Райніса, А Суркова, Ф Шылера і інш Літ прэмія імя Я Купалы 1959 (за паэму «Патрыятычная песня», 1957), Дзярж прэмія СССР 1981 (за кн вершаў «Дзе начуе жаўранак», у пер на рус мову, 1979) Ганаровы акад АН Беларусі (1994) Дэп ВС БССР у 1959—67, 1971—90

*Тв* Зб тв Т 1—2 Мн, 1959, Зб тв Т 1—3 Мн 1967—71, Зб тв Т 1—4, Мн 1981—83 Избр произведения Т 1—2 М, 1984

*Літ* Лазарук М Пімен Панчанка Мн, 1959, Бярозкін Р Пімен Панчанка Мн 1968 *Любоў Гарэлік*

**ПА́НШЧЫНА**, адработачная рэнта, дармавая прымусовая праца сялян з уласнымі прыладамі працы ў гаспадарцы феадала, форма эксплуатацыі феадальна залежнага сялянства Прадукцыйнасць паншчыннай працы была нізкая, прадукцыйныя сілы развіваліся марудна На стараж рус землях П пачала складвацца ў Кіеўскай Русі На Беларусі вядома з 14 ст з канчатковым усталяваннем феад уласнасці на зямлю Пашырылася ў 15—16 ст, калі склалася фальварковая сістэма (гл *Фальварак*), якая прывяла да масавага запрыгоньвання сялян Паводле *«Уставы на валокі» 1557* (гл таксама *Валочная памера*) за карыстанне *валокай* зямлі цяглыя сяляне павінны былі працаваць на П 2 дні ў тыдзень, выконваць інш феад павіннасці (талокі, *згоны*), *агароднікі* за надзел абавязаны былі працаваць на П 1 дзень у тыдзень У 18 ст П складала 4—8 рабочых дзен у тыдзень з 0,5 цяглай валокі Пасля адмены прыгоннага права П фактычна захавалася пад назвай «здольшчыннай павіннасці» *часоваабавязаных сялян* На Беларусі пад уплывам паўстання 1863—64 скасавана ў 1864 У Расіі з увядзеннем у 1882 абавязковага выкупу П юрыдычна ліквідавана, але па сутнасці існавала да Кастр рэвалюцыі 1917 у выглядзе адработачнай сістэмы (гл *Адработкі*)

*Літ* Козловский П Г Магнатское хозяйство Белоруссии во второй половине XVIII в Мн, 1974, Похилевич Д Л Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI—XVIII вв Львов, 1957

**ПАНЫ́**, 1) прадстаўнікі вышэйшых пластоў феадалаў у Чэхіі і Польшчы ў 13—14 ст Лацінскі адпаведнік у афіц

Рэч Паспалітую, атрымаў чын ген.-маёра каронных войск. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1792 камандаваў арміяй, якая абараняла лінію Дняпра і Днястра. З-за вял. перавагі сіл праціўніка ўхіляўся ад генеральнай бітвы. 18.6.1792 даў бой пад Зелянцамі, пасля адступіў да Ізяслава, потым вывеў войскі за р. Буг. У знак пратэсту супраць змовы караля з Таргавіцкай канфедэрацыяй падаў у адстаўку і выехаў у Вену. У час *паўстання 1794* вярнуўся, удзельнічаў у абароне Варшавы, пасля капітуляцыі зноў выехаў у Вену. Адмовіўся ад прапаноў Кацярыны II і Паўла I паступіць на рас. службу. З 1798 жыў у сваім маентку пад Варшавай. У 1806, калі французскае войска падышло да Варшавы, а прускае пакінула горад, П. стаў на чале мясц. міліцыі і падтрымаў Напалеона. Са снеж. 1806 камандаваў аднўленым польск. войскам, са студз. 1807 ваенны міністр Варшаўскага княства. У час паходу Напалеона ў Расію 1812 камандаваў 5-м корпусам «Вял. арміі». У пачатку кампаніі праследаваў 2-ю Зах. армію і рухаўся праз Гродна, Нясвіж, Ігумен да Магілёва, які 8(20) ліп. ўзяты без бою. Вызначыўся ў баях пад Смаленскам 4—6 (16—18) жн. і Барадзіном 26 жн. (7 вер.). У час адступлення рэшткі корпуса П. ўдзельнічалі ў бітвах пад Вязьмай 22 кастр. (3 ліст.) і на р. Бярэзіна 14—17 (26—29) лістапада. Пасля вываду польск. войск у Саксонію сфарміраваў 8-ы корпус. Вызначыўся ў Лейпцыгскай бітве 1813. За мужнасць Напалеон 16.10.1813 узвёў П. ў маршалы і даручыў прыкрываць адыход франц. войск. У час пераправы цераз р. Эльстэр цяжка паранены і патануў. У 1814 прах П. перанесены ў Варшаву, у 1819 перапахаваны ў Кракаве на Вавелі. У 1826—32 зроблены помнік П. (скульпт. Б.Торвальдсен), з 1840 ён знаходзіўся ў Гомелі перад палацам І.Ф.Паскевіча, з 1922 — у Варшаве.

*Літ.:* S k a ł k o w s k i A.M. Książę Józef. Bytom, 1913; P r ą d z y ń s k i I. Książę Józef Poniatowski. Warszawa, 1920; A s k e n a z y S. Książę Józef Poniatowski, 1763—1813. 7 wyd. Warszawa, 1978; S k o w r o n e k J. Ks. Józef Poniatowski. 2 wyd. Wrocław, 1986.

*Андрэй Лукашэвіч*

Ю.А. **Панятоўскі.**

**ПАНЯТО́ЎСКІЯ**, дзярж. дзеячы Рэчы Паспалітай, род герба «Цёлак» (выява цяля). З гэтага роду кароль *Станіслаў Аўгуст Панятоўскі* [1764—95], які замоўчваў сваё паходжанне ў час панавання. Легенда ў генеалагічных даведніках апошняй трэці 18 ст. пра нібыта італьянскае паходжанне П. ад роду Тарэлі не стасуецца з генеалагічнымі даследаваннямі. У 18 ст. і пазней выказвалася меркаванне, што П. з дробнай бел. шляхты. У пач. 18 ст. Нікадэм Тадэвуш П. быў чашнікам мсціслаўскім. Потым гэта галіна роду перасялілася на Украіну, але П. засталіся і на Беларусі. У 20 ст. ў Мінскай і Магілёўскай губ. былі 2 сям'і П. Прозвішча П. паходзіць ад маёнтка і мяст. Панятова недалёка ад Любліна. Паводле дакументаў, першым з гэтага роду быў Марцін Цёлак Мацяёўскі з Панятовы (2-я пал. 15 ст.). У 17 ст. П. былі сярэдняй шляхецкай сям'ёй, служылі ў багатай шляхты на гасп. пасадах, часам арандавалі маёнткі. У 18 ст. ўзвысіліся.

Найб. вядомыя:

Ф р а н ц і ш а к (1640 або 1650—да 18.12.1697), сын Яна, лоўчы падляшскі з 1680, чашнік вышаградскі з 1690. Служыў у кн. Любамірскіх, з 1670 падстароста іх жэшаўскіх маёнткаў, з чаго пачалося ўзвышэнне роду. Меў сыноў Юзафа (1675 — пасля 25.5.1739), ген.-маёра польскага войска Станіслава і Міхала (1683—1716), манаха-даміканца.

С т а н і с л а ў (15.9.1676—29.8.1762), сын Францішка. Атрымаў адукацыю ў Вене. Запісаўся ў аўстрыйскае войска, ваяваў пад камандаваннем прынца Яўгена Савойскага. Вярнуўся на радзіму, у Беларусі ў канфлікце паміж Сапегамі і шляхтай выступіў на баку Сапегаў, разам з імі перайшоў у час Паўночнай вайны 1700—21 на бок шведскага караля Карла XII. Удзельнічаў у бітвах супраць войск Аўгуста II і рас. войск. Стаў прыбліжаным да новаабранага караля Станіслава Ляшчынскага, генералам артылерыі ВКЛ (1707—09), генералам кавалерыі шведскага войска. Удзельнічаў у бітвах пад Галоўчынам (1708) і Палтавай (1709), дзе ўратаваў жыццё Карлу XII. У 1718 вярнуўся ў Польшчу, яму вернуты маёнткі. Стаў ген.-лейтэнантам польскага войска. У 1720 ажаніўся ў другім шлюбе з князёўнай Канстанцыяй Чартарыйскай, якая ў 1721 набыла маёнтак Воўчын у Брэсцкім пав., дзе былі збудаваны касцёл і палац — рэзідэнцыя П. Стаў магнатам, карыстаўся графскім тытулам, быў падстолім ВКЛ у 1722, падскарбім вялікім ВКЛ у 1722—31, ваяводам мазавецкім у 1731—52, кашталянам кракаўскім з 1752. Яго сыны на сейме 1764 атрымалі княжацкі тытул. З іх Казімір (15.9.1721—13.4.1800) — падкаморы вялікі каронны ў 1742—73, генерал польскага войска; Францішак (1723—49) — канонік і пробашч кафедральнага касцёла ў Кракаве; Станіслаў Аўгуст (1732—98) — кароль польскі і вял. князь літоўскі; Андрэй (28.9.1734—3.3.1773) — ген.-лейтэнант аўстрыйскага войска (1760), фельдмаршал (1771), князь «Свяшчэннай Рымскай імперыі»; Міхал Ежы (12.10.1736—12.8.1794) — біскуп плоцкі (1773), арцыбіскуп гнезненскі (1784), у час паўстання 1794 абвінавачаны ў здрадзе на карысць Прусіі і скончыў самагубствам.

С т а н і с л а ў (23.2.1754—13.2.1833), сын Казіміра. Ген.-лейтэнант польскага войска, шэф пешай кароннай гвардыі, падскарбі вялікі ВКЛ у 1784—91. У 1791 выехаў у Аўстрыю, потым у Італію. Ад сувязі з італьянкай Ка-

Помнік Ю.А. **Панятоўскаму** работы Б. Торвальдсена. 1826—32. Варшава.

Вял Айч вайну Скончыў 2-е Ленінградскае артыл вучылішча (1938) У пач Вял Айч вайны ў складзе стралк корпуса пад камандаваннем Л Р *Пятроўскага* ўдзельнічаў у *Рагачоўска-Жлобінскай аперацыі 1941* З вер 1941 нам па ваен пытаннях, са снеж — кіраўнік Сакалішчанскай падп арг-цыі З мая 1942 нач штаба спецатрада «Баявы» НКУС СССР, з сак 1943 камандзір разведгрупы ў *Полацка-Лепельскай партызанскай зоне* Да 1956 у Сав Арміі

**ПАПЛАЎСКІ** Георгій Георгіевіч (н 15 2 1931, г Роўна, Украіна), бел графік і жывапісец Нар мастак Беларусі (1997) Правадз чл Расійскай АМ (1991) і Нац АН Беларусі (1995) Засл дз мастацтваў Беларусі (1978) Скончыў Мінскае мастацкае вучылішча (1952), Бел тэатр -маст ін-т (1961) З 1988 кіраўнік Акадэмічных творчых майстэрань Мін-ва культуры Беларусі (аддзяленне графікі) Многія яго творы прысвечаны гіст тэматыцы «Слаўны горад Полацк» (1958, серыя гравюр), серыя акварэлей для археал музея «Бярэсце» — «Набат», «Княжацкі заклік», «Гарадскі пасад», «Берасцейская харугва», «Міжусобіца» (усе 1983), «Слова аб палку Ігаравым» (1984, афорт), акварэльны партрэт Кірылы Тураўскага (1985), «Бітва пры Куперсдорфе» (1997, жывапіс) Гіст падзеям Беларусі 20 ст прысвечаны вял графічныя цыклы «Памяць» (1968), «Час доўгіх нажоў» (1982), «Чарнобыль Дрэвы без лістоў» (1987—89) Найб значныя творы ў жывапісе «Сыны-партызаны» (1969), «Браслаўскія калгасніцы» (1970), «Блакада» (1976), «Чарот» (1977) і інш Аформіў кнігі Я Купалы, Я Коласа, А Адамовіча, В Быкава, У Караткевіча, А Куляшова і інш За распрацоўку нац бел тэмы ў галіне станковай графікі і кніжнай ілюстрацыі Прэмія Ленінскага камсамола Беларусі 1970, Міжнар прэмія імя Дж Неру 1973 За распрацоўку ваенна-патрыятычнай тэмы ўзнагароджаны Залатым медалем імя М Грэкава у 1990

*Літ* Г а н ч а р о ў М І Г Г Паплаўскі Мн 1974, С у р с к и й О Георгий Поплавский М , 1982, О с т р о в с к и й Г Георгий Поплавский М , 1986 *Галія Фатыхава*

Г Г **Паплаўскі** Набат 1983

**ПАПЛАЎСКІ** Захар Філімонавіч [28 2(12 3) 1898, в Буякі Кобрынскага пав , цяпер Брэсцкі р-н — 2 6 1965], дзеяч рэв руху ў Зах Беларусі З 1917 у арміі на Зах фронце З 1918 у Чырв Арміі, ваяваў супраць Дзянікіна, польскіх інтэрвентаў З 1921 удзельнік рэв руху ў Зах Беларусі У 1925 арыштаваны і зняволены на 5 гадоў у турму З 1936 сакратар Брэсцкага акр к та КПЗБ У 1937 арыштаваны і прыгавораны да 10 гадоў турмы Пасля вызвалення Зах Беларусі на гасп рабоце У Вял Айч вайну з сак 1943 у тыле ворага, упаўнаважаны Брэсцкага абкома КП(б)Б у паўд зоне Брэсцкай вобл па кіраўніцтве партыз рухам З 1946 інструктар Брэсцкага абкома КПБ

*Васіль Ласковіч*

**ПАПÓЎ** Васіль Сцяпанавіч [28 12 1893(8 1 1894), г п Кіквідзе Валгаградскай вобл , Расія — 2 7 1967], удзельнік вызвалення Беларусі ў Вял Айч вайну, ген -палк (1944), Герой Сав Саюза (1945) Скончыў Ваен акадэмію РСЧА (1922) У арміі з 1916, у Чырв Арміі з 1919 Удзельнік грамадз , сав -фінл 1939—40 войнаў У Вял Айч вайну з лют 1942 камандуючы 10-й арміяй Зах фронту, потым нам камандуючага 1-м Бел фронтам, з мая 1944 камандуючы 70-й арміяй, якая ўдзельнічала ў *Люблін-Брэсцкай аперацыі 1944*, вызваленні Брэста З 1945 камандарм, у 1947—59 на выкладчыцкай рабоце, у Генштабе Дэп ВС СССР у 1946—50 Яго імем названы вуліцы ў Брэсце і Гродне

В С **Папоў**

**ПАПÓЎ** Петр Емяльянавіч (н 24 9 1919, в Цярновая Шабекінскага р-на Белгарадскай вобл , Расія), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камсам -маладзежнага падполля і партыз руху ў Мінскай вобл ў Вял Айч вайну 18 7 1942—26 6 1943 сакратар Слуцкага падп міжрайкома ЛКСМБ, потым да 6 7 1944 — *Мінскага падпольнага абкома ЛКСМБ*, адначасова 1 12 1942—1 11 1943 — Грэскага падп райкома ЛКСМБ Пасля вайны на камсам , парт і гасп рабоце

**ПАПÓЎ** Федар Восіпавіч (9 7 1907, в Вял Южакова Кацельніцкага пав Вяцкай губ , цяпер Кіраўская вобл , Расія — 9 9 1970), гісторык, архівіст Канд гіст н (1950) Скончыў аддзяленне Ін-та Маркса—Энгельса—Леніна пры Маскоўскім гісторыка-архіўным ін це (1936) З 1936 нам заг аддзела саюзных рэспублік Цэнтр архіўнага ўпраўлення (ЦАУ) СССР, нам упраўляючага ЦАУ БССР, дырэктар Рэсп дома партактыву пры ЦК КП(б)Б З 1938 заг Партархіва ЦК КП(б)Б, у 1955—60 дырэктар Магілеўскага педінстытута Аўтар прац па гісторыі Камpартыі Беларусі і партызанскага руху на Беларусі ў гады Вял Аич вайны 1941—45 Складальнік зб-каў дакументаў па гісторыі Беларусі, у т л «Крах нямецкай акупацыі ў Беларусі ў 1918 г» (1947, з В А Бяляевай) і «М І Калінін у Беларусі» (1973, з А А Кузняевым)

*Тв* У І Ленін і І В Сталін — арганізатары Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Мн , 1949 (разам з Я Карнейчыкам, М Шклярам), Дзейнасць М В Фрунзе ў Беларусі ў перыяд падрыхтоўкі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі Мн , 1951, Герой Савецкага Саюза Канстанцін Заслонаў Мн , 1951 (разам з С Шчуцкім)

*Віталь Скалабан*

**ПАПРАВЫ СТАТУТÓВЫЯ 1578**, змены і дапаўненні *Статута Вялікага княства Літоўскага 1566*, улічаныя пры складанні Статута 1588 Работа над «поправай» Статута 1566 фактычна пачалася адразу пасля яго прыняцця На неабходнасць унясення ў Статут змен і дапаўненняў указвалася ў канстытуцыях шэрагу сеймаў (Гродзенскага 1568, Люблінскага 1569, Варшаўскага 1584 і інш ), пастановах асобных з'ездаў *(канвакацый)* і мясц сеймікаў Найб значныя П с зацверджаны на Варшаўскім сейме, сярод іх аб парадку выклікання ў суды па справах «о именя, люди, ґрунты, о што-колвекъ», аб праве зацікаўленых бакоў звяртацца да *возных* без папярэдняга звароту ў адпаведны суд,

dla senatu z r 1501 // Księga pamiątkowa ku czci Oswalda Balzera Lwow, 1925 T 2

*Літ* Dąbrowski J Fryderyk Papee (1856—1940) // Kwartalnik historyczny 1939—45 R 53

**ПАПЯЧЫЦЕЛЬСТВЫ АБ НАРО́ДНАЙ ЦВЯРО́ЗАСЦІ**, урадавыя ўстановы для барацьбы з п'янствам у Рас імперыі Пачалі ствараццa ў канцы 19 ст адначасова з увядзеннем у Расіі дзярж манаполіі на продаж алкагольных напіткаў (гл *Вінная манаполія*) «для засцярогі насельніцтва ад злоўжывання моцнымі напіткамі» Знаходзіліся ў падпарадкаванні Мін-ва фінансаў па Гал упраўленні неадкладных збораў і казеннага продажу пітва Статут папячыцельстваў зацверджаны 20 12 1894 Іх дзейнасцю кіравалі губернскія і павятовыя к-ты Ставіліся задачы нагляд за продажам спіртных напіткаў згодна з устаноўленымі правіламі, арганізацыя лекцый, нар чытанняў, публікацыя і распаўсюджванне выданняў аб шкодзе алкаголю, адкрыццё чайных, нар чытальняў, лячэбных прытулкаў для алкаголікаў Папячыцельствы атрымлівалі ад Мін-ва фінансаў больш за 2 млн руб у год (па 50 тыс руб на губерню) Ужо сам склад папячыцельстваў (губернатар, губ прадвадзіцель дваранства, старшыня і пракурор акр суда, дырэктары нар вучылішчаў, нач жандарскага упраўлення, інш чыноўнікі) надаваў ім бюракратычны характар Асн дзейнасць іх членаў зводзілася да рассылкі розных заклікаў, дырэктыў, што рэгламентавалі характар барацьбы з п'янствам у дадзенай мясцовасці Насельніцтва розных месцаў часта скардзілася на бяздзейнасць папячыцельстваў і парушэнні статута самімі яго членамі Так, у Віцебскай губ ніводнае з 12 папячыцельстваў не выявіла парушэнняў у гандлі спіртным У Магілёўскай губ за 12 гадоў існавання папячыцельстваў складзена толькі 34 пратаколы, у Мінскай губ — 43 Паказны характар мела і дзейнасць папячыцельстваў па адцягненні нар мас ад п'янства Гэта пацвердзілі I Усерас з'езд па барацьбе з п'янствам і абмеркаванне праблем п'янства і алкагалізму ў Дзярж думе

*Літ* Булгаковский Д Г Очерк деятельности попечительств о народной трезвости за все время их существования (1895—1909 гг) СПб, 1910, Протько Т С В борьбе за трезвость Мн, 1988

*Уладзімір Филякоў*

**ПАРАБКІ**, парубцы, 1) адна з разнавіднасцей *чэлядзі нявольнай* (дворнай) у ВКЛ у 14—16 ст 2) Некваліфікаваныя ці малакваліфікаваныя наемныя работнікі на Беларусі, Украіне і ў Літве ў 18 ст — 1850-х г Пераважна найбяднейшыя сяляне, якія не мелі зямельнага надзелу (*бабылі*) і працавалі па найме ў заможных сялян і феадалаў у с-г вытворчасці Наемная праца П часцей выкарыстоўвалася ў зах і цэнтр паветах Беларусі У 1859 у маентках сярэдне- і буйнапамесных уладальнікаў (больш за 100 рэвізскіх душ прыгонных) бел паветаў Гродзенскай, Віленскай, а таксама Мінскай губ было 21 418 П (14,4% да колькасці сялян мужч полу, надзеленых зямлей) Пераважная большасць з іх (79,4%) была *кутнікамі*, якія абслугоўвалі гаспадарку заможных сялян Больш шырока П як наемную рабочую сілу (у т л П) скарыстоўвалі на дзярж землях П не мелі ці амаль не мелі сваіх сродкаў вытв-сці, былі заняты пераважна ў сферы таварнай вытв-сці, крыніцай іх існавання з'яўлялася праца па найме П перыяду позняга феадалізму — пераходны сац тып ад феадальна-залежнага селяніна да пралетарыя 3) Наемныя рабочыя эпохі капіталізму, частка с-г пралетарыяту, пераважна з надзелам Пасля *сялянскай рэформы 1861* у Рас імперыі, у т л на Беларусі, катэгорыя П фарміравалася за кошт дарэформенных наемных с-г работнікаў, *дваровых людзей*, каланістаў, збяднелага сялянства і сем'яў пастаянных (гадавых) с-г наемных рабочых Да пач 20 ст на Беларусі было прыкладна 130 тыс П, у 1913 — каля 200 тыс Характарызаваліся невысокай кваліфікацыяй Заработная плата П на Беларусі была надзвычай нізкая Жыллева-бытавыя ўмовы П былі вельмі неспрыяльныя, рабочы дзень не рэгламентаваны, у летні час працягваўся да 16 гадз, мед дапамога і сац страхаван не адсутнічалі У СССР парабкоўства было ліквідавана

*Літ* История рабочего класса Белорусской ССР Т 1 Мн, 1984, Панютич В П Наемный труд в сельском хозяйстве Беларуси, 1861—1914 гг Мн, 1996, Похилевич Д Л Крестьяне Белоруссии и Литвы во второй половине XVIII в Вильнюс, 1966

*Вячаслаў Панюціч*

**ПАРАД ПЕРАМО́ГІ** ў Маскве Адбыўся 24 6 1945 на Краснай пл ў азнаменаванне перамогі сав народа і яго ўзбр сіл у Вял Айч вайне У ім прымалі ўдзел зводныя палкі франтоў, Наркамата абароны СССР і ВМФ СССР, ваен акадэмій, вучылішчаў і часці Маск гарнізона Парад прымаў Маршал Сав Саюза Г К *Жукаў*, камандаваў парадам Маршал Сав Саюза К К *Ракасоўскі* Наперадзе везлі Сцяг Перамогі Сцяганосцы з асістэнтамі неслі па 36 баявых сцягоў злучэнняў і часцей кожнага фронту, што найб вызначыліся ў баях Замыкаў строй зводны полк маракоў і марскіх пехацінцаў На чале палкоў былі камандуючыя войскамі франтоў, у палках 1-га і 2-га Бел франтоў — іх першыя намеснікі У складзе палка 1-га Бел фронту знаходзіліся прадстаўнікі Войска Польскага Сярод удзельнікаў П П былі беларусы і ўраджэнцы Беларусі П Я *Галавачоў*, І І *Гусакоўскі*, С А *Красоўскі*, Ф І *Перхаровіч*, І І *Якубоўскі* і інш Услед за палкамі зводная калона сав воінаў унесла на Красную пл 200 апушчаных да зямлі сцягоў разгромленых ням -фаш войск і пад дробат барабанаў кінула іх да падножжа маўзалея Парад завяршыла ваен тэхніка розных відаў, падраздзяленні паветр -дэсантных войск і інш

**ПАРАДНЁНЫЯ ГАРАДЫ́**, гарады розных краін, якія маюць пагадненні аб пабрацімстве і супрацоўніцтве ў эканам, культ, гуманітарнай сферах, праводзяць сярод насельніцтва работу па ўмацаванні даверу, узаемапаразумення, па абмене вопытам гар самакіравання, камунальнага гаспадарання Пачатак руху ў б СССР пакладзены ў 1942, калі англ г Ковентры і сав г Сталінград прынялі рашэнне ўстанавіць дружалюбныя сувязі з мэтай развіцця супрацоўніцтва ў інтарэсах міру і дабрабыту сваіх грамадзян У Рэспубліцы Беларусь парадненне гарадоў пачалося ў 1950-я г, 28 гарадоў (1998) падтрымліваюць сувязі з 58 гарадамі 18 краін свету, сярод якіх 16 маюць пабрацімаў у ФРГ, 8 — у Польшчы, 8 — у Францыі 25 бел гарадоў устанавілі пабрацімскія сувязі з рас гарадамі (на кастр 1998) У 1990-я г найб эфектыўныя сувязі мелі Мінск з Нотынгемам (Вялікабрытанія, з 1957), з Бенгалуру і Сендаем (Індыя, Японія, з 1973), з Ліенам і Луандай (Францыя, Ангола, з 1976), Жодзіна з Венісье (Францыя, з 1967), Магілеў з Віербанам (Францыя, з 1973), Орша з Воз-ан Вленам (Францыя, з 1973), Салігорск з Лаўуерам (Бельгія, з 1975), Віцебск з Франкфуртам-на-Одэры і Зяленай Гурай (Германія, Польшча, з 1969), Гомель з Клермон-Феранам (Францыя, з 1976) і Абердзінам (Вялікабрытанія, з 1990), Гродна з Беластокам (Польшча, з 1960) і Ліможам (Францыя, з 1976), Баранавічы з Хейнала (Фінляндыя, з 1977), Полацк з Фрыдрыхсгафенам (Германія, з 1994) і інш Для каардынацыі работы ў 1993 створана Бел асацыяцыя парадненых гарадоў *Ніна Іванова*

**ПАРАДО́ЎСКІ** Аляксандр (псеўд Астрога, 1836, Люблінскае ваяв, Польшча, паводле інш звестак Беларусь або Галіцыя — 7 2 1890), адзін з кіраўнікоў *паўстання 1863—64* у Польшчы, Беларусі і Літве Служыў у рус арміі, паручнік кавалерыі У 1863 узначаліў паўстанцкі атрад у Ашмянскім павеце, пасля гібелі Л Т *Нарбута* паўстанцкі ваен начальнік Лідскага пав З рэшткамі атрада Нарбута перайшоў у Гродзенскую пушчу, злучыўся з атрадам А А *Лянкевіча* і потым дзейнічаў у Аўгустоўскім ваяв Мяркуюць, што ў атрадзе П ваяваў Ф Багушэвіч У канцы 1863 распусціў атрад і эміграваў

*Літ* Кісялёў Г В Сейбіты вечнага Мн, 1963, Kiersnowski R Rozkazy dzienne partii Ostrogi (1863) // Ateneum Wileńskie 1936 R 11 *Генадзь Кісялёў*

**ПАРАДЫ́ЙНАЯ ЛІТАРАТУ́РА** (грэч parodia, ад para супраць + ode песня), жанр літаратуры, заснаваны на сатырычным або гумарыстычным асмяянні пэўнага літаратурнага ўзору, асобнага твора, літаратурнага кірунку ў цэлым ці некаторых яго асаблівасцей (тэматычных, ідэйных, вобразных, жанравых, сюжэтна-кампазіцыйных, моўных), якія знешне як бы наследуе, пераймае У

кожнай нац л-ры П л — праява ўнутр барацьбы, крытыка тых з'яў, якія, на думку аўтараў, не адпавядаюць духу часу або з'яўляюцца нізкапробнымі Нярэдка пародыя выступала ў выглядзе бурлеска або травесці, г зн таких твораў, што ў камічнай форме, з шырокім выкарыстаннем прастамоўнай, фамільярнай або вульгарнай лексікі пераказвалі змест «высокіх» знакамітых твораў (напр , антычных ці інш класічных паэм), на якія арыентаваліся як на ўзор Т ч праз пародыю крытыкавалася класіцыстычная л-ра, эстэтыка і стыль якой «задаваліся» арыстакратычнымі коламі У бел л-ры П л была найб распаўсюджана ў 17 — 1-й пал 19 ст , калі з-за выцяснення бел мовы са справаводства (1696), а потым і з літ ўжытку, бел маст слова было вымушана задавальняцца бытаваннем у простанародным асяроддзі Узнік своеасаблівы тып парадыйна-сатырычных або парадыйна-гумарыстычных твораў, скіраваных супраць л-ры, што культывавалася сац і рэліг вярхамі — т зв л-ры «высокага шцілю» У ліку першых такіх твораў у эпоху *барока* (17 ст ) — *«Прамова Мялешкі»*, пародыя на сеймавую прамову, *«Ліст да Абуховіча»*, таксама сатырычны твор з адзнакамі пародыі У 18 ст з'явіліся вершаваныя і празаічныя творы на рэліг тэмы, у якіх травесційна зніжаліся вобразы гэтай л-ры (вершы «У Бэтлегэме, доме ўбогім», «Уваскрэсенне Хрыстова», у прозе — «Казанне рускае», «Прамова русіна» і інш ), а ў часы *класіцызму* (18 — 1-я пал 19 ст ) — паэмы «Энеіда навыварат», «Тарас на Парнасе» і інш У апошніх паэмах відаць не толькі стылевае камічнае процістаянне «высокай л-ры», але і вострая ідэйна-эстэтычная барацьба супраць палітыкі царызму (тэорыі «афіц народнасці»), глыбокая сувязь з актуальнымі праблемамі грамадска-культ развіцця, пафас сцвярджэння роднай л-ры як нацыянальнай Прыкметы бурлескнага стылю праяўляліся і ў 2-й пал 19 ст (асобныя вершы Ф Тапчэўскага), але як астаткавая з'ява У канцы 19 — пач 20 ст П л прадстаўлена сатырычнымі творамі, накіраванымі супраць палітыкі самадзяржаўя ў дачыненні да нац культур «Калыханка» Ф Багушэвіча, «Існінна чорнае трыо» Я Купалы, «Верныя сябры» Я Коласа і інш У сав час маст -эстэтычныя функцыі П л сталі больш разнастайнымі, яна набыла ўсе адзнакі жанра, выпрацаваныя сусв л-рай Аднак і на гэтым этапе развіцце П л не абыходзілася без дэфармацый пад уплывам ідэалагічных установак «зверху», паліт кіравання л-рай, барацьбы за партыйнасць і інш Да жанру П л звярталіся пісьменнікі розных пакаленняў 20 ст К Крапіва, П Трус, М Хведаровіч, Р Барадулін, В Вітка, А Вялюгін, Н Гілевіч, С Дзяргай, П Макаль, П Місько і інш Асабліва актыўна працуе ў гэтым жанры Г Юрчанка — аўтар шэрагу зборнікаў пародый на творы сучасных пісьменнікаў

*Публ* Беларуская літаратура XIX ст Хрэстаматыя / Склад А. Лойка, В Рагойша Мн , 1988

*Літ* Гісторыя беларускай літаратуры Старажытны перыяд Мн , 1998, Гісторыя беларускай літаратуры XIX — пач XX ст Мн 1998

*Міхась Лазарук*

**ПАРА́ФІЯ** (грэч paroecia царкоўны прыход), п л я б а н і я, у рымска-каталіцкай царкве прыход, ніжэйшая тэрытарыяльная царк.-адм адзінка *епархіі* (д ы я ц э з а, д ы я ц э з і і) Узначальваецца пробашчам П аб'ядноўваюцца ў дэканат На тэр П акрамя парафіяльнага (ф а р н а г а) *касцёла* могуць быць філіяльныя касцёлы і капліцы Тэрмін П ў Беларусі ўжываўся і ва уніяцкай царкве

У А. Парахневіч

**ПАРАХНЕ́ВІЧ** Уладзімір Аляксеевіч [5(18) 1 1918, в Аўсімавічы Бабруйскага р-на — 28 7 1980], Герой Сав Саюза (1944) Засл настаўнік БССР (1965) Скончыў БДУ (1941) У Вял Айч вайну са жн 1941 у падп групе Варатынскага с/с Бабруйскага р-на, з ліп 1942 партызан 537-га атрада, камандзір дыверсійнай групы, якая дзейнічала на чыг Жлобін—Бабруйск (пусціла пад адхон 21 варожы эшалон) З ліст 1943 палітрук роты 539-га партыз атрада, з чэрв 1944 камісар 102-га атрада партыз брыгады 9-й імя Кірава Пасля вайны на камсам і пед рабоце Аўтар падручнікаў для школ, кн «Вогненныя віхры» (1969)

*Літ* Люди легенд. М , 1971 С 296—305

**ПАРАЦЭ́ЛЬС** (Paracelsus) Філіп Аўрэол Тэафраст Бамбаст фон Гогенгейм (Philippus Aureolus Teophrastus Bombastus von Hohenheim, 21 10 1493, мяст Эйнзінгельн, Швейцарыя — 24 9 1541), урач, алхімік, філосаф, містык, адзін з віднейшых прадстаўнікоў эпохі Адраджэння Вучыўся на мед ф-це Ферарскага ун-та (да 1515), быў праф ун-та (1526—28), гар урачом у Базелі Шмат вандраваў па краінах Еўропы У перыяд паміж 1520—25 наведаў Прусію, ВКЛ Польшчу і інш краіны, дзе збіраў звесткі па медыцыне, дыспутаваў з мясцовымі ўрачамі Па словах П , на дыспутах у Гданьску і Вільні над ім атрымалі перамогу і прагналі спачатку з ВКЛ пасля з Прусіі і Польшчы У віленскім дыспуце з П верагодна прымаў удзел доктар медыцыны Ф Скарына, які ў той час жыў у Вільні Для поглядаў П характэрна адмаўленне схаластычных традыцый у медыцыне і аўтарытэту Галена, апора на практыку П — аўтар шматлікіх прац па медыцыне, алхіміі прыродазнаўстве, філасофіі і інш

*Літ* П р о с к у р я к о в В Парацельс М , 1935, Г р и ц к е в и ч В П С факелом Гиппократа Мн 1987, Г а р т м а н Ф Жизнь Парацельса и сущность его учения М , 1997

**ПАРК КАМЯНЁЎ**, Э к с п е р ы м е н т а л ь н а я б а з а л е д а в і к о в ы х в а л у н о ў п р ы І н с т ы т у ц е г е а л а г і ч н ы х н а в у к Н а ц ы я н а л ь н а й А Н Б е л а р у с і геалагічны музей пад адкрытым небам Засн ў 1975 у Мінску па ініцыятыве акад Г Гарэцкага для захавання ледавіковых валуноў з тэр Беларусі, адкрыты ў 1985 (1-я чарга), у 1989 нададзены статус помніка прыроды Пл экспазіцыі 0,065 км$^2$, 2135 адзінак асн фонду (1999) Асн фонд на працягу 6 гадоў створаны В Вінакуравым, А Зімянковым, Я Рунцом і інш , навук канцэпцыю экспазіцый распрацавалі Г Гарэцкі (кіраўнік), С Астапава, Вінакураў, акад Р Гарэцкі, К Мандэр, Рунец, Р Шэм

Парк камянёў Схема

пель і інш Складаецца з 5 аддзелаў (арх Р Кнаўэр, Р Бараноўскі, Л Саўрава, Т Уласава) Цэнтр экспазіцыя «Карта Беларусі» (пл. 0,045 км$^2$) — мадэль геагр карты рэспублікі (маштаб гарыз 1 2500, верт 1 100) з асн ўзвышшамі, раўнінамі, нізінамі, сеткай рэк (у выглядзе сцежак), 2 басейнамі (увасабляюць воз Нарач і Заслаўскае вадасх ) Ланцужкамі камянёў пазначаны межы, да якіх «дайшлі» 2 апошнія ледавікі На «карце» размеркавана больш за 600 валуноў (аб'ем большасці з іх 5—6 м$^3$, маса 10—12 т) адпаведна геагр прыкметам Астатнія 4 аддзелы размешчаны вакол цэнтр экспазіцыі «Жывільныя правінцыі» дэманструюць месцазнаходжанне радзімы валуноў — Скандынавія, Балтыйскае мора з Батнічным і Фінскім залівамі, дзе фарміраваліся і захоплівалі горныя пароды ледавікі, «Петраграфічны збор» сімвалізуе кругаварот рэчываў у прыродзе ў выглядзе круга, у сектарах якога згрупаваны магматычныя, асадкавыя і метамарфічныя пароды, «Форма валуноў» знаёміць з разнастайнымі формамі валуноў, «Камень у жыцці чалавека» дэманструе выкарыстаныя чалавекам камяні са знакамі (1—2 ст ), ідал-крыж (9—10 ст ), крыж Стафана Баторыя (16 ст ), жорны (18—19 ст ), камень-абярог (19 ст ) і інш , «Алея валуноў» — непарыўны ланцуг валуноў, на буйнейшых з якіх замацаваны металічныя барэльефы, паводле нар легенд (маст В Янушкевіч) Эксперыментальная база займаецца вывучэннем ледавіковых валуноў, вырашэннем шэрагу праблем геалогіі, пошукам шляхоў рацыянальнага выкарыстання ледавіковых валуноў

*Літ* Астапава С, Вінакураў В Эксперыментальная база валуноў Мн , 1990, Ляўкоў Э А Маўклівыя сведкі мінуўшчыны Мн , 1992 Ледавіковыя валуны Беларусі Эксперым база вывучэння валуноў Мн , 1993 С 36—56 *Валерый Вінакураў*

**ПАРМО́Н** Сяргей Ігнатавіч (5 3 1911, в Касцяшы Уздзенскага р-на — 14 8 1991), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камсам -маладзежнага падполля і партыз руху ў Мінскай вобл ў Вял Айч вайну Скончыў Рэсп парт школу пры ЦК КП(б)Б (1949) З 1940 сакратар Мінскага абкома ЛКСМБ У Вял Айч вайну з ліст 1942 упаўнаважаны ЦК ЛКСМБ па Мінскай вобл , з 1 1 да 22 11 1943 сакратар Слуцкага падп міжрайкома ЛКСМБ, з 26 6 1943 да 6 7 1944 сакратар *Мінскага падпольнага абкома ЛКСМБ* Пасля вайны на камсам , парт , сав і гасп рабоце

З М **Партнова**

**ПАРО́МЧЫК** Іван Паўлавіч [8(20) 2 1896, в Наваселкі Ігуменскага пав , цяпер Пухавіцкага р-на — 7 6 1960], адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт падполля і партыз руху ў Мінскай вобл ў Вял Айч вайну З 1925 на гасп , сав і парт рабоце У жн 1942 накіраваны ў тыл ворага З 3 10 1942 чл , з 15 3 да 18 9 1943 сакратар Мінскага падп міжрайкома КП(б)Б, потым Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б Пасля вайны старшыня выканкома Мінскага гарсавета, нам міністра харч прам сці БССР, кіраўнік трэста

**ПАРТАЧЫ́** (ад лац a parte fraternitatis па-за цэхам), на Беларусі ў 16—18 ст рамеснікі, якія жылі ў горадзе або паблізу яго і не ўваходзілі ў рамесныя *цэхі* П выраблялі прадукцыю нелегальна У некат гарадах складалі сур'ёзную канкурэнцыю цэхавым рамеснікам, якія праследавалі П у судовым парадкуПератварэнне цэхаў у замкнёныя карпарацыі і ўскладненне доступу ў іх выклікала павелічэнне колькасці П Вырабы П часам былі не горшыя за вырабы цэхавых рамеснікаў і больш танныя, але ў большасці саступалі ім у якасці, таму пазней партачамі называлі рамеснікаў нізкай прафесійнай кваліфікацыі

**«ПАРТИ́ЙНЫЙ ВЕ́СТНИК»**, навукова-інфармацыйны бюлетэнь ЦК Кампартыі Беларусі ў 1991 Выдаваўся рэдакцыйна-выдавецкім аддзелам Ін-та гіст -паліт даследаванняў КПБ у крас —кастр 1991 у Мінску на бел і рус мовах раз у 2 месяцы Структура бюлетэня ў многім была падобная да час *«Известия ЦК КПСС»* (1989—91) Друкаваў хроніку дзейнасці ЦК КПБ і мясц парт органаў, інфарм і сацыялаг артыкулы, дакументы з архіваў КПБ На яго старонках упершыню апублікаваны дзённікавыя запісы б старшыні ЦБ КП(б)Б А Ф Мяснікова пра падзеі ў студз — сак 1924 (№ 1), праграмныя дакументы Бел сацыяліст грамады і Бел партыі сацыялістаў-федэралістаў (№ 1, 3), матэрыялы пра калектывізацыю ў зах абласцях Беларусі ў 1944—50 (№ 4), першыя дні Вял Айч вайны на тэр Беларусі (№ 2), біягр звесткі пра беларусаў, чые імёны ўпамінаюцца ў працах У І Леніна (№ 4), і інш Выйшлі 4 нумары *Міхась Шумейка*

**ПАРТНО́ВА** Зінаіда Мартынаўна (20 2 1926, С -Пецярбург — студз 1944), удзельніца камсам падполля і партыз руху ў Віцебскай вобл ў Вял Айч вайну, Герой Сав Саюза (1958) З 1942 чл к-та *Обальскага камсамольска-маладзежнага падполля* Распаўсюджвала лістоўкі, удзельнічала ў дыверсіях на цагельным з-дзе, электрастанцыі і вадакачцы чыг ст Обаль і інш Разведчыца партыз атрада імя Варашылава брыгады імя Леніна пранікала ў варожыя гарнізоны, здабывала каштоўныя звест-

У парку камянёў 1997

кі У снеж 1943 пасля выканання чаргавага задання схоплена фашыстамі На допыце застрэліла афіцэра Закатавана Яе імем названы вуліцы ў С -Пецярбургу, Обалі, Полацку

**ПАРТРЭ́Т ДАНА́ТАРСКІ**, выява данатара (лац donatar дарыльшчык, ахвяравальнік) — заказчыка твора выяўл мастацтва або заснавальніка храма Сустракаецца ў розных відах мастацтва, часцей у жывапісе Заснавальніка храма часта малявалі з мадэллю будынка ў руках на абразе (перад Ісусам Хрыстом, Маці Божай, святым заступнікам) або асобна, але ў кантэксце агульнай сістэмы размалёвак і дэкарацый храма або кнігі ў спалучэнні з інш выявамі Адметныя рысы П д адлюстраванне данатара звычайна ўкленчаным у малітоўнай позе са складзенымі рукамі, арыентаванасць кампазіцыйнага цэнтра на святога-заступніка, самапаглыбленасць і сузіральнасць спартрэтаванага, адсутнасць знешняй калізіі і падкрэсленых сувязей са знешнім светам Д п з'явіўся ў мастацтве ранняга сярэдневякоўя, росквіту дасягнуў у 14—15 ст Вядомы ў мастацтве многіх еўрап краін, у т л ў Візантыі, часцей у алтарных карцінах (напр., «Мадонна з канцлерам Раленам» Яна ван Эйка, 1435, Луўр), або ў манументальных размалёўках (адлюстраванне Энрыка Скравені з мадэллю капліцы ў размалёўках Капэлы дэль Арэна работы Джота ў г Падуя, 1305) На Беларусі першыя Д п вядомы з 11 ст выявы тураўскага кн Яраполка Ізяславіча, яго маці Гертруды і яго жонкі Ірыны ў «Кодэксе Гертруды» (паміж 1078 і 1087) Часцей сустракаецца на абразах 16—18 ст «Пакланенне вешчуноў» (каля 1514, Музей стараж -бел культуры ІМЭФ Нац АН Беларусі), дзе ў выніку панаўленняў 2-й пал 17 ст змешчана выява данатара Яна Сегеня, «Маці Божая са святымі Ігнацем Лаелам і Францыскам Ксаверыем» (1-я пал 17 ст, тамсама), дзе святым нададзены партрэтныя рысы кн Мікалая Крыштофа і Юрыя Радзівілаў, якія [illegible] кавалі езуіцкія місіі ў Ліпску і *Крыж[illegible] шыне*, адкуль паходзіць карціна Вядо[illegible] мы і вельмі позція ўзоры П д (фрэскі «Спас з данатарамі» М Кошалева, 1902—11, у Баранавіцкім Пакроўскім саборы)

*Літ* Хадыка А. Да атрыбуцыі «Ма[illegible] Боскай» з Крышошына // Помнікі мастацкай культуры Беларусі Новыя даслед Мн, 19[illegible], Александровіч У Шляхі развіцця партрэта ў сярэдневяковым жывапісе Украіны і Беларусі // Помнікі мастацкай культуры Беларусі эпохі Адраджэння Мн, 1994

*Аляксей Хадыка*

Да арт **Партрэт пахавальны** Партрэт А. Завішы 1676

**ПАРТРЭ́Т ПАХАВА́ЛЬНЫ**, жывапісная або скульптурная выява нябожчыка Вядомы ў многіх народаў свету са старажытнасці (напр, т зв фаюмскі партрэт у Егіпце) Функцыяй П п была дакладная перадача фізічнага аблічча памерлага для забеспячэння вечнага жыцця яго душы (паводле шэрагу рэліг дактрын) або ўшанавання яго памяці У Беларусі П п пашыраны ў 15—18 ст найб раннія формы сустракаюцца у тканых пахавальных пакрывалах і харугвах П п магла быць прыжыццёвая выява памерлага, яе копія або адлюстраванне, выкананае з пасмяротнай маскі, часам з геральдычнымі знакамі і надпісамі Вылучаюць трунны партрэт, эпітафійны партрэт і жалобную харугву (канклюзію) Трунныя партрэты часцей малявалі алейнымі фарбамі на меднай, сярэбранай або алавянай блясе 6- 8 граннай або акруглай формы Прызначаліся яны да размяшчэння на тарцовай частцы труны ў час пахавальнай урачыстасці, пазней звычайна змяшчаліся на сцяне крыпты або храма, уваходзілі ў склад сінтэтычнага маст вырашэння часткі яго інтэр'ера (эпітафія Б Бісцінку ў Троіцкім касцеле ў Ружанах работы І Брукнера, 1789, надмагілле М Радзівіла ў касцеле ў Дзятлаве, 18 ст ) Эпітафійныя П п не мацаваліся на труну і таму часцей мелі авальную форму, адразу ўваходзілі ў склад прысценнага скульптурнага надмагілля ў храме разам са скульптурнымі алегарычнымі постацямі і надмагільным надпісам у скульптурнай рамцы (партрэт А Пацея, 18 ст, зберагаецца ў Слонімскім краязн музеі) Для адной цырымоніі маглі быць выкарыстаны і трунны і эпітафійны П п, а таксама канклюзія — жалобная харугва з маляваным або шытым партрэтам, упрыгожаная металічнымі ніткамі, галунамі, карункамі, звычайна з надпісам біягр або панегірычнага характару і выявай герба

*Літ* Тананаева Л И Сарматский портрет Из истории пол портрета эпохи барокко М, 1979, Хадыка А., Хадыка Ю Непаўторныя рысы З гісторыі бел партрэта Мн, 1992, Wiliński S U źrodeł portretu staropolskiego Warszawa, 1958

*Аляксей Хадыка*

Да арт **Партрэт данатарскі** Абраз «Пакланенне вешчуноў» з партрэтам данатара Яна Сегеня З касцела в Дрысвяты Браслаўскага раёна 17 ст Фрагмент

**ПАРТРЭ́Т САРМА́ЦКІ**, характэрная для мастацтва Рэчы Паспалітай форма параднага шляхецкага партрэта, пераважна часоў *барока* (16—18 ст ), звязаная з комплексам светапогляду і культуры *сарматызму* Прадстаўлены шырокім спектрам твораў — ад падобных да

рэпрэзентатыўных зах -еўрап партрэтаў позняга Адраджэння і барока да выяў, набліжаных да народнапрымітыўнага мастацтва Адлюстроўваў пераважна вобраз homo militans (чалавека-воіна) і ч паказваў ролю ваен -феад саслоўя дзяржаве, перадаваў паэтыку яго геразаванага света- і самаўспрыняцця (напр , «Партрэт Юрыя Радзівіла», 1480—1541) У адпаведнасці з міфам аб паходжанні польскай шляхты ад *сарматаў* (у выпадку бел -літ магнатэрыі заменены на паданне аб паходжанні ад патрыцыяў Стараж Рыма, гл ў арт *Палемон*) П с ўбіраў у сябе рысы арыентапізму і дэкаратыўнасці У мастацтве Беларусі і Украіны асабліва шмат перайма ў ад фармальна-эстэт асноў іканапісу П с ўласцівы лінеарнасць малюнка, вял плоскасці яркіх колеравых паверхняў, акцэнтаванне дэкаратыўных элементаў і фактуры каштоўных тканін спалучэнні з падкрэсленым рэалізмам вобразаў («Партрэт Міхаіла Барысавіча», мяжа 16—17 ст ) Класічны П с кампазіцыйна ўключае 3 асн элементы выяву (адлюстраванне мадэлі), дэвіз увасоблены ў гербе партрэтаванага) і інскрыпцыю (разгорнуты або скарочаны да манаграмы надпіс), плоскаснасць двух апошніх элементаў супярэчліва палучаецца з маляўнічасцю першага («Партрэт Еўфрасінні Тышкевіч», каля 1659—61) П с ўваходзілі ў склад палацавых галерэй (асабліва значных у родавых маентках Радзівілаў, Сапегаў, Тышкевічаў, Пацаў), кляштарных і парк збораў У пахавальных комплексах сустракаецца разнавіднасць П с — *партрэт пахавальны* Агульная асаблівасць П с — павышаная ўвага да працкольнай дакладнасці партрэтнай характарыстыкі П с адлюстроўваў разуменне заказчыкам-феадалам ролі і месца сябе і свайго роду ў гісторыі, грамадстве, дзяржаве і нават у сучасным сусвеце, звычайна ў патэтычна прыўзнятай афарбоўцы Моцны ў П с інфармацыйны пачатак выяўляўся праз набор атрыбутаў (улады, духоўнага або сац стану мадэлі) Стваральнікамі П с былі пераважна ананімныя цэхавыя мастакі (партрэты роду Весялоўскіх з *Гродзенскага кляштара брыгітак* (1630—40 я г), але захаваліся і імены некат жывапісцаў Я Шрэтэр (працаваў у 1641—85, аўтар «Партрэта Кацярыны і Марыі Радзівіл», 1646), Д Шульц [1615—83, аўтар партрэтаў Радзівілаў, у т л Я Радзівіла (1612—55), 1652, і Пацаў, выкананых у Варшаве] П с перажыў фармальную і стылістычную эвалюцыю — ад пераважна манументальных выяў у поўны рост у канцы 16 — 1 й пал 17 ст праз больш псіхалагічныя паясныя вобразы сярэдзіны 17 ст і класіцыстычную стылізацыю часоў Яна III Сабескага да уніфікаваных па форме, пераважна пагрудных і паясных партрэтаў у сямейных галерэях 18 ст Эвалюцыя не была прасталінейнай і адзначалася паўторамі папулярных схем і вырабам шматлікіх рэплік больш стараж вобразаў для новых збораў [«Партрэт Канстанціна Астрожскага (1460—1530)» сярэдзіны 18 ст ] На мяжы 18—19 ст П с ўвасабляў выключна кансерватыўна-архаічную маст плынь, інсціраваную ўздымам нац -вызв ідэалогіі пасля падзелаў Рэчы Паспалітай (партрэт Андрэя Укольскага, 1770-я г) Найб багатыя калекцыі П с у Беларусі зберагаюцца ў Нац маст музеі Беларусі і ў Музеі стараж -бел культуры ІМЭФ Нац АН Беларусі

Да арт **Партрэт сармацкі** Партрэт К Весялоўскага 1636 Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь

*Літ* Тананаева Л И Сарматский портрет Из истории пол портрета эпохи барокко М , 1979, Хадыка А Хадыка Ю Непаўторныя рысы 3 гісторыі бел партрэта Мн , 1992, Seminaria Niedzieckie II Portret typu sarmackiego w wieku XVII w Polsce, Czechach na Slowacji i na Węgrach Krakow 1985, Gdzie Wschód spotyka Zachod Portret osobistosci dawnej Rzeczypospolitej 1576—1763 Katalog Wystawy pod kierunkiem J Malinowskiego Warszawa 1993

*Аляксей Хадыка*

**ПАРТУГА́Л** (парт portuguer), залатая манета каралеўства Партугалія 1499—1557 (з перапынкам) вартасцю ў 10 крузада (лігатурная маса 39,9 г ) 2) Назва ў Рэчы Паспалітай 16—18 ст залатых манет, з масай, большай за масу *дуката* Першы 10-дукатавы П 1562 ВКЛ выпусціў Жыгімонт II Аўгуст, апошні — у 1661 Ян II Казімір Ваза Апошнія П — каронныя 1794 3-дукатавы і 1,5-дукатавы Станіслава Аўгуста Панятоўскага П часта прызначаліся не для абарачэння а даваліся манархамі як узнагарода або на памяць, таму выконваліся на высокім мастацкім узроўні

**«ПАРТЫЗАНСКАЯ ДУБІНКА»**, сатырычны лісток, выданне ЦК КП(б)Б Выходзіла з 22 3 1942 да сак 1943 на бел мове у прыфрантавой паласе (апошнія нумары — у Маскве) у Вял Айч вайну, да ліст 1942 выданне газ *«За свабодную Беларусь»* Рэдактар I Д *Гурскі* Лісток заклікаў сав людзей да барацьбы з ворагам, змяшчаў сатырычныя вершы, байкі, памфлеты, карыкатуры Сярод удзельнікаў выдання бел пісьменнікі П Броўка, П Глебка, К Крапіва, П Панчанка, К Чорны, мастакі І Ахрэмчык, Я Зайцаў, У Мінаеў

**ПАРТЫЗАНСКАЯ МАСТАЦКАЯ САМАДЗЕ́ЙНАСЦЬ** у В я л і к у ю А й ч ы н н у ю в а й н у У партыз атрадах і на тэр партыз зон ствараліся і дзейнічалі самадзейныя агіткалектывы У іх выступленні уключаліся і паліт інфармацыі (зводкі Саўінфармбюро паведамленні пра становішча на франтах) У складзе агіткалектываў былі чытальнікі, хор, спевакі-салісты, інструменталісты і муз ансамблі, танцавальныя групы Выконваліся нар , партызанскія і папулярныя песні сав кампазітараў, частушкі, прыпеўкі, куплеты, байкі, вершы, пародыі, фельетоны, казкі, апавяданні, сатырычныя сцэнкі, паліт клаунады, літ -муз мантажы, урыўкі з п'ес, інсцэніроўкі, тэатральныя кампазіцыі Вял папулярнасцю ў слухачоў карысталіся самадзейныя вершы, апавяданні, песні, частушкі, т зв песні-пераробкі (на мелодыі папулярных нар і сав песень но-

Да арт **Партызанская мастацкая самадзейнасць** Агітатрад імя М. Горкага. Вілейская вобл

ся адной з абавязковых умоў функцыянавання партыз фарміраванняў і іх баявой дзейнасці На месцах многіх лагераў створаны мемар комплексы (гл *Зыслаў*, *Музей партызанскай славы*)

*Адам Залескі*

**ПАРТЫЗАНСКІ ПАРА́Д 1944** Адбыўся 16 7 1944 у Мінску у гонар вызвалення сталіцы ад ням -фаш захопнікаў і баявых заслуг партызан, якія разам з Чырв Арміяй прымалі ўдзел у *Беларускай аперацыі 1944*, у т л ліквідацыі акружанай групоўкі ням войск (гл *Мінскі «кацел»*) Адбыўся на тэр іпадрома (цяпер раен вул Першамайскай і Чырвонаармейскай) Ва ўрачыстым мітынгу жыхароў горада (каля 50 тыс чал ) і партызан (каля 30 тыс чал ) прымалі ўдзел дэлегацыі воінаў Чырв Арміі на чале з камандуючым 3-м Бел фронтам ген арміі І Д *Чарняхоўскім* і працоўных г Горкі (цяпер Ніжні Ноўгарад), якая перадала Мінску эшалон падарункаў Парад прымаў нач ЦШПР і старшыня СНК БССР П К *Панамарэнка*, камандаваў парадам нач БШПР П З *Калінін* Урачысты марш партызан Мінскай і некат суседніх абласцей Беларусі адкрыла партыз брыгада «Народныя мсціўцы» імя В Т Варанянскага Мінскай вобл Партызаны ішлі са сваімі сцягамі і зброяй, везлі артылерыю, ехалі на кулеметных тачанках, аўтамабілях, у т л трафейных, самаходных гарматах Асобнай калонай была прадстаўлена зводная група кавалерыі Пасля парада ўдзельнікі строем прайшлі па вуліцах Мінска П п 1944 адлюстраваў моц партыз руху рэспублікі, які набыў значэнне ваенна-стратэг фактара ў Вял Айч вайну

*Літ* Вау пшасов С Партизанская хроника 2 изд Мн , 1971, Калинин П З Партизанская республика 3 изд Мн , 1973, Джагаров М Костры партизанские 2 изд Мн , 1974, Данілачкін П Партызанскі парад // Мін праўда 1991 16 ліп

*Міхаіл Нікіцін*

**ПАРТЫЗАНСКІ РУХ У ВЯЛІ́КУЮ АЙЧЫ́ННУЮ ВАЙНУ́** Падрыхтоўка да партыз барацьбы на выпадак нападу фаш Германіі пачалася яшчэ ў 1930-я г Яна ўключала стварэнне заканспіраванай сеткі дыверсійных груп, дыверсантаў-адзіночак у гарадах і на чыгунках на З ад лініі *ўмацаваных раенаў*, арганізацыю і падрыхтоўку манеўраных партыз атрадаў і груп, забеспячэнне партыз фарміраванняў сродкамі сувязі і інш матэрыяламі, неабходнымі для барацьбы і жыцця ва ўмовах варожага тылу На Беларусі падрыхтоўкай да партыз дзеянняў займаліся парт органы і камандуючы войскамі БВА І П *Убарэвіч* Было створана 6 партыз атрадаў (Бабруйскі, Барысаўскі, Мазырскі, Мінскі, Полацкі, Слуцкі) па 300—500 чал кожны У іх уваходзілі камуністы, камсамольцы, удзельнікі грамадз вайны якія прайшлі спец навучанне ў закрытых школах На чале кожнага атрада быў штаб з вопытных кіраўнікоў (камандзіры К П *Арлоўскі*, С А *Ваўпшасаў*, В З *Корж*, С А Макарэвіч, А М *Рабцэвіч*, А К Спрогіс) Для кожнага атрада ў лясах былі закладзены схаваныя базы зброі, боепрыпасаў, амуніцыі, харчавання (50 тыс вінтовак, 150 ручных кулямeтаў, патроны, узрыўчатка і інш ) У гарадах і на буйных чыг вузлах былі створаны абучаныя падп дыверсійныя групы Аднак з-за неабгрунтаваных рэпрэсій у 1937—38 многія падрыхтаваныя партыз камандзіры і ваен спецыялісты былі знішчаны (уцалелі тыя, хто на той час знаходзіўся на вайне ў Іспаніі), атрады расфарміраваны, ліквідаваны ўсе базы зброі і боепрыпасаў Гэтыя страты для абараназдольнасці краіны выявіліся ў пач Вял Айч вайны Асн работа па арганізацыі падп і партыз барацьбы вялася ва ўмовах жорсткага *акупацыйнага рэжыму* пры адсутнасці падрыхтаваных кадраў і вопыту барацьбы, што вылілася напачатку ў вял страты сярод патрыетаў Асн задачы партыз барацьбы былі выкладзены ў дырэктыве СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 29 6 1941, якая патрабавала стварэння ў захопленых ворагам раенах партыз атрадаў і дыверсійных груп, разгортвання партыз вайны паўсюдна, у т л падрыву мастоў, дарог, парушэння тэлефоннай і тэлеграфнай сувязі, падпальвання складоў і інш 30 6 1941 ЦК КП(б)Б прыняў дырэктывы «Аб пераходзе на падпольную работу партыйных арганізацый раенаў, занятых ворагам і 1 7 1941 «Аб разгортванні партызанскай вайны ў тыле ворага» У іх даваліся канкрэтныя ўказанні па формах арганізацыі, сродках сувязі і мерах канспірацыі, вызначаліся задачы па разгортванні П р на акупіраванай тэр Беларусі, стварэнні захопнікам невыносных умоў, знішчэнні іх на кожным кроку, зрыве ўсіх мерапрыемстваў фаш улад Для арганізацыі падполля і П р ЦК і абкомы КП(б)Б пакінулі на месцах 1215 камуністаў, стваралі абл і раенныя парт к-ты, цэнтры, тройкі і інш , усяго ў 1941 на акупіраваную тэр Беларусі накіравана каля 8 тыс камуністаў У ліку першых пачалі дзейнічаць партыз атрады Камарова (Каржа, Пінская вобл ), «Чырвоны Кастрычнік» (Палеская вобл ), «Бацькі Міная» (М П *Шмырова*) і «Радзіма» (Віцебская вобл ), «Бальшавік» (Гомельская вобл ), А І Далідовіча (Мінская вобл ), М А Нарчука, А Дз Сяргеева, І Я Яраша, 277-ы Клічаўскі 6 8 1941 Ц П *Бумажкову* і Ф І *Паўлоўскаму* першым з сав партызан было прысвоена званне Героя Сав Саюза У перыяд станаўлення П р перажыў значныя цяжкасці, асабліва зімой 1941—42 Не хапала зброі, боепрыпасаў, медыкаментаў У 1942 ЦК КП(б)Б накіраваў на тэр акупіраванай Беларусі 14 партыз атрадаў і 92 арганізатарскія групы (2600 чал ), падрыхтаваныя на спец курсах (гл *Асобы беларускі збор*) Кадры для П р і падполля рыхтавалі таксама у спец школах падрыўнікоў у спецшколе на базе аператыўна-вучэбнага цэнтра Зах фронту, радыстаў, падрыўнікоў, сувязных-разведчыкаў у спецшколах Цэнтр штаба партыз руху (ЦШПР) У 1942 імі падрыхтавана і накіравана у тыл ворага 175 дыверсійных груп (2077 чал ) Разгортванне П р выклікала неабходнасць аб'яднання атрадаў у брыгады і злучэнні У студз 1942 створаны першы *партызанскі гарнізон* Паўлоўскага ў Акцябрскім р-не, у крас 1942 — першыя партыз брыгады (1-я Беларуская і «Аляксея» на Віцеб-

Да арт **Партызанскі рух** у Вялікую Айчынную вайну Партызаны брыгады імя Будзённага мініруюць мост

Да арт **Партызанскі рух** у Вялікую Айчынную вайну Партызаны атрада імя Суворава брыгады імя Варашылава прымаюць прысягу Капыльскі раен 1942

Рагачоўскі, 321 Рэчыцкі, 322 Свяцілавіцкі, 323 Сцефаненкі

**Магілеўская вобл** 324 1-ы, 325 2-і, 326 2-і Хоцімскі, 327 3-і, 328 5-ы, 329 8-ы, 330 10-ы, 331 11-ы, 332 12-ы, 333 13-ы, 334 14-ы, 335 15-ы, 336 19-ы, 337 20-ы, 338 24-ы, 339 25-ы, 340 25-ы, 341 28-ы, 342 30-ы, 343 31-ы, 344 41-ы, 345 42-і, 346 43-і, 347 44-ы, 348 45-ы «За Радзіму», 349 48-ы Крычаўскі, 350 48-ы Прапойскі, 351 60-ы імя Сядлецкага, 352 64-ы, 353 85-ы, 354 100-ы, 355 110-ы, 356 112-ы Горацкі, 357 113-ы, 358 115-ы, 359 121-ы, 360 122-і «За Радзіму», 361 124-ы Касцюковіцкі, 362 152-і, 363 208-ы імя Сталіна, 364 210-ы імя Сталіна, 365 211-ы імя Ракасоўскага, 366 212-ы імя Сумчанкі, 367 213-ы «За Савецкую Беларусь», 368 214-ы імя Калініна, 369 215-ы імя Леніна, 370 216-ы імя Панамарэнкі, 371 225-ы, 372 277-ы, 373 278-ы, 374 309-ы імя Кірава, 375 340-ы, 376 346-ы, 379 537-ы, 380 538-ы, 381 540-ы, 382 600-ы, 383 720-ы, 384 721-ы, 385 810-ы, 386 820-ы, 387 830-ы, 388 «Алеся», 389 Ананава, 390 «Анатоля», 391 «Бальшавік», 392 «Бясстрашны», 393 «Валянціна Маерава», 394 «Васільева», 395 Гарушкіна, 396 Гурскага, 397 Дуйля, 398 Журбы, 399 Казанакава, 400 Кохава, 401 «Макара», 402 Сяменава, 403 «Чапаи», 404 Чэрыкаускі

**Мінская вобл** 405 Асташонка, 406 Бачкарова, 407 Васілеўскага, 408 Даманавіцкі, 409 М Я Ермаковіча, 410 Жукоўскага, 411 «Знішчальнік», 412 імя Калініна, 413 імя Калініна, 414 імя Сталіна, 415 імя Сталіна, 416 імя Суворава, 417 Канстанцінава, 418 Кузіна, 419 «Лейтэнанта», 420 «Меркуля», 421 «Мсцівец», 422 «Мясцовыя», 423 «Народныя мсціўцы», 424 Нікіціна, 425 Някрылава, 426 Папова, 427 «Рамана», 428 Самсонава, 429 Слуцкі, 430 «Смерць фашызму», 431 Сяргеева, 432 Яроша

**Палеская вобл** 433 Васілевіцкі, 434 Васілевіцкі 435 Глускі, 436 Губіна, 437 Даманавіцкі, 438 Ельскі, 439 Жыткавіцкі, 440 імя Варашылава, 441 імя Варашылава, 442 імя Катоўскага, 443 імя Кірава, 444 імя Суворава, 445 імя Чапаева, 446 Калінкавіцкі, 447 Капаткевіцкі, 448 Качышчанскі, 449 Лельчыцкі, 450 Мазырскі, 451 Махновіцкі, 452 Нараўлянскі, 453 Петрыкаўскі, 454 Сарафанава, 455 Скараднянскі, 456 Тураускі, 457 Тураўскі «За Радзіму», 458 Хоиніцкі, 459 «Храбрацы», 460 «Чорназа», 461 Штабны

**Пінская вобл** 462 Васільева, 463 Ганцавіцкі, 464 Давыд-Гарадоцкі, 465 Іванаўскі, 466 імя Чуклая, 467 «Камарова», 468 Лунінецкі, 469 «Сокалы», 470 Столінскі, 471 Целяханскі

*Літ* Пономаренко П К Партизанское движение в Великой Отечественной войне М, 1943, Волин Б М Всенародная партизанская война М 1942, Диксон Ч, Гейльбрунн О Коммунистические партизанские действия. Пер с англ М, 1957, Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944) Док и материалы Т 1—3 Мн, 1967—82, Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны Т 1—3 Мн, 1983—85, Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944) Мн 1983, Беларусь у Вялікай Айчыннай вайне, 1941—1945 Энцыкл Мн, 1990

*Уладзімір Лемяшонак*

**ПАРТЫЗА́НСКІ РУХ НА БЕЛАРУ́СІ Ў ПЕРЫ́ЯД НЯМЕ́ЦКАЙ І ПО́ЛЬСКАЙ АКУПА́ЦЫІ 1918—20**, супраціўленне розных пластоў насельніцтва, якое вылілася ў форму ўзбр барацьбы супраць акупантаў У лютым 1918 Беларусь першая прыняла на сябе ўдар ням узбр сіл 23 2 1918 Галоўнакамандуючы Зах фронтам А Ф Мяснікоў выдаў загад пра стварэнне ў прыфрантавой паласе атрадаў спец прызначэння, каб весці малую (партыз ) вайну Першыя ў Беларусі партыз атрады ўзніклі ў ваколіцах Полацка, Віцебска, Оршы, Магілева, Быхава, Жлобіна, Гомеля, Мазыра, Калінкавіч У працэсе ням наступлення ў атрады пайшло ў Віцебскай губ каля 850 чал, у Рэчыцкім пав — 800, у раёне Лоева—Брагіна — 200 і інш Партыз фарміраванні разам з рэв атрадамі старой арміі, атрадамі Чырв гвардыі і Чырв Арміі стрымлівалі наступленне ням войск углыб Сав Расіі 3 3 1918 спынілі яго на лініі Віцебск—Орша—Магілеў—Гомель Пасля таго, як набыў сілу *Брэсцкі мір 1918*, партыз атрады былі падпарадкаваны *Заходняму ўчастку атрадаў заслоны* На тэр Беларусі, захопленай ням войскамі, быў устаноўлены жорсткі акупац рэжым Акупац адміністрацыя аднавіла прыватную ўласнасць на зямлю, памешчыкам вярталіся іх маёнткі і зямельныя ўладанні Такую палітыку варожа сустрэлі бел сяляне рух паступова ператвараўся ў магутны фактар нац -вызв барацьбы бел народа супраць ням акупантаў У тыле ням войск пачалася ўзбр партыз барацьба, якая спачатку развівалася пад кіраўніцтвам падп камуніст арг -цый Актыўную барацьбу супраць акупантау вялі і партыз фарміраванні, дзейнасць якіх накіроўвалі *левыя эсэры* Асабліва разгарнуўся партыз рух у паўд паветах Беларусі, перададзеных акупац ням уладамі Укр нар рэспубліцы Буйныя партыз атрады Пераростаўскі (750 чал ), Дзятлавіцкі (200 чал ), Насовіцкі (150 чал ), Руднянскі (150 чал ), 1-ы Гомельскі (150 чал ), Закружскі (120 чал ) дзейнічалі ў Гомельскім пав , Федараўскі (500 чал ), Рагінскі (120 чал ), Чачэрскі (120 чал ) — у Рагачоўскім пав , некат атрады ў Рэчыцкім і Мазырскім пав І этыя паветы ўваходзілі ў створаную ўрадам гетмана П П Скарападскага Палескую губ , на тэр якой падп і партыз барацьбой кіравау *Палескі падпольны камітэт РКП(б)* у кантакце з укр падп камуніст арг-цыямі Баявую дзейнасць атрадаў Гомельскага пав ка ардынаваў Гомельскі рэўком, створаны ў крас 1918 пры Палескім к це партыі і перавыбраны ў жн 1918 Партыз атрады былі таксама ў Бабруйскім, дзе рух супраць акупантаў ахапіў некалькі валасцей (гл *«Рудабельская рэспубліка»*), у Барысаўскім, Быхаўскім, Гродзенскім, Мінскім, Навагрудскім, Полацкім і інш паветах У ліп 1918 па ініцыятыве Паўн -Зах абл к-та РКП(б) быў створаны каардынуючы цэнтр партыз рухам, зацверджаны «План арганізацыі

Да арт **Партызанскі рух на Беларусі ў перыяд нямецкай і польскай акупацыі 1918—20** Атрад беларускіх партызан у тыле польскіх акупантаў.

бальшавіцкіх, эсэраўскіх арг-цый у барацьбу з польскімі інтэрвентамі былі ўцягнуты шырокія пласты насельніцтва, што значна памагло Чырв Арміі ў барацьбе за вызваленне Беларусі ў ліп 1920

У выніку перамір'я, падпісанага паміж сав і польскім урадамі 12 10 1920 у Рызе, Зах Беларусь засталася ў Польшчы На тэр Зах Беларусі эсэраўскія партыз атрады разгарнулі барацьбу за пераход улады да Рады БНР З такімі ж установкамі партыя бел эсэраў імкнулася разгарнуць партыз барацьбу і на тэр Сав Беларусі На канчатковым этапе вайны барацьба за ажыццяўленне нацыянальнай ідэі наиб поўна праявілася ў ходзе *Слуцкага паўстання 1920*

Прэтэндэнтам на кіраўніцтва партыз рухам стала выступаць і бел паліт сял арг-цыя «*Зялены дуб*» Пад яе кіраўніцтвам дзейнічала 40 атрадаў, якія мелі больш за 5 тыс членаў на тэр БССР і 6 тыс у Зах Беларусі Але яе партыз фарміраванні мелі выразную прапольскую арыентацыю і ў сувязі з гэтым не маглі дамінаваць у нац-вызв руху Беларусі Прыярытэт заставаўся ў партыі бел эсэраў, якая пасля падпісання *Рыжскага мірнага дагавора 1921*, актыўна разгарнула *партызанскі рух у Заходняй Беларусі* Кіраўніцтва бел эсэраў стала рыхтаваць узбр паўстанне Аднак яно было сарвана польскім урадам Партыз рух, які ўзначальвалі бел эсэры ў Зах Беларусі, не прынес ім поспеху у барацьбе за ажыццяўленне бел нац ідэі У сярэдзіне 1920-х г ен перастаў існаваць як фактар узбр барацьбы бел народа за дзярж незалежнасць

*Літ* Коммунистическая партия Белоруссии в резолюциях и решениях съездов и пленумов ЦК Т 1 Мн, 1983, Борьба за Советскую власть в Белоруссии, 1918—1920 гг Сб док и материалов Т 1—2 Мн, 1968—71, Крах немецкой оккупации в Белоруссии в 1918 г Мн, 1947, Очерки истории Коммунистической партии Ч 1 2 изд Мн, 1968, Гісторыя Беларускай ССР Т 3 Мн, 1973, Лочмель И Ф Очерк истории борьбы белорусского народа против польских панов М, 1940, Каменская Н В Белорусский народ в борьбе за Советскую власть (1919—1920 гг) Мн, 1963, Михушина И В Польско-советская война, 1919—1920 М, 1994 Шкляр Е Н Борьба трудящихся Литовско-Белорусской ССР с иностранными интервентами и внутренней контрреволюцией (1919—1920 гг) Мн, 1962, Почанин С З В грозовом восемнадцатом Мн, 1969 Журов А Е Под руководством партии Мн, 1970, Сташкевіч М С Непазбежнае банкруцтва Мн, 1974, Яго ж На защите идей Октября Мн, 1978, Яго ж Приговор революции Крушение антисов движения в Белоруссии, 1917—1925 Мн, 1985, Нарысы гісторыі Беларусі Ч 2 Мн, 1995

*Мікалай Сташкевіч*

**ПАРТЫЗА́НСКІ РУХ У АЙЧЫ́ННАЙ ВАЙНЕ́ 1812**, узброеная барацьба нар мас на акупіраванай тэрыторыі супраць напалеонаўскіх войск На Беларусі меў стыхійны характар і спалучаўся з антыпрыгонніцкім сял рухам З пачаткам ваен дзеянняў многія жыхары бел-літ губерняў забіралі сваю маемасць і з сем'ямі хаваліся ў лясах, дзе некаторая частка сялян пачала аб'ядноўвацца ў партыз атрады Гэтыя атрады выступалі і супраць сваіх паноў (якія ў асн падтрымалі Напалеона), і супраць франц марадзёраў Гэты рух ахапіў акупіраваныя франц войскамі тэр Віленскай, Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губ Толькі за верасень 1812 1-ы дэпартамент Мінскага гал суда разгледзеў 28 крымінальных спраў, сярод якіх 25 былі звязаны з выступленнямі сялян супраць сваіх памешчыкаў Так, сяляне весак Старaселле, Мажаны, Клеўкі, Есьман Барысаўскага пав стварылі некалькі атрадаў і нападалі на хлебныя магазіны, свірны, асеці і кладоўкі мясц памешчыкаў, а потым пачалі рабаваць і паліць іх дамы Сяляне атрада з в Трасцянец (Ігуменскі пав) на чале з Тарасам Барысенкам забілі свайго памешчыка В Глазко з сям'ей і спалілі яго маеитак Класічным прыкладам партыз атрада, які актыўна дапамагаў рус войску, быў атрад сялян в Жарцы (Полацкі пав) Гэта веска апынулася паміж 2 корпусамі — французскім маршала *Удзіно* і рускім П Х *Вітгенштэйна* Усе яе дарослае насельніцтва аб'ядналася ў атрад на чале з селянінам Максімам Маркавым Разам з казакамі атрад неаднаразова выступаў супраць французаў Разам з дружынамі пецярбургскага і наўгародскага апалчэння ен удзельнічаў і ў вызваленні Полацка 22 чал з іх былі ўзнагароджаны крыжамі, ім была выдадзена «Пахвальная грамата» як «узнагарода за старанне і руплівасць на карысць айчыне» Некат частка партыз сял атрадаў працягвала нападаць на адступаючых французаў да зімы 1812

*Літ* Краснянский В Г Минский департамент Великого княжества Литовского СПб, 1902, Корнейчик Е Белорусский народ в Отечественной войне 1812 г Мн, 1962

*Алена Філатава*

**ПАРТЫЗА́НСКІ РУХ У ЗАХО́ДНЯЙ БЕЛАРУ́СІ**, адна з форм барацьбы працоўных за сац і нац вызваленне і ўз'яднанне Зах Беларусі з БССР Пасля *Рыжскага мірнага дагавора 1921* у Зах Беларусі, якая адышла да Польшчы, узбр партыз барацьба актывізавалася і набыла шырокі размах Большая частка насельніцтва Зах Беларусі не мірылася з анексіяй этнічных бел зямель, рэстаўрацыяй улады капіталістаў і памешчыкаў, выступала супаць нац прыгнету, жорсткай эксплуатацыі, каланізатарскай палітыкі польскіх улад Масавай базай партыз руху з'яўляліся сяляне, рамеснікі, вясковая інтэлігенцыя, частка моладзі, якая не хацела служыць у польскай арміі Партыз атрады і групы часта ўзнікалі стыхійна, прычым байцы некат узбр фарміраванняў пакідалі дом толькі на час выканання пэўнай аперацыі Такая тактыка давала магчымасць весці паспяховую барацьбу ў няроўных умовах Партыз рух не меў адзінага кіруючага цэнтра, асобныя фарміраванні толькі зрэдку ўзгаднялі і каардынавалі свае дзеянні На Беласточчыне і Гродзеншчыне партыз рух узначаліла *Беларуская партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў* (БПС-Р) З гэтай мэтай летам 1921 быў створаны Цэнтр бел паўстанцкі к-т на чале з членам **ЦК БПС-Р** У Пракулевічам Для аператыўнага кіраўніцтва паўстанцкім рухам у 1921 створаны *Галоўны штаб беларускіх партызан* Найб значным з'яўлялася партыз злучэнне пад камандаваннем Г Шыманюка, якое дзейнічала ў раене Белавежскай пушчы Са жн 1922 пры злучэнні друкавалася газ «Беларускі партызан» У яе 1-м нумары быў змешчаны ультыматум бел партызан да кіраўніка польскай дзяржавы Ю Пілсудскага, у якім яны патрабавалі адмовіцца ад прэтэнзій на Беларусь і прызнаць яе правы на самавызначэнне, спыніць рэпрэсіі супраць беларусаў, вызваліць паліт вязняў з турмаў, пакласці канец рабаванню прыродных багаццяў Беларусі, вывесці з тэр Зах Беларусі польскія вайсковыя часці і паліцыю, неадкладна склікаць сумесную камісію для перадачы ўсіх бел спраў бел боку і вырашэння спрэчных пытанняў Копія ультыматума была адаслана старшыні Лігі Нацый Польскія ўлады праігнаравалі гэтыя патрабаванні, на што партызаны адказалі ўзмацненнем узбр барацьбы На Палессі, Віленшчыне і Навагрудчыне партыз рухам кіравалі камуністы і тыя грамадскія арг-цыі, якія ім спачувалі Тут ен меў больш класавы, антыпамешчыцкі характар і з канца 1923 праходзіў пад непасрэдным кіраўніцтвам ЦК КПЗБ Найб вядомымі кіраўнікамі партыз атрадаў былі камуністы К П *Арлоўскі*, Д І Балашка, С А *Ваўпшасаў*, А Н Дзік, В З *Корж*, А М *Рабцэвіч*, К М Такушэвіч, П М Яблонскі, а таксама Г І Іваненка і М Кавалевіч, партыз атрады якіх дзейнічалі ў Пінскім і Сарненскім пав Асобныя партыз кіраўнікі карысталіся крыптанімам атамана *Мухі-Міхальскага* Паводле прызнання кіраўніка польскага ўрада Грабскага, у 1922 зарэгістравана 878, у 1923 — 503 партыз аперацыі Шырокі размах выступленні партызан набылі ў Баранавіцкім, Бельскім, Вілейскім, Гродзенскім, Лідскім, Лунінецкім і Столінскім пав Найб значныя аперацыі партызан у Ільянскай гміне (1921—22), мяст Ілья (1922) Вілейскага пав, мяст Кляшчэлі (1922) Бельскага пав, в Чучавічы Столінскага, Добрае Дрэва Лунінецкага пав (1922), у 7 маентках Дзісенскага пав, мяст Шчучын, Скідзель, Целяханы, Краснае, Вішнева, Гарадок, Пружаны (1923—24), г Стоўбцы, ст Парахонск Лунінецкага, ст Лясная (1924), мяст Ляхавічы (1925) Баранавіцкага пав У сваей дзейнасці партызаны апіраліся на шырокую падтрымку мясц насельніцтва Яны нападалі на адм ўстановы, ваенна-паліцэйскія падраздзяленні, гарнізоны і аб'екты, маенткі і сядзібы асаднікаў, чыноўнікаў і інш прыгнятальнікаў працоўных, кантралявалі дарогі, спынялі цягнікі, рабілі засады, наводзілі жах на акупац адміністрацыю, памешчыкаў і асаднікаў Паме-

*гісторыі партыі* і рэв руху пры ЦК КП(б)Б Аснову яго склалі архівы б Гістпарта ЦБ КП(б)Б (у Мінску) і ЦК КП(б)Б (апошні ў 1928 перададзены Гістпарту з месцам захоўвання ў Магілеве) У сувязі з ліквідацыяй 21 8 1938 Ін-та гісторыі партыі і Кастр рэвалюцыі пры ЦК КП(б)Б архіў перайшоў у падпарадкаванне ЦК КП(б)Б і атрымаў назву Партархіва пры ЦК КП(б)Б Да 26 6 1941 знаходзіўся ў Магілеве Уключаў дакументы за 1919—35 ЦК і КК КП(б)Б, ЦК ЛКСМБ, мясц парт і камсам органаў і арг-цый, кантрольных камісій, палітаддзелаў МТС і інш (усяго 226 825 адзінак захоўвання) 26 6 1941 Партархіў разам з бягучымі архівамі ЦК КП(б)Б, Беластоцкага і Мінскага абкомаў КП(б)Б, а таксама партархівам Магілеўскага абкома партыі быў адпраўлены ў Маскву, потым у Уфу (Башкірыя) У кастр 1944 Партархіў рээвакуіраваны ў Магілеў, дзе знаходзіўся да лета 1956 У гэты перыяд у яго паступіла шмат дакументаў па гісторыі партыз руху і антыфаш падполля, у т л матэрыялы Бел штаба партыз руху (БШПР), партыз брыгад і атрадаў, падп парт і камсам органаў і арг-цый, антыфаш груп, *Камісіі па гісторыі Айчыннай вайны* пры ЦК КП(б)Б і інш Паводле пастановы ЦК КП(б)Б ад 23 9 1947 у Партархіве былі сканцэнтраваны амаль усе дакументы і матэрыялы ваен часу арг-цый КП(б)Б, ЛКСМБ, а таксама партыз фарміраванняў і антыфаш груп У канцы 1950 у структуры Партархіва створаны спец сектар, супрацоўнікі якога ў 1951—54 распрацавалі па спісах асабовага складу партыз брыгад і атрадаў алфавітны каталог (больш за 300 тыс картак) У сувязі з аднаўленнем у 1945 дзейнасці Ін-та гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б Партархіў зноў уключаны ў яго склад з захаваннем б назвы — Партархіў ЦК КП(б)Б У чэрв —ліп 1956 пераведзены ў Мінск Паводле рашэння ЦК КП(б)Б ад 21 1 1961 перайменаваны ў П а І г п пры ЦК КПБ У пач 1980-х г дакументы мясц парт і камсам органаў і арг-цый за ваенны перыяд, якія захоўваліся ў Партархіве, перададзены ў *Партыйныя архівы абкомаў КПБ* У адпаведнасці з рашэннем ЦК КПБ ад 24 9 1990 П а І г п і партархіў Мінскага абкома КПБ аб'яднаны і на іх базе створаны *Цэнтральны партыйны архіў КПБ* У снеж 1991 перададзены ў падпарадкаванне Галоўархіва Рэспублікі Беларусь, у крас 1992 увайшоў у склад *Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь* На пач 1980-х г у Партархіве захоўвалася больш за 500 тыс спраў за 1917—75 агульнага справаводства і па асабовым складзе Найб колькасць іх адносілася да 1920—41 У Партархіве знаходзіліся фонды ЦК КПБ, ЦК ЛКСМБ, ЦК КПЗБ, губкомаў, павяткомаў, акругкомаў, абкомаў, райкомаў, гаркомаў КПБ і ЛКСМБ за адпаведны перыяд, матэрыялы кантрольных камісій розных узроўняў, камісій па чыстках у партыі, палітаддзелаў МТС, саўгасаў, рэдакцый некат газет і часопісаў — органаў цэнтр і мясц к-таў КПБ і ЛКСМБ, навук і навуч устаноў [Гістпарта пры ЦБ КП(б)Б, *Гомельскага гістпарта*, Ін-та масавага завочнага навучання пры ЦК КП(б)Б, Мінскай ВПШ, Ін-та гісторыі партыі пры ЦК КПБ і інш ] Вял групу дакументаў складалі партыз фонды (БШПР, штабоў Баранавіцкага, Беластоцкага, Брэсцкага, Гомельскага, Мінскага, Палескага, Пінскага, Асіповіцкага партыз злучэнняў, ваенна-аператыўных груп падп абкомаў і райкомаў КП(б)Б, аператыўных груп Цэнтр штаба партыз руху і БШПР, партыз брыгад і атрадаў), асабістыя фонды некат дзярж дзеячаў, удзельнікаў рэв руху (С В Прытыцкага, В З Харужай і інш ) У 1966—85 у Партархіве існаваў сектар навук распрацоўкі матэрыялаў па гісторыі партыз руху ў Беларусі 1941—44 Вынікам яго дзейнасці разам з парт органамі і органамі дзяржбяспекі Беларусі стала паступленне ў архіў вял колькасці дакументаў па гісторыі гар і раённага антыфаш падполля на Беларусі ў Вял Айч вайну Акрамя таго, на дадатковы ўлік было ўзята некалькі тысяч б партызан і падпольшчыкаў, прозвішчы якіх па розных прычынах адсутнічалі ў дакументах ваен часу У Партархіве захоўвалася шмат т зв «няпрофільных фондаў», у т л выканкома Зах фронту, часцей асобага прызначэння, непралетарскіх партый (Паалей-Цыена, Бунда і інш ), небальшавіцкіх урадаў (Бел Нар Рэспублікі і інш ) Многія дакументы адлюстроўваюць падзеі, звязаныя з правядзеннем у 1920-я г палітыкі *беларусізацыі*, паліт рэпрэсіямі ў 1930—50-я г Матэрыялы Партархіва з'яўляюцца каштоўнымі крыніцамі для вывучэння гісторыі рэв і нац -вызв руху на Беларусі ў пач 20 ст , грамадз і Вял Айч войнаў, сацыяліст пераўтварэнняў у гарадзе і весцы ў 1920—30-я г , барацьбы працоўных Зах Беларусі за нац вызваленне Супрацоўнікі Партархіва ўдзельнічалі ў падрыхтоўцы і выданні зборнікаў дакументаў і матэрыялаў «Крах нямецкай акупацыі ў Беларусі ў 1918 г» (1947), «Удзел Беларусі ва ўтварэнні СССР» (1972), «Падпольныя партыйныя органы Кампартыі Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны (1941—1944)» (1975), «Жыцце, аддадзенае народу» (1978), «Пісьмы працоўных Беларусі У І Леніну» (3-е выд , 1980), «Партызанскія фарміраванні Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны (чэрвень 1941 — ліпень 1944)» (1983), «У няскораным Мінску» (1987), «Па волі народа» (1988)

*Літ* Гл пры арт *Партыйныя архівы абкомаў КПБ* *Міхась Шумейка*

**ПАРТЫ́ЙНЫЯ АРХІ́ВЫ АБКО́МАЎ КПБ**, структурныя часткі абласных камітэтаў КПБ у 1940—91 Захоўвалі дакументы абл і раённых парт і камсам органаў, а таксама пярвічных арг-цый КПБ і ЛКСМБ Паводле рашэння ЦК ВКП(б) ад 2 12 1939 «Аб мясцовых партархівах Інстытута Гістпарта» 3 3 1940 створаны Мінскі, Віцебскі, Гомельскі, Магілеўскі і Палескі (у Мазыры) партархівы У іх зберагаліся дакументы з 1936 (Матэрыялы больш ранняга перыяду знаходзіліся ў Партархіве пры ЦК КП(б)Б) Да пач Вял Айч вайны ў партархівах усх абласцей БССР былі сканцэнтраваны дакументы за 1936—37 мясц парт і камсам органаў і арг-цый, адпаведных паліт аддзелаў МТС, саўгасаў і інш (у зах абласцях Беларусі да вайны партархівы не ствараліся) З пачаткам вайны амаль усе іх дакументы (за выключэннем Магілеўскага партархіва), знішчаны, згублены таксама матэрыялы паловы абкомаў, райкомаў, гаркомаў КП(б)Б і ЛКСМБ бягучага справаводства за 1938—41 Дакументы якія ўдалося эвакуіраваць, знаходзіліся ў Маскве, Саратаве, Тамбове, Кургане і інш гарадах Расіі У 1941—43 яны былі сканцэнтраваны ў Партархіве пры ЦК КП(б)Б, які часова размяшчаўся ў Уфе (Башкірыя), і ў 1944 рээвакуіраваны ў Магілеў Паводле пастановы ЦК КП(б)Б ад 2 9 1947 «Аб арганізацыі партархіваў абкомаў КП(б)Б» партархівы створаны пры ўсіх абл к-тах КПБ Асн іх задачамі з'яўляліся канцэнтрацыя, захоўванне, апрацоўка архіўных дакументаў парт і камсам органаў і арг-цый абласцей, вывучэнне і распрацоўка архіўных матэрыялаў па пытаннях мясц парт і камсам арг-цый, выдача даведак па запытах парт , камсам і сав органаў Захоўванню ў П а а КПБ падлягалі дакументы і матэрыялы парт і камсам органаў і арг-цый абласцей з моманту вызвалення іх тэрыторый ад ням -фаш захопнікаў Аналагічныя дакументы ваен і ваен часу перадаваліся ў Партыйны архіў Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ У сувязі з ліквідацыяй у 1954 Баранавіцкай, Бабруйскай, Палескай, Пінскай і Полацкай, у 1960 Маладзечанскай абласцей партархівы іх абкомаў КПБ ліквідаваны Фонды абкомаў КПБ і ЛКСМБ перададзены ў Партархіў Ін-та гісторыі партыі пры ЦК КПБ, райкомаў і гаркомаў — у партархівы абкомаў у адпаведнасці з новым адм -тэр падзелам Беларусі У пач 1980-х і усе дакументы ваен часу мясц парт і камсам органаў, а таксама фонды абкомаў КПБ і ЛКСМБ ліквідаваных абласцей перададзены з Партархіва Ін-та гісторыі партыі пры ЦК КПБ у П а а КПБ Дакументы ваен часу, створаныя мясц падп парт і камсам органамі, антыфаш арг-цыямі і групамі, засталіся ў Партархіве Ін-та гісторыі партыі пры ЦК КПБ У сувязі са спыненнем у 1991 дзейнасці КПБ партархівы абкомаў уключаны ў дзяржархівы абласцей на правах аддзелаў (філіялаў) У вер 1996 на базе б партархіваў Гомельскага, Гродзенскага і Магілеўскага абкомаў створаны дзяржархівы грамадскіх аб'яднанняў адпаведных абласцей

*Літ* П о ч а н и н С З Партийные архивы Белоруссии — документальная база истории КПБ // Вопросы архивоведения и источниковедения в БССР Мн , 1971, Архіўная спра

раўнікі і многія члены былых П п рэпрэсіраваны Адзінай П п заставалася *Камуністычная партыя Беларусі* У Зах Беларусі, якая з 1921 знаходзілася пад уладай Польшчы, захавалася шматпартыйнасць Дзейнічалі Бел партыя незалежных сацыялістаў, Бел сял -работніцкая грамада, Бел хрысціянская дэмакратыя, Кампартыя Зах Беларусі (гл адпаведныя арт ) і інш У сувязі з рэпрэсіямі польскіх улад большасць з іх таксама спынілі існаванне У час Вял Айч вайны спробы лідэраў *Беларускай нацыянал-сацыялістычнай партыі* (1930—40-я г ) і *Беларускай незалежніцкай партыі* (1942—44) разгарнуць паліт дзейнасць пацярпелі крах У канцы 1980-х абвастрыўся ідэйны крызіс КПСС, што адбілася і на КПБ Узніклі апазіцыйныя Кампартыі арг-цыі (*Беларускі народны фронт «Адраджэньне»* і інш ) У пач 1990-х г у выніку развала СССР і спынення дзейнасці КПСС аднавілася шматпартыйнасць У 1990—91 у Беларусі сфарміраваліся 5 П п Аб'яднаная дэмакр партыя Беларусі, Бел с -д грамада, Бел сял партыя, Нац -дэмакр партыя, Хрысціянска-дэмакр саюз 5 10 1994 прыняты Закон «Аб палітычных партыях», паводле якога для рэгістрацыі П п неабходна наяўнасць не менш за 500 членаў-заснавальнікаў На пач 1998 у Рэспубліцы Беларусь дзейнічала 35 партый, зарэгістраваных Мін-вам юстыцыі 27 5 1998 зарэгістравана Бел с -д грамада У 1998 па рашэнні Вярх суда ў адпаведнасці з арт 35 п 2 Закона «Аб палітычных партыях» 9 П п ліквідаваны На 1 1 1999 у Рэспубліцы Беларусь налічвалася 28 П п (гл табліцу)

*Літ* Турук Ф Белорусское движение М , 1921 (репр изд Мн , 1994), Марченко М Н , Фарукшин М Х Буржуазные политические партии М , 1987, Луцкевіч А. За дваццаць пяць гадоў (1903—1928) Мн , 1991, Октябрь 1917 и судьбы политичес-

Табліца

**Палітычныя партыі Беларусі**

| Назва | Дата ўстаноўчага з'езда (канферэнцыі) | Даты рэгістрацыі (перарэгістрацыі) | Орган кіравання |
|---|---|---|---|
| 1 Аб'яднаная грамадзянская партыя | 1 10 1995 | 28 11 1995 | Нацыянальны камітэт |
| 2 Аграрная партыя | 13 6 1992 | 13 7 1992 (6 2 1995) | Цэнтральны савет |
| 3 Беларуская аб'яднаная спартыўная партыя | 17 12 1994 | 22 2 1995—25 3 1998* | Савет |
| 4 Беларуская народная партыя | 5 11 1994 | 8 12 1994 | Камітэт |
| 5 Беларуская нацыянальная партыя | 1 9 1994 | 20 9 1994 (25 3 1995) | Вышэйшая рада |
| 6 Беларуская партыя жанчын «Надзея» | 28 4 1994 | 3 6 1994 (17 3 1995) | Савет |
| 7 Беларуская партыя «За сацыяльную справядлівасць» | 19 9 1996 | 4 12 1996—17 6 1998* | Савет |
| 8 Беларуская партыя «Зялёны мір» | 17 4 1994 | 3 6 1994 (13 2 1995) | Цэнтральная рада |
| 9 Беларуская партыя «зялёных» | 30 12 1992 | 1 2 1993 (28 10 1998)* | Зялёная рада |
| 10 Беларуская партыя працы | 25 11 1993 | 24 2 1994 (18 4 1995) | Савет |
| 11 Беларуская патрыятычная партыя | 8 10 1994 | 10 11 1994 | Савет |
| 12 Беларуская рэспубліканская партыя | 28 3 1994 | 17 6 1994 (8 6 1995) | Палітсавет |
| 13 Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада | 15 2 1998 | 27 5 1998 | Цэнтральная рада |
| 14 Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя «Народная грамада» | 29 6 1996 | 29 1 1997 | Цэнтральны камітэт |
| 15 Беларуская сацыялістычная партыя | 28 7 1994 | 19 8 1994 (19 4 1995) | Палітычны камітэт |
| 16 Беларуская сацыяльна-спартыўная партыя | 6 11 1994 | 9 12 1994 | Савет |
| 17 Беларуская сялянская партыя | 23 2 1991 | 11 4 1991 (22 2 1995) | Цэнтральная рада |
| 18 Беларуская хрысціянска-дэмакратычная партыя | 4 12 1994 | 21 3 1995 | Савет |
| 19 Беларуская хрысціянска-дэмакратычная злучнасць | 1 6 1991 | 16 12 1991 (27 6 1995) | Каардынацыйная рада |
| 20 Беларуская экалагічная партыя | 16 2 1993 | 19 4 1994 (13 11 1998)* | Цэнтральны савет |
| 21 Беларуская экалагічная партыя зялёных «БЭЗ» | 1 2 1993 | 28 10 1998 | Цэнтральны выканаўчы камітэт |
| 22 Камуністычная партыя Беларусі | 2 11 1996 | 21 11 1996 | Цэнтральны камітэт |
| 23 Ліберальна-дэмакратычная партыя | 5 2 1994 | 24 2 1994 (9 3 1995) | Вышэйшы савет |
| 24 Народная партыя «Адраджэнне» | 5 3 1995 | 29 3 1995—31 3 1998* | Савет |
| 25 Нацыянальна-дэмакратычная партыя беларусаў | 23 6 1990 | 25 6 1991 (25 8 1995) | Вышэйшая рада |
| 26 Партыя аматараў піва | 14 8 1993 | 30 12 1994 (27 3 1995)—26 3 1993* | Цэнтральны каардынацыйны камітэт |
| 27 Партыя «Ачышчэнне» | 6 5 1995 | 4 12 1995—30 3 1998* | Рэспубліканскі савет |
| 28 Партыя Беларускага народнага фронту | 30 5 1993 | 19 8 1994 (26 12 1994) | Сойм |
| 29 Партыя «Беларускі навукова-вытворчы кангрэс» | 2 10 1992 | 22 10 1992 (28 3 1995)—25 3 1998* | Савет |
| 30 Партыя здаровага сэнсу | 3 12 1994 | 30 1 1995 | Рада |
| 31 Партыя камуністаў беларуская | 7 12 1991 | 26 5 1992 (30 1 1995) | Цэнтральны камітэт |
| 32 Партыя ўсебеларускага адзінства і згоды | 26 6 1994 | 19 8 1994 (27 3 1995)—27 3 1998* | Дума |
| 33 Партыя «Хрысціянска-дэмакратычны выбар» | 31 1 1995 | 21 4 1995 | Каардынацыйная рада |
| 34 Рэспубліканская партыя | 12 3 1994 | 25 5 1994 (27 3 1995) | Цэнтральнае праўленне |
| 35 Рэспубліканская партыя працы і справядлівасці | 26 6 1993 | 18 8 1993 (31 3 1995) | Палітсавет |
| 36 Сацыял-дэмакратычная партыя народнай згоды | 15 3 1997 | 21 5 1997 | Савет партыі |
| 37 Славянскі сабор «Белая Русь» | 26 8 1992 | 4 9 1992 (26 2 1995) | Савет |

* Даты ліквідацыі партый

далі дазвол на знаходжанне на тэр Прыбалтыкі ням войск 20 8 1919 Савет Міністраў П м к афіцыйна прызнаў Эстонію, Латвію і Літву «аўтаномнымі дзяржавамі» з правам падтрымкі дыпламат адносін з «саюзнымі і асацыіраванымі дзяржавамі», але адмовіўся прызнаць іх незалежнасць дэ-юрэ Пасля паражэння белых армій восенню 1919 кіраўнікі П м к былі вымушаны змяніць тактыку ў адносінах да РСФСР і зрабіць упор на стварэнне на яе межах «санітарнага кардона» з новых незалежных дзяржаў Усх і Цэнтр Еўропы У студз 1920 П м к прызнала дэ-факта урады Грузіі, Азербайджана і Арменіі і зацвердзіла праграму ваен, фін і харчовай дапамогі гэтым краінам 16 1 1920 П м к фактычна адмяніла эканам блакаду Сав Расіі

Бел праблематыка на П м к разглядалася ў кантэксце «рускага» і «польскага» пытанняў У студз 1919 на канферэнцыю ў складзе літ дэлегацыі прыбыў Д *Сямашка* У маі 1919 на П м к прыбыла самастойная дэлегацыя БНР на чале з А *Луцкевічам* Яна прадставіла канферэнцыі мемарандум і карту з вызначанымі этнагр межамі Беларусі У час знаходжання ў Парыжы Луцкевіч меў шэраг сустрэч з прадстаўнікамі ваен -паліт і эканам колаў зах краін Уступаў у кантакты з рас і інш эмігранцкімі групоўкамі У чэрв 1919 ад імя ўрада Бел Нар Рэспублікі ён заключыў з прадстаўнікамі ўрада Францыі гандл пагадненне (сілы не набыло) Аднак місія не дала тых вынікаў, на якія спадзявалася беларуская дэлегацыя У жн 1919 Луцкевіч пачаў у Парыжы перагаворы з кіраўніком польскага ўрада І Падарэўскім, які прапанаваў прадоўжыць іх у Варшаве У вер 1919 Луцкевіч пакінуў Парыж (пасля яго ад'езду функцыі кіраўніка бел дэлегацыі выконваў Я.Ладноў) Пасля афіц завяршэння П м к дэлегацыя БНР супрацоўнічала з яе рабочымі органамі Разам з прынятымі на Вашынгтонскай мірнай канферэнцыі 1921—22 пагадненнямі дагаворы, падрыхтаваныя на П м к, заклалі асновы «версальска-вашынгтонскай» сістэмы міжнар адносін Гэтая сістэма паклала юрыд канец 1-й сусв вайне, але не зняла напружанасці ў міжнар адносінах, што ў далейшым стала адной з прычын *другой сусветнай вайны 1939—45*

*Літ* Никольсон Г Как делался мир в 1919 г Пер с англ М, 1945, Штейн Б Е «Русский вопрос» на Парижской мирной конференции (1919—1920 гг) М, 1949, Ллойд Джордж Д Правда о мирных договорах Пер с англ Т 1—2 М, 1957, За дзяржаўную незалежнасць Беларусі Лендан, 1960, История дипломатии Т 3 2 изд М, 1965, Скаба А.Д Парижская мирная конференция и иностранная интервенция в Стране Советов (январь—июнь 1919 г) Киев 1971,Ціхаміраў А.В Беларуская праблематыка на Парыжскай мірнай канферэнцыі // Весці АН Беларусі Сер гуманіт навук 1996 № 4, Знешняя палітыка Беларусі Зб дак і матэрыялаў Т 1 Мн, 1997, Киссинджер Г Дипломатия Пер с англ М, 1997 *Аляксандр Ціхаміраў*

**ПАРЫ́ЖСКАЯ МІ́РНАЯ КАНФЕРЭ́НЦЫЯ 1946**, міжнародная канферэнцыя (29 ліп — 15 кастр), скліканая для разгляду падрыхтаваных Саветам міністраў замежных спраў (СМЗС, міжнар орган, у які ўваходзілі міністры замежных спраў СССР, Вялікабрытаніі, ЗША, Францыі і Кітая) праектаў мірных дагавораў з б саюзнікамі гітлераўскай Германіі ў Еўропе ў час 2-й сусв вайны 1939—45 — Італіяй, Румыніяй, Балгарыяй, Венгрыяй і Фінляндыяй Праходзіла ў адпаведнасці з рашэннямі Маск нарады міністраў замежных спраў СССР, ЗША і Вялікабрытаніі (снеж 1945) У рабоце канферэнцыі ўдзельнічалі дэлегацыі 21 краіны, якія зрабілі найбольшы ўклад у вайну супраць гітлераўскай кааліцыі, у т.л СССР, УССР і БССР У склад дэлегацыі БССР уваходзілі 7 паўнамоцных дэлегатаў (К В Кісялёў — кіраўнік, А Г Бондар, П В Лютаровіч, А А Чыжоў, Ф П Шмыгаў, Г Г Навіцкі, В І Фясько) і 2 прадстаўнікі (Н П Новак, В І Яшумаў) Бел дэлегацыя дзейнічала ў адпаведнасці з агульнасаюзнай лініяй і падзелам працы паміж 3 сав дэлегацыямі, падтрымлівала праекты мірных дагавораў, выступала са сваімі прапановамі і заўвагамі Члены дэлегацыі ўдзельнічалі ў рабоце 10 камісій, зрабілі 50 выступленняў у камісіях і на пленарных пасяджэннях канферэнцыі БССР была абрана ў склад мандатнай камісіі Кісялёў узначальваў камісію па паліт і тэрытарыяльных пытаннях для Балгарыі і выступаў у абарону яе інтарэсаў У італьян камісіі бел дэлегацыя прапанавала свой варыянт італа-югаслаўскай мяжы, паводле якога да Югаславіі павінны былі адысці тэрыторыі са слав насельніцтвам Ён атрымаў падтрымку УССР, Югаславіі, Польшчы, Чэхаславакіі і Эфіопіі, але быў адхілены большасцю галасоў Бел дэлегацыя ўнесла папраўку пра ўдакладненне мяжы паміж Югаславіяй і Трыестам, якая была таксама адхілена Курс СССР, УССР, БССР, Польшчы, Чэхаславакіі і Югаславіі на падтрымку краін Усх Еўропы супраць процідзеянне зах блока на чале з ЗША і Вялікабрытаніяй Дэлегацыя БССР выказалася ў падтрымку рэпарацыйных патрабаванняў сав ўрада да б саюзнікаў фаш Германіі, аднак не ставіла пытанне пра задавальненне *рэпарацый* непасрэдна на карысць Беларусі У атмасферы вострай дыпламат барацьбы паміж сав і зах блокамі прадстаўнікі БССР часам праяўлялі спрошчаны падыход да вырашэння канкрэтных пытанняў мірнага ўрэгулявання, выступалі супраць выкарыстання Міжнар Суда для вырашэння спрэчак адносна тлумачэння ці выканання мірных дагавораў з б саюзнікамі Германіі Кіраўніцтва Балгарыі і Югаславіі выказала падзяку дэлегацыі БССР за адстойванне інтарэсаў гэтых дзяржаў на П м к Тэксты мірных дагавораў канчаткова былі ўзгоднены ў ліст —снеж 1946 на сесіі СМЗС у Нью-Йорку 10 2 1947 у Парыжы дзяржавы-пераможцы ў 2-й сусв вайне падпісалі мірныя дагаворы з Італіяй, Фінляндыяй, Балгарыяй, Венгрыяй і Румыніяй Ад імя ўрада Беларусі іх падпісаў Кісялёў 29 8 1947 Прэзідыум ВС СССР ратыфікаваў гэтыя мірныя дагаворы Ратыфікацыя распаўсюджвалася на УССР і БССР Дагаворы набылі сілу пасля ратыфікацыі іх СССР, ЗША, Вялікабрытаніяй і Францыяй 15 9 1947

*Літ* Советские делегации на Парижской мирной конференции Сб выступлений и материалов М, 1947, Феська В Беларуская дэлегацыя на Парыжскай канферэнцыі // Беларусь 1947 № 1, Белорусская ССР на международной арене М, 1964, Киселев К В Записки советского дипломата М, 1974, Житня К Л Подготовка и заключение мирных договоров с Болгарией, Венгрией и Румынией после второй мировой войны Кишинев, 1981, Снапкоўскі У Е Знешнепалітычная дзейнасць Беларусі 1944—1953 гг Мн, 1997

*Уладзімір Снапкоўскі*

**ПА́РЫЦКАЕ ПАТРЫЯТЫ́ЧНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ** ў Вялікую Айчынную вайну Дзейнічала са жн 1941 да снеж 1943 у г п Парычы (кіраўнік І І Еўдакімаў) Складалася з груп у Парычах, пас Кастрычнік, в Васілеўка, Каралеўская Слабада, Міхайлаўка, Пясчаная Рудня (каля 60 чал) Трымала сувязь з *Акцябрска-Любанскай партызанскай зонай, Бабруйскім патрыятычным падполлем*, з 1943 — Парыцкім партыз атрадам імя Кірава Падпольшчыкі прымалі і распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, збіралі і перадавалі партызанам соль, зброю, патроны, паведамлялі звесткі пра варожыя гарнізоны, псавалі сувязь, праводзілі розныя дыверсіі, у т л спалілі склад з ільновалакном, падрыхтаваным для адпраўкі ў Германію, 2 масты, узарвалі 2 гарматы, 4 аўтамашыны акупантаў У пач 1942 частка падпольшчыкаў пайшла да партызан, у снеж 1943 большасць падпольшчыкаў пайшла насустрач фронту і злілася з наступаючай Чырв Арміяй

*Уладзімір Бурачонак*

**ПАРЫЦКІ РАЁН** Існаваў у ліп 1924—ліп 1961 Утвораны 17 7 1924 Цэнтр — г п *Парычы* 20 8 1924 падзелены на 14 сельсаветаў Дабравальшчанскі, Дуброўскі, Каралеўскаслабадскі, Коўчыцкі, Любанскі, Парыцкі, Ракшынскі, Раманішчанскі, Сцяпоўскі, Чыркавіцкі, Чэрнінскі, Шацілаўскі, Шчадрынскі, Якімаваслабодскі 5 4 1935 далучаны Баравікоўскі с/с Рэчыцкага р-на 3 20 2 1938 у Палескай вобл 28 6 1939 з П р ў склад створанага Акцябрскага р-на перададзены Гарохавішчанскі, Любанскі, Пратасоўскі, Раманішчанскі с/с На 1 1 1941 раён уключаў г п Парычы і 13 сельсаветаў 3 20 9 1944 у Бабруйскай, з 8 1 1954 у Гомельскай абл 20 1 1960 да раёна далучаны Асташкавіцкі, Давыдаўскі, Палескі с/с і р п Сасновы Бор ліквідаванага *Даманавіцкага раёна*

**ПАСАГ**, прыданае, маемасць і грошы, што давалі бацькі або родныя маладой, калі яна выходзіла замуж У П давалі таксама скаціну, лен, а ў 2-й пал 19 ст — і зямельны надзел П лічыўся пажыццёвай уласнасцю нявесткі У выпадку падзелу гаспадаркі яна забірала усе, што ўнесла ў форме П ў сям'ю мужа У больш раннія часы бацька жаніха даваў за маладую выкуп яе бацькам, а дзяўчына брала з сабой толькі асабістыя рэчы Такі від выкупу захоўваўся на Гомельшчыне і Магілёўшчыне да пач 20 ст Папярэдняя размова пра П пачыналася ў час сватання, канчатковая дамоўленасць — на запоінах Ад памеру П часта залежала становішча маладой у новай сям'і У некат выпадках бацькі маладых дамаўляліся пра адтэрміноўку П Рыхтаваць П пачыналі з маленства дзяўчыны (бялізну і верхнюю вопратку для жаніха, адзенне для самой нявесты, пасцель, падушкі, коўдры, дзяружкі, дываны трэба было зрабіць сваімі рукамі) Маладая брала з сабой праснiцу, верацёны, цернiцу, качалку, трапалку, кросны, міску і дзве лыжкі Везлі П прыданкі ўслед за маладымі або на другі дзень пасля іх ад'езду да маладога Пры ад'ездзе да жаніха і па прыездзе да яго хаты перад ганкам малады павінен быў выкупіць П Скаціну прыводзілі праз тыдзень і пазней Нерухомы П (хата, зямля і інш ) замацоўваўся пісьмовым дагаворам Паняцці П і прыданае на большай частцы Беларусі маюць аднолькавы сэнс Але ў некат мясцовасцях прыданым называюць рэчы, якія вязуць прыданкі ў куфлах, а ў П уваходзіць скаціна, зямельны надзел, лес, грошы, хата і да т п *Леаніла Малаш*

**ПАСАД**, прадграддзе, прадмесце, гандлёва-рамесніцкая частка феад горада 10—18 ст, жыхары якой аб'ядноўваліся ў абшчыну з самакіраваннем Назва ўзнікла прыкладна ў 13 ст Умацаваная частка П — *вакольны горад* Звычайна размяшчаўся вакол *дзядзінца* або на нізкім беразе ракі (т зв «падол») На П жылі пераважна рамеснікі і купцы, існаваў торг П мелі ўсе гарады Беларусі П некаторых буйных гарадоў часоў Кіеўскай Русі складаліся з некалькіх раёнаў — канцоў У Мінску існаваў Пятніцкі канец, які пазней называўся Татарскі канец, Татарскае прадмесце У Полацку ў 16 ст было 6 П, кожны з іх меў сваю назву (Запалоцці, Экіманскі, Крыўцоў і інш ) Пасады і слабоды названы ў інвентары ў Віцебску Значныя археал даследаванні праводзіліся на віцебскім, полацкім Вялікім, гомельскім і інш П

*Літ* Тихомиров М Н Древнерусские города 2 изд М, 1956, Тимощук Б А Археологические признаки посада древнерусского города // Тр 5 Междунар конгресса славянской археологии М, 1987 Т 1, вып 2 Б

**ПАСАК** (Pasek) Ян Хрызастом (каля 1636, Гаславіцы, Лянчыцкае ваяв, Польшча — каля 1701), польскі пісьменнік, аўтар мемуараў Паходзіў з дробнай шляхты Вучыўся ў езуіцкім калегіуме ў Раве У 1655—67 служыў у войску, пад камандаваннем С Чарнецкага ваяваў супраць шведаў у Даніі, у вайне Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 — на тэр Беларусі, удзельнічаў у Палонкаўскай бітве, бітвах на р Бася і каля Друцка (1660) Быў прыставам пры маскоўскіх паслах, якія ў 1662 праязджалі праз Беларусь У 1663—64 удзельнічаў у ваеннай выправе караля Яна II Казіміра, у 1665—66 — у барацьбе супраць рокашу Е Любамірскага У 1667 асеў гаспадарыць у маентках у Кракаўскім ваяв Удзельнічаў у абранні каралёў Міхала Вішнявецкага (1669) і Аўгуста II (1697) У 1670—90-я г працаваў над мемуарамі, якія ахопліваюць 1656—88 У іх гістарычна дакладна і вобразна апісаны ваенныя і паліт падзеі, удзельнікам якіх быў П, дадзены звесткі пра інш падзеі, у т л пра бітву з туркамі пад Венай 1683 Твор — каштоўнейшы помнік стараж-польск мемуарыстыкі, у якім яскрава адбілася шляхецкая ментальнасць Рэчы Паспалітай 17 ст Мемуары ўпершыню надрукаваны Э Рачынскім у 1836, шмат разоў перавыдаваліся Іх высока ставілі і выкарыстоўвалі ў сваёй творчасці А Міцкевіч, Ю Славацкі, З Красінскі, Г Сянкевіч

*Літ* Таранеўскі В Па старонках «Мемуараў» Яна Хрызастома Паска // Шляхам гадоў Гіст-літ зб Мн, 1994, Rytel J Pamiętniki Paska na tle pamiętnikarstwa staropolskiego Wrocław, 1962, Tazbir J Paskowe zwierciadło epoki // Tazbir J Spotkania z historią Warszawa, 1979

**ПАСЕВІНА**, у рус дарэв гістарыяграфіі Пасевін (Possevino) Антоніо (12 7 1533, г Мантуя, Італія — 26 2 1611), дыпламат, тэолаг, педагог З 1559 чл ордэна *езуітаў* У 1581 у якасці папскага легата накіраваны ў Маскву, каб паспрыяць спыненню працяглай *Інфлянцкай вайны 1558—82* З яго актыўным удзелам паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай быў заключаны *Ям-Запольскі мірны дагавор 1582* Пасля вайны П стаў дарадцам караля С *Баторыя*, спрыяў умацаванню ў краіне пазіцый езуітаў (у т л на землях ВКЛ), пашырэнню *Контррэфармацыі* Абмяркоўваў з каралём праект стварэння лігі еўрапейскіх дзяржаў, накіраванай супраць Турцыі Адзін з ініцыятараў падрыхтоўкі *Брэсцкай уніі 1596*, спрабаваў пераканаць у яе неабходнасці гал апекуна праваслаўя ў ВКЛ К В Астрожскага (гл ў арт *Астрожскія*) У 1586 па даручэнні Стафана Баторыя ездзіў у Рым да папы Сікста V Пасля абрання ў 1587 новага караля Рэчы Паспалітай *Жыгімонта III* вярнуўся ў Італію і цалкам прысвяціў сябе пед і літ дзейнасці Аўтар кнігі на лац мове «Масковія» (Вільня, 1586), у якой выклаў гісторыю, звычаі і рэліг сітуацыю ў Расіі, што робіць твор каштоўнай гіст крыніцай

*Літ* Успенский Ф Переговоры о мире между Москвой и Польшей // Зап Новороссийского ун-та Одесса, 1887 Т 45

*Вячаслаў Шалькевіч*

**ПАСЕЛІШЧА**, доўгачасовае (у адрозненне ад *стаянкі*) неўмацаванае (адкрытае) пасяленне стараж чалавека каменнага і бронзавага вякоў

**ПАСЁЛАК**, тып населенага пункта ў Беларусі з невял колькасцю насельніцтва (да 5—6 тыс ж ) Узнік у канцы 19 — пач 20 ст і не звязаны з эвалюцыяй традыцыйна-гіст тыпаў паселішчаў (*веска, сяло, хутар, слабада, мястэчка* і інш ) Першапачаткова П называлі жылыя слабоды каля мануфактур, прадпрыемстваў, прыстаней, рабочыя раёны на ўскраінах гарадоў У гады калектывізацыі П часам называлі новыя сельскія паселішчы, у т л каля старых вёсак («тут вёска, а там — пасёлак») Т ч пад П разумеецца нетрадыцыйнае новаўтварэнне ў сістэме нас пунктаў, у т л *рабочы пасёлак*, заводскі, дачны, курортны, станцыйны і інш Выключэннем з'яўляецца толькі *гарадскі пасёлак* — катэгорыя нас пункта, створаная ў 1938 у БССР на аснове ранейшых мястэчак ці буйных сёл

*Аляксандр Лакотка*

**ПАСЁЛАК ГАРАДСКОГА ТЫПУ**, катэгорыя нас пункта гар тыпу Паводле «Закона Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйна-тэрытарыяльным падзеле і парадку вырашэння пытанняў адміністрацыйна-тэрытарыяльнага ўладкавання Рэспублікі Беларусь» ад 14 5 1998 да катэгорыі П г т адносяцца 3 віды паселішчаў *гарадскі пасёлак*, курортны пасёлак, *рабочы пасёлак*

У М Пасікаў

**ПАСІКАЎ** Уладзімір Маркавіч (10 8 1922, в Мікольская Горацкага пав, цяпер в Мікольск Горацкага р-на — 15 1 1984), поўны кавалер ордэна Славы У Вял Айч вайну з 1941 на Паўн-Каўказскім, 2-м і 1-м Укр франтах Камандзір аддзялення ўзвода разведкі сяржант П вызначыўся у баях на тэр Румыніі і Польшчы 31 5 1944 каля г Ясы выявіў агнявыя кропкі праціўніка, 21 8 1944 у варожым тыле закідаў гранатамі будынак з гітлераўцамі, 13 1 1945 у баі за г Хмяльнік падняў

байцоў у атаку і першы ўварваўся ў варожыя траншэі, узяў у палон 4 гітлераўцаў

**ПАСКЕ́ВІЧ** Іван Федаравіч [8(19) 5 1782, г Палтава, Украіна — 20 1(1 2) 1856], расійскі ваен і дзярж дзеяч Граф Эрыванскі (1828), святлейшы князь Варшаўскі (1831), ген -фельдмаршал (1829) Бацька паходзіў з валынскай шляхты, маці Г В Карабаноўская — са стараж шляхецкага роду Магілеўскай губ Скончыў Пажскі корпус (1800) З 1800 флігель-ад'ютант *Паўла I* У рус -турэцкую вайну 1806—12 камандаваў у 1810—11 *Віцебскім пяхотным палком* Са студз 1812 нач 26-й пях дывізіі У час вайны 1812 вызначыўся ў баях пад Салтанаўкай [Магілеўская губ , 11(23) ліп ], Смаленскам [4—6 (16—18) жн ], Барадзіном [26 жн (7 вер )], пры Малаяраслаўцы [12(24) кастр ] і інш У час замежных паходаў 1813—14 удзельнічаў у блакадзе Модліна і Гамбурга, Дрэздэнскай і Лейпцыгскай бітвах (1813), на чале 2-й грэнадзёрскай дывізіі ў баях пад Арсі-сюр-Об і Парыжам (1814) У 1815—21 зблізіўся з вял князямі Мікалаем (гл *Мікалай I*) і Міхаілам Паўлавічамі У 1821—25 нач 1-й гвардз дывізіі, з 1825 камандзір 1 га пях корпуса Удзельнік Вярх суда над дзекабрыстамі (1826) З 1826 камандаваў рус войскамі ў Закаўказзі, з 1827 намеснік на Каўказе У час рус -іранскай 1826—28 і рус -турэцкай 1828—29 войнаў вызначыўся пры ўзяцці крэпасцей Эрывань (Ераван), Карс і Эрзурум Пасля смерці І І *Дзібіча-Забалканскага* галоўнакамандуючы рус войскамі па задушэнні *паўстання 1830—31*, 26 8(7 9) 1831 штурмам авалодаў Варшавай З 1832 намеснік Царства Польскага Праводзіў жорсткую палітыку ў падначаленым краі У 1833 пад Брэстам на П быў зроблены няўдалы замах шляхціцам Завішам Галоўнакамандуючы рус войскамі ў час задушэння Венгерскай рэвалюцыі 1848—49 У Крымскую вайну 1853—56 камандуючы рус войскамі на Дунаі (1854) Пасля няўдачы пад Сілістрай (май 1854), спаслаўшыся на кантузію, пакінуў армію і пераехаў у Гомель, якім валодаў з 1834 Сабраў там у сваім палацы вял калекцыю твораў мастацтва

*Тв* Из записок князя Паскевича до августа 1826 г // Рус архив 1889 Кн 1

*Літ* Перцов В Жизнеописание князя Варшавского И Ф Паскевича-Эриванского по официальным документам Варшава, 1870, Щербатов А П Генерал-фельдмаршал князь Паскевич Его жизнь и деятельность Т 1—7 СПб , 1888—1904, Борисенок Ю Хозяин мятежного края, Штрихи к образу фельдмаршала Паскевича // Родина 1994 № 12

*Андрэй Лукашэвіч*

**«ПАСЛА́ННІ ГЕДЗІМІ́НА»**, («Послания Гедимина»), зборнік гіст дакументаў ВКЛ 13—14 ст Падрыхтаваны У Ц Пашутам і І Шталь, выдадзены ў 1966 у Вільнюсе У ім змешчаны даравальная грамата караля Літвы Міндоўга біскупу Хрысціяну (1254), пасланні вял кн Гедзіміна рымскаму папу Іаану XXII (1322), гараджанам Любека, Штральзунда, Брэмена, Магдэбурга, Кельна і інш ням гарадоў, манахам-дамініканцам і францысканцам, пасланне горада Рыгі Гедзіміну, мірны дагавор Гедзіміна з Лівонскім ордэнам, дацкім намеснікам Рэвельскай зямлі, Рыгай і біскупам Рыгі, Эзеля, Дэрпта, пасланні вармійскага біскупа Эбергарда вернікам, папы Іаана XXII французскаму каралю Карлу IV, стража прускіх францысканцаў Мікалая вернікам (усе 1323), папы Іаана XXII Гедзіміну, Нямецкаму ордэну, справаздача папскіх паслоў аб прыеме ў Гедзіміна, пасланні Рыгі Любеку, Гедзіміна біскупам Дэрпта, Эзеля, дацкаму намесніку Рэвельскай зямлі і Рызе (усе 1324), заява пасла Гедзіміна Лесе (1326), гандлёвы *дагавор 1338* Гедзіміна з Лівонскім ордэнам Дакументы зборніка асвятляюць выхад ВКЛ у 1320-х г на арэну еўрап палітыкі, спробу Гедзіміна прыняць хрысціянства, запрасіць у Літву прапаведнікаў і ням майстроў, заключэнне ВКЛ першых міждзярж дагавораў Выданне змяшчае адаптаваныя тэксты дакументаў на лац і ням мовах (узяты з ранейшых выданняў) і іх пераклады на рус і літ мовы, забяспечана каментарыямі

І Ф Паскевіч

**ПАСО́Л** сеймавы, прадстаўнік шляхты ад павета на *сейме* ВКЛ, пазней Рэчы Паспалітай Да сярэдзіны 16 ст інтарэсы шляхецкага стану ў сейме звычайна прадстаўлялі *харунжыя* (з Жамойці *цівуны*) Ад кожнага павета выбіраліся па 2 П , аднак не забаранялася і інш шляхце ездзіць на сейм Заканадаўча П акрэслены ў Статуце ВКЛ 1566 Пасля ўтварэння Рэчы Паспалітай П ўвайшлі ў ніжэйшую палату сейма — *Пасольскую Ізбу* За працу П атрымлівалі грашовую кампенсацыю Канстытуцыя 1601 вызначыла, што П не можа быць асоба, якая мае судовую справу ў сейме Канстытуцыя 1616 забараняла выбіраць П дэпутатаў трыбунала і наадварот У 1678 зацверджаны ўзор прысягі, якую мусіў прынесці П У 1690 заканадаўча аформлена, што на сейме вольна кожнаму П , а на сейміках кожнаму шляхціцу абмяркоўваць любыя пытанні

*Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта*

**ПАСО́ЛЬСКАЯ ІЗБА́**, ніжэйшая палата *сейма* Рэчы Паспалітай (вышэйшая — *Сенат Рэчы Паспалітай*) Утваралася з выбраных шляхтай *паслоў* (па 2 ад кожнага павета) Спачатку дзейнічала па водле заканадаўчай базы П І Кароны Польскай да ўтварэння Рэчы Паспалітай У 1633 вызначана, што за 5 дзен да сканчэння сейма П І і Сенат пачынаюць сумесныя пасяджэнні У 1673 забаронена праводзіць кансіліум (сумеснае пасяджэнне) без засяданняў асобна Канстытуцыя 1690 падсумавала правілы і вызначыла парадак працы у 1-ы дзень паслы павінны былі выбраць пасольскага *маршалка* і дэпутатаў да караля, маршалак рабіў прывітанне манарху ад П І , зачытваў прапазіцыі ад караля і запісы, пададзеныя да архіва з мінулага сейма, называў вакантныя ўрады (пасады) і інш , пасля пачыналіся пасяджэнні і прымаліся канстытуцыі, якія падпісваў маршалак і дэпутаты Генеральная канфедэрацыя 1764 вызначыла каб пасля выбараў маршалка П І і Сенат праводзілі сумеснае пасяджэнне пасля прывітання караля заслухоўвалася справаздача вял падскарбіяў, потым палаты засядалі асобна Канстытуцыяй 1768 устаноўлены новы парадак працы П І напачатку выбіраўся маршалак, які намінаваў (прызначаў) сакратара, дэпутатаў па выпрацоўцы канстытуцый (па 2 ад Кароны і ВКЛ), дэпутатаў у склад сеймавага суда (па 6) і для праверкі рахункаў Скарбовай і Вайсковай камісій (па 4), пасля ўзаемных пасольстваў на 2-і дзень П І і Сенат праводзілі сумеснае пасяджэнне, на якім рабілася прывітанне каралю, заслухоўваліся прапазіцыі сейму ад манарха і матэрыялы мінулага сейма, намінаваліся дэпутаты ад Сената для выпрацоўкі канстытуцый і ў камісіі, заслухоўваліся рэляцыі паслоў у замежных краінах і замежных паслоў Дэпутаты правяралі рахункі камісій і давалі справаздачу, пасля чаго выбіраліся новыя камісары Потым адбываліся выступленні сенатараў і паслоў На пачатку 3-га тыдня палаты пачыналі асобныя пасяджэнні П І найперш павінна была займацца працай па эканам пытаннях, потым па статыстычных, далей па іншых

*Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта*

**ПАСО́ЛЬСКІ КЛУБ БЕЛАРУ́СКАЙ СЯЛЯ́НСКА-РАБО́ТНІЦКАЙ ГРАМАДЫ́**, парламенцкая фракцыя ў сейме Польскай Рэспублікі ў 1925—27 Утварыўся ў выніку расколу *Беларускага пасольскага клуба* (БПК) і выхаду з яго дэпутатаў Б Тарашкевіча, С Рак-Міхайлоўскага, П Валошына і П Мятлы Стварэнне П к БСРГ было вынікам змен, што адбыліся з часу выбараў у польскі сейм у 1922 На дэпутатаў зра

біл ўражанне *новая эканамічная палітыка* ў СССР, *беларусізацыя і ўзбуйненне БССР* З другога боку, польскія правыя ўлады зачынялі бел школы, раздавалі землі ў Зах Беларусі *асаднікам*, эксплуатавалі прыродныя рэсурсы краю У выніку ў Зах Беларусі пашыраліся прасавецкія настроі Важную ролю ў расколе БПК адыграла *Камуністычная партыя Заходняй Беларусі*, якая прыклала шмат намаганняў, каб схіліць на свой бок левых дэпутатаў Сустрэчы дзеячаў КПЗБ наладжваліся пераважна з кіраўніком БПК Тарашкевічам Сярод дэпутатаў — членаў *Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі* — адбыўся раскол Непасрэдным штуршком для яго паслужыў законапраект аб *парцэляцыі* зямлі і асадніцтве, унесены ў сейм урадам Тарашкевіч, Валошын і Мятла перайшлі на больш радыкальныя пазіцыі і аб'ядналіся з Ракам-Міхайлоўскім, лідэрам *Беларускай партыі незалежных сацыялістаў*, а Ф Ярэміч стаў адным са стваральнікаў правага *Беларускага сялянскага саюза* У ліп 1925 Тарашкевіч характарызаваў дэпутатаў, якія ўвайшлі ў П к БСРГ, як рэв сацыялістаў і інтэрнацыяналістаў і абвясціў асн лозунгі П к БСРГ «рэвалюцыйны рабоча-сялянскі ўрад, незалежнасць Беларусі ў цесным саюзе з народамі, якія здабылі новую грамадскую структуру» Тарашкевіч спадзяваўся, што да перамогі гэтых лозунгаў прывядзе «саюз беларуска-ўкраінска-польскіх рабочых і сялян» У жн 1925 адбылася *Сапоцкая нарада 1925* з удзелам прадстаўнікоў КПП, КПЗБ, КП(б)Б, нам паўнамоцнага прадстаўніка СССР у Польшчы А Ульянава, Тарашкевіча і некат іншых зах-бел дзеячаў КПЗБ мела намер пры дапамозе дэпутатаў П к БСРГ стварыць шырокую арг-цыю — *Беларускую сялянска-работніцкую грамаду* — і такім чынам легалізаваць сваю дзейнасць Аднак у канцы 1925 было вырашана заснаваць масавую сял-рабочую арг-цыю, фармальна не звязаную з КПЗБ Тады ж Тарашкевіч і інш дэпутаты ўступілі ў КПЗБ 1 6 1926 БСРГ пачала сваю дзейнасць як легальная арг-цыя П к БСРГ вёў парламенцкую і непарламенцкую працу, у сейме ён супрацоўнічаў з клубамі КПП, *Незалежнай сялянскай партыі* і Сельроба Дэпутаты выступалі з выкрывальнымі прамовамі, рабілі шматлікія запыты ўраду і асобным міністрам аб становішчы нар мас у Зах Беларусі, патрабавалі спыніць беззаконне і самавольства ўлад, уносілі на разгляд сейма радыкальныя прапановы Яны арганізоўвалі ў гарадах і мястэчках шматлюдныя мітынгі, на якіх заклікалі народ да змагання за сац і нац вызваленне Члены П к БСРГ удзельнічалі ў арганізацыі масавых кампаній за амністыю палітвязням, супраць падатковай палітыкі польскага ўрада, за бел школу і інш КП(б)Б разглядала П к БСРГ як трыбуну партыі ў польскім сейме Ставілася задача ўсялякім чынам падтрымліваць і захоўваць П к БСРГ, цесна ўвязваць яго дзейнасць з працай КПП і КПЗБ, ажыццяўляць парт кіраўніцтва дзейнасцю клуба Ноччу 15 1 1927 паводле загаду Ю Пілсудскага без згоды сейма былі арыштаваны і кінуты ў турму дэпутаты Тарашкевіч, Рак-Міхайлоўскі, Валошын, Мятла, а таксама сотні актывістаў БСРГ П к БСРГ спыніў існаванне

*Герб Паставаў 1796*

*Літ* Беларуская Сялянска-работніцкая Грамада Мн, 1928, Палуян У А Беларуская сялянска-рабочая грамада Мн, 1967, Идеологическая деятельность Компартии Белоруссии, 1918—1945 [Сб док] Ч 1 1918—1928 Мн, 1990, Рагуля В Успаміны Мн, 1993, Бергман А Слова пра Браніслава Тарашкевіча Гіст жыццяпіс Пер з пол Мн, 1996

*Уладзімір Палуян, Анатоль Сідарэвіч*

**ПАСПАЛІ́ТАЕ ПРА́ВА**, агульнадзяржаўнае свецкае заканадаўства ВКЛ, устаноўленае Статутамі 1529, 1566 і 1588 у адрозненне ад царкоўнага, *кананічнага права, гарадскога права*, прававых сістэм, устаноўленых у асобных частках дзяржавы *абласнымі прывілеямі* і прававых норм розных канфесіянальных груп (яўрэяў, татар)

**ПАСПАЛІ́ТАЕ РУШЭ́ННЕ**, шляхецкае *апалчэнне* ў ВКЛ, асн форма арганізацыі ўзбр сіл дзяржавы, заснаваная на прынцыпе, што кожны шляхціц незалежна ад велічыні маентка ў час вайны абавязаны асабіста ўдзельнічаць у ваенны паход Ужо ў 15 ст немагчымасць караць шляхту і нyздольнасць арганізаваць новыя спосабы вядзення вайны рабілі такі род войска малапрыдатным Існавала да канца 18 ст, што тлумачыцца слабасцю цэнтр улады Час ад часу праводзіліся *попісы войска Вялікага княства Літоўскага* У час паўстання 1794 П р склікана на новых прынцыпах як усесаслоўнае апалчэнне з масавым прыемам сялян

**ПАСПО́ЛЬСТВА**, сярэдні грамадскі слой у феад гарадах Беларусі, які падлягаў *гарадскому праву*, але не быў да пушчаны да улады і гар пасад верхнім слоем — патрыцыятам П складалася з менш заможных купцоў і рамеснікаў Паміж ім і патрыцыятам ішла барацьба за ўплыў у *магістратах*, якая часам вылівалася ў паўстанні, падтрыманыя ніжэйшым слоем гараджан — плебсам (напр, *Магілёўскія паўстанні 1606—10*)

**ПАСТА́ВЫ**, горад, цэнтр Пастаўскага р-на, на р Мядзелка, чыг ст на лініі Віцебск—Вільнюс (Літва), вузел аўтадарог на Браслаў, Глыбокае, курортны пас Нарач і інш За 250 км на З ад Віцебска 22,9 тыс ж (1998)

Вядомы з 1552 як прыватнае мястэчка Ашмянскага пав Віленскага ваяв ВКЛ Належалі і магнатам Дэспатам-Зяновічам У 1552 пабудаваны драўляны касцёл Маці Боскай (перабудаваны ў 1760, не збярогся) Паводле інвентара 1628 цэнтрам П была гандл плошча (стаялі касцёл з плябаніяй, карчма, 6 двароў гандляроў і рамеснікаў) На вуліцах-дарогах, што вялі на Мядзел, Глыбокае і Друю, было 26 двароў За р Мядзелкай (у інвентары Мядзелца) размяшчалася прадмесце Зарэчча, якое мела 17 двароў Былі таксама 2 пасады па 8 і 9 двароў Усяго ў П налічвалася 66 двароў Пасля 1640 на востраве (на ПнУ ад цэнтра), утвораным выгінам р Мядзелкі і каналам, пабудаваны кляштар францысканцаў з касцёлам (не захаваліся) Пасля вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 у П засталося 5 двароў У 2-й пал 18 ст П перайшлі да надворнага падскарбія ВКЛ А Тызенгаўза, па ініцыятыве якога тут пабудаваны фабрыкі, ткацкія майстэрні, млын, гарбарня, арх комплекс з жылых дамоў, гандл радоў і палаца На гандл плошчы месціліся 9 дамоў рамеснікаў, дом урача, будынкі канцылярыі і суда, аўстэрыя, 3 заезныя дамы Ад плошчы адыходзілі ў радыяльных напрамках 4 вуліцы Віленская (на Пд), Браслаўская (на Пн), Зарэчная (на У) і Задзеўская (на З) З 1775 у П адбываліся сесіі гродскага пав суда У 1780-я г створана свецкая школа з сярэдняй ступенню навучання У 1782—85 у П дзейнічала тэатр школа Тызенгаўза, пераведзеная з Гродна З 1791 П — горад, цэнтр Завілейскага пав Віленскага ваяв З 1793 у складзе Рас імперыі, спачатку горад, да 1796 цэнтр павета, потым мястэчка, цэнтр воласці Дзісенскага пав Мінскай, з 1842 — Віленскай губ 22 1 1796 П атрымалі герб у блакітным полі рыбацкая сетка, уверсе 3 залатыя рыбы, галовамі на дол У 1814—53 П — уладанне графа К Тызенгаўза У 1-й пал 19 ст працавалі папяровая ф-ка (засн ў 1728), сукнавальня, 2 млыны, штогод праводзіліся 7 кірмашоў, засн арніталагічны музей і карцінная галерэя (у 1840 налічвалася больш за 60 палотнаў) У 2-й пал 19 ст пабудаваны мураваны вадзяны млын, у 1880—87 — цагляны касцёл, у 1894 — мураваная царква на гандл плошчы У 1897 у П 2397 ж Пасля пабудовы ў 1897 чыг лініі Крулеўшчына—Пабрадзе (Літва) П — станцыя З лют да 16 12 1917 горад акупіраваны герм, потым польскімі войскамі, 8 7 1920 у П ўвайшлі часці Чырв

Арміі. Паводле *Рыжскага мірнага дагавора 1921* П. ў складзе Польшчы, павятовы горад Віленскага ваяв. У 1920-я г. ў П. працавалі 2 лесапільні, цагельня, паравы млын, бровар, пякарня, фарбавальня, смалярня, дзейнічалі кааператывы «Выгада» і «Зерне», рыбалавецкае т-ва , 47 крам і інш. З 1939 П. ў складзе БССР, 3,4 тыс. ж. З 15.1.1940 цэнтр раёна ў Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 6.7.1941 акупіраваны ням. фашыстамі, якія знішчылі ў горадзе і раене 3688 чал. Дзейнічалі падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ. Горад вызвалены 5.7.1944 войскамі 1-га Прыбалт. фронту ў ходзе *Шаўляйскай аперацыі 1944.* З 20.9.1944 П. ў складзе Маладзечанскай, з 20.1.1960 — Віцебскай вобл. 10,6 тыс. ж. у 1959, 15,1 тыс. ж. у 1970. Працуюць з-ды «Беліт», навучальнага абсталявання, кансервавы, малаказавод, хлебазавод, льнозавод, СП «Імпульс», камбінат камунальных прадпрыемстваў, аграбудфірма «Рассвет», аграхімфірма «Зара», Пастаўскае прадпрыемства меліярац. сістэм, лясгас, камбінат быт. абслугоўвання. У горадзе ПТВ-165, 4 сярэднія, базавая, муз. і маст. школы, школа-інтэрнат, дзіцячая юнацка-спарт. школа, 5 дашкольных устаноў, 2 б-кі, раённы і 2 гар. дамы культуры, *Пастаўскі краязнаўчы музей*, кінатэатр, бальніца, паліклініка, аптэка. Выдаецца газ. «Пастаўскі край». Брацкія магілы сав. воінаў і партызан, магіла ахвяр фашызму. Помнікі архітэктуры: забудова гіст. цэнтра горада (2-я пал. 18 ст.), палацава-паркавы комплекс (канец 18 — пач. 19 ст.), вадзяны млын (2-я пал. 19 ст.), касцёл св. Антонія (1880—87), Свята-Мікалаеўская царква (1894). Каля П. паселішча эпохі позняга неаліту і ранняга бронзавага веку (канец 3-га — пач. 2-га тыс. да н. э.). *Іосіф Зямчонак*

**ПА́СТАР** (лац. pastor пастыр, пастух), служыцель культу ў плынях *пратэстантызму*, якія адмаўляюць інстытут свяшчэнства (не прызнаюць *духавенства* асобнымі пасрэднікамі паміж Богам і звычайнымі вернікамі). Выбіраецца, як і *прэсвітэр*, рэліг. абшчынай са свайго асяроддзя. Прыхільнікі *кальвінізму* ў Беларусі выкарыстоўвалі ў дачыненні да П. таксама тэрмін *міністр.*

**ПАСТА́ЎСКІ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Засн ў студз. 1974 у г. Паставы, адкрыты ў лютым 1976. Пл. экспазіцыі 155 м², 6,4 тыс. экспанатаў асн. фонду (1999). Мае аддзелы: прыроды, гісторыі краю, Вял. Айч вайны, этнаграфічны. Сярод экспанатаў археал. калекцыі кафлі 15 — пач. 20 ст., скарб талераў і ортаў 17 ст., купчыя, планы панскіх маёнткаў, пашпарты жыхароў Пастаўшчыны 1921—39. У экспазіцыі Вял. Айч. вайны матэрыялы пра пачатковы яе перыяд, разгортванне падполля і партыз. руху, лістоўкі, друкарскі станок, экз. падп. газеты «За победу», «Сялянская газета», фотаздымкі і асабістыя рэчы партызан і падпольшчыкаў, у т л. Героя Сав. Саюза камандзіра брыгады імя Варашылава Ф.Р. *Маркава*, нам. камісара атрада імя Пархоменкі Г.І. *Маслоўскай*, земляка ген.-лейт. В.А. *Юшкевіча*, матэрыялы пра вызваленне горада і раёна ад ням.-фаш. захопнікаў, развіццё нар. гаспадаркі ў пасляваен. час. У этнагр. экспазіцыі тканыя дываны, вышываныя «сеткі», кераміка Пастаўшчыны, куток інтэр'ера сял. хаты. Музей праводзіць выстаўкі з асабістых фондаў і калекцый, з фондаў інш. музеяў *Лізавета Валетка*

**ПАСТА́ЎСКІ ПАВЕ́Т.** Існаваў у 1793—95 і 1921—40: у Мінскай губ. Рас. імперыі, з 1922 у Віленскім ваяв. Польшчы (у 1921—22 называўся Дунілавіцкім пав.), з 1939 у складзе БССР (са снеж 1939 у Вілейскай вобл.). Цэнтр — г. Паставы. 15.1 1940 скасаваны, на тэр павета ўтвораны раёны.

**ПАСТА́ЎСКІ РАЁН.** Размешчаны на ПдЗ Віцебскай вобл. Пл. 2,2 тыс км², нас. 51,7 тыс. чал. (1998). Цэнтр — г *Паставы*. Паўн. частку раёна займае Дзісенская нізіна, паўднёвую — Свянцянская града Рэкі· Дзісна, Лучайка, Мядзёлка і Галбіца; выток р Страча. Найб. азёры: Вял. і Малая Швакшты, Лучай, Доўжа, Вял. Сурвілішскае, Лодасі, Свідна, Задзеўскае, Лісіцкае, Світа Пад лесам 28% тэр. раёна. Праходзяць чыгункі Полацк—Вільня, Варапаева—Друя, аўтадарогі Полацк—Вільня, Браслаў—Паставы—Нарач і інш.

Раён утвораны 15.1.1940 у складзе Вілейскай вобл 12.10.1940 падзелены на 14 сельсаветаў: Андронаўскі, Варонкаўскі, Груздаўскі, Загацкі, Курапольскі, Лоцвінскі, Лучайскі, Нагаўскі, Навасёлкаўскі, Пастаўскі, Савіцкі, Свілельскі, Старадворскі, Юнкаўскі. 25.11 1940 далучаны Камайскі, Магунскі, Навасёлкаўскі, Оцкавіцкі, Палескі, Радуцкі, Старчунскі сельсаветы скасаванага Гадуцішкаўскага р-на, Лынтупскі, Масляніцкі і Рынкянскі сельсаветы б. Свянцянскага р-на; адначасова з П.р. Дунілавіцкаму р-ну перададзены Лучайскі і Старадворскі, Мядзельскаму р-ну — Лоцвінскі і Нагаўскі сельсаветы У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 тэр. раёна акупіравана ням. фашыстамі, якія загубілі ў горадзе і раёне 3688 чал., знішчылі разам з жыхарамі в. Альцы (увекавечана ў мемар. комплексе «Хатынь»). Дзейнічалі камсам.-маладзёжныя і антыфаш. арг-цыі і групы, Пастаўскія падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, партыз брыгады 1-я Антыфашысцкая імя Варашылава, імя Гастэлы, імя Ракасоўскага, асобны партыз. атрад імя Сталіна, выдавалася падп. газ «За победу». Раён вызвалены ў пач ліп 1944 часцямі 1-га Прыбалт. фронту ў ходзе *Шаўляйскай аперацыі 1944.* З 20.9.1944 П.р. у Маладзечанскай, з 20.1.1960 у Віцебскай абл. 25.12.1962 далучаны г.п. *Варапаева*, Белькаўскі, Ваўкалацкі, Дунілавіцкі, Казлоўшчынскі, Ласіцкі сельсаветы Глыбоцкага р-на. 6 1.1965 Ваўкалацкі сельсавет перададзены Докшыцкаму р-ну. На 1.1.1998 у П.р. 534 нас. пункты, у т. л. гар. пасёлкі Варапаева і *Лынтупы* (з 1967), 12 сельсаветаў· Белькаўскі, Ваўкоўскі, Дунілавіцкі, Казлоўшчынскі, Камайскі, Курапольскі, Мягунскі, Навасёлкаўскі, Палескі, Шыркоўскі, Юнкаўскі, Ярэўскі; 2 пассаветы: Варапаеўскі і Лынтупскі; 19 калгасаў, 3 саўгасы, 41 фермерская гаспадарка. Працуюць прадпрыемствы меліярацыйных сістэм (в. Навадруцк), шклозавод (в. Гута), спіртзавод (в. Норыца), сумеснае прадпрыемства «Стары Двор» (в. Стары Двор). У раёне 6 сярэдніх і 19 базавых школ, школа-інтэрнат, муз. школа, 17 дашкольных устаноў, 6 дамоў культуры, 20 клубаў, 34 б-кі, 3 бальніцы, 2 амбулаторыі, 32 фельчарска-акушэрскія пункты. Выдаецца газ. «Пастаўскі край». Найб. значныя археал. помнікі: *Вайшкуны*, Дзяўгуны, Сарокі, Янова, помнік гісторыі 15—16 ст. — каменны крыж (в. Камаі). Брацкія магілы рус. воінаў, якія загінулі ў вайну 1812 (в. Асінагарадок), чырвонаармей-

цаў (в Грыдзькі), сав воінаў і партызан (вёскі Камаі, Манькавічы), магілы ахвяр фашызму (вёскі Апідамы, Васіліны 1-я, Дунілавічы, Кашыцы) Помнікі на месцы спаленай в Альцы, бою партызан у 1944 каля в Сарочына Помнікі архітэктуры касцелы Іаана Хрысціцеля (1603—06, в Камаі), св Тадэвуша (1766, в Лучай), св Тройцы (1769—73, в Дунілавічы), цэрквы Пакроўская (пач 20 ст, в Асінагарадок), Прадцечанская (1875, Груздава), Успенская (пач 20 ст, в Манькавічы), помнікі сядзібна-паркавага мастацтва 18—19 ст — паркі (за 2 км на ПнЗ ад в Дунілавічы, в Норыца) Радзіма бел пісьменнікаў У *Дубоўкі*, М *Машары*

*Літ* Пастаўскі раён // Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі Віцебская вобл Мн, 1985, Памяць Беларусь Рэсп кніга Мн, 1995 С 187—191 *Алесь Скараход*

**ПАСТА́ЯННАЕ ПРАДСТАЎНІ́ЦТВА РЭСПУ́БЛІКІ БЕЛАРУ́СЬ ПРЫ ААН**, замежны дыпламатычны орган знешніх зносін бел дзяржавы, які прадстаўляе інтарэсы Рэспублікі Беларусь у Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, ад імя ўрада Беларусі падтрымлівае з ёй пастаянныя сувязі Знаходзіцца ў Нью-Йорку Узначальваецца пастаянным прадстаўніком Утворана паводле пастановы СМ БССР ад 28 3 1958 Задачы прадстаўніцтва сачыць за выкананнем палажэнняў Статута ААН ва ўсёй дзейнасці ААН, быць у курсе ўсіх міжнар падзей, асабліва звязаных з парушэннямі міру і міжнар бяспекі, рыхтаваць адпаведныя прапановы для свайго ўрада, падтрымліваць пастаянныя сувязі з Сакратарыятам ААН, прадстаўніцтвамі інш краін— членаў ААН, выступаць у органах ААН з прапановамі і акцыямі, прадстаўляць бел дзяржаву ў органах ААН Пасля абвяшчэння незалежнасці Беларусі (27 7 1990) пастаяннае прадстаўніцтва працуе над рэалізацыяй мэт і задач дыпламатыі Рэспублікі Беларусь у ААН, скіраваных на вырашэнне праблем бяспекі і раззбраення, эканомікі, экалогіі, навукі і тэхнікі, правоў чалавека, сац-гуманітарнага развіцця і інш Шмат увагі аддае арганізацыі міжнар супрацоўніцтва ў справе аслаблення наступстваў *Чарнобыльскай катастрофы 1986*, праблеме зніжэння ўзносаў краіны ў рэгулярны бюджэт ААН і на аперацыі па падтрыманні міру, рэалізацыі мэт краін з пераходнай эканомікай Цесна супрацоўнічае з пастаяннымі прадстаўніцтвамі Рас Федэрацыі, інш краін СНД пры ААН Дзейнічае ў адпаведнасці з Венскай канвенцыяй аб прадстаўніцтве дзяржаў у іх зносінах з міжнар арг-цыямі 1975 і інш міжнар пагадненнямі Кіраўнік пастаяннага прадстаўніцтва звычайна ўпаўнаважваецца ўрадам сваёй дзяржавы і да яго не прымяняюцца такія працэдуры, як запыт агрэману і акрэдытаванне ў краіне знаходжання Кіраўнік і члены дыпламат персаналу пастаяннага прадстаўніцтва карыстаюцца тымі ж прывілеямі і імунітэтам, што і супрацоўнікі дыпламат прадстаўніцтваў Рэспубліка Беларусь мае таксама пастаянныя прадстаўніцтвы пры ААН і інш міжнар арг-цыях у Жэневе, пры міжнар арг-цыях у Вене, пры ЮНЕСКА у Парыжы

*Уладзімір Снапкоўскі*

**ПАСТА́ЯННАЕ ПРАДСТАЎНІ́ЦТВА САВЕ́ТА МІНІ́СТРАЎ БССР ПРЫ САВЕ́ЦЕ МІНІ́СТРАЎ СССР**, пастаянны орган для забеспячэння непасрэднай сувязі паміж урадамі БССР і СССР З утварэннем СССР (30 12 1922) Паўнамоцнае прадстаўніцтва БССР пры СНК СССР перайменавана ў Пастаяннае прадстаўніцтва БССР пры ўрадзе СССР (Пастпрэдства БССР) Заснавана 1 1 1921 як спец орган для ажыццяўлення сістэматычнай сувязі паміж БССР і СССР, непасрэдных зносін з саюзнымі ўстановамі на паліт, эканам, культ, бытавых і інш пытаннях і абароны інтарэсаў Бел ССР Узначальвалася пастаянным прадстаўніком і яго намеснікам, якіх назначаў Прэзідыум ЦВК БССР па прадстаўленні СНК Беларусі Задачы і кампетэнцыя прадстаўніцтва вызначаліся «Наказам аб рабоце Пастаяннага прадстаўніцтва БССР пры ўрадзе СССР», зацверджаным СНК БССР 31 8 1927 Паводле пастановы СНК СССР ад 4 2 1931 «Аб прадстаўніках Саветаў Народных Камісараў Саюза ССР», СНК СССР зацвярджаў пры сабе пастаянных прадстаўнікоў СНК саюзных рэспублік, якія займаліся вырашэннем пытанняў у асн гасп і культ будаўніцтва Згодна з пастановай ЦВК і СНК БССР ад 28 3 1938 прадстаўніцтва ліквідавана Аднойчна рашэннем урада Беларусі ад 8 8 1938 як Пастаяннае прадстаўніцтва СНК БССР пры ўрадзе СССР (з 1946 Пастаяннае прадстаўніцтва СМ БССР пры СМ СССР) Пасля рэарганізацыі ў 1957 кіравання прам-сцю і буд-вам яно стала больш актыўна ўдзельнічаць у абгрунтаванні і абароне інтарэсаў рэспублікі ў цэнтр органах і арг-цыях СССР, ставіць перад імі канкрэтныя пытанні, кіруючыся агульнымі дырэктывамі ўрада БССР і ЦК КПБ Пасля абвяшчэння незалежнасці Беларусі (27 7 1990) прадстаўніцтва стала называцца Пастаянным прадстаўніцтвам СМ БССР (з вер 1991 Рэспублікі Беларусь) пры Кабінеце Міністраў СССР Спыніла існаванне ў снеж 1991 у сувязі з развалам СССР

*Літ* Высшие органы государственной власти и управления Республики Беларусь Мн, 1999 *Святлана Паўловіч*

**ПАСТА́ЯННАЯ РА́ДА** (польск Rada Nieustająca), вышэйшы орган дзярж улады Рэчы Паспалітай у 1775—89, 1793—94 Першы пастаянна дзеючы паміж сесіямі сейма цэнтр ўрад Створаны на сейме 1773—75 пасля ратыфікацыі ўмоў 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) для замацавання пераважнага ўплыву Рас імперыі на ўнутр справы дзяржавы Функцыі П Р аформлены Статутам 1775 Складалася з караля, 18 сенатараў і 18 паслоў ад ваяводстваў са шляхты Членаў П Р выбіралі на сейме тайным галасаваннем на 2 гады, пасля чаго праводзіліся перавыбары $^1/_3$ яе складу Старшынстваваў у Радзе кароль (пры яго адсутнасці — прымас), які меў права заканадаўчай ініцыятывы і вырашаючага голасу пры нязгодзе членаў Падзялялася на дэпартаменты замежных спраў, скарбу, паліцыі, войска, справядлівасці, якія ўзначальваліся сенатарамі Стварэнне П Р зафіксавала кампраміс паміж каралем і магнатамі Кароль мог прызначаць сенатараў і міністраў з 3 кандыдатаў, прапанаваных сеймам пры тайным галасаванні, страціў права аднаасобна раздаваць староствы, афіцэрскія чыны і прымаць рашэнні па кіраванні арміяй без згоды гетманаў П Р атрымала права склікаць звычайныя і надзвычайныя сеймы нават без згоды караля, кантраляваць дзярж скарб без справаздачы перад сеймам Акты Рады падпісвалі кароль, прымас і маршалак сейма Пры падтрымцы Расіі П Р ўвяла эмфітэўтычнае (абмежаванае 50 гадамі) трыманне старостваў, адзінае мыта, вэксальнае права, градацыю падымнага падатку, пераўтварыла панцырныя і гусарскія харугвы ў брыгады нац кавалерыі, увяла падзел арміі на 6 дывізій, удзельнічала ў заснаванні *Адукацыйнай камісіі* Рэформы суправаджаліся сутычкамі караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага і магнацкай апазіцыі за кантроль над войскам і скарбам Барацьба завяршылася на сейме 1776 перамогай караля і прынящцем новага Статута П Р Кароль вярнуў уладу над войскам, права раздачы афіцэрскіх чыноў Кіраванне арміяй адбывалася праз ваенны дэпартамент П Р Ён жа дапамагаў мясц адміністрацыі ў падаўленні сял хваляванняў і судам у рэалізацыі іх пастаноў па маемасных спрэчках шляхты У 1780 П Р дамаглася вываду рас войск з дзяржавы, таму сеймы 1782, 1784 і 1786 праходзілі як вольныя, без замежнай ваен прысутнасці Спробы караля ў 1778 цэнтралізаваць кіраванне гарадамі праз камісараў і здаць збор гар падаткаў у арэнду праз конкурс сустрэлі процідзеянне магнатаў і вярхоў магістратаў Апазіцыя ўзмацнілася, калі ў 1787 кароль для ажыццяўлення новых рэформ паспрабаваў абаперціся на Расію На *Чатырохгадовым сейме 1788—92* апазіцыя дамаглася 14 1 1789 ліквідацыі П Р як «сродку замежнага дыктату і пагрозы ўкаранення нязвыклага дынастычнага абсалютызму» Сейм сканцэнтраваў усю паўнату ўлады, а дэкаратыўныя функцыі нагляду за выкананнем законаў аддаў *Стражы правоў* з 24 чал (13 ад Кароны, 11 ад ВКЛ) на чале з каралем 21 4 1793 *Таргавіцкая канфедэрацыя* аднавіла П Р для склікання *Гродзенскага сейма 1793* з мэтай ратыфікацыі 2-га падзелу Рэчы Паспалітай Сейм абраў П Р з 24 чал (2 біскупы, 4 сенатары, 4 міністры, 14 земскіх паслоў, з якіх 11

дзе «За Савецкую Беларусь» Мінскай вобл, з 1944 на 3-м і 1-м Бел фронтах Камандзір аддзялення разведчыкаў сяржант П вызначыўся ў баях на тэр Літвы і Германіі каля г Марыямпале (цяпер Капсукас) захапіў у ворага трактар з прычэпам, нагружаным боепрыпасамі і палявой поштай, 6 2 1945 у час разведкі з 4 байцамі знішчыў кулямет з разлікам, 6 гітлераўцаў узяў у палон, 16 4 1945 знішчыў куляметны разлік, захапіў мінамет, склад з мінамі

**ПАТО́ЛІЧАЎ** Мікалай Сяменавіч [10(23) 9 1908, с Золіна Гарахавецкага пав Уладзімірскай губ, цяпер Дзяржынскі р-н Ніжагародскай вобл, Расія — 1 12 1989], савецкі дзярж і парт дзеяч Двойчы Герой Сац Працы (1975, 1979) Вучыўся ў 2-м Маскоўскім хіміка-тэхналагічным ін-це (1931), скончыў Ваен акадэмію хім абароны (1937) У 1928—31 на камсам рабоце З 1937 у Чырв Арміі З 1938 на парт рабоце у апараце ЦК ВКП(б), парторг ЦК ВКП(б) на Яраслаўскім гумавым камбінаце, з 1939 1-ы сакратар Яраслаўскага, з 1941 Чэлябінскага абкомаў і гаркомаў партыі, заг аддзела ЦК ВКП(б) У 1946—47 сакратар ЦК ВКП(б), адначасова нам старшыні Савета па справах калгасаў пры СМ СССР З сак 1947 сакратар ЦК КП(б) Украіны, са жн 1-ы сакратар Растоўскага абкома і гаркома партыі У ліп 1950 — ліп 1956 1-ы сакратар ЦК КПБ У чэрв 1953 Л П Берыя зрабіў спробу змясціць П з пасады 1-га сакратара ЦК КПБ Аднак на IV (пашыраным) пленуме ЦК КПБ (25—27 6 1953) бел камуністы не далі аднадушнай згоды на такую кадравую змену З 1956 нам, з 1957 1-ы нам міністра замежных спраў СССР У 1958—85 міністр знешняга гандлю СССР Чл ЦК КПСС у 1941—86, чл Аргбюро ЦК у 1946—47, канд у чл Прэзідыума ЦК КПСС у 1952—53 Чл ЦК КПБ у 1952—60, чл Бюро ЦК КПБ у 1950—56 Дэп ВС СССР у 1937—89, ВС БССР у 1950—59, чл Прэзідыума ВС БССР у 1950—59

*Тв* Испытание на зрелость М, 1977, Со вестью своей не поступись М, 1995

*Яўгенія Фалей*

М І Патаповіч

М С Патолічаў

**ПАТО́ЦКІЯ**, шляхецкі род герба «Пілава» ў Рэчы Паспалітай Прозвішча ад в Потак у Ксенжскім пав Кракаўскага ваяв У 15—16 ст П займалі службовыя пасады пры дварах феадалаў і ў войску, а на мяжы 16 і 17 ст дасягнулі сенатарскай годнасці У 17—18 ст займалі вышэйшыя дзярж і вайск пасады ў Кароне Польскай Мелі вялізныя зямельныя ўладанні на Украіне і ў Польшчы Карысталіся графскім тытулам, які ў 18 ст прызнаны ў Аўстрыі і ў 19 ст ў Расіі З Беларуссю найбольш былі звязаны

К р ы ш т о ф (каля 1600 — вер або кастр 1675), сын Андрэя, кашталяна крамянецкага Праз шлюб з Аленай з Валовічаў набыў мяст Сідра ў Гродзенскім пав, мяст Галоўчын, Новы Быхаў, с Тайманаў у Аршанскім пав, меў в Здзітавец у Брэсцкім ваяв У другім шлюбе жанаты з Альжбетай з Дуніна-Рацкіх (удава А Халецкага і Г М Трызны) Займаў дзярж пасады ў ВКЛ чашнік у 1645—46, падстолі ў 1646—53, стольнік у 1653—58, крайчы ў 1658—61, падчашы з 1661, маршалак Трыбунала ВКЛ у 1662 і 1673, выбіраўся паслом на сеймы Удзельнічаў у вайне з укр казакамі, у *Лоеўскай бітве 1651*, узяцці Любеча і Кіева ў 1651, у вайне Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 (кампаніі 1654—55) Быў звязаны з Б і Я Радзівіламі, але не падпісаў *Кейданскі дагавор 1655* Вызнаваў кальвінізм

М і х а л (? — 1711?), ген -маер, падстолі ВКЛ з 1700

С т а н і с л а ў У л а д з і с л а ў (? — 27 6 1732), сын Фелікса Казіміра, лоўчы ВКЛ у 1704—10, вял стражнік ВКЛ у 1710—29, ваявода белзскі з 1729 Неаднаразова быў паслом на сеймы

А н т о н і М і х а л (студз 1702 — 11 4 1766), сын Аляксандра Яна, ваяводы смаленскага Падстолі ВКЛ у 1728—32, пасля ваявода белзскі Валодаў мяст Галоўчын, Горы-Горкі ў Аршанскім пав, Краснаполле ў Мазырскім пав, праз шлюб з Марыяй Людвікай з Сапегаў набыў мяст Зэльва ў Ваўкавыскім пав, с Чарлена ў Гродзенскім пав і інш

Я ў с т а х і (каля 1720 — 25 2 1768), сын Ежы, старосты грабавецкага і тлумацкага Ген -маер каронных войск (1752), чашнік каронны ў 1754—59, генерал артылерыі ВКЛ з 1759, адначасова ў 1762—67 староста львоўскі

І а х і м К а р о л ь (? — май 1791), сын Яна, кашталяна брацлаўскага Ген -маер каронных войск (1758), староста церабоўскі, падчашы ВКЛ у 1763—80 Адным з першых магнатаў далучыўся да *Барскай канфедэрацыі* і ў 1768 стаў маршалкам Брацлаўскага ваяв Праз шлюб з Тэрэзай з Сапегаў набыў Трасцяніцкі ключ (12 весак) у Брэсцкім пав, Тураўскі ключ (мяст Тураў і 10 весак) у Пінскім пав, маентак Рось (22 вескі і фальваркі) у Ваўкавыскім пав і інш

І г н а ц ы (Раман Ігнацы Францішак, 28 2 1750, Радзынь-Падляскі, Люблінскае ваяв — 20 8 1809), сын Яўстахія Выдатны паліт дзеяч Рэчы Паспалітай, асветнік Вучыўся ў Калегіум Нобіліум у Варшаве (1758—65) і ў Калегіум Назарэнум у Рыме (да 1770) З 1770-х г прыбліжаны караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага Пісар вялікі ВКЛ у 1773—83, маршалак надворны ВКЛ у 1783—91, маршалак вялікі ВКЛ у 1791—92, маршалак Пастаяннай Рады ў 1778—80 З часу ўтварэння ў 1773 *Адукацыйнай камісіі* адзін з гал яе дзеячаў, узначаліў Т-ва элементарных кніг Быў адным з лідэраў рэфарматарскай партыі на *Чатырохгадовым сейме 1788—92*, адзін з аўтараў *Канстытуцыі 3 мая 1791* За ўдзел у працы дэпутацыі па выпрацоўцы канстытуцыі прызначаны міністрам паліцыі абодвух народаў у *Стражы правоў*, з-за чаго выйшаў са складу Адукацыйнай камісіі У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1792 выконваў абавязкі адсутнага ваен міністра У 1792—94 у эміграцыі ў Саксоніі Адзін з арганізатараў *паўстання 1794* Увайшоў у склад *Найвышэйшай нацыянальнай рады* як кіраўнік аддзела замежных інтарэсаў Належаў да памяркоўнага крыла паўстанцаў Пасля задушэння паўстання зняволены ў Пецярбургу З 1796 жыў у Аўстрыі

С т а н і с л а ў Ш ч э н с н ы (Фелікс, 1752?, Крыстынопаль, Валынскае ваяв — 14 або 15 3 1805), сын Францішка Салезыя, ваяводы кіеўскага Харужы вялікі каронны ў 1774—80, ваявода рускі ў 1782—88, генерал кароннай артылерыі ў 1788—92, член Пастаяннай Рады ў 1782—86, чл Адукацыйнай камісіі ў 1782—93, ген -лейтэнант (1784) На Чатырохгадовым сейме 1788—92 выступаў супраць палітыкі прагрэсіўных рэформ, адзін з гал праціўнікаў Канстытуцыі 3 мая 1791 Прапаноўваў пераўтварыць Рэч Паспалітую ў федэратыўную рэспубліку з 3 частак (Польшча, укр землі, ВКЛ) на чале з магнатамі Разам з інш праціўнікамі рэформ у Рэчы Паспалітай падпісаў 27 4 1792 у Пецярбургу акт утварэння *Таргавіцкай*

*канфедэрацыі* і стаў яе генеральным маршалкам Пасля вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1792 у Брэсце, потым у Гродне, ажыццяўляў вярхоўную ўладу ў Рэчы Паспалітай У пач 1793 пераехаў у Пецярбург, з-за хваробы пакінуў пасаду маршалка канфедэрацыі і выехаў за мяжу У час паўстання 1794 завочна прыгавораны да смяротнага пакарання як здраднік У 1795 атрымаў чын рас ген -аншэфа, жыў у сваіх укр маентках

Леан (14 7 1799, мяст Коханава, Аршанскі пав — 6 або 12 12 1864), сын Станіслава, рас генерала ад інфантэрыі, сенатара-ваяводы Польск каралеўства Вучыўся ў Варшаўскім ун це Шмат гадоў жыў на Беларусі У 1831 камандаваў паўстанцкімі атрадамі ў Літве, пасля ў эміграцыі З 1836 у Варшаве Аўтар вершаў, апавяданняў, нарысаў, мемуараў, у т л «Успамінаў маей маладосці Свіслач, Ружана, Дзярэчын» (1860, бел пераклад — «Успаміны пра Тышкевічаву Свіслач, Дзярэчын і Ружану», 1997)

*Літ* Michalik B Działalnosc oswiatowa Ignacego Potockiego Wrocław etc 1979 Janeczek Z Ignacy Potocki Marszałek Wielki Litewski (1750—1809) Katowice 1992 Miller M Arystokracja Warszawa, [1993], Łojek J Dzieje zdrajcy — Szczęsny Potocki Warszawa, 1995, Яго ж Potomkowie Szczęsnego Dzieje fortuny Potockich z Tulczyna, 1799—1921 4 wyd Warszawa, 1996

**ПАТРА́ВА**, і с п а ш, псаванне пасеваў і сенажацей свойскай жывелай Паводле Статута ВКЛ 1588 гаспадар, якому зрабілі П , не мог самаўпраўна забраць чужую жывелу, нават калі застаў яе на месцы П Ён павінен быў засведчыць П пабочнымі людзьмі і разам з імі ці з *возным* вызначыць прычыненую шкоду Заканадаўства аб П існавала і ў Рас ім перыі

**ПАТРАНІ́МІЯ** (грэч patrōonymia найменне па бацьку ад pater бацька + onyma імя), форма грамадскай арганізацыі, характэрная пераважна для патрыярхальна-родавага ладу Часта захоўвалася ў класавым грамадстве П ўяўляе сабою групу сваяцкіх вял ці малых сем'яў, якія ўзніклі ад члянення адной вял патрыярхальнай сям'і, захавалі пэўнае гаспадарчае, грамадскае, ідэалагічнае адзінства і складалі асобнае паселішча ці яго частку Апошняя, як і сама П , звычайна наз па імю продка-заснавальніка У ВКЛ, асабліва на Палессі, у 13—16 ст патранімічнай была частка дварышчаў, дзе жылі родзічы, якія мелі адно найменне і калектыўна валодалі зямельным участкам На Беларусі былі пашыраны асобныя звычаі патранімічнага паходжання, у прыватнасці *сябрына, бонда* Некаторыя з гэтых звычаяў, напр бонда, часткова захаваліся да нашага часу Патранімічную назву мае шэраг паселішчаў (Пятровічы, Міхайлавічы, Сяменавічы, Дзмітравічы і інш )

*Міхаіл Піліпенка*

**«ПАТРИО́Т РО́ДИНЫ»**, газета *Мінскага патрыятычнага падполля* ў Вял Айч вайну Выдавалася са студз да жн 1942 групай А А Маркевіча на бел і рус мовах Друкавалася на шапірографе на кватэры кіраўніка групы Выйшла 8 нумароў (захавалася 3), тыраж 80—100 экз Змяшчала інфармацыю пра падзеі на франтах, жыцце сав тылу, заклікала мінчан байкатаваць мерапрыемствы акупац улад, змагацца з захопнікамі, надавала ўпэўненасці ў перамозе над ворагам Распаўсюджвалася членамі групы Г С Ананьевай, В Г Івановым, Г А Мохавай, П А Саковічам, Л Г Флейшар

**ПАТРЫ́СТЫКА**, п а т р ы с т ы ч н а я л і т а р а т у р а (ад грэч patēr і лац pater бацька), кананічна зацверджаныя творы т зв «айцоў царквы» — рымскіх і візантыйскіх багасловаў, ідэолагаў філасофска-тэалагічнага вучэння і дактрын хрысціянскай царквы 2—8 ст , а таксама бібліяграфія і даследаванні па гэтым прадмеце Сфарміравалася ў перыяд распаду познаантычнага грамадства, выкарыстоўвала яго культ традыцыі Гал змест П — абгрунтаванне, тлумачэнне і прапаганда прынцыпаў хрысціянскай рэлігіі, барацьба супраць язычніцтва, палеміка з ерэтычнымі плынямі ўнутры хрысціянства Адыграла важную ролю ў фарміраванні ідэалаў культуры сярэдневякоўя, разуменні духоўнага свету чалавека таго часу

П уключае царк жанры пісьменнасці экзегетыку (тлумачэнні), *гамілетыку*, палемічныя трактаты-памфлеты, казанні, павучанні, *агіяграфічную літаратуру*, гімнаграфію (песнапенні) У выніку падзелу раннехрысціянскай тэалогіі на заходнюю і ўсходнюю ў 5 ст вылучыліся адносна самастойныя плыні П лацінская і грэка-візантыйская Лац П мела больш рацыяналістычны характар, грэка-візантыйская аддавала перавагу алегарычнай і сімвалічнай экзегезе (тлумачэнню) У лац П вял значэнне мелі творы Юсціна, Тэртуліяна, Амвросія Медыяланскага, Еранима, Грыгорыя Вялікага, цэнтр месца належыць Аўгусціну Аўрэлію (Блажэннаму, 354—430), «Споведзь» якога вызначаецца глыбіней псіхал аналізу, зрабіла ўплыў на сусв л-ру З грэка-візантыйскіх пісьменнікаў найб вядомыя Афанасій Александрыйскі (аўтар «Жыцця Антонія»), Васіль Кесарыйскі (Вялікі, аўтар «Шастаднева»), паэт Грыгорый Назіянзін (Багаслоў), Грыгорый Нікі (аўтар «Дыялога пра душу»), гамілетык Іаан Златавуст, філасаф Іаан Дамаскін (аўтар трактата «Крыніцы ведаў») Творы лепшых патрыстычных пісьменнікаў з'яўляюцца яскравымі прыкладамі паэт мастацтва (вершы Іаана Дамаскіна, лірыка і паэмы «Пра мой лес», «Пра пакуты маей душы» Грыгорыя Назіянзіна), эпісталярнага (Васіль Вялікі) і гістарыяграфічнага (Аўгусцін Аўрэлій) жанраў У Стараж Русі перакладныя творы візантыйскай л-ры распаўсюджваліся з 10 ст На ўзор грэч анталогій Іаана Златавуста тут узнікалі свае «Златавусты», «Златаструі», «Ізмарагды» і інш зборнікі па вучанняў Уплыў грэка-візантыйскаи П асабліва адчувальны ў «словах» *Кірылы Тураўскага* П шырока разыходзілася на бел землях у рукапісах («словы» Іаа на Златавуста і «словы» Ісака Сірына, 1428, «Павучанне Яфрэма Сірына» 1492) Выдатны бел асветнік і друкар *Ф Скарына* ў сваіх тлумачэннях кніг Бібліі выкарыстоўваў працы Васіля Вялікага, Грыгорыя Дваяслова, Еранима Блажэннага, Феадосія, Феадарыта Кіпрскага, Ісака і Яфрэма Сірыных Іаана Дамаскіна, Іосіфа Канстанцінопальскага і інш , а таксама аўтараў, якія не былі прызнаны царквой (напр Арыген) У сваіх экзегетычных пабудовах Скарына паказаў сябе сапраўдным прадаўжальнікам ідэалаў патрыстычнай лініі пазнання, якая па шэрагу пунктаў уступала ў спрэчку з рацыяналістычна звужанай карцінай свету, узятай на ўзбраенне эпохай *Адраджэння* У 16—17 ст з развіццем кнігадрукавання побач з *палемічнай літаратурай*, скіраванай супраць езуіцка-каталіцкай экспансіі, П атрымала найб пашырэнне З'явіліся пераклады лац П творы Аўгусціна Аўрэлія «Пра горад Божы» «Богападобная любоў», зборнікі павучанняў У друкарнях Віленскага брацтва і Мамонічаў выдадзены «Слова пра цярплівасць і богаўхваленне» Іаана Златавуста, «Спрэчка другая хрысціяніна » Іаана Дамаскіна (1585), «Маргарыт» Іаана Златавуста (1588) і інш Папулярным на Беларусі патрыстычным пісьменнікам быў Яфрэм Сірын, зборнікі якога друкавалі ў Вільні («Павучанні» 1780, «Кніга прападобнага айца нашага Яфрэма Сірына», 1768, «Розныя павучальныя словы», 1764), у Супраслі («Павучанні», 1786, 1788, 1789, «Паранесіс», 1791) і інш гарадах Працы Грыгорыя Назіянзіна, Іаана Дамаскіна, Іаана Златавуста, Яфрэма Сірына перакладалі С *Зізаній*, Л *Карповіч* і інш П шырока выкарыстоўвалі ў сваей творчасці І Федараў, Г і М Смятрыцкія, С Кімбар, Л і С Зізанц, Л Карповіч, Е Плецянецкі, І Вішанскі, З Капысценскі, В Суражскі, П Бярында, І Гізель, І Галятоўскі, Л Барановіч, Дзмітрый Растоўскі (Туптала), інш асветнікі і царк дзеячы Беларусі і Украіны Творы П шырока выкарыста ны ў вядомым рукапісным тлумачэнні Бібліі сярэдзіны 17 ст «Выкладъ месцъ труднейшыхъ » Значнае месца П зай мала ў пашыраных на Беларусі зборні ках т зв вучыцельнай л-ры 16—18 ст («Падэкты», Вільня, 1592, «Анфалагіен», Еўе, 1613, «Дыоптра», Еўе, 1619, «Перла мнагацэннае», Магілеў, 1694, 1699, і інш ) Заклікамі трымацца бацькоўскай веры як асновы нац традыцыі і культуры яны набывалі выхаваўчае, маральна-дыдактычнае і патрыят гучанне

*Публ* Памятники византийской литературы IV—IX вв М , 1968, Памятники средневековой латинской литературы IV—IX вв М , 1970, Памятники литературы Древней Руси, XI — начало XII в М , 1978

*Літ* Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры Т 1 Мн , 1968, Византийская литература М , 1974, Аверинцев С С По-

этика древневизантийской литературы X—XVII в М , 1977, История русской литературы X—XVII вв М, 1980, Замалеев А.Ф, Зоц В.А. Мыслители Киевской Руси Киев, 1981, Історія української літератури Київ, 1987, Тысячелетние традиции болгарской литературы // Родник златоструйный М, 1990, Яскевіч А.А Творы Ф Скарыны Жанравая структура, філас погляды, мастацтва слова Мн , 1995, Гісторыя беларускай літаратуры Старажытны перыяд Мн , 1997

*Генадзь Грушавы, Алена Яскевіч*

**ПАТРЫЯ́РХ** (грэч patriarches прабацька пачынальнік роду), вышэйшы епіскапскі тытул у правасл царкве, кіраўнік паместнай правасл царквы У Старaж Іудзеі П наз старшыню сінедрыена — вышэйшага калегіяльнага органа ўлады У хрысц царкве з 4 ст П — кіруючы *епіскап* некат гарадоў і зямель (александрыйскі, іерусалімскі, канстанцінопальскі, антыяхійскі, рымскі) З канца 6 ст П канстанцінопальскі атрымаў тытул Усяленскага з правам склікаць Усяленскія саборы і прызначаць *мітрапалітаў* Папа рымскі разглядаўся тады як П зах часткі Візантыі Аднак рымская царква пасля свайго аддзялення не пагаджалася з гэтым і з 13 ст ўвяла тытул П для епіскапаў сваіх асобных старaж епархій у падпарадкаванні папы Тытул П існуе таксама ў армяна-грыгарыянскай, копцкай (у Егіпце), эфіопскай і інш старaж усх цэрквах Правасл царква ў Беларусі з часоў свайго існавання і да 1596 знаходзілася пад амафорам (апекай) П канстанцінопальскага Са згоды апошняга пастаўляліся мітрапаліты *Кіеўскай мітраполіі* У 1596 П канстанцінопальскі накіраваў свайго *экзарха* Нікіфара на правасл сабор у Брэсце, які выступіў супраць *Брэсцкай уніі 1596* У 1620—86 аднаўленая правасл іерархія Украіны і Беларусі зноў знаходзілася пад апекай П канстанцінопальскага З 1917 правасл царква Беларусі (з 1989 Беларускі экзархат) знаходзіцца ў царк юрысдыкцыі П маскоўскага і ўсяе Русі Першы П маскоўскі пастаўлены ў 1589 (у 1700—1917 П не было, гл ў арт *Духавенства*) Ён кіруе царквой сумесна са Свяшчэнным сінодам і Архірэйскім саборам, выбіраецца пажыццева на Памесным саборы (сходзе прадстаўнікоў духавенства і вернікаў царквы) За час існавання Маскоўскага патрыярхата было 15 П Апошні з іх, Аляксій II тройчы (1991, 1995, 1998) наведаў Беларусь

*Літ* Под Патриаршим омофором М , 1989 *Генадзь Шэйкін*

**ПАТРЫЯРШЫ РУ́КАПІС**, гістарычны зборнік 2-й пал 17 ст Месца ўзнікнення дакладна невядома У ім захаваліся 3 помнікі бел летапісання Пад назвай «Кройника о великих князех литовских» у зб змешчаны «*Летапісец вялікіх князёў літоўскіх*» у рэдакцыі, блізкай да 2-й ч Летапісу Красінскага (т зв Патрыяршы А) У канцы твора шэраг гіст запісаў, у т.л пра *Аршанскую бітву 1514* з доўгім пералікам рус баяр, узятых у палон Далей у П р змешчаны няпоўны, без пачатку і канца, тэкст 2-га бел - літ летапіснага зводу — «*Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага*» — пашыранай рэдакцыі, аналагічны *Румянцаўскаму летапісу* (т зв Патрыяршы Б) Завяршае зборнік *Баркулабаўскі летапіс*, які захаваўся ў адзіным спісе Апрача Баркулабаўскага летапісу, астатнія бел летапісныя творы П р не апублікаваны, а выкарыстоўваліся толькі для розначытанняў да інш спісаў у *Поўным зборы рускіх летапісаў* (т 17, 1907) У П р змешчаны таксама розныя царк -рэліг творы і летапісныя ўрыўкі на царк -слав і старaж -рус мовах Да 1917 зберагаўся ў Патрыяршай б-цы (адсюль назва), цяпер у Гіст музеі ў Маскве *Вячаслаў Чамярыцкі*

**ПАТРЫЯ́РШЫ ЭКЗА́РХ**, гл ў арт *Экзарх*

**ПАТРЫЯТЫ́ЗМ** (ад грэч patris айчына), маральны і паліт прынцып, змест ам якога з'яўляецца любоў да ўсяго айчыннага, пачынаючы ад мясцовасці, дзе чалавек нарадзіўся, яго народа, мовы, культуры і да дзяржавы, грамадзянінам якой ен з'яўляецца У паліт сэнсе — гэта адданасць усяму, што звязана з суверэнітэтам сваей дзяржавы, яе незалежнасцю і самастойнасцю, бездакорным выкананнем грамадзянскага абавязку Паняцце «П » вядома з глыбокай старажытнасці, сфармулявана ў антычныя часы У бел духоўнай культуры існуе з пачатку яе гісторыі і выяўлялася пераважна ў маст -эстэтычнай форме, напр у творах *Кірылы Тураўскага*, дзейнасці *Ефрасінні Полацкай, Клімента Смаляціча*, Міколы *Гусоўскага* Выразны патрыят характар маюць прадмовы і пасляслоўі **Ф** *Скарыны* да яго перакладаў Бібліі Патрыят настроі найб абуджаліся з нарастаннем нац -вызв і адраджэнскага руху на Беларусі ў 19 — пач 20 ст , што асабліва выявілася ў маст л-ры і публіцыстыцы (Ф Багушэвіч, М Багдановіч, Я Купала, Я Колас і інш ) У СССР праводзілася ідэалогія агульнасавецкага П з устаноўкай на роскві і ўзаемнае ўзбагачэнне нац культур Асабліва яскрава П бел народа праявіўся ў перыяд Вял Айч вайны, калі працоўныя праяўлялі масавы гераізм і самаахвярнасць пры абароне сваей Радзімы З развалам СССР, усталяваннем незалежнасці і дзярж суверэнітэту Рэспублікі Беларусь паўстала задача далейшага развіцця бел нац культуры і нац самасвядомасці, адной з гал частак якой з'яўляецца П

**ПАТРЫЯТЫ́ЧНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ** ў Вялікую Айчынную вайну, сістэма кіруючых органаў, арганізацый, груп і асобных патрыетаў, якія ў 1941—44 вялі барацьбу супраць ням фашыстаў на акупіраванай імі тэрыторыі БССР Фарміраванне падполля адбывалася ва ўмовах *акупацыйнага рэжыму* 2 шляхамі «знізу» — па ініцыятыве камуністаў, камсамольцаў і беспартыйных патрыетаў-антыфашыстаў, і «зверху», як вынік арганізац дзейнасці к-таў КП(б)Б і ЛКСМБ Ядром і кіруючай сілай з'яўлялася партыйнае (патрыят ) падполле, састаўнымі часткамі якога былі *камсамольска-маладзежнае падполле, антыфашысцкія арганізацыі* (дзейнічалі пераважна ў зах абласцях) У 1941—42 фарміраванне П п адбывалася пераважна «знізу», таму што большасць кіруючых органаў і арг-цый, створаных к-тамі КП(б)Б і ЛКСМБ загадзя (абкомы, міжрайкомы, *гарадскія падпольныя камітэты КП(б)Б, гарадскія падпольныя камітэты ЛКСМБ, раенныя падпольныя камітэты КП(б)Б, раенныя падпольныя камітэты ЛКСМБ*), па розных прычынах не змаглі разгарнуць сваю дзейнасць адразу пасля акупацыі адпаведных раенаў

З буйнейшых арг-цый П п пачалі дзейнасць у 1941 у канцы чэрв — Мінскае, Наватухінскае, у ліп — Аршанскае, Асіповіцкае, Бабруйскае, Барысаўскае, Бягомльскае, Бялыніцкае, Вілейска-Куранецкае, Віцебскае, Грэскае, Круглянскае, Прылепскае, Рудзенскае, Сакалішчанскае, Смалянскае, Старадарожскае, Тарасава-Ратамскае, Уздзенскае, Ушацкае, у жн — Асвейскае, Брэсцкае, Васілевіцкае, Гомельскае, Гродзенскае, Дзяржынскае, Добрушскае, Ельскае, Жлобінскае, Кармянскае, Магілеўскае, Межаўскае Міхалькоўскае, Парыцкае, Полацкае, Рагачоўскае, Расонскае, Рэчыцкае, Смалявіцкае, Чашніцкае, у вер — Велікастахаўскае, Калінкавіцкае, Крычаўскае, Пінскае, у кастр — Слуцкае, у ліст — Хойніцкае, з восені — Мазырскае, з канца года — Брагінскае, Лідскае (пра кожнае гл асобны арт ) Камсам -маладзежныя арг-цыі П п распачалі дзейнічаць з чэрв 1941 — Мікалаевіцкае, Мірскае, з ліп — Бараўлянскае, Брэсцкае, Мар'інагорскае, Шаркоўшчынскае, Шчэпіцкае, з жн — Асінторфскае, Плешчаніцкае, Прошкаўскае, Шчадрынскае, з вер — Дзятлаўскае, Скідзельскае, з кастр — Клімавіцкае, Тураўскае, з ліст — Калінінскае, Мотальскае, Хідрасаўскае (пра кожнае гл асобны арт ) З пачатку свайго існавання П п спалучала сваю дзейнасць з *партызанскім рухам* Асн кірункамі дзейнасці падполля ў 1941—42 былі агітац -прапагандысцкая работа сярод насельніцтва, супрацоўнікаў акупац улад, у ваен падраздзяленнях ворага, дыверсійна-баявыя дзеянні, стварэнне і папаўненне партыз атрадаў людзьмі, забеспячэнне іх зброяй, боепрыпасамі, медыкаментамі, адзеннем і харчаваннем, выкананне разведвальнай і сувязной работы для партызан У першы год свайго існавання падполле з-за адсутнасці падрыхтаваных кадраў і вопыту барацьбы несла вял страты З вясны 1942 ЦК КП(б)Б і БШПР, якія працавалі ў сав тыле, разгарнулі работу па

на тэр Ельскага, Лельчыцкага, Мазырскага, Нараўлянскага і Тураўскага р-наў у маі 1943 — студз 1944 Камандзіры М С Дзьячэнка (да вер 1943), А М Бяленчык (з вер 1943), камісар Бяленчык, нач штаба Р С Аўдзяйчук Аб'ядноўвала асобныя партыз атрады Ельскі, Мазырскі, імя Калініна, імя Кірава, імя Кутузава і «За Радзіму» (934 партызаны), у чэрв 1943 арганізаваны атрады Лельчыцкі імя Суворава і Нараўлянскі імя Суворава У ліп —кастр ў сувязі з ростам атрадаў у злучэнні былі ўтвораны брыгады 27-я Нараўлянская імя Кірава, 37-я Ельская, Лельчыцкая, Мазырская імя Аляксандра Неўскага, партыз атрад Тураўскі «За Радзіму» дзейнічаў самастойна На 1 12 1943 злучэнне налічвала 2612 партызан Штаб размяшчаўся ў лесе каля весак Лукаўцы, Маркаўскае і інш Ельскага і Лельчыцкага р-наў Для самалетаў пасадачныя пляцоўкі абсталёўваліся на У ад р Балотніца Партызаны вялі сістэматычныя баявыя дзеянні на чыгунках, шашэйных і грунтавых дарогах, зрывалі перавозкі грузаў па Прыпяці, разам з часцямі Бел і 1-га Укр франтоў удзельнічалі ў вызваленні г Мазыр, г п Ельск, Нароўля, весак Лельчыцкага, Мазырскага і Нараўлянскага р-наў З 27 11 1943 па меры вызвалення раенаў дыслакацыі злучэння 4 брыгады і асобны атрад (каля 3 тыс чал ) злучыліся з часцямі Чырв Арміі 16 1 1944 штаб злучэння выйшаў у сав тыл разам з асн сіламі 37-й Ельскай брыгады *Аляксандр Манаенкаў*

**ПАЎЗЯМЛЯ́НКА**, тып жылой пабудовы, часткова заглыбленай у зямлю Вядома з эпохі *неаліту* У ранім неаліце жытлы былі круглыя ці авальныя ў плане пл 10—15 м², заглыблены ў зямлю на 0,4—0,5 м, іх купала- або конусападобная страха апіралася на слуп у цэнтры, унутры размяшчалася агнішча, выкладзенае камянямі У познім неаліце П былі амаль прамавугольныя, у бронзавым веку іх будавалі з бярвен прамавугольнымі ў плане У розных культурах П мелі свае асаблівасці У плямен палескай групы *шнуравой керамікі культуры* яны былі авальныя, памерам 5 × 2,5—3 м, заглыбленыя ў зямлю на 0,3—0,4 м У *сосніцкай культуры* іх памеры 6,2 × 7,2 × 0,7—1 м, унутры рабілі глінабітныя агнішчы У плямен *тшцінецкай культуры* П мелі слупавую канструкцыю (памеры 2,5—14 × 2—7 м), сцены рабілі з плятня, абмазанага глінай, стрэхі двухсхільныя, у сярэдзіне размяшчаліся каменныя агнішчы або печы У ранім жал веку плямены *мілаградскай культуры* будавалі П няправільнай формы, пл 12—16 м², заглыбленыя ў зямлю на 0,2—0,6 м, іх двухсхільная страха мацавалася на тоўстых сохах, паміж цэнтр слупам і сцяной размяшчаліся адкрытыя агнішчы Плямены *зарубінецкай культуры* на Палессі жылі ў прамавугольных П , заглыбленых у зямлю на 0,5—0,7 м, з глінабітнымі агнішчамі ўнутры Падлога ў П была земляная, часам падмазаная глінай або выкладзеная каменнымі пліткамі З цягам часу апорны слуп знік, а замест агнішча ў адным з кутоў рабілі печ-каменку П існавалі на Беларусі да 9—10 ст , потым яны выцеснены наземным жыллем зрубнай канструкцыі

Дз Р **Паўлаў**

І М **Паўлаў**

**ПАЎКАПЫ́**, палова *капы* 1) Грашова-лікавая адзінка ў 30 грошаў, пашыраная ў ВКЛ у сярэдзіне 15 — 2-й пал 16 ст 2) Лікавая адзінка ў 30 рэчаў, шырока вядомая па кнігах Магілеўскага магістрата ў 2-й пал 17 ст *Іван Сінчук*

**ПА́ЎЛАВІЧЫ**, веска, цэнтр сельсавета і калгаса ў Кіраўскім р-не, на р Ала За 12 км на Пд ад Кіраўска, 25 км ад чыг ст Бярэзіна 415 ж , 144 двары (1999) У 1560 сяло Бабруйскай воласці і староства Мінскага ваяв ВКЛ, 28 двароў У 2-й пал 16 — 1-й пал 17 ст ўласнасць роду Трызнаў (у 1638 бабруйскага старосты П Трызны і яго жонкі Г Масальскай) Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас імперыі У 1863 адкрыта царк -прыходская школа, у 1867 пабудавана Свята-Мікалаеўская царква У 1884 сяло Бортніцкай воласці Бабруйскага пав Мінскай губ , 468 ж , 56 двароў У 1894 — 2 вадзяныя млыны, 2 крамы, заезны дом У пач 20 ст створана с -г т-ва, якое ў 1905 валодала 1291 дзесяцінай зямлі У 1909 у П 1200 ж , 187 двароў, у 1917 — 1137 ж , 175 двароў У 1919 засн шавецкая арцель, у 1921 — прац школа 1-й ступені (з 1938 — сямігадовая) 4 8 1924 цэнтр сельсавета Бабруйскага раена, з 12 2 1935 — Кіраўскага раена У 1929 арганізаваны калгас «Чырвоны баец» У весцы мех майстэрня, сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч -ак пункт, магазін, аддз сувязі Брацкія магілы сав воінаў і партызан, якія загінулі ў Вял Айч вайну *Валянціна Віталева*

**ПА́ЎЛАЎ** Дзмітрый Рыгоравіч [23 10(4 11) 1897, в Ванюх, цяпер Паўлава Кастрамской вобл , Расія — ліп 1941], удзельнік абарончых баеў на Беларусі ў Вял Айч вайну, Герой Сав Саюза (1937), ген арміі (1941) Скончыў Омскую вышэйшую кав школу (1922), Ваен акадэмію імя Фрунзе (1928), акад курсы пры Ваенна-тэхн акадэміі (1931) Удзельнік 1-й сусв і грамадз войнаў У Чырв Арміі з 1919 З 1931 камандзір механіз палка ў Гомелі, у 1934—36 — асобнай механіз брыгады ў Бабруйску З 1937 нач бранятанк ўпраўлення РСЧА, арганізатар стварэння танка Т-34 Удзельнік вайны ў Іспаніі 1936—39, баеў на р Халхін-Гол у 1939, сав -фінл вайны 1939—40 З чэрв 1940 камандуючы войскамі Зах асобай ваен акругі Сумесна з камісіяй ЦК КП(б)Б распрацаваў мерапрыемствы па павышэнні пільнасці і мабілізацыйнай гатоўнасці ў прыгранічных абласцях, прынятыя 17 5 1941 Бюро ЦК КП(б)Б З пач Вял Айч вайны камандуючы войскамі Зах фронту, пасля разгрому якіх у *Навагрудскім «катле»* Ваен калегіяй Вярх суда СССР быў адхілены ад пасады і 22 7 1941 прыгавораны да пакарання смерцю Рэабілітаваны 31 7 1957 Чл ЦВК БССР у 1935—36 Канд у чл ЦК ВКП(б) з 1939 Д эп ВС СССР з 1940

*Літ* Качелин М М Дальний костер М , 1968, Голубев Е П Боевые звезды Ярославль, 1972, Жуков Г К Воспоминания и размышления М , 1979 С 174, 187

**ПА́ЎЛАЎ** Іван Міхайлавіч (18 6 1918, с Яўкіна Херсонскага пав , цяпер Баштанскага р-на Мікалаеўскай вобл., Украіна — 30 5 1981), Герой Сав Саюза (1945) Беларус Скончыў Варашылаўградскую ваен авіяц школу пілотаў (1941), Краснадарскае авіяц вучылішча (1943) У Вял Айч вайну з 1943 на Паўн -Каўказскім, 3-м і 4-м Укр франтах камандзір звяна эскадрыллі штурмавога авіяпалка Удзельнік вызвалення Кубані, Таманскага п-ва, Крыма, Малдовы, Румыніі, Балгарыі, Югаславіі, Венгрыі, Аўстрыі, Чэхаславакіі Зрабіў 154 баявыя вылеты Да 1960 у Сав Арміі, да 1978 у нар гаспадарцы Ганаровы грамадзянін г Умань (Украіна)

**ПА́ЎЛАЎ** Мікалай Спірыдонавіч (25 8 1922, в Слакбаш Белябееўскага

скі, а ў канцы ліп яны захапілі маентак Не маючы магчымасці трымаць маентак пад рас уладай, у канцы 1794 Бжастоўскі прадаў яго Ф Мацынскаму пры ўмове захавання яго статута Пазней маентак перайшоў ва ўласнасць інш паноў, якія павысілі павіннасці і абмежавалі правы сялян, аднак доўгі час прытрымліваліся асн палажэнняў статута Паўлава Некат з рэформ Бжастоўскага мелі паралелі ў інш маентках Рэчы Паспалітай 18 ст (напр, у маентку Храптовічаў Шчорсах), аднак заснаванне «сялянскай рэспублікі» было беспрэцэдэнтным Праведзеныя ў духу Асветніцтва, рэформы садзейнічалі развіццю капіталіст, грашовых адносін у сял гаспадарцы, павышэнню дабрабыту насельніцтва Рэформы Бжастоўскага сустрэлі варожыя адносіны большасці землеўласнікаў і ўхваляліся перадавымі коламі Рэчы Паспалітай

*Літ* Obst J Rzeczpospolita Pawłowska // Litwa i Rus 1913 Z 3, Rostworowski E M Reforma pawłowska Pawła Ksawerego Brzostowskiego (1767—1795) // Przegląd historyczny 1953 № 1—2 Bartys J Rzeczpospolita Pawłowska na tle reform włoscianskich w Polsce w XVIII wieku Warszawa, 1982 *Валерый Пазднякоў*

**ПАЎЛО́ВІЧ** Альберт Францавіч (11 11 1875, Мінск — 17 3 1951), бел паэт-гумарыст, драматург Скончыў 4-класнае гар вучылішча ў Мінску (1894) Працаваў ва ўпраўленні Лібава-Роменскай чыгункі Жыў у Мінску, Маскве, на Урале, з 1945 у Курску Літ дзейнасць пачаў у канцы 19 ст, у бел друку ўпершыню выступіў у 1907 Друкаваўся ў газ «Наша ніва», альманаху «Маладая Беларусь», у час «Лучынка» і інш Выдаў зб вершаў «Снапок» (1910), драму «Васількі» (1919) Пісаў лірычныя вершы, у якіх гучалі патрыятычныя матывы («Родны край», «Родныя малюнкі», «Ноч на Івана Купалу») Творчасць П цесна звязана з фальклорам Найб вядомымі і папулярнымі, асабліва ў дарэв час, былі яго вершаваныя гумарыст апавяданні, пераказы бел нар анекдотаў («Пан і акуляры», «Ракі», «Шчодрая ахвяра», «Маладая гаспадынька» і інш) Аўтар арт «Забытае» (да гісторыі тэксту «Гутаркі Данілы са Сцяпанам», 1925), «Сялянка» В Дуніна-Марцінкевіча на мінскай сцэне» (1929) Яго зб гумару «Перавясла» не выдадзены, рукапіс не знойдзены Многія вершы П не захаваліся На бел мову перакладаў творы А Пушкіна, Т Шаўчэнкі, М Канапніцкай, У Сыракомлі У 1930-я г высланы з Беларусі Памер у Курску

*Тв* Выбранае Мн, 1975, У кн Анталогія беларускай паэзіі Мн, 1961 Т 1

*Літ* Багдановіч М Поўны зб тв Т 2 Мн, 1993, Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры Т 2 Мн, 1969 *Сцяпан Александровіч*

**ПАЎЛО́ВІЧ** Іван Міхайлавіч [24 2(7 3) 1896, в Старое Сяло Мсціслаўскага р-на — 19 7 1944], Герой Сав Саюза (1945) Скончыў Вышэйшую паграншколу НКУС (1928), Школу удасканалення камсаставу НКУС (1938) У арміі з 1915, у Чырв Арміі з 1919 Удзельнік грамадз вайны 1918—20, потым у пагранвойсках на Д Усходзе У Вял Айч вайну з 1943 на Цэнтр, Бел і 1-м Бел франтах Удзельнік Курскай бітвы Нам камандзіра стралк дывізіі палк П вызначыўся ў 1944 у баях на Беларусі 24 чэрв падняў батальён на прарыў варожай абароны на р Друць каля Рагачова, захапіў траншэі праціўніка, 29 чэрв арганізаваў фарсіраванне р Бярэзіна, у ліку першых уварваўся ў Бабруйск, 19 ліп на ПнЗ ад Брэста ўзначаліў полк, які адбіў атаку 60 фаш танкаў, загінуў у гэтым баі Яго імем названы вуліцы ў Мсціславе, Хабараўску

І М Паўловіч

**ПАЎЛО́ВІЧ** Мікалай Браніслававіч [3(15) 7 1897, пас Мазурына Віцебскага пав, цяпер Шумілінскі р-н — 26 6 1973], контр-адмірал (1944) Канд ваенна-марскіх н (1942), праф (1951) Скончыў марское вучылішча (1917) З лют 1918 у ВМФ Удзельнік грамадз вайны 1918—20, камандзір мінаносца на Балтыйскім флоце З 1931 выкладчык, нач кафедры ў Ваенна-марской акадэміі Удзельнік сав-фінл вайны 1939—40, вызвалення Запаляр'я ў Вял Айч вайну, нач паходнага штаба Паўн флоту Да 1954 у Сав Арміі Аўтар падручнікаў для ваенна-марскіх навуч устаноў

**ПАЎЛО́ВІЧ** Сяргей Канстанцінавіч [13(25) 9 1875, в Асаўцы Кобрынскага пав, цяпер Драгічынскі р-н — 16 9 1940], бел грамадска-культ дзеяч, педагог Скончыў правасл семінарыю ў Вільні, Кіеўскую духоўную акадэмію (1899) Працаваў у царк установах, у 1909—13 выкладчыкам настаўніцкай семінарыі і жаночай гімназіі ў Рагачове, у 1913—18 інспектарам нар школ Ваўкавыскага пав, у 1925—28 настаўнікам і дырэктарам *Віленскай беларускай гімназіі* Адзін з кіраўнікоў *Таварыства беларускай школы* Удзельнічаў у працы *Беларускага навуковага таварыства* ў Вільні Выступаў супраць *паланізацыі*, за пашырэнне адукацыі на роднай мове Быў прыхільнікам ідэі працоўнай школы («Аб арганізацыі беларускай працоўнай школы», 1928) Для агульнаграмадзянскага, нац выхавання дамагаўся выкарыстання і рэліг каштоўнасцей У 1937 выдаваў царкоўны і культ-асв часопіс для дзяцей «*Снапок*» У брашуры «Некалькі ўваг аб беларускім «Лемантары» Ст Любіч-Маеўскага» (1929, пад псеўд Паляшук) выказаў пратэст супраць гвалтоўнага ўвядзення ў бел і польска-бел школах лац азбукі Зведаў ганенні з боку польскіх улад Закранаў пытанні самаадукацыі, хатняга навучання (на старонках час «*Беларускі летапіс*» і інш выданняў), культ-асв работы («Пазашкольная асвета Культурна-асветная праца ў гуртках ТБШ», 1928) Аўтар школьных падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў «Свяшчэнная гісторыя Старога Завету» (1926), «Пішы самадзейна Развіццё навыку самастойнага пісьма» (ч 1, 1928), «Метадычныя ўвагі да пасобніка «Пішы самадзейна» (1929), «Свяшчэнная гісторыя Новага Завету» (1936), буквароў «Першыя зярняткі» (1936), «Засеўкі» (1937, на лацініцы)

*Літ* Народная адукацыя і педагагічная навука ў Беларусі (1917—1945) Мн, 1993, Вабішчэвіч А Каб жыць пад сваім небам Навук-пед спадчына Сяргея Паўловіча // Голас Радзімы 1996 19 26 снеж. *Аляксандр Вабішчэвіч*

**ПАЎЛО́ЎСКІ** Анатоль Міхайлавіч [16(29) 6 1906, г Курск, Расія — 10 7 1983], удзельнік баёў на Беларусі ў Вял Айч вайну, Герой Сав Саюза (1944) Скончыў палкавую кав школу (1930), курсы ўдасканалення афіц саставу пры Ваен акадэміі імя Фрунзе (1948) У Чырв Арміі з 1928 У Вял Айч вайну з 1941 на Паўд, Крымскім, Паўд-Каўказскім, Сталінградскім, Бранскім, Цэнтр, Бел франтах Вызначыўся 29—30 9 1943 пры вызваленні Брагінскага р-на полк на чале з падпалкоўнікам П пад агнём праціўніка фарсіраваў Днепр, заняў плацдарм, адбіў шматлікія контратакі танкаў і пяхоты ворага Да 1966 у Сав Арміі

**ПАЎЛО́ЎСКІ** Зянон Станіслававіч [14(27) 7 1917, в Прылукі Мінскага пав, цяпер Мінскі р-н — 12 8 1977], бел жывапісец Скончыў Віцебскае маст вучылішча (1936) і Маскоўскі маст ін-т імя Сурыкава (1943) У маст выстаўках удзельнічаў з 1934 Працаваў пераважна ў жанры партрэта Стварыў рэаліст вобразы нар паэта Беларусі Я Коласа, партызанкі Ніны Хахалінай (1943), Герояў Сав Саюза В І Казлова (1946), І П Ціткова (1945), Е С Зянькова (1957), Героя Сац Працы А І Шубы (1945), мастака А Мазалева (1945), нар артыста СССР Б В Платонава (1950), прэзідэнта АН БССР В Ф Купрэвіча (1960), нар пісьменніка Беларусі М Лынькова (1962), Маршала Сав Са-

юза К К Ракасоўскага (1978) і інш Партэтам П ўласцівы глыбокае раскрыццё ўнутр свету асобы, тонкасць выяўл сродкаў Аўтар групавых кампазіцый «Беларускія пісьменнікі ў Янкі Купалы ў гады вайны» (1947), «Беларуская дэлегацыя ў У І Леніна 19 ліпеня 1918 года» (1967)

**ПАЎЛО́ЎСКІ** Мікалай Восіпавіч [14(27) 1 1903, Гродна — 21 10 1960], генерал-палкоўнік (1954) Скончыў акадэмію Генштаба (1948) У Чырв Арміі з 1920 У Вял Айч вайну з 1942 на Закаўказскім, 1-м, 2-м Укр і Забайкальскім франтах нач штаба ўмацаванага раёна, брыгады марской пяхоты, арміі, нач аператыўнага аддзела і ўпраўлення штаба франтоў Удзельнік абароны Кубані, бітвы за Каўказ, Новарасійска-Таманскай, Жытомірска-Бярдзічаўскай, Яска-Кішынёўскай, Дэбрэцэнскай, Будапешцкай, Венскай, Пражскай і Хінгана-Мукдэнскай аперацый Пасля вайны на адказных пасадах у Сав Арміі Яго імем названа вуліца ў Гродне

**ПАЎЛО́ЎСКІ** Федар Іларыёнавіч [14(27) 11 1908, с Міхайлаўка Мелітопальскага пав , цяпер гар пасёлак Запарожскай вобл , Украіна — 6 4 1989], адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партыз руху на тэр Палескай вобл , Герой Сав Саюза (1941) Скончыў палкавую кав школу (1932), курсы сав будаўніцтва (1939) і паліскладу (1940) З 1930 у Сав Арміі Удзельнік баёў на воз Хасан у 1938, сав -фінл вайны 1939—40 У Вял Айч вайну ў пач ліп 1941 стварыў разам з Ц П *Бумажковым* і ўзначаліў партыз атрад «Чырвоны Кастрычнік» у Акцябрскім р-не, са студз 1942 камандзір *Палескага партызанскага злучэння* У маі 1942 — крас 1943, кастр 1943 — маі 1944 камандзір 123-й Акцябрскай імя 25-годдзя БССР партыз брыгады, якая да лютага 1943 насіла яго імя, адначасова з крас 1943 чл *Палескага падпольнага абкома КП(б)Б*, з ліст 1943 — Акцябрскага падп РК КП(б)Б Званне Героя Сав Саюза прысвоена ў ліку першых сав партызан Пасля вайны да 1966 на сав і гасп рабоце

**ПАЎНАМО́ЦНАЕ ПРАДСТАЎНІ́ЦТВА БССР ПРЫ СНК РСФСР**, дзяржаўная ўстанова для забеспячэння сувязі паміж БССР і РСФСР у 1921—22 (да ўтварэння СССР) Створана 24 3 1921 у Маскве па ініцыятыве бел кіраўніцтва на падставе *дагавора аб ваенным і гаспадарчым саюзе паміж РСФСР і БССР* ад 16 1 1921 Падпарадкоўвалася Наркамату замежных спраў (НКЗС) БССР, выконвала функцыі дыпламат прадстаўніцтва, падтрымлівала афіц кантакты з НКЗС РСФСР, кіраўнікамі і супрацоўнікамі інш дыпламат прадстаўніцтваў, акрэдытаваных у Маскве Паўпрэд (М І Мароз), яго нам , саветнікі і сакратары ўваходзілі ў склад дыпламат корпуса РСФСР і карысталіся дыпламат імунітэтам Паўпрэд і саветнік прызначаліся Прэзідыумам ЦВК БССР Практычная дзейнасць прадстаўніцтва выходзіла за рамкі звычайных функцый дыпламат прадстаўніцтва Яно выконвала ў межах РСФСР даручэнні бе ўрада, ЦК КП(б)Б, наркаматаў і ведам стваў БССР, вяло работу па вяртанн спецыялістаў — ураджэнцаў Беларус на радзіму, пошуку вывезеных з тэр рэспублікі матэрыяльных каштоўнасцей Выдача замежных пашпартоў для грамадзян БССР перайшла пад кантроль НКЗС РСФСР Пашпарты, выдадзеныя НКЗС БССР без візы НКЗС РСФСР і Асобага аддзела ВЧК, лічыліся несапраўднымі Пасля стварэння СССР (30 12 1922) прадстаўніцтва пераўтворана ў Пастаяннае прадстаўніцтва СНК (СМ) БССР пры СНК (СМ) СССР (гл *Пастаяннае прадстаўніцтва Савета Міністраў БССР пры Савеце Міністраў СССР*)

*Літ* История государства и права Белорусской ССР Т 1 Мн , 1970, Бровка Ю П Белорусская ССР — суверенный участник международного общения Мн , 1974 Кавалева Л А Утварэнне і дзейнасць Наркамата замежных спраў БССР у 1919—1922 гг // Весці АН Беларусі Сер гуманіт навук 1993 № 1, Знешняя палітыка Беларусі Зб дак і матэрыялаў Т 1 (1917—1922 гг) Мн , 1997 *Уладзімір Снапкоўскі*

З **Паўлоўскі** Партрэт мастака А. Мазалева 1945

М В **Паўлоўскі**

Ф І **Паўлоўскі**

**ПАЎНОЧНАБЕЛАРУ́СКАЯ КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура плямён позняга неаліту і бронзавага веку, якія ў канцы 3-га — 3-й чвэрці 2-га тыс да н э жылі на тэр сучасных Віцебскай, Пн Мінскай, Пд Пскоўскай абл , а таксама ў некат суседніх раёнах Сфарміравалася на аснове крывінскага варыянта *нарвенскай культуры* пры ўдзеле носьбітаў *верхнедняпроўскай культуры* і *шнуравой керамікі культур* Насельніцтва жыло пераважна на берагах азёр і невял рэк у збудаваннях з двухсхільным дахам Займалася паляваннем, рыбалоўствам, збіральніцтвам, а таксама земляробствам і жывёлагадоўляй Для культуры характэрны ляпны вастрадонны і пласкадонны посуд з дамешкамі раслінных рэшткаў і тоўчаных ракавін у сценках, паверхні якіх заштрыхаваны і густа пакрыты арнаментамі з паясоў насечак, адбіткаў грэбеня, з розных наколаў Прылады працы і зброю выраблялі пераважна з рогу і косці (наканечнікі стрэл, кінжалы, праколкі, сякеры і цеслы, гарпуны, рыбалоўныя кручкі і інш ) Шырока выкарыстоўвалася дрэва На позніх этапах існавання плямёнамі П к выкарыстоўваліся таксама медныя і бронзавыя вырабы З зубоў, косці і прыбалтыйскага бурштыну выраблялі разнастайныя ўпрыгожанні На стаянках П к знойдзены творы першабытнага мастацтва статуэткі людзей, звяроў і птушак, гравіраваныя выявы людзей на кераміцы, адмыслова арнаментаваны посуд На Беларусі найб вядомыя помнікі Крывіна-1, -2, -3, *Асавец* (верхнія пласты) на памежжы Бешанковіцкага і Сенненскага р-наў Віцебскай вобл *Міхась Чарняўскі*

Касцяныя скульптура і гарпун **паўночнабеларускай культуры** (в Асавец Бешанковіцкага раёна)

**ПАЎНО́ЧНА-ЗАХО́ДНІ АБЛАСНЫ́ КАМІТЭ́Т РСДРП(б)**, кіруючы орган *Паўночна-Заходняй абласной арганізацыі РСДРП(б)* у перыяд паміж канферэнцыямі Працаваў пад кіраўніцтвам ЦК РСДРП(б) У к-т, выбраны I Паўн -Зах абл канферэнцыяй РСДРП(б) 15—18 9(28 9—1 10) 1917, уваходзіла 7 прадстаўнікоў ад парт арг-цыі Мінска, па 1 ад парт арг-цый гарадоў вобласці, 15 ад арміі, адно месца было пакінута для парт арг-цыі Віцебска, якая не прыслала дэлегата на канферэнцыю Для апаратыўнага кіраўніцтва работай арг-цыі к-т выбраў бюро (старшыня А Ф *Мяснікоў*) У гэтым складзе к-т працаваў да IV Паўн -Зах абл канферэнцыі (1—4 6 1918), бо II і III канферэнцыі пытанні аб выбарах не разглядалі На VI канферэнцыі ў абл к-т выбрана 9 чл Мяснікоў, М І Калмановіч, І Я Алібегаў, В Г Кнорын, С В Іваноў, В З Собалеў, І А Мяніцкі, І І Рэйнгольд, Аўсянікаў, 4 канд Р В Пікель, Я Ф Пярно, М Н Ахманаў, І Дадзельцаў На V канферэнцыі (2—4 9 1918) выбрана 9 чл , з іх 7 папярэдняга складу, замест Мяніцкага і Аўсянікава — Пікель і Я Я Цыруль, 3 канд Ахманаў, В І Яркін, М І Крывашэін VI Паўн -Зах абл канферэнцыя РКП(б) прыняла рашэнне перайменаваць Паўн -Зах абл арг-цыю РКП(б) у *Камуністычную партыю (бальшавікоў) Беларусі*, а VI канферэнцыю — у I з'езд КП(б)Б, выбрала яе кіруючы орган — Цэнтральнае Бюро КП(б)Б

**ПАЎНО́ЧНА-ЗАХО́ДНІ АДДЗЕ́Л РУСКАГА ГЕАГРАФІ́ЧНАГА ТАВАРЫСТВА**, Паўночна-Заходні аддзел Імператарскага Рускага геаграфічнага таварыства Існаваў у Вільні ў 1867—1915 З'яўляўся тэр філіялам Рус геагр т-ва Узначальваўся папячыцелямі Віленскай навуч акругі Паводле Палажэння аб аддзеле ад 20 6(2 7) 1867 павінен быў займацца вывучэннем 6 губерняў *Паўночна-Заходняга краю* і асабліва даследаваннямі ў галіне археаграфіі, археалогіі, этнаграфіі, статыстыкі Яго першы кіраўнік І П Карнілаў з паліт меркаванняў вял значэнне надаваў фалькл -этнагр вывучэнню Беларусі і лічыў, што аддзел заменіць сабой *Віленскую археалагічную камісію* (1855—65) Аддзел меў секцыі фіз -матэм , этнаграфіі, археалогіі і археаграфіі, статыстыкі Першыя члены — вайскоўцы, чыноўнікі, духавенства Этнагр секцыяй была выпушчана праграма па збіранні этнагр і фалькл матэрыялаў, якая паўтарала праграму Рус геагр т-ва і не ўлічвала рэгіянальных і нац асаблівасцей нар творчасці беларусаў Збіральніцкая дзейнасць актывізавалася пасля звароту да настаўнікаў Сабраны запісы розных фалькл жанраў, апісанні нар календара і абрадаў, стану сельскай гаспадаркі, промыслу, побыту і інш Секцыя археалогіі і археаграфіі падрыхтавала і выдала шэраг апісанняў архіваў, у т л архіва першага віленскага ген -губернатара М В Рапніна (1783—84) К 1876 работа аддзела фактычна прыпынілася, хоць рашэнне аб закрыцці не прымалася У 1910 па ініцыятыве папячыцеля Віленскай навуч акругі д-ра астраноміі Р В Лявіцкага віленскі губернатар Дз М Любімаў аб'явіў дзейнасць аддзела аднаўленай у адпаведнасці з Палажэннем 1867 Старшынёй аддзела стаў Лявіцкі, кіраўніком спраў — Дз І *Даўгяла* У кіраўніцтва ўвайшлі мясц этнографы, фалькларысты, гісторыкі, археолагі, археографы, біёлагі і географы На канец 1911 аддзел яднаў больш за 300 чал , у асн сельскіх настаўнікаў, чыноўнікаў Былі створаны 4 секцыі для арганізацыі работ па аддзеле геаграфіі і статыстыкі, этнаграфіі і археалогіі, археаграфіі, гісторыі У 1910—12 праведзены навук экспедыцыі ў розныя рап чы Беларусі У 1910—14 выдаваліся «*Записки Северо-Западного отдела русского географического общества*» (выйшлі 4 кнігі) У 1910 па ініцыятыве аддзела выдадзены шэраг кніг па гісторыі Беларусі М К Любаўскага «Нарыс гісторыі Літоўска-Рускай дзяржавы да Люблінскай уніі ўключна», протаіерэя Шавельскага «Апошняе ўз'яднанне з Праваслаўнай царквой уніятаў Беларускай епархіі», Я Ф Арлоўскага «Гродзенская даўніна» (ч 1) і інш На працягу ўсей гісторыі аддзела ў яго працы прымалі ўдзел вядомыя гісторыкі і архівісты П М *Бацюшкаў*, Я Ф *Галавацкі*, М І *Гарбачэўскі*, Ф М *Дабранскі*, М.А.*Дзмітрыеў*, Ю Ф *Крачкоўскі*, М.Я *Ніхфароўскі*, Е Р *Раманаў*, У Г Сакалоў, А М *Семянтоўскі*, І А *Сербаў*, М М *Чуркін*, П В *Шэйн*, А М Энгель і інш У 1915 дзейнасць аддзела спынілася ў сувязі з акупацыяй Вільні герм войскамі

*Літ* Довгяло Д И К истории Северо-Западного отдела Материалы и заметки // Зап Северо-Западного отд имп Русского географического о-ва Вильна, 1910 Кн 1

*Міхась Шумейка, Валерый Ярмоленка*

**ПАЎНО́ЧНА-ЗАХО́ДНІ КАМІТЭ́Т РСДРП**, 1) парт арг-цыя, якая дзейнічала на тэр Віцебскай, Віленскай, ч Мінскай і Гродзенскай губ з сак 1904 да жн 1905 Створаны ЦК РСДРП, узначальваўся к-там У канцы 1904 аб'ядноўваў Бабруйскую, Віленскую, Віцебскую, Гродзенскую, Мінскую, Смаргонскую, Дзвінскую, Салоцкую арг-цыі РСДРП, Веліжскую і Невельскую рабочыя арг-цыі, усяго 970 чл партыі і больш за 1000 спачуваючых, да лета 1905 — Ашмянскую, Барысаўскую, Лідскую, Пінскую, Полацкую, Слуцкую, Дрысенскую і інш арг-цыі РСДРП 1-ы з'езд Паўночна-Заходняга к-та РСДРП (жн 1905) пераўтварыў к-т у *Паўночна-Заходні саюз РСДРП* 2) Кіруючы орган арг-цыі РСДРП, якая дзейнічала на тэр Віцебскай, Віленскай, ч Мінскай і Гродзенскай губ Створаны ЦК РСДРП у сак 1904 Размяшчаўся ў Вільні, меў друкарню, у 2-й пал 1904 выдаў 55 тыс экз лістовак і адозваў Памагаў ЦК перасылаць з-за мяжы (праз Мінск і Вільню) нелегальную л-ру, забяспечваць дакументамі палітэмігрантаў і рэвалюцыянераў, шрыфтам — падп друкарні У жн 1905 перайменаваны ў абласны к-т Паўн -Зах саюза РСДРП

**ПАЎНО́ЧНА-ЗАХО́ДНІ КРАЙ** (у рус мове слова «край» — краіна, вобласць, буйная адм -тэр адзінка), назва ў 19 — пач 20 ст тэр Віленскай, Гродзенскай, Ковенскай (з 1842), Віцебскай, Мінскай і Магілёўскай губ Паколькі ў 1-й пал 19 ст адм -тэр падзел Беларусі і Літвы многа разоў мяняўся, зборны тэрмін «П -З к» разам з тэрмінам «Заходні край», або «заходнія губерні» пачаў ужывацца ў зборніках заканадаўчых актаў, адкуль перайшоў у адм справаводства Да 1840 гэтыя губерні падзяляліся на 2 групы — зах , ці беларускія (Мінская, Віцебская, Магілёўская), і паўн зах , ці літоўскія (Віленская, Гродзенская, Ковенская) 18 7 1840 выдадзены ўказ Мікалая I аб тым, каб літоўскія і беларуская губ «называлі ў далейшым кожную асобна» Аднак у справаводстве гэтыя 6 губерняў (агульная пл 266 978 кв дзесяцін) часта наз П З к у адрозненне ад Паўд -Зах краю, і зн Кіеўскага ген -губернатарства У публіцыстыцы тэрмін «П -З к » пачаў шырока ўжывацца пасля паўстання 1863—64 У 1917 — пач 1918 П -З к называўся Паўн -Зах вобласцю Пасля Кастр рэвалюцыі 1917 назва «П -З к » перастала ўжывацца На яго тэр ўтвораны БССР, Літ рэспубліка, зах частка краю адышла да Польшчы

*Літ* Рубинштейн С Ф Хронологический указатель указов и правительственных распоряжений по губ Западной России Белоруссии и Малороссии за 240 лет с 1652 по 1892 г Вильна, 1894, Аврех А.Я Вопрос о западном земстве и банкротство Столыпина // Ист зап М , 1965 Т 76, Weeks T Nation and State in late imperial Russia Illinoys, 1996

*Марына Сакалова*

**ПАЎНО́ЧНА-ЗАХО́ДНІ САЮ́З РСДРП**, партыйная арганізацыя, якая дзейнічала на тэр Віленскай, Віцебскай, ч Мінскай і Гродзенскай губ з жн 1905 да

чэрв 1906 Створана паводле рашэння *Першага з'езда Паўночна-Заходняга камітэта РСДРП* У саюз увайшлі як паўнамоцныя Бабруйская, Віленская, Віцебская, Мінская і Смаргонская арг-цыі РСДРП, якія накіроўвалі работу бліжэйшых да іх груп Саюза, мелі права выдаваць ад свайго імя парт л-ру На май 1906 налічваў каля 4,5 тыс членаў, узначальваўся к-там Кіраваў рэв рухам рабочых, сялян і салдат на тэр Беларусі ў перыяд *Кастрычніцкай Усерасійскай палітычнай стачкі 1905* і *Снежаньскага ўзброенага паўстання 1905*, выдаваў лістоўкі У складзе саюза былі створаны Віленская, Смаргонская, Віцебская і Гродзенская акр арг-цыі РСДРП, пад яго кіраўніцтвам працавала *Мінская акруговая сялянская арганізацыя пры РСДРП*, ваенна-рэв арг-цыя Трэці з'езд П-З с РСДРП прызнаў неабходным стварыць для Літвы і Беларусі адзіную абласную парт арг-цыю і перайменаваў П-З с РСДРП у *Абласны саюз РСДРП Літвы і Беларусі*

**ПАЎНО́ЧНА-ЗАХО́ДНІ ФРОНТ 1914—15,** аператыўна-стратэгічнае аб'яднанне рус армій на паўн-зах стратэгічным напрамку ў 1-ю сусв вайну Утвораны 19 7(1 8) 1914 у складзе 1, 2 і 10-й (са студз 1915) армій Тылавым раенам фронту былі *Дзвінская ваенная акруга* і *Мінская ваенная акруга* Войскі П-З ф 4(17) 8 1914 пачалі наступленне і ў ходзе *Усходне-Прускай аперацыі 1914* напачатку мелі значны поспех, але з-за дрэннага ўзаемадзеяння паміж арміямі пацярпелі паражэнне і да 2(15) вер адведзены на рубеж рэк Неман і Нараў Нягледзячы на няўдачу, наступленне садзейнічала зрыву герм наступлення ў Марнскай аперацыі 1914 у Францыі У вер —ліст 1914 войскі фронту паспяхова ўдзельнічалі ў Варшаўска-Івангародскай і Лодзінскай аперацыях, у пач 1915 вялі цяжкія абарончыя і наступальныя баі (Аўгустоўская і Праснышская аперацыі), адкінулі праціўніка да межаў Усх Прусіі На пач лета 1915 у склад фронту ўваходзілі 1, 2, 3, 4, 5, 10, 12 і 13-я арміі У ходзе Нараўскай аперацыі з 30 6(13 7) да 20 7(2 8) 1915 войскі фронту затрымалі праціўніка на Нараве, аднак, каб пазбегнуць флангавых удараў, вымушаны былі адысці да Зах Дзвіны Дырэктывай Стаўкі Вярх Галоўнакамандавання ад 4(17) 8 1915 П-З ф быў падзелены на *Заходні фронт 1915—18* і *Паўночны фронт 1915—18* Галоўнакамандуючыя П-З ф генералы ад інфантэрыі Я Р Жылінскі [ліп — 3(16) 9 1914], М У *Рузскі* [3(16) 9 1914 — сак 1915], М В Аляксееў (сак —жн 1915)

*Літ* Корольков Г Варшавско-Ивангородская операция М, 1923, Харламов В Восточно Прусская операция 1914 г М, 1940, Ростунов И И Русский фронт первой мировой войны М, 1976

*Андрэй Лукашэвіч*

**ПАЎНО́ЧНА-ЗАХО́ДНЯЯ АБЛАСНА́Я АРГАНІЗА́ЦЫЯ ПА́РТЫІ САЦЫЯЛІ́СТАЎ-РЭВАЛЮЦЫЯНЕ́РАЎ,** рэгіянальнае аб'яднанне мясц камітэтаў і груп *сацыялістаў-рэвалюцыянераў* (эсэраў) Віленскай, Віцебскай, Гродзенскай, Мінскай, Магілеўскай, Смаленскай і паўн-ўсх часткі Чарнігаўскай губ Утварылася ў крас 1904 на з'ездзе прадстаўнікоў Беластоцкай, Бранскай, Віленскай, Віцебскай, Гомельскай, Дзвінскай, Мінскай і Смаленскай арг-цый У абл к-т увайшлі Я Ратнер, М Біцэнка, А Касцюшка-Валюжаніч, М Сакалоў («Мядзведзь»), А Бонч-Асмалоўскі (апошнія двое з 1905) Праграмныя пазіцыі былі апублікаваны ў ліп 1904 у адозве «Да ўсіх» заваяванне паліт правоў, права нацый на самавызначэнне, правядзенне ідэй сацыялізму сярод сялян і рабочых, замена рэв шляхам капіталіст ладу сацыялістычным У жн 1904 цэнтр орган эсэраў «Революционная Россия» звяртаў увагу арг-цыі на неабходнасць больш дакладнай фармулёўкі праграмных палажэнняў у адносінах да *анархізму*, парламентаў зах-еўрап краін і інш Ухіл да максімалізму і анархізму ў Паўн-Зах абл арг-цыі ўзмацніўся восенню 1904, калі ў Беласток і Мінск з-за мяжы прыехала некалькі вядомых сацыялістаў-рэвалюцыянераў на чале з Сакаловым («Мядзведзем») Гэта былі прыхільнікі тактыкі агр тэрору як гал сродку барацьбы з памешчыкамі і ўрадам У Жэневе яны групаваліся вакол К *Брэшка-Брашкоўскай* ЦК дазволіў ім выезд у Расію для прапаганды сваіх поглядаў у партыі, але забараніў практычную дзейнасць такога роду Група пачала прапаганду аграрнага і фабрычнага тэрору, г зн выступіла з лозунгам неадкладнага ажыццяўлення праграмы-максімум шляхам знішчэння памешчыцкай і бурж уласнасці Лозунг прадугледжваў таксама экспрапрыяцыю казенных і прыватных грашовых сродкаў на рэв мэты («эксы») Так у ПСР з'явілася плынь «максімалістаў», якія па сутнасці не адрозніваліся ад анархістаў Прапаганда гэтых поглядаў у арг-цыях Зах краю знайшла спрыяльную глебу У цэлым дзейнасць мясц арг-цый ПСР у зах губернях у 1903—04 і ў першыя месяцы рэвалюцыі абмяжоўвалася выданнем і распаўсюджаннем лістовак, інш парт л-ры, правядзеннем сходаў сваіх прыхільнікаў, зборам сродкаў на патрэбы рэв дзейнасці Прыкметнага ўплыву сярод рабочых і сялян у той час яны не мелі, таму далучаліся да масавых акцый (паліт забастовак, дэманстрацый, мітынгаў), якія арганізоўвалі бундаўскія к-ты і групы РСДРП Адной з істотных асаблівасцей іх агітац дзейнасці з'яўлялася шырокая прапаганда тэрарыстычных акцый баявой арг-цыі ПСР супраць прадстаўнікоў вышэйшай царскай бюракратыі (забойства ў ліп 1904 міністра ўнутраных спраў В К Плеве, у лют 1905 — маск ген-губернатара, вял кн Сяргея Аляксандравіча) З пач 1905 да індывідуальнага паліт тэрору супраць чыноў паліцыі і іх агентаў прыступілі асобныя мясц арг-цыі эсэраў Мінскі к-т пры агітацыі сярод сялян цесна ўзаемадзейнічаў з *Беларускай сацыялістычнай грамадой* У сак 1905 сумеснымі намаганнямі яны арганізавалі сял з'езд, на якім былі створаны *Беларускі сялянскі саюз* Летам 1905 дзейнасць эсэраў у вёсцы значна пашырылася Уплыў арг-цый ПСР у гарадах (асабліва сярод чыгуначных рабочых і служачых) стаў прыкметным у час кастр і снеж паліт стачак, калі іх прадстаўнікі ўваходзілі ў кааліцыйныя міжпарт к-ты і стачачныя камісіі, якія кіравалі масавымі выступленнямі пралетарыяў у Мінску, Гомелі, Пінску, інш гарадах, на чыг станцыях У гэты час узмацнілася і тэрарыстычная дзейнасць эсэраў Найб вядомасць набыла спроба забойства мінскага губернатара П Р *Курлова* і паліцмайстра Дз Дз Норава, зробленая ў пач студз 1906 І П *Пуліхавым* і А А Ізмайловіч (гл ў арт *Ізмайловіч*), якая, аднак, скончылася няўдала Дэлегаты ад Паўн-Зах абл к-та ПСР, Віцебскага і Віленскага к-таў, Гомельскай групы прымалі ўдзел у І з'ездзе ПСР (29 12 1905—4 1 1906), на якім прыняты праграма і статут партыі Прадстаўнік Віцебскага к-та выказаўся за ўключэнне ў праграму тэзіса аб адначасовай сацыялізацыі зямлі і прамысл прадпрыемстваў Гомельскі дэлегат прапанаваў прызнаць існаванне ў партыі плыні максімалістаў і спыніць барацьбу супраць яе Пераважнай большасцю галасоў гэтыя прапановы былі адхілены Паводле пастановы з'езда мясц арг-цыі разгарнулі агітацыю за байкот выбараў у 1-ю Дзярж думу і неабходнасць звяржэння царызму рэв шляхам Летам 1906 агітац-арганізац дзейнасць ПСР у бел вёсцы зноў (як і ў 1905) набыла значныя маштабы Пры гэтым у Паўн-Зах абл арг-цыі абвастрылася пытанне аб узаемаадносінах з максімалістамі Па ініцыятыве абл к-та яно разглядалася на з'ездзе партыі 12—15 10 1906, у якім прымалі ўдзел дэлегаты Беластоцкай, Бабруйскай, Бранскай, Віцебскай, Дзвінскай, Гомельскай, Горацкай, Рослаўскай і Смаленскай арг-цый Большасцю галасоў з'езд прызнаў, што «максімалісты не могуць быць цярпімы ў шэрагах сацыялістычна-рэвалюцыйнай партыі» У адказ левае крыло ПСР вылучылася ў самастойны Саюз сацыялістаў-рэвалюцыянераў — максімалістаў, у які ўступілі групы ў Беластоку, Брэсце, Вільні, Гродне, Мінску і Пінску Максімалісты шырока карысталіся практыкай экспрапрыяцыі «на карысць рэвалюцыі» казенных і прыватных сродкаў Пры гэтым баявыя групы часта дзейнічалі без ведама і санкцыі парт к-таў, што вельмі хутка прывяло «экспрапрыятараў» да перараджэння ў звычайныя бандыцкія шайкі Правае крыло ПСР у 1906 афармілася ў рэфармісцкую партыю нар сацыялістаў (энэсаў) У Беларусі арг-цыі энэсаў не зафіксаваны Паўн-Зах абл арг-цыя распалася з наступленнем перыяду паліт рэакцыі Найбольшы ўдар па ей, як і па ПСР у

цэлым, нанесла выкрыцце правакатара Е Ф Азефа

*Літ* Бригадин П И Эсеры в Белоруссии (конец XIX — февраль 1917 г) Мн, 1994, Зімі онка А Сацыялістычны рух на Беларусі II Партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў // Беларусь Нарысы гісторыі, эканомікі, культурнага і рэв руху Мн, 1924

*Міхась Біч*

**ПАЎНО́ЧНА-ЗАХО́ДНЯЯ АБЛАСНА́Я АРГАНІЗА́ЦЫЯ РСДРП(б)**, партыйная арганізацыя на тэр Беларусі з вер 1917 і да стварэння КП(б)Б (снеж 1918) Утварэнне адзінай бальшавіцкай парт арг-цыі на тэр Беларусі пачалося пасля II з'езда РСДРП і адбывалася ў вострай паліт барацьбе Тут дзейнічалі створаныя ЦК РСДРП у 1904 *Палескі камітэт РСДРП(б), Паўночна-Заходні камітэт РСДРП* (гл таксама *Паўночна-Заходні саюз РСДРП, Абласны саюз РСДРП Літвы і Беларусі*) Пасля Лют рэвалюцыі 1917 бальшавікі Беларусі ўвайшлі ў аб'яднаныя з меншавікамі і бундаўцамі с-д арг-цыі (гл *Аб'яднаныя сацыял-дэмакратычныя арганізацыі*), але пад уплывам рашэнняў VII Усерас (Крас) канферэнцыі РСДРП(б) пачалі ствараць самастойныя бальшавіцкія арг-цыі 6(19) 4 1917 аформілася Гомельская, у ліп — жн Віцебская, Мінская, Полацкая, Бабруйская, Барысаўская, Рагачоўская, Рэчыцкая, Слуцкая і інш арг-цыі РСДРП(б), раслі бальшавіцкія арг-цыі ў войсках Зах фронту У гарадах, дзе размяшчаліся вял гарнізоны (Мінск, Віцебск, Маладзечна, Слуцк, Орша і інш), парт арг-цыі аб'ядноўвалі ваен і цывільных бальшавікоў 25 7(7 8) 1917 Віцебская арг-цыя звярнулася да ЦК РСДРП(б) з просьбай стварыць для Зах краю абл парт цэнтр Паводле ўказання ЦК РСДРП(б) Мінскі к-т, параіўшыся з інш парт арг-цыямі, 14(27) 8 1917 прыняў рашэнне склікаць 1(14) 9 1917 у Мінску абл канферэнцыю РСДРП(б) На яе былі запрошаны ўсе бальшавіцкія, а таксама інтэрнацыяналісцкія с-д арг-цыі 19 жн (1 вер) апублікавана паведамленне Мінскага к-та РСДРП(б) аб скліканні адначасова з абласной франтавой канферэнцыяй бальшавікоў і інтэрнацыяналістаў арміі Зах фронту Прыбыло 15 дэлегатаў ад абл і 31 ад франтавых парт арг-цый Яны аб'ядналіся і 1—3(14—16) 9 1917 правялі *Паўночна-Заходнюю абласную і франтавую нараду РСДРП(б)*, якая выбрала абл Бюро РСДРП(б) і абавязала яго склікаць абл і франтавую канферэнцыю РСДРП(б) 15—18 9(28 9—1 10) 1917 адбылася *Першая Паўночна-Заходняя абласная канферэнцыя РСДРП(б)* (88 дэлегатаў ад 7132 чл партыі і 2058 спачуваючых), якая ўтварыла Паўн-Зах абл арг-цыю РСДРП(б) у межах Мінскай, Магілеўскай, Віцебскай, ч Віленскай губ і Зах фронту, выбрала *Паўночна-Заходні абласны камітэт РСДРП(б)*, зацвердзіла яго органам газ «Молот» Калі ў Петраградзе пачалося ўзбр паўстанне, Паўн-Зах абл к-т узначаліў барацьбу за ўладу Саветаў у Беларусі і на Зах фронце Былі перакрыты шляхі на Маскву і Петраград Ліквідавана Стаўка Вярх камандавання ў Магілеве *Другая Паўночна-Заходняя абласная канферэнцыя РСДРП(б)* [надзвычайная, 5—7(18—20) 10 1917] ухваліла паліт лінію і практ дзейнасць абл бюро, падкрэсліла неабходнасць пераходу ўлады ў цэнтры і на месцах да Саветаў Надзвычайная *Трэцяя Паўночна-Заходняя абласная і франтавая канферэнцыя РСДРП(б)* [23 12 1917(5 1 1918)] падвяла вынікі дзейнасці і паставіла перад бальшавікамі задачы мабілізаваць рабочых, салдат, бяднейшых сялян на барацьбу з контррэвалюцыяй і рыхтавацца да ажыццяўлення сацыяліст рэвалюцыі ў весцы *Чацвертая Паўночна-Заходняя абласная канферэнцыя РКП(б)* (1—4 6 1918) ухваліла заключэнне Брэсцкага міру і абавязала парт арг-цыі ўзначаліць барацьбу з голадам *Пятая Паўночна-Заходняя абласная канферэнцыя РКП(б)* (2—4 9 1918) падвяла папярэднія вынікі і вызначыла шляхі развіцця сацыяліст рэвалюцыі ў весцы VI Паўн-Зах абл канферэнцыя РКП(б) (30—31 12 1918) прызнала неабходным абвясціць самастойную *Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку*, пастанавіла пераўтварыць Паўн-Зах абл арг-цыю РКП(б) у *Камуністычную партыю (бальшавікоў) Беларусі* і назваць VI Паўн-Зах абл канферэнцыю РКП(б) *Першым з'ездам КП(б)Б*

*Літ* КП(б)Б у рэзалюцыях Ч 1 (1903—1921 гг) Мн, 1934, Очерки истории Коммунистической партии Белоруссии Ч 1 2 изд Мн, 1968, Нарысы гісторыі Беларусі Ч 1—2 Мн, 1994—95

*Іларыён Ігнаценка*

**ПАЎНО́ЧНА-ЗАХО́ДНЯЯ АБЛАСНАЯ І ФРАНТАВА́Я НАРА́ДА РСДРП(б)** Адбылася 1—3(14—16) 9 1917 у Мінску На 1(14) 9 1917 былі прызначаны Паўн-Зах абл і франтавая канферэнцыі РСДРП(б) У сувязі з карнілаўскім мяцяжом прыбыло толькі 46 дэлегатаў з рашаючым і 6 з дарадчым галасам ад 6061 чл партыі З прычыны гэтага замест канферэнцый праведзена нарада У дакладах з месцаў адзначаны рост радоў партыі, яе ўплыву на масы, узмацненне рэпрэсій супраць бальшавікоў Нарада патрабавала тэрмінова вызваліць усіх паліт вязняў і паслала ім прывітанне У рэзалюцыях «Аб вайне» і «Аб палітычным моманце» выкрывалася палітыка Часовага ўрада, адзначалася неабходнасць глыбокіх грамадскіх і паліт пераўтварэнняў, заключэння міру Нарада прыняла пастанову аб скліканні 15(28) 9 1917 Паўн-Зах абл канферэнцыі РСДРП(б), распрацавала праект статута ваен арг-цый РСДРП(б) на Зах фронце, выбрала абл бюро РСДРП(б) з 5 чл А.Ф *Мяснікоў*, С Р *Магілеўскі*, У С Селязнёў, В.В *Фамін*, В І Красноў Нарада дала пачатак стварэнню *Паўночна-Заходняй абласной арганізацыі РКП(б)*

**ПАЎНО́ЧНА-ЗАХО́ДНЯЯ АБЛАСНА́Я КАНФЕРЭ́НЦЫЯ РСДРП** Адбылася ў лютым 1908 у Віцебску, прысутнічалі дэлегаты ад Дзвінскай, Смаргонскай (бальшавікі), Віленскай, Віцебскай, Шавельскай (меншавікі) арг-цый РСДРП Абмяркоўвала пытанні аб прафес руху, кааперацыі, абл парт цэнтры Абрана абл бюро (1 бальшавік і 2 меншавікі), якое неўзабаве пасля канферэнцыі распалася

**ПАЎНО́ЧНА-ЗАХО́ДНЯЯ АПЕРАТЫ́ЎНАЯ ГРУ́ПА ЦК КП(б)Б** Створана паводле пастановы ЦК КП(б)Б ад 20 3 1942 для кіраўніцтва патрыят падполлем і партыз атрадамі на акупіраванай тэр Беларусі ў Вял Айч вайну Складалася з парт, сав і камсам работнікаў, узначальваў яе сакратар ЦК КП(б)Б Р Б Эйдзінаў Асн задачы групы наладжванне сувязей з падполлем і партыз фарміраваннямі, што дзейнічалі ў Віцебскай і паўн раенах Мінскай і Магілеўскай абл, аказанне ім дапамогі, збор і апрацоўка разведвальнай інфармацыі аб варожым тыле Знаходзілася ў в Шэйна Тарапецкага р-на Калінінскай вобл У сваей рабоце абапіралася на дапамогу ваен саветаў 3-й і 4-й ударных армій, узаемадзейнічала са штабамі гэтых армій і Калінінскага фронту Арганізоўвала перакідку ў акупіраваныя раены парт, камсам работнікаў, арганізатараў партыз руху, дастаўку л-ры, зброі, медыкаментаў, прымала ўдзел у стварэнні падп райкомаў КП(б)Б, партыз фарміраванняў Праз *віцебскія «вароты»* пераправіла ў тыл ворага больш за 20 партыз атрадаў, 102 арганізатарскія і 62 дыверсійныя групы (больш за 3 тыс чал), больш як 5 тыс адзінак зброі, у т.л процітанк ружжы, боепрыпасы, узрыўчатку, а таксама газеты, лістоўкі, брашуры, з акупіраванай тэр пераправіла ў сав тыл тысячы сав грамадзян Філіял аператыўна-вучэбнага цэнтра пры групе падрыхтаваў больш за 600 падрыўнікоў На падставе сабранай інфармацыі аб варожым тыле група выпусціла 16 аператыўна-разведвальных зводак для ЦК КП(б)Б, Цэнтр штаба партыз руху, камандавання Калінінскага фронту, 3-й і 4-й ударных армій Расфарміравана ў вер 1942 у сувязі са стварэннем *Беларускага штаба партызанскага руху*

**ПАЎНО́ЧНА-ЗАХО́ДНЯЯ АРГАНІЗА́ЦЫЯ «НАРО́ДНАЙ ВО́ЛІ»**, гл *Арганізацыя «Народнай волі» ў Паўночна-Заходнім краі*

**ПАЎНО́ЧНАЯ ВАЙНА́ 1655—60**, вайна Швецыі ў саюзе з Брандэнбургам і Трансільваніяй супраць Рэчы Паспалітай, пазней таксама супраць Аўстрыі, Даніі, Брандэнбурга і Галандыі Пераплята лася з *вайной Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* і вайной Расіі супраць Швецыі 1656—61 Пачата шведскім каралем *Карлам Х Густавам* нападам на Польшчу ў ліп 1655 Велікапольскае паспалітае рушэнне ў выніку здрады 25

штацкі мір. Аўгуст II адмовіўся ад кароны Рэчы Паспалітай на карысць Станіслава Ляшчынскага. У 1707 рус. войскі зноў сканцэнтраваны ў Беларусі, ч крас. пасля аблогі занялі Быхаў (гл. *Быхава абарона 1707*). У пач. 1708 Карл XII заняў Гродна і рушыў на Ліду, Смаргонь. Гал. сілы рус. арміі (каля 57 тыс. чал.) пад камандаваннем Шараметцева адышлі да Чашнікаў і Бешанковіч. З сак. да пачатку чэрв. 1708 шведская армія стаяла ў раёне Радашковіч, 7(18) чэрв. заняла Мінск, 14(25) чэрв. пераправілася цераз Бярэзіну. Каля мяст. Галоўчын на Магілёўшчыне 3(14).7.1708 адбылася бітва, у якой рус. армія пацярпела паражэнне і адышла за Дняпро. Карл XII заняў Магілёў, а праз месяц рушыў далей на У. Аднак у бітвах каля в. Добрае 30.8(10.9).1708 і в. Раеўка 9(20).9.1708 на Мсціслаўшчыне авангард Карла XII панёс значныя страты; узніклі цяжкасці з забеспячэннем шведскай арміі харчам і фуражом. З мэтай далейшага паспяховага наступлення Карл XII вырашыў скарыстаць дапамогу, якую абяцаў укр. гетман І.Мазепа, і ў сярэдзіне вер. 1708 павярнуў на Украіну. На злучэнне з гал. сіламі Карла XII з Рыгі выйшаў 16-тысячны корпус А.Левенгаўпта. 28.9(9.10).1708 каля в. *Лясная* на Магілёўшчыне Левенгаўпт разбіты войскамі Пятра І, страціў абоз і прывёў да Карла XII толькі каля 7 тыс. чал. У канцы кастр. 1708 Мазепа з 2-тысячным атрадам перайшоў да шведаў, але Меншыкаву ўдалося знішчыць запасы зброі, боепрыпасаў і харчу ў г. Батурын, якія гетман падрыхтаваў для шведаў. 27 чэрв. (8 ліп.) у *Палтаўскай бітве 1709* шведская армія была раз-

самі, замацаванымі тарчма на дрэўках) Паўстанне ахапіла Сандамірскае, Люблінскае, Мазавецкае ваяв., Холмскую зямлю. 17—18 крас. яно перамагло ў Варшаве. 7 мая Касцюшка выдаў *Паланецкі універсал*, паводле якога сялянам давалася асабістая свабода, калі яны разлічацца з панам і заплацяць дзярж. падаткі, змяншалася паншчына, за сялянамі прызнавалася права на надзелы зямлі, якія яны апрацоўвалі. Панскія двары павінны былі заключыць пагадненні з сялянамі аб наемнай працы ў панскіх гаспадарках. Утвараліся пасады дазорцаў — дзярж. пасрэднікаў паміж панамі і сялянамі ў спрэчных пытаннях. Гэтыя меры прыцягнулі да паўстання шмат людзей.

У Беларусі і Літве паўстанне пачалося з выступленняў часцей войска ВКЛ 16 крас. ў Шаўлях, у ноч на 23 крас. ў Вільні, дзе частка рас. войска была ўзята ў палон, частка адступіла (гл. *Віленскае паўстанне 1794*). 24 крас. ў Вільні абвешчаны Акт паўстання, створаны рэв. ўрад Літвы і Беларусі — *Найвышэйшая літоўская рада* на чале з Ясінскім. У яе ўвайшлі ў большасці прадстаўнікі левага крыла шляхецка-буржуазнага блока і прадстаўнікі асобных тэрыторый ВКЛ. Гал. кіраўніком паўстання Найвышэйшая літ. рада прызнала Касцюшку. Яна выступіла з больш радыкальнымі лозунгамі, чым кіраўніцтва паўстання ў Польшчы, у адозве да насельніцтва заклікала жыхароў Беларусі і Літвы змагацца «з мэтай адваяваць свабоду і грамадзянскае раўнапраўе». Выдавалася рэв. «Віленская нацыянальная газета». У пачатку паўстанне мела поспех. Яно было падтрымана сялянамі, да якіх у пракламацыях па-беларуску звяртаўся Ясінскі, абяцаючы адмену прыгоннага права. Гэта выклікала незадавальненне Касцюшкі, які лічыў, што радыкальная палітыка можа адштурхнуць ад паўстання шырокія колы шляхты. 28 крас. ў Гродне створана мясц. кіраванне — парадкавая камісія. У крас.—маі паўстанцы ўзялі ўладу ў Брэсце, Ваўкавыску, Слоніме, Навагрудку, Ашмянах, Кобрыне, Лідзе, Браславе, у Жамойці. Рас. войскі вымушаны былі адступіць за мяжу 1793 — да Мінска, Нясвіжа, Пінска. Найвышэйшая літ. рада абвясціла Ясінскага галоўнакамандуючым узбр. сіламі ВКЛ, яму прысвоена званне ген.-лейтэнанта. У маі 1794 Ясінскі веў баі, каб ліквідаваць пагрозу Вільні з усходу, 7 мая яго дывізія нанесла паражэнне рас. войску каля в. Паляны (непадалёк ад Ашмян). У гэтай бітве ўдзельнічала да 5 тыс. сялян з сякерамі, косамі, віламі, коп'ямі. У гэты час абвастрыліся адносіны паміж кіраўнікамі паўстання. Пад націскам кансерватыўных колаў Касцюшка 4 чэрв. адхіліў ад кіраўніцтва паўстаннем у Беларусі і Літве Ясінскага як радыкала. Замест яго галоўнакамандуючым прызначаны ген.-лейт. М. Вяльгорскі. Загадам Касцюшкі была распушчана Найвышэйшая літ. рада і 10 чэрв. створана больш памяркоўная *Цэнтральная дэпутацыя Вялікага княства Літоўскага*. Найвышэйшая нац. рада ў Варшаве ўзяла пад свой кантроль кіраўніцтва паўстаннем у Літве і Беларусі, чым скавала ініцыятыву мясц. кіраўнікоў. Палітыка ў адносінах да сялян стала больш асцярожнай і нерашучай. Гэта выкарысталі царскі ўрад і камандаванне рас. войска. Царскія генералы абяцалі сялянам-паўстанцам амністыю і перадачу ў кіраванне маенткаў, секвестраваных у паўстанцаў-паноў. Шмат сялян паверыла абяцанням і адышло ад паўстання. 12—16 чэрв. М. К. Агінскі спрабаваў глыбокім рэйдам узняць паўстанне ў Мінскай губ. Яго атрад прайшоў праз Валожын і Івянец, але ў бітве пад Вішневам быў разбіты. У жн. Агінскі з новым атрадам рушыў праз Браслаўшчыну на Дынабург (Даўгаўпілс), каб адцягнуць ад Вільні рас. войскі. У 2-й пал. жніўня 3-тыс. атрад палкоўніка *С. Грабоўскага* правёў новы рэйд у Мінскую губ., прайшоў праз Івянец, Ракаў, Койданава, Пухавічы, Асіповічы, Бабруйск, але быў вымушаны адступіць на Глуск і Любань і 4 вер. ў выніку *Любанскага бою 1794* быў разбіты. Рас. камандаванне сканцэнтравала 3 карпусы (12 тыс. салдат) пад камандаваннем ген. Б. Кнорынга, І. Германа, П. Цыцыянава і зноў кінула іх на Вільню. 11 жн. горад быў акружаны і пасля бою 12 жн. капітуляваў. Дывізіі войска ВКЛ адступілі да Гродна, куды пераехалі паўстанцкія ўлады. У Польшчы на дапамогу рас. арміі выступіла пруская. 6 чэрв. пад Шчакацінамі (на Пн. ад Кракава) корпус Касцюшкі пацярпеў паражэнне ад аб'яднанай рас.-пруской арміі. Пруская армія на чале з каралём Фрыдрыхам Вільгельмам II заняла Кракаў. Польскае войска адступіла да Варшавы. Пачалася аблога Варшавы прускімі войскамі, але 5 вер. яны адступілі ад сталіцы, бо пачалося паўстанне ў іх тыле. Аўстрыя ўвяла свае войскі ў Люблінскае ваяв. Для падаўлення паўстання былі накіраваны свежыя рас. сілы з Украіны — корпус ген.-аншэфа А. В. Суворава. 17 вер. паўстанцкі корпус ген.-маёра К. Серакоўскага ў выніку *Крупчыцкага бою 1794* з больш чым удвая пераважаючым корпусам Суворава быў вымушаны адступіць. 19 вер. пад Цярэспалем войскі Суворава разбілі корпус Серакоўскага і атрад ген.-м. К. *Князевіча*. 10 кастр. ў *Мацяевіцкай бітве 1794* рас. корпус ген.-лейтэнанта І. Ферзена разбіў корпус Касцюшкі. Сам Касцюшка быў цяжка паранены, узяты ў палон разам з ген. Серакоўскім, І. Камінскім, Князевічам і перавезены ў Пецярбург у Петрапаўлаўскую крэпасць. Найвышэйшым начальнікам паўстання быў прызначаны другі ўраджэнец Беларусі — польскі ген.-лейт. Т. *Ваўжэцкі*. Аб'яднаныя рас. карпусы пад камандаваннем Суворава 4 ліст. штурмам узялі Прагу (прадмесце Варшавы), 6 ліст. здалася Варшава. Рэшткі паўстанцкіх войск на чале з Ваўжэцкім адступілі на Пд, дзе 16 ліст. былі рассеяны рас. войскамі. Паўстанне, у якім удзельнічалі прадстаўнікі ўсіх слаёў польск., бел., літ. грамадства на чале са шляхтай (усяго каля 150 тыс. чал., у т. л. ў Беларусі і Літве 30—40 тыс.), было задушана. П. адкрыла перыяд шляхецкай рэвалюцыйнасці на Беларусі, стварыла новы рэвалюцыйны асяродак ва Усх. Еўропе, які быў працягам Вял. французскай рэвалюцыі. Паўстанне выклікала заклапочанасць з боку абсалютных манархаў суседніх дзяржаў, перш за ўсё рас. імператрыцы Кацярыны II, бо стварала для іх вял. небяспеку. Паражэнне паўстання прывяло да *трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай*.

*Літ.:* Пичета В. И. К истории восстания Костюшко 1794 г. // Уч. зап. Ин-та славяноведения АН СССР. 1953. Т. 7; Грыцкевіч А. П. Паўстанне 1794 г.: перадумовы, ход і вынікі // Бел. гіст. часоп. 1994. № 1; Юхо Я., Емяльянчык У. «Нарадзіўся я ліцьвінам». Тадэвуш Касцюшка. Мн., 1994; Макарова Г. В. Новые материалы о пребывании участников движения Т. Костюшко в России // Славяноведение. 1994. № 3; Bartoszewicz K. Dzieje insurekcji Kościuszkowskiej. Wiedeń, 1909; Akty powstania Kościuszki. T. 1—3. Kraków; Wrocław, 1918—55; Próchnik A. Demokracja Kościuszkowska. Warszawa, 1920; Łukaszewicz W. Targowica i powstanie Kościuszkowskie. Warszawa, 1953; Kieniewicz S., Zahorski A., Zajewski W. Trzy powstania narodowe: Kościuszkowskie, listopadowe, styczniowe. 2 wyd. Warszawa, 1994. *Анатоль Грыцкевіч.*

**ПАЎСТА́ННЕ 1830—31** у Польшчы, Беларусі і Літве, Лістападаўскае паўстанне, нацыянальна-вызваленчае паўстанне супраць царскай Расіі, за аднаўленне Рэчы Паспалітай у межах 1772. Выклікана парушэннем з боку царызму аўтаноміі Каралеўства Польскага і польскай канстытуцыі 1815, паступовай ліквідацыяй дзяржаўнасці і аўтаноміі Польшчы, намаганнем шляхты Беларусі і Літвы аднавіць дзяржаўнасць і свае паліт. правы кіравання ў незалежнай дзяржаве, што раней праявілася ў праектах аўтаноміі ВКЛ у складзе Рас. імперыі (у т. л. праект аўтаноміі М. К. Агінскага). На падрыхтоўку П. паўплывалі вайсковыя рэвалюцыі 1820 у Зах. Еўропе супраць манархічных рэжымаў і паўстанне дзекабрыстаў 1825 у Расіі. П. падрыхтавана тайнымі арг-цыямі, у т. л. *Патрыятычным таварыствам* і Таварыствам падхаружжых. Пачалося ў Варшаве ў ноч на 29.11.1830. Непасрэднай зачэпкай да П. стала вестка, што Мікалай I як кароль польскі вырашыў накіраваць польскае войска для падаўлення рэвалюцыі ў Францыі. Група канспіратараў на чале з Л. Набалякам і С. Гашчынскім напала на Бельведэр — рэзідэнцыю намесніка ў Польшчы, вял. кн. Канстанціна Паўлавіча. Адначасова выступілі інструктары і навучэнцы школы падхаружжых на чале з П. *Высоцкім*. Паўстанцаў падтрымалі жыхары Варшавы і польскія вайск. часці. 30.11.1830 паўстанцы авалодалі Варшавай. Рас. войскі вымушаны былі адступіць з Варшавы, а да пач. снеж.

1830 — і з Польшчы Значная частка іх сканцэнтравалася ў Беларусі У Варшаве быў сфарміраваны Часовы ўрад, у склад якога ўвайшоў прадстаўнік дэмакр сіл І *Лялевель*, але з 5 12 1830 да 17 1 1831 улада была перададзена вайск. дыктатару ген Ю Хлапіцкаму 20 12 1830 польскі сейм апублікаваў «Маніфест польскага народа», у якім абвясціў мэты П і заклікаў насельніцтва далучыцца да яго У Беларусь, Літву і Украіну былі накіраваны эмісары, каб узняць там паўстанне У Варшаве, па ініцыятыве Лялевеля, быў заснаваны клуб з прадстаўнікоў шляхты і інтэлігенцыі Беларусі, Літвы і Украіны («Клуб злучаных братоў»), які звярнуўся ў сейм з заявай аб далучэнні бел , літ і ўкр зямель да паўстання Лялевель і інш шляхецкія рэвалюцыянеры выступалі за надзяленне сялян зямлей і паляпшэнне іх становішча У сваю чаргу царскі ўрад зрабіў захады, каб перашкодзіць пашырэнню П на Беларусь, Літву і Украіну 13 12 1830 рас ўрад абвясціў ваеннае становішча ў Зах Беларусі, Літве і Правабярэжнай Украіне Колькасць войска ў крэпасцях і гарадах была павялічана, паліцыя сачыла за ўсімі падазронымі асобамі (некаторых выслалі ў глыб Расіі), звальнялі чыноўнікаў-католікаў, маенткі ўдзельнікаў П канфіскоўвалі, а іх уладальнікаў аддавалі пад суд Сялян, якія добраахвотна пакідалі паўстанцкія атрады, не судзілі

Для падрыхтоўкі П ў Беларусі і Літве ў студз — лютым 1831 быў створаны падпольны *Віленскі цэнтральны паўстанцкі камітэт*, у якім пераважалі кансерватыўныя элементы У яго ўвайшлі віленскі губернскі маршалак С Шумскі, гісторык М *Балінскі*, паэт А Гарэцкі, Э Ромер, М Замбжыцкі, Ю Храбніцкі, сакратар рады Віленскага ун-та Л Рагальскі, граф В Пяткевіч К-т падтрымліваў сувязі з Варшавай і павятовымі к-тамі ў Беларусі і Літве Была разгорнута вусная прапаганда, распаўсюджваліся адозвы да насельніцтва, арганізаваны збор грошай і зброі Аднак у цэлым палітыка Віленскага к-та была нерашучая У сак —крас 1831 П ахапіла Ашмянскі, Браслаўскі, Віленскі, Дзісенскі, Свянцянскі пав , у кожным з іх ствараліся ўрады (к-ты), якія праводзілі рэкруцкі набор у войска Усяго ў гэтых паветах было каля 10 тыс паўстанцаў У крас —маі 1831 каля Глыбокага адбыліся баі Да канца мая 1831 у Віленскай і Мінскай губ П было задушана, але ў Гродзенскай губ яно працягвалася, што перашкаджала рас войскам наступаць на Польшчу У Польшчы дыктатура Хлапіцкага 18 1 1831 была заменена кансерватыўным нац урадам кн А Чартарыйскага Рас армія пад камандаваннем ген - фельдмаршала І *Дзібіча-Забалканскага* ўвайшла на тэр Польшчы, але ў бітвах пад Сточкам, Ваўрам і 25 2 1831 пад Грохавам польскае войска спыніла наступленне рас арміі Аднак і контрнаступленне польск войска вынікаў не дало 26 5 1831 у бітве пад Астралэнкай яно панесла значныя страты У маі 1831 з Варшавы на тэр Гродзенскай губ прыбыў атрад ген Д Хлапоўскага (820 чал ) У пач чэрв 1831 ен злучыўся ў Літве з 12-тыс корпусам ген А Гелгуда (гл ў арт *Гелгуды*) і мясц атрадамі Галоўнакамандуючым у Літве і Беларусі стаў Гелгуд Пры яго штабе быў створаны часовы цэнтр урад, які складаўся з генералаў і мясц землеўладальнікаў (Т Тышкевіч, Г Агінскі і інш ) 19 6 1831 корпус Гелгуда падышоў да Вільні, на Панарскіх узгорках адбыўся бой 26-тыс рас войска нанесла паражэнне аб'яднаным сілам паўстанцаў, якія адступілі і ў сярэдзіне ліп перайшлі прускую граніцу і склалі зброю Толькі ген Г *Дэмбінскі* з 4-тыс корпусам праз Жодзішкі, Смаргонь, Дзятлава, Дзярэчын, Зэльву, Поразава і Белавежскую пушчу адступіў у Польшчу Пры набліжэнні корпуса Дэмбінскага ў Навагрудскім і Слонімскім пав пачалося П пад кіраўніцтвам шляхецкага павятовага маршалка Я *Кашыца*, які ўзначаліў атрад у 400 чал Паўстанцы Кашыца напалі на Дзятлава, захапілі мяст Беліцу, у Навагрудку раззброілі вайск каманду і вызвалілі з астрога арыштаваных У чэрв —ліп 1831 ачагі П ўзніклі ў Пінскім, Мазырскім, Рэчыцкім, Навагрудскім пав і на тэр Магілеўскай і Віцебскай губ На пач жн 1831 П ў Беларусі і Літве пацярпела паражэнне, аднак асобныя атрады яшчэ ў вер дзейнічалі ў Зах Беларусі У канцы ліп 1831 новы камандуючы рас арміяй у Польшчы ген І Ф Паскевіч сканцэнтраваў войскі на Пн Польшчы і пачаў наступленне на З ад Пултуска да Плоцка, каб забяспечыць сваю армію харчаваннем і ўзбраеннем, падрыхтаванымі ў суседняй Прусіі, саюзніцы Расіі Пазней рас войска пераправілася цераз Віслу пад Торунем У Варшаве быў утвораны новы кансерватыўны ўрад на чале з ген Я Крукавецкім Аднак ен не здолеў арганізаваць абарону сталіцы 6—7 9 1831 рас войскі штурмавалі Варшаву і занялі зах прадмесце — Волю У ноч на 8 вер была падпісана капітуляцыя Варшавы, за што граф Паскевіч-Эрыванскі атрымаў ад Мікалая І тытул кн Варшаўскага Баі на тэр Польшчы працягваліся ў вер і кастр 1831 Большасць польскіх вайск атрадаў перайшла праз прускую і аўстр граніцу і была інтэрніравана

П згрупавала ўсе рас дваранства вакол цара Нават былыя дзекабрысты, якія былі на дзярж службе, падтрымалі палітыку Мікалая І Рас інтэлегенцыя (А Пушкін, Ф Цютчаў, М Лермантаў і інш ) таксама падтрымала цара Паўстанне нанесла страты духоўнаму патэнцыялу Беларусі Частка паўстанцаў эмігрыравала (І *Дамейка* і інш ), вымушаны былі эмігрыраваць і прыхільнікі паўстання (А *Міцкевіч*) Былі высланы з Беларусі ва ўсх раены Расіі А Янушкевіч, В Ходзька і інш Гэта запаволіла развіцце грамадскай думкі і адукацыі на бел землях Царскі ўрад скасаваў канстытуцыю 1815 і ўвеў Арганічны статут Каралеўства Польскага, які пазбаўляў Польшчу дзяржаўнасці і аўтаноміі Указам ад 19 10 1831 у Беларусі, Літве і Правабярэжнай Украіне пачаўся «разбор» шляхты і перавод значнай яе часткі ў аднадворцы У 1832 створаны Асобы *Камітэт па справах заходніх губерняў*, скасаваны Статут ВКЛ 1588 (25 8 1840) Закрыты Віленскі ун-т (1832), забаронена вывучэнне польскай мовы ў школах Пачалося закрыцце каталіцкіх кляштараў і уніяцкіх манастыроў Праведзена ліквідацыя уніяцкай царквы (гл *Полацкі царкоўны сабор 1839*)

*Літ* Смит Ф История польского восстания и войны 1830—1831 гг Т 2 СПб 1863, Шпілеўскі І Т, Бабровіч Л А Сінхраністычная табліца падзей паўстання на Беларусі, Літве і Польшчы ў 1830—1831 гг // Наш край 1929 № 10, Воронков И А Восстание 1830—1831 гг в Белоруссии // Вестн Московского ун-та История 1966 № 2, Sokołowski A Dzieje powstania listopadowego 1830—31 Wiedeń, 1908, A7 Wojna na Litwie w roku 1831 Kraków, 1913 Tokarz W Wojna polsko-rosyjska 1830 i 1831 Warszawa, 1994, Bieliński K Powstanie listopadowe w Wilnie i na Wileńszczyźnie Wilno, 1934

*Анатоль Грыцкевіч*

**ПАЎСТА́ННЕ 1863—64** у Польшчы, Беларусі і Літве, нацыянальна-вызваленчае паўстанне супраць царызму Падрыхтавана польск і бел-літ канспіратыўнымі арг-цыямі Яны мелі сувязі з арг-цыяй рас рэвалюцыянераў-дэмакратаў «*Зямля і воля*» Аднак не ўсе «*чырвоныя*» (так называлі прыхільнікаў ідэі ўзбр паўстання ў Польшчы, Беларусі і Літве) падзялялі праграму «Зямлі і волі» Пераважную большасць сярод іх складалі шляхецкія рэвалюцыянеры, якія ў сваей праграме на першае месца ставілі аднаўленне польск дзяржавы ў межах б Рэчы Паспалітай, з уключэннем у яе склад Літвы, Беларусі і Правабярэжнай Украіны Гал ролю ў рэалізацыі гэтай ідэі адводзілі шляхце, а дапаможную — сялянству Памешчыкам абяцалі захаваць іх землеўладанне і аплаціць за кошт дзяржавы зямлю, адведзеную пад сял надзелы, сялянам перадаць ва ўласнасць без выкупу і часоваабавязаных адносін надзелы, якія яны атрымалі па рэформе 19 2 1861 Прадугледжвалася ўраўнаванне грамадзянскіх правоў сялян і шляхты, замена падушнага падатку падымным і 25-гадовай рэкрутчыны 3-гадовай вайсковай службай у сваім краі, аднаўленне уніяцкай царквы Такую праграму распрацаваў створаны летам 1862 у Варшаве *Цэнтральны нацыянальны камітэт* (ЦНК), кіруючы орган «чырвоных», якому належала асн роля ў падрыхтоўцы паўстання На перагаворах прадстаўнікоў ЦНК з выдаўцамі «Колокола» (А *Герцэн*, А *Агароў*, М Бакунін) у Лондане ў вер 1862 апошнія папярэдзілі польскіх рэвалюцыянераў, што іх праграма не знойдзе падтрымкі ў Расіі, і прапанавалі прыняць лозунгі рас рэв дэмакратыі («зямля — сялянам, воля — правінцыям») Аднак

ЦНК не прыслухаўся да гэтых парад. У «Маніфесце» і агр. дакументах, апублікаваных 22.1.1863 у сувязі з абвяшчэннем паўстання, была выкладзена прынятая раней праграма. Новым у ёй было толькі абяцанне выдзеліць па 3 маргі (каля 2 дзесяцін) зямлі беззямельным сялянам, якія са зброяй у руках падтрымаюць паўстанне. Адначасова ЦНК абвясціў сябе Часовым нац. урадам на ўсёй тэр. б. Рэчы Паспалітай.

Падрыхтоўку паўстання ў Беларусі і Літве з восені 1861 узначальваў *Камітэт руху*, які дзейнічаў у Вільні. Летам 1862 к-т быў падпарадкаваны ЦНК і ператварыўся ў *Літоўскі правінцыяльны камітэт* (ЛПК). У яго склад у якасці камісара ЦНК быў прызначаны Н.*Дзюлеран*. Аднак у кастр. 1862 старшынёй ЛПК стаў К.*Каліноўскі*, які ўзяў курс на дасягненне самастойнасці і раўнапраўнасці ва ўзаемадачыненнях віленскага і варшаўскага цэнтраў. Акрамя таго, ён не падзяляў ні аграрнай, ні нац. праграмы ЦНК, выступаў за передачу ўсёй зямлі сялянам і разгортванне сял. рэвалюцыі, за ліквідацыю шляхты як «гнілой і разбэшчанай касты», за прадастаўленне Літве і Беларусі права на самавызначэнне. Свае погляды па праграмных пытаннях Каліноўскі выказваў у газеце «Мужыцкая праўда», хоць далёка не ў поўнай меры. Вельмі абурыла Каліноўскага і, відаць, большасць членаў ЛПК рашэнне варшаўскага ЦНК аб пачатку паўстання 22 студз., прынятае без узгаднення з імі. На працягу 10 сутак ЛПК вагаўся, як рэагаваць на гэта, і ўрэшце маніфестам ад 1.2.1863 заклікаў насельніцтва Літвы і Беларусі падтрымаць пачатае ў Польшчы паўстанне. Пры гэтым ЛПК, ператварыўшыся ў *Часовы правінцыяльны ўрад Літвы і Беларусі*, быў вымушаны прыняць і апублікаваць праграму паўстання, вызначаную польск. нац. урадам. У пач. сак. 1863 да паўстання далучылася частка буйных памешчыкаў і буржуазіі, т.зв. «белыя», якія да гэтага часу ставіліся да яго непрыхільна, бо разлічвалі дамагчыся аднаўлення польскай дзяржаўнасці мірным шляхам, пры дапамозе зах. краін, найперш Англіі і Францыі. Спробы «чырвоных» абаперціся на сялянства напалохалі іх. З мэтай усталяваць свой кантроль за ходам падзей, а таксама падштурхнуць урады Англіі і Францыі да больш рашучай падтрымкі сваіх патрабаванняў «белыя» 10.3.1863 фактычна захапілі ў свае рукі кіраўніцтва паўстаннем у Польшчы. 11 сак. быў расфарміраваны Часовы ўрад Літвы і Беларусі на чале з Каліноўскім і заменены *Аддзелам кіраўніцтва правінцыямі Літвы*, старшынёю якога стаў буйны памешчык Я.*Гейштар*. У сувязі з гэтым Каліноўскі ад імя ЛПК напісаў рэзкі пратэст супраць акцыі «белых», якую ацаніў як здраду рэвалюцыі. Аднак, усведамляючы адсутнасць дастатковай апоры, быў вымушаны падпарадкавацца «галаве паўстання» і прыняць назначэнне на пасаду гродзенскага ваяводскага камісара. Пасля гэтага «белыя» істотна ўзмацнілі свае пазіцыі ў кіруючых структурах падп. арг-цыі ў Літве і Беларусі на губернскім (ваяводскім), павятовым, акруговым узроўнях. У ваяводствы прызначаліся цывільныя і вайсковыя начальнікі.

Першыя паўстанцкія атрады прыйшлі на Беларусь з Польшчы ў канцы студз. 1863 Самы вялікі з іх быў атрад Р.*Рагінскага*. Ён прабіваўся на У і з баямі прайшоў праз Гродзенскую губ. да Пінскага пав., дзе каля в. Боркі ў лют. быў разбіты. Фарміраванне мясц. атрадаў і выхад іх у месцы збору пачаліся ў сак.—крас. 1863 (гл. *Віцебскія паўстанцкія атрады, Гродзенскія паўстанцкія атрады, Магілёўскія паўстанцкія атрады, Мінскія паўстанцкія атрады*). Як правіла, гэтыя выступленні падаўляліся царскімі ўладамі ў самым пачатку. Да найб. значных акцый паўстанцаў у Беларусі адносяцца захоп 24.4.1863 павятовага горада Горкі Магілёўскай губ. атрадам Л.*Звяждоўскага* з дапамогай студэнтаў Горы-Горацкага земляробчага інстытута і *Мілавідская бітва 1863*. Баявыя дзеянні паўстанцаў з-за несуразмернасці іх сіл з урадавымі войскамі мелі вымушана партыз. характар: атрады пазбягалі сутычак з больш значнымі сіламі ворага. Прыходзячы ў вёску ці мястэчка, паўстанцы склікалі сходы жыхароў, абвяшчалі ім маніфест і агр. дэкрэты, складалі акты аб перадачы зямлі ва ўласнасць сялян, прымалі ад іх прысягу на вернасць рэв. ўраду, знішчалі дакументы валасных канцылярый, забіралі казённыя грошы, а сабраныя з сялян падаці вярталі ім, іншы раз праводзілі публічныя суды і пакаранні людзей, што аказвалі дапамогу ўладам у барацьбе з паўстаннем. Матэрыяльнае забеспячэнне атрадаў ускладалася на памешчыкаў. Усяго на сучаснай тэр. Беларусі з лют. па жн. 1863 зафіксавана 46 баёў і баявых сутычак паўстанцаў з царскімі войскамі. З іх $^{2}/_{3}$ адбыліся на Гродзеншчыне і Віленшчыне.

Прыход «белых» да кіраўніцтва паўстаннем адмоўна паўплываў на адносіны да яго бел. сялян. Удзел у паўстанні польск. памешчыкаў — сваіх спрадвечных прыгнятальнікаў — яны ў большасці ўспрымалі як выступленне супраць «цара-вызваліцеля» з мэтай аднаўлення прыгону. Менавіта такая ацэнка паўстання шырока выкарыстоўвалася афіц. уладамі і правасл. царквою. Каб адцягнуць сялян Беларусі і Літвы ад удзелу ў паўстанні, урад прыняў і пэўныя эканам. меры. Указамі ад 1.3 і 2.11.1863 спыняліся часоваабавязаныя адносіны сялян да памешчыкаў, сяляне пераводзіліся на абавязковы выкуп, пры гэтым выкупныя плацяжы паніжаліся на 20%. У кастр. 1863 быў выдадзены загад аб выдзяленні сялянам, абеззямеленым у 1846—56, 3-дзесяцінных сямейных надзелаў і аб вяртанні поўных надзелаў тым сялянам, якіх памешчыкі абеззямелілі ў пазнейшыя гады З другога боку, вёскі, дзе паўстанцы знаходзілі падтрымку, падвяргаліся жорсткім рэпрэсіям. Сац.-эканам. праграма паўстанцаў з-за яе абмежаванасці была для бел. сялян малапрыцягальнай, а ідэя аднаўлення польскай дзяржавы — зусім чужой. У выніку толькі невял. частка бел. сялян, пераважна казённых, падтрымала паўстанне. У мно-

Да арт. **Паўстанне 1863—64**. К. Каліноўскі і В. Врублеўскі робяць агляд паўстанцаў. Мастак П. Сергіевіч. 1959.

Да арт **Паўстанне 1863—64**. Касінеры Каліноўскага. Мастак Л. Дударанка. 1978.

15 Зак 168

Адрозніваецца відамі пахавальнага збудавання (курган, бдын, грунтавая магіла, каменны могільнік, крыж і інш ), пахавання (трупаспаленне — поўнае або няпоўнае, на месцы або па-за межамі пахавання, трупапалажэнне) і яго тылам (ямны, наземны), арыенціроўкай (галавой на З, У, Пн, Пд, сядзячае або скурчанае становішча касцяка), становішчам рук (абедзве рукі ўздоўж тулава або на жываце ці на грудзях, адна рука ўздоўж тулава, другая на жываце або на грудзях і інш ), наяўнасцю слядоў агню (кальцыніраваныя косці, перадпахавальныя і пасляпахавальныя вогнішчы, попел і вугольле ў насыпе або каля касцяка і інш ), відамі пасудзін (керамічныя і драўляныя), разнавіднасцямі дамавін (з дошак, плах, бярвен, выдзеўбаныя калоды) Керамiка ў абрадзе трупаспалення часта выконвала ролю труны, магла (асабліва пры трупапалажэннях) утрымліваць ежу для нябожчыка (пітво найчасцей ставілі ў драўляных пасудзінах) з рытуальнымі мэтамі зрэдку гаршкі разбівалі

У познім палеаліце нябожчыкаў хавалі ў спец ямах на баку або ніцма з падкурчанымі нагамі або ў позе спячага, астанкі часта пасыпалі чырвонай фарбай (вохрай) ці вугольлем, што азначала магічную замену крыві або агню Побач клалі рэчы памерлага На тэр Беларусі такія пахаванні пакуль не выяўлены У бронзавым веку на Беларусі вядомы пахаванні ў грунтавых магілах (Пралетарскі, Рудня-Шлягіна Веткаўскага р-на) і курганах (*Ходасавічы* Рагачоўскага р-на), якія належалі *сярэдненяпроўскай культуры* Месца пахавання напачатку «ачышчалася» агнем, потым на месцы вогнішча выкопвалі прамавугольную або авальную яму, куды змяшчалі нябожчыка і яго рэчы Пахавальную яму нярэдка абсталёўвалі накшталт хаты Потым над адной або некалькімі магіламі насыпалі курган Адначасова з П а трупапалажэння (інгумацыя) з'явіліся пахаванні з абрадам трупаспалення (крэмацыя) У жал веку такі абрад стаў асн формай П а Трупаспаленні най часцей рабілі не на месцы пахавання, а па-за межамі могільніка Рэшткі спалення змяшчалі ў спец гліняны гаршчок — урну, і хавалі яе пераважна ў грунтавой магіле Такі П а, за невял выключэннямі, быў характэрны для плямен *мілаградскай культуры, зарубінецкай культуры, паморскай культуры, вельбарскай культуры* і інш Паасобныя пахаванні звычайна ўтваралі *могільнікі*, плошча якіх залежала ад памераў суседніх паселішчаў і ад часу іх існавання Курганы на тэр Беларусі жал веку не атрымалі пашырэння (выключэнне — курганны могільнік *Дубай* Столінскага р-на) Над грунтавымі магіламі існавалі нейкія збудаванні, бо амаль ніколі новыя магілы не парушалі старыя Узнаўленне пахаванняў у курганах на тэр Беларусі адбылося ў 2-й пал 1-га тыс н э сярод усх -слав насельніцтва У 8—9 ст курганы цалкам выцеснілі грунтавыя пахаванні У канцы 9—10 ст паявіўся і паступова пашырыўся П а трупапалажэння, а ў пач 11 ст трупаспаленне зусім знікла, хоць агонь застаўся ў выглядзе вогнішчаў або попелу, які прыносілі з інш месцаў З 11 ст на поўдні, а з 12 ст па ўсей Беларусі пашырыліся пахаванні ў падкурганных ямах Нябожчыка клалі на спіну, галавой на З, вельмі рэдка сустракаліся пахаванні, дзе нябожчыкі знаходзіліся быццам бы ў сядзячым становішчы Ёсць меркаванні, што так хавалі ведзьмакоў і чараўнікоў, якіх перад пахаваннем звязвалі Трапляюцца і т зв «пустыя курганы» — *кенатафы*, у якіх ёсць усе элементы пахавання, але няма нябожчыка Магчыма, іх насыпалі ў памяць пра тых, хто загінуў на чужыне або прапаў без вестак

Нябожчыкаў апраналі ў лепшае адзенне, побач клалі іх асабістыя рэчы, ставілі гаршкі з ежай Канструкцыі пахаванняў былі разнастайныя захаваліся сляды плах, бярвен, нават зрубаў, якія імітавалі хаты, трапляюцца рэшткі дамавін Пісьмовыя крыніцы сведчаць, што П а усх -слав плямен уключаў таксама страву (памінальную ежу) і *трызну* (ваенна-спартыўныя спаборніцтвы ў гонар нябожчыка) З 12 ст звычай пахавання ў курганах пачаў знікаць і ў 14 ст перамог кананічны хрысціянскі П а (у гарадах, дзе хрысціянізацыя адбылася раней, курганы змяніліся звычайнымі могілкамі яшчэ ў 11 ст ) Этнаграфічныя назіранні дазваляюць меркаваць пра наяўнасць ўжо ў старажытнасці такіх элементаў П а , як абмыванне нябожчыка, галашэнні, парадак вынасу труны, а пасля ўвядзення хрысціянства — чытанне псалтыра і адпяванне П а вызначаецца кансерватыўнасцю, асобныя яго рысы захоўваюцца на працягу многіх стагоддзяў, розныя П а могуць незалежна суіснаваць, магчыма і іх узаемадзеянне (*крывічы, радзімічы* і *дрыгавічы* зазналі ўплыў П а *балтаў*, і хрысціянская царква доўга была вымушана мірыцца з перажыткамі язычніцтва)

*Літ* Рыбаков Б А Нестор о славянских обычаях // Древние славяне и их соседи М , 1970, Яго ж Язычество древних славян М , 1981, Седов В В Распространение христианства в Древней Руси (по археол материалам) // Археология и история Пскова и Псковской земли Тез докл науч практ конф Псков, 1988

*Уладзімір Багамольнікаў, Якаў Рыер*

**ПАХАЛАВІЦКІ** (Пахаловіч) Станіслаў, мастак і картограф 2-й пал 16 ст Жыццё і дзейнасць звязаны з Беларуссю і Польшчай Служыў сакратаром у магнатаў, у 1563—66 пры двары жонкі вял князя ВКЛ Жыгімонта II Аўгуста, потым у скарбовай і каронннай канцылярыях Вясной 1572 удзельнічаў у ваеннай выправе на Малдову, у 1579—81 — у паходах Стафана Баторыя на Полацк, Вял Лукі і Пскоў Вызначыўся пры штурме Пскова, за што быў набілітаваны Выконваў абавязкі картографа Склаў карту «Вонс Полацкага княс-

**Паўустаў** Фрагмент граматы рыжскіх ратманаў да палачан 1405

газетную парт школу (1938), БДУ (1951), Акадэмію грамадскіх навук пры ЦК КПСС (1954) У Вял Айч вайну ў жн 1942 — ліст 1943 радавы і палітрук разведкі ў партыз атрадзе Рэчыцкай брыгады імя Варашылава У маі—ліст 1943 рэдактар падп газ *«Гомельская праўда»*, потым на журналісцкай рабоце, з 1948 рэдактар газ «Гомельская праўда», «Віцебскі рабочы» З вер 1956 сакратар Віцебскага абкома КПБ, у 1968—85 рэктар Мінскай ВПШ Чл ЦК КПБ у 1971—86 Дэп ВС БССР у 1971—88

**ПАЦЕ́ЕЎ** Мікалай Паўлавіч (16 5 1919, г Рагачоў — 27 9 1972), Герой Сав Саюза (1945) Скончыў Камышынскае танк вучылішча (1943), Вышэйшую афіцэрскую школу самаходнай артылерыі (1951) У Чырв Арміі з 1939 У Вял Айч вайну з 1941 на Паўд , Паўд Зах , Сталінградскім, Бранскім, 1-м Прыбалт , 3-м Бел франтах Удзельнік вызвалення Беларусі, Літвы, Латвіі, баеў на тэр Усх Прусіі Вызначыўся 18—21 9 1944 у баях на тэр Латвіі танк рота на чале з лейт П у раёне г Елгава, Добеле спыніла наступленне праціўніка і на працягу 4 сутак адбіла 28 контратак, знішчыла 37 танкаў, з іх П з экіпажам — 9 Пасля вайны працаваў у нар гаспадарцы г Лунінец У 1949—70 у Сав Арміі

М П **Пацееў**

**ПАЦЕІ**, дзярж дзеячы ВКЛ, род герба «Вага» Родапачынальнік Ходзька Каранеўскі, сын якога Тышка за службу ў вял князя Казіміра [1440—92] атрымаў некалькі весак у Камянецкай воласці Ад імя яго сына Пацея Тышковіча пайшло родавае прозвішча Валодалі маёнткамі ў Брэсцкім, Трокскім і інш ваяводствах Найб вядомыя

Л е ў П а ц е е в і ч (Пацей, ?—1 4 1550), сын Пацея Тышковіча, вялікакняжацкі дваранін, пісар гаспадарскі з 1543

А д а м Л ь в о в і ч (Іпацій, 12 4 1541—18 7 1613), сын Льва Пацеевіча, уніяцкі мітрапаліт, гл І *Пацей*

П е т р (?—да 1647), сын Адама Львовіча, пісар земскі брэсцкі з 1643

Л е а н а р д Г а б р ы э л ь (6 11 1632—1 2 1695), сын Пятра Да 1662 служыў у войску ВКЛ Ажаніўся з князёўнай Рэгінай Агінскай, што спрыяла яго кар'еры Брэсцкі земскі пісар з 1662, падсудак земскі з 1672, суддзя земскі з 1676, ваявода віцебскі з 1686, староста рагачоўскі, жыжморскі і суражскі, пасол на сеймы, дэпутат Трыбунала ВКЛ Удзельнічаў у бітвах з туркамі на Украіне ў 1670-х г Знаходзіўся ў апазіцыі да караля Яна III Сабескага

Л ю д в і к К а н с т а н ц і н (1664—3 1 1730), сын Леанарда Габрыэля Служыў у войску ВКЛ, удзельнічаў у бітвах з туркамі і крымскімі татарамі ў Венгрыі, Малдове і на Украіне Брэсцкі земскі пісар з 1687, падкаморы з 1689, пісар польны ВКЛ з 1697, стражнік вялікі ВКЛ з 1698, падскарбі вялікі ВКЛ з 1703, гетман польны ВКЛ у 1709, гетман вялікі ВКЛ з 1709, адначасова кашталян віленскі з 1709 і ваявода віленскі з 1722, староста ваўкавыскі, воўпенскі, шарашоўскі Быў пaслом на сеймы, належаў да апазіцыі бел і літ шляхты супраць усеўладдзя Сапегаў у ВКЛ Удзельнік канфедэрацыі войска ВКЛ супраць Сапегаў 1696 Быў адным з ініцыятараў ураўнавання правоў бел і літ шляхты з польскай на сейме 1697 Камандаваў атрадам у бітве пад Алькенікамі 18 11 1700, дзе было разгромлена войска Сапегаў Устанавіў кантакты з рас дыпламатамі У час Паўночнай вайны 1700—21 ваяваў супраць шведаў Пры падтрымцы Пятра I фактычна сканцэнтраваў у сваіх руках уладу ў Беларусі і Літве Адзін з арганізатараў *Віленскай канфедэрацыі 1716* Падтрымліваў кантакты з Расіяй, быў у апазіцыі да Аўгуста II, але потым пагадзіўся з ім У апошнія гады жыцця выступаў супраць спроб Аўгуста II узмацніць каралеўскую ўладу

К а з і м і р А л я к с а н д р (14 5 1666—10 6 1728), брат Людвіка Канстанціна Харужы трокскі з 1692, кашталян віцебскі з 1700, трокскі з 1703, ваявода віцебскі з 1705, староста рагачоўскі, суражскі і жыжморскі Удзельнік канфедэрацыі войска ВКЛ 1696 супраць Сапегаў, бітвы пад Алькенікамі У студз 1701 на чале шляхецкага апалчэння разбіў 16 конных харугваў Сапегаў і атрады сялян, якія былі ўзброены Сапегамі Выступаў за абсалютную ўладу Аўгуста II Удзельнік Сандамірскай канфедэрацыі 1704, прыхільнік Расіі ў барацьбе супраць шведскага караля Карла XII У 1708 часова перайшоў на бок караля Станіслава Ляшчынскага, у 1709 зноў далучыўся да Аўгуста II

А н т о н і (?—16 2 1749), сын Казіміра Аляксандра Абозны вялікі ВКЛ з 1715, стражнік вялікі ВКЛ у 1729—48, староста ваўкавыскі, суражскі, радамысльскі і жыжморскі Служыў у войску ВКЛ У 1730-х г удзельнічаў у барацьбе магнатаў за спадчыну княгіні Людвікі Караліны Радзівіл і яе нашчадкаў («нейбургскія маёнткі») У 1733 на элекцыйным сейме галасаваў за кандыдатуру караля Станіслава Ляшчынскага На чале 8-тысячнай арміі выступіў супраць Аўгуста III, ваяваў з рас войскам, якое ўмацоўвала ўладу Аўгуста III у Літве, Беларусі і Польшчы У 1735 эміграваў, у 1736 вярнуўся і прызнаў Аўгуста III

А л я к с а н д р (?—сак 1770), брат Антонія Падчашы ВКЛ з 1724, кашталян віцебскі з 1739 і трокскі з 1740 ваявода трокскі з 1742, староста рагачоўскі, алькеніцкі, ковенскі Быў дэпутатам і маршалкам Трыбунала ВКЛ

Л ю д в і к (каля 1726 — студз 1771), сын Аляксандра Абозны вялікі ВКЛ з 1744, стражнік вялікі ВКЛ з 1748, староста рагачоўскі і алькеніцкі Пасол на сеймы Удзельнік канфедэрацыі ВКЛ 1767 з прыхільнікаў Кацярыны II, да якой ездзіў на чале дэлегацыі У час *Барскай канфедэрацыі* займаў хісткую пазіцыю паміж канфедэратамі і каралем

Л е а н а р д (каля 1730—14 7 1774), брат Людвіка Абозны вялікі ВКЛ з 1752, стражнік вялікі ВКЛ з 1771, староста рагачоўскі і алькеніцкі Пасол на сеймы Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай 1772 дзеля захавання сваіх маёнткаў у Полацкім ваяв прысягнуў Кацярыне II (1773)

А л я к с а н д р М і х а л (1774 — да 13 6 1846), сын Леанарда Абозны вялікі ВКЛ з 1794 У час паўстання 1794 ад'ютант Я *Ясінскага*, удзельнічаў у бітвах Яго маёнткі былі секвестраваны, але ў 1795 Кацярына II вярнула іх 5 7 1812 Напалеон прызначыў яго чл Вайсковага камітэта ВКЛ, пасля пакінуў пасаду З 1815 у складзе камісіі, што разглядала справы па спадчыне Д Радзівіла Чл *Патрыятычнага таварыства*, у 1826—27 зняволены

Т э а д о р (1798—1852), сын Аляксандра Міхала, апошні з роду П Удзельнік паўстання 1830—31, памер у эміграцыі ў Парыжы

*Літ* Гісторыя Беларускай ССР Т 1 Мн , 1972, D w o r z a c z e k W Genealogia Warszawa, 1959, Polski słownik biograficzny T 27 Wrocław etc , 1982, Hetmani Rzeczypospolitej Obojga Narodów Warszawa, 1995

*Анатоль Грыцкевіч*

**ПАЦЕЙ** Іпацій (свецкае імя Адам Львовіч, 12 4 1541, сядзіба Ражанка Камянецкага пав Падляшскага ваяв — 18 7 1613), бел царкоўны і дзярж дзеяч, пісьменнік-палеміст З правасл роду *Пацеяў* Мяркуецца, што ў дзяцінстве быў пажам пры каралеўскім двары, потым — пры двары М Радзівіла Чорнага, дзе атрымаў выхаванне і адукацыю, перайшоў у *кальвінізм* Магчыма, вучыўся ў Ягелонскім ун-це (Кракаў) З 1566 брэсцкі пісар земскі У 1569 дэпутат ад брэсцкай шляхты на Люблінскім сейме У 1573 (ці 1574) вярнуўся ў праваслаўе З 1577 земскі суддзя У 1586 уваходзіў у склад *каптуровага суда* У 1588 брэсцкі кашталян і сенатар Рэчы Паспалітай Пасля смерці жонкі (1592) прыняў ма-

наства пад імем Іпацій (крас. 1593). У маі 1593 — епіскап уладзімірскі (у г. Уладзіміры-Валынскім). У 1595 разам з К.Цярлецкім узначальваў пасольства ў Рым да папы Клемента VIII з мэтаю аб'яднання усх. і зах. цэркваў у Рэчы Паспалітай. Адзін з ініцыятараў і арганізатараў *Брэсцкай уніі 1596*. У 1599—1613 уніяцкі мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі. Пераклаў на старабел. мову 2 кнігі П.Скаргі «Сінод брэсцкі» і «Апісанне і абарона сабору рускага брэсцкага» і выдаў іх пад адной вокладкай (1597). У 1605 апублікаваў «эпістолію» 1476 мітрапаліта *Місаіла* папе Сіксту IV аб падтрымцы уніі з Рымам (сапраўднасць тэксту гэтай «эпістоліі» аспрэчваецца многімі даследчыкамі). Аўтар палемічных твораў на старабел. і польскай мовах у абарону уніі: «Унія...» (1595), «Справядлівае апісанне ўчынкаў і справы сінодавае» (1597), «Размова берасцяніна з братчыкам» (1604), «Уваскрослы Налівайка» (1607), «Ерасі, невуцтва і палітыка папоў і мяшчан віленскага брацтва», «Гармонія...», «Рэляцыя» (усе 1608), шэрагу лістоў да кн. К.Астрожскага, якія з'явіліся прычынай палемікі П. з Клірыкам Астрожскім («Водпіс на ліст нейкага Клірыка Астрожскага безыменнага», 1599), вял. колькасці прамоў і павучанняў. П. таксама прыпісваюць аўтарства «Антырызіса, або Апалогіі супраць Хрыстафора Філалета» (1599; польск. перавыд. 1600). Прапаведніцкія творы П. на старабел. мове былі сабраны і выдадзены ў 1677, у 1714 — перавыдадзены на польскай мове ў Супраслі.

*Літ.*: Трипольский Н. Униатский митрополит Ипатий Потей и его проповедническая деятельность. Киев, 1878; Левицкий О. Ипатий Потей, киевский униатский митрополит // Памятники русской старины в западных губерниях. Вып. 8. Холмская Русь. СПб., 1885; Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 1. Мн., 1968; Лаўрык Ю. Іпаці Пацей // Спадчына. 1992. № 2; Яго ж. Асветніцкая дзейнасць Іпація Пацея // Пачатковая школа. 1992. № 7; Дмитриев М.В. Посольство Ипатия Потия и Кирилла Терлецкого в Рим в 1595—96 гг. // Славяноведение. 1996. № 2; Кішка Л. Жыццяпіс Іпація Пацея // Спадчына. 1998. № 4.

*Юрась Лаўрык.*

І. **Пацей**.

**ПА́ЦЕРКІ**, дробныя ўпрыгожанні, нанізаныя на нітку або шнурок. Пераважна носяць на шыі, нашываюць таксама на вопратку, галаўныя ўборы, абутак. Вылучаюць 29 відаў матэрыялу, з якога выраблялі П.: шкло (аднаколернае, паліхромнае, егіпецкі фаянс), метал (золата, серабро, бронза, свінец), смалістыя рэчывы (гагат, бурштын), каштоўныя і паўкаштоўныя камяні (горны хрусталь, аметыст, халцэдон, сердалік і інш.), рэдкія матэрыялы (крамяністая парода, мармур, ракавіны, косць, гліна і інш.), камбінаваныя матэрыялы (шкло з унутр. пазалотай ці пасерабрэннем, гліна з пазалотай). У асн. формы падзяляюцца на геаметрычныя, складаныя і фігурныя. Шкляныя П. былі неарнаментаваныя і арнаментаваныя. Адрозніваюць простыя арнаменты (12 відаў, у асн. геаметрычныя), камбінаваныя (21 від, у асн. спалучэнне геаметрычных форм) і складаныя (10 відаў: геаметрычныя, раслінныя, зааморфныя, антрапаморфныя, шахматныя і «дывановыя», вейкавыя, зорчатыя ці прамянёвыя і інш). Вядомы шкляныя П. разнастайных адценняў 6 каляровых груп (чорныя, белыя, чырвоныя, зялёныя, жоўтыя, сінія), а таксама бясколерныя і стракатыя (шматколерныя, ці паліхромныя). Колер П. з інш. відаў матэрыялу мае такі ж падзел. П., зробленыя са шкла і мінералаў, могуць быць празрыстыя, паўпразрыстыя і глухія (выключана прапусканне святла). У старажытнасці П. надавалі магічнае значэнне. Вядомы ў большасці народаў з эпохі неаліту. На стаянках Верхняга Падняпроўя (*Елісеевічы, Юдзінава*) знойдзены П. з вапняковых трубачак, ракавін. На тэр. Беларусі былі пашыраны П. з зубоў лася, мядзведзя (Крывіна, *Асавец*), бурштыну. У бронзавым веку рабілі бурштынавыя сякерападобныя, касцяныя цыліндрычныя П., медныя і бронзавыя спіралькі і інш. Большасць іх знойдзена ў пахаваннях *сярэднедняпроўскай культуры* (*Ходасавічы*, Рудня Шлягіна і інш.). У раннім жал. веку паявіліся шкляныя П. з майстэрань грэч. гарадоў Паўн. Прычарнамор'я і правінцыяльна-рымскіх майстэрань Зах. Еўропы. Большасць іх выяўлена на помніках *мілаградскай культуры* і *зарубінецкай культуры* (*Гарошкаў, Чаплін, Сямурадцы, Адаменка* і інш.). У жал. веку былі пашыраны таксама сердалікавыя і гліняныя П.; нізкі часта ўключалі метал. ланцужкі і спіралькі. Значнае пашырэнне атрымалі П. ў 10—13 ст. Імі аздаблялі *адзенне, скроневыя кольцы, грыўні, бранзалеты*. Некаторыя нізкі мелі да 100—400 і болей П. Яны былі разнастайныя паводле формы і колеру. Шырока выкарыстоўваліся сярэбраныя і бронзавыя зярнёныя П., нанізаныя на дрот (у дрыгавічоў), шкляныя залачоныя і пасярэбраныя, сердалікавыя, з горнага хрусталю, бурштынавыя, з крамяністых парод, каляровых і паўкаштоўных металаў. Часта каралі з П. уключалі прывескі: лунніцы, крыжыкі, бомкі і інш. У сярэдневякоўі П. вядомы і гараджанам і сялянам, таму трапляюцца яны амаль на кожным археал. помніку гэтай эпохі. Найб. значная і цікавая калекцыя П. выяўлена ў ходзе раскопак курганнага могільніка *Ізбішча* ў Лагойскім р-не. З 18 ст. на Беларусі П. выраблялі на Гродзенскай мануфактуры шкляных пацерак, Урэцкай і Любанскай мануфактурах, а таксама мясц. ювелірамі і шкларобамі бел. гарадоў.

*Таццяна Скрыпчанка.*

**Пацеркі** з гарадзішча Менка.

**ПАЦЕ́ХА** (Pociecha) Уладзіслаў Казімір Аўгуст (1.7.1893, г. Кракаў, Польшча — 28.1.1958), польскі гісторык. Чл.-кар. Польск. АН у Кракаве (1950), праф. надзвычайны (1957). У 1911—15 вучыўся ў Кракаўскім ун-це. Удзельнік 1-й сусв. вайны. У 1921—26 і з 1928 працаваў у Ягелонскай б-цы ў Кракаве, арганізатар і дырэктар (1926—27) Курніцкай б-кі. Вывучаў паліт. гісторыю Польшчы і ВКЛ. У біяграфіі каралевы польскай і вял. княгіні літоўскай Боны падкрэсліваў яе заслугі ў развіцці культуры і грамадска-паліт. думкі («Каралева Бона, 1494—1557: Часы і людзі Адраджэння», т. 1—4, 1949—58). Выдаваў гіст. крыніцы часоў панавання Жыгімонта І, у т.л. тамы 14—16 *Актаў Таміцкага*.

*Тв.*: Geneza hołdu pruskiego, 1467—1525. Gdynia, 1937; Polska wobec elekcji cesarza Karola V w r. 1519. Wrocław, 1947; Arcybiskup

gnieźnienski Mikołaj Dzierzgowski, prymas Polski (ok 1490—1559) Zarys biograficzny Kraków, 1947 Czasy Zygmunta Starego // Roczniki historyczne Warszawa, 1947 R 16

*Літ* Barycz H Władysław Pociecha (1893—1958) // Rocznik biblioteczny 1988 R 2

**ПАЦЁМКІН** Рыгор Аляксандравіч [13(24) 9 1739, в Чыжова Духаўшчынскага пав Смаленскай губ — 5(16) 10 1791], расійскі дзярж і ваен дзеяч Граф (1770), князь Таўрычаскі (1783), ген -фельдмаршал (1784) Вучыўся ў гімназіі Маскоўскага ун-та (1756—60, выключаны) У час службы ў гвардыі ўдзельнічаў у палацавым перавароце 1762, у выніку якога да ўлады прыведзена *Кацярына II* Як фаварыт Кацярыны II (1770), быў прызначаны віцэ-прэзідэнтам (з 1784 прэзідэнт) Ваен калегіі Вызначыўся ў рус -турэцкай вайне 1768—74 У 1774—83 валодаў на Беларусі мяст *Дуброўна,* з 1776 — *Крычаўскай воласцю* (больш за 14 тыс прыгонных) Каб стварыць у *Крычаве* прамысл і гандл цэнтр зах -еўрап тыпу, запрасіў сюды вядомага англ філосафа І Бентама Жывучы ў маентку П ў сяле Задобра (1785—87), Бентам дапамагаў па-новаму наладзіць гаспадарку, пабудаваць *Крычаўскую суднаверф,* разводзіў кветкі, напісаў эканам працу «Абарона ліхвярства» і інш З 1776 П ген -губернатар Новарасійскай, Азоўскай і Астраханскай губ У 1783 далучыў Крым да Расіі Садзейнічаў асваенню Паўн Прычарнамор'я і будаўніцтву Екацярынаслава, Мікалаева, Севастопаля, Херсона, кіраваў будаўніцтвам ваен і гандл флатоў на Чорным моры Камандаваў рус арміяй у рус -турэцкую вайну 1787—91 Імкнуўся ўмацаваць эканам і міжнар становішча Расіі, быў адным з самых багатых саноўнікаў краіны

*Літ* Бумаги кн Г А.Потемкина Тавричеcкого, 1774—1788 // Сб военно-ист материалов СПб, 1893—95 Вып 6—8, Брикнер А.Г Потемкин СПб 1891, Покровский П Бентам и его время Пг, 1916 С 233—236, Дружинина Е И Северное Причерноморье в 1775—1800 гг М, 1959

*Эдуард Карніловіч*

**ПАЦЫ** (у 15—16 ст Пацавічы), магнацкі род герба «Газдава» ў ВКЛ Паходзіць ад Паца Даўкшавіча, ад імя якога ўтварылася родавае прозвішча У 15 ст валодалі маенткамі ў Лідскім, з 16 ст — у Брэсцкім і Гродзенскім пав, мяст Магільна і Астравец, у 17 ст набылі Чартарыйск, Відзы, Галоўчын, Княжыцы і інш Належалі да найб уплывовых магнацкіх родаў 17—18 ст Род П падзяліўся на некалькі галін, апошні прадстаўнік роду памер у 1835 Найб вядомыя

Юрый Пацавіч (?—1505), сын Паца Даўкшавіча Маршалак гаспадарскі і намеснік ковенскі з 1480, ваявода кіеўскі (каля 1483—92), намеснік навагрудскі з 1492, полацкі ў 1496—1501 Валодаў маенткамі ў Лідскім і Брэсцкім пав

Мікалай Юр'евіч (?—1545 або 1546), сын Юрыя Пацавіча Лоўчы ВКЛ у 1509—42, падкаморы ВКЛ у 1527—42, ваявода падляшскі з 1543 Меў шматлікія маенткі, у якіх у 1528 было каля 7500 сял двароў Ад яго сыноў паходзяць галіны роду

Мікалай (каля 1527—85), сын Мікалая Юр'евіча Сакратар гаспадарскі, у 1557 ад вял князя Жыгімонта II Аўгуста атрымаў прызначэнне на пасаду кіеўскага каталіцкага біскупа, але не быў зацверджаны рымскім папам Кіраваў біскупствам да 1582 Прыхільнік уніі з Польшчай Перайшоў у кальвінізм, але займаў біскупскае месца ў Сенаце Рэчы Паспалітай З 1583 кашталян смаленскі

Станіслаў (1525—88), сын Мікалая Юр'евіча Падстолі ВКЛ з 1552, ваявода віцебскі з 1566, староста суражскі, веліжскі і трабскі Удзельнічаў у баях з крымскімі татарамі і ў Лівонскай вайне 1558—83, абараняў Віцебск у 1568

Дамінік (?—1579), сын Мікалая Юр'евіча Падкаморы брэсцкі з 1568, кашталян смаленскі з 1571 Меў маенткі ў Брэсцкім пав (каля 1900 сял двароў) Удзельнічаў у заключэнні Люблінскай уніі 1569 Кальвініст Ад яго паходзіць брэсцкая галіна роду

Ян (1550—1610), сын Дамініка Чашнік ВКЛ з 1581, цівун віленскі з 1589, ваявода мінскі з 1600, староста камянецкі На сейме 1587 прапаноўваў выбраць на пасад Рэчы Паспалітай цара Федара Іванавіча Кальвініст, з 1600 католік Зводны брат па матчынай лініі І *Пацея* Прадаў Радзівілам мяст Кунаса недалёка ад Нясвіжа, у 1603 купіў мяст Чартарыйск на Валыні

Канстанцін Уладзіслаў (?—1686), сын Аляксандра, унук Яна Харунжы надворны ВКЛ з 1658, староста васількаўскі Служыў у войску, з 1657 камандаваў казацкай (легкаконнай шляхецкай) харугвай, палкоўнік войска ВКЛ У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 удзельнічаў у аблозе Вільні (1660), бітвах на р Бася (1660), пад Кушлікамі (1661) і Шкловам (1664), а таксама ў вайне 1673 супраць Турцыі Прыхільнік прафранцузскай партыі Крыштофа Зыгмунта П і праекта выбараў караля пры жыцці яго папярэдніка Атрымаў у спадчыну маенткі кн Галоўчынскіх, валодаў Княжыцамі, Сенькавам і Рафалавам у Аршанскім пав, Чартарыйскам на Валыні, Беразіном, Даневам, Домжарыцамі, Шытавам, Усачамі, Вілейкамі, Ветрынам

Крыштоф Канстанцін (?—1725), сын Мікалая Андрэя, унук Канстанціна Уладзіслава Пісар вялікі ВКЛ з 1710, кашталян полацкі з 1724, староста ковенскі, пінскі і дудскі

Антоні Міхал (? — лют 1774), сын Крыштофа Канстанціна Пісар вялікі ВКЛ з 1750, пасол на сеймы з 1740 Служыў у войску ВКЛ, палкоўнік, рэгіментар (камандзір) дывізіі з 1760 Прыхільнік вял гетмана ВКЛ М К Радзівіла, у 1763 перайшоў на бок групоўкі кн Чартарыйскіх, прыхільнік кандыдатуры Станіслава Аўгуста Панятоўскага, які і быў выбраны каралем у 1764, у 1767 зноў перайшоў у лагер Радзівілаў Валодаў мяст Езна (Трокскі пав), дзе збудаваў шыкоўны палац, маенткамі Галоўчын, Княжыцы, Рафалаў у Аршанскім пав, Канюхі ў Ваўкавыскім пав

Міхал (30 9 1754—29 1 1800), сын Антонія Міхала Ген -м войска ВКЛ, староста ковенскі і барцянскі

Людвік Міхал (19 5 1780—31 8 1835), сын Міхала У 1797 атрымаў у спадчыну ад сваяка Юзафа П маенткі Ражанка і Гарадзішча на Беларусі, Даўспуды, Рачкі і Мазуркі на Беласточчыне, палацы ў Вільні і Гродне, 4 млн злотых У 1808 уступіў у войска Варшаўскага княства, служыў камандзірам эскадрона гв легкай конніцы Надвіслінскага легіёна напалеонаўскай арміі, ваяваў у Іспаніі, удзельнічаў у бітве пры Ваграме (1809) З 1812 ген брыгады, удзельнік баёў пад Віцебскам, Смаленскам, Мажайскам і Малаяраслаўцам, кампаній 1813 у Германіі і 1814 у Францыі З 1814 ген дывізіі, атрымаў тытул графа Французскай імперыі, з 1825 сенатар-кашталян Польскага каралеўства У час паўстання 1830—31 камандаваў корпусам, часовы галоўнакамандуючы (1830), сенатар-ваявода (1831), чл Адм рады ў Варшаве Пасля паражэння паўстання ў эміграцыі, быў прыхільнікам кн А *Чартарыйскага*

Мікалай (?—1595), сын Дамініка Падкаморы брэсцкі з 1579, меў маенткі ў Брэсцкім пав, заснавальнік яшчэ адной галіны роду

Стафан (1587—17 11 1640), сын Мікалая Вучыўся ў Італіі, каралеўскі сакратар з 1611, пісар вялікі ВКЛ у 1615—30, рэферэндары свецкі ВКЛ у 1626—30, падскарбі надворны ВКЛ у 1630, падскарбі вялікі ВКЛ з 1630, падканцлер ВКЛ з 1635, староста брэсцкі, прэнскі,ількавішскі Удзельнік вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18

Крыштоф Зыгмунт (1621—10 1 1684), сын Стафана Вучыўся ў Кракаве, Падуі, Лейдэне Служыў у французскай, іспанскай і галандскай арміях Харунжы вялікі ВКЛ з 1646, падканцлер ВКЛ з 1656, канцлер з 1658, староста ковенскі, пінскі, астрынскі, адміністратар Гродзенскай і Аліцкай эканомій У 1651 на чале ўласнай гусарскай харугвы ўдзельнічаў у вайне супраць казакоў на Украіне У паліт барацьбе супраць роду Радзівілаў узначальваў групоўку П Прыхільнік міру з Расіяй і заключэння з ёю саюза супраць Турцыі, інспіраваў заключэнне Андросаўскага перамір'я 1667 і потым саюзу з Расіяй Прытрымліваўся французскай арыентацыі і праекта выбрання караля пры жыцці папярэдніка, але ў 1667 перайшоў да прааўстрыйскай групоўкі На выбарах караля падтрымаў кандыдатуру Міхаіла Вішнявецкага (1669), выступіў супраць абрання Яна III Сабескага (1674) Да сярэдзіны 1680-х г групоўка П фактычна кіравала ВКЛ У канцы жыцця страціў паліт уплыў

Мікалай Стафан (1623—8 5 1684), брат Крыштофа Зыгмунта

Ваявода трокскі з 1651, кашталян віленскі з 1670, біскуп віленскі з 1671, староста крычаўскі, раканцішскі, лаварышскі З 1660 разам з братам належаў да прыдворнай прафранцузскай групоўкі, але як прыхільнік шляхецкіх вольнасцей і захавання ранейшага паліт парадку хутка адышоў ад яе У ВКЛ дапамагаў брату ў кіраванні дзяржавай

Самуэль (1590—8 1 1627), сын Мікалая Ротмістр, потым палкоўнік, рэгіментар, харунжы вялікі ВКЛ з 1623 Удзельнік войнаў Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29 і Расіяй 1609—18 Атрымаў у пажыццевае карыстанне 9 весак у Бабруйскім старостве, у т.л Парычы, ва ўласнасць — Любонічы каля Бабруйска і Гарошкаў у Рэчыцкім пав

Павел (1530—95), сын Мікалая Юр'евіча Кашталян віцебскі з 1566, ваявода мсціслаўскі з 1578, кашталян віленскі з 1593, староста вількамірскі, мсціслаўскі, дзісенскі, радамскі Меў вял маенткі Дзісна, Казьяны і інш ў Браслаўскім і Астравец у Ашмянскім пав

Петр (1570—19 7 1642), сын Паўла Харунжы надворны ВКЛ з 1613, падскарбі надворны ВКЛ з 1635, ваявода трокскі з 1640, староста мсціслаўскі, радамскі і даўгелішскі Удзельнічаў у войнах Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29, Расіяй 1609—18, Турцыяй 1621 Пасол на сеймы Валодаў мяст Відзы ў Ашмянскім пав

Міхал Казімір (1624—4 4 1682), сын Пятра Чашнік ВКЛ у 1659, абозны вялікі ВКЛ з 1659, генеральны рэгіментар (камандуючы) войскам ВКЛ у 1659 і 1663, ваявода смаленскі і гетман польны ВКЛ з 1663, кашталян віленскі і гетман вялікі ВКЛ з 1667, ваявода віленскі з 1669, староста дынабургскі, гераненскі, усвяцкі, мерацкі, адміністратар Магілеўскай эканоміі У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 удзельнічаў у 1660 у баях супраць войска кн І Хаванскага, 11 7 1660 штурмам узяў Вільню, у снеж 1660 атрымаў перамогу пад Шкловам Належаў да прыхільнікаў караля Яна II Казіміра, падтрымліваў праект выбараў новага караля пры жыцці папярэдняга Чл дэлегацыі Рэчы Паспалітай пры падпісанні Андросаўскага перамір'я 1667 Разам з канцлерам Крыштофам Зыгмунтам П узначальваў групоўку П, праціўнікаў Радзівілаў, арыентаваўся на Аўстрыю Удзельнічаў у ваен кампаніях супраць Турцыі

Геранім Дамінік (?—1662), брат Міхала Казіміра Меў маенткі ў Ашмянскім пав і на Жамойці У 1661 узяты ў палон і вывезены ў Расію, памер у дарозе пры вяртанні на радзіму

Казімір Міхал (?—1719), сын Геранімa Дамініка Пісар вялікі ВКЛ у 1683—1710, маршалак надворны ВКЛ у 1708—09 5 гадоў быў на Мальце і ўдзельнічаў у бітвах з туркамі, з 1678 рыцар Мальтыйскага ордэна, пасля вяртання ўзначаліў камандорствы ордэна ў Познані (1685) і Сталовічах (1688) Пасол на сеймы, з 1696 прыхільнік Сапегаў, крытыкаваў палітыку Аўгуста II на сейме 1701—02 (сарваў яго) У час Паўночнай вайны 1700—21 у 1706—09 прыхільнік караля Станіслава Ляшчынскага, ад якога атрымаў пасаду маршалка Пасля вяртання на трон Аўгуста II адышоў ад паліт дзейнасці

Да арт **Пацы** К З Пац. Гравюра

Да арт **Пацы** М К Пац Партрэт 17 ст

Юзаф (? — кастр 1764), сын Яна Казіміра Кашталян жамойцкі з 1748, староста хвейданскі, зелаўскі і шырвінцкі

Міхал Ян (1730 — кастр 1787), сын Юзафа Наблíжаны да К С Радзівіла, ген -м войска ВКЛ (1764), ген -лейт (1766 або 1767) Удзельнік Радамскай канфедэрацыі 1767 Восенню 1768 арганізаваў у Навагрудку Генеральную канфедэрацыю ВКЛ як частку Барскай канфедэрацыі, 31 10 1769 абраны маршалкам літоўскім Барскай канфедэрацыі, удзельнічаў у баях канфедэратаў з рас і каралеўскімі войскамі Пасля паражэння канфедэрацыі жыў за мяжой (Славакія, Сілезія), памер у Страсбургу

Петр (?—1756), сын Яна Казіміра Староста вілейскі і пінскі

Юзаф (1736—13 3 1797), сын Пятра Служыў у войску ВКЛ, ген -м (1757), ген -ад'ютант вял булавы войска ВКЛ, староста вілейскі, пасол на сеймы Актам паўстання 24 4 1794 у Вільні прызначаны чл *Найвышэйшай літоўскай рады* і ўведзены ў склад вайсковай дэпутацыі У ліп 1794 выехаў на лячэнне ў Галіцыю Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай 1795 вярнуўся ў родавы маентак Ражанку ў Лідскім пав, запісаў у тастаменце ўсе свае багатыя маенткі далекаму сваяку Людвіку Міхалу П

*Літ* Herbarz polski i imionopis zasłużonych w Polsce ludzi T 2 Lwów, 1859, Wolff J Pacowie Materyjały historyczno-genealogiczne Petersburg, 1885, Boniecki A Poczet rodów w Wielkiem Księstwie Litewskiem w XV i XVI wieku Warszawa, 1887, Dworzaczek W Genealogia Warszawa, 1959, Polski słownik biograficzny T 24 Wrocław etc , 1979, Hetmani Rzeczypospolitej Obojga Narodow Warszawa, 1995

*Анатоль Грыцкевіч*

**«ПАЦЫФІКА́ЦЫЯ»** (лац pacificatio уціхамірванне), адна з пашыраных форм рэпрэсіўнай палітыкі польскіх акупац улад супраць удзельнікаў рэв вызв руху ў Зах Беларусі і Зах Украіне Выкарыстоўвалася з пач 1920-х г супраць бел сялянства ў мэтах ліквідацыі сац базы партыз руху Найб размах набыла ў 1930-я г ў перыяд сусв эканам крызісу ў сувязі з пагаршэннем эканам становішча сялян і іх выступленнямі супраць падатковага цяжару, палітыкі *камасацыі, парцэляцыі* і ліквідацыі *сервітутаў* Для «ўціхамірвання» бел сялян пасылаліся карныя экспедыцыі з паліцыі, корпуса пагранахoвы Паводле прызнання міністра ўнутр спраў Польшчы Перацкага, у 1932 на Палессі ў такіх «экспедыцыях» удзельнічалі сотні паліцэйскіх, 4 эскадроны корпуса пагранахoвы У ходзе «П» карныя атрады у ахопленых сял выступленнямі мясцовасцях учынялі масавыя экзекуцыі і пагромы (разбуралі жыллё сялян, знішчалі маемасць), арыштоўвалі актывістаў камуніст руху Асабліва пашырылася практыка карных экспедыцый пасля забойства ў чэрв 1934 членамі *Арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістаў* Перацкага У 2-й пал 1934 у Брэсцкім і Пружанскім пав ад карных экспедыцый пацярпелі 23 вескі, у 1935 у Брэсцкай акр разгромлена каля 70 весак Масавыя экзекуцыі праводзіліся і ў Беластоцкім, Навагрудскім ваяв «П» сярэдзіны 1930-х г была вынікам узмацнення рэакцыйных, антыдэмакр тэндэнцый ва ўнутрыпаліт жыцці краіны

*Літ* Революционный путь Компартии За-

падной Белоруссии (1921—1939 гг.) Мн, 1966; Ладысев В.Ф. В борьбе за демократические права и свободы. Мн, 1988
*Уладзімір Ладысеў*

**ПАЦЯРУ́ХА** Сцяпан Піліпавіч [14(27).8.1904, в. Калядзічы Пружанскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Пружанскага р-на Брэсцкай вобл. — 7.3.1982], дзеяч рэв. руху ў Зах. Беларусі. Скончыў Рэсп. парт. школу пры ЦК КПБ (1953). За ўдзел у стварэнні арг-цыі КПЗБ у Палескім ваяв. ў 1925—27 зняволены ў турму. З 1928 сакратар Пружанскага падп. райкома КПЗБ. Адзін з кіраўнікоў забастоўкі лесарубаў Белавежскай пушчы (1932). У 1932—37 зняволены ў турму, у 1938—39 у Бяроза-Картузскім канцлагеры. Пасля вызвалення Зах. Беларусі нам. старшыні Пружанскага, старшыня Поразаўскага райвыканкомаў. У Вял. Айч. вайну нам. упаўнаважанага ЦК КП(б)Б па Брэсцкай вобл., член Брэсцкага падп. абкома, сакратар Пружанскага падп. райкома КП(б)Б. У чэрв.—ліп. 1943 камісар партыз. брыгады імя Панамарэнкі Брэсцкай вобл. Пасля вайны на парт. рабоце ў Брэсцкай вобл. Дэп. ВС СССР (1940—46).

*Літ.*: У суровын гады падполля. Мн., 1958.
*Міхась Клімец.*

**ПАЦЯРЫ́К** (грэч. Paterikon ад patēr айцец), агульная назва зборнікаў дыдактычных навел пра жыццё і подзвігі хрысціянскіх манахаў, а таксама збораў іх павучальных выказванняў. Першапачаткова (з 4 ст.) — адзін з жанраў візант. л-ры. Паводле паходжання, зместу, ідэйнай накіраванасці і жанравай формы блізкія да *агіяграфічнай літаратуры*, таму навелы з П. нярэдка ўключаліся ў пролагі, «мінеі-чэцці» і інш. зборнікі. Падзяляюцца на жыццяпісы падзвіжнікаў (Егіпецкі, Рымскі, Сінайскі П.), іх выказванні і павучанні (Алфавітны, Іерусалімскі, Скіцкі П.). Грэч. П. перакладзены паўд. славянамі і з 11—12 ст. перайшлі ў стараж.-рус. л-ру. Самы стараж. на Русі Сінайскі П. («Ліманар») — пераклад зборніка навел візант. пісьменніка Іаана Мосха (6—7 ст.), што з'явіўся ў выніку падарожжа аўтара па Б. Усходзе. Шырока быў вядомы Азбучны П., дзе змешчаны жыцці, дыдактычныя аповесці і гутаркі пакутнікаў у алфавітным парадку іх імён. На ўзор перакладных на Русі было створана шмат мясц. П., з якіх найб. выдатны «Кіева-Пячэрскі пацярык». У 16 ст. па ініцыятыве маск. мітрапаліта Макарыя складзены «Вялікія Чэцці-Мінеі», куды ўвайшлі вядомыя на той час П. Частка гэтага збору выдадзена ў канцы 19 — пач. 20 ст. П. былі пашыраны сярод праваслаў. насельніцтва Беларусі. Служылі ўмацаванню царк.-рэліг. светапогляду, аскетычных хрысціянскіх ідэалаў. Маюць пэўнае гіст.-літ. і пазнавальнае значэнне як сведчанні густаў, уяўленняў і захапленняў людзей эпохі сярэдневякоўя. Адыгралі станоўчую ролю ў развіцці апавядальнай прозы ўсх. славян.

*Публ.*: Синайский патерик: (Текст и палеогр. описание). М., 1967.

*Літ.*: История русской литературы. Т. 1. М.; Л., 1941.
*Уладзімір Свяжынскі.*

С.З. **Пачанін.**

**ПАЧА́НІН** Сцяпан Захаравіч [н. 12(25).4.1913, с.Ківаць Сенгілеeўскага пав. Сімбірскай губ., цяпер у Кузаватаўскім р-не Ульянаўскай вобл.], бел. гісторык. Д-р гіст. н. (1968), праф. (1969). Скончыў ВПШ пры ЦК ВКП(б) (1944), Мінскі пед. ін-т імя М.Горкага (1952). З 1931 настаўнік. З 1941 на парт. рабоце. У 1946 нам. дырэктара Рэсп. парт. школы пры ЦК КП(б)Б. Са снеж. 1946 у апараце ЦК КП(б)Б; у 1955—85 нам. дырэктара Ін-та гісторыі партыі пры ЦК КПБ. Распрацоўвае праблемы гісторыі Кастр. рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, сацыяліст. будаўніцтва, патрыят падполля ў Вял. Айч. вайну на Беларусі Адзін з аўтараў «Нарысаў гісторыі Камуністычнай партыі Беларусі» (ч. 1, 1968), «Гісторыі грамадзянскай вайны ў СССР» (т. 3, 1958), кнігі «Вялікі Кастрычнік» (1958), кіраўнік аўтарскага калектыву і рэдактар кн. «У памяці народнай» (1969), складальнік і рэдактар дакумент. публікацый, у т.л. «Пісьмы працоўных Беларусі У.І.Леніну» (2-е выд. 1969), «Жыццё аддanae народу» (1978).

*Тв.*: В грозовом восемнадцатом. Мн., 1969, Большевики Белоруссии в борьбе за победу Советской власти // Великий Октябрь — торжество идей марксизма-ленинизма. Мн., 1970; Приговоренные: Разбирая архивы тридцатых // Неман. 1989. № 8; Возмездие // Коммунист Белоруссии. 1989. № 10; «Зялёны дуб» // Беларусь. 1989. № 11; Крывавы генерал // Полымя. 1990. № 4.

**ПАЧА́ПАВА**, вёска, цэнтр сельсавета і саўгаса «Пачапаўскі» ў Баранавіцкім р-не на р. Пачапаўка. За 40 км на ПнЗ ад Баранавіч, 8 км ад чыг. ст. Моўчадзь 289 ж., 122 двары (1998).

У 18 ст. належала Корсакам. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, цэнтр воласці Навагрудскага пав. У 1-й пал. 1880-х г. у П. 204 ж., 20 двароў, валаснoe праўленне, земскае нар. вучылішча, царква. На пач. 20 ст. ў вёсцы 345 ж., 50 двароў. З 1921 у складзе Польшчы, у Навагрудскім пав. Навагрудскага ваяв. З 1939 у БССР, у Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай вобл. З 1940 цэнтр сельсавета, 311 ж., 83 двары. У Вял. Айч. вайну ў маі 1943 гітлераўцы спалілі ў П. 64 двары і загубілі 41 жыхара. У П. сярэдняя школа, клуб, б-ка, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Брацкая магіла партызан, помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.
*Ганна Дулеба*

М. **Пачобут-Адляніцкі.**

**ПАЧО́БУТ-АДЛЯНІ́ЦКІ** Марцін [30.10 1728, в. Саломенка Гродзенскага пав., цяпер у Гродзенскім р-не — 8(20).2 1810], бел. астраном, матэматык, асветнік. Чл. Каралеўскай АН у Лондане (1769), чл.-кар. Франц. каралеўскай акадэміі (1778), правадз. чл. Т-ва сяброў навук у Варшаве (1801). З 1745 чл. ордэна *езуітаў*. Скончыў *Гродзенскі езуіцкі калегіум* (1745), вывучаў матэматычныя і астранамічныя навукі ў Чэхіі, Германіі, Італіі, Францыі. З 1764 праф. Віленскай езуіцкай акадэміі (пасля скасавання ордэна езуітаў у 1773 — Гал. школа ВКЛ, з 1795 — Гал. Віленская школа), у 1780—99 яе рэктар. Надаў працэсу навучання амаль свецкі характар Адзін з арганізатараў і першы кіраўнік (1764—1807) Віленскай астранамічнай абсерваторыі. У 1773 прапанаваў каралю Рэчы Паспалітай Станіславу Аўгусту Панятоўскаму стварыць у Вільні акадэмію навук. Падтрымаў *Канстытуцыю 3 мая 1791*, удзельнік *паўстання 1794*, уваходзіў у рэв. ўрад ВКЛ. Вітаў пераўтварэнне ў 1803 Гал. школы ў *Віленскі універсітэт*, з нагоды чаго прысвяціў оду рас. імператару Аляксандру І. У 1774—90 быў рэдактарам «Gazety Wileńskiej» («Віленскай газеты»), дзе паслядоўна праводзіў асв. ідэі, даваў ацэнку паліт. і прававым праблемам.

*Літ.*: Гусев М. Столетнее существование Виленской обсерватории, 1753—1853. Вильна, 1853.
*Вячаслаў Шалькевіч*

**ПАЧО́БУТ-АДЛЯНІ́ЦКІ** Ян Уладзіслаў (26.6.1640—23.5.1703), вайсковы дзеяч ВКЛ, удзельнік *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*, пісьменнік. З шля-

хецкага роду, які з 15 ст жыў на Гродзеншчыне У 1658 паступіў у казацкую харугву паспалітага рушэння ротмістра М Шэмета, ваяваў у Трокскім пав супраць войск Ю Далгарукава і супраць шведаў у Жамойці, у 1659 — у Курляндыі Удзельнік бітваў на р Бася (8 10 1660), каля Дынабурга (5 3 1661), на р Дзісна (жн —ліст 1661) Зімой 1663—64 удзельнічаў у няўдалай выправе караля Яна II Казіміра за Дняпро У 1666, 1675, 1679, 1680 і 1698 выбіраўся дэпутатам Трыбунала ВКЛ Удзельнічаў у абранні каралеў Міхала Вішнявецкага (1669) і Яна III Сабескага (1674) У 1684 атрымаў пасаду стольніка ашмянскага У 1698 змагаўся ў барацьбе з Сапегамі на баку прыхільнікаў захавання шляхецкіх вольнасцей Пакінуў успаміны і дзеннік (з 1680) «Нататкі мае і дыярыуш маей службы ваеннай», у якіх адлюстраваны падзеі 1640—84 Асн ўвага ў іх звернута на ваен падзеі 1650—60 х г, таму яго мемуары сталі першараднай гіст крыніцай Упершыню твор выдадзены Л Патоцкім і Ю Крашэўскім у 1877

*Тв* Pamiętnik Warszawa, 1987, Бел пер — Запіскі і дыярыуш Яна Уладзіслава Пачобута-Адляніцкага // Полымя 1998 № 1—2

*Літ* Sajkowski A. Nad staropolskimi pamiętnikami Poznań, 1964

Ц А. **Пачтароў**

**ПАЧО́ПКА** Баляслаў Антонавіч (падпісваў творы а Б а л я с л а ў, крыптанімамі В Р , В Р-ко, 1884, Віцебская губ — 26 12 1940), бел культурна-асветніцкі і рэліг дзеяч Вучыўся ў Віленскай духоўнай каталіцкай семінарыі (1905—07) З 1913 заг аддзела рэлігіі, у 1914—15 рэдактар-выдавец газ *«Беларус»* У 1916—18 дырэктар *Свіслацкай настаўніцкай семінарыі* У 1925 пасвячоны ў грэка-каталіцкага святара, з 17 9 1926 *пробашч* Бабровіцкага прыходу (Косаўскі пав, цяпер у Івацэвіцкім р-не) Удзельнік уніяцкіх канферэнцый у Пінску (1932, 1933), дзе выступаў па пытаннях удакладнення ўсх абраду За прыхільнасць да бел мовы і культуры праследаваўся польскімі ўладамі Памер пасля збіцця невядомымі Аўтар кніг на бел мове лацінскімі літарамі (выдадзены ў Вільні) «Жыцце папежа Піюса Х» (1914), «Чалавек на вышыні сваей годнасці», «Бог з намі Беларускі малітэўнік» (1915), «Святы Езафат Кунцэвіч» (1916), «Граматыка беларускай мовы» (1918), «Як вучыць жыць і верыць св Хрыстова Паўсюдная Царква» (1932) і рукапіснай спадчыны Друкаваўся ў перыяд выданнях *«Гоман»*, *«Беларуская крыніца»*, *«Хрысціянская думка»*, *«Да злучэння»*

*Янка Трацяк*

**ПАЧТАРО́Ў** Цімафей Аляксеевіч [21 10(3 11) 1913, в Каласы Рагачоўскага р-на — 18 2 1992], Герой Сав Саюза (1945) Скончыў Севастопальскае ваенна-марское вучылішча берагавой абароны (1938), Ваенна-марскую акадэмію (1955) У Чырв Арміі з 1934 Удзельнік сав-фінл вайны 1939—40 У Вял Айч вайну ўдзельнік абароны Ленінграда, вайны з Японіяй Аператар берагавой артылерыі штаба Петрапаўлаўскай ваенна-марской базы Ціхаакіянскага флоту маер П вызначыўся 18 8 1945 у час высадкі дэсанта на в-аў Шумшу батальен на чале з ім захапіў на востраве камандныя вышыні, штаб батальена ворага, адбіў 3 контратакі, чым забяспечыў плацдарм для высадкі гал сіл дэсанта Да 1957 у ВМФ, потым у нар гаспадарцы Яго імем названы мыс на в-ве Шумшу

**«ПАЧЫНА́ЛЬНІКІ»**, зборнік гістарычна-літаратурных матэрыялаў 19 ст, выдадзены ў 1977 у Мінску Падрыхтаваны гісторыкам і літаратуразнаўцам Г В *Кісялевым* У ім змешчаны дакументы пра жыцце і дзейнасць бел пісьменнікаў А Абуховіча, П Багрыма, Ф Багушэвіча, Я Баршчэўскага, А Вярыгі-Дарэўскага, А Гурыновіча, В Дуніна-Марцінкевіча, А Ельскага, В Каратынскага, Я Лучыны, А Рыпінскага, В Савіч-Заблоцкага, Я Чачота, а таксама інш матэрыялы пра тагачаснае літаратурнае жыцце (пісьмы, артыкулы, рэцэнзіі, успаміны, матэрыялы цэнзуры, дакументы пра ўдзел у вызв і рэв руху, грамадскім жыцці і інш ) У зборнік уваходзяць і новыя матэрыялы, выяўленыя Кісялевым у сховішчах Мінска, Вільнюса, Санкт-Пецярбурга, Масквы, Кіева, Кракава Звесткі пра няўключаныя ў зборнік дакументы прыведзены ў каментарыях і бібліяграфіі дакументальных публікацый за 1923—76, змешчанай у дадатку Польскія тэксты надрукаваны на бел мове, бел, рус, польскія вершаваныя — на мове арыгінала Змешчаны 33 ілюстрацыі, есць іменны паказальнік Гэтае выданне стала пачаткам археаграфічнай серыі, куды ўваходзяць зборнікі *«Пуцявінамі Янкі Купалы»* і *«З жыццяпісу Якуба Коласа»*

*Літ* Мархель У Дакумент дасягненняў // Полымя 1978 № 3 *Віталь Скалабан*

**ПАШАКО́ЎСКІ** Ян Антоні (1 3 1684, Упіцкі пав — 3 6 1757), педагог, гісторык, тэолаг ВКЛ Д-р філасофіі (1718) Вучыўся ў езуіцкай гімназіі ў Коўне, навіцыяце ў Вільні, у Нясвіжскай пед семінарыі (1702—03), Віленскай акадэміі У 1713 пасвячоны ў святары У 1714—15 выкладаў у Ковенскай гімназіі, у 1716 — у Крожах, у 1717 дырэктар Ковенскай гімназіі З 1718 праф філасофіі Віленскай акадэміі, з 1721 дырэктар курсаў і загадчык гаспадаркі Нясвіжскага калегіума Адначасова выхавальнік Г Ф Радзівіла З 1735 рэктар Слуцкага калегіума У 1739 адышоў ад пед і адм дзейнасці і асеў у Нясвіжы, дзе ўвесь час прысвяціў напісанню шматлікіх тэалагічных, палемічных, гіст прац, чаму садзейнічала карыстанне багатымі бібліятэчнымі зборамі Радзівілаў Гал справай яго жыцця стала асв дзейнасць па стварэнні і выданні календароў За 1737—49 выдаў у Вільні 20 календароў, якімі паклаў пачатак віленскага перыяд друку У адрозненне ад каляндарнай традыцыі П выключыў са сваіх выданняў астралогію, прагностыку і інш забабоны, а запоўніў іх звесткамі з гісторыі і культуры Беларусі і Літвы Меў на мэце перш за ўсе заахвоціць моладзь да чытання гіст прац, тым больш, што ў 1739 у езуіцкіх навуч установах было уведзена выкладанне гісторыі П лічаць першым папулярызатарам гіст навукі ў ВКЛ Ен выдаў працы па гісторыі Рэфармацыі «Гісторыя лютарская » (1745), «Гісторыя кальвінская пра пачатак, прагрэс і занепад гэтай секты ў Францыі» (т 1—3, 1747), «Гісторыя пра пачатак адступніцтва англіканскай царквы» (1748) і інш Склаў біягр слоўнік езуітаў ВКЛ Апошнія гады жыцця працаваў над гісторыяй царквы ў Рэчы Паспалітай, якая засталася незавершанай Памер у Нясвіжы

**ПАШКЕ́ВІЧ** (Paszkiewicz) Генрык (10 3 1897, г Лодзь, Польшча — 8 12 1979), польскі гісторык Чл-кар Польск АН у Кракаве (1945), д-р габілітаваны (1927), праф надзвычайны (1939) Вучыўся ў Варшаўскім ун-це, дзе з 1928 выкладаў гісторыю Усх Еўропы перыяду сярэдневякоўя, адначасова ў 1934—39 выкладчык, пасля кіраўнік кафедры сярэдневяковай гісторыі Вольнага польскага ун-та ў Варшаве Удзельнік вайны 1939, да 1945 зняволены ў канцлагеры Мураў У 1945—47 у Італіі, праводзіў даследаванні ў Ватыканскім архіве, з 1948 у эміграцыі ў Вялікабрытаніі У 1948—69 узначальваў кафедру гісторыі сярэдневякоўя Польскага ун-та ў замежжы Даследаваў гісторыю ВКЛ, палітыку Польшчы ў адносінах да Літвы, Беларусі, Украіны, Расіі перыяду феадалізму Аўтар прац «Руская палітыка Казіміра Вялікага» (1925), «Ягелоны і Масква Т 1 Літва і Масква ў XIII і XIV ст » (1933), «Аб паходжанні і значэнні Крэва» (1938), «Паходжанне Расіі» (1954), «Стварэнне рускай нацыі» (1963), «Уздым магутнасці Масквы» (1983) Склаў на лацінскай мове і выдаў «Рэгесты крыніц да гісторыі Літвы са

адным з аўтарам канцэпцыі ўтварэння ВКЛ, якая акрэсліла кірунак развіцця гіст навукі ў СССР Паводле П, у 1-й пал 13 ст на тэр сучаснай Літвы ўтварылася раннефеад балцкая дзяржава, якая ў сваім развіцці прайшла 3 этапы канфедэрацыя зямель, потым іх саюз і раннефеад манархія Захоп літ феадаламі Беларусі лічыў пачаткам пераўтварэння невял Літ дзяржавы ў ВКЛ Пісаў пра сінтэз грамадскага ладу Літвы са значна больш развітымі феад ін-тамі Беларусі, але не прызнаваў за бел землямі актыўнай ролі ў стварэнні ВКЛ Падтрымліваў тэзіс пра шматвяковае імкненне беларусаў да ўз'яднання з Расіяй

*Тв* Очерки по истории Галицко-Волынской Руси М, 1950, Героическая борьба русского народа за независимость (XIII в) М, 1956, Образование Литовского государства М, 1959, Древнерусское государство и его международное значение М, 1965 (у сааўт), Внешняя политика Древней Руси М, 1968, Реваншисты — псевдоисторики России М, 1971, Древнерусское наследие и исторические судьбы славянства М, 1982 (разам з Б М Флорам, Г Л Харашкевіч)

**ПАШЭ́НДА** (Paszenda) Ежы (н 28 9 1932, г Тыхі Сілезскага ваяв, Польшча), польскі гісторык мастацтва Скончыў Люблінскі каталіцкі ун-т (1955), вывучаў філасофію ў Кракаве і тэалогію ў Варшаве Чл ордэна *езуітаў* (1955) Даследуе архітэктуру і манум мастацтва езуітаў на землях Польшчы, Беларусі, Украіны, Літвы Аўтар многіх публікацый па гісторыі помнікаў архітэктуры Гродна, Нясвіжа, Мінска і інш гарадоў Беларусі

*Тв* Słownik jezuitów artystów Kraków, 1972 (разам з Е Папляткам), Święta Lipka Olsztyn, 1996

**ПЕДАГАГІ́ЧНЫЯ ТАВАРЫ́СТВЫ** грамадскія арг-цыі навуковага, асветнага, дабрачыннага, місіянерскага характару Узніклі ў Расіі ў канцы 18 — пач 19 ст Іх мэтай было пашырэнне пісьменнасці і асветы, удзел у распрацоўцы актуальных праблем тэорыі і практыкі навучання і выхавання, садзейнічанне розным відам пазашкольнай, жаночай і прафесійнай адукацыі У канцы 19 ст пры губернскіх і павятовых земствах пачалі стварацца к-ты і камісіі па нар адукацыі Царскі ўрад узяў іх дзейнасць пад кантроль Паводле статутаў П т, зацверджаных Мін-вам унутр спраў, паліт дзейнасць у іх была забаронена Урадавым указам ад 7 7 1902 П т перададзены ў распараджэнне Мін-ва нар адукацыі У Беларусі П т ўзніклі ў канцы 19 — пач 20 ст у Віцебску (1897), Мінску (1901), Магілеве (1901), Брэсце і Гродне (1907) Магілеўскае П т мела філіялы ў Быхаве, Гомелі, Горках, Калінкавічах, Мсціславе, Оршы, Рагачове, Чавусах і Чэрыкаве (1909—10) Т-вы займаліся распаўсюджаннем метадаў і прыемаў навучання і выхавання, перадавых пед ідэй, абменам вопытам выкладчыцкай працы, папулярызацыяй падручнікаў і дапаможнікаў, павышэннем кваліфікацыі настаўнікаў На агульных сходах П т заслухоўваліся даклады, лекцыі і рэфераты па пытаннях педагогікі, гісторыі У маі 1907 настаўнікі з'езд у Вільні заснаваў Бел настаўніцкі саюз, які выступаў за перабудову нац адукацыі на прынцыпах свабоды і дэмакратыі, павышэнне грамадскай самасвядомасці, навучанне на роднай мове, аўтаномію школы і настаўніка, права на стварэнне к-таў для кантролю за выкладчыцкай працай П т ў Беларусі ствараліся на аснове «Нарматыўнага Статута таварыства ўзаемнай дапамогі навучэнцам і настаўнікам» (1894) У пач 20 ст некат т-вы выдавалі часопісы «Педагогическое дело» (Гродна, 1911—14), «Голос учителя», «Белорусский учитель» і «Белорусский учительский вестник» (Віцебск, адпаведна 1908, 1909 і 1910—11) У Вільні дзейнічала школьная камісія *Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны* (1915 — сярэдзіна 1920) Яна адкрывала першыя бел школы, распрацоўвала праграмы, выдавала падручнікі, прызначала настаўнікаў, вяла курсавую перападрыхтоўку, арганізоўвала бясплатныя сталоўкі і інтэрнаты Актыўнымі яе членамі былі А Пашкевіч (Цетка), Б Пачобка, А і І Луцкевічы У ліп 1917 у Мінску створаны Бел вучыцельскі хаўрус (існаваў да 1920), які садзейнічаў адкрыццю бел школ і ставіў за мэту перавод пачатковых і вышэйшых навуч устаноў на родную мову Заснавальнікамі хаўрусу былі Я Лесік, М Мароз і інш У снеж 1917 узнікла *Беларускае культурна-асветнае таварыства* ў Бабруйску, у склад якога ўваходзілі выкладчыкі мясц гімназіі, супрацоўнікі гар б-кі і інш У 1919 у Мінску заснавана П т пад старшынствам Я Ф Карскага, працавалі секцыі роднай мовы, агульнай педагогікі, гісторыі, фізіка-матэматычная і інш У 1920 у Мінску ва ўмовах польскай акупацыі дзейнічала *Беларуская цэнтральная школьная рада*, якая адкрывала бел школы, займалася культ-асв працай, супрацьдзейнічала палітыцы *паланізацыі* Падобныя арг-цыі існавалі па-за межамі Беларусі ў Латвіі (гл ў арт *«Бацькаўшчына»*) Масавы характар набыла дзейнасць бел арг-цый у Зах Беларусі У пач 1920-х г *Цэнтральная беларуская рада Віленшчыны і Гродзеншчыны* змагалася супраць закрыцця польскімі ўладамі бел школ Існавалі арг-цыі, якія аб'ядноўвалі не толькі педагогаў, але ўсіх тых, хто працаваў на развіццё бел асветы (гл *Беларускае дабрачыннае таварыства*, 1920—30-я г) Самай вялікай культ-асв арг-цыяй у Зах Беларусі было *Таварыства беларускай школы* (1921—37), заснаванае Б Тарашкевічам шляхам аб'яднання Бел школьнай рады (Вільня) і Т-ва бел школы (Радашковічы) З 1929 да 1937 дзейнічаў Бел прафесійны вучыцельскі саюз (Вільня), які падтрымліваў бел школьніцтва, займаўся абаронай прафесійных інтарэсаў настаўнікаў У Коўне у 1932—35 існавала *Беларускае культурна-асветнае таварыства*, якое займалася пашырэннем бел асветы сярод беларусаў у Літве У Сав Беларусі П т пачалі стварацца на ўзор нац-адраджэнскіх арг-цый, якія дзейнічалі ў першыя гады пасля рэвалюцыі, потым — арг-цый, якія вялі барацьбу за бел школьніцтва ў Зах Беларусі *Беларуская культурна-навуковая грамада* ў Барысаве (з 1922), *Цэнтральнае бюро краязнаўства* (з 1923) пры Інбелкульце і інш У СССР у 1929—35 існавала т-ва педагогаў-марксістаў на чале з Н К Крупскай, А В Луначарскім, А С Бубнавым і інш Асабліва масавай навук-асв арг-цыяй стала ў 1947 Усесаюзнае т-ва па распаўсюджанні паліт і навук ведаў, з 1963 — т-ва *«Веды»* Асн яго ядро склалі педагогі, як самы дзейсны патэнцыял у фарміраванні камуніст светапогляду, а таксама вучоныя, дзеячы мастацтва і л-ры, урачы, інжынерна-тэхн работнікі і інш Сваім аднародна прафесійным складам вылучалася П т Беларускай ССР (засн ў 1972), што садзейнічала навук распрацоўкам праблем навучання і выхавання, укаранення перадавога пед вопыту У канцы 1980 — пач 1990-х г узніклі новыя т-вы, якія займаюцца пытаннямі беларускамоўнага навучання і выхавання, рознымі аспектамі пед дзейнасці Т-ва бел мовы імя Ф Скарыны (з 1989), Гарадскі бацькоўскі к-т беларускамоўных школ і класаў Мінска (з 1988), Бел асацыяцыя дырэктараў школ (з 1989), Асацыяцыя бел настаўнікаў (з 1991), Т-ва бел школы (з 1996) і інш Гл таксама *Беларускія настаўніцкія саюзы*

*Алесь Лозка, Мікалай Марчанка*

**«ПЕДАГОГИ́ЧЕСКОЕ ДЕ́ЛО»**, часопіс Гродзенскага пед т-ва Выдаваўся ў 1911—14 у Гродне на рус мове Рэдактары І І Астравумаў і Д М Кротаў Меў 2 асобныя часткі матэрыялы для педагогаў і бацькоў і матэрыялы для вучнеўскай аўдыторыі Друкаваліся метадычныя распрацоўкі, бібліягр агляды, справаздачы аб пед курсах і вучнеўскіх экскурсіях, маст творы, нататкі бел настаўнікаў Да ўдзелу ў выданні часопіса прыцягваліся вучні мясц навуч устаноў Выдадзена 12 нумароў

*Валянціна Астрога*

**ПЕКАСІ́НСКІ** (Piekosiński) Францішак Ксаверы (3 2 1844, в Вярцаны Ропчыцкага пав, Польшча — 27 11 1906), польскі гісторык Чл АН у Кракаве (1878), д-р (1870) Скончыў Кракаўскі ун-т (1865) Працаваў юрыстам, банкаўскім служачым, у 1887—89 архіварыус, з 1892 дырэктар Краевага архіва земскіх і гродскіх актаў у Кракаве, адначасова з 1891 праф старапольскага права Кракаўскага ун-та Буйнейшы выдавец сярэдневяковых дакументаў, у т л апублікаваў гербоўнік шляхты ВКЛ 17 ст А *Каяловіча* (1897), гербоўнік віцебскай шляхты 18 ст (1899), Статут ВКЛ 1566 (1900) Лічыў, што Польск дзяржава ўзнікла ў выніку нашэсця славянскай дружыны з ніжняй Лабы, а дружыннікі, якія былі пад моцным уплывам нарма-

1943 на Цэнтр , Бел , 1-м і 2-м Бел франтах Удзельнік Курскай бітвы, вызвалення Беларусі, Польшчы Камандзір роты лейт П вызначыўся 20 4 1945, калі рота на чале з ім адной з першых фарсіравала Одэр на Пд ад г Шчэцін, захапіла плацдарм, П знішчыў варожы танк, 22 крас ў баі за вышыню П першы дасягнуў яе і паранены адзін утрымліваў да падыходу асн сіл Да 1947 і ў 1951—69 у Сав Арміі, потым на адм -гасп рабоце

**ПЕРАБРО́ДДЗЕ**, веска, цэнтр сельсавета ў Міёрскім р-не, паміж азерамі Абстэрна і Набіста На аўтадарозе Міёры—Браслаў За 18 км на З ад горада і 16 км ад чыг ст Міёры 360 ж , 143 двары (1998)

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст ў складзе Браслаўскага пав Віленскага ваяв ВКЛ Паводле прывілея вял кн ВКЛ Жыгімонта II Аўгуста ад 25 2 1571 атрымала самакіраванне У 1782 цэнтр воласці, уладанне Ю Касакоўскага, пабудаваны драўляная уніяцкая царква св Юрыя, школа У 1790 у П 200 ж , 23 дамы, карчма Прывілей 1792 вял кн ВКЛ і караля польскага Станіслава Аўгуста Панятоўскага дазваляў жыхарам П выбіраць бургамістра, войтаў, будаваць крамы і корчмы, займацца рознымі рамествамі П атрымала герб у блакітным полі гарчычная харугва з сярэбранымі галунамі З 1793 П у Рас імперыі Правы на самакіраванне пацверджаны Сенатам у 1820 і 1823 У сярэдзіне 1860-х г П — мястэчка, 294 ж , 37 двароў У канцы 19 ст П — цэнтр воласці Дзісенскага пав Віленскай губ У 1897 — 675 ж , правасл царква З 1921 у складзе Польшчы, цэнтр гміны Браслаўскага пав Віленскага ваяв З 1939 у БССР, з 12 10 1940 цэнтр сельсавета ў Міёрскім р-не У Вял Айч вайну ням -фаш захопнікі часткова спалілі веску, загубілі 16 жыхароў У 1992 у П 374 ж , 123 двары Цэнтр калгаса «Кастрычніцкая рэвалюцыя» Сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч -акушэрскі пункт, аддз сувязі, магазін Помнік землякам, якія загінулі ў Вял Айч вайну *Язэп Бунто*

**ПЕРАБУДО́ВА**, тэрмін, які ўвайшоў у шырокі ўжытак з сярэдзіны 1980-х г і абазначаў курс на рэфармаванне сац -эканам і паліт сістэмы ў СССР Пачата па ініцыятыве Ген сакратара ЦК КПСС М С Гарбачова і яго бліжэйшых паплечнікаў (А.М Якаўлеў, Э А.Шэварднадзе і інш ) Асн зместам П аб'яўлялася дэмакратызацыя грамадскага жыцця і радыкальная эканам рэформа, якія знайшлі адлюстраванне ў матэрыялах студзеньскага і чэрвеньскага (абодва 1987) пленумаў ЦК КПСС, XIX Усесаюзнай парт канферэнцыі (чэрв 1988) У выніку пачатых П працэсаў разам з пэўнымі зрухамі ў дэмакратызацыі грамадства адбылося абвастрэнне крызісу ў многіх сферах жыцця, узніклі ваен канфлікты ў шэрагу рэгіёнаў, распалася сістэма краін сацыяліст садружнасці, перастаў існаваць Сав Саюз Былыя саюзныя рэспублікі сталі суверэннымі дзяржавамі, у т л БССР — Рэспублікай Беларусь, большасць з іх утварылі *Садружнасць Незалежных Дзяржаў*

М Л Перавалоцкі

М І Перавознікаў

**ПЕРАВАЛО́ЦКІ** Мікалай Лаўрэнцьевіч (псеўд Антон, Тарас, Янка, 1903, в Яглевічы Слонімскага пав Гродзенскай губ , цяпер Івацэвіцкі р-н — 6 11 1937), дзеяч рэв -вызв руху ў Зах Беларусі Скончыў Мінскую школу КПЗБ (1927) З 1923 сакратар Косаўскага райкома, чл Баранавіцкага, сакратар Брэсцкага, Пінскага акр к-таў КПЗБ З 1928 член ЦК КПЗБ Неаднойчы быў арыштаваны На *«працэсе 75 і»* (1929) выступіў з прамовай у абарону палітыкі і тактыкі КПЗБ, засуджаны на 15 гадоў турэмнага зняволення З 1932 у СССР па абмене палітзняволенымі У 1937 арыштаваны, абвінавачаны ў сувязі з «пасламі ад КПЗБ» у польскім сейме П Валошыным, С Рак-Міхайлоўскім, Б Тарашкевічам і расстраляны Рэабілітаваны ў канцы 1980-х г *Васіль Ласковіч*

**ПЕРАВО́ЗНІКАЎ** Мікіта Іосіфавіч [14(27) 1 1908, в Чачэвічы Быхаўскага пав , цяпер Быхаўскага р-на — 6 10 1966], поўны кавалер ордэна Славы Працаваў у органах НКУС У Вял Айч вайну з лютага 1942 у партызанах, з 1944 на фронце Пам камандзіра ўзвода ст сяржант П вызначыўся ў баях на тэр Польшчы 19 8 1944 у час бою адзін з першых уварваўся ў варожыя траншэі, паранены не пакінуў поля бою, 21 12 1944 у баі на Віслінскім плацдарме ў ням тыле прыкрыў адыход групы разведчыкаў, 22 2 1945 у баі за г Познань захапіў апорны пункт ворага, адбіў 2 контратакі Пасля вайны працаваў у нар гаспадарцы

**ПЕРАДЗЕ́ЛЫ ЗЯМЕ́ЛЬНЫЯ** ў Расійскай імперыі, спосаб перыядычнага аднаўлення сельскай абшчынай ураўняльнасці землекарыстання, якая пастаянна парушалася зменай складу сям'і і колькасці двароў абшчыннікаў Пры феадалізме П з праводзілі або кантралявалі памешчыкі Пасля *сялянскай рэформы 1861* яны сталі выключна функцыяй пазямельнай *абшчыны* і вызначаліся патрабаваннем $^2/_3$ гаспадароў дамоў на сельскім сходзе Мэта П з — раўнамерная надзяленне сялян зямлей аднолькавай якасці для падтрымання іх плацежаздольнасці і ўзнаўлення рабочай сілы сял сям'і Падзяляліся на агульныя, прыватныя і т зв пераверсткі Агульныя (усіх двароў) П з праводзіліся праз шэраг гадоў, прыватныя (перадача зямлі з адной сям'і ў другую пры змене іх люднасці або канфіскацыі надзелаў нядоімшчыкаў) — штогод Пераверсткі азначалі прымусовы абмен раўнацэннымі зямельнымі ўчасткамі, каб зменшыць цераспалосіцу У 1893 прыняты шэраг правіл, якія абмяжоўвалі правы сялян на агульныя П з (не часцей як праз 12 гадоў) і ўзяты пад кантроль *земскіх участковых начальнікаў*, прыватныя перадзелы дапускаліся толькі ў выключных выпадках На пач 20 ст абшчынную зямлю перадзялялі ўсе радзей У Беларусі П з праводзіліся ва ўсх паветах, дзе часткова існавала абшчыннае ўладанне ворнай зямлеи і сенажацямі Размеркаванне надзельных зямель адбывалася пераважна па колькасці наяўных работнікаў (мужчын ці ўсіх членаў сям'і) Пасля адмены прыгону назіраліся агульныя (праз 13—18 гадоў) і прыватныя П з , якія, аднак, не атрымалі значнага пашырэння Агульныя П з адсутнічалі ў большасці паселішчаў з абшчынным землеўладаннем Працяглая адсутнасць П з павялічвала няроўнасць у размеркаванні зямлі ў абшчыне, узмацняла працэс дыферэнцыяцыі сялянства У ходзе *Сталыпінскай аграрнай рэформы* ў адпаведнасці з законам ад 14 6 1910 усе абшчыны, у якіх не было агульных П з з часу іх надзялення зям лей, былі абавязаны перайсці да пад ворнага землеўладання П з адрадзіліся пасля Кастр рэвалюцыі 1917 з ажыц

цяўленнем *дэкрэта аб зямлі* ў весцы Спыніліся з ліквідацыяй сельскай пазямельнай абшчыны ў ходзе суцэльнай *калектывізацыі*

*Літ* Анфимов А.М, Зырьянов П Н Некоторые черты эволюции русской крестьянской общины в пореформенный период (1861—1914 гг) // История СССР 1980 № 4, Панютич В П Социально-экономическое развитие белорусской деревни в 1861—1900 гг Мн, 1990

*Вячаслаў Панюціч*

**ПЕРАЛО́М**, веска ў Гожаўскім с/с Гродзенскага р-на За 26 км на Пн ад Гродна і чыг ст Гродна 25 ж, 11 двароў (1998)

Вядома з 14 ст, калі тут быў пабудаваны драўляны замак для аховы межаў ВКЛ ад нападаў Тэўтонскага ордэна У 1378 каля П адбылася бітва паміж ліцвінамі і крыжакамі на чале з Тэадорыкам Эльтнерам, якія спалілі ўсе навакольле Пазней цэнтр староства Гродзенскага пав Трокскага ваяв Двары П і Ожа (цяпер Гожа) з валасцямі кіраваліся адным намеснікам (дзяржаўцам), сярод намеснікаў ожскіх і пераломскіх былі вядомыя дзярж дзеячы ВКЛ І Л Глінскі (гл *Глінскія*), Ю Я Забярэзінскі (гл *Забярэзінскія*), ваявода падляшскі Я Касцевіч і інш З 1569 двор П залічаны ў каралеўскія маенткі З 1795 у складзе Рас імперыі, з 1801 у Гродзенскай губ У 1861 уладанне К Сільвястровіча У жн 1861 у П адбылося выступленне сялян супраць выкананяя інвентарных павіннасцей, задушанае войскамі У 1885 веска Гожаўскай вол Гродзенскага пав, 131 ж, 10 двароў, касцел У 1921—39 у складзе Полышчы, у Гожаўскай гміне Гродзенскага пав Беластоцкага ваяв У 1921 веска (151 ж) і фальварак (15 ж) З 1939 у БССР, з 12 10 1940 у Плябанішкаўскім с/с Парэцкага, з 25 11 1940 — Гродзенскага р-на З 16 7 1954 у Гожаўскім с/с

*Вольга Князева*

**ПЕРАМЕ́ШЧАНЫЯ АСО́БЫ**, асобы, прымусова вывезеныя ў час 2-й сусв вайны гітлераўцамі і іх памагатымі з акупіраваных герм войскамі краін для выкарыстання гал чынам у якасці таннай рабочай сілы З тэр Беларусі было вывезена 399 тыс чал на працу ў Германію З іх каля 200 тыс чал вярнуліся на радзіму да пач 1946 Пасля заканчэння вайны СССР заключыў з зах дзяржавамі пагадненні аб *рэпатрыяцыі* П а з ліку сав грамадзян (пагадненні паміж СССР, Вялікабрытаніяй і ЗША ад 11 2 1945, СССР і Бельгіяй ад 13 3 1945, СССР і Францыяй ад 26 6 1945) Але зах дзяржавы не лічылі сав грамадзянамі тых, хто да 1 9 1939 быў грамадзянінам Польшчы, а таксама тых, хто жыў у Латвіі, Літве і Эстоніі да іх уключэння ў склад СССР у 1940 У зах зонах Германіі і Аўстрыі было больш за 250 тыс такіх асоб Ад 75 да 100 тыс беларусаў (з іх каля $^2/_3$ паходзілі з Зах Беларусі), што знаходзіліся ў Зах Германіі, выраішылі не вяртацца ў Беларусь П а перайшлі пад апеку Адміністрацыі Аб'яднаных Нацый у справах дапамогі і аднаўленні (ЮНРРА), а пасля яе роспуску — Міжнар арг-цыі па правах бежанцаў (МАБ), якая дзейнічала ў 1946—51 На тэр Зах Германіі і Аўстрыі існавала каля 20 бел лагераў для П а Яны мелі самакіраванне са сваей уласнай адміністрацыяй, сац і культ установамі У лагерах пачалася паліт дзейнасць і фарміраванне 2 асн паліт плыней пасляваен бел эміграцыі прыхільнікаў *Беларускай Народнай Рэспублікі* і *Беларускай цэнтральнай рады* Вакол праблемы бежанцаў і П а разгарнулася вострая паліт і дыпламат барацьба паміж СССР і зах дзяржавамі Сав дыпламатыя, у т.л дэлегацыі БССР і УССР, выступала за поўную і неадкладную рэпатрыяцыю ўсіх сав грамадзян Зах дзяржавы лічылі неабходным не прымушаць да вяртання на радзіму пры ўмове кансультацыі з зацікаўленымі ўрадамі, калі гэта не пярэчыць выдачы і пакаранню *ваенных злачынцаў* Зах пазіцыя знайшла адлюстраванне ў рэзалюцыі 1-й сесіі Ген Асамблеі ААН 12 2 1946 На 2-й частцы сесіі Ген Асамблеі (ліст 1946) дэлегацыі СССР, БССР і УССР выступілі супраць стварэння МАБ, якая сваей асн задачай лічыла не рэпатрыяцыю бежанцаў і П а, а іх перасяленне ў краіны, што не з'яўляліся дзяржавамі іх паходжання Зах краіны, якія падтрымлівалі гэты статутны кірунак МАБ, зыходзілі з таго, што бежанцы і П а не жадаюць вяртацца на радзіму З 1 7 1947 да 31 8 1949 МАБ рэпатрыіравала 66 тыс чал і рассяліла па інш краінах каля 600 тыс чал На 4, 5 і 6-й сесіях Ген Асамблеі ААН (1949—52) дэлегацыя БССР уносіла амаль адзін і той жа праект рэзалюцыі аб бежанцах і беспадданых, у якім прапаноўвала неадкладна завяршыць рэпатрыяцыю бежанцаў і П а, адзначыць невыкананне ўрадамі ЗША, Вялікабрытаніі, Францыі і некат інш краін рэзалюцыі Ген Асамблеі ААН ад 12 2 1946, асудзіць палітыку МАБ, скіраваную на падмену рэпатрыяцыі «прымусовым» перасяленнем асоб у зах краіны, рэкамендавала ўрадам даць Сакратарыяту ААН поўныя звесткі пра бежанцаў і П а на тэрыторыі іх краін Бел прапановы былі адхілены, паколькі мелі сваей перадумовай не вырашэнне праблем бежанцаў, а асуджэнне палітыкі зах дзяржаў і адпаведных органаў ААН У сярэдзіне 1950-х г пытанне аб бежанцах і П а у сувязі з іх рассяленнем у зах краінах знікла як міжнар праблема У 1951 замест МАБ створана Упраўленне Вярх камісара ААН па справах бежанцаў (УВКБ), якое мае на мэце ажыццяўленне міжнар прававой абароны бежанцаў і П а У Канвенцыі аб статусе бежанцаў (1951) тэрмін «П а» не ўжываецца У 1960-я г ў практыцы УВКБ назіраецца тэндэнцыя прымяняць яго да некат катэгорый «унутраных» бежанцаў — асоб, якія ня добраахвотна пакінулі якую-н частку сваей краіны і вымушаны былі пасяліцца ў інш яе частцы Часам іх называюць «вымушанымі перасяленцамі»

*Літ* Вініцкі А. Матэр'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гг Лос-Анжэлес, Мн, 1994, Кіпель В Беларусы ў ЗША. Мн, 1993, Найдзюк Я, Касяк І Беларусь учора і сяньня Папул нарыс з гісторыі Беларусі Мн, 1993, Международное право М, 1994, Снапкоўскі У Е Знешнепалітычная дзейнасць Беларусі, 1944—1953 гг Мн, 1997

*Уладзімір Снапкоўскі*

**ПЕРАНАСЯЛЕ́ННЕ АГРА́РНАЕ**, форма адноснага перанасялення і беспрацоўя ў сельскай гаспадарцы пры капіталізме, які, пранікаючы на веску, разбурае гаспадарку дробных таваравытворцаў-сялян Накапленне капіталу ў с-г вытворчасці вядзе да змяншэння попыту на рабочую сілу, частка якой становіцца «лішняй» Адрозніваюць П а, калі вясковая бедната не можа знайсці працы на месцы па-за межамі сваей гаспадаркі, і перанасяленне сельскіх наемных рабочых, якія працуюць дома па заказах гандл і прамысл прадпрыемстваў У выніку дзеяння ў бурж грамадстве ўсеагульнага закону капіталіст накаплення значная частка сельскага, пераважна сялянскага насельніцтва ўвесь час знаходзіцца ў пераходным стане да ператварэння ў гар пралетарыят У Рас імперыі, у т.л на Беларусі, ва ўмовах панавання капіталу ў с-г вытв-сці П а мела капіталіст характар На яго павелічэнне ўплывала і наяўнасць перажыткаў прыгонніцтва (панскае латыфундыяльнае землеўладанне, *адработкі*, выкупныя плацяжы і інш) П а ахоплівала вял колькасць збяднелых сял гаспадарак у канцы 19 — пач 20 ст у Еўрап Расіі яны складалі каля паловы сял гаспадарак, на Беларусі — 60—70% Лішняе сельскае насельніцтва вымушана было ісці на заработкі ў горад, на прамысл прадпрыемствы, займацца *адыходніцтвам*, перасяляцца ў інш рэгіены ці за мяжу (гл *Перасяленства*, *Эміграцыя*) У Еўрап Расіі ў 1890 П а ахоплівала 8,3 млн чал, у 1900 — 23 млн, у 1913 — каля 30 млн, у 5 зах губернях у 1890 — 1,1 млн, у 1900 — 2 млн чал У СССР П а і беспрацоўе былі ліквідаваны

*Літ* Маркс К Капітал Т 1 Мн 1952 Ленін У І Да характарыстыкі эканамічнага рамантызму // Тв Т 2 (Полн собр соч Т 2), Панютич В П Из истории формирования пролетариата Белоруссии, 1861—1914 гг Мн, 1969, История СССР с древнейших времен до наших дней Т 5—6 М, 1968

*Вячаслаў Панюціч*

**ПЕ́РАПІСЫ НАСЕ́ЛЬНІЦТВА**, працэсы збору дэмаграфічных, эканам і сац звестак, якія характарызуюць у пэўны момант часу кожнага жыхара краіны, а таксама працэсы зводзення, апрацоўкі і публікацыі гэтых даных Перапісы даюць звесткі пра колькасць, склад і размяшчэнне насельніцтва, неабходныя для арганізацыі сац-эканам жыцця краіны П н ў іх сучасным разуменні папярэднічалі ўлікі насельніцтва яшчэ з 3-га тыс да н э ў дзяржавах Азіі і Афрыкі Ёсць звесткі пра ўлік насельніцтва ў Егіпце (каля 2800 — каля 2250 да

тычна азначала абвяшчэнне вайны Рэчы Паспалітай (гл *Вайна Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*)

**ПЕРСАНА́ЛЬНАЯ У́НІЯ**, гл *Асабістая унія*

**ПЕРХАРО́ВІЧ** Франц Іосіфавіч [16(28) 5 1894, в Заляддзе Барысаўскага пав, цяпер Докшыцкага р-на — 11 10 1961], Герой Сав Саюза (1945), ген -лейтэнант (1945) Вучыўся ў Ваен акадэміі імя Фрунзе (1932), скончыў курсы «Выстрал» (1941) У арміі з 1915, у Чырв Арміі з 1918 Удзельнік 1-й сусв і грамадз войнаў З 1921 камандзір асобнай роты, нач штаба стралк палка, нач аддзялення ў штабе ваен акругі З 1939 на выкладчыцкай рабоце У Вял Айч вайну з 1941 на Зах, Варонежскім, 1-м Укр, 1-м і 3-м Бел франтах камандзір палка, дывізіі, корпуса, камандуючы арміяй Удзельнік абароны Масквы, вызвалення Украіны, Польшчы, Вісла-Одэрскай і Берлінскай аперацый Вызначыўся ў 1945 на чале арміі ў баях за вызваленне Варшавы Да 1951 у Сав Арміі

Ф І Перхаровіч

**ПЕ́РЦАЎ** Уладзімір Мікалаевіч [15(27) 7 1877, г Курск — 3 6 1960], бел гісторык і грамадскі дзеяч Акад АН БССР (1940), д-р гіст н (1935) Засл дзеяч навукі БССР (1944) Скончыў гіст -філал ф-т Маск ун-та (1903) У час вучобы ва ун-це ўдзельнічаў у студэнцкіх хваляваннях (у 1899 і 1901 выключаўся з ун-та) Працаваў у навуч установах Масквы У 1903—17 апублікаваў некалькі дзесяткаў артыкулаў па ўсеагульнай гісторыі, рэцэнзій, аглядаў гіст л-ры У 1912—16 выпусціў «Падручнік старажытнай гісторыі» (ч 1 — Грэцыя, ч 2 — Гісторыя Рыма) Пасля Кастр рэвалюцыі праф Смаленскага ун-та (1918) і Маскоўскага пед ін-та (1918—21) З 1922 праф і заг кафедры сярэдніх вякоў, з 1953 усеаг гісторыі ў БДУ Адначасова ў 1943—59 акад -сакратар Аддз грамадскіх навук АН БССР У час Вял Айч вайны эвакуіраваўся ў тыл, працаваў прафесарам і заг кафедры гісторыі Удмурцкага пед ін-та (г Іжэўск) Уваходзіў у склад дэлегацыі БССР на канферэнцыі ААН у Сан-Францыска ў 1945, дзе быў падпісаны статут ААН Аўтар прац па ўсеаг гісторыі, гісторыі грамадскай думкі, гісторыі і гістарыяграфіі Беларусі Адзін з аўтараў і рэдактараў «Гісторыі Беларускай ССР» (т 1, 1954, 2-е выд, 1961), аўтар раздзелаў па гістарыяграфіі Беларусі ў «Нарысах гісторыі гістарычнай навукі ў СССР» (т 1—3, 1955—63) Дэп Вярх Савета БССР у 1947—60

*Тв* Очерки новой истории (XVI—XIX вв) 3 изд М, 1918 (разам з А.А Яфімавай), Гогенцоллерны М, 1918, Экономическое развитие Англии в XIX в Мн, 1924, Германия в XVIII в Мн, 1953, Внутренний строй Пруссии перед завоеванием ее немцами // Уч зап БГУ Сер историческая 1955 Вып 23, Очерк истории Германии XVIII в Мн 1959

*Літ* П'янкоў А У М Перцаў // Полымя 1947 № 12, Шабуня К І Вучоны і грамадзянін // Весці АН БССР Сер грамад навук 1977 № 4

У М Перцаў

**ПЕРШАБЫТНААБШЧЫ́ННЫ ЛАД**, *грамадска-эканамічная фармацыя*, якая ахоплівае перыяд ад з'яўлення першых людзей і да ўзнікнення класавага грамадства Паводле археал перыядызацыі супадае з ***каменным векам*** Паняцце П л як грамадска-эканам фармацыі выкарыстоўваецца ў марксісцкай гіст навуцы Для П л характэрны пastуповыя біял эвалюцыя чалавека, узаемаабумоўленасць абшчынных, родавых і эканам сувязей паміж людзьмі, калектыўная ўласнасць на сродкі вытв-сці, ураўняльнае размеркаванне сродкаў існавання Асн рысы грамадства ў гэту эпоху — эвалюцыя родаплемяннога ладу і архаічныя формы сям'і Пра пачатковы перыяд П л існуюць розныя пункты гледжання Самы ранні яго перыяд, калі адбывалася станаўленне чалавека і грамадства, многія вучоныя называюць перыядам першабытнага чалавечага статка або праабшчыны Першабытны чалавечы статак большасць даследчыкаў уключае ў П л у якасці яго 1-га этапу Другія лічаць, што паняцце П л як грамадска-эканам фармацыі можна ўжываць толькі для абазначэння ступеней эвалюцыі і фарміравання грамадства таму з П л яны суадносяць толькі пачатковую стадыю развіцця грамадства якое папярэднічае ўзнікненню класаў і дзяржавы

*Літ* Алексеев В П, Першиц А И История первобытного общества М 1990 История первобытного общества Т 1—3 М 1983—88, Семенов Ю И На заре человеческой истории М 1989 *Ігар Язэпенка*

**ПЕРШАБЫТНАЕ МАСТАЦТВА**, мастацтва эпохі *першабытнаабшчыннага ладу* Зарадзілася і развівалася як рэальная патрэба эстэтычнага асэнсавання жыцця, абумоўленая грамадска-прац дзейнасцю стараж чалавека Зародкавыя элементы П м ўзніклі ў сярэднепалеалітычную эпоху (*мусцье*) Аднак толькі калі ў Еўропе распаўсюдзіліся людзі сучаснага тыпу (40—30 тыс г назад), зарадзіліся і пачалі развівацца розныя формы мастацтва, найперш выяўленчае і дэкаратыўна-прыкладное З позняга *палеаліту* вядомы паліхромныя наскальныя размалёўкі (пераважна з тэр Францыі і Іспаніі), гравіроўкі на косці і камені, у т л арнаменты, барэльефныя выявы, скульптура малых форм, сярод якой асабліва вылучаюцца «палеалітычныя Венеры», распаўсюджаныя ад Францыі да Сібіры Аб'ектамі маст творчасці былі пераважна буйныя жывёлы і чалавек, адлюстроўваліся культы плоднасці і паляўнічая магія Для П м фінальнапалеалітычных і мезалітычных плямён раўнін Цэнтр і Усх Еўропы найб характэрныя гравіраваныя арнаменты з наразных зігзагаў стылізаваныя выявы звяроў і мужчын паляўнічых на касцяных вырабах У Паўд-Зах Еўропе вядомы наскальныя малюнкі з дынамічнымі кампазіцыямі паляванняў і бітваў лучнікаў З зараджэннем у *неаліце* земляробства і жывёлагадоўлі ўзнікла неабходнасць асэнсавання складаных паняццяў плоднасці зямлі, уплыву агню, нябесных свяціл і прыродных з'яў Гэта знайшло адлюстраванне найперш у абстрактных сімвалах, сярод якіх асаблівае месца пачынаюць займаць зігзаг, крыж — знак сонца і агню, трохкутнік — знак плоднасці У раенах развітога земляробства шырока вядомы гліняныя скульптурныя выявы жанчыны — багіні ўрадлівасці Асн аб'ектам арнаментальнай творчасці першабытнага чалавека робіцца гліняны посуд Неалітычныя плямёны ляснои зоны, у жыцці якіх па-ранейшаму важнае месца займалі прысвойвальныя формы гаспадаркі, працягвалі развіваць формы П м, звязаныя пераважна з культам жывёл, божастваў у вобразах паляўнічых, з паляўнічай магіяй У бронзавым веку (2-е — пач 1-га тыс да н э) назіраецца пэўны заняпад выяўленчага мастацтва, аднак адбываецца далейшае развіццё дэкаратыўна-пры

кладнога мастацтва Выпрацоўваецца раз настайная па форме кераміка, яе арнаментацыя нярэдка набывае ўскладнены характар, шырока вядомыя абстрагаваныя сімвалы, звязаныя з земляробчымі культамі, традыцыйныя ўпрыгожанні з зубоў і бурштыну дапаўняюцца меднымі аздабленнямі Пры пераходзе да жал веку (з пач 1-га тыс да н э ) сярод жывелагадоўчага насельніцтва еўразійскіх стэпаў у П м пачынае фарміравацца т зв «звярыны стыль» У лясной зоне працягвае развівацца мастацтва, звязанае ў значнай ступені з земляробчай міфалогіяй Асаблівасцю новай эпохі сталі збядненне арнаментаў на гліняным посудзе, выклікаиае верагодна, распаўсюджаннем тканай і вышыванай арнаментацыі на вопратцы, з'яўленне арнаментаваных гліняных праселак, а таксама шырокае ўжыванне металічных (пераважна медных) упрыгожанняў На тэр Беларусі знаходкі выяўл і дэкар прыкладнога П м вядомы з мезалітычнага часу (арнаментаваныя касцяныя наканечнікі, гравіраваныя выявы мужчын і звяроў на фрагментах касцей з воз Вячэра Любанскага р-на, жазло з-пад Смаргоні) На неалітычных стаянках Беларусі, заселеных пераважна паляўнічымі, рыбаловамі і збіральнікамі, сустракаюцца арнаментаваныя касцяныя вырабы, упрыгожанні з косці, зубоў, бурштыну, дробныя пластычныя выявы людзей, жывел і птушак з дрэва, рогу, косці (стаянкі Крывінскага тарфяніку Камень-8 Пінскага р-на) Арнамент на керамічным посудзе пераважна штампаваны і пракрэслены, складзены з ямак, наколаў, насечак, грабеньчатых адбіткаў, лініі У некат выпадках арнаменты дапаўняліся схематычнымі выявамі дрэў, птушак, людзей, міфалагічных сюжэтаў (Скема-1, Крывіна-1, *Юравічы*) На познанеалітычных паселішчах Крывінскага тарфяніку знойдзены і самыя стараж на тэр Беларусі музычныя інструменты (фрагменты жалеек з трубчастых касцей) У канцы неаліту і ў бронзавым веку з развіццем касмаганічных культаў у арнаментацыі (асабліва на плоскіх днах керамікі) паявіліся сімвалічныя выявы нябесных свяціл а таксама сімвалы плоднасці, што асабліва назіраецца на матэрыялах *шнуравой керамікі культуры* У гэты ж час распаўсюджваюцца аздобы з прыбалтыйскага бурштыну, якія дапаўняюць традыц *падвескі* і *пацеркі* з зубоў і касцяных пласцінак Адкрыццё выплаўкі медзі прывяло да паяўлення металічных упрыгожанняў (дыядэмы, бранзалеты і інш з могільнікаў Падняпроўя) Аднак у цэлым для ранніх этапаў бронзавага веку Беларусі характэрна суіснаванне маст традыцый мясц паляўнічых з абстрактным стылем маст творчасці земляробаў У жалезным веку на Беларусі развівалася пераважна дэкар прыкладное мастацтва — узорамі з грохвугольнікаў, ялінак, салярных знакаў пакрываліся гліняныя праселкі, шырока вядомы разнастайныя медныя ўпрыгожанні, нярэдка з чаканным або гравіраваным арнаментам — *фібулы*, *скроневыя кольцы*, *пярсцёнкі*, *бранзалеты*, спражкі і інш , часам аздобленыя каляровымі эмалямі (Абідзенскія эмалі, *Тайманава* Быхаўскага р-на) На паселішчах паўд Беларусі сустракаюцца гліняныя фігуркі жывел (*Гарошкаў* Рэчыцкага р-на) Буйныя скульптурныя формы, характэрныя для канца жал веку, прадстаўлены каменнымі ідаламі У П м жал веку на тэр Беларусі адчуваюцца ўплывы з Прычарнамор'я, Цэнтр Еўропы і Прыбалтыйскага рэгіена

*Літ* Гісторыя беларускага мастацтва Т 1 Мн , 1987 *Міхась Чарняўскі*

**ПЕРШАЕ БЕЛАРУ́СКАЕ ТАВАРЫСТВА ДРА́МЫ І КАМЕ́ДЫІ** Існавала ў крас 1917 — сярэдзіне 1920 у Мінску Створана Ф *Ждановічам* (арганізатар, кіраўнік, рэжысер) пры ўдзеле І *Буйніцкага* і У Фальскага Адкрылася 23 крас спектаклямі «Паўлінка» Я Ку-

Да арт **Першабытнаабшчынны лад** На паселішчы старажытных земляробаў 3 мал 3 Бурыяна

Да арт **Першабытнае мастацтва** Першабытны мастак 3 мал 3 Бурыяна

палы і «У зімовы вечар» паводле Э Ажэшкі ў памяшканні Мінскага гар тэатра Потым працавала ў клубе «*Беларуская хатка*» У т-ва ўваходзілі ўдзельнікі драм гурткоў, хор (кіраўнік У Тэраускі), танц група (кіраўнік Ч Родзевіч) і аркестр нар інструментаў (кіраўнік Дз Захар) Значнай падзеяй была першая пастаноўка т-вам п'есы Я Купалы «Раскіданае гняздо» (10 7 1917) Калектыў развіваўся на прафес аснове і ў сваей дзейнасці апіраўся на нар традыцыі *Першай беларускай трупы Ігната Буйніцкага* Пасля спектакляў звычайна наладжваліся дэкламацыі, выконваліся нар танцы і песні У складаных умовах ням і польск акупацыі т-ва адыграла важную ролю ў культ жыцці Беларусі, у станаўленні бел прафес тэатр мастацтва Група выязджала ў Барысаў, Жлобін, Заслаўе, Койданава (Дзяржынск), Оршу, Радашковічы і інш Пры ўдзеле членаў т-ва былі створаны «Беларускі савецкі тэатр» і Мінскае таварыства працаўнікоў мастацтва У 1920 з адкрыццем у Мінску Бел дзярж тэатра (з 1944 Бел тэатр імя Я Купалы) значная частка калектыву ўвайшла ў яго трупу і т-ва спыніла сваю дзейнасць У розны час у трупу ўваходзілі В Адуцкевіч, Т Бандарчык, Я Беларус, В Вашкевіч, У Галубок, Г Грыгоніс, Р Жакоўскі, І Жандовіч, В Жылінскі, М Зароская, А Іваноў, А Крынiца, М Кудзелька (М Чарот), Я Лабаноўская, М Лабаноўскі, А Ліпніцкая (Ліпнічанка), К Міронава, М Міцкевіч, П Мядзелка, Л Навахацкая, П і Я Раткевіч (Раткевічанкі), Л Ржэцкая, К Саннікаў, Е Станкевіч, С Станюта, В Тарасік, Ядвігін Ш і інш Сярод пастановак «Паўлінка» і «Раскіданае гняздо» Я Купалы, «Антось Лата» Я Коласа, «Пісаравы імяніны», «Апошняе спатканне» і «Бязвінная кроў» У Галубка, «Модны шляхцюк» К Каганца,




Пячатка **Першага беларускага таварыства драмы і камедыі**

«Пінская шляхта» В Дуніна-Марцінкевіча, «Мікітаў лапаць» М Чарота, «Сягонняшнія і даўнейшыя» К Буйло, «У зімовы вечар» і «Хам» паводле Ажэшкі, «Сватанне» А Чэхава і інш

*Літ* Рамановіч Я С Рэкі цякуць з ручаеў Мн 1969, Атрошчанка А Я Фларыян Жданович Мн, 1972, Гісторыя беларускага тэатра Т 1—2 Мн, 1983—85
*Уладзімір Няфед*

**ПЕРШАМА́ЙСКІ**, рабочы паселак, цэнтр пасялковага Савета ў Лідскім р-не На аўтадарозе Ліда—Іўе За 8 км на У ад г Ліды 1,5 тыс ж (1998)

Узнік у працэсе буд-ва на тарфяным масіве торфапрадпрыемства «40 гадоў БССР» (1959) 12 6 1964 паселак пераўтвораны ў р п Першамайскі Працуюць торфабрыкетны з-д «Лідскі», прыемны пункт камбіната быт абслугоўвання Сярэдняя і муз школы, яслі-сад, Дом культуры, б-ка, амбулаторыя, аптэка, аддз сувязі, магазіны *Ганна Дулеба*

**ПЕРШАМА́ЙСКІЯ ВЫСТУПЛЕ́ННІ ПРАЦО́ЎНЫХ У БЕЛАРУ́СІ** Як міжнар свята салідарнасці працоўных адзначалася паводле рашэння 1-га Парыжскага (1889) кангрэса Інтэрнацыянала ў памяць пра выступленне і барацьбу з паліцыяй рабочых Чыкага ў маі 1886 На Беларусі ўпершыню адзначана ў 1895 на тайным сходзе 40 рабочых Мінска З 1896, нягледзячы на забарону ўлады, Першамай адзначалі працоўныя Гомеля, Гродна, Магілева, Смаргоні Да пач 20 ст святкаванне праходзіла ў форме тайных маевак, якія на працягу шэрагу гадоў былі гал фактарам росту паліт свядомасці рабочых У пач 20 ст, пад уплывам рэв партый, святкаванне 1-га Мая набыло паліт афарбоўку У 1903 першамайскія забастоўкі адбыліся ў Гомелі, Гродне, Мінску, Магілеве, Мазыры, Оршы, Рэчыцы, Смаргоні, Шклове, Парычах, Ветцы, агульная колькасць іх удзельнікаў дасягнула 11 тыс, у Барысаве, Віцебску, Пінску адбыліся мітынгі У 1905 першамайскія стачкі, дэманстрацыі, сходы пад лозунгамі «Далоў самадзяржаўе!», «Няхай жыве дэмакратычная рэспубліка!» прайшлі амаль ва ўсіх гарадах і мястэчках Беларусі Пасля рэвалюцыі 1905—07 першамайскі рух пачаў затухаць, але яго традыцыі захаваліся Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 адбылося першае ў гісторыі Расіі і Беларусі легальнае святкаванне Першамая, з 1918 ён стаў афіц дзярж святам у Расіі, Беларусі і многіх інш дзяржавах

*Літ* Первое Мая в царской России 1890—1916 гг М, 1939, Почебут Г А Первомай Л, 1961 *Уладзімір Філякоў*

**ПЕ́РШАЯ АБЛАСНА́Я КАНФЕРЭ́НЦЫЯ АРГАНІЗА́ЦЫЙ РСДРП ПАЎНО́ЧНА-ЗАХО́ДНЯГА КРА́Ю** Адбылася ў жн 1905 у Мінску Склікана ЦК РСДРП у ходзе падрыхтоўкі агульнарасійскай канферэнцыі с д партый, каб вызначыць метады байкоту Булыгінскай думы Прысутнічалі дэлегаты Палескага, Дзвінскага, Рыжскага, Смаленскага к-таў Паўн-Зах саюза, Віленскай, Мінскай, Віцебскай, Смаргонскай, Гомельскай і Бабруйскай арг-цый РСДРП, Цэнтр групы Варшаўскай ваенна-рэв арг-цыі, прадстаўнік ЦК РСДРП Дз С Пасталоўскі Разгледжаны пытанні аб Дзярж думе, аб аб'яднанні партыі, аб адносінах да нац с-д партый і інш Стварыла Бюро арг-цый РСДРП Паўн-Зах краю для падрыхтоўкі чарговай абл канферэнцыі і выдання на нац мовах агульнай абл газеты Выбрала дэлегата на міжпарт канферэнцыю, якую меркаваў склікаць ЦК РСДРП

**ПЕ́РШАЯ БЕЛАРУ́СКАЯ ТРУ́ПА ІГНА́ТА БУЙНІ́ЦКАГА**, прафесійны бел тэатр Існавала ў 1907—13 Створана па ініцыятыве акцёра і тэатр дзеяча І *Буйніцкага* ў фальварку Палівачы Дзісенскага пав Віленскай губ (цяпер Глыбоцкі р-н) Узнікла на аснове бел вечарынак, аматарскіх «сямейных» спектакляў і да 1910 мела аматарскі характар Трупа праводзіла асв работу, шмат зрабіла для развіцця самадз творчасці прапаганды бел мастацтва, стварыла асновы нац прафес тэатра Пад уплывам яе дзейнасці і традыцый у крас 1917 узнікла *Першае беларускае таварыства драмы і камедыі* Калектыў шмат гастраліраваў па Беларусі (Мінск, По

Артысты **Першага беларускага таварыства драмы і камедыі** Мінск 1917

**Першая беларуская трупа Ігната Буйніцкага** ў час выступлення на этнаграфічным вечары ў Пецярбургу 1912

лацк, Слуцк, Дзісна, Нясвіж, Смаргонь, Капыль), у Вільні (1910), Пецярбургу (1911 і 1912), Варшаве (1913) У праграму паказаў спачатку ўваходзілі бел нар песні танцы, дэкламацыя вершаў і апавяданняў на роднай мове, невялікія п'есы З 1910 паказы складаліся з некалькіх самастойных частак 1—2 п'ес, дэкламацый, спеваў і танцаў Тэатр прытрымліваўся нар традыцый і вылучаўся сінтэтычным характарам сваёй творчасці і рэаліст накіраванасцю У нескладаным сцэнічным афармленні выкарыстоўваліся элементы бел нар выяўл мастацтва, акцёры выступалі ў бел нац касцюмах Сярод драм выканаўцаў вызначаліся Буйніцкі (іграў характарна драм ролі), А Бурбіс, Крапівіха (*Цётка*), А Забэль (З Абрамовіч), сярод музыкантаў — Дз Крывадубаў (Нягенка) і І Голер, сярод спевакоў — Я Феакцістаў, сярод танцораў — Буйніцкі, яго дочкі Ванда і Алена, Ч, Л і Я Родзевічы Музычнай часткай кіраваў Л *Рагоўскі* Рэжысёрамі былі А Аляксенка, Бурбіс і інш У рэпертуары пастаноўкі «Модны шляхцюк» К Каганца, «У зімовы вечар» і «Хам» паводле Э Ажэшкі, «Сватанне» і «Мядзведзь» А Чэхава, «Па рэвізіі» М Крапіўніцкага, «Міхалка» Далецкіх, вершы Я Купалы, Я Коласа, Я Лучыны, А Паўловіча, песні «Чаму ж мне не пець», «Дуда-весялуха», «За гарамі, за лясамі» і інш, танцы «Юрка», «Гняваш», «Верабей», «Лявоніха», «Мельнік», «Мяцелца» і інш

*Літ* Н я ф е д У Беларускі тэатр Нарыс гісторыі Мн, 1959, Я г о ж Гісторыя беларускага тэатра Мн, 1982, Я г о ж Ігнат Буйніцкі — бацька беларускага тэатра Мн, 1991, Гісторыя беларускага тэатра Т 1 Мн, 1983
*Уладзімір Няфёд*

**ПЕ́РШАЯ КАНФЕРЭ́НЦЫЯ АБЛАСНО́ГА САЮ́ЗА РСДРП ЛІТВЫ́ І БЕЛАРУ́СІ** Адбылася ў кастр 1906 у Віцебску Па 1 дэлегату ад Мінскай, Віцебскай, Смаргонскай, Віленскай, Ковенскай груп, Дзвінскай раённай арг-цыі, Смаленскага к-та РСДРП, прадстаўнікі ЦК і Абл к-та Саюза РСДРП ЛіБ Разглядала пытанні рэкруцкай кампаніі, рэзалюцыю ЦК адносна аб'яднання з Бундам, аб выбарчай кампаніі ў II Дзярж думу, аб парт з'ездзе, аб агульнапарт канферэнцыі, аб рабоце сярод сялян і чыгуначнікаў, аб арганізацыі вобласці і інш Пастанавіла ўзмацніць агітацыю сярод рэкрутаў, удзельнічаць у выбарах у Дзярж думу, выказалася супраць заключэння выбарчых платформ з інш партыямі, за самастойнасць сацыял-дэмакратыі як адзінай паліт партыі рабочага класа, дала ацэнку Дзярж думы як нац цэнтра, які павінен падрыхтаваць скліканне Устаноўчага сходу рэв шляхам У адпаведнасці з рашэннямі IV з'езда партыі вызначыла парадак аб'яднання арг-цый РСДРП і Бунда

**ПЕ́РШАЯ КАНФЕРЭ́НЦЫЯ ВІ́ЛЕНСКАЙ АКРУГО́ВАЙ АРГАНІЗА́ЦЫІ РСДРП**, адбылася ў студз 1906 у Вільні Прысутнічалі дэлегаты ад Ашмянскай, Гродзенскай, Лідскай, Свянцянскай і Смаргонскай арг-цый (груп) РСДРП Афармліла аб'яднанне ўсіх груп Віленскага р-на ў акруговую арг-цыю пры Віленскім к-це РСДРП Прызнала групы самастойнымі ў пытаннях унутр жыцця, але абавязала ўзгадняць паліт выступленні з Віленскім к-там РСДРП Выказалася за перагляд агр праграмы РСДРП на бліжэйшым агульнапарт з'ездзе Гал задачай с -д на вёсцы прыняла згуртаванне пралетарскіх і паўпралетарскіх элементаў вакол РСДРП, абарону іх класавых інтарэсаў, узмацненне рэв -дэмакр руху сял мас, павышэнне іх паліт свядомасці і арганізаванасці Выказалася за стварэнне сял арг-цыі, якая складалася б з мясц і цэнтр груп, за выданне для сялян папулярнага друк органа Канфер адыграла важную ролю ў ажыўленні парт работы на вёсцы і ўзмацненні сял руху ў раёне

**ПЕ́РШАЯ КАНФЕРЭ́НЦЫЯ КАМПА́РТЫІ ЛІТВЫ́ І ЗАХО́ДНЯЙ БЕЛАРУ́СІ** Адбылася нелегальна 15 9 1918 у в Ужбаляй Марыямпальскага пав Сувалкаўскай губ (цяпер Марыямпальскі р-н Літвы) Прысутнічала 20 дэлегатаў ад камуніст арг-цый Панявежскага і Сувалкаўскага рэгіёнаў, у т л госці Разгледзела пытанне аб праграме і тактыцы партыі Прыняла рашэнне ў сваёй дзейнасці кіравацца праграмай РКП(б), а яе тактыку прымяняць ва ўмовах Літвы Была пастаўлена задача барацьбы за сацыяліст рэвалюцыю ў краі Асудзіла бурж і дробнабурж партыі, якія дзейнічалі ў Літве, заклікала парт арг-цыі весці з імі рашучую барацьбу Сацыял-дэмакр партыю Літвы ахарактарызавала як варожую інтарэсам рабочага руху, а *Літоўскую Тарыбу* — як сродак занявольвання працоўных Канферэнцыя не выбрала кіруючы парт орган, а прыняла рашэнне прымкнуць да Часовага цэнтр бюро партыі, створанага ў жн 1918 У яго былі накіраваны 4 дэлегаты канферэнцыі з мэтай наладзіць сувязь паміж парт арг-цыямі Адыграла важную ролю ў стварэнні *Камуністычнай партыі Літвы і Заходняй Беларусі*, падрыхтоўцы *Першага з'езда Кампартыі Літвы і Заходняй Беларусі*
*Уладзімір Міхнюк*

**ПЕ́РШАЯ КАНФЕРЭ́НЦЫЯ КПЗБ** (у с т а н о ў ч а я) Адбылася нелегальна ў канцы кастр 1923 у Вільні, прысутнічала 9 дэлегатаў ад Беластоцкага, Брэсцкага і Віленскага акр к-таў Кампартыі Польшчы (КПРП), якія прадстаўлялі большасць нелегальных камуніст арг-цый Зах Беларусі Склікана ў адпаведнасці з рашэннямі II з'езда КПРП пра неабходнасць стварэння «беларускай тэрытарыяльнай арганізацыі» Дакументальных звестак аб канферэнцыі захавалася мала Адным з галоўных ініцыятараў яе склікання быў сакратар ЦБ КП(б)Б В А Багуцкі, які адначасова выконваў функцыі прадстаўніка ЦК КПРП пры ЦК КП(б)Б Гэта была фактычна другая спроба знайсці форму аб'яднання нелегальных камуніст арг-цый Зах Беларусі (першая спроба зроблена ў пач 1923 стварэннем Літ -Бел абл к-та, падначаленага непасрэдна ЦК КПРП) Паводле рашэнняў канферэнцыі *Камуністычная партыя Заходняй Беларусі* (КПЗБ) павінна была дзейнічаць на правах тэр -аўтаномнай арг-цыі ў складзе адзінай КПРП у адпаведнасці з яе праграмнымі ўстаноўкамі, рэалізаванымі на перамогу сацыяліст рэвалюцыі і ўстанаўленне рабоча-сял ўрада, ліквідацыю памешчыцкага землеўладання і перадачу зямлі сялянам без выкупу, за права самавызначэння Зах Беларусі, уз'яднанне яе з БССР У склад абранага ЦК КПЗБ увайшлі С А Дубовік (Балюк), А Буксгорн (Юльскі), С А Мертэнс (Скульскі), С Т Мілер (Шлемка) У парт арг цыях на момант стварэння КПЗБ налічвалася 528 чал Арганізац афармленне КПЗБ з'явілася важным фактарам актывізацыі рэв -вызв руху ў Зах Беларусі

*Літ* Борьба трудящихся Западной Белоруссии за социальное и национальное освобождение и воссоединение с БССР Док и материалы Т 1 Мн, 1962, Революционный путь Компартии Западной Белоруссии (1921—1939 гг) Мн, 1966, Bergmann A. Sprawy białoruskie w II Rzeczypospolitej Warszawa, 1984 *Уладзімір Ладысеў*

**ПЕ́РШАЯ ПАДПО́ЛЬНАЯ КАНФЕРЭ́НЦЫЯ КАМУНІСТЫ́ЧНЫХ АРГАНІЗАЦЫЙ МІНСКА́ГА РАЁНА** Адбылася 15 7 1918 у Мінску Прадстаунікі 75 парт арг-цыи (больш за 500 чал) Мінскага, Ігуменскага, Барысаўскага і Навагрудскага пав Мінскай, Ашмянскага і Вілейскага пав Віленскай губ

Праходзіла пад кіраўніцтвам Паўн-Зах абл к-та РКП(б) Паставіла перад парт арг-цыямі захопленых герм войскамі мясцовасцей задачу ствараць у вёсках парт ячэйкі, якія павінны стаць арганізатарамі дружын і партыз атрадаў, рыхтаваць узбр паўстанне, каб аднавіць Сав уладу Асудзіла дзейнасць палiт партый, якія супрацоўнічалі з германскімі акупантамі, прызнала магчымым працаваць у кантакце з тымі партыямі, якія стаяць на платформе Сав улады, калі яны прымуць тактычную лінію бальшавікоў Абавязала камуніст арг-цыі ўзмацніць рэв агітацыю сярод салдат герм арміі Выказвалася за свабоднае самавызначэнне бел народа на аснове салідарнасці з працоўнымі Сав Расіі Канфер патрабавала пашырэння сувязі Мінскага раённага і падраенных к-таў з нізавымі парт арг-цыямі, пастанавіла пачаць выданне падп газеты, выпусціла адозву «Да рабочых і сялян Чырвонай Расіі ад рабочых і сялян Беларусі», дзе заявіла аб гатоўнасці да канца змагацца за заваевы Кастр рэвалюцыі, за свабоду і незалежнасць Сав краіны Выбрала Мінскі падп раенны к-т РКП(б)

*Літ* Крах немецкой оккупации в Белоруссии в 1918 г (Сб док Партархива ЦК КП(б) Белоруссии) Мн, 1947, Почанин С З В грозовом восемнадцатом Мн, 1969 *Мікалай Сташкевіч*

**ПЕ́РШАЯ ПАЎНО́ЧНА-ЗАХО́ДНЯЯ АБЛАСНА́Я КАНФЕРЭ́НЦЫЯ РСДРП(б)** Адбылася 15—18 9(28 9—1 10) 1917 у Мінску Удзельнічала 67 дэлегатаў з рашаючым і 21 з дарадчым галасам ад 7132 чл партыі і 2058 спачуваючых Парадак дня аб рэпрэсіях супраць РСДРП(б), даклады Бюро і з месцаў, аб бягучым моманце, аб перагаядзе парт праграмы, аб выбарах ва Устаноўчы сход, арганізац пытанні, выбары Канферэнцыя асудзіла рэпрэсіі Часовага ўрада супраць бальшавіцкага друку, асобных чл і арг-цый партыі і рэв салдат Адзначыла, што, каб прадухіліць эканам крах краіны, неабходна перадаць у рукі дзяржавы буйныя і важныя галіны прам-сці, банкі, устанавіць рабочы кантроль над вытв-сцю і спажываннем, перадаць сялянам усю зямлю без выкупу Усе гэта зрабіць магчыма, калі спыніць вайну і ўстанавіць у краіне рэв-дэмакр уладу Яна заклеймiла згодніцкія партыі, якія аддалі ўладу ў рукі контррэвалюцыі, контррэв сутнасць кадэтаў, эсэраў і меншавікоў, прызнала неабходнасць пагадненняў з рэв-дэмакр арг-цыямі, якія прымаюць платформу партыі бальшавікоў, заклікала ўмацоўваць Саветы Канферэнцыя зацвердзіла Статут ваеннай арг-цыі на Зах фронце, у аснову якога пакладзены Статут партыі, прыняты V з'ездам РСДРП(б) Для кіраўніцтва парт работай на тэр Паўн-Зах вобласці і Зах фронту выбрала Паўночна-Заходні абласны камітэт РСДРП(б) і завяршыла афармленне *Паўночна-Заходняй абласной арганізацыі РСДРП(б)*

*Літ* Кругалевич В А Рождение Белорусской Советской Республики [Т 1—2] Мн, 1975—79, Игнатенко И М Октябрьская революция и самоопределение Белоруссии Мн, 1992, Очерки истории Коммунистической партии Белоруссии Ч 1 2 изд Мн, 1968

**ПЕ́РШАЯ СУСВЕ́ТНАЯ ВАЙНА́ 1914—18**, імперыялістычная вайна паміж аўстра-германскім і англа-франкарасійскім (Антанта) блокамі, выклікаў ная абвастрэннем супярэчнасцей сярод гал капіталістычных краін за перадзел

ужо падзеленага свету, за ўмацаванне свайго панавання ў свеце і заняволь ванне іншых народаў Тая акалічнасць, што некат краіны (напр Сербія, Чарнагорыя) вялі вызв барацьбу, не мяняе агульнага характару вайны

Германія імкнулася дамагчыся панавання ў Еўропе, для гэтага разграміць свайго гал эканам канкурэнта — Англію, пазбавіць яе калоній і ваеннамарскога флоту, разбіць Францыю, Бельгію, Галандыю і захапіць іх калоніі, аслабіць Расію, забраць у яе Польшчу, Украіну, Прыбалтыку, замацавацца на Балканах і Б Усходзе Аўстра-Венгрыя хацела захапіць Сербію і Чарнагорыю, Турцыя — рас Закаўказзе, Балгарыя — усх частку Сербіі Англія імкнулася захаваць свае каланіяльнае панаванне, для чаго намервалася разграміць Германію, захапіць яе калоніі і арабскія тэрыторыі ў Турцыі Францыя разлічвала вярнуць сабе захопленыя Германіяй у 1871 правінцыі Эльзас і Латарынгію і завалодаць сумежным Саарскім вугальным басейнам, абараніць свае калоніі (найперш Марока) ад дамаганняў Гер маніі Расія імкнулася набыць Галіцыю ў Аўстра-Венгрыі, завалодаць Канстанцінопалем (Стамбулам) і Чарнаморскімі пралівамі Свае агрэсіўныя мэты мелі Японія, Італія і інш Гал імперыяліст дзяржавы спадзяваліся таксама, што вайна дапаможа адцягнуць рабочыя масы метраполій ад рэв руху, а каланіяль ныя народы — ад нац -вызв барацьбы Рыхтуючыся да перадзелу свету, Германія (гал ініцыятар вайны) заключыла ў 1879 ваенны саюз з Аўстра-Венгрыяй, да якога ў 1882 далучылася Італія, і т ч быў створаны Траісты саюз Гэтаму блоку супрацьстаяла Антанта, сфарміраваная ў 1907

Зачэпкай для вайны паслужыла забойства сербскімі нацыяналістамі 15(28) 6 1914 у Сараеве (тады ў Аўстра-Венгрыі) наследніка аўстрыйскага трона эрц-герцага Франца Фердынанда 15(28) 7 1914 Аўстра-Венгрыя аб'явіла вайну Сербіі Расія заявіла аб падтрымцы Сербіі і пачала частковую, а 17(30) ліп агульную мабілізацыю 19 7(1 8) 1914 Германія аб'явіла вайну Расіі, а 21 ліп (3 жн ) — Францыі Англія 22 ліп (4 жн ) заявіла аб стане вайны з Германіяй Вайну Германіі аб'явілі таксама англ дамініёны (Аўстралія, Канада, Новая Зеландыя і Паўд Афрыканскі Саюз) 10(23) жн супраць Германіі выступіла Японія 16(29) кастр на баку аўстра-герм блоку ў вайну ўступіла Турцыя Усяго ў вайне прынялі ўдзел 33 дзяржавы і народы многіх калоній Кіраўніцтва 2-га Інтэрнацыянала падтрымала свае ўрады ў вайне і т ч здрадзіла сваім ранейшым антываен рэзалюцыям Штутгарцкага (1907) і Базельскага (1912) кангрэсаў аб інтэрнац салідарнасці працоўных Супраць імперыяліст вайны выступілі рас бальшавікі і шэраг груповак у інш с -д партыях Напярэдадні вайны аўстра-герм блок разгарнуў 193 дывізіі (3,5 млн чал ), дзяржавы Антанты — 287 дывізій (6 млн чал ) Германія сканцэнтравала на Зах фронце 7 армій у складзе 96 дывізій Ва Усх Прусіі знаходзілася 8-я армія (14 дывізій), 2 дывізіі былі на Брэслаўскім (Вроцлаўскім) напрамку Аўстра-Венгрыя разгарнула ў Галіцыі 4 арміі (45,5 дывізіі), супраць Сербіі — 2 арміі (14 дывізій) Турэцкія ўзбр сілы (0,5 млн чал ) у складзе 14 карпусоў разгарнуліся ў 6 арміях каля Стамбула, у Тур Арменіі, Месапатаміі, Сірыі і Палесціне Францыя сканцэнтравала на фронце 85 дывізій Экспедыцыйная армія Англіі налічвала 5,5 дывізій (87 тыс чал ) і разгарнулася ў раёне Брусель—Льеж—Намюр Узбр сілы Расіі стварылі 2 фронты — *Паўночна-Заходні фронт 1914—15* (у пач вайны 2 арміі, 381 тыс чал ) на мяжы з Усх Прусіяй і Паўд - Зах фронт (4 арміі, 697 тыс чал ) на подступах да Галіцыі Сербія выставіла 13 дывізій (247 тыс чал ), Чарнагорыя — 6 дывізій (60 тыс чал )

20 7(2 8) 1914 герм войскі пачалі наступленне на Зах -еўрап фронце Хутка прайшоўшы Бельгію і Люксембург, яны ўварваліся ў паўн дэпартаменты Францыі і прасунуліся да Парыжа 23—30 жн (5—12 вер ) паміж Вердэнам і Парыжам разгарнулася вял бітва на р Марна з удзелам 6 англа-франц і 5 герм армій У выніку ўпартага супраціўлення саюзнікаў немцы страцілі ініцыятыву, і ў ліст знясіленыя бакі перайшлі да абароны, якая паклала пача так пазіцыйнай вайне Поспеху англа французаў у значнай меры паспрыяла рус наступленне на Усх герм фронце, што вымусіла немцаў ужо 13(26) жн пачаць перавод часткі войск на У Рус камандаванне знаходзілася ў залежнасці ад умоў франка-рас ваен канвенцыі, таму Расія была вымушана адцягваць для дапамогі зах саюзнікам буйныя сілы на напрамкі, менш важныя з пункту гледжання ўласных стратэг і паліт інтарэсаў, а таксама праводзіць ваен аперацыі ў тэрміны, больш зручныя для саюзнікаў, чым для сябе Для першага перыяду кампаніі 1914 на ўсх -еўрап тэатры характэрны 2 буйныя наступленні *Усходне-Пруская аперацыя 1914* і Галіцыйская У ходзе першай 2 рас арміі ўварваліся ва Усх Прусію, але пасля першых поспехаў пацярпелі паражэнне і адступілі Важнае месца займалі баі на Паўд -Зах фронце, дзе з абодвух бакоў удзельнічала больш за 100 дывізій 5(18) жн ў ходзе Галіцыйскай аперацыі пачалося наступленне 8-й арміі ген А А Брусілава На працягу месяца рас войскі разбілі аўстра-венгерскія войскі, занялі Львоў, адкінуўшы праціўніка да Карпат, і блакіравалі крэпасць Перамышль [здалася 9(22) 3 1915] Аднак саюзнікі патрабавалі ад Расіі наступаць супраць Германіі У гэтых умовах рус камандаванне перагрупавала гал сілы з р Сан на сярэднюю Віслу да Варшавы У канцы вер 1914 каля Варшавы адбыліся сустрэчныя баі паміж рас і герм войскамі У ходзе Варшаўска-Івангародскай аперацыі 1914 рас войскі атрымалі перамогу У Закаўказзі рас армія адбіла наступленне туркаў на Ардаган і Сарыкамыш і, нанесшы паражэнне 9-му корпусу 3-й тур арміі ў снеж 1914 (Сарыкамышская аперацыя), перанеслі ваен дзеянні на тэр праціўніка У жн — вер 1914 у выніку баёў на аўстра-сербскім фронце сербы дамагліся сур'ёзнага поспеху і адкінулі ворага за межы краіны Гал вынікам барацьбы на моры было ўсталяванне Англіяй блакады герм ўзбярэжжа, што адрэзала Германію ад сваіх калоній і зрабіла ўплыў на ўвесь ход вайны У цэлым кампанія 1914 завяршылася перамогай Антанты, планы герм Ген штаба на маланкавую вайну праваліліся У кампанію 1915, не

Да арт **Першая сусветная вайна** Перавязачны пункт у Мінску

маючы сіл праводзіць наступальныя аперацыі на абодвух тэатрах, герм ка мандаванне вырашыла засяродзіць гал ўвагу на ўсх -еўрап тэатры, каб моцнымі ўдарамі вывесці Расію з вайны На зах -еўрап тэатры планавалася заняць абарону, каб пасля перамогі над Расіяй абрушыцца на яго ўсімі сіламі У выніку масіраванага наступлення герм і аўстра-венгерскіх войск рас войскі ў чэрв 1915 пакінулі большую частку Польшчы, а 22 ліп (4 жн ), каб пазбегнуць акружэння ў Польшчы, здалі Варшаву Фронт наблізіўся да Беларусі У жн 1915 пачалося герм наступленне ў напрамку Коўна—Вільня—Мінск 27 8(9 9) 1915 у стык *Паўночнага фронту 1915—18* і *Заходняга фронту1915—18* немцы здзейснілі *Свянцянскі прарыў 1915*, захапіўшы Вілейку У вер пад пагрозай акружэння рас войскі пакінулі Вільню, Гродна, Ліду, Брэст, Пінск і інш гарады зах Беларусі Стаўка Вярх Галоўнакамандавання была пераведзена з г Баранавічы ў Магілёў 6(19) вер перадавыя ням раз'езды перарэзалі чыгунку Мінск—Масква ў раёне Смалявіч Вял намаганнямі рас войскам удалося ліквідаваць прарыў і адкінуць пра ціўніка ў раен азер Свір і Нарач У кастр 1915 фронт стабілізаваўся па лініі Дзвінск—Паставы—Баранавічы—Пінск Каля паловы тэр Беларусі апынулася пад ням акупацыяй На зах -еўрап тэатры англа-франц войскі правялі шэраг абмежаваных аперацый на вузкіх участках фронту 9(22) 4 1915 у ходзе баеў каля г Іпр (Бельгія) немцы ўпершыню ўжылі зброю масавага паражэння — газ хлор (пасля гэтага атрымаў назву іпрыт) Летам 1915 саюзнікі нічога не зрабілі, каб перашкодзіць герм наступленню на ўсх -еўрап тэатры У канцы вер 1915 франц войскі правялі наступальную аперацыю 2 арміямі ў Шампані і адной арміяй у Артуа (разам з англічанамі). Аднак прарваць фронт ім не ўдалося 10(23) 5 1915 Італія выйшла з Траістага саюза і аб'явіла вайну Аўстра-Венгрыі — т ч узнік новы італьянскі фронт У лют 1915 англа-франц войскі высадзілі дэсант на беразе праліва Дарданелы з мэтаю захопу Стамбула, але ўсе іх штурмы былі адбіты туркамі (у студз 1916 дэсант эвакуіраваны) Паражэнне гэтага дэсанта і адыход рас войск з Галіцыі паўплывалі на рашэнне Балгарыі ўступіць у вайну на баку аўстра-герм -тур блоку 1(14) 10 1915 Гэта пагоршыла становішча сербскай арміі, якая пад ударамі Аўстра-Венгрыі і Балгарыі адступіла да Адрыятыкі Яе рэшткі былі эвакуіраваны саюзнікамі на востраў Корфу У выніку паражэння Сербіі ўсталяваліся бесперапынныя зносіны паміж Германіяй і Турцыяй На азіяцка-каўказскім тэатры рас войскі паспяхова прасоўваліся ў напрамку воз Ван і Алашкерт, баі вяліся і на тэр Ірана Аднак туркі разграмілі англічан у Месапатаміі і акружылі іх корпус у Кут-эль-Амары, у Егіпце падышлі да Суэцкага канала На моры герм. падводны флот разгарнуў «бязлітасную вайну» супраць усіх караблёў, у т л і нейтральных краін, якія ішлі ў Англію За 1915 Германія і яе саюзнікі дасягнулі значных поспехаў на ўсх -еўрап , балканскім і азіяцкім тэатрах, захапілі вял тэрыторыі Аднак на зах -еўрап тэатры Англія і Францыя трывала трымалі фронт і сабралі дастаткова сродкаў і сіл для новага наступлення На 1916 краіны Антанты запланавалі правесці 2 скаардынаваныя аперацыі 2(15) чэрв на ўсх -еўрап і 19 чэрв (2 ліп ) на зах -еўрап тэатрах У кампаніі 1916 на зах -еўрап. тэатры вылучыліся 2 аперацыі — каля крэпасці Вердэн і на р Сома 18 чэрв (1 ліп ) англа-франц войскі пачалі наступленне на Соме, найб моцныя баі адбыліся восенню 1916 Тут англічане ўпершыню выкарысталі новую ваен тэхніку — танкі, але яны мелі толькі мясц поспех Немцы былі вымушаны аслабіць, а потым спыніць націск на Вердэн, у кастр — снеж французы выбілі праціўніка з найб важных пазіцый у раене крэпасці Бакі страцілі сотні тыс чал , але лінія фронту на ўчастку 35 км прасунулася толькі да 10 км углыб Каб аслабіць герм атакі на Вердэн, рас арміі датэрмінова правяла ў сак *Нарачанскую аперацыю 1916*, якая скончылася безвынікова Вял поспех мела наступленне Паўд -Зах фронту [пачалося 22 5(4 6) 1916] пад камандаваннем ген Брусілава 8-я армія ўзяла Луцк, 9-я армія наступала на Букавіну У 2-й пал

Да арт **Першая сусветная вайна** Спаленая беларуская веска Заходні фронт 1915

Да арт **Першая сусветная вайна** Сялянкі з прыфрантавых вёсак, мабілізаваныя капаць акопы

Да арт **Першая сусветная вайна** Братанне салдат на фронце 1917

літ 1916 арміі фронту выйшлі на лінію р Стаход, а потым занялі Букавіну і частку Усх Галіцыі 19 6—16 7(2—29 7) 1916 войскі Зах фронту правялі *Баранавіцкую аперацыю 1916*, але прарваць фронт не змаглі У выніку «Брусілаўскага прарыву» праціўнік панес страты да 1,5 млн чал і быў вымушаны спыніць свае паспяховае наступленне ў Італіі ў раёне Трэнціна (з мая 1916) Аўстра-Венгрыі быў нанесены такі ўдар, ад якога яна ўжо не здолела ачуняць Англа-франц наступленне на Соме і рас наступленне ў Галіцыі прадвызначылі пералом у 1-й сусв вайне на карысць Антанты Пад уражаннем гэтых перамог 14(27) 8 1916 у вайну ўступіла Румынія, спадзеючыся адваяваць ад Аўстра-Венгрыі Трансільванію (гіст вобласць з румынскім насельніцтвам) Аднак слабабаяздольная рум армія была хутка разбіта перакінутымі на дапамогу аўстрыйцам герм войскамі, немцы ўзялі Бухарэст Рас войскі былі вымушаны уступіць у Румынію і падтрымаць саюзнікаў У канцы снеж 1916 Рум фронт стабілізаваўся У 1916 у абмен на зброю для Расіі ў Францыю і на Балканы быў перакінуты Рус экспедыцыйны корпус На азіяцка-каўказскім тэатры ў 1916 рас войскі ўзялі Эрзурум, Трапезунд, Эрзінджан, англічане ж тут дзейнічалі няўдала акружаны ў 1915 корпус у Кут-эль-Амары 15(28) 4 1916 капітуляваў Восенню 1916 туркі трымалі супраць рускіх 27, а супраць англічан 18 дывізій 31 5—1 6 1916 адбылася Ютландская бітва — адзіная буйная бітва на моры, у якой ням караблі не здолелі перамагчы англ флот і ліквідаваць марскую блакаду У 1917 стратэгічная ініцыятыва ў цэлым перайшла да Антанты, аднак Расія была настолькі стомлена, што пэўныя прыдворныя колы пачалі шукаць сепаратнага міру з Германіяй 24 3(6 4) 1917 у вайну на баку Антанты уступілі ЗША Няўдалае красавіцкае наступленне англа-франц войск у раёне Араса, Сен-Кантэна і Рэймса (загінула больш за 200 тыс чал ) выклікала хваляванні ў франц арміі, у Рус экспедыцыйным корпусе пачаўся рух за вяртанне на радзіму На італьян і азіяцка-тур тэатрах саюзнікі пераламілі ход вайны на сваю карысць 27 2(12 3) 1917 у Расіі ў выніку *Лютаўскай рэвалюцыі 1917* самадзяржаўе было скінута і да ўлады прыйшоў буржуазны Часовы ўрад, які ў пытаннях працягу вайны быў яшчэ ў большай залежнасці ад зах саюзнікаў, чым царызм Аднак шматлікія ахвяры і эканам цяжкасці, выкліканыя вайной, рабілі яе ўсё больш непапулярнай у салдацкіх масах, на фронце адбывалася *братанне* рус і герм салдат 18 6(1 7) 1917 пачалося няўдалае наступленне рас войск Зах фронту У канцы жн (пач вер ) 1917 герм войскі авалодалі Рыгай Адразу пасля *Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917* савецкі ўрад Расіі прыняў *Дэкрэт аб міры*, у якім прапанаваў усім ваюючым бакам пачаць перагаворы для заключэння справядлівага міру без анексій і кантрыбуцый У сувязі з адмовай англа-франц блоку ад гэтых прапаноў сав ўрад пачаў сепаратныя перагаворы з аўстра-герм кааліцыяй і 21 11(4 12) 1917 падпісаў з ей *Дагавор аб перамір'і на Заходнім фронце 1917* У лют 1918 немцы і іх саюзнікі, у парушэнне перамір'я, пачалі буйнамаштабнае наступленне на ўсіх франтах Паколькі старая армія развальвалася, а часці Чырв Арміі толькі ствараліся, праціўніку ўдалося захапіць вял тэрыторыю па лініі Нарва—Растоў-на-Доне, у т л ў Беларусі па лініі Расоны—Полацк—Сянно—Орша—Магілёў—Жлобін—Навазыбкаў Туркі ўварваліся ў Закаўказзе 3 3 1918 быў падпісаны *Брэсцкі мір 1918* З сак па ліп 1918 герм камандаванне правяло 4 наступальныя аперацыі на зах -еўрап тэатры, выкарыстаўшы апошні шанц завяршыць вайну на сваю карысць, але беспаспяхова 8—13 жн саюзнікі правялі Ам'енскую аперацыю і нанеслі буйное паражэнне немцам 26 9 1918 англа-франц і амерыканскія войскі перайшлі ў агульнае наступленне, прарвалі герм абарону і вымусілі праціўніка пакінуць тэр Францыі У 1918 вырашальныя перамогі былі атрыманы саюзнікамі і на інш тэатрах 29 вер капітулявала Балгарыя, 30 кастр — Турцыя, 3 ліст — Аўстра-Венгрыя, 11 ліст — Германія

1-я сусв вайна мела надзвычай разбуральны характар З 74 млн чал , мабілізаваных з 33 дзяржаў і многіх калоній, загінула і памерла ад ран каля 10 млн чал , паранена больш за 20 млн чал , каля 10 млн памерла ад эпідэмій і голаду Вайна забрала вял ахвяры і сярод мірнага насельніцтва у выніку артабстрэлаў і паветраных бамбардзіровак гінулі жыхары гарадоў, ням падводныя лодкі тапілі пасажырскія судны (напр , у маі 1915 быў патоплены параход «Лузітанія» з 1 тыс чал на борце), асаблівымі зверствамі вызначылася тур ваеншчына (разня арабаў у Сірыі, генацыд 1,5 млн чал армян і інш ) Асабліва цяжкім было становішча ў Беларусі Зах губерні, у т л бел , былі аб'яўлены на ваен становішчы, уводзіўся жорсткі ваен -паліцэйскі рэжым У бел губернях у дзеючую армію было мабілізавана 50% мужчын Астатняе працаздольнае насельніцтва прыцягвалася на абарончыя работы У час баявых дзеянняў на Беларусі гінула мірнае насельніцтва, разбураліся гарады і вёскі, знішчаліся матэрыяльныя і духоўныя каштоўнасці Адступленне суправаджалася масамі *бежанцаў* Колькасць прадпрыемстваў скарацілася на 65%, колькасць рабочых — больш, чым на $^1/_3$ Пасяўныя плошчы ў неакупіраваных паветах скараціліся ў 1914—17 на 15,6%, пагалоўе жывёлы — на 11,4 (кароў на 33,9%). Пагоршылася матэрыяльнае становішча сял мас Адбываліся забастоўкі, салдацкія выступленні, найб буйное — *Гомельскага перасыльнага пункта паўстан-*

Да арт **Першая сусветная вайна** Мітынг супраць вайны Луніней 1917

*не 1916* На акупіраванай тэр зах Беларусі герм ўлады стварылі «Нямецкае ваеннае ўпраўленне Беласток—Гродна», 1 2 1918 яно было як састаўная частка пад назвай «Літва—Поўдзень» уключана ў «Нямецкае ваен ўпраўленне Літва» Акупанты праводзілі масавыя рэквізіцыі с -г прадукцыі, вывозілі сыравіну (асабліваму рабаванню падвергліся лясы Белавежскай пушчы) і прамысл абсталяванне ў Германію Такая палітыка выклікала супраціўленне насельніцтва, аж да нападаў сялян на рэквізіцыйныя атрады Пасля акупацыі ў 1918 усх Беларусі ўзбр барацьба набыла арганізаваныя формы (гл ў арт *Партызанскі рух на Беларусі ў перыяд нямецкай і польскай акупацыі 1918—20)* 28 6 1919 краіны Антанты (без Расіі) падпісалі Версальскі мірны дагавор з Германіяй, паводле якога Францыя вяртала Эльзас і Латарынгію, часова акупіравала Саарскую вобл , усе герм калоніі (у Афрыцы, Кітаі, а-вах Ціхага акіяна) пераходзілі да Англіі, Францыі, Японіі, абмяжоўваліся ўзбр сілы і ўзбраенні Германіі, на яе ўскладвалася кантрыбуцыя У вер 1919 — жн 1920 былі падпісаны выпрацаваныя на *Парыжскай мірнай канферэнцыі 1919—20* аналагічныя мірныя дагаворы паміж краінамі Антанты і інш дзяржавамі герм блоку Пасля распаду Аўстра-Венгрыі на яе тэр ўзніклі Аўстрыя, Венгрыя, Чэхаславакія Сербія аб'ядналася з Чарнагорыяй і паўд -слав правінцыямі Аўстра-Венгрыі (Харватыя, Славенія, Далмацыя, Боснія і Герцагавіна) у Каралеўства сербаў, харватаў і славенцаў (з 1929 — Югаславія) Адрадзіла незалежнасць Польшча За кошт б Аўстра-Венгрыі павялічылі свае тэрыторыі Румынія і Італія Арабскія ўладанні Турцыі ў асн перайшлі да Англіі і Францыі Ірак атрымаў фармальную незалежнасць Т ч шэраг народаў Усх Еўропы сталі незалежнымі ці ўз'ядналі свае тэрыторыі, але іншаземнае панаванне на пазаеўрап абшарах у асн захавалася ЗША за ваен пастаўкі атрымалі вял прыбыткі, павысілі свой міжнар статус і ўзмацнілі прэтэнзіі на сусв панаванне Версальскі дагавор не ліквідаваў, а ўзмацніў супярэчнасці паміж краінамі, не задаволенымі новым перадзелам свету і паслужыў падставай падрыхтоўкі да *Другой сусветнай вайны 1939—45*

*Літ* Ленин В И Об империалистической войне М , Л , 1929, Всемирная история Т 7—8 М 1960—61 Гісторыя Беларускай ССР Т 2 Мн 1972 Нарысы гісторыі Беларусі Ч 1 Мн , 1994, Зайончковский А М Мировая война 1914—1918 гг Т 1—3 3 изд М , 1938—39, Верховский Д В , Ляхов В Ф Первая мировая война 1914—1918 гг М , 1964, Ростунов И И Русский фронт первой мировой войны М , 1976 Португальский Р М , Алексеев П Д Рунов В А Первая мировая в жизнеописаниях русских военачальников М , 1994, Резанов А С «Немецкая армия может конкурировать с воинами каннибалов» // Военно-ист журн 1998 № 3—4

*Панцеляймон Селіванаў*

**ПЕРШАЯ УСЕБЕЛАРУ́СКАЯ КАНФЕРЭ́НЦЫЯ**, Першая Усебеларуская палітычная канферэнцыя, Нацыянальна-палітычная нарада, сход прадстаўнікоў бел арг-цый і партый Зах Беларусі, Германіі, Латвіі, Літвы, Польшчы і Чэха Славакіі Адбылася 25—28 (паводле інш крыніц 26—29) 9 1921 у Празе У рабоце П У к ўдзельнічалі 37 чал *Беларускую партыю сацыялістаў-рэвалюцыянераў* прадстаўлялі С Баран, К Душэўскі (Дуж-Душэўскі), Л Заяц, А Карабач, В Ластоўскі, Я Мамонька, М Шыла, *Беларускую партыю сацыялістаў-федэралістаў* — В Захарка, К Езавітаў, П Крачэўскі, А Цвікевіч, *Беларускую сацыял-дэмакратычную партыю* — Б Тарашкевіч Дэлегатамі канферэнцыі былі старшыня Бел нац к-та ў Варшаве Л Дубейкаўскі, а таксама сяляне, якія вялі партыз барацьбу з польскімі акупантамі ў Зах Беларусі на чале з прадстаўніком Гродзенскага нац к та Баранам Старшынёй П У к быў абраны Цвікевіч, яго нам — Захарка, сакратаром — Баран На канферэнцыі панавала варожае стаўленне сялян, эсэраў і сацыялістаў-федэралістаў да Польшчы, яе ўлад і асобных польскіх партый Канферэнцыя прыняла рэзалюцыю аб *Слуцкім паўстанні 1920*, перасцерагала бел народ ад непатрэбнага праліцця крыві, заклікала яго ўстрымацца «ад неарганізаваных выступленняў, але моцна аб'яднаць свае сілы к таму моманту, калі праб'е час агульнанароднага рэвалюцыйнага змагання за права кожнага народа быць гаспадаром у сваім краі» У рэзалюцыі аб дзейнасці Б Савінкава адзначалася, што ён «Беларускім Нацыянальным Штандарам прыкрывае авантуры польскай і расійскай рэакцыі», «не мае ніякай сувязі з беларускімі палітычнымі і нацыянальнымі арганізацыямі і з'яўляецца правакатарам Беларускай дзяржаўнасці і ворагам беларускага народа» У рэзалюцыі аб дзейнасці С Булак-Балаховіча сцвярджалася, што ён не мае ніякай падтрымкі з боку бел нац паліт арг-цый і з'яўляецца «узурпатарам і авантурнікам» Асобная рэзалюцыя канферэнцыі датычылася *Рыжскага мірнага дагавора 1921* П У к пацвярджала вернасць *Трэцяй Устаўной грамаце* Рады БНР і заяўляла, што «лічыць ворагамі беларускага народа кожнага, каторы згадзіўся бы „прызнаць Рыжскі мірны трактат» Рэзалюцыя П У к аб дзярж будаўніцтве Беларусі абвяшчала, што Беларусь — край працоўнага сялянства, рабочых і працоўнай інтэлігенцыі, а таму павінна быць «дзяржавай працоўнага народа» Пацвярджаўся прынцып незалежнасці і непадзельнасці Беларусі Канферэнцыя заявіла, што адзіным заканадаўчым органам Беларусі з'яўляецца *Рада Беларускай Народнай Рэспублікі*, і прызнала што праца ўрада БНР адпавядае яе мэтам і накіравана на абарону незалежнасці і непадзельнасці Беларусі 3 10 1921 рэзалюцыя аб дзярж будаўніцтве была пацверджана на сходзе «прадстаўнікоў розных напрамкаў беларускай палітычнай думкі» ў Празе Але ўжо ў маі 1922 Ластоўскі і Цвікевіч адступілі ад прынцыпу непадзельнасці Беларусі На *Генуэзскай канферэнцыі 1922* па эканам і фінансавых пытаннях яны прызналі права Літ Рэспублікі на Вільню і Віленскі край Гэта прывяло да ўзнікнення супярэчнасцей ва ўрадзе БНР Вынікам гэтых супярэчнасцей і змен, якія адбываліся ў БССР і Зах Бе-

Прэзідыум **Першай Усебеларускай канферэнцыі** П Крачэўскі, В Захарка, А. Цвікевіч, С Баран К. Дуж-Душэўскі, Л Дубейкаўскі, К Езавітаў, Т Грыб Прага 1921

Фракцыя БПС-Р на **Першай Усебеларускай канферэнцыі** В Русак, Л Заяц, Жабінскі, С Баран, М Шыла, Т Грыб, Я Мамонька, В Маслоўская і інш Прага 1921

ларусі ў 1921—25, была рэзалюцыя *Другой Усебеларускай канферэнцыі* (1925. Берлін), у якой Мінск прызнаваўся адзіным цэнтрам бел адраджэння

*Літ* Сідарэвіч А Берлінская канферэнцыя 1925 г палит варункі, рашэнні, вынікі // Культура 1993 3 жн, Бергман А Слова пра Браніслава Тарашкевіча Гіст жыццяпіс Пер з пол Мн, 1996

*Анатоль Сідарэвіч*

**ПЕРШАЯ УСЕБЕЛАРУ́СКАЯ КАНФЕРЭ́НЦЫЯ АРХІ́ЎНЫХ РАБО́ТНІКАЎ** Адбылася ў Мінску 12—15 5 1924 у сувязі з рэарганізацыяй архіўнай справы ў БССР Удзельнічала каля 30 архівістаў, гісторыкаў прадстаўнікоў дзярж устаноў Беларусі Заслуханы і абмеркаваны даклады У І Пічэты «Дзейнасць Цэнтрархіва РСФСР», «Уплыў дагавораў РСФСР з адлучыўшымися дзяржавамі (Польшчай, Літвой і Латвіяй) на стан беларускіх архіваў», «Перагляд архіўнага заканадаўства БССР», «Падрыхтоўка архіўных працаўнікоў», Дз І Даўгялы «Стан архіўнай справы на Магілеўшчыне», М В Мялешкі «Рэарганізацыя архіўнай справы на Беларусі», Б Р Брэжгі «Архівы і архіўная праца на Віцебшчыне», У І Краснянскага «Мінскія архівы з даўнейшых часоў да пач 20 ст», І А Сербава «Стан архіўнай справы на Магілеўшчыне ў першыя гады рэвалюцыі 1918—1921 гг», Я Г Ракава «Справаводства і бягучыя архівы ў наркаматах і ўстановах Беларусі і спосабы паляпшання іх па праграме НАП» і інш Абмеркаваны таксама пытанні аб вывезеных з Беларусі архівах і аб іх вяртанні (паведамленне Дз Ф Жылуновіча), аб арганізацыі Цэнтрархіва СССР Прапанавана наладзіць больш цесную сувязь архіваў з дзярж, навук і грамадскімі установамі Звернута асаблівая ўвага на недапушчэнне вывазу архіўных матэрыялаў за межы СССР (у Польшчу, Латвію, Літву), а таксама на неабходнасць вяртання на Беларусь тых матэрыялаў, якія былі вывезены з яе тэрыторыі ў дарэв час і ў час розных акупацый Прынята рэзалюцыя аб спыненні знішчэння архіўных матэрыялаў без дазволу Цэнтрархіва Беларусі Прапанавана аднавіць выданне матэрыялаў па гісторыі Беларусі, асабліва перыяду 19—20 ст і інш

Удзельнікі **Першай Усебеларускай канферэнцыі** архіўных работнікаў У цэнтры З Х. Жылуновіч

*Літ* Пичета В И Первая Всебелорусская конференция // Архивное дело 1925 Вып 2, Шорохов Е Ф Конференция белорусских архивистов в 1924 г // Вопр архивоведения 1965 № 3, Шумейко М Ф Собрать рассеянное О реституции бел архивов в прошлом и настоящем Мн, 1997, Яго ж Цяжкі шлях вяртання // Спадчына 1998 № 6, Першая ўсебеларуская канферэнцыя архівістаў і архіўных працаўнікоў // Там жа

*Міхась Шумейка*

**ПЕ́РШАЯ УСЕБЕЛАРУ́СКАЯ КРАЯЗНА́ЎЧАЯ КАНФЕРЭ́НЦЫЯ** Адбылася 29 11 1924 у Мінску. Каля 40 дэлегатаў — прадстаўнікі краязнаўчых і грамадскіх арг-цый У дакладзе Цэнтр бюро краязнаўства (ЦБК, дакладчык С Скандракоў), выступленнях У Пічэты, М Мялешкі і інш адзначаліся дасягненні мясц краязнаўчых арг-цый, выяўленне аб'ектаў вывучэння, папулярызацыя вынікаў даследаванняў, у т л выданне зборніка «Віцебшчына», стварэнне музея ў Оршы, вывучэнне кургаиоў на Мазыршчыне Падкрэслівалася неабходнасць стварэння масавых краязнаўчых арг-цый, выдання інструктыўна-метадычнай л-ры і спец часопіса Канферэнцыя прыняла рэзалюцыі па арганізац пытанні і па дакладах навук устаноў, заклікала прызнаць краязнаўства дзярж справай, вызначыла перспектывы і метады каардынацыі краязнаўчай работы ў БССР На Усесаюзны краязнаўчы з'езд абраны С Скандракоў, У Пічэта, М Каспяровіч, Ю Бібіла, М Каршукоў, Грыгор'еў, Б Самцэвіч

*Аляксандра Гесь*

**ПЕ́РШАЯ УСЕБЕЛАРУ́СКАЯ СЕЛЬСКАГАСПАДА́РЧАЯ І ПРАМЫСЛО́ВАЯ ВЫ́СТАЎКА** Дзейнічала 10 8—

1 11 1930 у Мінску Знаёміла з дасягненнямі БССР у развіцці сельскай гаспадаркі і прам-сці, праводзіла культ -асв і агітац работу Агульнае кіраўніцтва яе арганізацыяй і дзейнасцю ажыццяўлялі Наркамат земляробства і ВСНГ БССР Былі ўтвораны Гал выставачны к т, а таксама акруговыя і сельскія выставачныя к-ты На плошчы у 75 га быў пабудаваны 61 аб'ект, у т л 13 павільёнаў для жывелы, вегетацыйны павільён, сіласная вежа, заводы алейны, па перапрацоўцы садавіны і гароднiны і інш Выстаўка была электрыфікавана, тэлефанізавана, забяспечана водаправодам Дэманстравалася 19 тыповых для Беларусі севазваротаў з пасевамі тэхн культур *Стэла Сінякова*

**ПЕ́РШАЯ УСТА́ЎНАЯ ГРА́МАТА** для народаў Беларусі, акт, прынятаы *Выканаўчым камітэтам Рады Усебеларускага з'езда* ў Мінску Імклівае наступленне ням войск, якое пачалося 16 2 1918, прымусіла Аблвыкамзах і СНК Зах вобласці і фронту ў ноч на 19 2 1918 эвакуіравацца з Мінска ў Смаленск З падполля выйшаў Выканаўчы к-т Рады Усебел з'езда, з турмы вызвалены дзеячы *Цэнтральнай беларускай вайсковай рады* (ЦБВР) Выканком Рады Усебел з'езда ў сваім загадзе № 1 ад 19 лют абвясціў, што ён «узяў уладу ў свае рукі», а навядзенне парадку ў Мінску, дзе пачала актыўна дзейнічаць Польская вайсковая арг-цыя (ПАВ), усклаў на каменданта горада, аднаго з кіраўнікоў ЦБВР К Б Езавітава 21 лют апублікавана П У г Выканком Рады Усебел з'езда заклікаў народы Беларусі «ўзяць сваю долю ў свае ўласныя рукі» Да склікання на дэмакр пачатках Устаноўчага сходу Выканаўчы К-т Рады Усебел з'езда абвясціў сябе ўладай у Беларусі Быў створаны ўрад — *Народны Сакратарыят Беларусі* на чале з Я Я Варонкам, у які ўвайшлі 15 прадстаўнікоў ад *Беларускай сацыялістычнай грамады*, *сацыялістаў-рэвалюцыянераў* і сацыялістаў-сіяністаў 21 лют ўрад прыступіў да выканання сваіх абавязкаў, пра што было паведамлена па тэлеграфе з паметай «Усім, усім, усім» Апоўдні 21 2 1918 у Мінск уступілі польскі корпус ген Ю *Доўбар-Мусніцкага* і ням войскі Паміж вайск часцямі, падначаленымі каменданту Езавітаву, салдатамі Доўбар-Мусніцкага і членамі ПАВ, якія перайшлі пад камандаванне генерала, адбываліся жорсткія сутычкі Да 25 лют немцы авалодалі сітуацыяй у горадзе Яны ўварваліся ў памяшканне Народнага Сакратарыята, выдалілі з яго нар сакратароў і чыноўнікаў, канфіскавалі касу, сарвалі з будынка і кінулі на зямлю сцяг 28 лют Народны Сакратарыят звярнуўся з мемарандумам да вышэйшых ням акупац улад У той жа дзень адбылася сустрэча прадстаўнікоў Народнага Сакратарыята з герм васн адміністрацыяй Хоць ўрад Беларусі заявіў пра лаяльнае стаўленне да акупантаў, ням ўлады не спяшаліся прызнаваць яго У літаратуры П У г датуецца днём яе публікацыі, аднак, паводле ўспамінаў Варонкі, яна была прынята 20 2 1918 У Грамаце нічога не гаварылася аб прававым статусе Беларусі Здзяйсненне права бел народа на «поўнае самавызначэнне», а нац меншасцей на нац -персанальную аўтаномію абвяшчалася толькі як мэта На заключэнне *Брэсцкага міру 1918* паміж Германіяй і Расіяй Выканком Рады Усебел з'езда адрэагаваў 9 3 1918 *Другой Устаўнай граматай* да народаў Беларусі Беларусь была абвешчана *Беларускай Народнай Рэспублікай*

*Публ* За дзяржаўную незалежнасць Беларусі Дак і матэрыялы Лендан, 1960, Дзень Волі, 90 / Падрыхтавалі А Гуркоў, С Дубавец, П Жук, А Сідарэвіч [Б м ], 1990

*Літ* В а р о н к о Я Беларускі рух ад 1917 да 1920 г Кароткі агляд 2 выд Коўна, 1920 З а п р у д н і к Я Устаўныя граматы Беларускае Народнае Рэспублікі // Зап Бел Ін та навукі і мастацтва Нью-Йорк 1975 № 13 И г н а т е н к о И М Октябрьская революция и самоопределение Белоруссии Мн 1992, С і д а р э в і ч А Акт, скіраваны ў будучыню // ЛіМ 1992 20 сак , Октябрь 1917 и судьбы политической оппозиции совместное рос -бел исслед Гомель, 1993 Ч 2 С 92—104 *Анатоль Сідарэвіч*

**ПЕ́РШЫ БЕЛАРУ́СКІ КАМУНІСТЫ́ЧНЫ АТРАД**, створаны ў снеж 1918 у Петраградзе Бел секцыяй РКП(б) з беларусаў-бежанцаў, чырвонаармейцаў і маракоў Балт флоту Налічваў каля 200 чал , у т л 90 камуністаў Камандзір атрада А Я Казадоеў, камісар Р Р Каўшыла У студз 1919 два ўзводы атрада на чале з Каўшылым паводле пастановы канферэнцыі Бел секцыі РКП(б) і выкліку Часовага рабоча сялян сав ўрада Беларусі адпраўлены ў Мінск, дзе частка асабовага складу атрада накіравана на работу ў Мінскую ЧК, у парт і сав органы, астатнія пазней уліліся ў Чырв Армію

*Літ* Борьба за Советскую власть в Белоруссии Сб док и материалов Т 1 М , 1968, М у р а ш к а П 1-ы Беларускі камуністычны атрад // Нар асвета 1973 № 12 *Віталь Скалабан*

**ПЕРШЫ ВАЛЬНЫ СОЙМ БЕЛАРУ́СКІХ СУПО́ЛАК**, сход прадстаўнікоў бел маладзёжных «нефармальных» арг-цый Адбыўся 26—27 10 1987 на турбазе «Палачанка» пад Мінскам Ініцыятары правядзення — мінскія клубы «Талака», «Тутэйшыя», «Світанак» Праходзіў пры падтрымцы ЦК ЛКСМБ Прысутнічала больш за 560 чал Дэлегаты прадстаўлялі 30 суполак з Беларусі і замежжа Удзельнічалі таксама прадстаўнікі АН Беларусі, Бел фонду культуры, Мін-ва культуры БССР і інш Сход засведчыў існаванне ў Беларусі шырокага маладзёжнага руху і вызначыў яго мэты, сфармуляваў галоўныя сац праблемы бел грамадства ў ходзе *перабудовы*, прапанаваў магчымыя спосабы іх вырашэння На сойме працавалі дыскусійныя секцыі «Мова і школа», «Фальклор і літаратура», «Ахова помнікаў», «Праблемы экалогіі», «Гісторыя», «Дэмакратызацыя» *Сяржук Вітушка*

**ПЕРШЫ З'ЕЗД АРГАНІЗА́ЦЫЙ РСДРП ПАЛЕ́СКАГА РАЁНА**, П е р ш а я  к а н ф е р э н ц ы я  П а л е с к а г а  к а м і т э т а  Р С Д Р П Адбыўся ў маі 1905 у Гомелі 20 дэлегатаў з рашаючым і 5 з дарадчым галасам ад Аршанскай, Гомельскай, Дабранскай, Клінцоўскай, Копыскай, Лоеўскай, Магілеўскай, Навазыбкаўскай, Сноўскай, Сяменаўскай, Шклоўскай раённых арг-цый РСДРП Працаваў 9 дзён нелегальна Абмеркаваў рашэнні III з'езда РСДРП Большасцю галасоў ухваліў Статут, прыняты на ім, намеціў канкрэтныя мерапрыемствы па стварэнні баявых дружын, узмацненні прапаганды і агітацыі, асабліва сярод сялян і салдат,

Агляд **Першага беларускага камуністычнага атрада** Петраград 1919

падрыхтоўцы мас да ўзбр паўстання Выбраў к-т РСДРП (старшыня М К Уладзіміраў)

**ПЕРШЫ З'ЕЗД БЕЛАРУ́САЎ СВЕ́ТУ** Адбыўся 8—10 7 1993 у Мінску ў будынку Тэатра оперы і балета, 996 дэлегатаў ад бел арг-цый з Беларусі і бел суполак з замежжа Арганізаваны Згуртаваннем беларусаў свету (ЗБС) «*Бацькаўшчына*» Мэта аб'яднанне беларусаў свету і арганізац афармленне сусветнай бел супольнасці як новай грамадскай структуры на карысць нац адраджэння і будаўніцтва самастойнай бел дзяржавы З'езд прыняў Дэкларацыю аб прынцыпах дзярж будаўніцтва Беларусі, звароты да бел народа, замежных беларусаў да сваіх суайчыннікаў на Бацькаўшчыне, да парламента і ўрада Беларусі, да Вярх Савета Беларусі аб ўстанаўленні мемарыяльнай дошкі на будынку, дзе была абвешчана *Беларуская Народная Рэспубліка*, заяву па вайсковым пытанні, рэзалюцыю аб падтрымцы дзейнасці ЗБС «Бацькаўшчына», аб дзейнасці бел рэдакцыі радыё «*Свабода*», пастанову аб Радзе прадпрымальнікаў бел дыяспары Далей з'езд працаваў як кангрэс ЗБС «Бацькаўшчына», на якім выбраны новы кіруючы орган — Вял рада з прадстаўнікоў бел арг-цый Беларусі і замежжа (97 чал ), а таксама прэзідэнт ЗБС (Р Гарэцкі) і старшыня Рады (Г Сурмач) У адпаведнасці з праграмай з'езда праведзены сустрэчы яго ўдзельнікаў з грамадскасцю Беларусі, Купалле на Стаўбцоўшчыне і ў в Баркалабава (Быхаўскі р-н), Нарачанскі форум для дзяцей і моладзі, выстаўка твораў мастацтва з Беларусі і замежжа

*Ганна Сурмач*

**ПЕ́РШЫ З'ЕЗД ВАЕ́ННЫХ І РАБО́ЧЫХ ДЭПУТА́ТАЎ А́РМІЙ І ТЫ́ЛУ ЗАХО́ДНЯГА ФРО́НТУ** Адбыўся 7—17(20—30) 4 1917 у Мінску, 850 дэлегатаў з рашаючым і 350 з дарадчым голасам ад вайск часцей фронту і рабочых арг-цый Мінскай, Магілеўскай, Віцебскай і Смаленскай губ Парадак дня вайна і мір, аб Часовым урадзе, аб ваен , рабочых і сялянскіх арг-цыях, прававое становішча салдат і інш З'езд прыняў рэзалюцыі за працяг вайны, падтрымку знешняй палітыкі Часовага ўрада Зацвердзіў праект статута выбарных салдацкіх арг-цый, выбраў *Франтавы камітэт Заходняга фронту 1917* Садзейнічаў арганізацыі салдацкіх мас, далучэнню іх да паліт дзейнасці

**ПЕ́РШЫ З'ЕЗД ДАСЛЕ́ДЧЫКАЎ БЕЛАРУ́СКАЙ АРХЕАЛО́ГІІ І АРХЕАГРА́ФІІ** Адбыўся ў Мінску 17—18 1 1926 Удзельнічала каля 60 дэлегатаў і гасцей Заслухана 12 дакладаў і паведамленняў, 4 з іх цалкам надрукаваны ў «Працах Першага з'езду », змест астатніх прыведзены ў пратаколах з'езда Даклады А М Ляўданскага «Некаторыя дадзеныя аб гарадзішчах Смаленскай губ » (надрукаваны ў «Научных известиях Смоленского гос университета»),

Паштоўка, выпушчаная з нагоды правядзення **Першага з'езда беларусаў свету.** 1993

Дз І Даўгялы «Літоўская метрыка і яе каштоўнасць для вывучэння мінуўшчыны Беларусі», М В Доўнар-Запольскага «Старыя беларускія архівы за межамі БССР», М В Мялешкі «Архіўная справа ў БССР да сучаснага моманту», А А Сіцына «Аб сучасным стане беларускай археалогіі» і інш З'езд прыняў 6 рэзалюцый «Аб Літоўскай метрыцы», «Аб беларускіх архіўных фондах за межамі БССР», «Аб археалагічных даследах», «Аб музейнай справе», «Аб Цэнтрархіве БССР і яго аддзелах», «Аб зварот бібліятэк» У іх ставіліся пытанні пра неабходнасць пераводу Літоўскай метрыкі ў Беларусь, і выданне яе дакументаў, аб вяртанні ў рэспубліку архіўных, музейных матэрыялаў, што датычацца Беларусі і знаходзяцца за яе межамі

З'езд канстатаваў нездавальняючы стан стараж помнікаў Беларусі, якія не ахоўваюцца, самавольна раскопваюцца, раскрадаюцца Вырашана падрыхтаваць спец законапраект аб стараж помніках гісторыі і мастацтва З'езд звярнуў увагу Інбелкульта на неабходнасць звярнуцца да ўрада рэспублікі, каб вярнуць на Беларусь бібліятэкі Храптовіча і Полацкай уніяцкай семінарыі, вывезеныя ў Кіеў, б-ку М Х Каладзеева па беларусазнаўству і гісторыі вайны 1812, якая знаходзілася ў Маскоўскім гіст музеі

*Літ* Працы Першага з'езда даследчыкаў беларускай археалогіі і археаграфіі 17—18 студзеня 1926 г Мн , 1926, Алексеев Л В Археология и краеведение Беларуси XVI в — 30-е годы XX в Мн , 1996, Шумейко М Ф Собрать рассеянное О реституции бел архивов в прошлом и настоящем Мн , 1997

*Міхась Шумейка*

**ПЕ́РШЫ З'ЕЗД КАМПАРТЫІ ЛІТВЫ́ І ЗАХО́ДНЯЙ БЕЛАРУ́СІ** Адбыўся нелегальна 1—3 10 1918 у акупіраванай герм войскамі Вільні Прысутнічалі 34 дэлегаты ад амаль 800 чл партыі Парадак дня справаздача Часовага цэнтр бюро, даклады з месцаў, аб праграме, статуце, тактыцы і назве партыі, аб бягучым моманце, аб эканам стане, аб прафесійных саюзах і кааператывах, аб адносінах да інш партый, арганізац пытанне Па ўсіх асн пытаннях выступаў П Эйдукевіч, ён жа падрыхтаваў амаль усе праекты рэзалюцый з'езда У рэзалюцыях па дакладах Часовага цэнтр бюро і з месцаў з'езд адобрыў ініцыятыву рэв сацыял-дэмакратаў па стварэнні рэв партыі рабочага класа і асудзіў правых сацыял-дэмакратаў, якія «зацямняюць класавую свядомасць пралетарыяту, пакідаюць яго бяззбройным у барацьбе і аддаюць на з'ядзенне сваей і германскай буржуазіі» З'езд ахарактарызаваў сусв вайну як захопніцкую і ўказаў на цяжкія яе наступствы для Літвы, якая знаходзілася пад акупацыяй кайзераўскай Германіі Выйсце з вайны і вызваленне працоўных ад прыгнету буржуазіі з'езд бачыў у сацыяліст рэвалюцыі Было рэкамендавана парт арг-цыям ствараць прафсаюзы і рабочыя кааператывы на кожнай фабрыцы і заводзе, у кожнай весцы З'езд даў паліт ацэнку розным дробнабурж партыям, якія «з'яўляюцца свядомымі ці несвядомымі віноўнікамі ўсіх паражэнняў пралетарыяту ў яго барацьбе» Канстатавалася, што ствараемая Кампартыя з'яўляецца партыяй новага тыпу, якая ставіць гал мэтай барацьбу за сацыяліст рэвалюцыю і дыктатуру пралетарыяту, за сав уладу і пабудову сацыялізму З'езд пацвердзіў рашэнне парт нарады (14 8 1918) і *Першай канферэнцыі Кампартыі Літвы і Заходняй Беларусі* (15 9 1918) аб прыняцці праграмы РКП(б) і назве партыі камуністычнай Абвясціў сябе І з'ездам Кампартыі Літвы і Зах Беларусі 1-й акупацыі На самай справе ён быў з'ездам толькі Кампартыі Літвы, таму што прадстаўнікі парт арг-цый, якія існавалі на тэр Зах Беларусі, у ім не ўдзельнічалі З'езд прыняў статут партыі і абраў 7 чл ЦК КПЛ і ЗБ Эйдукевіча, Р Піляра, К Керновичуса, С Грыба, А Бразджюніса, А Якшэвічуса, І Летувайціса З'езд завяршыў стварэнне Кампартыі Літвы і вызначыў яе асн задачы

*Літ* КП(б)Б у рэзалюцыях Ч 1 (1903—1921 гг ) Мн , 1943, Очерки истории Коммунистической партии Литвы Т 1 (1887—1920 гг ) Вильнюс, 1973

*Уладзімір Міхнюк*

**ПЕ́РШЫ З'ЕЗД КП(б)Б**, VI Паўночна-Заходняя абласная канферэнцыя РКП(б) Адбылася 30—31 12 1918 у Смаленску Рашэнне аб правядзенні абл канферэнцыі прынята 2 12 1918 на пасяджэнні Паўн -Зах абл к-та РКП(б) За скліканне выказаліся Віцебскі, Магілеўскі і Рослаўльскі, супраць — Смаленскі, Бельскі і Аршанскі раённыя к-ты РКП(б) Канферэнцыя была прызнача-

на на 27 12 1918, зацверджаны прыкладны парадак дня, устаноўлена норма прадстаўніцтва (1 дэлегат ад 50 членаў партыі, падраенныя арг-цыі, якія не мелі 50 членаў, накіроўвалі па 1 дэлегату) Падрыхтоўка асн дакументаў да канферэнцыі вялася ў ЦК РКП(б) і Нар камісарыяце па справах нацыянальнасцей РСФСР пад кіраўніцтвам І В Сталіна Актыўны ўдзел у гэтай рабоце прымалі супрацоўнікі *Беларускага нацыянальнага камісарыята* (Белнацкома), *Беларускіх секцый РКП(б)* І В Лагун, А Р Чарвякоў, З Х Жылуновіч (Ц Гартны) і інш Асноўнымі былі пытанні аб стварэнні Камуніст партыі (бальшавікоў) Беларусі (гл *Камуністычная партыя Беларусі*), бел дзяржаўнасці і дзярж межах Многія кіраўнікі Віцебскай, Мінскай і інш парт арг-цый не прымалі ідэі стварэння самастойнай бел дзяржавы У снеж 1918 на старонках газ «Известия» і «Правда» абмяркоўваліся пытанні аб саюзе Літвы і Беларусі «для барацьбы з літоўска-беларускай буржуазіяй» і барацьбы супраць Польшчы Канчаткова пытанні для разгляду на канферэнцыі вырашаны 27 12 1918, падрыхтаваны Дырэктыва Нар камісарыята па справах нацыянальнасцей РСФСР, якая вызначала асн прынцыпы парт -дзярж будаўніцтва Беларусі, а таксама *Маніфест Часовага рабоча-сялянскага савецкага ўрада Беларусі* Хаця некат кіраўнікі Паўн - Зах абл к-та РКП(б) і Аблвыкамзаха не падзялялі ідэі стварэння КП(б)Б і абвяшчэння Беларусі Сацыялістычнай Сав Рабоча-Сял Рэспублікай, яны падпарадкаваліся указанням ЦК РКП(б) 27 12 1918 Сталін накіраваў у Мінск тэлеграму прадстаўніку СНК РСФСР Гопнеру, у якой адзначаў, што «пытанне не выкліча на канферэнцыі ніякіх спрэчак, бо канферэнцыя будзе мець справу з рашэннем ЦК партыі» Стэнаграфічнай справаздачы аб канферэнцыі няма Смаленскі і Мінскі варыянты «Пратакола І з'езда Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі», пазнейшыя выданні гэтага дакумента, звесткі перыяд друку таго часу ў шэрагу выпадкаў падаюць супярэчлівыя звесткі Так, у афіц выданнях сцвярджаецца, што 206 дэлегатаў (175 з рашаючым і 31 з дарадчым голасам) прадстаўлялі 17771 камуніста ад парт арг-цый Віцебскай, Магілеўскай, Мінскай, Смаленскай губ , а таксама ад бел парт арг-цый Віленскай і Чарнігаўскай губ У спісах дэлегатаў значацца 173 дэлегаты з рашаючым і 30 з дарадчым голасам ад 112 парт арг-цый, якія налічвалі 17 295 чл партыі Дакладчык ад мандатнай камісіі Арлоў абвясціў на з'ездзе аб прысутнасці 187 дэлегатаў (162 з рашаючым і 25 з дарадчым голасам) Ад Смаленскай губ было прадстаўлена 58 парт арг-цый (6668 чл партыі), Магілеўскай — адпаведна 20 (2178), Віцебскай — 12 (3555), Мінскай — 11 (2575), Віленскай — 6 (282), Чарнігаўскай — 5 (2037) Буйнейшымі парт арг-цыямі ў Магілеўскай губ былі Мсціслаўская (350 камуністаў), Клімавіцкая (200), Магілеўская (182), Аршанская, Быхаўская, Жлобінская (па 150), у Мінскай губ — Слуцкая (950), Уздзенская (700), Бабруйская (400), Самахвалавіцкая Мінскага пав (150), Замір'еўская Навагрудскага пав (80), у Віцебскай губ — Невельская (1312). Гарадоцкія павятовая (900) і гар (156), Віцебскія гар (500) і павятовая (300) У большасці гарадоў і павятаў цэнтр і зах частак Беларусі парт арг-цый не існавала або яны былі нешматлікія

Парадак дня бягучы момант (А Ф Мяснікоў), даклады абл к-та партыі (В Г Кнорын), аб становішчы на месцах (Мяснікоў), з месцаў ад раенаў арганізац пытанні (Я Ф Пярно), выбары, бягучыя справы У прэзідыум былі абраны Мяснікоў (старшыня), Р В Пікель, І І Рэйнгольд, І Я Алібегаў, С В Іваноў, Р П Найдзенкаў Па прапанове Мяснікова была прынята рэзалюцыя «Аб назве канферэнцыі», канферэнцыя абвясціла сябе «І з'ездам Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларускай Рэспублікі» і накіравала ў ЦК РКП(б) тэлеграму з просьбай зацвердзіць гэта рашэнне

З даклада Мяснікова аб бягучым моманце вынікала, што парт кіраўніцтва ў Маскве і Смаленску разглядала стварэнне КП(б)Б і Бел Рэспублікі хутчэй як паліт манеўр, а не як доўгатэрміновую перспектыўную палітыку Адзначалася, што партыя трымае курс «на рэвалюцыю еўрапейскую, сусветную» У рэзалюцыі «Па бягучаму моманту» з гэтых пазіцый ацэньваліся падзеі ў Англіі, Францыі, Італіі Выказвалася ўпэўненасць, што «Германія знаходзіцца напярэдадні новай рэвалюцыі» Камуністы і ўсе працоўныя заклікаліся да новых рэв баеў Пры вызначэнні асн задач эканам палітыкі ў рэзалюцыі былі падтрыманы прапановы Мяснікова аб стварэнні Савета нар гаспадаркі, развіцці кааперацыі і прыстасаванні яе да рэальных умоў жыцця Дапускалася існаванне прыватнай уласнасці ў бяднейшага і сярэдняга сялянства, аднак «селянін паступова павінен пранікнуцца ідэяй адмаўлення ад прыватнай уласнасці» Адзначалася, што прафсаюзам неабходна адкінуць старую цэхавую псіхалогію і «больш непакоіцца не аб ахове працы, а аб падняцці прадукцыйнасці працы» У дакладзе Кнорына аб дзейнасці абл к-та партыі адзначалася, што за 4 месяцы з часу правядзення V Паўн -Зах абл канферэнцыі РКП(б) (2—4 9 1918) колькасць чл партыі па вялічылася ў 3,5 раза (з 5 тыс да амаль 18 тыс ) Ён выказаўся за канцэнтрацыю «ўсей рэвалюцыйнай партыйнай улады ў руках яе камітэтаў Ад гэтага — бязмежная ўлада, поўная дыктатура Цэнтральнага Камітэта ва ўсерасійскім маштабе і гакая ж дыктатура на месцах абласных камітэтаў Пры такой пастаноўцы Саветы з'яўляюцца органамі дзяржаўнай улады, выконваюць прадвызначэнні партыі, якія праводзяць у жыцце тактычную лінію партыі» У дакументах з'езда падкрэслівалася, што Паўн -Зах абл к-т РКП(б) кантраляваў работу Надзвычайнай камісіі (ЧК), пастаянна займаўся пытаннямі ваен палітыкі, кіраваў дзейнасцю аддзелаў Аблвыкамзаха, рыхтаваў і накіроўваў правядзенне шматлікіх з'ездаў, аказваў дапамогу мясц парт , сав і прафс арг-цыям, праводзіў расследаванні па надзвычайных паліт падзеях, канфліктах і інш , займаўся агітацыяй і прапагандай сярод салдат герм арміі, якія ад'язджалі на радзіму, рыхтаваў кадры для парт і сав работы, выдаваў газеты, брашуры, лістоўкі на ням , венгерскай і інш мовах З абагульненнем паведамленняў з месцаў выступіў Мяснікоў У прынятай рэзалюцыі «Аб становішчы на месцах» выказвалася неабходнасць «рашучым чынам выкараніць усялякія недысцыплінаваныя паступкі ў радах партыі» З'езд даручыў *Цэнтральнаму Бюро КП(б)Б* (ЦБ) стварыць вышэйшую парт інспекцыю «з мэтай непасрэднага нагляду і кантролю за дзейнасцю парт арг-цый і тэрміновай ліквідацыі тых ці іншых недахопаў у іх рабоце» У дакладзе Пярно па арганізац пытаннях і спрэчках па дакладзе прызнавалася неабходным умацаванне кантролю з боку парт органаў за дзейнасцю сав устаноў і арг-цый, стварэнне ваен фракцый у гарадах, дзе меліся буйныя гарнізоны Адным з галоўных на з'ездзе было пытанне пра бел дзяржаўнасць Мяснікоў унес прапанову, якая была афармлена ў рэзалюцыю аб абвяшчэнні *Заходняй камуны* «самастойнай Савецкай Рэспублікай Беларусі» Акрамя гэтай назвы ў дакументах з'езда і Маніфесце Часовага рэв рабоча-сял сав ўрада Беларусі сустракаюцца назвы «Беларуская сацыялістычная савецкая рэспубліка», «Сацыялістычная савецкая працоўная рэспубліка Беларусі», «Савецкая Беларуская Рэспубліка», «Беларуская савецкая незалежная рэспубліка» З дакладам аб границах Бел рэспублікі выступіў Найдзенкаў На аснове распрацаваных Камісіяй (створана перад з'ездам) прапаноў была прынята пастанова «Аб граніцах Беларусі» Адзначалася, што асн ядром Бел Рэспублікі лічацца Мінская, Смаленская, Магілеўская, Віцебская і Гродзенская губ з часткамі прылеглых да іх этнічных мясцовасцей суседніх губерняў, населеных пераважна беларусамі Такімі прызнаваліся часткі Новааляксандраўскага пав Ковенскай, Свянцянскага і Ашмянскага пав Віленскай, Аўгустоўскі пав Сувалкаўскай, Суражскі, Мглінскі, Старадубскі і Навазыбкаўскі пав Чарнігаўскай губ Са складу Смаленскай губ выключаліся Гжацкі, Сычэўскі, Вяземскі і Юхнаўскі пав , са складу Віцебскай губ — часткі Дзвінскага, Рэжыцкага і Люцынскага пав У аднаведнасці з гэтым з'езд вызначыў адм -тэр падзел рэспублікі на 7 раенаў — Мінскі, Смаленскі, Віцебскі, Магілеўскі, Гомельскі, Гродзенскі, Баранавіцкі, якія падзяляліся на 54 падра

ены Згодна з такім падзелам павінны былі ствараецца райкомы (губпарткомы) і падрайкомы (павятовыя к-ты) КП(б)Б У тэлеграме I з'езда за подпісамі членаў прэзідыума, накіраванай у СНК РСФСР, адзначалася, што «канферэнцыя лічыць неабходным аб'явіць самастойную сацыялістычную рэспубліку Беларусі з тэрыторыяй Гродзенскай, Магілёўскай, Віцебскай і Смаленскай губерняў», «Першы з'езд Камуністычнай партыі Беларусі просіць Савет Народных Камісараў пацвердзіць дадзенае яго рашэнне, аб чым аб'явіць працоўным усяго свету» Былі накіраваны тэлеграмы на адрас ЦК РКП(б) і СНК РСФСР з просьбай зацвердзіць рашэнні з'езда З'езд зацвердзіў «Палажэнне аб партыйных арганізацыях», у якім давалася схема арг-цый ЦБ КП(б)Б, райкомы (губпарткомы), падрайкомы (валасныя к-ты), ячэйкі (валасныя і сельскія) Вызначаліся функцыі і абавязкі кожнай з гэтых структур, іх склад і парадак работы Палажэнне змяшчала «Інструкцыю для работы раеннага і падраеннага камітэтаў», вызначала асн кірункі агітацыі і прапаганды, адносіны да Саветаў, сродкі партыі і абавязкі камуністаў Быў прыняты зварот «Да рабочых, батракоў, сялян і салдат Чырвонай Арміі Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі» з заклікамі змагацца за ўмацаванне сав улады і перамогу рэвалюцыі ва ўсім свеце З'езд абраў ЦБ КП(б)Б, у якое ўвайшлі 15 чал Алібегаў, А А Андрэеў, Жылуновіч (Ц Гартны), Іваноў, М І Калмановіч, Кнорын (сакратар ЦБ), І В Лагун, Мяснікоў (старшыня), Найдзенкаў, Пікель, Пярно, Рэйнгольд, У С Селязнеў, В З Собалеў, В І Яркін

*Літ* Пратакол 1-га з'езда Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі Мн 1934, Хроника важнейших событий истории Коммунистической партии Белоруссии Ч 2 (1919 г — июнь 1941 г) Мн 1970 Коммунистическая партия Белоруссии в резолюциях и решениях съездов и пленумов ЦК Т 1 1918—1927 Мн, 1983 С 11—27, Коммунистическая партия Белоруссии в цифрах 1918—1988 2 изд Мн, 1988 *Васіль Кушнер*

**ПЕРШЫ З'ЕЗД КПЗБ** Адбыўся 25 6—25 7 1928 у нас Арэхаўск Аршанскага р-на, прысутнічалі 31 дэлегат з рашаючым і 21 з дарадчым голасам ад Беластоцкай, Гродзенскай, Брэсцкай, Віленскай, Баранавіцкай і Пінскай акр арг-цый КПЗБ (прадстаўлялі каля 2000 членаў партыі), з якімі ЦК КПЗБ меў устойлівую сувязь Выканком Камінтэрна на з'ездзе прадстаўляў В С Міцкевіч-Капсукас, КПП — В Кастшэва, А Варскі, Ю Ленскі, Э Прухняк, КП(б)Б — В Г Кнорын і М М Галадзед, КСМЗБ — М А Давідовіч Прысутнічаў таксама прадстаўнік ад КПЗУ

Парадак дня справаздача ЦК КПП (Кастшэва), справаздача ЦК КПЗБ (С Т Мілер), справаздача ЦК КСМЗБ (Давідовіч), паліт сітуацыя і задачы партыі [І К Лагіновіч (П Корчык)], аб рабоце ў вёсцы, у прафсаюзах, сярод моладзі, арганізац пытанні У прынятых з'ездам рэзалюцыях паліт лінія ЦК КПЗБ, як і ЦК КПП, прызнавалася ў асн правільнай Адначасова канстатавалася, што фактычная падтрымка ЦК КПП і ЦК КПЗБ ваен перавароту Ю Пілсудскага ў маі 1926 з'явілася гал прычынай узнікнення фракцыйнай барацьбы ў кіраўніцтве партыі, адмоўна паўплывала на дзейнасць парт арг-цый У рэзалюцыі па дакладзе ЦК КПЗБ як дадатны момант падкрэслівалася, што ў справаздачны перыяд партыя зрабіла буйны крок на шляху бальшавізацыі, вырасла ідэйна, палітычна і арганізацыйна, наладзіла выдавецкую дзейнасць, у выніку пашырыўся рэв рух горада і вёскі Гаворачы пра цяжкія ўмовы нелегальнай працы камуністаў Зах Беларусі, Кнорын адзначаў, «што наўрад ці знойдзецца па колькасці ахвяр, па колькасці асуджаных, па колькасці вялікіх працэсаў якая-небудзь іншая партыя, якая пераўзыходзіць Камуністычную партыю Польшчы, у прыватнасці КПЗБ» Асаблівая ўвага з'езда была звернута на выпрацоўку тактычнай лініі партыі Упершыню ў парт дакументах такога ўзроўню прызнавалася неабходнасць узмацнення барацьбы ў абарону дэмакр правоў і свабод, разгортвання масавага руху на аснове патрабаванняў дэмакр характару Ваенна-аўтарытарны рэжым Пілсудскага з'езд ахарактарызаваў як фаш дыктатуру і заклікаў да бескампраміснай барацьбы з ім Перад партыяй была пастаўлена задача заваяваць большасць пралетарыяту, асабліва ў буйных прамысл цэнтрах, стварыць на фабрыках і заводах ячэйкі КПЗБ, узмацніць барацьбу за 8-гадзінны рабочы дзень і павышэнне заробатнай платы, весці агітацыю за ўступленне ў класавыя прафсаюзы і стварэнне ў іх левай апазіцыі і камуніст фракцыі У сял пытанні з'езд указаў на неабходнасць спалучэння барацьбы працоўнага сялянства за зямлю без выкупу з неадкладнымі патрэбамі і клопатамі сялян (аблягчэнне падатковага цяжару, супраць ліквідацыі *сервітутаў* і інш) Разам з тым пад уплывам разгортвання ў СССР барацьбы супраць кулакоў у дакладзе Лагіновіча выказаны тэзіс аб змене бел кулацтвам ранейшага «стану нейтральнасці» і пераходзе яго на «бок фашысцкай дыктатуры» У пытанні развіцця нац -вызв руху адзначалася, што КПЗБ арганізуе барацьбу працоўных мас пад лозунгам самавызначэння Зах Беларусі аж да аддзялення ад Польшчы і ўз'яднання з БССР у адзінай Сав дзяржаве Зыходзячы з пастаяннай варожасці з боку капіталіст краін, з'езд канстатаваў, што найважнейшай задачай партыі з'яўляецца абарона СССР Рашэнні з езда абавязвалі КСМЗБ умацоўваць свае рады, больш увагі аддаваць арганізацыі рабоча-сял моладзі на рэв барацьбу супраць эксплуататараў, за свае жыццёвыя інтарэсы, супраць небяспекі вайны Фракцыйная барацьба, якая вялася ў партыі больш за 2 гады, востра выявілася і на з'ездзе 14 дэлегатаў з рашаючым голасам (4 прыхільнікі групы «большасці» і 10 дэлегатаў з ліку «нейтральных») галасавалі супраць тых пунктаў рэзалюцыі з'езда, дзе асуджаліся погляды і ўстаноўкі былой «большасці» ЦК КПП, і ўстрымаліся па дакладзе ЦК КПП цалкам У выніку рашэнні з'езда заклікалі пакласці канец фракцыйнай барацьбе на аснове «бальшавіцкай лініі Камінтэрна, IV з'езда КПП і I з'езда КПЗБ» Замест прызначанай Выканкомам Камінтэрна камісіі, якая ў сувязі з фракцыйнай барацьбой у кіраўніцтве партыі выконвала функцыі ЦК КПЗБ, з'езд абраў новы склад ЦК У яго увайшлі чл А А Альшэўскі, М А Бліннікаў, С І Будзінскі, С К Гарбуз, Г М Дуа, А У Канчэўскі, Лагіновіч (П Корчык), Мілер, М Л Перавалоцкі, А М Розенштайн, А С Славінскі, канд Л І Роджэвіч, М М Словік і інш

*Літ* I з'езд КПЗБ Рэзалюцыі па справаздачах ЦК КПЗБ і ЦК КПП Вільня 1928 Ситуация и задачи партии (Резолюция I го съезда КПЗБ) Вильна, 1928, Партия и профсоюзы Резолюция I съезда КПЗБ Вильна 1928, Революционный путь Компартии Западной Белоруссии (1921—1939 гг) Мн, 1966, Ладысев В Ф В борьбе за демократические права и свободы Мн, 1988 *Уладзімір Ладысеў*

**ПЕ́РШЫ З'ЕЗД ПАЎНО́ЧНА-ЗАХО́ДНЯГА КАМІТЭ́ТА РСДРП** Адбыўся ў пачатку жн 1905 у в Ратамка Мінскага пав 8 дэлегатаў ад Паўн Зах к-та, Мінскай, Віленскай, Віцебскай, Смаргонскай, Бабруйскай арг-цыі, прадстаўнік ЦК РСДРП Разглядзеў арганізацыйнае пытанне (прыняцце новага статута і пераўтварэнне Паўн -Зах к-та ў *Паўночна-Заходні саюз РСДРП*), аб адносінах да нац с -д арг-цый, аб аб'яднанні РСДРП, аб арганізацыі дэманстрацый Выбраў выканаўчы к-т з 3 чалавек тэрмінам на 1 год Пасля з'езда выканком Паўн -Зах саюза пераведзены з Вільні ў Мінск

**ПЕ́РШЫ З'ЕЗД ПЕДАГО́ГАЎ БЕЛАРУ́СКІХ СЯРЭ́ДНІХ ШКОЛ ЗАХО́ДНЯЙ БЕЛАРУ́СІ** Адбыўся 11—14 4 1923 у Вільні Скліканы *Таварыствам беларускай школы* 44 дэлегаты прадстаўлялі Цэнтр бел школьную раду, Віленскую, Радашковіцкую, Гарадоцкую, Навагрудскую, Нясвіжскую бел гімназіі і Віленскую правасл духоўную семінарыю Прысутнічалі прадстаўнікі бел грамадскіх арг-цый, паслы і сенатары сейма, куратар Віленскай школьнай акругі Парадак дня даклады з месцаў, арганізац пытанні, пед і выхаваўчыя справы, прыкладныя лекцыі для педагогаў з правінцый агляд бел музея і інш Звярталася ўвага на цяжкія ўмовы працы бел педагогаў Высвятліліся такія факты, як забарона выкладаць геаграфію Беларусі ў Нясвіжскай гімназіі, дамаганне Вілейскага старосты для атрымання дазволу на пастаноўку спектакля прадстаўляць бел п'есы ў перакладзе на польск мову Прыняты рэзалюцыі аб тыпе і ўнутр арганізацыі бел сярэдняй школы, аб'яднанні бел

сярэдніх школ і іх выкладчыкаў у межах Зах Беларусі, аб выданні перыядычнага часопіса па пытаннях бел школы і педагогікі, аб арганізацыі курсаў для педагогаў, наладжванні сеткі бел пач школ і беларусізацыі духоўных семінарый Разгледжаны пытанні пра методыку выкладання, выхавання і навучання вучняў, выкладанне гуманістыкі і месца ў ім беларусазнаўства На з'ездзе выступалі з дакладамі М Гарэцкі, А Луцкевіч, А Трэпка, А Грыневіч, Я Шнаркевіч, І Бaгдановіч, М Красінскі, Я Гаўрылік, І Цэханоўскі і інш *Аляксандра Гесь*

**ПЕ́РШЫ З'ЕЗД РСДРП** Адбыўся нелегальна 1—3(13—15) 3 1898 у Мінску, абвясціў заснаванне Расійскай с-д рабочай партыі (РСДРП) Узнікненне ў Расіі ў 1890-я г разрозненых с-д груп ставіла пытанне аб іх арганізацыйным аб'яднанні ў маштабах усёй Рас імперыі У сак 1897 кіеўскія сацыял-дэмакраты спрабавалі правесці аб'яднаўчы з'езд, на які запрасілі прадстаўнікоў с-д Пецярбурга, Масквы, Іванава-Вазнясенска і Вільні Аднак па розных прычынах большасць з іх не прыехала, таму адбылася нарада прадстаўнікоў с-д Пецярбурга, групы польскіх сацыял-дэмакратаў у Кіеве і кіеўскай групы «Рабочая справа», на якой абмеркаваны план склікання і парадак дня з'езда Па прапанове прадстаўнікоў Бунда з'езд вырашана правесці у Мінску на кватэры чыг служачага П В Румянцава па вул Захар'еўскай На з'ездзе прысутнічала 9 дэлегатаў ад 6 мясц с-д арг-цый Пецярбургскага (С І Радчанка), Маскоўскага (А А Ванноўскі), Кіеўскага (П Л Тучапскі) і Екацярынаслаўскага (К А Петрусевіч) «Саюзаў барацьбы за вызваленне рабочага класа», два ад кіеўскай «Рабочай газеты» (Б Л Эйдэльман і М А Вігдорчык), трое ад Бунда (А І Крэмер, А Мутнік, Ш Кац) За 3 дні работы з'езда праведзена 6 пасяджэнняў Пратаколы не вяліся, запісваліся толькі рэзалюцыі з'езда Было вырашана назваць партыю Расійскай сацыял-дэмакратычнай партыяй Слова «рабочая» не прайшло, таму што ў с-д арг-цыях было мала рабочых Пазней яно унесена пры складанні Маніфеста Вырашана, што вышэйшым органам партыі з'яуляецца з'езд, а выканаўчым — ЦК, які выбіраецца з'ездам і падсправаздачны яму У рэзалюцыі па нац пытанні запісана, што партыя прызнае за кожнай нацыянальнасцю права на самавызначэнне, у т л і права на нац аўтаномію с-д руху З'езд адхіліў ідэю цэнтралізму ў кіраўніцтве партыяй Выбраў ЦК з 3 чал (Радчанка, Эйдэльман, Крэмер), прызнаў «Рабочую газету» афіц органам партыі, прыняў рашэнне аб выпуску Маніфеста партыі і даручыў яго рэдагаванне ЦК Гэты дакумент быў напісаны П Струве і надрукаваны ў падп друкарні ў Бабруйску Пазней Маніфест апублікаваны у с-д газетах Берліна, Парыжа, Лондана, Жэневы Адразу пасля з'езда «Саюзы барацьбы» і с-д групы пачалі пераўтварацца ў парт к-ты Аднак партыя як адзіная с-д арг цыя не была створана не былі прыняты статут і праграма, пасля з'езда 8 з 9 дэлегатаў, у т л і 2 чл ЦК, былі арыштаваны, друкарню і 3-і нумар «Рабочай газеты» захапіла паліцыя На II з'ездзе РСДРП (1903) рас сацыял-дэмакратыя раскалолася на бальшавікоў і меншавікоў У доме, дзе адбыўся І з'езд РСДРП, створаны Дом-музей І з'езда РСДРП

*Літ* М а р к о в Р Первый съезд РСДРП М, 1965, Т у ч а п с к и й П Л Из пережитого Одесса, 1923, К о р о л ь А С Соединяясь в партию Мн, 1988, П е т р о в С Первый съезд РСДРП М, 1955, С і м а н ю к о ў С М Утварэнне РСДРП // Бел гіст часоп 1998 № 2, Я г о ж Дом-музей І съезда РСДРП Мн, 1998 *Сяргей Сіманюкоў*

**ПЕ́РШЫ З'ЕЗД СЯЛЯ́НСКІХ ДЭПУТА́ТАЎ ЗАХО́ДНЯГА ФРО́НТУ**, з'езд салдат-сялян Заходняга фронту Адбыўся 23—25 10(5—7 11) 1917 у Мінску Каля 400 дэлегатаў, пераважна ад партыі эсэраў Абмеркаваў пытанні перадача зямлі ў распараджэнне зямельных к-таў, Усерас Савет сял дэпутатаў і яго праграма, выбары ва Устаноўчы сход і інш Ад бальшавікоў з растлумачэннем праграмы РСДРП (б) па зямельным пытанні выступіў А Ф Мяснікоў З'езд прыняў рэзалюцыі эсэраўскага кірунку

**ПЕ́РШЫ З'ЕЗД СЯЛЯ́НСКІХ ДЭПУТА́ТАЎ МІ́НСКАЙ І ВІ́ЛЕНСКАЙ ГУБЕ́РНЯЎ** Адбыўся 20—23 4(3—6 5) 1917 у Мінску Удзельнічалі 800 дэлегатаў, у большасці эсэраў Скліканы Мінскім к-там (старшыня М В Фрунзе) Усерасійскага сял саюза Абмеркаваў пытанні зямельнае, аб вайне і міры, аб арганізацыі Саветаў сял дэпутатаў, аб адносінах да Часовага ўрада, пра бягучы момант Прыняў рэзалюцыі эсэраўскага кірунку Выказаўся супраць дзейнасці Бел нац к-та і аўтаноміі Беларусі Выбраў губ выканаўчы к-т сял дэпутатаў (20 чал) на чале з Фрунзе Прыняў пастанову аб выданні «*Крестьянской газеты*»

**ПЕ́РШЫ МІ́НСКІ РАБО́ЧЫ ПОЛК** Асобы рабочы полк імя Мінскага савета прафсаюзаў Створаны летам 1919 Мінскім губсаветам прафсаюзаў і губ ваенкаматам паводле рашэння канферэнцыі праўлення прафсаюзаў і фабзаўкомаў ад 26 5 1919 Налічваў больш за 600 добраахвотнікаў і мабілізаваных рабочых і служачых — членаў мінскіх прафсаюзаў Полк уліўся ў 8-ю стралк дывізію 16-й арміі і ўдзельнічаў у баях на Зах фронце

**ПЕ́РШЫ ПАДЗЕ́Л РЭ́ЧЫ ПАСПАЛІ́ТАЙ** Ажыццяўлены Рас імперыяй Прусіяй і Аўстрыяй паводле Пецярбургскай канвенцыі 25 7(5 8) 1772 Непасрэднай унутранай падставай падзелу паслужыла дзейнасць *Барскай канфедэрацыі*, фактычнай — імкненне дзяржаў суседзяў да пашырэння сваіх тэрыторый за кошт аслабленай унутранымі сваркамі Рэчы Паспалітай Праект частковага падзелу гэтай дзяржавы Расія разглядала яшчэ ў 1763 Аўстрыйскі канцлер кн В А Каўніц прапанаваў свой праект у 1768, а прускі кароль Фрыдрых II — у 1769 Не дачакаўшыся вырашэння пытання пра падзел Рэчы Паспалітай, Аўстрыя ў 1770 захапіла Цыпскае і Зандэкскае староствы і саляныя капальні Вялічкі і Бохні, што выклікала вял незадаволенасць рас імператрыцы Кацярыны II і Фрыдрыха II Расія і Прусія пачалі рыхтаваць праект падзелу Рэчы Паспалітай у сакрэце ад Аўстрыі Толькі ў снеж 1771 рас пасланнік у Вене кн Дз М Галіцын паведаміў аўстрыйскаму ўраду аб падрыхтаваным праекце падзелу і прапанаваў далучыцца да яго 17 1 1772 Каўніц заявіў пра згоду свайго ўрада У дэкларацыі да польск караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага і «рэспублікі» (Рэчы Паспалітай) Кацярына II паведаміла, што 3

**Першы з'езд РСДРП**
Мастак М І Манасзон 1969

чалі 230 дэлегатаў з рашаючым і 44 з дарадчым голасам ад Гродзенскай (11 дэлегатаў), Мінскай (121), Магілеўскай (10) губ, Віленскага пав Віленскай губ (125), а таксама 7 дэлегатаў ад бежанцаў Парадак дня аб адносінах да сав рэспублік (І І.Рэйнгольд), аб бягучым моманце (А Ф Мяснікоў), аб граніцах Сав Беларусі, справаздача Часовага рэв рабоча-сял ўрада Беларусі, Канстытуцыя БССР (Р В Пікель), выбары ЦВК БССР У рабоце з'езда ўдзельнічаў старшыня ВЦВК Я М Свярдлоў, які абвясціў пастанову Прэзідыума ВЦВК «Аб прызнанні незалежнасці Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі» З'езд прыняў «Дэкларацыю аб устанаўленні федэратыўнай сувязі паміж БССР і РСФСР» Для яе рэалізацыі было выбрана абрацць камісію, адказную перад выбраным з'ездам органам улады З'езд звярнуўся да усіх народаў і іх урадаў з заклікам прызнаць незалежнасць БССР і ўстанавіць з ей дыпламат адносіны Прапанаваў урадам сав рэспублік узяць прыклад з рабочых і сялян Беларусі і пачаць перагаворы пра наладжванне федэратыўных сувязей з Сав Расіяй З'езд вызначыў тэр БССР у складзе Мінскай і Гродзенскай губ, Віцебская, Магілеўская і Смаленская губ адышлі у склад РСФСР Адначасова прызнана неабходным аб'яднаць БССР з Літ ССР З'езд прыняў 1-ю Канстытуцыю БССР (гл *Канстытуцыя Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусі 1919*), у адпаведнасці з якой найвышэйшая ўлада ў рэспубліцы належала з'езду Саветаў У перыяд паміж з'ездамі ўладу ажыццяўляў Цэнтр выканаўчы к-т, адказны перад Усебел з'ездам Саветаў З'езд зацвердзіў герб і флаг БССР У склад абранага з'ездам ЦВК БССР увайшло 50 чал, з іх 45 камуністаў, 2 бундаўцы, 2 члены Паалеі-Цыёна і 1 меншавік

*Літ* Турук Ф Белорусское движение Репринт Мн, 1994, Из истории установления Советской власти в Белоруссии и образования БССР Док и материалы по истории Белоруссии Т 4 Мн, 1954, Гісторыя Беларускай ССР Т 3 Мн, 1973, Игнатенко И М Октябрьская революция и самоопределение Белоруссии Мн, 1992

*Валянцін Мазец*

**ПЕ́РШЫ УСЕБЕЛАРУ́СКІ КРАЯЗНА́ЎЧЫ З'ЕЗД** Адбыўся 7—11 2 1926 146 дэлегатаў ад Інбелкульта, Цэнтр бюро краязнаўства (ЦБК), музеяў і 167 краязнаўчых арг-цый (5 тыс членаў) Абмеркаваў паліт даклад, інфармацыйны даклад пра дзейнасць Інбелкульта, справаздачу ЦБК, справаздачы з месцаў Прыводзіліся звесткі пра гісторыка-археал даследаванні, апрацоўку і выданне стараж актаў, падрыхтоўку да выдання Літоўскай Метрыкі, вывучэнне нар побыту, этнаграфіі, збіранне слоўніка жывой бел мовы, метэаралаг і феналагічных назіранняў Адзначаліся сувязі ЦБК з арг-цыямі Смаленшчыны, Расіі, Узбекістана, Грузіі, Азербайджана, Вільні, Коўна, Рыгі, Лейпцыга і роля час «Наш край» у наладжванні гэтых сувязей На з'ездзе выступілі А Смоліч, С Некрашэвіч, М Гарэцкі, І Пятровіч, М Доўнар Запольскі, У Ігнатоўскі, М Мароз, М Мялешка, Я Дыла, Я Ракаў, Д Васілеўскі, Я Троська, А Грыневіч, А Аніхоўскі, У Мікіцінскі і інш З'езд прыняў рэзалюцыі аб навук дзейнасці, аб час «Наш край», краязнаўчай працы ў галіне гісторыі і археалогіі, аб ахове помнікаў і інш

*Літ* Працы Першага Усебеларускага краязнаўчага з'езду 7—11 лютага 1926 г Мн, 1926

*Аляксандра Гесь*

**ПЕ́РШЫ УСЕРАСІ́ЙСКІ З'ЕЗД САВЕ́ТАЎ РАБО́ЧЫХ І САЛДА́ЦКІХ ДЭПУТА́ТАЎ** Адбыўся 3(16) 6—24 6(7 7) 1917 у Петраградзе 1090 дэлегатаў (822 з рашаючым голасам, 268 з дарадчым), з 777 дэлегатаў, якія заявілі аб сваёй партыйнасці, 285 эсэраў, 248 меншавікоў, 105 бальшавікоў Разгледзеў пытанні рэв дэмакратыя і ўрадавая ўлада, адносіны да вайны (пытанні абароны і барацьбы за мір), падрыхтоўка да Устаноўчага сходу, нац пытанне ў Расіі, зямельнае пытанне, сялянскае, рабочае і салдацкае жыццё, арганізацыя вытв-сці размеркавання транспарту і кантроль над ім, харч пытанне, фін палітыка, мясц самакіраванне, арганізац пытанні і выбары З'езд не вырашыў асн пытанняў рэвалюцыі — аб міры, зямлі і хлебе У склад ВЦВК выбрана 320 чл, у т л 123 меншавікі, 119 эсэраў, 58 бальшавікоў На з'ездзе адбылося аб'яднанне Саветаў усёй краіны

**ПЕ́РШЫ УСЕРАСІ́ЙСКІ З'ЕЗД СЯЛЯ́НСКІХ ДЭПУТА́ТАЎ** Адбыўся ў Петраградзе 4(17) 5—28 5(10 6) 1917 1167 дэлегатаў, з іх 558 ад армейскіх арг-цый і 609 ад 69 губерняў і абласцей З 1115 дэлегатаў, аб якіх есць звесткі, эсэраў 537, сацыял-дэмакратаў (пераважна меншавікі) 103, нар сацыялістаў 4, трудавікоў 6, беспарт 136, з нявыяўленай парт прыналежнасцю 329, бальшавіцкая фракцыя — 9 чал., яе падтрымлівала «група 14 беспартыйных» — прадстаўнікі ад Беларусі на чале з М В Фрунзе, абраныя з'ездам сял дэпутатаў Мінскай і Віленскай губ З'езд абмеркаваў пытанні аграрнае, харчовае, аб вайне і міры, аб адносінах да Часовага ўрада і інш У І Ленін у адкрытым пісьме да дэлегатаў з'езда выклаў палітыку бальшавікоў па пытаннях аб зямлі, аб вайне, аб будаўніцтве дзяржавы, 22 мая (4 чэрв) выступіў на з'ездзе з прамовай па агр пытанні, прапанаваў аб'явіць зямлю ўсенар уласнасцю і, не чакаючы Устаноўчага сходу, перадаць яе без выкупу сялянам З'езд прыняў рэзалюцыі, прапанаваныя фракцыяй эсэраў аб адабрэнні палітыкі Часовага ўрада і прадаўжэнні вайны, палажэнне аб перадачы ўсей зямлі ў распараджэнне зямельных к-таў да склікання Устаноўчага сходу Выбраў выканком Савета сял дэпутатаў, кіруючае становішча ў якім занялі правыя эсэры Ад імя групы «беспартыйных» Фрунзе прапанаваў праект рэзалюцыі з патрабаваннем перадачы ўлады Усерасійскаму Савету рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў Аднак прапанова была адхілена, за яе галасавалі 17 дэлегатаў, супраць — 800

**ПЕ́СКІ**, археалагічны комплекс 7 стаянак каменнага веку і 4 селішчы сярэдневякоўя каля в Пескі Мастоўскага р-на На стаянках позняга мезаліту (6—5-е тыс да н э) і ранняга неаліту (4—3-е тыс да н э) знойдзены крамяневыя трохвугольныя наканечнікі стрэл, масіўныя скрабкі, двухпляцовачныя *нуклеусы*, скоблі, праколкі, укладышы, бака-

Дэлегаты Першага Усебел... з'езда Сав...

выя разцы і інш прылады працы, фрагменты ляпной керамікі На селішчах 15—17 і 16—18 ст знойдзены ганчарны посуд, жал нажы, спражкі, гліняныя грузілы, тачыльныя брускі, бронзавая накладка ад пояса і інш

**ПЕ́СКІ**, веска, цэнтр сельсавета ў Мастоўскім р-не, на р Зальвянка На скрыжаванні аўтадарог Масты—Зэльва і Ваўкавыск—Шчучын За 15—17 км на ПдУ ад горада і чыг ст Масты 896 ж, 377 двароў (1998)

Вядома з 17 ст як уладанне Сапегаў, пры якіх у 1682 пабудаваны касцел Успення Дзевы Марыі З 1795 у Рас імперыі У 19 — пач 20 ст цэнтр воласці Ваўкавыскага пав Гродзенскай губ У 1886 мястэчка, 1352 ж, 43 двары, школа, царква, касцел, капліца, сінагога, 3 яўр малітоўныя дамы, яўр багадзельня, гарбарня, 5 вадзяных млыноў, заезны двор, 14 крам, 6 корчмаў, базар З 1921 у складзе Польшчы, цэнтр гміны Ваўкавыскага пав Беластоцкага ваяв З 1939 у БССР, з 12 10 1940 цэнтр сельсавета *Мастоўскага раёна* У 1962—65 у Ваўкавыскім р-не У складзе калект с-г прадпрыемства «Чырвоная Зорка» Рамонтны з-д, філіял Ваўкавыскага АТ «Беллакт», млын, філіял камбіната быт абслугоўвання Лясніцтва Сярэдняя школа, клуб, б-ка, дзіцячыя яслі-сад, бальніца, аптэка, аддз сувязі, магазіны Помнік землякам, якія загінулі ў Вял Айч вайну Помнік археалогіі *Пескі* Касцел Маці Божай Ружанцовай (1918), Мікалаеўская царква (1870, адрэстаўравана ў 1990)

**ПЕ́СТРАК** Піліп Сяменавіч [псеўд П Гайдук, Звястун, П Звястун, 14(27) 11 1903, в Сакаўцы Слонімскага пав Гродзенскай губ, цяпер Івацэвіцкі р-н Брэсцкай вобл — 22 8 1978], бел паэт, празаік, удзельнік рэв руху ў Зах Беларусі Засл дз культуры БССР (1968) Вучыўся ў гімназіі ў г Бузулук (1917—18), на рабфаку і ў Самарскім ун-це (1920—21) З 1921 у Зах Беларусі Працаваў на лесапільні, леснікам, служыў у польск войску З 1927 сакратар Косаўскага падп райкома КПЗБ У 1933—34 інструктар ЦК КПЗБ па Пінскай акрузе Амаль 11 гадоў сядзеў у турмах за падп дзейнасць Знаходзячыся ў Віленскай турме Лукішкі, пісаў вершы у нелегальны рукапісны час «Краты» Вызвалены з турмы ў вер 1939 Сакратар гаркома КПБ у Гродне (1939—40), старшыня Беластоцкага аддз Саюза пісьменнікаў БССР (1940—41) У Вял Айч вайну ўдзельнік партыз руху Пасля вызвалення Беларусі працаваў начальнікам Упраўлення па справах мастацтваў пры СНК БССР, з 1946 у Ін-це мовы, л-ры і мастацтва АН БССР, літкансультантам СП БССР З 1951 на творчай рабоце Дэп ВС СССР у 1940—46, БССР у 1971—75 Друкавацца пачаў у 1927 на старонках час «Родныя гоні» Першы зб вершаў «На варце» (1940) на тэму рэв барацьбы Змаганне сав народа супраць ням-фаш захопнікаў адлюстраваў у зб вершаў «За сваю Айчыну» (1946) Барацьба Зах Беларусі за свае сац і нац вызваленне ў рамане «Сустрэнемся на барыкадах» (1951—54) Усталяванне сав улады ў Зах Беларусі паказана ў кнігах апавяданняў «Першыя ўсходы» (1951), «Неспадзяванак» (1957), «Лясная песня» (1958), «Сярод чаротаў» (1964) Праблемам пасляваен жыцця прысвечаны раманы «Серадзібор» (1961—63, Літ прэмія імя Я Коласа 1964), «Лесавічанка» (няскончаны, часткова апублікаваны ў 1980) Пісаў нарысы («Падарожжа па Народнай Польшчы», 1956), вершы (зб «Падарожнае», 1962), літ-крытычныя і публіцыст артыкулы Аўтар гісторыка-публіцыст паэмы «Слова пра Мінск» (1968), п'есы «Пад зоркамі» (сааўт А Струнін) Перакладаў на бел мову творы польск, укр, латышскіх, літоўскіх пісьменнікаў Асобныя яго творы перакладзены на замежныя мовы На вершы П напісалі песні бел кампазітары А Багатыроў, Я Цікоцкі і інш Імем П названы вуліцы ў Мінску і Гродне

П С Пестрак

*Тв* Зб тв Т 1—4 Мн, 1969—71, Зб тв Т 1—5 Мн, 1984—86, Апавяданні Мн, 1970,

*Літ* Гісторыя беларускай савецкай літаратуры Т 2 Мн, 1966, Хромчанка К Р Піліп Пестрак Жыццё і творчасць Мн, 1960, Беларуская савецкая проза Раман і аповесць Мн, 1971, Ватацы Н Б Піліп Пестрак Бібліягр памятка Мн 1961

*Лідзія Савік*

**ПЕ́СТУН** Яфім Рыгоравіч (1889, г Магілеў — 1939), удзельнік рэвалюцыйнага руху ў Беларусі, парт і дзярж дзеяч Удзельнік рэвалюцыі 1905—07 у Магілеве За рэв дзейнасць двойчы арыштаваны (1906, 1911) і асуджаны на 12 гадоў катаргі Пасля Кастр рэвалюцыі 1917 на кіруючых пасадах у Магілеўскай губ Член ВЦВК у 1920—21 У 1920—21 сакратар Гомельскага губкома РКП(б), старшыня Гомельскага губвыканкома У 1921—22 упаўнаважаны ЦК РКП(б) у Башкірыі, старшыня ЦВК Башкірыі, член Прэзідыума ВЦСПС З 1922 на кіруючых пасадах у Растоўскай вобл, Якуцкай АССР, Сярэдневолжскім краі і інш У 1939 па ілжывым абвінавачанні арыштаваны, прыгавораны да расстрэлу Рэабілітаваны

*Эдуард Карнілові*ч

**ПЕ́СЦЕЛЬ** Павел Іванавіч [24 6(5 7) 1793, Масква — 13(25) 7 1826], дзекабрыст, палкоўнік (з 1821) Сын буйнога саноўніка (сібірскі генерал-губернатар, сенатар) Вучыўся ў Дрэздэне (1805—09), у Пажскім корпусе (1810) У 1811 прапаршчык лейб-гвардыі Літоўскага палка Удзельнік вайны 1812 і замежных паходаў 1813—14 У 1816 уступіў у «Саюз выратавання», у 1818 арганізаваў у Тульчыне ўправу «Саюза працвітання» У сак 1821 стварыў і ўзначаліў Паўд т-ва У складзенай П праграме сац-эканам і паліт пераўтварэнняў Расіі, якую ён назваў «Руская праўда» (1824), значная ўвага аддавалася нац пытанню Беларусаў адносіў да «малых народаў», лічыў, што ўсе народы Расіі «павінны зліты́мі быць у адзін народ» Да «Рускай праўды» зрабіў карту будучай Рас дзяржавы, паводле якой зах частка Беларусі (Гродзенская, Мінская, частка Віленскай губ) адыходзіла да Польшчы, а усх (Магілеўская і Віцебская губ) — да Расіі У час перагавораў Паўд т-ва з польскім Патрыятычным т-вам (1824, 1825) згаджаўся перадаць палякам зах частку бел зямель, на спрэчных тэрыторыях прапанаваў правесці апытанне насельніцтва 13 12 1825 арыштаваны ў Тульчыне Павешаны разам з 4 інш дзекабрыстамі ў Петрапаўлаўскай крэпасці

*Літ* Грыцкевіч А П Нацыянальнае пытанне ў праграме дзекабрыстаў // З гісторыяй на «Вы» Мн, 1994 Вып 2

*Вячаслаў Швед*

**ПЕТРАГРА́ДСКАЕ АДДЗЯЛЕ́ННЕ БЕЛАРУ́СКАГА НАЦЫЯНА́ЛЬНАГА КАМІСАРЫЯ́ТА** Створана у сак 1918 у Петраградзе, працавала пад кіраўніцтвам бел секцыі РКП(б), з чэрв. 1918 наз Беларускі аддзел Камісарыята па справах нацыянальнасцей Саюза камун Паўночнай вобласці [гл *Беларускія секцыі РКП(б)*] Вяло паліт і культ-асв работу сярод беларусаў — жыхароў Петраграда, бежанцаў, маракоў Балт флоту, адкрыла бел рабочую школу і бел школы 1-й і 2-й ступені, культ-асв клуб «Беларуская хатка», садзейнічала ўтварэнню *Беларускага вольна-эканамічнага таварыства* Выдавала час *«Чырвоны шлях»*, *«Белорусская криница»* і інш л-ру, у 1919 выдала адну з першых біяграфій У І Леніна (аўтар І М Баранкевіч) Спыніла дзейнасць у сак 1919 у сувязі з ліквідацыяй Бел нац камісарыята

*Літ* Круталевич В А. Организация и деятельность Белорусского национального комиссариата (1918—1919 гг) // История СССР 1963 № 6, Степанова Л П Вклад национальных секций Петроградской организации РКП(б) в восстановление Советской власти в Прибалтике на Украине и в

1-м, 2-м і 3-м Укр франтах нач штаба арміі, камандзір корпуса, камандуючы арміяй Удзельнік Маскоўскай, Курскай бітваў, Варонежска-Касторненскай, Сеўска-Арлоўскай, Чарнігаўска-Прыпяцкай, Жытомірска-Бярдзічаўскай, Корсунь-Шаўчэнкаўскай, Уманскай, Дэбрэцэнскай, Будапешцкай, Балатонскай і Венскай аперацый Стралковы корпус на чале з П вызначыўся ў час прарыву абароны праціўніка на ПнЗ ад г Ясны (Румынія) Да 1960 у Сав Арміі Яго імем названы завулак у Лунінцы

**ПЕ́ТРЫКАЎ**, горад, цэнтр *Петрыкаўскага раена*, прыстань на Прыпяці За 190 км на З ад Гомеля, 13 км ад чыг ст Муляраўка на лініі Калінкавічы—Лунінец, аўтадарогамі злучаны з Мазыром, Калінкавічамі, Жыткавічамі 13,5 тыс ж (1998)

Паводле падання, засн ў 10 ст яцвяжскім кн Петрыкам На зах ускраіне П знаходзіцца раннеслав селішча 6—7 ст карчакскага варыянта *пражскай культуры* Паводле пісьмовых крыніц П вядомы з 15 ст як мястэчка ў ВКЛ, з канца 15 ст ў Слуцкім княстве, з 1507 у Навагрудскім пав Належала Алелькавічам, з 17 ст Хадкевічам У 15—16 ст існавала крэпасць, якая была разбурана ў час вайны Маск дзяржавы з ВКЛ 1534—37 У 1595—96 двойчы захоплены казацка-сялянскім атрадам С *Налівайкі* У час *народна-вызваленчай вайны беларускага і ўкраінскага народаў* 1648—54 П быў базай паўстанцаў, з якой адпраўляліі боепрыпасы ў суседнія бел гарады У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 у 1655 тут стаяў гарнізон з навакольнай шляхты і мяшчан У 1664 знаходзіўся ў руках казакоў палкоўніка Дацко Васілевіча У 18 ст ў П былі развіты шавецкі промысел і выраб аўчын З 1793 у Рас імперыі, цэнтр воласці Мазырскага пав У 1897 — 5,5 тыс ж, каля 400 двароў, прыстань, 2 пач школы, бальніца, касцел, 2 царквы У 1924 у П 8 гарбарных заводаў, 2 цагельні, чарапічны з-д, 460 саматужнікаў З 17 7 1924 цэнтр раена, з 3 7 1925 горад, працавала арцель па буд-ве баржаў (170 чал ) У 1939 — 5,8 тыс ж, цагельны з-д (81 рабочы ў 1940), леспрамгас, рыбгас З 29 7 1941 акупіраваны ням фашыстамі, якія загубілі тут 1,2 тыс чал, дзейнічала *Петрыкаускае патрыятычнае падполле*, падп райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ Вызвалены 29 6 1944 воінамі 61-й арміі 1-га Бел фронту і маракамі Дняпроўскай ваеннай флатыліі ў ходзе *Мінскай аперацыі 1944* У 1959 — 7,2 тыс ж, у 1970 — 8,5 тыс ж У П працуюць суднабудаўніча-суднарамонтны з-д, з-д керамзітавага гравію, акц т-вы «Агратэхсервіс» і «Сельгасхімія», з-д сухога абястлушчанага малака, камбінаты буд матэрыялаў і быт абслугоўвання, лясгас, хлебазавод, 2 сярэднія, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, спец школа-інтэрнат, 7 дашкольных устаноў, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, 3 б-кі, бальніца, паліклініка Брацкая магіла сав воінаў, партызан і падпольшчыкаў, магіла В І *Талаша* Помнікі сав воінам-вызваліцелям, Талашу Помнікі архітэктуры — Мікалаеўская царква (2-я пал 19 ст ), царква (канец 17 — пач 18 ст )

А В Петрушэўскі

П Ц Петрыкаў

**ПЕ́ТРЫКАЎ** Петр Ціханавіч (н 12 7 1927, в Мікалаеўка Добрушскага р-на), бел гісторык Чл-кар Нац АН Беларусі (1977) Д-р гіст н (1973), праф (1978) Скончыў БДУ (1956) Удзельнік Вял Айч вайны З 1961 у Ін-це гісторыі АН БССР, з 1962 вучоны сакратар, з 1968 нам дырэктара па навук рабоце, у 1975—88 дырэктар Ін-та гісторыі АН БССР, у 1984—90 заг аддзела гісторыі навукі З 1991 дырэктар музея Нац АН Беларусі, адначасова з 1996 першы нам гал рэдактара выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя» імя П Броўкі Асн працы прысвечаны гісторыі нац-дзярж будаўніцтва ў Беларусі, дзейнасці рэўкомаў па аказанні дапамогі Чырв Арміі і аднаўленні сав улады пасля вызвалення Беларусі ад польскіх інтэрвентаў у 1920, рабоце Саветаў дэпутатаў працоўных БССР у пасляваенныя гады, арганізацыі аховы здароўя, гісторыі навукі і гістарыяграфіі Беларусі Адзін з аўтараў і рэдактараў «Гісторыі Беларусі» ў 5 тамах (т 5, 1975), кніг «Акадэмія навук Беларускай ССР» (1979, 1998), «Дасягненні гістарычнай навукі ў БССР за 60 год» (1979) Кіраўнік аўтарскага калектыву, рэдактар і адзін з аўтараў «Гісторыі Беларускай ССР» (1975), «Гісторыі рабочага класа БССР» (т 1—4, 1984—87), «Нарысаў гісторыі навукі і культуры Беларусі, IX — пач XX ст » (1996)

*Тв* Советы депутатов трудящихся БССР и их роль в создании материально-технической базы коммунизма (1959—1965 гг ) Мн, 1972, Ревкомы Белоруссии Мн, 1975, Забота Советской власти о здоровье трудящихся Мн, 1976

**ПЕ́ТРЫКАЎСКАЕ ПАТРЫЯТЫ́ЧНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ** ў Вялікую Айчынную вайну Дзейнічала з крас 1942 да студз 1943 у г Петрыкаў (кіраўнік Ф В Кляўцоў) Падпольшчыкі (9 чал ) прымалі па радые і распаўсюджвалі сярод насельніцтва зводкі Саўінфармбюро, з восені 1942 выконвалі заданні партыз атрадаў «Балотнікава» (арганізаваны ў жн ) і М Ф Бабкова (арганізаваны ў кастр ) здабывалі ням пропускі, спісы жыхароў, прызначаных для вывазу ў Германію, звесткі пра варожы гарнізон у Петрыкаве, падрыхтоўку да карных экспедыцый, фаш агентуру 29 1 1943 падарвалі будынак гебітскамісарыята, знішчылі 12 рухавікоў для бранякатэраў, 3 аўтамашыны, сапсавалі 2 зенітныя гарматы і з сем'ямі пайшлі ў партыз атрад Бабкова

**ПЕ́ТРЫКАЎСКІ РАЁН** На З Гомельскай вобл Пл 2,8 тыс км² Нас 44,7 тыс чал (1998) Цэнтр — г *Петрыкаў* Паверхня тэр раена плоская і забалочаная Працякае р Прыпяць з прытокамі Пціч, Бобрык 2-і, Трэмля, Убарць Найб воз Дзікае У раене ч Прыпяцкага ландшафтна-гідралагічнага запаведніка Лясы займаюць 50% тэр раена Праходзяць чыг Гомель—Брэст, аўтадарогі Петрыкаў—Капаткевічы—Акцябрскі, Калінкавічы—Жыткавічы і інш Суднаходства на Прыпяці

Утвораны 17 7 1924 у Мазырскай акр (да 26 7 1930), 20 8 1924 падзелены на 16 сельсаветаў Бабунціцкі, Бобрыкаўскі, Брынеўскі, Глінніцкі, Грабаўскі, Каленіцкі, Камаровіцкі, Капцэвіцкі, Конкавіцкі, Курыцкі, Ляскавіцкі, Макарыцкі, Малагарадзяцкі, Петрыкаўскі, Смятаніцкі, Снядзінскі 21 8 1925 Малагарадзяцкі с/с перададзены Любанскаму р-ну, 12 2 1935 Бобрыкаўскі, Камаровіцкі с/с — Капаткевіцкаму р-ну З 21 6 1935 у Мазырскай акр, з 20 2 1938 у Палескай вобл На 1 1 1941 у раене г Петрыкаў, р п Капцэвічы і 13 сельсаветаў У Вял Айч вайну ў ліп — жн 1941 П р акупіраваны ням фашыстамі, якія загубілі тут 2572 чал, спалілі 5 весак На тэр раена дзейнічалі Петрыкаўскія падп райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, *Петрыкаўскае патрыятычнае падполле*, партыз брыгады 130-я Петрыкаўская, Мазырская імя Аляксандра Неўскага, 123-я Акцябрская імя 25-годдзя БССР, 125-я Капаткевіцкая, асобны

партыз атрад Петрыкаўскі Вызвалены ў канцы чэрв —пач ліп войскамі 1-га Бел фронту і *Дняпроўскай ваеннай фла-тыліі* ў ходзе *Мінскай аперацыі 1944* З 8 1 1954 у Гомельскай вобл 25 12 1962 да раена далучаны г п Капаткевічы, Бобрыкаўскі, Бяседкаўскі, Камаровіцкі, Капаткевіцкі, Колкаўскі, Лучыцкі, Наваселкаўскі, Новагалоўчыцкі, Пціцкі, Чалюшчавіцкі с/с ліквідаванага Капаткевіцкага р-на На 1 1 1998 у раене г Петрыкаў, г п *Капаткевічы*, 124 нас пункты, 16 сельсаветаў Бабуніцкі, Галубіцкі, Грабаўскі, Камаровіцкі, Капцэвіцкі, Колкаўскі, Конкавіцкі, Лучыцкі, Ляскавіцкі, Муляраўскі, Мышанскі, Наваселкаўскі, Петрыкаўскі, Пціцкі, Снядзінскі і Чалюшчавіцкі Дзеиінчаюць маш -буд з-д «Авангард» (в Людзвіноў), камбікормавы з-д (в Пціч), агароднінасушыльны з-д (в Капцэвічы), 11 калгасаў і 13 саўгасаў У раене 20 сярэдніх, 11 базавых, 9 пач школ, 22 дашкольныя ўстановы, 52 клубы і сельскія дамы культуры, 44 бібліятэкі, 25 кінаўстановак, 2 бальніцы Выдаецца раенная газ «Петрыкаўскія навіны» Археал помнікі каля в Ванюжычы, Вышалаў, Вялаўск, Дарашэвічы Брацкія магілы сав воінаў і партызан у в Багрымавічы, Баянава, Беседкі, Бобрык, Брынеў, Гарадзішча, Дарашэвічы, Камаровічы, Капцэвічы, Кашэвічы, Колкі, Конкавічы, Курыцічы, Мышанка, Наваселкі, Пціч, Трэмля, Хуснае, Церабаў, магілы ахвяр фашызму ў в Бабунічы, Беразнякі, Вял Сялюцічы, Пціч, Хвойня, Шастовічы, помнікі землякам у в Аголічы, Бабунічы, Галубіца, Мышанка, Шастовічы, помнік на месцы загубы ахвяр фашызму ў в Людзвіноў і мемарыяльны комплекс «Загінуўшым і жывым» у в Наваселкі Помнікі архітэктуры Успенская царква (1642) у в Кашэвічы, свіран (19 — пач 20 ст) у в Людзвіноў, паркі (19—20 ст) у в Брынеў, Дарашэвічы, Лучыцы

*Літ* Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі Гомельская вобл Мн , 1985

А.З Петушкоў

**ПЕТУШКО́Ў** Адам Захаравіч (22 4 1918, в Фядотава Буда Клімавіцкага р-на — 25 7 1976), Герой Сав Саюза (1944) Скончыў Ваен акадэмію бранятанк і механіз войск (1947) У Чырв Арміі з 1940 У Вял Айч вайну з 1943 на 1-м Укр фронце Камандзір узвода танкаў тральшчыкаў ст лейтэнант П вызначыўся пры вызваленні Кіева 3—4 11 1943 забяспечыў праходы для танкаў у мінных палях, з ротай вызваліў в Святошына, знішчыў артыл батарэю ворага, 6 ліст знішчыў абоз (40 павозак), 4 аўтамашыны праціўніка Да 1969 у Сав Арміі Яго імем названа вуліца ў г Клімавічы

**ПЕТУШКО́Ў** Аляксей Свірыдавіч [5(18) 10 1913, ст Лісічанск Екацярынаслаўскай губ, цяпер горад Луганскай вобл, Украіна — 27 7 1991], Герой Сав Саюза (1944) Беларус Скончыў Сталінградскую ваен авіяц школу (1936), Ваен акадэмію Генштаба (1956) Працаваў токарам у Мінску З 1933 у Чырв Арміі У Вял Айч вайну на фронце з 1941, нам камандзіра авіяпалка далекага дзеяння Да крас 1944 зрабіў 250 баявых вылетаў на бамбардзіроўку варожых аб'ектаў у Варонежы, Курску, Арле, Харкаве, Кіеве, Мінску, Таліне, Нарве, Пскове, Оршы Удзельнічаў у вызваленні Кенігсберга, Бухарэста, Данцыга, Будапешта, Берліна Да 1959 у Сав Арміі, да 1977 на адм рабоце

**ПЕТЫНЕ́ЦІ** (Petinetti, таксама Петынелі, Petinelli) Гаэтана, італьянскі танцоўшчык, педагог і балетмайстар 2 й пал 18 ст Працаваў у Неапалі У 1774—79 разам з братам Ладавіка П ў прыдворным т-ры і тэатр школе А.*Тызенгаўза* ў Гродне, дзе паставіў балеты «Квартэт дудароў», «Другі балет пекараў», «Вясковы балет» (у апошнім выступалі яго вучні) З 1779 па запрашэнні К С Радзівіла працаваў танцорам і балетмайстрам *Нясвіжскага тэатра Радзівілаў*, дзе разам з А Лойкам і Ф Каселі ў 1784 удзельнічаў у падрыхтоўцы балетаў «Арфей у пекле» і, магчыма, «Пігмаліен» Пакінуў Нясвіж у 1786

**ПЕ́ТЭРС** Георгій Барысавіч [15(27) 7 1897, Масква — 18 5 1978], удзельнік баеў у Беларусі ў Вял Айч вайну, ген -маер (1943), Герой Сав Саюза (1945) Скончыў Маскоўскую ваенна-інж школу (1924), Ваен акадэмію імя Фрунзе (1929) У Чырв Арміі з 1918 Удзельнік грамадз вайны 1918—20 на тэр Беларусі У Вял Айч вайну з 1941 на Зах , 3-м Бел франтах Вызначыўся ў Бел аперацыі 1944 дывізія на чале з гв ген -маерам П прарвала абарону праціўніка і 27 чэрв першая ўступіла ў Оршу, у ліп фарсіравала Неман,

захапіла плацдарм, адбіла 30 контратак пяхоты і танкаў праціўніка Да 1959 у Сав Арміі

**ПЕЦЯРБУ́РГСКА-ВАРША́ЎСКАЯ ЧЫГУ́НКА** Пабудавана паводле царскага ўказа ад 15 2 1851 за кошт казны Праектная працягласць 1280 км Праходзіла праз Гатчыну, Лугу, Пскоў, Востраў, Дзвінск, Вільню, Гродна, Беласток Уводзілася ў эксплуатацыю ўчасткамі Восенню 1853 адкрыты рух на 1-м участку Пецярбург—Гатчына (45 км) У пастаянную эксплуатацыю ўведзена 15 12 1862 На тэр Беларусі ўключала ўчастак Парэчча—Гродна—Ласосна (каля 30 км) *Браніслаў Жывіца*

**ПЕЦЯРБУ́РГСКІ «САЮ́З БАРАЦЬБЫ́ ЗА ВЫЗВАЛЕ́ННЕ РАБО́ЧАГА КЛА́СА»**, нелегальная сацыял-дэмакратычная арг-цыя ў 1895—96, зародак рэв с-д рабочай партыі ў Расіі Засн У І Леніным у ліст 1895 Аб'ядноўваў усе марксісцкія рабочыя гурткі Пецярбурга Дзейнасць па стварэнні «Саюза» ў 1893—95 узначальвала цэнтр група з 17 чал Ленін (кіраўнік), Г М Кржыжаноўскі, В В Старкаў, А А Ванееў, П К Запарожац і інш «Саюз» будаваўся на прынцыпах цэнтралізму, строгай дысцыпліны, цеснай сувязі з масамі Складаўся з 3 звенаў кіруючы цэнтр, 3 раённыя групы, рабочыя гурткі на прадпрыемствах Структура «Саюза» стала ўзорам для стварэння с-д арг-цый у інш гарадах Расіі У дзейнасці «Саюза» актыўна ўдзельнічалі і беларусы — рабочыя сталічных прадпрыемстваў П М *Лепяшынскі*, І А Левашкевіч, Т М Максімаў, В А Шчаглоў, Г В Піліпец, А А Мітрэвіч Дакументы сведчаць пра шырокія сувязі сацыял-дэмакратаў Пецярбурга і Беларусі У газ «Рабочее дело» № 1 [канфіскавана ў час арышту 9(21) 12 1895 Леніна і яго паплечнікаў] была змешчана інфармацыя аб рабочым руху ў Мінску Па справе «Саюза» ў Мінску былі арыштаваны А І Паляк, Н І Занцэвіч і С М Гутман 3 вясны 1896 пачалося шырокае распаўсюджванне нелегальнай л-ры, выдадзенай «Саюзам», у т л на Беларусі Увосень 1897 на базе рабочых гурткоў узніклі с-д групы у шэрагу буйных гарадоў Беларусі, якія пасля І з'езда РСДРП сталі называцца к-тамі РСДРП

*Літ* Ленин В И Да рабочых і работніц фабрыкі Тарнтона // Тв Т 2 (Полн собр соч Т 2), Яго ж Задачы рускіх сацыял-дэмакратаў // Там жа, История Коммунистической партии Советского Союза Т 1 М, 1964, В И Ленин и «Союз борьбы» М, 1978, Филяков В Г Революционные связи рабочих Белоруссии и России в конце XIX — начале XX в Мн, 1987 *Уладзімір Філякоў*

**ПЕЦЯРБУ́РГСКІЯ КАНВЕ́НЦЫІ** 1770—90-х гадоў, аб падзеле Рэчы Паспалітай Канвенцыя паміж Расіяй, Прусіяй і Аўстрыяй аб 1-м падзеле Рэчы Паспалітай падпісана 25 7(5 8) 1772 Расія, якая мела найб уплыў на Рэч Паспалітую, згадзілася на яе падзел у сувязі з цяжкім унутр становішчам, выкліканым рус-турэцкай вайной 1768—74, пагрозай Аўстрыі выступіць на баку Турцыі, націскам Прусіі (ініцыятар падзелу) Да Расіі адышлі паўн-усх Беларусь (з г Віцебск, Гомель, Магілеў, часткова Полацк) і Латгалія, да Прусіі — Вармія, Паморскае (без Гданьска), Мальбаркскае, Хэлмінскае (без Торуня), б ч Іняўроцлаўскага і Гнезненскага, ч Пазнанскага ваяв, да Аўстрыі — княствы Асвенцімскае і Затарскае, паўд ч Кракаўскага і Сандамірскага, Рускае (без Холмскай зямлі), Белзскае і ч Падольскага ваяв Пад націскам гэтых дзяржаў сейм і кароль Рэчы Паспалітай ратыфікавалі дагавор Канвенцыя паміж Расіяй і Прусіяй аб 2-м падзеле падпісана 12(23) 1 1793 Выклікана імкненнем перашкодзіць умацаванню Рэчы Паспалітай у сувязі з прыняццем *канстытуцыі 3 мая 1791*, уплывам Франц бурж рэвалюцыі, стварэннем 1-й антыфранц кааліцыі Са згоды *Таргавіцкай канфедэрацыі* (1792) Расія і Прусія ўвялі войскі і скінулі ўрад патрыят партыі Паводле П к 1793 да Расіі далучаны Правабярэжная Украіна, ч Беларусі (ч Віцебскага, Мсціслаўскага, Полацкага ваяв, Мінскае, усх ч Навагрудскага і Брэсцкага ваяв, Браслаўскі і Ашмянскі пав) Да Прусіі адышлі Гданьск, Торунь, амаль уся Вял Польшча, ч Мазовіі і Кракаўскага ваяв *Гродзенскі сейм 1793* пад прымусам гэтых дзяржаў зацвердзіў 2-і падзел Канвенцыя паміж Расіяй, Аўстрыяй і Прусіяй аб 3-м падзеле Рэчы Паспалітай падпісана 13(24) 10 1795 У сувязі з *паўстаннем 1794* рас і прускія войскі ўведзены ў Рэч Паспалітую Расія атрымала зах ч Беларусі, Літву, Зах Валынь, Курляндыю, Аўстрыя — польскія землі паміж р Піліца, Вісла, Буг—Кракаўскае, Сандамірскае, Люблінскае, ч Мазавецкага, Падляшскага, Холмскага і Брэст-Літоўскага ваяв, Прусія — астатнюю частку польскіх зямель (ч Мазавецкага, Трокскага, Падляшскага і Раўскага ваяв) П к паміж Расіяй, Аўстрыяй і Прусіяй, падпісаная 15(26) 1 1797, ліквідавала грамадзянства і скасавала ўсе юрыд наяцці аб дзяржаўнасці Рэчы Паспалітай *Яўген Габец*

А.С Петушкоў

Г Б Петэрс

**ПЕЧ**, хатняе збудаванне для ацяплення, гатавання ежы, сушкі і інш Паводле буд матэрыялаў вядомы П каменка, глінабітная і цагляная Найбольш стараж печ-каменка складвалася з валунных камянёў непасрэдна на грунце або на невысокай пляцоўцы і мела паўкруглую ці авальную форму Шырока вядома па археал раскопках у пластах ранняга сярэдневякоўя У перыяд феадалізму найбольш пашырана была глінабітная курная П (без дымахода) П збівалі з гліністай масы, у якую дабаўлялі камяні (каб лепш трымала цяпло) Зрубная або слупавая аснова П (апечча, апечак) утварала знутры свабодны прамежак (падпечча), дзе трымалі розныя нехадавыя рэчы, а ў зімовыя маразы — свойскую птушку У верхняй частцы апечча было шырэйшае за П, утварала пляцоўку — прыпечак (загнет) На прыпечку, збоку ад вусця П, была ямка-ніша, куды зграбалі частку гарачага вугалля, закрываючы яго слоем попелу, для выкарыстання ў якасці запалак Верхняя частка П (чарэнь, ляжанка) уяўляла сабой роўную пляцоўку, служыла месцам адпачынку, выкарыстоўвалася для сушкі розных рэчаў У парэформенны перыяд курныя П ўсюды замяняліся на «белыя» з дымаходам (комінам) У канцы 19 — пач 20 ст дымаход злучаўся з П ў адзінай канструкцыйнай форме Усю П рабілі з цэглы Для захавання цяпла вусце П закрывалі заслонкай, а дымаход перакрывалі засаўкай (юшкай), якая служыла і рэгулятарам цягі Нярэдка з П злучана агульным дымаходам грубка — невял пакаевая П для абагрэву Сучасныя П меншых памераў, з абпаленай цэглы, часта абліцаваны кафляй

*Літ* Беларускае народнае жыллё Мн, 1973, Помнікі этнаграфіі Мн, 1981 *Віктар Цітоў*

**ПЕ́ШАЯ ШЛЯ́ХТА**, адна з ніжэйшых катэгорый *шляхты* паводле попісу войска ВКЛ 1567—68 З-за раздраблення шляхецкіх маенткаў пры перадачы зям-

лі ў спадчыну некалькім сынам, а потым іх нашчадкам, да сярэдзіны 16 ст ўтварылася група шляхты, якая не мела сялян і апрацоўвала зямлю сама У яе не было сродкаў, каб пад час вайны ісці ў войска з канем, адпаведным рыштункам і ўзбраеннем, таму ей дазвалялася выступаць у феад апалчэнні ў шэрагах пяхоты У 1567 П ш складала невял частку войска — у бел паветах ВКЛ 3,6% У 17—18 ст служба П ш заменена сістэмай «удзельнцтва» дробная шляхта павінна была выстаўляць аднаго ўзбр конніка агулам ад некалькіх уладанняў, з 1 «каня» зямлі (5 валок, або каля 107 га) адзін шляхціц шоў у паход, а іншыя збіралі грошы на каня і зброю Юрыдычна П ш і яе нашчадкі мелі ўсе правы і прывілеі, якімі карысталася шляхта, у побыце ж яна ўжо ў 16 ст па сваім эканам становішчы была блізкая да вышэйшай групы сялянства

*Літ* Гісторыя Беларускай ССР Мн , 1972 Т 1 С 194, Грыцкевіч А.П Хозяйственное и правовое положение военно служилого населения в Слуцком княжестве в XVI—XVIII вв // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы, 1962 Мн , 1964, Я г о ж Формирование феодального сословия в Великом княжестве Литовском и его правовые основы (XV—XVI) // Первый Литовский Статут 1529 г Вильнюс, 1982

*Анатоль Грыцкевіч*

**ПЕ́ШКА** (Peszka) Юзаф (19 2 1767, г Кракаў — 4 9 1831), польскі жывапісец Прадстаўнік класіцызму Творчасць звязана з маст жыццём Беларусі і Расіі Вучыўся ў Д Эстрэйхера ў Кракаве і (з 1786) у Ф Смуглевіча ў Варшаве У 1793—1812 жыў у Гродне, Мінску [часта наведваў Магілеў, Нясвіж, Смілавічы (Чэрвеньскі р-н), Дукору (Пухавіцкі р-н)], Вільні, Маскве, Пецярбургу (удзельнік маст афармлення Міхайлаўскага палаца) З 1812 жыў у Кракаве, з 1815 праф жывапісу і малюнка ў Школе прыгожых мастацтваў Пісаў алегарычныя і гіст кампазіцыі («Пастрыжэнне Мечыслава І»), партрэты (А Чартарыйскага, К Сапегі, І Закржэўскага, сям'і Манюшкаў, аўтапартрэт), пейзажы [сярод іх серыі відаў Мінска, Віцебска, Магілева, Нясвіжа, Навагрудка, Ліды, Любчы (Навагрудскі р-н), в Лошыца (Мінскі р-н), замка ў в Смаляны (Аршанскі р-н), якія сталі каштоўнымі гіст крыніцамі] і інш Большасць твораў зберагаецца ў музеях Польшчы, а таксама ў б-цы АН Украіны ў Львове

*Літ* Чантурыя Ю У Акварэлі Іосіфа Пешкі // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі 1972 № 4, Усава Н Беларускія вандроўкі Юзафа Пешкі // Наша вера 1999 №1

Ю Пешка Аўтапартрэт

**ПЕ́ШЧАНКА** Андрэй Сяменавіч (н 6 12 1921, г Віцебск), Герой Сав. Саюза (1946) Скончыў Віцебскі аэраклуб (1941), Чарнігаўскую ваен авіяц школу пілотаў (1942), Вышэйшыя афіцэрскія летна-тактычныя курсы (1951) У Сав. Арміі з 1941 У Вял Айч вайну з 1943 на 1-м і 2-м Укр. франтах Удзельнік вызвалення Украіны, Польшчы, Румыніі, Венгрыі, Аўстрыі, Чэхаславакіі Камандзір звяна штурмавога авіяпалка лейтэнант П зрабіў 150 баявых вылетаў Да 1962 у Сав Арміі, да 1991 на гасп рабоце

А.С Пешчанка

**ПЁТР І** [30 5(9 6) 1672 — 28 1(8 2) 1725], рускі цар з 1682, імператар з 1721 Сын цара *Аляксея Міхайлавіча* ад шлюбу з Н К Нарышкінай Выбраны царом 27 4(7 5) 1682 Пасля смерці цара Федара Аляксеевіча быў царом разам з Іванам V (рэгентка пры іх — царэўна Соф'я Аляксееўна) Пасля няўдалай спробы Соф'і ўчыніць дзярж пераварот (1689) і смерці Івана V (1696) П І стаў адзінаўладным правіцелем У 1697—98 у складзе Вялікага пасольства быў у Рызе, Кенігсбергу, Лондане, Вене, Галандыі, вывучаў караблебудаўніцтва, артыл справу і інш Жорстка пакараў удзельнікаў стралецкага паўстання 1698, расфарміраваў стралецкія палкі, саслаў у манастыр царэўну Соф'ю і жонку Еўдакію Лапухіну З 1703 жонка П. І — *Кацярына І* Апіраючыся на прыхільнікаў новаўвядзенняў (А Д Меншыкаў, Б П Шарамецеў, Ф М Апраксін і інш ), веў актыўную ўнутр і знешнюю палітыку Правеў сац -эканам , паліт , ваен рэформы ў інтарэсах дваран, купецтва, буржуазіі У 1699 створана Бурмістарская палата — цэнтр фінансавая ўстанова і адначасова выбарны орган самакіравання пасадскага (гарадскога) насельніцтва, у 1708 краіна падзелена на губерні, у 1719 — на правінцыі, у 1711 ліквідавана Баярская дума, створаны Сенат — вышэйшая дзярж ўстанова, у 1718 прыказы заменены калегіямі, у 1722 «Табель аб рангах» упарадкаваў праходжанне службы ў арміі і ўрадавым апараце, пачалося стварэнне пракуратуры, у 1721 Расія абвешчана імперыяй Паводле закону 1722 цар сам прызначаў пераемніка на трон Узмацніўся прыгон з 1682 да 1710 з дварцовых зямель раздадзена дваранам 43,6 тыс сял двароў, памесце абвешчана спадчыннай уласнасцю (1714), уведзены падушны падатак (1722) Супраць прыгону і нац прыгнету адбываліся паўстанні, у т л Астраханскае ў 1705—06, пад кіраўніцтвам К Булавіна ў 1707—08 Развіваліся прам-сць і гандаль Пабудаваныя на казенныя грошы металургічныя, збраёвыя, суконныя і інш мануфактуры перададзены прамыслоўцам, ім дадзена права купляць і прыпісваць да казенных і прыватных заводаў прыгонных (т зв прыпісныя сяляне) З 1699 на аснове рэкруцкай сістэмы створана рэгулярная армія, вайсковая служба стала пажыццевай У 1696 закладзены асновы рас флоту, пазней створаны Балт ваеннамарскі флот Для падрыхтоўкі афіцэраў заснаваны спец школы, у 1715 — марская акадэмія Уведзены новы каляндар (1700), выдадзена першая рас газета «Ведомости» (1702), уведзены грамадзянскі шрыфт (1710), адкрыты арыфметычныя школы для дваранскіх дзяцей (1714), заснавана Пецярбургская АН (1724) У час праўлення П І Расія атрымала выхад да Балт мора, далучыла зах ўзбярэжжа Каспійскага мора П І узначальваў рас войскі ў час Азоўскіх паходаў 1695—96, у Прутскім паходзе 1711 супраць туркаў, у многіх бітвах *Паўночнай вайны 1700—21* са шведамі, у час якой быў на тэр Беларусі ў Полацку (май 1705), Гродне (вер 1705), Оршы (лют 1706), Мінску (сак 1706), каля в *Лясная* на Магілеўшчыне Ён удзельнічаў у найважнейшых дыпламат перагаворах У 1699 заключыў дагаворы з Даніяй і Саксоніяй аб стварэнні Паўн. саюза супраць Швецыі У 1716 ездзіў у Германію, Галандыю, Францыю, у выніку перагавораў пацверджаны дагавор 1714 аб саюзе з Прусіяй, заключаны дагавор з Францыяй аб дружбе і пасрэдніцтве, удзельнічаў у падрыхтоўцы Ніштацкага мірнага дагавора 1721

*Літ* Письма и бумаги императора Петра Великого Т 1—11 СПб , Л , М , 1887—1964, Воскресенский Н А Законодательные акты Петра І Т 1 М , Л , 1945, Соловьев С М История России с древнейших времен Кн 7—9 М , 1962—63, Тельпуховский Б С Северная война 1700—1721 Полководческая деятельность

Петра I М , 1946, Т а р а с а ў К Пятроўскія мясціны // ЛіМ 1990 14 верас

**ПЁТР З ГАНЁНДЗА** (П е т р Г е з к а з Г а н е н д з а, паміж 1525—30, мяст Гонендз Падляшскага ваяв — 15 9 1573), ідэолаг левай, сялянска-плебейскай плыні *Рэфармацыі* на Беларусі і ў Літве, належаў да *антытрынітарыяў* Скончыў Ягелонскі ун-т у Кракаве (1551), удасканальваў веды ў Італіі, Швейцарыі У 1554 праф сафістыкі ў Падуанскім ун-це Паслядоўнік рэліг-філас вучэння ісп вучонага М Сервета і сац-паліт ідэй мараўскіх анабаптыстаў Выдаў на лац мове творы «Супраць боскасці Ісуса Хрыста» (Брэст, 1557), «Аб першахрысціянскай царкве» (1563 ?, не збераглися), на польскай мове «Пра трох», «Пра сына Божага» і «Пра хрысціянскае хрышчэнне» (усе каля 1570) Удзельнічаў у антытрынітарскіх сінодах, палемізаваў з С *Будным* Адмауляў царк-тэалагічную і філас схаластычную традыцыі Выступаў супраць прыватнай уласнасці, сац няроўнасці, войнаў, феад права, свецкай улады, пакарання смерцю Яго паслядоўнікі *Якуб з Калінаўкі, Павел з Візны*, М Чаховіц

*Літ* П о д о к ш и н С А Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы Ми , 1970, G ó r s k i K Studia nad dziejami polskiej literatury antytrynitarskiej XVI w Kraków, 1949 *Сямён Падокшын*

**ПЁТР ПЕТРЭ́Й ДЭ ЭРЛЕЗУ́НДА**, П е р П е р с а н (лац Petrus Petrejus, швед Peer Persson, 1577, г Упсала — 1622), шведскі дыпламат і гісторык На дзярж службе з 1595 У 1605—11 тройчы наведваў Рас дзяржаву Удзельнічаў у заключэнні ваенна-дыпламат саюза паміж швед каралем Карлам IX Вазай і царом Васілем Іванавічам Шуйскім Асабіста ведаў Ілжэдзмітрыя I У 1614 пачаў працу па гісторыі Расіі ад старажытных часоў да 1612 (выд ў 1615 у Стакгольме на швед мове), пасля давеў яе да 1617 (выд ў 1620 у Лейпцыгу на ням мове) Значная частка яго працы прысвечана адносінам паміж Расіяй і ВКЛ у 16 — пач 17 ст Назву Белая Русь ён выводзіць ад адзення жыхароў «Адна мясціна ў гэтай краіне называецца Беларуссю, таму што там мужчыны ўлетку носяць на галовах белыя шапкі, а жанчыны фарбуюць і падводзяць сабе твар бялідамі » У яго працы шмат некрытычных запазычанняў з сачыненняў Герберштэйна, Гваніні і асабліва з хронікі Бусава, аднак яна ўтрымлівае і вял колькасць самастойных назіранняў

*Тв* История о Великом княжестве Московском, происхождении великих русских князей недавних смутах произведенных там тремя Лжедмитриями, и о московских законах, нравах, правлении, вере и обрядах, которую собрал, описал и обнародовал Петр Петрей де Ерлезунда в Лейпциге 1620 г // Чт О-ва истории и древностей российских М , 1865 Кн. 4, 1866 Кн 1

**ПІВАВА́РЧЫК** Сяргей Аляксандравіч (н 12 8 1962, г Барысаў), бел археолаг Канд гіст н (1994) Скончыў Гродзенскі ун-т (1987) У 1990 выкладчык Брэсцкага пед ін-та, з 1994 дацэнт кафедры бел культуры Гродзенскага ун-та Прымаў удзел у Панеманскай, Віцебскай, Навагрудскай археал экспедыцыях Даследуе гісторыю і культуру Беларусі часоў сярэдневякоўя, музеязнаўства

Б А Пігарэвіч

*Тв* Беларускае Панямонне ў ранім сярэднявеччы (X—XIII стст ) // Białoruskie zeszyty historyczne 1996 № 2(6)

**«ПІВО́НЯ»** («Pfingstrose»), умоўная назва карнай аперацыі ням-фаш захопнікаў супраць партызан і мясц насельніцтва ў Пухавіцкім, Старадарожскім і Асіповіцкім р-нах 2—13 6 1944 у Вял Айч вайну Праводзілася сіламі 9-й арміі групы армій «Цэнтр» з мэтаю акружэння партызан і іх лагераў, дзе ратавалася насельніцтва ў раёне в Кляцішын, Любячка, Омельна (Пухавіцкі р-н), захопу рабочай сілы, жывёлы і маемасці Падрыхтоўку да аперацыі карнікі пачалі з сярэдзіны мая па меры канцэнтрацыі сіл у гарнізонах Шацка, Пухавіч, Старых Дарог, Дражна (Старадарожскі р-н), Шышчыц (Грэскі р-н) Агульнае наступленне пачалося з Шацка ў напрамку в Вяркалы, Пруцк, Кабылічы (Пухавіцкі р-н), з Пухавіч — в Скрыль, Лііск, Гарэлец, з в Сінча — в Любячка Па шляху прасоўвання карнікаў атрады 2-й Мінскай партыз брыгады засаднымі баямі на загадзя падрыхтаваных рубяжах стрымлівалі намнога большыя сілы праціўніка, забяспечваючы эвакуацыю насельніцтва і жывёлы Праз 8 дзён часцям вермахта, якіх падтрымлівала развед і бамбардзіровачная авіяцыя, удалося блакіраваць партызан і мясц жыхароў (каля 3 тыс чал ) Партызаны ў ноч на 9 чэрв навялі падманную пераправу цераз р Пціч у раёне в Юравічы—Майсеевічы (Старадарожскі р-н), чым адцягнулі ўвагу карнікаў, а самі фарсіравалі раку каля в Града (Асіповіцкі р-н), дзе схавалі насельніцтва на лясным астраўку Занялшы тут кругавую абарону, партызаны суткі адбівалі націск ворага У ноч на 11 чэрв партызаны прарвалі блакаду і выйшлі ў Грэскія лясы У ходзе аперацыі карнікі расстралялі 499 мірных жыхароў, захапілі для вывазу ў Германію 2344 чал , спалілі вёскі Востраў, Зялёная Дуброва, Рэпішча (не аднавілася) Асіповіцкага р-на, Кляцішын, Любячка, Омельна Пухавіцкага р-на і інш , забралі 997 галоў буйн рог жывёлы, 772 коні і інш *Уладзімір Пасэ*

**ПІ́ГАНЬ** (Pigoń) Станіслаў (27 9 1885, в Камборня, Кросненскі пав , Польшча — 18 12 1968), польскі гісторык л-ры, філолаг, выдавец Акад Польскай АН (правадзейны чл з 1957), д-р габілітаваны, праф (1921) Скончыў Кракаўскі ун-т З 1919 выкладаў у Пазнанскім, з 1921 — у Віленскім, з 1930 у Кракаўскім ун-тах У 1927—28 рэктар, у 1928—30 прарэктар Віленскага ун-та У 1939—40 зняволены фашыстамі ў канцлагер Заксенхаўзен, пасля ўдзельнічаў у тайным навучанні ў Кракаве У 1945—60 выкладаў у Кракаўскім ун-це, адначасова ў 1946—51 у Вышэйшай пед школе ў Кракаве Вывучаў гісторыю польскай л-ры з часоў сярэдневякоўя, пераважна эпохі рамантызму Даследчык творчасці і выдавец А Міцкевіча, пры каменціраванні яго твораў шырока выкарыстоўваў дакументы віленскіх архіваў і звесткі, сабраныя ў час паездак па Беларусі Даследаваў жыццё і твор часць Ю Славацкага, А Тавянскага, Ц Норвіда, Ф Карпінскага і інш , народную л-ру Аўтар мемуараў

*Тв* Z epoki Mickiewicza Studia i szkice Lwow, 1922, Głosy sprzed wieku Szkice z dziejow procesu filareckiego Wilno, 1924, Z dawnego Wilna Szkice obyczajowe i literackie Wilno, 1929, Do źrodeł «Dziadow» kowiensko-wilenskich Wilno, 1930, «Pan Tadeusz» Wzrost, wielkosc i sława Warszawa, 1934, Na wyżynach romantyzmu Studia historycznohterackie Krakow, 1936, Zawsze o Nim Studia i odczyty o Mickiewiczu Kraków, 1960, Formowanie «Dziadów» czesci drugiej Rekonstrukcja genetyczna Warszawa, 1967, Poprzez stulecia Studia z dziejów hteratury i kultury 2 wyd Warszawa, 1985

**ПІГАРЭ́ВІЧ** Барыс Аляксеевіч [15(27) 5 1898, мяст Ільіно Веліжскага пав Віцебскай губ , цяпер пас у Смаленскай вобл , Расія — 7 10 1961], генерал-палкоўнік (1945) Беларус Скончыў Ваен акадэмію Генштаба (1941) У арміі з 1915, у Чырв Арміі з 1918 Удзельнік 1-й сусв , грамадз 1918—20 і сав-фінл 1939—40 войнаў У Вял Айч вайну з 1941 на Зах , Калінінскім, Карэльскім франтах нач штаба армій, франтоў, камандзір корпуса Удзельнік баёў пад Смаленскам, Масквой, у Сав Запаляр'і Пасля вайны выкладчык Ваен акадэміі Генштаба, у 1950—57 нам нач Генштаба Войска Польскага, да 1959 на адказных пасадах у Сав Арміі

**ПІГУЛЕ́ЎСКІ** Уладзімір Васілевіч [псеўд Г у л ь, 26 2(10 3) 1889, Гродна — 17 6 1958], бел грамадскі дзеяч, пісьменнік Скончыў Мінскую гімназію (1907), Пецярбургскі ун-т (1912) Удзельнік 1-й сусв вайны З 1922 выкладчык бел гімназіі ў Дзвінску (Даўгаўпілсе), у 1924—25 дырэктар Люцын-

скай бел гімназіі У 1925 пасля сфабрыкаванага латвійскімі ўладамі працэсу П быў пазбаўлены пед працы Пераехаў у Рыгу, працаваў у Транзітным каап банку, у 1926—34 заг Бел аддзела пры Мін-ве асветы Латвіі Пасля дзярж перавароту ў Латвіі арыштаваны і сасланы ў Ліепайскі лагер (1935) Пасля вызвалення актыўна ўдзельнічаў у падп рэв руху, займаўся журналістыкай У 1940—41 інспектар Мін-ва асветы Латв ССР У Вял Айч вайну эвакуіраваўся ў Татарстан, працаваў там школьным інспектарам, выхавацелем ў дзіцячым доме Пасля вайны выкладаў у Рыжскім мараходным вучылішчы, пед ін-це Друкаваўся з 1924 Перакладаў на бел мову творы латышскіх і чэшскіх пісьменнікаў Напісаў шэраг п'ес для школьнага тэатра («Хамуты», «У трамваі», «Вечар пад каляды», «Гідра») Склаў чытанку для бел школ у Латвіі «Наш край» (1928) На латышскую мову пераклаў камедыю Я Купалы «Паўлінка» (пастаўлена ў 1949 Латвійскім тэатрам імя Я Райніса). Апублікаваў у латышскім друку шмат артыкулаў пра бел л-ру і тэатр, творчасць Я Купалы і Я Коласа Рукапісная спадчына (у т л неапублікаваныя творы) П захоўваецца ў Аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтр навук б-кі АН Беларусі

*Літ* Мірачыцкі Л Нястомны працаўнік на ніве культуры // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі 1980 № 1

*Уладзімір Міхнюк*

**ПІКА́РДА** (Picarda) Гай дэ (псеўд Піхура Г, Pichura H, н 20 7 1931, Лондан), англа-французскі даследчык бел культуры Паходзіць са старадаўняга брэтонскага роду Скончыў Оксфардскі ун-т (1955), ун-т у Сарбоне (1959) Вывучае творчасць бел кампазітараў М Равенскага, М Куліковіча (М Шчаглова), жыцце і дзейнасць Ф Скарыны, распрацоўвае гісторыю перакладаў Бібліі на бел мову, праблематыку гісторыі ВКЛ Шмат увагі аддае пошуку стараж бел царк спеваў і іх выданню У 1959 адшукаў у Кіеве Супрасльскі і Жыровіцкі ірмалоі — рукапісныя муз зборнікі 16 ст рэліг зместу Выдаў «Беларускі царкоўны спеўнік Св Літургія» (кн 1—2, 1979—91), «Беларускі духоўны спеўнік» (Вільня, Лондан, 1989), склаў даведнік пра Бел б-ку імя Ф Скарыны ў Лондане (1971), анталогію бел шматгалосых песнапенняў «Залатая Беларусь» (1998) У 1961—70 выкладаў музыку і спевы ў бел школе імя Кірылы Тураўскага ў Лондане Чл Міжнар асацыяцыі беларусістаў (Мінск), кіруючай рады Бел б-кі і музея імя Ф Скарыны, Англа-бел навук т-ва (Лондан)

*Тв* The Evolution of liturgical music in Belarus // The California Slavic Papers 1988, Francis Skaryna and the Cabala London, 1992, Бел пер — Старонкі гісторыі беларускай царкоўнай музыкі // Беларусіка=Albaruthenica Мн, 1992 Кн 2, Алегарычная геральдыка Францішка Скарыны // Спадчына 1992 № 5, 1993 № 2, Нябеснае полымя Досьлед пачаткаў беларускага перакладу Новага Запавету і псальмаў (1931) // Там жа 1995 № 4

*Ларыса Языковіч*

М К **Піліпенка**

М Ф **Піліпенка**

**ПІ́КЕЛЬ** Рычард Вітольдавіч [20 8(1 9) 1896, г Тбілісі — жн 1936], дзяржаўны і грамадскі дзеяч З лета 1917 член Мінскага к-та РСДРП(б), выканкома Мінскага Савета рабочых дэпутатаў, Паўн-Зах абл к-та РСДРП(б). З лют 1918 член выканкома Зах вобласці, старшыня Смаленскага гар Савета і Савета нар гаспадаркі Зах камуны З 1 1 1919 старшыня Савета нар гаспадаркі БССР, член Цэнтр бюро КП(б)Б У крас 1919 адзін з рэдактараў газ «Звезда» Член ЦВК ЛітБел, ЦК КП(б)ЛіБ, старшыня Мінскага губрэўкома З кастр 1919 кіраўнік палітаддзела 6-й і 16-й армій З мая 1921 кіраўнік палітупраўлення войск Украіны і Крыма З крас 1922 камісар ваенна-акад курсаў вышэйшага камсастава РСЧА З сак 1924 заг сакратарыята старшыні выканкома Камінтэрна (Р Я Зіноўева) З 1927 на розных кіруючых пасадах у Наркамасвеце і інш дзярж органах У 1936 абвінавачаны ў «тэрарыстычнай дзейнасці супраць кіраўнікоў партыі і дзяржавы» і расстраляны Рэабілітаваны ў 1988 Аўтар публіцыст твораў па гісторыі ўстанаўлення Сав улады ў Беларусі

*Вячаслаў Селяменеў*

**ПІЛАТО́ВІЧ** Станіслаў Антонавіч (25 9 1922, в Барок Ігуменскага пав Мінскай губ, цяпер Пухавіцкі р-н — 15 6 1986), партыйны і дзярж дзеяч БССР, дыпламат Скончыў Бабруйскую фельчарскую школу (1940), Баранавіцкі настаўніцкі (1952) і Мінскі пед (1956) ін-ты Са жн 1940 заг мед пункта ў в Белая (Камянецкі р-н), з сак 1941 сакратар Гайнаўскага райкома ЛКСМБ (Брэсцкая вобл) У Вял Айч вайну з вер 1942 партызан атрада «Полымя» ў Пухавіцкім р-не, у кастр 1942 — ліп 1944 сакратар Пухавіцкага, Чэрвеньскага падп райкомаў, адначасова да ліст 1943 сакратар Мінскага падп міжрайкома ЛКСМБ У 1944—53 сакратар Чэрвеньскага райкома, Мінскага, 1-ы сакратар Баранавіцкага абкомаў ЛКСМБ У 1953—62 1-ы сакратар Навагрудскага райкома, 2-і сакратар Гродзенскага абкома, заг аддзела парт органаў ЦК КПБ З 1962 1-ы сакратар Віцебскага абкома КПБ З 1965 сакратар ЦК КПБ У 1971—78 надзвычайны і паўнамоцны пасол СССР у ПНР У маі 1978 — снеж 1983 нам Старшыні СМ БССР Чл ЦК КПБ у 1960—71, 1981—86, чл Прэзідыума ЦК КПБ у 1965—66, чл Бюро ЦК КПБ у 1966—71 Чл ЦК КПСС у 1971—81 Дэп ВС БССР у 1959—67, 1978—85, ВС СССР у 1966—74 Трагічна загінуў

*Яўгенія Фалей*

**ПІЛІ́ПАЎКА**, адпаведны час земляробчага календара перад *Калядамі*, 4—6-тыднёвы пост У гэты час гал месяцаў гаспадарцы займаліся малацьба, хатнія жаночыя работы У П царква забараняла гульні, забавы, спраўляць вяселлі і г д На П праді кудзелю На вячорках спявалі паставыя песні, для якіх характэрна сур'ёзная тэматыка, апавядальная ці дыялагічная форма і пераважна мінорны характар напеву Сустракаюцца песні баладнага зместу

**ПІЛІПЕ́НКА** Міхаіл Карнеевіч (н 3 9 1924, в Дубраўка Клімавіцкага пав, цяпер Хоцімскага р-на), Герой Сав Саюза (1943), ген-лейтэнант (1982) Скончыў Куйбышаўскае ваен вучылішча сувязі (1946), Ваен акадэмію сувязі (1953) і акад курсы пры ей (1972) У Вял Айч вайну з 1941 на Зах, Паўн-Зах, Ленінградскім, Варонежскім, 1-м Укр франтах — сувязіст Вызначыўся 2—5 10 1943 у час пераправы цераз Днепро на Пд ад Кіева пад агнём ворага двойчы фарсіраваў раку, устанавіў тэлефонную сувязь з камандаваннем палка, карэкціраваў агонь артылерыі, на захопленым плацдарме з яго ўдзелам адбіты шматлікія контратакі ворага, у складзе перадавых падраздзяленняў удзельнічаў у вызваленні Кіева Да 1973 на камандных пасадах у Сав Арміі, да 1991 на выкладчыцкай рабоце Ганаровы грамадзянін г Кіева

**ПІЛІПЕ́НКА** Міхаіл Федаравіч (н 19 5 1936, в Нежыхаў Брагінскага р-на), бел этнограф Д-р гіст н (1993), чл-

кар Нац АН Беларусі (1994), засл. дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь (1999) Скончыў БДУ (1961) Працаваў настаўнікам З 1967 у БДУ выкладчык, ст выкладчык, дацэнт (з 1977) З 1991 заг аддзела этнаграфіі, з 1994 — дырэктар Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нац АН Беларусі Даследуе пытанні гісторыі бел этналогіі і фальклarыстыкі, бел этнагенезу, сямейнага побыту, вясельных звычаяў і абрадаў бел сялянства, нар рэлігійных вераванняў Адзін з аўтараў прац «Гістарычнае краязнаўства Беларусі» (1980), «Народная педагогіка беларусаў» (1996), «Беларусы» (1998)

*Тв* Этнография Белоруссии Мн, 1981, Возникновение Белоруссии Новая концепция Мн, 1991

**ПІЛСЎДСКІ** (Piłsudski) Юзаф (5 12 1867, маентак Зулава Свянцянскага пав Віленскай губ, цяпер Літва — 12 5 1935), польскі грамадска-паліт, дзярж і ваенны дзеяч Маршал Польшчы (1920) Скончыў Віленскую гімназію, вучыўся ў Харкаўскім ун-це У 1885 пераехаў у Вільню У 1887 арыштаваны па абвінавачанні ў сувязі з «Народнай воляй» і сасланы на 5 гадоў ва Усх Сібір У 1892 вярнуўся ў Вільню, далучыўся да Польскай сацыяліст партыі (ППС) У 1-ю сусв вайну камандаваў 1-й брыгадай Польскіх легіенаў у аўстрыйскай арміі У снеж 1916 уключаны ў склад польскага Часовага дзярж савета, кіраваў яго ваен камісіяй У ліп 1917 абвінавачаны ў падрыхтоўцы антынямецкага паўстання, арыштаваны герм акупац уладамі і зняволены ў Магдэбургскую цытадэль Пасля Лістападаўскай рэвалюцыі 1918 у Германіі вызвалены 11 11 1918 Рэгенцыйная рада ў Варшаве (створана ў вер 1918) перадала П ваенную, а 14 11 1918 — і цывільную ўладу ў Польшчы Да 14 12 1922 узначальваў Польскую дзяржаву ў якасці яе «начэльніка» Жорстка душыў рэв рух у краіне Выступаў за далучэнне Літвы, Беларусі і Украіны да Польшчы і пашырэнне яе тэрыторыі да межаў Рэчы Паспалітай 1772 У ліст 1919 адхіліў прапановы кіраўніцтва РСФСР, УССР і Літ-Бел ССР па нармалізацыі адносін з Польшчай У 1919—20 ажыццяўляў агульнае кіраўніцтва ваеннымі дзеяннямі супраць Чырв Арміі 22 4 1919 выдаў «Зварот да жыхароў былога Вялікага княства Літоўскага», у якім абяцаў не ўмешвацца ва ўнутраныя нац і рэліг справы бел і літ народаў, даць ім права самім вырашаць свой лёс «без якога-небудзь насілля ці націску з боку Польшчы» 18—19 9 1919 наведаў Мінск Неаднаразова сустракаўся з прадстаўнікамі бел нац руху К Езавітавым, А Луцкевічам, Б Тарашкевічам, Я Лесікам, В Іваноўскім і інш, абяцаў ім вырашыць «беларускае пытанне» пасля ўрэгулявання адносін з Літвой і Украінай У канцы 1919 дазволіў склікаць сесію Рады Бел Нар Рэспублікі з разлікам на тое, што яна вырашыць пытанне аб утварэнні бел-польскай федэрацыі Пасля няўдачы са скліканнем Рады БНР меў намер развіваць кантакты толькі з лаяльнымі ў адносінах да Польшчы дзеячамі бел нац руху У лют 1920 заявіў, што пад трымае культ патрабаванні беларусаў, але паліт уступак на карысць «беларускай фікцыі» рабіць не жадае Падтрымліваў кантакты з С Пятлюрам, Б Савінкавым, С Булак-Балаховічам, дапамагаў ім у фарміраванні войска У час наступлення Чырв Арміі летам 1920 кіраваў абаронай Варшавы Не дабіўшыся ажыццяўлення планаў адраджэння «Вялікай Польшчы», санкцыянаваў заключэнне *Рыжскага мірнага дагавора 1921*, на падставе якога *Заходняя Беларусь* увайшла ў склад Польскай дзяржавы У кастр 1920 тайна ініцыіраваў выступленне ген Л *Жалігоўскага*, які заняў Вільню і Віленскі край і абвясціў аб стварэнні *Сярэдняй Літвы* У 1923—25 адышоў ад паліт дзейнасці Прыняў актыўны ўдзел у дзярж перавароце 12 5 1926, пасля якога фактычна стаў дыктатарам Польшчы і ўстанавіў «санацыйны рэжым» (гл «*Санацыя*») У 1926—28 і жн —снеж 1930 узначальваў польскі ўрад Дзейнічаў аўтарытарнымі метадамі, душыў паліт апазіцыю З 1931 ажыццяўляў кіраўніцтва знешняй палітыкай і ваен справамі дзяржавы Не перашкаджаў правядзенню палітыкі паланізацыі бел і ўкр насельніцтва Зах Беларусі і Зах Украіны Санкцыянаваў заключэнне пактаў аб ненападзе з СССР (25 7 1932) і Германіяй (26 1 1934)

*Тв* Pisma zbiorowe Т 1—11 Warszawa, 1989—91

*Літ* Наленч Д, Наленч Т Юзеф Пилсудский Легенды и факты Пер с пол М, 1990, Коўкель І І «Беларускае пытанне» ў палітыцы Польшчы // Гістарычная навука і гістарычная адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь (новыя канцэпцыі і падыходы) Мн, 1994 Ч 1, Яго ж Польска-літоўскі канфлікт і роля ў ім беларускіх палітычных партыяў і арганізацыяў (1920—1923 гг) // Беларусіка=Albaruthenica Мн, 1994 Кн 3, Платонов Р, Сташкевич Н К вопросу о становлении белорусской национальной государственности // Октябрь 1917 и судьбы политической оппозиции Гомель, 1993 Ч 2, Астрога В, Скалабан В Пілсудскі ў Менску Хроніка аднаго візіту // Спадчына 1998 № 4, Lewandowski J Federalizm Litwa i Białoruś w polityce obozu belwederskiego Warszawa, 1962, Prezydenci Polski Warszawa, 1991 *Аляксандр Ціхаміраў*

Ю Пілсудскі

П А Пілютаў

**ПІЛЬШТЫН** (Пільштынава, дзявочае Русецкая) Саламея Рэгіна Іахімаўна (1718, Навагрудчына — пасля 1760), мемуарыстка, падарожніца, лекарка У 14 гадоў разам з мужам трапіла з Беларусі ў г Стамбул (Турцыя) Назіраючы за лекарскай дзеинасцю мужа, авалодала спосабамі і сродкамі лячэння хвароб, у т л хвароб вачэй Атрымала афіц дазвол на лекарскую дзейнасць у Стамбуле У 1739 вярнулася на радзіму, вяла мед практыку ў Нясвіжы (у якасці лекаркі яе запрасілі Міхал Радзівіл Рыбанька і яго жонка Уршуля) Ездзіла ў Пецярбург (імператрыца Ганна Іаанаўна наблізіла яе да сябе, прыняла ў штат прыдворнай абслугі), Вену, яшчэ двойчы ў Турцыю У 1760 са Стамбула накіравалася паломніцай у Святую Зямлю Далейшы лёс невядомы У 1760 напісала на польск мове мемуары «Рэха, на свет пададзенае, заняткаў, падарожжа і жыцця майго авантураў» (апубл ў 1957 у Кракаве) Мемуары нагадваюць прыгодніцкі раман У іх П каларытна паказала побыт і розныя бакі жыцця Беларусі, Турцыі, пецярбургскага двара Ганны Іаанаўны У творы — успаміны і уласныя разважанні наконт тагачасных падзей, цікавыя замалёўкі-партрэты людзей, якія сустракаліся ў час яе вандровак па краінах Захаду і Усходу, метады лячэння розных хвароб У мове мемуараў шмат беларусізмаў, трапляюцца бел прыказкі і прымаўкі

*Тв* Бел пер — Авантуры майго жыцця Раман Мн, 1993

*Літ* Липатов А В Формирование польского романа и европейская литература Средневековье, Возрождение, Барокко М, 1977, Грыцкевіч В П Адысея наваградскай лекаркі Саламея Русецкая Мн, 1989 *Адам Мальдзіс*

**ПІЛЮ́ТАЎ** Петр Андрэевіч [10(23) 12 1906, в Лучын Рагачоўскага пав, цяпер Рагачоўскага р-на — 24 3 1960], Герой

Сав Саюза (1943) Скончыў 1-ю Ваен школу авіятэхнікаў (1932), Качынскую ваен школу летчыкаў (1935) У Чырв Арміі з 1928 Удзельнік выратавання чэлюскінцаў у 1934, баеў каля воз Хасан у 1938, сав -фінл вайны 1939—40 У Вял Айч вайну з 1941 на Ленінградскім фронце нам камандзіра, штурман і камандзір знішчальнага авіяпалка Вызначыўся ў баях пад Ленінградам 17 12 1941 у паветр баі над Ладажскім воз з 6 варожымі знішчальнікамі збіў 2 з іх, на пашкоджаным самалеце адбіваў атакі, што дало магчымасць транспартным самалетам ісці па курсу, змог пасадзіць свой самалет За час вайны збіў 17 варожых самалетаў Да 1955 у Сав Арміі Яго імем названа вуліца ў С -Пецярбургу

**ПІЛЯР** Раман Аляксандравіч (1894, Вільня, па інш звестках ураджэнец Ломжынскай губ, цяпер Беластоцкае ваяв, Польшча — 2 9 1937), дзяржаўны дзеяч БССР Камісар дзяржбяспекі 2-га рангу (1935) Вучыўся на юрыд ф-це Петраградскага ун-та (1915—17) У 1917—19 старшыня ВРК Літвы, член Прэзідыума і сакратар ЦВК Літ -Бел ССР Пасля акупацыі Вільні польск войскамі зняволены на 9 месяцаў у турму З канца 1919 у РСФСР З 1920 у органах ВЧК і АДПУ У 1924 удзельнічаў у аперацыі «Сіндыкат-2» па захопе ў Мінску Б В Савінкава і разгроме яго падп арг-цыі У 1925—29 старшыня ДПУ БССР, адначасова паўнамоцны прадстаўнік АДПУ пры СНК СССР па Зах краі З 1929 паўнамоцны прадстаўнік АДПУ і нач УНКУС СССР па Паўн -Каўказскім краі, Сярэдняй Азіі, Саратаўскай вобл Чл ЦК і Бюро ЦК КП(б)Б у 1925—29 Чл ЦВК Літ -Бел ССР у 1919, ЦВК БССР у 1927—29, ЦВК СССР у 1929—37 15 5 1937 арыштаваны як удзельнік *«Польскай арганізацыі вайсковай»* і агент польск разведорганаў 2 9 1937 прыгавораны да вышэйшай меры пакарання і расстраляны Рэабілітаваны ў 1957

*Ігар Валахановіч*

**ПІМЕНАЎ** Васіль Васілевіч (н 27 3 1954, г Віцебск), Герой Сав Саюза (1984) Скончыў Разанскае вышэйшае паветрана-дэсантнае каманднае вучылішча (1975), Ваен акадэмію імя Фрунзе (1987) З 1971 у Сав Арміі Камандзір батальёна гв парашутна-дэсантнага палка маер П вызначыўся ў час вайны ў Афганістане 1979—89 у кастр 1983 на Пн ад Кабула батальён на чале з ім разграміў буйную групоўку душманаў, захапіў склады са зброяй і боепрыпасамі, харчовыя і рэчавыя сховішчы З 1991 у штабе паветр -дэсантных войск арміі Рас Федэрацыі

**ПІНКЕРТОН** (Pinkerton) Роберт, англійскі падарожнік 1-й пал 19 ст, агент брытанскага біблейскага таварыства У 1816 і 1822 наведаў Беларусь, пабываў у Барысаве, Вільні, Віцебску, Копысі, Магілеве, Мінску, Оршы, Полацку, Шклове У 1816 заснаваў у Віцебску Беларускае біблейскае т-ва У 1833 у Лондане выдаў свае ўспаміны «Расія або рознабаковыя назіранні аб мінулым і сучасным стане краіны і яе насельнікаў», дзе 3—5-ы раздзелы прысвечаны Беларусі Вял ўражанне зрабіў на яго Полацк, асабліва з за каталіцкіх храмаў Акцэнтаваў увагу на дзейнасці мясц езуітаў і гісторыі горада, колькасць жыхароў вызначыў у 6 тыс чал У Віцебску наведаў турму, апякунчы дом і бальніцу, якія, на яго думку, былі ў вельмі дрэнным стане Падобнае ўражанне пакінула і наведванне ім мінскіх бальніц на Траецкай гары (25 хворых), на Залатой горцы (25 хворых), яўр бальніцы (45 хворых), дзе ў палатах было брудна, хворыя ляжалі нямытыя і ў рыззі У Магілеве агледзеў апякунчы дом, адзначыў адсутнасць бальніцы

В В Піменаў

*Тв* Рус пер — Полоцк и Витебск в 20-х годах прошлого века // Витеб губ ведомости 1901 № 113—114

*Літ* Грыцкевіч В, Мальдзіс А Шляхі вялі праз Беларусь Мн, 1980

**ПІНСАН** Барыс Давыдавіч (1892, г Віцебск — 1938), удзельнік рэв руху Працаваў наборшчыкам у друкарні Чл РСДРП(б) з 1907 Вёў рэв работу ў Віцебску, Арле, Харкаве, Дзвінску Неаднаразова быў арыштаваны, двойчы сасланы ў Сібір Пасля Лют рэвалюцыі 1917 удзельнічаў у аднаўленні Віцебскай арг-цыі РСДРП(б), з ліп 1917 чл гаркома, потым яго старшыня З кастр 1917 чл Віцебскага губкома партыі, старшыня Віцебскага ВРК У пач 1918 у Маскве, чл ВЦВК У снеж 1918 старшыня Грозненскага цэнтр Савета Пасля грамадз вайны на парт і сав рабоце на Алтаі, у Тамбове, Варонежы, Маскве Дэлегат VIII, XIII з'ездаў ВКП(б) У 1938 рэпрэсіраваны Рэабілітаваны пасмяротна

*Тв* Большевики в Витебске // Пролетарская революция 1922 № 12

*Эдуард Карніловіч*

**ПІНСК**, горад абл падпарадкавання, цэнтр Пінскага р-на, у сутоках р Піна і Прыпяць Чыг ст на лініі Брэст—Лунінец, вузел аўтадарог на Іванава, Івацэвічы, Лунінец, Столін Рачны порт За 180 км на У ад Брэста 132,6 тыс ж (1998)

П (летапісны Пинеск, Пиньск) упершыню ўпамінаецца ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 1097 Назва ад р Піна Гарадзішча стараж П уключала дзядзінец, вакольны горад і гарадскі пасад Вакольны горад, умацаваны равамі і валамі з драўлянымі навальнымі пабудовамі, меў радыяльна-кальцавую планіроўку, зрубныя аднакамерныя пабудовы з драўлянай падлогай і глінабітнымі печамі Даследавалі Т У Раўдзіна (1955, 1957), Б В Міралюбаў (1956, 1957, 1960, 1962), Я І Бібікаў (1960, 1961), П Ф Лысенка (1963, 1964) Пры раскопках у стараж пластах выяўлены прылады працы (сашнік, сярпы, косы, жал акоўкі, прабойнікі, прасліцы, верацёны і інш ), зброя (наканечнікі стрэл, шпоры), упрыгожанні (бранзалеты, падвескі, фібулы), прадметы ўжытку (нажы, замкі, кручкі, спражкі, падковы), рэшткі скуранога абутку, глінянага посуду Сярод знаходак найб багатая калекцыя каляровых керамічных дэкаратыўных плітак. Да рэдкіх адносяцца знаходкі каменная абразка з выявай Спаса Эмануіла (12 ст), прасліца з надпісам (« АСТАС Н О ПРАСЛЕ Е»), фрагмент амфары з надпісам (« Я РОПОЛЧЕ ВН О»), высокамастацкая касця-

ная капалка Насельніцтва П займалася рамествамі, сельскай гаспадаркай, паляваннем, рыбалоўствам, мела гандл сувязі з Валынню, Кіевам, Паўн Прычарнамор'ем Знаходкі ў ранніх пластах вакольнага горада сведчаць пра яго ўзнікненне ў 11 ст У 14—18 ст на тэр гарадзішча існаваў замак (гл *Пінскія ўмацаванні*) Даследаванні праводзіліся і на ўсх ускраіне П (гл *Пінскія курганы*) Да сярэдзіны 12 ст горад уваходзіў у *Тураўскае княства*, з 2-й пал 12 ст цэнтр удзельнага *Пінскага княства* У 13 ст створана *Пінская праваслаўная епархія* З пач 14 ст П у складзе ВКЛ, гандл горад Трокскага ваяв З 1539 цэнтр *Пінскага староства*, з 1566 цэнтр *Пінскага павета* ў Брэсцкім ваяв У сярэдзіне 16 ст меў 27 вуліц, 800 двароў і 3—4 тыс ж У 1581 П атрымаў магдэбургскае права і герб — у чырв полі залатыя лук са стралой і нацягнутай цецівой Магдэбургскае права пацвярджалася ў 1589, 1633, 1650, 1785 Пасля Брэсцкай царк уніі 1596 узнікла *Пінска-Тураўская уніяцкая епархія* (1596—1795) У час *антыфеадальнай вайны 1648—51* у вер 1648 паўстаўшае насельніцтва П разам з казацкім атрадам А Нябабы аказалі супраціўленне войску стражніка Мірскага (гл *Пінская абарона 1648*) У сярэдзіне 17 ст ў П каля 10 тыс ж, у т л 280 купцоў Праз горад праходзіў гандл шлях з Прыбалтыкі на Пд Праз Піну, Мухавец і Зах Буг П быў звязаны з гарадамі Польшчы У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* у вер 1655 П быў заняты атрадам Валконскага, разрабаваны і спалены У час *Паўночнай вайны 1700—21* у маі 1706 войскі шведскага караля Карла XII захапілі і разрабавалі горад Арх аблічча П складвалася з 16 ст, у гэты час існавалі Троцкі мост, 2 брамы, 14 цэркваў, 3 правасл манастыры (*Пінскі Лешчанскі манастыр*, Варварынскі і Богаяўленскі) і 2 каталіцкія кляштары (*Пінскі кляштар францысканцаў* і *Пінскі кляштар дамініканцаў*) У 17—18 ст сфарміраваўся арх цэнтр горада, пабудаваны мураваныя езуіцкі касцел і калегіум (гл *Пінскі езуіцкі калегіум*), дамініканскі і кармеліцкі манастыры, ратуша, палац Бутрымовіча, *Пінскі кляштар бернардзінцаў*, у прадмесці Каралін — *Каралінскі замак*, касцел Карла Барамея У 1-й пал 18 ст ў П працавала друкарня (належала езуітам) У 1791 тут зроблена спроба ўтварыць самастойную правасл царкву ў Рэчы Паспалітай (гл *Пінская кангрэгацыя 1791*) Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) П у Рас імперыі, цэнтр павета Мінскай губ У 1794 у горадзе 3716 ж, 548 дамоў З пач 19 ст горад хутка рос і ў сярэдзіне 19 ст ператварыўся ў буйны гандл-пасрэдніцкі цэнтр Беларусі, працавалі 2 гарбарні, медзеапрацоўчы з-д, піваварня, млын, тытуневая ф-ка і інш У 1804 у П на землях шляхціца Рыдзеўскага знойдзены *Пінскі манетны скарб* У 1858 адкрыта першая на Піншчыне гімназія (гл *Пінскія гімназіі*), ператвораная ў 1872 у *Пінскае рэальнае вучылішча* У 1882 праз П прайшла паўд ветка *Палескіх чыгунак* У горадзе дзейнічала 27 прадпрыемстваў, найб з іх — гал майстэрні Палескіх чыгунак, ф-кі — шпілечна фанерная, тытуневая, запалкавая «Пра грэс-Вулкан», суднабудаўнічы з-д, 3 ле сапільні, маслабойня і інш Паводле перапісу 1897 у П 28 368 ж У 1904—32 960 ж, 3 бальніцы, 10 урачоў, сярэдняя навуч ўстанова і 9 пач школ У 1903—04 афармілася *Пінская арганізацыя РСДРП* У час рэвалюцыі 1905—07 баставалі рабочыя гал майстэрняў Палескіх чыгунак, запалкавай ф-кі, гарбарных заводаў і інш 8—23 снеж 1905 у П адбылася ўсеагульная стачка, якая была задушана карнай экспедыцыяй ген Арлова (гл *Пінскае выступленне рабочых 1905*) Рабочыя П баставалі ў студз і снеж 1910, сак 1913 З 15 9 1915 да 25 1 1919 горад акупіраваны герм войскамі З 23 7 да 27 9 1920 у П існавала Сав ўлада У 1921—39 у складзе Польшчы, павятовы цэнтр Палескага ваяв У 1924—38 існавала *Пінская акруговая арганізацыя КПЗБ*, якая ахоплівала сваёй дзейнасцю Зах частку Палесся У 1923—24, 1927—28 адбываліся забастоўкі, у 1930 — хваляванні беспрацоўных З 1925 да 1939 існавала *Пінская рымска-каталіцкая епархія* з цэнтрам у П З ліст 1939 у складзе БССР З 4 12 1939 цэнтр *Пінскай вобласці*, з 15 1 1940 — *Пінскага раёна* У 1939 у П 35,9 тыс ж У 1940 працавалі суднарамонтны і 2 фанерныя з-ды, запалкавая ф ка «17 Верасня» і інш, 19 школ, настаўніцкі ін-т, пед вучылішча, муз і фельчарская школы, абл драм тэатр, б кі, 8 дзіцячых садоў, абл і гар бальніцы, паліклініка, база *Пінскай ваеннай флатыліі* Выдавалася газ «Палеская праўда» 5 7 1941 акупіраваны ням фашыстамі У час вайны дзейнічалі *Пінскае патрыятычнае падполле*, *Пінскі падпольны абком КП(б)Б*, *Пінскі падпольны абком ЛКСМБ* і *Пінскае партызанскае злучэнне* Ням-фаш захопнікі знішчылі ў П 59 084 чал, з іх 20 300 ваеннапалонных Не вярнуліся з фронту 1060 чал Вызвалены 14 7 1944 у ходзе *Беларускай аперацыі 1944*, 18 часцям і злучэнням Чырв Арміі, якія ўдзельнічалі ў вызваленні горада, нададзены ганаровыя найменні «Пінскіх» З 8 1 1954 П — раённы цэнтр Брэсцкай вобл У 1959 у П 41,5 тыс ж, у 1986 — 112,6 тыс Працуюць прадпрыемствы маш-буд (суднабудаўнічы-суднарамонтны з-д, з-ды доследна-мех, сродкаў малой механізацыі і металаканструкцый, па выпуску кавальска-прэсавых і ліцейных аўтам ліній і інш), лёгкай (прамысл-гандл трыкат прадпрыемства «Дынама», з-д штучных скур, ільнозавод, ф-кі прадзільна-трыкат, маст вырабаў і інш), дрэваапр (КП «Пінскдрэў»), буд матэрыялаў, мікрабіял, харч (масласырбаза, з-д кармавых вітамінаў, мясакамбінат, хлебазавод і інш) прам-сці У горадзе 7 сярэдніх спец навуч устаноў, 4 ПТВ, 16 сярэдніх, пачатковая, базавая, 2 муз, 7 дзіцячых і маладзёжных спарт, дзіцячыя харэаграфічная і выяўленчая школы, школы-інтэрнаты для глухіх дзяцей і дзяцей-сірот, 43 дашкольныя ўстановы, 8 бібліятэк, 7 клубаў і дамоў культуры, 16 аддз сувязі, 2 бальніцы, 3 паліклінікі, 5 дыспансераў, Дом дзіцяці *Музей беларускага Палесся* Мемарыяльны комплекс вызваліцелям Помнікі вайны 1812, маракам Дняпроўскай ваен флатыліі, якія вызвалялі горад у Вял Айч вайну, В З *Харужай*, І І Чуклаю, у гонар 40-годдзя вызвалення П Помнікі архітэктуры кляштар францысканцаў (16 ст), езуіцкі калегіум (1651—75), касцел Карла Барамея (1770—80), палац Бутрымовіча (1784—90), Варварынская царква (1786), царква на могілках (1823) У цэнтры сучаснага горада, на левым беразе Піны гарадзішча 11—13 ст

*Літ* Грушевский А С Пинское Полесье Ист очерки Ч 1—2 Киев, 1901—03, Дунец А П, Миролюбов Б В Пинск Мн, 1977, Пилецкий Е Н Пинск Ист-экон очерк Мн, 1988, Лысенко П Ф Древний Пинск XI—XIII вв Мн, 1997

*Юлія Гаева, Пётр Лысенка* (археалогія)

Да арт **Пінск**
Пінскі порт 1920

**ПІНСКА АБАРО́НА 1648,** абарона Пінска паўстаўшымі гараджанамі ад войск ВКЛ у час *антыфеадальнай вайны 1648—51* Восенню 1648 жыхары Пін-

ска ўзнялі антыфеад і антыкаталіцкае паўстанне і, змовіўшыся з казакамі А *Нябабы*, упусцілі іх у горад А каб казакі «да Ражаства Хрыстова не адступілі з горада, гараджане абяцалі ім дзесяць тысяч злотых і вернае жалаванне, кожнаму па дзесяць капеек, кажухі, боты, шапкі» Шляхта, каталіцкія святары, якія не паспелі ўцячы з горада, былі перабіты, касцёлы і кляштары разрабаваны 5 10 1648 горадам спрабаваў авалодаць маршалак Пінскага павета Л Ельскі, але яго атрад трапіў у засаду і вымушаны быў адступіць да в Ставок 9 10 1648 да горада падышлі войскі ВКЛ на чале са стражнікам Мірскім Ельскі накіраваў гараджанам пісьмо з прапановай спыніць супраціўленне, на што жыхары Пінска адказалі рашучай адмовай Войскі ВКЛ пры падтрымцы 8 гармат пачалі штурм 120 драгунаў Гансеўскага, 200 чал П Падлеўскага праз Северскія вароты і 2 харугвы Ельскага праз Ляшчынскія вароты адначасова ўварваліся ў горад Паўстанцы і казакі адступілі ад сцен і заселі ў дамах Амаль кожны дом даводзілася браць штурмам Частка паўстанцаў спрабавала пераплыць на стругах цераз р Піну, але перагружаныя стругі патанулі Адзін атрад казакоў спрабаваў прарвацца на З ад горада, але быў перахоплены, адцеснены да балота і знішчаны Баі ў горадзе працягваліся больш за суткі, 10 кастр супраціўленне паўстанцаў было зломлена У час бою большая частка горада згарэла, загінула больш за 3 тыс паўстанцаў

*Літ* О бунте города Пинска и об усмирении оного в 1648 г М , 1847

**ПІНСКАЕ ВЫСТУПЛЕ́ННЕ РАБО́ЧЫХ 1905**, адно з буйных выступленняў рабочых у рэв 1905—07 Забастоўкі і дэманстрацыі рабочых Пінска пачаліся ў студз 1905 Пад кіраўніцтвам *Пінскай арганізацыі РСДРП* рабочыя Пінска ўдзельнічалі ў Кастр усерас палiт стачцы 1905 11 кастр забаставалі рабочыя чыг майстэрняў, 12 кастр спыніўся рух паяздоў на лініі Бранск — Брэст, да бастуючых далучыліся рабочыя фабрык, рамеснікі, прыказчыкі Выбраны стачачны к-т фактычна ажыццяўляў уладу ў горадзе Стварaліся баявыя дружыны, 27 кастр каля 600 рабочых атрымалі зброю У данясеннях у Дэпартамент паліцыі ад 15 і 19 снеж адзначалася, што Пінск у руках узброеных рэвалюцыянераў У ноч на 24 12 1905 паліцыя правяла масавыя арышты, якія працягваліся і ў студз 1906 *Уладзімір Салашэнка*

**ПІНСКАЕ КНЯ́СТВА**, удзельнае княства ў вярхоўях р Прыпяць і нізоўях яе прытокаў Ясельды, Піны, Стыры і Гарыні Цэнтр — г *Пінск* Вылучылася з *Тураўскага княства* паміж 1167 і 1174, бо ў 1167 кн Юрый Яраславіч яшчэ выдаваў сваю дачку Малфрыд «ис Турава» за луцкага кн Усевалада Яраславіча, а ў 1174 у летапісе ўпамінаюцца асобна «князья Туровские и Пинские» Першым пінскім князем быў Яраслаў Юр'евіч, сын тураўскага кн Юрыя Яраславіча У 12—13 ст П к знаходзілася пад уплывам *Уладзіміра-Валынскага княства* і *Кіеўскага княства* У 1174 пінскія князі ўдзельнічалі ў паходзе на Кіеў уладзімірскага кн Андрэя Баголюбскага У 1183 «Ярослав князь Пиньский» удзельнічаў у пераможным паходзе на полаўцаў кіеўскага кн Святаслава У 1190 у Пінску адбывалася «свадба Яраполча» — пінскага князя брата Яраслава Юр'евіча У 1204 летапіс называе наступнага пінскага князя Уладзіміра (Яраславіча ?), які быў захоплены палякамі ў час барацьбы за Уладзіміра-Валынскае княства У 1126—27 пры няўдалай спробе замацаваць г Чартарыйск за П к упамінаецца кн Расціслаў Пінскі Пад 1229 у летапісе запісана, што ў час паходу ў Польшчу валынскіх князёў Уладзімір Пінскі быў пакінуты аберагаць Бярэсце ад яцвягаў У 13 ст пачасціліся набегі літоўцаў на Валынь (1205, 1241, 1246, 1253, 1262) праз землі П к , у час якіх моцна цярпела яго насельніцтва У Пінску ў гэты час княжылі Федар, Дзямід і Юрый Уладзіміравічы Пасля ўтварэння ВКЛ *Міндоўгам* і яго забойства ў 1263 у Пінск уцёк сын Міндоўга *Войшалк*, які прыняў праваслаўе Пад 1292 летапіс паведамляе пра смерць пінскага кн Юрыя Уладзіміравіча У пач 14 ст П к ўвайшло ў ВКЛ Паводле завяшчання *Гедзіміна* княства атрымаў *Нарымонт* Яно заставалася за яго нашчадкамі да 2 й пал 15 ст (гл *Нарымонтавічы*) Пасля смерці Юрыя Сяменавіча з роду Нарымонтавічаў П к ўвайшло ў склад вялікакняжацкіх уладанняў *Жыгімонта Кейстутавіча* У 1471 П к аддадзена Марыі Гаштольд, удаве кіеўскага кн Сямена Алелькавіча, потым — мужу яе дачкі Федару Іванавічу Яраславічу У 1519 кароль *Жыгімонт I* Стары перадаў княства сваей жонцы *Боне Сфорца* Пасля ад'езду Боны ў Італію ў 1556 княства перайшло яе сыну *Жыгімонту II* Аўгусту і ператворана ў староства Пасля адм -тэр рэформы 1565—66 яго тэр ўвайшла ў *Пінскі павет* Брэсцкага ваяв

*Літ* Довнар-Запольский М Очерки истории Кривичской и Дреговичской земель до конца XII столетия Киев, 1891, Грушевский А С Пинское Полесье Ист очерки Ч 1—2 Киев, 1901—03, Лысенко П Ф Древний Пинск XI—XIII вв Мн 1997 *Пётр Лысенка*

**ПІНСКАЕ ПАРТЫЗА́НСКАЕ ЗЛУЧЭ́ННЕ** ў Вялікую Айчынную вайну Засн на базе партыз атрада Камарова (партыз псеўд В З *Каржа*), створанага *Пінскім падпольным абкомам КП(б)Б* 26 6 1941 па ініцыятыве Каржа напярэдадні акупацыі Пінска Да ліст 1942 былі створаны атрады імя Кірава, імя Чапаева, імя Шчорса, імя Шыша, В А Васільева, А І Дамброўскага і штаб злучэння на чале з упаўнаважаным ЦК КП(б)Б А Я Кляшчовым, камандзір злучэння Корж, нач штаба М С Фядотаў Дыслацыравалася на тэр Ганцавіцкага, Ленінскага і Лунінецкага р-наў У студз — крас 1943 для арганізацыі партыз атрадаў у інш раёнах вобласці была накіравана група ўпаўнаважаных злучэння У 1943 у яго складзе 7 партыз брыгад імя Будзённага, імя Кірава, імя Куйбышава, імя Леніна, імя Молатава, Пінская, «Савецкая Беларусь» (каля 8 тыс партызан), якія дзейнічалі на тэр вобласці, і асобны атрад імя Чуклая, што ахоўваў штаб злучэння У лютым—чэрв 1944 брыгады злучыліся з часцямі Чырв Арміі *Наталля Богнат*

**ПІНСКАЕ ПАТРЫЯТЫ́ЧНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ** ў Вялікую Айчынную вайну Дзейнічала з вер 1941 да снеж 1943 у Пінску Аб'ядноўвала больш за 50 падпольшчыкаў З вер 1941 утварыліся падп групы на мармеладнай ф-цы (кіраўнік І А Галамазава), у прыгарадзе Казлякавічы (Я А Шаламіцкі, з чэрв 1942 М І Чалей), у кастр — група на фанерным з-дзе і запалкавай ф-цы (М М Калодзіч), у ліст — на рачным флоце (М І Гарбачэўскі, з крас 1943 Л В Прытулецкі) У ліп —вер 1941 і з жн 1942 дзейнічала пад кіраўніцтвам *Пінскага падпольнага абкома КП(б)Б*, у 1943 са студз — упаўнаважанага Пінскага абкома КП(б)Б па зах раёнах Ф С Кунькова, з вер — Пінскіх падп гаркома і райкома КП(б)Б З 1942 падполле наладзіла сувязь з партызанамі ваколіц Пінска, атрадаў імя Лазо і імя Суворава Падпольшчыкі прымалі па радые і распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, лістоўкі, праводзілі агітац работу ў фаш фарміраваннях, здабывалі для партызан зброю, боепрыпасы, прадукты харчавання, адзенне, медыкаменты, друкарскі шрыфт, фарбу, паперу, разведданыя, накіроўвалі ім папаўненне Праводзілі дыверсіі, у т л вывелі са строю 12 рухавікоў рачных суднаў і 11 паташлі, П К Раіна падарваў ням магазін і шпіталь, Я В Ермальчук падпаліў лесапільны з-д, Каратышэўскі ўзарваў вадакачку, І В Невар — рухавік на электрастанцыі запалкавай ф-кі Падпольшчыкі з Казлякавіч наладзілі сакрэтную пераправу цераз р Піна Па звестках падпольшчыкаў укр партызаны разбілі караван варожых суднаў, які рухаўся з Пінска ў Кіеў А І Шахновіч выраблäў пячаткі і штампы гебітскамісарыята і гар управы, бланкі дакументаў У канцы 1943 з-за пагрозы арышту падпольшчыкі пайшлі ў брыгады Пінскага партыз злучэння ці да ўкр партызан

**ПІНСКАЕ РЭА́ЛЬНАЕ ВУЧЫ́ЛІШЧА**, агульнаадукацыйная, сярэдняя навуч установа ў 1872—1914, першае рэальнае вучылішча на Беларусі Створана ў 1872 у Пінску на базе мужчынскай гімназіі Уваходзіла ў Віленскую навуч акругу Утрымлівалася за кошт казны, збораў за навучанне і на працэнты з прыватных ахвяраванняў Мела 7 класаў У 1885 навуч г 185 юнакоў, у 1911 — 368 Узначальваў дырэктар, працавалі інспек

тар, 3 законанастаўнікі і 16 выкладчыкаў Выкладаліся рус, польск., ням і франц мовы, геаграфія, хімія, прыродазнаўства, гісторыя, законазнаўства, матэматыка, фізіка, касмаграфія, маляванне, чарчэнне, пач ваен навука, музыка, спевы, рамествы і гімнастыка Выпускнікі мелі льготы пры паступленні ў вышэйшыя тэхн і с-г навуч установы, а таксама на фіз-матэм ф-ты ун-таў Восенню 1915 вучылішча пераведзена ў Мазыр У 1918 скасавана

*Літ* Краткий список учреждений и учеб ных заведений Виленского учебиого округа на 1917 г Могилев, 1917, Памятная книжка Виленского учебного округа на 1911/1912 учеб г Вильна, 1912, Пастухова З А Среднее образование в дореволюционной Белоруссии Мн, 1963 *Андрэй Самусік*

**ПІНСКАЕ СТАРОСТВА,** Пінская воласць, буйны дзяржаўны маентак у ВКЛ у 15—18 ст Утворана ў 2-й пал 1430-х г на тэр былога *Пінскага княства*, якое канфіскавана ў апошняга яго ўладальніка кн Аляксандра Юр'евіча Носа з роду Нарымонтавічаў і далучана да ўладанняў вял кн *Жыгімонта Кейстутавіча* Пры гэтым, верагодна, невял частка княства (маенткі Адрыжын і Дольск) засталіся ў руках здрабнелых князёў (Бурэмскіх, Курцэвічаў, Дольскіх) У сярэдзіне 15 ст частка абшараў воласці раздадзена ў прыватную ўласнасць феадалам, а большасць яе ў 1471 пажалавана ўдаве ўдзельнага кн Сямена Алелькавіча Слуцкага Марыі Пасля яе смерці ў 1501 воласць перайшла да яе дачкі Аляксандры (Алены) і яе мужа кн Федара Іванавіча Яраславіча Тады ж да Пінскай вол была далучана Вядская вол у Наваградскім пав, якую атрымаў у спадчыну ад бацькі кн Яраславіч Бяздзетныя кн Яраславіч і яго жонка завяшчалі маентак вял кн *Жыгімонту І* Старому, які фактычна атрымаў яго ў 1519 і тады ж падараваў сваёй жонцы *Боне Сфорца* Маенткам кіравалі намеснікі (старосты) Боны, у адносінах да яго ўжываліся назвы «княства», «староства», «павет», «дзяржава», «воласць» У інвентары П с, складзеным у 1552, пералічаны г Пінск, мястэчкі Нобель і Мотыль, двары Сялец, Ставок, Дружылавічы і 101 сяло, усе яны ўваходзілі ў 7 войтаўстваў (Броднiцкае, Давячораўскае, Кераўскае, Хоенскае, Хрышчыблотаўскае, Чэрніцкае, Шупечыцкае) і асобную Вядскую воласць Пасля ад'езду Боны ў Італію (1556) П с лічылася асабістай уласнасцю яе сына — вял кн *Жыгімонта ІІ* Аўгуста У 1566 ён ураўняў яго статус з інш дзярж маенткамі Паводле адм рэформы 1565—66 П с цалкам уключана ў Пінскі павет, у якім займала каля $^1/_3$ тэрыторыі З гэтага часу звычайна знаходзілася ў закладзе ў буйных феадалаў ВКЛ, якія карысталіся тытулам старостаў Пасля далучэння да Рас імперыі (1793) большая частка П с (3995 мужчынскіх душ) падаравана *Кацярынай ІІ* кн М В Рапніну, рэшта раздробнена на невял прыватныя і дзярж маенткі

*Літ* Писцовая книга Пинского и Клецкого княжеств 1552—1555 гг Вильна, 1884 *Вячаслаў Насевіч*

**ПІНСКА-ЗАРЭЧНЫ ПАВЕТ** Існаваў у 1791—92 у Брэсцкім ваяводстве ВКЛ Цэнтр — в Плотніца Перайменаваны ў *Запінскі павет*

**ПІНСКА-ТУРАЎСКАЯ УНІЯЦКАЯ ЕПАРХІЯ**, адм-тэр адзінка уніяцкай царквы ў Беларусі ў 1596—1795 Створана ў выніку прыняцця *Брэсцкай уніі 1596* епіскапам *Пінскаи праваслаунаи епархіі* Лявонцем (Пялчыцкім) і пераводу гэтай епархіі ва уніяцтва Ахоплівала тэр Пінскага пав Брэсцкага ваяв Была самай маланькай сярод уніяцкіх епархій па колькасці вернікаў у 1664 — 10 прыходскіх цэркваў У 1676 у каралеўскіх маентках епархіі было 39 святароў, у шляхецкіх — 46, усяго прыхаджан — 74 Колькасць прыходаў расла па меры пераводу ва уніяцтва правасл цэркваў і манастыроў У 1668 уніяцкім стаў *Пінскі Лешчанскі манастыр* На пач 18 ст ў епархіі каля 100 прыходаў У 1722 у унію пераведзена да 20 тыс чал, у 1743 уніятамі захоплены *Купяцiцкі Увядзенскі манастыр* і Навадворскі Успенскі манастыр На 1772 епархія ахоплівала тэр 25,2 тыс км$^2$ у Брэсцкім ваяв і налічвала каля 20 дэканатаў У 1795 у сувязі з вяртаннем уніяцкіх прыходаў у праваслаўе і рэарганізацыяй структуры уніяцкай царквы епархія скасавана, прыходы, вернікі якіх засталіся уніятамі, увайшлі ў *Брэсцкую уніяцкую епархію* У 1833—39 уніяцкімі прыходамі Піншчыны кіравалі вікарныя епіскапы *Літоўскай уніяцкай епархіі*, якія наз «епіскапы пінскія» У 1839 усе прыходы далучыліся да правасл царквы Тытул кіруючых архірэяў — епіскап пінскі і тураўскі П-Т у е кіравалі епіскапы Іона Гогаль (Іван Багушэвіч, 1596—1602), Паісій Сахоўскі (1603—23), Грыгорый Міхайлоўскі (1624—32), Рафаіл *Корсак* (1632—37), Пахомій Война-Аранскі (1637—53), Андрэй Квасінскі-Злоты (1654—65), Марцін (Міхаіл) Белазор (1666—96), Антоній Любіч-Жалкеўскі (1696—1702), Парфірый (Петр) Кульчыцкі (1703—16), Іаакім (Іасафат) Цехановіч (1716—19), Феафіл Гадзебскі (1720—30), Георгій Булгак (1730—69), Гедэон (Георгій) Гарбацкі (1769—84), Іаакім Дашкевіч-Гарбацкі (1785—95), Іасафат Жарскі (вікарый, 1833—38), *Міхаіл* Галубовіч (вікарый, 1839)

*Літ* Кояловіч М Литовская церков

ная уния СПб 1862, Николай, архимандрит Историко статистическое описание Минской епархии СПб, 1864 Воспоминание о древнем православии Западной Руси М 1867 Чистович И Очерк истории западно русской церкви Ч 1—2 СПб 1882—84, Батюшков П Белоруссия и Литва Ист судьбы Северо Западного края СПб 1890, Рункевич С История Минской архиепископии (1793—1832 гг) СПб, 1893, Малышевский И Западная Русь в борьбе за веру и народность Ч 1 4 изд М, 1903, Киприанович Г Исторический очерк православия, католичества и унии в Белоруссии и Литве с древнейшего до настоящего времени 2 изд Вильна 1899 Титов Ф протоиерей Русская православная церковь в Польско Литовском государстве в XVII—XVIII вв Т 1—3 Киев 1905—16 Зноско К Исторический очерк церковной унии ее происхождение и характер М, 1993

*Віктар Касцюк*

**ПІНСКАЯ АКРУГО́ВАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ КПЗБ** Дзейнічала ва ўмовах падполля з крас 1924 да жн 1938 пад кіраўніцтвам Пінскага акр к-та КПЗБ, узначальвала барацьбу працоўных Піншчыны за сац і нац вызваленне, уз'яднанне Зах Беларусі з БССР, арганізоўвала выступленні рабочых і сялян супраць антынар палітыкі польскага ўрада У яе ўваходзілі 13 раенных парт арг-цый, больш за 240 камуністаў Ахоплівала сваей дзейнасцю зах частку Палесся з гарадамі Лунінец, Столін, Давыд-Гарадок, Сарны, Клесаў, Дубровіца Кіраўнікамі арг-цыі у розны час былі Р Гнездзіл (Сокал), Ф Б Пірышка, Ф А Цыгельніцкая, Д Шлесберг У 1924—25 члены арг цыі ўзначальвалі антыўрадавыя акцыі ў населеных пунктах і на прадпрыемствах, вялі агітацыю з дапрызыўнай моладдзю, удзельнічалі ў партыз руху ў Зах Беларусі У 1925—27 чл КПЗБ Піншчыны ўдзельнічалі ў стварэнні гурткоў Бел сял -работніцкай грамады, праз міжпарт к-т узначальвалі кампанію за амністыю палітзняволеным, умацоўвалі сувязь з прафс арг-цыямі і праз іх кіравалі барацьбой рабочых у абарону іх сац правоў, за павышэнне зарплаты, удзельнічалі ў арганізацыі забастовак рабочых лесапільных з-даў у Дубровіцы, Іванаве, Пінску, Століне, каменяломні ў Клесаве, шклозаводаў у Пінску, Ракшчне, Высоцку, запалкавай ф-кі ў Пінску (працягвалася 3 месяцы) У час выбараў у польскі сейм (сак 1928) агітавалі галасаваць за спісы Кампартыі Пры акр к-це была створана парт тройка, якая арганізоўвала перадвыбарныя мітынгі, распаўсюджвала лістоўкі, яе агітатары вялі паліт работу ў весках і на прадпрыемствах У в Іванікі існаваў склад нелегальнай л-ры, якая перапраўлялася ў райкомы У канцы 1920 — пач 1930-х г з удзелам камуністаў прайшлі забастоўкі сялян супраць падаткаў і павіннасцей, рабочых пінскіх гарбарнага з-да, запалкавай і фанернай ф-к, беспрацоўных (у 1931 у Пінску іх было 3,5 тыс) Летам 1932 члены Паа КПЗБ стварылі антываен к-ты ў падтрымку Амстэрдамскага міжнар кангрэса, збіралі подпісы пад дэкларацыяй, якая заклікала змагацца супраць фашызму і пагрозы новай сусв вайны, яны ўзначалілі рух пратэсту супраць прыняцця антыдэмакр канстытуцыі і новага выбарчага закону (1935), выступілі за аднаўленне адзінства прафс руху, стварэнне антыфаш нар фронту, вызваленне палітвязняў і ліквідацыю Бяроза-Картузскага канцлагера З іх удзелам 17 3 1936 у Пінску адбыліся сходы і масоўкі супраць праводзімай уладамі палітыкі антысемітызму, 2 4 1936 — дэманстрацыя пратэсту супраць расстрэлу кракаўскіх рабочых Камуністы арганізавалі ў Пінску «Дыскусійны гурток адзінага фронту», кіравалі забастоўкамі на фанерных ф-ках у Гарадзішчы (сак 1937) і «Лешча» ў Пінску (2 4 1938) У 1936—38 Пінскі акр к-т КПЗБ арганізоўваў выступленні працоўных краю ў абарону С В Прытыцкага, рэсп Іспаніі, у падтрымку барацьбы польскіх сялян Паа КПЗБ накіроўвала дзейнасць мясц арг-цый КСМЗБ Спыніла дзейнасць у сувязі з неабгрунтаваным роспускам Кампартыі Польшчы і яе саст частак КПЗБ і КПЗУ

*Іван Дзяшко*

**ПІ́НСКАЯ АРГАНІЗА́ЦЫЯ РСДРП** Пачала складвацца пасля II з'езда РСДРП (1903), афармілася ў пач 1905 Уваходзіла ў *Паўночна-Заходні камітэт РСДРП, Паўночна-Заходні саюз РСДРП, Абласны саюз РСДРП Літвы і Беларусі* Арг-цыю ўзначальваў цэнтр з 7 чал Да канца 1905 у ей створаны 3 раены чыгуначны (70 чал), фабрычна-заводскі (60 чал), рамесны (50 чал), 2 падраенныя к-ты, працавала калегія прапагандыстаў з 6 чал У Рэв 1905—07 кіравала выступленнямі рабочых і сялян (гл *Пінскае выступленне рабочых 1905*), выдавала лістоўкі, вяла прапаганду сярод рабочых і вучнеўскай моладзі, склікала сходы У гады рэакцыі многія яе чл арыштаваны У студз 1909 аднавіла дзейнасць, у студз 1910 арганізавала забастоўку рабочых Мела сувязь з бальшавіцкай фракцыяй IV Дзярж думы Спыніла дзейнасць летам 1915 у сувязі з акупацыяй Пінска герм войскамі

*Уладзімір Салашэнка*

**ПІ́НСКАЯ ВАЕ́ННАЯ ФЛАТЫ́ЛІЯ**, 1) фарміраванне ВМФ Польшчы на Прыпяці і яе прытоках у 1919—39 Гал база — г Пінск (адсюль назва) Створана ў крас — маі 1919 у час савецка-польскай вайны 1919—20 пасля заняцця польскімі войскамі Пінска Першапачаткова складалася з 3 узбр маторных лодак, 2 афіцэраў і 12 матросаў У 1919 вяла баявыя дзеянні на Ясельдзе каля в Гарадзішча, супраць сав *Прыпяцкай ваеннай флатыліі* — на Гарыні (каля Давыд-Гарадка), на Прыпяці (каля Турава і Петрыкава) У навігацыю 1920 прасунулася па Прыпяці і Дняпры да Чарнобыля, Лоева, Рэчыцы, удзельнічала ва ўзяцці Кіева ў маі 1920 Пасля захопу часткі караблёў сав *Дняпроўскай ваеннай флатыліі* яе сілы склалі 27 баявых суднаў, 24 афіцэры і 350 матросаў 4 8 1920 у час наступлення Чырв Арміі флатылія расфарміравана, судны эвакуіраваны або затоплены Пасля заканчэння вайны і ўваходжання Зах Беларусі ў склад Польшчы флатылія адноўлена, у 1922 налічвала 2 узбр параходы, 3 узбр судны (штабное, мінная і буксірнае), 10 узбр маторных лодак, 12 баржаў, больш за 100 маракоў У 1922 на ўзбраенне флатыліі паступілі 2 рачныя *маніторы*, у 1926 — караблі расфарміраванай Віленскай флатыліі (2 маніторы, 7 маторных лодак, 9 дапаможных суднаў), разам з пабудаванымі манітoрамі «Вільня» і «Кракаў», у 1930-я г — 3 рачныя *кананерскія лодкі* і інш У 1928—37 у Пінску базіравалася рачная авіяэскадрылля з некалькіх гідрасамалетаў У сак 1939 з пагрозай нападу Германіі частка сіл флатыліі (7 узбр катэраў, гліcер, 2 баржы) пераведзены на Віслу, пачата частковая мабілізацыя, 31 8 1939 — агульная З пач 2-й сусв вайны (1 9 1939) флатылія вяла проціпаветраную абарону Пінска і найб важных мастоў цераз Піну, Прыпяць, Ясельду 17—21 9 1939 караблі флатыліі з прычыны адсутнасці ў камандавання загаду ваяваць супраць Чырв Арміі і немагчымасці перайсці на Зах Буг і Віслу з-за нізкага ўзроўню вады ў Каралеўскім (Дняпроўска-Бугскім) канале, былі самазатоплены (пераважна на Прыпяці і Піне) Экіпажы, якія сышлі на бераг, і інш падраздзяленні далучыліся да армейскай групоўкі «Палессе» і ў яе складзе як 2 марскія батальены ўдзельнічалі 2—5 кастр ў апошніх абарончых баях на тэр Польшчы (каля г Коцк) супраць герм войск Камандуючыя флатыліяй Я Гедройц (19 4 1919 — 13 3 1920), Э Садоўскі (16 3—2 7 1920), Е Валкавіцкі (2 7—4 8 1920), М Вольбек (1922—24), У Блінструб (1924—27), В Заянчкоўскі (1927—39) Да 12 11 1939 затопленыя караблі Пінскай флатыліі (не менш як 54 адзінкі, у т л 26 баявых — 5 манітораў, 2 кананеркі, 15 узбр катэраў, мінна-газавае судна, 3 рачныя тральшчыкі) падняты сав маракамі і пасля рамонту і пераўзбраення ўключаны ў склад Дняпроўскай ваен флатыліі, у 1940 большасць іх перададзена сав П в ф

2) Фарміраванне сав ВМФ на Дняпры і яго прытоках (Прыпяці, Бярэзіне і інш) у чэрв 1940 — кастр 1941 Гал база — г Пінск (адсюль назва), з ліп 1941 — Кіеў Створана 17 6 1940 з часткі сіл расфарміраванай Дняпроўскай ваен флатыліі Камандуючы — контр-адмірал Дз Дз *Рагачоў* Перад Вял Айч вайной складалася з 7 рачных манітораў, 4 рачных кананерскіх лодак, 15 бранякатэраў, міннага загараджальніка «Піна», авіяэскадрыллі (гл ў арт *Марская авіяцыя*), зенітнага артыл дывізіена, роты марской пяхоты і інш падраздзяленняў (усяго 2300 чал) Аператыўна падпарадкоўвалася камандуючаму войскамі Зах Асобнай ваен акругі (з 22 6 1941 — Заходні фронт) У першыя дні вайны павялічана за кошт мабілізаваных суднаў на 4 кананерскія лодкі, 4 тральшчыкі, 8 вартавых караблёў і 10

катэраў, у канцы ліп на Дняпро з Дуная перайшлі 2 рачныя маніторы Да 9 7 1941 разам з разрозненымі часцямі 4 й арміі Зах фронту абараняла Пінск, Лунінец, Тураў 11 ліп падзелена на атрады караблёў Бярэзінскі (маніторы «Вінніца», «Віцебск», «Жытомір» і «Смаленск», 5 бранякатэраў, камандзір капітан 2-га рангу Брахтман, з 20 7 1941 — капітан 3-га рангу З Баст), Прыпяцкі (манітор «Бабруйск», мінны загараджальнік «Піна», 4 вартавыя караблі, 2 бранякатэры, плавучая зенітная батарэя, 2 дапаможныя судны, камандзір капітан-лейт К Максіменка) і Дняпроўскі (гал сілы флатыліі, у т л найб моцныя маніторы «Левачоў», «Флягін», «Жамчужын» і «Растоўцаў», кананерскія лодкі «Беларус», «Верны», «Перадавы» і «Працоўны», камандзір капітан 1-га рангу І Кравец) Бярэзінскі атрад абстрэльваў занятыя ням -фаш войскамі прырэчныя населеныя пункты, абараняў савецкія і парушаў варожыя пераправы, аказваў інш дапамогу войскам 21 й арміі Зах фронту на Бабруйскім напрамку, участку Парычы — вусце Бярэзіны і інш Прыпяцкі атрад разам з часцямі 75-й стралк дывізіі і Мазырскага ўмацаванага раена прыкрываў прырэчныя флангі на стыку войск Зах і Паўд -Зах франтоў на участку Петрыкаў—Нароўля У канцы жн караблі абодвух атрадаў прарваліся з баямі да Кіева (пры гэтым частка з іх загінула) і разам з Дняпроўскім атрадам удзельнічалі ў абароне Кіеўскага ўмацаванага раена Большасць караблёў знішчана ў баях, астатнія ўзарваны 18 вер ў сувязі з адыходам сав войск на У ад Дняпра Атрад маракоў ваяваў на сушы да 20—28 верасня Флатылія расфарміравана 5 10 1941

*Літ* Бесславный конец польской Пинской флотилии // Морской сборник 1939 № 21—22, Локтионов И И Пинская и Днепровская флотилии в Великой Отечественной войне М, 1958, Паўловіч Р К Пінская флатылія // Бел мінуўшчына 1995 № 3, Яго ж Мониторы польской Пинской флотилии история и судьба // Старонкі ваеннай гісторыі Беларусі Мн, 1998 Вып 2, Яго ж Пинские мониторы // Армия 1998 № 3, Dyskant J W Flotylla rzeczna Marynarki Wojennej 1919—1939 Warszawa, 1994, Olejko A Rzeczna eskadra lotnicza Flotylli Pińskiej Pruszkow, 1994

*Раман Паўловіч*

**ПІ́НСКАЯ ВО́БЛАСЦЬ**, адм -тэр адзінка ў БССР з 4 12 1939 да 8 1 1954 Абл цэнтр — г *Пінск* Утворана пасля ўваходу Зах Беларусі ў БССР Уключала 5 паветаў Драгічынскі, Пінскі, Столінскі (часткова), Косаўскі і Лунінецкі 15 1 1940 паветы скасаваны, тэр вобласці падзелена на 11 раенаў Ганцавіцкі, Давыд-Гарадоцкі, Драгічынскі, Жабчыцкі, Іванаўскі, Лагішынскі, Ленінскі, Лунінецкі, Пінскі, Столінскі, Целяханскі На 1 1 1941 пл вобласці 16,3 тыс км$^2$, нас 533,6 тыс чал, 4 гарады (Давыд-Гарадок, Лунінец, Пінск, Столін), 5 гар паселкаў (Ганцавічы, Драгічын, Іванава, Ленін, Моталь), р п Мікашэвічы, 159 сельсаветаў Выдавалася абл газета «Палеская праўда», 11 раенных і 12 палітаддзельскіх газет Пасля скасавання тэр П в ўключана ў *Брэсцкую вобласць*

**ПІНСКАЯ КАНГРЭГА́ЦЫЯ 1791**, Пінская генеральная кангрэгацыя 1791, сход правасл духавенства і вернікаў Рэчы Паспалітай з мэтай стварыць у краіне аўтакефальную царкву, незалежную ад Сінода Рас імперыі Рашэнне аб скліканні кангрэгацыі прынята *Чатырохгадовым сеймам 1788—92* 23 3 1791 кароль Станіслаў Аўгуст прызначыў камісарамі на кангрэгацыю ад Кароны сандамірскага пасла М Каханоўскага і люблінскага пасла кн Чартарыйскага, ад ВКЛ — трокскага пасла Залескага і пінскага пасла і падстаросту Бутрымовіча Навагрудскі пасол Бярновіч быў прызначаны для зносін з кангрэгацыяй і для забеспячэння яе дакументамі У Пінск прыбылі 96 дэлегатаў 24 манахі, 21 святар, 51 свецкая асоба (сярод іх 19 чал са шляхты, астатнія з мяшчан) У кангрэгацыі ўдзельнічалі і каталікі (напр, ген -інспектар войск ВКЛ Грабоўскі) і уніяцкае духавенства (епіскап пінскі Іаакім Дашкевіч-Гарбацкі і яго каад'ютар Іасафат *Булгак*) Ген кангрэгацыя пачала працу 1 7 1791 Яна прыняла рашэнне, што Ген кангрэгацыя, або «Нацыянальны сінод праваслаўных цэркваў каралеўства Польскага і Вялікага княства Літоўскага», складаецца з архіепіскапа і 3 епіскапаў, старшых архімандрытаў, асэсараў кансісторыі і дэпутатаў, абраных епархіяльнымі кангрэгацыямі Ген кангрэгацыя павінна была збірацца праз кожныя 4 гады Яе галоўная, або генеральная кансісторыя складаецца з 12 чал Архіепіскап павінен быць на правах *мітрапаліта* і знаходзіцца ў духоўнай залежнасці ад канстанцінопальскага патрыярха На сваіх з'ездах кангрэгацыя павінна была абмяркоўваць духоўныя справы сваей царквы, прызначаць, калі гэта патрэбна, 4 кандыдатаў на кафедру епіскапа З іх каралеўскі ўрад павінен быў выбраць аднаго Цэнтрам кангрэгацыі прызначаўся г Пінск Нягледзячы на пратэсты з боку некат каталіцкіх і уніяцкіх епіскапаў, сейм зацвердзіў рашэнне кангрэгацыі і абвясціў у 1792 «Urządzenie hierarchii cerkiewnej obrządku grecko-orientalnego» («Упарадкаванне царкоўнай іерархіі грэка-ўсходняга абраду») Але 2-і і 3-і падзелы Рэчы Паспалітай не дазволілі выканаць гэтыя рашэнні

*Літ* Рункевич С История Минской архиепископии (1793—1832 гг) СПб, 1893, Беднов В А Православная церковь в Польше и Литве Екатеринослав, 1908

*Алена Філатава*

**ПІ́НСКАЯ ПРАВАСЛА́ЎНАЯ ЕПА́РХІЯ**, адм -тэр адзінка праваслаўнай царквы на Беларусі ў 13—20 ст З канца 10 — пач 11 ст тэр епархіі ўваходзіла ў склад *Тураўскай праваслаўнай епархіі* ў падпарадкаванні *Кіеўскай мітраполіі* У 1241 кафедра перанесена ў Пінск, што лічыцца пачаткам дзейнасці П п е У 14 ст епархія тройчы знаходзілася ў юрысдыкцыі Галіцкай мітраполіі, а пасля яе скасавання — зноў у Кіеўскай У сярэдзіне 16 ст у Пінску было 16 цэркваў, пратапоп, ад 15 да 25 святароў, 1 ці 2 дыяканы, у епархіі — больш за 200 храмаў Падзялялася на 3 пратапопіі Пінскую, Давыд-Гарадоцкую і Тураўскую У 16—17 ст у епархіі былі наступныя манастыры у Пінскай пратапопіі — мужчынскія Дзятлавіцкі, Дубайскі, Купяцкі, Пінскія Богаяўленскі і Ле-

шчанскі, Навадворскі і жаночы Пінскі Варварынскі, у Тураўскай пратапопіі — мужчынскія Мазырскі Яснагорскі, Мо-рацкі, Тураўскі Барысаглебскі, жаночыя Мазырскі Параскевінскі і Тураўскі Варварынскі У 17—18 ст непасрэднае кіраўніцтва пратапопіямі ажыццяўлялі ігумены Пінскага Богаяўленскага манастыра У 1595—1795 пінскай кафедрай валодалі уніяты (гл *Пінска-Тураўская уніяцкая епархія*), аднак у 1620—32 П п е адраджалася і існавала адначасова з уніяцкай З 1633 у Пінску дзейнічала правасл брацтва, якое мела школу і бальніцу Каб выпрацаваць палажэнне аб правасл духавенстве тут была склікана Генеральная *Пінская кангрэгацыя 1791* У 1794—95 шмат уніяцкіх прыходаў епархіі добраахвотна аб'ядналіся з правасл царквой і іх тэрыторыя была ўключана ў склад *Мінскай праваслаўнай епархіі* У 1920 П п е адноўлена, у 1922—39 знаходзілася у складзе Польскай аўтакефальнай правасл царквы У 1937 епархія падзялялася на 24 благачынні 4 у Брэсцкім, 2 у Драгічынскім, 2 у Камень Кашырскім, 3 у Кобрынскім, 2 у Косаўскім, 1 у Лунінецкім, 3 у Пінскім, 2 у Пружанскім, 2 у Столінскім, 3 у Сарненскім паветах, прыходскіх храмаў было 229, прыпісных — 91 У 1941 на пінскую кафедру маскоўскім патрыярхатам быў прызначаны епіскап Веньямін, аднак з-за ваен дзеянняў ен не змог кіраваць епархіяй У 1942—44 епархія знаходзілася ў падпарадкаванні Украінскай аўтакефальнай правасл царквы, у 1944 яна вернута ў юрысдыкцыю Маскоўскага патрыярхата У 1949 уключала 85 прыходаў Пінскага, Ганцавіцкага, Давыд-Гарадоцкага, Драгічынскага, Жабчыцкага, Іванаўскага, Лагішынскага, Ленінскага, Лунінецкага, Столінскага і Целяханскага р-наў З 1952 кіруючых архірэяў у епархію не прызначалі, адбывалася масавае закрыцце цэркваў У 1839—40 і ў 1980—90 тытул «епіскап пінскі» насілі вікарыі (гл ў арт *Епіскап*) Мінскай епархіі 4 3 1990 дзейнасць П п е адноўлена ў складзе Бел Экзархата, яе тэрыторыя ахоплівае 8 раенаў Брэсцкай вобл Пінскі, Баранавіцкі, Ганцавіцкі, Іванаўскі, Івацэвіцкі, Лунінецкі, Ляхавіцкі, Столінскі На 1 1 1998 у епархіі 141 прыход, 141 прыходская царква, 37 могілкавых капліц, 11 цэркваў, якія будуюцца, 120 святароў, 4 дыяканы, 1 4 1993 адноўлены Св Варварынскі жаночы манастыр у Пінску Тытулы кіруючых архірэяў 13 ст — 1416 Тураўскі і Пінскі, 1416—1632 Пінскі і Тураўскі, 1920—22, 1939—42 Пінскі і Навагрудскі, 1922—44 Палескі і Пінскі, 1945—46 Пінскі і Брэсцкі, 1946—48, 1950—52 Пінскі і Лунінецкі, 1948—50 Пінскі і Палескі, з 1990 Пінскі і Лунінецкі П п е кіравалі епіскапы Афанасій (упам 1328), Феадосій (1390?), Антоній (?—1404), Яўфімій (Акушко, 1412 — пасля 1420), Іаакім (упам 1458), Яўфімій II (упам 1489), Васіян (1492?—1502), Арсень (1509—14), Іона (1517—22), Макарый (1522—28), Васіян II (упам 1535), Варлам (упам 1545), Васіян III (1549—52), Макарый II (1552—65?), Іона II (Пратасовіч-Астроўскі, 1566—68), Андрэй (Русін-Берастэцкі, 1568—72), Макарый III (Еўлашэўскі, 1572—74), Кірыла *Цярлецкі* (1576—85), Лявонцій (1585—95), Аўрамій (Лецыд, 1620—32), *Міхаіл* (Галубовіч, вікарый, 1839—40), *Панцеляймон* (П С Ражноўскі, 1920—22, 1939—40), Аляксандр (Іназемцаў, 1922—44), Веньямін (Навіцкі, 1941—42), Анісіфар (Панамароў, 1945), Даніл (Юзьвюк, 1946—50), Паісій (Абразцоў, 1950—52), Афанасій (Кудзюк, вікарый, 1980—84), Канстанцін (Хоміч, вікарый, 1987—90), Стафан (І П Корзун, з 1990)

*Літ* Н и к о л а й, архимандрит Историко-статистическое описание Минской епархии СПб, 1864, С т р о е в П Списки иерархов и настоятелей монастырей Российской Церкви СПб, 1877, Ч и с т о в и ч И Очерк истории западно-русской церкви Ч 1—2 СПб, 1882—84, Ц ы п и н В протоиерей История Русской церкви 1917—1997 гг М, 1997 *Віктар Касцюк*

**ПІ́НСКАЯ РЫ́МСКА-КАТАЛІ́ЦКАЯ ЕПА́РХІЯ**, П і н с к а я д ы я ц э з і я, П і н с к а е б і с к у п с т в а, адм-тэр адзінка рымска-каталіцкай царквы ў Зах Беларусі Першая спроба заснаваць епархію з цэнтрам у Пінску зроблена ў 1795 імператрыцай Кацярынай II Аднак у 1798 папскі нунцый у Расіі Л Літа скасаваў епархію як некананічна утвораную У тым жа годзе на падставе папскай булы і імператарскага ўказа засн *Мінская рымска-каталіцкая епархія*, у склад якой увайшла тэр скасаванай Пінскай епархіі У 1917 Мінская епархія была адноўлена, аднак у пач 1920-х г яе біскуп З *Лазінскі* быў вымушаны пакінуць Мінск і яго новай рэзідэнцыяй стаў Пінск у межах Польшчы 28 10 1925 апостальскай канстытуцыяй «Vixdum Poloniae unitas» была ўтворана П р-к е, якой кіравалі біскупы Лазінскі (1925—32), К Букраба (1932—46) У 1991 дзейнасць епархіі адноўлена

*Літ* W i l k S Episkopat Kosciola Katolickiego w Polsce w latach 1918—1939 Warszawa, 1992, Spis Kosciolow i Duchowieństwa diecezji Pińskiej w R P 1935 Stan diecezji na dzień 31 grudnia 1934 roku Pińsk, 1935 *Ігар Ганчарук*

**ПІ́НСКІ ЕЗУІ́ЦКІ КАЛЕ́ГІУМ**, установа ордэна *езуітаў* у Пінску у 1632—38 рэзідэнцыя, у 1638—1773 і 1923—39 калегіум У 1630 езуіты былі запрошаны ў Пінск мясц стольнікам М Ельскім Ах вяраванні на заснаванне калегіума пасля смерці Ельскага зрабіў у 1632 пінскі староста А С Радзівіл Спачатку рэзідэнцыя і калегіум размяшчаліся на пл Рынак у доме Ельскага (згарэў у 1648) У 1636—47 на беразе Піны ў цэнтры горада ўзведзены мураваны касцел св Станіслава (у 2-й пал 18 ст перабудаваны), а пры ім у 1651—75 — 3-павярховы мураваны будынак калегіума (2-я яго чарга закончана ў 1694—1738) У 17—18 ст калегіуму падпарадкоўваліся місіі ў Дубаі, Лагішыне, Падгацці, Снятыні, Тураве, Янаве-Палескім (цяпер Іванава) У 1632 было 40 вучняў, у канцы 17 ст — каля 700 У 1645 адкрыта муз бурса, у 1694 — аптэка, увесь час дзейнічаў тэатр, у 1727—35 — друкарня, меліся б-ка, шпіталь для бедных Калегіуму належалі навакольныя маенткі Адрыжын, Альбрыхтаў, Асавец, Аснежыцы, Баландзічы, Бродніца, Велеснь, Дубай, Іванчыцы, Крывічы, Снятын, Удрожын, Целяханы У 1773 калегіум закрыты, вучэбны корпус перададзены пад школу *Адукацыйнай камісіі* Касцел у 1786 перададзены уніятам і стаў кафедральным саборам *Пінска-Тураўскай уніяцкай епархіі*, з 1799 перайшоў да праваслаўных, належаў Богаяўленскаму манастыру У 1919 касцел вернуты езуітам, у 1923 аднавілася навуч дзейнасць калегіума З 1925 пры калегіуме працавала духоўная семінарыя, з 1937 — навіцыят (установа для падрыхтоўкі новых членаў ордэна) Велікапольска-Мазавецкай правінцыі езуітаў У вер 1939 калегіум закрыты У 1955 касцел зруйнаваны Будынак калегіума — помнік архітэктуры барока

*Літ* М а р а ш Я Н Ватикан и католическая церковь в Белоруссии (1569—1795) Мн 1971 Nasze Koscioly Diecezja Minska Warszawa [1912]

**Пінскі езуіцкі калегіум** Фота Я Булгака 1920-я г

**ПІНСКІ ЗА́МАК**, гл ў арт *Пінскія ўмацаванні.*

**ПІНСКІ КЛЯ́ШТАР БЕРНАРДЗІ́НЦАЎ** Існаваў у 1705—1832 у Пінску Засн ў 1705 М С.Вішнявецкім і яго жонкай Кацярынай з Дольскіх Агульная плошча 6 маргоў 2 пруты, уключаў агароды і лугі Штогодняя «правізія» складала 1500 злотых Уваходзіў у літоўскую правінцыю ордэна бернардзінцаў У 1765—86 пабудаваны мураваны касцел Міхаіла Архангела, парафіі пры ім не было У пач 19 ст дабудаваны сакрысція і прылеглае памяшканне Гараднічы Берасцейскага ваяв В Грабоўскі адпісаў на будоўлю касцела 16 тыс злотых У 1832 у кляштары жылі 13 манахаў У гэтым жа годзе кляштар скасаваны Пазней касцел перарабілі на царкву св Варвары, а ў 1858 у памяшканнях кляштара размясціўся правасл жаночы манастыр Царква дзейнічае, помнік архітэктуры барока

*Аляксандр Ярашэвіч*

**ПІНСКІ КЛЯ́ШТАР ДАМІНІКА́НЦАЎ** Існаваў у 1667—1850 у Пінску Засн жонкай полацкага ваяводы Я К Копаця, маркграфіняй Марыяй Лукрэцыяй Строцы, якая ахвяравала кляштару 12 700 злотых на набыцце маентка Шышова (Брэсцкі пав ), фальварка над Ясельдаи з «грунтам ворным», зямельных пляцаў у Пінску Для буд-ва драўлянага касцела св Дамініка (закончаны ў 1697) былі запісаны 3 тыс злотых на алтар Маці Божай Ружанцовай, ахвяравана сярэбранае начынне У 1709 пачалося ўзвядзенне новага жылога будынка У 18 ст ў кляштары была муз капэла У 1785 разабраны стары касцел, у 1787—1810-я г пабудаваны новы У 1850 кляштар скасаваны, касцел перабсталяваны пад правасл Федараўскі сабор (1857) У 1950-я г разбураны

*Аляксандр Ярашэвіч*

**ПІНСКІ КЛЯ́ШТАР ФРАНЦЫСКА́НЦАЎ** Існаваў у 1396—1852 у Пінску Засн *Жыгімонтам Кейстутавічам*, які даў кляштару зямельны ўчастак у маентку Вышэвічы У сярэдзіне 15 — пач 17 ст кляштар атрымаў зямельныя падараванні ад *Казіміра IV* Ягелончыка (фальваркі Статычы, Дружылавічы, Ставок, Сяльцо, карчму з шынком у Пінску і в Охава), *Аляксандра Уладзіслава IV* (в Кудрычы) і інш Да 1625 у складзе польскай правінцыі ордэна францысканцаў, пазней руска-літ правінцыі. З 1632 у кляштары жыло не менеі як 18 манахаў Да пач 18 ст драўляны касцел Успення Маці Божай (адначасова парафіяльны на ўсе Пінскае Палессе) неаднаразова цярпеў ад пажараў У 1-й чвэрці 18 ст пабудаваны мураваны касцел і званіца Да 1830 кляштару належалі фальваркі Вышэвічы і Рудка з 6 вёскамі, 64 валокі ворнай зямлі, 2 корчмы, прыбытак складаў 4576 руб серабра У 1842 Вышэвічы, Охава і Кудрычы перайшлі ў дзярж ўладанні У інвентары 1663 упамінаецца парафіяльная школа пры кляштары з бакалаўрам (існавала да 1799) У 1805—32 існавала павятовая школа пры Віленскім ун-це (з 1832 пад назвай дваранскай перайшла ў свецкае кіраванне), б-ка (661 том) Скасаваны 19 12 1852, касцел застаўся парафіяльным Архіў кляштара захоўваўся яшчэ ў час 1-й сусв вайны Метрычныя кнігі (з сярэдзіны 17 ст ) зберагаюцца ў Нац гіст архіве Рэспублікі Беларусь Будынкі касцела і кляштара захаваліся, помнікі архітэктуры

*Аляксандр Ярашэвіч*

**ПІНСКІ ЛЕ́ШЧАНСКІ МАНАСТЫ́Р** Нараджэння Багародзіцы Існаваў у 13 ст — 1839 у прыгарадзе Пінска Лешча Упершыню згадваецца ў летапісах у сувязі з уцекамі сюды кн *Войшалка* пасля забойства яго бацькі *Міндоўга* У 14 ст пінскі кн Юрый Нарымунтавіч даў манастыру востраў паміж рэкамі Пінай, Струменем і Орліцай Ахвяраванні манастыру рабілі кн Яраславічы, а таксама Велятыцкія, Галоўні, Качаноўскія Манастыр быў рэліг і культ цэнтрам Палесся З 15 ст тут жылі епіскапы *Пінскай праваслаўнай епархіі*, якія лічыліся архімандрытамі манастыра, тут, верагодна, вялося летапісанне, перапісваліся кнігі У манастыры знаходзіўся цудатворны абраз Успення Багародзіцы (верагодна, перанесены ў 13 ст з Турава з пераводам у Пінск епіскапскай кафедры) У 1580—84 замест царквы Нараджэння Багародзіцы пабудаваны новы драўляны храм Успення Багародзіцы У 1-й пал 17 ст архімандрытам быў Іосіф *Нелюбовіч-Тукальскі*, у далейшым мітрапаліт Кіеўскі У 1668 манастыр стаў уніяцкім Новы драўляны крыжова-купальны храм пабудаваны ў 1746 (у ім лічылася цудатворнай разьбяная фігура Ісуса Хрыста) У пач 19 ст манастыру належалі вёскі Аўсімераў, Вульвавічы, Жытновічы, Заглубочча, Любель, Патапавічы, Сухое, Тырновічы, у 1816 было 478 душ прыгонных У 1839 манастыр скасаваны, царква згарэла ў канцы 19 ст

*Літ* Миловидов А И Архив упраздненного Пинского Лещинского монастыря М , 1900, Довгялло Д И Пинский Лещинский монастырь в 1588 г Мн , 1909

*Аляксандр Ярашэвіч*

**Пінскі Лешчанскі манастыр** З малюнка Н Орды 19 ст

**ПІНСКІ МАНЕ́ТНЫ СКАРБ** Знойдзены ў 1804 у г Пінск Уладальнік зямлі, на якой быў выяўлены скарб, шляхціц Рыдзеўскі падараваў Аляксандру I 20 залатых манет, у т л 6 златнікаў Уладзіміра Святаславіча (980—1015), візантыйскія намісмы Васіля II (976—1025) і Канстанціна VIII (1025—28), 4 або 5 намісмаў Рамана IV (1068—71), 2 намісмы Нікіфара Ватаніята (1078—81) і, верагодна, інш імператараў У Эрмітаж перададзена 12 манет — усе златнікі і 6 намісмаў Лес астатніх манет скарбу невядомы Ухаваны ў 3-й чвэрці 11 ст

*Літ* Спасский И Г Золото Владимира Святославича // Экономика, политика и культура в свете нумизматики Сб науч тр Л , 1982

*Ірына Колабава*

**ПІНСКІ ПАВЕ́Т**, адм-тэр адзінка ў 1565—1793 у Брэсцкім ваяв ВКЛ, у 1796 у Мінскай губ Рас імперыі, з 1921 у Палескім ваяв Польшчы, з 1939 у БССР Цэнтр — г *Пінск* У 16—18 ст значную частку яго тэрыторыі займалі *Пінскае староства*, буйныя магнацкія вотчыны Гальшанскіх, Астрожскіх, Чартарыйскіх, Радзівілаў Меў пав харугву на блакітным полі выява *«Пагоні»* У 1793 большая ч павета адышла да Расіі, невял зах ч з мястэчкамі Драгічын, Моталь, Хомск, Янаў (Іванава) у 1795 увайшла ў *Кобрынскі павет* У 1795 П п утвораны паўторна ў складзе Мінскага намесніцтва, на Пн да яго далучана частка Навагрудскага пав (раен Выганашчанскіх балот), усх ч вылучана ў *Давыд-Гарадоцкі павет*, паўд.ч перададзена ў Ровенскі пав З 12 12 1796 у Мінскай губ У 1797 ч Давыд-Гарадоцкага пав са Столінам, Кажан-Гарадком і Лунінцом вернута ў П п Пл каля 10 тыс км², у т л 43% пад лесам, 23,2% пад балотамі, 16,5% лугоў, 15,7% сядзібных і ворных зямель Пасля 1861 у павеце 23 воласці Дабраслаўская, Дубайская, Жабчыцкая, Кажан-Гарадоцкая, Кухацкавольская, Лашчынская, Лемяшэвіцкая, Лунінская, Любяшоўская, Марачанская, Пагост-Загародская, Парэцкая, Пінкавіцкая, Плотніцкая, Радчыцкая, Святавольская, Ставоцкая, Столінская, Угрыніцкая, Хатыніцкая,

Хоінская, Целяханская, Церабешаўская, 78 правасл , 5 каталіцкіх (да 1863) прыходаў У 1878 у павеце каля 120 тыс чал (без Пінска), у т л 97 тыс праваслаўных, 6,6 тыс католікаў, 16 тыс іудзеяў У 1897 — 201 тыс чал , 11 мястэчак (Горадна, Кажан-Гарадок, Лагішын, Лунінец, Любашаў, Нобель, Пагост-Загародны, Пагост-Зарэчны, Святая Воля, Столін, Целяханы), 75 сел, 292 вёскі, 191 фальварак У ліст —снеж 1920 Святавольская і Целяханская вол перададзены ў Косаўскі пав , Дабраслаўская, Кажан-Гарадоцкая, Лунінская, Пагосцкая, Плотніцкая, Столінская, Хатыніцкая і Церабежаўская вол — у Лунінецкі З 18 3 1921 у складзе Палескага ваяв Польшчы, у 1933 было 13 гмін Бродніцкая, Вітчаўская, Дабраслаўская, Жабчыцкая, Кухацкавольская, Лагішынская, Лемяшэвіцкая, Марачнянская, Пінкавіцкая, Пінская, Парэцкая, Пагост-Загародская, Хоінская З вер 1939 у БССР, з 4 12 1939 у складзе Пінскай вобл , 15 1 1940 скасаваны

*Вячаслаў Насевіч*

**ПІНСКІ ПАДПО́ЛЬНЫ АБКО́М КП(б)Б** у Вялікую Айчынную вайну Створаны ЦК КП(б)Б і працаваў пад яго кіраўніцтвам з канца ліп да кастр 1941 і з канца жн 1942 да ліп 1944 на тэр Пінскай вобл Сакратары М К Зайцаў (да вер 1941), П Г *Шапавалаў* (да кастр 1941), А Я *Кляшчоў* (23 4 — кастр 1943, 1-ы сакратар), С Р *Вайцахович* (з 23 4 1943, 2-і сакратар), члены Кляшчоў, В З *Корж*, І Л Масленікаў, Ф І Палажэнцаў, Г П Сцепіцін Базіраваўся ў Столінскім партыз атрадзе, потым у Пінскім партыз злучэнні Стварыў і кіраваў Пінскім падп гаркомам КП(б)Б і 11 райкомамі [гл ў арт *Раенныя падпольныя камітэты КП(б)Б*], накіроўваў дзейнасць *Пінскага падпольнага абкома ЛКСМБ* Арганізоўваў і ўзначальваў антыфаш падполле, партыз рух на тэр Пінскай вобл , якія налічвалі 56 пярвічных арг-цый Аб'яднаў асобныя партыз атрады і групы ў *Пінскае партызанскае злучэнне*, узначаліў яго дзейнасць Друкаваны орган газ «Палеская праўда», выдаваў таксама лістоўкі, бюлетэні, адозвы, зводкі Саўінфармбюро У гонар абкома, штаба партыз злучэння Пінскай вобл ва ўрочышчы Векерава каля в Груздава Салігорскага р-на пастаўлена стэла

**ПІНСКІ ПАДПО́ЛЬНЫ АБКО́М ЛКСМБ** у Вялікую Айчынную вайну Створаны ЦК ЛКСМБ для падп работы з ліп 1941 у паўн частцы, з восені 1942 ва ўсіх раенах Пінскай вобл Дзейнічаў да 14 7 1944 пад кіраўніцтвам ЦК ЛКСМБ і *Пінскага падпольнага абкома КП(б)Б*, з кастр 1942 яго дзейнасць накіроўваў К Т *Мазураў* Сакратары Ш І *Бяркович* (да

31 12 1942), Э Б *Нордман* (1 1—3 6 1943), П А Емяльянцаў (з 3 6 1943), А А Бірукоў (з 2 8 1943, 1-ы сакратар), члены М І Бубянкоў, І А Буйніцкі (загінуў), М П Забела, А І Кавалеў, А І Кубасаў, В М Ліфанцьеў, Нордман, І І Чуклай (загінуў) Базіраваўся ў Ленінскім р-не пры партыз атрадзе В З *Каржа* і пры штабе *Пінскага партызанскага злучэння* Узначальваў дзейнасць Пінскага падп гаркома ЛКСМБ і 11 райкомаў (гл ў арт *Раенныя падпольныя камітэты ЛКСМБ*), якія аб'ядноўвалі 260 пярвічных камсам арг-цый (каля 3,5 тыс камсамольцаў) на тэр Пінскай вобл

*Рыгор Шавяла*

**ПІНСКІ РАЁН** Размешчаны на Пд Брэсцкай вобл Пл 3,2 тыс км$^2$, нас 57,2 тыс чал (1999) Цэнтр — г *Пінск* Большая ч тэрыторыі ў межах Прыпяцкага Палесся, заходняя — узвышанай раўніны Загароддзе Найб рака Прыпяць з прытокамі Піна, Ясельда, Бобрык, Стыр На тэр раена *Агінскі канал*, вадасх Пагост Пад лесам 31% тэр раена Праходзяць чыгунка Брэст—Гомель, аўтадарогі на Іванава, Івацэвічы, Лунінец, Столін

Утвораны 15 1 1940 у Пінскай вобл 12 10 1940 падзелены на 16 сельсаветаў Біжаравіцкі, Востраўскі, Высоцкі, Вяляціцкі, Гарадзішчанскі, Дубнавіцкі, Качановіцкі, Лапацінскі, Ласіцкі, Лемяшэвіцкі, Парахонскі, Пасяніцкі, Пінкавіцкі, Плешчыцкі, Сошненскі, Ставоцкі У пач ліпеня 1941 акупіраваны ням фашыстамі, якія знішчылі ў раене каля 51 тыс сав грамадзян, спалілі разам з жыхарамі в Вулька, Дубнавічы, Любель-Поль, Невель, Пагост-Загародск На тэр раена дзейнічалі *Пінскае патрыятычнае падполле,* партыз брыгады імя Молатава, Пінская, 208-ы партыз полк імя Сталіна, Пінскія падп райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ Выдавалася падп абл газета «Палеская праўда» Раен вызвалены ў сярэдзіне ліп 1944 часцямі 1-га Бел фронту з удзелам 208-га партыз палка ў ходзе *Беларускай аперацыі 1944* 18 часцям і злучэнням Чырв Арміі нададзены найменні «Пінскіх» З 8 1 1954 у Брэсцкай вобл 14 10 1957 да раена далучаны Ахоўскі, Вулькаўскі, Дубайскі, Малоткавіцкі, Невельскі, Паршавіцкі сельсаветы Жабчыцкага р-на, 25 12 1962 — Бобрыкаўскі, Загародскі, Лышчанскі, Масевіцкі, Навадворскі, Парэцкі сельсаветы, г п *Лагішын* Лагішынскага р-на На 1 1 1999 у раене 179 населеных пунктаў, 21 сельсавет Аснежыцкі, Ахоўскі, Барычавіцкі, Бобрыкаўскі, Бярозавіцкі, Валішчанскі, Гарадзішчанскі, Дубайскі, Загародскі, Калавуравіцкі, Лапацінскі, Ласіцкі, Лемяшэвіцкі, Лышчанскі, Малоткавіцкі, Мерчыцкі, Навадворскі, Парахонскі, Парэцкі, Пінкавіцкі, Плешчыцкі, Сошненскі, Ставоцкі, Хойнаўскі, Лагішынскі гарпасялковы савет Працуюць прадпрыемствы (без Пінска і Лагішына) мэблевая ф-ка (в Гарадзішча), вытв участак Пінскага кансервавага з-да і хлебапякарня (в Загародскі Пагост), з-д кандытарскіх вырабаў (пас Садовы), крухмальны з-д (в Парэчча), звергаспадарка (в Малоткавічы), рыбгас «Палессе» (в Вяз), «Беларускія Журавіны» (в Селішча), 27 калгасаў, 6 саўгасаў, с -г тэхнікум (в Галева), СПТВ № 161 (в Красічын), спецшкола інтэрнат (в Малоткавічы), 9 пач , 29 базавых, 28 сярэдніх, 5 муз , 1 спарт школа, 31 дашкольная ўстанова, 72 б-кі, 81 клубная ўстанова, 48 кінаўстановак, 9 бальніц, 4 амбулаторыі, 52 фельчарска-акушэрскія пункты, *Музей Беларускага Палесся,* літ музеі А Блока (в Лапацін), Я Коласа (в Пінкавічы), Я Янішчыц (в Парэчча) Выдаецца раенная газ «Полесская правда» Даследаваныя помнікі археалогіі гарадзішча (в Гарадзішча), селішчы (Астравічы, Болгары, Востраў, Гарадзішча, Грыўковічы, Курадава, Лемяшэвічы), стаянкі (Ботава, Востраў, Вяз, Дубы, Камень, Лапацін, Лемяшэвічы, Невель, Новы Двор, Загародскі Пагост, Сушыцк, Чухава), паселішчы (Заазер'е, Сошна), стаянка і паселішча (Ласіцк, Церабень), курганныя могільнікі (Вылазы, Лемяшэвічы) Вайск могілкі 1-й сусв вайны (в Дубай, Жытнавічы, Мокрая Дубрава, Невель, Парэчча, Сташаны, Чухава), магіла Р А *Скірмунта* (в Парэчча) Брацкія магілы сав воінаў і партызан (в Беразцы, Жоўкін, Лапацін, Ласіцк, Лемяшэвічы, Малоткавічы, Пагост-Загародск, Пінкавічы і інш ), магілы ахвяр фашызму (Азарычы, Жоўкін, Купяцічы, Любель, Любель-Поль, Невель) Помнікі ахвярам фашызму (Вулька, Клятная, Любель, Невель, Паняцічы), спаленым вёскам (Велясніца, Лісяцічы), камсамольцам-падпольшчыкам (Новы Двор, Плошчава), на месцы бою партызан (Галева, Пасянічы), землякам, што загінулі ў Вял Айч вайну (Альшанка, Ахова, Бобрык, Валішча, Гальцы, Дамашыцы, Дубай, Жоўкін, Жытнавічы, Загародскі Пагост, Клятная, Кнібава, Кончыцы, Ландараж, Лапацін, Ласіцк, Лышча, Мерчыцы, Новы Двор, Парэ, Пласкінь, Сошна, Ставок, Стахавічы, Стытычава, Табулкі, Цвярдоўка, Чухава, Чэмярын), воінам-вызваліцелям у в Ласіцк Помнікі архітэктуры цэрквы 18 ст Вазнясенская (в Боркі), Ільінская (Вуйвічы), Кірылы і Мяфодзія (Зага-

родскі Пагост), Параскевы Пятніцы (Жабчыцы, Мясяцічы), Прачысценская (Востраў), Раства Багародзіцы (Ахова, Вылазы), Троіцкая (Дабраслаўка), Крыжаўзвіжанскі касцел (Дубай), цэрквы 19 — 1-й пал 20 ст Вазнясенская (Ставок), Макавеяў (Беразцы), Мікалаеўская (Купяцічы), Міхайлаўская (Камень), Пакроўская (Бярозавічы, Пінкавічы, Тырвовічы), Раства Багародзіцы (Вяляцічы, Дубай, Лемяшэвічы, Парахонск, Парэчча), Троіцкая (Местковічы), манастырскі будынак 18 ст ў в Гарадзішча, капліцы 19 ст (Болчары, Дубай, Калбы, Ласіцк, Чухава), паркі 18 ст ў в Дубай і 19 ст ў в Парэчча, Сташаны, сядзібы пач 20 ст (Заполле) Радзіма бел рэвалюцыянера-дэмакрата, паэта і публіцыста Ф А *Савіча*

*Літ* Свод памятников истории и культуры Белоруссии Брестская обл Ми , 1990, Памяць Гіст -дак. хроніка Пінскага р-на Мн , 1998

**ПІНСКІЯ ГІМНА́ЗІІ** Існавалі ў 1858—1918 Падпарадкоўваліся *Віленскай навучальнай акрузе*

Пінская мужчынская дзяржаўная гімназія Утворана ў 1858 як класічная гімназія на базе мясц 5-класнага дваранскага павятовага вучылішча У 1859 і 1860 адкрыты 6-ы і 7-ы класы Штат гімназіі складаўся з дырэктара, 2 законанастаўнікаў і 12 выкладчыкаў Выкладаліся закон Божы, руская, французская, нямецкая, польская і лацінская мовы, геаграфія, гісторыя, матэматыка, хімія прыродазнаўства, чыстапісанне, чарчэнне, законазнаўства, маляванне Пры гімназіі меліся падрыхтоўчы клас, фізічны і прыродазнаўчы кабінеты, хім лабараторыя, царква Працавала кнігарня У кастр 1861 тут адбыліся хваляванні вучняў старэйшых класаў, у выніку чаго 6-ы і 7-ы класы былі часова закрыты, каля 60 юнакоў пакінулі школу У лют 1863 частка выкладчыкаў і вучняў далучылася да паўстанцаў У 1864 праведзена русіфікацыя гімназіі — 6 выкладчыкаў-палякаў заменены рускімі Вучылася ў 1858 — 130, у 1863 — 300, у 1864 — 212, у 1868 — 148, у 1871 — 154 юнакоў Скарачэнне колькасці вучняў звязана з чысткамі за ўдзел у паўстанні і з пераўтварэннем у 1865 яе ў рэальную гімназію, выпускнікі якой не мелі права паступаць ва універсітэты У 1872 рэарганізавана ў рэальнае вучылішча

Пінская жаночая эксперыментальная гімназія Існавала ў 1860—62 пры мужчынскай гімназіі «ў выглядзе доследу» на правах прыватнай навуч установы Вучэбная праграма адпавядала 1—3-му класам гімназіі Заняткі праводзіліся ў пасляабедзенны час у памяшканнях гімназіі выкладчыкамі і іх жонкамі без аплаты, на добраахвотнай аснове У 1860 было 17 выкладчыкаў, 4 класныя дамы, 2 наглядчыцы і 39 вучаніц Зачынена з-за недахопу сродкаў

Пінская жаночая дзяржаўная гімназія Заснавана 13(26) 8 1906 Мела падрыхтоўчае гадавое аддзяленне, 7 асн класаў, 8-ы пед-курс і дадатковыя курсы па законах яўр веры і латыні Утрымлівалася за кошт казны Штат гімназіі складаўся з начальніцы, гал наглядчыцы, 4 законанастаўнікаў, 14 выкладчыкаў, 9 класных наглядчыц з выпускніков Кіеўскага і Юр'еўскага ун-таў, Пецярбургскай духоўнай акадэміі, Паўлаўскага жаночага ін-та, Мінскай духоўнай семінарыі, Кіеўскага політэхнічнага ін-та, Мінскай, Таганрогскай і Кастрамской жаночых гімназій, Маскоўскіх вышэйшых жаночых курсаў У 1911 было 375 вучаніц Выкладаліся руская, французская і нямецкая мовы, матэматыка, прыродазнаўства, гісторыя, геаграфія, графіка, педагогіка, рукадзелле, музыка, гігіена У 1915 эвакуіравана ў г Ялец Арлоўскай губ , дзе скасавана ў 1917

Пінская прыватная жаночая яўрэйская гімназія Л Л Валер Арганізавана 26 5(8 6) 1906 з прыватнага вучылішча Дзейнічалі падрыхтоўчае аддзяленне і 7 асн класаў Утрымлівалася за кошт збораў за навучанне У штаце начальніца і 10 выкладчыкаў з выпускнікоў Кіеўскага ун-та, Віленскага яўр ін-та, Пінскай жаночай дзярж гімназіі У 1911 былі 264 вучаніцы Выкладаліся руская, французская і нямецкая мовы, законы яўр веры, матэматыка, прыродазнаўства, гісторыя, геаграфія, музыка, рукадзелле Закрыта пасля акупацыі горада ням войскамі ў 1915

Пінская прыватная жаночая яўрэйская гімназія Л І Лабзоўскай-Шапіра Адкрыта ў 1908 на базе пачатковага жаночага вучылішча, заснаванага ў 1900 Дзейнічалі падрыхтоўчае аддзяленне і 7 асн класаў Утрымлівалася за кошт збораў за навучанне і каробачнага збору У штаце начальніца і 19 выкладчыкаў з выпускнікоў Новарасійскага ун-та, віленскіх настаўніцкага ін-та і рэальнага вучылішча, Мінскага жаночага духоўнага вучылішча, Гродзенскай, Кіеўскай і Рыжскай жаночых гімназій У 1911 было 299 вучаніц Выкладаліся руская французская і нямецкая мовы, законы яўр веры, педагогіка, касмаграфія, фізіка, чыстапісанне, матэматыка, прыродазнаўства, гісторыя, геаграфія, музыка, рукадзелле У 1915 эвакуіравана ў г Елізаветград Херсонскай губ , дзе ліквідавана ў 1918

Пінская прыватная жаночая прагімназія В Е Семавой Утворана 27 11(10 12) 1906 з 2-класнага жаночага вучылішча, якое дзейнічала з 1872 Мела 5 класаў Утрымлівалася за кошт збораў за навучанне У штаце начальніца і 10 выкладчыкаў, большасць з якіх мелі дыплом хатніх настаўнікаў ці скончылі Пінскую дзярж жаночую гімназію Штогод вучыліся 120—140 вучаніц Выкладаліся руская, французская і нямецкая мовы, матэматыка, прыродазнаўства, гісторыя, геаграфія, чыстапісанне, маляванне, рукадзелле У 1915 эвакуіравана ў г Пераяслаўль Палтаўскай губ , дзе ліквідавана ў 1918

*Літ* Краткий список учреждений и учебных заведений Виленского учебного округа на 1917 г Могилев, 1917 *Андрэй Самусік*

**ПІНСКІЯ КУРГАНЫ**, два пахавальныя збудаванні на ўсх ускраіне г Пінска, у прадмесці Лешча Адзін з іх у 1871 раскапаны дырэктарам мясц вучылішчаў С Ф Куклінскім, звесткі пра раскопкі не публікаваліся Вядома, што ў кургане знойдзены саманідскі дырхем Нуха, сына Насра, чаканены ў Самаркандзе ў 952—963 Другі курган абследаваў у 1952 Ю У Кухарэнка Насып меў форму ўсечанага конуса выш 5,5—7,5 м, дыяметр асновы 31—35 м У л-ры вядомы як Міндоўгава магіла На думку даследчыкаў, пахаванне было зроблена на гарызонце пад цэнтр часткай насыпу паводле абраду трупаспалення Рэшткі нябожчыка былі змешчаны ў якімсьці драўляным збудаванні Зверху над пахаваннем насыпаны курган выш каля 3 м, на вяршыні яго быў памінальны касцер Пасля гэтага курган падсыпалі яшчэ двойчы і зноў рабілі памінальны касцер П к адносяцца да надзвычай рэдкіх вял пахавальных помнікаў канца 10 — пач 11 ст тыпу вял чарнігаўскіх курганоў (Чорная магіла, Княжая магіла) Яны былі, хутчэй за ўсе, пахавальнымі збудаваннямі мясц князёў або ваенных правадыроў Не захаваліся

*Пётр Лысенка*

**ПІНСКІЯ ЎМАЦАВА́ННІ** Існавалі ў 14—18 ст Складаліся з замка і гар умацаванняў *Пінска* Замак размяшчаўся на гарадзішчы, на левым беразе р Піна У вопісе горада за 1561—66 згадваецца «вежа Владычная», якая стаяла асобна ў паўн ч замкавых умацаванняў Акрамя брамы з пад'емным мостам перад ей у лініі абароны стаялі яшчэ не менш як 3 вежы, назвы якіх невядомы Перыметр замкавых умацаванняў складаў 0,5 км Пра канструкцыю абарончых сцен замка звесткі адсутнічаюць Аднак з павіннасцей сялян замкавай воласці вынікае, што яны абавязаны былі даглядаць менавіта гародні, вартаваць замак, даваць падводы Мяшчане разам з царкоўнікамі таксама выконвалі замкавую работу — рубілі замак і паркан, даглядалі абарончы роў, масты Сярод пінскіх пушкароў на працягу доўгага часу ўпаміналіся Пархвеновічы, якія з 1524 мелі ад каралевы Боны прывілей і спалучалі «пушкарство» з «золотарством» (прафесію ювеліра) У мірны час у замку пастаянна размяшчаліся невял гарнізоны салдат на чале з ротмістрамі У час вайны дзейнічалі законы аб усеагульнай абароне Гарадскія ўмацаванні складаліся з 2 ліній абароны Першая лінія ў выглядзе вала, паркана і рова ахоплівала сетку радыяльных вуліц, якія адыходзілі ад замка і дугой упіраліся ў высокі бераг Піны, і фактычна ўключалі тэр горада 11—13 ст Вал перарываўся 4 брамамі (Уладычная, Меская, Траецкая і Спаская) Уздоўж берага ракі ішоў драўляны

паркан, які спускаўся ў абарончы роў Агульная даўжыня 1-й лініі абароны складала 1,4 км На тэрыторыі, заслоненай гэтым паўкальцом умацаванняў, размяшчаліся традыцыйныя для гарадоў з магдэбургскім правам рынак з крамамі, ратуша, жылыя пабудовы, студня У найб адказных месцах абароны (каля гар брам і на подступах да замка) стаялі манум будынкі манастыроў і цэркваў каля Спаскай брамы — францысканскі кляштар з магутнай мураванай агароджай і вуглавымі вежамі, на У ад замка — Богаяўленскі манастыр і кляштар езуітаў, на З ад Уладычнай брамы — кляштары базыльян, марыявітак, кармелітаў і Маркаўскі манастыр Другая лінія абароны, т зв «астрог», даўж каля 2 км, таксама ўпіралася ў бераг Піны Яна ўключала 4 брамы Берасцейскую на З, Віленскую на Пн, Северскую і Лешчынскую на ПнУ На З і ПнЗ перад валам ішоў штучны абарончы роў, які на ПнУ і У пераходзіў у прыродны з працякаючым па дне ручаем, т зв «Каралінскай канавай» З У горад прыкрываўся Лешчанскім манастыром і комплексам умацаванняў *Каралінскага замка* Перад кожнай брамай быў пад'емны мост, перакінуты цераз абарончы роў У 1158 Пінск вытрымаў 10-тыдневую асаду і штурмы войск кааліцыі 6 князеў на чале з кіеўскім кн Ізяславам Давыдавічам Зімой 1527 да сцен Пінска па скаваных марозам балотах і Прыпяці падышлі крымскія татары, але горад ім узяць не ўдалося (былі разгромлены войскам К Астрожскага) Гар ўмацаванні моцна пацярпелі ў *антыфеадальную вайну 1648—51* 25 9 1655 да Пінска прыплыў атрад рус ваяводы Д А Валконскага, які захапіў горад, але праз 2 дні адступіў, а горад і навакольныя слабоды спаліў У 1660—64 Пінск неаднаразова асаджалі ўкр і рус атрады, якія 25 6 1660 узялі яго штурмам У выніку гэтай вайны гар абарончыя збудаванні былі моцна разбураны У 1673 сейм Рэчы Паспалітай адзначыў, што «пагранічнае места Пінск не мае вартай

А.М **Пінчук**

М Р **Пінчук**

фартыфікацыі супраць непрыяцельскай інкурсіі, якой ён падвяргаецца разам з паветам», а таксама заклікаў пінчукоў умацаваць горад агульнымі намаганнямі Усе 3 лініі абароны Пінска (замак, «перакоп», «астрог») захоўваліся да канца 18 ст Апошні раз яны згадваюцца ў інвентары Пінскага старОства за 1783 Пазней, на працягу 19 ст, гар ўмацаванні былі паступова знівеліраваны

*Літ* Ткачоў М А Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст Мн, 1978, Яго ж. Замки Белоруссии Мн, 1987 *Міхась Ткачоў*

Да арт **Пінскія ўмацаванні** Руіны Пінскага замка З малюнка Н Орды 19 ст

**ПІНТА́ЛЬ** Станіслаў Францавіч [29 3 (10 4) 1894, г Білгорай, Польшча — 10 12 1937], удзельнік грамадз вайны ў Беларусі, дзярж дзеяч БССР Скончыў Ваенна-паветр акадэмію імя Жукоўскага (1935) З 1915 у арміі Удзельнік Лют і Кастр рэвалюцый 1917 у Петраградзе У 1918—20 у Чырв арміі, удзельнік баёў на Зах фронце, камісар па польскіх справах Зах вобл З 1920 у органах дзяржбяспекі з 1921 нам старшыні ЧК БССР, у 1923—24 старшыня ДПУ БССР, потым у АДПУ СССР Канд у чл ЦБ КП(б)Б у 1923—24 Канд у чл ў 1922—24 і чл ЦВК БССР у 1924 19 7 1937 арыштаваны і 9 12 1937 прыгавораны да расстрэлу за прыналежнасць да т зв «Польскай арганізацыі вайсковай» Рэабілітаваны 7 3 1956

**ПІНЧУК** Андрэй Міхайлавіч [14(27) 7 1913, в Качай Балота Бабруйскага пав, цяпер в Рассвет Акцябрскага р-на — 24 12 1944], Герой Сав Саюза (1945) Скончыў 2 курсы Ваен акадэміі бранятанк і механіз войск (1944) У Вял Айч вайну з чэрв 1941 на Зах, Паўд-Зах, Паўд, Варонежскім, 2-м Укр франтах Камандзір батальёна маёр П вызначыўся ў 1944 у баях на тэр Румыніі і Венгрыі 20 жн на ПнЗ ад г Ясы (Румынія) яго батальён прарваў абарону, адкрыў дарогу для наступлення танк арміі, П правёў танкі батальёна праз Паўд Карпаты, 5 снеж ўдзельнічаў у прарыве абароны праціўніка на ПнУ ад Будапешта і адзін з першых дасягнуў Дуная, загінуў у баі Яго імем названа вуліца на радзіме

**ПІНЧУ́К** Мікалай Рыгоравіч (4 2 1921, в Дурыничы Бабруйскага пав, цяпер в Будзенаўка Бабруйскага р-на — 12 1 1978), Герой Сав Саюза (1945) Засл лётчык-выпрабавальнік (1969) Скончыў Бабруйскі аэраклуб (1940), Армавірскую ваен авіяц школу (1942), Ваен-паветр акадэмію (1954) У Чырв Арміі з 1940 У Вял Айч вайну з жн 1942 на Зах і 3-м Бел франтах Удзельнік вызвалення Смаленшчыны, Беларусі, баёў ва Усх Прусіі Камандзір знішчальнай эскадрыллі маёр П за час вайны зрабіў 307 баявых вылетаў, збіў 22 варожыя самалёты, адзін з іх таранам 30 8 1943 у раёне г Ельня (Расія), 2 — у групавых баях Да 1975 у Сав Арміі Аўтар кн «У паветры — Які» (1977)

**ПІНЧУ́К** Рыгор Сяргеевіч [11(24) 1 1912, мяст Лоеў Рэчыцкага пав, цяпер гар пасёлак — 14 5 1944], Герой Сав Саюза (1940) Скончыў Варашылаўград-

скую ваен авіяц школу пілотаў (1936), Ваенна-марскую акадэмію (1942) У Чырв Арміі з 1934 Вызначыўся ў сав - фінл вайну 1939—40 камандзір самалета лейт П 2 2 1940 у час бамбардзіроўкі быў атакаваны 2 знішчальнікамі праціўніка, падбіў аднаго з іх, свой ахоплены полымем самалет пасадзіў у тыле ворага і вывеў экіпаж за лінію фронту У Вял Айч вайну на фронце з чэрв 1941 Капітан П загінуў пры выкананні баявога задання Яго імем названа вуліца ў Лоеве

**ПІНЯ́ЗІК** Міхаіл Лявонавіч (1915, в Забалацце Ігуменскага пав, цяпер Пухавіцкага р-на — 1 10 1964), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камсам -маладзежнага падполля і партыз руху ў Палескай вобл ў Вял Айч вайну Скончыў ВПШ пры ЦК КП(б)Б (1949) З 1941 1-ы сакратар Палескага абкома ЛКСМБ, інструктар ЦК ВЛКСМ У Вял Айч вайну з 1942 кіраўнік аператыўнай групы ў прыфрантавой паласе, упаўнаважаны ЦК ЛКСМБ, пам упаўнаважанага ЦК КП(б)Б па Палескай вобл З 9 2 1943 сакратар *Палескага падпольнага абкома ЛКСМБ*, у крас — кастр 1943 чл *Палескага падпольнага абкома КП(б)Б* З чэрв 1944 заг аддзелаў Палескага, Магілеўскага абкомаў З 1952 1-ы сакратар Магілеўскага гаркома КПБ, потым дырэктар Магілеўскай саўпартшколы

**ПІРЫ́ШКА** Федар Барысавіч [17 2(1 3) 1898, г Дубровіца Валынскай губ, цяпер Ровенская вобл, Украіна — 1 12 1991], дзеяч рэв руху ў Зах Беларусі У 1 ю сусв вайну ў арміі, вёў рэв прапаганду сярод салдат Пасля захопу Валыні Польшчай зняволены на 3 гады ў турму З 1924 сакратар Дубровіцкага райкома, з 1926 Баранавіцкага, Пінскага, Брэсцкага, Гродзенскага, Віленскага акр к таў КПЗБ У маі 1928 арыштаваны і зняволены ў турму на 6 гадоў У 1934 нелегальна выехаў у СССР, вучыўся ў аспірантуры Камуніст ун-та нац меншасцей Захаду імя Ю Мархлеўскага З 1936 чл ЦК, *Краявога сакратарыята ЦК КПЗБ* У снеж 1938 арыштаваны і прыгавораны да 10 гадоў турэмнага зняволення Пасля вызвалення Зах Беларусі і Зах Украіны старшыня Дубровіцкага райвыканкома У Вял Айч вайну ў Чырв Арміі У 1944—56 на сав і парт рабоце Аўтар успамінаў «Дзейнасць Краявога сакратарыята ЦК КПЗБ у 1937—1938 гг» (у кн «У суровыя гады падполля», 1958)

Р С **Пінчук**

**ПІ́САНАЕ ПРА́ВА**, сістэма прававых норм, што выдаюцца дзярж установамі ў выглядзе законаў, *грамат*, *прывілеяў*, сеймавых ухвал, пастаноў інш заканадаўчых органаў, міжнар пагадненняў, судовых дэкрэтаў і выракаў, статутаў і інш прававых актаў Узнікла ў старажытнасці як спосаб замацавання *звычаевага права*, паступовага яго дапаўнення ці замены новымі нормамі Стараж зборнікі П п называліся «праўдамі» — «*Руская праўда*», «Польская праўда», «Салічаская праўда», «Саксонская праўда» і інш Іх узнікненню і развіццю садзейнічаў працэс пашырэння эканам і паліт сувязей паміж дзяржавамі і аб'яднанне невялікіх княстваў у такія буйныя дзяржавы, як Полацкае княства, Турава-Пінскае княства, *Вялікае княства Літоўскае* Першымі актамі П п на тэр Беларусі былі *дагаворныя граматы* Поўныя тэксты большасці грамат да нашых часоў не захаваліся, але асобныя іх нормы былі ўпісаны ў больш позніія *абласныя прывілеі* Віцебску (1503, 1509), Полацку (1511, 1547) Адным з першых міжнар помнікаў П п з'яўляецца *Дагавор 1229*, які ў гіст л ры называецца яшчэ Смаленскай гандлевай праўдай Значнае месца ў развіцці П п на Беларусі займаюць *агульназемскія прывілеі* вял князёў — *Прывілей 1387*, Ягайлы і Вітаўта пагадненне 1413, *Прывілей 1447*, *Прывілей 1492*, *Прывілей 1506* і інш, якія развівалі і ўдасканальвалі асн палажэнні канстытуцыйнага, цывільнага, крымінальнага і судова-працэсуальнага права Вяршыняй бел феад П п былі *Статут Вялікага княства Літоўскага 1529*, *Статут Вялікага княства Літоўскага 1566*, *Статут Вялікага княства Літоўскага 1588* — першыя ў Еўропе зводы законаў, заснаваныя на мясц нац праве

Падзелы Рэчы Паспалітай і ўключэнне Беларусі ў склад Рас імперыі не ўнеслі карэнных змен у П п, бо Статут ВКЛ 1588 працягваў дзейнічаць у Віцебскай і Магілеўскай губ да 1831, у Віленскай, Гродзенскай і Мінскай губ — да 1840 Рас заканадаўства дзейнічала ў Беларусі да Кастр рэвалюцыі 1917 Выданне ўстаўных грамат аб абвяшчэнні Бел Нар Рэспублікі ў 1918 узначаліла стварэнне бел сучаснага П п, якое затым развівалася ў якасці бел сав права Першымі заканадаўчымі актамі Сав Беларусі былі *Маніфест Часовага рабоча-сялянскага савецкага ўрада Беларусі* пра абвяшчэнне БССР, *Канстытуцыя Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусь 1919*, *Дэкларацыя аб абвяшчэнні незалежнасці Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь* 1920, пастановы з'ездаў Саветаў БССР і ЦВК БССР У 1920-я г шоў даволі хуткі працэс развіцця бел права У 1930—50-я г развіццё рэсп права было замаруджана Паступовае яго развіццё аднавілася пасля 1956—57, калі XX з'езд КПСС прыняў пастанову аб пашырэнні правоў саюзных рэспублік, а Вярхоўны Савет СССР прыняў 11 2 1957 закон, у якім аднёс да кампетэнцыі саюзных рэспублік прыняцце грамадзянскага, крымінальнага і працэсуальнага кодэкс саў рэспублік У 1990—94 пачаўся новы этап развіцця і назапашвання прававых актаў Рэспублікі Беларусь Пачатак гэтаму працэсу пакладзены *Дэкларацыяй аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі* і *Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь 1994*

*Літ* Юхо І А Крыніцы беларуска-літоўскага права Мн, 1991, Круталевіч В А, Юхо І А Гісторыя дзяржавы і права Беларусі (1917—1945 гг) Мн, 1998 *Язэп Юхо*

**Пісанкі**

**ПІ́САНКІ**, крашанкі, маляванкі, размаляваныя рознымі ўзорамі курыныя яйкі Здаўна вядомы ў побыце беларусаў і інш еўрап народаў У дахрысціянскі перыяд былі звязаны з веснавымі святамі, сімвалізавалі абуджэнне прыроды, з прыняццем хрысціянства ўвайшлі ў абрад святкавання Вялікадня Найб пашыраны спосаб аздаблення — фарбаванне ў растворы натуральных (шалупінне цыбулі, кара дрэў, адвары траў) ці штучных фарбавальнікаў па папярэдне нанесеным на яйка васковым узоры Воск наносілі з дапамогай спец лейчкі (пісакі) тонкімі лініямі, якія стваралі малюнак на яйку (ялінкі, стылізаваныя зоркі, завіткі і інш) На Беларусі пераважала аднатонная расфарбоўка ў чорны ці чырвоны, радзей зялёны, жоўты і інш колеры Малюнак рабілі таксама прадрапваннем белага контуру на каляровым фоне Па матывах традыц П размалёўваюць драўляныя сувенірныя яйкі

**ПІ́САР**, службовая асоба ва ўстановах дзярж і судовага апарата ВКЛ у 14—18 ст П (сакратар) гаспадарскі ВКЛ (вялікі ў 17—18 ст) — кіраў-

С Дыбоўскім і гаспадарскім дваранінам Л Войнам У дакументе (пачатак адсутнічае) зафіксавана рэвізія *валочнай памеры* ў эканоміі, праведзенай на падставе *«Уставы на валокі» 1557* У ім пералічаны сял гаспадаркі з пазначэннем колькасці зямлі і павіннасцей 26 войтаўстваў, мяшчанскія надзелы ў мястэчках Масты, Новы Двор, Бержнікі, землі велікакняжацкіх двароў У ч 2 змешчана інвентарнае апісанне гродзенскіх замкаў і велікакняжацкага двара Гарадніцы (сярэдзіна 17 ст ), «Рэестр валочнай памеры горада і мястэчак, воласці і ўсіх двароў, якія належаць да Гродзенскага замка» (складзены ў 1550—60-я г Дыбоўскім і Войнам і змяшчае пералік пляцаў Гродна, зямель некат гаспадарскіх сел, надрукаваны з копіі 1745), інструкцыя Уладзіслава IV рэвізорам эканоміі К Белазору і Т Пілунцкаму (1639), «Генеральная ўста Гродзенскай эканоміі» (1680), «рэвізія» дакументаў г Гродна, гар пляцаў і прыбыткаў (1675?), «рэвізія» лясніцтваў эканоміі (1764), вытрымкі з «рэвізіі» эканоміі з пералікам каралеўскіх прывілеяў мястэчкам 16—17 ст , апісанне мітрапаліцкай юрыдыкі ў Гродне (з інвентароў 1680 і 1712), камісарскі дэкрэт па зямельных спрэчках у эканоміі (1754), дакументацыя валочнай памеры г Бранска і Суража з іх валасцямі (складзена ў 1560-я г С Дзевялтоўскім-Скочкам і А Дыбоўскім), ліст Жыгімонта II Аўгуста да Войны, акты размежавання зямель Супрасльскага манастыра (1696, 1698) У выданні змешчана прадмова С В Шаўковіча, дзе апісаны гродзенскія замкі і сам горад, ахарактарызаваны катэгорыі насельніцтва эканоміі і іх павіннасці Есць паказальнікі імен, геагр назваў, рэчаў Выданне мае вял значэнне для даследавання сац -эканам гісторыі Беларусі, гіст геаграфіі, этнаграфіі, анамастыкі

*Літ* Улащик Н Н Очерк по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода М , 1973

**«ПІСЦÓВАЯ КНІГА ПІНСКАГА І КЛЕЦКАГА КНЯСТВАЎ»** («Писцовая книга Пинского и Клецкого княжеств, составленная пинским старостою Станиславом Хвальчевским в 1552—1555 г»), дакументацыя *валочнай памеры* сярэдзіны 16 ст ў Пінскім і Клецкім княствах каралевы польскай і вял княгіні ВКЛ Боны, выдадзеная *Віленскай археаграфічнай камісіяй* у 1884 Арыгінальная назва «кнігі», якая захоўвалася ў Віленскім цэнтр архіве стараж актаў — «Рэестр памеры зямель на валокі паветаў і таксама княстваў Пінскага, Клецкага » Валочная памера праведзена па загадзе Боны старостам бел уладанняў каралевы С Хвальчэўскім, непасрэднымі яе выканаўцамі былі Я Гарэцкі і мернікі Я Дыбоўскі і Б Міхновіч Новымі адзінкамі вымярэння (валокамі, маргамі, прутамі) былі перамераны гар землі — вулічныя пляцы, агароды, палявыя надзелы — у Пінску, Моталі, Нобелі, Клецку, Сіняўцы, землі велікакняжацкіх двароў і сел Пінскага і Клецкага княстваў (паветаў), Вядскай воласці Пералічаны сял гаспадаркі з пазначэннем прозвішчаў гаспадароў і памерамі зямельных надзелаў У большасці выпадкаў межы надзелаў мяшчан і сялян засталіся ранейшымі У час памеры зроблена ацэнка якасці зямлі, вызначаны адпаведныя павіннасці розных катэгорый насельніцтва (мяшчан, сялян, бортнікаў, баброўнікаў, служылых татар і інш ) Асобна ў «Рэестры» вылучаны раздзелы з апісаннем замены некат зямель правасл і каталіцкіх святароў і шляхты на гаспадарскія землі, праведзенай для ліквідацыі цераспалосіцы «Рэестр» — адзін з першых дакументаў пра правядзенне валочнай памеры на Беларусі, з'яўляецца каштоўнай крыніцай для даследавання гасп гісторыі, гіст геаграфіі, этнаграфіі, анамастыкі «Рэестр» надрукаваны на мове арыгінала (польскай) Выданне забяспечана прадмовай К І Снітко, дзе дадзена характарыстыка помніка і валочнай памеры ў ВКЛ, есць імянны, геагр і рэчавы паказальнікі

*Літ* Улащик Н Н Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода М , 1973

**ПІСЦÓВЫЯ КНІГІ**, зводныя дакументы сістэматычных гаспадарчых апісанняў у Расіі ў 15—17 ст Найб раннія з П к, што захаваліся, — наўгародскія канца 15 ст , апошняе апісанне распачата ў 1684—85 (не скончана) П к служылі падставай для падатковага зямельнага абкладання — сошнага пісьма Паступова яны рабіліся сродкам умацавання феад землеўладання і запрыгоньвання сялян П к , пачатыя ў 1581 і скончаныя ў 1592—93, атрымалі значэнне асн дакумента, што вызначаў прыналежнасць сялян пэўнаму ўладальніку П к складалі спец камісіі з пісцоў і пад'ячых, якіх урад дасылаў з Масквы на месцы Іх складанне вялося па населеных пунктах горад (яго ўмацаванні, цэрквы, крамы, двары, насельніцтва і г д ), павет, стан, воласць, асобна апісваліся кожнае сяло і веска, ворная зямля, сенажаці, лясы

На Беларусі П к складаліся ў 1560—70-я г на тэр Полацкага ваяв, захопленага рас войскам у час *Інфлянцкай вайны 1558—82* У складзе Метрыкі ВКЛ захаваліся «Татрадь, в ней писаны рубежи городу Полотцку и Полотцкому повету » (1563—71), П к валасцей Нямшчэрда (1570, 1571—72, 1573), Азярышчы і Усвяты (1567, 1570, 1571, 1573), Пакроўскай вол (1570, 1571), Полацкага пав (1570, 1571) У «Татрадзе» падрабязна апісаны межы Полацкага пав , якія цар Іван IV імкнуўся ў ходзе перагавораў з ВКЛ пакінуць у складзе Маскоўскай дзяржавы, адзначаны селы і вескі з пазначэннем іх уласнікаў, цэрквы, пакінутыя вескі У астатніх П к пералічаны новыя рас ўласнікі зямель на Полаччыне, пералічаны іх вескі з пазначэннем колькасці двароў, ворнай зямлі, сенажацей, лясоў, рыбных угоддзяў, а таксама пусткі, у некат выпадках пазначаны павіннасці мясц насельніцтва Усяго зроблена апісанне 11 валасцей павета, названа каля 1500 населеных пунктаў і пустак Найб змястоўныя з гэтых П к надрукаваны Рус геагр т-вам у выданні «Пісцовыя кнігі Маскоўскай дзяржавы» (ч 1, аддзяленне 2, 1877) «Перапісныя» кнігі (з пайменным пералічэннем мужчынскага насельніцтва) складаліся рас урадам у 1650—60-я г на тэр Беларусі, занятай у час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*, не апублікаваны У 1870—80-я г пад штучнай назвай «П к.» Віленская археаграфічная камісія выдавала дакументацыю валочнай памеры на Беларусі 16 ст

*Літ* Оглоблин Н Объяснительная записка к карте Полоцкого повета во 2-й половине XVI-го в // Сб Археол ин-та СПб, 1880 Кн 3—4, Веселовский С Б Сошное письмо Т 1—2 М, 1915—16, Мерзон А Ц Писцовые и переписные книги XV—XVII вв М , 1956, Карпачев А М Русские переписные книги как источник для демографического изучения городов Белоруссии второй половины XVII в // Вопросы архивоведения и источниковедения в БССР Мн , 1971

**ПІСЬМÓ**, графічная фіксацыя мовы для зносін паміж людзьмі на адлегласці і замацавання ў часе Выступае як пэўныя сістэмы графічных абазначэнняў, што склаліся гістарычна ў выніку культ развіцця асобных народаў Паводле сэнсавага аб'ему знакаў падзяляецца на 4 тыпы піктаграфічнае, ідэаграфічнае (лагаграфічнае), складовае і літарна-гукавое (алфавітнае) Першыя спробы пісьмовай фіксацыі думак паявіліся ў эпоху першабытнаабшчыннага ладу (канец каменнага веку) Аднак уласцівае племянным абшчынам піктаграфічнае П не было ўпарадкаванае, бо ў ім з дапамогай малюнкаў схематычна перадаваўся толькі сэнс выказванняў, але не адлюстроўваўся гукавы бок мовы, падзел яе на словы На аснове піктаграфічнага П ўзнікла ідэаграфічнае, у якім графічныя знакі абазначаюць асобныя словы і перадаюць складаныя тэксты Ідэаграфічныя сістэмы, мала звязаныя з фанетыкай мовы, былі зручныя для стараж дзяржаў, неаднародных паводле этнічнага складу Найб вядомыя стараж -егіпецкія, шумерскія, кіт сістэмы (іерагліфічнае П ) Адзіная, якая захавалася да нашага часу, — кітайская Рэшткі ідэаграм захаваліся і ў інш сістэмах П ў выглядзе знакаў №, % і інш Складовае П пачало фарміравацца ў 2-м тыс да н э , ім карыстаюцца некаторыя народы ў наш час Кожны графічны знак абазначае асобны склад Асабліва пашыраны складовыя сістэмы ў Індыі і краінах Паўд -Усх Азіі Самыя стараж сярод іх кхарошці і брахмі (з 3 ст да н э ) Найб зручнае П літарна-гукавое, у якім пры дапамозе знакаў перадаецца гукавы склад мовы Яго перавага над інш тлумачыцца прастатой, меншай колькасцю знакаў і легкасцю

перадачы граматычных форм слоў Большасць народаў свету карыстаецца літарна-гукавымі сістэмамі Амаль усе яны паходзяць ад фінікійскага пісьма, пабудаванага паводле кансанантна-гукавога прынцыпу На яго аснове ўзніклі арамейскае і грэч пісьмо, якія далі пачатак большасці алфавітных сістэм У алфавітах, што складаліся на аснове фінікійскага П, найчасцей захоўваліся назвы фінікійскіх літар і парадак іх у алфавіце Арамейскі алфавіт стаў крыніцай арабскай (да 4 ст да н э), яўр (з 3 ст да н э), іранскай (з 2 ст да н э) пісьмовых сістэм Грэчаскае П, якое паступова распалася на зах -грэч і ўсх -грэч, дало пачатак усім еўрап алфавітам На аснове зах -грэч ўзнікла этрускае П (з 7 ст да н э), на аснове этрускага — лацінскі алфавіт, які ў эпоху Рымскай імперыі і ў сярэдневякоўі набыў міжнар. характар, а пазней стаў крыніцай франц, ням, англ, італьян і інш нац сістэм П зах -еўрап народаў З усх -грэч ў 5—4 ст да н э развілося класічнае грэч, потым візант П, якое ў 9 ст лягло ў аснову слав кірылаўскага П — *кірыліцы* Пытанне аб паходжанні другога слав П *глаголіцы* не вырашана Кірыліца выкарыстоўвалася ў стараж -рус, а пасля ў старарус, старабел, стараўкр пісьменнасцях Выдатным дасягненнем старабел графікі было стварэнне Ф *Скарынай* друкарскага варыянта алфавіта, які стаў узорам для інш усх -слав друкароў. Вял значэнне ў развіцці рус П мела Пятроўская рэформа 1708—10, у выніку якой быў створаны грамадзянскі шрыфт У 18—19 ст ён прыняты за аснову балг і сербскага, а ў 20 ст — манг алфавітаў Пад яе ўплы вам сфарміраваліся бел і укр пісьмовыя сістэмы Выкарыстанне П пашыралася з павелічэннем колькасці адукаваных людзей і ўдасканаленнем пісьмовых прылад Важны этап у гісторыі П — вынаходства паперы і *кнігадрукавання*, што стварыла перадумовы для масавага пашырэння культ дасягненняў чалавецтва Вывучэннем П займаецца граматалогія, *эпіграфіка* і *палеаграфія*

*Літ* Дирингер Д Алфавит Пер с англ М, 1963, Истрин В А Возникновение и развитие письма М, 1965, Гельб И Е Опыт изучения письма (Основы грамматологии) Пер с англ М, 1982, Павленко Н А История письма Мн, 1987

*Аляксандр Булыка*

**«ПІСЬМЫ ПРАЦО́ЎНЫХ БЕЛАРУ́СІ У.І.ЛЕ́НІНУ, 1917—1924»** («Письма трудящихся Белоруссии В И Ленину, 1917—1924»), зборнік, выдадзены ў 1960 у Мінску Ін-там гісторыі партыі пры ЦК КПБ Перавыдадзены ў 1969 і 1980 Складальнікі В С Давыдава, А А Кузняеў У 3-м выданні зборніка (1980) змешчаны 261 дакумент пісьмы ад рабочых, сялян, чырвонаармейцаў, камісараў і камандзіраў Чырв Арміі, парт і сав кіраўнікоў, абл і пав арг-цый РКП(б) і выканкомаў, губ з'ездаў Саветаў і прафс арг-цый, к-таў беднаты і салдат гарнізонаў, студэнтаў Магілеўскага політэхнікума і ўдзельнікаў урачыстага сходу, прысвечанага адкрыццю БДУ З бел вёсак і гарадоў Леніну пісалі пра рашучасць сав людзей абараняць заваёвы Кастр рэвалюцыі 1917, будаваць новае грамадства, адкрываць навуч ўстановы, якія будуць «новым рассаднікам святла і ведаў» Большасць пісем звязаны з раненнем, хваробай і станам здароўя Леніна Зборнік мае прадмову *Эдуард Карнілові̇ч*

У І Пічэта

**ПІЎНІ́ЧЫ**, пасада (урад) у ВКЛ Загадваў велікакняжацкімі піўніцамі, сачыў за якасцю і пастаўкамі піва да стала вял князя ВКЛ Першы вядомы П — Мікіта Мікалаевіч (1546)

*Уладзіслаў Вяроўкін Шэлюта*

**ПІЧЭ́ТА** Уладзімір Іванавіч [9(21) 10 1878, г Палтава, Украіна — 23 6 1947], гісторык-славіст Акадэмік АН БССР (1928), АН СССР (1946, чл -кар 1939) Засл праф Бел рэспублікі (1926), засл дз нав Узб ССР (1943) Скончыў Маскоўскі ун-т (1901) Працаваў настаўнікам гімназіі на Украіне З 1905 у Маскве, у 1910—11 прыват-дацэнт, у 1918—22 праф Маскоўскага ун-та У лют 1918 абараніў доктарскую дысертацыю на тэму «Аграрная рэформа Сігізмунда-Аўгуста ў Літоўска-Рускай дзяржаве» Адзін са стваральнікаў і старшыня праўлення Бел навук -культ т-ва ў Маскве (1918—19) Адначасова чытаў курс лекцый «Гісторыя беларускага народа» ў Бел нар ун-це ў Маскве У 1920—21 эксперт на сав -польскай мірнай канферэнцыі ў Рызе Па прапанове ўрада БССР узначаліў Маск камісію па арганізацыі БДУ, з ліп 1921 рэктар БДУ Даследаваў гісторыю Украіны, Польшчы, Чэхіі, Сербіі, Балгарыі, Літвы, праблемы гісторыі Беларусі, ВКЛ і Расіі 16—20 ст Апублікаваў каля 150 прац па гісторыі, гістарыяграфіі, археалогіі, архівазнаўстве, краязнаўстве, гісторыі права Беларусі Вял значэнне надаваў прапагандзе і папулярызацыі бел мовы і л-ры, сустракаўся з М *Багдановічам* (1915), падтрымліваў сяброўскія і творчыя сувязі з Я *Купалам*, Я *Коласам*, М *Гарэцкім*, Зм *Бядуляй*, Ц *Гартным* і інш дзеячамі бел культуры Аўтар прац «М Багдановіч як гісторык беларускага адраджэння» (1922), «Беларуская мова як фактар нацыянальна-культурны» (1924), «Scoriniana» (1926) П адзін з арганізатараў Інбелкульта (аўтар яго статута) і АН БССР У працы «Літоўска-Руская дзяржава» (1910) разглядзеў пытанне пра ўключэнне бел і ўкр зямель у склад ВКЛ, адзначаў, што большая частка іх была далучана не насільна У 1920-я і адмовіўся ад тэрміна «Літоўска-Руская дзяржава» і замяніў яго на «Літоўска-Беларуская дзяржава» У апошнія гады карыстаўся назвай «Вялікае княства Літоўскае» Складванне бел народнасці датаваў 14—16 ст, падкрэсліваў вырашальную ролю сац -эканам фактараў у фарміраванні і развіцці этнічнай супольнасці беларусаў, адзначаў этнічную роднасць бел, рус і укр народаў З імем П звязана арганізацыя архіўнай справы ў БССР У 1929 пачаліся ганенні на некаторых акадэмікаў-гісторыкаў, была сфабрыкавана т зв «акадэмічная справа» Ініцыятарам яе выступіў акад М М *Пакроўскі* П супрацьстаяў школе Пакроўскага 13 9 1930 П арыштаваны, яго абвінавацілі ў вялікадзяржаўным шавінізме, бел бурж нацыяналізме і празаходняй арыентацыі У жн 1931 сасланы на 5 гадоў у г Вятка, у чэрв 1934 месца ссылкі было заменена на г Варонеж, дзе ён працаваў праф у пед ін-це У 1935 справа П перагледжана, ён пераехаў у Маскву, вы кладаў у ВНУ З 1937 працаваў у Ін-це гісторыі АН СССР, дзе з 1939 узначальваў сектар славяназнаўства, адначасова быў заг кафедры зах і паўд славян Маскоўскага ун-та З 1939 працаваў над 3-томнай гісторыяй Польшчы (3-і т застаўся незавершаным) У 1941 разам з ін там эвакуіраваны ў г Ташкент, дзе апублікаваў шэраг патрыятычных артыкулаў, а таксама даследаванняў па гісто рыі Узбекістана У 1944 апублікаваў працы па гісторыі гарадоў Беларусі «Мінск», «Магілёў», «Віцебск» У 1946 разам з акад Б Дз Грэкавым заснаваў і стаў нам дырэктара Ін-та славяназнаўства АН СССР Аўтар больш як 500 прац па гісторыі слав народаў СССР і замежных краін Сярод яго вучняў шмат даследчыкаў з розных краін Еўропы, у т л бел вучоныя К І Кернажыцкі, М М Улашчык, А В Бурдзейка, Т І Забела, Д А Дудкоў, В Д Дружчыц і інш Чл ЦВК БССР у 1921—30

*Тв* История крестьянских волнений в России Мн, 1923, Гісторыя Беларусі Ч 1 М, Л, 1924, Основные моменты историчес кого развития Западной Украины и Западной Белоруссии М, 1940, Аграрная реформа Сигизмунда Августа в Литовско-Русском государстве 2 изд М, 1958, Белоруссия и Литва, XV—XVI вв М, 1961, Пытанне аб вышэйшай школе на Беларусі ў мінулым Мн, 1991

*Літ* Славяне в эпоху феодализма 100 летию со дня рождения В И Пичеты М, 1978 Академик В И Пичета Страницы жизни Мн, 1981, В И Пичета Биобиблиогр указ Мн, 1978, Брачев В С «Дело историков»

1929—31 СПб 1997, Иоффе Э Г Академик В И Пичета (1878—1947) // Новая и новейшая история 1996 № 5

*Уладзімір Вернігораў*

**ПІШЧЫКЕВІЧ** Барыс Тарасавіч [24 7 (5 8) 1899, в Сасноўка Слонімскага пав, цяпер Слонімскага р-на — 15 1 1974], Герой Сав Саюза (1943) Скончыў Ін-т чырв прафесуры (1936), курсы палітработнікаў пры Ваенна-паліт акадэміі (1941) Удзельнік грамадз вайны 1918—20 У Вял Айч вайну з чэрв 1941 на Цэнтр фронце Удзельнік вызвалення Беларусі, баеў у Германіі Агітатар палітаддзела дывізіі маер П вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра ў Лоеўскім р не 15 10 1943 з дэсантам батальёна пераправіўся цераз раку, удзельнічаў у авалоданні плацдармам і адбіцці 5 контратак ворага, замяніў камандзіра, які выбыў са строю Да 1957 на прафс рабоце

**ПІЯ́РСКІЯ ШКО́ЛЫ**, навучальныя ўстановы ордэна *піяраў* — пач вучылішчы і *калегіумы*

**ПІЯ́РЫ** (лац patres scholarum piarum айцы набожных школ), каталіцкі манаскі ордэн Засн ў 1597 іспанскім святаром Іосіфам (Хасе) Каласанцам, у 1621 зацверджаны рымскім папам Грыгорыем XV На чале ордэна стаялі генерал, 4 асістэнты і 4 кансультанты Мэтаи П было выхаванне і навучанне юнацтва праз стварэнне шырокай сеткі сваіх *калегіумаў*, а не паліт ці місіянерская дзейнасць У 1641 кароль Уладзіслаў IV папрасіў Каласанцу прыслаць П у Рэч Паспалітую, каб пазбавіцца ад манаполіі *езуітаў* у галіне адукацыі У 1642 П прыбылі ў Варшаву У 1736 у краіне былі створаны 2 *правінцыі ордэна* — Каронная (Польская) і Літоўская Піярскі калегіум узначальвалі рэктар (займаўся адм справамі) і прэфект (загадваў вучэбнай часткай) Вучэбны курс калегіума падзяляўся на 7 класаў праформа (вучылі пісаць, чытаць і пачаткам арыфметыкі), інфіма (тыя ж самыя прадметы і катэхізіс), граматыка (латынь і пераклады з яе, матэматыка), сінтаксіс (латынь, пераклады з яе і напісанне на ей лістоў), паэзія (пераклады з латыні, красамоўства), рыторыка (рыторыка, латынь, гісторыя) і філасофія (логіка, метафізіка, этыка, геаметрыя) Выкладчыкі 1—5-га класаў мелі званне магістраў, а 6—7-га — прафесараў Навучанне было бясплатнае, плата бралася толькі за канвікт (інтэрнат) Найб збяднелыя вучні ўтрымліваліся за кошт ордэна, але павінны былі выконваць шэраг прац па школьнай гаспадарцы Падабенства вучэбнай праграмы П на езуіцкую і менш строгая дысцыпліна рабілі іх навуч установы папулярнымі ў Рэчы Паспалітай У 1722 віленскі біскуп К К Бжастоўскі запрасіў П у Вільню, а мерацкі староста А Сапега ахвяраваў ім палац і 2 інш мураваныя будынкі Кляштары і рэзідэнцыі П пры

Б Т Пішчыкевіч

падтрымцы магнатаў і шляхты з'явіліся таксама ў Шчучыне (1726), Воранаве і Гераненах (1730), Зэльве (1739), Лужках (1741), Віцебску (1751), Драгічыне-Надбужскім (1773), дзе хутка ўтвараліся і калегіумы Значныя перашкоды стварэнню сеткі піярскіх устаноў чынілі езуіты, якія бачылі ў П сваіх канкурэнтаў Езуіты дамагліся закрыцця піярскіх калегіумаў у Вільні, Гераненах, Воранаве (пераведзены ў 1756 у Ліду), адкрывалі свае школы ўсюды, дзе ўжо існавалі піярскія ўстановы, пастаянна падавалі скаргі на П у суды і інш Для павышэння канкурэнтаздольнасці піярскай адукацыі пад кіраўніцтвам правінцыяла Кароннай правінцыі С *Канарскага* ў 1740—50-я г праведзена рэформа піярскіх навуч устаноў (у 1750—60-я г яна закранула і Літ правінцыю) былі пашыраны курсы матэматыкі, прыродазнаўчых і свецкіх гуманітарных навук, уведзены франц і ням мовы і інш Выкладаць новыя прадметы павінны былі спецыяльна падрыхтаваныя асобы па новых падручніках (перакладзеных

М І Платаў З карціны В Трапініна 1812

ці напісаных П), тэрмін навучання складаў 6 гадоў Значны ўплыў на вучэбныя праграмы П у Рэчы Паспалітай зрабіла франц культура, шэраг прадметаў выкладаўся па-французску, лепшыя выхаванцы накіроўваліся на стажыроўку ў Францыю Пасля скасавання у 1773 ордэна езуітаў і стварэння *Адукацыйнай камісіі* П адыгралі вял ролю ў рэфармаванні сістэмы асветы краіны ў 1770—80-я г падрыхтавалі вял колькасць праектаў рэформ, пісалі падручнікі (А Каменскі, А Паплаўскі, М Пракаповіч) За заслугі ў галіне адукацыі П было дазволена ў 1775 набываць новыя зямельныя ўладанні, у 1783 іх школы ў Польшчы вылучаны ў асобную акругу (вучылішчы П у ВКЛ увайшлі ў яе склад у 1790) У канцы 18 ст на тэр ВКЛ дзейнічала 18 кляштараў П Пасля далучэння Беларусі да Рас імперыі і стварэння *Віленскай навучальнай акругі* становішча П змянілася нязначна, у 1804 піярскія навуч установы былі ўключаны ў гэту акругу і атрымалі статус павятовых вучылішчаў Адкрываць новыя школы П не дазвалялася (выключэннем было заснаванне ў 1822 *Полацкага вышэйшага піярскага вучылішча*) Піярскія навуч установы працягвалі займаць адно з вядучых месц у акрузе у 1803 у П вучыліся 1234 юнакі, у 1816 — 1245, у 1822 — 1401 П займалі шэраг прафесарскіх пасад у Віленскім ун-це С Юндзіл, Ф Серафімовіч, Ф Галанскі У 1831—34 пасля паўстання 1830—31 навуч установы П былі пераўтвораны ў 5-класныя свецкія павятовыя вучылішчы ці зачынены Літ правінцыя П скасавана ў 1843

*Літ* Самусік А Ф Дзейнасць манаскіх ордэнаў у галіне асветы на Беларусі ў першай трэці XIX ст // Гісторыя праблемы выкладання 1998 № 1, Hedemann O Szkoły Walerjanowskie x x pijarów łużeckich Wilno 1937, Kot S Reforma szkolna Stanisława Konarskiego Krakow 1923, Beauvois D Szkolnictwo polskie na ziemiach Litewsko Ruskich, 1803—1832 T 1—2 Rzym, Lublin 1991, Stępien R. Współpraca pijarów z Komisją Edukacji Narodowej na terenie Korony // Acta Universitatis Wratislaviensis N 1565 Prace pedagogiczne 102 Wrocław 1994

*Андрэй Самусік*

**ПЛАСКО́Ў** Рыгор Давыдавіч [8(20) 12 1898, Мінск — 2 11 1972], генерал-лейтэнант артылерыі (1945) Скончыў Ваен акадэмію імя Фрунзе (1932) З кастр 1917 у Чырв гвардыі, потым у Чырв Арміі Удзельнік грамадз вайны 1918—20 на Паўд, Паўд -Зах і Зах франтах, сав -фінл вайны 1939—40 У Вял Айч вайну з 1941 на Зах, Калінінскім, 2-м Укр, 1-м Бел франтах камандуючы артылерыі дывізіі, корпуса, арміі Да 1956 у Сав Арміі Аўтар кнігі «Пад грохат кананады» (1969)

**ПЛА́ТАЎ** Мацвей Іванавіч [6(17) 8 1751, станіца Старачаркаская, цяпер Аксайскага р-на Растоўскай вобл, Расія — 3(15) 1 1818], расійскі ваенны дзеяч Вайсковы атаман Данскога казацкага войска (1801), ген ад кавалерыі (1809), граф (1812) З 1764 на ваен службе

Удзельнік рус -турэцкіх войнаў 1768—74 і 1787—91, задушэння сял вайны пад кіраўніцтвам Е І Пугачова (1775) Удзельнік войнаў рус -пруска-франц 1806—07 і рус -турэцкай 1806—12 У пач вайны 1812 камандаваў «лятучым» корпусам у складзе 1-й Зах арміі (размешчаны ў раене Гродна) У выніку імклівага наступлення Напалеона на Вільню быў адрэзаны ад сваей арміі і вымушаны далучыцца да 2-й Зах арміі Знаходзячыся ў яе ар'ергардзе, двойчы атрымаў перамогі над франц кавалерыяй — у *Мірскім баі 1812* і ў *Раманаўскім баі 1812*, прыкрываў адыход 2-й арміі да Смаленска Пасля *Смаленскай аперацыі 1812* узначальваў ар'ергард аб'яднанай арміі У час Барадзінскай бітвы 26 8(7 9) 1812 зрабіў паспяховы рэйд у тыл праціўніка Пры адступленні франц арміі накіраваны М І Кутузавым у тыл ворага ўздоўж Смаленскай дарогі, удзельнічаў у вызваленні Оршы, Талачына, Барысава і інш, у снеж 1812 выцесніў ар'ергард праціўніка за межы Расіі каля г Коўна Удзельнік замежных паходаў 1813—14 Набыў вял папулярнасць як герой вайны 1812 У 1814 разам з Аляксандрам І наведаў Англію, дзе атрымаў дыплом ганаровага доктара права Оксфардскага ун-та

*Літ* Х а р к е в и ч В Действия Платова в арьергарде Багратиона в 1812 г СПб , 1901, А с т а п е н к о М П , Л е в ч е н к о В Г Атаман Платов Жизнеописание М , 1988

*Андрэй Лукашэвіч*

**ПЛАТО́НАЎ** Барыс Віктаравіч [24 7 (6 8) 1903, Мінск — 15 2 1967], бел акцер, педагог Нар арт Беларусі (1946), нар арт СССР (1948) Удзельнік грамадз вайны З 1920 працаваў у тэатральным калектыве пры «Беларускай хатцы» і т-ры рэв сатыры ў Мінску З 1922 у *Беларускім тэатры імя Янкі Купалы*, у 1961—63 яго маст кіраўнік З 1965 заг кафедры майстэрства акцера і рэжысуры Бел тэатр -маст ін-та Акцер шырокага творчага дыяпазону, выдатны майстар пераўвасаблення Спалучаў тонкі псіхал малюнак вобраза са знешняй тэатр яркасцю Сярод лепшых драм роляў Заслонаў («Канстанцін Заслонаў» А Маўзона, Дзярж прэмія СССР 1948), Тумілович («Пяюць жаваранкі» К Крапівы, Дзярж прэмія СССР 1952) Стварыў гранічна завостраныя камедыйныя вобразы Быкоўскі («Паўлінка» Я Купалы), Зелкін, Жлукта («Хто смяецца апошнім», «Мілы чалавек» Крапівы), Лявон («Лявоніха на арбіце» А Макаенка) Высокім трагедыйным гучаннем адзначаны ролі Пятра («Апошнія» М Горкага), Рамэо («Рамэо і Джульета» У Шэкспіра), Эзопа («Ліса і вінаград» Г Фігейрэду), Пратасава («Жывы труп» Л Талстога) і інш Пра П зняты дакумент фільм «Думкі і вобразы» (1965) Імем П ў Мінску названа вуліца

*Літ* С а б а л е ў с к і А Барыс Платонаў 2 выд Мн , 1989

Б В Платонаў

Р П Платонаў

**ПЛАТО́НАЎ** Расціслаў Пятровіч (н 15 4 1930, г Слуцк), бел гісторык Д-р гіст н (1982), праф (1984) Скончыў БДУ (1955) Працаваў у друку, камсам і парт органах, мінскіх ВНУ У 1973—80 сакратар Мінскага абкома КПБ, у 1980—91 дырэктар Ін-та гісторыі партыі пры ЦК КПБ (з 1990 Ін т гіст -паліт даследаванняў) З 1992 у Бел НДІ дакументазнаўства і архіўнай справы. Даследуе праблемы дзярж будаўніцтва, грамадска-паліт і духоўнага жыцця Беларусі сав перыяду, гісторыю КПБ, барацьбы бел народа супраць ням -фаш захопнікаў у Вял Айч вайну Працуе ў галіне крыніцазнаўства і практычнай археаграфіі Адзін з аўтараў калектыўных прац «Усенародная барацьба ў Беларусі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у гады Вялікай Айчыннай вайны» (т 1—3, 1983—85), «Старонкі гісторыі Кампартыі Беларусі меркаванні, аргументы, факты» (1990), «Станаўленне і крушэнне аднапартыйнай сістэмы ў СССР, 1917—1991», «Нямецка-фашысцкі генацыд на Беларусі (1941—1944)» (абедзве 1995) Удзельнічаў у падрыхтоўцы дакументальнага выдання «Камуністычная партыя Беларусі ў рэзалюцыях і рашэннях з'ездаў і пленумаў ЦК» (т 1—6, 1983—87), 3б-каў дакументаў і матэрыялаў «Камсамол Беларусі ў Вялікай Айчыннай вайне», «К Каліноўскі З друкаванай і літаратурнай спадчыны» (абодва 1988) і інш Дэп ВС БССР у 1980—89

*Тв* Идеологическая работа КПБ в годы социалистической индустриализации (1926—1929) Мн , 1962, Воспитание коммунистической сознательности Некоторые пробл идейно-полит воспитания трудящихся в связи с обострением идеол борьбы Мн , 1970, Пропаганда научного атеизма Ист -социол исслед на материалах Компартии Белоруссии Мн , 1982, На крутом переломе Очерк основных направлений деятельности Компартии Белоруссии по осуществлению перестройки Мн 1989 (разам з Ю П Смірновым) К вопросу о становлении белорусской национальной государственности (разам з М С Сташкевічам) // Октябрь 1917 и судьбы политической оппозиции Гомель, 1993 Ч 2, Прокуратура и политические репрессии 1937—1938 гг // Неман 1996 № 9, Палітыкі ідэі Лесы Грамадзян пазіцыі ва ўмовах нарастання ідэалага-паліт дыктату ў Беларусі 20—30-х гг Мн , 1996, Александр Ульянов и версия НКВД об антисоветском подполье в БССР (Фальсификация органами НКВД уголовных дел в 1937—1938 гг ) Мн 1997 (разам з М М Ількевічам), Даносы 30-х гг спроба апісання сацыяльнай з'явы // Маладосць 1998 № 7, Лесы Гіст -дак нарысы аб людзях і малавядомых падзеях духоўнага жыцця ў Беларусі 20—30-х гг Мн , 1998, На крутым павароце Ідэолага паліт барацьба на Беларусі ў 1929—1931 гг Мн , 1999

*Алесь Скараход*

**ПЛАТО́НАЎ** Сяргей Федаравіч [16(28) 6 1860, г Чарнігаў, Украіна — 10 1 1933], расійскі гісторык Акад АН СССР у 1920—31 (чл -кар з 1908) Скончыў Пецярбургскі ун-т (1882), з 1899 праф гэтага ун-та Старшыня Археаграфічнай камісіі (1918—29), камісіі па выданні твораў А С Пушкіна, дырэктар Пушкінскага дома Ін-та рускай л-ры АН СССР (1925—29) і Б-кі АН СССР (1925—28) Даследаваў падзеі 2-й пал 16 — пач 17 ст ў Расіі, т зв смуту У сваей гал працы «Нарысы па гісторыі смуты ў Маскоўскай дзяржаве XVI—XVII стст. Спроба вывучэння грамадскага ладу і саслоўных адносін у Смутны час» (1899, перавыд 1995) разглядаў спробы дасягнуць раўнапраўнай уніі Маск дзяржавы з Рэччу Паспалітай, развіцце адносін паміж каралем Жыгімонтам Вазай, каралевічам Уладзіславам Жыгімонтавічам з маскоўскім урадам і баярствам, ход *вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18* Даследаваў гісторыю земскіх сабораў, перыяд царавання Пятра І, каланізацыю рас Поўначы і інш Аўтар «Падручніка рускай гісторыі для сярэдняй школы» (ч 1—2, 1909, перавыд 1992), дзе выкладзены пытанні станаўлення і развіцця ВКЛ, адносін Расіі з Рэччу Паспалітай У канцы 1920-х г «гісторыкі-марксісты» на чале з М М *Пакроўскім* разгарнулі барацьбу з гісторыкамі ліберальна-дэмакр поглядаў У студз 1930 П арыштаваны па падазрэнні ў «актыўнай антысавецкай дзейнасці і ўдзеле ў контррэвалюцыйнай арганізацыі» 19 месяцаў ішло следства (т зв «Справа Платонава»), па якім праходзі-

ла 115 чал Напісаў «Пакаяннае пісьмо», аднак паводле рашэння «тройкі» ен разам з дочкамі быў сасланы ў Самару на 5 гадоў, дзе і памер

*Тв* Борис Годунов Пг, 1921, Иван Грозный Пг, 1923, Русская история М, 1995, Полный курс лекций по русской истории Ростов н/Д, 1997

*Літ* Очерки истории исторической науки в СССР Т 3 М, 1963, Рахматуллин М А Дело по обвинению академика С Ф Платонова // Отечественная история 1994 № 6, Брачев В С Дело академика С Ф Платонова // Вопр истории 1989 № 5, Його ж «Дело историков» 1929—31 СПб, 1997 *Уладзімір Вернігораў*

**ПЛАТУ́Н** Антон Мартынавіч [1(13) 11 1896, в Амлынцы Слуцкага пав, цяпер Нясвіжскі р-н — 1938], парт і дзярж дзеяч БССР Акадэмік АН БССР (1931) Скончыў нар вучылішча, вучыўся ў Нясвіжскім гар вучылішчы Удзельнік 1-й сусв і грамадз войнаў З кастр 1920 заг аддзела Мазырскага пав к-та КП(б)Б, сакратар пав выканкома, камандзір атрада ЧОН З лют 1923 заг аддзела Барысаўскага пав к-та КП(б)Б, памочнік пракурора З 1925 сакратар Слуцкага акр к-та КП(б)Б З мая 1927 старшыня Цэнтральнага праўлення прафсаюза працаўнікоў асветы БССР і рэдактар час «Прафрух Беларусі» У вер 1929 — сак 1933 нарком асветы БССР, 7 3 1933 зняты з пасады З 1933 на парт рабоце ў Зах Сібіры Чл ЦК КП(б)Б у 1927—33 Чл ЦВК БССР у 1927—33, Прэзідыума ЦВК у 1931—33

*Тв* Нацыянальна-культурнае будаўніцтва ў БССР Мн, 1930, За культурную рэвалюцыю Мн, 1931, Итоги культурного строительства в БССР за 10 лет М, Л 1931 *Аляксандра Гесь*

**ПЛАШЧЫНСКІ** Сяргей Сільвестравіч (1892, в Калядзічы Мінскага пав, цяпер Мінскі р-н — 7 5 1920), удзельнік партыз руху на Беларусі ў грамадз вайну З 1910 рабочы ў Рызе, у 1914—15 у арміі, з 1915 рабочы ў Петраградзе Удзельнік Лют рэвалюцыі 1917 З вясны 1920 камандзір Козыраўскага пар тыз атрада, які дзейнічаў у ваколіцах Мінска супраць польскіх акупантаў Схоплены карнікамі і расстраляны ў Камароўскім лесе каля Мінска

**ПЛЕ́МЯ**, тып этнічнай і сацыяльнай арганізацыі людзей, уласцівы для *першабытнаабшчыннага ладу* і пераходнага перыяду да класавага грамадства Племянныя супольнасці ўзніклі ў эпоху развітога радавога грамадства ў выніку аб'яднання некалькіх экзагамных родаў, звязаных агульнасцю этнагенетычнага паходжання, асн элементаў гаспадаркі, звычаяў і абрадаў, міфалогіі і культаў, адзінствам дыялекту і племяннай саманазвы, якія грунтаваліся на агульнай самасвядомасці У археалогіі П і яго тэрыторыя вызначаюцца на падставе пашырэння агульных элементаў матэрыяльнай і духоўнай культуры, якія характарызуюць асаблівасці племяннога рассялення, гасп дзейнасці, звычаяў і абрадаў З часоў мезаліту на тэр Беларусі жылі П *грэнскай культуры, неманскай мезалітычнай культуры, сожскай культуры*, у неаліце — *верхнеднепроўскай культуры, дзяснінскай культуры, днепра-данецкай культуры, лейкападобных кубкаў культуры, неманскай культуры, нарвенскай культуры, тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі культуры, шарападобных амфар культуры*, у бронзавым веку — *лужыцкай культуры, паўночнабеларускай культуры, прыбалтыйскай культуры, сосніцкай культуры, сярэднеднепроўскай культуры, тшцінецкай культуры, шнуравой керамікі Палесся культуры, шнуравой керамікі культуры*, у жал веку — *банцараўскай культуры, днепра-дзвінскай культуры, зарубінецкай культуры, калочынскай культуры, кіеўскай культуры, мілаградскай культуры, паморскай культуры, штрыхаванай керамікі культуры* На позніх этапах развіцця першабытнаабшчыннага ладу і пераходу да класавага грамадства П аб'ядноўваліся ў буйныя сац-паліт супольнасці — *саюзы плямен* У грамадскіх навуках, літаратуры і публіцыстыцы тэрмін «П» доўгі час ужываўся ў сэнсе народ, этнас

*Літ* Третьяков П Н Финно-угры балты и славяне на Днепре и Волге М, Л 1963, Формирование раннефеодальных славянских народностей М, 1981, Этнос в доклассовом и раннеклассовом обществах М, 1982, Седов В В Восточные славяне в VI—XIII вв М, 1982, Бромлей Ю В Очерки теории этноса М, 1983 *Ігар Чаквін*

**ПЛЕНІПАТЭ́НТ** (ад лац plem potens паўнамоцны), у ВКЛ у 17—18 ст давераная асоба ў судзе, якая прадстаўляе адзін з бакоў

**ПЛЕ́ШЧАНІЦКАЕ КАМСАМО́ЛЬСКА-МАЛАДЗЁЖНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ** ў Вялікую Айчынную вайну Дзейнічала з 18 8 1941 да 25 11 1942 у г п Плешчаніцы Налічвала 23 чал (кіраўнік П І Адамовіч) З вясны 1942 трымала сувязь з партыз атрадам «Бараць ба», з жн дзейнічала пад кіраўніцтвам Барысаўскага падп міжрайкома ЛКСМБ Складалася з груп, якія ўзначальвалі М І Гусакоўская, В І і М І Парфяновічы, К Х Чалаў Падпольшчыкі па радые прымалі і распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, здабывалі і перадавалі партызанам зброю, боепрыпасы, медыкаменты, дакументы, звесткі пра кар ныя экспедыцыі акупантаў, у ліп 1942 арганізавалі ўцёкі зняволеных з канцлагера, у канцы 1942 замініравалі будынак жандармерыі, падпалілі ўправу, падарвалі лесапільню Пасля дыверсій большасць членаў арг-цыі пайшла ў партызаны, 6 падпольшчыкаў загубілі фашысты

**ПЛЕ́ШЧАНІЦКАЯ АПЕРА́ЦЫЯ 1943**, баі партыз брыгад «Народныя мсціўцы» і «Дзядзькі Колі» па разгроме ням-фаш гарнізона ў г п Плешчаніцы ў сак — жн 1943 у Вял Айч вайну Партыз разведка выявіла, што вясной гарнізон (каля 230 гітлераўцаў) пачаў хуткімі тэмпамі весці інж работы па абсталяванні сістэмы абарончых пунктаў вакол і ўнутры Плешчаніц, з лета папоўніўся спец падраздзяленнямі ням ВПС, зброяй, боепрыпасамі, харчаваннем Паводле ўказання Мінскага падп абкома КП(б)Б партызаны брыгады «Народныя мсціўцы» неаднаразова спрабавалі перашкодзіць узмацненню гарнізона нанеслі 29 удараў па аванпастах, адбілі 23 яго вылазкі, спынялі спробы дэблакіраваць гарнізон звонку, былі знішчаны мотамеханіз патруль 118-га ахоўнага батальена, палкоўнік паліцыі бяспекі разам з аховай, вял страты нанесены асобаму батальену СС Дырлевангера, які спрабаваў прарвацца на дапамогу гарнізону 17 жн партызаны перакрылі ўсе шляхі да Плешчаніц і ўварваліся ў паселак Адначасова брыгада «Дзядзькі Колі» завязала баі з гарнізонамі на Зембінскім напрамку У начным баі партызаны знішчылі ўсе гасп і ваен аб'екты гарнізона, захапілі шмат зброі, боепрыпасаў, амуніцыі прапіўніка і на досвітку адышлі ў раен сваей дыслакацыі У выніку аперацыі гарнізон быў поўнасцю разгромлены, яго дзейнасць спынена больш як на паўгода Страты партызан — 48 забітымі і паранены мі *Уладзімір Пасэ*

**ПЛЕШЧАНІЦКІ РАЁН** Існаваў у 1924—62 Утвораны 17 7 1924 у Барысаўскай акр Цэнтр — мяст *Плешчаніцы* 20 8 1924 падзелены на 11 сельсаветаў Акалоўскі, Амнішаўскі, Горненскі, Завішынскі, Запольскі, Зарэцкі, Ізбішчанскі, Крайскі, Плешчаніцкі, Прусавіцкі, Хатаевіцкі (з 1939 Акцябрскі) З 9 6 1927 да 26 7 1930 у Мінскай акр 22 9 1927 далучаны Ганцавіцкі і Каменскі с/с ліквідаванага Зембінскага р-на З 20 2 1938 у Мінскай вобл 16 7 1954 ліквідаваны Амнішаўскі, Ганцавіцкі, Горненскі, Завішынскі, Запольскі і ўтвораны Задорскі і Нястанавіцкі сельсаветы З 25 12 1962 тэр раена далучана да *Лагойскага раена*

**ПЛЕ́ШЧАНІЦЫ**, гарадскі паселак у Лагойскім р-не За 27 км на Пн ад г Лагойск, на беразе Плешчаніцкага вадасх на перасячэнні аўтамагістраляў Барысаў—Вілейка і Мінск—Віцебск 7860 тыс ж (1999)

Вядомы з 16 ст як веска ў Мінскім пав ВКЛ У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 у ваколіцах П у 1656—57 атрад на чале з Дз *Мурашкам* руйнаваў шляхецкія маенткі З 1793 у складзе Рас імперыі, мястэчка, 50 дамоў, цэнтр воласці ў Барысаўскім пав У Айч вайну 1812 пры адступленні франц арміі рус атрад ген Чапліца разбіў тут авангард 9-га франц корпуса маршала Віктора У 1817 уладальнікі П Тышкевічы пабудавалі царкву, у 1825 стварылі прыгонны тэатр (дзейнічаў да 1835) У 19 ст тут была школа, царква, сінагога, бровар, 5 крам, 2 піцейныя двары, 2 разы на год кірмашы У 1882 заснавана ф-ка шавецкіх капылоў, пазней — ф-ка шавецкіх гваздоў У 1897 у П 1086 ж, нар вучылішча, паштова-тэлеграфнае аддз З 29 8 1919 цэнтр во-

ласці Барысаўскага пав З 17 7 1924 да 25 12 1962 цэнтр *Плешчаніцкага раена* З 1929 працавалі электрастанцыя, млын, лесапільня, сукнавальня З 27 9 1938 гар паселак У 1939 3,7 тыс ж , працавалі крухмальны і тарфяны з-ды 28 6 1941 акупіраваны ням фашыстамі, якія разбурылі паселак, у П і раене загубілі 2063 чал Дзейнічала *Плешчаніцкае камсамольска-маладзежнае падполле,* летам 1943 партызаны правялі аперацыю «Фінансіст», у выніку якой з Плешчаніцкага банка забралі 224 тыс марак, і *Плешчаніцкую аперацыю 1943* па разгроме ням гарнізона Вызвалены П 30 6 1944 у ходзе *Мінскай аперацыі 1944* У 1977 — 6,9 тыс ж У П працуюць хлебазавод, птушкафабрыка, гандлевае і швейнае прадпрыемствы, лясгас 2 сярэднія, муз , дзіцяча юнацкая спарт школы, 2 ПТВ, 3 дашкольныя ўстановы, Дом дзіцячай творчасці, 2 б-кі, бальніца, магазіны, камбінат быт паслуг, аддз сувязі Магіла ахвяр фашызму, брацкая магіла сав воінаў і партызан, што загінулі ў Вял Айч вайну

**ПЛІЕЎ** Іса Аляксандравіч [12(25) 11 1903, с Стары Батака-Юрт Уладзікаўказскай акр , цяпер у Паўн Асеціі, Расія — 6 2 1979], удзельнік вызвалення Беларусі ў Вял Айч вайну, двойчы Герой Сав Саюза (1944, 1945), ген арміі (1962), Герой МНР (1971) Скончыў ваен акадэміі імя Фрунзе (1933) і Ген штаба (1941) У Чырв Арміі з 1922 У Вял Айч вайну з 1941 на Зах , Паўд , Паўд -Зах , Сцяпным, 3-м Укр , 2-м Бел , 2-м Укр і Забайкальскім франтах Пад яго камандаваннем конна-механіз група ў час Бел аперацыі 1944 удзельнічала ў вызваленні Глуска, Слуцка, Міра, Стоўбцаў, Нясвіжа, Баранавіч, Слоніма, Брэста Пасля вайны на адказных пасадах у Сав Арміі Яго імем названа вуліца ў Слуцку

**ПЛІНФА** (ад грэч plinthos цагліна), шырокая і плоская абпаленая цэгла Мела квадратную (пазней прамавугольную) форму і невял (да 4—5 см) таўшчыню На Беларусі ўпершыню выкарыстана ў муроўцы *Полацкага Сафійскага сабора* (11 ст ) У 10 ст П завозілі візантыйскія дойлідцы, пазней выраблялі ў месцах пабудоў Мураваныя будынкі з выкарыстаннем П ўзводзіліся ў Полацку, Віцебску, Гродне, Тураве, Навагрудку і інш У 12 ст адначасова ўжывалася П двух і болей памераў На арх дэталі (пілястры, лапаткі і інш ) выкарыстоўвалі трапецападобную і паўкруглую П Выраблялі П ў спец формах з драўляным дном Каб пазначыць сваю прадукцыю, цагельнікі пакідалі на П клеймы або меткі ў выглядзе літар, крыжыкаў, трызубцаў, стрэлак і інш , часам трапляюцца малюнкі, надпісы Абпальвалі П ў спец печах з цэглы У 2 й пал 13 ст замест П ў бел дойлідстве пачалі выкарыстоўваць буйнапамерную брусковую цэглу *Алег Трусаў*

**ПЛІС** Міхаіл (15 8 1858, Гродзенская губ — 29 4 1924), бел рэліг і грамадскі дзеяч, педагог Скончыў Віленскую духоўную правасл семінарыю (1879) і пасвячоны ў святара З 1879 настаяцель правасл парафій ў Ашмянскім пав і Вільні У 1915—17 пры літ архіепіскапстве ў г Дзісна Пасля Лют рэвалюцыі 1917 у Маскве У час працы Маскоўскага царк сабора у 1917—18 давераная асоба будучага патрыярха Ціхана З вясны 1919 у Вільні, член Віленскай духоўнай правасл кансісторыі, ключар Віленскага кафедральнага сабора У 1919—20 уваходзіў у склад *Цэнтральнай беларускай рады Віленшчыны і Гродзеншчыны,* Віленскага беларускага нацыянальнага камітэта Першы законавучыцель правасл багаслоўя ў *Віленскай беларускай гімназіі* (1919—23, выкладаў на бел мове) Прыхільнік беларусізацыі правасл царквы ў Зах Беларусі, адзін з ініцыятараў стварэння Святатроіцкага бел правасл т-ва ў Вільні ў 1921 Адзін з заснавальнікаў *Таварыства беларускай школы,* удзельнік Першага з'езда выкладчыкаў зах -бел гімназій у 1923
*Уладзімір Ляхоўскі*

І А Плієў

**ПЛІС** Міхаіл Ігнатавіч [30 8(11 9) 1898, в Бялавічы Слонімскага пав , цяпер Івацэвіцкага р-на — 10 1 1958], адзін з кіраўнікоў парт падполля і партыз руху на тэр Віцебскай вобл ў Вял Айч вайну Скончыў Ін-т чырв прафесуры (1933) З 1918 у Чырв Арміі, з 1921 на парт і гасп рабоце ў РСФСР і на Украіне, з 1936 у апараце Камісіі парт кантролю пры ЦК ВКП(б) З 1938 на выкладчыцкай, парт , гасп і сав рабоце У Вял Айч вайну з 7 4 1943 да ліп 1944 сакратар *Віцебскага падпольнага абкома КП(б)Б* З 1944 выкладчык ВНУ

**ПЛІСА**, веска, цэнтр сельсавета ў Глыбоцкім р не, на беразе воз Пліса, каля вытоку р Мнюта На аўтадарозе Глыбокае—Полацк За 21 км на ПнУ ад Глыбокага, 10 км ад чыг ст Падсвілле 688 ж , 309 двароў (1998)

З пісьмовых крыніц вядома з пач 16 ст Маентак П з фальваркамі, с Балотнікі і ўсей маемасцю належаў гетману найвышэйшаму ВКЛ Канстанціну Астрожскаму З 1507 уладанне М Петуха У 1552 у мястэчку П было 63 двары Пазначана на карце Полацкага ваяв (1579) С Пахалавіцкага З 1624 уладанне Р І Падбіпенты, з 1670 — полацкага земскага суддзі В П Корсака, потым — Дэспат-Зяновічаў Паводле прывілея караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага ад 15 8 1788 у мястэчку П праводзіліся штотыднёвыя кірмашы У канцы 18 ст тут існавалі «гаспадарскі дом», драўляная уніяцкая царква, 6 крамаў, 2 корчмы, вадзяны млын на 4 паставы З 1793 у Рас імперыі, цэнтр воласці Дзісенскага пав Мінскай, з 1842 Віленскай губ У 1822 пры царкве заснавана брацтва З 1863 працавала пачатковая школа У 1887 — 651 ж , 75 дамоў, парафіяльная царква, капліца, сінагога У фальварку П 63 ж , працаваў бровар У 1897 у П 899 ж З 1921 у складзе Польшчы, цэнтр воласці Дзісенскага пав Віленскага ваяв З 1939 у БССР, з 15 1 1940 да 28 6 1950 цэнтр *Пліскага раена* Вілейскай, з 1944 Полацкай абл У ліп 1941 — ліп 1944 акупіравана ням -фаш захопнікамі, якія спалілі ў П 197 двароў, загубілі у П і раене 1676 чал З 25 12 1962 у Глыбоцкім р-не У П сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, аддз сувязі, амбулаторыя, аптэка, магазін, Параскеўская царква (1887)

Каля вескі паселішча эпохі неаліту, бронзавага і ранняга жалезнага вякоў

Літ Сапунов А П Матерялы по истории и географии Дисненского уезда Виленской губернии Витебск, 1896 *Язэп Бунто*

**Плінфа** 12 ст са знакамі (1) і клеймамі (2)

**ПЛІ́СКІ РАЁН** Існаваў у 1940—62 Утвораны 15 1 1940 у складзе Вілейскай вобл Цэнтр — в *Пліса*, з чэрв 1950 — в *Падсвілле* Пл 1 тыс км² (на 1 1 1941) 12 10 1940 падзелены на 18 сельсаветаў Асінаўскі, Астраўскі, Валодзькаўскі, Верацейскі, Вуглоўскі, Галубіцкі, Драбаўшчынскі, Зашчэсленскі, Каралевіцкі, Кукраўскі, Кульгайскі, Лужкоўскі, Міцькаўскі, Пліскі, Празароцкі, Прошкаўскі, Свільскі, Стральцоўскі З 20 9 1944 П р у Полацкай, з 8 1 1954 у Маладзечанскай, з 20 1 1960 у Віцебскай абл 25 12 1962 раен скасаваны, яго тэр перададзена ў Глыбоцкі і Міерскі р ны

**ПЛО́МБА** (ням Plombe ад лац plumbum свінец), кавалачак свінцу з адбіткам *пячаткі*, якім апламбоўваецца пэўны прадмет Стараж П адрозніваюцца ад віслых пячатак (гл *Була*) невял памерамі (1—1,5 см) і прызначэннем П «наўгародскага тыпу» служылі малымі пячаткамі пасаднікаў (канец 11—13 ст ) Найб распаўсюджаны П «драгічынскага тыпу», якіх у Драгічыне Надбужскім (Польшча) выяўлена некалькі тысяч Шырока бытуе меркаванне, што П прывешвалі да цюкоў з таварамі, якія вывозілі на знешні рынак, што гарантавала іх захаванасць На думку некат даследчыкаў, на Русі ўжываліся «футравыя» грошы П , што прывешвалася да вязкі футраў, надавала ім значэнне грошай На тэр Беларусі П «драгічынскага тыпу» (больш за 20 экз ) выяўлены ў Віцебску, Тураве, Брэсце, Полацку У Віцебску знойдзены свінцовыя П з выявамі на знешнім і адваротным баках адпаведна св Пятра і літары «Ж», невядомага святога і літары «Л», святога з паднятымі рукамі і расквітнелага 6 канцовага крыжа, святога і 4-канцовага крыжа з промнямі, з двума нахіленымі крыжамі, св Міколы і літары «Д» На адной П захаваўся надпіс «Петр» У час археал раскопак у Полацку ў пласце 1240-х г знойдзена П з выявай св Барыса ці Глеба, а на адваротным баку — расквітнелага крыжа У Зах Еўропе двухсастаўныя свінцовыя гандл П вядомы ў 15—17 ст Загатоўка такіх П выразалася з суцэльнага ліста свінцу (палоска вуха і два кружкі пласціны ўласна П з прыпаяным да адной пласцінкі замком і адтулінамі для вусікаў замка другой) На Беларусі такія П вядомы ў падзвінскіх гарадах На абодвух іх баках адціснуты рэльефныя выявы, надпісы і знакі, часам сустракаюцца контрмаркі У 19—20 ст выкарыстоўваюцца П пад пламбір (прыстасаванне ў выглядзе клешчаў) на пошце, чыгунцы, у банках і інш установах З 2-й пал 20 ст ў шырокім ужытку П з пластмасы з адтулінамі для прасоўвання кантрольнага дроту або шнура, маюць выявы дзярж герба, даты, умоўныя літары і лічбы

*Літ* Ершевский Б Д Дрогичинские пломбы классификация, типология, хронология // Вспомогательные исторические дисциплины Л , 1985 Т 17

*Георгій Штыхаў, Іван Сінчук*

**Пломбы** 16—18 ст з Дзісны і Друі (правы і адваротны бакі)

**ПЛУГ** Адам (сапр Пяткевіч Антоні Антонавіч, 23 10 1823, в Замосце Слуцкага пав Мінскай губ, цяпер Слуцкі р-н — 2 11 1903), польскі і бел пісьменнік, журналіст Скончыў Слуцкую гімназію (1842), вучыўся ў Кіеўскім ун-це (1845—46) З 1831 жыў у в Жукаў Барок на Стаўбцоўшчыне, дзе пасябраваў з У *Сыракомлем* У 1856 у Мінску сустракаўся з В *Дуніным-Марцінкевічам* З 1874 у Варшаве Адзін з арганізатараў бел літ -асв гуртка У 1879—90 рэдактар час «Kłosy» («Каласы»), у якім друкаваў шмат матэрыялаў пра Беларусь У 1891—1903 гал рэдактар «Wielkiej Encyklopedii Powszechnej Ilustrowanej» («Вялікай усеагульнай ілюстраванай энцыклапедыі»), адначасова працаваў літ кіраўніком часопіса «Wędrowiec» («Вандроўнік», 1894—99), уваходзіў у склад рэдакцыі газеты «Kurjer Warszawski» («Варшаўскі веснік», 1899—1903) Большасць яго твораў тэматычна звязаны з Беларуссю [«Жукаў Барок» (1849), «Родная песенька» (1856), «Сарока» (1867) і інш ] У аповесцях «Споведзь» (1848), «Нянька» (1857), «Афіцыяліст» (1866—67) і інш апісваў бел краявіды, асуджаў прыгоннікаў У зб «Каласы з роднай нівы» (1856) шырока выкарыстаў бел фальклор З чатырох апавяданняў і легенд, напісаных ім у 1849 на бел мове, захавалася толькі апавяданне «Кручаная баба» (апубл ў 1918) Адзін з першых перакладаў на польск мову творы Дуніна-Марцінкевіча, Г Гейне, В Гюго, А Пушкіна, У Шэкспіра Творы П друкаваліся у Мінску (у зб «Голас з Літвы», 1859) Сумесна з В *Каратынскім* падрыхтаваў выданне «Выбранай паэзіі» Сыракомлі (т 1—5, 1890) У варшаўскім касцеле св Крыжа ў 1905 устаноўлены бюст П

*Тв* Zupełny zbior pism Adama Pługa Ser 1—2 T 1—6 Żytomierz, Wilno, 1862—63

*Літ* Мальдзіс А Падарожжа ў XIX ст Мн 1969

*Уладзімір Мархель*

**ПЛЫТАГО́НСТВА**, сплаў лесаматэрыялаў і іншых грузаў плытамі па водных шляхах Вядомы з глыбокай старажытнасці Геагр становішча Беларусі, разгалінаваная рачная сетка, якая мела выхад да Балтыйскага (басейны Немана і Зах Дзвіны) і Чорнага (басейны Дняпра і Прыпяці) мораў, спрыялі развіццю сплаўнога промыслу На працягу стагоддзяў П было самым зручным і танным спосабам транспарціроўкі драўніны З канца 16 ст значна павялічвалася дастаўка грузаў у Зах Еўропу да Балтыйскага м , а з канца 18 ст і ў чарнаморскія парты Да канца 19 ст П заставалася найб распаўсюджаным адыходным промыслам сялян Акрамя драўніны і буд матэрыялаў на плытах везлі розныя тавары пяньку, лен, посуд, збожжа, смалу, дзегаць, паташ, сала, гарэлку, рагожы і інш У сярэдзіне 19 ст на Палессі сплавам займалася да 8 тыс сялян, а ў 1890-я г — каля 25 тыс чал штогод У 1859—95 па Прыпяці штогод сплаўлялі не менш як 200 плытоў, часам больш за 1000 Сплаўны сезон працягваўся з ранняй вясны да глыбокай восені Пачатак яго ў некаторых мясцінах плытагоны адзначалі абрадам першага спуску плытоў на ваду Плыты вязалі з акораных і прасохлых бярвен хвойных парод у адзін ці некалькі радоў Для кіравання плытамі на пярэднім (галаве) і заднім (хвасце) звенах мацаваліся рулявыя веслы, на мелкаводдзі і каналах плыты кіраваліся шастамі Для тармажэння ходу служылі завостраныя калы, замацаваныя ў галаве і хвасце плыта На начлег плыт прычальвалі да берага з дапамогай каната, які чаплялі за кол (прычал) На плытах абсталёўвалі (найчасцей на 2-м звяне) месца для жылля — дашчаны курэнь, а для прыгатавання ежы — вогнішча (горан) Невял плытамі з 2—3 звенаў кіравалі 2—3 сплаўшчыкі Караван плытоў суправаджала арцель, у якую ўваходзілі старшы плытагон (атаман, караваншчык, корнік), дубовікі і весляры на лодках-дубах і рабочыя (гоншчыкі) Супраць цячэння, а таксама на каналах і на р Піна, Ясельда, Бярэзіна, Ула плыты цягнулі лінай (тоўстай вяроўкай) З канца 19 ст караваны плытоў буксіравалі параходы У 1930-я г П ў

Беларусі пачало спыняцца. Пасля Вял. Айч. вайны дзе-нідзе яшчэ бытавала, а ў 1950-я г. знікла зусім, саступіўшы месца перавозкам па чыгунцы і на аўтатранспарце. *Ніна Буракоўская.*

**ПЛЮ́СЫ**, вёска, цэнтр сельсавета ў Браслаўскім р-не, на паўд.-зах. беразе воз. Плюсы. За 26 км на Пн ад Браслава, 15 км ад чыг. ст. Краслава (Латвія). 265 ж., 110 гаспадарак (1998).

У гіст. крыніцах згадваецца з 16 ст. пад назвай Перасвеціца. На думку гісторыка А.Зіміна, адсюль паходзіў дзярж. і грамадскі дзеяч 16 ст. І.С.Перасветаў. П. былі каралеўскім уладаннем, цэнтрам невял. неградавога староства (дзяржання, 8 валок), размешчаным на мяжы з Курляндыяй. У 1784 П. згадваюцца як мястэчка («слабодка») з размешчаным побач панскім дваром. У 18 ст. на сродкі ўладальнікаў П.Сальмановічаў пабудаваны касцёл св. Тройцы. У канцы 18 ст. да касцёла адносіліся 108 паселішчаў, у 1845 налічваліся 1544 вернікі. З 1795 П. ў складзе Рас. імперыі, у Браслаўскім пав. Віленскай губ. У 1854 у П. арганізавана яўр. земляробчая калонія. У пач. 20 ст. П. — сяло Краснагорскай вол. Новааляксандраўскага пав.; пабудаваны мураваны храм і заснавана самастойная парафія; 42 ж. З 1921 у складзе Польшчы, вёска, цэнтр гміны ў Браслаўскім пав. Віленскага ваяв. Меліся касцёл, сінагога, пошта, крамы. 135 ж., 27 гаспадарак (1931). З 1939 у БССР, з 12.10.1940 цэнтр сельсавета ў Браслаўскім р-не. Цэнтр калгаса «Слава». У вёсцы млын, піларама, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, амбулаторыя, аддз. сувязі, дзіцячы сад, магазін. Помнікі: землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну; на месцы бою І.М.Валчкова. Помнік архітэктуры — касцёл (пач. 20 ст.). *Кастусь Шыдлоўскі.*

**ПЛЯБА́НІЯ**, 1) у рымска-каталіцкай царкве адна з назваў царк. прыхода. Гл. *Парафія.* 2) Дом *пробашча* (плябана).

**ПЛЯ́ТЭР**, Б р о э л ь - П л я т э р, Адам Антоні Ануфры (15.6.1790, мяст. Краслаў Дынабургскага пав. Полацкай губ., цяпер г. Краслава, Латвія — 13.1.1862), краязнавец, археолаг, калекцыянер. З роду *Плятэраў.* Скончыў Віленскі ун-т (1817). Чл. Кракаўскага навук. т-ва (1821), *Віленскай археалагічнай камісіі* (1856). Куратар школ Дынабургскага пав. Віцебскай губ., з 1836 маршалак Дынабургскага пав. У выніку падарожжаў па Зах. Дзвіне апісаў помнікі архітэктуры, археалогіі, гіст. мясціны, *Барысавы камяні.* Вывучаў пахаванні на балцка-славянскім сумежжы. Друкаваўся ў час. *«Атэнэум»*, *«Рубон»*, «Przyjaciel ludu» («Сябар народу») і інш. Пісаў пра самабытнасць краю, мясц. абрады, вераванні. Цікавіўся бел. фальклорам. У сваім доме ў Краславе стварыў музей, б-ку, архіў. Сабраў шмат матэрыялаў з Падзвіння, частку якіх перадаў у *Віленскі музей старажытнасцей.* Рукапісы П. захоўваюцца ў б-цы Вільнюскага ун-та.

*Тв.*: O starożytnych kamieniach z napisami znajdujących się w rzece Dzwinie (od XIII wieku) koło Połocka i Dźiesny // Rubon Wilno, 1842. T. 2; O dawnych grobach i starożytnościach odkrytych w Inflantach Polskich // Там жа. 1845. T. 5; Historyczna wiadomość o Cerkwi Przemienienia Pańskiego (Spasa) położonej koło Połocka, o krzyżu darowanym tejże Cerkwi przez Świętą Eufrazynę i o pielgrzymce tej świętej do Jerozolimy // Там жа. 1849. T. 9.

*Літ*: К а х а н о ў с к і Г.А. Адам Плятэр // Бел мова і літ ў школе 1990 № 6; Я г о ж. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX стст. Мн., 1984

*Генадзь Каханоўскі*

Эмілія **Плятэр**. Літаграфія з малюнка Дэверыя. 1835.

**ПЛЯ́ТЭР**, Б р о э л ь - П л я т э р, Эмілія Францаўна (13.11.1806, Вільня — 23.12.1831), бел. фалькларыстка, удзельніца *паўстання 1830—31* у Польшчы, Беларусі і Літве. З 9 гадоў жыла ў маёнтку Ліксна Віцебскай губ. Збірала і апрацоўвала бел. нар. песні, захаплялася бел. харэаграфіяй, пісала вершы, стылізаваныя пад нар. плачы-галашэнні. Калі пачалося паўстанне ў Польшчы, П. 29.3.1831 узняла паўстанне ў мяст. Дусяты (Дусетас). За кароткі час здолела арганізаваць партыз. атрад колькасцю ў 280 стралкоў, 60 коннікаў і некалькі соцень касінераў, і разам са стрыечным братам Ц.Плятэрам павяла атрад на Дынабург (Даўгаўпілс). 30 сак. паўстанцы разбілі невял. рас. атрад каля паштовай ст. Даўгелі, 2 крас. адбыўся бой з ахоўнай часткай ген. Шырмана, потым — бой пад Уценай і 4 крас. захоп мяст. Езяросы. Пасля разгрому казакамі паўстанцаў П. на чале невял. групы партызан далучылася да атрада К.Залускага. 17 мая атрад П. заняўІлькамір, а пасля далучыўся да атрада К.Парчэўскага, які ў чэрв. ўліўся ў рэгулярнае польск. войска Д.Хлапоўскага. П была ўключана ў яго штаб За смеласць і рашучасць у баявых дзеяннях камандаванне паўстанцкімі сіламі прызначыла П. ганаровым камандзірам роты ў пяхотным палку і прысвоіла ёй званне капітана. Не пагадзіўшыся з намерам Хлапоўскага перайсці ў Прусію і скласці зброю, вырашыла самастойна дабрацца да Польшчы. У маёнтку Абламовіча ў кастр. 1831 яна захварэла і памерла. Пахавана ў в. Капчамесціс (Літва). А.Міцкевіч, які ведаў П., напісаў у яе гонар верш «Смерць палкоўніка» (1832). Вобраз П., у значнай ступені рамантызаваны, паслужыў асновай для ўвасаблення у розных відах мастацтва, аб ёй пісалі вершы польскія, франц., ням., англ., венг., італьян. і інш. паэты. У Францыі яе параўноўвалі з Жаннай д'Арк. Мастак В.Косак намаляваў партрэт, з малюнка Дэверыя зроблена літаграфія. Імя П. насіў асобны жаночы батальён 1-й пях. дывізіі імя А.Т.Касцюшкі Войска Польскага, сфарміраваны ў 1943 у СССР.

*Літ* К і с я л ё ў Г.В. Падзорная труба Эмілії Плятэр // Кісялёў Г.В. Радаводнае дрэва. Мн , 1994; Ш в е д В.В. «То ліцвінка Эмілія Плятэр!» // Швед В.В. Падзеі і постаці Гродзенскай даўніны. Гродна, 1995; B r u c h n a l s k i W Emilia Platerówna jako folklorystka // Lud 1906 T 12, C i e p i e ń - k o - Z i e l i ń s k a D Emilia Plater Warszawa, 1966; Z a k r z e w s k i B. «Ach, to była dziewica. » O Mickewiczowskiej Platerównie // Pamietnik literacki. 1976 R. 67, z 3, Я г о ж. Emilia Plater // Zyciorysy historyczne, literackie i legendarne Warszawa, 1980 *Вячаслаў Швед*

**ПЛЯ́ТЭРЫ**, Б р о э л ь - П л я т э р ы, дзяржаўныя дзеячы, шляхецкі род герба ўласнага ў Рэчы Паспалітай. Паходзяць з Вестфаліі, адкуль у 15 ст. перасяліліся ў Інфлянты, дзе валодалі замкам Броэль. У 1829 род П. у Рас. імперыі прызнаны ў графскай годнасці.

Найб. вядомыя:

Г е н р ы к, сын Генрыка. У 1599 атрымаў ад Жыгімонта III Вазы маёнткі Асон і Плясон (Плясына, Існаўды) у Інфлянтах. Меў сыноў Готарда Яна (пачынальнік літ. лініі роду), Андрэя і Вільгельма (пачынальнік жамойцкай лініі).

Г о т а р д Я н (? — 1664), сын Генрыка. Маёр, вызначыўся ў бітвах за Смаленск у 1633 у час *вайны Расіі з Рэчу Паспалітай 1632—34* і ў 1654 у час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67.* У 1641 атрымаў ад Уладзіслава IV пацвярджальны прывілей на ўсе нададзеныя інфлянцкімі магістрамі маёнткі. З яго сыноў былі ваяводамі інфлянцкімі Ян Андрэй (каля 1626 — 24.2.1696) з 1695 і Фабіян (каля 1628—1707) з 1705.

Ф е р д ы н а н д Ф а б і я н В і л ь г е л ь м (каля 1678 — 22.7.1739), сын Яна Андрэя. Займаў пасады ў Інфлянтах, лоўчы ВКЛ у 1735—39, маршалак дворны ВКЛ у 1739.

Я н Л ю д в і к (? — 24.11.1736), сын Яна Андрэя. Пасол на сеймы 1718, 1729, ваявода інфлянцкі з 1735. Валодаў вял. маёнткамі, у т.л. г. Краслава.

К а н с т а н ц і н Л ю д в і к (1722 —

31 3 1778), сын Яна Людвіка Вял пісар ВКЛ у 1746—54, кашталян полацкі ў 1754—58, ваявода мсціслаўскі ў 1758—70, кашталян трокскі з 1770, маршалак Трыбунала ВКЛ у 1754

Юзаф Вінцэнт (11 7 1745, г Краслава — паміж 1 і 6 студз 1806), сын Канстанціна Людвіка Ген -лейтэнант у 1775—91, пісар польны ВКЛ у 1771—83, кашталян трокскі з 1793, староста брэсцкі ў 1770—77, маршалак Трыбунала ВКЛ у 1774, чл Пастаяннай Рады ў 1793—94 У 1775 заснаваў у Талачыне радавую камандорыю Мальтыйскага ордэна

Казімір Канстанцін (1749 — 4 8 1807), сын Канстанціна Людвіка Абозны ВКЛ у 1787, кашталян трокскі ў 1790—93, падканцлер ВКЛ з 1793, чл Пастаяннай Рады ў 1776—88 і 1793—94 Адзін з актыўных дзеячаў Таргавіцкай канфедэрацыі У 1774 заснаваў у Кальніку радавую камандорыю Мальтыйскага ордэна Аўтар дзеннікаў падарожжа караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага ў Канеў на сустрэчу з Кацярынай II у 1787 і падарожжа ў Пецярбург у 1792 (выдадзены Ю І Крашэўскім у 1860 і 1859), публіцыстычных твораў Яго сын Міхал (28 12 1777—1862 або 1863) узяў шлюб з апошняй прадстаўніцай роду баронаў Зіберг цу Вішлінг (Ізабелай Геленай) і прыняў на сябе і нашчадкаў прозвішча Плятэр-Зіберг

Адам Антоні Ануфры (15 6 1790 — 13 1 1862), гл *Плятэр А.А.А*

Эмілія (13 11 1806 — 23 12 1831), гл *Плятэр Э*

Частка радавога архіва захоўваецца ў Нац гіст архіве Беларусі

*Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта*

**ПЛЯХА́НАЎ** Георгій Валянцінавіч [29 11(11 12) 1856, с Гудалаўка Ліпецкага пав Тамбоўскай губ , цяпер Ліпецкая вобл , Расія — 30 5 1918], філосаф, публіцыст, адзін з пачынальнікаў навук сацыялізму ў Расіі і заснавальнік рас сацыял-дэмакратыі, дзеяч рас і міжнар рабочага руху, тэарэтык і прапагандыст марксізму ў Расіі Вучыўся ў Пецярбургскім горным ін-це (1874—76) З 1876 чл народніцкага гуртка «бунтароў» (прыхільнікаў М А Бакуніна) З ліп 1877 чл кіраўніцтва арг-цыі *«Зямля і воля»*, рэдактар аднайменнай газеты Пасля расколу гэтай арг-цыі ў 1879 стаў лідэрам *«Чорнага перадзелу»*, групы якога дзейнічалі ў Мінску і Гродне У 1879 прыязджаў у Мінск для актывізацыі народніцкага руху З 1880 у эміграцыі У 1882—83 перайшоў на пазіцыі марксізму, пераклаў на рус мову «Маніфест камуністычнай партыі» К Маркса і Ф Энгельса (1882) У 1883 заснаваў марксісцкую групу *«Вызваленне працы»* У Віцебску, Гродне, Мінску, Бабруйску, Оршы, Магілеве, Вільні, Пінску, Слуцку былі створаны гурткі, у якіх вывучаліся сац ідэі П З групай П быў звязаны бел пісьменнік-рэвалюцыянер А.К *Гурыновіч*, які прапагандаваў яго працы Адзін са стваральнікаў і кіраўнікоў газ *«Искра»* (1900—03), удзельнічаў у падрыхтоўцы і кіраўніцтве II з'езда РСДРП (1903), пасля якога з-за рознагалоссяў з У І Леніным перайшоў на бок *меншавікоў*, стаў адным з іх лідэраў Працы П «Сацыялізм і палітычная барацьба» (1883), «Нашы рознагалоссі» (1885) шырока распаўсюджваліся ў рабочых гуртках Гродна, Мінска, Вільні, Смаргоні, Ашмянаў, Брэста і інш Асуджаў *Снежаньскае ўзброенае паўстанне 1905*, лічыў, што рэвалюцыя ў Расіі немагчыма ў сувязі з недастатковым развіццем капіталізму У 1-ю сусв вайну стаў на абарончыя пазіцыі і заклікаў да барацьбы з ням імперыялізмам Пасля *Лютаўскай рэвалюцыі 1917* вярнуўся ў Петраград *Кастрычніцкую рэвалюцыю 1917* сустрэў адмоўна, але не выступаў і супраць сав улады П — аўтар прац па гісторыі рэв руху, грамадскай думкі і л-ры, па паліт эканоміцы, рэлігіі, атэізме, маралі

*Тв* Соч Т 1—24 М , Л , 1924—27, Избр философ произв Т 1—5 М , 1956—58, Философско-литературное наследие Г В Плеханова Т 1—3 М , 1973—74, Эстетика и социология Т 1—2 М , 1978

*Літ* Тютюкин С В Первая русская революция и Г В Плеханов М , 1981, Яго ж Г В Плеханов Судьба рус марксиста М , 1997, Лившиц М А Г В Плеханов Очерк обществ деятельности и эстет взглядов М , 1983, Осипов В Д Подснежник. Повесть о Г В Плеханове М , 1985, Пахоменко Н Б Государственно-правовые взгляды Г В Плеханова (1883—1903 гг ) М , 1987, Бержанский А С Г В Плеханов от народничества к марксизму Воронеж, 1990, Плеханова Р Год на Родине // Диалог 1991 № 8—12

*Уладзімір Вернігораў*

**ПЛЯЦЕННЕ**, спосаб вырабу рэчаў злучэннем палос эластычнага матэрыялу пад прамым ці косым вуглом, від рамяства Вядома з неаліту, папярэднічала *ткацтву* і вязанню У 12—14 ст існавала тэхніка шолкавага пляцення Матэрыялы для П — лаза, салома, чарот, мачала, карані дрэў, лыка, бяроста, скура, лучына, ніткі, конскі волас, дубцы арэшніку, ядлоўцу і інш Для П выкарыстоўвалі драўляныя, касцяныя і жал прыстасаванні Стараж ўзоры П дрэнна захаваліся Выяўлены рэшткі сплеценых з лыка сетак, адбіткі плеценых вырабаў на гліне Вядома, што з бяросты і лыка плялі лапці і рыбалоўныя снасці, з ільняных нітак — рыбалоўныя сеткі, са скуры — абутак, паясы, шнуркі, з шарсцяных і льняных нітак — паясы і бранзалеты З развіццём прам-сці П захоўваецца як від дэкар -прыкладнога мастацтва і займае значнае месца ў маст прам-сці Беларусі Сурвэткі, абрусы, лазовыя кошыкі на садавіну і гародніну, цукерачніцы, хлебніцы, саламяныя капелюшы, шкатулкі і інш плеценыя вырабы выпускаюць Брэсцкая, Баранавіцкая, Гродзенская, Магілеўская, Мазырская, Маладзечанская і інш фабрыкі маст вырабаў Шырокую папулярнасць набыло вузельчыкавае П — макрамэ Найб вядомыя майстры П Т Агафоненка, П Анікейчык, К Арцеменка, А Беляновіч, Л Галавацкая, С Галанчанка, В Гаўрылюк, С Каляда, М Кулак, Н Лішчук, А Лук'янец, Т Паўлоўская, Г Сапун, Л Скрыпнічэнка, В Сташкевіч, Т Федаркова, С Шчарбіцкі і інш

*Літ* Сахута Я Беларускае народнае мастацтва [Альбом] Мн , 1980, Яго ж Народное искусство и художественные промыслы Белоруссии Мн , 1982, Яго ж Народнае мастацтва Беларусі Мн , 1997 С 166—186, 190—198

*Людміла Дучыц, Яўген Сахута*

Да арт **Пляценне** кошыкі з лазы (1), каробка з карэння (2)

**ПО́БАЛАВА**, веска ў Рагачоўскім р-не на р Добасна Цэнтр сельсавета За 24 км на ПдЗ ад Рагачова, 145 км ад Гомеля, 7 км ад чыг ст Чырвоны Бераг, каля аўтадарогі Бабруйск—Жлобін 695 ж (1998)

Вядома з 16 ст як веска Рэчыцкага пав ВКЛ З 1595 мястэчка, мела каралеўскі прывілей на гандаль і кірмашы, пацверджаны ў 1788 Належала Зяньковічам, Варанецкім, Жукоўскім, Маліноўскім, з 1865 — Кутаеву У 18 ст пабудавана уніяцкая Петрапаўлаўская царква (не захавалася) З 1793 у Рас імперыі, з 1795 у Бабруйскім пав Мінскай губ У 1880-я г каля 300 ж , 50 двароў, царква, млын, 4 крамы У Вял Айч вайну акупіравана ням фашыстамі, разбурана Адноўлена пасля вайны Мех майстэрня, сярэдняя школа, б-ка, дзіцячы сад, амбулаторыя, аптэка, аддз сувязі, камбінат быт абслугоўвання, магазіны Пабудавана царква Пятра і Паўла (1990) Брацкая магіла чырвонаармейцаў, якія загінулі ў 1918, брацкая магіла сав воінаў і партызан, якія загінулі ў Вял Айч вайну

**ПО́БАЛЬ** Леанід Давыдавіч (н 28 5 1924, в Мікалаева Іўеўскага р-на), бел археолаг Д-р гіст н (1978), праф (1990) Чл Міжнар уніі слав археалогіі, Польскага археал т-ва Скончыў Ін-т

фізічнай культуры (1950), БДУ (1951) У 1950—55 працаваў ва ўстановах нар асветы З 1958 супрацоўнік Ін та гісторыі АН Беларусі, з 1970 заг сектара, з 1980 заг аддзела археалогіі, у 1986—91 — археалогіі першабытнага грамадства З 1991 вядучы навук супрацоўнік, з 1997 гал хавальнік фондаў Музея гісторыі Нац АН Беларусі Асн кірунак навук дзейнасці — вывучэнне гісторыі стараж славян у Еўропе, у т л ў Беларусі

*Тв* Славянские древности Белоруссии (ранний этап зарубинецкой культуры) Мн, 1971, Славянские древности Белоруссии (могильники раннего этапа зарубинецкой культуры) Мн, 1973, Славянские древности Белоруссии (свод археологических памятников раннего этапа зарубинецкой культуры — с середины III в до н э по начало II в н э) Мн, 1974, Древности Белоруссии в музеях Польши Мн, 1979, Археологические памятники Белоруссии Железный век Мн, 1983, Новые данные о древнем Менеске (Минске) // Древности славян и Руси М, 1988, Индоевропейские черты в древностях археологических культур железного века Белоруссии (К проблеме этногенеза славян) // VI Междунар конгр славянской археологии М, 1990 *Таццяна Каробушкіна*

**«ПО́БУГ»**, прыватнаўласніцкі герб, якім карысталіся больш за 160 родаў Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы, у т л Грабоўскія, Доўнар-Запольскія, Канецпольскія, Керсноўскія, Станішэўскія, Філіповічы, Чыжэўскія Мае ў блакітным полі выяву сярэбранай падковы з пастаўленым на ей залатым кавалерскім крыжам Клейнод — над прылбіцай з каронай палова сярэбранага харта У першапачатковым варыянце герб меў чырвонае поле Вядомы з канца 14 ст, у ВКЛ — пасля *Гарадзельскай уніі 1413*

Л Д **Побаль**

Герб **«Побуг»**

**«ПАДПО́ЛЬНАЯ ПРА́ВДА»**, газета, орган *Краявога камітэта камуністычных арганізацый Беларусі і Літвы* Выдавалася ў кастр 1918 у Мінску на рус мове Рэдактары І І Агол («Стальны») і Б З Райцэс Першы нумар выйшаў 12 10 1918 Змяшчала звесткі пра паліт жыцце ў Беларусі і Сав Расіі, падзеі ў Германіі, адозву Гал к-та ЯСДРП «Палей-Цыен» у падтрымку сав улады, справаздачу аб канферэнцыі камуністаў Мінска, публіцыстычныя матэрыялы Выйшлі 2 нумары агульным тыражом 10 тыс экз Пасля крытыкі са старонак газ *«Звязда»* за недакладнасць змешчанай інфармацыі спыніла дзейнасць *Мікалай Сяменчык*

**ПО́ЗВА**, позыў да права, пісьмовы выклік на суд, які рабіў бок павадовы боку пазванаму У ВКЛ з П пачынаўся судовы працэс Складалася П *пісарам* або самой зацікаўленай асобай, змацоўвалася дзярж *пячаткай* і подпісам пісара Выклік у суд рабіўся ад імя вял князя (П земская) або ад імя старосты (П замкавая) Уручалася П за 4 тыдні да пачатку судовага пасяджэння, а калі возны не мог перадаць яе пазванаму асабіста — за 6 тыдняў У выпад ках, якія патрабавалі неадкладнага разгляду, тэрмін скарачаўся да 10 дзен Пра ўручэнне П возны падаваў суду рэляцыю, за ўручэнне П яму належала пэўная плата Яўка па П была абавязковай За няяўку бок пазваны караўся штрафам (гл *Нястаннае*), бок павадовы мог прайграць справу П маглі быць і вуснымі, асабліва ў грамадзянскіх справах, калі возны прыводзіў адказчыка ў суд *Генадзь Маслыка*

**ПО́ЗЕРН** Барыс Паўлавіч [7(19) 7 1882, Ніжні Ноўгарад — 25 2 1939], дзяржаўны і паліт дзеяч, удзельнік барацьбы за сав уладу ў Беларусі Вучыўся ў Маскоўскім ун-це З 1903 на падп рабоце ў Ніжнім Ноўгарадзе, Самары, Казані, Волагдзе, Маскве, Мінску Пасля Лют рэвалюцыі 1917 першы старшыня Мінскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў (да ліп 1917) Удзельнік Кастр рэвалюцыі 1917 на Пскоўшчыне, чл Пскоўскага ВРК, камісар Паўн фронту У 1918 камісар Петраградскай ваен акругі, адначасова член Рэўваенсавета Балт флоту Удзельнік грамадз вайны, чл РВС 5-й і 7-й арміі, Зах і Усх франтоў З 1922 сакратар Паўн -Зах бюро ЦК РКП(б), з 1926 рэктар Ленінградскага камуніст ун-та, з 1930 сакратар Ленінградскага абкома ВКП(б), з 1937 пракурор Ленінградскай вобл Чл ВЦВК і ЦВК СССР Беспадстаўна рэпрэсіраваны ў 1937, рэабілітаваны пасмяротна

**«ПО́КЛІЧ»**, бел грамадска-паліт часопіс, выдаваўся з вясны 1926 да вясны 1927 у г Каўнас (Літва) на бел мове Выходзіў нерэгулярна Рэдактары Рагінскі, Е Гайдукевіч (з 2-га нумара) Асвятляў унутр і знешнюю палітыку ўрада Літвы, разглядаў спосабы вырашэння аграрнага пытання і стан асветы (арт «Дэкларацыя кабінета міністраў», «Новы сейм і палітычная сітуацыя», «Зямельнае пытанне» Скрутнага, «Літоўска-савецкі дагавор і яго перспектывы» А Пуцяты, «Справа Вільні», «Беларусы і літоўцы», «Некалькі цыфраў аб становішчы беларусаў у Літве» пад псеўд Настаўнік і інш) Шмат увагі аддаваў тэме бел нац -вызв руху («Справа паняволеных народаў і шляхі беларускага адраджэння» Пуцяты, «Беларусы Літвы», «Літоўцы і беларусы», «Беларусы і Пілсудскі»), дзярж і культ будаўніцтву ў БССР («Далучэнне Гомельшчыны да Радавай Беларусі», «Рэзалюцыя Прэзідыума ЦВК СССР па дакладу ЦВК БССР», «Пятыя ўгодкі існавання БДУ у Мінску» і інш), падзеям у Зах Беларусі Змяшчаў выступленні нар паэта Латвіі Я Райніса, вучоных М Біржышкі і Е Блесэ на акад канферэнцыі па рэформе бел правапісу і азбукі ў Мінску (ліст 1926), творы М Чарота, Я Пушчы, бел літаратараў Літвы А Палына, М Бяздольнага, Я Косцевіча У рубрыцы «Хроніка беларускага жыцця» інфармаваў пра грамадска-культ дзейнасць бел суполак у розных краінах Выйшла 10 нумароў, асобныя пад назвай «Наш покліч» Закрыты літоўскай ваен цэнзурай *Арсень Ліс*

**«ПО́КЛІЧ»**, газета, орган Бел партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў у Зах Беларусі Выдавалася з 24 11 1927 у Вільні на бел мове 2 разы на месяц Рэдактар Радзюшка Аналізавала грамадска-паліт становішча ў Зах Беларусі пасля разгрому польскімі ўладамі Бел сял -работніцкай грамады і звязанага з ей масавага легальнага бел руху, крытыкавала прадстаўнікоў паланафільскай арыентацыі ў асобе Бел часовай (нацыянальнай) рады на чале з Паўлюкевічам, групы Ф Умястоўскага, пазіцыю лідэраў Бел сял саюза і Бел хрысціянскай дэмакратыі (арт «На шляху самаарганізацыі», «Шляхам самаарганізацыі»), ставіла задачу аб'яднання працоўных на аснове барацьбы за сац роўнасць і нац свабоду Разам з рус, укр і армянскімі сацыялістамі-рэвалюцыянерамі прапагандавала ідэю «Сацыялістычнай лігі Усходу» (апублікавала дэкларацыю яе ініцыятыўнай групы), шмат увагі адда-

лірнае, касцярэзнае, гарбарнае, шавецкае, будаўнічае і інш З сярэдзіны 12 ст вядомы імёны знакамітага дойліда Іаана, які пабудаваў цэрквы ў Бельчыцкім Барысаглебскім манастыры і *Полацкую Спаса-Ефрасіннеўскую царкву* у Спаскім манастыры, і ювеліра Лазара *Богшы*, які змайстраваў у 1161 *Крыж Ефрасінні Полацкай* У 1105 (магчыма, з 992) у П існавала епіскапская кафедра (гл *Полацкая праваслаўная епархія*) Вялося каменнае будаўніцтва (*Полацкі Сафійскі сабор* пабудаваны ў сярэдзіне 11 ст), у 12 ст склалася *Полацкая школа дойлідства*, якая зрабіла ўплыў на будаўніцтва ў Гродне, Смаленску, Ноўгарадзе і інш гарадах З 988 полацкім князем быў сын Рагнеды *Ізяслаў Уладзіміравіч* (памер у 1001), з 1003 — *Брачыслаў Ізяславіч*, які здзейсніў у 1021 паход на Ноўгарад Пры *Усяславе Брачыславічу* (1044—1101) Полацкае княства дасягнула найб росквіту Нават пасля падзелу ў 1101 княства паміж сынамі Усяслава П заставаўся буйным паліт цэнтрам і гал канкурэнтам Кіева У 1127 кіеўскі кн Мсціслаў Уладзіміравіч арганізаваў паход паўд -рус князёў супраць палачан, захапіў іх і ў 1129 выслаў у Візантыю Але пасля вяртання іх дзяцей на радзіму барацьба працягвалася У 1-й чвэрці 12 ст актывізавалася гар веча — сход палачан для вырашэння грамадскіх спраў, пытанняў вайны і міру, гандлю, судовых спрэчак Ад імя веча («мужоў палачан») падпісваліся дагаворы з Рыгаи і ганзейскімі купцамі У 1132 веча абрала князем унука Усяслава Брачыславіча Васільку У 1151 і 1158 за княжацкі трон у П змагаліся друцкі кн Рагвалод Барысавіч і мінскі кн Расціслаў Глебавіч У 1161 полацкім князем стаў *Усяслаў Васількавіч* У паліт жыцці горада павялічвала роля гандлёва-рамесніцкага насельніцтва, аб чым сведчыць існаванне купецкіх арг-цый У 11—12 ст горад размяшчаўся на пл каля 80 га, меў каля 8 тыс жыхароў, раз вітую планіровачную структуру і складаўся з паселішча на беразе Палаты (пачатковае гарадзішча і паселішча), Верхняга замка, Вял пасада (на правым беразе Зах Дзвіны) і Запалоцця (за р Палатой) У 13 ст полацкія дружыны разам з лівамі, латгаламі і эстамі змагаліся супраць ням крыжакоў *Якаў Палачанін* вызначыўся мужнасцю ў *Неўскай бітве 1240* Ужо ў складзе ВКЛ (пач 14 ст) полацкія дружыны хадзілі ў паходы супраць крыжакоў Лівонскага ордэна У 14 ст вядомы полацкія князі Воін, Глеб, Андрэй Альгердавіч (гл *Андрэй Полацкі*) З 1392 у П кіравалі намеснікі вял князя У канцы 14 ст польскі гісторык Я Чарнкоўскі, апавядаючы пра месца зняволення Ягайлы, назваў П «крэпасцю Белай Русі» У 14 ст заселены левы бераг Зах Дзвіны Горад заставаўся адным з самых буйных у княстве У 1410 полацкія харугвы ўдзельнічалі ў разгроме Тэўтонскага ордэна пад Грунвальдам Каля 1490 у горадзе нарадзіўся бел першадрукар і асветнік, культ дзеяч эпохі Адраджэння



Герб **Полацка** 16 ст

Ф *Скарына* У 1498 П атрымаў магдэбургскае права, быў створаны магістрат, да якога перайшлі адм функцыі кіравання З 1504 цэнтр *Полацкага ваяводства* З 16 ст ўжываўся герб горада у блакітным полі трохмачтавы карабель з разгорнутымі ветразямі, вада сярэбраная У Лівонскую вайну 1558—83 П у 1563 заняты маск войскам Івана IV (гл *Полацка абарона 1563*), у 1579 адваяваны войскамі С Баторыя У 1580 у горад запрошаны прадстаўнікі ордэна езуітаў, якія ў 1581 заснавалі *Полацкі езуіцкі калегіум* (у 1812 пераўтвораны ў *Полацкую езуіцкую акадэмію*, якая праіснавала да 1820, пры калегіуме дзейнічала *Полац-*

План **Полацка** 1707

*кая друкарня*). У П. знаходзіліся *Полацкі кляштар бернардзінцаў* (з 15 ст.), *Полацкі кляштар францысканцаў*, Полацкі кляштар дамініканцаў, *Полацкае вышэйшае піярскае вучылішча* (з 18 ст.), уніяцкія (з 17 ст.) і правасл. *Полацкія манастыры.* З прыняццем *Брэсцкай уніі 1596* Сафійскі сабор у П. стаў кафедральным уніяцкім саборам. У канцы 16 ст. planіровачная структура горада складалася з Верхняга і Ніжняга замкаў і 6 пасадаў: Вялікага, Запалоцкага, Востраўскага, Якіманскага, Крыўцова (за Зах. Дзвіной), Слабодскага (уздоўж р. Бельчыца). Было каля 80 вуліц і завулкаў. У пач. 1580-х г. узведзены будынкі езуіцкага калегіума на в-ве Зах. Дзвіны (у 17 ст. перанесены на Ніжні замак). Верхні і Ніжні замкі былі абкружаны драўлянымі сценамі з вежамі і злучаліся паміж сабой пад'ёмным мостам, перакінутым цераз Чорны ручай. У 1654—63 узведзены земляны вал з драўлянымі сценамі і ровам вакол Вялікага пасада і Запалоцця. У Верхнім замку пабудаваны 4 драўляныя вежы, у Ніжнім замку — новыя драўляныя сцены. Абарончыя ўмацаванні неаднаразова гарэлі і зноў аднаўляліся. У 1601 узніклі першыя рамесніцкія цэхі — кавалёў, кацельшчыкаў, слесараў, мечнікаў, залатых спраў майстроў і шаўцоў, гарбароў, шапачнікаў, краўцоў, кушняроў. У сярэдзіне 17 ст. ў П. каля 20 тыс. ж., асн. частку якіх складалі рамеснікі. У *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34* у горадзе ўспыхнула *Полацкае паўстанне 1633.* У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* П. заняты рус. арміяй (1654), паводле *Андросаўскага перамір'я 1667* вернуты Рэчы Паспалітай. У 17 ст. пры *Полацкім Богаяўленскім манастыры* існавалі брацтва і школа, у якой з 1656 выкладаў знакаміты педагог, публіцыст, паэт, драматург і царк. дзеяч *Сімяон Полацкі.* У Паўночную вайну 1700—21 каля П. стаялі рус. войскі. У чэрв. 1705 іх наведаў Пётр I, які правёў у П. месяц. У выніку 1-га і 2-га падзелаў Рэчы Паспалітай у 1772 да Рас. імперыі адышла правабярэжная, у 1793 — левабярэжная часткі горада. З 1776 П. — цэнтр *Полацкай правінцыі*, з 1776 — *Полацкай губерні*, у 1778—96 — *Полацкага намесніцтва*, з 1792 — цэнтр павета Беларускай, з 1802 — Віцебскай губ. У 1781 зацверджаны новы герб горада — «Пагоня» (на сярэбраным полі выява конніка са шчытом і ўзнятым мячом). Да сярэдзіны 18 ст. склалася прамавугольная планіроўка цэнтр. часткі горада, у 1778 для правабярэжнай часткі П. распрацаваны рэгулярны праектны план. Уздоўж Зах. Дзвіны па гал. вуліцы (сучасны праспект К.Маркса) запраектаваны 3 плошчы: галоўная, плошча гар. магістрата, гандлёвая. Гал. плошча перад езуіцкім калегіумам і касцёлам у канцы 18 — пач. 19 ст. забудавана адм. будынкамі ў стылі класіцызму (захаваліся часткова). У вайну 1812 франц. войскі былі спынены рус. корпусам П.Х.Вітгенштэйна па дарозе на Санкт-Пецярбург за 25 км ад П. 7.10.1812 пры ўдзеле апалчэнцаў і партызан рус. войскі вызвалілі П. ад напалеонаўскіх захопнікаў (гл. *Полацкія бітвы 1812*). У 1850 на гал. плошчы горада быў адкрыты велічны помнік на ўшанаванне П. ў вайне 1812 (разбураны ў 1930-я г.). У 19 ст. ў горадзе пераважала рамесная вытворчасць. У 1817 у П. 3340 ж. У 1840—50-я г. было 6—9 гарбарняў (па 3—6

Панарама цэнтра **Полацка**. З малюнка Дз. Струкава. 1864.

Від на **Полацк** з боку Задзвіння. Канец 19 — пач. 20 ст.

Ніжнепакроўская вуліца ў **Полацку** Канец 19 — пач 20 ст

рабочых у кожнай), 3—5 цагельняў, 2—3 піваварні, 8—10 ганчарняў (2—4 рабочыя ў кожнай) У 1860-я г працавалі тытунёвая ф-ка, гарэлачны з-д (каля 20 рабочых) У 1885 у П 28 прадпрыемстваў (130 рабочых) Значнае месца ў развіцці горада займаў гандаль, пашырэнню якога спрыяла адкрыццё ў 1866 руху на ўчастку Дынабург—Полацк Рыга-Арлоўскай чыгункі У 1860 працавалі 122 крамы, у 1865 — 456 У 1897 у П 20 294 ж У 1835 на базе езуіцкай акадэміі і піярскага вучылішча адкрыты *Полацкі кадэцкі корпус*, які праіснаваў да 1918 З 1872 працавала *Полацкая настаўніцкая семінарыя* Паводле пастановы *Полацкага царкоўнага сабора 1839* уніяцкая царква была далучана да рускай праваслаўнай У пач 20 ст працавалі жаночая дзярж гімназія (гл ў арт *Полацкія гімназіі*), 6 вучылішчаў рознага профілю, 5 царк-прыходскіх школ, Талмуд-Тора (яўр рэліг школа) У 1903—04 было 288 рамесных майстэрняў (1198 рабочых, у 1909 — 2060 рабочых) У 1904 створана *Полацкая арганізацыя РСДРП(б)* У 1-ю сусв вайну П — прыфрантавы горад 15(28) 3 1917 у горадзе створаны Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў Сав ўлада ўстаноўлена 18 11 1917 У ліст 1917 тут адбыўся *Другі з езд салдат 3-й арміі Заходняга фронту*, у снежні — *Трэці з'езд салдат 3-й арміі Заходняга фронту* З 25 2 да 21 11 1918 горад акупіраваны герм войскамі 20 9 1919 польскія войскі захапілі левабярэжную частку П, 15 5 1920 вызвалена Чырв Арміяй З 1924 у БССР, цэнтр *Полацкага раёна*, у 1924—30 і 1935—38 — *Полацкай акругі* Са студз 1938 у Віцебскай вобл, з 27 9 1938 горад абл падпарадкавання Асн галінамі прам-сці былі металургічная, металаапрацоўчая, абутковая, харчовая, паліграфічная (працавалі 3 друкарні), вытв-сць будматэрыялаў Да пач 1940 дзейнічалі 3 электрастанцыі П стаў цэнтрам, які забяспечваў прамысл вырабамі групу раёнаў ПнЗ Беларусі У 1926 адкрыты *Полацкі краязнаўчы музей*, у 1936 на базе мясц тэатра рабочай моладзі створаны калгасна-саўгасны тэатр У 1939 у П 29,6 тыс ж У 1940—41 працавалі 16 агульнаадук школ, будаўнічы і лясны тэхнікумы, школьнае і дашкольнае педвучылішчы, 11 клубаў, кінатэатр, 9 масавых б-к У пач Вял Айч вайны часці Чырв Арміі і гарнізон Полацкага ўмацаванага раёна больш за 3 тыдні стрымлівалі праціўніка на подступах да горада (гл *Полацка абарона 1941*) 16 7 1941 П акупіраваны ням-фаш захопнікамі, якія знішчылі тут каля 150 тыс ваеннапалонных і жыхароў, усе прамысл прадпрыемствы, культ-асв установы, 96% жыллёвага фонду Дзейнічала *Полацкае патрыятычнае падполле* Вызвалены 4 7 1944 войскамі 1-га Прыбалт фронту і партызанамі ў ходзе *Полацкай аперацыі 1944* 31 вайсковай часці і злучэнню, якія вызначыліся пры вызваленні П, нададзены ганаровыя найменні «Полацкіх» У 1944—54 цэнтр *Полацкай вобласці*, з 1954 раённы цэнтр Адноўлены разбураныя ў вайну і пабудаваны новыя прамысл прадпрыемствы У 1950—60-я г ў асн завершана рэканструкцыя цэнтр часткі П Гал магістраль горада — праспект К Маркса — аб'ядноўвае ў адзіную сістэму асобныя планіровачныя раёны Адм-грамадскі цэнтр П — пл Свабоды 64,2 тыс ж у 1970 Генплан 1972 прадугледжваў паступовае збліжэнне забудовы Полацка і Наваполацка Дзейнічаюць прадпрыемствы металаапрацоўчай (аўтарамонтны з-д, з-д с-г абсталявання), хімічнай (ВА «Шкловалакно», пала-бел прадпрыемства «АДЖЫ ВУПОЛСТО»), будматэрыялаў (з-д жалезабетонных вырабаў, камбінат будматэрыялаў), дрэваапрацоўчай (акц т-ва «Палатэск»), лёгкай (акц т-ва «Мона», ф-ка маст вырабаў, ільнозавод), харчо-

Від на ўсходнюю частку **Полацка** Канец 19 — пач 20 ст

Мікалаеўскі вакзал у **Полацку** Канец 19 — пач 20 ст

вай («Камбінат хлебапрадуктаў», мясакамбінат, кансервавы з-д, малочны камбінат, хлебазавод, піўзавод, вінзавод) прам-сці; паліграфпрадпрыемства «Спадчына Ф.Скарыны», ЦЭЦ, раённае аб'яднанне Дзяржкамсельгастэхнікі, гідраметэастанцыя, лясгас, рыбгас «Полацкі». У горадзе Полацкі філіял Бел. камерцыйнага ун-та кіравання, палітэхнікум, лясны і с.-г. тэхнікумы, пед. каледж, 3 ПТВ, мед. вучылішча, Нац. гімназія, 15 сярэдніх, муз., маст. і 2 спарт. школы, 31 дашкольная ўстанова, Дом дзіцячай творчасці, Цэнтр нац. культур і рамёстваў, 2 нар. тэатры, кінатэатр, 3 палацы культуры, 21 б-ка, 2 стадыёны, плавальны басейн, 2 бальніцы, 2 паліклінікі, *Полацкі гісторыка-культурны музей-запаведнік*, 8 музеяў, у т.л. *Полацкі музей беларускага кнігадрукавання*, музей-бібліятэка Сімяона Полацкага, музей гісторыі архітэктуры Сафійскага сабора, *Полацкі музей баявой славы* і інш.; дзейнічаюць 28 грамадскіх аб'яднанняў і 4 паліт. партыі. П. — цэнтр Полацкай епархіі (дзейнасць адноўлена ў 1989). Помнікі архітэктуры: Богаяўленскі манастыр (18 ст.), лютэранская царква (1775), Брацкая школа (канец 18 ст.), дом Пятра I (1692), карпусы езуіцкага калегіума (18—19 ст.); захаваліся фрагменты жылой забудовы 17—19 ст. Брацкія магілы сав. воінаў. Помнікі: Ф.Скарыне, У.М.Азіну, ахвярам фашызму, сав. ваеннапалонным і ахвярам фаш. тэрору, сав. воінам, воінам-гвардзейцам, камсамольцам Полаччыны, Вызвалення; Курган Бессмяротнасці. Помнікі археалогіі — гарадзішча (9—10 ст.) і вал Івана IV Грознага (16 ст.); эпіграфікі — Барысаў камень (12 ст.).

Від з Чырвонага моста на Полацк. Канец 19 — пач. 20 ст.

Агульны выгляд Полацка. Канец 19 — пач. 20 ст.

*Літ.*: Полоцкая ревизия 1552 г. М., 1905; Полоцко-Витебская старина. Кн. 1, вып. 1—3. Витебск, 1911—16; Егоров Ю. Градостроительство Белоруссии. Мн., 1954; Алексеев Л.В. Полоцкая земля в IX—XIII вв.: (Очерки истории Северной Белоруссии). М., 1966; Штыхов Г.В. Древний Полоцк IX—XIII вв. Мн , 1975; Яго ж. Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.). Мн., 1978, Полоцкие грамоты: XIII — начало XVI вв. М., 1977—82; К 1125-летию Полоцка: Конф. «История и археология Полоцка и Полоцкой земли». Полоцк, 1987; Полоцк: Ист. очерк. 2 изд. Мн., 1987; Раппопорт П.А. Полоцкое зодчество XII в. // Сов. археология. 1988. № 3; Ермаловіч М.І. Старажытная Беларусь: Полацкі і навагародскі перыяды. Мн., 1990; Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкае зямлі: (Навук. канф., прысв. 1130-годдзю Полацка). Полацк, 1992; Полоцкий летописец: Ист.-лит. журн. Полоцк, 1992—93. № 1—2; Селицкий А.А. Живопись Полоцкой земли XI—XII вв Мн., 1992; Арлоў У.А. Таямніцы полацкай гісторыі. Мн., 1994; Сагановіч Г.М. Невядомая вайна, 1654—1667. Мн , 1995; Полацк: карані нашага радавода: Міжнар. навук. канф. Полацк, 1996; Жыватворны сімвал Бацькаўшчыны: Гісторыя Крыжа святой Еўфрасініі Полацкай. Мн., 1998; Загарульскі Э.М. Заходняя Русь, IX—XIII стст. Мн., 1998; Тарасаў С.В. Полацк, IX—XVII стст.: Гісторыя і тапаграфія. Мн., 1998.

*Георгій Штыхаў* (9 — сярэдзіна 18 ст.), *Тамара Джумантаева, Ларыса Сяргеенка* (сярэдзіна 18 ст —1998).

**ПО́ЛАЦКА АБАРО́НА 1563**. Адбылася ў час *Інфлянцкай вайны 1558—82* супраць рас. войска. 31.1.1563 Полацк быў абложаны больш як 60-тысячнай арміяй пад камандаваннем цара Івана IV. Горад абараняў мясц. гарнізон (у т.л. некалькі польскіх і найманых нямецкіх рот), полацкая шляхта, гараджане на чале з ваяводам С.*Давойнам*. Іван IV меркаваў пачаць штурм горада з паўд. боку, з-за Дзвіны. З-за таяння лёду 3 лют. цар перагрупаваў войскі і асн. сілы размясціў з усх. боку ўмацаванага Вял. пасада. 5 лют. пры падтрымцы артылерыі рас. войскі падпалілі адну з вежаў над Дзвіною, захапілі яе і ўварваліся ў пасад, але былі выбіты. Пасля гэтага штурму бакі з разлікам на падыходзячую дапамогу пачалі перагаворы. Вял. гетман ВКЛ М.Радзівіл Руды і польны гетман Р.Хадкевіч змаглі сабраць у Мінску толькі каля 2500 чал. войска. Іх атрады падышлі да Полацка не бліжэй як за некалькі міляў і не здолелі аказаць дзейснай падтрымкі, бо ахоўвалі шляхі на Вільню. Цар выкарыстаў перадышку для ўсталявання перасоўных умацаванняў пад самымі сценамі Полацка. 7 лют. прыбыла цяжкая рас. артылерыя. 8 лют. пачаўся артабстрэл, які разбурыў умацаванні Вял. пасада. Некат. з военачальнікаў полацкага гарнізона прапаноўвалі абараняць сцены пасада, але Давойна адвёў свае сілы ў *Полацкі Верхні замак*, а Вял. пасад загадаў падпаліць. 9 лют. рас. войскі захапілі пасад і пачалі артабстрэл замка з усіх бакоў. Абложаныя рабілі вылазкі, але яны не прынеслі рашучага поспеху. 15 лют. Давойна згадзіўся здаць замак і прыбыў у стаўку цара. Але і пасля гэтага некат. абаронцы працягвалі супраціўленне, ім было дазволена з маёмасцю і зброяй без перашкод пакінуць Полацк. Горад быў разрабаваны, полацкія мана-

План **Полацка** ў час акупацыі горада германскімі войскамі ў 1918

хі-бернардзінцы пасечаны, а яўрэі патоплены ў Дзвіне. Шмат гараджан і шляхты было выведзена ў палон, у т.л. Давойна і епскап Арсеній. Заняцце Полацка — буйнейшая перамога Маскоўскай дзяржавы ў вайне, выклікала шырокі міжнар. рэзананс і прыспешыла заключэнне *Люблінскай уніі 1569* паміж ВКЛ і Польшчай.

*Лit* Александров Д.Н., Володихин Д.М. Борьба за Полоцк между Литвой и Русью в XII—XVI в. М., 1994; Белы А. Полацк у нямецкіх «лятучых лістках» XVI ст.: Інфлянцкая вайна на старонках першых еўрапейскіх газет // Спадчына. 1997. № 6.

**ПО́ЛАЦКА АБАРО́НА 1941** у Вялікую Айчынную вайну Вялася часцямі 22-й арміі (ген.-лейт Ф.А.Ершакоў) Зах. фронту 27 чэрв. — 15 ліпеня. Лінія абароны праходзіла на рубяжы Дзісна—Ула з уключэннем дотаў Полацкага ўмацаванага раёна (УР, абараняла 174-я стралк. дывізія, камандзір якой А.І.Зыгін з 29 чэрв. ўзначальваў Полацкі баявы ўчастак). Супраць 6 дывізій 22-й арміі ў паласе 260 км гітлераўцы сканцэнтравалі 16 дывізій, у т.л. ў раёне Дзісны 5. З набліжэннем фронту насельніцтва Полацка капала траншэі, будавала абарончыя ўмацаванні; быў сфарміраваны батальён (пазней атрад унутр. абароны) для аховы прамысл. аб'ектаў, чыгункі, мастоў Пярэдні край абароны быў умацаваны процітанк. збудаваннямі. З Пд і ПдЗ абарону трымалі часці і падраздзяленні 17-й стралк. дывізіі (50-ы стралк. полк — непасрэдна горад). На далёкіх подступах да горада ворага стрымлівала 50-я стралк. дывізія і інш. часці 11-й арміі. 27 чэрв. ў раёне в. Кутняны быў знішчаны ням. авангард — механізаваная калона, якая спрабавала захапіць масты цераз Зах. Дзвіну. З 29 чэрв. Полацк падвяргаўся масіраваным атакам, з 3 ліп. — бамбардзіроўкам 474-ы полк 174-й дывізіі затрымаў гал. калоны ворага, што ішлі да горада з боку Даўгаўпілса і Маладзечна, а 6 ліп. часці дывізіі адкінулі на паўд. бераг Зах. Дзвіны часці 3-й танк. групы Гота, знішчыўшы вял. колькасць танкаў і інш. тэхнікі ворага. 7—9 ліп. абарона месцамі была прарвана, асн. ўдары праціўнік перанёс у абыход Полацкага УР. Маючы перавагу ў сілах, гітлераўцы стварылі пагрозу акружэння полацкага гарнізона. У ноч на 16 ліп. Зыгін пачаў выводзіць дывізію з акружэння і 20 ліп. прарваў яго, збярогшы людзей і тэхніку. Баі ў Полацкім УР працягваліся да 19 ліп. П. а. затрымала прасоўванне захопнікаў на У больш як на 2 тыдні, зрабіла значны ўклад у зрыў гітлераўскага плана «маланкавай вайны».

**«ПО́ЛАЦКА-ВІ́ЦЕБСКАЯ ДАЎНІНА́»** («Полоцко-Витебская старина»), выданне *Віцебскай вучонай ар-*

Плошча Ф.Скарыны ў **Полацку**. 1998

Выгляд **Полацка** з боку Заходняй Дзвіны. 1998

*хіўнай камісіі* Выйшла 3 т (т 1, 1911, т 2, 1912, т 3, 1916, усе ў Віцебску) Асн тэматыка — гісторыя Полацка-Віцебскага краю 9—19 ст і дакументы аб вайне 1812 Надрукаваны артыкулы А П *Сапунова* «Гістарычны нарыс Віцебскай Беларусі» (т 1), «Сказанні ісландскіх ці скандынаўскіх саг аб Полацку, князях полацкіх і р Заходняй Дзвіне» (т 3), Д С *Леанардава* «Полацкі князь Усяслаў і яго час» (т 2, 3), П М *Красавіцкага* «Помнікі царкоўнай даўніны ў Віцебскай губерні і іх захаванне» (т 1), І Я Мітрошанкі «Езуіты ва ўсходняй частцы Беларусі з 1579 да 1772 года» (т 2) і інш Пра падзеі вайны 1812 на Віцебшчыне змяшчаліся матэрыялы, якія захоўваліся ў Віцебскім губ архіве, асабістых архівах нашчадкаў тых падзей, а таксама тыя, што друкаваліся ў рас і франц выданнях Змешчана шмат матэрыялаў выяўленчага характару фотаздымкі і партрэты дзярж, ваен, рэліг дзеячаў, малюнкі археал і арх помнікаў Віцебшчыны і Полаччыны У выданні асвятляліся падзеі навуковага, культурнага і грамадскага жыцця адкрыцце ў Віцебску настаўніцкага ін-та, рэальнага вучылішча, аддзялення Маскоўскага археал ін-та, пабудова і адкрыцце помніка героям вайны 1812, юбілей Полацкага кадэцкага корпуса (1835—1910) Рэгулярна змяшчаліся справаздачы пра дзейнасць мясц архіўнай камісіі

*Літ* Издания губернских ученых архивных комиссий 1884—1923 Вып 1 (Бессарабская, Витебская, Владимирская, Воронежская, Вятская, Екатеринославская, Иркутская, Калужская, Костромская и Курская архивные комиссии) New York, 1994, Шумейка М « Захавайцы для нашчадкаў» // Бел мінуўшчына 1995 № 6 *Міхась Шумейка*

**ПОЛАЦКАЕ ВАЯВОДСТВА,** адм-тэр адзінка ў ВКЛ у 16—18 ст Ахоплівала тэр ранейшай *Полацкай зямлі*, намеснікі якой з пач 16 ст (каля 1504) пачалі называцца ваяводамі Цэнтр — г Полацк Мела харугву ружовага (паводле інш звестак — белага) колеру з выявай герба «Пагоня» Карысталася *абласнымі прывілеямі*, якія ўстанаўлівалі *полацкае права*, ваявода мог прызначацца толькі са згоды мясц шляхты У выніку *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1534—37* ад П в да Расіі адышлі воласці Завалочча і Себеж У час *Інфлянцкай вайны 1558—82* у 1563 амаль усе П в было занята рас войскамі, у 1564 большая частка тэрыторыі на Пд ад Дзвіны адваявана ВКЛ і паводле перамір'я 1570 засталася ў яго складзе У гэты час большасць Лукомскай вол уключана ў Аршанскі пав, а ад Мінскага ваяв далучана невял лясістая тэрыторыя на левым беразе Бярэзіны Цэнтр і паўн часткі П в з Полацкам вернуты ў склад ВКЛ у 1579 Пасля гэтага структура кіравання ў ваяводстве прыведзена ў адпаведнасць з адм рэформай 1565—66 і Статутам ВКЛ 1566 адменена дзеянне абл прывілеяў (за выключэннем права мясц шляхты выбіраць ваяводу, пацверджанага дэкрэтам 1569), уведзены пасады кашталяна, суддзі земскага, падкаморага і інш, збіраўся павятовы сеймік, на якім выбіраліся 2 паслы на сейм П в не падзялялася на паветы Большасць яго тэр на Пн ад Дзвіны займалі слабазаселеныя дзярж і магнацкія воласці (частка іх у 17—18 ст перайшла да езуітаў), асн частка шляхецкіх маенткаў ляжала на Пд ад Дзвіны Буйнейшымі паселішчамі былі Асвея, Бешанковічы, Глыбокае, Дзісна, Друя, Лепель, Ула, Ушачы і інш Пасля *вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18* да П в далучаны воласці Себеж і Завалочча, у *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34* яны часова заняты рас войскамі У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* у 1654—55 рас армія цалкам заняла П в, большасць яго тэрыторыі вернута ў ВКЛ у 1658—60 Паводле *Андросаўскага перамір'я 1667* Себеж адышоў да Расіі, але ў 1678 зноў далучаны да П в, што замацавана *«Вечным мірам» 1686* У выніку 1-га падзелу Рэчы Паспалітай 1772 паўн частка П в да Дзвіны з г Полацкам адышла да Расіі і ўвайшла ў склад *Пскоўскай губерні* Рэшта П в існавала да 2-га падзелу Рэчы Паспалітай 1793, павятовы сеймік збіраўся ў гэты час ва Ушачах

Ваяводы С Глябовіч (пач 16 ст — 1513), А Гаштольд (1514—19), С Осцік (1519), П Кішка (1519—32), Я Ю Глябовіч (1532—42), С Давойна (1542—73), М Дарагастайскі (1576—97), А Сапега (1597—1613), М Друцкі-Саколінскі (1613—21), Я Кішка (1621—54), А Л Радзівіл (1654), Я К Копаць (1658—70), Я К Сапега (1670—82), Я Я Агінскі (1682—84), Д М Слушка (1686—1713), С М Э Дэнгаф (1723—28), А М Сапега (1754—75)

*Літ* Оглоблин Н Объяснительная записка к карте Полоцкого повета во 2-й по-

ловине XVI-го в // Сб Археол ин-та СПб, 1880 Кн 3—4, Панов В А Социальный строй Полоцкой земли по данным «Полоц кой ревизии 1552 г» // Журн Мин-ва нар просвещения 1915 № 4—5, Пичета В И Полоцкая земля в начале XVI в // Пичета В И Белоруссия и Литва XV—XVI вв М, 1961, Спірыдонаў М Полаччына XVI ст // За передовую науку 1990 19 янв — 16 февр, Варонін В Палітычны лад Полацкага ваяводства ў першай палове XVI ст // Бел гіст агляд 1998 Сш 1

*Вячаслаў Насевіч*

**ПО́ЛАЦКАЕ ВЫШЭ́ЙШАЕ ПІЯ́РСКАЕ ВУЧЫ́ЛІШЧА,** навучальная ўстанова ордэна *піяраў* у Полацку ў 1822—30 Створана на базе пераведзенага сюды Віцебскага піярскага вучылішча паводле імператарскага ўказа ад 16(28) 8 1822 Размяшчалася ў будынках скасаванай *Полацкай езуіцкай акадэміі* Згодна са статутам падзялялася на прыходскае вучылішча, 4-класнае павятовае вучылішча і 3-гадовыя «курсы вышэйшых навук» З казны атрымлівала 28 тыс руб штогод з былых езуіцкіх фундушаў Ад езуітаў вучылішчу перайшлі б-ка (больш за 24 тыс тамоў), фізічны і мінералагічны кабінеты, музей, друкарня Выкладанне вялося на польскай мове У 1823 былі рэктар, прэфект і 13 выкладчыкаў (большасць з іх скончыла *Віленскі універсітэт*) Каб стварыць асветніцкі цэнтр, падобны да універсітэцкага, была значна пашырана навуч праграма і ўведзены лекцыі замест звычайных урокаў У павятовым вучылішчы выкладаліся закон Божы, польская, лац, франц, ням мовы, геаграфія, арыфметыка, асновы геаметрыі, прыродазнаўства, фізіка, маляванне «Курсы вышэйшых навук» падзяляліся на літ і матэм аддзяленні, дзе выкладаліся матэматыка, доследная фізіка, цывільнае права, лац, грэч, польская мовы, гісторыя, маляванне, музыка, фехтаванне, танцы Пры вучылішчы дзейнічаў канвікт (інтэрнат) на 40 юнакоў Вучылішча мела трывалыя сувязі з Віленскім ун-там, у канцы 1822 лекцыі па гісторыі тут чытаў праф гэтага ун-та І *Лялевель* У вучылішчы дзейнічаў філіял т-ва *філаматаў* (раскрыты паліцыяй у снеж 1823, выкладчыкі К Львовіч і М Брадовіч арыштаваны) Папячыцель *Віленскай навучальнай акругі* кн А *Чартарыйскі* меркаваў надаць вучылішчу афіц статус ліцэя, але ў 1824 Усх Беларусь адышла да Пецярбургскай навуч акругі У 1825—26 па ініцыятыве візітатара праф В *Сянкоўскага* праведзена рэформа вучылішча лекцыйная сістэма выкладання забаронена, у пачатковых класах выкладанне праводзілася на рус мове, узмацніўся нагляд паліцыі за выхаванцамі і выкладчыкамі, прэфект Я Лашкевіч заменены праф Шумброўскім У 1824 вучылася 239 чал, у 1825 — 256, у 1826 — 279, у 1827 — 273 Пасля стварэння ў 1829 *Беларускай навучальнай акругі* ўлады пачалі працэс скасавання вучылішча Летам 1830 вучылішча было закрыта, піяры пераведзены ў Вільню, дзе яны адкрылі ўвер сваю гімназію Большая частка абсталявання была вывезена ў Маскву, Кіеў і Пецярбург Касцел пераўтвораны ў правасл царкву У вучэбных будынках раз мясціліся *Полацкі кадэцкі корпус* і свецкае павятовае вучылішча

*Літ* Самусік А Ф Полацкае Вышэйшае Піярскае Вучылішча // Старонкі гісторыі і культуры Беларусі Мн, 1997, G J Materyały do dziejów Akademii Połackiej i szkół od niej zależnych Krakow, 1905

*Андрэй Самусік*

Да арт **Полацкае княства** Перамога вялікага кіеўскага князя Яраслава Уладзіміравіча Мудрага над полацкім князем Брачыславам Ізяславічам на р Судамір і ўцекі Брачыслава ў Полацк у 1021 Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу 15 ст

Да арт **Полацкае княства** Полацкі князь Усяслаў Брачыславіч (справа) на кіеўскім пасадзе ў 1068 Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу 15 ст

**ПО́ЛАЦКАЕ КНЯ́СТВА,** адно з самых старажытных дзярж утварэнняў усх славян з цэнтрам у г Полацку Размяшчалася ў бас Зах Дзвіны, Бярэзіны, часткова Немана (тэр сучаснай Віцебскай, паўн часткі Мінскай і Магілеўскай абл) Найб старажытныя гарады княства — Мінск, Віцебск, Усвяты, Друцк, Лагойск, Лукомль, Заслаўе Ядром П к было племяннoe княжанне *крывічоў* (*палачан*), якім належала археалагічная *доўгіх курганоў паўночнай Беларусі культура* (6—9 ст) У летапісах княства называлася таксама «воласцю» (862), вобласцю, *Полацкай зямлей* У апавяданні пра паход кн *Алега* на Канстанцінопаль у 907 летапісец залічыў Полацк да гарадоў, дзе «седяху велиции князи, под Олгом суще» У выніку перамогі Полацк атрымліваў даніну ад грэкаў Каля 980 у Полацку сядзеў кн *Рагвалод* («держащю и владеющю и княжащю Полотьскую землю») Прадстаўнікамі полацкага княжацкага роду былі *Рагнеда Рагвалодаўна, Ізяслаў Уладзіміравіч, Брачыслаў Ізяславіч*, які ў 1021 пасля паходу на Ноўгарад атрымаў г Усвяты і Віцебск Пры яго сыне *Усяславе Брачыславічу* [1044—1101] П к дасягнула найб росквіту і стала гал канкурэнтам Кіева У 1065 Усяслаў напаў на Пскоў, у 1066 — на Ноўгарад, які часткова спаліў У адказ на гэта кіеўскія князі Яраславічы разбурылі Мінск, адбылася *Нямігская бітва 1067*, у якой Усяслаў быў разбіты Пасля яго смерці ў Полацкай зямлі ўтварылася некалькі ўдзелаў (*Ізяслаўскае княства, Віцебскае княства, Лагожскае княства, Друцкае княства*) *Мінскае княства*, магчыма, вылучылася яшчэ пры жыцці Усяслава Мінскі кн *Глеб Усяславіч* праводзіў палітыку ўзвышэння Мінска і імкнуўся пашырыць межы свайго княства (спаліў Слуцк, нападаў на інш землі) Княжанне Глеба скончылася яго паланеннем вял кіеўскім кн Уладзімірам Манамахам (1119) Адносіны паўд-рус князёў з полацкімі ў 1-й трэці 12 ст заставаліся вельмі вострымі У 1127 вял кіеўскі кн *Мсціслаў Уладзіміравіч* арганізаваў вял паход у П к, у 1129 захапіў полац кіх князёў з сем'ямі ў палон і саслаў у Візантыю Каля 1139 яны вярнуліся і занялі свае ўдзелы З канца 1120-х г у Полацку пабольшала роля *веча* Яно актыўна вырашала пытанні вайны і міру, запрашала на прастол у Полацк князёў і нярэдка выганяла іх з горада У 1132 веча выбрала князем *Васільку Святаславіча*, унука Усяслава Паліт жыцце Полацка 2-й пал 12 ст характарызавалася выступленнямі гараджан, зменай князёў У 1151 палачане выгналі кн *Рагвалода Барысавіча* і запрасілі на прастол мінскага кн *Расціслава Глебавіча* У 1158 выгналі і яго, зноў запрасілі Рагвалода Барысавіча, у канцы 12 ст полацкімі князямі становяцца віцебскія Васількавічы У гэты час асобныя часткі П к адышлі да Смаленска (Копысь, Орша) У 12 ст ў нізоўях Зах Дзвіны на месцы больш ранніх паселішчаў узніклі

залежныя ад Полацка гарады *Герцыке* і *Кукенойс*, якія ў пач 13 ст, нягледзячы на супрацьдзеянне Полацка, былі захоплены ням рыцарамі Полацк быў не ў стане ўтрымліваць свае пазіцыі ва Усх Прыбалтыцы, але барацьбу з ням феадаламі не спыняў У канцы 1250 — пач 1260-х г у Полацку княжыў пляменнік вял літ князя Міндоўга *Таўцівіл*, які дапамагаў наўгародцам у барацьбе з Лівонскім ордэнам Некалькі гадоў у Полацку правіў *Гердзень*, пасля князі мяняліся часта У канцы 13 ст адзін з іх (імя невядома) спрыяў уключэнню Полацка ў сферу дзейнасці Рыжскага арцыбіскупства У П к пачало распаўсюджвацца каталіцтва, што суправаджалася бясчынствамі немцаў Гэта выклікала моцнае абурэнне насельніцтва У 1307 палачане з дапамогай літ князя *Віценя* прагналі чужынцаў З таго часу П к ўвайшло ў склад ВКЛ, верагодна, на аснове пагаднення (рада) літ князёў і полацкага баярства П к карысталася аўтаноміяй паводле асобнага прывілея Полацкімі князямі звычайна былі родзічы вял князя ВКЛ Пры вял кн Гедзіміне [1316—41] Полацк знаходзіўся спачатку ў руках яго брата *Воіна*, а потым сына *Нарымонта* На П к часта нападалі войскі Лівонскага ордэна (1333, 1334, 1366, 1382) Узбр атрады палачан прынялі ўдзел у значнай бітве з крыжакамі на р Стрэва ў 1348 У 1370—80-я г (з перапынкамі) полацкім князем быў Андрэй Альгердавіч (гл *Андрэй Полацкі*), сын вял князя ВКЛ Альгерда У 1381 вял кн ВКЛ Ягайла перадаў Полацк ва ўдзел свайму брату *Скіргайлу*, але палачане ўзнялі паўстанне і адмовіліся яго прыняць, у Полацк вярнуўся Андрэй Альгердавіч (гл *Полацкае паўстанне 1381*) У 1386 пасля прыняцця Ягайлам каталіцтва палачане выступілі супраць Ягайлы і Скіргайлы Андрэй Альгердавіч прыняў тытул вял князя полацкага, што падкрэслівала незалежнасць ад ВКЛ Полацк быў узяты вялікакняжацкім войскам на чале са Скіргайлам, а Андрэй Альгердавіч трапіў у палон У *Грунвальдскай бітве 1410* прынялі ўдзел харугвы з Полацкай зямлі У час феад вайны 1432—36 вял князь ВКЛ *Свідрыгайла* ўцек у Полацк, дзе яго падтрымлівалі мясц баяры і гараджане Адбыўся раскол федэратыўнай дзяржавы на 2 дзярж ўтварэнні — ВКЛ са сталіцай у Вільні і Вял княства Рускае са сталіцай у Полацку, якое праіснавала 4 гады Адасобленасць П к ў складзе ВКЛ неаднаразова пацвярджалася прывілеямі На тэр П к дзейнічала *полацкае права*, пры якім найб важныя пытанні жыцця горада і княства вырашаліся на вечы З сярэдзіны 15 ст ў Полацк прызначаліся намеснікі вял князя ВКЛ, а ў 1504 створана *Полацкае ваяводства*

У П к ільна развівалася культура У 11 ст па прыкладу Кіеўскага і Наўгародскага Сафійскіх сабораў тут пабудаваны *Полацкі Сафійскі сабор*, у 12 ст сфарміравалася *полацкая школа дойлідства* Адзін з першых гіст -літ твораў, напісаных на бел землях, — *Полацкі летапіс* З П к паходзяць *Полацкія евангеллі* 12—14 ст, *Аршанскае евангелле* канца 12 — пач 13 ст, *Друцкае евангелле* 14 ст У Полацку вяла міратворчую і асветніцкую дзейнасць *Ефрасіння Полацкая* На яе заказ у 1161 Лазар Богша зрабіў *крыж Ефрасінні Полацкай* Манументальнымі помнікамі эпіграфікі 12 ст з'яўляюцца *Барысавы камяні* і *Рагвалодаў камень* Ад 13—14 ст дайшла значная колькасць помнікаў пісьменства *дагавор 1229* Смаленска, Віцебска і Полацка з Рыгай і Гоцкім берагам, граматы кн Гердзеня 1264, кн Ізяслава каля 1265, епіскапа Якава каля 1300 і інш Гэтыя дакументы адлюстроўваюць асаблівасці бел мовы Каля 1490 у Полацку нарадзіўся бел першадрукар Ф *Скарына*

Да арт **Полацкае княства** Князь Ізяслаў Мсціславіч заваеўвае г Лагойск (Лагожск) у час паходу паўднёварускіх князёў на Полацкую зямлю ў 1127 Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу 15 ст

*Літ* Гл пры арт *Полацк* *Георгій Штыхаў*

**ПО́ЛАЦКАЕ НАМЕ́СНІЦТВА**, афіцыйная назва *Полацкай губерні* з 12 5 1778 да 12 12 1796 Створана паводле ўказа ад 10 1 1778, разам з Магілёўскай губ кіравалася адным царскім намеснікам — ген -губернатарам Падзялялася на Веліжскі, Віцебскі, Гарадоцкі, Дрысенскі, Дынабургскі, Люцынскі, Невельскі, Полацкі, Рэжыцкі, Себежскі і Суражскі паветы Пл 3 593 650 дзесяцін, з якіх пад ворывам — 1 551 478, сенакосамі — 107 266, лясамі — 1 615 913 На час утварэння ў П н было 11 гарадоў, 9 мястэчак, 3446 сел, 8732 вескі, 247 млыноў, 1056 корчмаў У 67368 дварах пражывала 585,2 тыс чал, у т.л 3420 панцырных баяр, 8361 раскольнік, 2704 беглыя рас падданыя, 318 купцоў, 5702 мешчаніны, 15,1 тыс яўрэяў, 127 цыганоў, 188,2 тыс сялян належала 719 памешчыкам, 39,7 тыс — дзяржаве, 1193 — купцам і мяшчанам, 24,5 тыс — духавенству Каля 6% сялян займалася адыходнымі промысламі Буйнейшае дзярж уладанне — Езярышчанскае староства (11 530 сялян, належала І Салагубу) Буйнейшы прыватны ўласнік — К Гільзен (16,7 тыс сялян) У П н 89 рус асоб атрымалі ва ўласнасць 67 тыс сялян У 1778 на тэр П н было 3 правасл манастыры, 60 прыходаў, 18 свяшчэннікаў, 6 уніяцкіх манастыроў, 153 прыходы, 177 святароў, 19 каталіцкіх кляштараў, 44 прыходы, 266 святароў У 1780 у 6 вучылішчах навучалася 288 дваран і 130 мяшчан Губернатары А.В Нарышкін (1778), І М Рэбіндэр (1778—82), М Р Ланской (1782—84), А М Лунін (1784—92), С В Няклюдаў (1792—94), М П Лапацін (1794—96), С С Жэгулін (1796)

*Літ* Сементовский А.М Полотск. Ист -стат очерк // Памятная книжка Витебской губернии на 1878 г Витебск, 1879, Анішчанка А.К Генеральнае межаванне на Беларусі Мн, 1996 *Яўген Анішчанка*

**ПО́ЛАЦКАЕ ПАТРЫЯТЫ́ЧНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ** ў *Вялікую Айчынную вайну* Дзейнічала з жн 1941 да кастр 1942 у Полацку і Полацкім р-не пад кіраўніцтвам *Віцебскага падпольнага абкома КП(б)Б* (з сак 1942) і Полацкага падп райкома КП(б)Б (з чэрв 1942) Аб'ядноўвала 11 груп (каля 160 чал) З групы ў Полацку [кіраўнікі Я Х Сташкевіч, П Ф Самародкаў (з мая 1942 С Я.Арцем'еў), С В Сухавей], у вёсках Домнікі (А М Філіпаў), Дрэтунь (М Д Свірыдзенка), Залессе (К М Макараў), Казімірова (Ф Дз Максімаў), Палата (П Ф Сташкевіч), Пруды (А Я Марчанка), Узнацы (П Я Кірыленка), Юравічы (Дз.А Зублеў) Падпольшчыкі распаўсюджвалі лістоўкі, здабывалі зброю і боепрыпасы, звесткі пра перадыслакацыю і перавозкі варожых войск, ратавалі сав ваеннапалонных, перапраўлялі людзей у партызаны У ліст 1941 на чыг ст Гараны знішчылі 2 паравозы і 4 вагоны, летам 1942 на чыг ст Грамы падарвалі нафтабазу, у кастр — паравознае дэпо Адна з груп «Бясстрашныя» з супрацоўнікаў Полацкага дзіцячага дома займалася таксама выратаваннем дзяцей ад холаду і голаду, затым пераправіла іх у Бельчыцы, у лютым 1944 — у партыз зону У маі 1942 падпольшчыкі ўдзельнічалі ў стварэнні партыз атрада (камандзір Марчанка), які ў чэрв разгарнуўся ў 3-ю Бел партыз брыгаду За час дзеяння загінулі 24 падпольшчыкі *Валянціна Касцюкова*

**ПО́ЛАЦКАЕ ПАЎСТА́ННЕ 1381**, выступленне полацкіх гараджан супраць кн *Скіргайлы* Альгердавіча У 1381 вял кн ВКЛ *Ягайла* адабраў Полацк у кн Андрэя Альгердавіча (гл *Андрэй Полацкі*) і перадаў яго свайму брату язычніку Скіргайлу Палачане адмовіліся прымаць новага князя, узнялі паўстанне і з ганьбай выгналі прызначанага ім князя з горада У адказ Скіргайла сабраў войскі ВКЛ і Лівонскага ордэна і асадзіў горад Аблога працягвалася 4 месяцы, але поспеху не прынесла У гэтым жа годзе пры садзеянні кн *Кейстута*, які часова ўзяў вярх уладу, у Полацк вярнуўся Андрэй Альгердавіч

**ПО́ЛАЦКАЕ ПАЎСТА́ННЕ 1633**, выступленне полацкіх гараджан супраць падваяводы Яна Лісоўскага і гар рады ў час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34* Адначасова з аблогай Смаленска рас войскі прадпрынялі дзеянні ў інш напрамках (у т л ў Полацкім пав ) 11 6 1633 на пасяджэнні магістрата Лісоўскі патрабаваў, каб гараджане тэрмінова адрамантавалі вежу Ніжняга замка або далі дрэва на яе рамонт, каб усе жыхары Запалоцця перасяліліся ў Верхні замак, а таксама намерыўся ўвесці войскі ў замак Магістрат быў гатовы выканаць патрабаванні падваяводы, аднак гараджане, паводле сведчання Лісоўскага, «против того нашего сполнаго выналязку ку обороне, протестовалисе и розными окриками, галасами мене в ратушу опрымовали, обецуючи складать по шелегу на знесенне мене подвоеводного» Сярод зачыншчыкаў называюцца І і В Харкевічы, І Куцок, С Бацечка, А Баярчык, І і В Мікулічы, І Паплешыч, В Крывуша і інш Натоўп гараджан перашкодзіў падваяводу і магістрату ўмацаваць Ніжні замак У ноч на 13 6 1633 рас войскі авалодалі Запалоццем і Ніжнім замкам, але Верхняга замка не здолелі ўзяць У час узяцця Полацка, верагодна не без дапамогі гараджан, «лентвойта, так бурмистра и иншых много добрых колектов позабивали» Запалоцце і Ніжні замак былі спалены Пасля падыходу войск Рэчы Паспалітай разам з рас войскам горад пакінула шмат жыхароў

**ПО́ЛАЦКАЕ ПРА́ВА**, сістэма норм *звычаевага права* і пісанага феад права, якая дзейнічала на тэр *Полацкага княства*, а пазней *Полацкага ваяводства* Захаванне мясц права і некат адасобленасці было магчыма таму, што ВКЛ утварылася ў выніку славяна-балцкага этнічнага сімбіезу ў яго дзярж -дагаворнай форме ВКЛ таго часу было дзяржавай з незавершанай цэнтралізацыяй, пры якой найбольшыя княствы, што ўваходзілі ў яго, працягвалі захоўваць у значнай ступені свае адасобленыя прававыя сістэмы Гэта выразна прасочваецца ў П п , адасобленасць якога неаднаразова пацвярджалася прывілеямі Аб выключным становішчы Полацкай зямлі ў ВКЛ сведчыць *дагавор 1388* з Лівонскім ордэнам, з якога вынікае асаблівы саюзны характар прававога становішча Полацкага княства Князь Полацкага княства ў міжнар дагаворы называецца каралем, як і вял князь, а для надання дагавору законнай сілы неабходна была згода не толькі вял , але і полацкага князя, а таму згода жыхароў горада Пра асаблівае становішча Полацкай зямлі ў складзе ВКЛ сведчыць права палачан самастойна ўдзельнічаць у міжнар праваадносінах Так, у 1478 палачане заключылі дагавор аб дружбе і гандлі з рыжанамі Права палачан прымаць паслоў з Ноўгарада, Пскова, Лук і «Немец» і вырашаць на месцы ўсе спрэчныя пытанні было замацавана ў спец грамаце, выдадзенай вял кн Аляксандрам у 1499 Найважнейшым элементам дзярж -прававога жыцця палачан у канцы 15 — 1-й пал 16 ст было права вырашаць важныя пытанні гар жыцця на сходзе-сейме Праваадносіны паміж палачанамі рэгуляваліся як на падставе норм мясц звычаевага права, так і пісанымі законамі граматамі-прывілеямі, Статутам ВКЛ 1529, царк правам Да 1529 асн крыніцай полацкага пісанага права былі *Полацкія прывілеі*, дадзеныя палачанам вял князямі ВКЛ Усе насельніцтва

мола. Выдавалася 6 раённых і 2 шматтыражныя газеты. Працавалі 2 шкіпінарна-дзягцярныя з-ды, ганчарнае, 80 кавальска-слясарных, 54 гарбарныя, 48 сталярна-бандарных прадпрыемстваў, 3 электрастанцыі, 6 млыноў, 20 маслазаводаў; каля в. Сержаны, Двор Пліна, Ушацкага льнозавода дзейнічалі партыз. аэрадромы. Гітлераўцы не аднойчы рабілі напады на зону, але партызаны адбівалі атакі, разграмілі больш за 30 ням.-фаш. гарнізонаў. Акупанты правялі 5 карных аперацый, у выніку адной з іх адбылася *Полацка-Лепельская бітва 1944.* Зона заставалася пад кантролем партызан амаль да вызвалення Чырв. Арміяй

**ПО́ЛАЦКАЯ АКРУ́ГА,** 1) адм.-тэр. адзінка ў БССР у ліп. 1924 — ліп. 1930. Цэнтр — г. *Полацк* Пл. 9366 км$^2$, пасля ўзбуйнення ў 1927 — 10 807 км$^2$; нас. 374,2 тыс. чал. (1926). У 1924—27 уключала Асвейскі, Валынецкі (з сак. 1929 Боркавіцкі), Ветрынскі, Дрэтунскі (пазней Краснапольскі, скасаваны ў 1927), Дрысенскі, Полацкі, Расонскі, Ульскі, Ушацкі раены. У 1927 са скасаванай Барысаўскай акругі ў П.а. ўвайшоў Лепельскі р-н. Акр. газ. «Полоцкий пахарь», з 1926 «Чырвоная Полаччына». 2) Адм.-тэр. адзінка (пагранічная) у БССР у чэрв. 1935 — лют. 1938. Уключала Асвейскі, Ветрынскі, Дрысенскі, Полацкі, Расонскі раёны. Акр. газ. «Бальшавік Полаччыны». Скасавана ў сувязі з увядзеннем у БССР абласнога падзелу. Усе раены перададзены ў склад *Віцебскай вобласці.*

**ПО́ЛАЦКАЯ АПЕРА́ЦЫЯ 1944**, наступальная аперацыя войск 1-га Прыбалтыйскага фронту (ген. арміі І.Х.*Баграмян*) 29 чэрв. — 4 ліп. ў Вял. Айч. вайну, састаўная ч. *Беларускай аперацыі 1944.* Удзельнічалі 4-я ўдарная (ген.-лейт. П.Ф Малышаў), 6-я гв. (ген -палк І.І Чысцякоў), 43-я (ген.-лейт. А П.Белабародаў), 3-я паветр. (ген.-лейт авіяцыі М.П.Папівін) арміі, 1-ы танк. кор-

АБАРОНА ПОЛАЦКА-ЛЕПЕЛЬСКАЙ ПАРТЫЗАНСКАЙ ЗОНЫ І ПРАРЫЎ БЛАКАДЫ (11 красавіка–5 мая 1944 г.)

пус (ген.-лейт. танк. войск В. В. Бутков). Ім процістаялі злучэнні 16-й арміі групы армій «Поўнач» і ч. сіл 3-й танк. арміі групы «Цэнтр». Ням.-фаш. захопнікі ператварылі горад у магутны вузел абароны: абарончы рубеж «Пантэра» (праходзіў у паласе азёр і балот) меў развітую сістэму палявых, месцамі доўгачасовых умацаванняў, дзе было сканцэнтравана 6 пях. дывізій. Мэта аперацыі — разгром полацкай групоўкі праціўніка, вызваленне г. Полацк. Пасля завяршэння *Віцебска-Аршанскай аперацыі 1944* сав. войскі неадкладна пачалі ажыццяўленне П. а. У ходзе яе полацкая групоўка ворага была ліквідавана, вызвалены г. п. Ушачы і в. Ветрына (29 чэрв.), г. п. Шаркаўшчына (1 ліп.), г. Докшыцы і в. Пліса (2 ліп.), г. Глыбокае (3 ліп.), Полацк і г. Дзісна (4 ліп.). У вызваленні Глыбокага і Докшыц удзельнічалі партызаны. У выніку аперацыі войскі фронту ізалявалі адну ад другой групы армій «Поўнач» і «Цэнтр», забяспечылі наступленне з Пн. гал. стратэгічнай групоўкі сав. войск на тэр. Беларусі. 31 злучэнню і часці, што вызначыліся ў аперацыі, нададзены ганаровыя найменні «Полацкіх».

**ПО́ЛАЦКАЯ АРГАНІЗА́ЦЫЯ РСДРП(б).** Утворана ў 1904. Уваходзіла ў *Паўночна-Заходні камітэт РСДРП, Паўночна-Заходні саюз РСДРП, Абласны саюз РСДРП Літвы і Беларусі*. У чэрв. 1905—07 яе дзейнасць актывізавалася. 1(14).2.1905 надрукавала і распаўсюдзіла пракламацыю «Да ўсіх полацкіх рабочых» з заклікам да барацьбы супраць самадзяржаўя, за дэмакр. рэспубліку, у сак. 1905 — лістоўку «Да сялян», перадрукавала зварот ЦК РСДРП «Сяляне, да вас наша слова», у пач. 1906 выпусціла лістоўку з заклікам да паліт. забастоўкі, у крас. 1906 — лістоўку «Да ўсіх полацкіх грамадзян» з заклікам байкатаваць 1-ю Дзярж. думу. У гады рэакцыі работа П. а. РСДРП(б) аслабла. На Полацк пашыралася дзейнасць Віцебскай арг-цыі РСДРП. У канцы чэрв. 1917 у Полацку афарміласа арг-цыя РСДРП аб'яднаных інтэрнацыяналістаў. У пісьме ад 28.7 (10.8).1917 на адрас ЦК РСДРП(б) бальшавікі прасілі зацвердзіць іх арг-цыю. У перыяд устанаўлення сав. улады ў Полацкі ВРК уваходзіла 8 бальшавікоў з П. а. РДСРП(б). *Уладзімір Салашэнка.*

**ПОЛАЦКАЯ АРХІТЭКТУ́РНАЯ ШКО́ЛА,** гл. *Полацкая школа дойлідства.*

**ПО́ЛАЦКАЯ ВО́БЛАСЦЬ,** адм.-тэр. адзінка ў БССР з 20.9.1944 да 8.1.1954. Цэнтр — г. *Полацк*. Пл. 17,8 тыс. км², нас. 394,6 тыс. чал. (на 1.1.1947), 6 гарадоў (Браслаў, Глыбокае, Дзісна, Докшыцы, Міёры, Полацк), 6 гар. паселкаў (Асвея, Ветрына, Відзы, Расоны, Ушачы, Шаркаўшчына), 217 сельсаветаў, 15 раёнаў: Асвейскі, Ветрынскі, Дрысенскі, Полацкі, Расонскі, Ушацкі (перададзены з Віцебскай вобл.), Браслаўскі, Відзскі, Глыбоцкі, Дзісенскі, Докшыцкі, Дунілавіцкі, Міёрскі, Пліскі, Шаркаўшчынскі (перададзены з б. Вілейскай вобл.). Выдавалася абл. газ. «Бальшавіцкі шлях» (з 1952 «Сцяг камунізма») і 15 раённых газет. Пасля скасавання П. в. Браслаўскі, Відзскі, Глыбоцкі, Дзісенскі, Докшыцкі, Дунілавіцкі, Міёрскі, Пліскі, Шаркаўшчынскі р-ны перададзены ў *Маладзечанскую вобласць*, Асвейскі, Ветрынскі, Дрысенскі, Полацкі, Расонскі, Ушацкі — у *Віцебскую вобласць.*

**ПО́ЛАЦКАЯ ГУБЕ́РНЯ.** Існавала ў 1776—96. Утворана паводле ўказа Кацярыны II ад 24.8(4.9).1776 і ўказа Сената ад 22.3(2.4).1777 на землях ВКЛ, далучаных да Рас. імперыі ў выніку *Першага падзелу Рэчы Паспалітай* (1772). Цэнтр — г. *Полацк*. Уключала 11 паветаў, вылучаных з *Пскоўскай губерні*: Веліжскі, Віцебскі, Гарадоцкі, Дрысенскі, Дынабургскі, Люцынскі, Невельскі, Полацкі, Рэжыцкі, Себежскі, Суражскі. З 1778 да 1796 складала асобнае *Полацкае намесніцтва*. У 1784 у П. г. было 12 мястэчак, 144 сялы, 1125 сяльцоў, 61 пагост, 21 слабада, 14 042 вёскі, 239 цэркваў, 3 манастыры, 30 касцёлаў, 29 кляштараў, 310 фальваркаў, 1142 панскія двары, 55 фабрык і заводаў, 287 вадзяных, 39 ветраных і 5 валовых млыноў. У 78 070 дварах пражывала 620 266 чал. абодвух полаў падатковага насельніцтва. У вёсках 123 303 сялян абодвух полаў належала дзяржаве, 407 669 — памешчыкам, 5959 — купцам, мяшчанам і магістратам, 47 662 — духавенству. У гарадах і мястэчках было 2137 купцоў, 29 213 мяшчан, з іх 15 336 яўрэяў, 374 цыганы, 4221 выхадзец з Расіі. У 1777 мелася 22 правасл., 153 уніяцкія, 44 каталіцкія прыходы. У 1784 у 42 правасл. прыходах служыла 327 святароў, у 79 уніяцкіх — 720, у 22 каталіцкіх — 184. У 1792 мелася 37 праваслаўных, 143 уніяцкія і 59 каталіцкіх прыходаў. У езуіцкіх школах навучалася 278 чал. У 1780 у 11 гар. школах і 6 вучылішчах навучалася 300 дваран і 130 мяшчан, мелася 18 яўр. школ. У 1795 у губерні размяшчаліся 4 пастаянныя гарнізоны з 2713 салдатамі і афіцэрамі, усяго кватаравала 9554 вайскоўцаў. У 1793 у П. г. ўтвораны Лепельскі павет. У 1795 да П. г. далучана частка тэр. Мінскай губ. — 37 097 душ мужчынскага полу, з якіх 3030 душ адышло ў Полацкі пав., астатнія склалі насельніцтва Лепельскага пав. П. Г. скасавана паводле ўказа ад 12(23).12.1796 шляхам аб'яднання з *Магілёўскай губерняй* у *Беларускую губерню.*

Губернатары: А. В. Нарышкін (1776—78), І. М. Рэбіндэр (1778—83), М. Р. Ланской (1783—84), А. М. *Лунін* (1784—91), С. В. Няклюдаў (1792—94).

*Літ.:* Дневная записка путешествия ее императорского величества через Псков и Полоцк в Могилев и Тамбов // Сб. имп. Рус. ист. о-ва. СПб., 1867. Т. 1; Жукович П. Н. Управление и суд в Западной России в царствование Екатерины II // Журн. Мин-ва нар. просвещения. 1914. Ч. 49.

*Яўген Анішчанка.*

**ПО́ЛАЦКАЯ ДРУКА́РНЯ.** Дзейнічала у 1787—1820. Створана пры *Полацкім езуіцкім калегіуме* (з 1812 *Полацкая езуіцкая акадэмія*). Кіраўнікі: Б. Шыркевіч, А. Лянкевіч, Я. Заранек і інш. Шрыфты атрымлівала з Пецярбурга і Варшавы. Выпусціла больш за 500 выданняў пераважна на польск. і лац. мовах, часткова

аздобленага знадворку 3-лопасцевымі аркамі Прадстаўнік П ш д дойлід Іаан — аўтар Спаса-Ефрасіннеўскай царквы ў Полацку Полацкія дойліды ўдзельнічалі ў буд-ве Навагрудскай Барысаглебскай царквы, будавалі цэрквы ў Смаленску

*Георгій Штыхаў, Юрый Якімовіч*

**ПО́ЛАЦКІ**, рабочы паселак, гл *Наваполацк*

**ПО́ЛАЦКІ БОГАЯЎЛЕ́НСКІ МАНАСТЫ́Р**, Полацкі Богаяўленскі брацкі манастыр Існаваў у 1582—1918 у Полацку як праваслаўны мужчынскі манастыр, гал цэнтр праваслаўя ў Полацку Для пабудовы манастыра 8 5 1582 кароль Стафан Баторый даў 2 пляцы і вызваліў яго ад гар павіннасцей Манастыр падпарадкоўваўся непасрэдна *Кіеўскай мітраполіі* і канстанцінопальскаму патрыярху У 1650-я г рас цар Аляксей Міхайлавіч перадаў манастыру апусцелы Заполацкі Праабражэнскі манастыр з яго вескамі і 2 млынамі на р Палаце Але пасля Андросаўскага перамір'я 1667 маенткі перайшлі да езуітаў і інш Асн уласнасцю манастыра была в Ропна (у пач 19 ст 1289 дзесяцін зямлі, 42 падданыя) У 17 ст пры манастыры існавала брацкая школа, у якой выкладаў *Сімяон Полацкі* У 1704 цар Петр I дазволіў манахам ездзіць у Рыгу для правядзення адпраў і збору міласціны У 17 — 1-й пал 18 ст драўляныя будынкі манастыра не раз гарэлі і аднаўляліся У 1761—79 пабудаваны мураваны крыжова-купальны Богаяўленскі храм, у 1780—88 на грошы, адпушчаныя Кацярынай II (35 221 руб ) — мураваныя карпусы духоўнага вучылішча і келляў, а таксама цэрквы св Кацярыны і св Ефрасінні У 1918 манастыр закрыты Большасць будынкаў манастыра захавалася Помнік архітэктуры

*Аляксандр Ярашэвіч*

**Полацкі Богаяўленскі манастыр**
Фота 1998

**ПО́ЛАЦКІ ВЕ́РХНІ ЗА́МАК** На правым беразе р Зах Дзвіна пры ўпадзенні ў яе р Палата З'яўляецца ўмацаваным цэнтрам *Полацка* ў 11—17 ст Займаў узвышша пл 9,44 га Быў абкружаны валам з У, па краі пляцоўкі ўмацаваны драўлянымі сценамі-гароднямі з вежамі Схілы пляцоўкі неаднаразова ўмацоўваліся — «тамаваліся» (паводле археал звестак, упершыню каля 1363) Паводле «Полацкай рэвізіі 1552 г », на замку было 9 вежаў, у сярэдзіне 17 ст — 10 Першае паселішча на тэр замка ўзнікла ў канцы 9 — пач 10 ст У сярэдзіне 11 ст з мыса на левым беразе Палаты сюды перанесены ўмацаваны дзядзінец горада, пабудаваны *Полацкі Сафійскі сабор* У 12 ст каля Сафійскага сабора збудаваны храм Архангела Міхаіла, у паўн частцы замка — княжацкія палаты Замак як адм цэнтр горада існаваў да 17 ст У сувязі з развіццём ваен справы ен страціў фартыфікацыйныя, а потым і паліт функцыі Археал даследаванні П В з праводзілі А М Ляўданскі (1928), М К Каргер (1957), А Г Мітрафанаў (1959—60), В Р Гарасенка (1961—62), Г В Штыхаў (1967, 1980), В А Булкін (1975—79), С В Тарасаў (1989) Даследавана каля 2 тыс м² плошчы

*Літ* Штыхов Г В Древний Полоцк IX—XIII вв Мн , 1975, Тарасаў С В Полацк IX—XVII стст Гісторыя і тапаграфія Мн , 1998

*Сяргей Тарасаў*

**ПО́ЛАЦКІ ГІСТО́РЫКА-КУЛЬТУ́РНЫ МУЗЕ́Й-ЗАПАВЕ́ДНІК** Засн 19 9 1967 як гісторыка-археал запаведнік у Полацку, уключаў тэр Ніжняга і Верхняга замкаў, Сафійскі сабор 25 6 1985 да запаведніка далучаны ўсе помнікі археалогіі, культуры і музеі горада 16 7 1990 гіст -культ запаведнік атрымаў статус рэспубліканскага, з 1997 сучасная назва Пл каля 1,8 км², каля 46 тыс экспанатаў асн фонду (1999) У складзе запаведніка паселішча 1-га тыс да н э ў гіст раене Запалоцце, селішча і гарадзішча (7—8 ст ), *Полацкая Спаса-Праабражэнская царква*, падмуркі храма-пахавальні (12 ст ) і комплекса Бельчыцкага Барыса-Глебскага манастыра (гл ў арт *Бельчыцы*), *Полацкі Верхні замак, Полацкі Ніжні замак*, Домік Пятра I, Богаяўленскі сабор і Брацкая школа (18 ст ), Ефрасіннеўская царква (19 ст ), Чырвоны мост (19 ст ), Крыжаўзвіжанская царква (19—20 ст ), рэшткі *Полацкага езуіцкага калегіума*, працуюць музей гісторыі архітэктуры Сафійскага сабора (з 1985), *Полацкі краязнаўчы музей, Полацкі музей беларускага кнігадрукавання*, музей-бібліятэка Сімяона Полац-

**Полацкі Богаяўленскі манастыр**
Царква Фота 1998

Да арт **Полацкі Верхні замак.** По лацкія замкі Фрагмент малюнка С Пахалавіцкага «Аблога Полацка 29 8 1579»

кага (з 1994), *Полацкі музей баявой славы,* музей-кватэра Героя Сав Саюза З М *Туснолобавай-Марчанкі* (з 1987), стацыянарная выстаўка «Прагулка па Ніжне Пакроўскай» (з 1998), музей традыцыйнага ручнога ткацтва Паазер'я (з 1998) *Тамара Джумантаева*

**ПО́ЛАЦКІ ЕЗУІЦКІ КАЛЕ́ГІУМ**, першая сярэдняя навуч ўстанова ордэна *езуітаў* на тэр сучаснай Беларусі ў 1580—1812 Адкрыты летам 1580 паводле загаду караля Рэчы Паспалітай Стафана *Баторыя* Навучанне і выхаванне вялося па праграмах для езуіцкіх *калегіумаў,* вылучалася высокім узроўнем Першым рэктарам быў вядомы ідэолаг *Контррэфармацыі* ў Рэчы Паспалітай П *Скарга* Калегіуму было дадзена не менш як 72 вёскі (з 730 дымамі) і 423 дамы ў Полацку Першапачаткова размяшчаўся ў Полацкім замку У 1598 яго перавялі ў спецыяльна ўзведзены буды нак непадалёку ад замка У 1738 пабудаваны і ў 1745 асвячоны мураваны касцёл Звеставання Прасвятой Дзевы Марыі (папярэднія драўляныя касцёлы згарэлі пры пажарах), у 1749 — мураваны вучэбны корпус (будаўніцтва новых карпусоў працягвалася да пач 19 ст) Езуіты мелі ў Полацку 6 касцёлаў У 1772 калегіуму належала каля 5 тыс валок зямлі, 16 620 прыгонных у вёсках і 289 мяшчан Да ліку найбуйнейшых належалі 9 фальваркаў Вяжышчы, Іванск, Ігумнаў, Загацце, Казімірава, Мосар, Мездзічы, Туроўля, Экіманія, якія давалі 63 882 злотых прыбытку У 1796—1811 у калегіуме вучылася ад 244 да 441 чал Пры калегіуме існавалі канвікт (інтэрнат), б-ка, *Полацкая друкарня,* тэатр, музей (з 1780-х г), аптэка (зафіксавана з 1641), шпіталь для бедных, сукнавальня (каля 1797) У 1812 на базе калегіума адкрыта *Полацкая езуіцкая акадэмія* Будынкі часткова захаваліся, помнікі архітэктуры *Вячаслаў Шалькевіч*

**ПО́ЛАЦКІ КАДЭ́ЦКІ КО́РПУС**, сярэдняя ваенна-навуч ўстанова закрытага тыпу ў Полацку ў 1835—1918 Існаваў на сродкі казны і ахвяраванняў дваран ства Засн для падрыхтоўкі да вайск службы дваранскіх дзяцей з Віцебскай, Мінскай, Магілёўскай, Віленскай, Гродзенскай і Смаленскай губ, а таксама для дзяцей афіцэраў і чыноўнікаў ваен пасяленняў Віцебскай і Магілёўскай губ Размяшчаўся ў пераабсталяваным будынку, дзе раней знаходзіліся *Полацкая езуіцкая акадэмія* і *Полацкае вышэйшае піярскае вучылішча* Быў разлічаны на 400 навучэнцаў (кадэтаў), прымаліся хлопчыкі ва ўзросце 9—11 гадоў У страявых адносінах складаўся з 4 рот грэнадзерскай, 2 мушкецерскіх і неранжырнай, якія ўтваралі батальён, 2 падрыхтоўчыя і 4 агульныя класы Выкладаліся рус, франц і ням мовы, арыфметыка, алгебра, геаграфія, гісторыя, чыстапісанне, маляванне, чарчэнне і закон Божы Настаўнікамі і выхавацелямі былі выключна вайскоўцы Пасля заканчэння корпуса кадэты для працягу адукацыі пераводзіліся ў Дваранскі полк у Пецярбург У 1857 дададзены 5-ы агульнаадукацыйны клас і 2-гадовыя спец класы, пасля заканчэння якіх кадэты адразу выпускаліся афіцэрамі У спец класах разам з агульнаадукацыйнымі выкладаліся ваенныя прадметы тактыка, артылерыя, ваен гісторыя і фартыфікацыя У 1859—63 са спец класаў было выпушчана афіцэрамі 172 чал У 1863 у выніку рэформы ваен-навуч устаноў спец класы скасаваны, а іх навучэнцы пераведзены ў сталічныя ваен вучылішчы У 1865 корпус рэарганізаваны ў ваен гімназію са штатам 350 навучэнцаў Курс ваен гімназіі (6, а з 1873 — 7 класаў) быў блізкі да гімназічнага, але большы па колькасці гадзін

**Полацкі кадэцкі корпус** Пач 20 ст

Страявая арганізацыя ў ваен гімназіі была скасавана, усе навучэнцы падзяляліся на ўзросты Штат настаўнікаў і выхавацеляў быў паўнаў паўлічаны цывільны мі чынамі з вышэйшай адукацыяй Пасля заканчэння ваен гімназіі большасць выпускнікоў для прадаўжэння вучобы пераводзілася ў ваен вучылішчы У 1882 ваен гімназія зноў пераўтворана ў кадэцкі корпус з 7-гадовым курсам навучання Яго навуч праграма набліжалася да гімназічнай, а ўнутр арганізацыя была падобная на страявую арг-цыю вайск часцей У пач 1-й сусв вайны корпус эвакуіраваны 1-я рота (старэйшыя кадэты) прыкамандзіраваны да Уладзікаўказскага, 2-я (сярэдні ўзрост) — да Адэскага, 3-я — да Сумскага кадэцкіх карпусоў Пасля Лют рэвалюцыі 1917 корпус рэарганізаваны ў гімназію ваен ведамства, у грамадз вайну яна апынулася ў зоне кантролю Добраахвотніцкай арміі А І *Дзянікіна* У 1919—20 на базе П к к і інш эвакуіраваных кадэцкіх карпусоў былі створаны Крымскі (у Арэандзе) і Феадасійскі малагадовы кадэцкія карпусы У 1920 рэшткі іх навучэнцаў былі вывезены ў Югаславію і там аб'яднаны ў 1-ы Рускі вял кн Канстанціна Канстанцінавіча кадэцкі корпус (у г Белая Царква ў 1920—44) Пры корпусе дзейнічаў музей, у якім сярод інш ваен рэліквій за хоўваліся 2 сцягі П к к За час існавання корпус падрыхтаваў больш за 3 тыс афіцэраў Сярод іх сын вял кн Канстанціна Канстанцінавіча — Алег (загінуў у 1-ю сусв вайну), ген Р І *Кандраценка*, ваен дзеячы і навукоўцы браты Дз Н і Н Н Кайгародавы, браты *Кірпічовы,* гісторыкі П В *Бабро́ўскі*, М Ф Дубровін, М І Сямеўскі, дзеячы рэв і нац-вызв руху Д Д *Бохан*, І А *Жда́новіч*, А В Жылінскі, І А Манцэвіч, А.А.*Патабня*, Л С Струміла, М В Чыжык, А Ф Шукевіч і інш

*Літ* Лалаев М С Исторический очерк военно-учебных заведений, подведомственных Главному их управлению Ч 1—3 СПб, 1880—92, Долгов И И Полоцкий кадетский корпус Витебск, 1899, Викентьев В П Полоцкий кадетский корпус Ист очерк Полоцк, 1910, Дьяков В А Деятели русского и польского освободительного движения в царской армии 1856—1865 гг Библиогр словарь М 1965, Лукашэвіч

А.М Арганізацыя вучэбнага працэсу ў кадэцкіх карпусах на тэрыторыі Беларусі ў 30-х — пачатку 50-х гг XIX ст // Весн БДУ Сер 4 1998 № 3 *Андрэй Лукашэвіч*

**ПО́ЛАЦКІ КЛЯ́ШТАР БЕРНАРДЗІНЦАЎ** Існаваў у 1498—1832 у Полацку Адзін з першых 4 кляштараў ордэна *бернардзінцаў* у ВКЛ Засн вял кн ВКЛ Аляксандрам на Запалоцці пры ўпадзенні Палаты ў Зах Дзвіну з мэтай схілення праваслаўных у каталіцтва Верагодна, у гэтым кляштары атрымаў пач адукацыю Ф *Скарына* Драўляны касцел кляштара пабудаваны ў 1502 У час *Інфлянцкай вайны 1558—82* ён спалены ў 1563, ацалелыя манахі ўцяклі і кляштар спыніў існаванне, маенткі, дадзеныя вял князем, перайшлі да праваслаўных У 1696 ваявода Д Слушка зноў запрасіў бернардзінцаў у Полацк і размясціў іх у слабадзе Кабак Пасля яго смерці ахвяраванні на будаўніцтва кляштара рабілі Буйніцкія — падчашыя Полацкага ваяв Пасля пажару 1758 пабудаваны мураваныя касцел Маці Божай Марыі Нябеснай (асвячоны ў 1769) і жылы корпус Касцел быў аднанефавы, з трансептам і двухвежавым фасадам, памерамі 42 × 25 *локцяў* У 1772 было 10 манахаў і інш персанал, пры кляштары працавала школа філасофіі У 1832 кляштар скасаваны, касцел пераробланы ў правасл царкву (значна пашкоджаны ў 1930-я г ) Жылы корпус захаваўся *Аляксандр Ярашэвіч*

**ПО́ЛАЦКІ КЛЯ́ШТАР ФРАНЦЫСКА́НЦАЎ** Існаваў у 17 ст — 1832 у Полацку Засн полацкім войскім К Храпавіцкім з жонкай Тэафіляй з Сакалінскіх паміж 1628 і 1648 (найб верагодная дата — 1640) Першыя 2 касцелы былі драўляныя Мураваны касцел св Антонія пабудаваны ў 1763—75 Уяўляў трохнефавы храм памерам 14,5 × 9,5 сажняў з 2-вежавым фасадам, у інтэр'еры мелася 7 алтароў У 1832 касцел перароблены ў царкву, пасля 1917 разбураны Двухпавярховы жылы корпус пач 18 ст захаваўся, помнік архітэктуры барока *Аляксандр Ярашэвіч*

**ПО́ЛАЦКІ КНЯ́ЖАЦКІ ХРАМ** Існаваў у 12—16 ст на *Полацкім Верхнім замку*, за 50 м ад *Полацкага Сафійскага сабора* З'яўляўся прататыпам храма Міхаіла ў Смаленску Рэшткі яго выявіў у час археал раскопак 1966—67 М К Каргер Храм мураваны 3-нефавы, 6-стаўповы, 3-апсідны, памеры 24 × 16 м Падкупальная прастора была перанесена на адно чляненне на З Цэнтр неф з У завяршаўся паўкруглай апсідай, больш вузкія бакавыя нефы — паўкруглымі нішамі ў тоўшчы сцяны Да асн аб'ему прымыкалі з Пн і Пд прыбудовы з самастойнымі апсідамі, яшчэ адна, верагодна, з З Сцены складзены з плінфы ў тэхніцы муроўкі са «схаваным радам» На паверхні плінфы трапляюцца знакі

**Полацкі кляштар бернардзінцаў** Дваровы фасад жылога корпуса Фота 1998

Фасады аздабляліі лапаткі складанага профілю, закамары, аркатурныя паясы Інтэр'ер размаляваны фрэскамі, падлога выкладзена керамічнымі пліткамі

*Літ* Каргер М К К истории полоцкого зодчества XII в (Руины вновь открытого храма на Верхнем замке) // Новое в археологии М , 1972, Раппопорт П А Русская архитектура X—XIII вв Кат памятников Л , 1982 (САИ, Вып Е1—47), Штыхов Г В Киев и города Полоцкой земли // Киев и западные земли Руси в XI—XIII вв Мн , 1982 *Алег Трусаў*

**ПО́ЛАЦКІ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й** Засн і адкрыты ў 1926 у Полацку на базе матэрыялаў, сабраных краязн гурткамі і камісіяй па ахове помнікаў старасветчыны і мастацтва Размяшчаўся ў будынку *Полацкага Сафійскага сабора*, з 1937 — у памяшканні б лютэранскай кірхі (19 ст ) Музей зберагаў стараж рукапісы і калекцыю зброі, рэдкія выданні 16—18 ст , слуцкія паясы і інш У Вял Айч вайну ўся экспазіцыя разрабавана У 1948 музей аднавіў работу як абл краязнаўчы, з 1954 раённы, з 1985 філіял *Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка* Пл экспазіцыі каля 550 м², 869 экспанатаў асн фонду (1999) Сярод экспанатаў крамяневыя і каменныя прылады працы, вырабы гарбарнага і касцярэзнага рамёстваў, керамічны посуд, пшыйныя грыўні, пярсцёнкі, фібулы, бранзалеты і інш ўпрыгожанні, манеты ВКЛ, Рэчы Паспалітай, Расіі, стараж зброя і адзенне, бурштынавыя вырабы з Прыбалтыкі, рэчы са смальты з Візантыі, ракавіны каўры і інш , арабскія куфіцкія дырхемы, пражскія грошы, дынарыі з археал раскопак на Полаччыне, зброя і адзенне часоў вайны 1812 Экспануюцца матэрыялы пач 20 ст , у т.л пра Кастр рэвалюцыю 1917 і падзеі грамадз вайны Этнагр матэрыял прадстаўлены экспазіцыяй «Куток сялянскай хаты канца 19 — пач 20 ст », вырабамі ткацтва, ганчарства, пляцення і дрэваапрацоўкі У 1997 адкрыта стацыянарная выстаўка, прысвечаная гораду-пабрацiму Полацка Фрыдрыхсхафену (Германія) Самастойны раздзел экспазіцыі — *Полацкі музей баявой славы* *Вольга Краско*

Жылы корпус **Полацкага кляштара францысканцаў** Фота 1998

**ПО́ЛАЦКІ ЛЕТАПІ́С**, адзін з першых гісторыка-літаратурных твораў, напісаных на бел землях Не збярогся Час узнікнення, аўтар, змест і характар дакладна не высветлены Вядомы па нешматлікіх прамых і ўскосных звестках у розных пісьмовых крыніцах На думку С М Салаўева, У Ц Пашуты, Л В Аляксеева і інш вучоных, асобныя ўрыўкі П.л есць у *Кіеўскім летапісе*, які збярогся ў складзе *Іпацьеўскага летапісу* (звесткі пра полацкія падзеі 2-й пал 12 ст ) Найб значны і цікавы з іх — датаванае 1159 (фактычна 1158) апавяданне пра вяртанне ў Полацк выгнанага палачанамі кн Рагвалода Барысавіча, напісанае рукой відавочцы падзей жыва, з яркімі дэталямі, з выкарыстаннем простай мовы Як сведчыць рус гісторык В М Тацішчаў, у П.л , адным са спісаў якога ён карыстаўся пры напісанні «Гісторыі расійскай», расказвалася пра полацкіх, віцебскіх, мінскіх і інш зах-рус князёў Відаць, летапіс быў прысвечаны гісторыі Полацкай зямлі 10—13 ст Паводле меркаванняў некат гісторыкаў (А П Сапуноў, М М Ціхаміраў), сапраўдным урыўкам з П л з'яўляецца і т зв аповесць пра Святохну, змешчаная пад 1216 у «Гісторыі расійскай» (т 3) Тацішчава, аднак большасць даследчыкаў прызнае яе літаратурным творам 17—18 ст

*Літ* Алексеев Л В Полоцкая земля в IX—XIII вв М , 1966, Чамярыцкі В А Да пытання аб раннім летапісанні Беларусі (XII—XIII ст ) // Весці АН БССР Сер грамад навук 1965 № 3 *Вячаслаў Чамярыцкі*

**ПО́ЛАЦКІ МАНЕ́ТНА-РЭ́ЧАВЫ СКАРБ** гл ў арт *Полацкія скарбы*

**ПО́ЛАЦКІ МАНЕ́ТНЫ ДВОР**, часовы манетны двор няпоўнага тэхналагічнага цыкла для «перепечатания» рас медных 5 капеек з 16-рублевай манетнай стапы (колькасць грашовых адзінак, выбітых з адзінкі масы металу) у 10 капеек 32-рублевай манетнай стапы (падваенне наміналаў) Запланаваны ўказам царскага ўрада Рас імперыі ад 27'4(8 5) 1796 у Полацку для перабіцця 1 млн руб старымі манетамі Паводле маніфеста ад 20 1 1797 вярталася 16-рублевая стапа, выпуск 5 капеек спыняўся

воласці перададзены Віцебскаму пав У студз —лютым 1919 да павета далучаны Арэхаўская, Варонцкая, Ветрынская, Нацкая, 10 5 1922 Бабынцкая воласці Лепельскага пав, у 1919 Клясціцкая вол, а 15 2 1923 уся тэр Дрысенскага пав а таксама Казянская і Уладзіміраўская воласці Гарадоцкага пав У 1923 пасля ўзбуйнення валасцей у П п іх стала 13 Бухарынская (цэнтр маентак Палата), Валадарская (в Тродавічы), Воркавіцкая (в Воркавічы), Дрысенская (Дрыса), Калінінская (Рудня), Кастрычніцкая (Гомель), Ленінская (Арэхава), Першамайская (Сястронкі), Пралетарская (Клясціцы), Працоўная (Казяны), Сялянская (Обаль), Сяменаўская (Каханавічы), Чырвонаармейская (Альбрэхтава) 3 3 1 1924 у БССР 20 6 1924 далучаны Лепельская, Ушацкая, Хоцінская воласці Бачэйкаўскага пав 17 7 1924 павет скасаваны, большасць яго тэрыторыі ўвайшла ў *Полацкую акругу* *Вячаслаў Насевіч*

**ПО́ЛАЦКІ ПЯХО́ТНЫ ПОЛК**, вайсковая часць рас арміі ў 1755—1918 Сфарміраваны 16 1 1775 з мушкецерскіх батальенаў і егерскай каманды С-Пецярбургскага легіена У 1796 названы мушкецерскім У 1829 палку прысвоены № 36 у 1833 ен аб'яднаны з 14-м Егерскім палком пад назвай Полацкі 14-ы егерскі полк У 1856 перафарміраваны ў П п п, з 1864 наз Полацкі 28-ы пяхотны полк Баявую дзейнасць пачаў у рус-турэцкую вайну 1787—91, вызначыўся *пры штурме* крэпасцей Ачакаў (1788), Бендэры (1789), Кілія (1790), Ізмаіл (1790) У рус-пруска-франц вайне 1806—07 вызначыўся ў баях пад Пултускам Прэйсіш-Эйлау і Данцыгам Удзельнічаў у руска-шведскай вайне 1808—1809 і ў сак 1809 у паходзе ген М Б Барклая-дэ-Толі праз Батнічны заліў на шведскі бераг да Стакгольма У вайну 1812 у складзе 1-й Зах арміі, вызначыўся ў баях пад Віцебскам (Астроўна), Смаленскам у Барадзінскай бітве Пасля Барадзіна 2 батальены палка ў складзе партыз атрада І С Дораха ва ўдзельнічалі ў вызваленні Верэі, Малаяраслаўца, Вязьмы У 1813 полк удзельнічаў у баях пры Люцыне, Баўцэне і ў «Бітве народаў» пад Лейпцыгам У 1814 паспяхова дзейнічаў пры штурме Рэймса і Парыжа У 1828—29 удзельнічаў у руска турэцкай вайне, у 1849 — ва ўціхамірванні венг рэвалюцыі Полк удзельнічаў у Крымскай вайне 1853—56, у задушэнні паўстання 1863—64 У 1-ю сусв вайну П п п ваяваў на Паўд-Зах, Паўн-Зах і Зах (жн 1915 — май 1916) франтах, удзельнічаў у Нарачанскім баі (сак 1916) і Брусілаўскім прарыве (май 1916) Паводле рашэння сав ўрада 1 3 1918 полк расфарміраваны *Шаміль Бекцінееў*

**ПО́ЛАЦКІ РАЁН** Размешчаны ў цэнтр частцы Віцебскай вобл Пл 3,2 тыс км², нас 33,8 тыс чал, (без Полацка і



Аўтар В Л Насевіч

Наваполацка, 1999) Цэнтр — г *Полацк* Знаходзіцца ў межах Полацкай нізіны Найб рака — Зах Дзвіна з прытокамі Сосніца, Палата, Тураўлянка, Ушача з Нежлеўкай, Нача На тэр раена шмат азер (61 мае рыбапрамысл значэнне), найб з іх Янова, Вядзета, Чарвятка, Наўліцкае, Гомель, Болныра, Усомля Пад лесам 53% тэр раена Праходзяць чыгункі на Віцебск, Маладзечна, Даўгаўпілс (Латвія), Невель (Расія), аўтадарогі на Віцебск, Лепель, Глыбокае, Ушачы, Меры, Верхнядзвінск, Апочку (Расія), Расоны

Раен утвораны 17 4 1924 у складзе Полацкай акр (да ліп 1930) 20 8 1924 падзелены на 15 сельсаветаў Баярскі, Бельскі, Булаўкаўскі, Громаўскі, Дамнікоўскі, Махіроўскі, Салоніцкі, Семянецкі, Сосніцкі, Струнскі, Сястронкаўскі, Тураўлянскі, Шацілаўскі, Экіманскі, Юравіцкі 4 8 1927 далучаны Алесаўскі, Арлейскі, Васільеўскі, Дрэтуньскі, Маласітнянскі сельсаветы ліквідаванага Краснапольскага р-на, 8 7 1931 — Замшанскі і Кушлікоўскі сельсаветы ліквідаванага Боркавіцкага р-на У 1931—35 у П р уваходзілі 12 сельсаветаў часова ліквідаванага Ветрынскага р-на 3 20 2 1938 П р у Віцебскай вобл У Вял Айч вайну ў сярэдзіне ліп 1941 тэр раена акупіравана ням фашыстамі, якія загубілі ў горадзе і раене 300 тыс чал, знішчылі разам з жыхарамі вескі Арлова, Гара, Гаравыя, Гаўрыленкі, Гліснаўка, Забор'е, Загорцы, Казлоўцы, Мартыненкі, Наркаўшчына, Пагары, Царова, Чарбамыслы (не адрадзіліся) Дзейнічалі *Полацкае патрыятычнае падполле*, Полацкія падп райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, партыз брыгады 3-я Беларуская, імя С М Кароткіна, імя Ракасоўскага, імя Чапаева, Расонская імя Сталіна, А М Крыўскага, «Няўлоўныя», асобныя атрады «Баявы», «Трэцяя», выдавалася падп газ «Бальшавіцкі шлях» З восені 1942 тэр раена ўваходзіла ў Расонска-Асвейскую і Полацка-Лепельскую партыз зоны (гл адпаведныя арт) У крас —маі 1944 адбыліся баі партызан Полацка-Лепельскай партыз зоны супраць карнай экспедыцыі ням-фаш войскаў (гл *Полацка-Лепельская бітва 1944*) Раен вызвалены ў пач ліп 1944 часцямі 1-га Прыбалтыйскага фронту ў ходзе *Полацкай аперацыі 1944* 3 20 9 1944 да 8 11 1954 П р у *Полацкай вобласці*, 22 10 1959 утвораны рабочы пас Полацкі (з 14 12 1963 г *Наваполацк*) 20 1 1960 далучаны Астроўшчын-

:кі, Гомельскі, Заазерскі, Заскарскі, Ішвінаўскі, Нацкі, Тураўлянскі, Шпакоўшчынскі сельсаветы і г п *Ветрына* Ветрынскага р-на На 1 1 1998 у П р 411 населеных пунктаў, у т л горад абл падпарадкавання Наваполацк і г п *Ветрына*, 19 сельсаветаў Адамоўскі, Азінскі, Астроўшчынскі, Бабыніцкі, Баравухскі, Вароніцкі, Гаранскі, Гомельскі, Заазерскі, Зяленкаўскі, Маласітнянскі, Нацкі, Палатоўскі, Салоніцкі, Труцаўскі, Фарынаўскі, Шпакоўшчынскі, Экіманскі, Юравіцкі, Ветрынскі пассавет, 9 калгасаў, 13 саўгасаў, 50 фермерскіх гаспадарак, птушкафабрыка (в Паўднёвая), Полацкі льнозавод (в Калектыўная), міжкалгасны домабудаўнічы камбінат (в Фарынава), асфальтавы з-д (в Ксты), раённыя аб'яднанні Дзяржкамсельгастэхнікі і райсельгасхіміі (в Багатырская), лясгас У раёне 17 сярэдніх і 11 базавых школ, школа-інтэрнат, 3 муз і 3 школы мастацтваў, 29 дашкольных устаноў, 24 дамы культуры, 12 клубных устаноў, 45 б-к, 6 бальніц, 6 амбулаторый, 28 фельчарска-акушэрскіх пунктаў Выдаецца раённая газ «Полацкі веснік» Найб значныя археал помнікі Баркі, Бельчыца, Гаравыя, Глінішча, Далецкія, Дзявічкі, Замошша 1-е, Захарнічы, Крумплева, Плусы, Пуканаўка 1-я, Пятроўцы, Рудня, Субаўшчына, Шалкова, Экімань і інш Брацкія магілы сав воінаў і партызан (вёскі Азіна, Астроўшчына, Багародзіцкае, Баравуха 1-я, Баравуха 2-я, Булаўкі, Варонічы, Гараны, Гомель, Грамошча, Двор Саланевічы, Домнікі, Дрэтунь, Заскаркі, Званае, Кушлікі, Малое Сітна, Мяжно 3-е, Палата, Рудня, Сястронкі, Тросніца, Труды, Туроўля, Уладзіміраўка, Ухвішча, Экімань, Юравічы, Янкова), сав ваеннапалонных, партызан і ахвяр фашызму (в Баравуха 1-я), вайсковыя могілкі (вёскі Труды, Уладзіміраўка), магілы ахвяр фашызму (вёскі Арцейкавічы, Баярова, Белае, Будзькаўшчына, Жарцы, Жураўна, Заазер'е, Забелле, Засітніца, Латышкі, Уладычына, Чарняя) Помнікі на месцы рэв выступлення сялян 1905 (вёскі Вішнева, Юравічы), гібелі сав лётчыкаў у 1944 (в Варонічы), спаленых у Айч вайну і не адроджаных вёсак, партызанам і падпольшчыкам (вёскі Варонічы, Гомель, Малое Сітна, Шчаперня), настаўнікам і вучням якія загінулі ў Вял Айч вайну (в Гараны), ахвярам фашызму (вёскі Гаранполле, Лучна, Рабчонкі, Семянец) Помнік архітэктуры — царква пач 20 ст (в Бяздзедавічы) Захаваліся рэшткі замчышчаў 16 ст Сітна (в Малое Сітна, на паўд -зах беразе воз Сітна) і Туроўля (каля в Туроўля, ва ўрочышчы Гарадзішча), земляных умацаванняў 17 ст (каля в Кушлікі, на правым беразе р Зах Дзвіна) Помнік сядзібна паркавага мастацтва пач 20 ст — сядзіба (в Бяздзедавічы, на левым беразе р Ушача) Радзіма гісторыка і публіцыста 19 ст М І Балінскага, героя грамадз вайны У М Азіна, збіральніка бел муз фальклору, выдаўца і педагога А.А Грыневіча, мовазнаўцаў Б І Эпімах-Шыпілы, М Р Судніка і інш

*Літ* Полацкі раён // Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі Віцебская вобл Мн , 1985, Памяць Беларусь Рэсп кніга Мн , 1995 С 191—198 *Алесь Скараход*

**ПО́ЛАЦКІ САФІ́ЙСКІ САБО́Р**, помнік архітэктуры 11—18 ст Паклаў пачатак *Полацкай школе дойлідства* Пабудаваны паміж 1044 і 1066 (паводле інш звестак у 1050—60) у Полацку пры кн Усяславе Брачыславічу на дзядзінцы горада — *Полацкім Верхнім замку* Агульныя памеры сабора шырыня 26,4 м, даўжыня (з улікам апсід) 31,5 м Тут прымалі паслоў, захоўваліся дзярж казна, б-ка, архіў З'яўляўся духоўным сімвалам горада, у 11—19 ст быў кафедральным саборам *Полацкай праваслаўнай епархіі* і *Полацкай уніяцкай архіепархіі* Мураваны 5-нефавы крыжова-купальны (7 купалоў, паводле інш звестак 5) храм з 3 гранёнымі апсідамі На кожным фасадзе (акрамя ўсходняга) было па 6 прамавугольных плоскіх лапатак, якія адпавядалі ўнутранаму падзелу памяшкання 16 слупамі на нефы, 3 сярэднія нефы заканчваліся апсідамі Над сярэдкрыжжам сабора быў цэнтр купал на барабане Сцены складзены з прыроднага каменю і плінфы ў тэхніцы мурооўкі са «схаваным радам», што стварала 2-колерную гаму паверхні Сабор мае шэраг агульных рыс з Кіеўскім і Наўгародскім Сафійскім саборамі 11 ст У канцы 15 — пач 16 ст перабудаваны ў 5-вежавы храм абарончага тыпу Неаднойчы быў разбураны (у 1607 і 1643 спалены, 1710 часткова пашкоджаны выбухам) Паміж 1738—50 перабудаваны па загаду архіепіскапа Фларыяна *Грабніцкага* (арх І К *Глаўбіц*, каменшчык Б Касінскі) у стылі віленскага барока Храм быў арыентаваны з Пд на Пн У 18 ст сабор — 3-нефавая мураваная базіліка з 2 шмат'яруснымі вежамі на гал фасадзе З усх боку ў кампазіцыю ўключаны рэшткі сцен, склеп і гранёныя апсіды храма сярэдзіны 11 ст Цэнтр неф на гал фасадзе і з боку алтарнай апсіды завершаны фігурнымі атыкавымі франтонамі У інтэр'еры 3-ярусная каменная алтарная перагародка На яе бакавых дзвярах захаваліся маляўнічыя кампазіцыі 18 ст У цэнтры пад 3-м ярусам тэмперная размалёўка 18 ст («Тайная вячэра», над ёю ў барочным ляпным картушы — «Спас нерукатворны») Алтарная перагародка завершана гарэльефнай кампазіцыяй «Тройца новазапаветная», выкананая ў стылі сталага барока з элементамі ракако У стараж частцы храма (усх апсіда) захаваліся рэшткі фрэсак 11 ст У бакавых частках апсіды арнаментальныя матывы, у цэнтральнай — фрагмент «Еўхарысціі» У будынку сабора пасля рэстаўрацыі (1985, арх В Слюнчанка) размешчана канцэртная зала з арганам і Музей гісторыі і архітэктуры Сафійскага сабора

*Літ* Шчакаціхін М Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва Т 1 Мн , 1928 (рэпр выд Мн , 1993), Штыхов Г В Древнеполоцкое каменное зодчество // Белорусские древности Мн , 1967, Ткачоў М А Новае пра Сафійскі сабор // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі 1972 № 2,

Полацкі Сафійскі сабор Фота 1998

**«ПО́МНІКІ ГІСТО́РЫІ І КУЛЬТУ́РЫ БЕЛАРУ́СІ»**, штоквартальны інфармацыйны навук.-метадычны бюлетэнь *Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры*. Выдаваўся ў *1970—89* у Мінску на бел. мове (з 1990 сумесна з Бел. фондам культуры выдаецца час. *«Спадчына»*). Асвятляў пытанні аховы, вывучэння і прапаганды помнікаў, інфармаваў пра работу Бел. т-ва аховы помнікаў гісторыі і культуры, змяшчаў метадычныя распрацоўкі, кансультацыі, парады пярвічным арг-цыям. У бюлетэні надрукаваны Закон Беларускай ССР аб ахове і выкарыстанні помнікаў гісторыі і культуры (1978, № 4) і статут т-ва (1987, № 1). Публікаваў спісы помнікаў гісторыі і культуры па раенах, у т.л. помнікаў археалогіі («Помнікі Бабруйшчыны», 1981, № 1, «Помнікі Мазыршчыны», 1982, № 3, «На Клімаўшчыне», 1984, № 4, і інш.), матэрыялы пра гіст. мінулае Беларусі: «Тацішчаўскія звесткі пра Беларусь» М.І.Ермаловіча (1976, № 2), «Паўстанцы 1863 года» В.Б.Караткевіча (1980, № 4), «Новыя звесткі аб выданнях Сымона Буднага» Я.І.Парэцкага (1981, № 1), «Крэўская унія» І.А.Юхо (1985, № 4) і інш. Пытанням узнікнення і развіцця бел. кнігадрукавання прысвечаны артыкулы «Прыватнае кнігадрукаванне ў Беларусі» Я.С.Умецкай (1979, № 4), «Іван Федараў у Беларусі» А.П.Грыцкевіча (1984, № 3), «Помнік права феадальнай Беларусі» Т.Доўнар (1989, № 1), знакамітым гіст. асобам — «За мужыцкую праўду» М.В.Біча (1988, № 1), «Інжынер рускай арміі» А.М.Нянадаўца (1988, № 4) і інш. Друкаваў артыкулы па археалогіі («Палавецкія паселішчы на Беларусі» М.І.Алексюка, 1978, № 1, «Старажытныя гарады Панямоння» Ф.Д.Гурэвіч, 1980, № 1, «Умацаваныя феадальныя сядзібы XII—XIII ст.» А.М.Ваганавай, 1980, № 1), пра асобныя археал. помнікі («Тайманаўскі археалагічны комплекс» Л.Д.Побаля, 1979, № 3, «Паселішчы на Крывінскім тарфяніку» Э.М.Зайкоўскага, 1980, № 1), аналізаваў археал. знаходкі («Берасцяная грамата» Л.В.Аляксеева, 1982, № 2, «Абутак сярэдневяковага Мінска» В.Е.Собаля і С.В.Тарасава, 1985, № 4, і інш.), змяшчаў справаздачы археал. экспедыцый і паведамленні краязнаўцаў. На старонках бюлетэня змешчаны матэрыялы па бел. этнаграфіі і фальклоры («Традыцыйныя звычаі і абрады беларусаў» У.К.Касько, 1980, № 3, «Прымхі» В.І.Скідана, 1981, № 1, «Вясельная сімволіка» С.В.Барыса, 1982, № 3, «Нататкі этнографа аб Палессі» А.А.Малчанавай, 1983, № 1, «Вытокі і назвы» Л.У.Дучыц, 1986, № 2), архітэктуры і выяўл. мастацтве («Гісторыка-горадабудаўнічыя комплексы Беларусі» У.В.Трацэўскага, 1971, № 2, «Новае пра Сафійскі сабор» М.А.Ткачова, 1972, № 2, «Куфры» Я.М.Сахуты, 1977, № 1, «Полацкі шэдэўр XII стагоддзя» Г.В.Штыхава, 1973, № 2, «У люстры графікі» В.Ф.Шматава, 1974, № 2, «Забытыя беларускія мастакі» Н.Ф.Высоцкай, 1974, № 3, «Народны роспіс на шкле» Сахуты і В.Л.Говара, 1983, № 4), літаратуры, музыцы і тэатры («Невядомыя рукапісы» М.М.Улашчыка, 1976, № 4, «Сцяжынкамі паэта» І.Лісоўскага, 1988, № 4, «Вытокі скрыпічнага мастацтва ў Беларусі» А.Л.Капілава, 1977, № 1, «Цымбалы» З.М.Насценкі, 1975, № 4, «Ля вытокаў тэатра» І.Я.Мараша, 1979, № 3) і інш. Змяшчаў артыкулы пра жыццё і дзейнасць бел. гісторыкаў, археолагаў і краязнаўцаў (М.М.Улашчыка, А.М.Ляўданскага, І.І.Стабрэўскага, В.П.Федаровіча), матэрыялы пра помнікі сав. рэспублік і краін сацыяліст. садружнасці, рэцэнзіі на новыя кнігі, рэзюме на рус. і англ. мовах. Выданне багата ілюстравана каляровымі і чорна-белымі фотаздымкамі. Выйшлі 74 нумары.

*Юлія Гаева.*

Герб «Помян».

**«ПО́МНІКІ РУ́СКАГА ПРА́ВА»** («Памятники русского права»), серыйная публікацыя важнейшых дакументаў па гісторыі стараж.-рус. і рас. права эпохі феадалізму, выдадзеная ў 8 вып. у Маскве ў 1952—63 пад рэдакцыяй С.У.Юшкова (вып. 1, 2), Л.У.Чарапніна (вып. 3—5, 7), К.А.Сафроненка (вып. 6, 8). У 1-ы вып. увайшлі *дагаворы Русі з Візантыяй 911, 944, 971*, *«Руская праўда»*, статуты Уладзіміра Святаславіча і Яраслава Уладзіміравіча. У 2-м вып. апублікаваны прававыя крыніцы 12—15 ст., у т.л. *дагавор 1229* Смаленска, Віцебска і Полацка з Рыгай і Гоцкім берагам, граматы ўладзіміра-валынскага кн. Уладзіміра Васілевіча, што дараваў Кобрына і Бярэсця, прававыя акты Наўгародскай і Пскоўскай феад. рэспублік, міжнар. дагаворы Ноўгарада, Пскоўская судная грамата і інш. У 3-і вып. увайшлі дакументы перыяду ўтварэння Рус. цэнтралізаванай дзяржавы 14—15 ст. (прыватныя і дзярж. акты феад. землеўладання і гаспадаркі, Судзебнік 1497 і інш.). У 4-м вып. змешчаны крыніцы 16 — пач. 17 ст., у 5-м вып. — дакументы 1-й пал. 17 ст., у 6-м вып. — Саборнае ўлажэнне 1649, у 7-м вып. — крыніцы 2-й пал. 17 ст. 8-ы вып. уключае помнікі пач. 18 ст. па крымінальным, цывільным і працэсуальным праве, а таксама па рэформах дзярж. ладу (аб заснаванні Сената 1711, Генеральны рэгламент 1720, аб пераходзе ў спадчыну прастола 1722, аб падушным падатку 1722, Табель аб рангах 1722). Тэксты крыніц надрукаваны у спрошчаным напісанні сучасным алфавітам, прыведзены варыянты розных спісаў. Ва ўводзінах дадзены агляд паходжання і развіцця помнікаў. Дакументы забяспечаны тэксталагічнымі і паартыкульнымі гісторыка-прававымі каментарыямі, ёсць прадметна-тэрміналагічныя паказальнікі.

**«ПО́МНІКІ РУ́СКАЙ ДАЎНІ́НЫ Ў ЗАХО́ДНІХ ГУБЕ́РНЯХ ІМПЕ́РЫІ»** («Памятники русской старины в западных губерниях империи, издаваемые по высочайшему повелению П. Н. Батюшковым»), серыйнае выданне з ілюстраваным дадаткам, прысвечанае пераважна царкоўнай гісторыі Зах. Украіны, Беларусі і Літвы 14—18 ст. (т. 1—8, СПб., 1868—*85*). Выдавалася пад рэдакцыяй П.М.*Бацюшкава*. Т. 1—4 прысвечаны гісторыі Валыні, т. 5—6 — гісторыі Вільні, у асн. царкоўнай. У канцы 5-га т. названы правасл. цэрквы горада, прыведзена іх гісторыя. Частка 6-га т. прысвечана каментарыям да ілюстрацый [«Від (план) горада Вільні да 1523 года», «Замкавая гара ў Вільні», «Руіны Трокскага замка» і інш.]. Т. 7—8 пад назвай «Холмская Русь» складаюцца з асобных артыкулаў, у т.л. і па гісторыі ВКЛ у цэлым: «Аб межах Польскай кароны і Вялікага княства Літоўскага» С.Шалкевіча, «Люблінскі з'езд 1569» І.Малышэўскага, шэраг біяграфій правасл. і уніяцкіх царкоўных дзеячаў (А.Філіповіча, І.Кунцэвіча, І.Пацея і *інш.*).

**«ПО́МЯН»**, прыватнаўласніцкі герб, якім карысталіся больш за 130 родаў Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы, у т.л. Асецкія, Багаткі, Брудзеўскія, Грабскія, Макавецкія, Раценскія, Саковічы. Мае ў залатым полі выяву чорнай галавы зубра, прабітай наўскос мячом. Клейнод — над прылбіцай з каронай сярэбраная рука ў даспехах з мячом. Вядомы з пач. 14 ст., у ВКЛ — пасля *Гарадзельскай уніі 1413*.

**ПО́ПІСЫ ВО́ЙСКА ВЯЛІ́КАГА КНЯСТВА ЛІТО́ЎСКАГА**, попісы шляхты, вайсковыя мерапрыемствы па рэгістрацыі і падліку ўзброеных не найманых сіл дзяржавы. Першы попіс, матэрыялы якога захаваліся, праведзе-

**«ПРАВАСЛА́ЎЕ»**, *рэлігійна-асветніцкі* часопіс, які выдаецца з 1993 у Беластоку на бел. мове адзін раз у год. Заснаваны Бел. правасл. брацтвам трох віленскіх мучанікаў, Кірыла-Мяфодзіеўскім правасл. брацтвам у Польшчы і выдавецкім цэнтрам «Ортдрук» г. Беласток. У 1993—95 (№ 1—3) меў назву «Праваслаўе ў Беларусі і ў сьвеце». Гал. рэдактар — протаіерэй Г. Латушка. З часопісам супрацоўнічаюць рэліг. дзеячы, пісьменнікі, навукоўцы, актывісты брацкага руху Беларусі і Польшчы. Мае рубрыкі: багаслоўе, рэліг. думка, царк. гісторыя, духоўная спадчына, архівы і дакументы, маст. слова, пераклады (Святога Пісання і царк. службаў) прыходскае жыццё. З 1998 (№ 6) пачата серыя, прысвечаная памесным цэрквам правасл. народаў. *Алена Яскевіч*

**ПРАВАСЛАЎНАЕ БЕЛАРУСКАЕ ДЭМАКРАТЫЧНАЕ АБ'ЯДНА́ННЕ** (ПБДА), рэлігійна-грамадская арг-цыя ў Зах. Беларусі. Існавала з крас. 1927 да 2-й пал. 1930-х г. У склад яго кіраўніцтва (знаходзілася ў Вільні) уваходзілі В. Багдановіч, А. Назарэўскі, А. Коўш, Л. Голад і інш. Друкаваны орган — час. *«Праваслаўная Беларусь»*. ПБДА ставіла за мэту абарону рэліг., паліт., культ.-нац., эканам. і юрыд. правоў зах.-бел. насельніцтва. Выступала за выкарыстанне бел. мовы ў праваслаўных богаслужэннях і ўсіх сферах грамадскага жыцця, змагалася з праявамі нац., рэлігійнай і інш. дыскрымінацыі беларусаў у Польшчы. Вырашэнне эканам. праблем зах.-бел. вёскі бачыла ў справядлівым падаткаабкладанні, развіцці разнастайных форм кааперацыі, надзяленні зямлёй бяднейшых пластоў. Актыўна выступала супраць польскага абшарніцтва ў Зах. Беларусі, падтрымлівала патрабаванні рабочых аб увядзенні 8-гадзіннага рабочага дня, устанаўленні справядлівай сістэмы заргілат і пенсій, забароне дзіцячай працы і інш. У складзе Бел. цэнтр. выбарчага к-та і Блока нац. меншасцей ПБДА удзельнічала ў выбарчай кампаніі у польскі сейм і сенат (сак. 1928). Дзейнасць ПБДА падвяргалася нападкам з боку польскіх арг-цый нацыяналістычнага кірунку і праваслаўна-манархічных колаў рас. эміграцыі. *Юрка Васілеўскі*

**«ПРАВАСЛАЎНАЯ БЕЛАРУ́СЬ»**, рэлігійна грамадскі і паліт. часопіс, орган *Праваслаўнага беларускага дэмакратычнага аб'яднання*. Выдаваўся з кастр. 1927 да 1928 у Вільні (у 1927 два разы, у 1928 тры разы ў месяц) на бел. мове. Рэдактар Л. Голад. Меў рубрыкі «Царкоўная хроніка», «Палітычная хроніка», «З беларускага жыцця», «Наша пошта», «Абвесткі» і інш. Выкрываў палітыку польскіх улад у *адносінах* да нац. меншасцей, у т. л. беларусаў, у Зах. Беларусі (арт. «Блок нацыянальных меншасцей», «Юпітэр злуецца» В. Васілевіча, «Польскі радыкалізм і справы нацыянальных меншасцей» У. Самойлы пад псеўд. Наглядчык), востра крытыкаваў іерархаў правасл. аўтакефальнай царквы ў Польшчы за сервілізм і ўтодніцтва перад уладай («Аўтакефалія», «Адказ мітрапаліта Дзянісія мітрапаліту Сергію», «Мітрапалічы блок» В. Багдановіча). Шмат увагі аддаваў асвятленню выбарчай кампаніі напярэдадні выбараў у польскі сейм і сенат (сак. 1928), прапагандаваў ідэю стварэння адзінага выбарчага блока нац. меншасцей, крытыкаваў па зіцыю Рус. нар. аб'яднання за адмову ўдзельнічаць у ім («Мы і РНА» пад псеўд. Сябра), рыхтаваў грамадскую думку Зах. Беларусі да выбараў («Палітычная спеласць», «Чарговае заданне» Голада, «Беларускія выбарныя справы» Сябра). На старонках часопіса змешчаны інфармацыя пра з'езд бел. выбаршчыкаў у Вільні (27.12.1927) і прынятая ім платформа Бел. цэнтр. аб'яднанага выбарчага к-та блока нац. меншасцей, пра дзейнасць створанага пасля выбараў Бел. пасольскага клуба, *працэс 56-і* над дзеячамі Бел. сял.-работніцкай грамады, даклад Багдановіча «Беларускі пасольскі клуб і яго праца ў сейме і сенаце 1922—1927 гг.» і яго ўспаміны «Дзесяць гадоў таму назад» пра ўдзел у Вял. царк. саборы ў ліст. 1917 у Маскве, матэрыялы пра праследаванне польскімі ўладамі праваслаўных у Зах. Беларусі («Маламажэйкаўская мураванка» пад псеўд. Мураванкаўскі прыхажанін, «Навадворская царква» Я. Гаротнага) і інш. Выйшла больш за 10 нумароў, асобныя з іх былі канфіскаваны. *Арсень Ліс*

Да арт. **Праваслаўная царква**. Абразок «Канстанцін і Алена». Полацк. 12 ст.

Да арт. **Праваслаўная царква**. Хр[illegible] кратар. Фрэска са Спаса-Ефрасіннеўскай царквы ў Полацку. 12 ст.

**ПРАВАСЛА́ЎНАЯ ЦАРКВА́** на Беларусі, аб'яднанне правасл. епархій на тэр. Беларусі *Хрысціянства* ў яго ўсх. форме (з 1054 *праваслаўе*) уведзена на бел. землях у канцы 10 ст. як дзярж. рэлігія. Большасць даследчыкаў схіляецца да думкі, што заснаванне *Полацкай праваслаўнай епархіі* — першай на тэр. Беларусі — адбылося ў 992, што традыцыйна лічыцца пачаткам тут гісторыі П. ц. У перыяд *Кіеўскай Русі* вызначыліся асн. сферы дзейнасці П. ц., узнікла буйное царк. землеўладанне, сфарміравалася епархіяльная структура, з'явіліся *манастыры* Полацкая, *Тураўская праваслаўная епархія* і інш., у склад якіх у розныя гады ўваходзілі бел. землі, былі падпарадкаваны *Кіеўскай мітраполіі*. Апошняя ў царк.-кананічных адносінах падначальвалася Канстанцінопальскаму патрыярхату. Цэнтрамі хрысціянізацыі былі гарады (напр., аналіз курганнага могільніка Заслаўя сведчыць, што прыхільнікаў язычніцтва ў 1020-я г. было не больш за 9—13%, у сярэдзіне 11 ст. — 2—2,5%). У сельскай мясцовасці поўная хрысціянізацыя адбылася к канцу 12 — пач. 13 ст. (некаторыя даследчыкі адносяць канец гэтага працэсу да 2-й пал. 13 і нават да 14 ст.). У 1303 у *Галіцка-Валынскім княстве* створана Галіцкая мітраполія (існавала з перапынкамі да канца 14 ст.), адной з 7 епархій якой была Турава-Пінская (гл. ў арт. *Пінская праваслаўная епархія*). З 1216 у ВКЛ узнікла незалежная ад Кіеўскай мітраполіі (з пач. 14 ст. яе цэнтр у Маскве) Літоўска-Навагрудская мітраполія, якая таксама называла сябе Кіеўскай. Да сярэдзіны 15 ст. Канстанцінопальскі патрыярхат, які не жадаў канчатковага падзелу П. ц. ВКЛ і Вял. княства Маскоўскага, прызначаў мітрапалітаў у Навагрудак нерэгулярна, нягледзячы на просьбы вял. князёў ВКЛ. Пасля смерці першага літ.-навагрудскага мітрапаліта *Феафіла* (1330) новы мітрапаліт не быў пастаўлены, епархіі ў ВКЛ вярнуліся

пад уладу мітрапаліта кіеўскага ў Мас кве У 1355 у Навагрудак прызначаны мітрапаліт *Раман*, якому падпарадкоўваліся 7 епархій на тэр ВКЛ і Галіцыі Турава-Пінская, Полацкая, Галіцкая, Уладзіміра-Валынская, Луцкая, Хол мская, Перамышльская Пасля смерці Рамана (1362) патрыярх канстанцінопальскі аднавіў адзінства мітраполіі ўсяе Русі У 1414 па ініцыятыве вял князя Вітаўта Навагрудскі сабор абвясціў незалежнасць П ц ВКЛ ад Кіеўскай мітраполіі ў Маскве і Канстанцінопальскага патрыярхата Аднак у 1420 літ -навагрудскі мітрапаліт Грыгорый *Цамблак*, не атрымаўшы прызнання ў правасл свеце, страціў падтрымку Вітаўта і пакінуў кафедру, кіраўніком П ц ў *ВКЛ быў прызнаны* кіеўскі мітрапаліт (у Маскве) *Фоцій* . У 1458 П ц ў ВКЛ і Вял княстве Маскоўскім канчаткова падзялілася на 2 незалежныя адна ад адной мітраполіі Кіеўскую з цэнтрам у Навагрудку (у 1472 мітрапаліт *Грыгорый Балгарын* атрымаў кананічнае прызнанне канстанцінопальскага патрыярха) і Маскоўскую (стала так афіцыйна наз з 1459) З таго часу да сярэдзіны 16 ст з 12 мітрапалітаў П ц ў ВКЛ (мелі тытул мітрапаліт кіеўскі, галіцкі і ўсяе Русі) 9 мелі родавыя маенткі ў Беларусі або займалі вышэйшыя месцы ў бел царк іерархіі

На працягу стагоддзяў П ц адыгрывала значную ролю ў культурным і грамадскім жыцці Беларусі развіцці школьніцтва, пашырэнні кніжнай навукі і пісьменства, вядзенні судаводства (справы, звязаныя з парушэннем царк канонаў), духавенства часта выступала дарадцамі князёў У сярэдзіне 16 ст ў Вільні было 17 цэркваў, у Навагрудку — 10, у Брэсце і Полацку — па 9, у Віцебску — 7, у Гродне і Слоніме — па 6, у Магілеве, Клецку і Слуцку — па 5 У 15—16 ст , калі вял князі ВКЛ сталі актыўна спрыяць каталіцкай канфесіі, П ц і правасл свецкая знаць павялі барацьбу за свае правы 15 10 1432 яны дамагліся ад Ягайлы выдання прывілея, які ўраўноўваў правасл феадалаў у правах з католікамі і т ч аслабляў дыскрымінацыйны *Гарадзельскі прывілей 1413 Прывілеем 1434* вял кн Жыгімонта Кейстутавіча «руская» знаць дамаглася саслоўнай роўнасці з католікамі, але па ранейшаму абмяжоўвалася ў кіраванні дзяржавай У 1563 Жыгімонт II Аўгуст адмяніў Гарадзельскі прывілей і ў 1568 пацвердзіў гэта Асн палажэнні аб верацярпімасці да праваслаўных зафіксаваны ў «Акце Варшаўскай канфедэрацыі» 1573, а потым перанесены ў *Статут Вялікага княства Літоўскага 1588* У 1592 прынята каралеўская грамата аб тым, каб свецкія ўлады не ўмешваліся ў справы П ц Асобнымі каралеўскімі граматамі ў 1592 зацверджаны *брацтвы праваслаўныя* ў Мінску і Брэсце У выніку *Брэсцкай уніі 1596* П ц апынулася ў цяжкім становішчы большасць епіскапаў на чале з мітрапалітам Міхаілам *Рагозам* перайшла ва уніяцтва Пачалося змаганне з уніятамі за храмы і манастыры Спачатку праваслаўныя аб'ядноўваліся для сумеснай барацьбы разам з пратэстантамі, потым звярталіся за дапамогай да Масквы і ўсх патрыярхаў, падавалі скаргі ў сейм і Трыбунал ВКЛ У 1620 Украіну наведаў ерусалімскі патрыярх Феафан, які прызначыў кіеўскім мітрапалітам (у Кіеве) Іова *Барэцкага* і епіскапаў на епархіі, але кароль Жыгімонт III не дапусціў іх да кафедраў Пасля падаўлення *Віцебскага паўстання 1623*, выкліканага дзеяннямі уніяцкага архіепіскапа Іасафата *Кунцэвіча*, становішча П ц пагоршылася, спроба правесці ў 1629 прымірэнчы з'езд праваслаўных і уніятаў не мела поспеху У 1633, каб супакоіць правасл казацтва Украіны і пазбегнуць паўстанняў з яго боку, кароль Уладзіслаў IV аб'явіў аб стварэнні 4 новых правасл епархій Луцкай, Львоўскай, Перамышльскай і *Магілёўскай праваслаўнай епархіі* Мітрапалітам кіеўскім быў прызначаны Петр *Магіла*, пры якім адбывалася пэўнае адраджэнне П ц У час *народна-вызваленчай вайны беларускага і ўкраінскага народаў 1648—54* кароль Ян Казімір быў вымушаны ў 1650 аб'явіць аб поўнай свабодзе для вызнання і культу П ц Паводле *«вечнага міру» 1686* паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй, П ц на Украіне і Беларусі была падпарадкавана Маскоўскаму патрыярхату Урад Рэчы Паспалітай разглядаў гэта як парушэнне свайго суверэнітэту, таму зноў пачаў уціск праваслаўных з мэтай далучэння іх да уніі У 18 ст рабіліся спробы перадаць Магілёўскую епархію полацкаму уніяцкаму епіскапу Упартую барацьбу за захаванне П ц ў Беларусі ў 2-й пал 18 ст вёў магілёўскі епіскап Георгій *Каніскі* У 1768 пад націскам замежных дзяржаў, у т л Расіі, сейм Рэчы Паспалітай згадзіўся ўраўнаваць правы дысідэнтаў (пратэстантаў і праваслаўных) з католікамі Аднак карэнныя змены ў становішчы П ц адбыліся толькі пасля далучэння зямель усх Беларусі ў 1772 да Рас імперыі, дзе праваслаўе было дзярж рэлігіяй Каб пазбегнуць небяспекі новых падзелаў урад Рэчы Паспалітай імкнуўся стварыць у краіне незалежную ад Расіі П ц , дзеля чаго была склікана *Пінская кангрэгацыя 1791*, аднак яе пастановы не былі выкананы У гэты час на тэр ВКЛ заставалася толькі 50 правасл прыходаў, а ўсяго ў Рэчы Паспалітай каля 300 (300 тыс прыхаджан)

Пасля далучэння да Рас імперыі ўсіх зямель Беларусі тут пачала ажыццяўляцца палітыка уніфікацыі царк структуры і паступовага замацавання П ц як пануючай у дзяржаве Вышэйшай царк інстанцыяй у Расіі з 1721 замест патрыярха быў Свяцейшы Сінод на чале з обер-пракурорам, свецкім чыноўнікам, прадстаўніком імператара Сіноду падпарадкоўваліся епархіяльныя архіерэі З 1790-х г і да канца 19 ст ў бел губер нях была ўсталявана развітая епархіяльная структура (гл *Епархія*), на тэр кожнай губерні функцыянавала асобная епархія Магілёўская, *Мінская праваслаўная епархія*, Полацкая (у Віцебскай губ ), *Літоўская праваслаўная епархія* (у Віленскай губ ), *Гродзенская праваслаў ная епархія* З 1780-х г пачаўся паступовы пераход уніятаў у праваслаўе (напр , у 1783 было далучана 95 цэркваў з амаль 413 тыс прыхаджан), аднак гэты працэс прыпыняўся ў 1794 *Полацкі царкоўны сабор 1839* прыняў рашэнне аб канчатковым далучэнні уніятаў да П ц У 1840 Сінод прадпісаў духавенству зах губерняў чытаць пропаведзі ў нядзелю і па святах на агульназразумелай для

Да арт **Праваслаўная царква** Свята св Ефрасінні Полацкай у Полацкім Спаса-Ефрасіннеўскім манастыры. 1998

прыхаджан мове, кіраўніцтву епархій было прапанавана больш клапаціцца аб нар асвеце Так, у 1850 у Літ епархіі было адчынена 37 царк-прыходскіх школ з 1211 вучнямі і 56 настаўнікамі Пасля Полацкага сабору частка б уніятаў без дазволу царк. улад перайшла ў рыма-каталіцтва З 1842 Сінод загадаў пераводзіць такіх вернікаў у праваслаўе, што выклікала спрэчкі паміж правасл і каталіцкімі іерархамі зах губерняў Новае далучэнне католікаў да П ц мела месца ў пач 1860-х г (30 тыс чал у Літоўскай і 37 тыс чал у Мінскай епархіі) Аднак пасля царскага указа 17 4 1905 аб верацярпімасці пачаўся адваротны пераход з праваслаўя ў каталіцызм Кардынальныя змены ў становішчы П ц адбыліся пасля Лют рэвалюцыі 1917 і Кастр рэвалюцыі 1917 Змены ў структуры П ц (аднаўленне патрыяршаства скасаванне кансісторый і замена іх епархіяльнымі сходамі і епархіяльнымі саветамі і інш ) суправаджаліся зменамі статуса П ц ў грамадстве — аддзяленнем царквы ад дзяржавы (гл *Духавенства*) У 1922 створана *Мінская мітраполія*, у 1927 абвешчана *Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква* (БАПЦ), адначасова з якой існавала абнаўленчая *Беларуская аўтаномная праваслаўная царква* Аднак праследаванні духавенства ў 1930-я г фактычна спынілі дзейнасць П ц ў БССР Зах Беларусь (каля 1 млн правасл вернікаў) у 1921 адышла да Польшчы, дзе ў 1922 была створана *Польская аўтакефальная* правасл царква (ПАПЦ, у 1924 кананічна прызнана Канстанцінопальскім патрыярхатам), якая ўключала 5 епархій, у т.л Віленскую, Гродзенскую, Пінскую Вышэйшае духавенства прыносіла прысягу польскаму ўраду Мітрапалітам стаў архіепіскап варшаўска холмскі Дзіянісій (Валедынскі) ПАПЦ мела манастыры, духоўную семінарыю ў Вільні, 337 прыходаў у Віленскай і Гродзенскай епархіях, выдавала рэліг л-ру на рус , бел , укр і польскай мовах У 1939 пасля далучэння Зах Беларусі і Зах Украіны да СССР быў створаны экзархат Заходніх Беларусі і Украіны Маскоўскага патрыярхата на чале з архіепіскапам *Панцеляймонам* Ва ўмовах акупацыі ў Вял Айч вайну зноў абвешчана, але кананічна не аформлена БАПЦ, арганізаваны яе епархіяльныя структуры У 1950-я г епіскапы на новаўтвораныя кафедры не сталі прызначацца, таму адзінай епархіяй у БССР доўгі час заставалася Мінская Царк жыццё ў СССР актывізавалася ў канцы 1980-х г , напярэдадні святкавання 1000 годдзя хрышчэння Русі У 1989 створаны Бел экзархат Маскоўскага патрыярхата (Бел правасл царква) на чале з мінскім мітрапалітам *Філарэтам* Дзейнічаюць 10 епархій *Брэсцкая праваслаўная епархія*, Віцебская, *Гомельская праваслаўная епархія*, Гродзенская, Магілеўская, Мінская, *Навагрудская праваслаўная епархія*, Пінская, Полацкая, Тураўская У 1999 на Беларусі быў 1071 прыход, 962 святары, 14 манастыроў (у т л 5 мужчынскіх і 9 жаночых), 14 брацтваў, 31 сястрынства *Мінская духоўная семінарыя* (адноўлена з 1989), Мінская духоўная акадэмія (з 1995), багаслоўскі ф-т Еўрап гуманітар нага ун-та, 2 духоўныя вучылішчы Выдаюцца 4 часопісы, у т л *«Веснік Беларускага экзархата»* і *«Праваслаўе»*, 10 газет, царк календары і інш рэліг л ра.

*Літ* Макарий (Булгаков МП) История русской церкви Кн 2 М 1995, Игумен Никон (Лысенко) Православная церковь Литвы и Малой Руси и религиозная политика князей Литовских в XIV — нач XV вв // Тэз навук канф,

Да арт **Праваслаўная царква**. На занятках у Мінскай духоўнай семінарыі Жыровічы 1989

Памятны знак у гонар тысячагоддзя **праваслаўнай царквы** ў Беларусі Заслаўе 1992

чы сад, аддз сувязі, 3 магазіны Магіла заснавальніка бел нац прафесійнага тэатра І *Буйніцкага*, брацкая магіла сав воінаў і партызан, магіла ахвяр фашызму Помнікі архітэктуры Петрапаўлаўская царква і касцел Маці Боскай (пач 20 ст )

*Язэп Бунто*

**ПРАКЛАМАЦЫЯ** (лац proclamatio крык, заклік), від агітацыйнай паліт л-ры, звычайна нелегальнай, у якой змяшчаўся заклік да актыўных дзеянняў стачкі, дэманстрацыі, узбр паўстання Адна з першых форм рабочага друку ў Расіі, у т л і Беларусі Да Кастр рэвалюцыі 1917 бальшавіцкія арг-цыі шырока выкарыстоўвалі П як сродак масавай паліт агітацыі (гл таксама *Лістоўка*)

**«ПРАКЛЁН ФАШЫЗМУ»**, мемарыяльны комплекс на ўшанаванне памяці жыхароў Докшыцкага р-на, знішчаных разам з вёскамі ням -фаш захопнікамі ў Вял Айч вайну Адкрыты 3 7 1983 на месцы спаленай в Шунеўка Аўтары скульпт А *Анікейчык*, арх Ю Градаў, Л Левін Цэнтр манумент мемарыяла — бронз фігура жанчыны (выш 4 75 м) з узнятымі ў праклёне рукамі, якая стаіць у праёме стылізаванай брамы (выш 11,5 м) На канцы абламанай гарыз перакладзіны брамы прымацаваны 3 званы, 2 з іх звоняць, а 3-і расколаты — сімвал таго, што кожны трэці жыхар раёна загінуў у гады вайны Непадалёку ад цэнтр манумента зруб калодзежа, куды гітлераўцы кінулі жывымі дзяцей і настаўніцу Над ім бронзавая выява прабітага і абпаленага павэтр змея з імёнамі дзяцей, што загінулі, сімвалізуе абарванае вайной дзяцінства На месцы кожнай з 22 былых сялянскіх сядзіб Шунеўкі — стылізаваны фундамент з 3-прыступкавым ганкам, на верхняй прыступцы якога кампазіцыя ў форме языкоў полымя з імёнамі былых гаспадароў

**ПРАКОЛКА**, прылада працы першабытнага чалавека для праколвання адтуліны ў скуры жывёл з мэтай пашыву з яго адзення, абутку і інш З'явілася ў эпоху мусцье Выраблялася з дробных крамянёвых пласцін ці адшчэпаў з вузкім і вострым канцом, які часам апрацоўваўся спосабам рэтушы, рабілі таксама з косці і дрэва З распаўсюджаннем жалеза П саступаюць месца шылу з жалеза

**ПРАКОПЧЫК** Леанід Цімафеевіч (14 11 1933, Мінск — 7 12 1998), бел краязнавец, пісьменнік Скончыў Маскоўскую с -г акадэмію імя Ціміразева (1958) Працаваў брыгадзірам, аграномам на Піншчыне, настаўнікам у Маладзечанскім р-не, у газ «Калгасная праўда» і «Знамя юности», рэдактарам на бел тэлебачанні, рэжысёрам на кінастудыі Даследаваў мясціны, звязаныя з жыццём і творчасцю З Бядулі, В Дуніна Марцінкевіча, Я Чачота, Ядвігіна Ш У біяграфіі Я Купалы выявіў шэраг новых звестак. Сабраў і літаратурна апрацаваў шмат нар легенд і паданняў Аўтар краязн нарысаў, кінасцэнарыяў, п'ес

*Тв* Даўгінаўскія версты Нарысы Мн , 1977, В краю Налибокской пущи Мн , 1979, Ёсць у сэрцы запаветны куток Мн , 1979, Адкуль у вёскі імя Мн , 1981, «Дрэмле памятка дзён » Краязн нарысы Мн , 1991

*Анатоль Валахановіч*

Мемарыяльны комплекс **«Праклён фашызму»** 1983

**ПРАКОШЫНА** Кацярына Сяргееўна (н 10 12 1927, в Ловаць Хвастовіцкага р-на Арлоўскай вобл , цяпер Калужская вобл , Расія), бел філосаф Канд філас н (1955) Скончыла БДУ (1950) З 1955 навук супрацоўнік Ін-та філасофіі і права Нац АН Беларусі Даследуе гісторыю філасофскай і грамадска-паліт думкі, гісторыю і тэорыю рэлігіі і вальнадумства Беларусі Кіраўнік групы па вывучэнні гісторыі і дзейнасці рэліг плыней і канфесійнага стану Рэспублікі Беларусь Адзін з аўтараў манаграфій «Нарысы гісторыі філасофскай і сацыялагічнай думкі Беларусі (да 1917 г )» (1973), «З гісторыі вальнадумства і атэізму ў Беларусі» (1978), «Неакультавыя аб'яднанні ў Беларусі» (1998) і інш Дзярж прэмія Беларусі (1984)

*Тв* Пытанні атэізму ў беларускай грамадскай думцы (Другая палавіна XIX і пачатак XX стст ) Мн , 1960 Мелетий Смотрицкий Мн , 1966, Очерк свободомыслия и атеизма в Белоруссии в XIX в Мн , 1973, Казимир Лыщинский Мн , 1986 (разам з В Ф Шалькевічам), Старообрядчество в Беларуси Мн , 1992 (разам з Т П Кароткай, Г А Чуднікавай)

**ПРАКУЛЕВІЧ** Уладзімір Міхайлавіч (1887, в Красналукі Барысаўскага пав Мінскай губ , цяпер Чашніцкі р-н — 20 8 1938), палітычны дзеяч Скончыў Маскоўскі ун-т (1912) У час вучобы быў сакратаром марксісцкага час «Возрождение», заг аддзела хронікі ў газ «Копейка» З 1912 працаваў у Мінскай казённай палаце, з 1914 у Мінскім акруговым судзе З пач 1-й сусв вайны эвакуіраваны ў Маскву У ліп 1917 вярнуўся ў Мінск, працаваў на судзейскіх пасадах У 1918 выбраны старшынёй Слуцкага з'езда міравых суддзяў, у 1919—20 — міравы суддзя мяст Вызна (Красная Слабада) Адзін з кіраўнікоў *Слуцкага паўстання 1920* У 1921 эміграваў у Вільню, чл прэзідыума Віленскага нац к-та, чл замежнага ЦК партыі Бел сацыялістаў-рэвалюцыянераў У 1922 у ліку 33 бел нац -культ дзеячаў высланы з Вільні, пераехаў у г Коўна Са жн 1923 дзярж сакратар «урада БНР» на чале з А *Цвікевічам*, разам з якім пераехаў у Прагу 3 мая 1926 у Мінску, працаваў ў Дзярж б-цы БССР 19 7 1930 арыштаваны па справе *«Саюза вызвалення Беларусі»* і на 5 гадоў сасланы ў г Свярдлоўск 9 1 1938 зноў арыштаваны «як удзельнік контррэвалюцыйнай арганізацыі, якая працавала на карысць адной з замежных дзяржаў», прыгавораны да расстрэлу Рэабілітаваны па першым прыгаворы 10 6 1988, па другім — 26 4 1989

*Тв* Слуцкое восстание (ноябрь-декабрь 1920 г ) // Неман 1996 № 4

*Уладзімір Міхнюк*

**ПРАКУРАТАР** (лац procurator), прафесійны юрыст-паверены ў ВКЛ, які займаўся адвакацкай практыкай Абавязкі П мог выконваць толькі шляхціц, які ведаў мясцовае права і быў дапушчаны судом да адвакацкай дзейнасці Статут ВКЛ 1588 прадугледжваў крымінальную адказнасць П за парушэнне сваіх абавязкаў (напр , за здраду інтарэсам стараны, якая яго наняла) Для найб бедных людзей П мог прызначацца судом бясплатна

**ПРАКУРАТУРА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**, сістэма органаў, якія ажыццяў-

Праколкі

ленае рэктарам За некаторымі П (Занам, Міцкевічам і інш ) быў устаноўлены тайны нагляд Філаматы і філарэты выкарысталі легальнасць П для таго, каб паказаць непалітычны характар сваіх арг-цый і тым самым змякчыць прыгавор

*Літ* Шолкович С В О тайных обществах в учебных заведениях Северо-Западного края при князе А Чарторыйском // Памятники новой русской истории СПб , 1872 Т 2, К истории тайных обществ и кружков среди литовско-польской молодежи в 1819—1823 гг Варшава 1898, Мохнач Н Н Общественно-политическая и этическая мысль Белоруссии начала XIX в Мн , 1985

*Вячаслаў Швед*

**ПРАПІНА́ЦЫЯ** (лац propinatio здравіца), выраб і продаж моцных спіртных напіткаў У часы феадалізму права П вынікала з права ўласнасці на зямлю і на прадукцыйныя рэсурсы ўладанняў У Польшчы і ВКЛ у 13—15 ст права П набыло характар манаполіі землеўласнікаў і дзярж рэгаліц, якая магла здавацца ў арэнду (на водкуп) Права вольна варыць і прадаваць (шынкаваць, адсюль назва шынок) мед, піва і гарэлку землеўладальнікі Кароны Польскай атрымалі паводле Петркаўскага прывілея 1496 караля Яна Ольбрахта Пасля ўтварэння ў 1569 Рэчы Паспалітай гэтае права было пашырана і на шляхту ВКЛ Статут ВКЛ 1588 забараняў таемны выраб і продаж моцных напіткаў, а іх шынкаванне дазвалялася толькі ў заезных дамах пры гасцінцах Іх традыцыйна выраблялі ў хатах, лазнях, *броварах*, прадавалі ў *корчмах* і шынках Для вытворчасці выкарыстоўвалі мед, ячмень, жыта, з пач 19 ст і бульбу, што стымулявала пашырэнне фальваркова-паншчыннага гаспадарання Паколькі гандаль увогуле лічыўся справай не вартай шляхты, то яна перадавала шынкі ў арэнду Традыцыйна шынкарамі выступалі яўрэі Водкупная сістэма і вольная П шляхты дазваляла ўласнікам корчмаў і іх арандатарам вызначаць аб'емы рэалізацыі моцных напіткаў, навязваць сваю прадукцыю па прымусовых цэнах, абмяжоўваць інш вытворцаў квотамі або выключна хатнімі патрэбамі (на вяселле, хрэсьбіны, памінкі) Пры слабым дзярж фіску вольная П стала самай вял крыніцай даходаў феадалаў, вытокам п'янства і галечы падданых Дзярж скарб рэгуляваў П ўскоснымі падаткамі (*капшчына, чопавае, шэлежнае)*, якія вызначаліся на сейміках і ішлі пераважна на ўтрыманне войска Падаткі вызначаліся з аб'ему вытв-сці (з катла, чана, анкера) і продажу (з бочкі, кварты, чаркі, штофа), радзей — з кошту рэалізацыі (са злотага) Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай 1772 рас ўрад пазбавіў дробную шляхту права на вольную П і захаваў яго за ўласнікамі сялян і мястэчак за спец падатак з кожнай рэвізскай душы У гарадах П здавалася на водкуп магістратам Каб паменшыць бедствы ад П у 1-й пал 19 ст ўрад высяляў яўрэяў з весак, уводзіў акцызы і пашыраў у вы цвярозасці Права П памешчыкаў у зах губернях Рас імперыі скасавана 23 11(5 12) 1862 За гэта яны атрымалі кампенсацыю, уключаную ў кошт абавязковага выкупу сялянамі сваіх надзелаў [указы ад 1(13) 3 1863, 20 7(1 8) 1863, 2(24) 11 1863, 11(23) 2 1864] Гарады і прыватныя мястэчкі пазбаўлены права П 29 4(11 5) 1896 шляхам выкупу яго дзяржавай пры ўвядзенні казеннага продажу моцных напіткаў

*Літ* Корсак А О пропинационном праве в Западных губерниях СПб , 1864, Боуфал Б О пропинационном праве в Западном крае и в царстве Польском // Журн Юридического о-ва СПб , 1896 Кн 6, Довнар-Запольский М Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах Т 1 Киев, 1901, Анищенко Е К Черта оседлости Мн , 1998, Pawiński A Skarbowość w Polsce i jej dzieje za Stefana Batorego Warszawa, 1881, Filipczak-Kocur A Skarb litewski za pierwszych dwu Wazów, 1587—1648 Wrocław, 1994

*Яўген Анішчанка*

**ПРАПО́ЙСК,** назва горада *Слаўгарада* з 12 ст да 1945

**ПРАПО́ЙСКАЕ ПАТРЫЯТЫ́ЧНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ** ў Вялікую Айчынную вайну Дзейнічала з сак 1942 да кастр 1943 на тэр Прапойскага (цяпер Слаўгарадскі) р-на Аб'ядноўвала Прапойскую і Улуцка-Харанеўскую арг-цыі, у якіх было 11 груп (больш за 80 чал ) У Прапойскую арг-цыю (кіраўнікі С Ф Саўчанка, М В Кліменка, М П Хаблоў) уваходзіла 8 груп камсам -маладзежная (А С Скальзаеў), на электрастанцыі і маслазаводзе (А В Шэдаў), у гар бальніцы (В Ф Самусенка), гар група (А А Ліснцын), у весках Бярозаўка і Гіжэнка (В А Драздоў), Віравая (І В Ганчароў), Крамянка (І А Семкін), Рудня і Міхайлоў (М В Навуменка), Улуцка-Харанеўская арг-цыя (кіраўнікі Дз Е Савельеў, Г А Каралеў) мела 3 групы у весках Доўгі Мох (Чавускі р-н, В А Сцяпанаў), Улукі (І Я Цімашкоў), Харанеў (І І Каваль) Арг-цыі падтрымлівалі паміж сабой сувязь, дзейнічалі ў кантакце з 42-м партыз атрадам, Магілеўскім падполлем, партыз палком «Трынаццаць» Падпольшчыкі размнажалі і распаўсюджвалі газ «Правда», «Красная звезда», лістоўкі, збіралі і перадавалі партызанам зброю, боепрыпасы, медыкаменты, дакументы гар управы, перапраўлялі ў партыз атрад некалькі падвод з соллю і маслам, узарвалі электрастанцыю (акупанты не змаглі аднавіць), маслазавод, пашкоджвалі рэйкі на чыгунцы, тэлефонную сувязь, дамбу на р Рэста, мост, з партызанамі разграмілі ў Прапойску камендатуру, паліцыю і турму, арганізавалі ўцекі 23 сав ваеннапалонных і перапраўлілі іх у партыз атрад Захаванне канспірацыі, своечасовы выхад у партызаны дазволілі падпольшчыкам пазбегнуць правалаў і вял страт

*Міхась Шумейка*

**ПРАПО́ЙСКАЯ ВО́ЛАСЦЬ,** Прапойскае староства, буйны дзярж маентак у ВКЛ З пач 16 ст ей кіравалі намеснікі, якім звычайна належала і суседняя *Чачэрская воласць* Намеснік падпарадкоўваўся віленскаму ваяводу На пасадзе намесніка прапойскага і чачэрскага ўпамінаюцца Я Няміра (1510—11), М Юр'евіч (1514), С А Чартарыйскі (1518—24), Ф М Вішнявецкі (1526—29), А І Дашкавіч (да 1535), І М Вішнявецкі (1536—43), Ю В Насілоўскі (1543—44) У 1511 сяло Лобча са складу П в падаравана ў пажыццевае валоданне кн М І Мсціслаўскаму, у 1529 зноў далучана да П в У размежаванні з маскоўскай дзяржавай у 1526 упамінаецца шэраг сел П в , у т л размешчаных цераспалосна з суседнім Крычаўскім староствам (Галоўчыцы, Чудзінавічы, Савінічы) З 1547 П в перададзена ў заклад Ю Зяновічу Паводле адм рэформы 1565—66 уключана ў Рэчыцкі пав Менскага ваяв (ізалява-

грудскім ваяв некаторыя прадстаўнікі роду зваліся П -Астроўскімі

Найб вядомыя

Іван (у манастве Іона, ?—1577), мітрапаліт кіеўскі, галіцкі і ўсяе Русі, гл *Іона III*

Ян (?—1632), унук Іоны, пісар земскі навагрудскі з 1613 У паліт барацьбе прытрымліваўся прыхільнікаў кальвінісцкай галіны Радзівілаў Пасол на сеймы 1613, 1615, 1619, 1623, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1602 (?), 1631

Бенядзікт Васілевіч (?— каля 1576), дзяк гаспадарскі ў 1546, войскі гродзенскі і ключнік трокскі ў 1550

Ян (?— пасля 1608), сын Бенядзікта Васілевіча, паэт Атрымаў добрую адукацыю, ведаў лацінскую, грэчаскую, зах -еўрапейскія мовы Пакінуў 6 вершаваных твораў, напісаных па-польску і выдадзеных у друкарні Я Карцана ў Вільні Твор «Паранімфус» (1595) прысвечаны Я Скуміну-Тышкевічу, старосту браслаўскаму, з нагоды яго ўступлення ў шлюб з Б Нарушэвіч, «Эпіцэдыум» (1597) напісаны з выпадку смерці М Войны — жонкі Я Калантая і прысвечаны яе бацьку Р Войне, кашталяну брэсцкаму Кнігі «Контэрфет старога чалавека» (1597) і «Постаць пачцівай жанчыны» (1597) прысвечаны Кацярыне Тышкевіч, маюць маралізатарскі характар і напісаны з выкарыстаннем вобразаў Старога і Новага запаветаў Твор «Ялмужнік» (1597) прысвяціў свайму апекуну М К Радзівілу Сіротку, у кнізе змешчаны выказванні пра ялмужну (міласціну) розных дзеячаў Гал яго твор «Інвенторэс рэрум, або Кароткае апісанне, хто што вынайшаў і да ўжытку людзям даў» (1608) мае характар энцыклапедыі, дзе ў алфавітным парадку пералічаны біблейскія, міфалагічныя і гістарычныя асобы з апісаннем іх вынаходніцтваў, усяго змешчана 147 артыкулаў Асновай для твора паслужыла аналагічная кніга італьянца Вергілія Палідора Урбінскага

Міхал, староста нясвіжскі ў 1750— 80-я г

Андрэй, брат Міхала, службовец вял гетмана ВКЛ М К Радзівіла Рыбанькі, з 1750 рэгент вайсковай канцылярыі Выконваў адказныя даручэнні свайго апекуна ў час правядзення шляхецкіх сеймікаў, пры разглядзе спраў у Скарбовым трыбунале ВКЛ У 1752—56 знаходзіўся пры двары Аўгуста III у Дрэздэне і Варшаве Яго данясенні да Радзівіла — цікавая крыніца па гісторыі ўнутранай палітыкі Рэчы Паспалітай Прымаў удзел у найме ням майстроў для Нясвіжскай суконнай мануфактуры

Літ Анушкін А І Ян Пратасовіч з Пінішчыны // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі 1978 № 4, Саверчанка І В Старажытная паэзія Беларусі, XVI — першая палова XVII ст Мн, 1992, Czepре M Działalnosć agenta hetmańskiego w Dreźnie w latach 1752—1756 w swietle raportow Andrzeja Protasowicza do Michała Kazimierza Radziwiłła // Studia historyczne 1995 Z 4

В С Пратасеня Віхуры варожыя 1979

**ПРАТЭСТАНТЫ́ЗМ** (ад лац protestans нязгодны, які пярэчыць), адна з асноўных (побач з *праваслаўем* і *каталіцызмам*) разнавіднасцей *хрысціянства* Узнікла ў Еўропе ў перыяд *Рэфармацыі* і ўяўляе сабой сукупнасць самастойных рэлігійных плыней (цэркваў, рэліг аб'яднанняў) са сваімі догматамі і інш асаблівасцямі Назва «П » узыходзіць да акта пратэсту ням лютэран у ходзе Рэфармацыі супраць рашэння Шпеерскага рэйхстага 1529 аб скасаванні раней усталяванага ў Германіі прынцыпу «чые праўленне, таго і рэлігія» Усе пратэстанцкія рэлігійныя плыні і цэрквы звязаны агульнасцю паходжання і найважнейшых асаблівасцей у веравучэнні Гал адрозненне — вучэнне аб непасрэднай сувязі чалавека з Богам без пасрэдніцтва царквы, *духавенства* Пратэстанты лічаць, што «божая ласка» даруецца чалавеку адразу ад Бога, без умяшання царквы і што выратаванне чалавека ад «пагібелі» дасягаецца толькі дзякуючы яго асабістай веры і волі Бога Гэта вучэнне абгрунтоўвала адмову ад царк арганізацыі тыпу каталіцкай ці праваслаўнай, адкрывала шлях патрабаванням бурж -дэмакр свабод і развіццю бурж індывідуалізму У сувязі з такімі поглядамі рэліг культ у П істотна скарочаны, спрошчаны і больш танны Амаль ва ўсіх пратэстанцкіх плынях захаваны адносна нешматлікія рэліг святы, няма культу святых, анелаў, Багародзіцы, адсутнічае пакланенне абразам і рэліквіям, колькасць таінстваў зведзена да двух (хрышчэнне і прычашчэнне), богаслужэнне складаецца пераважна з пропаведзей, сумесных малітваў і спеваў псалмаў на родных мовах Фармальна П грунтуецца выключна на *Бібліі*, але фактычна ў кожным пратэстанцкім веравызнанні ёсць свае сімвалы, аўтарытэты і шанаваныя кнігі У П (за выключэннем англіканства) няма прынцыповага процівпастаўлення духавенства «свецкім», і кожны вернік у прынцыпе можа праводзіць набажэнства Пратэстанцкае духавенства выбіраецца вернікамі, аднак на практыцы ў шэрагу аб'яднанняў гэты прынцып пад мяняецца прызначэннем духавенства зверху і яго пасвячэннем У П няма ін-та манаства і бясшлюбнасці духавенства На Беларусі П пашырыўся з 16 ст ў выглядзе *кальвінізму, лютэранства, арыянства* і інш , у 19—20 ст з'явіліся *баптысты, евангельскія хрысціяне, адвентысты, дарбісты, пяцідзесятнікі, метадысты*, сведкі Іеговы, *Новаапостальская царква* і інш

**ПРАТЭСТА́НЦКІЯ СЕКТА́НТЫ**, традыцыйная назва *адвентыстаў, баптыстаў, дарбістаў, евангельскіх хрысціян, метадыстаў, пяцідзесятнікаў* і прыхільнікаў некат іншых кірункаў *пратэстантызму* Большасць членаў гэтых плыней на Беларусі аб'яднана ў арг-цыі і саюзы ў маштабах рэспублікі (фактычна ў цэрквы), таму назва «сектанты» ў дачыненні да іх умоўная Гл *Секты*

**ПРАТЭСТА́ЦЫЯ**, скарга ці заява, з якой пакрыўджаная старана звярталася ў суд Магла быць на правапарушэнне, што адбылося, на магчымае ў будучым ці на паграджаючую небяспеку Усе П заносіліся ў суд кнігі П яшчэ не была падставай для пачатку суд разгляду, але выклікала пэўныя прававыя вынікі З падачы П перапынялася іскавая даўнасць, суд павінен быў паводле хадайніцтва старон прыняць меры па забеспячэнні доказаў правесці агляд на месцы, засведчыць пабоі (раны) і шкоду, у неабходных выпадках затрымаць і ўзяць пад варту падазронага Старана пазваная (адпорная) мела права падаць у суд адказ на П або звярнуцца з самаст заявай ці сустрэчным іскам Стораны маглі пакінуць П без вынікаў, скончыць справу міравым пагадненнем

*Язэп Юхо*

**ПРА́ЎДЗІНСКІ**, рабочы пасёлак, цэнтр пассавета ў Пухавіцкім р-не на р Пціч За 23 км ад г Мар'іна Горка, 12 км ад чыг ст Рудзенск Нас 2811 чал (1998)

Утварыўся ў 1966—68 у сувязі з буд-вам торфапрадпрыемства Сучасная назва з 11 3 1977, з 29 12 1977 гар пасёлак У П торфабрыкетны з-д «Сяргееўвіцкі», эксперым база «БелНДІпалівапраект», буд арг-цыя ПМК, прафтэхвучылішча, сярэдняя і муз школы, дашкольная ўстанова, 2 б-кі, Палац культуры, бальніца, аптэка, аддз сувязі, магазіны, сталовая

**ПРАЎДЗІ́СЦКІЯ ГУРТКІ́ І ГРУ́ПЫ**, рабочы актыў, які гуртаваўся вакол

бальшавіцкай газ «Правда» Існавалі ў гады рэв уздыму ў Пецярбургу, Маскве, Данбасе, Екацярынадары і інш, былі асновай для ўмацавання парт арг-цый Вывучалі і распаўсюджвалі марксізм сярод рабочых, арганізоўвалі падпіску на газ «Правда» На Беларусі існавалі ў Магілеве, Мінску, Брэсце, Добрушы, Капылі і інш, мелі сувязь з Пецярбургскім к-там РСДРП, рэдакцыяй газ «Правда», атрымлівалі ад іх нелегальную л-ру, мелі сувязь з бальшавіцкай фракцыяй IV Дзярж думы Праўдзісцкая група ў Магілеве (50 чал) у 1913 арганізоўвала рабочыя гурткі, прафсаюзы, кіравала стачкамі ў горадзе, мела б-ку (каля 1200 кніг) Мінская група стварала і ўзначальвала прафс арг-цыі, кіравала падп гуртком моладзі Групы дапамагалі газ «Правда» рабочыя Гомеля, Магілева, Оршы, Брэста, Мінска, Віцебска, Ігумена, Стоўбцаў, Капыля, Рэчыцы і інш збіралі грошы, дасылалі карэспандэнцыі Адным з карэспандэнтаў «Правды» быў Ц Гартны (З *Жылуновіч*) У 1912—14 у фонд «Правды» было сабрана каля 500 руб У 1914 у Паўн-Зах краі было 124 падпісчыкаў «Правды» з 48 нас пунктаў, найб у Магілеўскай губ (150)

**ПРАФЕСІЙНЫЯ САЮЗЫ**, прафсаюзы (лац professio занятк, прафесія), масавыя арганізацыі рабочых і служачых, мэта якіх — абарона інтарэсаў працоўных Першыя П с ўзніклі ў канцы 18 ст ў Вялікабрытаніі, Францыі, ЗША. Яны былі падобныя на т-вы ўзаемадапамогі, будаваліся паводле цэхавай прыналежнасці і змагаліся за паляпшэнне эканам становішча працоўных Да сярэдзіны 19 ст П с аформіліся ў Італіі, Германіі, Іспаніі, Бельгіі і інш краінах У 1-й чвэрці 20 ст ў выніку рэзкага абвастрэння сац праблем і ўздыму рэв руху П с кансалідуюцца на міжнар узроўні Найб буйнымі і ўплывовымі міжнар аб'яднаннямі П с сталі Амстэрдамскі Інтэрнацыянал прафсаюзаў (1919), Міжнар канфедэрацыя хрысціянскіх прафсаюзаў (1920), Прафінтэрн (Чырв Інтэрнацыянал прафсаюзаў, 1921) Вострыя сац-паліт канфлікты таго часу не садзейнічалі адзінству міжнар прафс руху, як і рабочы рух у цэлым, ён быў расколаты на камуністычную (рэвалюцыйную) і сацыял дэмакр (рэфармісцкую) плыні Сав Расія, потым і СССР падтрымлівалі 1-ю плынь, найперш праз Камінтэрн

На Беларусі і ў Польшчы арг-цыі, падобныя на прафсаюзы, зарадзіліся ў канцы 19 ст У 1894 у Беларусі ўтвораны першы саюз шчацінішчыкаў, праз 4 гады — прафсаюз гарбароў, які прадстаўляў працоўных Смаргоні, Беластока, Вільні, Ашмян і Крынак У 1901 арганізацыйна аформіўся прафсаюз друкароў у Гомелі, у 1904 — гарбароў у Віцебску, у 1905 — П с чыгуначнікаў, работнікаў пошт і тэлеграфа, крэдытных і гандл прамысл устаноў у бел гарадах На развіццё прафс руху ў Беларусі вял уплыў зрабіла барацьба працоўных за свае правы ў час рэвалюцыі 1905—07 У гэты час сталі ствараюца масавыя, легальныя П с паводле вытв прынцыпу У ліп 1905 у Мінску ўзніклі П с канторскіх служачых, т-ва фармацэўтаў і інш 9 8 1905 у памяшканні мінскай гасцініцы «Парыж» адбылося пасяджэнне краўцоў і швачак (прысутнічала 600 чал) У Віцебску ў чэрв 1906 утвораны П с ювеліраў, будаўнікоў, гарбароў, хатняй прыслугі і інш, за жн 1906 тут узнікла больш за 10 П с У кастр—ліст ў Віцебску арганізаваліся П с булачнікаў, зубных урачоў і дантыстаў, слесараў і кавалеў, у Полацку — прафес т-ва гандл-прамысл служачых У Мінску да канца 1906 улады дазволілі дзейнасць 15 П с, у Гродзенскай губ — 28 Прыняцце царскім урадам 4 3 1906 закону аб легалізацыі П с пад назвай «Часовыя правілы аб прафесіянальных арганізацыях» яшчэ больш актывізавала прафс рух у Беларусі 13 6 1906 у Віцебску на губернскім з'ездзе настаўнікаў (каля 300 дэлегатаў) абмяркоўваліся пытанні эканам становішча педагогаў і арганізацыі прафсаюза У 1906 у Гродзенскай губ ўтвораны П с сялян (с-г рабочых) Аднак паводле закону арганізацыя П с у гэтай галіне не дазвалялася, і ім было адмоўлена ў легалізацыі такіх прафсаюзаў «Часовыя правілы» забаранялі стварэнне П с работнікам пошты, тэлеграфа, банкаў і дзярж устаноў, а таксама рабочым і служачым, якія працавалі на чыг транспарце У 1906—07 у 5 зах губернях Расіі створаны 74 П с, у т л 13 у Мінскай, 8 у Гродзенскай, 39 у Віцебскай і 2 у Магілеўскай губ У 1907 у Беларусі афіцыйна дзейнічаў 101 прафсаюз, які аб'ядноўваў 14 533 чал, але ў іх было рабочых не больш за 3,5% Тагачасныя П с былі рэвалюцыйна актыўнымі і моцна палітызаванымі У сувязі з гэтым да 1910 на Беларусі забаронена амаль палова П с, а ў 1-ю сусв вайну яны практычна ўсе перасталі дзейнічаць Найперш закрываліся тыя, што знаходзіліся пад уплывам РСДРП і інш рэв партый, якія выкарыстоўвалі П с для арганізацыі легальнай барацьбы супраць царскай улады Закрыццё П с урад разглядаў як меру барацьбы з рэвалюцыяй Пасля Лют рэвалюцыі 1917 дзейнасць П с актывізавалася У першыя месяцы 1917 большасць прафс к-таў на Беларусі кантралявалі бундаўцы і меншавікі, якія імкнуліся да арганізацыі П с па цэхавым і вузкапрафес прынцыпе Бальшавікі актыўна змагаліся за стварэнне рэв П с паводле вытв прынцыпу У выніку прафс рух на Беларусі ў 1917 апынуўся расколатым Такое становішча заставалася на працягу грамадз вайны і ваен інтэрвенцыі 1918—20 і нават у гады нэпа Так, у 1918 цэнтр бюро прафсаюзаў Віцебска, дзе бальшавікі былі ў меншасці, пратэставала супраць роспуску сав уладамі гар думы і ўправы Аналагічна выказаўся і савет прафсаюзаў Гомеля Супраць арганізацыі рэв трыбунала выступіла кіраўніцтва прафсаюзаў Полацка Разам з тым у 1918—20 значная частка прафс к-таў арганізавала шэраг акцый пратэсту супраць ням і польскіх акупац улад Аднак у цэлым у прафс руху Беларусі пераважала бальшавіцкая тэндэнцыя Пасля Лют рэвалюцыі 1917 яна актыўна рэалізоўвалася РСДРП(б) праз стварэнне на прадпрыемствах *фабрычна-заводскіх камітэтаў* (фабзаўкомаў) Пасля Кастр рэвалюцыі 1917 прафс рух цэнтралізаваўся і ставіўся ў прамую залежнасць ад палітыкі і дзейнасці бальшавіцкай партыі «Бальшавізацыя» і «саветызацыя» П с афіцыйна пачалася на I Усерас з'ездзе прафсаюзаў (7—14 1 1918, Петраград), у якім удзельні-

Дэлегаты 1-га з'езда **прафесійных саюзаў** Беларусі Май 1921 Мінск

чалі дэлегаты ад Мінска Магілева і Віцебска З езд падтрымаў бальшавікоў па прапанове якіх адбылося аб яднанне П с у маштабе краіны Ён стаў першым крокам на шляху падпарадкавання прафсаюзаў Камуніст партыі Яны будаваліся паводле галіновага і вытв тэр прынцыпу які адпавядаў прынцыпу пабудовы парт улады Стварэнне Цэнтр бюро прафсаюзаў (14 7 1920) потым яго рэарганізацыя ў Савет прафсаюзаў Беларусі (30 7 1920) уяўляла сабою перабудову за якой стаяў адыход ад традыцыйнага галіновага прынцыпу пабудовы П с і стварэнне гарызантальных тэр структур адпаведных парт структурам Найб рашуча за адзяржаўленне П с выказваўся Л Д Троцкі Стварэнне саветаў прафсаюзаў непасрэдна кантралявалі адпаведныя ідэалаг і прапагандысцкія структуры партыі бальшавікоў У І Ленін не падтрымаў ідэю адзяржаўлення П с Быў выбраны больш «мяккі» варыянт але на карысць РКП(б) Х з езд партыі (1921) ухваліў ленінскую платформу па праф пытанні якая разглядала П с як школу камунізму школу кіравання у перыяд сацыяліст будаўніцтва звярнуў увагу на неабходнасць парт кіраўніцтва прафсаюзамі аднаўлення прынцыпу дэмакр цэнтралізму у кіраўніцтве Рэалізацыя гэтага рашэння прывяла у далейшым да страты П с сваёй самастойнасці падаўлення іншадумства немагчымасці захоўваць дэмакр прынцыпы пры выбарах кіруючых органаў *Першы Усебеларускі з езд прафесійных саюзаў* (7—13 5 1921 гэты і усе наступныя з езды П с Беларусі праходзілі у Мінску) фактычна закончыў арганізац афармленне П с Беларусі выбраў новы склад Прэзідыума Савета П с БССР II Усебел з езд прафсаюзаў (1922) прыняў рашэнне аб перарэгістрацыі членаў П с і пераходзе ад абавязковага калектыўнага членства да добраахвотнага індывідуальнага Гэта рашэнне ў большасці арг цый было выкарыстана для выключэння з іх «класава чужых элементаў» якія не падзялялі парт падыход да арганізацыі дзейнасці П с У 1 й чвэрці 20 ст П с Беларусі актыўна ўдзельнічалі ў барацьбе з ворагамі сав улады пераадоленні разрухі правядзенні *камуністычных суботнікаў* гасп будаўніцтве арганізацыі кампаній у падтрымку галадаючых і інш На IV Усебел з ездзе прафсаюзаў (14—18 6 1924 1 ы з езд П с пасля *узбуйнення БССР*) 283 дэлегаты прадстаўлялі 113 1 тыс чл прафсаюзаў З езд выбраў *Цэнтральны савет прафесіянальных саюзаў Беларусі* (ЦСПСБ) у складзе 70 чал Асн задачы і формы дзейнасці П с у 1924—28 барацьба з беспрацоўем удзел у аднаўленні і рэканструкцыі вытв сіл размеркаванне матэрыяльнага забеспячэння удзел у рэгуляванні прыватнай вытв сці умацаванне дысцыпліны і павышэнне прадукцыйнасці працы ліквідацыя непісьменнасці культ асв праца і інш У гэты перыяд разгорнута кампанія па заключэнні калектыўных дагавораў якія прадугледжвалі павышэнне аплаты і прадукцыйнасці працы паляпшэнне культ ўзроўню працоўных Першы такі дагавор заключаны паміж прафсаюзам хімікаў і упраўленнем шкляной прам сці За эфектыўную работу па ліквідацыі непісьменнасці сярод насельніцтва прафсаюз работнікаў асветы быў узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырв Сцяга БССР Унутрыпарт барацьба ў кіраўніцтве бальшавіцкай партыі у 1920—30 я г адбілася і на дзейнасці П с У канцы 1920 х г супраць П с БССР былі прыняты т зв «арганізацыйныя меры» у выніку якіх зменены 72% кіруючых праф кадраў У пач 1929 расфарміраваны праўленні гандл служачых работнікаў сувязі зменена кіраўніцтва ЦК саюза будаўнікоў распушчаны шэраг фабрычна заводскіх і мясц к таў У выніку рэформы арганізац структур П с і іх разбуйнення у пач 1930 х г у БССР ствараліся праф групы цэхавыя бюро выбіраліся праф упаўнаважаныя замест 27 створана 76 П с Прафсаюзам надаваліся не ўласцівыя ім дзярж функцыі у т л кіраўніц

Да арт **Прафесійныя саюзы** Прэзідыум Цэнтральнага савета прафсаюзаў Беларусі (уверсе злева направа) 1 ы рад — Савіцкі (упаўнаважаны ЦК саюза чыгуначнікаў) Шалаховіч (старшыня Віцебскага акруговага прафсаюза) 2 і рад — Гніляковіч (старшыня Цэнтральнага праўлення саюза Рабземлес) Рубінштэйн (загадчык аддзела ЦСПСБ) Шаранговіч (адказны сакратар ЦСПСБ) Ендакоў (старшыня ЦСПСБ) Ерафееў (народны камісар працы) Ляўданская (загадчык аддзела аховы працы Народнага камісарыята працы) Мірэнгоф (прадстаўнік ЦК ЛКСМБ) 3 і рад — Ахрамовіч (старшыня Цэнтральнага праўлення саюза Рабасветы) Янушкевіч Турлай (загадчык аддзела ЦСПСБ) Калнін (старшыня ВСНГ БССР) Каплан (старшыня Цэнтральнага праўлення саюза будаўнікоў) Калодка (старшыня Барысаўскага акруговага прафсаюза) 1925

Да арт **Прафесійныя саюзы** Удзельнікі Усебеларускай нарады па рабоце ў вёсцы пры ЦСПСБ 25—28 4 1925 Мінск.

тва сац страхаваннем і сацыяліст спаборніцтвам У 1930-я г большасць прафс кадраў БССР былі рэпрэсіраваны У сувязі з цяжкасцямі, выклiканымі супярэчнасцямі грамадска-паліт жыцця, П с не заўседы маглі эфектыўна адстойваць правы працоўных, хоць яны праводзілі пэўную работу па развіцці сістэмы сац страхавання і культ абслугоўвання насельніцтва, ахове працы і здароўя працоўных, навучанні кадраў і інш Пры ЦСПСБ была арганізавана школа прафс работнікаў на 350 чал У 1931 адкрыты Бел філіял завочнага ін-та прафсаюзаў на 600 месц і вячэрні прафс ун-т на 80 месц з 2-гадовым тэрмінам навучання За гады першых пяцігодак П с БССР умацаваліся арганізацыйна, вырасла іх актыўнасць У 1937 яны аб'ядноўвалі больш за паўмільена рабочых і служачых (84,1% усіх працуючых) У той жа час у рабоце прафс кадраў парушаліся прынцыпы прафс дэмакратыі, мелі месца прызначэнства і кааптацыя ў прафс органы З 1932 да 1958 у рэспубліцы не склікаліся з'езды П с У Зах Беларусі, якая ў 1921—39 уваходзіла ў склад Польшчы, П с знаходзіліся пад уплывам розных паліт сіл і аб'ядноўвалі невял частку працоўных (5—8% усіх працуючых на прадпрыемствах і ва ўстановах) У 1935 тут 6,6 тыс чал належалі да П с , якія знаходзіліся пад уплывам урадавых арг-цый, 5,8 тыс — Бунда, 2,3 тыс — партый і арг-цый хрысціянскага і нац кірунку, 3,2 тыс — КПЗБ Пасля ўз'яднання Зах Беларусі з БССР П с прынялі ў свае рады амаль 85% усіх рабочых і служачых У пач Вял Айч вайны П с Беларусі займаліся мабілізацыяй, арганізацыяй падп і партыз барацьбы ў тыле ворага Спробу арганізаваць П с і выкарыстаць іх у сваіх мэтах зрабілі на акупіраванай тэр Беларусі ням -фаш захопнікі Па загаду ген камісара Беларусі В Кубэ ў жн 1942 пачалося стварэнне прафаш П с , утворана Цэнтр бюро П с Беларусі на чале з Фрэйдэнбергам Акупанты патрабавалі ад прафс «актывістаў» рашучых мер супраць тых, хто «зрывае мерапрыемствы па павышэнні прадукцыйнасці працы», не выключаючы прымус і сілу зброі Але вынікі былі нязначныя Па меры вызвалення Беларусі аднаўлялі сваю дзейнасць і прафес арг-цыі Ужо ў канцы 1943 у Гомелі працавала 7 арганізац бюро рэсп галіновых П с 12 12 1944 ЦК КП(б)Б прыняў пастанову «Аб узнаўленні прафсаюзных арганізацый у Беларускай ССР» У канцы 1945 у Беларусі працавалі 6964 нізавыя прафс арг цыі, якія аб'ядноўвалі больш за 2/3 усіх працуючых, на 1 1 1946 — 34 рэсп і 49 абл к-таў, 7678 пярвічных прафс арг цый, якія аб'ядноўвалі 334,6 тыс чл прафсаюзаў, ці 64,4% агульнай колькасці рабочых і служачых БССР 1 я Бел міжсаюзная канферэнцыя прафсаюзаў БССР (ліст 1948) сфарміравала *Беларускі рэспубліканскі савет прафесіянальных саюзаў* (Белсаўпроф), Саветы П с створаны ва ўсіх абласцях Беларусі Для падрыхтоўкі кадраў прафс работнікаў у 1946—55 у Мінску дзейнічала Рэсп школа ВЦСПС, якую скончылі 629 чал Вял значэнне ў павышэнні ролі і ўнутр дэмакратызацыі П с меў снежанскі (1957) пленум ЦК КПСС, які разгледзеў пытанне «Аб рабоце прафесійных саюзаў СССР» На аснове яго рашэння VI пленум Белсаўпрофа (30 1 1958) патрабаваў, каб П с будавалі сваю працу на строгім захаванні норм прафс жыцця, развіцці і забеспячэнні калегіяльнасці ў кіраўніцтве, справаздачнасці і выбарнасці прафс органаў У маі 1958 адбыўся VIII з'езд прафсаюзаў БССР Да пач 1980-х г П с рэспублікі правялі яшчэ 7 з'ездаў (у лют 1982 прайшоў XV з'езд прафсаюзаў БССР) За гэты перыяд адбыўся колькасны рост рэсп прафс арг-цыі з 1 1 1958 да 1980 яна павялічылася з 1459 тыс да 5 млн чал Развіваліся міжнар сувязі П с Беларусі Яны ўключыліся ў работу Міжнар арг-цыі працы (МАП), членам якой БССР стала ў 1954 З сярэдзіны 1960 да сярэдзіны 1980-х г назіралася ўзмоцненае адзяржаўленне П с Улады ўцягвалі прафс актыў і радавых членаў у парт -сав работу, надзялялі П с дзярж -ўладнымі функцыямі Не садзейнічалі ўмацаванню П с і шматлікія рэарганізацыі Так, згодна з рашэннямі лістападаўскага (1962) пленума ЦК КПСС за аснову быў узяты тэрытарыяльны прынцып дзейнасці парт , сав , прафс і інш грамадскіх арг-цый, а праз 2 гады зноў вернуты тэрытарыяльна-вытв прынцып П с Беларусі пасляваен перыяду займаліся наступнымі відамі дзейнасці вытворча-эканамічнай (арганізацыя сацыяліст спаборніцтва, удзел у распрацоўцы гасп планаў і нарміраванні працы, развіццё масавай тэхн творчасці працоўных), абарончай, культ -выхаваўчай (у распараджэнні П с было каля 900 клубаў, больш за 500 б-к, больш за 5000 піянерскіх лагераў, у маст самадзейнасці ўдзельнічала больш як 600 тыс рабочых і служачых, за кошт сваіх сродкаў П с пабудавалі ў рэспубліцы 9 санаторыяў, 16 дамоў адпачынку і турыстычных баз, 165 спарт аб'ектаў), нарматыўнай (Белсаўпроф удзельнічаў у распрацоўцы афіц каментарыя да кодэкса законаў аб працы ў БССР), міжнароднай (толькі ў 1986 П с рэспублікі прынялі 67 замежных дэлегацый і накіравалі сваіх прадстаўнікоў у 18 краін свету), арганізацыйнай (штогод на курсах Белсаўпрофа і аблсаўпрофаў праходзілі перападрыхтоўку каля 46 тыс прафс актывістаў, працаваў філіял Вышэйшай школы прафс работнікаў, бюджэт П с і бюджэт дзярж сац страхавання, якім кіравалі прафсаюзы, у 1985 перавышаў 1 млрд руб і складаў 14% ад усіх расходаў бюджэту БССР) XVI з'езд прафсаюзаў БССР (студз 1987) выказаўся за больш рашучы паварот П с да інтарэсаў чалавека працы XVII з'езд прафсаюзаў Беларусі (5—6 10 1990) прыйшоў да высновы, што П с павінны абараняць інтарэсы шырокіх мас насельніцтва незалежна ад іх паліт , нац і рэліг арыентацыі 3 езд вызначыў новыя прынцыпы аб'яднання П с Вынікам гэтага стала стварэнне *Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі* (ФПБ) На 1 1 1999 у Рэспубліцы Беларусь за-

Да арт **Прафесійныя саюзы** Вокладкі часопіса «Прафесіянальны рух Беларусі» 1928, 1929

лугамі і пашай, 33,3% сядзібныя і ворныя землі У сярэдзіне 19 ст ў павеце 29 правасл, 4 каталіцкія парафіі, у 1860 — 52 тыс правасл, 12 тыс католікаў, 6 тыс яўрэяў Пасля 1861 — 22 воласці Байкоўская, Белавежская, Бярозаўская, Вялікасельская, Гарадзечанская, Дабучынская, Котранская, Ліноўская, Малецкая, Масеўская, Мацвееўская, Мікіцікая, Міхайлаўская, Мураўеўская, Наскоўская, Равяцкая, Рудніка́ўская, Старуноўская, Сухапольская Сялецкая, Чарнякоўская, Шарашоўская У 1878 нас каля 104 тыс чал, з іх 75 тыс сялян, паводле веравызнання 66,4 тыс правасл, 12,9 тыс католікаў, 14,1 тыс іудзеяў, 397 евангелістаў У 1896 працавала 8 бальніц, 32 нар і 6 царк прыходскіх школ, 47 прамысл прадпрыемстваў, 217 млыноў Паводле перапісу 1897 у П п 139,9 тыс чал, 8 мястэчак (Белавежа, Бяроза, Малеч, Нараўка, Сялец, Целякі, Шавеля, Шарашова), 540 інш паселішчаў У 1915—18 акупіраваны ням, з лют 1919 — польск войскамі Уключаны ў Брэсцкую акругу «Крэсаў усходніх» У канцы 1920 зах ч павета перададзена Белавежскаму пав, з 4 2 1921 у Палескім ваяв У 1933 было 9 гмін Бяроза-Картузская, Гарадзечанская, Малецкая, Пружанская, Рудніка́ўская, Сухапольская, Сялецкая, Сяхневіцкая, Шарашоўская 3 вер 1939 у БССР, з 4 12 1939 у Брэсцкай вобл 15 1 1940 скасаваны, на яго тэр ўтвораны Пружанскі і інш раены

*Вячаслаў Насевіч*

**ПРУЖАНСКІ РАЁН.** Размешчаны на ПнЗ Брэсцкай вобл ў межах Прыбугскай раўніны Пл 2,8 тыс км², нас 66,4 тыс чал (1999) Цэнтр — г *Пружаны* Рэкі Левая Лясная, Нараў, Нараўка, Зальвянка, Ясельда, каналы Мухавец і Він́ец Пад лесам 43% тэр раена. Праходзяць чыгунка Брэст—Баранавічы, аўтадарогі на Высокае, Слонім, Кобрын, Івацэвічы і інш

Утвораны 15 1 1940, 12 10 1940 падзелены на 18 сельсаветаў Бакунскі, Гарадзечанскі, Дабучынскі, Красненскі, Ліноўскі, Лукамірскі, Малецкі, Падкрацкі, Параслянскі, Пружанскі, Рудніка́ўскі, Скорцаўскі, Смалянцкі, Смалянскі, Ткачоўскі, Хараўскі, Чахецкі, Шанеўскі У Вял Айч вайну з канца чэрв 1941 акупіраваны ням фашыстамі, якія спалілі з жыхарамі 19 нас пунктаў (6 з іх не аднавіліся), знішчылі каля 12,2 тыс сав грамадзян На тэр раена дзейнічалі раенная падп антыфаш арг цыя, падп райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, партыз брыгады імя Панамарэнкі, «Савецкая Беларусь», атрады імя Шчорса, імя Сталіна Вызвалены ў чэрв 1944 часцямі 1-га Бел фронту з удзелам партызан у ходзе наступлення на Брэсцкім напрамку 17 12 1956 да раена далучаны г п Шарашова, Бродскі, Крынцкі, Папялеўскі, Роўбіцкі, Старавольскі, Сухапольскі, Шчарчэўскі сельсаветы скасаванага Шарашоўскага р на 14 4 1960 Малецкі і Падкрацкі сельсаветы перададзены Бярозаўскаму р-ну 25 12 1962 да раена далучаны г п Ружаны, Варанілавіцкі, Зіновіцкі, Калазубскі, Кулянскі, Лыскаўскі, Магілявецкі, Ружанскі сельсаветы скасаванага Ружанскага р-на На 1 1 1998 у раене 246 нас пунктаў, у т л г п *Ружаны* і *Шарашова*, 19 сельсаветаў Бакунскі, Варанілавіцкі, Вялікасельскі, Гарадзечанскі, Зеляневіцкі, Крынцкі, Ліноўскі, Лыскаўскі, Мокраўскі, Паўлаўскі, Пружанскі, Роўбіцкі, Ружанскі, Смалянскі, Старавольскі, Сухапольскі, Хараўскі, Шанеўскі, Шчарчоўскі, 25 калгасаў, 8 саўгасаў Працуюць райаграпрамтэхніка (пас Сонечны), крухмальны з-д (пас Інтэрнацыянальны), майстэрні (в Маглеўцы), 23 сярэднія, 8 базавых, 4 пач, 2 муз школы, 2 школы мастацтваў, 34 дашкольныя ўстановы, 55 дамоў культуры і клубных устаноў, 54 бібліятэкі, 6 бальніц, 3 амбулаторыі, 37 фельч-акушэрскіх пунктаў, 42 аддз сувязі Выдаецца раенная газ «Раенныя будні» Археал помнікі курганныя могільнікі (в Буцькі, Бярэзніца, Капелкі, Маглеўцы), каменны ідал каля в Буцькі, рэшткі каралеўскага замка 15—18 ст (в Лыскава) Брацкія магілы чырвонаармейцаў (в Крынцы), сав воінаў і партызан (Бакуны, Барысікі, Варанілавічы, Вялікае Сяло, Гарадзечна, Куляны, Кутнявічы, Лыскава, Малочкі, Мокрае, Паўлава, Папялева, Парасляны, Рудніікі, Слабодка, Смалянца, Шэйпічы і інш), магілы ахвяр фашызму (Аранчыцы, Байкі, Барысікі, Блізная, Гарадзечна, Казлы, Клятное, Краснае, Крынца, Куляны, Ліпова, Манчыкі, Мурава, Нямковічы, Сілічы, Слабодка, Смаляны, Шчарчова), месца спаленых весак (Байкі, Канстанцінава, Качаны, Лозкі) і хутароў (Выдзерка, Хомна), месца бою 1812 (Паддубна) Помнікі землякам, што загінулі ў Вял Айч вайну (Бакуны, Брады, Зеляневічы, Калазубы, Мурава, Роўбіцк, Сланімцы, Старавола, Харава, Шані), камсамольцам падпольшчыкам (Заполле), сав танкістам (Плябанцы) Помнікі архітэктуры цэрквы 19 — пач 20 ст (Смалянца, Ялова), Аляксандра Неўскага (Блізная), Крыжаўзвіжанская (Ананчыцы, Зельзін, Сухаполь), Мікалаеўская (Вежнае, Засімовічы), Пакроўская (Гарадзечна), Петрапаўлаўская (Мокрае), Прачысценская (Круглае), Раства Багародзіцы (Лыскава), касцел пач 20 ст (Ліпава 1 е), манастыр місіянераў 18 ст (Лыскава) Радзіма муз дзеяча Р Р *Шырмы*

*Літ* Свод памятников истории и культуры Белоруссии Брестская обл Мн, 1990, Памяць Гіст дак. хроніка Пружанскага р на Мн 1992

**ПРУЖА́НЫ**, горад, цэнтр Пружанскага р-на, на вытоку р Мухавец Вузел аўтадарог на Брэст, Высокае, Кобрын, Сло-

казанай у працэсе публічнага разгляду Прывілей пацвердзіў абавязковы характар мясц прававых звычаяў Дзярж пасады і зямельныя ўладанні мелі права атрымліваць толькі ўраджэнцы ВКЛ (польскай шляхце гэта забаранялася) У Прывілеі абвяшчалася неабходнасць вынясення справядлівых судовых рашэнняў забараняліся хабары і судзейская неаб'ектыўнасць, устанаўліваліся ляэўныя тэрміны разгляду спраў Напісаны на лац мове

*Публ* Любавский М К Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно 2 изд [М], 1915 С 328—334, Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах Мн, 1936 Т 1 С 220—225

*Літ* Юхо Я А Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі Мн, 1992

*Анатоль Грыцкевіч*

**ПРЫВІЛЕ́Й 1506,** агульнадзяржаўны заканадаўчы акт ВКЛ, выдадзены вял кн *Жыгімонтам I* Старым у Гродне 7 12 1506 пасля абрання яго на велікакняжацкі пасад Складаецца з 7 артыкулаў Прывілей пацвердзіў «усе правы, вольнасці і граматы», выдадзены царквам, духоўным і свецкім феадалам, «гарадам, мяшчанам, жыхарам і наогул асобам усіх саслоўяў і стану» Такім чынам, былі замацаваны юрыд нормы, запісаныя ў прывілеях асобным землям (княствам), валасцям і гарадам ВКЛ П 1506 пацвярджаў асн палажэнні *Прывілея 1492* Новым быў запіс аб праве падданых падаваць чалабітныя і скаргі на дзеянні адміністрацыі Падкрэслівалася, што абранне вял князя адбылося са згоды ўсіх падданых і жыхароў дзяржавы, хоць яно праводзілася на з'ездзе (сойме) баяр Такім чынам, выбаршчыкі фармальна прадстаўлялі ўсе грамадства дзяржавы і лічылі сябе выразнікамі волі ўсяго народа, таму Прывілей адрасаваны ўсяму насельніцтву ВКЛ Напісаны на лац мове Выданнем П 1506 завяршыўся этап развіцця бел дзярж права ў выглядзе прывілеяў Наступныя агульнадзярж прывілеі 1529, 1547 і 1551 толькі паўтаралі і пацвярджалі палажэнні папярэдніх прывілеяў На новым этапе развіцця бел права адбывалася кадыфікацыя юрыд норм у выглядзе Статутаў ВКЛ 1529, 1566 і 1588

*Публ* Любавский М К Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно 2 изд [М], 1915 С 334—336, Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах Мн 1936 Т 1 С 227—229

*Літ* Юхо Я А Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі Мн 1992

*Анатоль Грыцкевіч*

**ПРЫВІЛЕЙ 1563,** гл *Віленскі прывілей 1563*

**ПРЫГАВО́РНЫ РУХ 1905—1907,** сялянскі рух у выглядзе складання зваротаў (прыгавораў) да цара за паляпшэнне свайго становішча і перадачу зямлі ў маемасць у пач 20 ст Стаў пашыраным пасля царскага Маніфеста ад 5(18) 4 1905 У іх выкладаліся наспелыя патрабаванні жыхароў вёскі Так, сход сялян в Перарат Гомельскага пав патрабаваў перадачы ўсіх зямель у рукі прац люду Сяляне в Палянаўка Магілёўскай губ патрабавалі неадкладнай перадачы беззямельным і малазямельным сялянам казенных, удзельных і манастырскіх зямель Бел сяляне выступалі і з патрабаваннямі ліквідацыі розных прыгонніцкіх перажыткаў, скасавання саслоўных інстытутаў па кіраванню сялянамі — земскіх начальнікаў, саслоўнай воласці з яе асобым судом і г д Сяляне выказваліся за роўнасць усіх грамадзян перад законам, за ўвядзенне ўсеагульнага абавязковага бясплатнага навучання для дзяцей школьнага ўзросту У пэўнай ступені П р сведчыў пра царысцкія ілюзіі сялян, хоць у працэсе складання, абмеркавання і прыняцця прыгавораў сяляне арганізоўваліся і непазбежна ўступалі ў канфрантацыю з уладамі У ідэалагічных адносінах П р сведчыў пра рэвалюцыянізацыю вёскі

*Літ* Буховец О Г Социальные конфликты и крестьянская ментальность в Российской империи начала XX в новые материалы, методы, результаты М, 1996

*Уладзімір Фіլякоў*

**ПРЫГО́ННАЕ ПРА́ВА,** сістэма юрыд норм, якія замацоўвалі пазямельную, судовую, асабістую (пазаэканамічны прымус) залежнасць сялян ад феад дзяржавы, найб цяжкая форма залежнасці пры *феадалізме* Прыгонныя сяляне надзяляліся сродкамі вытворчасці, за што выконвалі на карысць феадала *паншчыну*, плацілі падатак натурай ці грашамі Яны абсалютна пазбаўляліся палiт правоў і лічыліся прымацаванымі да зямлі Рэалізацыя асн норм П п патрабавала моцных органаў прымусу, што было магчыма пры наяўнасці цэнтралізаванай дзярж улады У Зах Еўропе П п ўзнікла ў перыяд складвання феад адносін У 8—9 ст запрыгоньванне сялян мела масавы характар У 10—11 ст прыгонныя складалі большасць сялянства У 12—13 ст з развіццём таварнаграшовых адносін пачаўся працэс вызвалення сялян ад прыгоннай залежнасці У шэрагу краін Цэнтр і Усх Еўропы (Германія, Венгрыя, Чэхія, Польшча, ВКЛ і інш ) у 16—18 ст прыгонная залежнасць сялянства ўзмацняецца У Расіі П п юрыдычна афармілася ў 15—17 ст і было замацавана ў агульнадзярж законах Судзебніках 1497 і 1550 (гл *Судзебнікі 15—16 ст*), указах пра адмену *Юр'ева дня*, «запаветных гадах», пра тэрміны вышуку беглых сялян (гл *Урочныя гады*), *Саборным уламсэнні 1649*, якое закончыла юрыд афармленне П п, замацавала бестэрміновасць вышуку беглых сялян (гл *Выхад сялянскі*) На Беларусі П п пачало набываць акрэсленыя формы ў 15—16 ст, калі яно заканадаўча замацоўвалася Казіміравым *прывілеем 1447*, «*Уставай на валокі*» *1557*, *Статутам Вялікага княства Літоўскага 1529*, *Статутам Вялікага княства Літоўскага 1566* і *Статутам Вялікага княства Літоўскага 1588* Пасля ўваходжання Беларусі ў Рас імперыю рас заканадаўства аб П п пашырана і на тэр Беларусі У 19 ст ў Расіі пачалі распрацоўвацца праекты абмежавання і адмены П п Частковае распрыгоньванне нязначнай часткі сялян зроблена на падставе ўказа 1803 аб *вольных хлебаробах* Паводле рэформы 1838—42 у Беларусі, Літве і Правабярэжнай Украіне адменена арэндна-паншчынная сістэма эксплуатацыі дзярж. сялян Ва ўмовах агульнага крызісу феад-прыгонніцкай сістэмы П п ў Рас імперыі адменена ў 1861 (гл *Сялянская рэформа 1861*), аднак яго перажыткі захоўваліся да Кастр рэвалюцыі 1917 (гл *Сялянства*)

*Літ* Греков Б Д Крестьяне на Руси с древнейших времен до XVII в Кн 1—2 2 изд М, 1952—54, Зайончковский П А Отмена крепостного права в России. 3 изд М, 1968, Корецкий В И Закрепощение крестьян и классовая борьба в России во второй половине XVI в М, 1970, Его ж. Формирование крепостного права и первая крестьянская война в России М, 1975, Похилевич Д Л Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI—XVIII вв Львов, 1957, Улащик Н Н Предпосылки крестьянской реформы 1861 г в Литве и Западной Белоруссии М, 1965, Фридман М Б Отмена крепостного права в Белоруссии Мн, 1958, Спиридонов М Ф Закрепощение крестьянства Беларуси (XV—XVI вв ) Мн, 1993

**ПРЫГО́ННЫ ТЭА́ТР,** від прыватнага дваранскага тэатра На Беларусі П т існавалі ў 18—1-й пал 19 ст Дзейнічалі ў прыватнаўласніцкіх гарадах, замках і сядзібах у спец тэатр памяшканнях ці ў залах палацаў, ратуш і інш Тэатр трупы стваpaліся пераважна з прыгонных сялян, часам у спектаклях выступалі велікасвецкія аматары і прафес акцёры, іншы раз прыгонныя артысты ўдзельнічалі ў паказах прафес тэатраў Найб вядомыя П т Гродзенскі Тызенгаўза, Бжазоўскага ў маентку Матэвушы, Ружанскі Сапегаў, Слонімскі Агінскага, а таксама Чарнышова, Тышкевічаў Значную ролю ў гісторыі бел, польск і рус мастацтва адыгралі *Нясвіжскі тэатр Радзівілаў*, Слуцкі тэатр Радзівіла і Шклоўскі тэатр Зорыча, якія мелі балетна оперна драматычныя трупы, вял аркестры і капэлы, тэатр будынкі з добра абсталяванай сцэнай і развітой машынерыяй У тэатрах працавалі вядомыя тагачасныя кампазітары і балетмайстары, іcнавалі школы, у якіх рыхтавалі для тэатраў артыстаў (Гродзенская тэатральная школа Тызенгаўза, Нясвіжская балетная школа, Слонімская і Слуцкая балетныя школы) У рэпертуары П т былі оперы і балеты замежных, польск і рус кампазітараў, перакладная і арыгінальная драматургія (камедыі Ф У *Радзівіл* і перакладзеныя ею на польск мову п'есы Мальера) Своеасаблівай тэатр з'явай быў у пач 19 ст прыгонны цырк Оштарпа ў маентку Дукоры Прыгонныя балетныя трупы Слоніма і Гродна былі падораны іх гаспадарамі каралю Станіславу Аўгусту Панятоўскаму і сталі асновай польскага

ларусі прысягу давалі ў грамадз вайну 1918—20 («Дзесяць запаведзей чырвоных партызанаў Беларусі») У Вял Айч вайну ў асобных атрадах яе прымалі з першых дзен партыз руху тэксты выпрацоувалі непасрэдна ў атрадах Адзіны тэкст распрацаваны ў пач жн 1941 ЦК КП(б)Б і партыз школай (каля Гомеля), надрукаваны у газ «Звязда» і лістоуках якія з самалетаў былі скінуты над Беларуссю 12 5 1942 на сумесным пасяджэнні Прэзідыума ВС БССР і Бюро ЦК КП(б)Б зацверджаны тэкст прысягі (гл іл ) і парадак яе прыняцця Лістоўкі з яе тэкстам (100 тыс экз ) з дапамогай авіяцыі Калінінскага і Зах франтоў самалетаў што былі ў распараджэнні ЦК КП(б)Б, былі распаўсюджаны ў раенах дыслакацыі партызан П б п прымалі перад строем атрада пад сцягам

**ПРЫТЫЦКАЯ** Таццяна Іванаўна (н 25 10 1921 г Дзямідаў Смаленскай вобл ) бел гісторык Д-р гіст н (1975), праф (1976) Скончыла Кіеўскі дзярж ун-т (1942), ВПШ пры ЦК КПСС (1948) Удзельнік Вял Айч вайны У 1944—60 на камсам , пед і парт рабоце ў Маскве, Гродне, Мінску, Маладзечне У 1960—92 у БДУ, у 1967—90 заг кафедры гісторыі КПСС прыродазнаўчых факультэтаў Даследуе пытанні навук камунізму, гісторыі Беларусі Адзін з аўтараў прац «Нацыянальна-вызваленчы рух і крушэнне каланіяльнай сістэмы імперыялізму» (1961), «Рэвалюцый ны шлях Кампартыі Заходняй Беларусі (1921—1939 гг )» (1966), падручніка «Курс лекцый па гісторыі КПСС» (т 1 2-е выд 1975) і інш

*Тв* К Маркс и Ф Энгельс о всемирно-исторической роли пролетариата и его партии Мн 1970



ПРЫСЯГА
БЕЛАРУСКАГА ПАРТЫЗАНА

Я грамадзянін Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік верны сын гераічнага беларускага народа прысягаю што не пашкадую ні сіл ні самога жыцця для справы вызвалення майго народа ад нямецка фашысцкіх захопнікаў і катаў і не складу зброі да таго часу пакуль родная беларуская зямля не будзе ачышчана ад нямецка фашысцкай погані

Я клянуся строга і няухільна выконваць загады сваіх камандзіраў і начальнікаў строга захоуваць воінскую дысцыпліну і берагчы ваенную тайну

Я клянуся за спаленыя гарады і вескі за кроў і смерць нашых жонак і дзяцей бацькоў і мацярэй за гвалты і здзекі над маім народам жорстка помсціць ворагу і безупынна не спыняючыся ні перад чым заўседы і усюды смела рашуча дзерзка і бязлітасна знішчаць нямецкіх акупантаў

Я клянуся ўсімі шляхамі і сродкамі актыўна дапамагаць Чырвонай Арміі паусямесна знішчаць фашысцкіх катаў і тым самым садзейнічаць хутчэйшаму і канчатковаму разгрому крывавага фашызма

Я клянуся што хутчэй загіну ў жорсткім баю з ворагам чым аддам сябе сваю сям'ю і беларускі народ у рабства крываваму фашызму

Словы маей свяшчэннай клятвы сказанай перад маімі таварышамі партызанамі я замацоуваю уласнаручным подпісам — і ад гэтай клятвы не адступлю ніколі

Калі ж па сваей слабасці трусасці або па злой волі я парушу сваю прысягу і здраджу інтарэсам народа няхай памру я ганебнай смерцю ад рук сваіх таварышоў

Уласнаручны подпіс

9009

С В Прытыцкі

**ПРЫТЫЦКІ** Сяргей Восіпавіч [19 1(1 2) 1913, в Гаркавічы Саколкаўскага пав Гродзенскай губ цяпер Беластоцкае ваяв , Польшча — 13 6 1971], дзяржаўны і паліт дзеяч Беларусі, дзеяч рэв руху ў Зах Беларусі, адзін з арганізатараў патрыятычнага падполля і партыз руху на Беларусі ў Вял Айч вайну Скончыў ВПШ пры ЦК ВКП(б) (1948) З 1931 сакратар Крынкаўскага раённага Гродзенскага акр к-таў КСМЗБ У 1933 за рэв дзейнасць зняволены ў турму У 1933—34 чл Слонімскага акр к та кам самола, кіраваў стачкамі лясных рабочых у Саколкаўскім, Гродзенскім і Слонімскім пав У 1934—35 вучыўся ў парт школе КПЗБ у Мінску З 1935 сакратар Слонімскага акр к-та КСМЗБ 7 1 1936 у Віленскім акр судзе ў час судовага працэсу над 17 рэвалюцыянерамі П па заданні ЦК КПЗБ страляў у правакатара У час арышту сам быў цяжка паранены У чэрв 1936 прыгавораны да пакарання смерцю Дзякуючы актыўнай барацьбе працоўных Зах Беларусі, Польшчы, СССР, Францыі, Чэхаславакіі, ЗША, Англіі і інш краін смяротны прыгавор заменены пажыццевым турэмным зняволеннем У вер 1939 у час германа-польскай вайны вызвалены з турмы Пасля вызвалення Зах Беларусі выбраны дэпутатам Нар сходу Зах Беларусі, дзе выступіў з дакладам На 5 й сесіі Вярх Савета СССР П як член Паўнамоцнай камісіі Нар сходу выступіў з заявай пра ўключэнне Зах Беларусі ў склад СССР і ўз'яднанне яе з БССР У 1939—41 нам старшыні Беластоцкага аблвыканкома У чэрв —жн 1941 удзельнічаў у стварэнні абарончых збудаванняў вакол Магілева і фарміраванні нар апалчэння ў Гомелі Са жн 1941 на фронце У 1942—44 другі сакратар ЦК ЛКСМБ, нам нач Польскага штаба партыз руху У 1949—52 і ў 1953—62 першы сакратар Гродзенскага, Баранавіцкага, Маладзечанскага, Мінскага абкомаў КПБ У 1962—68 сакратар ЦК КПБ, старшыня парт дзярж кантролю ЦК КПБ і СМ БССР нам старшыні Савета Міністраў БССР З 1968 Старшыня Прэзідыума Вярх Савета БССР і нам старшыні Прэзідыума Вярх Савета СССР Чл ЦК КПБ з 1949, чл ЦК КПСС з 1961 Дэп Вярх Савета СССР і БССР з 1940 Імем П названы вуліцы ў Мінску, Гродне Баранавічах, Маладзечне, хімкамбінат у Гродне, у Мінску на доме, дзе жыў П мемарыяльная дошка Пра яго рэв дзейнасць знята кінастужка «Чырвонае лісце»

*Тв* У імя шчасця працоўнага народа // У суровыя гады падполля Мн 1958 Партызанскі рух на Гродзеншчыне // Партызанская барацьба беларускага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны Мн 1959 Верные помощники партии М 1962 Дружба скрепленная кровью // Коммунист Белоруссии 1964 № 7 Этого требует жизнь Мн , 1966, По заданию

**ПТАШЫЦКІ** (Ptaszycki) Станіслаў Людвік (Станіслаў Львовіч, 12 4 1853, в Кузава Маскоўскай губ — 20 12 1933), польскі гісторык, архівіст, філолаг Чл Польскай АН у Кракаве (1931), канд гіст -філал н (1877), ганаровы праф (1929) Скончыў сярэднюю школу ў Вільні (1872), Пецярбургскі ун-т (1877) Працаваў ва ун-це асістэнтам на кафедры славянскай філалогіі і адначасова перакладчыкам з польскай мовы ў 3-м дэпартаменце Сената З 1879 выкладаў рус і лац мовы, а таксама л-ру ў Пецярбургскай архідыяцэзнай семінарыі і гімназіях Праводзіў даследаванні ў б-ках і архівах Пецярбурга, Галіччыны, Польшчы Аўстрыі, Італіі, Германіі У 1884—87 метрыкант «Літоўскай метрыкі» ў архіве Сената У 1887 П апублікаваў «Вопіс кніг і актаў Літоўскай метрыкі» Прымаў удзел у дзейнасці арганізацыйных камітэтаў археалагічных з'ездаў у Вільні (1893) і Рызе (1896), з'езда славянскіх гісторыкаў і філолагаў (1904) З 1896 дацэнт Пецярбургскага ун-та, выкладаў польскую л-ру і мову У 1899—1918 выкладчык, пасля прафесар рус мовы і л-ры ў Пецярбургскай рымска-каталіцкай духоўнай акадэміі У 1918—19, 1921—26 дырэктар Дзярж архіва ў Любліне, адначасова ў 1918—19 і 1921—29 праф Люблінскага каталіцкага ун-та, у 1919—20 дэкан філасофскага ф-та Віленскага ун-та Прымаў удзел у падрыхтоўцы Рыжскага мірнага дагавора 1921 як эксперт па справах архіваў і бібліятэк У 1926—31 дырэктар Дзярж архіваў Польшчы Ініцыятар выдання і рэдактар (1927—32) часопіса па архівазнаўстве «Archeion» («Архэон») Вывучаў л-ру 16 ст (польскія хронікі, творчасць М Рэя, А Кшыцкага, А Нідэцкага) шмат прац прысвяціў гісторыі ВКЛ Удзельнічаў у падрыхтоўцы 17-га т *«Поўнага збору рускіх летапісаў»* (1907), дзе былі апублікаваны бел -літ летапісы Знайшоў і апублікаваў *Альшэўскі летапіс* (Вільня, 1907) Выдаў *попісы войска Вялікага княства Літоўскага* 1528, 1565 і 1567 (1915) У нясвіжскай б-цы Радзівілаў выявіў рукапіс твора М Стрыйкоўскага «Аб пачатках літоўскага народу» Даследаваў права ВКЛ

*Тв* Деспоты Зеновичи в конце XVI и начале XVII вв // Русская старина 1878 Т 21—22, К истории литовского права после третьего Статута СПб, 1893, К вопросу об изданиях и комментариях Литовского Статута. Ист -библиогр справка СПб, 1893, Щорсовская библиотека графа Литавора Хрептовича Краткие сведения о собрании рукописей М, 1899, Князья Пузыны Ист -генеал материалы СПб, 1899, Encyklopedia nauk pomocniczych historii i literatury polskiej 2 wyd Lublin, 1922

*Літ* Bachulska H Bibliografia prac Stanisława Ptaszyckiego, 1877—1934 // Archeion 1934 T 12 *Альбіна Семянчук*

Р дэ ла **Пуап**

**ПУА́П** (Pouype) Ралан дэ ла (н 28 7 1920, г Ла-Гранж-Фор, Францыя), удзельнік баёў у Беларусі ў Вял Айч вайну, Герой Сав Саюза (1944), засл летчык Францыі У 2-ю сусв вайну з 1940 у руху «Змагарная Францыя», потым у складзе англ войск З ліст 1942 у СССР, ст лейтэнант, камандзір эскадрыллі авіяпалка *«Нармандыя—Нёман»* Удзельнік Беларускай і Усх-Прускай аперацый Зрабіў 70 баявых вылетаў, збіў 15 варожых самалетаў Пасля вайны пачынальнік і куратар пластыкавай вытв-сці, заснавальнік унікальнага ў Еўропе воднага парку Марэнланд (Marinland, 1970), асацыяцыі «Рымо» («Rimmo», 1992) па ахове марскіх жывел Міжземнага мора

**ПУГА́НАЎ** Віктар Паўлавіч [27 1(9 2) 1901, г Астрахань, Расія — 24 6 1941], удзельнік баёў у Беларусі ў Вял Айч вайну, ген -маер (1940) Скончыў Ваен акадэмію імя Фрунзе (1928) У Чырв Арміі з 1919, удзельнік грамадз вайны У пач Вял Айч вайны камандзір 22-й танк. дывізіі, якая з 22 6 1941 удзельнічала ў абарончых баях на рубяжы Зах Буга на Пд ад Брэста, 23 чэрв ў час контрудару сав войск з раёна Жабінкі разграміла мотакалону ням войск, разам з часцямі 28-га стралк корпуса на ПнЗ ад Кобрына змагалася супраць 2 танк., 1 матарызаванай і некалькіх пях дывізій ворага Загінуў у баі

**ПУД**, адзінка вымярэння масы Вядомы з 12 ст, выкарыстоўваўся да 1924 пры ўзважванні меду, воску, зерня, рэчаў Адпавядаў 16 *бязменам* = 40 *фунтам* = 16,3799 кг Пры разліках за правіянт і фураж у 1792—93 на Беларусі рас ўлады прыраўноўвалі П да *каменя* сена (40 фунтаў = 16,3805 кг) Меў таксама значэнне зямельнага ўчастка, абкладзенага натуральным падаткам (6 бязменаў меду ў Прапойскім старостве, 1681), або валокі (маентак Горваль, 1676, 1791 і інш) У рас губернях у 19 ст П як мера плошчы адпавядаў $^1/_6$—$^1/_7$ дзесяціны

*Літ.* Баталин Ф А. Календарь и справочная книжка русского сельского хозяина на 1883 г СПб, 1883, Памятная книжка Минской губернии на 1900 г Мн, 1899 Каменцева Е И, Устюгов Н В Русская метрология 2 изд М, 1975

*Яўген Анішчанка*

## СПІС КАРТ



## СУПРАЦОЎНІКІ ВЫДАВЕЦТВА, ЯКІЯ ЎДЗЕЛЬНІЧАЛІ Ў ПАДРЫХТОЎЦЫ І ВЫДАННІ 5-га ТОМА «ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ»

### Навукова-галіновая рэдакцыя гісторыі Беларусі

Заг рэдакцыі кандыдат гістарычных навук Л У Языковіч, вядучыя навуковыя рэдактары кандыдат гістарычных навук В С Пазднякоў, А В Скараход, навуковыя рэдактары Ю В Бажэнау, Ю Я Гаева, В В Гусева, М І Рэменіца, Д М Чаркасаў, рэдактары Т Г Кляўко, І В Лабанок

### Рэдакцыя навуковага і літаратурнага кантролю

Заг рэдакцыі І П Хаўратовіч, вядучыя навуковыя рэдактары В В Гетаў, Е П Фешчанка, навуковыя рэдактары Г Т Глушчанка, Н К Мазоўка, М А Маўзон, М В Пятроўская

### Рэдакцыя мастацка-тэхнічнага афармлення выданняў

Заг рэдакцыі А М Хількевіч, мастацкі рэдактар І В Каранкевіч, рэдактар В М Вераценнікава Картографы вядучы навуковы рэдактар Г Р Шыкунова, навуковыя рэдактары Л У Белякова, В Ф Надзененка

У томе змешчаны фотаздымкі Г М Бажанкова, В У Харчанкі, архіва БелЭн, Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі, Беларускага дзяржаўнага архіва кінафотафонадакументаў, Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, Беларускага дзяржаўнага архіва музея літаратуры і мастацтва, БелТА, геральдычныя матэрыялы А К Цітова

Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. Т. 5. М — Пуд / Беларус. Энцыкл.; Рэдкал.: Г.П.Пашкоў (галоўны рэд.) і інш.; Маст. Э.Э.Жакевіч. — Мн.: БелЭн, 1999. — 592 с.: іл.
Э68
ISBN 985-11-0141-9.

Шматтомная энцыклапедыя на ўзроўні дасягненняў сучаснай навукі адлюстроўвае шматвяковы шлях беларускага народа ад сівой даўніны да нашых дзён. Акрамя артыкулаў аб палітычных, грамадскіх і ваенных падзеях змешчаны матэрыялы аб адміністрацыйна-тэрытарыяльным падзеле, стане эканомікі, культуры, навукі і тэхнікі на розных этапах гісторыі. Біяграфічныя артыкулы расказваюць пра гістарычных асоб і іх радаводы. Важнае месца ў выданні займаюць геральдыка, нумізматыка, генеалогія і гістарычная картаграфія. Шырока асвятляецца жыццё беларускай эміграцыі розных часоў і шэраг іншых тэм. Энцыклапедыя ілюстравана каляровымі і чорна-белымі здымкамі, малюнкамі, картамі.

УДК 947.6
ББК 63.3(4Беи)я2

Даведачнае выданне

ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ

Том 5

Мастак *Э.Э.Жакевіч*

Мастацкі рэдактар *І.В.Каранкевіч*

Тэхнічныя рэдактары *М І Грыневіч, Н.М.Шэвель*

Карэктары: *А.М.Барысава, Н.У Бохан, С.В.Рабец, А.В.Семенчукова, В.П Спірыдонава, В М Чудакова*

Падрыхтоўка арыгінала-макета· *С.А.Макаенак* (заг рэдакцыі), *І.У Грыцэль, А.У.Гурыновіч, І В Касцюкевіч, І.М Кузьмянкова, С.М.Хаустовіч*

Падпісана да друку 29 06.99. Фармат 84 × $108^{1}/_{16}$. Папера афсетная. Друк афсетны.
Гарнітура тып Таймс Ум друк аркушаў 62,16 Ум фарб -адб. 249,9.
Ул -выд. арк. 113,38. Заказ 168. Тыраж 10000 экз.

Дзяржаўнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі»
Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ № 10 ад 31.12.97
Рэспубліка Беларусь 220072, г. Мінск, вул. Акадэмічная, 15а

Надрукавана з арыгінала-макета на Мінскай фабрыцы каляровага друку.
Рэспубліка Беларусь, 220024, г Мінск, вул. Каржанеўскага, 20.

ISBN 985-11-0141-9

